# Аповесці

……………………………………………………………….

## Вужык

1

– Тады скажыце, калі ласка, а вы самі ў той час дзе знаходзіліся, калі не сакрэт?

Позірк у следчага спакойны, у шэрых вачах – абыякавасць, падобная на стому. Было ўражанне, што ён і папытаўся нехаця, яму і не трэба быў адказ. Бо ён яго ведаў загадзя. Кожны раз, калі прамаўляў свае пытанні, правае брыво падскоквала ўверх, выгіналася дугой – і тут жа апускалася, прыкрывала вока зноў, – як усё роўна хавала затоены позірк.

– Ды які тут можа быць сакрэт – на другім аб'екце быў. Для бальніцы кацельню будуем…

– Мг… Панятна.

Следчаму гадоў за трыццаць. Голас ціхі, прыглушаны, спакойны. Ніжняя губа таўсматая, раз-пораз прыціскае верхнюю, што прыдае выгляд задумлівасці і аналізу пачутага; твар хударлявы, абветраны і таму здаваўся строгім і непрыступным…

– Такое яшчэ пытанне. А перад тым, як адлучыцца, вы вызначылі аб'ём работы кожнаму рабочаму брыгады?

– А як жа. Тое можа і брыгадзір пацвердзіць, – уздыхнуў Зубрыцкі, унутрана адчуўшы, што кола расследавання круціцца не ў тым кірунку, у якім бы яму жадалася – следчы спакваля падводзіць усю справу так, каб навесіць усю віну ў трагедыі толькі на яго аднаго.

– Ну, з ім яшчэ ўўнас будзе гаворка, мо і не адна, а цяпер мы пакуль толькі з вамі вядзем яе…

Зінчук – такое прозвішча следчага раённай пракуратуры – глядзеў у акно, аздобленае арнаментам з рабрыстай арматуры, пафарбаванай у блакітны колер, абдумваў, як коратка і змястоўна напісаць чарговы адказ. Потым, сабраўшыся з думкамі, хутка стукаў па клавішах югаслаўскай чырвонай машынкі, паўтараючы ўголас сказаныя перад гэтым Зубрыцкім словы, шыхтаваў аповед-прызнанне ў стройную і лагічную, без эмоцый і пачуццяў, лінію. Зноў пытанне – зноў адказ.

Пытанне. Адказ…

Зубрыцкі разумее, што на кароткія пытанні і адказваць трэба коратка, каб следчы не заблытаўся ў фактах, бо ў яго вунь колькі папак на стале – у кожнай таксама напісана і засведчана не адна трагедыя і гора, лёс і жыццёвая выбоіна невядомых яму людзей…

Потым Зінчук зноў доўгі час маўчыць, збіраецца з думкамі, выдыхае паветра, як здымае цяжар з душы, які распіраў яго, прыгнечваў, – і ў яго пасвятлеў, здаецца, твар. Зубрыцкі не ведае, што следчаму пракурор адпусціў мала дзён на заканчэнне гэтай крымінальнай справы, бо пракурор хоча перадаць справу ў суд перад сваім адпачынкам, – на руках пуцёўка…

2

– Прачытайце і падпішыце, – падаў следчы пратакол допыту. – Пасля слоў “мною прачытана, з маіх слоў усё запісана правільна…”

Васіль прабег позіркам па радках, адразу ўбачыў, што скажэнняў і адсябеціны не было. Следчы, мусіць, і не дамагаўся вырваць у яго паказанні, выгадныя для сябе, пераносіў словы прараба на паперу амаль слова ў слова. Узяў шарыкавую тонкую ручку і размашыста распісаўся пад надрукаваным тэкстам.

– Усё?

– На сёння – усё, Васіль Андрэевіч. А калі трэба будзе, то паклічам. Усяго вам добрага.

Зубрыцкі развітаўся, выйшаў у калідор, прычыніўшы за сабою дзверы – стрымліваў іх, каб скразняк, што пнуўся з акна, не бразнуў дзвярыма… Адышоў колькі крокаў ад дзвярэй Зінчука, потым ступіў у прыцемак, дзе слаба цадзілася ад вузкага, з вуліцы, акна святло, паглядзеў на людзей, што сядзелі на крэслах у чаканні выкліку, уздыхнуў, адчуў, што не хапала свежага паветра – і рашуча пакіраваў да выхаду, адзначаючы пра сябе, што на душы было гідка і трывожна: як быццам да плячэй яго прымацавалі бетонную пліту і сказалі-загадалі, каб ён цягаў яе на сабе штодня…

А пліта як прыстала да плячэй – і садраць ці адарваць яе было ўжо немагчыма.

Надоечы прысніўся яму дзіўны сон…

Сніўся Васілю вужык. Быццам трымаў яго ў руках – халоднага і бяскроўнага, але такога блізкага і роднага, – і шэрая безабаронная паўзучая істота саграваля яго дзіцячую душу, як і тады, у тыя далёкія дні пяцьдзясят другога года. Васілёк у сне пытаўся пра нешта ў вужыка, хацеў дазнацца пра нейкую праўду, каб пазбавіцца ад душэўнага болю, які не сунімаўся, разрастаў-

ся і даходзіў, здавалася, да самага сэрца. І яму штосьці тлумачыў вужык – разяўляў рот і дрыготкім язычком-нітачкай дакранаўся да шчакі. Нешта ж гаварыў, а што – не чуваць, таму вужык сіліўся, натужваўся, аж выгінаўся, каб пачуў Васілёк яго словы і зразумеў… Нерваваўся нават, паводзіў сябе неспакойна, трывожна, гатовы быў крычаць, папярэджваючы яго пра нешта, а пра што канкрэтна, хлапчук не разумеў, не ведаў, нават і не здагадваўся, – таму і не прадчуваў нічога…

Раніцай, ідучы на працу, адчуваў, што ў душы пасяліліся два пачуцці. Як два чалавечкі ўсё роўна жылі ў ім. Адзін з іх – пяшчотны і добразычлівы – саграваў душу ўспамінам-бліскаўкай пра дзяцінства, а другі – маўклівы і насуплены – маўчаў, але ад яго сыходзіла нейкая незразумелая трывога. Яна шылася пад сэрца, тачыла, як шашаль дрэва…

Не пакідала яго трывога і тады, калі праводзіў у вагончыку пяцімінутку, і апасля, калі гаварыў з брыгадзірам Зыкавым пра дзённы план работы. Узмацнілася, сам не ведаў ад чаго, і тады, калі пачаў збірацца, каб адлучыцца на рыштаванні будаўніцтва кацельні для бальніцы – на другім канцы горада, у Беліцы… Нешта не пускала яго туды, як усё роўна калючы дрот чапляўся то за штаны, то за куртку, і нехта ўвесь час крычаў на вуха, каб не ехаў, каб застаўся…

3

– Ну, дык як, Андрэевіч, – не адступаў ад яго брыгадзір Ступакоў з таго ж аб'екта – не ладзілася ў яго работа на кацельні, і ён прыехаў да прараба за падтрымкай і дапамогай, – едзем ці не?

– Едзем, Алесь, едзем, – махнуў рукою на свае трывогі і першы падаўся да легкавіка, на якім прымчаў брыгадзір.

Праз колькі хвілін заехалі на будаўнічую пляцоўку бальніцы. Васіль Зубрыцкі з першага позірку вызначыў, чаму не ідуць справы ў брыгадзіра, пачаў тлумачыць, паказваць, аднячасова і папракаючы яго ў няўмецтве арганізаваць работу.

І як толькі яны падышлі да кацельні – падняліся на штабель складзеных адна на адну панэляў перакрыццяў, – да Зубрыцкага падкаціўся калабком намеснік галоўнага ўрача па гаспадарцы Лявонаў, акругліў вочы, нейкім спалоханым голасам абвясціў:

– Васіль Андрэевіч, цябе тэрмінова выклікаюць да тэлефона, проста неадкладна…

“Ну, во, нездарма ўсё… Пра што і папярэджваў вужык?..”

– Хто?

– Не ведаю. Прасілі, каб паклікаў адразу, як прыедзеш.

Зялёная слухаўка ляжала на паліраваным стале, чорны шнур, скруціўшыся, нагадваў таго вужыка, што прысніўся ноччу. “Эх, вужык, вужык, і праз шмат гадоў ты бароніш мяне ад бяды… Папярэджваеш, хвалюешся за мяне, і дзякуй табе за тое – лягчэй, падрыхтаванаму ўжо, пераносіць удары лёсу…”

– Зубрыцкі слухае!

– Васіль Андрэевіч, гэта Зыкаў. У нас, братка, бяда…

– Якая бяда – не цямні! – адразу немаведама чаго ўзарваўся прараб – не вытрымалі нервы ад доўгага прадчування той бяды. – Ну?!

– Архіпаў загінуў… бетоншчык…

– Як загінуў?! Чаго? Дзе?!

Зыкаў памаўчаў крыху, мусіць, збіраўся з сіламі ці падбіраў патрэбныя словы, даказаў:

– На яго ўпала пліта. Яе бульдозер ссунуў. А Віцька не ведаў, што ён у кар’еры. Бяда адным словам, Андрэевіч. Прыязджайце, на месцы пабачыце…

“Эх, вужык, вужык!.. І адкуль ты, дружа, ведаў, што так будзе? Так стараўся мне пра гэта сказаць, і… Каб жа ўмеў ты гаварыць, а не толькі папярэджваць. У дзяцінстве я цябе, здаецца, разумеў, кожнае жаданне разумеў. А дарослым стаў, то і разарваліся духоўныя нітачкі, што звязвалі неадрыўна нас… Эх, вужык, вужык…”

Здарылася тая бяда на будоўлі ў перадапошні дзень снежня.

Ён гуляў з ім, як з малым шчанюком ці кацянём, – хаця такое параўнанне можа было і недарэчным: ні гаўкаць, ні мяўкаць вужык не ўмеў. Маўчаў, як рыба, хаця і да рыб ён не меў дачынення, хіба толькі мог выдатна плаваць… Васілёк з ім дружбу завёў, можна сказаць, нечакана, выпадкова, бо хіба можа дружыць чалавек і паўзучая істота?Гады былі галодныя, і, каб пракарміцца, рашылі з маці, што ён будзе пасвіць людскую гавяду.

На самым пачатку вайны на бацьку прыйшла пахавальная…

Бацька яму помніўся вясёлым і гаваркім, з гармонікам і высокім светлым чубам… І запомнілася, як ён насіў Васілька на плячы, – тады здавалася, што падымаў ён яго пад самае неба, вышэй, чым лятаці птушкі і самалёты… І як гушкаў на арэлях… Прывязваў бацька на ланцугах дошку да перакладзіны, якую паклаў на разгаліны дзвюх груш-дзічак, што раслі ўпобачкі, – і разгойдваў яго, здавалася, вышэй за тых дзічак… Страшна было, але стараўся не паказваць той страх бацьку…

І на кані катаў… Усё засталося ў дзіцячай памяці светлым і прыемным напамінкам…Маці пасля здзіўлялася – няўжо ён у чатырохгадовым узросце

мог памятаць такія падрабязнасці? А ён усё памятаў, да самых драбніц і дробязяў… Аднаго хіба не запомніў – як бацька пайшоў на вайну. Ну не помніць, і ўсё тут. Загуляўся з хлапчукамі на задворку, і вельмі ж не хацеў у азарце гульні ісці развітвацца з бацькам. Думалася тады: сходзіць бацька на тую вайну і вернецца хутка. Верылася, што бацька адлучыцца ненадоўга, – раніцай ці заўтрашнім вечарам адчыніць дзверы ў хату. Бо і раней такое было – развітваўся, і неўзабаве вяртаўся дадому – Васілёк і замаркоціцца па ім не паспяваў…

Старэйшы брат, Сяргей, быў яшчэ ў войску – доўга пасля перамогі не адпускалі дадому. Васілёк дужа засумаваў па ім, і таму не мог дачакацца, калі прыедзе – ото было б лягчэй: што ж ён можа сваімі дзіцячымі рукамі? І ў хаце пуста – нішчымніца і голад, штодня ў жываце жабы крумкаюць… А так бы зажылі вясёла са старэйшым братам і матуляй.

– Пайду я, мамка, у пастушкі, – сказаў, як даўно выспеленае сваё рашэнне, апусціў галаву, каб не глядзець у вочы маці, – якая-ніякая падмога будзе. Не прападзем, з голаду не памром!

Маці маўкліва прытуліла сына да сябе.

4

Самае цяжкае і пакутлівае – уставаць ранічкай.

Вялікімі намаганнямі адрываў ад падушкі галаву. Праўдзівей сказаць, маці адрывала падушку ад галавы, – не мог хлапчук адляцець ад сваіх дзіцячых сноў… А мо і не ад сноў, а ад таго, што не пераставалі, балелі ногі і спіна – папахадзіць за статкам цэлы дзень не кожнаму і па сіле ў яго ўзросце. Але так было ў першы тыдзень. На другім ён і сам прахопліваўся, ускокваў бадзёра з ложка, бег адразу да мыцельніка, каб халоднай вадой прагнаць ад сябе рэшткі сну… Уцягнуўся неўпрыкмет, прывык, і стала ўжо нашмат лягчэй хадзіць кожны дзень за гавядой…

Выпасваў найбольш на балацявінах, па мурожнай траве, а потым чакаў, калі здаволяцца рагулі пашай – гнаў да Ігналявага селішча, дзе стаялі грушы і яблыні, буйна расла шыпшына і чарнабыл, – там заўсёды ляжалі каровы і жавалі жуйку. Ігналя з сям'ёй яшчэ да вайны, перад самым яе пачаткам, выселілі і пагналі ў Сібір. Як кулакоў. І яшчэ дзве сям'і разам з ім. Як сядно за кампанію. Каб, значыцца, весялей было на невядомай і злой зямлі…

От ужо калі каровы прыжмурвалі вочы, не перастаючы жаваць, што аж сліна ў іх сцякала на мурог, пастушок ухітраўся і сам драмануць якую гадзіну ў цяньку. Тады, прачнуўшыся, адчуваў, як у яго прыбавілася сілаў і бадзёрасць не пакідала яго да самага вечара.

А ляжаць Васілёк любіў на сваім звыклым месцы – каля старога дубовага пня, каля якога вымкнулася ў неба разгалістая ліпа. Торбачку пад галаву, спінай да пня – і як толькі прымружваў вочы, адразу яго агортваў сон. Тады ўжо пастушок не чуў, як гулі-нылі ногі, як пачувалася рука – увесь час не выпускаў з рук важкую пугу, – і правальваўся ў свае сны, лётаў і бегаў, даганяў некага, як і ганяліся за ім, жартуючы, весела смеючыся…

Тады ён заснуў адразу і моцна. Неспакойны быў дзень – каровы гізавалі, не ведаючы куды сябе падзець, – даймалі іх надакучлівыя і кусучыя здрокі, дапякалі, даймалі ўсюды – і ў кустоўі, і ў вадзе. Ледзьве сабраў іх у гурт. Пакуль бегаў то за адной, то за другой, дык і вымак спрэс – пасля зацяжных дажджоў дарогі і лагчыны былі гразкія і слізкія…

… Прачнуўся ён раней, не як заўсёды.

Яго як хто таўхануў пад бок – лёгенька так, далікатна. Падумаў найперш, што статак разбрыўся хто куды і яго раскартухала трывога за кароў. Паглядзеў – і адразу адлягло ад сэрца – усе каровы ляжалі, праўда, адна толькі Пярэстая – цёткі Вікці – стаяла каля алешыны па калена ў балотнай твані, і, пусціўшы з пысы сліну, варушыла лена скіўіцамі. І тут ён раптоўна ўбачыў, як з шэрага пня звесіўся над яго галавой цёмнай вяроўчынай доўгі вуж – як шукаў месца, куды спаўзці, і мерыўся ўжо ўпасці яму на грудзі.

– Вужык! – узрадаваўся, напачатку толькі ўздрыгнуўшы імгова, ды не ад страху, адно ад нечаканасці, і ўхапіў яго акуратна рукамі і паднёс да вачэй. – Вужык-тужык! І ты тут адпачываеш? А я і не ведаў, што мы з табой суседнічаем. Бачыш, мы ўдвох аблюбавалі гэтае месцейка…

Язычок у вужыка чорненькі, вочкі малюсенькія, як макавінкі, жоўтыя вушкі – як вясновы кураслеп. Хлопчык пальцам пагладзіў яго па галаве, пахукаў, як адаграваў усё роўна ад холаду.

Вужык, мусіць, адчуў яго дабрыню, бо пачаў абвівацца па руцэ, гайдацца на ёй, раскачвацца. А потым, як паразумеліся, як раззнаёміліся, на шыі ўжо гальштукам завязваў яго, запазуху пускаў і рагатаў, адчуваючы, як ён, халодны, бы кавалак ільду, поўзаў на спіне і жываце…

І павялося ўжо так кожны дзень – толькі прыгоніць пастушок статак на Ігналяву паляну, а вужык ужо чакае хлапчука, неспакойна круціцца на пні, як выглядвае яго. Пастушок адкаркоўвае бутэльку, налівае ў сагнутую далоньку малако і пачынае паіць вужыка. Калі вып'е, зноў далівае. Да тае пары, пакуль не нап'ецца… А пасля ўжо Васілёк абедае сам. А вужык назірае за ім, маўкліва лежачы на шурпатым пні або на плячы.

Калі ж збіраўся заснуць, то пакідаў яго на пні альбо клаў сабе на грудзі. А то засоўваў пад сарочку – і так спаў, не зважаючы на яго.

Прачнуўшыся, устаўшы, падымаючы статак і гонячы гавяду далей, не пакідаў вужыка, браў яго з сабою. Вужык любіў, калі хлопчык клаў яго на плячо, ідучы сваімі пастушкоўскімі сцежкамі. Тады вужык выдоўжваў галаву – глядзеў наўкола, праяўляючы цікавасць да ваколля.І можна было падумаць, што вужык і не вужык зусім, а нейкая маленькая, але дужа разумная істота, – бо хіба ж можна так каму другому ўважліва сачыць за наваколлем, любавацца прыродай, сонцам, ранішнім туманам?

Дзіўна было хлапчуку бачыць такое, яшчэ радасней ведаць, што ёсць у яго такі сябар. Ні ў кога ў свеце няма такіх сяброў.

5

Разумець душы жывых істотаў навучыў яго настаўнік Міхась Крупа.

Міхась Пятровіч быў дырэктарам Крушнянскай школы. Вёў біялогію і заалогію. І мог гадзінамі расказваць пра жыццё мурашоў і вавёрак, баброў і барсукоў. То ж па яго задумцы ў школе вучні зрабілі жывы куток, дзе пасяліліся вужы і гадзюкі, вавёркі, бусел з перабітым крылом, варона, якая навучылася гаварыць, і ўсе дзеці пыталіся ў яе: “Калі нам на ўрок?” Манька, так яе празвалі дзеці, крычала на ўвесь голас, смешна картавячы літару “р”:

– На ўр-ррок пар-рррра! На ўр-рррок пар-ррра-ааа!

Той жывы куток за колькі крокаў, а магла б, то і за тысячы кіламетраў абыходзіла б завуч школы Леакадзія Гаўрылаўна, а па-вясковаму – проста Лёдзя. Яна не магла глядзець на вужоў і гадзюк, так бы мовіць, арганічна іх не выносіла, таму гідліва адварочвалася і крывілася…

Якое свята было для дзяцей, калі дырэктар школы праводзіў свае ўрокі на прыродзе – у лесе! Асабліва падабаліся такія ўрокі Васільку. Тады, здавалася, перад дзятвой ажывала кожная травінка, кожная кветачка. Вось тады пры Міхасю Пятровічу і ўзяў Васілёк у рукі вужа, які поўз недалёка ад ног, па траве. Дзяўчаткі адскочылі ад яго, завойкалі, са здзіўленнем глядзелі, як хлопчык смела трымаўся з паўзуном.

– Не бойцеся, дзеці, вуж – самае бяскрыўднае стварэнне, – супакоіў усіх дырэктар школы і ўзяў сам у Васілька вужыка, – на зямлі іх маецца паўтары тысячы відаў, а ў нас, на Беларусі, усяго два – вуж звычайны і гладкі – мядзянка.

– А мне бабуля казала, што калі ўкусіць мядзянка, то потым штогод ад месца ўкуса адвальваецца кавалак мяса, – сказала Палінка, суседка Васілька, і тут жа зачырванелася, апусціла галаву – сарамлівая была, слова лішняе баялася сказаць на людзях.

Рыта, дачка Крупы, стаяла побач і разглядала зусім зблізку вужа. Васілёк мірганууў ёй – вазьмі ў рукі, не бойся…

– Не, Палінка, бабка падманьвала цябе, баялася, каб ты адна ў лес не хадзіла. Мядзянка – таксама бяскрыўдная істота. Яна ніколі не нападае на людзей. Дарэчы, як і гадзюка. Яна пазбягае сустрэчы з чалавекам. Гэта калі ўжо нехта ўзлуе яе чым-небудзь, і то гэта рэдкая, вельмі рэдкая з’ява…

Дырэктар вярнуў Васільку вужыка, папрасіў:

– Аднясі, хлопча, яго туды, дзе злавіў.. Няхай гуляе сабе на волі…

Рыта пайшла следам і паглядзела, як ён выпусціў яго з рук, як шустра пабег-папоўз ад людзей лясны жыхар – як узрадваўся, што апынуўся зноў на волі…

6

Васілёк і вужык пасябравалі.

І ўжо не маглі адзін без аднаго. Калі ранічкай пастушок падыходзіў да яго, вужык як ажываў, выкручваўся, выгінаўся, галаву падымаў, і супакойваўся толькі тады, калі пастушок браў на рукі. Як немаўлятка якое, што прывыкла да рук бацькоў…

Аднаго разу, па абедзе, калі пастушок гнаў статак на новыя сакаўныя паплавы, хочучы, каб яны наеліся сытна – аж да раніцы, сустрэў на лясной сцяжыне аднавяскоўца Рукана – з мехам за плячыма. Што было ў мяшку – аднаму Богу ведама…

– Здароў быў, пастух! Як мая кароўка – наетая?

– Добры дзень! А чаго ёй галоднай быць – травы ўсім хапае. Сакавітая яна ўсюды – не лянуйся, хапай.

Рукан падаў руку. Васілёк выдаўжыў сваю, каб паціснуць далонь аднавяскоўца. Калі ж рукі дакрануліся адна да адной, Рукан войкнуў, вырачыў, акругліў спалохана вочы і рэзка аддзёрнуў сваю.

– А-ааа! – зароў, адмахваючыся як ад нечага страшнага, – аж адскочыў порстка на бяспечную адлегласць.

Толькі тады здагадаўся Васіль, ад чаго так сябе павёў Рукан – на руцэ, абвіўшыся спружынай, стаіўся вуж.

– Падла ванючае, панімаш, ты жартаваць уздумаў? Пасміхацца з мяне? Ну, я табе… Век будзеш мяне памятаць, папомні маё слова!

– Ды я не вінаваты, дзядзька Рафал. Я не жартую. Я з ім кожны дзень гуляю. Падружыліся мы з ім. Во гляньце, ён не кусаецца… Не верыце, дык дырэктара школы спытайце – і ён тое ж самае скажа. Даруйце, калі так, я ж не хацеў… Забыўся я пра яго, што ён у маёй руцэ…

І ён паклаў вужыка на патыліцу, закруціў яго, як шалік, а пасля, падумаўшы, кінуў у адтуліну расшпіленай сарочкі – каб не злаваць Рукана.

– Падружыліся яны, тваю маць… Дружбакі, тваю маць, панімаш, не разлі вада… Панімаш… Ты мне ета папомніш. Дырэктара спытаць, тваю маць… Я як спытаю, дык моташна стане. Яшчэ трэба разабрацца, чаму той дырэктар вас вучыць, панімаш… З людзей здзекавацца і пасміхацца? Тваю маць, панімаш…

Рукан таптаўся, як танцаваў на адным месцы незразумелы танец, шукаў і не знаходзіў мяшок, што асунуўся з-за спіны на зямлю, наступаў на яго нагамі – і не бачыў. Як аслеп са страху. Васільку і смешна было ад такіх паводзін Рукана, але тут ужо было не да смеху – мог раз’ятрыцца і кінуцца з кулакамі. Але дзіцячым розумам разважаў – не, не кінецца на яго, раз так баіцца вужоў, то і не падыдзе да яго, не асмеліцца… Абаронцам стаў вужык.

Мяшок усё ж знайшоўся. Рафал выцер рукавом узмакрэлы твар і лоб, зіркануў яшчэ раз нядобра ў бок пастушка, закінуў мех за плячо, крутануўся на гумавых дзіравых ботах – і пасунуўся ў гушчарняк, усё яшчэ нешта гугнявячы сабе пад нос…

А вужык як адчуў нешта – стаіўся пад сарочкай, не варушыўся, не нагамінаў пра сябе. Пэўна, адчуў злога і нядобрага чалавека.

І нават пазней, калі і адышлі ад таго месца, як ні стараўся разварушыць і развесяліць вужыка, – той не паддаваўся, быў нейкі вялы, абыякавы – злое слова чалавека і чорная энергія падзейнічалі на вужыка прыгнятальна.

Тады ж і зразумеў Васілёк Зубрыцкі, што вужык вельмі чуйна рэагуе на дабрыню і пяшчоту і не пераносіць лядайкага і агрэсіўнага воклічу.

Падумаў яшчэ – вужык не памыліўся ў Рафаіле. Рафаіла ніхто ў вёсцы не любіў.

Не любілі яго і да вайны, і ў вайну. І – пасля вайны…

Як і сястру яго, Лёдзю.

Пастушок узяў у абедзве рукі вужыка, паднёс да твару.

– Ты ж вельмі разумная істота, ці не так, Паўзунок? – дапытваўся ў яго хлапчук. – Ты ўсё чыста разумееш, ды сказаць не можаш. От каб ты ўмеў гаварыць, мы не маглі б з табой нагаварыцца за дзень… Я б табе столькі расказаў бы пра сябе. Як і ты. Праўда, Паўзунок?

Але вужык маўчаў.

Ён нават прымружыў вочы. Як спаў усё роўна. Ці не хацеў весці размову са сваім сябрам. Не ад крыўды. Ад стомы. Ад сполаху.

Паўзунок споўз з рукі, пасунуўся ў расшпіленую адтуліну сарочкі.

Не варушыўся, ляжаў – адпачываў, прыходзіў у сябе…

7

Новы год быў сапсаваны. Збіраліся з жонкай Марынай пайсці да сяброў – дамаўляліся яшчэ з месяц назад, што збяруцца разам, – але з такім настроем толькі дровы калоць, каб на расколцы круглякоў вымясціць свой пануры настрой.

Жонка сказала, узважыўшы ўсё:

– Будзем дома сустракаць. Нікуды не пойдзем.

Пра выпадак на будоўлі не напаміналі, нічога не раіла, не супакойвала нават – ведала, што тут не паможа ні слова, ні парада, наадварот, можна зрабіць больш балюча…

– Марына, я хачу выпіць, – глуха прамовіў Зубрыцкі.

Жонка прынесла пляшку каньяку і шклянку, не чарачку, паставіла на стол. Ён падышоў да серванта, адчыніў шкляныя дзверцы, узяў вялікі крышталёвы фужэр. Наліў як не поўны – і выпіў нагбом за некалькі глыткоў.

Смаку не адчуў. Нават не скрывіўся – як ваду піў. Марына не здзівілася – усё разумела. У той жа момант падумала, што можа гэта і ратуе мужыкоў ад стрэсаў і інфарктаў у такія моманты, хто ведае… Васіль узяў з вазы жоўтую антонаўку і ўпіўся ў яе зубамі. Праз колькі хвілінаў адчуў, як прыглушылася нудота, некуды адсунулася і трывога – мо за белыя фіранкі акна, кульнулася кумельгам у халодную цемрадзь начы…

На экране тэлевізара мільгалі кадры нейкай кінахронікі – будаўнікі з вясёлымі і шчаслівымі тварамі ўзводзілі дом. Насілі раствор і цэглу, працавалі з імпэтам і паказвалі ўсяму свету, што яны самыя задаволеныя і шчаслівыя людзі на зямлі. Усміхаліся, мусіць жа, аператару, што здымаў іх, а што было ў кожнага на душы, можна было толькі здагадвацца… Гучэла ў дадатак бадзёрая, музыка, і ўсе гледачы павінны былі разумець, што гэта гучыць апафеоз найшчаслівейшага жыцця ў самай шчаснай краіне свету – вялікім і непарушным эсэсэсэры…

А Васіль памятаў добра, як ён падымаўся на рыштаванні. Холад і голад праймалі яго юначую, яшчэ дзіцячую душу. Каб выжыць у гэтым жорсткім і несправядлівым свеце, ён браўся за работу ў выхадныя дні – клаў з былымі фэзэвушнікамі падвалы і сцёпкі, падмуркі пад прыватныя дамы… Людзі давалі нешта і ўкусіць, і капейчына нейкая перападала… Усё ж надараліся і ніштаватыя дні, калі не вуркатаў страўнік, калі на галодны дзень быў прыхаваны ладны кавалак сала…

Цэнтральная вуліца Гомеля – гэта яго дамы.

Ён клаў сваімі рукамі цэглу, узводзячы сцены тых дамоў. Бальніца, гасцініца, жыллё...Ці ўспомніць яго хто-небудзь калі добрым словам? Ці падзякуе?

Наўрад ці… Але ці трэба яму тое? Пэўна ж, не, ні ў героі, ні і ў вядомыя асобы ён не імкнуўся, – проста выконваў сваю работу, каб выжыць, не памерці з голаду, і болей ні пра што не думаў… Як і не думалі сотні і тысячы такіх жа хлапцоў і дзяўчат, якія ніколі не выстаўлялі сябе – усе яны былі грамадой, безаблічнай масай, якой кіравалі, загадвалі, якую каралі, прыгняталі… Яны былі працоўным калектывам, і кожны з іх згодна з маральным кодэксам будаўніка камунізму будаваў той камунізм – савецка-бальшавіцкі рай…

Калі ж стрэлкі наблізіліся жа апошняй лічбы і павінны былі вось-вось ударыць куранты крамлёўскага гадзінніка, ён пацалаваў жонку, усміхнуўся:

– За цябе. Каб здароўе было. Каб радасць у сэрцы не гасла. Шчасця табе, Марына, і каб ты не насіла перадачы свайму мужу…

Яна засмуцілася і абрадавалася аднначасова. Ён напомніў пра яго, іхні агульны боль, але сказаў тое голасам павесялелым, не прыгнечаным, ад чаго адразу знялося даўкае напружанне, і ён, Васіль, стаў ранейшы – уважлівы і чулы, упэўнены і спакойны, таму радасна прамовіла:

– Дзякую, Васіль. І за цябе, мой дарагі. Каб усё было добра ў тваім жыцці.

– У нашым жыцці, – паправіў ён яе.

– Ну, хай будзе так…

А праз тры дні яму неабходна было з'явіцца ў пракуратуру – выклікаў следчы на "сяброўскую сустрэчу". Па факце смерці рабочага брыгады ўжо афіцыйна была заведзена крымінальная справа. Наперадзе была поўная невядомасць. І – цемра…

... У той дзень пагубляліся каровы.

Ён і не заўважыў, як яны адна за адной распаўзліся ў розныя бакі – такога яшчэ не было ніводнага разу. Адчуваў ён сябе блага – нудзіла цэлы дзень, ногі былі як ватныя, іх курчыла, ламала, як хто шпыраў іх тоўстай іголкай.

Паводзіў гэтак жа сябе і вужык, сцішыўшыся пад сарочкай.

Васільку здавалася, што яго абклалі з усіх бакоў ільдом. Таму ён дастаў вужыка і паклаў у кішэню – вужык і там не варушыўся.

Зразумеў – застудзіўся. Бо пачалі біць дрыжыкі, рабілася горача. Было вялікае жаданне прылегчы, скурчыўшыся, суняць прастудную трасучку… Але дзе там – статак трэ пільнаваць, махаць ды махаць пугай, каб каровы баяліся яго… То перад яго вачыма ўсплываў вобраз бацькі, які мерыўся ўзяць на рукі і несці далей, каб аблегчыць сынавы пакуты, то дарогу пераходзіў Рафал – скаліў нечага зубы, як радаваўся нечаму, то здавалася, што вужык крычаў і папярэджваў пра нешта…З вялікімі намаганнямі сагнаў у адзін

гурт статак. Для парадку нават пералічыў кароў. Усё сыходзілася, на душы зрабілася трошкі лягчэй… Ледзьве дацярпеў да вечара. Вужыка паклаў на яго месца. Там жа, побач з пнём, пакінуў і пугу – не было ўжо сілаў трымаць яе. Адно што прыкрыў яе ламаччам, схаваў ад чужога вока…Да вёскі падыходзіў, ледзьве перастаўляючы ногі. Гайдалася зямля, здавалася, што перад ім ідуць не каровы – авечкі, і што яны не ідуць, а плывуць па нейкай рацэ…

– А дзе ж мая кароўка, Васілько? – прыбегла дахаты цётка Панцэсіха – жанчына-балаболка, сто слоў у секунду выпаліць, нагаворыць сто бочак брахнёў, хаця голас у яе ласкавы, ціхі, што і крыўдзіцца на яе не выпадала. – І Міхалавай кароўкі не прыгнаў, і дырэктаравай, і бабы Міхаліны…

– Ды што ж гэта такое, сынок? – устрывожана паглядзела на яго маці, на Панцэсіху позірк перавяла, якая на дзіва спакойна стаяла і маўчала, чакала, што адкажа пастушок. – Ты ж ніколі і не губляў статак…

Васілёк без ахвоты зачарпнуў колькі лыжак баршчу, выцер губы і рукавом узмакрэлы твар – лоб аж гарэў – калі б маці дакранулася да яго, то жахнулася б.

– Ведаю – на Бобрыку каровы, – прамовіў ён, падумаўшы. – Пайду прыганю…

– Сынок, ты ж ледзьве на нагах стаіш, – апамяталася запознена маці, скрушна паківала галавой. – Мо я прыганю іх, га?

– Нічога. Вытрываю…

Ён гаварыў ужо як дарослы. Як мужчына. Як гаспадар. Адчуваючы, які клопат ляжыць на яго плячах.

Да Бобрыка было з кіламетраў пяць.

– Прыгані, Васілёк, прыгані, – узрадавалася, памякчэла цётка Панцэсіха, заўсміхалася, што хлопчык верне дадому згублены статак, – я ж нічога не кажу, ведаю, што мая карова шкадлівая, і другіх магла ў шкоду завесці…

– То ж і з дарослым магло быць такое… Прыгані, прыгані, Васілько… Ой, горачка ты маё, што ж тут паробіш… Ноч наперадзе…

Але на Бобрыку – прасторным полі і вузенькай рачулкай з густой травой на беразе – кароў не было. Тое яго вельмі здзівіла і засмуціла. Не знайшоў іх і за Адолькавым кругам, куды ўцякалі не раз, – але ён адразу разгадаў іх хітрыкі.

## 8

Страх і крыўда падкаціліся да дзіцячай душы, неспакой авалодаў ім. Ён ужо забыўся і пра сваю хваробу, хаця ўзмакрэў ад хады і тэмпературы.

Не было кароў і ў Броньцы, і ў Алёсах.

“Уцекачоў”, “самавольшчыкаў” ён убачыў нечакана для самога сябе і не там, дзе спадзяваўся знайсці, бо ён згубіў ужо і надзею ўбачыць іх, і яму ўжо ўяўляліся жудасныя відовішчы з ваўкамі, якія маглі напасці ноччу на кароў…

Агінаючы ўзболатак, пачуў нечы глыбокі ўздых. Ён прыпыніўся, чуйна прыслухаўся – чалавек ці які звер? А ўжо добра змерклася, і ён нічога не бачыў перад сабою… Пачуўся новы ўздых ці выдых – глыбокі і глухі, як хто пазбаўляўся ад цяжкай стомы. І тады ж адразу здагадаўся – то ж яны, каровы! То яны ляжаць на астраўку, адчуваючы вакол багну і не рызыкуюць ісці ў невядомасць.

Так яно і было – на астраўку сярод узболатка і ляжалі яны адна каля адной, цяжка дыхаючы, адкінуўшы ўбок важкае, налітае за дзень малаком, вымя. Падняліся нехаця, лена, незадаволена.

У вёску прыгнаў кароў ужо глыбокай ноччу. Але яго чакалі, не спалі тыя, у каго карова не вярнулася з пашы. Радасна загаварылі жанчыны, але найбольш Панцэсіха. Пастушку дзякавалі – ніхто не ўшчуваў, ніводнага слова папроку яму ніхто не выказаў…

Дадому, каб не даваць крука – па вуліцы, падаўся праз паплавы. У яго канчаліся ўжо сілы – іх ужо і зусім не было ў яго, не ведаў, на чым і трымаўся – вадзіла з боку ў бок, ішоў, як п’яны, як паранены з поля бою… А ён сапраўды правёў бой і выйшаў з яго пераможцам. Бо зразумеў – калі не будзе перамагаць у далейшым сваім жыцці, то цяжка і невыносна прыйдзецца яму…

Лягчэй, здавалася, было паўзці, чым ісці. Ён знайшоў у сабе яшчэ сілы не ўпасці, загадаў самому сабе вытрымаць, выцярпець і адолець сваю нямогласць. Выканаў свой жа загад, падпарадкаваўся волі, прашаптаў, сам ад сябе не чакаючы, словы сваёй бабулі, матулінай маці, Настазі:

– Божа міласэрны, памажы і захавай!..

Не даходзячы да плота, у шэрым прыцемку заўважыў нечую постаць. Адразу пазнаў – Рафал Рукан. Стаяў і назіраў за вуліцай – яна была высветлена фарамі машыны, якая невядома чаго і аказалася ў вёсцы.

– Вось так, панімаш, будзеш знаць, як быць разумнейшым за ўсіх, – прамовіў уголас і зарагатаў Рукан, як бы танцуючы на адным месцы, а потым раптоўна шуснуў некуды ў цемру – як адчуў некага побач, а мо і па сваіх патрэбах падаўся, толькі глухія крокі чуліся, як убіваў падэшвы ботаў у зямлю…

З акна дырэктара школы даносіліся з радыёкропкі словы ўрачыстай песні:

*О Сталине мудром я песню слагаю,*

*А песня такая – от сердца, а песня такая…*

Машына стаяла каля самай хаты – ля веснікаў. Двое вайскоўцаў перагаворваліся між сабою, курылі, стаялі каля кабіны, сплёўвалі сабе пад ногі.

9

Потым двое вывелі з хаты Міхася Пятровіча. Нават у цемры Васілёк заўважыў, які ён збянтэжаны і прыгнечаны, і не разумеў сам, мусіць, што адбывалася наўкола, чаго прыехалі вайскоўцы да яго…Нечакана загаласіла жонка, загаласіла як па нябожчыку, бо, пэўна, ведала, што азначаў прыезд энкавусаўскай машыны – “чорнага ворана”. Крумкача. А крумкач, як вядома, распраўляўся са сваёй ахвярай без роздуму і шкадавання.

– Пецечка, за што ж яны цябе-ее? Пятрусь, ты ж ні ў чым не вінаваты!

– Не плач, Наталля, у таварышаў памылка нейкая адбылася – разбярупца, што да чаго, і я вярнуся заўтра… Вось пабачыш, не хвалюйся…

Голас у Крупы дрыжэў – мусіць, і сам не быў упэўнены ў тым, пра што сам казаў, але стараўся супакоіць сябе, але найбольш жонку. Ён неяк сагнуўся, быццам узвалілі на яго здаровы мех, стаў меншы ростам, і непадобны быў на самога сябе. Стаяў Крупа пад фарамі – спінай да Васіля. Нешта запякло ўсярэдзіне, адначасова прачнулася шкадаванне да блізкага чалавека, бо сапраўды акрамя Міхася Пятровіча ў хлапчука не было раднейшай душы, да якой можна было прыгарнуцца ў цяжкія хвіліны. Яму хацелася падысці да дырэктара школы, абняць яго, сказаць нейкія словы – суцешыць ці павінавацiцца, але, галоўнае, выказаць яму сваю падзяку за тыя кароткія, але такія значныя для яго, гутаркі, пад час якіх Міхась Пятровіч даваў яму шмат парад, і так памагаў, чым мог…

Ён ужо і ступіў бліжэй, але вайсковец строгім голасам папярэдзіў:

– Ты куда, пацан? Сюда нельзя – к матери чеши скорее, ну-ууу!..

Настаўнік убачыў яго, радасна праказаў:

– Васілёк, скажы заўтра Леакадзіі Гаўрылаўне, каб яна падмяніла мае ўрокі. А вучням скажы, што я ні ў чым не вінаваты. Тут нешта не так, нейкая памылка…

– Добра, Міхась Пятровіч, скажу! – праз слёзы вымавіў вучань, адчуўшы, як сціскаецца ў яго горла, як быццам хто ўчапіўся ў яго іржавымі абцугамі – ці не Рафаіл Рукан? – Дзякуй вам за ўсё… За урокі жыцця, што вы вучылі. Яны мне на ўсё жыццё!

Прамовіў, і тут жа злавіў сябе на тым, што і ён як развітваецца з ім, як і яго жонка, як быццам ведае, як усё роўна ўпэўнены, што яны ніколі-ніколі не пабачацца больш… І ад таго яшчэ больш стала балюча на душы.

– Не разговаривать, паршивец, кому сказано?! – раз’ятрыўся энкэавусавец. – Кому сказано?!

“Рукан, гад, яго работа, – здагадаўся нечакана Васілёк, успомніўшы, як той хвілінаў колькі назад назіраў з цемры за арыштам дырэктара школы і

задаволена паціраў рукі, пераканаўшыся, што яго чорная справа знайшла свой працяг, і ўвушшу стаялі помслівыя словы: “Будзеш знаць, як быць разумнейшым за ўсіх…” Так, ён, і толькі ён… Заб’ю гада паўзучага, хаця ж не ўсе гады, хто поўзае… Куплю ў дзеда Міхася стрэльбу, і калі праз тыдзень-два не вернецца дырэктар дадому, упалюю дзе ў лесе – і заб’ю, як гада, як нелюдзя, як вырадка… Такога чалавека аддаў у лапы груганоў. Ці ж вінаваты Крупа, што ён нашмат разумнейшы за Рукана, ды і не толькі за яго. Ці ж за тое караюць? А раз за тое караюць, то ці ведае пра тое Сталін?”

10

“Крумкач” развярнуўся і, выключыўшы фары, пакаціў, пагойдваючыся і натужна равучы на калюжынах, па вуліцы Крушнікаў. Роспачна плакала ў цемры дырэктарыха. Яе супакойвалі дочкі – Рыта і Марынка. Пачуў, як плакала Рыта, – і ў самога зайшлося сэрца болем – пра яе ён заўсёды думаў з пяшчотай і цеплынёй. Гарнулася сэрца да дзяўчыны, хаця ў гэтым ён баяўся ёй прызнацца, нават і позіркам баяўся выдаць сябе…

Ні ў адной хаце не гарэла святло. Але з кожнага акна зіркалі на вуліцу людзі і з трывогай углядаліся і ўслухоўваліся ў цемру – ці не да іх падрульвае смерць, ці не з іх хаты выхапіць чыё-небудзь жыццё “крумкач”…

Маці таксама не спала – сядзела, не запальваючы лямпы, каля акна, маўчала. І яна ведала пра ўсё, перажывала па-свойму… Васіль, не распранаючыся, паваліўся на ложак – яго ўжо не трымалі ногі. Усё цела пранізваў нясцерпны боль, выкручвала рукі і ногі, плечы, расколвалася галава.Ён не чуў, як пачаў стагнаць, пасля трызніць. Не чуў, як маці дакранулася да лба, як успляснула рукамі і забожкала, потым давала піць нешта гарачае і горкае…Ён адразу заснуў, праваліўся ў нешта цёплае і ўтульнае, ад чаго яму зрабілася хораша і спакойна.

І сніўся яму Міхась Пятровіч. Бачылася, быццам трымаў ён у руках вялізны клубок шэрых і чорных вужоў, гаварыў, як пераконваў, як сцвярджаў: “З іх вось і робяць тыя вяроўкі, на якіх вешаюць людзей…” А потым, адкінуўшы ад сябе вужоў, хітра мігануўшы яму, Васільку, весела заспяваў:

*Он пишет законы векам и народам,*
*чтоб мир осветился великим восходом…*

Як і памятае Васілёк Зубрыцкі, дырэктар школы ніколі не спяваў. Голасу не было ў яго – у дзяцінстве, як ён расказваў, хвароба пашкодзіла горла.

...Дні цягнуліся нудна і прыкра. Ніякай пэўнасці не было ў яго справе. А хаця і была, дык пра тое ніхто і не казаў. Следчы выклікаў яшчэ раз, але

распытваў ужо не пра здарэнне, а пра жыццё – адкуль родам, калі пачаў працаваць…

Зінчук прызначыў ужо трэцюю тэхнічную экспертызу – нешта яму не спадабалася ў папярэдніх, за што ад пракурора атрымаў вуснае папярэджанне за доўгі разгляд. Так і паехаў пракурор у адпачынак, не давёўшы справу да суда. Следчы раз, і другі, і трэці гаварыў з людзьмі, не будаўнікамі, а хворымі, якія бачылі з вокнаў будынка таракальнага аддзялення – да яго і рабілі прыбудоўку, – выпытваў, удакладняў…

Сам не ведаў чаго, але хацелася дакапацца да канкрэтнай прычыны, хаця яна і дужа выпірала сярод дзясятка фактаў: можна было закрыць справу і потым перадаць яе ў суд… І Зубрыцкі нічога не мог зразумець, бо падрыхтаваўся да самага страшнага. Здавалася б, усё вядома, а следчы ўсё дакопваецца і дакопваецца, гуляецца як той кот з паўжывой мышшу. “А мо выцягнуць хоча з багны?” “Ці – утапіць?!” І не папытаешся, не разведаеш – хіба ж пра такое можна ўведаць?

Ішоў трэці, чацвёрты, ужо і пяты месяц расследавання справы. І чым марудней поўз час, тым больш упэўнена і жорстка ўсялялася ў яго адчуванне, што ён падобны на зацкаванага звера, што трапіў у нябачную пастку ці сіло, і да яго свядомасці прыйшло перакананне, што ніколі яму не выбрацца з тых цянётаў, з таго палону.

Бо і вінаваты, і невінаваты ў гэтай гісторыі – не так арганізаваў працу на аб’екце, не правёў інструктаж, не давёў да кожнага рабочага правілы бяспекі…

А што бульдазерыст не разлічыў там нейкія сантыметры і залішне пасунуў тую пліту, – як яму давесці тую інструкцыю? У сям’і няшчасце – не стала кармільца. Хаця той жа кармілец і быў здадзены роднай жонкай у тую ўстанову, якая быццам бы вылечвае ад алкагалізму…

Спадзявалася, натуральна, што адвучаць ад гарэлкі і ён стане нармальным чалавекам у яе, жончыным, уяўленні. Але ж яна хоць нейкую помач мела ад яго, а цяпер?

І хто заменіць дзецям бацьку? Ды хоць і апраўдаюць яго на судзе, дык ці сам сябе апраўдае Васіль перад сваім жа сумленнем?..

Хадзіў Васіль да жонкі – Аксаны. Не для таго, каб прасіць яе аб нечым, умольваць, даказваць сваю невінаватасць, не. Набраў дзецям ласункаў – цукерак і апельсінаў, паклаў на стол. Верка і Андрэй стаялі маўкліва каля акна, не падходзілі да стала. Было ім па сем-восем гадоў…

Аксана працавала прыбіральшчыцай у інтэрнаце будаўнікоў.

– Сам не ведаю, чаго прыйшоў, але не прыйсці не мог, – уздыхнуў Васіль, седзячы за сталом.

Аксана сядзела насупраць. Маладая яшчэ, але з-за жыццёвай неўладкаванасці і нечаканых удараў лёсу неяк сагнулася, пастарэла, і голас яе, і позірк гаварылі пра тое, што яна шмат нацярпелася, і што ёй вельмі нялёгка…

– З ім жыла – было невыносна, а цяпер і яшчэ горш… Але неяк жа выблытаемся, станем на ногі… А вы, Васіль Андрэевіч, не перажывайце – вы ж тут ні пры чым… І бульдазерыст таксама ні пры чым. Быў і ён у мяне… Я ж пра ўсё ведаю. Сам жа і вінаваты, што палез туды, нікому не сказаўшы пра тое… Такі ўжо, відаць, у яго лёс…

Гэта Аксана пра мужа ўжо сказала – як абвінавачвала яго.

– Ды ўсе мы разам вінаватыя.

Жанчына ўздыхнула, больш нічога не гаварыла, і ў яе вачах не было ні скрушнасці, ні болю, ні шкадавання…

...Аднойчы, на чацвёртай ці пятай сустрэчы, не вытрымаў прараб Зубрыцкі, сарваўся, здалі нервы, выпаліў, як з дзвухстволкі бабахнуў:

– Ды канчайце вы з усім гэтым! Вінаваты я, прызнаю, не адмаўляю, чаго яшчэ мучаеце? Жыцця няма – ноччу сон не бярэ, на рабоце не магу працаваць… Звар’яцець можна. Аддавайце пад суд!

Зінчук як бы нешта хаваў у сабе, не адказваў Зубрыцкаму на яго выбрыкі. Бачыў ён і не такое. Ён як і не чуў пытання, ніводная жылка не ўздрыгнула, толькі ўсмешка слабая нарадзілася.

– Не магу зразумець – чаго так доўга цягнецца расследаванне?

Следчы ўздыхнуў, сашчапіў пальцы на стале:

– Зразумець хачу, Васіль Андрэевіч. А хутка толькі каты нараджаюцца… А вам бы параіў трошкі цярпення. І мне нялёгка з гэтай справай. Так што не будзем… Добра?

Пацiснуў няўцямна плячыма, гледзячы на следчага. Вось і зразумей яго – здзекуаецца ці ўсур’ёз гаворыць. Але ж і на першае і другое нешта не падобна. Як гульня якая ў марскі бой…

За акном гайдаліся пад ветрам галінкі вішанніку, амаль спелыя цёмначырвоныя ягадзіны стукаліся ў непамытую шыбку. Размова на гэты раз ішла не ў кабінеце следчага, а ў вагончыку прараба. І Зінчук сядзеў не за сталом, а каля яго – як наведвальнік ці хлопец з брыгады, каб папрасіць пару рукавіц замест дзіравых і якія адслужылі свой час…

І быў у следчага выхадны дзень.

“Самае паскуднае – гэта невядомасць, – думаў прараб, рыхтуючыся да новай гаворкі, невядома якой па ліку ўжо, – але каб хацеў мяне адправіць за краты, то тое мог зрабіць даўным-даўно... Зноў чакаць, зноў спадзявацца, зноў гадаць...”

11

– Дзед, а дзед, прадай мне стрэльбу, – у каторы раз прыходзіць Васілёк да старога Міхася і паўтарае адну і тую ж просьбу. – Вельмі трэба.

Дзед хітра страляе прыжмураным вокам у яго бок, крэкча, дакранаецца рукой да спіны, як хоча выпраміцца, цікавіцца:

– А навошта яна табе? Па варонах страляць? Ты ж яшчэ малеча – не паложана па гадах табе са стрэльбай хадзіць.

Стары, відаць па ўсім, злуецца, бо гаворка зноў пацякла ў непрыемнае для дзеда рэчышча – пра дубэльтку. Васіль ведае, здагадваецца, што дзед не хоча аддаваць яе, а мо і хоча, ды расцягвае торг. А па-іншаму, калі разважыць, каб нічога не “выгарала”, каб дзядуля, узяўшы строгі тон, даўно прапёр бы яго з трэскам дадому.

– Дзед, а дзед, а ў цябе ж і ногі не бегаюць – як будзеш па лесе даганяць таго ж зайца ці лісу?

– А навошта мне, ёлкі-палкі, бегаць? Сучка дагоніць, калі што якое. Альбо драбінка-шрацінка.

– Дык жа ў цябе і сучкі няма, дзед Міхась.

– Няма, – згаджаецца і ўздыхае дзед, і ў яго некалі блакітных вачах гасне ледзь прыкметны агеньчык радасці – Васільку ўжо і шкада, што ён так гаворыць з дзедам, – навошта яшчэ і крыўдзіць яго?

Дзед плямкае бяззубым ротам, прыгладжвае кужэльную бараду, зіркае неўпрыкмет на хлапчука – з якім настроем прыйшоў? Маўчыць дзед Міхась, маўчыць і госць, не ведае, з якога ўжо боку і падступіцца да старога, каб згадзіўся, каб уважыў. Настырны дзед і, відаць, скнарны. Бо які яму наедак з тае стрэльбы? І чаго толькі ўпарціцца? Хіба мо старую Тэклю пужае, калі тая пачынае сварыцца на дзеда?

Васілёк з дзедам сядзяць на прызбе. Дзед у фуфайцы, хаця на вуліцы і задушна. Ды і зімовая шапка з развязанымі матузамі – старая, аблезлая, і не пасавала яму – мо дзед Міхась яе яшчэ да рэвалюцыі меў яе.

“Што ж ён тады зімой будзе насіць? – думае пра сябе хлапчук і глядзіць на старога, які ўсё яшчэ маўчыць, але ў глыбокіх зморшчынках, там, дзе хаваюцца хітрыя і разумныя вочы, загараюцца зноў жвавыя агеньчыкі. – Колькі ж яму гадоў? За сотню, мусіць, пераваліла ўжо…”

– Не, хлопча, не згаворымся… Што мне з дзіцёнкам гаварыць – гарэлкі не п’еш, ад зямлі яшчэ не адрос, ёлкі-маталкі…

Дзед праказаў сваё рашэнне чамусьці весела, як бы і сам абрадаваўся канчатковаму прысуду. Нават далонькамі пляснуў па худых каленах, аж вочы зажмурыў ад задавальнення.

– Эх, дзед Міхась, дзед Міхась, а я думаў… Ну, што ж, шкада, вельмі шкада, але, відаць, нічога ўжо не паробіш – такі мой лёс. А я думаў, якую качку ўпалюю ці дзіка, наедак быў бы які, і табе сцягно калі перапала б… Што ж, добра, так таму і быць.

Васілёк падняўся з прызбы, паправіў на сабе картовыя штаны – спаўзлі, і папружка іх не трымала, абдзёр ззаду з іх шыгалле прызбы, уздыхнуў: пара было ісці дахаты, маці, мусіць, ужо зачакалася – бульба даўно астывае ў чыгунку. Толькі ўжо калі ўзяўся за веснікі, падумаўшы: “Піва са старым не зварыш”, дагнала дзядулева пытанне:

– А калі сур’ёзна, ёлкі-маталкі, навошта табе мая гармата?

Адказаў з падкавыкай:

– А тых жа, дзед, варон і ганяць. Маці кажа, што спасу няма ад іх – кураняты прападаюць.

Дзед нечакана зарагатаў – адказ дужа спадабаўся, і яшчэ раз пераканаўся, што хлопец з характарам – увесь у свайго бацьку.

– Паслухай мяне, нябожко, ёлкі-маталкі, зазірні да мяне заўтра, – хітануў галавою, і тут жа заматляліся матузкі шапкі-аблавушкі – хітра і пільна стрэліў вокам у падлетка. – Заўтра, калі ў цябе будзе час…

– А чаго хадзіць да цябе – зноў жа скажаш, што не згаворымся, што я ад зямлі не адрос, што соплі ў мяне пад носам.

– От які хуткі, палкі-маталкі! Бачце, няўсцерп яму, як дзеўцы замуж. Можа я з табою гаварыць-балаболіць люблю, можа мне падабаецца, як ты ўпарцішся і ні храна не разумееш у гэтым жыцці. Крыўдлівасць сваю мне дэманструеш, тым самым дурноцтва сваё выказваеш…

– Ну, дзед...

– Можа мне з табою проста інцярэсна, га? Бо на бацьку свайго ты дужа падобны. А я паважаў яго вельмі. І – любіў. Разумны і дабрачы чалавек, скажу табе шчыра, быў. А ты – стрэльбу, стрэльбу дзед прадай… А можа мне з ёю развітацца шкада, як з гэтым белым светам. То ж мае маладыя гады ў ёй, а ты, як той агрэсар-анціхрыст, напралом лезеш, уварваўся, раскрычаўся, давай – і ўсё тут… Не, каб падрыхтаваць дзеда, настроіць яго на добры лад, з ласкай да яго, з падыходзікам, дык ён кандыдоберам перада мною танцуе… Ат, ёлкі-маталкі, што з цябе возьмеш… Неразумнае і дурное дзіця, скажу табе, ёлкі-маталкі...

Хлапчук здзівіўся, пачуўшы ад дзеда такое прызнанне. Падалося, што тыя словы прамовіў не дзед, а нехта іншы, які схаваўся недзе побач і не паказваўся. Стары ж ніколі так не гаварыў – прамаўляў, як быццам скрозь слёзы. Выварочваў сваю душу, вырываў са сваіх грудзей сэрца, ад чаго Васількова сэрца зайшлося “у шпары” ад дзедавага няўцямнага і нечаканага прызнан-

ня. Ну і дзед, ну і штукар, ну і хітры ж ліс – вось і зразумей яго, разбярыся ў яго душы, вось і адрозні шчырае слова ад хлуслівага, праўдзівага ад падколкі…

Васіль не адчыніў веснікаў, не вярнуўся ў двор дзеда, прамаўляў з вуліцы, дзе і дагнала дзедава слова.

– Калі так, дзядуля, то не трэба мне твая стрэльба. І таму не буду больш цябе крыўдзіць, выпрошваць. То ж для цябе яна як памяць, так бы мовіць, рэліквія.

– Рэліквія, рэліквія, – перадражніў дзед на свой лад. – Я не хачу аддаваць у абы-чые рукі. На шкоду можа пайсці – як я на тым свеце сябе пачуваць буду? А ў твае аддам. Як усё роўна бацьку аддам. Бо і ён прасіў мяне пра тое ж. Я і паабяцаў. Сказаў яму, што пасля вайны і аддам, як вернецца сам. Аж яно вунь як… Вось так, ёлкі-маталкі… Так што табе яна належыць. Даверыць магу толькі табе. Спадзяюся, што злога ёю не зробіш.

"Мо здагадваецца дзед пра ўсё? – падумаў з жахам Васіль. – Здагадваецца, і таму папярэджвае? А мудры ўсё ж дзед Міхась… Не хоча, каб на ім і яго памяці хаця б і плямінкі зла і нядобрасці не было. Не бойся, дзед, не будзе… Але гадаў і нелюдзяў, адным словам, антыхрыстаў, трэба забіваць, – то ж не грэх. Бог даруе за ўсё… А не даруе, дык што ж… Чым вінаваты дырэктар перад Богам? Што атэіст? Але ж і мне ён раіў не ганіць Бога, а верыць у Яго. Значыць, і ён верыў Ісусу Хрысту, хаця на людзях і пры вучнях павінен быць атэістам… Каму ж ён тады зло зрабіў? Рафалу, што яго сястра ніяк не магла стаць дырэктарам школы, і таму яны разам зрабілі паклёп, данос на яго…"

Хлопец маўчыць, агарошаны пачутым, але не выказвае сваю радасць, хаця, калі шчыра, калі ўсё праяснілася, і без асаблівых перашкод выконваецца яго задумка, то ён і не адчуў той радасці, якая чакалася напачатку. Каб жа дзед не гаварыў тыя словы, каб жа не прызнаваўся ў сваёй слабасці, то тады б… А так… А так усё памянялася месцамі – і не разабраць цяпер, дзе радасць, а дзе горыч, дзе перамога, а дзе параза…

Дзед раскрыў сябе зусім з іншага боку, нечаканага боку, і цяпер Васілю застаецца доўга ламаць галаву над яго словамі-прызнаннямі, словамі-споведдзю.

– Вось такая, нябожчко, будзе мая рэзалюцыя. Падараваць не магу, хоць забі, ёлкі-маталкі…

"Што – зноў назад, зноў задні ход? – перапытваў невядома ў каго Васіль, і пашкадаваў ужо, што адразу не дамовіўся з дзедам, калі той даў згоду. – А цяпер яму зноў нейкая нявыкрутка… Ну і няхай, я ж сказаў, што згадзіўся з ім на тое, што баяў дзед напачатку…"

– То і не трэба, дзед Міхась. Я ж не настойваю – раз не, то, значыць, не… – пачынаў ужо хлапчук шкадаваць дзеда Міхася, і ў душы не рады быў, што

падбіваў яго на продаж сваёй рэліквіі. То ж рана на сэрцы будзе ў дзеда, і вінаваты ў тым будзе ён, Васіль…– Хай будзе так, як ты і рашыў напачатку…

– Ото зноў, ёлкі-маталкі, ну і пагавары з ім… Ну што ты возьмеш з яго, я яму пра баравікі, а ён пра рыбу…

– Дык я ж, дзед…

– Ды што ты дзяўбеш усё – “дзед ды дзед”! – падхапіўся з прызбы стары, галавой крутануў, рукамі замахаў. – Быў дзед, ды сплыў. Я што хацеў табе сказаць? Падараваць, кажу, не магу.

– Не можаш...

– Нож і стрэльба – не дарункі. – Дзед пасміхаўся ўжо, як танцы наладзіў на адным месцы – круціўся на адной назе, як малы свавольнік, пасміхаўся з хлапечай недасведчанасці, але не здзекаваўся. – А грошай у цябе, што ў мяне маладых гадоў… Так, адным словам, слухай мае ўмовы, калі хочаш, каб усё было ладком і палюбоўна. Ведаю, дружа, што маці гнала самагонку для пасяўной. Мая цана за маю гаўбіцу – тры пляшкі – і забірай яе, каб мае вочы болей не зырыліся, а душа не плакала, ні дна ёй, ні накрыўкі. Націранне мне трэба, разумееш? Спіна апошнім часам пачала пабольваць – спасу няма. Ды не крадзі толькі, скажы маці, што стары Міхал папрасіў. І прыходзь заўтра. Тады і згаворымся.

Васіль насупіўся, што зноў дзеда некуды ўбок заносіць, пацікавіўся:

– Дзед, а чаму не сёння? Прынясу праз колькі хвілін – маці дасць, я ведаю, не адмовіць. Але ж чаму заўтра?

Дзед сціснуў губы, каб былі ў яго зубы, то абавязкова скрыгатнуў бы імі, а так плямкнуў, пракаўтнуў сліну, змочваючы горла, прасказаў настойліва і рашуча, не гледзячы на яго:

– Кажу табе, што заўтра, і цыц на гэтым, ёлкі-маталкі!

Дзед пачынаў ужо злавацца па-сапраўднаму, тупнуў нагой, як на неслуха, у трыпутнік, што спрэс рос каля прызбы, як загадаў усё роўна:

– І такой вось часінай прыходзь – як сонца пачне хавацца за лесам!

Прыемная цеплыня разлілася па ўсім целе, у грудзях сцішылася неспакойнае трымценне.

Яго мара заўтра павінна здзейсніцца!

Хацелася падбегчы да старога, абняць яго, пацалаваць нават.

Ды стрымаў сябе – падумаў, што для мужчыны такое не гадзіцца, ды і сам дзед не адобрыў бы таго, прагнаў бы яшчэ са свайго двара.

Стары зноў сеў на прызбу, стомлена апусціў галаву на грудзі, глыбака ўздыхнуў – яго як усё роўна змарыў сон.

Васіль ціха, каб толькі даляцела да слыху дзеда Міхася, прамовіў:

– Дзякую, дзядуля! Заўтра ў такі час прыйду!..

– Ідзі. І каб з пустымі рукамі не прыходзіў! – закрычаў ён, але ў голасе не было злосці, адно чулася згода, дабрыня і шкадаванне бязбацькавіча. – Эх, ёлкі–маталкі, жыў я ў Наталкі, ведаў, што кахае, ведаў, што глухая…

Дадому йшоў з радасным трымценнем у сэрцы: “Удалося! Дзед задаволіў просьбу – уважыў. Цяпер ужо я смялейшым пачувацца буду... Рафал не заспее знянацку мяне нідзе...”

...Эксперты паклалі перад Зінчуком тоўстую, як падняць, папку. То была справа Васіля Зубрыцкага. На наклеенай паперы справа ўверсе зялёнай тушшу было пазначана – “Тэхнічная экспертыза”.

Спяцоў было трое. Адзін з іх – тоўсценькі, невысокага росту, ды ў дадатак яшчэ і лысы, пастаянна макрэў і раз-пораз выціраў насоўкай патыліцу. Другі – худы ды высокі, і нос пікай з шырокімі наздрынамі, а пад носам кароценькія вусікі, а над вачмі светлыя бровы. Трэці меў выгляд вясёлага чалавека – у блакітнай тэнісцы, стройны, падцягнуты, і як не праз слова ўстаўляў “ета самае”, і хіхікаў ці то з’едліва, ці то радасна, не зразумець.

– Ета самае, мы зрабілі ўсё і па ўсіх законах. Выходзіць так, што прараб Зубрыцкі – злосны злачынца. Стала, ета самае, за правіла – усёдазволенасць; ён і начальства не паважае, мацюка можа загнуць на людзей – не паважае іх.

Спец гаварыў і як быццам радаваўся, што так усё выходзіла і вымалёўвалася, і, значыць, выходзіла ўсё па-ягонаму. Яны зрабілі тое, што патрабавалася ад іх, цяпер можна толькі ўдакладняць дэталі.

Зінчук перабіў “етасамага”, спытаў:

– А як з пастаўкамі на будаўнічым аб’екце?

– З якімі пастаўкамі? – збіўся балабол і паглядзеў незразумела на следчага. – А на які чорт нам пра тое ведаць? Ета самае, кесару – кесарава…

– Будаўнікі далі слова пабудаваць корпус да святаў – пераносілі з года на год, а гораду даўно патрэбна бальніца – да свята ці без свята. А ім пастаянна ставілі падножкі – то бетону не дадуць, то цэглы. Ужо дзесяць гадоў як выйшлі з вытворчасці катлы, а іх ім запланавалі на ўстаноўку.

Зінчук уздыхнуў, ведаў, што экспертам тое да лямпачкі, і яго словы для іх – пусты гук, але хацелася выгаварыцца, выказаць сваю думку на гэты конт.

– Ну і што з таго, ета самае?

– А тое, што Зубрыцкі і галоўны ўрач стукаліся ў розныя дзверы – райвыканкама, аблвыканкама, але ім ніхто не адчыніў іх, ніхто не захацеў слухаць… Катлам жа ад сілы стаяць пяць гадоў. Мільёны на вецер, запланаваныя – на вецер…

– Але ж пры чым тут катлы? – эксперт недаўменна паціскаў плячыма.

– Пры чым? А прычынная сувязь… Але тое ўжо не з вашай вобласці. А вам дзякуй за работу. Зроблена яна прафесійна і кваліфікавана.

– Браку не робім.

Зінчук падняўся з-за стала, падаў кожнаму руку, правёў да дзвярэй. А потым стаў каля акна і доўга глядзеў у двор – праз металічныя рашоткі. Хацелася глядзець на блакітнасць неба, на воблакі, якія, здавалася, стаялі нерухома на адным месцы. Можна было цяпер заканчваць крымінальную справу – расстаўлены кропкі над "і", высветлілася незразумелае і не даказанае.

Але на душы не было задаволенасці, супакаення. Ужо дзясяткі і сотні раз у галаве пракручвалася адно і тое ж – бульдозер суне балку, і яна падае ўніз, накрывае рабочага… Ён выйшаў на прычынную сувязь. Ёсць такое паняцце ў юрыспудэнцыі. Дык усё ж – што з'явілася канкрэтнай прычынай таго няшчаснага здарэння? Таго не загадваў рабіць Зубрыцкі, і не яго рукой было зроблена тое, што здарылася на будаўнічай пляцоўцы. Бо і рабочага не пасылаў дарабляць нязробленае – ні ён, ні брыгадзір…

Начальніку кіравання па будаўніцтве Звонаву галава не баліць, якія катлы ўстаноўлены ў кацельні і колькі гадоў яны пратрымаюцца пад рабочай нагрузкай. У яго, Звонава, ёсць канкрэтнае заданне – праводзіць рэканструкцыю, а астатняе – няхай і трава не расце.

Галоўны ўрач ведае, і яго найбольш тое непакоіць. І ён казаў пра тое Звонаву. Але безвынікова. Той даў зразумець, што калі галоўны ўрач будзе "лезці ў бутэльку", то і зусім не дасць туды рабочай сілы, кіне брыгады зусім на іншы аб'ект – вунь для чарнобыльцаў-перасяленцаў домікі трэба ўзводзіць, а то першачарговая задача…

Казаў пра тое ж начальніку будоўлі і Зубрыцкі – і не адзін раз. Настойваў нават на вырашэнні той праблемы. Ну, Звонаў і паслаў яго пры ўсіх туды, дзе ракі зімуюць… Той агрызнуўся. Таму і стаў "ненадзейны", прыклеілася да яго, што "дэспатычны", "не паважае начальства…" Па праекце трэба было агінаць сцяну трубой, але брыгадзір знайшоў больш эфектыўны выхад – ісці напрамкі. Даказваў, што так і час скароціцца для ўстаноўкі, і абагрэў будзе лепшы. Вось і паклікаў яго брыгадзір у той дзень, каб не марнаваць рабочы дзень і разам прыняць рашэнне.

І – збег акалічнасцей. Бетоншчык вечарам адказаў сцвярджальна на пытанне, ці замураваў ён сцяну фундамента пад корпусам. А раніцай, калі прараб з'ехаў да кацельні, рашыў выправіць свой падман – занёс туды колькі вёдзер раствору і пачаў ладкаваць сцяну. Пэўна ж, не чуў, што блізка гудзеў бульдозер, а мо і чуў, ды не надаў ніякага значэння – бульдазерыст жа раўняў пляцоўку.

А потым той жа бульдазерыст Гуліцкі патлумачыў, што і сам не ведае, як зачапіў тую злашчасную бетонную перамычку – да яе яшчэ было ладна адлегласці. Не думаў, што зачэпіць, і не думаў, што ўпадзе менавіта туды, дзе бетоншчык замуроўваў свой падман… І зноў жа – нешта ў гэтым здарэнні было не так, не лагічна, адным словам. Бульдазерыст – чалавек вопытны, можна сказаць, ювелірна працуе. Так аб ім адгукаваўся галоўны інжынер трэста, які даўно ведаў яго. А “сам не ведаю, як” – адказ для яго не падыходзіць, бо вельмі ж ненатуральна і бездапаможна выглядае. Новая экспертыза. Цяпер ужо на спраўнасць тармазной сістэмы. Колькі гадзін па просьбе Зінчука знаёмы механізатар “ганяў” бульдозер па пляцоўцы, што была побач з бальніцай. Праедзе метраў з дзесяць – тармозіць, зноў праедзе – рэзка спыняе…

На трэцяй гадзіне атрымаўся першы збой – тормаз на нейкія секунды выйшаў з-пад улады.  Праз паўгадзіны – тое ж самае.

Тады Зінчук піша ліст на завод – ці можа такое быць? Доўга не было адказу. І з аказіяй у тым горадзе быў следчы з суседняга раёна – і Зінчук папрасіў яго, каб заскочыў на завод да галоўнага інжынера. Той пісьмова пацвердзіў, што такое можа здарацца ў рэдкіх выпадках – калі бульдозер акажацца ў нахіленай плоскасці. Па тэхнічнай дакументацыі дапускаўся нейкі працэнт “непаслухмянасці”…

За паўгода, як цягнулася следства, Зінчук пабываў з дзясятак разоў на будаўніцтве аб’екта.

А аднаго разу нечакана наведаўся дадому  да Зубрыцкага, хаця той і не запрашаў яго да сябе… Вельмі здзівіў гаспадара і гаспадыню.

У двухпакаёўцы было ўтульна і ціха. Кнігі на паліцах шафы, тэлевізар у куце. Убачыў за шклянымі дзверцамі граматы. Не ўтрымаўся, нахіліўся, каб прачытаць.

– А гэта адкуль? – пацікавіўся, паказаў на адну , вялікую, якая адрознівалася ад стандартных, савецкіх, якія ўручалі будаўнікам светлага будучага.

– Гэта Цэдэнбал падпісаў. Будавалі мы ў Манголіі дамы. З жонкай былі. Тры гады.

– Спякотна было?

– Невыносна. Першы год думалі, што не вытрымаем. А потым неяк уцягнуліся.

Размова, адчувалася, не клеілася. Зубрыцкі адчуваў сябе няхай не скавана, дык па крайняй меры насцярожана, бо следчы не дзяліўся сваімі думкамі, трымаўся заўсёды аднолькава – сур’ёзна-разважліва, з задумлівым выглядам. Зрэдку ўсміхаўся, але гэта калі размова заходзіла пра нешта іншае, па-за межамі асноўнай тэмы.

Глядзелі фотакарткі ў альбоме. Васіль Андрэевіч тлумачыў, дзе і ў якім годзе былі зроблены здымкі. Сам шмат здымаў, быў вялікім аматарам фотапалявання.

– Гэта ў школе, разам з дырэктарам – Міхасём Пятровічам, а гэта ў вучылішчы будаўнікоў разам з сябрамі.

– А гэта?

– Кладзем першыя дамы. Здымаў завуч для стэнда будаўнічай школы…

– І колькі вы дамоў пабудавалі ў Гомелі? – спытаў Зінчук, загортваючы альбом. – Я і сам некалі быў падручным рабочым у муляра…

– Колькі? – перапытаў Зубрыцкі, узяў альбом, паклаў на паліцу за спінай. – Ды іх цяжка пералічыць. Амаль усе, што праспекце Леніна, які вядзе да вакзала. Потым – гасцініца, сам вакзал, дзве бальніцы, ну і высоткі – з дзясятак…

Госць крутануў ухвальна галавой, самкнуў губы, брыво выгнуў:

– Ого! Не кожны можа пахваліцца такой будаўнічай біяграфіяй. А самі ў такой малой пражываеце…

– Ды ў такім грамадстве жывем – робіш для іншых, а для сябе потым. “Раньше думай о Родине, а потом о себе”. Так, здаецца, у патрыятычнай песні гаворыцца?

– Так, усё правільна.

– З шаснаццаці гадоў пачаў класці цагліны. А пасля работы кіраваўся на заробкі – будаваў людзям падвалы. Пасля вайны ўсяго не хапала – яды, адзення… Але арганізм малады, вытрымліваў нагрузкі, хаця на галодны жывот цагліну не падымеш…

– Так, так, Васіль Андрэевіч… Ведаю па сабе. Памятаю.

Гарбата духмяная і пахкая. Ад кубка ідзе пара.

Зінчук любіў гарбату. Асабліва з палескіх зёлак. Ранней прывозіў з лесу цэлы мяшок, сушыў у цемнаце на скразнячку. Пакаваў у розныя пакеты і падпісваў.

Потым стала бракаваць часу, і пачаў купляць у бабулек гатовыя. Нават заказваў, прасіў, што неабходна было. А потым, як здарылася чарнобыльская катастрофа, у лесе нельга было збіраць ні грыбы, ні ягады, – адмовіўся набываць у незнаёмых людзей зёлкі. Але бабулькі ўсё роўна нарыхтоўвалі і прадавалі, не звяртаючы ўвагі на забароны і ўказы. Куплялі ў іх людзі багун і чабор, чагу і сухія чарніцы…

Ужо як змерклася, Зінчук апамятаўся – паабяцаў жа жонцы, што паможа з дзіцём, падменіць яе на гадзін колькі, пакуль яна паспраўляе ў горадзе свае жаночыя клопаты. Сварыцца, ведаў, не будзе, але пакрыўдзіцца – маўчаць будзе, нічога не гаворачы…

– Гарбата смачная ў вас, Васіль Андрэевіч. А мне пара. Дзякую за пачастунак.

– Ды няма за што. Можна было чым мацнейшым падмацаваць нашу гаворку.

– Іншым разам, Васіль Андрэевіч.

– А ён будзе – той іншы раз?

– Думаю, што будзе.

– А цяпер хоць атрымалася ў нас гаворка?

– Здаецца, атрымалася.

– Ну то і добра, Алег Антонавіч.

Зінчук пацiснуў руку, развітаўся.

Праз колькі хвілінаў ускочыў на прыпынку ў аўтобус, які давязе яго да мікрараёна "Гомсельмаша" – там ён жыў у маласямейцы на дзевятым паверсе новага дома…

12

Ён спаў, і сніўся яму дзіўны сон… Быццам нехта катурхае яго ў плячо, ды не нехта, а ён, яго вужык, ды крычыць яшчэ, трывожна непакоіцца…

Васілёк прахопліваецца, расплюшчвае вочы.

Перад ім, за паўметра якога ад твару, выдаўжыла старчаком галаву вялізная і тоўстая гадзюка. Глядзела на яго ўчэпіста, як быццам ён зрабіў ёй недаравальнае зло, быццам разбурыў і сагнаў яе са свайго селішча, альбо яшчэ горш – хацеў забіць, знішчыць… Ніводнай паўзучай істоты за ўсё сваё жыццё ён не пакрыўдзіў.

Гадзюка не варушылася – як нежывая была, як акамянела, але ў напрузе быў кожны мускул, кожная жылка.Дзве пярлінкі вочак адсвечвалі сонца, і яе позірк наводзіў на хлапчука жудасць і прыгнечаны страх. Пастушок разумеў: калі ён толькі рэзка ўзмахне рукою ці крутане галавой, нават вейкамі міргане, – яна адразу ж з маланкавай хуткасцю дзеўбане яго ў твар і ўвап'ецца сваім смяротным жалам у цела…

Вужык маўчаў, мусіць, адчуваў прысутнасць непажаданай і злой госці.

Вялікімі намаганнямі ён задушыў у сабе страх, расслабіў напружанасць, каб лягчэй авалодаць нечаканай сітуацыяй. Ён толькі напручваў розум, каб як найхутчэй прыняць тое адзінае рашэнне і выбавіцца з бяды… Нехта падказваў яму, што рабіць, як дзейнічаць. Васіль пакрысе пачаў адсоўвацца ад галавы гадзюкі, – але адсоўваўся незаўважна, адпаўзаў пакрысе, нібы яго вужык – міліметр за міліметрам, сантыметр за сантыметрам.Ён сачыў за ёю, не адрываў свайго позірку, як усё роўна стараўся загіпназаваць яе, пры-

мусіць здранцвець, адабраць у яе жаданне накінуцца на яго, адпрэчыць ад сябе…

Але чым далей пастушок адсоўваўся ад яе, – шэра-чорнай, таўшчынёй з руку дарослага чалавека, тым больш змяншалася пагрозлівасць і яго страх, ад якога ўжо і макавінкі не засталося.

Але не спяшаўся радавацца – ведаў: гадзюка, скруціўшыся кольцам, напруціўшыся, спружыніўшы, можа сягаць да пяці метраў…

Што адбывалася потым, Васілёк нічога не разумеў…

Ад яго, выпаўзшы з-пад палатнянай торбачкі, на гадзюку кінуўся вужык. Кінуўся імгова, што таго амаль не заўважыў. Як і не чакала і таму не заўважала гадзюка. Ён пачаў яе сціскаць, душыць, абвіўшыся па ёй. Толькі тады няпрошаная госця апамяталася, ды, мусіць, з вялікім спазненнем, – упала плазам на зямлю, пачала круціцца, выгінацца, скручвацца кольцам, спрабавала падскочыць, адарвацца ад зямлі. Але вужык учэпіста трымаў яе і не адпускаў, як чакаў, калі яе сябар – чалавек – дапаможа яму і заб’е гадаўку, якая толькі што пагражала смерцю… Але сябар не зрабіў таго, – у ім не было злосці і помсты, не было жадання забіваць жывую істоту, якую стварыў Вышні Творца, забіваць – грэх, нават калі вораг і жадаў забіць цябе… Ён толькі пахітаў галавой, як адхрышчваўся ад злачынства, каб потым не несці ўсё жыццё на сабе цяжар віны забойства безабароннай істоты…

Тады гадзюка дапетрыла, як вырвацца з абдымкаў абаронцы – злаўчылася і палезла паміж галінамі лазін, якія як не датыкаліся адна да адной. Напружвалася, што было сіл, аж дрыжэла, вельмі ж старалася скінуць з сябе вужыка… І – вылузалася, вышмаргнулася. І тады ж, не губляючы часу, пачала ўцякаць, баючыся, што вужык зноўку дагоніць яе і абаўе, як хмель алешыну, ды сцісне ад злосці, што яна вырвалася ад яго, яшчэ больш, яшчэ мацней, – шпарка выгіналася, шукала якую-небудзь шчыліну ці нару ў зямлі, каб знікнуць зусім…

Але вужык быў шпарчэйшы за яе – ён абагнаў свайго ворага, загарадзіў сабою дарогу, прыўзняў галаву. Тады гадзюка зашыпела, як кот на сабаку, калі той прыпяў яе да плоту, таксама прыўзняла галаву, як рыхтавалася да бойкі, і ў яе шыпенні было нешта пагрозлівае і злое.

Але толькі для Васілька, які назіраў за іх бойкай і не верыў сваім вачам, бо такога раней ніколі не бачыў, і мо не ўбачыць ніколі. Для вужыка, мусіць, яе шыпенне нічога не азначала, бо і ўджаліць яна яго не магла, – значыць, проста пужала, ведаючы, што і не напужае яго…

Быў бы тут Міхась Пятровіч, і яго здзіўкі ўзялі б! Не бачыў, мусіць, і ён такога відовішча. За ўсё жыццё раз ці ўбачыш вайну вужа і гадзюкі. Ніколі не мог падумаць і паверыць у тое, што вуж мацнейшы за гадзюку, што яна

баіцца яго, хаця ж і большая, а таму і мацнейшая… Значыць, не вага і моц тут адыгрываюць галоўную ролю…Але чаму вужык накінуўся на яе? Бараніў яго, Васілька, бараніў і помсціў, што яна мерылася адабраць у яго жыццё? Няўжо ён разумеў тое? Няўжо ён усё адчуваў і ведаў?!

Далейшыя падзеі здзівілі яго яшчэ больш.

У вужыка ўвачавідкі пачаў надзімацца хвост. Як шарык вырас на канцы – памерам з вялікую антонаўку. І тады пачаў ім махаць як булавой – цаляў, каб ударыць яе, прыглушыць… Тады гадзюка адчула новую небяспеку – пачала кідацца то ў адзін бок, то ў другі. А вуж працягваў біць сваёй хвасцінай – і ўсё па ёй, па ёй, як прыгаворваў усё роўна: “Вось так табе, гадаўка, вось так, будзеш ведаць, як на людзей джала сваё накіроўваць…”

Гадзюка напялася зноў, нечакана адскочыла ўбок, потым далей, яшчэ далей – сігала на метраў два-тры, паверыўшы ў сваё выратаванне, і шуснула ў лопухі… Вужык паспрабаваў пагнацца за ёю, але цяпер яму замінала яго зброя – “булава”… Гадзюка ўсё ж уцякла, нырнула некуды ў зямлю, у густое ламачча…

Неўздалёк ад пастушка апусціўся на зямлю бусел. Павадзіў галавой туд-сюд, як нешта выглядваў, і апусціў чырвоную дзюбу да зямлі. І тады як што скаланула Васілька – ён падхапіўся і пабег да бусла, адначасова трывожна думаючы: “Ён жа можа схапіць майго абаронцу і сябра!..”

– Кыш адсюль, бацян – ляці ў іншае месца, тут табе няма чаго рабіць!.. Вунь на балоты ляці – там шукай вужоў і жаб, а майго вужыка не чапай! Кыш, бацян, кыш!..

Бусел недаўменна глядзеў на хлопчыка, нават галаву павярнуў да яго, як папытацца хацеў, чаму гэта ён у абаронцы наняўся. Нехаця скокнуў раз-другі ад таго месца і, узмахнуўшы крыламі, плаўна паплыў у паветры над лугам... Вужык ляжаў на пакручастым карэнні бярозы і не рухаўся. Васіль не чапаў яго, як адчуваў, што ён знясілеў, і адрываць ад зямлі яго нельга: ад зямлі ён чэрпаў сваю сілу.

Праз нейкі час вужык прыпоўз да пастушка сам – знясілены, знямоглы. Паглядзеў у вочы, як быццам пытаўся ў сябра, ці дапамог ён яму, ці не крыўдуе на яго, вужыка… Лёг, скруціўшыся, на жывот і заціх.

Васіль наліў у далоньку з бутэлькі малака, але вужык не павярнуўся на ласунак, і выгляду не падаў, што ім авалодала смага…

– А ты ж мяне, братка, выратаваў. Нават у сон прыйшоў, разбудзіў, папярэдзіў… Пра бяду пачаў крычаць. А потым і ў бойку кінуўся, як храбры рыцар. Во, брат, як яно ў жыцці бывае. Тады скажы, чым мне аддзячыць табе за ўсё, якой цаной расплаціцца? Бо я не люблю быць вінаватым… А ты ж і сам рызыкаваў жыццём…

Падалося, што вужык ледзь-ледзь уздрыгнуў – як сядно пачуў яго словы, як усё роўна ўхваліў іх. Разумны ў яго сябрук, разумны і – самаахвярны.

Пастушок успомніў пра статак, паглядзеў туды, дзе ляжалі каровы. Пара прыйшла падымаць іх, раскартухаць ад сну, загнаць у мурожныя і сакаўныя травы, бо пад вечар, калі трэба будзе гнаць дадому, будуць хапаць на хаду ўсё, што пападзе пад ногі, быццам цэлы дзень не елі нічога…

Вужык і на гэты раз адмовіўся ад малака. І Васіль сунуў яго ў расшпіленую сарочку – няхай адпачывае. Падняўся, пайшоў да палянкі, дзе ляжалі рагулі. Толькі дзве ці тры падняліся з іх самі, адчуўшы, што прыйшоў час адпраўляцца на лугавіны і ўзболаткі…

Пашкадаваў хіба, што перамяніў месца адпачынку, і прыйшоў сюды, да малінніку… Хаця яно выглядала трошкі інакш – ён загуляўся з вужыкам і таму не ўбачыў, як каровы самі сабе выбралі гэтую паляну і, збіўшыся ў гурт, не захацеліісці далей… Каб жа ведаў… Усё магло скончыцца трагічна для яго. А можа і для вужыка…

– Пайшлі, браце, адсюль! – праказаў вужыку і пашыбаваў, ляснуўшы на хаду даўжэзнай пугай, як стрэліў сядно, да кароў: яны пачулі сігнал, і ўжо самі падымаліся, бачачы, як да іх ідзе пастух. – Страшная тут мясціна, цар смерці тут жыве, мо і балотны цар, бо не раз тут прападалі людзі і гавяда… Нездарма людзі абыходзяць гэтае месца, адкуль пачынаецца Чэрцень… У балоце чэрці толькі жывуць…

Зноў стрэл пугай, як усё роўна з дзедавай гарматы пальнуў, але вясёла ўжо на ўвесь голас крыкнуў:

– Эге-ге, кароўкі, напасу я вас сёння самай сакаўной травой. Наладжу вам свята сёння! Пайшлі адсюль!..

13

Раніца золкая, сцюдзёная. Яшчэ сцелецца па вадзе касмылямі туман, накручвае сівую бараду на голлі вербалозу і алешніку.

Тым годам моцна разлілася Чарацянка. Крушнікі раздзелены той рачулкай. Яна летам непрыкметная, вузкая, пераступіць можна. Летам праз кладкі людзі пераходзілі, калі трэба было перайсці з вуліцы на вуліцу, зімой лёд служыў пераходнікам. Вадзілася шмат уюноў у Чарацянцы, хлапчукі і дарослыя кломляй летам лавілі іх і насілі кашамі. Згубіліся берагі пад вадой, і новага берага не знайсці, не вызначыць – паводка разлівалася ўсё шырэй і шырэй, адваёўваючы ў зямлі ўсё больш і больш прасторы.

У Васіля лёгкі човен, які рабіў некалі бацька. Прасмалены добра, таму за столькі гадоў ні кропелькі не сапсаваўся. Узмах вясла – і човен нячутна

і доўга слізгае па вадзе, спрэс пакрытай шыгаллем і струхлелай карой, толькі чуваць, як яна журчыць, віхурачыся за кармой.

У затоцы ён паставіў надоечы жакі. Таксама ад бацькі, але і сам аднаго змайстраваў – маці навучыла плесці сетку, а дзед Міхась дапамог асадзіць. Заходзілі ў жакі ліны і шчупакі. Смачную тады маці гатавала юшку. Сушыла на зіму рыбу, тады ад таго кіслага баршчу, – з грыбамі ды сушанай рыбай, і за вушы не адцягнеш. Маці рыхтавала такія стравы падчас пасту. Сама пасціла і сына прывучала да таго. Малітвы з ім развучвала, вучыла звяртацца да Бога па дапамогу…

Недзе тут жа стаялі і жакі Рукана. Казалі хлопцы, што на чаўне плаваў, прыцемкам хаваўся ад людзей, – мусіць, не толькі ў свае жакі заглядваў… Падумаў пра яго і тут жа сплюнуў – з-за пакручастых карчоў выплываў, седзячы, выпнуўшы грудзі, ў чаўне, Рафал Рукан.

Не даплыўшы метраў з дзесяць, крыкнуў:

– Дык во хто, выходзіць, мае жакі пустошыць? Ну, тут я з табою і разбяруся. І за жакі, і за гадзюку, што ледзьве не ўджаліла мяне. Разбяруся без сведкаў.

Ён падграбаў бліжэй і бліжэй, стараўся як хутчэй даплысці да Васіля, каб сплаціць свой чорны доўг, адпомсціць, балазе, што нікога і не было вакол – сапраўды, мог адправіць на той свет і канцоў ніхто не знайшоў бы…

Васіль напяўся, бы струна, напруціўся, але адкінуў ад сябе ўнутраны страх – як і тады, пры спатканні з гадзюкаю, чакаў ужо, калі падплыве ненавіснік бліжэй. Нічога добрага ад Рафала не чакаў і ведаў, што жывым яго не пакіне – злосны і рашучы выраз твару пра тое гаварыў, і паратунку Васілю не было ад каго чакаць…

Падплыўшы амаль побач, выняў з вады важкае і доўгае вясло і замахнуўся ім, занёсшы яго за спіну, абдаўшы самога сябе кроплямі вады і шумавіннем, што злятала долу, вырачыў помсліва вочы, перакрывіўся тварам, адчуваючы асалоду помсты, нахіліўся ўбок, каб ямчэй ударыць…

І мог бы раструшчыць хлапчука, рассекчы яго на двая, як вострым мячом, – кляновае вясло важыла ці не пуд з гакам, і каня-стаенніка мог забіць…

І ўжо над галавой Рукана было занесена вясло, ужо скіроўваў яго на Васіля, ды злаўчыўся нечакана хлапец, у імгненне вока выхапіў з-пад ног дзедаву стрэльбу і, не цэлячыся, стрэліў некуды ўверх, туды, адкуль павінна было ляцець вясло-меч на яго галаву…

Выбух скалануў нізіну, рэха паляцела-паскакала па гладзі разліву і невядома дзе страціла сваю моц...

На галовы пасыпалася-пацерусілася здробненае лісце, што толькі ўбіралася ў сілу, і дробная труха – ад галін вербалозу… Вясло адляцела назад,

вырвалася з рук Рафала, і шчапа ад яго дробненька разляцелася ўбакі, асядала, як снег, у сінім дыме. Рукан тут жа, як камель, паваліўся ў лодку, выпусціўшы з рук рэшткі вясла – кароткае дзяржанне і засталося ад яго.

“Забіў?! Няўжо – забіў? – трывожна падумаў хлапчук, паклаўшы на дно чаўна стрэльбу. – Што ж цяпер рабіць? Уцякаць? А дубэльтку ўтапіць ці схаваць дзе, ды так, каб ніхто ў свеце не знайшоў… Але ж каму трэба, той знойдзе…”

Рукан, аказваецца, не ляжаў, а стаяў на ўсколенцах, сагнуўшыся ў чоўне. Калаціўся, баяўся нават падняць галаву.

“Жывы… Слава Богу – жывы”.

– Ану, сядзь, сволач! – загадаў Васіль. – Сядзь і паглядзі мне ў вочы. Нуууу!..

Рукан паслухаўся, сеў, павярнуў галаву. Твару не пазнаць – як у калюжыну з брудам пляснуўся: потны, страшны, перапалоханы да смерці, ніжняя сківаца адвісла, трэслася, зуб на зуб не пападаў… Ад таго Рукана – злоснага і агрэсіўнага – і следу не засталося, выглядаў ён нікчэмна і нічога чалавечага ў ім не засталося, быў падобны на злоснага звера, які папаўся ў цянёты і павінен быў адказваць за свае пачварныя ўчынкі па ўсёй строгасці чалавечага закону… На яго было прыкра нават глядзець.

Васіль чакаў, калі ў яго позірку з’явіцца нешта накшталт цікавасці ці ўвагі, адчуваў, што дрыготка ва ўсім целе не праходзіла. Калі ж ён, Рукан, паглядзеў на Васіля, як і было загадана напачатку, то ў вачах была мальба, каб ён не забіваў яго, памілаваў, зліітаваўся…

– Я ў дзеда купіў стрэльбу, каб цябе падпільнаваць дзе ў лесе і забіць, як звар’яцелага сабаку. За вайну, што немцам служыў і ніводнаму чалавеку не памог. За дырэктара школы, на якога ты настрачыў з Лёдзяю данос… За сябе і за іншых…

– Я не пісаў! – крыкнуў роспачна Рукан, зароў, як паранены звер.

У яго па твары цяклі, не перастаючы, чорныя брудныя пісягі, і мокрыя валасы звісалі на твар, хаваючы калючыя тхарыныя вочы, круціўся, як уюн на патэльні. Ад яго несла гаўном – мусіць жа ад страху наклаў у штаны. Наколькі здаваўся злосным і смелым, настолькі ж аказаўся баязлівым і палахлівым...

– Не ты? А хто ж тады ў ладкі пляскаў, калі “чорны воран” прыязджаў да дырэктара школы?! Не ты?А хто ж тады гаварыў: “Будзеш знаць, як быць разумнейшым за іншых!..”?

Рафал здрыгануўся, быццам Васіль не словам ударыў яго, а прыкладам стрэльбы, ды ў твар, між вачэй…

– Але дзед Міхась вельмі ж не хацеў, каб я чорную справу яго стрэльбай зрабіў. Прасіў, нават умольваў тое не рабіць. Я не буду забіваць цябе, я цябе

ўжо забіў. Смерць сваю, сапраўдную, ты і сам знойдзеш. А жакі я твае не браў. Чужога мне не трэба, тым больш твайго, тваё і ў горла не палезе… І скачы хутчэй у ваду, абмыйся, бо ад цябе патыхае як з прыбіральні. Ты – як тхор ванючы...

Рукан маўчаў, апусціў галаву. Сваім маўчаннем прызнаў тое, пра што здагадваўся Васіль і прыпяў яго да сцяны ганьбы – ён, і толькі ён са сваёй Лёдзяй загубілі, зняславілі чалавека, а тым самым і яго жонку і дзяцей – Рыту і Марынку… Рукан паслухаўся – скочыў у халодную ваду, і яна даходзіла да грудзей.

Васіль адплыў трохі ад яго, а на развітанне сказаў, павярнуўшыся:

– Калі ты толькі каму скажаш пра тое, што тут адбылося, можаш загадзя разлічыцца з жыццём. Не я, дык іншы адправіць цябе на той свет. Запомні. І апошняе – ніколі не пападайся мне на вочы. І калі ты з Лёдзяй падзелішся, і яна будзе мець што-небудзь да мяне, то…

Дрыготка пакрысе аціхала. Запознена падумаў: “А мог жа і забіць, каб стрэліў крыху ніжэй… Гадзюку не забіў, а чалавека мог бы… “

І ён наклаў на сябе крыж, як вучыла маці, прашаптаў: “Змілуйся над намі, Божа, і даруй…” Абагнуў зялёны астравок з сухім дубам, на вільчыку якога было змайстравана буслінае гняздо.

“Будзе помсціць? Хто яго ведае… Наўрад ці. Але са стрэльбай разлучацца нельга. Пажывем-пабачым… А напужаў я яго, здаецца, здорава. Хай ведае, што і на яго ўправа ёсцека…”

Падплыў да свайго жака, выцягнуў яго за схаваную вяровачку. Пачуў, як заплёхкалася некалькі буйных рыбін – соладка забілася сэрца: будзе смачная вячэра. Прыемна, калі дадому вяртаешся не з пустой торбачкай…

Але ў душы сядзела народжанае самае галоўнае задавальненне – ён адчуў у сабе мужчыну. Смелага і адчайнага.

Бацька быў бы ім задаволены. А што? Калі сам за сябе не пастаіш, хто ж цябе абароніць?

Па рыбу ён падаўся хлапчуком, а дадому вяртаўся амаль дарослым чалавекам.

14

– Мо б ты, сынок, маліны гладыш назбіраў, пасучы кароў, – папрасіла аднаго дня маці, – варэння на зіму зварылі б… Ад прастуды добра, ды і так, з гарбатай паласавацца… А то я з-за сваіх каровак ніяк не выберуся…

Маці працавала даяркаю і даіла каля сотні кароў. Колькі год ужо на той ферме, Васіль і не памятае.

– Заўтра па абедзе паганю кароў да малінішча. Пакуль ляжаць будуць, то і назбіраю. Там ягад – процьма.

– Ды хаця ж, Васілёк, не забудзь добра абуцца – гадаўя там шмат.

– Добра, мамо, не забуду.

Сын праз колькі хвілінаў заснуў, засоп, як дарослы. І маці з кожным днём адзначала пра сябе, што сын робіцца тварам падобны на свайго бацьку – Мікіту.

Вужык ужо колькі дзён не выпаўзаў са свайго жытла – з-пад пня: ці то хварэў, ці запоўз куды ў іншае месца. Васіль і не перажываў, ведаў, што адшукаецца яго сябра – не сёння, дык заўтра…

Калі сонца стала над галавой, калі паказвала на поўдзень, прыгнаў статак да малінішча, пачакаў, калі каровы пастануць, а потым і лягуць у цені. Тады з гадзіну, а мо і болей, ён можа быць спакойны за іх – не сыдуць з месца, а ён за гэты час выканае матуліну просьбу.

Адразу ж падаўся ў маліннік – густы, высокі, амаль у яго рост, а то і вышэй. Прычапіў спераду сябе гладыш, каб зручней было рваць маліну – у дзве рукі. Ягадзіны буйныя, крамяныя, яшчэ не пераспелыя, акурат у саку, самі ў рот прасіліся. Гладыш напаўняўся хутка, і быў ужо амаль да верху – жменькі тры ці чатыры засталося ўсяго. Укінуў колькі жменяў у рот, каб і самому паласавацца такой смакатой.

І – не ўбярогся, як прасіла маці. Падцікавала ўсё ж яго гадзюка, пеканула джалам у лытку праз парваную калашыну. Ці то наступіў на яе і яна так абаранялася, ці то тая самая, якая неўзлюбіла яго і чакала яго, сачыла-назірала за ім… А мо і за вужыка помсціла, хто ж пра тое ўведае… Ён і не бачыў яе, а толькі адчуў, як быццам хто дакрануўся да нагі жарынай з агню, ці як хто сярнічку запаліў ды ткнуў у цела…

Выскачыў на прагаліну. Перш-наперш закасаў калашыну – і ўгледзеў сляды ўкуса – дзве жоўтыя кропачкі. Нага пачала апухаць на вачах. Ведаў, што ісці цяпер небяспечна – ад напругі атрута можа расцячыся па венах і дайсці да сэрца. І стаяць не выпадала – трэба было шукаць якой-небудзь рады. Успомніў, што непадалёк дарога пралягала на Бобрык, кудой часта хадзілі машыны – вазілі на мазырскі прамкабінат лес.

Паскакаў на адной назе, апіраючыся на дручок, здагадаўшыся перад гэтым перавязаць раменьчыкам нагу вышэй дзвюх жоўтых кропачак. Спыняўся часта, узмакрэў, але праз якое паўгадзіны выбіўся на галоўны шлях. А яшчэ праз паўгадзіны з боку Бобрыка паказалася гружоная лесам машына.

– Дзядзечка, падвязі да горада – мяне гадзюка ўкусіла, – папрасіўся ён, калі машына спынілася і з кабіны выглянуў пажылы, у паношанай майцы, вадзіцель.

Той усё зразумеў, адчыніў дзверцы з другога боку, загадаў:

– Сядай, падвязу!

І ўсю дарогу назіраў за ім, супакойваў, што ў бальніцы дактары хутка дадуць яму рады і ён вечарам вернецца дадому.

Што ні рабілі дактары, нічога не дапамагала. Давалі ўколы і таблеткі, пералівалі кроў і ставілі кропельніцы, а нага была што бервяно – ні стаяць на ёй, ні паварушыць нельга было…

Так і выпісалі праз тры дні дадому – дактары бездапаможна развялі рукамі.

Маці здагадалася, найперш сэрцам адчула, што раз не вылечылі, то адправілі дадому… паміраць. А Васіль нічога не ведаў, нават не здагадваўся ні пра што, бо верыў таму, што сказаў вадзіцель, што падвозіў яго да самай бальніцы, сказаў, давёўшы да дзвярэй прыёмнага пакоя: “Медыцына ў нас самая лепшая, савецкая, падлечаць як трэба…”

Ён і радаваўся, калі ехаў з маці дадому – на калгаснай фурманцы, думаў, што яго вылечылі, і цяпер усё пойдзе на папраўку.

Мальвіна папрасіла старшыню калгаса Дубікоўскага, каб даў падводу прывезці сына з бальніцы. Старшыня не адмовіў, уважыў жанчыну.

Дачуўся пра лясное здарэнне Васілька дзед Міхась. Ранічкай прытрухаў да хлопца.

– Што, ёлкі-маталкі, не ўбярогся?

– Не ўбярогся, дзядуля. Яна, гадаўка, даўно палявала за мною, я ведаю. Апошнім разам уратаваў мяне вужык, а тут я сам падсунуў ёй сцягно…

– Пакажы, нябожко, сваю нагу…

Стары мацаў, круціў і так, і гэтак, хмурыўся аднак, хітаў галавой, і пільна глядзеў на хлапчука – як церпіць боль.

– Пазнавата, ёлкі-маталкі, але паспробуем. Чаму ж адразу, як здарылася тое, не прыйшоў да мяне? – злаваў дзед і кашчавымі рукамі не пераставаў абмацваць нагу.

А яна была ўся сіняя, як не чорная, не было бачна пражылкаў.

– Машына акурат ехала ў Мазыр – падвёз шафёр. Ён жа і памог мне адразу да дактароў…

– Да дахтароў, да дахтароў… Ну, што твае дахтары? Дадому выкінулі цябе. Як паміраць сядно. Ты мне вось што, ёлкі-маталкі, скажы: ці зможаш паказаць тую мясціну, дзе яна жыве, дзе ўкусіла цябе? Ну, маліннік той знойдзеш?

– Ды ведаю я яго добра – Гіблае балота, пачатак Чэрценя. А навошта табе?

– Эх, ёлкі-маталкі! Адабраў ты ад мяне юнацтва, а старасць я табе і сам аддам, – уздыхнуў дзед, паклаў рукі на кавеньку, падпёр бараду, прымружыў на момант вочы.

Таго, што сказаў дзед Міхась, Васіль не зразумеў. Пра стрэльбу зразумеў – яна яго маладосць. А як жа ён можа адабраць у яго старасць? Але спытаць не паспеў – яго зноў ахутаў імгновы сон, і ён ужо нічога не чуў, нікога не бачыў…

… – тут вось, – паказаў Васіль на малінавыя зараснікі.

– Ну, добра, пасядзі пакуль на возе, а я паразмаўляю з тваёю крыўдзіцелькай. Пачакай мяне – я не забаўлюся…

Дзед пайшоў да малінніка, сеў на грудок, адвярнуўшыся ад хлапчука.

Потым Васіль пачуў, як дзед Міхась пачаў ціхенька працяжна насвістваць – цягне доўга, а потым перастае… Зазыўны быў яго свіст, усё роўна як з некім размаўляў на незразумелай мове. Пасвішча – і перастане, перапынак зробіць, пасля зноў так, але ўжо трошкі даўжэй, – і зноў нечага чакае. Дзіўна было збоку назіраць за дзедам, бы не пры сваім розуме ён быў, бы здзяцінеў.

Пра старога ў Крушніках паданні цэлыя хадзілі.

Ён лячыў ад пуду, нават жывёлу на ногі ставіў. Мог сказаць, дзе знаходзяцца каровы, якія адбіліся ад статка і намерыліся начаваць у лясных нетрысках. Валодаў ён нейкім таямнічым дарам. Пэўна ж, адчуваў, як ніхто, душу і сэрца не толькі чалавека, а і ўсяго жывога на зямлі. Прыязджалі да яго з розных і далёкіх краёў. Нават і з Сібіры.

Бацькі прывезлі, сам бачыў Васіль на свае вочы, дзяўчынку да старога. Запомніўся чамусьці яе чырвоны банцік на галаве. Дзяўчынка не магла хадзіць – адняліся ногі. Бацька занёс дзяўчынку на руках і пасадзіў на дзедаў ложак. Дзед Міхась пагладзіў яе па косках, папытаўся, як мама яе назвала, потым нешта шаптаў над яе галавой. Пасля паклаў на ногі кужальнае прасціradла, запаліў над ім кастрыцу.

Ульянка, так звалі дзяўчынку, заснула на вачах у бацькоў. Праспала некалькі гадзінаў. А калі прачнулася, то і забылася на сваю хваробу, па загадзе дзеда ўстала і пайшла сама на вуліцу…

Сібіракі давалі дзеду вялікія грошы – азалаціцца можна было, а ён узяў усяго з іх траячку. І не больш. Так ён браў з усіх, каму памагала яго лячэнне. Калі ж настойвалі на большым дарунку за тое, што ён вылечыў хваробу, то ён, злуючыся, адказваў:

– То не я вылечыў, то Святая Тройца яго вылечыла… Адсюль і траячка.

А ўжо даўно дзед не займаўся знахарствам-лячобай. Не таму перастаў займацца гэтым, што даймалі яго раённыя ўлады, лічачы яго шарлатанам, нават у газеце пісалі нядобрае пра яго, а адчуў, што не мае больш на тое моцы…

Урачы, мусіць, баяліся, што дзед Міхась адбярэ ад іх хлеб і падарве аўтарытэт савецкай, самай перадавой медыцыны ў свеце…

Адчуў, што з гадамі страціў сваю цудадзейную сілу як народны лекар, а падманваць людзей сваім бяссіллем не хацеў.

Здарылася бяда ў галоўнага ўрача раёна – дачка, скончыўшы сярэднюю школу, здаўшы выпускныя экзамены, перастала хадзіць, і ў яе адняло мову. Вазіў ён яе па самых лепшых клініках і інстытутах – і нідзе не маглі даць рады. А потым нечакана, сярэдначы, каб ніхто не бачыў, прывёз да лекара.

З першага разу не памагло. Прывозіў яшчэ разы са тры… І адбыўся цуд ці не цуд, але дзед паставіў выпускніцу на ногі… І галоўны ўрач навёз яму процьма падарункаў і даваў вялікія грошы. Дзед усё роўна папрасіў толькі траячку, чым нямала здзівіў слугу Гіпакрата.

Дзед Міхась зноў пачаў свістаць-насвістваць аднастайную песню, абапершыся на кавеньку, апусціўшы галаву. Васіль не зводзіў з дзеда вачэй – чакаў таксама нейкага цуду. Добра бачыў, як дзед сагнуўся, ухапіў нешта з зямлі, узяў у руку. Калі ж устаў, выпраміўся і ішоў да воза, убачыў, што стары трымаў вялізную чорную гадзюку. А яна вырывалася, круціла хвастом, старалася абвіць руку дзеда, біла нават яго па баках, як пугай… Ён паднёс яе блізка да твару, зазірнуў у вочы:

– Ты ўкусіла, нягодніца, га? Прызнавайся, палкі-маталкі… – дзед гаварыў з ёю як з чалавекам. – Гэта ж трэба, што ўдумала… Цяпер што – цяпер сама і лячы свой укус… Так што даруй, і не сярдуй, ёлкі-маталкі…

Дзед Міхась усунуў ёй у пашчу канец кавенькі – абламаў атрутны зуб, а потым узяў пальцамі за дзве сківіцы, і разадраў гадзюку аж да самага хваста.

– Закасвай, Васілько, барджэй калашыну! – загадаў тут жа строга стары, ператварыўшыся на вачах хлопца ў нейкага іншага чалавека – чараўніка ці казачніка – адкуль толькі такая рухавасць і спрыт у яго?

Васілёк пастараўся хутка выканаць строгі дзедаў загад, але калашына згарнулася толькі перад каленам. Тады ён здагадаўся зрабіць інакш – дастаў з кішэні сцізорык, які захапіў з сабою, разрэзаў зусім калашыну…

Дзед укленчыў, пахваліў хлопца за спрыт, паклаў нагу сабе на плячо, а гадзючыным крывавым мясам пачаў абгортваць сінюшную нагу – адной палоскай, а пасля і другой… Пасля выцягнуў з кішэні палатняны рушнічок, абкруціў паверх усяго і абвязаў у дадатак кужэльнай ніткай. Каб шчыльней да цела прыставала крывавая мякаць… Хлопец адвярнуўся, не могучы глядзець на такое – чамусьці стала страшна, яго зноў пачалі трэсці дрыжыкі, не хапала дыхання і ён пачаў хаўкаць, як рыба, выкінутая на бераг. Усё закружылася і паплыло перад вачыма. Сплыў некуды дзед Міхась, пра-

паў з відавоку маліннік, адкуль чараўнік вымусіў выпаўзці велізарную гадзюку…

Потым дзед адвёз яго на возе дадому – ён і не чуў, як трэсла воз на карнявішчы, як павольна конь ішоў па цубкай зямлі машыннай каляіны.

Спаў Васіль трое сутак запар.

На чацвёртыя прыйшоў дзед да яго і чакаў, калі сам прачнецца. Маці трывожна глядзела на сына, раз-пораз падыходзіла да яго, услухоўвалася, ці дыхае хоць. Дзед позіркам праганяў яе, баючыся, каб яна раней часу не пабудзіла Васіля. Прачнуўся ён самахоць перад абедам – апоўдні. Расплюшчыў вочы, паглядзеў абыякава на дзеда і на маці, адвярнуўся і зноў заснуў. Вось тады дзед і зняў з яго, соннага, шэрыя "бінты". Вынес потым усё на поплаў, і перад самым заходам сонца спаліў на раскладзеным агні. Попел прысыпаў зямлёй.

Спаў Васіль і чацвёртыя суткі…Дзед не адыходзіў ад яго – не спаў, сядзеў побач. Хлапчук прачнуўся і адразу папрасіў піць. Маці прахапілася ад дрымоты, паглядзела на Міхася, позіркам спытала, што рабіць.

– Дай, Мальвіна, вось гэтай вады – з крыніцы. Я набраў спецыяльна для яго… От дзякуй Богу, атрымалася ў нас, хлопча, з табой, атрымалася… А я, дурны, не верыў, ёлкі-маталкі!.. Маці ўзяла ад дзеда бутэльку з-пад сітра, наліла ў кубак і паднесла да губ Васіля. Ён выпіў цэлы кубак і яшчэ папрасіў.

Вочы ў хлопца светлыя, жвавыя, радасныя. У грудзях расла радасць. Як быццам аднекуль вярнуўся і цяпер рады свайму вяртанню. Не вытрымаў, паглядзеў на сваю нагу з разрэзанай калашынай, не вытрымаў, крыкнуў моцна, на ўсю хату:

– Мамка, а мамка, паглянь, якая ў мяне цяпер нага!

Мальвіна падышла да яго, агледзела нагу: і знаку не засталося ад пухліны. Дзіва ды і толькі! Жанчына заплакала, абняла сына, а потым дзеда Міхася, скрозь слёзы гаварыла:

– Дзякую, дзядулька, ты ж выратаваў мне сыночка!

– Не я, Мальвіна, то Бог вам дапамог. Яму падзяку кажыце.

Стары падняўся з табурэта, паляпаў па назе, стомлена заўсміхаўся, праказаў:

– А ты кажаш – "дахтары, дахтары"… Ёлкі-маталкі… Пайшоў я. Цяпер мне спаць трэба, а ты ўжо не хвалюйся – хвароба адступіла. Ох, ні дна мне ні пакрыўкі, ні маладосці ні старосці… Палкі-маталкі… Ну, будзьце! З Богам!

Стары не дазволіў сябе праводзіць. Нагінкам нырнуў у прачыненыя дзверы, радуючыся, што стварыў цуд.

Апошні ўжо ў сваім жыцці цуд.

15

На трэці дзень, калі пачаліся заняткі ў школе, пастушок закінуў на гарышча пугу.

– Хопіць ужо, – сказала, як адрэзала Мальвіна, калі да іх наведалася зноў Панцэсіха і другія вяскоўцы, каб яшчэ раз папрасіць хаця б трохі папасвіць статак, упрошвалі, умольвалі, абяцалі павысіць плату ўтрая. – Што ж ён, невукам павінен расці? Усё. Няхай хто іншы паспытае гэтага хлеба…

– Мы ў школе дамовімся – завуч дазволіць. – Мы гаварылі з Лёдзяй ужо… Яна не супраць.

– Вось для сваіх дзяцей і дамаўляйцеся, – стаяла на сваім Мальвіна. – А майму вучыцца трэба. Ды і пасля хваробы сілаў яму трэба набірацца.

Пасля апошніх слоў просьбіты замоўклі, пайшлі дадому…

...Ад дырэктара школы Крупы не было ніякіх вестак. Куды толькі ні пісала жонка, нічога пэўнага не адказвалі. Рыта прыходзіла ў школу сумная, заплаканая. Не мог глядзець на яе такую Васіль, сам гатоў быў заплакаць, узяць яе боль сабе – так кахаў і шкадаваў дзяўчынку…

– Дзеці, сёння застаньцеся пасля ўрокаў, – папрасіла-загадала пад канец урокаў Леакадзія Гаўрылаўна – была яна ў белай кофтачцы, у чорным пінжаку і такой жа спадніцы. – Будзем пісаць пісьмо.

– Якое пісьмо? – не зразумелі дзеці. – Каму?

– Ліст таварышу Сталіну.

Тэкст пісьма правадыру быў падрыхтаваны загадзя – яшчэ дома. У ім школьнікі павінны былі падзякаваць бацьку Сталіну за шчаслівае дзяцінства, за школу, за тое, што ён умела выкрывае ворагаў народа. Вучні павінны былі яшчэ прызнаць сваю віну ў тым, што не ўгледзелі ў былым дырэктары школы Крупе замаскіраванага ворага народа, які вучыў дзяцей не па школьнай праграме, а вёў антысавецкую прапаганду сярод іх, вучняў…

Ціха ў класе. Схіліла галаву Рыта. І Васілёк бачыць, як у яе са шчок коцяцца на рукі слёзы – сэрца разрываецца ў яго, і ён ужо шкадаваў, што не забіў тады Рукана, і як было б добра, калі б і Лёдзя плыла з ім у чаўне. То з-за іх плача Рыта, то з-за іх пасялілася гора ў іх хаце…

– А ты не павінна плакаць, Рыта, – падышла да яе завуч школы. Голас у яе ласкавы і амаль пяшчотны, як не матчын, у вачах – сама дабрыня і спагада, рухі ў яе павольныя і плаўныя, ну хоць абраз з яе пішы. – Ты павінна радавацца, што ў вашай сям’і няма больш ворага савецкага народа – і на табе не будзе плямы: дочкі за бацькоў не ў адказе. Вунь як Паўлік Марозаў – роднага бацьку выдаў, бо ён кулак быў. І ты магла б, як Паўлік, раней расказаць нам пра бацьку – Сталін і заклікае нас да пільнасці…

У дзяўчынкі закалаціліся плечы, яна заплакала ўголас і не магла ўжо стрымацца ад слёз. Нічога не казала ў адказ. Коршакам гатоў быў кінуцца на настаўніцу Васілёк, учапіцца ў яе горла, здушыць, каб яна і не прамаўляла такіх крыўдных і абразлівых слоў.

– Дзеці, мы адправім гэтае пісьмо ў Крэмль. І такое ж дашлем у раённую газету. Гэтым самым мы прадэманструем сваю адданасць таварышу Сталіну – нашаму правадыру і генію ўсяго чалавецтва, і пакажам, што мы з вамі згуртаваныя і моцныя.

Праз два тыдні ў газеце “Сталінскі набат” з’явілася пісьмо школьнікаў Крушніцкай школы. Сярод подпісаў пад пісьмом было і прозвішча Васіля Зубрыцкага. І Рыты Крупа.

У той дзень ён у школу не пайшоў, а пабег да свайго сябра – вужыка. А той ужо чакаў яго, грэючыся на пні – на сонцы. Набліжалася ўжо Ўздзвіжанне, і Васіль баяўся, што можа не заспець свайго сябрука – мог запаўзці на зіму ў сваю нару. У гэтыя дні ўсе паўзучыя хаваліся ў свае норы.

З ім гуляў цэлы дзень, сваволіў, смяяўся, хаваючы за смехам свой прыгнечаны настрой.

– Цяжка мне, вужык! – прызнаваўся ён. – Так цяжка, што і спасу няма. З-за Рыты, з-за яе бацькі. З-за несправядлівасці. І чаму жывуць на зямлі жорсткія і злыя людзі? Чаму іх не карае Бог?

З вужыкам і прыйшоў раніцай у школу. Зайшоў у настаўніцкую, падышоў да завучыхі, спытаў знарок фамільярна:

– Лёдзя, а я ставіў свой подпіс пад пісьмом? І Рыта не ставіла і не пісала тое пісьмо.

Яна сумелася, пачырванела ад злосці і нахабнасці вучня, акінула позіркам настаўнікаў, што былі ў настаўніцкай – шукала падтрымкі:

– Мы ж пра ўсё дамовіліся тады пасля ўрокаў. І ты нічога не гаварыў супраць.

– Але ж я і не гаварыў “за”. Ці не так?

– Гэта не мае аніякага прынцыповага значэння.

Настаўнікі знарок адвярнуліся, як не хацелі назіраць за сцэнай, якая адбывалася на іх вачах.

– Не мае? Ах, не мае?

Ён выняў з кішэні картовага пінжачка руку, раскрыў далонь і паднёс да твару. Вужык рэзка ўзняў галаву і, здаецца, гатоў быў дзеўбануць завучыху ў нос… Лёдзя ўскрыкнула, а потым моцна закрычала, ускочыла на стол. А потым асунулася, упала на журналы і сшыткі, няўцямны позірк яе гаварыў, што яна блізкая да таго, каб знепрытомнець, а мо і насамрэч самлела…

– Змяя ты, і брат твой – падкалодны змей, і ўсё ваша кодла гадзючынае! – крыкнуў скрозь слёзы Васіль, укінуў запазуху вужыка, – то вы настрачылі данос на Міхася Пятровіча, мне твой брат прызнаўся, пацвердзіў… Не верыш, спытай яго… Будзе вам кара – Бог усё бачыць і чуе!

Ён ляснуў, што было сілы, дзвярыма, выбег у калідор, а пасля і на вуліцу…Бег у лес, бег туды, дзе жыў яго вужык, бег, каб упасці на зямлю і выплакацца, пра ўвесь свой боль расказаць вужыку, папрасіць у яго парады і помачы…

Разрывалася дзіцячае сэрца ад невыноснага болю, не ведаў, куды падзець сябе, дзе знайсці паратунак…

Назаўтра Васіля Зубрыцкага, вучня шостага класа Крушніцкай васьмігодкі, выключылі са школы. А яшчэ праз тыдзень Лёдзю прызначылі дырэктарам. І праз колькі дзён стала вядома, што ў далёкай тундры, дзе зняволеныя крыжавалі лес, на Калыме, не стала Міхася Крупы – разарвалася сэрца.

Праз нейкі час незнаёмы чалавек прыехаў да жонкі дырэктара школы. Яна якраз дома была – адна, без дзяцей.

– Наталля Пятроўна, я з вашым мужам доўгі час быў побач. Не стала яго на маіх вачах… Ён для вас употай пісаў пісьмо. Доўгі час пісаў. Які ён быў у вас разумны чалавек і адукаваны! Вечарамі, калі быў вольны час, мы ўсе прасілі яго, каб чытаў нам што-небудзь… Ад рускіх мы чулі Пушкіна і Дастаеўскага, ад украінцаў – Тараса Шаўчэнку, а Міхаіл Паўлавіч нам чытаў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча…

Наталля Пятроўна скрушна маўчала, слухала. Слёз не было – яна даўно выплакала ўсе. Ён паклаў перад ёю тоўсты пакунак-канверт з карычневай паперы, якой абгортваюць на пошце бандэролі.

– У канверце яшчэ і гадзіннік – “Победа”. Ён прасіў, каб вы аддалі яго Васілю Зубрыцкаму – яго лепшаму вучню. Калі вам цікава ведаць падрабязна і больш пра Мішу, то я магу расказаць. Але не сёння. Праз нейкі час магу прыехаць.

Жанчына на знак згоды паківала галавой. У яе ад нечаканасці не было сіл гаварыць, горла сціснуў даўкі камяк.

– А цяпер мне пара. Даруйце, што растрывожыў вам сэрца. Мы ганарыліся вашым мужам, ганарыліся, што на Беларусі ёсць такія вялікія людзі. Вялікія педагогі. Шчырыя, таленавітыя… А яму я жыццём абавязаны. Але то ўжо іншая размова…

Незнаёмы ўстаў з табурэткі, не ведаў, што больш сказаць жанчыне.

Падышоў да фатаграфій, што віселі на сцяне пад шклом у драўляных рамках. У цэнтры было фота нявесты Наталлі і жаніха Міхася.

– Божачка, якая прыгожая пара!… – уздыхнуў мужчына. – Маліцца на такіх людзей трэба, а яны, душагубы… Нелюдзі… Я пайду, Наталля Пятроўна. Не праводзьце мяне. Ведаю, што ў вас на сэрцы…

Калі ён падышоў ужо да дзвярэй, жанчына, перасільваючы сябе і ўнутраны боль, папыталася:

– Як зваць цябе, чалавеча?

– Цёзкі мы з вашым мужам. Міхал Генрыхавіч я. Фіцнер.

– Дзякуй вам за ўсё, Міхал Генрыхавіч!

Ён ужо праходзіў паўз вокны – відаць была яго галава. Быў ён белы-белы, як пакрыты срэбрам. А гадоў яму было, як вызначыла Наталля Пятроўна, пад сорак. Мо трошкі больш…

Доўга і маўкліва сядзела яна за сталом, гледзячы на пакунак. Глядзела і баялася дакрануцца да яго, бо адначасова вялікая радасць і гора маглі парушыць душэўнае слабенькае суладдзе…Жанчына схавала пакуначак у патаемнае месца, дзе не маглі знайсці дзеці, а прачытаць яго рашыла толькі тады, калі падкажа сэрца…

... Перад самым Уздзвіжаннем, за дзень да яго, калі ўсе вужы збіраліся ў калоніі і выгравалі бакі пад промнямі сонца бабінага лета, калі Васілёк развітаўся са сваім сябруком да наступнага лета, – быў ён апошнімі днямі вялым, калі адышлі позння апошнія баравікі, – у той дзень ў хаце Зубрыцкіх адбылася радасная падзея.

У іх хату зайшоў невядомы салдат.

Зайшоў нячутна, не бразнуўшы клямкай у сенцах, ні тэпнуўшы падэшвамі салдацкіх ботаў аб падлогу, – увайшоў у хату як здань, як прывід, і стаў маўкліва на парозе, стаяў і ўсміхаўся, радасна і шчасліва глядзеў на тых, хто быў у хаце…Мальвіна сядзела каля акна і шыла сабе сукню. Так захапілася сваёй працай, што нічога і не чула. Васілёк загалуніўся сваім – падбіваў чаравікі, што пакінуў некалі бацька, і якія ўжо “прасілі есці”.

Найперш адчуў, чым убачыў, што нехта цікуе за ім, назірае. Нават ведаў, адкуль сыходзяць тыя промні ці позірк – злева, недзе каля дзвярэй…

Нехаця адарваўся ад чаравіка, кінуў позірк у парог.

Рот разявіў ад здзіўлення і нечаканасці, слова не мог вымавіць, як скамянеў, вочы акругліліся…

– Ма… ма… – сіліўся пра нешта сказаць маці, ды не мог з сябе выцягнуць больш нічога, і маці не пачула яго, больш таго, нейкую сваю песню наспрабавала ціхенька напець…

– Дзень добры вам у хату! – урэшце павітаўся салдат, але прамовіў словы не гучна, каб не напалохаць, ставіў ля ног пашарпаны чамаданчык, скідваў

з плячэй рэчавы мяшэчак. – Не ажыдалі, бачу, мяне? Факт, не ажыдалі… Зусім забыліся пра мяне…

Маці доўга не магла ўцяміць, што адбывалася. Адкуль і калі з’явіўся ў хаце невядомы вайсковец? Але ж адразу і ўцяміла, што не незнаёмец завітаў да іх, не… А яна ж столькі выглядвала на дарогу, а колькі начэй услухоўвалася ў начныя гукі, а ён, сын, з’явіўся раптоўна, як снег на галаву – і па двары пад вокнамі не праходзіў, мо хіба агародамі… Як з неба зваліўся.

Яна сілілася ўстаць, але не змагла – адняліся ногі, толькі выдаўжыла рукі, галасна і радасна загаварыла:

– А сыночак ты мой дарагі! Сяргейка, як аслепла сядно я – нічога не бачу, і падняцца не магу, радасць сілу адабрала!..

Ён сам падышоў да яе і абняў, прытуліў да сябе, знямоджаную, слабую і лёгкую, як пярынку, і не адпускаў, слухаў, як узбуджана б’ецца яе спакутаванае сэрца.

Маці плакала радасна і шчасліва, увесь час шаптала яму нешта пяшчотнае і патаемнае, як даўно падрыхтаваныя і прадуманыя словы – і яны ліліся з самага сэрца, з донца яе душы…

Васіль жа не пазнаваў брата – высокі, галава аж у столь упіраецца, плечы – упоравень з дзвярыма, такія шырокія. Ага ж, во што яшчэ, напэўна, збіла з панталыку – брат насіў вусы. А памятаў жа яго не такім – маўклівым і хударлявым, невысокага росту.

Забіралі яго на трэцім годзе вайны. Васіль з хлапчукамі праводзіў строй дапрызыўнікаў за вёску, амаль да Каменя – трымаў увесь час брата за руку. А потым, вярнуўшыся дадому, доўга спрачаліся, хто з навабранцаў больш за ўсіх заб’е фашыстаў…

І Васіль не вытрымаў, таксама кінуўся да брата – прытуліўся да яго, як і маці, сціснуў абаіх у абдымках, адчуваў, як па грудзях разліваецца, распірае ўсяго, шчымлівая радасць…

– А я і не пазнаў цябе, – прызнаўся малодшы брат, усё яшчэ не адрываючыся ад салдата, – перамяніўся вельмі…

Васілёк заўважыў, што Сяргей хавае слёзы, уткнуўшыся ў матчына плячо. Калі адарваліся адно ад аднаго, калі паселі на лаўку і ўжо толькі глядзелі на дэмабілізаванага салдата, маці ласкава дакарала сына:

– Чаго ж не напісаў, калі прыедзеш – сустрэлі б на станцыі, каня папрасілі б у старшыні…

– Я і сам не ведаў, калі прыеду.

– Ой і заждаліся мы цябе, сынок, ой як доўга ты не вяртаўся… А то Васілёк усё пытаецца, калі ды калі ты прыедзеш… А вот жа і прыехаў, радасць якая ў нас у хаце!

Сяргей пайшоў да парога, каб узяць чамадан і заплечнік, і маці з Васілём убачылі, што ён накульгваў на адну нагу. Не спытала пра тое, на пасля перанесла, калі прыйдзе час, то і сам раскажа, галоўнае, што жывы і здаровы вярнуўся з тае страшнай вайны – рукі цэлыя, галава, а астатняе…

Ад Сяргея патыхала дарогай і цягнікамі, махоркай і пылотай дарог, потам і яшчэ нечым церпкім, але да болю дарагім і знаёмым, ад чаго ў Васілька шчымліва заходзілася-трапятала сэрца: “Прыехаў, прыехаў Сяргейка!.. Цяпер жыццё пойдзе па цвярдзейшай дарозе… Вось толькі каб са школай уладзіць…”

Доўга распытваў у іх Сяргей пра жыццё, слухаў і хмурыўся, паціраў левы бок грудзіны, уздыхаў. Маці адзначала, што ён пастарэў вельмі – гады яшчэ маладыя, а ўвесь белы, бы снегам галава абцярушана. Праз усю шчаку шрам, на правай руцэ не было двух пальцаў. Пэўна ж, і дасталося Сяргейку пад завязачку.

Пад вечар, дачуўшыся пра радасную навіну, прыклыпаў дзед Міхась. Як роднага абняў салдата, радасна прамовіў:

– Ёлкі-маталкі, Андрэевіч, вымахаў як… І ў хаце галавой да столі дастаеш, новую будаваць трэба, вышэйшую.

– Адбудуем, дзеду, дай толькі час… Высокую, прасторную, на некалькі пакояў.

Распытаўшы, паслухаўшы адказы на свае пытанні, скрушна пахітаў галавой:

– Ну і дасталося табе, Сяржук, і ворагу не пажадаеш…

– Ды нічога, дзядуля, галоўнае, што я цяпер дома – сярод родных. Гэта – вялікае шчасце, дзед Міхась!

– І не кажы, палкі-маталкі!..

Маці маўкліва стаяла каля печы, выцірала хусцінкай вочы. Ёй балюча было за сына – гэта ж столькі нацярпеўся, нагараваўся за вайну! Ці хоць здаровы, ці цэлае ўсярэдзіне, раз такі пакрамсаны асколкамі і хірургамі… Ды расказваў толькі збольшага, а ці раскажа пра тое самае цяжкае, што прыйшлося перажыць, што прапусціў праз сваё сэрца?

– Нічога, браток Васілёк, нічога, зажывем яшчэ мы з вамі! – ціскаў ён за плечы брата, кудлаціў русявы чуб. – І са школай уладзім, не перажывай, не можа быць таго, каб не ўладзілі!..

Васіль слухаў, і братавы словы ўліваліся ў яго бадзёрай і мажорнай мелодыяй, і яму гэтак жа думалася: “Зажывем, зажывем, братка, і ўсё ў нас наладзіцца! Цяпер мы разам і дровы нарыхтоўваць будзем, і соткі вясной урабляць, і пастушкоўствам больш займацца не буду… Ды ці мала што

перамяніцца-змяніцца можа ў нашым жыцці! Ды і ніхто цяпер папікаць не будзе, што я бязбацькавіч – Сяргейка цяпер мне і за бацьку будзе, і за брата, і за самага лепшага сябрука!..”

Калі ж пайшлі купацца на Чарацянку, зноў балючая дзіваванка адкрылася перад Васілём.

Сяргей распрануўся, каб ісці ў ваду і паплаваць.

Васіль жахнуўся – ніводнага цэлага месцейка не было на целе! Як склеены з нейкіх кавалачкаў, як латкі з чужога чалавечага цела накладвалі яму на грудзі і спіну…

– Братачка ты мой! Што ж з табою зрабіла вайна! – упаў перад ім на калені брат, даланёй пачаў гладзіць рубцы і шрамы. – Ты ж увесь пашкамутаны і пакалечаны…

Сяргей сціснуў яму балюча плячо:

– Нічога, Вася-Васілёк, нічога… Страшнае ззаду засталося. Не раны страшныя, не тое, што пакалечыла, шчаслівы ад таго, што душа не скалечана, што ў Крушнікі свае вярнуўся і магу смела хадзіць і глядзець людзям у вочы…

– Я вельмі рады, што ты вярнуўся. Ты не ўяўляеш, якое гэта для мяне шчасце. І для матулі. Нам вельмі цяжка было. Без бацькі. І – без цябе.

– Ведаю. Але цяпер пераменіцца ўсё да лепшага. Слова даю.

Калі пакупаліся, калі выйшлі на бераг і леглі, каб пагрэцца на восеньскім ужо сонцы, і прызнаўся Сяргею брат:

– А я, братка, гада аднаго хацеў забіць. З ружжа.

– Гэта ж каго? – не расплюшчваючы вачэй, жмурачыся ад промняў сонца, пацікавіўся  Сяргей.

– Рафала Рукана. Ён Міхася Пятровіча з Лёдзяю здаў энкаведзістам… А ўсё з-за таго, што Лёдзя вельмі хацела стаць дырэктаркай школы.

Брат маўчаў, доўга нічога не казаў, потым ціха прамовіў, як параіў:

– Не табе, Васька, разбірацца ў гэтым. Не табе ў такіх справах суд вяршыць.

– А каму – каму той суд вяршыць? Савецкаму суду? Ведаеш, як ён разбіраецца…

Сяргей ужо сеў, глядзеў некуды ўдалеч, спахмурнеў, пацёр левую грудзіну:

– Ведаю, добра ведаю… А табе змагацца ці мне, што супраць ветру… Ды ладна, пагаворым калі пазней пра тое. Добра?

– Добра. Нам ёсць пра што пагаварыць. І шмат яшчэ якіх пытанняў хвалюе мяне, і я не знаходжу на іх адказу. Таму і балюча жыць з гэтымі пытаннямі. Нікому я іх не расказваў, а табе раскажу.

– Лады… А цяпер што, мо апранацца будзем? Не час ужо для купання, хаця вада яшчэ цёплая. Пасля Уздзвіжання ніхто ўжо не купаецца…

Пабіла Сяргея крыважэрная вайна.

Тройчы рашацілі-пранізвалі яго асколкі, двойчы пранізвалі наскрозь кулі.

Столькі ж разоў адлежваўся ў медсанбаце і шпіталі. Загойваліся раны – і яго адразу ж кідалі ў новае пекла, у новы жудасны агонь. Як на выжыванне кідалі, як у мясарубку, якую распачалі навыперадкі Адольф і Язэп.

Але ж – выжыў. Выжыў насуперак усяму, неяк жа вылузаўся з лапаў смерці, хаця яна не раз абдымала яго, мілавала, як самая лепшая палюбоўніца… І ўжо на канчатак, як помсцячы яму за тое, што не прыняў яе каханне, як быццам для таго, каб праверыць, пераканацца, ці сапраўды ён такі жывучы і ўдалы, ці сапраўды яму памагае Бог, у якога ён верыў і маліўся штодня, прасіў дараваць яму жыццё, – кінулі яшчэ ў больш жахлівае полымя – на Далёкі Усход – на вайну з японцамі…

Тады яшчэ два разы праліў кроў. Раны, праўда, неглыбокія, лёгкія – у параўнанні з ранейшымі, камарыныя ўкусы. Але нага доўга не гаілася – закрануў асколак косць… І таму накульгваў на яе. Балела начамі, асабліва пад раніцу альбо калі збіралася на дождж.

Васіль усёй душой узненавідзеў вайну, Гітлера, што адняў у яго бацьку, параніў не раз Сяргея, узненавідзеў Сталіна, які загубіў столькі людзей, які рукамі энкавусаўцаў забіваў лепшых людзей раней, і во цяпер – такіх, як Міхась Крупа…

Дарога роўная, асфальтаванка.

За акном буяе лета. Пасля зацяжных цёплых і спакойных дажджоў усё порстка пайшло ў рост, ажыло, расквітнела, – пышным featureрознакаляровым букетам раскашоўвалася летняя залатая пара…

У вёсцы ён быў даўнавата – з тае пары, як пахаваў маці. Колькі разоў наведваўся на могілкі, а ў вёску не заязджаў – штосьці замінала, не пускала туды. Без маці вёска здавалася чужой. Нават у родную хату баяўся заязджаць – баяўся адзіноты і цішыні, маўклівага мамінага папроку, што не так часта праведваў яе…

Гадзіна дарогі па бальшаку, потым легкавік пакаціўся ўправа – на вясковую дарогу з сінім указальнікам “Крушнікі”. Па ёй праехаць хвілінаў з дзесяць – і сустракае ўзгорак з высокім хвойнікам і агароджай. То і былі могілкі…

Пад’ехаў да выспы, спыніў легкавушку.

Магілка матулі была каля плота, пад бярозкай, у металічнай агароджы, афарбаванай у зялёны колер. Васіль паставіў на ўзгорачак ружы ў слоіку.

Пасядзеў, памаўчаў. Каб не за рулём, памянуў бы маці па вясковаму звычаю – шклянку горкай прыняў бы за спакой яе душы.

Потым пасядзеў каля магілы брата – непадалёк ад маці. Пражыў ён тады нядоўга – на адзін дзень перажыў Сталіна. Тады так са школай нічога і не атрымалася. Школу Васіль заканчваў у раённым цэнтры, пасяліўшыся ў матуліных сваякоў. Калі ж Сяргей паткнуўся да дырэктаркі, папрасіў, каб вярнулі хлопца ў школу, Лёдзя звузіла злыя вочы, як не прашыпела па-гадзючынаму:

– Ш-што гэта вы сабе пазваляеце? Ш-што робіцца, панімаеш? Ён жа адмовіўся падпісваць пісьмо таварыш-шу Сталіну! Каму! Самому правадыру! Вы мне яшчэ дзякуй скажыце, што я нікому пра тое не сказала. А вы ўяўляеце, чым гэта папахвае, га?

– Уяўляю.

Сяргей кісла ўсміхнуўся, зразумеў, што гаварыць з ёю далей не мае аніякага сэнсу.

– Ну во, каму як не вам тое вядома…

– Ш-ш-шапраўды, – прашыпеў і ён у адказ, уклаўшы ў сваё шыпенне пагарду да яе, злосць і крыўду ад сваёй бездапаможнасці...

Зразумеў, што дарэмна сунуўся да яе.

У той жа дзень падаўся ў Мазыр і дамовіўся праз сваіх знаёмых. Там і вучыўся лепей, займеў сяброў новых – вучоба ішла ў ахвотку.

Дзед Міхась памёр раней – узімку.

Зразумеў Васіль з цягам часу, што лекі тыя, апошнія, што выратавалі яго ад смерці, даліся старому нялёгка. Каб жа толькі старасць, а то і жыццё аддаў сваё, каб толькі выратаваць хлопца…

Сям'я Крупы з'ехала тым жа годам – а куды, ніхто не ведаў.

Доўга шукаў Васілёк іх адрас – не мог забыць Рыту, яе голас. І Сяргей памагаў, ды ўсё безвынікова – як зусім растварыліся ў сусвеце. Таму і снілася часта Рыта, смяялася, гаварыла, як дакарала ўсё роўна: "І чаму ж ты адшукаць мяне не можаш, а хваліўся, што калі трэба, то і пад зямлёю мяне знойдзеш…" Ён такія словы ёй не казаў. Толькі так думаў пра сябе. Няўжо яна іх пачула? Значыць, і яна думала пра яго?

Гадзіннічак, што яна, Рыта, перадала яму ад бацькі, і цяпер носіць і не хоча мяняць яго. Двайная памяць засталася – і пра Рыту, і пра Міхася Пятровіча. Чаму Крупа там, у далёкай зэкаўскай старане, думаў пра яго?

Напачатку ён аднекваўся, калі Рыта давала яму гадзіннік, здзіўляўся, чаму менавіта яму, не каму з дамашніх, але яна настояла, цвёрда сказала: "Так пажадаў бацька… У нас ёсць яго гадзіннікі, так што не перажывай… І я сама хачу, каб ты яго ўзяў…"

## 16

...На гэты раз не вытрымаў, усё ж заехаў у вёску.

Крушнікі падаліся яму нейкімі іншымі, як чужымі, невядомымі. Вузенькія вуліцы, кароткія. А некалі ж здаваліся шырокімі, прасторнымі і доўгімі з краю ў край. А Чарацянка амаль высахла, у густой асацэ і не відаць яе. Ці разліваецца яна, як раней, раздзяляючы, раз’ядноўваючы два бакі, дзве вуліцы – Будкі і Алёсы. Дзіўная назва – аж тры назвы атрымліваецца. Так прывыклі людзі называць, так будзе і пасля іх...

Вуліцу пераходзіла пажылая жанчына – спынілася, стала, як укапаная, не рухалася. Васіль адразу пазнаў яе – так, то была яна, Лёдзя. Ён не сігналіў, не падганяў, чакаў, калі яна сама сыдзе з дарогі. Яна і пайшла, не гледзячы ў яго бок, пакіравала паўз яго, павольна перастаўляючы ногі.

Казалі, што яна выходзіла замуж – за настаўніка, якога прыслалі ў школу. Ды нечакана з’ехаў ён, уцёк ад яе – дапёр аж да Магнітагорска. Адтуль напісаў пісьмо ў райана, каб выслалі яму туды дакументы… А потым Лёдзя стала заслужанай настаўніцай рэспублікі – славілася яе школа жалезнай дысцыплінай. Брат яе, Рафал, утапіўся вясною пяцьдзясят восьмага на Чарацянцы, выбіраючы рыбу з чужых жакаў – заблытаўся ў іх.

Развярнуўся каля школы, спыніўся.

Выйшаў з машыны, пастаяў трохі, пахадзіў па двары, агледзеў стары будынак, дзе некалі вучыўся… І яму тут жа пачуліся дзіцячыя вясёлыя галасы, зазыўным званочкам даносіліся адтуль, з дзіцячай пары… Цяжкай і светлай пары. І ў суладдзе мноства галасоў уплятаўся голас Рыты – пакрыўджаны, бяссільны, што так абышліся з яе бацькам, з ёю, з яе сям’ёй… А ён быў бяссільны нешта перайначыць, нават адпомсціць крыўдзіцелям.

Да знаёмых заходзіць не хацелася – не той быў настрой. Трэба будзе неяк іншым разам выбрацца – больш спакойнай парой, мо хіба пасля таго, як усё ўтрасецца, уладзіцца тая недарэчнасць, што адбылася на будоўлі… Але ці ўладзіцца? Мо яшчэ і за краты адправяць – усё можа быць у гэтым жыцці. Як то кажуць – то жыў насупроць турмы, а цяпер насупроць роднай хаты?

Па дарозе назад успомніў, як дзед лячыў яго, і няўсцерп закарцела пабыць на тым самым месцы. Даўно прыцягваў яго той маліннік. Як магнітам да яго цягнула. У сне колькі разоў бачыў. Нехта ці нешта клікала яго туды…

Ніштаватая дарога ўжо была і да Бобрыка. Ад дарогі маліннік – пачатак Чэрценя – быў недалёчка, з паўкіламетра. Воз стаяў вунь там, пад дубам, а во на гэтым узгорачку сядзеў дзед Міхась – пасвістваў, клікаў да сябе гадзюку. Якой сілай ён прыцягнуў яе да сябе, што яна паслухалася і папаўзла на яго покліч? Валодаў незвычайным дарам? Гіпнозам? Ці нечым яшчэ?

Ужо налівалася чырвоным сокам каліна, але не выспела яшчэ, толькі ўбіралася ў сілу. Ён сарваў некалькі ягадзін, укінуў у рот, пажаваў. Але горычы не адчуў, нават кісліны, – як карамельку жаваў… І ўвесь час, як ступіў на гэты лапік, як аглядаў мясціну, – яго не пакідала трывожнае адчуванне: як быццам нехта цікаваў за ім, сачыў, што ён робіць. Ён колькі разоў акідваў кустоўе – мо і сапраўды хто ёсць акрамя яго, але позірк ні на што не натыкаўся. Трывога то знікала, то нараджалася зноў.

Ззаду нешта падазрона зашамацела – як паўзло што нябачнае. Такі шолах быў яму знаёмы, – ад такога шолаху заўсёды ёкала сэрца, але да тае пары, калі вока не заўважала гадзюку… Ён рэзка азірнуўся, каб заспець нечакана тое, што пагражала яму.

І – жахнуўся, скалануўся ад страху. Акурат як і тады, у далёкім дзяцінстве, як праняло яго токам з ног да галавы, калі перад вачыма выстыркнулася гадзючыная галава… І тут, перад яго вачыма, удвая большая, чым тая, якую дзед Міхась разарваў надвая, у таўшчыню жэрдкі гадзюка, падняўшы гэтак жа, як і тады, галаву, глядзела пільна на яго – метры са тры было да яе. Паўзла, даганяла, каб укусіць, ды яго раптоўны позірк перагарадзіў ёй дарогу?

Тая ці не тая? Ён памятаў, што дзед тады выцягнуў з кустоў нейкую чорную, з перламутравым пералівам, а тая, з якой біўся вужык, баронячы яго, была шэрай, як гнілая вяроўчына-канат – акурат як гэтая во, толькі значна большая і таўшчэзная… Няўжо дажыла да такой пары і ўвесь час трымала на яго злосць і крыўду? За вужыка крыўдавала, што тады перамог яе і не даў уджаліць?

Дык гэта ты, выходзіць, клікала-паджыдала мяне тут увесь час? У сны мае прыходзіла, магнітам прыцягвала? Укусіць хочаш? Падкрасціся і пекануць за нагу? Але ж я не ў падраных нагавіцах цяпер стаю перад табою. Хіба да твару падскочыш, у шчаку ўвап’ешся?..

Але ці здольная ты на гэта – ці адарвешся са сваёй вагой ад зямлі? Але хто цябе ведае… Ты і мудрая, і кусачая… Ды я ж, кахіненькая-родненькая, кусаны-перакусаны – і табой, і жыццём…

Страх прапаў адразу ж, як убачыў яе. Страх у чалавека жыве да тае пары, пакуль вока не ўбачыць пагрозу. Гадзюка не рухалася, як здранцвела, толькі доўгі хвост ледзь заўважна ўздрыгваў, выдаваў нервознасць злой істоты.

Васіль выхапіў з-пад ног ламачыну і замахнуўся. Дзіўна, але гадзюка не варушылася – не ўцякала, але ж і не нападала. Як усё роўна чакала, калі ён шпурне патарчаку ў яе, нават трохі да зямлі прыгнулася, як на плаху галаву клала. Як усё роўна на смерць да яго прыйшла…

Казаў яшчэ дзед Міхась, што калі гадзюка ўкусіць каго, то пасля сабе смерці шукае – выпаўзае на дарогу пад колы вазоў ці машын, альбо паўзе да

ўкушанага, каб забіў яе… Байкі можа, а мо і не байкі, але ўсё ж і ў байках-паданнях закладзена нейкая праўда і выснова…

Ён са злосцю адкінуў ад сябе дручок, плюнуў у яе бок, вылаяўся:

– Пшла адсюль, тваю маць, чаго ўставілася? На які хрэн ты мне здалася, га?

Адышоўшы, не вытрымаў, азірнуўся: яна не перамяніла сваёй позы. Запознена адчуў і зразумеў, што яна не трымала на яго злосці. Адчувала сябе вінаватай, а пра тое сказаць не магла – не ўмела?..

Ён пайшоў і сеў у легкавушку. Доўга сядзеў, няўцямна гледзячы перад сабою, трымаючы рукі на стырне. Адчуваў ён сябе ў гэты момант тым пастушком, які змагаўся з гадзюкаю, і абаронцам у яго быў яго сябар Вужык-Тужык...

...Вужыку было наканавана стаць вужыным Царом. А яны, як вядома, дажываюць да пяцідзесяці гадоў… Ён адчуў тады адразу, што ад хлопчыка, які пасвіў кароў, сыходзіла дабрыня. І захацелася яму пасваволіць. Адчуў яшчэ, што хлопчык не з палахлівых, што будзе гуляць з ім і не пакрыўдзіць…

Таму ён цікаўна звесіўся над яго галавой, прамовіў:

– Я пагуляць з табой хачу…

Пастушок пачуў ці не, не зразумеў, але абрадавана ўзяў яго ў рукі, і вужык яшчэ больш пераканаўся – ад рук сыходзіла не толькі цяпло, а і давер.

– Вужык! – узрадваўся хлапчук. – Вужык-тужык! І ты тут адпачываеш?

– І я! – адказаў ён. – Я яшчэ малы, і таму хачу пагуляць з табой. Я яшчэ ніколі не гуляў з чалавекам. Я бачыў ужо людзей, але баяўся да іх падпаўзаць. А да цябе не баюся…

– Бачыш, мы ўдвух аблюбавалі гэтае месцейка…

Вужыку спадабалася гуляць з пастушком. Вужык быў з разумных істотаў, і таму разумеў усё, што гаварыў яго дружбачок. Але самае прыемнае і асалоднае было тады, калі хлапчук напаіў яго малаком. О, якая гэта была смаката!

– Мяне Васільком завуць, а цябе? Маўчыш? Ці адказваеш, а я не чую цябе? А ты будзеш проста Вужык-Тужык? Добра?

– Ну і няхай – як хочаш. Мне падабаецца маё імя.

– Ну і добра. Мы паразумеемся з табой.

Вужык адчуваў сябе шчаслівым.

Ён не ведаў, адкуль з’явіўся на свет. Памятае толькі, што як толькі вылупіўся з яечка разам са сваімі братамі, то іх пахапала вялікая птушка з высокімі нагамі і чырвонай доўгай дзюбай. Ён здагадаўся нырнуць у дзірку пад пень, тым і выратаваўся ад даўгалыгай птушкі. Але доўгі час баяўся выпаў-

заць на святло – яму здавалася, што яна стаіць і цікуе, калі ён выпаўзе са сваёй схованкі…

Мо на трэці дзень ён асмеліўся выпаўзці з нары. Але спачатку выглянуў, пераканаўся, што яму нішто не пагражала, а потым выпаўз увесь. Запоўз на пень, каб было бачна наўкола, каб зручней бачыць, адкуль будзе пагражаць небяспека… Супакоіўся, скруціўся кольцам і грэўся на сонцы, нават вочы прымружыў ад задавальнення…

За колькі дзён ён прывык да Васілька, ужо не мог дачакацца, калі раніцай ён зноў возьме яго ў рукі і будзе хадзіць з ім цэлы дзень – то пакладзе яго ў кішэню, то на шыі завяжа, а то зусім запіхне ў адтуліну кашулі…

А вось тады не трэба было яму, Васільку, адпачываць каля малінішча. На адлегласці вужык чуў, што там шмат суродзічаў, якія трымаюць на зубах атруту. Вужа яна ўкусіць не зможа, а вось чалавеку можа прынесці шмат непрыемнасцяў. Хлопец заснуў, натаміўшыся, набегаўшыся, а ён быў на варце, бярог сон сябра. Не бачыў, а адчуў, што сябру пагражае небяспека. Найперш закрычаў, каб прачынаўся, каб уцякаў хутчэй ад гэтага месца. Але пастушок, мусіць, не чуў, заснуў моцна, і тады вужык пачаў, што было сілы, дзяўбаць яго ў жывот, усё крычучы:

– Уставай, уставай, Васілёк!

Прачнуўся ўсё ж такі, убачыў яго суродзічку, закалаціўся ўвесь ад страху, пачаў пакрысе адсоўвацца ад няпрошанай госці. Калі адпоўз на бяспечную адлегласць, тады ён выскачыў са сваёй хованкі і накінуўся на гадзюку. Ведаў, што яму яшчэ рана ўступаць у бойку з дарослымі, яшчэ ў яго не ставала сілаў для такой барацьбы, але ў ім, вужыку, прачнулася невядома адкуль прага не толькі абараніць свайго сябра, але і пакараць зладзейку…

Крыкнуўшы Васілю, каб не баяўся ўжо, вужык пачаў абвівацца вакол гадзюкі, усё мацней і мацней сціскаючы яе. Сам здзіўляўся, адкуль браліся сілы… Мусіць, малако памагло стаць дужым. Адагнаў, напужаў толькі гадзюку, але не задушыў яе, каб больш не палявала за пастушком, але, відаць, не разлічыў свае сілы – аслабеў сам так, што і паўзці не мог… Ды ў дадатак зноў тая вялізная птушка апусцілася на зямлю непадалёк ад яго.

“Убачыць – падкіне мяне ў паветра, раззявіць дзюбу і ўкіне ў прорву”, – падумаў з жахам вужык, ужо і вочы заплюшчыў ад страху, рыхтуючыся да самага страшнага.

Але тут жа пачуў, як затупацелі ногі яго сябра, як той пачаў крычаць пагрозліва на тую птушку, каб ляцела сваёй дарогай. Ён жа і ўхапіў вужыка, не даючы яго птушцы на спажыву…

– Дзякую, мой сябра! – падзякаваў вужык, але голас у яго быў слабы-слабы, наўрад ці мог пачуць яго Васілёк. – Ох і натаміўся я, што і дурэць не хочацца…

Альбо сустрэча з тым злым чалавекам, руку якому падаў пастушок. У яго душы больш атруты, чым у той гадзюкі, якая прыпаўзала да Васілька. Здалёку яшчэ вызначыў, што ён як тая гадзюка не спрыяе пастушку, гатовы яго звесці са свету. З-за бацькі Васілька. Рукан узлез на дуб, хацеў пачысціць бацькаву бортню, а тут і сам гаспадар з'явіўся… Ну і начысціў яму морду, навёў крывавы глянец, што на ўсё жыццё запомніў…

А добра, што Васілёк яго ў школу ўзяў. Ведаў вужык, як напалохаць Лёдзю… Шмат зла зрабіла Лёдзя і яе брат людзям, як і Васільку. Таму вужыку іх не шкода, шкода Васілька, які шмат церпіць з-за іх…

І першы год наладжвалі яны спатканні, і на другі, і на трэці… Вужык стаў дужым і дарослым, і яго ўсе баяліся ў вужыным царстве.

17

А аднойчы вужы абралі яго сваім Царом.

Бо надоечы, пражыўшы паўсотні гадоў, сканаў ад старасці вужыны Цар Акай. Старэйшыя вужы знялі з галавы царскую карону – з чыстага золата – і надзелі на галаву Вужыку-Тужыку. Назву яму новую далі – Дабрусь.

І з гэтай пары скончылася сяброўства Вужа і Чалавека. Можа, не сяброўства, бо яно жыло ў душы кожнага з іх, а спатканні і гулі. Бо з гэтага часу было забаронена Цару выпаўзаць на сонечнае святло і тым больш паказвацца чалавеку. Бо нават і ноччу, у самай густой цемрадзі, карона свяцілася таямнічым агнём, і яе было відаць здалёку... Чалавек мог забіць Цара, і разам з яго смерцю маглі загінуць усе вужы…

Таму Цар і ведаў, што яны ніколі ўжо болей не спаткаюцца. Толькі ў снах меў права з'яўляцца Дабрусь да свайго сябра. Але з'яўляцца толькі тады, калі яго сябру магло нешта пагражаць, альбо насоўвалася нейкая небяспека…

І сустрэліся яны ў вужыным царстве. Вужык-Тужык і тая, што хацела ўкусіць пастушка.

– Чаго неўзлюбіла хлапчука? – спытаў злосна Цар, гледзячы ёй у вочы. – Чым жа ён правінаваціўся перад табою, га?

Яна маўчала, не ведала, што адказаць.

– Яго карова капытом мне на хвост наступіла…

– Не поўзай там, дзе каровы ходзяць… Але пры чым тут пастушок?

Адказу Дабрусь не пачуў. Таму і не зразумеў – адчувае яна якую віну ці засталася пры сваіх думках. Але далей высвятляць адносіны не стаў – пакінуў на пазней.

Бо ёй усё роўна трэба будзе трымаць перад ім адказ…

А аднойчы зайшлося ў Цара сэрца ад таго, што адчуў блізкасць свайго сябра. Васілёк збіраў маліны. Вялікім намаганнем волі прымусіў сябе Вужык-Тужык не выпаўзці са свайго жытла, пакінуць на нейкі час царскі трон. Каб хаця развітацца з сябрам, сказаць яму пяшчотныя і шчырыя словы… Стрымаўся ад спакусы, перамог самога сябе. Бо ён быў цяпер у адказе за тысячы і мільёны сваіх суродзічаў…

Потым не зразумеў, чаму войкнуў Васілёк, чаму са страхам выбег на грудок і пачаў перавязваць нагу… А калі ўбачыў, як уцякае, нырае ў шыгалле гадзюка, зразумеў: пеканула ўсё-ткі… Толькі не прыкмеціў – тая, што ён ушчуваў, ці іншая… Не ён заўважыў, дык заўважылі тое іншыя. Нічога тайнага ў вужыным царстве не адбывалася – ніколі…

Калі праз колькі дзён дзед Міхась пачаў клікаць вінаватую, сабраліся вужы на нараду. Радзіліся, каго адправіць да дзеда – усе ведалі, для чаго… Калі ўпарцілася абраная, то Цар загадаў ёй паўзці да дзеда, – нават прыкрыкнуў грозна на яе, прыгразіўшы самому расправіцца з ёю… А то была самая вялікая ганьба для вінаватай.

Дзед разадраў яе да хваста, абкруціў нагу, тым самым выдаліў атруту з цела – і вырataваў жыццё сябра Цара..

Праз шмат-шмат гадоў прыйшоў у сны Васіля Вужык-Тужык. Адчуў, што пагражаюць яго сябру вялікія-вялікія непрыемнасці. Крычаў у сне, прасіў, каб выслухаў яго, нават рот раззяўляў, выгаворваючы кожнае слова...

Здарылася непрадбачнае, але бачанае Царом вужоў, бо ён стаў мудрымудры, і ведаў усё-усё на свеце.

То клікаў да сябе яго вужыны Цар – Дабрусь…

Не да сябе, а да той, якая ўкусіла некалі яго.

І выгнаў з селішча Цар тую гадзюку, усе тэрміны выйшлі, калі яна павінна была сысці з гэтага свету…

– Ідзі, гадаўка, падстаў галаву Васілю – няхай ён цябе заб’е. Ты даўно смерць заслужыла.

Яна паслухалася, не пярэчыла, падпарадкоўвалася галоўнаму закону. Яна не была агрэсіўнай. Яна была вінаватай і таму гатова на ўсё.

І там, наверсе, на волкай зямлі з перасохла-перапрэлым лісцем, пачуў ён словы свайго сябра:

– Пшла адсюль! Чаго ўставілася? На які хрэн ты мне здалася…

Калі яна праз нейкі час зноў прыпаўзла да Цара, ён папракнуў яе:

– Вось бачыш, цябе не захацеў нават чалавек забіваць… Таму і нам ты тут не трэба. Ідзі шукай сабе іншае месца, калі знойдзеш, а ў нас табе няма чаго рабіць…

І перад самым яе носам зачыніліся дзверы.

Зачыніліся да сакавіка будучага года… Але яна не адпаўзала ад дзвярэй – так і ляжала на зямлі, не прымаючы ніякага рашэння. Прабягаў паўз яе змеяед. Яна не зварухнулася, не паспрабавала хаця б адпаўзці, неяк выратавацца. І ніякага страху ў яе не было, наадварот, яна чакала, калі і як найхутчэй вырашыцца яе лёс… Звер ухапіў яе і з радасцю адзначыў, якая яна тлустая і доўгая – акурат на вячэру і хопіць…

Едучы назад, не мог пазбавіцца ад таго прыкрага адчування, калі сустрэўся з гадзюкай. Але глядзеў на дарогу, і ўспамінаў, успамінаў той эпізод, калі трымцела яго сэрца ад страху… Не даязджаючы да Гомеля кіламетраў з трыццаць, заўважыў на бетоннай дарозе чорныя жывыя стужкі. Спыніў легкавік, выйшаў з яго. З-пад нагі, спалохаўшыся, порстка вільнуў ад яго вуж. Некалькі вужоў – мо з дзясятак – раздушаны машынамі. Праз дарогу, спрэс, і ззаду, і спераду, паўзлі і паўзлі вужы. Нешта гнала іх наперад, у адным кірунку. Падштурхоўваў іх спрадвечны інстынкт ці клікаў на новае селішча, не апаганенае злым родам, вужыны Цар?

Ён, Васіль, паспрабаваў памагчы ім – браў у рукі і пераносіў на другі бок. Калі ж ехала машына, спыняў, тлумачыў, паказваў, каб ехалі асцярожна і не душылі жывыя істоты. Адзін з кіроўцаў пакруціў пальцам каля скроняў, паказваючы, што ў яго не ўсе дома…

18

У вужоў працягвалася вялікае перасяленне перад Уздзвіжаннем.

Вужыны Цар склікаў суродзічаў да сябе, каб перад зімовай спячкай разабрацца з абставінамі жыцця. І тысячагадовы інстынкт гнаў іх на Вялікі Сход – і ў гэтым ім не магло нічога перашкодзіць. Нават смерць пасярод бетоннай дарогі…

19

На тое месца ён вярнуўся праз дзень. Прывёз у багажніку дзве бляшаныя шыльды. Высек у лесе з паваленага сухога дуба два слупкі і прымацаваў на іх новыя, прыдуманыя ім, дарожныя знакі. Агарадзіў дарогу вужоў з абодвух бакоў… Не вытрымаў, злавіў аднаго, самага вялікага і прыгожага, патрымаў у руках. Пахукаў на галаву, як супакоіў, каб не баяўся, каб не адчуваў страху перад чалавекам. Але вуж не разумеў яго, вырываўся, што было сілы, з рук, каб не адстаць, дагнаць сваіх сяброў.

Ад'язджаючы, азірнуўся яшчэ раз, прачытаў напісанае ўжо староннім вокам:

“Спадар вадзіцель! Увага! Тут вужы перапаўзаюць дарогу. Спыніся, перачакай, не губі жывую істоту, – ты ж любіш, як і ўсе мы, жывую прыроду!”.

На шыльдзе сябра-мастак намаляваў на далонях чалавека вужыка. І быў ён, здавалася, падобны на таго, з кім некалі пасябраваў…

– Паўзіце, вужыкі, да сваёй мэты. У вас свая дарога ў жыцці і на гэтай зямлі! Хай вас абмінуць няшчасці!

На дарозе, бачыў, спыняліся вадзіцелі, прыцішвалі хуткасць. Яны былі здзіўлены, убачыўшы на ўзбочыне незнаёмы, але зразумелы знак – і, як дысцыплінаваныя кіроўцы, падпарадкоўваліся яму, чакалі, калі прапаўзе сям’я вужоў, аб’язджалі іх, саступалі дарогу.

І потым, ад’ехаўшы, ламалі галовы – адкуль узяўся той знак, – калі паспелі ўвесці яго ў правілы дарожнага руху?

Васіль Зубрыцкі задаволена ўсміхаўся, гледзячы машынам услед, адзначаў адначасова пра сябе, што выратаваў жыццё не адной паўзучай істоце – гэта і была ў нейкай меры падзяка і ўдзячнасць таму, далёкаму, з дзяцінства, вужыку…

– Добрай дарогі табе, Вужык!..

20

Позна вечарам нехта пазваніў у дзверы.

Васіль пераглянуўся з жонкай. Яна паціснула плячыма, не ведаючы таксама, хто б гэта мог быць. Гаспадар пайшоў да дзвярэй, крутануў пластмасавы кружок, высунуў штырок замка з адтуліны.

На парозе стаяў незнаёмы чалавек. Быў ён пажылога ўжо веку, невысокага росту, у шэрым прасторным касцюме.

– Вы будзеце Васіль Зубрыцкі?

– Я.

– Вы родам з Крушнікаў? І настаўнік у вас быў Пятро Міхайлавіч Крупа?

– Так, ён, – падзівіўся нечаканаму госцю Васіль, – а вы тады хто будзеце?

– Я – Фіцнер. То я быў у лагеры разам з Міхасём Пятровічам, і то я прывёз пісьмы з лагера для яго жонкі, удавы. І для вас гадзіннік.

– Праходзьце, калі ласка, што ж мы на парозе, – апамятаўся гаспадар, яшчэ больш расчыніў дзверы, прапусціў госця ў кватэру.

– Выбачайце за позні візіт, – павінаваціўся чалавек, – ледзьве адшукаў вас... Я павінен быў прайсці да вас гадоў з пяць назад, але зваліла хвароба... А пасля згубіў ваш адрас. А потым пакуль шукалі...

– Гэта мая жонка – Марына, – знаёміў гаспадар.

– А я Міхал Генрыхавіч.

Марына пайшла на кухню і праз колькі хвілін прынесла на падносе два кубкі з гарбатай, пячэнне.

– Мо вы есці хочаце – з дарогі, дык я хуценька падрыхтую, – прапанавала гаспадыня, гледзячы на госця.

– Не, не, дзякую, а во ад гарбаткі не адмоўлюся, – Міхаіл Генрыхавіч узяў з падноса кубак, памяшаў лыжачкай, але цукар не сыпаў, аглядаў кватэру.

На сцяне заўважыў рамку з фатаграфіямі. Убачыў павялічанае фота Крупы, абрадавана сказаў:

– Шануеце, значыць, свайго настаўніка...

– Шаную, Міхаіл Генрыхавіч, ён шмат значыць у маім жыцці.

– І гадзіннік, бачу, яго на руцэ.

– Так, які вы перадалі. Дзякую. Ідзе бездакорна, ніводнага разу не аддаваў у рамонт.

“Чаго праз столькі год ён адшукаў мяне? – падумаў Зубрыцкі. – Пра што папытацца хоча?”Але маўчаў, не абганяў падзеі.

– Дык я чаго да вас, Васіль Андрэевіч, – адпіўшы колькі глыткоў гарбаты, распачаў госць пра галоўнае. – Гадзіннік мне было даручана аддаць адразу, як прыеду ў Крушнікі. А пісьмо, якое ён напісаў для вас, прасіў аддаць, калі вам будзе пад пяцьдзясят... Ён пісаў вам сённяшняму, даросламу чалавеку. Бо тады вы маглі не зразумець яго. Даруйце, што раней не прыйшоў...

Ён выняў з унутранай кішэні пінжака невялічкі пакуначак, абгорнуты шпагацікам, падаў Зубрыцкаму.

– Я загарнуў яго ў некалькіх паперах, каб не пашкодзілася і не сапсавалася.

– Дзякуй вам за пісьмо, вялікі дзякуй. Шкада, што ён вусна мне не скажа напісаныя словы.

– Шкада.

Цёплая і горкая радасць разлілася па целе. Але Зубрыцкі не спяшаўся раскрываць канверт, хаця не цярпелася тое зрабіць.

– Міхал Генрыхавіч, даруйце, а вы не ведаеце пра лёс Наталлі і яе дачок – Рыты і Марынкі?

– Ведаю. То я іх вывез з Крушнікаў, каб не наклікаць на іх большае бяды. У Магнітагорску яны. Але, на жаль, Наталлі Пятроўны няма ўжо. А дочкі маюць свае сем’і... Вам прывітанне шлюць. Запрашаюць да сябе ў госці... Рыта – кіруе галоўпаштамтам. А Марына – выкладчыца біялагічнага інстытута...

Васіль нахмурыўся. Вестка апякла сэрца. “У Магнітагорску? Дык вось чаму Рыта не абзывалася – не хацела выдаваць сваё месца жыхарства. Эх,

Рыта, Рыта, каб жа ты ведала, што ты нарабіла... Я ж пра цябе думаю ўсё жыццё...”

Хацелася радасна сказаць: “Так, наведаюся да іх, і ў самы бліжэйшы час!” Але прамовіў як бы абыякава:

– Добра. Дзякую вам, што напомнілі мне пра дзяцінства. Хаця яно і нялёгкім было, але там быў Міхась Пятровіч, мая маці, мой брат, быў Вужык, з якім я сябраваў...

Госць не зразумеў пра вужыка, але перапытваць не стаў.

Дапіўшы гарбату, падзякаваў. Устаў з канапы.

– Мне пара ўжо. Дзякую за пачастунак.

– Дзякую вам за памяць пра майго настаўніка.

– То вам дзякую, што вы памятаеце пра яго. Цудоўны быў чалавек. Паўстаннем у лагеры кіраваў. А колькі ён нам цікавага панарасказваў, што і да сёння помню. Хай яму добра спіцца на тым свеце.

І, развітаўшыся, госць пакінуў гаспадароў.

Зубрыцкі сеў на канапу, прымружыў вочы, адкінуўшы галаву на спінку, маўкліва сядзеў, думаючы і ўспамінаючы тыя далёкія гады. Хацелася адразу ж і распакаваць пакет, абгорнуты шэрай ніткай, але ж нешта і стрымлівала, замінала. Доўга змагаўся сам з сабою, але рука міжволі пацягнулася да пакунка...

Дрыжачымі рукамі разарваў канверт, адгарнуў першую старонку пажоўклага ад часу агульнага сшытка.

“Дарагі мой Васілёк!

Праз тоўшчу часу я стукаюся да цябе. Хачу расказаць табе пра сябе, як пачуваюся тут у сталінскім лагеры, ды і паспавядацца заадно перад табою за тое, што не тое і не ўсё даў табе як настаўнік, як старэйшы дарадчык і сябра...

Акрамя маіх – жонкі ды Рыты з Марынкай – няма нікога радней за цябе ў свеце.Таму запозненa і звяртаюся да цябе з апошнім урокам, калі дазволіць Бог з часам і здароўем, каб даказаць тое, што не дагаварыў, што не аддаў табе...”

На вочы нагарнуліся слёзы.

Ён адклаў убок сшытак. Не мог больш чытаць... Зразумеў, што не гатовы да гэтага ўрока, – не падрыхтаваўся. І не хацеў атрымаць за тое дрэнную адзнаку.

Ніколі ён у школе не прыходзіў у школу непадрыхтаваным, і на ўроках Міхася Пятровіча атрымліваў толькі “выдатна”.

Завіхурыла, закружыла яго будаўнічае цячэнне, вір закручваў яго так, што здавалася, не зямны шар, а ён перад ім робіць круг за кругам...

Ён і радаваўся адначасова, што яго думкі адарваны ад тых, што не давалі яму спакою і штурхалі ў скроні па начах. Цяпер жа дапаўзаў да ложка і падаў, як забіты...

Праз тыдні два здалі аб'ект – жылы дом, і напружанасць спала, зусім знікла, і ён здзівіўся гэтаму.

Здзівіўся і адзначыў адначасова, што ў яго душы пасялілася замест ранейшай трывогі нечаканая радасць і добры настрой.

Яму захацелася дадому. Ён падумаў пра тое, што папросіць жонку, каб яна заварыла яму пахкай гарбаты, і ён усядзецца на канапу на ўсю ноч і будзе здаваць іспыты свайму настаўніку.

Васіль нават і пачуў яго голас: "Ну, што, жэўжыкі, хто смелы да дошкі выйсці?"

Цяпер да яго прыйшла смеласць, і ён прыйдзе ў клас падрыхтаваны і спакойны.

21

А дома, калі  пераступіў парог, сказала жонка неяк прыветна і весела:

– Зінчук званіў. Прасіў  наведацца. Падбадзёрыў, што ёсць добрая навіна для цябе. Да шасці будзе чакаць...

І ён, усё адклаўшы, зірнуўшы на гадзіннік, падаўся ў раённую пракуратуру…

Гадзіннік для Васіля быў яшчэ і компасам – штодня ён звяраў па ім свой час і накірунак сваёй дарогі.

… Ён зноў са сваёй пакручастай сцежкі выцерабіўся на бальшак.

Найперш  зразумеў і адчуў тое, ведаў, бо ноччу Вужык зноў напомніў пра сябе: быў вясёлы, рухавы, жвавы, прасіўся, каб яго сябар узяў на рукі, пагуляў з ім.

І нават у сне адчуў салодкую прыхільнасць Паўзунка, які зняў з душы ўсе трывогі і сумненні.

*1990-2002 год*

# Замалі мой грэх

*Вока за вока, зуб за зуб,*
*руку за руку, нагу за нагу, апёк за апёк,*
*рану за рану, сіняк за сіняк...*
Выхад 21 (24-25)

*Не забівай...*
Выхад 20 (13)

## Частка першая

### *Прынцэса*

1.

За акном – цемрадзь.
За акном – цішыня...

Нават галінка ясакара, што настойліва церлася аб тоўстую шыбіну акна, напамінаючы пра сябе, аціхла, супакоілася... А то на нейкі момант бліснe ў шыбы зыркае святло ад фар легкавушак, што ўязджаюць у вароты бальніцы, ды зноў сутоніцца ноч у двары.

У акно кабінета загадчыцы рэанімацыйнага аддзялення Зінаіды Паўлаўны заглядвае цікаўна круглатварая поўня. Яна то ўсміхаецца даверліва, прымружыўшы вейкі, а то і зусім хавае вочы пад ледзь заўважнымі брыўмі... Месячык Зінаідзе сапраўды нагадвае чалавечы твар. І то ўжо ад унутранага стану ці настрою ён здаваўся жаночым ці мужчынскім, вясёлым ці сумным...

Глыбокая ноч. Цяжкае выпала дзяжурства загадчыцы ў гэтую ноч. Такое выпадала і не так часта – надаралася... Мо раз на месяц. Яна заўважыла, а потым і пераканалася, і пісала ў сваёй справаздачы галоўнаму ўрачу, “што найбольшы рост захворванняў, асабліва рэзкіх праяўленняў іх, прыпадаў на перыяд поўнага месяца – поўні. І тое рэзка ўзрастала сярод той катэгорыі людзей, якія пакутавалі на сэрца ці артэрыяльны ціск”.

Цішэй ужо, спакайней рабілася хіба што пад раніцу – пасля трох гадзінаў. Во як і цяпер, калі памагла цяжкахворым набыць здаровую раўнавагу...

Думала, што ўдасца якую гадзіну паспаць у такі час, каб вярнуліся сілы, але сон уцёк ад яе. Не любіла яна такога стану, калі сон не перамагаў стому... І тут жа падумала, што вінаваты ў гэтым, мусіць, той жа месячык, яго поўная сіла... Таму і павярнула яна мяккае крэсла да акна, села ў яго, падкурчыўшы ногі. Знарок не ўключала святло, каб адчуць цішыню...

Калі шчыра, то не любіла Зінаіда ноч. Не любіла з тае пары, а дакладней, з тае ночы, як вярталася ад сяброўак у свой інтэрнат. Адчувала, як і некалі, незразумелы страх у душы, і ад таго трымцела, заходзілася сэрца ад няўцямнай трывогі. Але, насуперак свайму страху, ныряла ў нетрыскі ночы, як у цёмную тоўшчу акіяна, – старалася пераадолець той страх, імкнулася пазбавіцца ад яго... Страх не адступаў, але і не непакоіў яе, – трымаўся ўстойлівай дыстанцыі, не напамінаючы пра сваё існаванне; але не знікаў сам па сабе, затойваўся. Як усё роўна хацеў, каб яна памятала пра яго, каб ведала, што ён селіцца ў чалавечай душы надоўга і можа наведацца ў самы неспрыяльны момант...

Поўню схавала ўжо шэрая аблачына, што насунулася раптоўна з правага боку – з захаду. Нейкі момант воблака трымала ў сваіх абдымках зыркі круг, як усё роўна накінула на яго сваю нябачную мярэжу, але потым не хапіла моцы ўтрымаць, – і поўня зноў вырвалася на волю...

Звычка глядзець у зорную ноч засталася ў яе са школьных гадоў. Неба прыцягвала яе сваёй таямнічасцю і загадкавасцю. Бо там жылі зоркі. Там знаходзіўся неабдымны космас. Там жыў Бог.

У школе, дзе яна вучылася, Бенідзікт Селівестравіч, са смешным прозвішчам Зубок, выкладаў заалогію і астраномію. Біялогію ён выкладаў без асаблівага імпэту і запалу – як быццам тым самым сцвярджаў – хіба можна знайсці што цікавае ў жывёльным свеце? Хаця ж і не адмаўляў, што ў кожнай навуцы і галіне існуе свая чароўнасць і ўзнёсласць. А вось у астраноміі...

Астраномію Бенідзікт абагаўляў. Ён лічыў, што чалавек і космас – гэта адзінае цэлае, што яны зітаваны адной касмічнай энергіяй, неразрыўнай духоўнай сувяззю. Настаўнік у вёсцы лічыўся за дзівака. Кожную раніцу, няхай то зімой ці ўлетку, а пятай гадзіне, ён, з непакрытай галавой, з зажмуранымі вачыма, стаяў нерухома і прымаў, як ён казаў, з космасу энергетычныя прамені. Стаяў заўсёды босы.

Калі ж зіма, калі снегу выпадала па калена, то ў яго для гэтага існавала і прыстасаванне – збітая з дошак квадратная скрыня з пяском, якая мела накрыўку на завесах. У гэтай скрыні, напоўненай жвірам, і стаяў настаўнік астраноміі ў адных плаўках...

Потым выліваў на сябе, падрыхтаванай загадзя для гэтага, вядро халоднай, са студні, вады, і тады толькі павольна ішоў дахаты...

А поўня раскашоўвалася на паўнеба, разагнаўшы воблакі; збірала вакол сябе зоркі, групавала з іх сузор'і, кожнаму прысвоіўшы назву – Рак, Паннач-ка, Шалі... Зінаіда ўглядалася ў гушчэчу зорак, выбірала з іх самую яркую, і таму прыкметную, і доўга не адрывала позірк, – як усё роўна старалася даслаць ёй усе свае трывогі і сумненні, падзяліцца імі...

І зорка, цяжка ў тое паверыць, пачула яе, адгукнулася, прыветна заўсміхала-ся, зрабілася зырчэйшай, чым поўня, – і тут жа нябачным рухам, трымаючы за адзін канец, шпурнула скрутак шпалеры, які пачаў тут жа раскручвацца і каціцца да яе, Зінаіды. Утварылася бела-жоўтая дарожка, яна пераліваласягся-блішчэла колерамі, – як запрашала ступіць на чароўную сцежку.

Дарожка прытачылася да акна, знерухомела. Каб ступіць на яе, трэба расчыніць раму. Але ж на вуліцы, здаецца, халадэча, і таму распранутай не выйдзеш. Зінаіда сцепанулася ад холаду.

– Не бойся, расчыні акно, – прашаптала даверлiва Зорка, і голас у яе, як зразумела Зінаіда, падобны да голасу матулі. – Я запрашаю цябе ў свае ўладанні...

– Мне страшна, – прызналася жанчына, – я ж ніколі не гуляла сярод зорак...

– Усе гуляюць, а чаму ж ты баішся? – здзіўлялася жыхарка неба з яе страху. – Ты ж з дзяцінства марыла пра тое, ці не так?

– Так, але ўсё ж... Пачакай, мне ж трэба асмеліцца.

Калі ж асмялела, то тут жа нейкая незямная сіла падняла яе лёгенька з крэсла, і яна стала каля акна. Крутанула ручку замка адной рамы, потым другой, – і расчыніла насцеж акно... Светлая дарожка, па якой спрэс высы-палі блакітныя васількі, пасцялілася на падваконне...

Яна ж яшчэ нейкі момант вагалася, раздумвала. Асцерагалася, каб хто не ўбачыў яе дурноцтва – абсмяюць тады за бяздумнасць. Але рашылася, адважылася. Махнула рукой на перасцярогі і страхі – як маладзёнка ўскочы-ла на крэсла, з крэсла на падаконнік, а там ступіла ўжо, на такую прыцягаль-ную і таямнічую, дывановую дарожку, сатканую з markdownразнакаляровых ці то кве-так, ці то каштоўных камянёў... Яна паверыла, што дарожка моцная, што яна не праваліцца, як некалі ў дзяцінстве, калі ступала на першы падманны лёд... Паверыла, і першы прасцярожлівы крок ступіла на цвёрдую і моцную паверхню зорнага шляху...

– Ну, цяпер не баішся?

– Не...

– Я ж казала табе, што ўсё будзе добра...

Другі крок ужо смялейшы. Трэцім і чацвёртым яна ўжо асмялела зусім, крочыла далей, як па алеі парка, адчуваючы пад нагамі цвёрдае апірышча.

Дзіўна, але яна за некалькі крокаў дайшла да зорак. Ішла ўжо сярод іх. І яны знаходзіліся так блізка ад яе, што яна магла ўжо дакрануцца да бліжняй рукой... Зорачкі розных памераў – маленькія, як яблыкі, а то як гарбузы, ці як каменні з агародаў, а вялікія знаходзіліся ўдалечы, і падобныя яны на высокія горы, на якіх раслі нізкарослыя дрэвы... А да "сваёй" Зоркі, якая запрашала да сябе, якая і высцяліла перад ёй дарожку, яшчэ далекавата – ісці ды ісці... Але затое не бачна поўні – яна ці то растварылася, ці схавалася, і было светла-светла... Тады Зінаіда зразумела, што гэта месяц стаў сонцам і высвечваў ёй шлях.

– Падабаецца? – пацікавілася Зорка.

– Ага. Вельмі. Ніколі не гуляла сярод зорак... Толькі марыла.

– Вось мара твая і здзейснілася...

Дарога раздалася ўшыркі, ужо здавалася белым заснежаным полем. Калі ж пільна прыгледзелася, то аказалася, што гэта спрэс раслі буйныя рамонкі. А пасля іх блакітным морам высцяліліся адны васількі ў нябесным лузе...

"Божа, як тут хораша і прыгожа! – радавалася Зінаіда... – Такое і ў сне прысніцца не можа... Нябесны рай, дзе лёгка і мройна, хораша і спакойна... Як усё суладна і разумна стварыў Вышні ў нябёсах! Хвала Яму і падзяка!.."

У яе ўжо знікае здзіўленне, адно радасць і асалода селяцца ў душы, і адчуванне незямнога шчасця перапаўняе ўсю яе істоту. Яна толькі баялася азірнуцца назад, каб зірнуць на зямлю, бо хацелася ўбачыць яе з вышыні зорак... Не асмелілася, не хацела губляць таго ўзнёслага настрою і пачуцця, якія авалодалі ёю... Бо ці паўторыцца такое калі ў яе жыцці, ці пакліча зноў да сябе космас, яе зорка, – невядома...

– А як цябе завуць? – асмелілася запытацца нябесная госця.

– Хіба ж не ведаеш? – падзівілася тая.

– Не... – сарамліва прызналася зямлянка.

– Я – тваё імя, я – твой лёс, я – тваё жыццё... Зі-на-і-да!

– Не чула пра такую зорку.

– У кожнага чалавека ёсць свая зорка. А мы кіруем вашым жыццём, кіруем так, як прадвызначыў Бог, Які стварыў неба, зямлю, і ўсё жывое на ёй...

– Цяпер буду ведаць. І ты заўсёды знаходзішся ў маім сузор'і?

– Заўсёды. Я – трэцяя зорка твайго сузор'я. Калі на душы цяжка, заўсёды на мяне глядзі – я падкажу, як пазбавіцца ад журботы ці няўдач...

– А да цябе яшчэ далёка ісці?

– Ды не, усяго некалькі крокаў...

– Дык, выходзіць, ты мяне запрасіла да сябе ў госці?

– Так, бо ты яшчэ ніводнага разу не праведвала мяне. Чаму?

– Бо не ведала, што да сваіх зорак можна наведвацца ў госці.

– А цяпер будзеш ведаць. І заўсёды будзеш жаданай госцяй. Нават не госцяй, а ўладаркай.

– Дзякую табе, мая Зорка!

– За гэта не дзякуюць. Мы ж з табой адно цэлае.

– А да мяне, калі я не існавала яшчэ, каго ты запрашала?

– Як каго? Зінаіду. І пасля цябе будзе Зінаіда, і пасля яе таксама будзе з тваім імем... Такая ўжо назва ў мяне.

Яна крыху паразважала, а потым папыталася:

– Тады мне скажы, Зорка Зінаіда, ці ведаеш ты імёны ўсіх зорак, што знаходзяцца тут?

– Ведаю.

– А ці далёка адсюль... зорка Леаніда?

– Леаніда? – перапытала прадстаўніца космасу, як бы ўспамінаючы, дзе яна знаходзіцца, і тут жа адказала з усмешкай: – Ды вось яна, побач... Планета паэтаў і летуценнікаў... Адтуль заўсёды даносіцца музыка, гучаць спевы...

– А для чаго ты пытаеш? На сэрцы Леанід ляжыць, так?

– Мг... Ляжыць. Пасяліўся. А я ў яго сэрца ўвайшла. Тады, выходзіць, што я магу і яго, з твайго дазволу, запрасіць сюды, да нас?

– Можаш. Як і ён цябе, дарэчы, можа запрасіць на сваю планету. Але для гэтага ўжо трэба атрымаць дазвол.

– Ад каго? – не ўтрымалася, спытала Зінаіда, але тут жа, зразумеўшы, паправілася: – А-а, ведаю, даруй, і даруй-выбачай, што закранула такое пытанне... Глупства ўсё гэта, даруй...

– Можа і глупства, а, можа, і не... Як паглядзець, і з якога боку...

Дарога перад Зінаідай цубкая, цвёрдая, і таму ступалася лёгка і ўпэўнена. За полем віднеўся лес. Злева – наліваліся сілай каласы жыта, а ўзбоч яго густа высыпалі валошкі, прыветна ківалі блакітнымі галоўкамі. Справа, за канавай, спрэс пакрытай лістамі лотаці і белых кветак, жаўцела лубінавае поле. Удалечы чуўся зазыўны пераліў жаўрука. Прыпарвала. Мусіць, надоечы прайшоў дождж, бо ўсё чыста вымыта, і не паспела яшчэ асесці на зялёны дыван пылота...

– Зінаіда Паўлаўна! Зінаіда Паўлаўна!..

– Што, мая Зорка? Чаму такі трывожны голас у цябе?

– То не я... То...

– Зінаіда Паўлаўна, прачніцеся! Там хворая памірае... Прачніцеся!

Клікала медсястра Ірына Шчэрба, якая дзяжурыла па аддзяленні. Але да загадчыцы не даходзіў сэнс яе просьбы – яна ўсё яшчэ знаходзілася ў пало-

не свайго дзявочага дзіўнага сну, і таму не хацела вяртацца ў рэальнае жыццё...

– Што... што здарылася? – праз сілу папыталася доктарка, не расплюшчваючы вачэй, не адрываючы галавы ад спінкі крэсла...

Ірына ўжо трэсла загадчыцу за плячо.

– Хворая памірае... у пятай палаце, трэба тэрмінова вашая дапамога! Пульс амаль не праслухоўваецца...

Толькі цяпер зразумела дзяжурны доктар, дзе яна знаходзіцца і хто стаіць побач з ёю... Расплюшчыла вочы. Поўня свяціла ў твар. І далёкія зоркі, вакол яе, перамігваліся між сабою.

– Уключы святло, Іра!

Зінаідзе ў вочы ўдарыла зыркае святло, і яна прыжмурылася, уздыхнула, набраўшы ў грудзі паветра...

І тады ж знікла поўня, зніклі зоркі, – яна вярнулася ў рэальнасць.

Зірнуўшы на медсястру, прамовіла:

– Рыхтуй, Ірка, усё неабходнае... Бягу!..

2

Рэзкі боль працяў усё цела, і Ева Прынцова прахапілася ад сну.

Прыслухалася да болю – кальнула зноў, але не так, каб і моцна, – і яна супакоілася, сцішылася. Усе, хто знаходзіўся з ёю ў палаце, спалі. А мо хто і не спаў, толькі стараўся заснуць, чапляючыся за дрымоту.

Зверху акна выглядвала поўня. Толькі ражком напачатку паказалася, а потым і ўся выпаўзла – стаілася між фіранак. Гэта нядобра, ведала Ева, калі месяц свеціць прама ў твар – для галавы кепска, дурной яна тады робіцца, незразумелае пачуццё ахоплівае чалавека, губляецца кантроль над думкамі і паводзінамі...

Але не адварочвалася ад акна і ад поўні – глядзела, насуперак сваёй жа прасцярожлівасці, на круглы сланечнік, як бы знарок падстаўляла твар пад халодныя месяцавыя промні... Ды што ёй баяцца і асцерагацца цяпер, калі апусцілася яна на самае дно жыцця, упала з вышыні свайго прыдуманага шчаслівага палёту ў такі бруд, у такое пекла, што і дарогі назад няма, – і цяпер ужо ніхто не выбавіць яе з яго, нават і сам Бог... Бо найперш перад Богам яна правінавацілася, найбольш перад Ім...

“Божа, Божа, навошта Ты аддаў мянена такі здзек і знявагу, на такія пакуты і паслаў мне такія выпрабаванні?Для чаго? Ты ўсё адабраў ад мяне, пазбавіў усяго... З-за чаго? Не перашкодзіў, не абярог ад ганьбы, ад пакут... Ведаю, што Ты даў мне крылы, і неба, і шчасце... Але ці то я сама ўсё адры-

нула ад сябе, забыўшыся на Тваю перасцярогу і папярэджанне, ці Ты перадумаў і вярнуў назад? Не ведаю, Божа, не ведаю... А цяпер ці то Ты караеш мяне, ці то я сама караю сябе, не разабраць...”

Не, яна не шкадавала сама сябе, але слёзы міжволі скатваліся на падушку. На душы холадна і абыякава, і таму слёзы не апякалі вочы, а цяклі самі па сабе, як капяжы вясной, калі прыходзіла цяпло...

Эх, Ева, Ева, прыгажуня Ева!

Якой ты была, а якой стала, якой прыйшла ты да свайго чарговага выпрабавання? Жах! Была прынцэсай, а стала кім? Бамжыхай? Чалавекам без душы і без жаданняў. І хто вінен у тым, з чыёй ласкі так усё сталася? Выпадак? Нешчаслівы збег абставінаў? Сатана ножку падставіў? Нікога не вінаваціць Ева, толькі самую сябе.

Эх, каб вярнуць усё, пачаць жыццё спачатку!.. Ды напісана, на вялікі жаль, частка кнігі яе жыцця, на чысты аркуш перапісана, а чарнавікі ўсе спалены ў печы бяздумнасці. А шкада, ой як шкада!..

Якім шчаслівым магло б наладзіцца жыццё, мог напаткаць яе шчаслівы лёс, мару маглаператварыць у казку і цуд, – і мела яна для таго ўсе магчымасці і ўмовы.

Ды выпусціла з рук Еўка свой адзіны шанец, прагледзела яго, не сышла своечасова з поезда на патрэбнай станцыі, праехала яе. Хаця ж, перад гэтым, нешта ці нехта штурхаў яе пад бок, гаворачы: “Сыдзі, дзяўчынка, сыдзі... Далей ехаць небяспечна, пад адхон ідзе дарога, ды і рэйкі пад коламі крывыя, ды і шпалы пад імі гнілыя, хісткія...”

Не пачула таго слабога і ціхага покліч у, не ўздрыгнула сэрца, не ёкнула нават, наадварот, зажмурыўшы вочы, уздыхнула, сама сабе праказала з незразумелай абыякавасцю: “А, будзе, што будзе!..”

І паплыла па цячэнні, немаведама на што спадзеючыся, – нават і вясла ў рукі не ўзяла, каб свой човен да берага прыгнаць ды і прывязаць ланцужком да бетоннага слупа, каб ніякі ўраган не занёс той човен на глыбіню і не раструшчыў важкімі хвалямі...

Цякуць слёзы ў Еўкі, не спыняюцца, а на душы ў яе пуста, маркотна і горка... І поўня, як і яна, стала маркотнай, і, каб не паказваць свайго твару, за шэрае воблака схавалася...

Вечары адпачынку ў медвучылішчы ладзілі як не кожную суботу.

Танчылі пад радыёлу, пад акардэон, на якім імпэтна іграў выкладчык фізкультуры Зміцер Драбук. На скокі прыходзілі і мясцовыя хлопцы – з Кармы. Заглядвалі ў вучылішча і халасцякі з міліцыі, нават са сваімі сябрамі пракурор раёна, чарнявы і ўвішны, з кучаравай чупрынай.

Аднойчы, калі ён зірнуў ёй у вочы, адчула, як яе абдало гарачынёй, – позірк пранізаў наскрозь. Еўка тады з некім танчыла, і ён, абдымаючы адну з прыгожых студэнтак, кружыўся ў цэнтры залы. Іх позіркі перакрыжаваліся выпадкова. Зірканулі адно на аднаго з-за спінаў нейкае імгненне, але і яго хапіла, каб апаліць свае крылы аб пякучае полымя яго позірку... Ева паспела заўважыць вочы пракурора – чорныя, агністыя, вясёлыя... Ён нават падміргнуў ёй, жартуючы, каб крануць яе ўвагу, зачапіць, прымусіць адрэагаваць на яго пагляд... А далей ужо Еўцы думаць – адказваць на яго зачэпку ці зусім адрынуць яго заляцанні.

А ён і сам, не падазраючы таго, крануўся яе душы... Пракурор тое зрабіў міжволі, сам таго не хочучы, пажартаваў, не патрабуючы нават ад яе ніякага адказу... Яна і сама яшчэ на пачатку не здагадвалася, што ён, як крапівой, апёк яе душу. Нарадзіўся амаль нячутны, па ўсім целе, сверб...

Яна не ведала яго прозвішча, як і не падазравала нават, што ён пракурор. Усе ведалі, што яны, самаўпэўненыя ў сабе, гарадскія юнакі, старэйшыя за іх па ўзросце, належалі ці то да раённага начальства, ці мелі нейкія пасады на нейкай працы...

Калі б яе жыццёвы вопыт налічваў хаця б з гадоў трыццаць, ды ў прыдачу да гэтага яе цнатлівасць і непасрэднасць школьніцы старэйшых класаў, ды яе прыгажосць, – то яна магла б зачараваць любое, нават самае халоднае сэрца. А разам з тым змагла б дабіцца ўсяго-ўсяго, пра што толькі марыць жанчына, дамаглася б самых высокіх вяршыняў, узнялася б на самую высокую прыступку ці то кар’еры, ці то кахання... Ды, на вялікі жаль, не аказалася побач таго дарадчыка, добрага чараўніка, цудадзейцы, які б засцярог, адпрэчыў ад яе бяду. Не стаў той, нехта, абаронцам. Як, дарэчы, і для многіх, каго выправіў лёс на жыццёвую дарогу, выправіў без падтрымкі, без компаса, без устойлівых жыццёвых прынцыпаў... З аднымі хіба што школьнымі схаластычнымі паняццямі і ідэалагічнымі кірункамі, у якія не верылі нават самі школьныя настаўнікі... Бо ў падручніках напісана адно, а жыццё, на практыцы, патрабавала зусім іншага, калі не адваротнага...

От той позірк! Погляд незнаёмца, позірк сэрцасмока, перасмешніка, упэўненага ў самім сабе і ў сваіх дзеяннях чалавека... Сваім дзявочым сэрцам адчула, што ў яго, мусіць, не існавала ніколі сумненняў, разваг, пакут у выбары дзеянняў. Не пазбаўлены, напэўна, і рашучасці, смеласці, упартасці. Мусіць жа, не адна з прыгажунь здалася яму ў палон і вір кахання...

Адно, што ён мужчына. Яму прасцей. Ён вышэй над абставінамі і нечаканасцямі. Бо ён моцны, уладарны. Бо ён як драпежнік – як той жа леў ці тыгр. У яго вострыя кіпці і зубы. І ён заўсёды пераможца. А яна – усяго толькі безабароннае зайчанё... І не дадзена ёй права ўладарыць, падпарад-

коўваць усё сабе. Бо Бог даў жанчыне толькі адну магчымасць – падпарадкоўвацца. І тое, мусіць, пачалося яшчэ з тае даўняе біблейскай пары, калі Ева парушыла запавет Бога. Калі Ён прасіў, каб яна і Адам не падыходзілі да забароненага дрэва ў раі і не каштавалі з яго пладоў...

Яна не падышла б, о не, ніколі ў жыцці не наблізілася б да яго, ды той, нябачны і настойлівы, нашаптаў ёй тыя салодкія словы, – і яна паверыла ім, здалася, амаль не змагаючыся, у палон...

Растапілася яе сэрца, як воск ад полымя свечкі. Як уберагчыся ёй, Еве-студэнтачцы, будучаму медыку, ад такіх слоў, – што для гэтага трэба, каб не паслізнуцца і не ўпасці ў той роў, які падсцерагаў на кожным кроку? Хто падкажа?..

3

Восень...

Залатая пара, медзяныя пятакі пад нагамі ляжаць, каштанавыя зжоўклыя, як промні сонца, лісты з доўгімі сцяблінамі – шамацяць пад нагамі...

Любіла Ева восень. Любіла тую раннюю пару, калі толькі-толькі пачынала жаўцець лістота. Дзяўчына падняла некалькі, толькі што апалых на зямлю, лістоў. Адчула пальцамі іх цеплыню. Пашкадавала, што ў гэты час яна не ў сваім лесе, дзе восень глядзіцца зусім па-іншаму, чым тут, у горадзе.

У гарадскі сквер Ева Прынцова забегла на хвілінку, балазе вольны час надарыўся. Восенню любавалася. Хаця гэтага багацця ў іх лесе, дзе яна жыла, хоць адбаўляй, але і ў скверы ёсць свая адметнасць і прыгажосць...

– Добры дзень! – пачула яна каля сябе нечый голас – павярнулася на яго.

Перад ёю стаяў юнак у знаёмай форме – ці не ляснічы? Акурат такую форму носіць ляснік з яе вёскі – Язэп Кашэвіч. Памятала, што на лацкане яго летніка значылася жоўта-светлая выява лісцяў дуба і жалудоў.

І яна пазнала таго, хто прыходзіў да іх на танцавальныя вечары. Гэта ж ён апёк яе поглядам, што і яшчэ забыць не можа, міргануў яшчэ, як даўняй знаёмай... У форме ніводнага разу яго не бачыла...

– Добры дзень! – адказала, вусны сціснула, ніжнюю губу прыкусіла. А потым усміхнулася, бліснуўшы часначынамі зубоў, зачырванелася.

– А я пазнаў вас, – прызнаўся ляснік. – Здалёк пазнаў...

– А я не адразу, – пацiснула яна плечуком, – форма вашая збіла з панталыку... Вы да нас на танцы прыходзілі са сваімі сябрамі... Але мяне ніводнага разу не запрасілі...

– Вінаваты, выпраўлю сваю памылку ці недахоп, – заўсміхаўся юнак. – Але ж я не ведаю, як вас завуць?

– Еўка. Ой, Ева. То так сяброўкі мяне называюць. А вас?

– Мяне – Адам. Адам Мяжэвіч.

Памаўчалі. Ішлі ўпобачкі, дакранаючыся плечукамі адно да аднаго.

– Харошы дзень сёння, – паглядзеў на яе букет з жаўталісця.

– Вельмі харошы. Я люблю восень, лічу яе лепшай парой года.

– А для мяне лепшая пара – лета.

– Выбачайце за цікавасць, а вы ляснічым працуеце? – паглядзела дзяўчына на яго пятліцы.

– Ляснічым, – кіўнуў ён галавой і рассмяяўся.

– Чаго вам смешна? – не зразумела спадарожніца, пільна прыгледзеўшыся да яго – што такога смешнага сказала?

На плячо яму ўпаў пажоўклы ліст. Ён паглядзеў на яго, як на жывую істоту. Узяў, пакруціў у руцэ, паглядзеў ёй у вочы:

– Ева, а хочаце анекдот на гэтую тэму?

– Хачу...

Яны паволі ішлі па асфальтавай дарожцы, спрэс укрытай зжаўцелым лісцем. Яно шамацела пад нагамі, чаплялася за падэшвы. Яго яшчэ не кранулі асеннія дажджы і слоты, не стапталі ногі людзей.

– Вы былі калі-небудзь на судзе?

– Не, – прызналася яна, – а што?

– Ды нічога... Ну, уявіце, што ідзе суд... Судзяць бацьку і сына за нейкае злачынства – укралі ў калгасе мяшок жыта. Сын пытаецца ў бацькі: “Адкажы мне, бацька, на такое пытанне. Вунь сядзіць суддзя, а вунь адвакат, міліцыянер, што склаў на нас пратакол... Але што тут робіць той, у форме ляснічага?..” Бацька ўздыхнуў і адказвае: “Сынок, гэты ляснічы, пра якога ты кажаш, можа адваліць нам з табой такую дзялянку ў лесе, што мы і за трыста гадоў не расчысцім яе... То, сыне мой, пракурор!..”

Ева нахмурыла броўкі, хацела засмяяцца, хаця б усміхнуцца, але ёй не ўдавалася тое зрабіць. З працяругай папыталася ў яго:

– Ды вы, Адам, мусіць, пракурор?

– Так... Вы ўгадалі.

Яна адвяла позірк, ужо глядзела перад сабой:

– Дык вас, выходзіць, трэба баяцца-асцерагацца?

– А вам чаго асцерагацца? Хай асцерагаюцца забойцы, гвалтаўнікі... А вася аберагаць павінен.

– Аберагаць? Ад каго?

Яна стрэльнула ў яго бок вокам, хітра прыжмурылася.

– Ад злых людзей.

– А іх шмат – злых людзей?

– Нават больш, чым вы думаеце.

Ева задумалася, прыставіўшы пальчык да носа. Спынілася, як быццам перад ёю вырасла нейкая нябачная перашкода.

– Як становяцца медыкамі, я ўжо ведаю... А як вучацца на пракурора?

Ён усміхнуўся:

– На пракурора, Ева, не вучацца, пракурораў прызначаюць. А так я чыгуначнік. Скончыў  Гомельскае вучылішча чыгуначнікаў. Працаваў потым па накіраванні на Полацкай чыгунцы. Паступіў на завочнае ва ўніверсітэт – на юрыдычны... Прапанавалі работу ў пракуратуры. І вось мяне накіравалі сюды, у раён. Вось і ўвесь мой жыццёвы шлях...

– Цікава, – прамовіла дзяўчына, – ніколі не размаўляла з пракурорам.

– Ну, вось я перад вамі... А што вы можаце расказаць пра сябе? Гэта будзе лічыцца, што вы мне даеце свае паказанні...

Разумела, што жартаваў Мяжэвіч, стараўся выклікаць да сябе давер.

– Няхай будзе так, – заўсміхалася Ева, плашчык чырвоны балоневы захінула, каб затуліў калені, зашпілілася.

Яна адразу адчула прыхільнасць Адама. Ведала, што зачапіла і яго сэрца, і што ён, Адам, стараецца сам спадабацца ёй. Не магла забыць той позірк падчас суботняга вечара... Яна ўжо умела адрозніваць абыякавыя позіркі ад тых, што пранізвалі сэрца...

– Згодна, Адам... Мне хацелася шмат кім быць, але я выбрала дарогу медыка... Нас у сям’і чацвёра дзяцей. Старэйшы з нас, Віцька, а з трох сясцёр я самая малодшая... Бацька – брыгадзір трактарнай брыгады. А сама я з Брагіншчыны...

– А я з Рэчыцы – амаль землякі, – уставіў Адам свае словы, падтрымаўшы яе аповед.

– Вось і занесла сюды, у медвучылішча. Тут старэйшыя сяброўкі мае вучыліся, і мне падказалі сюды дарогу...

– Лёгка вучыцца? – паглядзеў на яе Адам, і то была шчырая зацікаўленасць, жаданне даведацца пра яе трохі больш, чым яна расказвала.

– Напачатку было цяжка, а потым нічога, уцягнулася.

Яны падышлі да аркі сквера, спыніліся.

– Час маёй прагулкі скончыўся, – паглядзеў ён на свой гадзіннік. – Абедзенны перапынак... А ў вас вольны час?

– Была практыка ў бальніцы і рана скончылася.

– Ева, а мы яшчэ можам убачыцца?

Яна дзёрнула плечуком:

– Не ведаю... Мо калі-небудзь... Загружана я апошні час, прадыхнуць няма калі.

– Зразумеў. Але калі надарыцца вольны час і захочацца перакінуцца словам-другім, зазірніце да мяне. Пяты кабінет, дзяжурны пакажа...

– Добра, Адам, добра...

– Ева, а ў мяне да вас будзе просьба.

– Якая? – насцярожылася дзяўчына.

Усміхнуўся, адчуваючы сябе ніякавата пад яе позіркам, трохі памаўчаў, і нарэшце вымавіў:

– Не знікайце... Невядома, якія дарогі чакаюць нас наперадзе, і невядома, якая дарога перад намі выпадзе... Дамовіліся?

– Я буду думаць над вашымі словамі.

– А калі зайсці не выпадзе, ды пад рукамі будзе тэлефон, то пазваніце... Мой тэлефон лёгка запомніць – чатыры пяцёркі, а апошняя двойка...

– Добра, Адам. Вам пара? Да сустрэчы!

– Да сустрэчы. Я хацеў бы, каб мы сустрэліся яшчэ. А вы?

– Час пакажа. Я вельмі не люблю нешта абяцаць. А абяцанні заўжды трэба выконваць.

Ён хацеў пакінуць яе, павярнуўся ўжо, але перадумаў, узяў за локаць, пільна паглядзеў у вочы. Адзначыў пра сябе, што ў яе прыгожыя вочы – як спелыя жалуды. Асмялеўшы, спытаў:

– Ева, а чаму цябе называюць у вучылішчы Прынцэсай?

Яна засмяялася, не адводзячы позірк, бачыла ў яго зрэнках сваё аблічча, адказала абыякава:

– Не ведаю... Мо ад прозвішча – ад Прынцовай. Ды ўсім мянушкі даюць, далі яе і мне... У цябе няма больш да мяне пытанняў?

Ён моўчкі адмоўна пакруціў галавой. Яны не заўважылі, як перайшлі на “ты”. Тое адбылося натуральна і незаўважна.

– Не знікай, Прынцэса!..

– Добра, слухаюся, мой пракурор!

Прыкусіла ніжнюю губу, вокам на яго стрэльнула, і першай пайшла з месца іх развітання. Ніводнага разу не азірнулася, хаця адчувала на шыі яго позірк. Ведала, што ён не скрануўся з месца, глядзіць у яе бок...

Калі ж адышла на ладную адлегласць, спынілася, каб пераканацца ў сваіх здагадках – Адама Мяжэвіча каля аркі ўжо не было.

А ўвушшу чуліся яго словы: “Не знікай, Прынцэса!..”

Нікому з сябровак не сказала, што пазнаёмілася з пракурорам, што ён чакае новай сустрэчы. А пра сябе падумала, што, мусіць, ён яшчэ не паспеў ажаніцца, калі навідавоку прахожых стаяў з ёю, прапаноўваў сустрэцца зноў...

Не сказала, не пахвалілася, баючыся напалохаць чароўную птушку з магутнымі крыламі, спадзеючыся на нешта прыгожае і светлае, якое можа ўзняць

яе на вяршыні шчасця і ўзнёсласці... Тушыла ў сабе тое слабое і кволае жаданне, не верачы нават, што яно можа калі-небудзь здзейсніцца, не давала яму прарасці. Сама сябе супакойвала, што мара яе прывідная, і да яе здзяйснення шлях доўгі і пакутны. І ці здзейсніцца яно яшчэ, ніхто не ведаў. Казала сама сабе: “Не спадзявайся на вялікае, бо і расчараванне будзе вялікае. Навучыся трымаць сябе ў руках. Не выстаўляй напаказ свае пачуцці... Ну, папрасіў не знікаць, і што з таго? А куды ты знікнуць можаш? Нікуды. Сцеражыся салодкіх слоў, бо не кожнае і мёд...”

А ноччу сніўся ёй “ляснік”... Быццам яны ідуць разам па іх дуброве, якую вяскоўцы назвалі “Дубнае”. Ён трымае вялізны букет з жаўталісця, і ў нейкі момант кранаецца яе рукі. Дакрануўся – і яе як усё роўна праццяла токам.

“Чаго, чаго ён увайшоў у маё жыццё? – пыталася яна ў сябе самой, лежачы на інтэрнацкім ложку, чуючы, як сяброўкі бесклапотна пасопвалі, праваліўшыся ў сон... – Не да дабра тое, як казала бабуля Юзэфа, – альбо цукар, альбо соль...”

Не ведала, ці то радавацца, ці то асцерагацца, што выпала на яе долю... Але на сэрцы пасялілася незразумелая трывога.

Нехта надакучлівы, бессаромны, як юрлівы змей, падпоўз да самага вуха, залез нават у вушную ракавіну, шыпеў, як выдзімаў з сябе паветра, вучыўпавучаў, невядома з якой мэты і з якога злога жадання: “Ева-Еўка! Ты ж Прынцэса! Ты ж валодаеш магутным дарам – незвычайнай прыгажосцю. Перад табой мужчыны павінны штабялямі класціся, мастом масціцца перад табою, услаўляць цябе, маліцца на цябе!

І твой пракурор на цябе моліцца, ніякавее, калі глядзіць табе ў вочы. Ён апаліў тваё сэрца, але ж ты і яго таксама параніла. Сама ж заўважыла тое, праўда? Ён гатовы табе аддаць яго, толькі ты павінна мудра і ўмела распарадзіцца Божым дарункам... Табе не хапае чараў, паэтычнасці, настойлівасці, узнёсласці...

Ты вельмі прыземленая, і вінавата ў тым тваё вясковае жыццё... Але ты адорана светласцю жывой прыроды, ты ўся аж свецішся дабрынёй і пяшчотай, цнатлівасцю вечароў і ранкаў; прырода навучыла цябе прыгажосці.

А вось хто навучыць зберагчы, захаваць, утрымаць тое ўзнёслае пачуццё, аберагчы яго ад нападаў злоснасці і чорных сілаў?..”

“Стой-пастой, мой чароўны Голас-дарадчык, – просіць яго дзяўчына, просіць затрымацца, каб памог ёй разабрацца ў пачутых парадах, – дык што, выходзіць, атрымліваецца яно так, што я недасканалая, з хібамі?..”

“З хібамі, з хібамі... Калі Бог дае чалавеку талент, то Ён павінен даць яму і засцярогу, абарону, меч і шчыт, каб не страціць той дарунак...”

“А як узняцца мне над зямлёй, над самой сабой, адарвацца ад цяжару і неразумення, узляцець на вяршыні зразумеласці і ўсведамлення свайго прызначэння?..”

“Гэтаму, на жаль, я навучыць не магу. Бо мы не ў Эдэме, і няма таго забароненага дрэва Спазнання самога сябе... І я не Змей-Спакушальнік, які хоча збіць цябе з той дарогі, якую прадвызначыў табе Вышні. Я – голас тваёй душы, голас тваёй добрай палавіны... Скажу па сакрэце, другая палавінка твайго голасу маўчыць, яна яшчэ не нарадзілася, бо нават яшчэ для таго і зачацця не было... І я не ведаю, калі тое будзе... Хачу, каб яго і зусім не было... Ты адзіная ў гэтым свеце, і ў цябе няма ні дарадцы, ні памочніка... Табе адной і прымаць рашэнні, і змагацца са сваімі сумненнямі... Табе патрабуецца шмат сілаў, каб выбаўляцца з лабірынтаў і пастак, якія будзе расстаўляць перад табою жыццё...”

“Мне страшна... Я не ведаю, як жыць, па якой сцяжыне ісці, каб не паслізнуцца... Дзе ўзяць сілы, каб выстаяць, дзе ўзяць мудрасць, каб абысці рыфы і не разбіцца сослепу аб іх... Хто мне паможа? Хто?”

“Найперш, мусіць, сама. Тут ніхто табе не паможа – ні бацька, ні маці... Знайдзі ў сабе сілы. Яны ў цябе ёсць, яны проста дрэмлюць, чакаюць свайго часу... І май спадзеў на Бога... Усё ў Яго руках...”

“Як доўга ты будзеш са мною?”

“ Хацеў бы ўсё жыццё. Але...”

“Якое усё хісткае ў маім жыцці, і якое няпэўнае... Няма духоўнага апірышча, пэўнасці, усведамлення правільнасці сваіх паводзінаў... Я як быццам заблудзілася ў глухім лесе з балотамі і дрыгвой, а выйсці з яго немагчыма, бо і компаса ў руках няма, і не ведаю, у які бок мне трэба кіравацца...”

“Так і павінна быць, у рэшце рэшт... Бог кожнаму з нас дае шанец... Бо кожны чалавек – Творца, бо кожны чалавек – Бог, бо і Вышні стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве... Бабуля твая колькі разоў запрашала цябе, каб ты з ёю схадзіла ў царкву?”

“Так, запрашала. Але ж мне нельга было – я ж камсамолка, і таму нам забаранялася наведваць Божы храм... А я, тым больш, з‘яўлялася камсоргам класа... Тое мне памагала, каб я не адставала ў вучобе, каб характарыстыку добрую далі для паступлення...”

“Выгодаў шукала?”

“Чаму – выгодаў? Усе ішлі такім шляхам. Інакш нельга. Нас паставілі ў такія рамкі. Рамкі абмежаванасці, гатоўнасці да выканання любога загаду, які сыходзіў ад настаўнікаў ці камсамольскіх важакоў... І мы не маглі іх не паслухацца... Інакш мы не маглі атрымаць жаданага выратавальнага круга, бо маглі патануць у той жа багне хлусні і падману, чэрствасці і людской

глухаты... Нас імкнуліся далучыць да агульнай масы, гурту з адным бязлікім тварам...”

“Так, згодзен, і ты не магла вырвацца з абдымкаў таго монстра, абдымкаў д‘ябла. Бо ўсё, што ад д’ябла, – усё ад сатаны... Але самае страшнае падпасці пад уладу таго ж сатаны. Яшчэ страшней, калі ў табе спаў і не прачынаўся дух супраціву. А жыццё – гэта ж змаганне. І праца над самім сабой. Праца па ўдасканальванні самога сябе. Па ачышчэнні душы ад бруду. А гэтаму навучыць можа толькі Вышні.”

“Я хачу прыйсці да Бога – як тое зрабіць?”

“Пераступі парог храма. Вывучы малітвы. А малітоўнік табе, здаецца, дала бабуля... Далей ты ўжо будзеш ведаць, як кіравацца ў жыцці.”

“А як мне...”

“Даруй, але табе пара спаць ужо... За адну ноч ты ўсе свае праблемы не вырашыш, і не трэба тое старацца рабіць...”

“Але я...”

“Спаць, Еўка-дзеўка, спаць трэба... Спаць, спаць, спаць...”

Пацяжэлі вейкі, цела стала неадчувальным і бязважкім... Яна паслухалася загаду – і ў той жа момант мройна паплыла ў чоўне, па спакойнай рацэ, да берага свайго прызначэння...

Яе ахутаў моцны і глыбокі сон...

4

Не было Адама на вечары ў наступную суботу.

І праз суботу, і яшчэ праз тыдзень...

Вельмі хацелася Еве набраць тыя чароўныя чатыры пяцёркі і двойку, але не асмелілася, перамагла сама сябе ў душэўным змаганні. І зайсці ўжо хацела на працу, ужо і да пракуратуры падышла, за дзверы ўзялася, ды апяклі яны агнём яе даланю, як токам ударылі, – і яна адхапіла руку, у кішэню палітона схавала...

А потым і сама на танцы не хадзіла – некалькі выхадных запар ездзіла дадому, – па родных засумавала, ды і маці захварэла... І выветрылася збольшага тое хваляванне з галавы, як нейкі прыемны і салодкі сон успаміналася знаёмства з “ляснічым”, яго словы і просьба “не знікай...” альбо “я вас аберагаць павінен...” Аберагаць. Ад каго? Яна ж і сама за сябе пастаяць зможа...

Да Новага года заставаўся тыдзень.

Апошняя субота выпадала, і, як заўсёды, наладзілі “ціскатэку”. Сябры Адама прыйшлі. Так і хацелася падысці да каторага і спытаць, куды падзеў-

ся пракурор Мяжэвіч. Ды саромелася, баялася, каб не падумалі чаго кепскага... Нават калі яе запрасіў сяржант міліцыі Ігар Рабкоў, а яна яго ведала добра, не асмелілася нават і яго спытаць пра Адама...

Запрасіў танцаваць і Сяргей Стром, аднакурснік, прапанаваў:

– Ева, мы на Новы год збіраемся ў мяне. Запрашаю цябе. Будзе вясёлая кампанія. Дык як, прыдзеш?

– Не ведаю, – адказала няўцямна. – Не думала яшчэ пра тое...

За тыдзень да гэтага яна набрала з аўтамата нумар тэлефона Мяжэвіча – чуліся толькі доўгія гудкі, а яе сэрца аж разрывалася ад няпэўнасці і сораму. Разоў з дзесяць ішлі гудкі, і столькі ж разоў выскоквала з грудзей сэрца... Ніхто не адказваў. Ці з’ехаў куды, ці ў адпачынку знаходзіўся...

І яшчэ раз паспрабавала пазваніць яму. Зноў – гудкі. Толькі пасля гэтага адказала на просьбы Сяргея пра Новы год:

– Добра, буду.

Сяргею яна давярала. Вучыліся ў адной групе. Быў ён з-пад Мінска. Пасля разводу бацькоў бабуля ўзяла яго да сябе. Выдзяляўся сярод хлопцаў сваёй непасрэднасцю і ціхмянасцю. Як і ўсе хлопцы, быў закаханы ў яе...

У кіно колькі разоў хадзілі. У прыцемку залы цнатліва цалаваліся. Да большага ў іх не даходзіла, ды і не імкнуўся ён да большага...

– А хто там будзе, на той вечарынцы?

– Мае сябры, з райкама камсамола хлопец, ты яго ведаеш... Да нас у групу прыходзіў, падпіску праводзіў...

І тое яшчэ больш супакоіла яе.

І Новы год сустракалі ў Сяргея.

Бабуля Марта ў бальніцы ляжала, на сэрца хварэла, – так што моладзі ніхто не замінаў. Кампанія сабралася ніштаватая: чалавек з дзесяць. І верхаводзіў той жа Барыс Зайцаў, райкамавец.

Тосты цікавыя і вясёлыя гаварыў. Усе смяяліся, развесяліліся. На сталах стаяла віно і гарэлка, шампанскае і каньяк.

Дзяўчаты ўсе незнаёмыя, рагаталі са смешнага і не смешнага, пілі і пілі, колькі ім і налівалі. Зайцаў падліваў каньяку і Еве, але яна адпіхнула яго руку, адпрэчыла:

– Не п’ю я зусім нічога, Барыс, не навучылася...

– Не можа такога быць. Камсамольскія работнікі ўсе п’ючыя. А ты ж – камсорг групы. А скончыш вучылішча, мы цябе ў райкам забярэм – у школьны аддзел. Будзеш камсамольскім сакратаром...

– Харошы з яе сакратар атрымаецца, – падняў сваю чарку рыжы, с высокай чупрынай, хлопец. – За тое і вып’ем!

Глыток, здаецца, і зрабіла Ева, не болей. Але і ад гэтага адразу закружылася галава, перад ёю усё захісталася... Потым падліваў, падвесялелы ўжо, Сяргей. Язык развязаўся ў яго, асалавелымі вачыма глядзеў на Еўку, у каханні прызнаваўся.

– Прыгажэйшай, ёшкін кот, за цябе нікога і ў горадзе няма, – абдымаў ён яе, – ты – сапраўды Прынцэса, Каралева!

– У мяне галава, Сяргей, вельмі кружыцца, – вінавацілася яна, як прасіла прабачэння за сваю слабасць... – На паветра выйсці б... Кепска мне.

Ён не разумеў яе, як і не чуў, пра што яна гаварыла.

– У дэка хочам, у дэка! – прасіліся дзяўчаты. – На танцы. А потым зноў сюды прыйдзем... А ты, Ева, як? З намі? – папыталіся ў яе, чакалі адказу.

Яна адмоўна пакруціла галавой:

– Кепска мне, галава баліць.

– Піла шмат?

– Ды не, сама не разумею, што са мной. Упершыню такое.

– Шкада. Ну а мы пабеглі, ногі скокаў просяць.

З Евай застаўся Сяргей. Ева, хістаючыся, пайшла да дзвярэй, каб выйсці ў двор, асвяжыць галаву. Праклінала сябе, што паслухалася Зайцава, што зрабіла той першы глыток. А потым і Сяргей наліваў нейкага незразумелага, горка-церпкага, віна. Сам віно не піў, прыкладваўся да каньяку.

– Ты куды, Ева?

– На вуліцу. Паветра мне не хапае...

– Там холадна, прастудзішся, – узяў за руку, спыніў. – Прастудзіцца можаш... Ты лепей паляжы, адпачні, і ўсё пройдзе, вось пабачыш, ёшкін кот...

Ён падняў яе на рукі, аднёс у глухі і цёмны пакойчык, паклаў на ложак. Сядзеў побач, гладзіў рукі. Дакрануўся да ног, да каленяў. Потым уткнуўся галавой у грудзі. Расшпіліў верхні гузічак кофты, пасля другі... Пачаў распранаць.

– Ты што робіш? – насцярожылася яна, напруцілася, і з усяе сілы ўперлася рукамі яму ў грудзі.

– Нічога, Еўка, нічога... Ты толькі не хвалюйся, усё будзе добра...

– Сяргей, не трэба!

– Трэба, Еўка, трэба!

Яна супраціўлялася, упіралася, што было сілы, біла кулакамі па твары, – крычала, плакала, выварочвалася з яго абдымкаў... Умольвала, каб не рабіў над ёю гвалт, твар яму падрапала, крывавыя пісягі пакінула, кроў капала ёй на твар. А ён як азвярэў, як усё роўна страціў чалавечае аблічча, – і перад ёю аказаўся ўжо зусім іншы чалавек, якога яна ведала перад гэтым... Ён распаляўся, як звер, не звяртаючы на яе ўмольванні і надрыўны плач аніякай

увагі. Калі ж яна з усіх сілаў сціснулася ў нябачную пружыну, і ён зразумеў, што не даможацца яе, ударыў кулаком па галаве. І яна абвяла, стала як мёртвая, яна як памерла, – і ніводнай жылкі ў яе не засталося жывой...

– Ёшкін кот, сама ж хацела, каб я... А цяпер перадумала?

Ён соп, абліваючыся потам, і на яе капалі салёныя кроплі... Ева ўскрыкнула ад болю, не ведаючы, ад чаго ён нарадзіўся. Зноў да яе вярнулася свядомасць і ўжо запознена пачала зноў адбівацца ад гвалтаўніка. А ён ужо не звяртаў увагі на яе ўдары, стагнаў ад напругі, задавольваючы свой шал... Потым ускрыкнуў, уздрыгнуўшы ўсім целам:

– Ёшкін кот!..

Агіда і сорам авалодалі ёю, прыкрасць і шкадаванне, што так усё выйшла... Яна, не перастаючы, плакала і плакала, хітаючы галавой, праклінаючы і гэтую наваголнюю ноч, і сябе, што паддалася на ўгаворы Сяргея далучыцца да іх кампаніі...

Сяргей пайшоў да стала, знайшоў бутэльку мінеральнай вады і са смагай прыклаўся да гарла. Выпіў усю, да дна. Наліў у фужэр з другой бутэлькі, прынёс у пакойчык да Евы.

– Мінералкі вып’еш, Еўка?

– Ды пайшоў ты са сваёй мінералкай! – злосна адказала, укладваючы ў свой адказ нянавісць і агіду да яго.

Яна паспрабавала ўстаць, апрануцца і пакінуць гэтае страшнае месца, але ён зноў прыціснуў яе да ложка, лёг на яе...

Прыйшлі ўжо з Палаца культуры хлопцы. Прыйшлі адны, дзяўчаты недзе затрымаліся, – а мо і зусім рашылі ўжо не вяртацца больш да навагодняга стала. Зазірнулі ў пакойчык, здзівіліся, убачыўшы такую сцэну – Прынцэса ляжала на ложку, а ён, голы, стаяў каля яе...

– Вы рана, хлопцы, прыйшлі, ёшкін кот... Але я ўжо здаволіўся. Хто яшчэ Прынцэсу не спытаў? Налятай... Яна цяпер усім дае...

– Я хачу Прынцэсу, – пачаў распранацца Зайцаў. – Даўно хачу праверыць, ці здасць яна экзамен на званне камсамольскага работніка...

Падняцца і адпіхнуць ад сябе райкамаўца ў яе не ставала ўжо сілаў...

Зайцаў лёг побач з ёю. Загарэўся, засоп... Яна ўскрыкнула ад болю, галасна заплакала...

– Божа, што вы са мной робіце! Вы ж заманілі мяне сюды, каб згвалціць!.. Вы пашкадуеце пра гэта, пашкадуеце...

Потым, пасля ўсіх, падкаціўся да яе той, высокі, рыжы. Ён даўжэй за ўсіх не адпускаў яе.

Яе пачало ванітаваць, а потым яна, ускрыкнуўшы, правалілася ў бяздонне...

5

Калі прачнулася, здзівілася цішыні. Не адразу дайшло да яе свядомасці, дзе яна і што з ёю здарылася. Побач, на ложку, спаў, гучна храпучы, рыжы хлопец. Паднялася з ложка. Перамагаючы боль, павольнымі крокамі выйшла з пакоя. Астатнія хлопцы спалі хто дзе. Зайцаў з Сяргеем на ложку, а двое на падлозе... Ева падышла да крана з вадой, спаласнула твар халоднай вадой. Потым адшукала сваё паліто, накінула на сябе. Агледзела яшчэ раз тое відовішча, скаланулася ад успамінаў. Нарадзілася жаданне ўзяць нож ды кожнаму з іх перарэзаць горла за той здзек, што яны ўчынілі над ёй, але страшна стала  ад адной толькі думкі, – і яна сцепанулася, як ад холаду.

Ледзьве дайшла да інтэрната. Цяжкім і пакутлівым, горычным і балючым стала для яе тая дарога.

Трое сутак не ўставала Ева з ложка. Зрэдку з грудзей вырываўся цяжкі ўздых, глыбокі боль працінаў усё яе цела. Але не стагнала, не паказвала нікому свой фізічны боль. А душэўны боль і так праглядваўся на яе твары. Да яды не дакранаалася, нават не піла нічога. Сяброўка і суседка па ложку, Маргарыта, старэйшая за ўсіх студэнтак, адчула нядобрае. Выгнала ўсіх з пакоя, выклікала “хуткую”, з-за чаго вельмі ўзлавалася на яе Ева.

Маргарыта і сама выйшла з пакоя, каб не замінаць дакторцы і не прысутнічаць пры размове.

Еву адразу ж забралі ў бальніцу. Яна спала некалькі сутак, не прачыналася. Прачнуўшыся, плакала і не магла ніяк суняцца... Ні з кім не хацелася гаварыць, хацелася накласці на сябе рукі...

Жанчына-гінеколаг, сярэдніх гадоў жанчына,  паклікала да сябе Еву.

– Ну, як ты? Адышла трохі?

У адказ толькі няўцямны поціск плячыма. У вачах боль і абыякавасць.

– Мала таго, што яны згвалцілі цябе, дык  занеслі яшчэ і ганарэю... Падонкі...

Толькі тады падняла на дакторку вочы – доўга не магла даўмецца, пра што яна сказала. А калі зразумела, зноў апусціла вочы долу, усхліпнула.

– У міліцыю будзеш заяўляць?

Яна адмоўна пакруціла галавой.

– Чаму? Гэта ж падсудная справа, і гвалтаўнікі павінны быць пакараны... Мы можам усё пацвердзіць дакументальна. Яны не адкруцяцца ад свайго злачынства. Сінякоў вунь колькі пакінулі...

– Не, Інэса Пятроўна,  не буду заяўляць у міліцыю. І судоў ніякіх не трэба. Я іх сама пакараю.

– Як? Як ты тое зробіш, дзяўчынка мая? – падзівілася дакторка.

– Зраблю, – адказала пацыентка раённай бальніцы, уздыхнула, выдзімаючы цяжар са сваіх грудзей, – і мой суд будзе страшнейшы... Толькі вялікая просьба ёсць да вас, Інэса Пятроўна.

– Якая?

– Ці можна пазбавіцца ад тых сведчанняў, што я ганарэйная? Я вылечуся, слова даю...

Дакторка задумалася. Паглядзела на пацярпелую, уздыхнула. Не хацелася ёй ісці супраць правілаў. За такое трэба несці адказнасць, рызыкаваць. Але, уздыхнуўшы, адказала:

– Я падумаю. Ну, а так глядзі сама, табе, як кажуць, відней.

Ева паднялася, каб ісці, зрабіла крок, другі, а потым павярнулася да дакторкі, спытала:

– А ці можна ад вас пазваніць, Інэса Пятроўна?

– Чаму ж не? Звані...

Ева набрала чатыры пяцёркі і двойку. Захацелася праверыць, ці на месцы Адам... Пачуліся доўгія гудкі – Мяжэвіч не адгукваўся.

“Можа, што здарылася з ім, калі такі доўгі час няма на месцы? А мо з‘ехаў у якую доўгую камандзіроўку... А мо захварэў, ды адлежваецца дзе дома, прымаючы лекі... А мо і зусім перамяніў месца працы – маглі ж яго перавесці ў іншы раён, ці забраць у вобласць на павышэнне...”

Яна паклала слухаўку, задумліва глядзела на тэлефон. Толькі цяпер да яе, з узмоцненай ужо сілай, падступілася горычнае шкадаванне, што не асмелілася тады, пад канец года, завітаць да яго на працу. Тады б і даведалася, што з ім, і чаго не на працы... Тады, можа, і жыццё яе пайшло б па іншым кірунку, мо і не напаткала б яе такое гора...

– Не адказваюць? – пацікавілася дакторка.

– Маўчаць...

– Калі цябе, Ева, выпісаць – заўтра, паслязаўтра?

– А якая ўжо розніца? Хоць сёння...

– Не, сёння яшчэ рана. А заўтра – пабачым...

... Праз чатыры дні Еву Прынцову выпісалі з бальніцы.

Не ведала яна, што з акна бальніцы, з другога паверха, глядзеў у яе бок хворы з дванаццатай палаты – пазнаваў і не пазнаваў, праводзячы яе позіркам, разважаў:

“Прынцэса? Не, здаецца, не яна. Чаго ж ёй тут быць? Не, не яна... У Прынцэсы гордая асанка, а гэтая дзяўчына нейкая прыгнутая, згорбленая, і нашмат старэйшая...”

Каля акна, апіраючыся на мыліцы, стаяў пракурор раёна Адам Мяжэвіч...

...Стрыечны брат Маргарыты, Віктар, працаваў следчым у міліцыі. Маргарыта папрасіла яго, каб ён дапамог пакараць крыўдзіцеляў Евы. Ён і сустрэў яе аднойчы пры выхадзе з вучэбнага корпуса, папрасіў спыніцца і адысці з ім. Прыйшоў без формы, каб не кідацца ў вочы. На яго здзіўлена паглядзела Ева, не разумела, чым абавязана невядомаму чалавеку.

– Даруйце, што запыніў вас, – вінаваціўся Віктар Кавалюк, хлопец гадоў за трыццаць, ён таксама зніякавеў, як і іншыя, зірнуўшы ёй у вочы, адчуў, як апякла прыемна яе прыгажосць, – выдзеліце мне хвілінку...

– Хоць тры, – усміхнулася дзяўчына, – хоць пяць...

Яны адышлі ўбок, саступілі з дарогі.

– Я з міліцыі, – не адрываў ад яе позірку міліцыянт, і тут жа пастараўся супакоіць яе: – Вы толькі нічога кепскага не думайце... То я сам праявіў ініцыятыву пабачыцца з вамі... Я даведаўся, што сталася з вамі... Ці не хацелі б вы пакараць падонкаў? Адправіць за краты...

Яна спачатку нахмурылася, прыкусіла верхнюю пульхную губу, пранізліва, і нават з нейкім унутраным злом, зірканула на яго, а пасля нечакана разрагаталася:

– Са мной нічога не сталася! Вам напляلі! Глупства нейкае. Не верыце? Дык у бальніцы, дзе я ляжала, пацвердзяць тое... У мяне запаленне было... Выдумаюць жа...

Следчы быў прысаромлены. Не разумеў, чаму так адказала Прынцова.

– Пытанні да мяне яшчэ ёсць? Няма пытанняў. Тады, выбачайце, мне няма калі...

Усміхнулася бесклапотнай усмешкай і, горда ўзняўшы галаву, пайшла па шэрым снезе. Не ведаў следчы раённага аддзела міліцыі, не здагадваўся нават, што за тую ганьбу, якую ўчынілі над ёю гвалтаўнікі, за тое, што яна за адну ноч прайшла праз тое пекла, выпэцкалася ў бруд і абразу, – ганарліўка сама рашыла і пакараць, і адпомсціць...

Прынцэса зрабілася ранейшай, яшчэ больш весялейшай, – у вачах калючыя, як і да гэтага, агеньчыкі, і ружовыя шчокі сведчылі аб маладой сіле, аб бесклапотнасці і весялосці. І калі б хто ведаў пра тую трагічную ноч, то ніколі не паверыў бы ў тое, што яна выкінула крыўду з галавы, што не надала вялікага значэння таму здарэнню, – як усё роўна не з ёю адбылася душэўная трагедыя і траўма...

Ды толькі ніхто ў свеце не ведаў, не здагадваўся, што тварылася ў душы Прынцэсы.

Сяргей напачатку баяўся і падыходзіць да Евы, думаў, што дзяўчына кінецца на яго, і ўжо не кіпцюрамі ўвап’ецца ў твар, а і вочы павымае яму...

За такое не даруюць. А яшчэ горш, калі настрачыла заяву ў міліцыю, што з-за яго здарылася ўсё...

Назаўтра, прачнуўшыся, зразумеўшы ўсё, што адбылося, хапіўся за галаву: “Што нарабіў? Што ўтварыў? Навошта? Яна ж магла быць маёй жонкай, а я...” Ён не чуў, як яна пайшла. Убачыў, што ўвесь ложак у крыві, жахнуўся: “Няма мне даравання... Я ж – забойца!..” Прачнуўшыся раніцай, не глядзелі адзін аднаму ў вочы. А каб прыглушыць трывогу, выпілі па шклянцы гарэлкі – і разбегліся.

Яго спальвала віна, і ён намерыўся сам ісці ў міліцыю, прызнацца ва ўсім. Але тады прыйшлося б называць прозвішчы і астатніх. А гэта ўжо... Каб жа адзін, то і адказваў бы за сябе, а так... Перажываў, шкадаваў, што так адбылося: “Я ж зверам аказаўся, а не чалавекам... Ды яшчэ на здзек аддаў яе іншым...” Найшла на яго нейкая памарака, абвалакла яго, і сам сябе ненавідзеў за такі ўчынак, злачынны ўчынак...

Не ведаў, як выкупіць сваю віну, як і не ведаў, ці ўвогуле можна адкупіцца ці замаліць такі грэх…

”Гэта, мусіць, ад бацькі, – думаў ён, – у турме ж сядзеў за згвалтаванне... І маці разышлася з ім, даведаўшыся, што ён не кідаў такі гнюсны занятак – вечарам выходзіў за горад і ў цемры цікаваў дзяўчат... Біў па галаве, адцягваў у кусты, а потым, беспрытомную, гвалціў... Ды адна з іх аказалася самбісткай – скруціла гвалтаўніка ў бараноў рог, міліцыі здала, наручнікі на яго перад гэтым надзеўшы... Няўжо і я па бацькавай дарозе пайду?! Не дай Бог...”

Але на танцавальным вечары, куды Сяргей не асмельваўся заходзіць, Прынцэса сама падышла да яго. За руку ўзяла, заўсміхалася ветла, пяшчотна паглядзела яму ў вочы:

– Чаго ж ты пазбягаеш мяне, Сержык? Мо перастала падабацца табе, мо прыгажэйшую за мяне пакахаў, га? Прызнавайся!..

У хлопца акругліліся вочы. Чаго-чаго, ды толькі не такога чакаў ён пачуць ад яе. І слова не мог вымавіць ад нечаканасці, што яна сама падышла да яго, ды падышла не з папрокам і крыўдай, а з вясёлым настроем, паказваючы, што нічога страшнага і не адбылося... Сэрца соладка тарганулася, цеплыня па ўсім целе разлілася, пачырванеў, не ведаў, што і адказаць у такім выпадку...

– Ды не... я, разумееш... Сам хацеў даўно падысці да цябе, папрасіць прабачэння за... Няма мне даравання. Я – самы апошні асталоп і боўдзіла... я... ну, сам, не ведаю, ёшкін кот, як усё адбылося... Я ніколі не піў гарэлкі, а тут як адурэў. Я... я ажанюся з табой, Прынцэса! Стань маёй жонкай! Жыць будзем у бабулінай хаце... Яна на мяне хату адпісала.

Ева, задраўшы галаву, голасна разрагаталася. Многія павярнуліся ў іх бок, не зразумеўшы, чым выкліканы такі смех.

– Ого, як ты заспяваў, мой Сержык! Ды выкінь ты ўсё з галавы! З кім не бывае. Сама вінавата, што так атрымалася... Я ж не ведала, што вы дурману ў каньяк падмяшалі...

– То не я, то Зайцаў, я сам бачыў...

– Ды няважна тое. Я і сама аддалася б табе ў той вечар, але хацела зрабіць тое прыгожа, пад музыку... Каб радасць у маёй душы пасялілася, каб песня ў душы звінела...

Ён зноў утаропіўся ў яе – жартуе? Здзекуецца? Ці праўду гаворыць? Не разумеў Сяргей яе паводзін, яе настрою.

– Здзіўляешся з мяне? А я і сама з сябе здзіўляюся. Ды выкінь усё з галавы. Даўно трэба было так са мною, а то корчыла з сябе цэлку-недатыкальніцу. А то ж нават і крыўдна – усе дзяўчаты з хлопцамі па ложках, весела, аж гай шуміць, так мілуюцца, а я, як белая варона, замшэлая і несучасная... Так што дзякуй табе, Сярожка, што адкаркаваў бутэльку шампанскага...

Здзіўленне яго ніяк не праходзіла. Агарошаны ад пачутага, ён прытуліў яе пяшчотна да сябе, прыціснуў моцна, адчуваючы напятасць яе маладых грудзей, удакладніў радасна:

– Ты напраўду так думаеш, Еўка? Не хлусіш? Я ж ужо рыхтаваўся за краты адправіцца...

– Яшчэ паспееш туды, – жартавала-пацяшалася з яго Прынцэса, – туды – ніколі не позна... Тут уволю нагуляйся, пацешся з асалодай жыццём... І я разам з табою...

– Ну ты і класная дзяўчына! – радасна ўсклікнуў хлопец, тулячы яшчэ мацней да сябе, пацалаваў за вухам пахкія косы. – Ты і праўда так думаеш?

– А чаму няпраўда, мой любы? – яна ўжо ціхшэй прамовіла словы, як патаемнае жаданне адкрыла яму. – Цяпер і я хачу адчуць слодыч яднання з хлопцам... І прама сёння хачу аддацца табе. Жаданне ў мяне нясцерпнае такое... Як ты – згодзен?

Пільна паглядзела яму ў вочы. Пранізвала яго позіркам, стараючыся нарадзіць у ім жаданне авалодаць ёю, зняволіць яе сэрца і душу.

Сяргей акругліў вочы, часта задыхаў, наліваючыся свербам шалу.

– Я заўсёды хачу цябе.. Ты мне снілася начамі... І раней, і цяпер... Хачу, хачу, хачу...

У той вечар яны праводзіліся. Прынцэса выпраменьвала адно пяшчоту, абяцаючы незвычайную начную асалоду, і шэпт яе ліўся на хлопца знекуль з вышыні, з нябёсаў. І ён сапраўды ўзляцеў на сёмае неба ад шчасця, – і ўсё ніяк не мог паверыць, што самае страшнае, што магло адбыцца ў яго жыцці,

адступіла... Ён цяпер зможа скончыць медвучылішча, і яго не выключаць ні з камсамола, ні з вучылішча...

Сяргей адчуў сябе шчаслівым і вольным чалавекам.

– Пойдзем да мяне? – удакладніў ён.

– Да цябе... На той ложак, дзе я страціла дзявоцтва. Сам казаў, што можаш пабрацца са мною. Ты ў мяне першы... Значыць, я твая жонка, так?

– Так, жонка, Прынцэса! Я шчаслівы чалавек сёння!

Бабуля спала ў сваім закутку, і яны нячутна прашмыгнулі ў пакойчык, дзе жыў Сяргей.

– Каханая мая, прынцэса мая, прыгажуня з прыгажунь, – шаптаў хлопец прачула словы, патанаючы ў яе абдымках, у яе пяшчоце і слодычы, – я цябе нікому не аддам, ты будзеш толькі маёй...

– Але ж ты аддаў мяне іншым, – вясёла папікнула яна яго.

– Тое было няпраўда. Ты мая цяпер, назаўсёды мая!

– Не веру!.. – смяялася яна, раскінуўшы рукі, круцячы гарэзліва галавой. – Не веру, мой каханы... Не паспее і трэці певень праспяваць, як ты ад мяне адрачэшся...

Не зразумеў яе слоў Сяргей, мо і не чуў іх, заняты сваім, а калі і пачуў бы, то не надаў бы ім ніякага значэння: пры чым тут пеўні, пры чым тут чубаткі, абы душа спявала ад шчасця, абы ён трымаў яе ў сваіх руках і адчуваў яе пяшчотнасць...

– Не адракуся, не адракуся!.. Я кахаю цябе, Прынцэса!

– І я цябе... Моцна-моцна...

Прынцэса ў гэты момант не адчувала нічога-нічога, хіба толькі агіду, якая перапаўняла яе. Адно толькі жорсткая помста жыла ў душы: “А цяпер і ты атрымаеш тое, што падаравалі мне твае сябручкі... Яшчэ не пахваліліся табе? Пахваляцца... Ганарэяй пахваляцца. І ты будзеш такім жа... Гэта за здраду, за той вечар, за гвалтаванне, за тое, што збіў мяне з майго шляху...”

Яна рэзка адпіхнула хлопца ад сябе.

– Ты што, ёшкін кот, я ж яшчэ... – здзівіўся ён ад таго, што яна перапыніла ўсё, у самым разгары асалоды адпрэчыла яго ад сябе... – Што з табою, Ева?

– Што? – злосна перапытала яна. – Групавуху наладзіў, а цяпер пытаешся, што... Ды не зажыло ў мяне яшчэ усё, крывяніць, вы ж вельмі ўсе пастараліся...

– А-а, – зразумеў Сяргей, – шкада...

– Мяне шкада, ці шкада, што свой шал не здаволіў, га?

– Ну... я...

– Нуя, ні х... – перайшла дзяўчына на грубасць і мацюкі, – хопіць з цябе, і гэтага будзе давол... Можа нават і залішне... Ты – мне, а я – табе... Мне пара, – пачала апранацца Прынцэса.

– І не заначуеш?

– Яшчэ чаго не хапала.

Такога павароту падзей ён не чакаў. Не разумеў, што адбывалася з дзяўчынай, чаму такі рэзкі паварот ад пяшчоты да грубасці і злосці... У вesніках, развітваючыся, хацеў прытуліць і пацалаваць дзяўчыну. Яна ж груба адпіхнула яго ад сябе, са злосцю прамовіла:

– Ты... Вырадак бацькі свайго і маці! Каб аббягаў мяне за тысячу кіламетраў, і не падыходзіў блізка. Нават і не глядзеў у мой бок. А праз тры дні, калі раптам выступяць слёзы на вачах і ўспомніш мяне, то не вельмі крыўдуй на мяне, – мы ўсе ахвяры сляпога кахання...

– Ева, што з табой? Жартуеш? – не пазнаваў ён Прынцэсу. – Я ж...

– Яж, яж  – соплі размаж, – зноў адзёрнула яго, і ад яе ў гэты момант сыходзіў такі холад і непрыступнасць, што хлопец сцепануўся, – соплі – табе мая падзяка...

Крутанулася – і пайшла прэч. Пайшла назаўсёды, не ўвайшоўшы ў яго сэрца, не ўпусціўшы яго ў сваё. Наколькі высока Сяргей Стром у гэты вечар узляцеў на крылах на высокую гару шчасця і асалоды, настолькі ж нізка апусціўся, тварам бразнуўся ў брудную калюжыну, што аж пырскі, разам з акуркамі і харкамі, разляцеліся ў розныя бакі...

Ён яшчэ доўга глядзеў у шэрань ночы, у той бок, куды пакіравала і знікла Прынцэса, –  усё яшчэ спадзеючыся, верачы, што яна толькі пажартавала з ім, што  вось-вось вернецца і, смеючыся, папытаецца ў яго: “Ну, як я пад’южыла цябе? Някепская з мяне артыстка атрымалася б, ці не так?”

Але яна не вярталася. Не чуваць цокату абцасікаў.

І на вуліцы, і ў яго душы распаўзалася цемра. І ў хату ісці не хацелася, але і на вуліцы стаяць не выпадала ўжо,  – зуб на зуб не пападаў.

Нічога не зразумеў Стром, адно горкае шкадаванне ахапіла яго.

6

У райкам камсамола Ева Прынцова прыйшла пад канец дня.

Барыс Зайцаў, загадчык арганізацыйнага аддзела, раніцай яшчэ пазваніў і папрасіў, каб яна прынесла ў райкам план мерапрыемстваў групы да канца вучэбнага года.

Перад гэтым сустрэў яе ў раймагазіне. Яна першай заўважыла яго, падышла, заўсміхалася, павіталася. А ён і не здзівіўся, убачыўшы яе, адказаў на вітанне. Убачыўшы яе вясёлы і бесклапотны твар, адкінуў ад сябе трывогі, павесялеў.

– Як жыццё, Прынцэса?

– Ды нармальна, Барыс, усё ў парадку, дзякую.

– Хутка заканчваеш ужо вучобу?

– Так. Засталося ўжо мала.

– Не перадумала да нас ісці? Сакратар працуе да лета, а потым ідзе ў дэкрэтны адпачынак. Будзем трымаць для цябе месца.

– Я гатова, – Ева адкінула з твару кудзерку косаў. – Калі запрашаеш, пайду...

Пра Навагоднюю ноч не ўспаміналі. Як і не было яе – ні ў яе, ні ў яго жыцці.

“Значыць, не ён ганарэйны, – падумала, адчуўшы, што ён не страціў да яе цікавасць, – значыць, гэта той, з кінафікацыі, ці малады міліцыянерчык, Коля...”

Яна пастукалася, прачыніла дзверы, пераступіла парог кабінета. Зайцаў борздзенька ўскочыў з крэсла, абрадавана паглядзеў на наведвальніцу, прамовіў:

– Ты файна выглядаеш, прыгажосці ад цябе не адняць...

– Стараюся, – заўсміхалася яна, дастаючы з папкі тыя паперы, якія прасіў загадчык аддзела.

– Сядай, я прагледжу іх.

Ева агледзелася. Ніводнага разу не была яна ў кабінеце Зайцава. На сцяне партрэт Брэжнева і Леніна, на стале – чорны бюсцік правадыра. Сталы старыя, пашарпаныя. Яна ўспомніла, як яе прымалі ў камсамол. Прымалі агулам, аднаго за адным. Яе спыталі, кім працуюць бацькі, і як яна вучыцца. І потым дзяжурнае слова: “Ты прынята ў члены ВЛКСМ!” Наступны!..”

– Ну, што, Ева, паперы ў цябе напісаны правільна, з выдумкай. Адразу відаць, што ты – будучы камсамольскі работнік.

Ён падышоў да яе, шэптам спытаў:

– Час маеш?

– Маю...

Зайцаў падышоў да дзвярэй, нячутна павярнуў ключ у замку, зачыніў іх. Чуліся яшчэ нейкія галасы на калідоры, размовы. Потым і зусім стала ціха.

Святло не ўключалі. Загадчык аргаддзела засцяліў белую паперчыну на стале, паставіў пляшку “шампанскага”, каўбасу, карабок цукерак...

Ева маўчала. Яна ведала, як яно ўсё пачынаецца і чым заканчваецца – чакала развязкі...

– Ты даруй за Навагоднюю ноч, – паўшэптам сказаў Барыс. – Памарака нейкая найшла... Ды падзадорыў Сяргей сваім воклічам: “Хлопцы, хто яшчэ Прынцэсу не...” Мне трэба было спыніць усё ды набіць яму морду. А я... Даруй... Будзеш у нас працаваць, пра ўсё забудзеш...

– Ды кінь ты, – супакоіла яго дзяўчына, – не будзем пра глупства... Налівай лепш, выпіць хочацца...

– Во, гэта па-нашаму, па-камсамольску! – узрадаваўся камраб, – а што табе наліць?

– Шампанскага...

Цукеркі смачныя, якія і падабаліся ёй – “Грыльяж”. Іншым разам яна трэслася б ад страху, прадчуваючы непазбежнасць моманту, але тут іншае, вядомае загадзя... Зайцаў чакаў уцехі, хацеў задаволіць сваю юрлівасць, не ведаючы, не падазраючы нічога...

– Я захмялела, – прызналася дзяўчына.

Ён абняў яе, прытуліў. Павярнуў галаву да сябе, моцна ўклеіўся губамі ў яе вусны. Гарачы шал падкаціўся да яго, што ён ужо не мог трываць... Рука пашылася пад бюстгалтар, сціснула грудзі... Вось і ўсе гузікі расшпілены, і бюстгалтар пстрыкнуў на спіне, і кофтачка акуратна павешана на спінку крэсла... Барыс скінуў з сябе адзенне, паклаў Прынцэсу на стол, паспеўшы адначасова зрабіць некалькі глыткоў шампанскага з гранёнай шклянкі...

– Ты хочаш мяне, Ева?

– Вельмі.

– І я хачу цябе, Прынцэса!

Столь закружылася, сплыла некуды ўбок, і яна ўскрыкнула, учапілася пазаногцямі ў яго бакі – аж скура залезла пад пазаногці... Зачапіла рукой статуэтку правадыра і ён упаў на падлогу, пакаціўся недзе да дзвярэй...

– Што з табой? – спалохаўся ён.

– Мне баліць... І кроў, мусіць, пайшла, – хлусіла Прынцэса, спыніўшы ўсё, на самым цікавым для Зайцава, месцы. – Пасля той ночы не гоіцца...

Не паказваючы сваю незадаволенасць, Барыс пачаў неахвотна апранацца. Прымяняць сілу ў кабінеце ён не асмеліўся. Моўчкі апраналася і яна.

– Ева, у нас праз месяц камсамольскі злёт у лесе, будуць сакратары з Мінска і Масквы, – зашаптаў камраб, – ці ёсць у цябе ахвота павесяліцца, патанцаваць? Ніхто да цябе прыставаць не будзе, толькі са мной будзеш. Выклікаць цябе на злёт?

– Пакліч, – згадзілася яна. – Але калі будуць прыставаць да мяне маскоўскія сакратары, няўжо ты не ўступіш мяне ім... Страх як хачу узнагародзіць сваім каханнем маскоўскага госця...

Ён здзіўлена глядзеў у цемры ў яе зрэначкі вачэй, перапытаў:

– І не будзеш крыўдаваць?

– А чаго крыўдаваць? Я ж буду здаваць экзамен на званне сакратара райкама камсамола, ці не так? Правільна я зразумела?

– Так... Але...

– Не хвалюйся, і з цябе хопіць. Я ж не скнарная...

Ён прытуліў яе да сябе:

– Добра, што ты ўсё разумееш...

– Так што чакаю выкліку. А за месяц, я думаю, у мяне ўсё загоіцца... А цяпер выпусці мяне са сваёй клеткі. У інтэрнат мне трэба. Маргарыце паабяцала, што прыду к сямі...

Ён пацалаваў яе на развітанне. Нячутна павярнуў ключ, выпусціў на калідор. Потым чуў, як яна ішла, цокаючы абцасамі па бетоннай падлозе, як дайшла да агульных дзвярэй і адчыніла іх... Ідучы паўз вокны, на вуліцы ўжо, павярнулася да яго, кіўнула галавой. Ён прыставіў да шкла растапыраную даланю, спадзеючыся, што яна ўбачыць яго твар у цемры. Запознена пашкадаваў, што не ўсунуў ёй у сумку карабок з цукеркамі.

Наліў сабе поўную шклянку гарэлкі і набгом выпіў да дна. Скрывіўся, ухапіў цукерчыну, укінуў у рот. У ім жыла незадаволенасць – як быццам бег на доўгай дыстанцыі да фінішу, і не змог дабегчы. Не ведаў, куды падзець сябе, як пазбавіцца ад той злосці, што запаўзла ў яго...

“А мо дачакацца прыбіральшчыцу Серафіму, ды з ёю закончыць тое, што не ўдалося з Евай? – падумаў ён. – А што?”

Прыбіральшчыца павінна была прыйсці праз паўгадзіны.

7

“Спаць пара, спаць пара”, – недзе ў зарасніках вербалозу сцвярджалі шэрыя перапёлкі, ёй, Еўцы, загадвалі, каб заснула...

А яе не браў сон. То вада з крана так капала, а ёй здавалася, што яна ў лузе з бацькам. Кроплі падалі адмыслова – адна ўпадзе з меднага крана, а за ёй дзве, як бы дапаўняючы мелодыю, даганяючы адна адну: ка-ап, кап-кап... І атрымлівался – “спаць пара-ааа, спаць па-ра...” За акном светла, месяц раскашоўваецца ў небе, ролю начнога сонца іграе, Еўчыны думкі і ўспаміны перабірае... Сумныя ўспаміны ў яе, горычныя, не з кожным і падзеліцца, адкрые сваё сэрца... Не разлічыла свае сілы і магчымасці, не зразумела, не ўбачыла той мяжы, дзе заканчвалася помста і дзе злачынства пачыналася, – сама сябе ў чорны вір зацягнула, у багну, ды так глыбока яе засмактала, што вышэй горла патанула, вось-вось захліпнецца...

У палаце такія ж, як і яна, “отбросы общества”. Людзі самага апошняга гатунку, калі яны яшчэ людзі, калі яны яшчэ маюць нейкі гатунак... Усе яны тут “узнагароджаныя”, і тыя, якія “узнагароджваюць”, але, як казала прыбіральшчыца, цётка Вальжына, не зоркамі Героя Савецкага Саюза.

Кожная з іх магла б панарасказваць пра сябе такога, што і Мапасану разам з Дзюма не адужацьнапісаць пра іх лёс... А маглі б пранікнуцца іх

жыццём, іх узлётам і падзеннем, шчасцем і горам... Тут такое спляценне чалавечых эмоцый, што нікому, мусіць, і не пад сілу перадаць глыбіню і трагізм чалавечай душы...

Бог церпіць да апошняга. Ён дае і дае шанец чалавеку выпаўзці са сваёй жа багны. Выплыць. Ён і кідае ім круг выратавання, круг спадзеву і веры ў лепшыя перамены...

Ужо два тыдні Ева Прынцова ў венералагічнай бальніцы. Не сама, не па сваёй волі апынулася тут, а па прымусе... Трэба было ёй, дурніцы, раней спыніцца, азірнуцца, пакаяцца перад Богам за свой грэх, – мо і выплыла б з тае багны, мо і стала б чалавекам, роўнай сярод людзей... Пакацілася, паслізнулася на слізкім лёдзе, ды яшчэ з гары, Прынцэса, упала некуды ў цемрадзь яе залатая карона, якую ўздзеў на яе Гасподзь, – насіла кароткі час, ды не скарыстала па прызначэнні, выпусціла з рук жар-птушку шчасця...

То яе запрашалі, а то яна і сама пачала набівацца на спатканні і сустрэчы. На яе кідаліся хлопцы і мужчыны, як мухі на мёд. Прыходзіла вечарам у рэстаран, хаця грошай у яе не было на такую раскошу, сядала дзе-небудзь у закутку, спіной да залы, заказвала сабе бутэльку піва, і цадзіла з асалодай бурштынавы напой. Піла да тае пары, пакуль хто-небудзь не падсаджваўся да яе і не пытаўся:

– Дазвольце каля вас прысесці?

Яна дазваляла. А далей падзеі разгортваліся так, як і павінны былі разгортвацца, – так, як і жадалася, так, як і хацелася...

Той, хто падсядаў, заказваў выпіўку і закусь, спадзеючыся, што ў яго баляванні прыме ўдзел і незнаёмка.

– Паможаце мне раздзяліць мой стол? – пытаўся сусед па стале.

– Ну, калі вы ўжо так настойваеце...

Піла і адну чарку, і другую, не адмаўлялася і ад трэцяй... І, здаецца, не хмялела, толькі весела ўжо глядзела на свайго субяседніка, чакала, калі пачнуцца галоўныя падзеі...

– Хочаш пракатацца на машыне? – пытаўся захмялелы гуляка, ікаў ужо ад выпітага і з‘едзенага, чакаў  адказу.

– Ну, калі ты так настойваеш, ёшкін кот...

Яна ўяўляла ўжо, што перад ёю яе аднакурснік, якому яна ўжо адпомсціла, а цяпер будзе помсціць іншым – за кампанію...

– Настойваю...

– На машыне? – рагатнула яна, як узрадавалася ўсё роўна, што вечар яна і далей правядзе цікава. – Страшэнна люблю катацца на машыне...

Прынцэса ўжо ківала галавой, згаджаючыся на прапанову мужчыны... І яе радавала, калі ў машыне аказваўся не ён адзін, а некалькі чалавек.

Тады ўжо лік тых мужчынскіх асобаў, якім яна помсціла, павялічваўся, хаця тую лічбу, якую яна намеціла, перакрыла ўжо...

І яна цярпела боль і знявагу, калі да яе ў ложак запаўзаў адзін, а то і двое адразу, смяялася, рагатала, як усё роўна атрымлівала асалоду ад таго, што яны рабілі з ёю...

Адна толькі помслівая думка свідравала і ўзбуджала яе свядомасць: “Радуйцеся, радуйцеся, але потым жа шкадаваць будзеце... Але не вас я змушала да гэтага, то вы мяне змусілі... Бярыце, бярыце напоўніцу, і мяне потым успомніце... А якім словам – тое і няважна...”

Спачатку яна сама сябе ненавідзела за гэта, праклінала і таго, з-за якога ўсё тое адбылося, а потым усё прытупілася, набыло нейкую незразумелую агрэсіўную афарбоўку і форму – помста, помста, помста... Ужо і “ляснічы” сплыў з яе памяці, успамінаўся, як эпізод з нейкае дзіцячае казкі, і твар яго ўжо сцёрся з памяці, і сустракацца з ім ужо асцерагалася і баялася...

Ва ўнівермагу ненарокам сустрэла. Амаль твар у твар. Ён быў задумлівы нейкі, стомлены. Ды во, накульгваў на правую нагу. Падумала тады, што можа што здарылася з ім тады, пад Новы год, раз не быў так доўга на працы... Ева рэзка нахіліла галаву, як што шукала пад нагамі, і прашмыгнула паўз яго. Не ўбачыў, не адчуў яе блізкасці, што яе нават і ўзрадавала – навошта яму яе клопаты і трывогі... Ды і саромелася глядзець яму ў вочы, бо яна была ўжо не тая, што стрэлася некалі яму ў парку – няйначай дзівоснай птушкай з лёгкімі крыламі... А цяпер... А цяпер яна згубіла тыя чароўныя крылы. Можа і не згубіла, а абламалі іх, абсеклі, груба і жорстка, не звяртаючы ўвагі на яе нязгоду і пратэст, на яе боль і пакуты... Як усё роўна змей укусіў яе за пяту, падкраўшыся з гушчарняку, – так як і абяцаў Вышні...

Меў, мусіць, на ўвазе Бог, што жанчыну будуць падсцерагаць усё жыццё ўкусы Гада – на кожным кроку...

У “ляснічага” пачалася паласа няўдач.

На ўсе справы і вырашэнне пракурорскіх праблемаў катастрафічна не хапала часу. Работнікаў мала, а здарэнняў, што тычыліся пракуратуры, – хоць адбаўляй. А часу на адпачынак, хаця б перадых, ніхто не даваў. Круцілася і круцілася тое працоўнае кола круглыя суткі, ні на хвіліну не перапыняючыся.

Лазар Шульман, чалавек у гадах, спакойны і разважлівы, які, здаецца, ніколі і не спяшаўся нікуды, – яго памочнік, – не раз накідваў на яго цуглі:

– Браце Адаме! Спыніся, не рвіся так... На твой век працы хопіць, і ўсю не пераробіш... Прывялі да цябе, голубе мой шызы, злачынцу? Злым падаўся табе, кругом вінаватым? А ты, голубе мой шызы, не ў гэты момант прымай

рашэнне, а праз дзень, а яшчэ лепей, калі праз тры... Пабачыш, што твая думка павернецца-развернецца на ўсе сто восемдзесят градусаў...

І, дзіўна, па яго і выходзіла. Мудры, значыць, быў стары габрэй, наколькі ж і добры. Прысвоіў грошы начальнік райспажыўсаюза Селіванаў. Некалькі тысячаў. На бюро райкама партыі разбіралі персанальную справу.

– За такі крадзёж – толькі за краты, – вынес адразу прысуд Мяжэвіч.

Першы сакратар райкама заступіўся, сказаў:

– Чалавек і так зразумеў сваю віну, нашто ж пазбаўляць яго яшчэ і партбілета?

Ну, тут пракурор не вытрымаў, сказануў, не ацаніўшы абстаноўку:

– Як баба Ганна ўкрадзе паўмеха бульбы ў калгасе, дык мы яе за краты, а як чыноўнік з партбілетам у дзяржаўную кішэню залезе, то ім і слова супраць не скажы... Яны пад прыкрыццём партыі, і таго ж білета, робяцца злачынцамі...

– Ну, вы, таварыш пракурор не загаворвайцеся – “пад прыкрыццём партыі”, – перадражніў пракурора сакратар. – Можа, скажаце, што і я пакрываю яго...

Нешта хацеў і яшчэ сказануць Мяжэвіч, ды яго ззаду за крысо пінжака адзёрнуў Шульман – раз, другі і трэці...

– Іван Мінавіч, – падняўся Шульман з месца і стаў паперадзе свайго начальніка. – Мы абдумаем гэтае пытанне асобна, нам трэба выйсці ў калідор...

Ужо каля вялікага акна фае, прыпёршы да сцяны Мяжэвіча, памочнік акругліў здзіўлена вочы, дапытваўся:

– Ты што, голуб мой шызы, зусім не валодаеш сітуацыяй? Ты што, пуп зямлі ў гэтым раёне? Ён жа бярэ ў яго пыжыкавыя шапкі і абутак, ды яшчэ за паўцаны, спісваючы іх на моль і на мышэй... Ён жа апранае ўсіх сакратарскіх жонак, а ты “злачынцамі”, “за краты”... Астынь, голубе мой шызы, апусціся на грэшную зямлю...

– Дык я ж з пункту гледжання закону, – слаба пратэставаў у недайменні пракурор раёна.

– Закону, закону... Закон, як дышла, як партыя скіруе, так яно і выйшла... Будзеш ісці супраць сакратара, сёння ж “першы” пазвоніць абласному сакратару, і з заўтрашняга дня ты не будзеш працаваць...

– Дык як жа быць, Лазар Самсонавіч?

– Ты паслухай сюды, голуб мой шызы, паслухай мяне, старога габрэя, умудронага вопытам пракурорскай работы. Ты Біблію чытаў – мудрыя выслоўі Саламона? Не? Атэіст, у Бога не верыш...

– Не, чаму, Бога я не адмаўляю, але папы...

– І то добра, што не адмаўляеш, – як злітаваўся над ім Шульман. – Супакоіў. А я веру. У Адзінага Бога, бо іўдзеі не прызнаюць Ісуса Хрыста, – ды я не пра тое. Абавязкова прачытай выслоўі Саламонавы, там мудрасці – на тысячы і тысячы год... Дык вось, голубе мой шызы, Бог вучыць нас, што мы павінны быць мудрымі, як змяя, хітрымі, як ліс. І хто адступіць дзеля добрай справы на тры крокі назад, акажацца на дзесяць наперадзе...

Пасля "ідэалагічна-выхаваўчай работы" Шульмана Мяжэвіч па-іншаму пачаў глядзець на канкрэтную сітуацыю і ўвогуле на само жыццё...

– Ты ж самы малады пракурор рэспублікі, – падсумоўваў размову нашчадак Саламона. – Не псуй сабе кар'еру з-за якогасьці аднаго падонка... Іх у цябе яшчэ будзе і будзе...

– Дзякуй вам, Лазар Самсонавіч! – шчыра прамовіў "ляснічы". – Буду мудрым, як змей...

– Ну, то і добра, ідзі, а я ўжо туды, даруй, не пайду. На работу пайду, шмат клопатаў падваліла, – і паглядзеў малодшаму таварышу цёпла і прыхільна ў вочы, як падбадзёрыў, і адначасова прасіў даравання, што штурхнуў яго на хаўрус са сваім сумленнем... Тут ён, відаць, адышоў ад выслоўяў Саламонавых, хаця і гэтаму ў іх можна было знайсці апраўданне...

Але сакратарскі "наезд" ні ў якай меры не паўплываў на яго прынцыповасць. З цягам часу ён навучыўся абыходзіць вострыя і рызыкоўныя вуглы, не сутыкацца з падводнымі айсбергамі, – не змагаўся з млынамі з адкрытым забралам, а праяўляў тактыку і разважлівасць...

Да ад'езду ў калгас заставалася яшчэ паўгадзіны. За гэты час рашыў перагледзець пошту, якая назбіралася, даць ёй, як кажуць, ход. Як пракурор ён распачынаў і заканчваў за год да пятнаццаці крымінальных спраў.

У той вечар ён сядзеў позна ў кабінеце і збіраўся адскочыць на "газіку" ў бліжэйшую вёску Махнавічы – старшыня калгаса папрасіў правесці з калгаснікамі гутарку на прававыя тэмы.

Ды яшчэ адно здарэнне выпала. Ехалі ў дальнюю вёску за Сож, дзе абрабавалі вясковую краму – у Сміжным... Насустрач ім ехаў "Маз". Зачапіў іх машыну... "Газон" – у кювет, перавярнуліся дагары нагамі... Вадзіцелю галаву разбіла, а яму, Мяжэвічу, таксама не меней дасталося – пералом правай нагі...

Адляжаў у бальніцы каля двух месяцаў. Лежачы ў ложку, не раз успамінаў Прынцэсу, – вельмі ж хацеў, каб прыйшла праведаць яго... Штодня перад вачыма стаяла, усміхалася з букетам кляновых лісцяў у руцэ.

А потым, як пачаў хадзіць, з вакна ўбачыў дзяўчыну, вельмі падобную на Еву. Соладка ёкнула сэрца, пашкадаваў, што "паранены", абавязкова дагнаў бы, каб пераканацца, то яна ці не... Так і знікла за паваротkай, пакінуў-

шы яму на душы неспакой. Тады ж цвёрда вырашыў: “Вось выпішуся з бальніцы, аклімаюся, і пайду прама ў інтэрнат да яе, выцягну на прагулку, скажу, што сумна жыць без яе...” Тая думка і супакоіла яго, на нейкі час дазволіла забыцца аб Прынцэсе.

А калі прыступіў да працы, то нырнуў у такі кругазварот падзей, што і забыўся пра ўсё на свеце... Адзін клопат падганяў другі, а трэці за чацвёрты чапляўся...

Нехта пастукаў у дзверы – нясмела, прасцярожліва.

– Заходзьце! – прамовіў Мяжэвіч.

Зноў постук, такі ж нясмелы, як бы баязлівы.

– Заходзьце! – крыкнуў ужо пракурор, адарваўшыся ад папер, прыўзняўся, хацеў ужо і сам да дзвярэй падысці – мо якая бабулька ці дзядок глухаватыя хочуць да яго, ды не чуюць запрашэння.

Але як толькі памкнуўся да дзвярэй, яны прачыніліся, і ў кабінет зайшла... Прынцэса.

– Ты?! – як не выгукнуў радасна пракурор, падышоў да яе, за руку ўзяў, шчасліва паглядзеў на яе, не ведаў, куды пасадзіць. – Як я хацеў, каб ты зайшла да мяне... І сам збіраўся да цябе прыйсці ў інтэрнат, ды з-за гэтай працы...

Ён як усё роўна апраўдваўся, выказваючы сваю радасць ад сустрэчы з ёю.

– Адам Паўлавіч, я... І я даўно збіралася, ды не выпадала... Званіла колькі разоў перад Новым годам, ды твой тэлефон маўчаў...

– Маўчаў, Ева, маўчаў... Я ж у аварыю папаў, пакалечыла трохі, з нагой праблемы...

Яна здзіўлена і горычна глядзела на яго:

– Я і не ведала, даруй...

– Марыў, каб ты прыйшла да мяне, праведала... Амаль два месяцы адлежаў, пакуль зраслася...

Дзяўчына глядзела на яго ўжо з сумам, не ведала, што сказаць: ці то сорам апякаў шчокі, ці расчырванелася ад хуткай хады.

– А ты толькі цяпер да мяне ў адведкі прыйшла...

– Ды не, Адам Паўлавіч, мой мілы пракурор, мой ляснічы, на вялікі жаль, не ў адведкі... Не па сваёй волі я прыйшла да цябе, ой не па сваёй...

Ён насцярожыўся:

– Чаму – не па сваёй? Нічога не разумею...

Яна моўчкі дастала з сумкі паперчыну, падала яму. Апусціла галаву, ціха заплакала.

Слёзы закапалі на рукі.

Пракурор узяў аркушык паперы, – то быў выклік у пракуратуру. “Грамадзянка Прынцова Е.А., якая ўхіляецца ад прымусовага лячэння з прычыны венерычнага захворвання...”

– Прынцова – гэта ты? Ева, якая Прынцэса?

– Я, мой пракурор!.. Я ж казала, што мянушку мне далі з-за майго прозвішча. Была, Адам Паўлавіч, Прынцэса, ды ўся выйшла... На вялікі жаль...

Мяжэвіч з жахам і са шкадаваннем глядзеў на яе, не могучы ніяк уцяміць, зразумець, – яна, Прынцэса, прыгажуня Прынцэса, у якую ён, як і іншыя, закахаўся, – з венерычным захворваннем?!

Ён жа лічыў яе незямной, Афрадзітай, багіняй кахання, а яна... Хто, хто ўмяшаўся ў іх лёс і парушыў тое, што не распачалося нават?

– Ева, як мы сустрэліся ў парку, ты была ўжо і тады?..

– Не, не, і тысячу разоў не, – яна не падымала, хліпаючы, галавы... – Тады я была чыстая, як шкельца, да мяне не дакранаўся ніводзін мужчына, і ніводзін не ўвайшоў у маё сэрца...

– Тады ж што адбылося, Ева, за гэты час?

– Глупства адбылося і вялікае гора. Я колькі разоў званіла табе, хацела сустрэцца, параіцца па шмат якіх пытаннях. Перад Новым годам званіла, думала, мо разам сустрэнем яго...

– Чаму ж не зайшла, не папыталася, дзе я, калі мяне не было на рабочым месцы?

– Саромелася нечага, не асмельвалася пераступіць парог пракуратуры... Каб жа асмелілася, каб жа наважылася, то, можа, і жыццё маё пайшло б па-іншаму...

– Дык што ж здарылася? Расказвай, без утайкі расказвай...

Яна падняла вочы, поўныя слёз, паглядзела на яго.

– На Новы год здарылася ўсё... Пасля таго, як не адказваў твой тэлефон, я дала згоду на тое, каб правесці навагодні вечар у майго аднакурсніка. Яго бабуля ў бальніцы на той час была. Я ні пра што не падазравала, бо ўпэўненая была ў ім, і ў Зайцаве, з райкама камсамола...

– І Барыс там быў?

– Быў, Адам...

– Усе пайшлі ў дэка, а я засталася з Сяргеем дома. Засталася з-за таго, што не магла ісці, – у мяне вельмі балела галава. Як прызнаўся Сяргей, то Барыс падсыпаў нечага ў віно... Я думала, што ён мне паможа суцішыць боль, а ён занёс мяне, амаль беспрытомную, на ложак... Я доўга супраціўлялася, пазногцямі абдрапала яму ўвесь твар, але...

Мяжэвіч сашчапіў рукі на стале, слухаў споведзь дзяўчыны. Крыўда і горыч пасяліліся ў яго сэрцы, шкадаванне, што так адбылося ўсё з Прынцэсай.

Сябе дакараў, што не праявіў настойлівасць, што выпусціў жар-птушку са сваіх рук...

– Ну і... Твае дзеянні ў гэтай сітуацыі? Да нас прыйшла, у міліцыю? Злачынства заўсёды павінна быць пакарана... Што ты зрабіла для гэтага, Ева?

– Я? А што я магла зрабіць... Я рашыла ім адпомсціць па-свойму.

– Гэта ж як?

Дзяўчына ўздыхнула, выцерла насоўкай слёзы, шмарганула носам, і ўжо спакойным голасам прамовіла:

– Калі яны прыйшлі з танцаў, і зайшлі ў пакой, то ўбачылі, што на мне ляжаў Сяргей, і што ўсё было ў крыві... Ён, Сяргей Стром, і крыкнуў: “Хто яшчэ Прынцэсу не спрабаваў?” І тады Зайцаў сказаў, што трэба праверыць мяне, ці падыходжу я на пасаду камсамольскага работніка... Мне ён прапаноўваў пасаду школьнага сакратара, ды я і не верыла ў тое...

Адам чакаў, калі яна прадоўжыць сваю споведзь, глядзеў на яе.

– З пяці, што гвалтавалі мяне, апошні аказаўся з ганарэяй. Ён у міліцыі працуе – Сівакоў.

– Сівакоў? – перапытаў пракурор. – Нядаўна жонка пакінула яго. Ніхто не ведаў, па якой прычыне... Звольнілі яго. З‘ехаў некуды ў Расію...

– Дык маё пакаранне было такім – сплаціць доўг папярэднікам, і першаму – Сяргею. Зайцаву я аддалася ў яго ж кабінеце – папрасіў, каб я прынесла яму план мерапрыемстваў групы...

Мяжэвіч кісла ўсміхнуўся, крутануў галавой.

– Ну, адпомсціла Барысу Зайцаву...

– Потым – кінафікатару Паўлаву...

– І Паўлаву?

– І Паўлаву... Але ж на тым мая помста не скончылася. Я рашыла помсціць усім мужчынам, якія імкнуліся авалодаць мною... На тых жа танцах, дзе мы з табою бачыліся, калі хто запрашаў куды-небудзь – я ішла. Ды што гэта... Зайцаў, не падазраючы, што гэта ён ад мяне схапіў ну... ганарэю, запрасіў на камсамольскі злёт... Мяне зажадалі работнікі цэка Мінска і Масквы... І ішла я насустрач, не праціўілася...

Пракурор уздыхнуў, нахмурыўся:

– Страшныя і жудасныя ты рэчы расказваеш, Ева!

– Страшныя. Вельмі страшныя, мой пракурор! Як і страшна тое, што за адну жудасную ноч я з цнатлівага дзіцёнка ператварылася ў невядома якое стварэнне – і не жанчыну, і не д’ябла... Калі б я сказала пра гвалт свайму брацiку, ніхто з іх не застаўся б у жывых... Я і сама хацела ім усім перарэзаць горлы, калі яны спалі покатам пасля гвалтавання... П’яныя дужа былі.

А колькі да тае начы было ў мяне светлых мараў, звязаных з табой! Ты для мяне стаў тым адзіным, тым Богам, на якога я малілася, і яшчэ доўга буду маліцца... Ведаю, табе гідко, так кажуць у маёй вёсцы, не толькі чуць такія словы, але і глядзець нават на мяне, "такую", даруй за гэта...

Ён памкнуўся нешта запярэчыць, але яна не дала яму магчымасць уставіць хаця б слова, працягвала дагаворваць, бо ведала, што ніколі і ніхто ад яе болей не даб'ецца шчырасці і адкрытасці, бо ўсё яе жыццё складалася цяпер з хлусні і падману, і таму ўжо не зразумець – ці то яна шчырая ў падмане, ці падманная ў шчырасці...

Мяжэвіч ужо ўстаў, прайшоўся па кабінеце, ніяк не могучы ачомацца ад таго душэўнага выбуху, які прынесла з сабою Прынцэса... Вялікая шчырая радасць ад яе прыходу ператварылася ў неймаверны боль, боль страты, краху спадзяванняў... Ён слухаў і слухаў, пра што яна гаварыла, – і не знаходзіў апраўдання ні сабе, ні ёй...

Адам ведаў, што ёй, Еве, неабходна ў гэты момант выгаварыцца, скінуць са сваіх плячэй хоць частку непасільнага грузу... Потым, успомніўшы, што яму трэба ехаць, перабіў усё ж наведвальніцу:

– Даруй, Ева... Мне пазваніць трэба.

Ён пакруціў тэлефонны дыск, дачакаўся, калі адкажуць на другім канцы, удакладніў:

– Селівестр Калінікавіч! Вечар добры. У мяне склаліся так абставіны, што я не змагу прыехаць. Можна перанесці на заўтра? Цудоўна! Заўтра буду абавязкова.

Пракурор паклаў слухаўку, зноў сеў насупраць Прынцэсы.

– Слухаю, Ева! То я пазваніў старшыні калгаса, адмяніў сённяшняе выступленне ў калгасе...

– З-за мяне? – падзівілася яна, удзячна гледзячы на яго. – Клопаты з-за мяне...

– Там пачакаюць, а з табой пераносіць нельга. У цябе трагедыя. У нас трагедыя з табой. Цяпер я ўжо буду з табой гаварыць, як пракурор. І таму першае пытанне да цябе – ці хочаш ты пакараць сваіх гвалтаўнікоў?

Яна сумна пакруціла галавой:

– Пакараць? Здаецца, я пакарала іх, і іх потым пакарае Бог. Хіба толькі для пацвярджэння ісціны, што так яно было і сапраўды... Дык у тым пры першай сустрэчы са следчым прызнаецца Сяргей... Ён і сам потым, адумаўшыся, збіраўся прыйсці ў міліцыю... Зайцаў – не ведаю. Ды, можа, тое і няважна для вас...

Ева перайшла ўжо на "вы", адчуўшы, зразумеўшы, што яна назаўсёды страціла права называць яго на "ты"... Адам, у адрозненне ад яе, не мог

сказаць ёй “вы”, сам не ведаў, чаму. Не хацеў, мусіць, мяняць сваіх адносін да яе... І тое выглядала не непавагай, а, хутчэй за ўсё, шкадаваннем. Ён заставаўся для яе тым, кім быў і да сустрэчы. І не больш, і не менш...

“Няма ў маёй душы агіды да яе, хаця гэтае пачуццё павінна выплысці найперш... Няйначай, д’ябал умяшаўся ў нашае быццё, падсеў у наш карабель, які меў магутныя ветразі... Ды вецер, не вецер нават, а буран ударыў з супрацьлеглага боку... І сны нейкія ж трывожныя сніліся, што быццам я капітан, а на вільчыку мачты сядзела Прынцэса і ўказвала курс... А потым буран узʼярыўся, абламаў мачту, і Ева зрынулася некуды ўніз, у высокія і пагрозлівыя хвалі акіяна... Я перажываў за яе, хваляваўся, гукаў у цемры, хацеў сам кінуцца ў абдымкі акіяна, у халодныя ільды ды не ведаў, у якім баку яе шукаць...”

Сніліся сны яму тады, калі ляжаў на бальнічным ложку, задраўшы пераламаную, загіпсаваную, нагу ўверх, не могучы паварушыць ёю. Тады ён перабраў усё сваё жыццё да драбніц. Прааналізаваў і падвергнуў сумненню свае ўчынкі, прыйшоўшы да вываду: душа яго пакутавала ў клетцы і прасілася на волю...

Жыў ён з дзяцінства пад строгім наглядам маці, памагаючы ёй па гаспадарцы, з цямна да цямна робячы нешта, як і бацька, як і старэйшыя браты і сёстры. І ўсё з-за таго, каб пракарміцца, каб сям’і не памерці з голаду...

Потым вучоба ў вучылішчы. Потым праца на чыгунцы... У райкаме камсамола. Пасля – у райкаме партыі. Потым запрасілі на работу ў пракуратуру. Увесь час належаў некаму, але толькі не самому сабе. Ведаў, што існавала і другое жыццё, якое не замінала, а, наадварот, дапаўняла асноўнае, стварала добры настрой, давала сілы і натхненне... І калі ў гэтай шэрані бліснуў праменьчык цнатлівага позірку студэнткі медычнага вучылішча, ён абрадаваўся таму пачуццю і сустрэчы, – палічыў тое за Божы дарунак, за шчасце, якое нечакана ўпала з нябёсаў...

Як яму хацелася вярнуць гэтыя паўгода назад! Вярнуцца да таго моманту, калі яны сустрэліся ў парку, калі яна трымала ў руках букет клянова-каштанавых лісцяў і ніякавела перад ім, думаючы, што ён ляснік ці ляснічы...

Не надаў значэння сустрэчы, адсунуў некуды надалей тыя шчаслівыя імгненні, што ім паслаў Бог, спаслаўшыся на неадкладныя клопаты... Каб жа падзяліўся з Шульманам, той, мусіць, і сказаў бы: “Клопаты клопатамі, але і аб сваёй душы не грэх падумаць... Ідзі, хлопча, хутчэй да яе, не выпусці з рук сваё шчасце!..” І Шульману не даверыўся, І Еву адпрэчыў ад сябе, – на здзек яе кінуў, безабаронную, слабую, даверлівую, нявопытную ў жорсткіх вятрах жыцця... Сам вінаваты ва ўсім... Бог за тое цябе і кінуў у тую аварыю, як пакараў за няўважлівасць да роднай душы, якая імкнулася да яднання...

І таму яго словы, якія ён вымавіў для Евы, былі нечаканымі для яе:

– Ева, даруй, што я аддаў цябе гэтым нелюдзям!.. Я павінен быў пасля той сустрэчы ў парку прыйсці да цябе з кветкамі, павіншаваць з днём нараджэння, падарыць табе светлыя дні і ўсё жыццё...

– Адкуль ты ведаў, што ў мяне быў дзень народзінаў? – зноў не заўважыла, як перайшла на "ты", страціўшы пачуццё рэальнасці, здзіўляючыся з яго дасведчанасці...

– Я не толькі пра тое ведаў. Я ведаў, Ева, усё пра тваіх бацькоў і сясцёр, пра брата... Ты ўсё правільна сказала.. І нават калі б ты прыйшла на наступны дзень пасля той трагічнай ночы, мы змаглі б усё вярнуць, паставіць на месца... Ты вылечылася б, забылася б пра ўсё, але ў цябе нарадзілася помста... Адкуль гэта?

– Вока за вока, знявагу за знявагу...

– То Стары Запавет... Ён дзейнічаў тады, тысячы год назад, калі не было судоў і права... Сёння ўсё вызначае закон. Усім кіруе закон і заўсёды...

– Ці заўсёды, мой пракурор?..

– Заўсёды, Ева, хаця і бываюць рэдкія выключэнні...

– Значыць, я і ёсць тое, рэдкае, выключэнне... На вялікі жаль...

– Ты гаворыш, як дарослая жанчына. А была ж тады, як мне задавалася, птушаняткам, у якога пачалі вырастаць крылы.

– Так, сапраўды так... Але я бразнулася вобзем, узляцела да высокіх вяршыняў, потым зноў бразнулася, пляснулася ў калюжынку нашага быцця... Я цяпер зусім іншая, мой пракурор, ляснічы, мой дарагі Адам Паўлавіч!.. І, мусіць, я не Ева-Прынцэса, а тая грахоўная Ева... Ave Eva? – калі чытаць наадварот... Ave – Eva! Смешна гучыць, праўда? Толькі я, мусіць, не тая Ева, якая сустракалася з Богам. Я ж сустрэлася з д'яблам, і сама д'яблам стала... Але ты мяне, мой Адам, не шкадуй, не шкадуй, але ж і не карай строга...

Пракурор не пазнаваў яе. І голас ужо не яе, і думкі, і паводзіны... Як і сапраўды д'ябал усяліўся ў яе, – і ў вачах невядома які агонь, і як рукамі ўзмахвае, як ад некага бароніцца...

Хто ж яна цяпер, кім стала? Няйнакш, парушана псіхіка, мусіць, тая ноч для яе прайшла не бясследна... Як на міне падарвалася.

– Што караць цябе, калі ты сама сябе пакарала?

– Памажы мне, таварыш пракурор, калі засталося ў тваёй душы хоць кропелька шкадавання да мяне...

Голас стаў ранейшы, пяшчотны і ўмольны, ціхі і просячы.

– Як і чым памагчы, скажы?

– Я спынілася ўжо, я перайшла той рубеж, які намеціла... Адпомсціла больш, чым трэба было...

– Колькі ж на тваім рахунку помстаў?

– Прызнавацца?

– Прызнавайся...

– А не ўзненавідзіш мяне?

– Я не маю права нават да забойцаў адносіцца прадузята... Для мяне ўсе роўныя, хто пераступае закон...

– Зразумела. Нікому не скажу, а табе прызнаюся. Кожнаму, з пяці, што згвалцілі мяне, яшчэ па тры дадала... Вось хто перад табой сядзіць, мой пракурор!

Ён нічога не сказаў.

Не здзівіўся, не папракнуў, не з'яхіднічаў...

У ім ужо загаварыў пракурор, і таму яе прызнанне прагучэла як шчырыя паказанні чалавека, які быў для яго неабыякавы...

– Не мне судзіць, Ева, цябе... Ты сама пра сябе ўсё выдатна ведаеш...

– Ведаю. Як ніхто больш. І табе ні ў чым не схлусіла. Таму і просьба да цябе – не аддавай мяне ў рукі суддзям... Тады я зусім загіну. Ці скончу жыццё самагубствам. Я хацела б, каб мы больш ніколі не ўбачыліся. У тым сэнсе, што мяне болей не паклічуць да цябе. Таму я даю слова, што вылечуся, што стану няхай не ранейшай, гэта, канечне, смешна, а стану, як усе, прыстойнай, ідэйнай, добразычлівай і нават пяшчотнай, можа нават і замуж выйду, дзяцей нараджу, выдатнай медсястрой стану, калі, безумоўна, на працу возьмуць...

– Возьмуць, Ева, тут перашкод не будзе. І ў гэтым я памагу. Але толькі пасля таго, як медыкі да цябе не будуць мець прэтэнзій...

– Не будуць, мой пракурор, не будуць, слова даю. Я ў царкву пайду, пакаюся, як Магдаліна, перад Богам. Бог, як і ёй, даруе мой грэх, і ўсё астатняе ўжо будзе залежаць толькі ад мяне... Ад цябе толькі, Адам Паўлавіч, залежыць мой далейшы лёс...

– Добра, – пагадзіўся "ляснічы", – усё будзе так, як ты просіш... І з працай усё ўладкуецца. Калі што напаткае нечаканае, звяртайся да мяне, памагу...

Яна ўсміхнулася:

– Ды што ўжо ў маім жыцці можа здарыцца нечаканае і горкае? Самае страшнае ўжо адбылося, а за гэта больш страшней нічога не бывае. А калі і здарыцца, то не прыду я, мой дарагі пракурор, не буду агіднае пускаць у тваю душу. Выкраслі мяне са свайго жыцця, не заслужыла я памяць аб сабе...

Яна паднялася.

Ён узяў паперчыну, якая і прывяла яе да яго, паклаў на стол, прыціснуў пячатку – наклаў адмоўную рэзалюцыю.

Падаў ёй, сказаў:

– Як хочаш, Ева... Тваю просьбу я выканаў. Але ўсё роўна ты ў маёй памяці застанешся той, ранейшай, прыгожай Прынцэсай, таямнічай зоркай у сусвеце...

– Вось за гэта дзякуй. І не ўспамінай мяне кепскім словам.

Ева ўзяла са стала паперку, зірнула на яго, горка ўсміхнулася, сказала ціха “дзякуй” – і заспяшалася да дзвярэй.

Калі на калідоры сціхлі крокі, калі з акна пачуў, як яна выйшла на вуліцу, падышоў да шафы, наліў паўшклянкі каньяку. Перад тым, як выпіць, прамовіў:

– Бывай, Прынцэса!..

8

...Горка на душы ў Евы.

Так горка і пагана, што і жыць не хацелася.

Праз колькі дзён, тады, як выйшла ад пракурора, як развіталася з ім назаўсёды, пахаваўшы ў душы светлыя праменьчыкі, што яшчэ цьмяна ззялі наперадзе, – пайшла ў царкву.

Ніколі, як уступіла ў камсамол, не наведвалася ў храм. Некалькі бабулька Юля вучыла яе маліцца, хадзіла з ёю на вялікія святы на богаслужэнне, ставілі свечкі за памерлых і жадалі доўгіх год жывым. Бабуля хадзіла на споведзь і прычасце, трымаўшы перад гэтым пост... Вучыла і яе лучыць следам.

З самай раніцы, у нядзельку, накінуўшы на галаву цёмную касынку, прыйшла ў храм. Паставіла свечку бабулі, каб Бог спамянуў яе ў царстве сваім, стала за жанчынамі, чакала сваёй чаргі, каб падысці да святара...

Бабулька, што была перад ёю, доўга расказвала пажылому святару пра свае грахі. А за гэты час яна падумала пра сябе, што святар падобны нечым на вясковага каваля – дзядзьку Нікадыма, – і на душы стала адразу спакойна, ранейшае хваляванне і ўнутраны страх адразу некуды зніклі...

Яна падышла да айца Уладзімера, перахрысцілася, нахілілася і пацалавала срэбны крыж і Біблію. І калі на галаву ён паклаў плат, прамовіла першыя словы:

– Грэшная я, святы айцец! І хачу пакаяцца перад Госпадам за свае грахі...

– У чым ваш грэх?

І голас быў акурат, як у каваля. І яна ўбачыла перад сабою Нікадыма, і яшчэ больш асмялела.

– Мне доўга расказваць...

– І гаварыце доўга, раз камень ляжыць на душы...

Яна расказвала і плакала, плакала і расказвала. Не бачыла, як святар паказаў жанчыне, якая стаяла наступнай, каб ішла да другога спавядальніка, – слухаў, не перабіваў, пра што расказвала аve Ева, супакойваючыся толькі тады, калі захліпвалася яна ў сваёй шчырасці і праўдзе…

Ёй здавалася, што яна гаварыла цэлую вечнасць. А калі скончыла, то наіўна папыталася:

– Ці не стаміла я вас сваім доўгім аповедам?

– Шмат у вас накапілася ў душы, таму пра ўсё і хацелі расказаць...

Святар яшчэ і яшчэ распытваў у яе, удакладняў, не падрабязнасці, а яе душэўны стан на той момант. Пытаўся і пра іншыя грахі, якія былі ў яе... Аказалася, што іх накапілася шмат. Яна і сама не здагадвалася пра тое...

– Як зваць вас?

– Ева я, айцец Уладзімер...

– Імя прарадзіцельніцы... Ці просіце вы, Ева, даравання сваіх грахоў у Госпада?

– Прашу! Прашу, Божа, даруй, калі можаш, грахі мае!

Святар паклаў даланю на галаву, наклаў крыж, прамовіў:

– Даруюцца грахі рабе Божай Еве. Ідзіце – і болей не грашыце. З Богам!

Ева выйшла з храма, павярнулася да яго, тройчы наклала на сябе крыж. Выйшаўшы за вароты, далей ісці ўжо не магла. Села на лаўку, і доўга асэнсоўвала тое, што з ёю адбылося. І не магла зразумець, адкуль у яе душы з‘явілася такая лёгкасць і ўзнёсласць. Навакольны свет адкрыўся перад яе вачамі па-іншаму, думкі яе скіраваліся на светлае і добрае... Ёй нават захацелася ўсміхнуцца, парадавацца сонечнаму дню, людзям, якія ішлі паўз яе, пра нешта гамонячы, ветрыку, які дакрануўся да твару...

Радасць пасялілася ў яе сэрцы. Сама сабе прашаптала, звяртаючыся да Вышняга:

– Госпадзе, Божа мой! Дай мне сілы выстаяць і не сысці з абранай дарогі. Памажы не ўпасці ў ранейшы грэх! Уратуй, Госпадзе!

З-за дрэва выглянула напоўніцу сонца, як благаславіла, пачуўшы яе словы... Але горыч не праходзіла, не выходзіла з яе душы. Як рабіны з голаду наелася – і не выплюнуць горкія ягады, не пракаўтнуць.

Нешта гаварыла ёй поўня, усміхалася.

Нехта іншы ўжо кіраваў яе дзеяннямі, не яна. Бо не помніла, як паднялася з ложка, як адчыніла тумбачку і згрэбла ўсе таблеткі, якія складвала, хаваючы ад дактароў, – набрала поўную жменю. Ды і гэтага ёй падалося мала – у Веркі Шымбалёвай, суседкі, узяла такую ж жменю... Напоўніцу, аж у роце не ўмяшчаліся, хрумстала іх, вадой – прама з графіна – запіваючы...

Пасядзела з якую хвіліну на ложку, чакаючы, што ж далей будзе...

Акно зрушылася са свайго месца, пачало пераварочвацца... Знепрытомнела – і ўпала на падлогу... Не чула, як ускрыкнула, спужаўшыся, Верка, пачуўшы, а потым і ўбачыўшы, што Ева ляжыць на зямлі, закрычала на ўсю палату, – на пост, спалоханая, пабегла...

Калі прыйшла дзяжурны доктар і нахілілася над ёю, у палаце прачнуліся ўсе, і назіралі за ўсім, што адбывалася… І адбівалася яна ад некага ці нечага, праклінаючы нейкага Сяргея, плакала...

– У рэанімацыю! – загадала некаму дзяжурны доктар Зінаіда Сіліч. – Тэрмінова!

У руцэ Ева трымала рэшткі пігулак...

За яе жыццё змагаліся доўга і настойліва. Ачысцілі страўнік, яе званітавала, але доўга яшчэ не ачуньвала. Дактары радаваліся, што вярнулі яе да жыцця. Але тое не радавала Еву – не хацела яна вяртацца да свайго болю і крыўды, знявагі і граху...

Аднойчы раніцай, калі ўключылі святло, убачылі, што ложак Евы пуставаў. І быў ён акуратна засцелены.

– Збегла нашая Ева, – уздыхнула Верка, і са шкадаваннем дадала: – Сабе ж горш зрабіла...

З самае раніцы, як толькі Адам Мяжэвіч пераступіў парог свайго кабінета гарадской пракуратуры Гомеля, як распрануўся і павесіў у шафу паліто, але не паспеў яшчэ сесці за стол, як у дзверы нехта пастукаў, просячы дазволу зайсці.

Прачыніўшы дзверы, у кабінет зазірнуў міліцыянер Алесь Зінчукоў.

– Можна, Адам Паўлавіч?

– Чаму ж не? Заходзь...

Старшы лейтэнант міліцыі Зінчукоў паклаў перад ім на стол паперчыну.

– Вось... Прывёў... Злоснае ўхіленне ад лячэння венерычнага захворвання. Трэба, каб далі ход.

– Пакліч.

У кабінет зайшла жанчына гадоў пад пяцьдзясят, стала ў парозе. Глядзела пад ногі, старалася не сустракацца позіркам з пракурорам. Мяжэвіч прабегся вачыма па паперцы, вывучыў хутка дакумент, даведаўся пра прозвішча, прамовіў:

– Ева Антонаўна Кароль. Скажыце, чаму вы ўхіляецеся ад лячэння? Вы ж парушаеце закон. Чаму ж вас павінна лавіць міліцыя і прымусова вяртаць у бальніцу?

Жанчына маўчала, не падымаючы галавы...

– Не чую адказу, Кароль!..

– А што мне гаварыць? Збегла... Абрыдла там быць. Невыносна... Лепш на той свет, чым на гэтым заставацца...

Нешта тарганулася ў душы пракурора. Голас жанчыны напомніў пра нешта... Ён падышоў да яе, стаў побач, як усё роўна загадаў, каб паглядзела на яго, здзіўлена спытаў:

– Ты?! Прынцэса?!?

Яна ўздыхнула, кіўнуўшы галавой:

– Так, гэта я, мой пракурор!..

Крыўда і горыч захліснулі яго. І – недаўменне.

Здзіўлена і роспачна папытаўся ў яе:

– Ева, ты ж тады, пятнаццаць гадоў назад, дала слова, і я паверыў табе. Тады ж ты была з трыхаманілёзам, а цяпер не лечыш сіфіліс... І наркаманкай стала?

– Вінаватая, не стрымала дадзенае слова, мой пракурор. І перад табой, і перад Госпадам я вінавата...

Мяжэвіч дастаў з сейфа штэмпель, прыклаў яго да паперкі. То быў прысуд. Тое азначала, што Еву адпраўляюць за краты... Яна зразумела ўсё. Але ёй было ўсё роўна – ні крыўды, ні горычы яна не адчувала. Пайшла да дзвярэй, але, дакрануўшыся да дзвярной ручкі, азірнулася:

– Дзякуй, мой пракурор!

Мяжэвіч ужо не глядзеў у яе бок, праглядваў ранішнюю пошту.

## Частка другая

### *“Ёшкін кот”*

#### 1

Зінаіда Сіліч у бальніцы хімічнага завода працуе ўжо трэці год.

Накіравалі яе туды пасля сканчэння медычнага вучылішча ў Гомелі.

Стройны стан, гнуткая, з доўгай касой за плячыма, – не адарваць вачэй ад дзяўчыны. Кідалі на яе позіркі не толькі аднакурснікі, а і выкладчыкі.

У кожнага, хто сустракаўся з яе позіркам, “ёкала” і трымцела сэрца, бо пранізвала яна стрэчнага наскрозь сваім позіркам, прасвечала, бы рэнтгенам, душу хлапчыны ці жанаціка, – прымушала ўнутрана ўздрыгнуць соладка-патаемным жаданнем сустрэчы... Валодала яна, няйначай, ці то чароўнай сілай, ці то гіпнозам; ёй не схлусіш, не падманіш, бо бачыла, здавалася, кожнага наскрозь...

Зіна прыехала паступаць у вучылішча з далёкай паляшуцкай вёскі, з-пад Лельчыцаў, якая нідзе і на мапе не абазначана, і згубілася ў той мясціне, дзе певень, як казалі, на тры краіны спявае...

Вучылася добра, з ахвотаю, і атэстат атрымала без троек, – магла смела падаваць свае дакументы ў прэстыжны эканамічны, а то нават і тэатральны інстытут... У тэатральны таму, што ў школе ў драмгуртку займалася, а ў раённым аглядзе школьных талентаў іх “Паўлінку” вылучылі на рэспубліканскі агляд-конкурс...

І ў Мінску занялі першае месца. Да яе падыходзілі невядомыя для яе людзі, слынныя ў сталіцы артысты, раілі паступаць у тэатральны, абяцалі сваю падтрымку...

Нават у трупу пасля сканчэння школы абяцалі залічыць, і ад іх паступаць ужо...

Не спакусілася, не забілася соладка сэрца ад такіх прапаноў, – каб адчапіліся, паабяцала падумаць, і потым ужо даць адказ... На сваёй мэце дзяўчына мела зусім іншае.

З дзяцінства запомнілася... Захварэла маці, ангіна скавала горла, што і шаптаць не магла. Кожны амаль год падчэплівала недзе тую ангіну, і сама не ведала, дзе... Ды калі хварэла? У самы разгар лета, калі спякота на вуліцы, калі і ноччу зямля не паспявала холадам набрыняць...

– Самая небяспечная хвароба, каварная, – тлумачыла вясковая доктарка з фельчарска-акушэрскага пункта – Рая Валошына, – калі не вылечыць яе, то можа “стрэліць” на іншыя органы...

“Стрэліла” ангіна, ды ў самае сэрца маці. І каля яе сядзела штоноч Рая – у белым халаце, у накрухмаленай шапачцы...

Маці і жанчына ў белым халаце... Вось той малюнак і застаўся ў яе памяці на ўсё жыццё.

“Буду і я, як Рая, медыкам, – чамусьці нарадзілася ў яе жаданне. – Няважна, якім медыкам, якім доктарам, але паслядоўнікам Гіпакрата...”

Гнуткая, як танклявая бяроза пад напорыстым ветрам, чуйная і ўважлівая... Што пачуе, ніколі са сваёй памяці не згубіць, не любіла, каб ёй паўтаралі просьбу двойчы...

У рэанімацыйным аддзяленні – самым адказным у бальніцы – Зіна працуе трэці год. Мо яе і сам Бог прызначыў для такой працы. Да рукі хворага дакранецца – боль у таго знікае, цеплыня да сэрца падгортваецца, настрой добры вяртаецца... І тады чуе ад хворага словы падзякі і ўдзячнасці.

А яна адмахнецца, усміхаючыся, адказвае, што не яна памагла, а Вышні, і далей па сваіх клопатах засяшаецца, перакінуўшы ўжо сваю ўвагу і душэўную цеплыню на іншага, які знаходзіўся ў горшым стане...

– І дактары добра лечаць, але ты ім выдатны памочнік, – кажуць ёй услед жанчыны, радуючыся, што адступае ад іх нямогласць, – сэрца ў цябе, галуба, залатое, а тое і не кожнаму дадзена...

Але не чуе тых слоў медсястра, іншымі клопатамі занялася. Чараўніца Зінаіда, няйначай... І – прыгажуня.

У вучылішчы косы насіла да пояса. Сядзе расчэсваць у пакоі інтэрната, перад люстэркам, – па падлозе сцелюцца.

Сяброўкі газеты падсцілаюць, каб не забрудзіліся, хаця перад гэтым шаравалі маснічыны дзеркачом...

– Ніколі такіх не бачылі, – дзівіліся аднакурсніцы-сяброўкі, гледзячы на косы, дзіваваліся і па-добраму зайздросцілі ёй. – Русалка ты, Зінка... Цябе хоць у кіно здымай...

Косы ў дзяўчыны і не чорныя, і не светлыя, – ці то колеру спелай пшаніцы ці жыта ў полі, а мо і перасушанай атавы з пахкіх лугоў. І косы пахкія, як той луг. Бо Зіна ніколі іх мылам не мыла, а прыгатаваным экстрактам, які рыхтавала ёй маці з лугавой травы і кветак... І дадавала туды святаянік і арніку, корань адоніса... Ды бруснічнік, ды палын... І пах яе косаў нагадваў сунічную паляну.

Свайго шчасця і адметнасці Зіна не заўважала. Яна і не задумвалася над тым, чаму часцей за ўсіх яна прыцягвае да сябе позіркі хлопцаў, а то і жанчын...

Адныя глядзелі на яе з замілаванасцю і пяшчотай, радуючыся, што Бог надзяліў дзяўчыну такой незямной прыгажосцю, а другія – з унутранай чорнай зайздрасцю...

Але яе не кранальі ні першыя, ні другія, – глухая яна і да пахвалы, і да людской зайздрасці. Не па гадах сур’ёзная, адказная ў сваёй справе.

Загадчыца рэанімацыйнага аддзялення Лілія Ўласаўна нарадавацца не магла ўвішнасцю сваёй работніцы... Калі складалася цяжкая сітуацыя, то заўжды прасіла застацца Зіну і ў другую змену, а то і выклікала яе з інтэрната...

2

Яго прывезлі па абедзе.

Пасля агляду адразу адправілі ў рэанімацыю. Калі перакладвалі з качалкі на ложак, зморшчыўся, але не застагнаў...

– Зіна, тэрмінова кропельніцу! – падаў ёй доктар Літошын гісторыю хваробы з усімі прызначэннямі, – падазрэнне на панкрыятыт ці гепатыт, цяжкая форма...

– Зразумела, Ігар, – адказвае медсястра, яшчэ раз зірнуўшы ў гісторыю хваробы...

Спешна атрымала ў старшай медсястры раствор, перавярнула бутэльку, папрасіла хворага – маладога мужчыну – даць ёй руку. Перад гэтым у вочы зірнула. Твар малады, гожы... На шчоках шчэцце перарастала ў бараду.

– Як у вас з венамі?

– Паглядзіце...

Намацала вену адразу, папрасіла:

– Сцісніце руку ў кулак, і потым распраміце.

Вены харошыя, цвёрдыя. Увяла іголку, прымацавала лейкапластырам, падставіла падкладку пад локаць. Адрэгулявала хуткасць падання кропель, пацікавілася:

– Як пачуваеце сябе? Не кружыцца галава?

– Здаецца, нічога, дзякую.

Голас у хворага ціхі, нейкі працяжны. Такога голасу яна ніколі не чула. Такім голасам не валодалі ні дыктары радыё, ні акторы, але ён, голас, меў адмысловую мембрану, тэмбр, – пачуўшы яго, адчуваеш адразу душэўны дадатны ўплыў...

Зінаіда адчувала людскія душы. Але душа гэтага юнака была для яе загадкай, прыемнай загадкай. І ёй захацелася разгадаць яе. Але найперш адчула, што сустрэлася з нечым таямнічым і глыбінным, і, каб разгадаць яе, адчуць, далучыцца да яго поля, ёй неабходна спачатку “настроіцца” на яго хвалю, на яго дыяпазон... Сэрцам адчувала, яе чакае цікавае адкрыццё, цікавая нечаканка... Бо ад чалавека, які мае такі голас, такое выпраменьванне дабрыні і лагоднасці, не можа сыходзіць нічога лядайкага і благога...

– А цяпер будзем знаёміцца, – яна села на табурэцік, які паставіла перад гэтым, каб сесці і пагаварыць з ім, – мяне завуць Зінаіда, дзяжурная медсястра...

– А мяне – айцец Уладзімер.

– Як?

– Айцец Уладзімер. Протаіерэй Пятра-Паўлаўскага храма...

Яна ўзняла бровы ўверх, паглядзела яму ў вочы:

– Вось яно што... У нас яшчэ ніколі не было святароў. Праўда, за час маёй працы. Я думала, што людзі ад Бога ніколі не хварэюць...

– Чаму ж? – ён зірнуў на яе, і голас яго ліўся, быццам раўчук з гары. – Мы ж усе пад Богам ходзім. І ўсё залежыць ад Госпада. І таму Ён пасылае кожнаму з нас выпрабаванне і спакушэнне. Бог не насылае хваробы, гэта ўсё ад д’ябла...

– Дык тады, выходзіць, што д’ябал мацней, чым Бог?

– Бог – Непераможны. А д‘ябал заўсёды хоча ўмяшацца ў Боскую міласэрнасць, і то ўжо ад чалавека залежыць, наколькі тыя мацкі пранікаюць у чалавечую душу...

– І ў вашую душу пранік той д’ябал?

– Ды не, проста на мяне найшло спакушэнне, і мяне правярае Гасподзь, наколькі я моцны ў сваім служэнні Яму...

Зінаіда папраўіла прыклейку, паглядзела, як цякуць кроплі, зноў паглядзела на яго.

– Цікава вы гаворыце, айцец Уладзімер. Мы зможам з вамі пазней прадоўжыць гутарку на гэтыя тэмы? Бо вам цяпер адпачываць трэба, набірацца сіл...

– Добра, прадоўжым. І нам будзе пра што пагаварыць. Ведаю, што ў вас шмат пытанняў будзе да мяне, ці не так?

– Так, айцец Уладзімер. Адпачывайце...

Ён прымружыў вочы, як усё роўна паслухаўся яе загаду, павярнуўся да блакітнай сцяны. Праз дзве гадзіны яна зноў паставіла новую бутэльку – з іншым растворам.

– Так добра?

Ён кіўнуў галавой. Яна не адыходзіла ад яго ўсю ноч. Бачыла, што адчуваў сябе блага, але не гаварыў пра тое. Больш не гаварылі ні пра што, толькі позіркам перакідваліся, каб не пабудзіць астатніх – яшчэ восем ложкаў стаялі па ўсім пакоі... Калі ж святар заснуў, прылегла на канапу. Але драмала чуйна, пільна рэагуючы на кожны падазроны гук...

Ранічкай, ставячы чарговую кропельніцу, прамовіла, гледзячы яму ў вочы:

– Мая змена скончылася, айцец Уладзімер. Прыду толькі на трэція суткі. Хай у вас усё будзе добра.

– Хай беражэ вас Бог, Зінаіда!

– І вас!

І лёгкай птушкай паляцела да шафаў з адзеннем, абцасікі яе туфляў выбівалі нейкую адмысловую мелодыю. На душы – радасць, добры настрой. Добра прайшла змена, без здарэнняў. Удалося хоць на гадзінку звесці вокам – дужа цяжкіх хворых не было... Айцец Уладзімер... Падумала пра яго – і светла стала на душы. Непрыкметна ён унёс у яе душу цёплы подых духоўнасці, прымусіў задумацца, па-новаму асэнсаваць сваё жыццё... Хаця ж і не было нейкай глыбокай і духоўнай размовы, але святар крануў у яе душы нябачныя струны, як масток ці кладку праклаў да будучай, такой неабходнай для яе, размовы.

Ніколі не гаварыла са святаром вось так, адзін на адзін, нават і не ўяўляла, як і пра што можна ў такім выпадку гаварыць... А тут атрымалася натуральна і непрымусова, лёгка і проста. Аж дзіўна...

3

Вечарам у інтэрнат пазваніў Ігар Літошын. Вахцёрка, пажылая жанчына – Ганна Львоўна, паклікала яе да тэлефона.

– Хто? – пацікавілася ў яе Зіна.

– Не ведаю, хлапец нейкі...

– Ало, слухаю.

– Зіна, гэта я – Ігар... Мо адарваў ад якіх клопатаў, то выбачай...

– Ды не, ляжала, адпачывала...

– Слухай, такое пытанне: заўтра, у нядзельку, чым думаеш заняцца? Дадому, у вёску, не едзеш?

– Не. Ездзіла на мінулым тыдні... А што ты прапаноўваеш?

– Цудоўная пара стаіць цяпер. Ці не маглі б мы з табою заўтра выбрацца на прыроду? Я вазьму фотаапарат, пейзажаў наздымаем... Доўга не будзем – гадзінкі дзве.

Яна задумалася, асэнсоўвала Ігараву прапанову.

– На лыжах?

– Ды не, рукзак на плечы ды пешшу. Тралейбусам даедзем да канечнай, а там пройдземся з кіламетр.

Зінаіда, крыху падумаўшы, згадзілася:

– Добра, Ігар. Толькі давай да абеда, бо вечарам у сяброўкі дзень нараджэння. Паабяцала, што прыеду да яе. У колькі мы ўбачымся?

– Тады ў дзесяць на канечнай – у Навабеліцы. І да абеда вернешся назад.

– Расклад падыходзіць.

...За ноч мароз развесіў карункі на бярозах, выбеліў ствалы дрэваў. Ігар ішоў першы, пракладваючы дарогу, па цаліку, позіркам выбіраў мясціну, дзе б маглі атабарыцца, пасядзець...

– Ігар, глянь, як цудоўна! – спынілася яна і паказала рукой. – Пад елкай – як у шалашы... І зацішна.

– Згодзен, мясціны лепшай і не знайсці.

Звярнулі туды, куды і паказала Зіна. Ігар скінуў з сябе заплечнік, паклаў каля кораня елкі.

– Не змерзла?

– Не паспела, – засмяялася Зінаіда.

– Хутка будзе цёпла, – паабяцаў Ігар, – айн мамент...

Ён выцягнуў з рэчмяшка тоўсты нож, пакрочыў з ім у гушчарняк... Праз колькі хвілінаў вяртаўся з абярэмкам сасновых галінак... Потым настругаў трэсак, паламаў тонкія галінкі, склаў гэта ўсё адно на адно...

– А цяпер табе трэба запаліць сярнічку і паднесці да галінак... Праверым, як ты хадзіла ў школьныя паходы...

– Я не хадзіла. Бацька мяне навучыў распальваць кастры...

– Хто ў цябе бацька?

– Ляснік.

– А-а... Ды ты, выходзіць, леснікоўна? Тады пакажы, чаму ты навучылася?

Зіна чырканула першую запалку, прыкрыла яе далонькай, паднесла агеньчык пад спод, дзе Ігар паклаў сухую іглiцу... Спачатку пачуўся слабы трэск, пачаў уздымацца дым, а потым і само полымя вырвалася з галінаў, узнялося ўверх...

– Выдатна! – сказаў Ігар. – Добры ў цябе настаўнік. З першай запалкі не заўсёды ўдаецца запаліць нават і вопытным...

– Гледзячы калі. Цяпер жа ні ветру, ні дажджу.

Калі разгарэлася шыгалле, Ігар паклаў паверх тоўстыя рэшткі галінаў, папярэдне паламаўшы іх на кароткія, – як для грубкі ці печы. Заскакала, ажыло полымя, кідаючы іскры ўверх, у густое голле ялюгі...

– Ну, як табе пейзаж? – спытаў Ігар, выцягваючы з заплечніка маленькае, з алюмініевымі ножкамі, складное крэсельца. Расклаў яго, змацаваў, паставіў каля дзяўчыны, прапанаваў: – Сядай, Зінка!

– Вельмі падабаецца! Дзякуй, што прывёў мяне ў гэтую казку.

Недзе побач, у вільчыку сухой сасны, падаў голас дзяцел, часта і гучна затахкаў па ствале – аж пошчак паляцеў па бары. Зінаідзе і сапраўды спадабалася вось так сядзець на прыродзе, дыхаць лясным марозным паветрам.

Даспадобы была і гэтая лясная цішыня з пошчакам дзятла, абвіслыя ад снежнага цяжару галіны елак і сасонак, белыя гурбы, па якіх яшчэ не прайшоў ні лыжнік, ні лясны звер...

Хораша на душы ў Зінаіды, спакойна. Спакойна і надзейна з ім, Ігарам, з якім наладзілі сяброўскія адносіны...

Менавіта сяброўскія, а ніякія іншыя. Ігар праводзіць яе да інтэрната, але не лезе з пацалункамі, не абдымаецца з ёю, як адчувае тую мяжу, за якую пераступаць нельга...

А развітваецца, дык прытуліць, ды толькі ў шчаку і пацалуе – як сястру.

Ігар адрэзаў ад кусмана па скрыліку тоўстага сала, нанізаў на бярозавы дубчык – сабе і ёй, – пачалі смажыць на кастры. Пачне капаць тук на касцёр, да хлеба Зіна нясе, аб яго выцірае...

– Дзяцінства мне гэта напамінае. Любілі ў лес з сябрамі збегчы, – гаворыць доктар, жмурыцца ад дыму, які выядае вочы.

Яна задумліва глядзіць у касцёр, сваё ўспамінае. З бацькам лаўжы palілі, і бацька гэтак жа смажыў на кастры сала, частаваў яе.

Прыляцела аднекуль сінічка, зацінькала, пералятаючы з куста на куст, як прасіла пачастунку. Дзяўчына паднялася з крэсельца, пайшла да куста, на якім сядзела сінічка, накалола на сучок свой хлеб.

– Частуйся, сінічка! Зімой цяжка здабываць табе корм...

Не адрывае вачэй ад яе Ігар, – Зіна, няйначай, Снягуркай выглядае ў гэтым лесе... У кароценькім кажушку, у светла-карычневай шапцы, у боціках. Кажушок Зінаідзе бацька пашыў у Моталі, – разам з ёю туды ездзіў, каб запісалі ўсе памеры, каб арнаментам аздобілі, ды такім, каб ні ў кога не было такога...

А шапку... У куратнік панадзіўся тхор, амаль палову курэй перарэзаў. Бацька лову зрабіў – паставіў на тхароў. Ноччу адзін ускочыў, затым другі... І яшчэ трое ўляцела. Цэлую сям’ю вылавіў. А з тхароў паздзіраў скуры, вырабіў іх у жытнёвым цесце, і яны сталі, як шаўковыя, лёгкія і мяккія... Шапку шылі ў камбінаце бытавога абслугоўвання.

– Стой там, Зіна, калі ласка! – усклікнуў Ігар, за фотаапарат хапіўся, – раз клацнуў, потым другі, трэці... – Хвілінку, яшчэ пастой!..

Потым да яе падышоў, скалануў з галіны елкі снег на галаву, і яна сапраўды Снягурачкай стала, войкнула – снег за каўнер папаў, засмяялася галасна – на ўвесь лес:

– Гэта ўжо хуліганства! Ты мяне ў снезе хочаш утапіць? Я скардзіцца буду галоўнаму ўрачу...

– А Дзеду Марозу?

– Яму не.

– Чаму?

– Ён адпачывае цяпер, і яго нельга турбаваць... Нават і Снягурцы

А сам не адрываецца ад дзяўчыны, раз за разам клацае затворам “Зеніта”, радуецца, што знаходзіць патрэбныя ракурсы, што Зінаіда згадзілася пазіраваць...

Ёй і самой падабаецца падстаўляць пад аб’ектыў твар, і таму дурэе, жартуе, язык рэпарцёру паказвае, усмешку белазубую дэманструе, а то хітрым позіркам зіркае на яго, то злой прыкідваецца...

– У цябе ж і плёнкі ў фотаапараце няма, і аб’ектыў зашторaны...

– Ну і няхай, і без плёнкі добра атрымаецца...

Здаволіўся, наталіў свой азарт фотарэпарцёра, на шыю за вочапку павесіў. Падышоў да яе, атрос снег з шапкі, з плячэй...

– Пайшлі да агню, а то змерзнеш, – клапатліва прамовіў, прапусціў паперад сябе, каб выйшла на сцежку.

– Сапраўды стала холадна, – сцепанулася яна, – бярэцца на марозік...

З заплечніка дастаў пляшку сухога віна – “Алігатэ” – разліў па пластмасавых шкаліках.

– Гэта як ганарар за пазіраванне, – патлумачыў ён, падаючы віно, – і вып‘ем за сённяшні цудоўны дзень...

Зінаіда адпіла колькі глыткоў, аддала яму рэшту назад. Ён падаў ёй бутэрброд з сырам і каўбасой. Ён усё рабіў спакваля і грунтоўна, разважліва і спакойна, як быццам быў нашмат старэйшы за яе.

Прыехаў хлопец у Гомель з Віцебшчыны. Бацькі яго працавалі медыкамі. У бальніцы – маці, а бацька выкладаў у інстытуце. Пра гэта ён і расказаў ёй падчас першых сустрэч...

Сінічка зноў напомніла пра сябе. Пераскоквала з галінкі на галінку, неспакойна пырхала крыльцамі, да Зінаіды блізка падлятала, ціліўкала ёй пра нешта...

– Што хочаш сказаць мне, сінічка? – папыталася ў яе дзяўчына. – Радаснае ці сумнае? Пра нешта сумнае... Мне бабуля казала, калі птушачка прылятае блізка да чалавека, то сказаць яму пра нешта хоча. Але сказ яе сумны, а то і трагічны...

– Ну, выдумаеш, – не падтрымаў яе Ігар. – Ці мала сінічак па лесе лётае...

– Лётае шмат, але вось адна з іх толькі хвалюецца.

Ён пацісну́ў плячыма, не стаў больш гаварыць на гэтую тэму.

– Ці не пара нам ужо збірацца? – спытаў клопатна.

Зірнула на гадзіннічак, адказала:

– Не. Яшчэ ў нас паўгадзінкі ёсць.

– То і добра.

Зноў падстаўлялі пад агеньчык сала, елі з хлебам, запівалі віном. Агонь разгарэўся яшчэ больш, і ад яго зыходзіла цеплыня. Зінаіда адсунулася далей, у яе заружовіліся шчокі...

– А да каго ты едзеш на імяніны?

– Да сяброўкі – разам вучыліся. Яна ў абласной бальніцы працуе, у кардыялогіі.

– Далёка ехаць?

– Ды не, куды і мы прыехалі. І прайсці з сотню метраў...

– Дапазна не гуляй. А мо сустрэць цябе прыехаць, скажы ў колькі?

– Навошта? Я доўга не буду.

– Ну, глядзі, а то сустрэў бы...

– Дзякую, не трэба.

Дажавалі хлеб, дапілі віно. Пачалі збірацца. Ігар затушыў кастрышча, засыпаў снегам. Нічога не пакінулі пасля сябе.

Як ішлі да аўтобуснага прыпынку, сінічка не адставала ад іх, ціліўкала,395 пералятаючы з галінкі на галінку, уздрыгвала, як быццам атрасала з сябе мароз.

А яшчэ праз нейкі час падышоў аўтобус.

З добрым настроем ехала Зінаіда ў інтэрнат.

На развітанне шапнула Ігару на вуха:

– Дзякую табе за лес.

– І табе дзякую, Зіна. Пастараюся зрабіць фоткі да наступнага дзяжурства.

Яна кіўнула галавой, усміхнулася на развітанне.

4

Інтэрнат для маладых спецыялістаў абласной бальніцы пабудавалі на ўскраіне горада, за апошнім прыпынкам. Бальніца ў адным канцы, а інтэрнат на процілеглым. З хімзаводам усё наадварот: бальніца знаходзіцца за горадам, у лесе, у так званым медгарадку, а інтэрнат – у цэнтры горада. Няхай не новы, стары, але да яго зручна дабірацца з любога канца горада...

Трошкі прыпазнілася Зінаіда з выездам да сяброўкі. Прылегла адпачыць пасля лясной прагулкі, надыхалася свежага паветра, а як прытуліла галаву да падушкі, у сон правалілася... Сказаць, каб і доўга драмала, дык не, з гадзіну, але час прыспешваў збірацца. Ларыса Кандратава, з якой вучылася ў адной групе, лічылася за лепшую сяброўку. З імі і Кацярына Кур'яновіч. Вось такім неразлучным трыа і правучыліся тры гады...

Яны абодва і жылі ў інтэрнаце, у пакойчыку на траіх.

Цяпер жа жыллё ў сябровак на сёмым паверсе, вуглавое, з відарысам на сасновы бор... І ціхі раён, машын не чуваць, аўтобусы не вуркочуць, куродыму не наганяюць...

Падышла да дзвярэй, націснула гузік званка.

– Во, і Зінка наша прыйшла! – усклікнула радасна, адчыніўшы дзверы, яе лепшая сяброўка – прыкасцюмленая, з высокай прычоскай; ад яе патыхала дарагімі французскімі духамі. – Як добра, што ты прыехала!

– Даруй, трошкі прыпазнілася, – абняла сваю сяброўку Зінаіда, пакуначак ёй перадала – набор парфумы, пацалавала тройчы ў шчокі, як і трэба, пахрысціянску...

– Ды не, акурат, ты не апошняя...

Выйшла сустрэць і Кацярына, больш сціпла апранутая, але таксама пасвяточнаму выглядала, абняла госцю, расцалаваліся.

Гасцей было няшмат – пяць дзяўчат, чатыры хлопцы. Павіталася з усімі.

– Гэта наша сяброўка Зінаіда, – пазнаёміла ўсіх прысутных Кацярына, – разам вучыліся...

Зінаідзе назвала ўсіх, хто сядзеў за сталом. Адна дзяўчына падалася знаёмай, але не стала ўдакладняць, дзе бачыліся. Хлопцы ўсе незнаёмыя, ні з кім не сустракалася на жыццёвых скрыжаваннях.

Села між сваіх сябровак, радавалася, што зноў разам сабраліся.

– Ну, што, сямёра аднаго не чакаюць? – падняўся хударлявы высокі хлопец, з валасамі да плячэй. – Час ляціць, а мы не птушкі!

– Пачнем! – дала згоду імянінніца. – Табе, Лёнік, слова!..

– Тады бяру кіраўніцтва ў свае рукі, – працягваў Леанід, беручы пляшку “шампанскага”. Роўна праз дзве хвіліны павінна нарадзіцца нашая імянінніца. Таму прашу падрыхтаваць фужэры, а я выстралю з гарматы...

Ён глядзеў на гадзіннік, адлічваў секунды:

– Засталося сорак секунд, трыццаць, дваццаць, увага!..

Корак паляцеў у столь, палілася белая пена... Ён наліў першай Ларысе, а потым і ўсім астатнім...

– А цяпер, шаноўная і дарагая Ларыса, слухай мой тост...

Ён прачытаў ёй верш, потым гаварыў, які яна цудоўны чалавек і медык, і што яе прыгажосць прыцягвае да сябе ўвагу закаханых у яе хлопцаў...

– За цябе, Лора-Ларыса! – падняў фужэр, і першы дзынкнуўся з ёю.

– Дзякуй, Лёня, за добрыя словы! За ўсіх вас, за маіх сябровак і сяброў! Без вас было б сумнае маё жыццё!

Зінаіда адразу адчула сябе сваёй у гэтай кампаніі, і на душы паспакайнела, трывога некуды знікла – яна заўсёды ніякавела, калі пападала да незнаёмых людзей, гублялася, калі да яе прыставалі з роспытамі і пытаннямі...

Потым Леанід спяваў, акампануючы сабе на гітары, песні, прысвечаныя Ларысе.

*Ты адзіная ў цэлым сусвеце,*
*прыгажэйшай не сустрэў я нідзе, –*
*імя тваё лашчыць цёплы вецер,*
*чоўнам плыве па зіхоткай вадзе...*

Зразумела Зінаіда, што Ларыса пасялілася ў сэрцы Леаніда, бо не раз пераймала іх закаханыя позіркі. Радавалася за сваю сяброўку. Зірнула на гадзіннік – хутка праляцеў вясёлы час. Мінуў незаўважна, як некалькі хвілінаў праляцела...

– Лорка, позна ўжо, мне ў інтэрнат дабірацца яшчэ.

– Зінка, хоць хвілінку яшчэ пабудзь, – умольна паглядзела на яе сяброўка. – Хутка і ўсе разыдуцца...

Пагаварыць не выпадала. Хаця ж і не захмялелыя, але ўзбуджаныя, хлопцы гаварылі, перабіваючы адзін аднаго, спрачаліся... Да іх далучаліся дзяўчаты, – і падышла ўжо тая пара, калі гасцям збірацца пара дахаты...

Ужо ні слова не гаворачы, улучыўшы момант, калі Лора адышла ад яе, пайшла ў калідор. Апранулася...

– Ой, і нам пара ўжо! – усклікнулі дзяўчаты. – Хлопцы, вы з намі?

– З вамі, з вамі! – выгукнуў нехта з іх... – Мы яшчэ аглабельную – і выходзім да вас... Вы не далучыцеся?

– Не, мы не коні, каб нас у аглоблі... Самі ўжо як-небудзь.

Да іх выйшла Кацярына.

– Мо правесці вас?

– Ды не, не трэба, – адмовілася Зінаіда. – Што тут ісці да прыпынку – два крокі... Вам жа яшчэ шмат працы з посудам...

Абняліся. Яшчэ раз Зіна павіншавала сяброўку, пажадала словамі айца Уладзімера:

– Хай беражэ цябе Бог, Ларыса! Кахання і згоды!

Не паспелі дзяўчаты апрануцца, як і хлопцы засабіраліся, і ўжо ў калідорчыку ўсім месца мала. Таму і выйшлі дзяўчаты на пляцоўку, каб пачакаць іх. А потым і яны далучыліся, і вясёлай гурбой выкаціліся на вуліцу.

На небе цьмяна свяціўся маладзічок, рыпеў пад нагамі снег, іскрыўся. Хлопцы дурэлі, дзяўчат абдымалі. Яны ж вішчэлі, адбіваліся ад іх, таксама дурэлі... Зіну яны не чапалі, як ведалі, што ёй тое не даспадобы.

– Табе куды, Зінка? – пацікавіліся дзяўчаты, калі падышоў аўтобус і пачаў разварочвацца, пад’язджаць да прыпынку.

– Я не на гэтым, мая “дванаццатка” прама каля інтэрната спыняецца... Пачакаю.

Адышоўшы ад усіх, да яе наблізіўся Леанід, крануўся пляча, да вуха нахіліўся:

– Вам ніхто не казаў, што вы вельмі прыгожая?

Голас не лавеласа, голас шчыры і добразычлівы, але Зінка не адгукнулася на яго словы, зусім іншае праказала:

– Да сустрэчы! Да пабачэння!

Ён заўсміхаўся, разумеючы яе, прапанаваў:

– Чаму вы адна? Можна я вас да інтэрната праведу?

Зінаіда адмоўна пакруціла галавой.Дзверы аўтобуса з рыпеннем адчыніліся, і вясёлая кампанія ўскочыла ў заднія дзверы. Леанід стаяў каля задняга акна і, не адрываючы позірк, глядзеў на яе.

Памахаў рукой. Яна не адказала, хаця і не адрывала позірк ад яго. На прыпынку засталося некалькі чалавек – мужчын і жанчын. Нехта сядзеў на

лаўцы, схаваўшыся ў прыцемак прыбудоўкі. На зямлю сляліся іскрыстыя, ад святла ліхтара, сняжынкі. Бралася на марозік, апякала шчокі. Але кажушок грэў, трымаў цяпло.

Блiснуў фарамі ўдалечы аўтобус, і яна ўзрадвалася, што доўга не прыйшлося чакаць. Але то быў не "яе" аўтобус – ён паварочваў на першай перакрыжоўцы направа, за Сож... Усе, хто быў на прыпынку, рушылі да расчыненых дзвярэй.

Калі ж дзверы зачыніліся, яна азірнулася: нікога не было побач. Ужо і пашкадавала: "Дурная, трэба было ехаць хоць гэтым, а там, на вуліцы, дзе людна, перасесці..." Ёй стала вусцішна, страх апанаваў яе істотай. Падалося, што ў цёмным закутку аўтобуснай паветкі нехта стаіўся, – як усё роўна чакаў некага ці нечага. Не варушыўся.

Успомнілася чамусьці сінічка, яе зазыўны і папераджальны вокліч.

"Божа, уратуй і памілуй, – прашаптала, адыходзячы ад прыпынку, – і навошта я толькі адмовілася ад дапамогі Ігара, а во цяпер і ад Леаніда?.."

Постаць ажыла, заварушылася.

"А, можа, гэта проста п'яны чалавек, які заснуў ды ачомаўся, праспаўся, – пачала супакойваць сябе дзяўчына, адганяючы страх, – ці мала такіх па горадзе швэндаецца..."

Зінаіда не зводзіла з яго вачэй – напруцілася ўся, здранцвела.

Калі ён выйшаў з цемры на святло, яна ўбачыла, што быў незнаёмы ў вязанай спартыўнай шапачцы, у кароценькай куртачцы... Пакруціў галавой, глянуўшы ўздоўж вуліцы, уперыўся позіркам у яе, Зінаіду. Маўчаў. Кашлянуў толькі, як быццам збіраўся загаварыць да яе. Потым і зусім адвярнуўся ад яе, як быццам яна яго перастала і цікавіць, – зрабіў убок крок-другі. Трымаў рукі ў кішэнях курткі.

І ў нейкі момант, калі Зінаіда амаль супакоілася, паверыла ў шчаслівы зыход нечаканай сітуацыі, ён, рэзка павярнуўшыся, пружыністым крокам, як тыгр, наскочыў на яе... З усяго размаху нешта тупое і важкае апусціў на яе галаву...

– Ой, – войкнула ад болю і нечаканасці, падаючы на халодную змерзлую зямлю...

– Цс-ссс... – супакойваў ён пяшчотна яе, падхапіўшы на рукі, – цс-ссс, мая харошая... Не можаш абняць мяне, дык я цябе абдыму...

Яна не чула яго слоў. Як і не чула, што ён, падхапіўшы яе падпашкі, пацягнуў у цемру, у хмызняк – далей ад прыпынку...

Калі ж паклаў на снег, калі пачаў распранаць, разарваўшы кофту, Зінаіда ачнулася, пачала крычаць, вырывацца з яго ўчэпістых рук... Але ён закрыў ёй даланёю рот, прашыпеў:

– Цс-ссс!.. А то...

Прыставіў да горла халоднае і вострае лязо фінкі.

– Цс-ссс...

Разарваў кофту... Яна, амаль голая, ляжала на марозе. Маліла, прасіла Вышняга, каб выбавіў яе з бяды... Ён расшпільваў папругу і штаны, лёг на яе, прыціснуў да зямлі ўсім сваім цяжарам, доўга валаводзіўся, а потым застагнаў, завыў, як воўк, задраўшы галаву да неба, да маладзіка...

– Ёшкін кот!.. – завыў ён, б'ючы яе па твары, па грудзях, вымяшчаючы на ёй і сваю злосць, і крыўду, і паразу...

А потым, устаючы, ўдарыў яе кулаком... Не чула ўжо і не бачыла, як ён зняў з яе боцікі, выкуліў з кажушка, падабраў з зямлі шапку, якая адляцела некуды ўбок, – і нырнуў у цемру, у адваротны бок ад прыпынку, дзе яго ніхто не мог убачыць пад прыкрыццём шэрай ночы...

Ачнулася тады, як пачаў даймаць холад. Але яна не разумела, што ляжала на змерзлай і снежнай зямлі... Як і не разумела, што з ёю адбылося, чаму баліць-раскалваецца галава, чаму яна босая, чаму апынулася, голая, сярод снежнай зімы ў цемры ночы...

Але Нехта загадаў ёй падняцца, устаць і ісці туды, дзе святло, дзе людзі... Хістаючыся, пакіравала да прыпынку. Паслізнулася, упала... Зноў паднялася, і з апошніх сіл амаль ужо дапаўзла да асветленага ліхтара... Абхапіла бетонны слуп, хацела ўтрымацца, але рукі саслізнулі ўніз...

Яе нехта падхапіў на рукі, накрыў нечым цёплым.

– Ты, Ігар? – прашаптала нячутна, адчуваючы дужыя рукі, верачы ўжо, што тое страшнае, што выпала на яе долю, скончылася...

– Не, Леанід, – чамусьці плакаў хлопец, трымаючы яе ў сваіх руках. – Што ж з табою адбылося, ты ўся ў крыві?

Яна нічога не чула. Не ўсведамляла, што з ёю і дзе знаходзіцца. Правалілася ў бяспамяцтва, – нічога перад сабою не бачыла, не чула, не адчувала...

5

Загадчыца аддзялення Зінаіда Паўлаўна зайшла ў свой кабінет, стомлена апусцілася ў крэсла. Поўня ўжо спаўзла з акна, падалася некуды ўправа, у густое голле сасны, схавалася ў воблаках.

"Чаго яна ўцякла? – падумала жанчына. – Ад чаго хацела скончыць жыццё самагубствам? Няўжо не хапіла сіл выстаяць?.."

Успомніла сябе, тую, голую, з марозу, і дрыжыкі пабеглі па целе. Тады ёй таксама не хацелася жыць, думала, што пасля таго, што адбылося, яна не знойдзе сіл выстаяць, перамагчы самую сябе... Усё тады здавалася вакол

шэрым і безаблічным, людзі выглядалі без твараў і без душы, неба без сонца і месяца, дні без гадзінаў і часу, – а яна сама без сэрца і пачуццяў...

– Ты хто? Тваё прозвішча? – схілілася над ёю жанчына, дакраналася да яе цела, рабіла балюча.

Яна маўчала, не ведаючы, хто ў яе пытаецца, хто хоча даведацца яе прозвішча.

– Пташка мая, дзяўчынка, адказвай, не ўцякай ад нас...

Голас ці то бабулі, ці то маці, а то і зусім іх суседкі, цёткі Зосі... Чаму яны прыйшлі да яе, што хочуць?

– Зі... на... іда... – шэпчуць скрывянелыя вусны, стараецца гаварыць, каб пачулі.

– Сцепаніда, так? Адкажы...

– Зі... на...

– Во, пачула, – абрадавана прамовіла жанчына, – малайчына, Зіна! А прозвішча? Прозвішча скажы...

Губы акамянелі, язык прыліп да нёба. Зыркае святло б'е ў вочы. Як сонца слепіць, не адвярнуцца ад яго, не схавацца ні пад якае дрэва. Дзе яна? На пляжы? Каля возера, ляжыць разам з сяброўкамі? Лета... Чмялі гудуць, звініць нешта ўдалечы – самалёты? Нехта злёгку б'е па шчацэ, зноў пра нешта пытаецца. Як уцячы ад яе, папрасіць, каб пакінула ў спакоі?..

– Зінка, а Зінка, прозвішча назаві, так трэба...

Зноў усё цела кусаюць пчолы. Гэта яна на пасецы ў дзеда Міколіка. Але ж яе ніколі не кусалі пчолы, чаму цяпер неўзлюбілі... І дзед дабіваецца ад яе прозвішча, быццам не ведае, – дзедава ў яе прозвішча, як і ў бацькі – Сілічы яны...

– Сі... і... – шэпча скрозь сілу дзяўчына.

– Ну, во, хай паспіць цяпер, – той жа голас пакінуў у спакоі і адагнаў ад яе пчол... – Дасталося, беднай... Вялікі стрэс у яе... Хай паспіць, сіл набярэцца...

О, як добра, калі ніхто не турбуе! Хораша! І ёй удалося, у рэшце рэшт, запаўзці пад дрэва і схавацца ад зыркага сонца, прымружыць вочы і адчуць асалоду адарванасці ад свету, ад навакольнага жыцця... Захацелася спаць. Сонца і цяпло зямлі размарылі яе. І тады ўжо нехта падказваў ёй, раіў, вучыў, прымушаў нават: "Спаць, Зіна, спаць трэба..."

Паслухалася – і правалілася ў сон...

І паплыла некуды ў бязважкасці...

Прачнулася яна днём. Ёй перад гэтым увялі снатворнае, каб выбавіць з таго стану, у якім знаходзілася. Адкрыла вочы, няўцямна паглядзела перад сабою.

– Дзе я? – прамовіла без асаблівай трывогі, вачыма шукаючы апірышча.

– Усё ўжо добра, не хвалюйся.

Яна адразу пазнала голас Ларысы. І Лёня сядзеў побач з ёю, глядзеў на Зіну, чакаў, калі апрытомнее.

– Ларыска? Ты чаго тут? Чаго Лёня тут?

Агледзелася, з трывогай спытала:

– А дзе я? У бальніцы? Што са мною?

І – заплакала. Галавой пахітала, усведамляючы, успамінаючы, што з ёю здарылася.

– Так. Ты ў бальніцы. У маім аддзяленні. Лёня цябе сюды прывёз.

– Лёня? Адкуль прывёз? Хто такі Лёня?

Вочы шырака раскрыты, не хапае паветра, не хапае сілы, каб усё ўсвядоміць і зразумець. Пах ёду і карболкі, як і ў яе на працы... Што ж такое здарылася з ёю, што яна нічога не памятае?

Ларыса трымала яе за руку, не ведала, што сказаць. Яна адчувала сваю віну, што не правялі з Кацярынай Зіну да прыпынку, паспадзяваліся на добрае..

– Даруй, Зінка, даруй... То з-за мяне ўсё.

– Чаму з-за цябе, Ларыса?

– З-за майго дня нараджэння. Што пакінулі цябе адну. Я ж думала, што ты разам з усімі паедзеш дадому...

Зінаіда нахмурылася, зморшчыла лоб, сілячыся нешта ўспомніць...

– Я засталася адна, і на мяне, з цемры, наляцеў нехта, збіў з ног... Здушыў за шыю, і пацягнуў у цемру...

Яна заплюшчыла вочы, сцяла вусны:

– Божа, гэта здарылася са мною! Са мною!..

– Лёня даехаў амаль да свайго прыпынку, а потым вярнуўся, адчуўшы, што няправільна паступілі, пакінуўшы цябе адну.

– То ты мяне падтрымаў, калі я прыйшла на прыпынак?

– Я, Зіна. І прывёз сюды, у абласную бальніцу. Я ўжо заявіў у міліцыю і ў пракуратуру.

– Навошта?

– Каб злавілі гэтага падонка.

Яна адвярнулася да сцяны.Сэрца гулка забілася ў грудзях, калі да яе памяці прыйшоў начны эпізод. Галава перавязана, пякло ў шчаку, пакладзены на раны пластыр.

– На каго я цяпер падобна, Ларыска?

– Няважна, на каго, Зіна, галоўнае што ты жывая і па-ранейшаму прыгожая.

– Дай люстэрка, Лора.

– Навошта табе яно? На дыскатэку збіраешся?

– Значыць, дрэнь мае справы, – вынесла сама сабе прысуд дзяўчына.

Ларысу паклікалі, і яна пайшла на покліч.

– Дзякую табе, Лёня!

– За што?

– Што вярнуўся, што не пакінуў мяне...

– Усё абышлося, не перажывай.

Зінаіда ўспомніла, якімі вачыма глядзела Ларыса на Лёню, і таму ніяк не магла даўмецца, чаму ён вярнуўся да яе, сказаўшы пра тое астатнім? Што ж падумала пра тое яе лепшая сяброўка? І яго развітальнае пытанне ўспомніла: “Вам ніхто не казаў, што вы прыгожая?..

” Для чаго сказаў? Проста так, без аніякага значэння? І ўспомніла пра галоўнае – ёй жа сёння вечарам на змену заступаць. А яна не прыйдзе. Трэба папярэдзіць. Апякла думка: “А як жа аднясуцца на рабоце да ўсяго, што здарылася? Што падумаюць?..”

Стала сорамна і няёмка за сябе, за безразважлівасць і бяздумнасць... Чаму б не паслухацца Ігара, які прапаноўваў сустрэць на прыпынку? Ды што сустрэць – маглі б разам і пабыць на дні нараджэння. Усё было б да месца... А цяпер столькі праблемаў, што аж галава кругам ідзе... Хаця яна баліць і без думак – добра, мусіць, прыклаўся начны гвалтаўнік ці маньяк...

Прыйшоў да яе доктар, назваўся Аляксандрам Львовічам, прывітаўся.

– Як адчуваеце сябе, Зінаіда?

– Ужо лепш...

– Галавакружэнне прайшло?

– Здаецца, прайшло. У мяне сатрасенне, доктар?

– Так, і вы перанеслі моцны стрэс.

Доктару гадоў пяцьдзясят. Праніклівы і ўважлівы позірк, кароткія валасы, голас павольны і разважлівы. Ён памераў пульс, потым ціск. Паглядзеў пільна ў вочы, затрымаў позірк.

– Аляксандр Львовіч, мне ж трэба папярэдзіць сваіх на працы. Я ж сястра рэанімацыйнага аддзялення хімзаводаўскай бальніцы...

Ён усміхнуўся, паклаў даланю на яе руку:

– За гэта не хвалюйцеся. Я пазваніў загадчыцы вашага аддзялення, папярэдзіў.

З трывогай у голасе пільна паглядзела на доктара:

– І што вы ёй сказалі?

– Так і сказаў, што на вас вечарам напаў невядомы злачынца, моцна збіў, і што вы некалькі сутак будзеце знаходзіцца пад нашым наглядам...

– А адкуль вам вядома ўсё пра мяне? Я ж нічога не расказвала...

– Вашы сябры і паведамілі... Ларыса і ваш сябар Леанід.

“Вось яно што, – зразумела Зінаіда, – з іх слоў усё...”

– Званілі з пракуратуры, пыталіся, калі можна будзе з вамі пагаварыць... Сказаў, што заўтра-паслязаўтра... Пракурор сказаў, што гэта пятае ўжо здарэнне, і што яны ніяк не могуць напасці на след таго падонка...

“Дажылася, – з горыччу падумала Зінаіда, – мной ужо і пракуратура цікавіцца...”

– Ляжыце, – сціснуў доктар руку, – адпачывайце, і ні пра што кепскае не думайце... Вам трэба цяпер пра харошае і светлае думаць. Гэта вашыя цяпер самыя галоўныя лекі...

Калі доктар выйшаў, спытала ў Леаніда:

– Ты ўвесь час тут быў, побач?

– І я, і потым пад’ехала Ларыса. Вельмі перажывае, што так атрымалася. Але правільна сказаў Аляксандр Львовіч, што думаць табе трэба толькі пра добрае. Усё засталося ў мінулым. Я рады, што ты прыехала да Ларысы, рады, што пазнаёміўся з табою... За гэтую ноч я шмат перадумаў, па-іншаму пачаў асэнсоўваць сваё жыццё... Ты ляжы, Зіна, ляжы, нічога не гавары... Я буду гаварыць глупствы, а ты ім не надавай значэння. Мне нехта падказаў, тады, у аўтобусе, каб вярнуўся. Я пачуў крык аб дапамозе... Я яскрава пачуў твой голас... Выскачыў на першым прыпынку, злавіў першую легкавушку, папрасіў тэрмінова ехаць да цябе... Я прыехаў, а на прыпынку нікога не было. Мне падалося, што я пачуў у цемры нечы покліч, кліч аб дапамозе... Кляну сябе, што не кінуўся туды, у цемру, каб хаця праверыць, пераканацца, што клікалі некага... А потым адтуль паказалася... Я не мог паверыць, што гэта была ты, і таму стаяў, як ёлупень, не могучы сысці з месца... А потым падхапіў цябе на рукі...

Зінаіда ўздыхнула, як і прасіў Леанід, не вымавіла ніводнага слова. Глядзела на яго і не ведала, як паставіцца да яго слоў, аднак жа верыла яму.

– А цяпер я паеду, – паклаў Леанід руку на яе, сціснуў, – прыйду заўтра. Можа што прынесці?

Яна няўцямна паціснула плячыма.

– Папраўляйся і ні пра што не думай. Усміхніся, ну?

Усмешка атрымалася пакутлівая і кіслая. Сказаўшы ўсім хворым палаты “папраўляйцеся!”, азірнуўся, позіркам яшчэ раз падбадзёрыў дзяўчыну.

6

Раніца ў аддзяленні пачалася з аўрала. Галоўны ўрач выклікаў усіх загадчыкаў аддзяленняў і запатрабаваў справаздачы за тыдзень. Юрый Пят-

ровіч Кішкін, галоўрач са стажам, абласны дэпутат, партыйны абкамавец, хвалюючыся, пытаўся ў тых, хто прыйшоў на “лятучку”:

–Хворыя хворымі, але ж вы не павінны забывацца і пра тое, што нечакана можа прыбыць камісія з народнага кантролю, і будзе дакопвацца да розных дробязяў. Усё павінна супадаць, як дэбет з крэдытам. Ніводная дзяржаўная капейка не павінна прапасці марна... Вось вы, Зінаіда Паўлаўна, што можаце сказаць пра тое, што я ад вас патрабаваў пра забеспячэнне хворых лякарствамі...

– Я вам гава...

– Ды чуў я пра тое. І гэта не апраўданне. Вы супакоіліся, змірыліся, а тут трэба мысліць маштабна, мы ж усе давалі клятву Гіпакрата. А неўралагічнае аддзяленне... Хто камандуе ў вашым аддзяленні, Абрам Ісакавіч, чаму вы пусцілі прафілактычную работу на самацёк?..

– У дакладной запісцы, Юрый Пятровіч, я ўсё падрабязна далажыў, – не ўстаючы з месца, адказаў лысы, гадоў пад шэсцьдзясят, невысокага росту, загадчык аддзялення.

– То на паперы, а яна ўсё сцерпіць, – размахваў рукамі галоўны ўрач, як мух ганяў па кабінеце, – вы мне рэальна далажыце... Прыпіскі мне не трэба...

Абрам Ісакавіч толькі пацізнуў плячыма, не ведаў, што хоча ад яго дабіцца галоўны ўрач.

– Партыя і ўрад дабіваюцца ад нас, каб мы як мага больш клапаціліся аб простым чалавеку, – працягваў кіраўнік установы, і яго голас рабіўся ўсё больш званчэйшым і строгім. – І на апошнім з’ездзе партыі была звернута асаблівая ўвага медыцынскаму абслугоўванню насельніцтва...

Не лятучка – спектакль. Усе нешта гавораць, і ніхто не верыць у тое, што сам гаворыць і сцвярджае... Тое ўсё напамінала гульню ў “сапсаваны тэлефон”. Галоўурач мала клапаціўся пра эфектыўнасць лячэння, ён дабіваўся эфектыўнасці ружовых лічбаў... Лічбы – усё, лічбы – ратаванне, лічбы – пагібель кар‘еры альбо яе ўзнясенне... Таму і ніхто яму не выказваў праблемы, тым больш прапаноў аб паляпшэнні работы, аб змяненні, ломцы старых стэрэатыпаў, бо кожны ведаў, што нічога “галоўны” чуць не будзе і мяняць не будзе...

Зінаіда сядзела каля акна, сядзела і амаль не слухала, пра што гаварылі, пра што гаварыў Юрый Пятровіч. А прымаць усё да сэрца – сабе горш рабіць.

На падаконнік, з вуліцы, усеўся голуб. Пачаў вуркатаць, шоргаючы кіпцямі па блясе. Хоць і было холадна, але голуб грэўся ў зацішку пад промнямі сонца.

– Таварышы, у нас вельмі нізкі працэнт эканоміі лякарстваў, – працягваў ушчуваць медперсанал галоўны ўрач, – вялікія перавыдаткі ў практалогіі...

– Нам трэба новыя антыбіётыкі, – прамовіла суседка злева – загадчыца таго ж практалагічнага аддзялення, Алена Патупчына, смелая і рашучая жанчына, за словам у кішэню не палезе. – Стрэптаміцын і пеніцылін ужо і на мух не дзейнічае...

Пракацілася смяшынка па радах і зглухла.

– Новыя – дарагія, а нам ніхто грошай на іх не дае...

– А вітаміны для хворых, хаця б аскарбінкі ці вітаміны Бэ...

– Вучыцеся вунь у загадчыцы аддзялення кардыялогіі. Не здаюць бясплатна кроў? Дык Галіна Селівестраўна звоніць дырэктару завода, і ён прысылае рабочых для здачы крыві... Бярыце прыклад. Сто чалавек прыйшло. Таму і на вышыні аддзяленне, першае месца ў спаборніцтве па бальніцы...

Ні для кога не было сакрэтам, што загадчыца з’яўлялася пляменніцай жончынай сястры. Таму ніхто і не пярэчыў, не абвяргаў яго слоў...

Голуб на падаконніку напыжыўся, натапырыў пер’е, – хаваўся ад холаду.

“Вясну чакае, – падумала Зінаіда, не слухала ўжо зусім галоўнага, бо яго накачка-ўшчуванне, якія чамусьці называюць “пяціхвілінуткамі”, зацягваліся на гадзіны, і ўсё пра адно і тое ж... Быццам не лячэнне галоўнае для бальніцы, а тое, як ахапіць стопрацэнтна план па ложкаднях... А тое азначала, што хворых змяшчалі на калідоры. А як яны адчувалі сябе на скразняках, якое то было лячэнне, – нікога тое не хвалявала...

... Адразу ж пасля абеду прыехала Алена Дзмітрыеўна. Недаўменна глянула на яе, жахнулася:

– Ды што ж гэта з табой, ласкавая мая? Зіна, што адбылося?

Дзяўчына падцяла апухлую губу, вось-вось расплачацца, адказала:

– З цемры выскачыў... Ударыў па галаве, адцягнуў ад прыпынку, паздымаў усё з мяне і знік...

– І – больш нічога? – з унутранай трывогай папыталася старшая медсястра, намякаючы на нешта...

– Больш нічога, – пацвердзіла Сіліч, – нічога...

Алена ўздыхнула, усміхнуўшыся, праказала:

– Ну і слава Богу, што хоць гэтым абышлося... А абноўкі набудзеш, абы ты была... А мо да нас пераедзеш, лепш дагледзім у сябе?

Нейкі час паразважала, адказала:

– Ды не, Алена Дзмітрыеўна... Што ўжо, і тут даляжу.

– Табе ўсе прывітанні перадаюць. Жадаюць хутчэйшай папраўкі.

– Дзякую...

Хацелася спытаць, чаму Ігар з ёю не прыехаў, ды не адважылася, перадумала, – хто ёй Ігар? Калега, дзяжурны доктар... Ды не хацелася і яго

ўблытваць у гэтую гісторыю... Невядома яшчэ, як і сама выблытаецца, бо яе словы – гэта адно, а як тое будуць абмяркоўваць астатнія?.. Людскія абгаворванні страшней за смерць...

– Ну, тады што, паеду я?

Толькі цяпер Алена дастала з сумкі ліманад, малако, некалькі яблыкаў.

– Усё будзе добра, Зінуля, гэта не самае страшнае ў жыцці. Мо тут лекі якія трэба, дык я прывязу?

– Ды не, доктар сказаў, што ўсё ёсць.

– Ну, то і добра. Тады ляжы. Пазней, як станеш на ногі, праведаем. Папраўляйся.

Зінаіда падзякавала. Ляжала моўчкі. Не хацелася ні з кім гаварыць. Учора наваколле мела колеры і адценні, у голасе людзей чулася пяшчота і спагада, сёння – усё наадварот.

Усё змяшалася ў суцэльную шэрань, і людскія галасы сталі аднолькавымі, зліліся ў адзін рыпучы суцэльны гук.

Яна як бы перасялілася з аднаго асяроддзя ў другое, перайшла жыць з адной планеты на другую, – учора жыла ў адным часе, а цяпер у зусім іншым, незразумелым і глухім...

Нехта абазваўся да яе з суседняга ложка, пра нешта спытаў, але яна не адказала – як і не чула... Жанчына, чуваць было, глыбока ўздыхнула...

Яшчэ праз дзень прыходзілі з пракуратуры, дапытваліся пра той вечар. Малады следчы нічога не пісаў, толькі распытваў. Пра вылазку ў лес з Ігарам не гаварыла. Каб і з яго не бралі ніякіх паказанняў... Леаніда папрасілі, каб сам завітаў да іх. Ён згадзіўся. Але пра іх запрашэнне ёй не сказаў.

І з Ларысай гаварыў следчы. Пытаў, што пілі і колькі выпіла Зінаіда. І аналізы крыві пацвердзілі амаль поўную адсутнасць алкаголю ў крыві.

Не прыехаў Ігар і пра тры дні, і праз тыдзень. І старшая месястра, забыўшыся пра абяцанне, не праведала яе.

“У яе клопатаў больш за ўсіх, ды і да сям’і спяшацца трэба, таму і не да мяне, – не прыдавала таму значэння, апраўдвала яна Алену, – у кожнага сваё...”

Доктар штодня наведваўся, пра галавакружэнне дапытваўся... Радаваўся, што папраўлялася яго пацыентка. Толькі вось з тварам... Прыкладвалі нейкія пякучыя мазі, але яна трывала ўсё, цярпела боль.

– Нічога, нічога, пацярпі, – супакойвала працэдурная медсястра, – пакуль жаніцца, загаіцца...

А праз два тыдні, калі перайшло на трэці, праведаў яе айцец Уладзімер.

– Вы? – шчыра падзівілася яна. – Адкуль вы даведаліся, што я тут?

Ён усміхнуўся:

– Няма нічога тайнага, каб не стала вядомым. Бог усё бачыць. Ведаю, што вам прыйшлося прайсці праз цяжкія выпрабаванні, шмат перажыць, але Бог заўсёды прыходзіць на дапамогу кожнаму з нас... Вам і цяпер цяжка, і вы маеце патрэбу ў духоўнай падтрымцы...

Святар быў у звычайным адзенні, толькі зняў верхнюю вопратку і паверх пінжака накінуў белы халат.

– Айцец Уладзімер, мне ўжо нашмат лепш, і мы можам выйсці з палаты, – прапанавала Зінаіда, – у нас ёсць пакойчык, дзе мы можам пасядзець...

– Добра, я згодзен.

На іх не звярталі ўвагі – да ўсіх прыходзілі наведвальнікі.

У холе нікога не было. Яны селі на канапу. Нейкі час маўчалі.

– Праведваюць вас тут, Зінаіда?

– Праведваюць. Вось старшая медсястра прыходзіла...

Адчула, што ад святара сыходзіла цяпло, якое адчула і тады, як першы раз падышла да яго, каб ставіць кропельніцу.

“Калі ад яго такое цяпло, то якая сіла і моц сыходзіць ад Бога?” – мусьці падумала яна, і ад гэтай думкі закалола ў скроні.

– Як вашае здароўе, айцец Уладзімер?

– Дзякую, Зіна. З Божай і з вашай дапамогай адчуваю сябе добра.

Наступіла маўчанне, але маўчанне не гнятлівае, калі хочацца хутчэй развітацца з субяседнікам, тут было ўсё наадварот, грэла прадчуванне таго, што размаўляць з нечаканым госцем было прыемна, ды і не толькі гаварыць, а нават і маўчаць.

– Вас спасцігла спакушэнне, – ціхім голасам прамовіў айцец Уладзімер, – і да гэтага трэба аднесціся спакойна і разважліва. Кожнага з нас падсцерагаюць спакушэнні. Як даўно, Зіна, вы былі ў царкве? Ці зусім не наведвалі?

– Была, айцец Уладзімер, ды даўно. Але прыйсці ў царкву – гэта ж не азначае адразу стаць веруючай. Нашае грамадства – атэістычнае, а мы ўсе, хто вучыцца, камсамольцы, а камсамольцы і камуністы – усе атэісты. І нам не дазваляюць хадзіць у храм...

– Мне, Зінаіда, не дазваляюць прыходзіць да прыхажан, да вернікаў... Але я не мог не прыйсці да вас... Скажыце, ці ёсць у вас Святое Пісанне, Біблія? Звярталіся вы калі да радкоў, якія памагаюць чалавеку ісці да Бога?

– Некалі была ў маёй бабулькі Юстыны, а потым недзе знікла... Школьніцай чытала, але нічога ў ёй разабраць не змагла. А, можа, выкінуў куды старэйшы брат, які стаў партыйным работнікам, не ведаю...

– Ці хацелі б вы мець Біблію?

– А як яе набыць? – паглядзела дзяўчына з цікавасцю на святара.

Айцец Уладзімер дастаў з кішэні маленькую кніжачку, падаў ёй:

– Гэта Новы Запавет Госпада нашага Ісуса. Потым я вам дам і Стары Запавет. Будзе шмат чаго незразумелага, але гэта натуральна. Калі вы будзеце запісваць свае пытанні ў асобны сшытак, то потым мы разбярэм іх разам. І шмат чаго стане зразумелым. І, апярэджваючы вашае натуральнае пытанне, чаму звярнуўся да вас, то адкажу так, як і сказаў да гэтага – я пачуў ваш кліч. Калі вам не даспадобы, калі вы палічыце, што вам гэта не трэба, вы можаце адмовіцца ў любы час, сказаць, каб я не прыходзіў да вас... Мяне ніхто не ўпаўнаважваў, тым больш, нават і забаронена, але я прыйшоў. Царква чакае вас, споведзь чакае вас і святое прычасце... Вы павінны рыхтавацца да гэтага.

– Я ніколі не адпрэчу вас, як і не адпрэчу гэты Боскі дарунак. Я ўдзячна Богу, што Ён паслаў вас да мяне. А як вас знайсці, айцец Уладзімер?

– Вельмі проста – у храме. Калі наспее час і вы захочаце сустрэцца, пераступіце парог царквы... Сілай ніхто не прымушае ісці да Бога, да Яго прыходзяць толькі тады, калі загадае сэрца...

– Дзякую, айцец Уладзімер! Я прыйду. Я ўбачуся з вамі, калі падрыхтуюся фізічна і духоўна.

– Так, так, як казаў апостал Павал у пасланні да рымлянаў: “Будзьце ў згодзе з усімі людзьмі. Не помсціцеся за сябе, любасныя, а дайце месца гневу Божаму. Бо напісана: “Мне помста. Я адплачу, – кажа Гасподзь... – Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром...”

На душы ў Зіны стала суцешна і спакойна, быццам яе ахутаў мройны туман лагоды ў вялікую спёку, быццам напілася жывой вады з крыніцы ў Адолькавым лузе, куды хадзіла не раз, калі ёй было цяжка.

І размова праляцела неяк хутка і непрыкметна, як адно імгненне...

– Я жадаю вам моцы і цярпення, і хай вас ахіне ласка і пяшчота Госпада.

– Дзякую. Хай памагае вам Бог у святым служэнні.

– Да сустрэчы.

– Да пабачэння...

Калі ж прыйшла ў палату, калі села на ложак, не рашаючыся адгарнуць кнігу ў сіняй вокладцы, да яе падышла Ларыса, якая дзяжурыла ў гэты дзень, пацікавілася:

– Хто гэта прыходзіў да цябе, Зіна? Ніколі не бачыла яго.

– Адзін харошы знаёмы, – сказала яна праўду, але не гаварыла канкрэтна, хто.

– Прыгожы. Незвычайны выгляд, з бародкай, як усё роўна поп які...

Нічога не сказала Зіна, хаця яе словы трошкі разанулі слых, не паправіла “поп” на “святар”, – рашыла ў сабе трымаць гэтую тайну. Нехта падказваў так тое рабіць.

Наступіла ціхая гадзіна.

Хворыя з палаты, а іх было і яшчэ трое, палягалі на свае ложкі, засаплі насамі, а нехта і захроп – бабулька Марта, мусіць, што ляжала каля акна. З вялікім хваляваннем адгарнула першую старонку, учыталася ў першыя радкі:

“Кніга роду Ісуса Хрыста, сына Давідавага, сына Абрагамава... Абрагам спарадзіў Ісака, Ісак спарадзіў Якава, Якаў спарадзіў Юду і братоў ягоных...”

Прачытала “Паводле Мацвея Святое Дабравесце”. Захацелася пачытаць іншае. Адгарнулася старонка “Саборнае пасланне святога апостала Юды” з 17-га верша:

“Але вы, любасныя, памятайце прадказанне апосталамі Госпада нашага Ісуса Хрыста; яны казалі вам, што апошнім часам з’явяцца агуднікі, але без духу. Але вы, любасныя, грунтуючыся на найвышэйшай веры нашай, молячыся, Духам Святым, захоўвайце сябе ў любові Божай, чакаючы мілаты ад Госпада нашага Іісуса Хрыста, на вечнае жыццё;

і да адных будзьце літасцівыя, з разважлівасцю; а да другіх страхам ратуйце, вырываючы з агню, выкрывайце са страхам, пагарджаючы нават вопраткаю, якая апаганена целам. А Таму, Хто можа захаваць вас ад падзення і паставіць перад славаю сваёй беспахібнымі ў радасці, адзінаму, самаму мудраму Богу, Збаўцу нашаму праз Ісуса Хрыста Госпада нашага, слава: веліч, сіла і ўлада перад усімі вякамі, сёння і ўсявечна, Амін!”

Такога яшчэ з ёю не было: радкі з Божай кнігі ўліваліся ў яе, як крынічная вада... І не толькі ўліваліся, а напаўнялі ўсю яе істоту жывой і таямнічай сілай...

“Ты далучылася да гэтай святой крыніцы, і ўжо заўсёды будзеш піць з яе, наталяючы і наталяючы смагу, – гаварыў ёй Нехта, калі яна злучыла ацяжараныя вейкі, і голас ліўся аднекуль з акна – разам з сонечнымі праменнямі, – і смага твая будзе ненатольная, як жыццё, як паветра, як жаданне дарогі, каб чалавек крочыў і крочыў, няспынна, па ёй далей...”

“Я не збочу, Божа, са сваёй дарогі... Што б мяне ні напаткала наперадзе...”

І яе ахутаў сон – моцны, здаровы, светлы і радасны.

Можа, такі першы за ўсе дні ў бальніцы.

А мо і за ўсё жыццё...

7

– Усё, таварышы, – скончыў галоўны ўрач сваё дэкларатыўнае выступленне, – цяпер – за работу! Пяцімінутка скончылася.

Усе ведалі – цяпер да яго нельга падступацца ні з якімі пытаннямі і прапановамі, ніякімі ўдакладненнямі, бо пашле ён туды, дзе Макар цялят не пасвіў, і абмацюгае яшчэ, не трымаючыся ніякага этыкету...

Галоўны “выклаўся”, аддаўшы ўсю сваю сілу і імпэт, выканаўшы кіраўнічы доўг і сверб перад калектывам... Аж пот на ілбе выступіў, у вачах напружанасць і сур]ёзнасць. Калі ўсе выйдуць, ён абавязкова глыне некалькі таблетак альбо прыме чарачку каньяку. Кіраваць дактарамі – гэта не клізму хвораму паставіць...

Зінаіда Паўлаўна з душнага кабінета выйшла амаль апошняй, а, выйшаўшы на прасторны калідор, глыбака ўдыхнула паветра. Дзве гадзіны ўпустую, дзве гадзіны балабольства. Дзеянняў і зрухаў – ніякіх, адныя словы, словы, словы... А як зайшла ў кабінет, то і хвілінкі не ўдалося адпачыць пасля “пяціхвілінкі” – адразу прыбегла старшая медсястра, роспачна спытала:

– Зінаіда Паўлаўна, чым, скажыце, працаваць?

І – пачалося...

...І два, і тры тыдні, і на чацвёрты пераваліла, як Зінаіда знаходзілася ў бальніцы. Аляксандр Львовіч праверыў яе твар, дакрануўся пальцамі:

– Усё, Зіна, будзе добра... Добры замежны крэм зрабіў сваю справу. Ледзь заўважны пакуль застаўся след, палоска, але і ён знікне ў бліжэйшы час.

– Дзякую вам, Аляксандр Львовіч...

– Такі твар нельга пакінуць без увагі, такі твар – багацце рэспублікі. Вас ніколі не запрашалі здымацца ў кіно?

Доктар жартаваў, ён радаваўся, што знайшоў правільнае лячэнне. Доктар меў добрую і чулую душу, і вельмі ж хацеў, каб на яе абліччы не засталося нават і кропачкі, якая псавала б яе артыстычны твар...

– Ды якcьці не атрымалася... Ці то я непаглядная, ці яны сляпыя...

– А шкада. Вельмі шкада. Сляпыя, няйначай, кіношнікі. Ну, што, праз два-тры дні я адпускаю вас дадому. Толькі яшчэ трэба раз зрабіць паўторна аналізы, каб пераканацца, што нічога вам больш не пагражае...

– Дзякую за клопаты, доктар!

Аляксандр Львовіч уважліва паглядзеў ёй у вочы:

– І яшчэ, Зінаіда, вось што. Я ведаю, што вы выдатная медсястра. І Ларыса пра вас расказвала тое ж. Ці не хацелі б вы ў нас працаваць? У абласной бальніцы. Я адразу не чакаю ад вас адказу. Вы падумайце, паразважайце, узважце ўсё...

– Прапанова нечаканая, не ведаю, як і паставіцца да яе...

– А як хочаце, так і стаўцеся. Пазней вы можаце атрымаць рэкамендацыі і накіраванне для паступлення ў медыцынскі інстытут – на лячэбнае аддзяленне.

– Нават так?

– Нават так... – заўсміхаўся доктар, зразумеўшы, што ўзрадваў яе сваёй прапановай і перспектывай.

– Я буду думаць. Але напачатку я павінна пабыць у родным калектыве...

Доктар кіўнуў галавой, згаджаючыся з ёю.

Зінаіда ніколі не прымала неабдуманых рашэнняў, таму і тут аднеслася спакойна да прапановы, хаця ж і адчула, што недзе на донцы душы яна будзіць салодкія мроі...

Але ўсё ж адмахнулася ад гэтых думак і мараў, бо іншае непакоіла яе – трэба вяртацца на працу. І таму тачыла, грызла думка: “А як жа аднясецца да мяне калектыў рэанімацыі? Я, як і раней, буду лепшай, як казала загадчыца аддзялення, медсястрой, ці стану той, якая з, падазронай ужо, плямінкай? Праўда ж ніколі не бывае праўдай, бо яна нецікавая, а вось калі да яе далучыць тое, чаго не было, то тады – ого-го!..”

Зінаіда падышла да акна, за якім мароз панавешваў на галіны дрэваў снежныя карункі, і прыгажосць заінелай раніцы перасялілася ў яе сэрца, – і тады ж яна махнула рукой на свае перасцярогі, весела праказала сабе:

– Чаму быць, таго не абмінеш!

Такой жа бесклапотнай і вясёлай, гордай і незалежнай з‘явілася яна праз колькі дзён у аддзяленні рэанімацыі. Зайшла найперш да старшай медсястры, павіталася, нямала здзівіўшы яе сваім выглядам...

– Добры дзень, Алена Дзмітрыеўна! – амаль па-вайсковаму далажыла непасрэдна сваёй начальніцы дзяўчына, – прыбыла для выканання сваіх прафесійных абавязкаў!..

– Ну, ты і даеш, галуба, яшчэ прыгажэйшай стала! – здзіўлялася, не перастаючы, старшая медсястра, не зводзячы вачэй з маладога гожага твару. – Венера ты мая ненаглядная...

Абняла яе, прытуліла да сябе, пацалавала.

– Вера Пятроўна на месцы?

– Ды ў сябе, дзе ж ёй быць?

І загадчыца здзівілася, адзначыўшы, што не перамянілася за гэты час медсястра, – такая ж энергічная і спакойная, у позірку іскрынкі актыўнасці і ўважлівасці, але ж у нечым і іншай стала – а ў чым, пакуль не разумела Вера Пятроўна, ды і не старалася яна дакапацца цяпер да сутнасці.

– Не знайшлі таго, хто абрабаваў цябе? – пацікавілася жанчына, зняўшы з вачэй акуляры, перад сабой на стол паклала.

– Шукаюць.

– Мне званіў загадчык аддзялення, дзе ты ляжала. Сказаў, што нічога страшнага, што сатрасенне, ды нервовы шок перанесла...

– Так, так, Вера Пятроўна, – заўсміхалася медсястра, як даказвала, што калі тое і адбылося, дык і не з ёю зусім... – З тварам былі праблемы, а так усё добра...

– Ну і слава Богу, – уздыхнула загадчыца аддзялення, – абы ўсё добра... Калі прыступаць думаеш?

– А хоць і заўтра...

– Добра. Тады – заўтра ў начную змену.

Вось і ўсё. Зінаіда больш нікуды не заходзіла, нікога не праведвала. Медсёстры, яе сяброўкі, хацелі пра нешта спытаць яе, але яна далікатна адмахнулася: “Потым, дзяўчаткі, потым, часу ў мяне ў абрэз... Выбачайце.”

І выпырхнула на вуліцу, як усё роўна з-пад гнёту нябачнага вырвалася, уздыхнула вольна на поўныя грудзі колкага паветра, з усяе сілы стрымлівала тое здрадніцкае пачуццё, што імкнулася вырвацца на волю.

Яна здушыла, утапіла ў сабе прыкрасць і недаўменне, крыўду, а ўголас праказала:

– Жыць трэба, жыць! Божа, дай мне сілы выстаяць і перамагчы!

І, задаволеная самаперамогай, заспяшалася да прыпынка.

## Частка трэцяя

### *“Ляснічы”*

#### 1

І ўлілася Зінаіда Сіліч зноў у свой калектыў. І крыўда, якую яна напачатку насіла ў сэрцы, што не праведалі яе ў бальніцы, выветрылася, бо прачытала там жа, у кнізе: “Не судзіце, і вы не будзеце асуджаны”.

Сапраўды, клопатаў у кожнага хапала з коптурам, таму, можа, і не праведалі яе. Старшая медсястра прыходзіла – і таго дастаткова. Пра Ігара дык і зусім абыякава падумала: “Хто ж ён мне, каб крыўдаваць на яго? Раз у кіно схадзілі ды ў лесе каля кастра пасядзелі?.. Не прыйшоў? Мо і ў яго з’явіліся нейкія прычыны, хто ведае...” Успомнілася неспакойная сінічка. “Ведала, прадчувала маю бяду? Папярэджвала, ды не надала таму значэння... Надалей разумнейшай буду...”

Недзе праз месяц, як яна была на начным дзяжурстве, сярод ночы прывезлі юнака з падазрэннем на апендыцыт ці гепатыт... Тэрмінова зрабілі біяхімічны аналіз, і яго, амаль беспрытомнага, паклалі ў ложак. Зінаіда адразу падключыла да яго кропельніцу. Зазірнула ў гісторыю хваробы – Сяргей Стром. Падабралі на вуліцы беспрытомнага…У блакітных вачах хлопца праглядваўся боль, адчай. Ён умольна глядзеў на Зінаіду, і ў яе душы прачнулася шкадаванне да яго, хацелася памагчы хлопцу як найлепш перанесці пакуты...

– Што ў мяне, сястра? Чаго так скруціла?

– Доктара спытаеце. Не перажывайце, вам хутка стане лепш, вось пабачыце... І не матляйце рукой, бо з вены можа выскачыць іголка...

– І што тады? – з трывогай спытаў юнак.

– Мне будуць лішнія клопаты, зноў вену буду ў вас шукаць... – заўсміхалася яна, папраўляючы бутэльку з растворам наверсе стойкі.

– А-а...

Ноч. Цішыня. Усе спалі. Зіне спаць нельга. Зінаідзе трэба сачыць іназіраць за хворымі, рэагаваць на нечаканыя моманты і адгуквацца на покліч хворых, нават калі той хворы вымавіў тое і не ўголас.

Падчас наступнага дзяжурства “новенькі” ўжо весялейшымі вачыма глядзеў на яе.

– Я ж вам абяцала, што будзе лепш, – нахілілася  над ім, зазіраючы ў вочы – нечым падабаліся яны ёй, – як два азерцы, у якіх хочацца пакупацца... – Давайце руку, зноў увальем у вас паўтара кіло раствору...

Ён злавіў яе руку, запыніў, прашаптаў:

– Зіна, я хачу, каб вы пагаварылі са мной...

– Пагаварыць? Пра што? – здзівілася  просьбе.

– А ні пра што... Проста пагаварыць. Калі ў вас, канечне ж, ёсць час і жаданне...

Голас у яго ціхі і ўмольны, як у дзіцёнка, і ў той жа час безнадзейны...

– Ладна, – згадзілася яна, вызваліўшы сваю руку, – надарыцца хвілінка, то, можа, і падыду...

– Дзякую, – уздыхнуў ён і ўсміхнуўся, пачаў глядзець, як з бутэлькі раўнамерна сцякалі ў пластмасавы мяшэчак кроплі – кап-кап, кап-кап, кап-кап...

Хворы, здаецца, драмаў, калі яна села побач з ім – на табурэцік.

– Вы спіце? – ціха спытала медсястра.

– Не, чакаю вас... Вы ж паабяцалі.

– Я нічога не абяцала, я сказала – “можа”...

– Але гэта ўсё роўна.

“Во які самаўпэўнены, – падумала пра сябе медсястра, – мо ўжо і заляцацца ўздумаў... Тады трэба яму адразу адбіць ахвоту...”

– Пра што вы хацелі пагаварыць?

– Не ведаю, мне ўсё роўна. Вы замужам?

– А гэта вам навошта? – насцярожылася дзяўчына.

– Проста так. Думаю, што не... Голас у вас нейкі...

– Які?

– Які выдае, што вы нікога яшчэ не кахалі...

– А вы?

– Я? Кахаў. І – моцна. Яна была прыгажэй за ўсіх на свеце. А я забіў яе. Сваімі рукамі.

– Як – забілі? На смерць?

– Ды не, канечне ж, не... Вялікае глупства зрабіў, непапраўнае глупства. А яна для мяне была як багіня, як прынцэса з чароўнай казкі... І ёй, і сабе паламаў жыццё.

Зінаіда адчула, што ён і паклікаў яе толькі дзеля таго, каб прызнацца ў тым, што зрабіў, паспавядацца, – і тое ён рабіў, як яна зразумела і адчула, упершыню ў жыцці.

– Дык навошта ж вы так зрабілі? Што кіравала вамі?

– Кіраваў не я, тым больш, не Бог. Нейкае насланнё, нейкі злы і пачварны дарадчык. Я думаў, што ўсё гэта пройдзе, забудзецца, але яно кожную ноч непакоіць мяне, прыходзіць у сны... І мне робіцца страшна.

– Тады прасіце ў Бога даравання, малітва да Госпада толькі і можа памагчы.

– Вы гаворыце, як поп... А калі Бога няма, тады што? Вы яго бачылі, Бога?

– Ніхто не бачыў Яго. Але я чую заўсёды Яго прысутнасць.

– Байкі ўсё гэта, казкі для дзяцей...

– Уяўляю, як вам цяжка жыць з вашым болем.

Ён уздыхнуў, паглядзеў у столь:

– Што вам да майго болю? Боль нарадзіў новы боль, новыя пакуты... І ў вас сядзіць, ведаю, боль, але вам нехта памагае пераадольваць яго.

– Бог і памагае, і вам дапаможа...

– Мне ўжо ніхто не дапаможа.

– А вы паверце, што будзе інакш, і яно так і адбудзецца.

З ложка, у самым кутку, падала голас жанчына:

– Дачачка, падыдзі да мяне... Папраў іголку, не капае зусім чамусьці...

Зінаіда падышла да жанчыны. Перацiснуты шланжык, кроплі зусім не паступалі ў вену...

– Чаму ж вы маўчалі, раней не клікалі?

– Ды перабіваць вашу гутарку не хацела з маладым чалавекам, – прызналася жанчына, – маладым – маладое...

– Пры чым тут “гутарка”? – пакрыўдзілася медсястра, папраўляючы і рэгулюючы падачу глюкозы. – Я з усімі аднолькава размаўляю... І з вамі магу гэтак жа размаўляць...

Зінаіда злавіла сябе на тым, што апраўдваецца перад жанчынай, хаця яна нічога недазволенага і не зрабіла. Бо размаўляць з хворымі не забаронена – але ж у нечым хворая мела рацыю – нельга бавіць час у пустых размовах...

– Калі нешта не так, і калі вы адчулі з-за мяне нязручнасць, то даруйце...

– Ды нічога, дачачка... То я так, вырвалася... Дзякуй табе, ты ўсё добра робіш. Як і твае сяброўкі.

Зноў ціха ў палаце. Святло ў памяшканні слабое, як усё роўна шэрае. Бегае зялёная сінусоіда на экранчыку манітора, як усё роўна падміргвае медсястры, супакойвае: “Не хвалюйся, усё ціха і спакойна...”

Больш юнак не клікаў яе. Магчыма, адчуваў сваю віну, што адарваў медсястру ад працы, і што яе папікнула жанчына.

Зінаіда, праходзячы паўз яго, чула, як ён пасопваў – здаецца, спаў...

Закончыўся раствор у жанчыны, і Жана Міхнова выцягнула іголку, прыклала вату, змочаную ў спірце, сагнула руку...

Мужчына, перанёсшы інфаркт, таксама ляжаў з сагнутай рукой, глядзеў у столь.

Усё зрабілі медсёстры, усім і кожнаму аддалі належнае. Цяпер і прысесці можна, а то і прылегчы... Па вопыце ведалі, што да гадзін чатырох усе праваляцца ў глыбокі сон... Светка Кузіна, скурчыўшы ногі пад сябе, пачала драмаць у крэсле...

Недзе праз гадзіну, калі медсёстры разам з хворымі ўбачылі сны, запіпкаў прыбор каля галавы юнака, які гаварыў з Зінай. Яна прахапілася, адразу прыбегла да яго, старалася зразумець, што ж адбылося...

– М-ммм... то не я, не я... – сіліўся нешта гаварыць, галавой круціў, не адрываючыся ад падушкі, хрыпеў, некаму ці то пагражаў, ці то прасіў аб нечым...

Яна злёгку таўханула яго за плячо, пабудзіла:

– Прачніцеся, Сяргей, што з вамі?

Ён ухапіў яе за руку, сціснуў, зноў захрыпеў, потым, растапырыўшы пальцы, пазногцямі, упіўся ў яе руку каля локця, правёў глыбокіх пяць крывавых пісягоў, закалаціўся, прахрыпеў уголас:

– Ёшкін ко-оот!..

Яе напачатку апаліў неймаверны боль – руку апякло, як усё роўна яе ахапіў агонь, а, па-другое, яна яскрава ўявіла тую ноч і гэты хрыпаты, злосны вокліч – "ёшкін кот". Гэта быў той, начны голас гвалтаўніка і рабаўніка, тыя ж пісягі – пяць глыбокіх драпін на руцэ... На тым жа самым месцы... Ён, гэта ён. Бо той голас яна запомніла на ўсё жыццё, і пісягі, рубцы, няхай не на целе, а на сэрцы, будуць саднець і саднець...

"Вока за вока, зуб – за зуб... Здзек – за здзек..." – шаптала яна няўцямна, не ведаючы, што рабіць у такім выпадку. Не адпомсціць яна не магла. Але – як? І яна рашылася на самае страшнае...

Спачатку падумала, што набярэ ў шпрыц страфанцін ці дзігаксін, уколе ў вену звыш нормы – і ні адна экспертыза не дакапаецца, але потым і гэтага лякарства стала шкада на яго – мо каму і сапраўды спатрэбіцца... Набрала ў шпрыц халоднай, з крана, вады... А ўкол можна зрабіць так, каб не выпусціць з іголкі паветра, – тое ж самае, зыход адзін і той жа... А калі гвалтаўнік спытае, што за ўкол, скажа, што доктар прыпісаў... Такім чынам, выйдзе так, што яна зробіць яму паветраную эмбалію...

Яна падышла да яго, стала побач. Усё яшчэ раздумвала, узважвала, у душы змагаліся два пачуцці – "за" і "супраць"... І ніхто не мог перамагчы. А нейкі ўмольны голас прашаптаў ёй: "Зіначка, спыніся! Даруй ворагам тваім, і сама памілавана будзеш..." Яна ўжо ўзялася за яго руку, і ён расплюшчыў вочы. Усміхаючыся, глядзеў на яе. Чакаў ад яе слоў ці дзеянняў.

Не хворы, а Нехта іншы, Нябачны, але Усёмогучы, штурхнуў яе пад руку, – і шпрыц бразнуўся вобзем – разбіўся... І тады яна ўздрыгнула і закалацілася, нейкая маланка асляпіла яе, прымусіла напруціцца, асэнсаваць і ўсвядоміць, дзе яна знаходзіцца і што робіць...

Першае, што прыйшло на розум, гэта падняць з падлогі разбіты шпрыц, падзенне якога пачулі сяброўкі. Яна хуценька выкінула рэшткі яго ў сметніцу. А потым, хістаючыся, пайшла і села на крэсла, абхапіла галаву рукамі, застагнала, быццам яе працяў неймаверны боль... Потым заплакала, уткнулася тварам у спінку крэсла.

– Што з табой, Зінка? – устрывожыліся сяброўкі, а Святлана абхапіла яе за плечы. – Што здарылася?

– Нічога... Але я рабіць нічога не магу, папрацуйце за мяне...

Ледзьве дачакалася перадачы змены. Хутка здала справаздачу пра растворы, што заставаліся пасля начнога дзяжурства.

Ігару Літошыну, дзяжурнаму ўрачу, не гледзячы яму ў вочы, далажыла пра стан хворых, якія і колькі раствору ўвяла. Ён пільна паглядзеў на яе, пра нешта хацеў сказаць ці папытацца, але змоўчаў.

Сама спытала:

– Як жыццё, Ігар?

– Ды так сабе, як і ва ўсіх. А ў цябе?

– Таксама хакей!

Для дзённых медсясцёр, што заступілі на змену, падрыхтавала сшытак, дзе паставіла подпіс пад графой “здала”, а зменшчыца пад – “прыняла” – і ўздыхнула з палёгкай, што праца скончана, і яна цяпер аддадзена сама сабе... Накінула палітончык на плечы, і, не чакаючы, калі збяруцца сяброўкі, цокаючы гулка абцасікамі ботаў па падлозе, збегла з другога паверха на першы...

На ганку бальніцы стаяў Леанід.

– Ты? – падзівілася і ўзрадвалася яна. – Чаго ты тут?

– Добрай раніцы! – павітаўся, узяў за руку, каб памагчы спусціцца па слізкіх прыступках. – За табой жа трэба прыглядваць, калі ты ідзеш на прыпынак. А то хто-небудзь можа цябе ўкрасці...

– Мяне днём не крадуць, а толькі ноччу, – адказала яна, і не ведала, ўдала адказала на яго жарт ці не.

– Як прайшла змена?

– Нічога...

– Нейкая ты наструненая. Ці ўсё ў цябе добра?

– Так, Лёня, добра. Пайшлі на аўтобус. А ты сёння выхадны?

– Амаль што так.

Яны абодва накіраваліся да прыпынку, да якога ісці адзін квартал – праз мікрараён.

2

Зінаіда са сваімі сяброўкамі заступіла на змену праз дзве ночы.

Прыняла ад зменшчыц рэшту раствору, узяла прызначэнні ўколаў і кропельніц ад урача. Падыходзячы да “ёшкінага ката”, старалася стрымліваць у сабе кіпенне злосці і крыўды, каб не нарабіць глупства...

Ёй гэта давалася вельмі цяжка.

А ён і сам паклікаў яе, зачапіў, не ўтрымаўся: быў у добрым настроі. Аціхла збольшага напружанасць, і можна ўжо спакайней і спаважна працягваць працу.

– Ну, як ты сёння? – падышоўшы да яго, пацікавілася, знарок націснуўшы на “ты”. – Лепш?

– Значна лепей, Зінаіда. Твае кропельніцы вярнулі мяне да жыцця.

– Вярнулі, кажаш? А маглі і забіць...

Ён недаўменна паглядзеў на яе:

– Чаму – забіць? За што?

– Ёсць за што. Ёсць, ёшкін кот. Скажы мне, Сяргей, ці падышлі мае боцікі для той, для каго ты зняў з маіх ног? І ці дублёнка падышла? А шапка? А завушніцы?

– То ты была, Зіна?!? Ты-ыыы?!

– Я, ёшкін кот. І гэтыя твае пісягі пяці пальцаў, цяперашнія, і тыя, што на маім твары, пакінулі твае рукі... Я хацела забіць цябе, адпомсціць за здзек, але не забіла. Ты сам сябе забіў... Як забіў Прынцэсу, як аддаў яе на здзек іншым, на гвалт сваім сябрам... Ты сябе і сам забіў. У цябе цяжкая форма сіфіліса... Цябе перавядуць у венералагічнае аддзяленне і будуць лячыць прымусова... Але ты яшчэ наркаман і алкаголік... Таму ты курчышся і крычыш ад болю...

– Адкуль пра Прынцэсу ведаеш?

– У вагоне адным выпадкова ехалі, у адным купе. Разгаварыліся. Яна расказала пра сябе... Пра свайго гвалтаўніка. А то, аказваецца, быў ты, ёшкін кот...

Ён адвярнуўся да сцяны, скрыгатаў зубамі.

Яна адышла ад яго, пакінуўшы яму яго ж недаўменне і страх, страх таго, што яму нікуды не падзецца ад пакарання за сваё злачынства... За многія злачынствы.

У тры гадзіны ночы, калі зноў наступіла цішыня, прыўстаў Сяргей з ложка, агледзеўся.

– Ты куды?

– У туалет...

– Табе яшчэ нельга ўставаць...

– Нічога, я амаль здаровы...

– Ну, як знаеш...

Трымаючыся адной рукой за сцяну, а другой за ніз жывата, пасунуўся да прыбіральні...

Не вяртаўся ён і пяць хвілін, і дзесяць, і паўгадзіны прайшло ўжо...

– Светка, схадзі глянь, мо заснуў на ўнітазе...

Нешта падціскала пад грудзі, падступілася няўцямнае прадчуванне нечага непазбежнага і трывожнага.

Усё цела Зінаіды напруцілася, і сціснулася ў нябачную спружыну, і кожная секунда часу адбівалася гучным звонам у яе сэрцы і скронях...

Света як пабегла, гэтак жа хутка і вярнулася.

Вочы шырака раскрыты, рукамі дакранулася да рота, слова вымавіць не можа...

– Там... Зінка, там... там яго няма... Ён... на вуліцы ляжыць, у сметніку...

Не ўскочыла з крэсла, не спытала трывожна, што ж здарылася. Яна як усё роўна загадзя ведала, што там магло адбыцца, і што адбылося насамрэч. Нават і галавы не падняла, не зірнула на Светку...

– Ідзі, звані... – нахмурылася Зінаіда, усё зразумеўшы з кароткіх слоў сяброўкі.

– Каму? – не зразумела медсястра.

– Веры Пятроўне... Скажы, што ў нас “чп” – чалавек выкінуўся ў акно, – Стром.

Нейкі час раздумвала, глядзела са здзіўленнем на Зіну, чаго яна так спакойна і абыякава рэагуе на здарэнне, але, атросшы з сябе здранцвенне, заспяшалася ў ардынатарскую – да гарадскога тэлефона.

“Божа, дзякуй Табе, што адвёў ад мяне бяду і што я не сатварыла грэх, – шаптала Зінаіда, – хаця  і магла яму забараніць ісці ў туалет, не пусціць туды... Але, як я зразумела, ён ужо сам шукаў сваёй смерці... Даруй, Божа, калі я памыляюся, і калі на мне ляжыць грэх... Ты казаў – любеце ворагаў вашых... У мяне да яго няма любові, адно хіба шкадаванне, што так пражыў і распарадзіўся сваім жыццём...”

Прыязджалі следчыя пракуратуры.

– Я тут сядзела, – давала паказанні Света маладому следчаму, мусіць, учарашняму выпускніку юрыдычнага, –  а Зіна і Кацярына вунь на той канапе... А той хворы падняўся і пайшоў у туалет. Адпіхнуў Зіну, калі яна не пускала яго туды...

– Цікава, цікава, што яго магло штурхнуць на гэта, – плямкаў губамі следчы, нешта памячаў у блакноціку.

– Не ведаю, – паціскала плячыма Света, быццам пытанне тычылася толькі яе...

– Так усё было, як расказвала Краснова? – паглядзеў следчы на астатніх траіх медсясцёр.

– Усё так, – адказала за ўсіх Зінаіда.

– Можа, хто хоча дадаць што да вышэйсказанага?

Усе чацвёра моўчкі пакруцілі галовамі.

Падымаючыся з-за стала, сказаў следчы на развітанне:

– Але калі будзе неабходнасць, то мы вас выклічам у пракуратуру.

Ніхто яму не адказаў – ва ўсіх быў прыгнечаны настрой.

– Чаго ж так доўга затрымалася? – сустрэў на ганку Леанід, і, убачыўшы, з якім настроем яна выйшла з дзвярэй, трывожна спытаў: – Што здарылася? Ты сама не свая...

Калі спусціліся па прыступках уніз, калі ішлі па заснежанай дарозе да прыпынку, прамовіла:

– У нас “чп”... З міліцыі ў нас, з пракуратуры...

– Чаго?

Леанід спыніўся, чакаў тлумачэнняў.

– З нашага аддзялення чалавек выкінуўся ў акно. І гэта я яго, Лёня, забіла...

– Нічога не разумею. Ён сам выкінуўся ў акно, а ты кажаш, што гэта ты яго забіла.

– Я. Словам яго забіла.

– ?

– Бо я пазнала яго, а ён прызнаўся, што гэта ён мяне збіў на прыпынку і абрабаваў.

– Як жа ты яго пазнала, калі ты казала, што яго ў цемры не ўбачыла?

– Па голасе, Лёня. Ён тады пракрычаў “ёшкін кот”, і цяпер, пакутуючы без дозы наркотыкаў, крыкнуў тое ж самае... А яшчэ раскрывяніў маю руку пяццю пазногцямі, як і тады... Для яго маё пазнаванне аказалася шокам. Ён толькі і спытаў: “Дык гэта ты была?”

Ён здзіўлена пахітаў галавой, абняў яе, як ратаваў ад новага нападу, прытуліў да сябе.

– Зіна! Нам неабходна тэрмінова ехаць у пракуратуру! – павярнуў ён яе твар да сябе, глядзеў у вочы, адчуваючы, што начны страх і напружанасць у яе не праходзілі, і, можа быць, і не хутка пройдзе.

– А ці трэба?

– Абавязкова трэба! Гэта як боль будзеш насіць у сабе, у сваім сэрцы, як напамінак, як грэх... А ад гэтага неабходна пазбавіцца... Пра ўсё раскажаш пракурору, і, можа, добра, што не паведаміла следчаму... Яны ж шукаюць яго, трацяць намаганні, а ты павінна паставіць кропку як у гэтай гісторыі, так і памагчы ім... І тады гэтае ўсё – і тая кашмарная ноч, і твой боль, – для цябе скончыцца, скончыцца назаўсёды...

– Можа і так, – згадзілася яна, у душы радуючыся, што знайшла ў ім душэўную падтрымку, што яе ваганні і сумненні ператварыліся ў адзіна правільны крок. – Ты паедзеш са мной?

– А як жа ты без мяне?

Ён цёпла і прыхільна пaглядзеў на яе.

3

... – Божа, даруй мне грахі мае, – словам, дзеяннем ці думкаю зробленыя, – прасіла яна Бога, стоячы сярод вернікаў царквы, прымружыўшы вочы, – шмат граху на мне... Шмат.

Зінаіда стала з людзьмі на споведзь. Перад ёю стаяў мужчына ў гадах, а перад ім дзяўчына – такога ж узросту, як і яна, Зінаіда. Схіліла пакорліва галаву ў шэрай хусцінцы, думала пра сваё... Мужчына неспакойна таптаўся на месцы, пераступаючы з нагі на нагу...

“У кожнага з іх, як і ў мяне, свая ношка, свой груз, свае грахі, свой крыж, які несці ўсё жыццё... Ніхто не ўзвальваў, кожны ўзваліў сам сабе – як панесці... Божа, аблегчы мой цяжар, аблегчы маю ношку...”

Яна малілася і малілася, звяртаючыся да Вышняга, радуючыся, што ў яе ёсць час паразважаць, прачытаць малітву і ўспомніць усе свае грахі, якія займела... Сустрэлася позіркам з айцом Уладзімерам. Як усё роўна прамовіла яму: “Вось і прыйшоў час, калі мне трэба паспавядацца...” У гэты час ад яго адышла жанчына, а замест яе стала дзяўчынка-падлетак.

З вялікім хваляваннем і пачуццём духоўнай адказнасці падышла да яго.

– Гэта добра, што вы прыйшлі сёння на споведзь...

Той жа даверлівы і ціхі голас, таямнічы і амаль інтымны, які прызначаўся толькі для яе, з адным толькі жаданнем памагчы ёй набыць упэўненасць і радасць жыцця...

– Вялікі грэх на мне, айцец Уладзімер...

– Слухаю, расказвайце пра ваш грэх...

Ніводзін чалавек ва ўсім свеце не быў такі блізкі і ўважлівы да яе, як айцец Уладзімер. Тыя словы, якія падрыхтавала, яна не магла сказаць ніводнаму, нават самаму блізкаму, чалавеку – ні бацьку, ні маці, ні сястры ці брату... Ні Леаніду, ні лепшай сваёй сяброўцы. Яна нічога не магла ўтойваць, тым больш хлусіць, гаварыць няпраўду... І адчувала, як з кожным словам шчырасці і прызнання яе істоту запаўняла нейкае незямное святло і сіла; як быццам вылівала з сябе бруд і лядайкасць, а тое месца запаўнялася чыстай і светлай крынічнасцю; з яе душы спадаў нябачны, але які пастаянна не адпускаў яе, груз, і яна ўжо адрывалася ад зямлі, не craналася яе, а прыўзнялася над ёю, – адчула, як у яе выраслі крылы, і яна магла ўжо падняцца, узляцець да купала храма...

Яна набрыньвалася лёгкасцю і бязважкасцю, чысцінёй і цнатлівасцю, – і не разумела свайго стану, які ператвараў яе істоту ў нешта новае і светлае, даючы адначасова новую, незнаёмую да гэтага, энергію, душэўную моц, пазбаўляючы ад няўпэўненасці і страху, духоўнай неўладкаванасці...

На вочы самі сабой набеглі слёзы, у яе задрыжэў голас, яна затрымцела ўся, і ёй падалося, што ўсё паплыло перад вачыма, пачало хавацца ў жоўтым тумане, але ў гэты момант святар дакрануўся да яе рукі і моцна сціснуў, праказаў:

– Пазбаўляйецеся ад свайго страху, не бойцеся, нічога кепскага больш не вернецца да вас. Кажыце, Бог чуе вас...

Зноў у нагах з'явілася ўпэўненасць, і хаця ў яе заплюшчаны вочы, а галава накрыта платам, яна яскрава бачыла перад сабой дарогу, па якой выправіласяісці, на якую яе выправіў Бог...

Не помніла, колькі гаварыла, колькі прайшло часу, здавалася, што спавядалася цэлую вечнасць, – ды і ніхто не абмяжоўваў яе ў часе, не падганяў, не прыспешваў. Выдыхнула з сябе паветра. Уздыхнула на поўныя грудзі, праказала:

– Такія мае грахі, айцец Уладзімер, і прашу ў Бога даравання...

Маўчаў святар. Потым паклаў руку на галаву, прамовіў:

– Даруюцца вам грахі вашы, сястра Зінаіда, і не ўспамінайце пра іх, не нажывайце новыя...

З царквы яна выйшла зусім іншым, абноўленым духоўна, чалавекам. На душы зрабілася лёгка-лёгка, як ніколі. Яна ведала, што такога стану душы яна ніколі не адчувала. І вельмі радавалася гэтаму.

"Бог дасць нам новую сустрэчу, – падумала Зінаіда, – і на мае незразумелыя пытанні я атрымаю грунтоўныя тлумачальныя адказы..."

Яна адчула сябе птушкай, якая сваімі порсткімі крыламі ўзнеслася над зямлёю... Падумала, што наступны раз сюды, у храм, яна прыдзе не адна, а з Леанідам...

Яны сядзяць на беразе ці то возера, ці то рэчкі, ці то мора, ці акіяна. Яны – распранутыя, загараюць пад промнямі месяца. Ён абдымае яе, туліць да сябе. Глядзяць на поўню і на зоркі.

– Давай напішам з табою песню, – шэпча ён на вуха...

– Я не ўмею складаць вершаў, ніколі не пісала песень, – прызнаецца яна, і верыць, што вялікі грэх – не пісаць вершаў.

– Умееш... Ты толькі не ведаеш пра тое. Я навучу цябе...

– Хіба ж можна навучыць складаць вершы? – здзіўляецца яна, і радуецца, гледзячы, як месячык праклаў да іх бліскучую дарогу – сцежку да сябе.

– Навучыць – не, а вось абудзіць талент – магчыма.

– Адкуль ты ведаеш, што ў мяне ёсць талент, калі я не склала ніводнага радка?

– Ведаю. Упэўнены.

– Дзіўна...

– Давай праверым?

– Давай...

– Я буду пачынаць, а ты дапісваць, дадаваць. Згода?

– Згода.

*– Як асьмеліцца і цябе паклікаць*
*у той край, дзе цьвітуць лугі...*

Яна на нейкі момант задумалася, падбіраючы патрэбныя словы, адшукваючы іх у сваёй памяці, потым, прыйшоўшы да спакойнага стану, дадала:

*дзе ў хмельнасьці соладка-дзікай*
*пачуць шэпт і ўздых дарагі...*
*– там пазбавімся мы ад тугі...*
*Там пазбавімся мы ад суму*
*і цяжару пакутлівых дзён,*
*недаверу атрутнага тлуму,*
*што ўсім нам скарачае жыцьцё...*
*– і дзе заўтрашні дзень не відзён.*
*І дзе заўтрашні дзень мы сустрэнем,*
*і дасьвецьцем разбудзім расу,*
*а пялёсткі квітнеючай пены*
*запляце табе сонца ў касу...*
*– я ж каханьне табе прынясу.*
*Я ж каханьне табе падарую –*
*сярод неба з табою стаю...*
*Ты мне сьмеласьць маю даруеш,*
*як даруеш нясьмеласьць маю...*
*– я ж табе ці не ўсё аддаю.*
*Я табе ці не ўсё аж да слова*
*ў прызнаньні сказаў неўпапад.*
*Прашаптаў табе чару-замову –*
*загадаў на квітнеючы сад...*
*– каб ужо не вярнуцца назад.*
*Каб ужо не вярнуцца... збылося...*
*Перайначылі ўсё мы ў жыцьці –*
*і ня Лета цяпер, і ня Восень, –*
*у п’янкім мы з табой забыцьці...*
*– нам з табою той крыж пранясьці.*
*Нам з табою не разьмінуцца –*
*вочы ў вочы – стагодзьдзе міне,*
*і ня здолеем азірнуцца,*
*хочам таго мы з табою, ці не...*
*– ці ўдзячны мы будзем Вясьне?*

І рассмяяліся абое, задаволеныя нечаканым дуэтным экспромтам.

Радкі адлюстроўвалі іх настрой, іх імкненне да лучнасці, да яднання, да злучэння дзвюх дарог у адну... Як вось у гэтую месячную сцяжыну.

– Праз месяц мы ладзім канцэрт нашай групы. Ты прыйдзеш паслухаць?

– А як называецца вашая група?

– “Леаніды”. Мы ўсе пяцёра – Леаніды.

– А што вы спяваеце?

– Песні пра каханне. Мы самі пішам тэксты і самі складаем музыку. Вось і гэтыя радкі, што мы напісалі, уключым у рэпертуар...

Зінаіда не адрывала позірку ад месячнай дарожкі, прамовіла, быццам той канцэрт намячаўся на заўтрашні вечар:

– Добра, я прыду на “Леанідаў”!

4

Як толькі Зінаіда Паўлаўна сабралася пакінуць кабінет, да яе нечакана завітаў пракурор Адам Мяжэвіч. Ён убачыў, што жанчына апранулася, і таму вінавата прамовіў:

– Выбачайце, што позна да вас зайшоў... Вы сабраліся, мусіць, дадому?

Яны адно аднаго ведалі даўно, з тае пары, калі ўпершыню сустрэлася з ім у гарадской пракуратуры, калі Леанід як не сілком зацягнуў яе туды. Тады яна расказвала яму пра “ёшкінага ката”. Мяжэвіч прыходзіў не раз у бальніцу, выступаў з лекцыямі перад медыцынскімі работнікамі. Таму яна і не здзівілася, калі ўбачыла яго на парозе.

– Здарылася што? – пацікавілася, дапытліва гледзячы ў вочы.

– Ды не, проста пагаварыць прыйшоў па адным пытанні... Я ж тут, недалёка адсюль, жыву. Вось, едучы дадому, і зайшоў... Але раз вы сабраліся, Зінаіда Паўлаўна, то і па дарозе можам словам перакінуцца...

– То і добра, бо я спазняюся, – прыйшлася ёй прапанова даспадобы. – Леанід мяне чакае, на канцэрт ідзем...

Спускаліся па прыступках з другога паверха, ішлі упобачкі.

– Зінаіда Паўлаўна, у вас ляжала хворая – Ева Кароль. Прозвішча па мужу, а так яна была Прынцова. Яна збегла, уцякла ад лячэння. Наколькі запушчана ў яе хвароба? Ці можа яна вылечыцца?

Замест адказу загадчыца рэанімацыйнага аддзялення пацікавілася:

– А вы яе раней ведалі, Адам Паўлавіч?

– Ведаў. Яшчэ там, калі працаваў у Карме. Я нават быў у яе тайна закаханы... Там і здарылася з ёю бяда.

– У яе ўсе былі закаханыя. А лячэнне ад яе самой залежыць. А чаму вы пытаецеся пра яе?

– Мы яе прымусова адправілі ўследчую бальніцу. І мне цікавы яе лёс. Шкада жанчыну...

– Шкада. І я яе ведала.

– Я не ўпэўнены, што правільна зрабіў, але інакшага выйсця не было. Той, першы раз, яшчэ ў Карме, яна папрасіла, каб я не прымяняў ніякіх санкцый супраць яе. Дала слова, што сама вылечыцца, і больш не паўторыць памылак... А ў другі раз я ўжо не паверыў ёй...

Зінаіда нічога не адказала – і не адобрыла яго рашэнне, але і не дакарала. Здагадвалася, што пракурора цяпер мучаюць сумненні, грызе дакор і сумленне...

– Жыццё нельга перарабіць, – уздыхнула жанчына. – Бо Бог чалавеку яго выдзяляе толькі адно...

– Згодзен з вамі, – нахіліўся ў паклоне “ляснічы”, – выбачайце, што адарваў вас сваімі пытаннямі, дзякуй за размову...

Пракурор глядзеў ёй услед. Бачыў, як яна падышла да прыпынку, як ускочыла па-маладому на прыступку аўтобуса. Затым зачыніліся дзверы, і аўтобус крануўся з месца.

Дадому ісці не хацелася. На дварэ стаяла сярэдзіна восені – толькі-толькі пачалі падаць долу першыя зжоўклыя лісты; было цёпла, як летам.

Адам падняў з зямлі некалькі кляновых, яшчэ зялёных, лісцяў, пакруціў іх у руках, і чамусьці ўспомніў, як іх трымала некалі Прынцэса.

Як даўно і як нядаўна было тое!

5

Назаўтра, пад абед, пракурору гарадской пракуратуры Гомеля сакратарка прынесла пошту. Сярод адпісаных пісем з абласной пракуратуры, ляжаў і нераспячатаны тоўсты канверт, падпісаны коратка і няроўным почыркам: “Пракурору Мяжэвічу – асабіста ў рукі”. Адваротнага адрасу не значыналася.

Крыху паразважаўшы, разарваў канверт, усунуўшы дзюбку алоўка ў шчылінку заклейкі – такая звычка засталася ў яго з юначай пары.

Ліст на некалькіх старонках.

***Пракурору гарадской пракуратуры –***
“ляснічаму” Адаму Мяжэвічу

**Дакладная запіска**,

якая можа служыць споведдзю-пакаяннем за ўсё зробленае, – са спадзяваннем на памілаванне і мінімальнае спачуванне, –

ад *Прынцэсы*, якая пражывала нядаўна за кратамі казённага дома, а цяпер знаходзіцца ва ўладзе Бога...

*(... я чатыры гады не адсылала гэты ліст, але асмелілася ўсё ж, сёння буду з сёстрамі ў горадзе, зайду на пошту, – мо на гэты раз асмелюся і ўкіну яго ў паштовую скрынку...)*

Мой любы пракурор!

Мой добры і спагадлівы ляснічы!

Даруй, што зноў трывожу цябе, але гэта ўжо сапраўды апошні раз. Не напісаць гэтыя радкі я проста не магла фізічна. Кожны чалавек у гэтым жыцці шукае роднасную душу, каб нават не крыкнуць, а толькі шапнуць пра сябе, хоць на імгненне сустрэцца з чыімсьці позіркам і пераканацца, адчуць, што ты яшчэ чалавек, і што ты яшчэ жывы, і можаш іншым смела глядзець у вочы...

Так і я. З усіх людзей на гэтым зямным шары адзіны чалавек, перад кім я адчуваю сваю віну, які мне блізкі і дарагі, каханы і недасягальны, – гэта ты. Так, так, і, калі ласка, не злуйся і не крывіся ад агіды да мяне, і не выкідай, не дачытанае, у сваю сметніцу, набярыся цярпення і дачытай да канца... Прашу гэта зрабіць, як ніколі і нікога не прасіла ў сваім жыцці...

Так, мой каханы, ты сапраўды ляснічы. І дзядзька мой, Казімір, ляснік, казаў, што галоўнае ў лесе гэта высечка, каб пазбавіцца ад хворых дрэваў, каб яны не заразілі ўвесь лес. Я і ёсць тое хворае дрэва. І твая задача стаяла ў тым, каб пазбавіцца ад яго... Ты як напрарочыў тады мне сваім анекдотам пра “ляснічага”. Харошая, ой якая харошая мне выпала дзялянка! Дзялянка ў маёй душы. З яе я павінна выкарчоўваць усё хворае і гнілое, каб не перакінулася хвароба на іншых.

Ты прадстаўнік закону, і ты ўсё рабіў па тым законе.

Але што гаварыў святы апостал Павал у пасланні да рымлянаў? *“Бо мы ведаем, што закон – духоўны, а я – плоцкі, прададзены граху. Бо не разумею, што раблю; таму што не тое раблю, што хачу, а што ненавіджу, тое раблю. А калі раблю тое, чаго не хачу, дык згаджаюся з законам, што ён добры, а таму ўжо не я раблю тое, а грэх, які жыве ўва мне. І ведаю, што не жыве ўва мне, гэта значыцца, у плоці маёй, добрае; бо жадаць добрае я магу, а рабіць яго – не. Добрага, якога хачу, не раблю, а ліхое, якога не хачу, раблю. А калі раблю тое, чаго не хачу, дык ужо не я раблю тое, а грэх, які жыве ўва мне. Дык вось, я знаходжу закон; што, калі хачу рабіць добрае, ува мне сядзіць благое; бо ва ўнутраным чалавеку маю задавальненне ад закону Божага, а ў чэлесах маіх бачу іншы закон, які ваюе супраць закону розуму майго і робіць мяне палонным закону грахоўнага, які ў чэлесах маіх. Няшчасны я чалавек! хто вызваліць мяне ад гэтага цела смерці?”*

Гэта ж пра мяне, мой пракурор, слоўца да слоўца пра мяне!

Гэта ж і пра ўсіх нас, мой каханы ляснічы! Кожнаму з нас Бог выдзяліў сваю дзялянку (і табе таксама, не крыўдуй), на якой працаваць ды працаваць. Яна – для Адама і Евы, для Марыі Магдалеіны, для нас з табой...

О, каб ты толькі ведаў, колькі ты разоў прыходзіў у мае сны! Асабліва пасля той выпадковай (а мо і невыпадковай, хто ведае) сустрэчы ў скверы, калі я трымала ў руцэ букет з жоўтых лістоў... Я тады думала, што трымаю чырвоны букет ружаў, падораных табою, а то аказалася звычайнае жоўтае лісце развітання – яшчэ не сустрэліся, яшчэ не спазналі адно аднаго, яшчэ не ўздрыгнулі нашыя сэрцы, і мы не захліпнуліся яшчэ ў акіяне нашага кахання, – а нас ужо ахінула крыло развітання... Ні ты, ні, тым больш, я, тады не здагадваліся пра тое...

Ты яшчэ чытаеш мае радкі, мой каханы і самы лепшы чалавек на зямлі? Хачу, каб чытаў, бо калі ты грэбліва адкараскаешся ад маёй споведзі, то я загіну і ў другі ці трэці раз... Не адбірай ад мяне жыццё, не губі маю душу і мае спадзяванні...

Ведаеш, колькі цяпер на гадзінніку? Тры ночы. І цемра за акном – ні зорак, ні месячыка не відаць праз металічныя квадраты акна. Я такая радая, што наглядчыца турмы дазваляе мне сядзець у гэтым пакойчыку – кожную ноч я прыходжу сюды і пішу, пішу, пішу... Ніколі не пісала, нават і не ведала, што ў мяне жыла смага пісаць, як балаболу выгаварыцца... Яна, смага, прыйшла да мяне тут, калі начамі раскрытымі вачыма глядзела ў шэрую столь і не магла ніяк заснуць... Нават і вершы нараджаюцца, чаго раней ніколі за сабой такога не заўважала. Ужо цэлы сшытачак іх назбіраўся... Ты, канечне ж, здзіўлены, Адам? І я таксама здзіўляюся з сябе. Смешна, але гэта так.

Як гэта ні парадаксальна гучыць, але я табе вельмі ўдзячна, што ты мяне выправіў сюды. Не, я не здзекуюся, і не ёрнічаю, – так яно ёсць і насамрэч. Калі б я не знаходзілася тут, то была б, мусіць, на тым свеце...

Ты тады паверыў мне. Можа не столькі паверыў, як выканаў маю просьбу. Ты пашкадаваў мяне, і не больш таго. Хаця мог і ўзяць мяне пад сваю жорсткую “апеку”. Я табе ўдзячна за тое, мой каханы!

У дзявятнаццаць мяне забілі духоўна і фізічна, а ў дваццаць тры гады растапталі, – і я загінула зноў.

Скажу табе, мой галоўны ляснічы, што, паміж тымі забойствамі, ты падараваў мне шчасце. Шчаслівыя шэсць гадоў... Тры і тры гады шчасця і светлых спадзяванняў. Я, даўшы табе слова, спыніла адразу ж сваю “помслівую дзейнасць”. Я паставіла перад сабою адну галоўную задачу – не падвесці цябе і сябе, пазбавіцца ад маёй хваробы. І мне тое ўдалося, мой пракуратар, мой ляснічы, мой компас і азімут у маім жыцці. І дакторка мая падчас выпіскі радасна сказала: “Ты пазбавілася ад сваёй заразы”. Але як пазбавіцца ад

граху, як замаліць яго? І тады я пайшла ў царкву. Пайшла і пакаялася сваім граху. І пачула: “Бог даруе табе твой грэх, ідзі і больш не грашы!..”

Я адчула сябе народжанай птушкай, якая вырвалася на волю, якая адарвалася ад усяго грахоўнага і ліхога, і ў маёй душы зноў пасялілася радасць і ўзнёсласць, і мне зноў хацелася жыць – лётаць і жыць, кахаць і быць каханай... О, як мне хацелася прыйсці да цябе і падзяліцца сваёй радасцю, сваім адкрыццём і пачуццём смагі шчасця і наталення тымі духоўнымі дарамі, якімі надзяліў мяне Гасподзь!..

І найперш я пайшла ў храм. Прачытала доўгую малітву Богу, якую склала ў сваёй душы. І Гасподзь пачуў мяне. Ён даў мне другі шанец, каб я, ачышчаная духоўна, крочыла наперад. Але ж я тады паставіла свечку, падаўшы пры гэтым запісачку з адным толькі імем – тваім... “Во здравие раба Божьего – Адама...” Я маліла Вышняга, каб у цябе было ўсё добра, каб ты сустрэў дзяўчыну прыгажэй, чым я, чысцей, чым я, якая прынесла б табе вялікае шчасце. Ці дайшла мая малітва да Бога, Адам? Я ведаю, што калі моліцца грэшніца за свайго каханага, то Бог здзяйсняе яе жаданні. Ці здзейснілася ў цябе жыццё, мой Адаме? Ці ўдалося ўсё, што ты хацеў?

Я табе жадаю, каб ты не толькі гарадскім, а і абласным стаў пракурорам, – ды што там абласным, жадаю, каб ты стаў пракурорам нашай краіны!!! Тады б тваё чулае сэрца ўратавала б не адну грэшную душу. Бо ў цябе чулае і спагадлівае сэрца. І таму да такіх, якой я з’вілася некалі прад табою, не павінна нараджацца вялікага шкадавання...

О, я помню, мой каханы, твае здзіўленыя вочы, калі ты ледзьве пазнаў мяне. Так, сапраўды, я не была падобна на чалавека, і пад маімі нагамі хісталася і гарэла зямля ад душэўнага сораму, – і я маліла Бога, каб у тваёй душы не прачнулася і макавінка шкадавання да мяне...

І Гасподзь пачуў маю малітву, бо ты з нейкі злом і нават помстай прыклеіў тую чорную пячатку на паперу... Тады я і ўздыхнула з палёгкаю, прамовіла шчырае “дзякуй”, – але ты не зразумеў, за што я падзякавала табе... І добра, што не зразумеў, – я і жадала таго...

Але перад гэтым...

Божачка мілы, што было перад гэтым!.

..............................................................................................................................

Я з’ехала з нашай вобласці. Я ж мела дыплом медсястры.

І мне паверылі людзі. Мо памагла мне святая Еўфрасіння Полацкая, у якой я прасіла заступніцтва і дапамогі. Бо я малілася ў яе храме. У ім і ты быў некалі – толькі не як вернік, а як экскурсант. Якой гордай і незалежнай я хадзіла па Полацку! Я зноў адчувала на сабе позіркі людзей процілеглага полу, глядзела на іх, – і ні адна жылка не ўздрыгнула ў мяне ў душы... Бо

я ўжо стала мудрай, я мела ўжо вопыт, я ўжо была адноўленая і імкнулася толькі да светлага і незямнога... І тады я загадала сабе: я пакахаю толькі таго, хто будзе падобны на майго ляснічага, на майго адзінага і любага чалавека, – а інакш застануся на ўсё жыццё адна і не буду шкадаваць пра тое... Я пакутавала, я перажывала, але ніхто мне не сустрэўся, падобны на цябе. Я працавала ў шпіталі, у кардыялогіі, і так палюбіла сваю працу, што іншай не ўяўляла. Колькі маладых лейтэнантаў прызнаваліся мне ў каханні! Клікалі замуж, абяцалі незямное шчасце! Мо яно так бы і адбылося, але яны не мелі падабенства з табой. На вялікі жаль... А я жадала толькі цябе. Толькі з табой прадоўжыць нашае каханне. Толькі табой наталіць смагу сваёй душы...

.................................................................................................................................

Распаўсюджвалі білеты на працы. У Доме афіцэраў Полацка меўся выступаць невядомы спявак Валеры Абадзінскі. Мне не хацелася ісці, бо я не хінуся да расейскага, мне даспадобы больш нашыя, фальклорныя, – “Лявоны”, якія перад гэтым прыязджалі ў Полацк, “Прымакі”...

Сяброўкі ўсырычылі мне білецік... І...

Не, такога не можа быць! Бо такое не існуе ў прыродзе!

У прасторнай зале – у фае – я ўбачыла... я ўбачыла цябе! Так, так, цябе! І нешта адразу ж абарвалася ў сярэдзіне, закружылася галава, усё паплыло перад вачыма. Так і хацелася падысці да цябе і спытаць: “Адам! Ты прыехаў да нас, у Полацк, у камандзіроўку?”

Мой збянтэжаны і здзіўлены позірк перахапіў “ты”. Стаяў на адлегласці за некалькі крокаў, і не рашаўся падысці. Мы так і стаялі адно супраць другога і не маглі зблізіцца... Бо паміж намі хадзілі людзі, а мы ўяўлялі, што то цякла рака – ці то Дзвіна, ці то Сож, а мо і Прыпяць... І ніхто з нас не праклаў кладку праз бурную плынь…

Празвінеў апошні званок, і ўсе няспешна пайшлі ў канцэртную залу, – і ты згубіўся ў людскім патоку... І я палічыла, што згубіла цябе назаўсёды – у другі раз...

Я зірнула на свой квіток, каб сесці на прызначанае месца. Во ўсунулі, во ўдружылі мае сяброўкі квіток! Трынаццаты рад, ды яшчэ і трынаццатае месца! Як ведалі, што я па жыцці нешчаслівая, і месца маё – мая доля...

Рад аказаўся доўгі, і маё месца знаходзілася недзе пасярэдзіне. Я чаплялася нагамі за людскія калені, прасіла даравання, паволі сунулася далей... Але наступныя, апошнія ўжо каленкі, я абысці не магла – яны ўпіраліся ў спінку пярэдняга крэсла...

І ён, глядач, каб прапусціць мяне, устаў. Мы сталі твар у твар, і нашыя вочы на імгненне сутыкнуліся, і між намі зіхатнула маланка. Мы не пра-

мовілі ні слова, але за тое імгненне сказалі адзін аднаму самыя важныя і патаемныя ў жыцці словы...

Вочы ў вочы... Нашыя вочы насупраць адно аднаго... І мы ўтапіліся ў азёрах нашых вачэй, і ніхто нам не кінуў круг ратавання... Ніхто. Нават– ты.

Нашыя месцы аказаліся побач. Я сядзела злева ад цябе. Я апусціла вочы, баючыся зірнуць на цябе, хаця мне ў гэты момант хацелася найбольш зрабіць гэта. Я глядзела не на сцэну, не на цябе, і не на спевака, я глядзела на свае калені, якія дакраналіся да тваіх, – дзівілася – чаму іх апякае невядомы агонь, такі агонь, які не апякаў мяне ніколі...

Калі ж паліўся незямны голас спевака, то ён адразу пранізаў маё сэрца. Тады ж і адчула нябеснае прыцягненне, уявіла, што знаходжуся ў храме Еўфрасінні Полацкай і што Боскае дабраслаўленне сыходзіла на мяне, ахутвала ўсю маю істоту... А потым... А потым...

А потым я, здаецца, не памятала, дзе знаходзілася, і што са мною адбывалася...

*Эти глаза напротив,*
*и больше нет разлук…*

Я заплакала, я ўжо не належала зале, я ўжо не належала нікому, бо сусед дакрануўся да маёй рукі і, пільна гледзячы на мяне, устрывожана спытаў:

– Што з вамі? Вам кепска?

– Не, – адказала. – Мне вельмі добра. Незвычайна добра...

– Тады чаму ж вы плачаце?

– А хіба нельга плакаць ад шчасця?

Ты-ён ужо не выпускаў маёй рукі са сваёй. І тады мы ўжо разам слухалі незямны, Боскі голас Валерыя Абадзінскага, няшчаснага ў жыцці, але такога дзівоснага і адоранага талентам чалавека...

*Вот и свела судьба,*
*вот и свела судьба*
*на-аaасс…*

Ты трымаў маю руку ў сваёй, сціскаў мае пальцы, а ў мяне ў душы нараджалася асалода і шчасце, шал і супраціўленне, – і я ўжо адчувала сябе побач з табою ў шлюбным ложку… І ўзлятала зноў у паднябессе, і падала зноў у лугі асалоды… Ці адчуваў ты тое ж самае, мой каханы, ці толькі прывіднае шчасце і смага наталення каханым авалодалі толькі мною? Не адказвай, маўчы, бо разбурыш усё, разаб'еш… Не трэба. Нельга тое рабіць.

На працягу дзвюх гадзінаў я не сядзела ў зале, я лётала недзе ў нябёсах… Ён (ці ты?) нахіліўся да мяне, спытаў ціха:

– Даруйце, якое ў вас імя?

– Ева. А вашае?

– Я – Адам.

Калі ты сказаў гэта, мяне пранізаў неймаверны боль, – боль душы і пачуццяў, боль смагі і граху, боль пакут і падзення… І паверыла я, што гэты быў ты, ну, не ты, дык двайнік твой, дух твой, твая душа хінулася да мяне і праведвала мяне… Значыць, і ты не забываўся пра мяне, мой каханы, так, – не забываў? Гэта ўжо не смешна. Гэты ўжо страшна. Гэта наканаванасць, рок, лёс, помста ці падзяка, плата за грэх, ці вяртанне цнатлівасці…

«Божа, што Ты са мной робіш, – малілася я тады, – якія новыя выпрабаванні і спакушэнні кладзеш на маю душу?..»

Я ведала, што жыла ў прывідзе. Што скончыцца песня спевака, мы ўстанем, пакінем залу і знікнем у Сусвеце… І ты знікнеш, вернешся ў Гомель да сваіх пракурорскіх абавязкаў і клопатаў. І мая радасць на гэтым скончыцца, як і ўсё добрае хутка заканчваецца… Але… Мы знайшлі адно аднаго. Ты знайшоў мяне, а я цябе. І я не шкадавала, што такой доўгай была разлука. Я жыла табой, марыла пра цябе, і жадала, каб дзеці нашы былі падобны на цябе. Я баялася толькі аднаго, каб ён, твой двайнік, не аказаўся тваім родным братам ці родзічам. Супакойвала хіба адно – яго прозвішча і блізка не было падобна да твайго. Яго прозвішча – Кароль. Я – Прынцэса, а ён – Кароль… Дзіўнае супадзенне, ці не так? Ён вярнуў мяне да жыцця. Ты, ці твой Пасланец, вярнуў мне ўсё, што я згубіла і страціла. Я была на сёмым небе ад шчасця. А калі праз год я нарадзіла першынца, то і назвала яго Адамам. І другога сына нарадзіла ў наступным годзе. Яго ж назвала ў гонар твайго бацькі, які нарадзіў цябе… Так што ты багаты чалавек – у цябе двое сыноў.

Так што мы з табой – шчаслівыя людзі. Да гэтай пары…

Ды потым здарылася неверагоднае…

..................................................................

Мой партыйны сакратар ездзіў штогод на курорты.

Савецка-бальшавіцкая сістэма пасылала туды свае кадры па адным – альбо мужа, альбо жонку. Як на выпрабаванне блядствам пасылала партыя. Але якое то выпрабаванне – то была, як я зразумела, суцэльная радасць. Савецкі лад жыцця меў кірунак не на ўмацаванне сям’і, а на яе разбурэнне. І колькі сем’яў рушылася тады! Ды што табе расказваць, ты сам ездзіў, і сам маеш на сабе грэх (ну, прызнайся…), бо не пускалі з жонкай, не пускалі…

І прывёз ён мне з таго санаторыя падаруначак. Недарагі такі, нябачны, але такі груваскі, цяжкі, што і не падняць. Ён прывёз мне сіфіліс… Як узнагароду за маё каханне і маё адраджэнне, і за маю веру ў маё новае нараджэнне… Каб яго не паклікалі медыкі да сябе, – паскардзіліся, прызналіся жанчыны ў тым, што ён іх узнагародзіў каханнем Венеры, – дык я і не ведала б, да пары, да часу, – і не здагадвалася б нават, і ў сне цяжка-пачвар-

ным прысніцца не магло…Я ўжо, дарагі мой пракурор, не помсціла. Калі была першая прапанова на сустрэчу, я не адмовіла такому ж, як і ён, сакратару парткама завода…

А потым я вярнулася ў Гомель. Праз нейкі час папала ў рэанімацыю да Зінаіды Сіліч, адкуль і ўцякла… Вось тады і прывялі мяне міліцыянты да цябе…Але ты не задаў мне ніводнага пытання, нават і не пацікавіўся, як я ўсе гэтыя гады пражыла. Ты, мусіць, думаў, што я кожны дзень і кожнаму, першаму-стрэчнаму, аддавалася пад ракітавым кустом? Правільна, а што ты яшчэ мог падумаць пра мяне, мой мілы пракурор?Ну і заляпіў мне аплявуху… Ну і малайчына, так ёй, паскудзе, і трэба! Ды не, не падумай, што я крыўдую на цябе. Я сапраўды табе ўдзячна, што ты праявіў настойлівасць і жорсткасць, інакш бы я… ды ладна, не буду паўтарацца.

І ўсё ж, і ўсё ж я шчаслівая, мой дарагі і каханы ляснічы Адам! І не толькі з-за таго, што нарадзіла сыноў. А з-за таго, што яны, твае сыны, не толькі па плоці, а і па духу твае. Яны вось-вось будуць тваімі памочнікамі. Яны вучацца абодва на юрыдычным, і неўзабаве, можа, як і ты, стануць пракурорамі! І, як і ты, будуць судзіць такіх, як я, як іх маці… Гэта нічога, што яны адмовіліся ад мяне, гэта нічога, што яны, камсамольцы, убачылі ўва мне адмоўны персанаж камуністычнага грамадства. Гэта нічога, што мяне пазбавілі мацярынства, – так мне і трэба. Але жыву я сёння адной думкай: не, не дарма я пражыла сваё жыццё… не дарэмна. Бо я дала (даруй за афіцыйны стыль) здаровых мужчын сваёй радзіме, якія будуць стаяць на варце Закону…

І ў маёй душы жыве спадзяванне, што некалі, калі яны стануць ужо дарослымі людзьмі, калі абудзіцца ў іх падсвядомае пачуццё абавязку перад бацькамі, і народзіцца пачуццё гонару, – то яны прыйдуць да мяне…

Малю Бога, каб я на той час яшчэ жыла, і каб не прыйшлі да мяне яны на магілу. Бо тады іх боль будзе значна большы, бо то будзе боль раскаяння і разумення сваіх памылак, “правільных” памылак, – і мне тады будзе на тым свеце не так балюча за іх боль, які я не папярэдзіла, не адвяла ад іх…

Ты можаш папытацца ў мяне, дзеля чаго я ўсё гэта пішу табе, мой каханы? Правільна спытаеш. І будзеш мець рацыю. А я адкажу – толькі дзеля таго, каб папрасіць цябе выканаць маю маленечкую просьбу. Якую?

Калі-небудзь, не сёння і не заўтра, а праз сотні гадоў, зайдзі, калі ласка, у Пятра-Паўлаўскі сабор, туды, дзе я ўпершыню спавядалася перад Богам. І пастаў дзве свечкі. Адну – за памерлую Прынцэсу, за спачын, а другую – за здароўе Адроджанай жанчыны – Евы.

Тая, ранейшая, памерла, а новая нарадзілася. Я вельмі цябе прашу аб гэтым. Я больш ніколі да цябе звяртацца не буду і просьбаў ніякіх не выкажу. Замалі мой грэх, мой пракурор! Замалі, замалі, замалі…

P. S. А сыны мае, як ні дзіўна, на цябе падобны – як дзве кроплі вады. А ім пажадай шчасця, як жадаю ім і я.

Цалую цябе, мой пракурор. Але цалую тымі вуснамі, якія ты бачыў у скверы жаўталісця... Не ў губы, а ў лоб цалую, у светлы твой розум, і няхай ніколі цябе не пакіне цудадзейнае пачуццё – каханне! Замалі мой грэх, Адаме, замалі, – хаця ў тым граху я, можа, і не вінная. Замалі...”

.........................................................................................................

І – апошняе... Я поўнасцю вылечылася, пазбавілася той хваробы, якой набралася ад распуснага мужа. Пераканалася – ён не ты, даруй, што параўноўвала цябе з ім, даруй. Я вылечылася нават ад кахання да яго.

Але – не ад цябе. І – не да цябе. І Бог даў мне апошні-апошні шанец. Трэці. Найапошнейшы. Бо больш я ўжо і сама не прыму. Лепей ужо туды, адкуль ніхто не вяртаецца. І ўжо ніколі ў мяне не будзе мужа.

.................................................................................................................

P. S. Дарагі мой пракурор, ляснічы!

Я знайшла сваё месца. Я сярод братоў і сясцёр, і нашу толькі чорнае адзенне. Я цяпер – манашка, ці – манахіня. Тут буду замольваць свае грахі, тут буду трымаць апошні выдых перад Богам. І больш я ўжо нікому не перадам гора. Ты ўжо ніколі не ўзбудзіш справу па маім злачынстве, бо яго не будзе, але я ўсё роўна вымушана даць табе паказанні, мой ляснічы, каб і тую, нераспачатую справу, і мяне, у тым ліку, здаў у архіў – і выкінуў са сваёй памяці.

Бывай, мой ляснічы! Лес ачысціцца ад непатрэбных дрэваў, – і тады на чыстай і светлай дзялянцы народзіцца светлая і чыстая, пахкая сунічная паляна, сатканая з сонечных праменняў, якая жыла і жыцьме ў маіх марах, думках і мроях... Бывай, мой любы! Усяго табе добрага, Адам!..

*... Грэх замалі мой, добры пракурор!*
*Не асуджай мяне ты, мой каханы, –*
*як груз бетонны нашу я твой дакор,*
*нашу ў сабе і днём, і ноччу – пастаянна.*
*Жыццё маё Бог не саткаў з уцех,*
*і шчасця гэтага ў жыцці я не спазнала:*
*мяне забілі на дзевятнаццатай вярсце,*
*на дваццаць пятай тое ж напаткала...*
*Даруй, Адам, і строга не судзі мяне,*
*і сам ніколі судзімы ты не будзеш...*
*... Калі ж мяне мой Бог за грэх не пракляне,*
*тады даруюць мне мой грэх і людзі.*

6

У Храм святых Пятра і Паўла Зінаіда Паўлаўна прыйшла ў дзень услаўлення дванаццаці апосталаў Хрыстовых. Перад споведдзю ўбачыла айца Уладзімера. Дачакалася, калі ён падыйдзе да яе, нахіліла галаву, папрасіла:

– Дабраславіце, айцец Уладзімер!

Ён дакрануўся рукой да галавы:

– Дабраслаўляю, Зінаіда!

Яна ўбачыла, што ў храм прыйшоў і пракурор Мяжэвіч. Ніколі да гэтага не бачыла яго ў саборы.

Ён паставіў адну свечку да памінальнага стала, а другую на падсвечнік – да свята.

Зінаіда паставіла побач і свае некалькі свечак. Жадала добрага здароўя і доўгіх год жыцця той хворай, якая збегла з бальніцы... Яшчэ – Ларысе Кандратавай, лепшай сваёй сяброўцы. Крыўды Ларыса на яе не трымала, што з Леанідам разышліся яе шляхі, але ж і ранейшай радасці пры сустрэчы ўжо не выказвала. Праз два гады пасля таго здарэння выйшла замуж за бельгійца, пакінула радзіму. Адтуль прыслала некалькі лістоў, расказвала пра сябе... Шчаслівa ў яе ўсё атрымалася ці не, не зразумела Зінаіда..

Яшчэ паставіла свечку Кацярыне Кур’яновіч. На Украіну пераехала – выйшла замуж за кіеўскага хірурга.

І апошнюю – за Ігара Літошына, доктара. Дзякуючы яму яна перанесла такую бяду, але ж і сустрэла сваё шчасце. Ігар недзе ў Гародні, працуе галоўным урачом адной з гарадскіх бальніц.

Пракурор памянуў Прынцэсу, якая загінула, папрасіў Бога, каб Ён даў доўгае жыццё той, новай Жанчыне, якая пачала нараджацца ў трэці раз.

Прынцэса падахвоціла пераступіць парог Божага храма слугу закона.

Адам Мяжэвіч зрабіў першы крок да Бога.

А ўсе мы ведаем: зрабіўшы ў жыцці хаця б толькі адзін, першы крок, за ім народзіцца і другі, і трэці... І выб’ецца чалавек абавязкова на светлую дарогу, на шлях да Вышняга ...

Шляхі Гасподнія неспавядальныя...

*24 снежня 2003 – 12 студзеня 2004*
*Санаторый “Бярэсце”*

# Сцеражыся майго гневу

*Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога,*
*і слова было Богам. Яно было на пачатку ў Бога:*
*усё праз Яго пачалося, і без Яго нішто не пачалося*
*з таго, што пачало быць...*

Паводле Яна Святое Дабравесце (1,1-3)

1

Маўчун успоўз старому чараўніку на грудзі.

Ён, вуж, ведаў, што старога блажыла, што яму было кепска яшчэ звечара, калі легла за балотам у мяккія мхі счырванелае сонца. Але тады трывожны покліч не даходзіў да паўзучай істоты, і тым больш дзед сам не прасіў помачы, – ужо нат і не спадзяваўся на яе...

Вуж скруціўся шэрым кольцам і затаіўся, як чакаў, калі ажыве застаялая кроў, калі дзед глыбака ўздыхне паветра, – і тады пачнецца ўжо новы адлік, тады адсунецца на нейкі час тая апошняя хвіліна і дзед зноўку будзе радавацца цяплу і сонцу, лесу і сваім насельнікам, з якімі ён жыве ў суладдзі не адзін дзесятак гадоў... Вужыку не хочацца, вельмі не хочацца, каб старога напаткала бяда, бо тады ён асірацее без яго, жыццё стане нецікавым і сумным...

Аднекуль з глыбіні грудзей вырваўся слабенькі клёк, бы паветраная булька вырвалася з дна возера на паверхню, бы крынічка, шукаючы і прабіваючы сабе шлях, прарвалася скрозь тоўшчу зямлі на волю...

І тады вужык пачуў, як ажыла і набрала сілу і другая кропля – больш смялейшая і напорыстая – вырвалася вонкі. Нешта зрушылася, нешта скранулася з месца і пачынала ажываць – і ў грудзях, пад вужыкам, таўханулася радасна дзедава сэрца, – раз, другі і трэці, – з кожным разам усё мацней і мацней пачало разаграваць аслабелую кроў, жывіць новай сілай, прымушала разганяць і паскараць свой бег.

Праз колькі хвілінаў чараўнік-лесавік пачаў удыхаць паветра – лёгкія прасілі наталення, прапускалі праз сябе кісларод жыцця і памагалі сэрцу...

Стары кашлянуў, адчуваючы, як горла высахла, – яно патрабавала вільгаці. Дзед пракаўтнуў сліну, праштурхнуўшы шаршавым языком, – і тады ж у скроні кальнулі іголачкі, нарадзіўшы лёгкі боль, а потым ён аціх, знік, – і да чараўніка зноў вярнулася свядомасць...

Убачанае не вельмі радавала яго, але і не засмучала.

“Глядзі ты, – падумаў пра сябе Нікадым, – жывы, шэльма, тут-ка тваю, а ўжо адной нагой быў «там»... То ты мяне вярнуў назад, Маўчун?..”

“Можа і я... А каму, скажы, ахвота заставацца аднаму на ўсім белым свеце? Як жа я без цябе, га? А як Цыба, Шустрая, Клык і астатнія твае сябры? Мае суродзічы адпрэчылі мяне, што я з табой паразумеўся, вужыны цар забараніў вяртацца да іх, што я з табою зімаваў...”

“То дзякую, Маўчун, але колькі ўжо можна адцягваць тую хвіліну, калі мне паложана пераступіць парог? Усё роўна ж некалі прыйдзе той канчатак быцця... Мне перад Богам ужо сорамна, што вы не дапускаеце мяне на Вялікі Суд. А яго ж ніхто не міне, не абміне, ніхто...”

“Туды ніколі не позна... Таму не спяшайся, дзед Нікадым, – мы вельмі не хочам гэтага. Ніхто з нас не хоча”.

“От свавольнікі, от жабы малыя, тут-ка тваю, вам бы толькі паздзекавацца з мяне, пасмяяцца, – і ахвота вам гэтым займацца, га, Маўчун, ну, скажы?..”

Вуж болей старому нічога не гаварыў – не хацеў трывожыць яго сэрца. Ён прымружыў вочы і з асалодай радаваўся таму, што Нікадым вярнуўся да жыцця, што цяпер ужо можна будзе з ім пляткарыць доўгімі вечарамі, расказваць пра свае вужыныя гісторыі, распытваць у дзеда пра яго доўгае, поўнае дзівосаў, жыццё...

Маўчун быў ледзьве жывы. Увесь боль, які спальваў сэрца чараўніка, ён узяў на сябе. Цяпер ужо дзед Нікадым будзе дзяліцца сваёй сілай са сваім лекарам... Стары ляжаў на спіне, слухаючы, як калючымі іголачкамі пульсавала кроў, саграваючы ўсё цела, – удзячны ўсё ж быў вужыку за яго клопаты, і таму не хацеў праганяць яго са сваіх грудзей...

А Міхаська недзе прападаў у лесе, бегаючы па сваіх і звярыных сцежках, і не ведаў, нават не здагадваўся, мусіць, што мог застацца сіратою, без дзеда, – меў свае клопаты, свае гульні і захапленні, што прыносіла яму радасці і хваляванні, асалоду і яшчэ большую прагу яднання з прыродаю... Дзед адчуў лёгкасць ва ўсём целе, і яго ахапіў дрымотны сон. Маўчун, адчуваючы, што бяда мінула, наважыўся якую хвіліну адпачыць на дзедавай хударлявай грудзіне...

Набіраў сілу ранні вечар. У Нікадымавых грудзях набірала сілу жыццёвая раніца. Лес, супакоены добраю навіною, не шумеў трывожна і неспакойна голлем дрэў, – суцішыўся, рыхтаваўся да сну...

2

На прыпынак, што знаходзіўся непадалёк ад вёскі Завышша, аўтобус прыехаў пад вечар, – калі ўжо насоўваўся шэры прыцемак, калі цьмянае

прасцірадла смугі пачало ахутваць вёску і лес, што падступаўся амаль да вясковых агародаў. Аўтобус быў не санаторны, рэйсавы, які штодня праязджаў непадалёк ад санаторыя “Высокія сосны”. І добра, што рэгістратарка Зіна Паўлюкова здагадалася пазваніць на аўтастанцыю і папярэдзіць дыспетчара, каб аб’явіў тым, хто едзе ў “Сосны”, не чакалі іх аўтобуса, а сядалі на рэйсавы і ехалі да павароткі на Завышша... Разоў з дзесяць дыспетчарка аўтобуснай станцыі перадавала тую аб’яўку, пераклаўшы на свой лад: “У сувязі з тым, што санаторны аўтобус па тэхнічных прычынах не можа прыехаць і забраць адпачываючых, таму просьба санаторнікаў сесці на рэйсавы...”

Людачка Хвойная, альбо як яе называлі дзеці ў школе-інтэрнаце, Людміла Дамінікаўна, нават і задрамала за тыя сорак хвілінаў, калі каціўся па гравейцы “Ікарус”. Бо дабіралася поездам, – а які сон у вагоне, адна назва толькі. У дрымотным сне паспела прысніць свайго чарговага палюбоўніка. Выглядаў ён, само-сабой, маладжава, быў высокі і стройны, у светлым касцюме. Усміхаўся ветла, нават паспеў спытаць яе:

– І чаго ж ты так доўга не прыязджала? Я чакаў цябе. Можна запрасіць цябе на танец?

Адказаць не паспела – нехта ўмяшаўся ў іх размову, зычным голасам, што і мёртвага, мусіць, разбудзіў бы, абвясціў:

– Шаноўныя! Каму да санаторыя, то трэба выходзіць тут. Вунь справа, над соснамі, гарыць чырвоны агеньчык на трубе, – вось туды і кіруйцеся.

Кіроўца пакінуў нават сядзенне, прайшоў між крэслаў, пакуль не пераканаўся, што не было спячых і яго аб’яву чулі ўсе, – вярнуўся на месца, газануў, абдаўшы санаторнікаў кіслым дымком.

З аўтобуса выйшла чалавек з дзесяць. Найбольш жанчыны. Было некалькі мужчынаў, але яны былі не з тых, каго магла ўпадабаць Людка, – непрыглядныя нейкія, нехлямяжыя, шэрыя, “абы-якія”, як вызначыла яна...

“Ну, нічога, – не адчайвалася Людміла Дамінікаўна, – мне маё будзе. Яшчэ ніводнага разу не згарэла ў мяне пуцёўка, яшчэ ні разу не спала я ў ложку адна... То ж не пра мяне адпачываючы паэт аднойчы прысвяціў жанчыне, якая вельміназаляла яму, такія радкі:

*Ну й падманулі ж мяне лоўка,*
*з мяне не выйшла сто патоў, –*
*згарэла, ляснула пуцёўка, –*
*не патаптаў мяне ніхто...”*

Людка пільным і спрактыкаваным вокам рабіла агледзіны адпачываючых. Ні на адным не спынілася яе вока.

“Не, я сваё вазьму... Я ж не замухрышка якая, як вось гэтае дзяўчо, што йдзе наперадзе ў просьценькім спартовым трыко... На яе наўрад ці кінецца

які мужчына – скура ды косці, ды яшчэ і нос гарбылём... На першым жа вечары танцаў я не ўпушчу свайго...”

Валізкі былі і не дужа цяжкія, але і лёгкімі не назавеш, – з такім багажом Людка заўсёды выбіралася ў санаторый. А выбіралася яна кожным годам, калі яшчэ быў жывы муж – лётчык грамадзянскай авіяцыі, і пасля, калі не стала яго. Старалася адсанаторыцца ў жніўні, перад заняткамі, а калі не выпадала, то і ў любы час, нават і зімой... Для яе няважна якая была пара года, галоўнае, каб быў побач з ёю супрацьлеглы пол...

Той жа мужчына, якога яна зганьбіла, падхапіў моўчкі яе дарожную чорную сумку, гэтак жа моўчкі і нёс яе, ідучы павольна побач – нават і не стараўся загаварыць з ёю. Яна ўдзячна паглядзела на яго, адзначыўшы пра сябе, што і тут ёй пачало шанцаваць...

Дзяўчына ў спартовым цёмна-зялёным касцюме ішла недзе наперадзе, пра яе Людка і забылася нават, – крочыла апошняй – следам за яе памочнікам, але чамусьці непрыязнасць да яго засталася – сама не ведала, чаму...

Усіх афармілі хутка – без затрымкі, аж не верылася. Нават не прыйшлося праходзіць “каранцін”. Гэта калі наслойваўся “ад’езд” на “прыезд” і не было вольных пакояў – тады людзей прыходзілася сяліць то ў бытоўку, то ў спартзалу, а то нават і ў кабінет галоўнага доктара...

І – трэба ж! Людку пасялілі разам са “спартсменкай”. Напачатку ў настаўніцы ўзыграла самалюбства, нават абурэнне, і было жаданне вярнуцца ў рэгістратуру да Зінаіды Паўлюковай і папрасіць, каб пасяліла з кім-небудзь іншым... Але тут жа і падумала пра сябе: “А з кім – іншым? Хіба ж ёсць гарантыя, што нехта той іншы, будзе лепшы за дзяўчыну ў спартовым трыко?” І міжволі змірылася. І аддалася на волю лёсу – а, няхай будзе, што будзе, – не дзяліць жа з ёю заляцаннікаў ці біцца за іх. Ад Людкі яна не адаб’е, тое і даказваць не трэба.

– Цябе зваць хоць як? – пацікавілася Людміла Дамінікаўна, калі пачалі распакоўваць свае валізкі.

– Хоць як – Аксана, – у тон яе патрапіла дзяўчына, і падначкі настаўніца не зразумела – думкі былі заняты іншым.

Каб з кім іншым, то назвалася б Людкай, але суседцы абвясціла афіцыйна, каб ведала розніцу – і ў гадах, і па саслоўнай лесвіцы:

– Ну а мяне заві Людмілай Дамінікаўнай.

– Вы ўсіх на “ты” завеце – і сваіх вучняў, і калегаў-педагогаў? – зірканула на яе Аксана, прымружыўшы вочы, як пасміхалася.

Людка шырака раскрыла блакітныя вочы, спытала, адразу ж прыняўшы да ўвагі папрок-заўвагу Аксаны:

– А адкуль вы ведаеце, кім я працую?

Аксана вымала з сумкі рэчы і складвала ў сваю шафу, не глядзела ўжо ў яе бок, адказала абыякава:

– Ды на твары напісана...

Людка больш ні пра што не пыталася, але супакоіла сябе тым, што дзяўчына магла падгледзець у рэгістратуры яе пуцёўку, дзе і было ўказана яе месца працы і кім працуе. Нічога ў тым дзіўнага не было. Каб яна, Людка, прачытала Аксаніну пуцёўку, то тады дакладна сказала б і пра яе, – можа, яна калгасны пачынаючы бухгалтар у глухой, Богам забытай вёсачцы, а мо і сельсаветчыца...

Прыехалі ў пятніцу. І ў той жа вечар, як абвяшчала аб'ява перад уваходам у сталоўку, у танцавальнай зале меўся адбыцца вечар знаёмстваў.

Людка чапурылася як ніколі. Надзела свае лепшыя строі – блакітную сукенку, на шыю пачапіла дарагія каралі. На левы бок грудзей, а яны ў яе былі высокія, поўныя, бы схаваныя запазухай качаны капусты,– прыкалола брошку з камянямі – ружу. І пяць, і дзесяць разоў выглядвалася ў люстэрка – і нарэшце засталася задаволенай сваім знешнім выглядам. Цяпер – хоць на прыём да самога караля, на любы высокі і шыкоўны баль, – упэўнена была, што выглядаць яна будзе прыкметна і прыцягальна...

Аксана да вечара не праяўляла ніякай цікавасці – на танцы пайшла ў тым, у чым і прыехала – у спартовым трыко, як быццам выдзеліцца хацела з адваротнага боку. Пайшла без Людкі. Мо каб не замінаць ёй, каб не псаваць настрой сваёй прысутнасцю.

Культмасавік, тонкі і высокі, з прычоскай колеру медзяной чырвані круціў магнітафон з запісамі танцавальных мелодый розных гадоў, але ўсім падабалася, калі ў рукі браў баян чарнявы хлопец, які яшчэ і сам барабаніў сабе: цісnуў нагой на педаль бубна ў патрэбны такт – і тая качалка глуха біла па нацягнутай скуранной паверхні, а доўгія драўляныя палачкі, прымацаваныя да другой педалі, білі па медных талерках...

Аж вішчэлі, увайшоўшы ў азарт, маладухі, адчуўшы вольніцу ў сваіх паводзінах, адарваўшыся ад дамашніх вясковых ці гарадскіх клопатаў, ад мужоў сваіх, вецер ганялі спадніцамі, кружачыся ў віхурным танцы. Аксану дык адзін за адным хапалі хлопцы і мужчыны, матлялі па зале, заглядвалі ў вочы, нешта смешнае расказвалі, самі смяяліся...

Людка стаяла воддалеч ад усіх, неяк збоку, і да яе ніводнага разу не падышоў ніводзін мужчына. А іх, як аказалася, было шмат у зале. І аднаго, і другога, і пятага ўпадабала сабе Людка, ды ні адзін з іх не ўпадабаў яе.У яе разрывалася сэрца ад болю і крыўды. Яна нічога не разумела. Такога яшчэ ніводнага разу з ёю не было. А ездзіла ж яна адпачываць мо разоў з дваццаць – штогод. І збілася з ліку, колькі ў яе было за ўсе гады палюбоўнікаў...

Тут жа ныла і трымцела сэрца ад зайздрасці: вунь жанчыны – глядзець няма на што – ні паставы, ні твару, а раз за разам запрашаюць у круг, а на яе, Людку, ніхто і вокам не кінуў...

Крыўда на сэрцы мацнела, шырылася, злосць на ўсіх нарастала ўсё больш і больш, – і ў яе ўжо было жаданне плюнуць на ўсё і ўсіх ды з'ехаць ад гэтага месца далей – куды вочы глядзяць... Да канца танцаў-скокаў не дабыла. Неўпрыкмет выйшла, і яе ніхто не спыніў, не вярнуў – як і не было яе зусім у танцавальнай зале.

Распранулася, легла ў ложак, адвярнулася да сцяны. Не хацела бачыць, як прыйдзе Аксана, як шчасцем ці светласцю будуць свяціцца ў яе вочы, як здзеклівa будзе глядзець на яе, Людку: ведама ж, бачыла, што ніхто – ніхто! – не запрасіў яе за вечар танцаваць – нават і ніхто з жанчын... А самой запрасіць дык і сорамна ўжо было.

У суботу, на наступны вечар, усё паўтарылася.

Перад люстэркам Людка правяла гадзіны з тры, прычапурвалася, апырсквала сябе дарагімі французскімі духамі. І сукенку адпрасавала, што ніводнай складачкі не пакінула, і броўкі падвяла, і вусны адмысловай памадай аздобіла – фея ды і толькі! А выйшла тое ж – нікога не кранула сваёй прыгажосцю, хаця ж, калі шчыра, яна і сапраўды выглядала ніштавата і выдзялялася з агульнай грамады як тварам, так і станам. Жанчына яна была, так бы мовіць, у самым саку... А яе суседка па пакоі не магла адбіцца ад кавалераў – танцавала і танцавала, ніводнага разу не кінуўшы позірк у бок Людмілы Дамінікаўны.

Аксана прыйшла пазней, як Людка ўжо ляжала ў ложку. Яна не ўключала святло, каб не пабудзіць ці нават патрывожыць жанчыну, не пакрыўдзіць яе познім прыходам.

Людка ж не спала. Яе душылі слёзы. І доўга да яе не ішоў сон. Пад раніцу толькі ўдалося звесці вочы.

Добра, што сядзелі не за адным сталом – іх размясцілі ў розных кутках вялікай залы, – а то нагаварыла б ёй Людка крыўдных слоў, ой нагаварыла б, век бы помніла...

Пакой Аксана пакінула тады, як Людка яшчэ спала.

І ў нядзельны вечар было тое ж самае: прастаяла на адзіноце Людміла Дамінікаўна і паўгадзіны, і гадзіну – ніхто не адгукнуўся на покліч яе збалелага сэрца.

Са слязьмі на вачах ішла да свайго пакоя, не бачачы дарогі. Такога правалу ў сваёй дзейнасці па заваяванню мужчынскіх сэрцаў жанчына не мела ніколі. Месца аказалася як зачараванае. Як не для яе прызначалася. Як хто злы на яе прырабіў такое...

І – змірылася. Змірылася, праглынуўшы горкую птгулку няўдачы, і тады ж вырашыла: ні на якія танцы яна больш не пойдзе – хопіць з яе такой ганьбы, што ўпару скрозь зямлю праваліцца ад сораму. Усё. Лепш пахадзіць па бярозавым гаі, надыхацца ўволю чыстым паветрам, якое на добрай адлегласці знаходзіцца ад чарнобыльскай зоны...

У суботу зноў меўся адбыцца танцавальны вечар.

Пасля вячэры прыйшлі разам у пакой. Людка ўнурылася ў сябе, не размаўляла з суседкай, хаця ёй і карцела пагаварыць, перакінуцца словамдругім, каб развеяць нуду. Калі ж Людміла Дамінікаўна прылегла на пакрывала, каб перад шпацырам прывесці свае думкі ў стройны і лагічны рад, і папыталася ў яе Аксана, сеўшы побач на ложак, адкінуўшы ўсялякі этыкет:

– Ці пойдзеш ты, Людка, сёння на скокі?

“Чаму пытаецца? – падумала жанчына, пачуўшы нейкія іншыя ноткі ў голасе – і на “ты”, і “Людка”, як быццам даўнія сяброўкі яны. – Што хоча ад мяне?”

– Ды што хадзіць – ніхто не запрашае, – як паскардзілася, як павінавацілася суседцы па пакоі, і голас нават уздрыгнуў, і пад вейкамі запякло...

– Вось што я табе скажу, Людка, – мяккім голасам загаварыла Аксана. – Сёння ты ідзі на скокі... Ідзі. Сёння – можна. Сёння – усе твае кавалеры. То я іх да цябе не падпускала тры вечары. Бо ты тады, як выйшлі з аўтобуса, кепска падумала пра мяне. Словы “замухрышка”, “нос гарбылём”... Шчасце тваё, што ты больш агідных слоў не падабрала да мяне, то я тады ніколі не зняла б з цябе закляцце. Ды не такое, як цяпер, а... Ды ладна... Пашкадавала я цябе. Не так даўно ты засталася без мужа. Сына і дачку маеш. Сын у арміі. У дачкі ўсё добра будзе, а вось у сына... Ну ды ладна, то ўжо не маё... Ідзі, Людка, ідзі сёння на скокі. Сёння ўсе мужчыны будуць падаць перад табою на калені... І не бойся мяне, табе больш нічога кепскага не зраблю... Танцуй, весяліся...

І паклала руку на лоб, патрымала колькі імгненняў, – зняла свае чары і ўздыхнула з палёгкаю, як груз нябачны з сябе скінула. Пайшла да свайго ложка, легла, паказваючы, што нельга з ёю цяперака гаварыць, чапаць нельга яе...

Тое ўжо Людка зразумела, сеўшы, уражаная, на край ложка, спусціла ногі долу. Яна спужалася. А чаго, і сама не ведала. Аксана – гадалка? Чараўніца? А мо – вядзьмарка?! Яна ж усё ведае пра яе, усё чысценька, а першы ж раз сустрэліся. Яна чытала і чула яе думкі, яе словы? Як такое можа быць? І пра Славіка ведае, і пра Светку... А што са Славікам адбудзецца –

што яна хацела пра яго сказаць? Страшна побач з ёю жыць. Але ж – сказала, як папярэдзіла, каб не баялася яе, кепскага больш не зробіць...

З расчыненых вокнаў танцавальнай залы вырывалася ў двор бадзёрая музыка, бубен падахвочваў: бух-бубух, бух-бубух!..

"Схаджу, мусіць, праверу, пераканаюся, ці не маніць мне мая суседачка, – адважылася Людка, сама сябе падахвоціла. – Але толькі я тады ёй поўнасцю паверу, калі словы яе спраўдзяцца, калі знайду свайго часовага абранніка, калі ў мяне зноў закружыцца, як і заўсёды, галава ад поспеху..."

Так, як перад гэтым, не прыбіралася, не выглядвалася і не круцілася перад люстэркам. "Калі праўду сказала мая суседка-чараўніца, то і навошта ж тады шчыраваць? Як той казаў, калі б не соплі, то прыгажосць бы замучыла... Пайду так, усё роўна нейкі ж вынік будзе..."

Хацела ўсё-ткі нешта сказаць Аксане – ці то словы ўдзячнасці, ці то згоды, але змоўчала – дзяўчына ляжала з зажмуранымі вачыма, павярнуўшыся да сцяны. Яе цела ледзь прыкметна ўздрыгвала, быццам ёй было холадна ці круціла ногі... Толькі падумала, стоячы побач, ведаючы, што пачуе яе: "Дзякуй, што горшага не зрабіла, і даруй-выбачай, калі так, што кепска пра цябе падумала – навука мне надалей будзе... Не крыўдуй на мяне, дурная баба я з плоцкімі жаданнямі... Не вінаватая, што мяне штодзённа д'ябал задавальнення спакушае, ну што я параблю, калі мне кожны дзень патрэбен мужчына, ды не абы-які, а Мужчына з вялікай літары, – працаўнік, жорсткі і пяшчотны адначасова..."

"Бач, паразумнела... Чалавек адразу разумнее, калі бяда да яго падкрадваецца. Добра, Людка, добра, дарую табе ўсё... Ідзі, весяліся..."

Але Людка тых Аксанавых слоў-думак не чула...

## 3

Аксана Журавель у клуб ішла з тайным жаданнем сустрэчы са сваім аднакласнікам Вінцуком Уюновым – Уюном, як яго ўсе называлі ў школе. Мроілася ёй, што запрашаць танчыць ён будзе толькі яе, а потым яшчэ і правядзе дадому... І не толькі правядзе, а і пяшчотна абдыме, нашэпча-нагаворыць на вуха шмат патаемных слоў, прызнаецца ў рэшце рэшт у сваіх пачуццях...

У яе з самай раніцы быў узнёсла-радасны настрой; спявала і бунтавала душа, прасіла асалоды і пяшчоты. Усе дні, усе гадзіны, дні і ночы яе думкі былі запоўнены адным – марамі аб каханні. Вобраз Уюна не сплываў ні на адно імгненне з яе вачэй – ён перад ёю быў пастаянна, сам нават не падазраючы пра тое...

У Вінцука светлыя непакорныя валасы, блакітныя вочы, сам дужы, пружыністы, вёрткі, – сапраўды як той уюн: прозвішча адпавядала целаскладу. Аксана радавалася за яго, калі ён падчас школьных спаборніцтваў скакаў вышэй за ўсіх, бегаў хутчэй за ўсіх... Перажывала, калі хлопцу не даваліся так лёгка, як фізкультура, задачкі па фізіцы ці хіміі, ды складанні на расейскай мове даваліся з цяжкасцю – невядома чаму. Нейкі абыякавы ён быў да Пушкіна і Лермантава, Горкага і Талстога... Казаў, што яны чужыя яго сэрцу, што іх творчасць не кранае яго душу... Затое кніжачку вершаў Максіма Багдановіча вывучыў на памяць ад радка да радка – мог, не задумваючыся, расказаць з яе любы верш. Тая кніжачка памерам з даланю была для яго Бібліяй, талісманам, які аберагаў яго ад няшчасцяў. Ніхто не разумеў яго любові да беларускага творцы-пакутніка, бо ўся сіла тамтэйшай педагогікі была скіравана на тое, каб зацьміць айчынных пракрокаў-апосталаў, а ўзвысіць на недасягальную вышыню тых, якія пісалі на “великом и могучем”...

З маленькім томікам Вінцук не разлучаўся нідзе і ніколі – насіў штодзённа з сабою. Тое і трывожыла Аксану, непакоіла. Яна адчувала, што кожны дзень у яго ўліваецца невядомая ёй сіла, якую, здавалася ёй, яна не зможа адолець, перамагчы. Тая невядомая сіла выпраменьвалася ад радкоў Пакутніка. У нейкі момант пачала адчуваць, што паміж імі стаіць Паэт, і ён пачынае яе адштурхоўваць, адпіхваць, і тое робіць незнаёмая ёй энергія, – і ён, Уюн, аддаляецца пакрысе ад яе, адрываецца ад яе біяполя, ад яе ўздзеяння...

“Мой Уладар, Настаўнік і Натхніцель! – шэпча, звяртаючыся да свайго пана дзяўчына, прыкладваючы рукі да грудзей, прымружваючы вочы. – Навучы, як пераадолець тую невядомую сілу, якая перашкаджае авалодаць душою майго абранніка. А без яго я не ўяўляю свайго жыцця... Ты адзін ведаеш, як тое можна зрабіць. Дай мне сваіх чорных сілаў, сваёй чорнай энергіі – і я зраблю тое, што задумала...”

Недзе ў цемры, у кутку хаты, у запеччы, Нябачны крактануў, пераварочваючыся з боку на бок, незадаволена перапытаў:

“Што зноў непакоіць цябе? Хто зноў даймае цябе сваёй няўважлівасцю? Хто заслугоўвае кары, скажы, і мы нашлем на яго пракляцце нашага Эйфа?!”

“Не-не, мой Уладар Цемры, – спалохана адступае назад у сваім імкненні Аксана, – ніхто мяне не даймае... Наадварот, ён, Вінцук, адварочваецца ад мяне, і ведаць не хоча мяне. А ад гэтага і разрываецца маё сэрца на дробныя кавалачкі. Хачу прымусіць яго, каб...”

“Што – “каб”? – здаецца, насцярожваецца Нябачны, навострывае слых, каб пачуць галоўную мэту просьбы сваёй падначаленай, рабыні сваёй справы Аксаны Журавель. – Што, кажы?”

“Каб ён... каб ён пакахаў мяне...”

“Але ж ты просіш зрабіць добрую справу. А мы, як ты ведаеш, робім зусім адваротнае. Давай знішчым яго, ці зробім невылечным хворым на ўсе гады... Пакараем за няўвагу да цябе – і гэта будзе твая помста”.

“Не-не, мой  Чар, толькі не гэта! Табе, мусіць, невядомы пакуты сэрца, як і добрыя справы, таму ты мяркуеш, ацэньваеш і судзіш, асуджаеш, караеш толькі з вышыні свайго бачання... Ведаю, што мне не да твару такія сантыменты, ведаю, што з цягам часу я пазбаўлюся гэтага, навучуся быць жорсткай, буду чалавекам без сэрца, бо я яго аддала табе, – і тады буду адпавядаць тваім, правільней, нашым канонам і патрабаванням, але сёння я не магу і не хачу тое рабіць... Па-першае, я хачу насаладзіць сваю душу тым духоўным і слодычным пачуццём, каб ведаць, якое багацце буду адымаць ад людзей, караючы іх, каб потым не шкадаваць ні пра што, і ўжо ніколі больш не вяртацца да гэтага...”

“Дык жа дух – гэта Бог! – ускрыкнуў, не вытрымаўшы, злосна Нябачны Ўладар цемры. – Мы ж не прымаем тое – ці не памятаеш хіба?!”

“Памятаю. Я не так сказала, выбачай. Каб перарасці ў новую якасць, я павінна адчуць і зразумець, што гэта такое – каханне. Зразумець для таго, каб потым распазнаваць яго і забіваць у людзях яшчэ ў зародышы... Але ж, калі паглядзець з другога боку, то закаханыя губляюць розум, робяцца даверлівымі і пяшчотнымі, і на іх згубу не трэба траціць шмат энергіі – яны як ягняткі, самі ідуць у рот ваўку...”

“Мг...” – уздыхнуў, здаецца адабральна, Уладар Цемры.

“Па-другое, хачу даведацца яшчэ, ці маю я сама тую нябачную сілу, якая здольная перамагчы... перамагчы тыя сілы, што скіраваны супраць нас. Толькі калі я прайду скрозь тыя выпрабаванні цалкам, то я ачышчуся ад непатрэбшчыны і шалупіння, і тады сцвердзяцца словы Мацвея са Святога Дабравесця: “Гора свету ад спакусаў, бо павінны прыйсці спакусы; але гора таму чалавеку, праз якога спакусы прыходзяць...” Таму мы будзем спакушаць і дамагацца свайго, ці не так мой чорны кардынал?”

“Усё так. Я рады, што ты сама прыходзіш да высноваў нашага вучэння і нашай антыверы. Таму я дам табе пакуль што толькі напалову таго, што ты просіш... Бяры!..”

У запеччы зноў нешта зашамацела, як бы глуха рыпнулі спружыны, потым пачуўся глухі і працяжны посвіст, як сядно распачыналася завіруха і ў завуголлі заскуголіў вецер, абдзіраючы свае бакі аб сцены, і ў сцяну, што выходзіла да грушы-дзічкі, нехта моцна стукнуў нечым тупым – як бервяном ці абухом важкага калуна... І ўся хата як бы выціснула з сябе выдых, уздрыгнула, скаланулася... Сутыкнуліся дзве стыхіі – холад і спякота, жорсткасць

і дабрыня, але не адбыўся выбух, а злучылася незлучальнае, сумясцілася несумяшчальнае, – і вялізны ружова-жоўты шар, які свяціўся, пераліваўся рознымі колерамі, пачаў разрастацца, павялічвацца ў памерах, запоўніў ужо ўсю хату – ад падлогі да столі, ад сцяны да сцяны... Гэтага ўсяго не бачыла Аксана – яна заплюшчыла моцна вочы і чакала сама не ведаючы чаго, але чакала без страху, нават з нецярпеннем, чакала, што ў нейкія секунды здарыцца нешта незвычайнае і дзівоснае, што дасць ёй новае нараджэнне, новыя якасці і магчымасці яе ўздзеяння на чалавечыя душы...

Калі ўжо, здавалася, хата пачала трашчаць, каб разваліцца, не вытрымаўшы сілы разрастання ружовай магмы, адбылося тое, чаго і дамагалася дзяўчына – вакол яе ўтварыўся віхор, воблака пачало круціцца вакол яе, хутчэй і хутчэй, звужацца і звужацца, і праз нейкія імгненні растварылася ў ёй, злілося з ёю, стала ёю... Яна і не адчула таго, мо і не зразумела, што адбылося – толькі нейкі ветрык дакрануўся да твару, як хто пяшчотна дакрануўся рукой.

Калі ў хату зайшла старая Макушыха, то яна найперш пачула, чым убачыла, што яе ўнучка ляжыць на падлозе і стогне ад болю.

– Што з табою, Аксанка? – кінулася да яе бабуля, забыўшыся нават уключыць святло, прыўзняла яе галаву, прытуліла да грудзей...

Дзяўчына нічога не гаварыла, толькі скрыгатала зубамі і круціла аднастайна галавой, праз нос выдыхала і выганяла з сябе залішнюю энергію... Потым сашчаміла зубы і праз нос з усяе сілы працяжным стогнам, быццам яе мучыў неймаверны боль, завяршыла сваё перараджэнне...

Макушыха зацягнула яе на ложак. Падбіла падушку, каб было зручней ляжаць унучцы. Толькі потым ужо ўключыла святло ў хаце.

Твар Аксаны быў белы-белы – як падушка. Вочы ў яе раскрытыя, але ў іх не бачна зрэнкаў – недзе закаціліся пад лоб. Потым дзяўчына глыбака ўздыхнула, набраўшы поўныя грудзі паветра, войкнула, як што кальнула ў сярэдзіне, і раскрыла вочы. Здзіўлена паглядала на Макушыху, на сцены хаты... А пасля яшчэ раз уздыхнула, абвяла, скінуўшы з сябе напружанасць, заўсміхалася. Паспрабавала ўстаць – і ўстала. Адчула ў сабе незвычайную дужасць, думкі – ясныя, мэтавыразныя і канкрэтныя...

– Што з табою, унучка? Ці не захварэла часам?

– Не. З “ім” вяла гутарку. Помачы і сілы прасіла.

– Выпрасіла?

– Выпрасіла. Мы з ім у згодзе. Цяпер мы разумеем адно аднаго.

– То і добра, – абрадавалася Макушыха, – маё навучанне марна не прайшло. Значыць, ён прызнаў цябе, прызнаў і паклікаў, далучыў да сваёй планеты.

– Далучыў. Мы паразумеліся з ім. Цяпер нам ужо нельга існаваць адно без аднаго.

– Есці будзеш?

– Не. Не хочацца. Ён даў мне сілу, што я тыднямі магу не есці. Мо хіба кіслёхі пап'ю – у горле сушыць...

Бабуля падышла да стала, што стаяў каля дзвярэй, наліла з гладышкі поўны кубак кіслага малака – пазаўчарашняга, падала Аксане. Дзяўчына выпіла ўсё да дна, крактанула ад задавальнення – халодная сыроватка астудзіла горла. Да яе вярнулася ранейшая весялосць.

"Цяпер – хоць куды. Цяпер – я самая моцная, і нішто не перашкодзіць мне дамагчыся свайго..."

Яна пераапранулася, надзела святочную сукенку, прычасалася перад люстэркам, адзначыла радасна пра сябе: "А што – ніштаватая я дзеўчына, ці ж не грэх у мяне закахацца, га? Сама магу прысушыць любога, але не хачу, мне цікава, калі сам прысохне... І не абы-хто, а ён, Вінцук Уюноў..."

– У клуб? – папыталася Макушыха, хаця ж добра ведала, куды збіралася ўнучка – куды ж болей пойдзеш у Забалацці?

– Ага.

– Уюн точыць сэрца?

– Ён, бабуля, ён. Усё ты ведаеш, нічога ад цябе не схаваеш – аж нецікава з табою...

Старая хітра ўсміхалася, адвярнуўшыся да печы, каб дастаць з яе чэрава гаршчычак з крупнікам, пацвердзіла:

– Як не ведаць? Усё ведаю. Павінна ведаць. Але тут табе цяжка прыйдзецца – ёсць і ў яго сіла. Цяжкім будзе змаганне за яго, і хто тут каго пераможа – невядома.

– Тое мы яшчэ паглядзім, бабуля. Паглядзім...

Аксана росту невысокага – на галаву ніжэй за Вінцука. Узгорачкі грудзей порстка напіналі сукенку, і яна не раз заўважала, як неўпрыкмет зіркалі ў трохкутнік выразу сукенкі цікаўныя вочы старэйшых хлопцаў і мужчынаў. Тое яе радавала, хвалявала, і яна ў каторы раз адзначала пра сябе, што можа падабацца хлопцам, што ў яе можна закахацца... Адно хіба Вінцук ніводнага разу не зіркануў на яе, як яна таго хацела, як жадала.

Выходзячы з хаты, ведала: абавязкова яго стрэне, што перакінуцца словам-другім. Яе крыўдзіла тое, што калі ён размаўляў з ёю, то як бы не бачыў яе, стаяў побач, адчуваючы яе локаць, а не адчуваў яе прысутнасці, – як да сцяны яна гаварыла... Бо бачыла, што ён задумліва глядзеў паўз яе, скрозь яе, глядзеў некуды далей, туды, у засмужаную далеч, быццам там, за шэрай смугой, шукаў адказы на свае пытанні...

Тая, апошняя сустрэча, была тыдзень назад, у суботу. Тыдзень для яе быў надта доўгім, але яна не шукала прычын сустрэцца незнарок з ім, не прыспешвала падзеі… І цяпер была субота. Аксана ведала, што ён абавязкова прыйдзе ў клуб, бо чула, як хлопцы днём, калі была ў краме, казалі: “Во прыдзе сёння Уюн у клуб, то ў яго і спытаем…” Пра што яны хацелі папытацца ў яго, яе не цікавіла, а абрадавала тое, што ўбачацца…

А напаткала яго не ў клубе, а на дарозе да яго. Ён ішоў адзін з Затросніцкай вуліцы, што ўпіралася ў возера, а яна ішла з другога канца – з Жоўтага Поля: жылі каля пясчанай выспы – так і вуліцу называлі.

– Дзень добры, Аксана! – павітаўся першы, але ў голасе яна не пачула ні радасці, ні ўзрушэння – абыякава аднёсся да іх сустрэчы.

– Дабрыдзень, Вінцук! І ты ў клуб?

– А куды ж яшчэ?

– На полечку запросіш мяне?

– Калі ты таго хочаш, запрашу.

– Хачу. Так хачу, Вінцучок, што аж грудзі распірае жаданне, – яна старалася ўсё перавярнуць на жарт, каб не выдаць сябе, каб не сапсаваць задуманага, каб прыглушыць свой унутраны боль. – Таму не падмані мяне, запрасі. Добра?

Ён здзіўлена паглядзеў на яе, не разумеючы, ці то яна жартуе так, ці здзекуецца з яго ці нават з самой сябе, але нічога не сказаў, маўчаннем пацвердзіў згоду.

– Як пажываеш, Вінцук? – спытала ўжо спакойна і сур’ёзна, стараючыся ўтрымаць кволенькую нітачку духоўнай сувязі, імкнучыся прыцягнуць да сябе, звярнуць, у рэшце рэшт, на сябе хоць нейкую ўвагу.

– Ды жыву... Як усе – і не горш, і не лепш. Нас такімі ж зрабілі – усіх пад адзін грабянец.

– Мне сказаць нічога не хочаш – нечага такога цёплага і інтымнага?

– Што – сказаць? Пра што?

Аксана загадкава ўсміхнулася, выставіла наперад акруглае калена, папpавіла на сабе сукню, не выпускала з рукі галінку вішанніку. Ад яе патыхала чаромхай і невядомымі духамі – няўжо не здагадваецца, цяльпук няшчасны, што яна ўсё робіць, стараецца быць прывабнай і прыгожай толькі дзеля яго, Уюна.

– Ну хаця б прыдумаў які камплімент, схлусіў бы, што я самая прыгожая… ці што іншае. Ці цяляты табе язык аджавалі? Прачытаў бы радок-два са свайго любімага паэта.

– Навошта хлусіць? – пацісную плячыма Вінцук, не разумеючы, куды хіліць дзяўчына, і што яна хоча-дамагаецца ад яго. – Я і сапраўды не ведаю, як ты

выглядаеш. Не разбіраюся я ў гэтым, – прызнаўся шчыра хлопец, уздыхнуў, усміхнуўся.

– І я табе зусім-зусім не падабаюся? – прыкусіла язычок дзяўчына, стаяла перад ім і гарэзліва зазірала ў вочы. – Ніколечкі-ніколечкі?

– А чаму ты мне павінна падабацца? – зноў падзівіўся Уюн, гледзячы ў яе шырока адкрытыя зеленцавата-жоўтыя вочы, і ў яго паглядзе не было ні цікаўнасці, ні затоенай злосці, ні тайнага жадання...

– Ды не табе асабіста, – як не рагатала ўжо Аксана з яго ніякаватасці, жмурылася, хавала вочы за густымі вейкамі-крыламі, – як я ўвогуле выглядаю з пункту гледжання мужчынскага полу... на фоне нашай вясковай прыроды, нашых забалацянскіх дзяўчат?

Ён стараўся не паказваць сваю злосць за яе дурныя пытанні, каб не пакрыўдзіць, не ўзлаваць яе, прамовіў:

– Вось у іх, мужчынаў, і папытайся – яны ў гэтым разбіраюцца дужа добра. А я што... яшчэ ніводнага разу і не цалаваўся з дзяўчынай...

Здзекаваўся, канечне ж, Уюн з Аксаны, не ведаў, як адбіцца ад яе, што зрабіць, каб адчапілася, каб не прыставала... Не ляжала ў яго душа да яе, не ляжала, хоць забі... Яна ж ведала пра тое, ведала, а нечага ж чапілася, лезла нахрапіста ў душу, не зважаючы ні на што.

– Тое і бяды, – зарагатала ўжо ад пачутых слоў, нечакана абняла яго і пацалавала ў губы, прытуліўшы хлопца да сябе.

Ён і не паспеў адхіснуцца, і стаяў, як укапаны, яшчэ больш падзівіўшыся яе смеласці.

– Ну, во, і паправілі тваю бяду ці недахоп, – не пераставала смяяцца Аксана, узяўшы ўжо яго пад руку, як усё роўна павянчалася з ім тым пацалункам. – Соладка, скажы, праўда соладка цалавацца, га? Цяпер ведаеш, чаму вар'яцеюць хлопцы і дзяўчаты ад кахання?

– Ох і ліса ты, Аксана, не ліса, а пантэра, – гэтак жа вясёла прамовіў Вінцук, не вырываючы рукі з яе рук – крочыў, як паказваў усё роўна, што яны могуць ісці вось так, трымаючыся адно аднаго.

"І нікуды ты, міленькі-каханенькі, не падзенешся – дарогі такой няма, па якой бы ты ўцёк ад мяне. Не вымасцілі яе, не пабудавалі... Ты не злы, ты проста няўмека, цяльпук, ты ж не ведаеш яшчэ і смаку дзявочых вуснаў, тым больш дзявочай начной інтымнай пяшчоты... Калі ж я дам табе асалоду, калі праглыну цябе сваім чароўным воблакам, і калі ты ўзляціш на дваццатае, а не на сёмае неба, калі страціш розум і адымецца ад вышыні палёту мова, – то тады я і стану для цябе і Сатаной, і Богам, і Небам, і Сонцам..."

– Ох і натанчуся я сёння! – радасна прамовіла Аксана, яшчэ мацней прыціскаючыся да рукі Вінцука, глядзела некуды наперад – усцяж вясковай

вуліцы, на якую насоўваўвалася вечаровая шэрань... – Люблю танцаваць, люблю дурэць і прыдурвацца...”

У адказ хлопец нічога не адказаў. Ён думаў над тым, што адбывалася, і чаму Аксана праяўляе такую настырнасць і настойлівасць – хоча вялікага кахання? З ім – Вінцуком? Моцна закахалася і цяпер хоча таго ж самага ад яго? Не разумеў ён гэтага.

Лёсы Аксаны і Вінцука ў нечым падобныя. Аксана жыла з бабуляй, а ён з маці. У Вінцука загінуў бацька, калі хлопчыку было сем гадоў. І брат быў у яго, старэйшы, і ён, як і бацька, загінуў у арміі...

Аксаніна маці, Троня, усе ў вёсцы ведалі пра тое, была вядзьмяркай. Злой вядзьмаркай. Яе баяліся людзі, бо яна магла наслаць чорныя атрутныя стрэлы як на людзей, так і на хатніх жывёлін... Каровы малако нечакана пераставалі даваць, свінні есці, а то і зусім падохнуць... Гаспадар, Паўло, быў звер, а не чалавек – біў штодня сваю жонку. Яна не захацела нараджаць другое дзіця, верацяном хацела забіць яго яшчэ да нараджэння, ды пашкодзіла нешта ўсярэдзіне, – колькі год, сцякаючы крывёю, праляжала ў ложку. Ніхто ёй не мог памагчы – ні яе вядзьмарства, ні бабкі-шаптухі, ні дактары...

Аднойчы, ідучы праз возера, вясной, праламаўся і пайшоў пад лёд Паўло. Праз тыдзень памерла і Троня...

“Няма на свеце Бога!” – заявіла ўголас Макушыха – муж яе быў Макуха, на ўсю вёску абвясціла, як на ўвесь белы свет. І тыя словы чула малая Аксана. – “Няма Бога на свеце!” – сказалі настаўнікі і ў школе...

Ноччу ў яе сон прыйшоў чорны цень – без твару, без абрысаў, соладкагадзючына прашыпеў:

– Я буду тваім Богам. Ты павінна паверыць у мяне. Калі ж паверыш, то я буду абараняць цябе, вучыць, кіраваць тваімі думкамі і жыццём...

– Хто ты? – не спалохалася, смела ступіла крок насустрач.

– Я – гэта ты. Тваё другое “я”. І я буду табой і днём, і ноччу. Я буду сачыць неадступна за табою, кіраваць тваімі дзеяннямі, – калі ты згодзішся на тое.

– Згаджуся – на што?

– Быць з намі. Быць вольнымі птушкамі цемры і начы. Мы – тыя, хто сцвярджае так, як і ты, што Бога няма, як і няма Святога Духа. Ёсць толькі Ноч. Ёсць цемра. Ідзі да нас. Мы павядзём цябе сваёй дарогай, дарогай ночы, дарогай месяца і зораў. Мы адкрыем перад табою шмат цудоўнага і дзівоснага, таямнічага і чароўнага. Ты будзеш рабіць і ўмець тое, чаго не ўмеюць звычайныя людзі. Ты будзеш вышэй над імі, і яны будуць служыць і падпарадкоўвацца табе.

– Як знайсці цябе?

– Нас і шукаць не трэба. На магіле сваёй маці, у гаршчэчку, ты знойдзеш патрэбнае – і ўсё зразумееш, як мяне знайсці...

Клуб стаяў на беразе возера, на грудку.

Некалі калгасны брыгадзір Донька распарадзіўся паставіць па ўсім беразе лаўкі – на два ўкапаныя, абавязкова дубовыя, слупкі прымацавалі тоўстыя дошкі, – але яны даўно струхлелі, нават падгнілі дубовыя слупкі, а абнавіць новаму калгаснаму начальству было неяк не з рукі – ніхто ж не патрабаваў тое рабіць; так яны і засталіся напамінкам пра той вясёлы Донькаў час. То ён сам прыдумаў такое, бо быў вялікі выдумшчык на розныя штукі. З'ехаў даўно Донька з вёскі, падаўся на данецкія шахты, і ніхто не ведаў – жывы ён хоць ці згінуў дзе...

З расчыненых дзвярэй ужо вырывалася на волю гулкая музыка – замежная мелодыя нейкага ансамбля запрашала на скокі хлопцаў і дзяўчат. Мо з вёскі ніхто і не ведаў пра такіх музыкаў, але рытм іх песні бадзёрыў, нараджаў у душы вясёлы настрой.

– Дык ты не забудзеш пра сваё абяцанне? – напомніла Аксана перад тым, як увайшлі ў клуб, бо там яны будуць ўжо паасобку.

– Не, не забуду...

Танцы ў клубе наладжваліся пад любыя музычныя інструменты, але найбольш круцілі магнітафон ці радыёлу – вінілавыя кружэлкі. А здаралася, што Змітрок Пелікаў браў свой гармонік, ды да яго яшчэ далучалі бубен, які імпэтна хадзіў і звінеў у руках Рафаіла Крупы – калгаснага механізатара – то тады дзяўчатам да раніцы нельга было супакоіцца пасля імпэтных полек...

Але ўсе любілі танцаваць пад гармонік Змітрака, бо ён быў гарманістам адмысловым – мог без пярэдыху граць суткі і двое.

Аксану запрашалі хлопцы, і яна кружылася лёгка і весела, але ўвесь час не-не ды і зіркане ў бок Вінцука, які сядзеў з хлопцамі ў кутку за сталом і іграў у карты. Да танцаў ён быў абыякавы, як і да дзяўчатаў.

"Калі ж ты падымешся з-за стала, цяльпук мой каханы, калі скінеш палярыну са сваіх вачэй – няўжо не адчуваеш, як маё сэрца імкнецца да цябе?.."

Ён як паслухаўся яе – аддаў некаму карты, падняўся з-за стала. Чакаў, мусіць, калі аціхне музыка, калі ўсе стануць каля сцяны ці пасядуць на свае месцы – на доўгія лаўкі. Калі ж тое адбылося, калі зайгралі новы танец – вальс, у Аксаны ёкнула радасна сэрца: "Ідзе! Няўжо да мяне?"

– Аксана Дарафееўна, ці можна вас запрасіць на вальс? – тэатральна, па-джэльтльменску схіліў Уюноў перад ёю галаву ў паклоне, глядзеў некуды ёй пад ногі.

– Можна, Вінцук, можна! – як не ўсклікнула дзяўчына, усё яшчэ не верачы ў тое, што перад ёю ў паклоне схіліўся яе каханы. – Даўно чакаю, калі ты ўспомніш пра мяне...

І танцаваў ён неяк неахвотна ці не ўмеючы, але найбольш абыякава. Дзяўчына не пасміхалася з яго, сама яго вадзіла, кіравала танцам.

– Вінцук, а можа ты і другую маю просьбу выканаеш, раз такі шчодры сёння? – затоена спытала дзяўчына, паклаўшы руку яму на плячо, гледзячы на іншых танцуючых.

– Якую ж?

– Ведаеш, баязлівая я дужа. Асабліва ноччу. Таму дадому баюся ісці адна. Ці не правёў бы ты мяне на маю вуліцу?

Ён кіўнуў галавой:

– Ладна, правяду, калі ты хочаш.

– То і дзякую табе за тое.

– Ды няма за што.

– Ёсць. Ёсць за што. Ты ж паслухаўся дзявочага сэрца, не пакрыўдзіў адмовай...

– Хм... Не ведаў, што за такое трэба дзякаваць.

“Эх, Уюн, Уюн... Хай так, няхай хоць так... Нічога, чым цяжэй змаганне за цябе, тым саладзей будзе перамога... Так, голымі рукамі цябе, Уюнчык, не возьмеш, нездарма бабуля папярэджвала, толькі ў лазовую кломлю цябе можна і загнаць...”

– Трэба, трэба, Вінцук.

Неба ўсё ў зорках.

Вялікі Воз схіліў свой чарпак над возерам, як збіраўся зачарпнуць з яго срэбнай вады – над люстраной гладдзю вісела-узыходзіла поўня.

Маўчалі. Дзяўчына прытулілася да Вінцука, паклала галаву на грудзіну, чула, як тахкала яго сэрца – роўна і спакойна. Яе ж выскоквала з грудзей, гатовае было разарвацца на дробныя кавалачкі – побач быў ён, яе жаданы і аблытаны яе чарамі, яна датыкалася да яго, адчувала яго цела – гарачае і роднае...

“Я даб’юся свайго, быць таго не можа, каб не дабілася... Ён жа яшчэ як воск ці пластылін – бяры, ляпі з яго, што захочаш. Не кахае мяне пакуль? Нічога, пакахае, нікуды не падзенецца... Каб даведацца, наколькі салодкі яблык, то яго трэба паспытаць...”

– Вінцук, ці не хочаш ты паглядзець, дзе я зрэдку начую?

– Дзе гэта?

– Пайшлі, пакажу... Не бойся, не з’ем я цябе.

– Ды і не баюся я, пайшлі, паказвай сваё лежбішча...

Аксана прывяла яго да пунькі, што стаяла воддалеч ад хаты – між стромкіх бяроз, што густа выраслі на поплаве. Намацала ў застрэшку ключ, адамкнула замок. Расчыніла дзверы і сама першай нырнула ў цемру. Выдаўжыла руку, намацала драбіну.

– Ідзі сюды, тут драбіна.

Зачыніла на засаўку дзверы, хаця ведала, што ніхто ноччу ў пуньку не памкнецца. Яна як усё роўна адрэзала Вінцуку дарогу да адступлення.

– Я першая, а ты падымайся за мною.

Яшчэ днём Аксана падымалася на вышкі. Занесла туды прасцірадла і прасціны, коўдру, падушку: расстаўляла рыбацкую мярэжу па ўсіх правілах, каб злавіць свайго Уюна, які цяпер сам ужо ішоў у нерат... У яе дрыготна забілася сэрца – занепакоілася, не магло суняцца. Ускочыла на сена, падала руку Вінцуку. Ён ухапіўся за яе, паслухмяна падняўся наверх. Сеў, агледзеўся. Праз шчыліны франтона з двара прабівалася слабое святло.

Аксана пачула побач яго дыханне, маўчала. Дакранулася да яго твару, потым рукі апусціліся на плечы. Лёгенька таўханула яго, як загадала легчы на сена. Сама ж легла побач, прытуліўшыся да яго, нічога не гаварыла, давала час хлопцу апамятацца.

– Добра ў цябе тут, – прамовіў ціха госць, уздыхнуўшы, – канюшынай пахне...

– Так, правільна. І медуніцай яшчэ, мятай і святаянікам. У нас ля хаты цэлы гербарый расце – ад тысячы хвароб можна вылечыцца.

– Памятаю, як ты прынесла ў клас той гербарый. Увесь клас дзівіўся, як ты добра ведаеш зёлкі. А завуч школы Сташкевіч прапанаваў табе нават грошы – і немалыя. За яго. А ты чамусьці адмовілася.

– Адмовілася. Гэта добра, што ты памятаеш пра тое.

Аксана гаварыла і адначасова скідала з сябе сукенку. Потым было чуваць, як яна пстрыкнула запінкай бюстгалтара, кінула яго некуды ўбок, а Вінцуку затоена прашаптала:

– А я пад коўдрай ужо. Распранайся, залязай да мяне – сагрэй, нейкая халодная ноч сёння...

Ён маўчаў. Не шавяліўся нават. Праз момант прамовіў-папытаўся:

– Аксана, а хіба можна вось так... адразу? Я ж не муж табе, і не ... – Вінцук запнуўся, як спатыкнуўся аб якую патарчаку, – і ў Бібліі нават сказана для продкаў: «Не чыні пералюбу, і што кожны, хто глядзіць на жанчыну з пажадаю, ужо ўчыняе пералюб з ёю ў сэрцы сваім...»

– Ты верыш у Бога, Вінцук? – амаль са смехам спытала Аксана, і тут жа, не чакаючы яго адказу, дадала: – А я і не заўважала, што ты веруючы... Мы

ж усе камсамольцы былі. Увесь клас. І ўсе сцвярджалі, што Бога не існуе, ці не так?

– І так, і не так... Ды няважна тое, Аксана. Да Бога прыйсці ніколі не позна.

– Мо і так, згодна... Толькі дзіўна неяк, што жыў ты з тайнаю сваёй...

– А якая гэта тайна? У душы ў кожнага з нас жыве Хрыстос, але мы не падазраем пра тое...

Нейкі момант маўчалі. Яна спаквала падбіралася да яго, рыхтавала, старалася не пярэчыць задужа, а так, злёгку не згаджаючыся з ім. Адкінула коўдру, на каленях падсунулася да яго. Вінцук ляжаў, сашчапіўшы на грудзях рукі. Расшчапіла іх, пачала расшпільваць гузікі сарочкі. Потым і папругу... Скінула з яго амаль усё, што было на ім.

Астатняе ўсё адбывалася як у сне. Астатняе, што не скінула Аксана, скінуў сам. Яна абняла яго, упілася вуснамі ў яго губы. Адчула адразу, як у яго пачалі вырастаць крылы жадання, адчула, як і яна сама ператваралася ў нейкую незямную і дзівосную птушку – арліцу, якая гатова была сваёй вострай і моцнай дзюбай упіцца ў сэрца Уюна...

Яна накрыла абодвух коўдрай і абвілася як дзікі хмель па хлопцу, прытулілася моцна грудзьмі да яго грудзей, калола сунічкамі сваіх тугіх узгоркаў; перапляла яго ногі сваімі – і цяжка задыхала, напручваючыся ўсім целам...

Адчула, як соладка закружылася галава і знікла ўвачавідкі цемра. Перад ёю была не цемра, а блакіт неба і зырка свяціла сонца. У той жа момант яна лёгкай птушкай узнеслася над воблакамі, адчуваючы побач Вінцука... Вось яно, шчасце, бяры яго рукамі, вуснамі, дыхай ім, наталяй душу і сэрца асалодай, пі нектар кахання, – і большага нічога не трэба, вышэй за гэта і саладзей нічога не існуе ў свеце...

Так і ўяўляла яна ўсё гэта ў сваіх марах-снах, так яно і рыхтавалася ў салодкім прадчуванні-адчуванні – тады яна прачыналася ў млоснай дрыготцы, адчуваючы, як па ўсім целе разлівалася мройнасць і асалода. Яна ведала – у ёй прачыналася жанчына. Яна яшчэ не разумела, адкуль нараджаўся той агонь ва ўлонні, толькі здагадвалася, жадала, каб ён ператварыўся ў гарачае полымя... А тут трошкі было інакш – натуральна, не ў сне, і каханы побач, якога яна абдымае сваімі рукамі...

Вінцук як быццам пачаў загарацца ад запаленага ёю агню. У ім міжволі з'явіліся іскрынкі жадання, гатовыя былі ўспыхнуць зыркім і гарачым полымем. Яна адчула і зразумела тое. Падказала рухам рукі, каб ён абняў яе, сціснуў у абдымках. Ён і зрабіў тое, што яна жадала, зрабіў можа і няўмела, можа нават па-мужчынску і груба, – але і таго было дастаткова, каб для яе той нядаўні сон паўтарыўся наяве. Яна застагнала, адчуваючы яго гарачае

цела, правалілася ў нейкую прорву, ускрыкнула ад задавальнення і незразумелага болю ў скронях. Уюн, як адчуваючы, што робіць ёй добра, яшчэ мацней сціснуў у абдымках, стараючыся ўтаймаваць яе шал і прыступ незразумелага для яго трызнення... Аксана знемаглася, паклаўшы яму галаву на грудзі, маўчала і цяжка дыхала, пакрысе апускалася на зямлю, ведаючы, што тое было толькі подступам да галоўнага. У тым яна была ўпэўнена, у тым пераканалася ўжо – сэрца падказвала тое.

– Што з табою?

– Нічога – я ж жанчына... І мая бяда, што вельмі кахаю цябе, Вінцук, – прызналася шчыра дзяўчына, – ад аднаго твайго дотыку я згараю на агні, ты ж сам бачыш...

Аксана цяпер была падобна на расплаўлены пад гарачым сонцам воск, яе душа была раскрытая і неабароненая, ды яна і не абаранялася ў гэты момант, ды і не жадала ніякай засцярогі, – яна самахоць імкнулася на эшафот пякельнага полымя...

– Ты ж, мусіць, не ведаеш пра тое...

– Так, не ведаю, бо не прыкмячаў.

– Ты ж Клаўку прыкмячаў, не мяне, – папракнула без крыўды, каб трошкі і пазлаваць яго, праверыць заадно ці правільныя яе падазрэнні...

Словы яе ледзь кранулі, але не кальнулі – гаварыла дзяўчына амаль праўду, мо і пачырванеў ад пачутага, у цемры ж нябачна таго, але ж абыякава прамовіў:

– Глядзеў я, здаецца, на ўсіх аднолькава.

– А цяпер?

– Што – цяпер?

– Цяпер мо пераканаўся, пераканаўся, што ёсць каханне, што я кахаю цябе і толькі цябе, што няма нічога саладзей на свеце як яднанне двух душаў – хлапечай і дзявочай.

– Не ведаю... Выбачай, але гэта так. Я не люблю хлусіць.

– Ну і цяльпук ты, Уюн. Ці як цябе яшчэ абазваць, каб ты прачнуўся, не ведаю. Ты такі спрытны і адчайны быў у школе, ніхто за табою ўгнацца не мог, а тут – ні рыба ні мяса... Цябе дзяўчына амаль сілком зацягнула ў пахучую лугам пасцелю, распранула, чакаючы ўзаемнасці, а ты... А ты, Вінцук, – “не ведаю”... Ці не грэх так адказваць, га?

– Мо і грэх. А мо – і не грэх, – з якога боку на тое паглядзець.

– Ты зноў за сваё, Вінцук, – дзяўчына ўздыхнула, але не адрывала сваё разгарачанае цела ад яго, як старалася пераліць свой народжаны імпэт у яго вены, прымусіць яго падпарадкавацца ёй, яе жаданням і ўнутранаму голасу, – і цябе, мусіць, ніхто не пераробіць... Ведаю, што ні з кім з нашых

дзяўчат не ляжаў вось так на сене. Ведай, што і я нікога не запрашала сюды, і не запрашу, – ты першы прыйшоў да мяне, першы... і – апошні. Я пераступіла цераз самую сябе, цераз свой гонар, праз усе загародкі і забароны, не зважаючы на забабоны і прымхі... Усё дзеля цябе, для цябе, толькі для аднаго цябе, адзінага, абранага і выбранага мною... І вельмі хацела б, каб і ты выбраў мяне сярод усіх, выбраў і ўпусціў у сваё сэрца...

Ён маўчаў. Ён слухаў, але насцярожанасць і пільнасць не пакідалі яго – быў наструнены і халодны. Чакаў, што яшчэ скажа яму начная каханка, якія планы будуе вядзьмарка-чараўніца...

– Ты хоць чуеш мяне?

– Чую. Абдумваю словы. Яны нечаканыя для мяне.

– Ведаю, але я хачу табе пра ўсё сказаць... Хіба ж то грэх, Уюн, калі я паклікала цябе на свой, нікім не таптаны да гэтага, дзівосны луг? То ж, мусіць, шчасце, калі мы ўпершыню абдымаем адно аднаго, ведаючы, што гэта сапраўды грэх. І грэх, пра які ты кажаш, не на табе, а на мне, бо я першая ступіла наперад, насустрач табе, да свайго духоўнага падзення, які нельга назваць інакш як узлёт, узнясенне, але гэты грэх – і маё шчасце. А твой грэх будзе грахом толькі тады, калі ты адпрэчыш гэты падарунак, маё першае цнатлівае імкненне да цябе... Самы вялікі грэх – адмаўляць жанчыне.

– Ты як з кнігі нейкай невядомай чытаеш. Як верш у прозе, – падзівіўся Уюн, – не кожнаму празаіку такія радкі прыйдуць у галаву... Нават майму Багдановічу.

– Твой Багдановіч...

– Не чапай, Аксана, яго... Не чапай. Гэта – святы чалавек, гэта – апостал, якога не могуць кананізаваць ні святары, ні самі пісьменнікі... Пакуль не могуць. Бо ніхто да канца не разумее яго. У яго радках перададзена ўся Біблія. Усё жыццё Чалавецтва. Таму для нас, для нашай размовы, ён не падыходзіць, то – асобная размова, не для сённяшняй начы...

– Добра, не буду чапаць. Згодна з табой. Але ты ўсё роўна як здзекуешся з мяне. Я да цябе з адкрытым сэрцам і душою, а ты... – Аксана паспрабавала пакрыўдзіцца, каб праверыць, як ён аднясецца да гэтага...

Уюноў адказаў не адразу. Вытрымаў паўзу. Не супакойваў яе, а як бы вінавацячыся праказаў:

– Чаму – здзекуюся? Проста дзіўна, як ты знаходзіш такія трапныя словы – я б такіх, напэўна, ніколі і не прыдумаў бы, тым больш і не напісаў бы...

– Бо ты не задумваўся, чаму яны так льюцца з мяне, як са светлай крынічкі вада. Я ж табе казала пра тое... Я і сама з сябе дзіўлюся – ніколі да гэтага не гаварыла так. Мо ніколі ў жыцці болей і не скажу. Праўда, Вінцук, і ты не здолееш абвергнуць тое... То не я гаварыла, то мая душа да цябе гаварыла...

У яе дрыжэў голас. Яна як пачынала плакаць усё роўна ад крыўды, што так адносіцца да яе хлопец. Замест адказу ці сваіх нейкіх наступных неабходных слоў ён знайшоў яе салёныя вусны (сапраўды плакала?), доўга не адрываўся ад іх, яна дала яму свой язык, пашавяліла ім, як падавала знак сваёй адданасці і поклічу за сабой... Ён адказаў ёй, сціснуў язык губамі і вуснамі. І яна тут жа зноў узнёсла ўзмахнула крыламі, узнялася над жытнёвым полем – адчула сябе жураўліхай; з усяе сілы, з усёй моцы клікала з зямлі шэрага жураўля ўзняцца следам, маліла, заклінала, плакала, умольвала, каб і ён далучыўся да яе, адчуў, як і яна, пругкае паветра пад маладымі крыламі... Аксана рабіла круг за кругам над полем, курлыкала і крычала, прасіла, каб ён, Уюн-Журавель, узмахнуў сваімі дужымі рукамі-крыламі...

“Але, мусіць, меў рацыю класік, калі сцвярджаў, што той, хто народжаны поўзаць, ніколі не здолее ўзляцець да нябёсаў, – думаў пра сябе Вінцук, – я буду поўзаць, але ніколі не палячу следам...”

Яна чакала, клікала, аж знемаглася, клічучы яго пад воблакі, і – не дачакалася, і ёй як хто падрэзаў крылы – і яна паляцела назад на зямлю, нават не паляцела, а бездапаможна кумільгалася і ўпала на жытнёвае поле, на маладую збажыну, змяла яе, скуёўчыла, сама ж балюча выцялася грудзьмі аб глебу... І дзікі стогн вырваўся з грудзей – аж перабіла дыханне, і яна ледзьве не захліпнулася без паветра.

Маўчалі і хвіліну, і тры... Чуваць было, як па вуліцы праехала грузавая машына, – выехала на асноўную вуліцу і праз нейкі час гудзенне сціхла.

– Вінцук...

– Што?

– Ты не злуешся на мяне за гэты вечар, за гэтую ноч? – пяшчотна і затоена прашаптала на вуха, слаба кусянула за мочку.

– Не, не злуюся...

– Тады абдымі мяне. Мне зноў чамусьці стала холадна...

Адчувала і чула, што сэрца ў яго білася, як і раней, роўна і спакойна. Тады выходзіла яно так – значыць, да яго не падступалася пажаданасць, значыць, яна не растапіла лёд яго раўнадушнасці і абыякавасці... Таму з усіх сілаў старалася вывесці яго са стану здранцвення і скаванасці, – але ён быў як айсберг, схаваўшы ўсю сваю ледзяную масу пад ваду, і не было ўжо ніякай мажлівасці зрушыць яго з месца...

– Ну, Вінцук... Ты як нежывы сядно. Малю цябе – зрабі мяне жанчынай, бо нячэпанай звар’яцею і нараблю шмат глупства. Не захочаш мяне – я не буду назаляць табе, але цяпер... Зразумей мяне і даруй. Я ад цябе болей нічога не хачу... прашу і малю... ну... Я расчыніла перад табою дзверы – расчыні іх і ўвайдзі ў дом мой... Ну, смялей– будзь мужчынам...

І ён паддаўся, паслухаўся, пайшоў на яе покліч, верачы, што яна сапраўды адхіснецца потым ад яго, – перакуліў на спіну, пачаў цалаваць яе згаладала і напорыста, паказваючы, што ён вельмі жадае яе, прагне яе, сашчаміў рукамі яе тугія і поўныя грудзі, напруціўся, скрыгатнуў зубамі і... абвяў, выдыхнуўшы з сябе паветра натугі. Не змог узляцець. Не прыняў яе запрашэнне. І таму яго падзенне было не такім балючым, як яе...

У другі раз у яе зламаліся крылы, і знікла пад імі тугое і порсткае паветра – зноў бразнулася аб зямлю, але не ў жыта, а ў нейкую лужыну – аж пырскі паляцелі ў розныя бакі. І ў скроні ўдарылі балючыя тупыя іголкі – ад таго, што не знайшла выйсце сваім жаданням, памкненням, задуманаму; сэрца і прага спатолення як бы ўшчаміліся ў шчыліну, а не ўляцелі ў вароты жаданай асалоды; скрыгатнула зубамі, матлянула адчайна галавой, – і нейкі пагрозлівы гук крыўды і шкадобы вырваўся з грудзей. То быў крык адчаю, то быў крык ваўчыцы, якая адчула сябе адрынутай самім важаком зграі...

Ёй бы кулакамі зменчыць яму твар ад крыўды і злосці, праклясці ўголас самымі страшнымі словамі, спапяліць яго ўшчэнт, каб і попелу не засталося ад яго... Але не скідала з сябе Уюна, не біла ў грудзі кулакамі, хаця з апошніх сілаў трымала невыносны боль у скронях – самы балючы боль для жанчыны. Усё ж яна адчувала кволенькую, хаця ж і нерэалізаваную радасць ад таго, што адчувала яго, адчувала, як няроўнымі і гулкімі штуршкамі пакутавала сэрца ў Вінцуковых грудзях...

– Ну што ты, Вінцучок, што з табой, мой каханы? Ну няўжо я такая брыдкая і непрыгожая, што ты адпрэчыў мяне? Чаму, мой каханы, чаму? – Аксана ўжо зноў плакала, не саромеючыся сваіх слёз, нават і не імкнулася выклікаць у яго шкадаванне да сябе, спачуванне, а мо і разуменне таго, што ён самы апошні дурань, калі не пакарыстаўся такім момантам, які не кожнаму хлопцу і выпадае...

– Ды я, Аксана, не вінаваты я... Знянацку ўсё... Не гатовы я да такога, значыць, – як бы вінаваціўся Уюноў, не выпускаючы з рук яе грудзі – не мог чамусьці адарвацца ад іх, як прыклеіліся, як магніт які прыцягнуў да сябе. – Вось так адразу, без... Сама ж бачыш, што і я захацеў цябе – і моцна захацеў... Значыць, не мужчына я яшчэ, а хлапчанё. І даруй за тое... Мо калі іншым разам, як пройдзе нейкі час...

– Калі ж ён прыйдзе той час, Вінцук?

– Не ведаю... Тады я сам табе скажу.

– Звар'яцею я, чакаючы...

– Не падганяй толькі час…

Яна ўздыхнула і лёгка адпіхнула хлопца ад сябе, скурчылася, абвілася вакол яго, абняўшы за спіну і калені. Маўчала... Не гаварыла нічога, чакала,

калі суцішыцца боль у скронях, і яна не ведала, як пазбавіцца ад таго невыноснага болю...

Праз нейкі час з'явілася жаданне зноў раскартурхаць яго, павучыць, навучыць, паказаць, што і як яна хоча, – і ўсё магло б атрымацца, сэрцам адчувала, што так бы яно і адбылося, але баялася канчаткова напалохаць, падвёўшы яго да новай паразы, – і тым самым канчаткова страціць яго... Добра яшчэ што згадзіўся завітаць да яе ў адрынку, – гэта ж, лічы, невялічкая перамога, значны подступ да галоўнага... А калі адзін раз згадзіўся, то захоча і яшчэ... Яна ж здолела разбудзіць у ім першыя промнікі таго патаемнага і інтымнага, без чаго не можа пражыць ніводзін чалавек, тым больш хлопец, у якога аж праз край б'е жаданне авалодаць жанчынай... Ён прыйдзе яшчэ да яе, прыйдзе, і не адзін раз, – яна ўгаворыць яго, закахае ў сябе...

– Ты ж прыйдзеш да мяне яшчэ сюды?

– Прыйду... Я ж казаў...

– Добра. Як у тваёй святой кнізе напісана? "Гора таму, хто кідае на вецер словы. Кара спасцігне таго, калі бязмэтна выпусціў з сэрца словы..."

– Памятаю.

– То і добра. Ты што хочаш цяпер – застацца ў мяне да раніцы ці пойдзеш дадому?

– Пайду я... Маці будзе хваляваецца – танцы ж у клубе скончыліся даўно.

Яна пагадзілася:

– Ідзі, Вінцук, да маці, ідзі. Не трэба, каб яна хвалявалася. Шануй маці. Пацалуй хіба на развітанне...

І сама падсунулася да яго, горычна ўпілася ў губы, доўга не адрывалася. А потым ціха прамовіла, як загадала:

– А цяпер ідзі, Уюн, пасьпяшай. А я тут застануся, тут буду спаць.

Апрануўшыся, асцярожна спусціўся па драбіне на земляны дол – на ток, дзе некалі гаспадары малацілі жыта. Адсунуў засаўку з дзвярэй, прачыніў іх. Але перад тым, як ступіць у двор – на росны мурог, напаўголасу прамовіў у праёміну вышак:

– Аксана, да пабачэння!

Адказу не пачуў. А мо і сказала ціха, ды не даляцеў адказ да яго вушэй.

Адышоўшы ад дзвярэй, агледзеўся. Было ціха – стаяла глыбокая ноч. Нішком пашыбаваў агародамі да вуліцы, якая вяла напрасткі да возера...

## 4

Адбегшыся, Вінцук азірнуўся зноў. У тым баку, дзе была Аксаніна пунька, свяціла міргатлівая зорка. Аддыхаўся, выраўняў дыханне – як стомет-

роўку адолеў. Толькі цяпер затахкала неспакойна сэрца – як прачнулася ўсё роўна, зразумеўшы, якую бяду абышоў. Ды ці і абмінуў яе назаўсёды?

“Божачка, дзякуй, што выбавіў з бяды, – выдыхнуў з сябе паветра, сеў у мокрую росную траву, – ледзьве не ўляцеў у пельку... Каб зрабіў яе жанчынай, то не выбавіўся б з яе сіла ніколі ў жыцці... Як казаў святы Мацвей? “Дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша. Свяцільня целу ёсць вока. Дык вось, калі вока тваё будзе чыстае, дык усё цела тваё светлае будзе. І вось, калі святло, якое ў табе, – цемра, дык якая ж цемра? Ніхто не можа служыць двум гаспадарам: бо альбо будзе аднаго ненавідзець, а другога любіць; альбо аднаго пачне трымацца, а другім будзе пагарджаць. Не можаце служыць Богу і Д’яблу...”

Зорка заміргала яшчэ больш, як быццам падтрымлівала думкі хлопца.

Тое, што ў яго бок даўно зіркала Аксана, ён прыкмеціў, прыкмеціў і – спужаўся. Бо ўсе ў вёсцы ведалі, што маці Аксаны была вядзьмаркай, зналася з чорнай магіяй, як і старая Макушыха, якая і передала ўсё сваё ўменне дачцэ, а пасля і ўнучцы Аксане... І тады ён пачаў баяцца яе. Баяўся яе позірку, яе вачэй. Бо яны кожны раз мяняліся – у залежнасці ад настрою. Маглі быць чорнымі, як сажа. Гэта калі нехта яе мог узлаваць ці не паейнаму выходзіла. Калі ж яна хацела нечага дамагчыся і тое ўдавалася, то вочы рабіліся зялёнымі, як у яшчаркі. Калі ж душа яе была ўлагоджана і калі яе хоць да скулы прыкладай, то тады яна глядзела на свет ужо блакітнымі, бы сінеча неба, вачмі...

Высока ў небе, між міргатлівых зорак, ляцеў самалёт. Пульсуючы чырвоны агеньчык суправаджаў яго ў сузор’і Паненкі, потым выбіўся на Валацужны Шлях, і далей ужо знік у густой плойме дробных зорачак, – толькі слабое гудзенне ледзь-ледзь далятала да зямлі... Глядзеў неадрыўна ў неба, як быццам шукаў там адказы на свае пытанні, якія яго хвалявалі і непакоілі: як не паддацца на спакусы і чары Аксаны Журавель; як выбавіцца з яе цянётаў – нейлонавай мярэжы, але так, каб не ўгнявіць яе, не ўзлаваць, каб тое выглядала натуральна і немусова. Калі ж зрабіць насуперак, то тады чорнымі і гнеўнымі зробяцца вочы, і яна здольная будзе адпомсціць за няўвагу да яе, за крыўду, нанесеную ім, і тады ўжо не знайсці паратунку ад яе гневу. А рабіць тое яна ўмела, не адзін чалавек з Забалацця мог тое пацвердзіць... Як і магла пацвердзіць маці. Аднойчы яна бачыла, як непадалёк ад яе, стоячы ззаду, бы грак, махала рукамі Макушыха – наводзіла на яе сурок, бяду. За што і пра што – невядома... Маці, расказвала, рэзка тады азірнулася, адчуўшы, як па спіне прайшоўся колкі халадок, і тая не паспела нават апусціць рукі – так і застыла з паднятымі. А потым ужо рэзка апусціла, сагнулася, і нішком пашкандыбала прэч...

Маці пасля таго праляжала месяц у ложку – адняліся ногі. І ў бальніцы не маглі даць ніякай рады. Каб не дзед Нікадым, то і невядома, ці хадзіла б яна, ці ўстала хаця б з ложка.

Ён успомніў пуньку – і ўспамін сваёй агіднасцю апёк душу: гэта ж трэба так прыспічыла ёй, што рашылася на такое... У нейкі момант пачаў сам сабе прызнавацца, што ў ім пачалі тады нечакана змагацца два жаданні, і на нейкі момант у ім прачнуўся мужчына, – і тады ж спакуслівае жаданне затлуміла галаву чадным туманам, і ён гатовы ўжо быў рынуцца следам за спрадвечным інстынктам... Але, мусіць жа, нягледзячы на яго волю, тое імкненне было задушана і перапынена, і юрлівы змей не здолеў пачаставацца забароненым плодам, ад чаго звыш меры была здзіўлена дзяўчына. Тады ж і прыйшла радасць, што не ўваліўся ў палонку ці яму, што не зганьбіў, не спаганіў сваю душу, не выпэцкаў яе ў бруд блудніцы-вядзьмаркі, не аддаў ёй у палон. А ці не самае страшнае і агіднае – прадаць душу д'яблу?..

"Ты сёння вылузаўся, Уюн, з яе кіпцюроў, – як не хваліў самога сябе хлопец, адчуваючы, яе млосная радасць разліваецца па ўсім целе, – і радуйся. Але ж і думай над тым, як увогуле знікнуць з яе вачэй. Але як тое зрабіць, здзейсніць? З'ехаць? А куды? З'ехаць ад маці? Альбо разам з маці? Тое ж нельга зрабіць... Але ладна, не трэба цяпер пра тое, ноччу нельга ламаць галаву над такімі праблемамі... Як казаў Максім – "маладыя гады, маладыя жаданні." Будзе жаданне – знойдзецца і выхад..."

З возера чуўся павеў волкага паветра. Не ветру яшчэ, а толькі яго подых, пачатак, яго нараджэнне. Вінцук сцепануўся ад холаду – адчуў яго спінай, адчуў мокрымі, зарошанымі каленьмі; ён укленчыў перад небам і не падымаўся, не ўставаў – адцягваў чамусьці тую хвіліну, як нечага чакаў. Зажмурыў вочы, быццам яго сляпіла дзённае сонца, і прымаў з неба боскае дабраслаўленне, энергію месяца і духоўную сілу...

Ужо даўно аціхла вёска, яе адолеў глыбокі сон. Ні ў адной хаце не гарэла святло. Толькі на калгаснай ферме вуркатаў рухавічок – кульгавы Змітрок падаграваў ваду для ранішняй дойкі. Там гарэў ліхтар, яшчэ – на бетонным слупе каля будынка ашчаднай касы.

Маўчалі пеўні. Яшчэ ніводзін не падаў пакуль свайго голасу. Калі ж падыходзіў да сваёй хаты, здзівіўся і спалохаўся – маці не тушыла ў хаце святло. Чакае яго, хвалюецца? Маўчаў у будцы Рой.

Пераступіў парог і ўбачыў, што маці ляжала на ложку і не спала.

– Чаго так позна, сынок? – прыўзнялася жанчына, глядзела трывожна на яго.

– Ды так – загуляўся. Даруй...

– Дзе – загуляўся? З кім? Праводзіў каго з дзяўчат?

“Гаварыць ці не гаварыць?”

– Праводзіў.

– Каго? Мо Кацярынку Піскунову?

– Не... Раскажу пазней. І параюся заадно. А цяпер спі, не хвалюйся. Больш такога не будзе. А калі будзе, то папярэджу. Сёння нечакана выйшла.

Маці ўздыхнула, адкінулася на падушку. Не стала больш дапытвацца ў сына, захоча, то і сам раскажа, бо ў яго ад яе ніколі сакрэтаў не было... Толькі не разумела, адкуль у яе сэрцы была, не прападала, трывога за сына.

У будцы ўсё ж сонна азваўся Рой – гаўкнуў на некага раз-другі і заціх.

А Вінцук да раніцы так і не звёў вокам. Перад ім стаяў вобраз Аксаны. Рукі і яшчэ адчувалі гарачыню яе налітых маладой жыццядайнасцю грудзей, і ў вушах чуліся, не прападалі словы – словы папярэджвання і трывогі: “Гора таму, хто на вецер словы кідае. Кара спасцігае таго, хто бязмэтна выпусціў з сэрца словы...”

“Вырвалася ж... Паміма маёй волі... Як сама і прымусіла сказаць тое. Але ж і праўду сказаць не мог – наклікаў бы на сваю галаву непапраўную бяду...”

За акном пачынала ўжо шарэць – у шыбы нячутна стукалася раніца.

5

“Уладар цемры!

Зноў звяртаюся да цябе, да тваёй сілы, да твайго голасу! Скажы, што я няправільна зрабіла, што так атрымалася? Я ж адкрыла яму ўсе вароты свае, патаемныя і недаступныя нікому, адамкнула ўсе замкі і выкінула ключы ад іх – у возера спадзявання выкінула, каб ніхто і адамкнуць не змог акрамя яго, майго жаданага... І – не дамаглася свайго... Халодны ён аказаўся, як лёд. Мяне ад дотыку да яго пачаў біць неспатольны калатун. І ў яго, здаецца, было тое ж, але яно падалося мне несапраўдным, і жаданне не пранізвала яго душу і сэрца. Прытвараўся? Баяўся мяне?.. Але ж я не імкнулася дабіцца ад яго толькі таго... Калі б мяне згрызала гэтая спакуса, то я даўно легла б пад любога жанаціка, ці вопытнага ў такіх справах чалавека, і здзівіла б, само-сабой, яго сваёй цнатлівасцю... Тут жа іншае, зусім іншае. Я хачу па сваім загадзе спаланіць душу нескаронага, узяць яго ў добраахвотны палон, а потым паздзекавацца з яго, атрымліваючы асалоду помсты за няўвагу да мяне...”

Аксана не вылазіла з-пад коўдры, але і пад ёй адчувала, як усё цела ўзята холадам – быццам ляжала на снежным нерушы, купалася ў ім, злілася з ім.

У ёй кіпела, прасілася вонкі нерастрачаная энергія і шал, не давала супакаення, працягвала біць праз край... І тады яна, як што ўспомніўшы, рэзка адкінула ад сябе коўдру, села і прыслухалася да наваколля. У шчылінкі франтона яшчэ не цадзілася ранішняе святло, але адчувала, што вось-вось павінен напомніць пра сябе першы певень. Яна баялася пачуць яго голас, і таму пачала спяшацца – хуценька спаўзла па драбінцы ўніз, і голая, як маці нарадзіла, выскачыла ў двор. Агледзелася, ці не было каго навідавоку, таго ж Уюна (яна чамусьці ўсё верыла і спадзявалася, што ён вернецца ці будзе стаяць каля дзвярэй) шырока размахваючы рукамі, як крыламі, пабегла па слядах Вінцука. Сляды выдзяляліся на роснай траве, абазначаліся, як лыжня па снезе, – і яна кіравалася тым следам, лучыла туды, дзе ён ступаў...

Бо Уюн спыняўся і паварочваўся да яе (глядзеў на пуньку, ці думаў, што кінецца наўздагон?), а потым зноў бег, а во і зусім сеў на зямлю – вунь як трава зкалмычана (як конь сядно качаўся), – адпачываў пасля няўдалага кахання, перажываючы за няўмецтва, ці, наадварот, радаваўся, што вырваўся з абдымкаў? Адпачываў, бо вунь далей сляды пайшлі роўныя, спакойныя...

«Уладар цемры і падземнага царства!

Даруй яму яго правіны, не карай, і я пакуль караць не буду. Я ўсё яшчэ спадзяюся, што прыйдзе ён у мае абдымкі, што трапіць у сак лазовы, і я праглыну яго дарэшты, – яна ўзмахвала рукамі, як зграбала ў адно цэлае яго, Уюновы сляды, і кідала сабранае прыгаршчамі ў высокую збажыну, якая ўжо амаль адкаласілася, якую яшчэ не паспеў зламаць і скуёўчыць вецер з дажджом... – так яно і будзе, мой Уладар, абяцаю!..”

Потым пачала качацца па тым месцы, дзе сядзеў Вінцук (прыцягвала да сябе), і з яе грудзей вырываўся віскат задавальнення і асалоды ад колкасці ледзяной расы – яе перапаўняла энергія і жыццёвая сіла. Пасля падхапілася, зноў замахала рукамі, як зноў усё заграбала на сябе, прытуляючы рукі да грудзей, – тады толькі кінулася ўбок, нырнула ў збажыну і зноў упала – пачала ўжо качацца, задзіраць уверх ногі, лежачы і прыпаднімаючыся на спіне, куёчучы жыта ... Цела ўжо не адчувала ні холаду, ні калючай шорсткай травы, нават бадзякоў, што джалілі вострымі іголкамі ўпіваліся – і яно ўжо крывяніла. Яна катавала сябе да знямогі, да памаракі, адначасова звяртаючыся да нябачнага цяню:

“Уладар злых памкненняў і жаданняў! Я ўся ў тваёй уладзе, я ўся падпарадкавана табе – тваім загадам, тваім запаветам. Я ўсё больш і больш адчуваю тваю ўладу над маёй душой і целам, над маім розумам і сорамам... Мне добра, калі адчуваю тваю прыхільнасць і тваю сілу, скіраваную на мяне, – тады мне нічога не страшна... А Вінцук прыйдзе да мяне, прыйдзе, я ўсё

зраблю, каб так яно і адбылося – усе мае думкі пра яго, і тут ужо з сабою нічога парабіць не магу...”

Ляжала нейкі момант на спіне, раскінуўшы рукі і ногі, як абдымала цэлы сусвет, што раскрываўся перад ёю. Пакрысе згасалі зоркі, дзесьці на ўсходзе збіраўся разгарэцца чырвона-жоўты пажар. Аксана, падагрэтая і абуджаная халоднай і колкай расой, змярцвела ляжала на ўскрайку шырокага калгаснага поля.

– Кука-рэээ-куу-ууу! – падаў голас першы певень з бабулінага куратніка.

– Ку-ка-рээ-кууу! – прачнуўся і хрыпла-сонна азваўся суседскі – Паўла Пеліка.

Яна тады схамянулася, як спалохалася, бо не хацела, каб певень заспеў яе ў жыце – слабела ад гэтага яе сіла, – ускочыла з лежбішча і нацянькі, не аглядваючыся, не асцерагаючыся, што яе можа нехта ўбачыць, пашыбавала, не гледзячы, шырака расстаўляючы ногі і разграбаючы рукамі высокае, да плячэй, калоссе. Аксана ляцела, бы спуджаная птушка, за якой цікаваў леляк-коршун, і з-пад яе ног ляцелі ўбакі крышталёвыя, бы ртутныя, пырскі буйнай расы...

“Мой Уладар і мой Пан! Твая сіла заканчваецца з наступленнем святла і з усходам сонца. І ён мацней за мяне днём. Не магу тады я ўздзейнічаць на яго, але як толькі ляжа на спачын сонца, і зямлю ахутаюць шэрыя цені, наступае тады наша пара, – і тады мы ўжо ўладарым на зямлі...”

Дзяўчына ўляцела ў праёміну дзвярэй, перавяла дыханне. Пасля пачала падымацца па драбіне на вышкі. Адчувала ва ўсім целе пругкасць і моц, і здавалася ёй, што цяпер яе не можа зламаць ніякая пабочная сіла. Зноў нырнула пад коўдру. Адчула, што ад таго шалу, які дурманіў і кружыў галаў, зашываўся пад сэрца і салодка-шчымліва апякаў усё ўсярэдзіне, не засталося і следу. Ані кроплі. І яна стала ранейшай Аксанай Журавель, звычайнай дзяўчынай, як і яе сяброўкі – Клаўдзя Нямушова, Зінка Сташкевіч, Алена Войта...

Калі падалі ўжо голас другія пеўні, яна ўжо дрымотліва правальвалася ў цёплае бяздонне, у свой глыбокі дзявочы сон... І нішто яе ўжо больш не турбавала…

## 6

Мальвіна прачнулася, як яшчэ і сонца не паказвала сваіх промняў. Заўсёды яна прачыналася рана – ці то ўлетку, ці ў зімовы час. Так змалку прывыкла, так навучыла яе маці. Яна ж, маці, і расказвала, што нарадзіла яе перад узыходам сонца, і бабуля Антоля, павітуха, трымаючы немаўля ў руках,

пахітала галавой: “Божачка, во ўжо працаўніца будзе – ніколі не праспіць... Дастанецца ёй за жыццё!..”

Як у ваду тады глядзела бабуля: зранку да позняга вечара Мальвіна на нагах. Адна работа зачэплівала другую, другая чапляла трэцюю – і канца таму не было...

Мальвіне пара было ісці на ферму. Там чакаюць яе лысухі, аж дваццаць восем кароў. Раней было ў яе дзве групы, але цяпер не здужае – здароўе не тое, што раней, у маладыя гады, ды і колькі ўжо можна пручкацца на дармака... К д’яблу такую работу! Калі гэта яшчэ і работай завецца – катарга гэта, а не праца... Вінцук яшчэ спаў, смешна адкапыліўшы губу. Яшчэ хлапчук, дзіцё. Толькі пушок пачаў пад носам прабівацца. Дзяўчаты пачалі ўжо на яго заглядвацца. Ды бегаюць адна перад адной, сарокі, то ім задачку няхай растлумачыць, пакажа, як рашаць, то з хіміяй яны ніяк разабрацца не могуць. Ім абы прычына, каб да яго прыбегчы. А ён не разумее, чаго ім не даюцца тыя задачкі, чаго яны такія неразумныя, – і з усіх сілаў стараецца ім памагчы, па пяць разоў піша на паперы і дапытваецца: “Ну, а цяпер усё зразумела?” А ім і не ў галаве тыя задачкі, пырскаюць смехам, кулачком вусны прыкрыўшы, на яго зіркаюць, чакаюць, калі зноў стане тлумачыць... Ох, дзеўчынёхі-дзяўчатачкі, калі пачалі ўжо выпіраць кулачкі грудзей, то ўжо думаеце, што і да хлопцаў пара? Але не ўмешвалася ў іх дзіцячыя яшчэ сустрэчы-вучэлкі, а толькі радасна пра сябе адзначала: “Значыць, добры ў мяне сын, раз да яго дзяўчаты хінуцца...”

Маці ведае, што ён будзе спаць дапазна: у суботу ніякае работы не намячалі. Таму і са сняданкам паспяшаць не будзе: падоіць кароў, пачысціць стойла, выкіне лішкі гною, і адразу ж вернецца дадому. Потым і запаліць у печы, паставіць чыгуны з бульбай... І сняданак нарыхтуе. У суботу сын заўсёды прасіў дранікі. Вось і нагатуе іх, балазе ўжо і падмацаць можна маладую бульбу.  Дарогай разважала: “З кім гэта ён мог так забавіцца? Пад якім плотам прастаяў, шула падпіраючы? А мо і не прастаяў, а праляжаў з каторай – хто іх, маладых, цяпер разбярэ. Але каб не прынесла каторая ў прыполе ды не сказала, каб гадавалі... Ой, хай Бог крые, на такое не здольны Вінцук, не, не здольны...”

На паваротцы да фермы яе дагнала Алёна Барыліна, маладжавая, дзябёлая кабета, маці трох дзяцей, павіталася, весела пацікавілася:

– Як, Мальвінка, жыццё?

– Калі гэта жыццё... Ат, гарую, як і ты – ад цямна да цямна. Што сын з войска піша?

– А што піша – добра ў яго. Служыць. А нам тут – ні прасве-ету, ні прывееету, – зацягнула наіграна сяброўка.

Яна заўсёды была вясёлай, і, здавалася, што яе абыходзіў кепскі настрой. Калі што і здаралася ў яе жыцці, то яна старалася не паказваць і выгляду, у сабе боль насіла, не выстаўляла напаказ. Муж у Алёны механізатар – вёрткі і ўвішны Пятрок, і ёй, Мальвіне, калі дроў падкіне, ведаючы, што жанчына заўсёды пачастуе і чаркай, і шкваркай, галоднымі людзей, што нагружалі і скідвалі дровы, не адпусціць. Ад другіх, калі прыходзіў "пад мухай", то Алёна крыўдавала і нават сварылася, а з-за Мальвіны ніколі не папракала, – сяброўкі ўсё-ткі, з дзяцінства хаўрусавалі...

Загадчыца фермы – Гандзя Асіпчук – ужо на месцы, выглядала даярак у сваім пакойчыку-прыбудовачцы. Ужо і Змітрок даўно на месцы, таптаўся, накульгваючы на нагу, таксама чакаў іх, даўно справіўшыся са сваёй працай.

– Старшыня сварыўся, што ўчора не дацягнулі трыццаць літраў, – сустрэла іх ці то папрокам, ці то крыўдай. – Мо сёння, дзяўчаткі, выраўняемся, га?

Гандзя – чарнявая, хударлявая, блішчаць спераду залатыя фіксы. Твар абветраны, у зморшчынках. У вачах сур'ёзная заклапочанасць – якое-нiякое, а калгаснае начальства.

– Вытрымае твой старшыня, – адказала за абедзвюх Алёна, гэпнуўшыся на лаўку – яна аж зарыпела. Калыхнуліся грудзі, загайдаліся. – Мы можам і ўсе сто, нават і больш, але, як казала цётка Міхаліна, будзе ж тады адна вада...

– От, з табой не пагаворыш, Алёна – на ўсё ты маеш свой адказ.

– А што, я мужык, каб са мною байкі баяць? Маё дзела чыста выдойваць, а колькі там ужо таго малака будзе – адзін Бог ведае. Сёння ж няма ні сацсаpraўнавання, ні павышаных абавязацельстваў... Памятаеш, як было раней? Сама ж даяркай была. Што, мала тады сама вады падлівала, што і запасных мо і кароў не было, га?

– Алёна, – паглядзела на яе ўмольна і з папрокам загадчыца фермы.

– Што – Алёна? Хутка ўжо і сорак пяць грымне, як я Алёна. Дык што ж тады з папрокамі ў душу лезеш?

– Ды не папракаю я...

– А раз не папракаеш, то чаго чэпішся?

Мальвіна ў размову не лезла. Не хацела падтрымліваць ні Алёну, ні Гандзю. Ды ўсё жыццё так было – надоі, надоі, надоі... І з пугаю-паганялкаю з раніцы да вечара... Ды былі б яны, тыя надоі, каб хапала заўсёды сіласу і сена, буракоў ды бульбы, ды каб цёпла было зімою ў хлявах, ды каб ім, даяркам, якая палёгка калі была... А так усё жыццё па калена ў гаўне. А калі дажджы, то па двары фермы не пройдзеш і ў гумовых ботах. А тыя боты ўсіх даярак рамантузам надзялілі – начамі ногі так круціць-выкручвае, што і па-

ратунку няма. Ды ніхто на на тое ніколі і ўвагі не звяртаў – ні старшыня, ні заатэхнік, ні загадчык фермы. Ды і яны што маглі парабіць – нідзе і ніколі ў калгасах і саўгасах не думалі пра тое. А навошта? Вытрымаюць і вытрываюць вясковыя жанчыны – яны ж цягавітыя, як валы, трывушчыя, хоць ваду на іх вазі, у плуг запрагай – рабы яны і ёсць рабы...

Падышлі ўжо і Ганна Процкая – гарбаценькая, невысокага росту, з ёю і сястра Лёдзя Равуцкая – з каштанавымі доўгімі косамі, перавязаныя сіняй стужкай. Павіталіся, удакладнілі, што на дзень трэба зрабіць, – і ўсе разам падаліся ўжо да сваіх хляровоў. Палёгка хоць, што механічную дойку наладзілі. Прыставіш прысоскі – і пайшоў смактаць-пампаваць аўтамат. А раней... І ўспамінаць пра тое не хочацца.

Час праляцеў хутка, непрыкметна. Жанчыны справілі свае клопаты, перакінуліся на развітанне дзяжурнымі словамі – і заспяшаліся дадому порацца па гаспадарцы: і дома хапала тае працы, усяе рабіць – не перарабіць.

Вінцук падняўся ўжо – таксама не любіў доўга залежвацца ў ложку: пераняў, мусіць, працавітасць у маці.

– Ужо не спіш, сын?

– Ды колькі можна спаць? – пытаннем на пытанне адказаў Вінцук. – Бульбы я нарыхтаваў, у чыгунах вада. У печы запалена.

– Во добра, малайчына, – адобрыла і пахваліла маці, – а мы забавіліся трохі на дойцы, таму і прыпазнілася... Есці яшчэ не хочаш?

– Пакуль не. Я трохі дроў пакалю, што парэзалі з Рафаілам. А то ўкамянеюць, і іх потым і калуном не разаб’еш...

Мальвіна адабральна хітанула галавой:

– А я тым часам і сняданак зраблю...

Памылася, прычасалася перад люстэркам. Завязала касынку, каб не заміналі косы, пайшла ў гародчык. У душы жыла радасць за сына. Памочнік. Увесь у бацьку – і тварам, і працавітасцю. Некалі пад вёскай стаяла вайсковая часць. Вайскоўцы нарыхтоўвалі торф для сябе. Завіталі салдаты ў клуб, танцаваць пачалі з дзяўчатамі. Прыглянулася радавому Антону Уюнову дзяўчына Мальвіна – цэлы вечар не выпускаў яе са сваіх рук...

Дэмабілізаваўся – і прыехаў у вёску. Пабраліся з Мальвінай, вяселле згулялі. А праз год нарадзіўся Сымон, яшчэ праз чатыры – Вінцук. Антон даў імя і другому сыну. “Дзед у мяне быў Вінцук – дужа добры чалавек, – хваліўся сваім родзічам Антон, – вось і хачу, каб і сын так называўся...”

Мальвіна не пярэчыла, згадзілася, хаця для яе такое імя было непрывычным – не чула нават такое імя.

Аднаго году Антона прызвалі на нейкія вайсковыя зборы – у Крым павезлі, у горы. І на пяты дзень збораў машына, у якой ехаў Антон са сваімі

таварышамі, праламаўшы загарадку-засцярогу, паляцела ў роў... Ніхто не застаўся ў жывых...

Як прыйшоў прызыўны ўзрост Сымона, забралі яго ў войска. Трапіў у Афганістан. Кожную ноч Мальвіне сніліся страшныя і трывожныя сны – усхоплівалася з ложка і бегла некуды ратаваць яго ад бяды. Вось тады і адбылася сварка з Макушыхай, мо і не сварка, але ж... Дужа непрыемная размова была. З-за дробязі. У краме апошняя буханка хлеба дасталася Мальвіне. А за яе спінай стаяла Макушыха, якую і не заўважыла напачатку.

– Ну, во, і мой хлеб забрала, – не гледзячы на Мальвіну, праказала жанчына – уся ў чорным адзенні, і хустка чорная, і вочы чарней за сажу. – Хіба ж за спрытнейшымі ўхопіш?

– Вазьміце сабе гэтую буханку, цётка Анэля, – знайшлася Уюнова, хацяі разгубілася напачатку, але стала непрыемна, што і сапраўды можа пакрыўдзіла старую жанчыну.

Макушыха толькі бліснула вачмі, як гадзюка прашыпела, мурашкі па ўсім целе пабеглі ў Мальвіны:

– Падавіся ты ім, раз перахапіла!..

Усе, хто стаяў каля прылаўка, нахмурыліся, толькі адна стогадовая бабулька Параска, што жыла ўсё жыццё адна, уступілася:

– Макушыха, і як табе не сорамна, га? Бога над табою няма – пры чым тут Мальвіна, калі табе не дасталося? Няўжо з голаду паміраеш?

Вядзьмарка азірнулася, здзіўлена зірканула на Параску:

– І ты туды ж? Бога нада мною няма? Ну і што, калі няма? Мо ты мне яго дасі? Калі ўжо гаварыць усю праўду, то слухай, Мальвіна, – зноў павярнулася да даяркі. – А Сымонка твой хутка ў вёску прыедзе... Толькі ў срэбным касцюме, што і не разгледзіш яго, як след...

Сказала – і пайшла. Пакінула ў недаўменні і ўдаву, і ўсіх, хто чуў тыя словы.

“У срэбным адзенні? – гублялася ў здагадках жанчына, слёзы вось-вось выступяць. – Ён жа ў зялёнай гімнасцёрцы, на картачцы так зазняты. Што вярзе старая карга, чаго нуду наводзіць?.. Сніўся ж надоечы Сымонка, вясёлы такі, пры гальштуку, у белай кашулі, у чорным касцюме, што купіў сабе на заробленыя грошы...”

Не адчувала бяды, не ўздрыгнула матчына сэрца ад прадчування. Толькі тады, калі ваенкаматаўцы прывезлі срэбную цынкавую труну з Сымонам, зразумела злавесны сэнс прадказання Макушыхі... Людзі ў цывільным загадалі не плакаць. Яны ж загадалі яшчэ не крычаць і не лямантаваць – не паложана, растлумачылі. Загадалі, каб не ставіла ніякага помніка, і тым больш нічога не пісала на ім – калі і дзе загінуў...

Свае былі і землякопы, свае памінкі. Нікога да труны не дапусцілі – толькі Мальвіну і Вінцука, і то на якое імгненне. Калі ж Мальвіна пачала біцца ў істэрыцы і вырваліся першыя словы праклёну Брэжневу і тым, хто паслаў сына на смерць, – ваенны доктар – падслепаваты ў акулярах маёр – мусова зрабіў укол у вену... Яна адразу ж і асунулася на жвір... З тыдзень ляжала ў ложку, не падымалася. Як нежывая была, як не адчувала і не чула нічога – ні болю, ні таго, што гаварылі людзі, што прыйшлі да яе...

У яе адняло мову. Калі ж праз колькі дзён прывезлі з ваенкамата нейкія паперы і грошы, і папрасілі распісацца, яна, не гледзячы ваенкаму ў вочы, шпурнула дзясяткі яму ў твар, сказала, як загадала:

– Вон з мае хаты!.. Сволачы! Прэч! Я праклінаю вас і тую армію, якая пасылае на смерць дзяцей!

То тады першая цынкавая труна прыйшла ў Забалацце. І людзі паўшэптам гаварылі пра тое, што там, у Афганістане, ідзе жудасная вайна, і што тая труна была толькі пачаткам таго, што павінна было быць...

У хату зайшоў Вінцук – потны, вясёлы, спытаў з парога:

– Дзе ручнік?

Маці дастала з шафы  льняны ручнік, якім ён любіў выцірацца, падала:

– Мыйся хутчэй – ужо і сняданак на стале.

– Добра. Вось цяпер паснедаю з ахвотаю.

Праз акно бачыла, як сын фыркаў каля мыцельніка, які прымацаваў некалі Сымон да бярозы – падстаўляў галаву, ліў сабе на спіну, але не ўтрымаўся – і цэлае вядро выліў на сябе...

На стол паставіла патэльню, у якой сквірчэў вялікі і тоўсты дранік – са шкваркамі, з цыбуляй. І гладыш з кіслым малаком – запіваць.

Села на лаўку, задумалася.

“Дык з кім жа гэта, цікава, учора праводзіўся Вінцук? А мо? Не дай, Божачка такога, у імя Айца, і Сына, і Святога Духу...”

Жанчына перахрысцілася на абразы. Прачытала малітву, папрасіла Бога заступіцца, адвесці бяду ад яе і ад сына, укленчыла перад абразамі...

7

Паштовая машына прывезла з Мазыра пошту. Вадзіцель выгрузіў перанітаваныя шпагатам пакеты з газетамі і часопісамі, некалькі пасылак і бандэроляў.

– Бывайце, да заўтра! – ускінуў развітальна руку Васіль Лісун, пайшоў да кабіны, завёў рухавік і пагнаў машыну да Зялёных Дубоў, потым скіруе на Махнавічы...

Паштовыя работнікі пачалі адбіраць і сарціраваць прывезенае, складваць на адпаведныя палічкі, каб потым паштальёны змаглі забраць сваё і разнесці па вёсках.

Месца Аксаны Журавель было каля акна. За ім шырокімі лістамі шапацеў клён. Аксане трэба было адабраць пошту для трох вёсак – сваёй, Забалацця, і суседніх – Турбінкі і Крушнікаў. І потым усе гэтыя вёскі аббегаць, разнесці людзям газеты, пенсію, пісьмы... Калі ж скласці разам кіламетры, якія яна адольвала кожны дзень, то назбіралася нешта каля дванаццаці кіламетраў.

Аксана сябравала з Любай Аніськовай, Кацярынай Шагуновай і Веркай Дранік. Як і Аксана, дзяўчаты скончылі школу, а далей вучыцца не пажадалі – не захацелі, як яны казалі адна адной, сушыць над кніжкамі мазгі.

У Веркі кірпаценькі носік, кучаравыя косы (наўжо завівае іх штодня?), а галасок шчабятухі – сотні песень ведае, спявала прыгожа. Яна адна з усёй кампаніі ездзіла паспытаць шчасця ў тэатральны інстытут, ды аднаго бала не дабрала – сказалі-параілі, каб праз год прыязджала, нават прозвішча яе ўзялі на заметку, паабяцалі, што прымуць вучыцца яе на артыстку... Дык дзяўчаты інакш і не завуць яе, як Верка-артыстка.

Пісем было няшмат – з дзясяткаў тры. Адно ёй кінулася ў вочы – адрасаванае было Уюнову. Ёкнула сэрца – ад каго? Ад дзяўчыны? А яна, Аксана, і не ведала пра тое. І тут жа чырвань падступілася да твару – ці то крыўда, ці то незразумелая злосць авалодалі ёю. Адрасатка была з Кіева. Нейкая А. Камок.

“Аксана, Алёна?.. Хахлуху займеў сабе?! Я табе пакажу хахлуху, век помніць будзеш...”

Як расклеіць канверт, ды так, каб пра тое Вінцук не здагадаўся, Аксана ведала добра. І таму дарогай, адышоўшы ўжо ладна ад вёскі, акуратна расклеіла канверт – пахукала на склееныя палоскі, пасля дзюбкай алоўка пакруціла ў шчылінцы і правяла па склейцы далей – і канверт пагатоў, раскрыўся...

“Дарагі Вінцук і твая матуля Мальвіна! Піша вам Адам Камок. Невядомы для вас чалавек. Я быў з тваім бацькам і вашым мужам, шаноўная Мальвіна Язэпаўна, на тых праклятых зборах... Сам я з Маладзечна. То я пазней перабраўся ва Украіну – так склаліся абставіны...”

– Фу ты, чорт! – усклікнула паштарка, скідваючы з сябе шматтонны груз недаверу і крыўды. – І трэба ж мне падумаць пра такое!

І ўжо вагалася – чытаць далей ці не, бо пра галоўнае ж, што яе непакоіла, яна даведалася ўжо. Але цікаўнасць узяла верх, і позірк міжволі пабег па радках...

“І я быў у той машыне. Нас вёз узбек, першагодак, які мо і стырно ніколі не трымаў у руках. Чаму яму даручылі весці машыну з людзьмі на такіх крутых дарогах – невядома, мусіць, нікому галава за тое не балела. І ён таксама, небарака, загінуў, – а ўсіх нас было пятнаццаць чалавек... Мяне шпурнула на дрэва, астатнія высыпаліся з кузава і паляцелі на камяні...

Мы з Уюновым паспелі пасябраваць. Мне ён падабаўся сваёй разважлівасцю і гаспадарлівасцю. Мы і спалі з ім побач у палатках. Ён шмат расказваў пра вас, ён быў, як мне падалося, шчаслівы з вамі...

Я ж і не сказаў – то ж я пазнаёміўся з вашым земляком Віктарам Барыліным. Выпадкова, як прыязджаў на пабыўку да сястры. На базары пазнаёміліся. Віцька яблыкі купляў у маёй сястры. І пачуў я адно слоўца, якое чуў ад Антона. У мяне аж сэрца ёкнула. Спытаў, адкуль хлопец. Ён і назваў вашую вёску, назву якой я перад гэтым запамятаваў – ці то Зацішша помнілася, ці то Завышша, а, аказваецца, Забалацце. Тады я і спытаў, ці ведае ён Уюновых. “Ды праз пяць хатаў ад мяне жывуць, а з Вінцуком мы лепшыя сябры, – адказаў радасна салдат. – І цётка Мальвіна для нас не чужая...”

Расказаў яму пра зборы. А ён мне паведаміў страшную вестку, што не стала вашага Сымона, – што мне найбольш і апаліла душу, – Божа, за што такія пакуты і гора на вашыя душы?!

З-за таго, што не запомніў вашую вёску, і не пісаў вам раней, прашу даравацьь. Я пасля таго доўга ляжаў у шпіталі – ударыўся галавой аб скалу...

Таму не ведаю нават і цяпер, чаму пішу вам. Суцешыць? Дык наўрад ці я здолею тое зрабіць. Пацвердзіць, што Антон быў дабрачым і шчырым чалавекам, дык тое вы і самі ведаеце, нават лепей, чымся я. Але ж у глыбіні душы нехта – ці не сам Бог – падказвае мне, што мае радкі могуць быць, хаця і вельмі нязначнай, маленечкай, але неабходнай кропляй духоўнай падтрымкі. Веру ў тое, што так яно будзе і сапраўды, бо што ж мы тады адзін без аднаго... Але ж і даруйце, калі мае радкі прынясуць вам новы боль ад успамінаў, бо ён, боль, для вас ніколі не аціхне...

Тады, як мы ўпалі, як я завіс на дрэве і праз колькі секунд ачомаўся, паспрабаваў злезці – ды сарваўся, паляцеў уніз, на выступы скалы... З гарачкі кінуўся ратаваць жывых і пакалечаных.

Жахлівым было відовішча... не буду пра яго расказваць... Тое мне сніцца амаль кожную ноч, і я прахопліваюся кожны раз, крычу і ратую, ратуюся сам... Антон быў яшчэ жывы, калі я падпоўз да яго. Але ў яго быў распораты жывот – кішкі вываліліся на камень. Я прыпадняў яму галаву, кажу, што неўзабаве прыедзе “хуткая” і выратуе яго... “Ніхто мне, Адам, ужо не дапаможа... Нас узялі, каб забіць, мы ж дамы толькі будавалі генералам і дачы, –

якія ж то зборы... Шкада, што так недарэчна атрымалася. Шкада Мальвіну, Сымонку і Вінцука – як яны будуць без мяне?..” Потым уздрыгнуў, закалаціўся – і заціх. Я і заплюшчыў яму вочы... Тады мо ўпершыню я заплакаў. Быццам страціў роднага і блізкага чалавека, хаця за кароткі час ён мне і стаў такім... Напэўна, я і напісаў вам для таго, каб перадаць вам яго апошнія словы, якія ён прамовіў...”

Нешта было напісана і далей, на паўстаронкі, але паштарка не захацела чытаць далей. Было жаданне спаліць тут жа пісьмо, каб не змаглі яго прачытаць ні сын, ні Мальвіна. Сама сабе не магла вытлумачыць, чаму ёй так хацелася зрабіць – у лісце ж у адносінах да яе не тычылася нічога. Але ж сама сабе прамовіла:

– “Усе саграшылі, і таму пазбаўлены славы Божай”, “Усе мы блукалі, бы авечкі, і таму спакусіліся кожны на сваю дарогу”, “Плата за грэх – смерць...”

Дзяўчына заклеіла канверт, паклала ў пашарпаную паштарскую сумку. Але не разам з астатнімі канвертамі, а ў асобную, патайную перагародку...

Абабегла Турбінку і Крушнікі, але не ў кожную хату завітвала – не ўсе падпісвалі газеты: не хапала на тое грошай, і не кожная хата чакала канверт з лістом ці паштоўкай.

А пад абед ужо вярталася ў Забалацце.

У апошняй хаце, дзе жыў дзед Макар, аддала пенсію. Пасля – бабулі Настазі – Насці, дзеду Міхасю... Далей занесла “раённую брахалаўку”, як казалі ў вёсцы, даяркам Алёне Барылінай і Ганне Равуцкай. Далей ужо шлях ляжаў да Вінцука – выпісваў абласную, якую таксама называлі гэтак жа, як і “раёнку”.

Хлопец акурат быў у двары – папраўляў складзены радок паколатых дроў.

– Добры дзень, Уюн! – павіталася весела паштарка, падышоўшы нячутна да веснікаў. – Адпачні мо трохі, а то перататаміўся, мусіць...

Ён аднёс абярэмак бярозавых паленцаў да штабеля, шпурнуў іх у агульны радок – яны і ўклаліся акуратна адно да другога, што і не трэба папраўляць. Потым падышоў ужо да Аксаны, якая сядзела на лаўцы, скінуўшы з плячэй сумку і паставіла каля ног.

– Неператаміўся, – выдыхнуў з сябе паветра і сеў побач. Узяў у рукі ручнік, выцер твар – на вуліцы была задуха – а ты ўжо адмахала свае кіламетры, стамілася, мусіць?..

“Лепш бы ты на мне натаміўся, – хацелася сказануць яму, але змоўчала, не хацела выглядаць разбэшчанай, прыжмурылася, паглядзела на яго – выпіралі мускулы на руках, грудзіна наліта маладой сілай, – а то толькі і траціш сваю сілу на дровы... Дурань...”

– Ды ты і пашчыраваў, бачу, – кіўнула на гару паколатых дроў. – Маці пахваліць.

– Хіба ж за такое хваляць? – засмяяўся ён, кінуўшы на плот ручнік.

– І то праўда... А дзе ж маці? – пацікавілася паштарка, хаця ж выдатна ведала, што жанчына была на ферме, расцягвала размову, каб даўжэй пабыць побач з хлопцам, хацелася, каб паміж імі ткалася, звязвалася нябачная, хаця ж і слабая, вяровачка-нітачка, якая павінна была перарасці,ператварыцца ў добрую вяроўчыну, каб залыгаць маладога і ўпартага бычка за рожкі і не выпускаць ніколі са сваіх рук.

– Дзе ж ёй быць – кароў даіць. Хутка павінна прыйсці.

– На, вазьмі сваю “праўду”. У ёй столькі праўды, казаў дзед Максім, як у мяне шчасця. Ты ж нешта дасылаў ім, Вінцук?

– Дасылаў.

– Што, калі не сакрэт?

– Вершы.

– Вершы? – падзівілася шчыра Аксана. – Ты ж, здаецца, ніколі і не пісаў вершаў.

– Пісаў. Толькі для сябе. А вось цяпер рашыў даслаць, праверыць сябе.

– А пра што вершы, Вінцук? Пра каханне можа?

– І пра каханне. Але найбольш пра прыроду і пра сённяшняе жыццё. Пра Чарнобыль, які зглуміў і згубіў наша Палессе, пра тое, што ў душах людзей сёння пустэча, што замест Бога ў кожным пасяліўся Сатана...

– Не надрукуюць. Не дадуць.

– Што – не дадуць? – не зразумеў хлопец.

– Я ж кажу – не надрукуюць такіх вершаў. Газеце не пра тое трэба. Ёй трэба пра шчаслівае жыццё, пра тое, што нам сёння стала жыць весялей, што сам Бог паслаў нам такога кіраўніка, і што без яго – нам капцы...

Ён здзіўлена паглядзеў на яе. Гаварыла яна, як нейкі літаратурны крытык, да якога папалі яго вершы, – упэўнена і пераканаўча.

– Ды сам ведаю, што ім трэба. А пра тое пісаць не магу, не ўмею...

– Ну і не пішы, – няўцямна паддакнула паштарка. – Пра каханне пішы, пра маю пуньку... Пра каханне ўсе газеты любяць вершы.

Вінцук разгарнуў газету, прапусціўшы міма вушэй “пра пуньку”, прабегся позіркам па загалоўках, па радках артыкулаў, уздыхнуў:

– Адно і тое ж – пра гной, што вывозяць на палі, пра даярак, пра рабочых... Але найбольш пра забойствы і гвалтаванні, пра крадзяжы, смерць і кроў...

– А ты зусім не чытай.

– Мо ты і праўду кажаш... Слухаў бы “Свабоду”, ды мой прымач не ловіць – слабы, новы трэба набыць.

– Ну, табе не дагадзіш – то сала падавай табе са шкуркай, то без шкуркі, – ці то падкалола, ці то добразычліва пасміхалася з яго Аксана.

– І па радыё тое ж самае, і па “яшчыку”. Як Сатана ўсё роўна правіць баль – суцэльная хлусня і вакханалія... Нічога беларускага не пачуеш, адны запраданцы на тым радыё сядзяць – чёкаюць і рёкаюць на чужы, суседні, лад. А на сваёй мове як усё роўна саромеюцца гаварыць...

“Аддаць ці не аддаць яму ліст? – пыталася ў самой сябе дзяўчына. – І аддаць хачу, і не аддаць хачу. А мо не сёння, а заўтра аддам яму – будзе прычына завітаць?..”

– Можа і так, – згадзілася субяседніца, а спытала зусім пра іншае. – Вінцук, а як ты пасля пазаўчарашняй начы?

Спытала паўшэптам, затоена, як быццам баялася, што яе мог пачуць хто староннi з вуліцы.

– А што? – наструніўся хлопец, уперыўся ў яе позіркам. – Што павінна было адбыцца? Нармальна ўсё. Чаго пытаеш?

– Ды так. Я не магла пасля доўга заснуць... Перавярнулася ў маёй душы нешта. Спачатку перажывала, дакарала сябе, што мо і няправільна, што рашылася на такое, але потым махнула рукой – а, каму які клопат да нас і да мяне... А цяпер дык і прыемна ўспомніць – соладка цалуешся, аж галава кружыцца...

Ён пахітаў галавой, усміхнуўся:

– А я як забіты спаў.

Хацела спытаць яшчэ і пра тое, ці прыдзе ён зноў да яе і калі, але перадумала, хай апамятаецца, прызабудзе тую ноч. Хай яму самому захочацца дзявочай цнатлівасці і пяшчоты, хай сам напросіцца – вось тады і будзе свята ў яе сэрцы...

– Ну, то мне пара ўжо, – устала з лаўкі Аксана, абдзёрнула на сабе жоўта-зялёнага колеру сукню, закінула ямчэй за спіну сумку, паглядзела на Уюна, як чакала, што скажа нешта ёй значнае і пэўнае, але хлопец маўчаў – быў нейкі заклапочаны, пануры, але стараўся быць уважлівым да госці, – а то хутка і маці твая з’явіцца. А з ёю сустракацца мне не след – каб не падумала чаго...

Вінцук падняўся следам, пастараўся супакоіць:

– А што ёй думаць? Што газету прынесла? Дык ты носіш амаль кожны дзень. І вось што яшчэ, Аксана. Я хачу завітаць у тваю пуньку, але толькі не цяпер. Пазней. У маёй душы нешта абрынулася, і я стаў бязвольны і бяссільны. Таму не падганяй...

– З-за мяне “абрынулася”? – прыкусіла язычок, правяла па асмяглых сакаўных вуснах, крутанула паўнаватым азадкам.

– Ды не, да цябе яшчэ... Ад школы. А мо і раней, як брата не стала...

– Вінцук, адкажы на такое пытанне – а чаму ты не спрабаваў куды-небудзь паступаць? Вучыўся ж добра... Мо і я за табой следам паехала б вучыцца.

– Маці не хачу адну пакідаць. Ведаеш жа, што яна хворая. А ты чаго не паступала?

– Цябе не хацела згубіць, – яшчэ больш прыкусіла ніжнюю губу, яшчэ больш гарэзліва і какетліва зіркала на яго. – Не верыш?

– І ты так проста расказваеш мне пра гэта? – Вінцук уперыўся ў яе позіркам, як праверыць хацеў, ці вытрымае, ці адвядзе вочы, тым самым выдаўшы сваю хлусню. – Раскрываеш сваю тайну?

Яны набліжаліся адно да аднаго, зрэнкі ў зрэнкі, аж затаілі дыханне, стараліся перасіліць позіркам адно аднаго... Гэта было як бы і жартоўнае змаганне-барацьба, недзе нават і дзіцячае – так усе рабілі ў маленстве, але праз хвіліну гэта ўжо мала нагадвала жарт... Аксана скіравала свой позірк у пераносіцу – адразу ж і скавала яго волю і мову, – і ён здранцвеў, акамянеў і ўжо не мог рухацца. Яна магла, недзе ўжо ў глыбіні душы і хацела яго пакінуць у такім стане, каб адпомсціць за здзекі з яе, і тады ўжо ніхто на свеце не здолее раскартухаць яго і ўліць жыццё, – але пашкадавала яго... Заплюшчыла вочы, выдаўжыла руку, паклала далонь на галаву.

– Ачніся, Уюн! – крыкнула, загадала яна ўладарна, катурхнула за плячо. – Што з табой, Вінцук?

Толькі пасля яе слоў ачомаўся, лыпнуў вачыма, недаўменна глядзеў на дзяўчыну, не разумеў толькі, чаго яна стаіць супраць яго, выціснуў з цяжкасцю з сябе словы:

– Ты? Калі прыйшла?

– Даўно прыйшла, Вінцук, даўно. Толькі не жартуй болей так са мной, добра? Не люблю я гэтага, калі са мной так жартуюць...

Убачыла, як на даляглядзе паказалася Мальвіна, таму заспяшалася, хутка развіталася і пайшла амаль подбегам ад двара Уюновых.

– Бывай, Уюн! – ужо з вуліцы памахала яму рукой, але на твары не было ні ўсмешкі, ні зычлівасці.

– Бы... бы... вай...

Ён быў разгублены і абыякавы, усё яшчэ не мог апамятацца, зразумець, што ж адбылося толькі што, як быццам калоў суткі без пярэдыху дровы. Глядзеў як скрозь туман уздоўж вуліцы, цьмяна бачыў, як аддалялася ад яго паштарка, як кіравалася да старых ліпаў, дзе жылі старыя Макар і Ліжбета – панесла ім пенсію.

У бок Мальвіны Аксана і не азірнулася, як і не ведала, што тая набліжаецца да хаты і пільна глядзела ёй услед...

Калі Мальвіна зайшла ў двор, убачыла, як сын сядзеў на лаўцы, прыхінуўшыся да плота, зажмурыў вочы, цяжка дыхаў.

– Што з табою, сын? - перапалохалася Мальвіна.

– Мусіць сонца напякло на галаву, – супакоіў яе Вінцук, – ды і сякерай намахаўся...

Жанчына нічога не сказала, толькі пахітала галавой, і колькі разоў міжволі зірканула ў той бок, куды падалася паштарка.

… Людка прыйшла ў залу танцаў не першай, але і не апошняй.

Насцярожана азірнулася, павадзіла быццам бы безуважным позіркам па людзях, – вызначыла, што мужчынаў больш, чым жанчын.

“Гэта добра, – адзначыла пра сябе, – гэта абяцае ёй быць у гушчыні падзей... Ну, Аксана, праверым твае чары...”

Выбрала ўсё ж зацішнае месца, каб асабліва і не выпінацца, як перад гэтым – тройчы, цяпер жа захацелася быць непрыкметнай і незаўважанай. Але калі прароцтва суседкі не здарыцца, яна непрыкметна выйдзе, і больш ужо туды ніколі не зазірне. Калі ж пачуліся першыя гукі вальса-знаёмства, з купкі мужчынаў, што стаялі каля дзвярэй, аддзяліўся адзін – у светлым касцюме – бадзёра, размашыста накіраваўся праз усю залу...

“Ніштаваты мужчынка, – паспела адразу ацаніць яго вартасці Людміла Дамінікаўна, – і не стары яшчэ, так сказаць, у самым саку...”

Яна і не паверыла – ішоў, абміноўваючы жанчын, напрасткі да яе.

“Няўжо да мяне? Не можа таго быць...”

– Дазвольце? – кавалер галантна схіліў перад ёю галаву – падаў руку, як збіраўся перавесці яе па кладцы на другі бераг раўчука.

Людка паважліва заўсміхалася, тым самым даючы згоду, адначасова радуючыся, што ў яе цяплела на сэрцы, адзначыла яшчэ, што Аксана, мусіць, сапраўды чараўніца, бо яна, выходзіць, запраграмавала гэты вечар...

Паперадзе мужчыны выйшла на сярэдзіну залы. І тут жа яе спадарожнік адразу падхапіў яе сваімі дужымі рукамі, як абвіў яе, абвалок мройным туманам, – павёў па зале лёгка і артыстычна, адначасова горда ўзняўшы да люстраў галаву...

Яны першымі і адкрылі той вечар. За імі выйшлі астатнія пары, і Людка падумала зноў пра такую метамарфозу: “Адкуль яна ведала, што так усё і будзе?” Калі накружыліся ўдосталь, калі перайшлі на ціхі рытм, незнаёмец цесна прытуліў сваё сцягно да яе, – у яе адразу пераняло дыханне, і твар заружовіўся, злёгку закружылася галава...

– І як жа вас, шаноўная, зваць-велічаць?

– Люд... Людміла Дамінікаўна. А вас?

– А мяне Хрыстафор. Хрыстафор Апанасавіч! Даўно прыехалі?

– Ды чатыры дні ўжо.

– І адкуль прыехалі, калі не сакрэт?

– З Гомля. А вы?

– А я з Менску. Таксама чацвёрты дзень адпачываю, але чамусьці да гэтага вас не заўважаў...

– Не было жадання танцаваць. У пакоі сядзела – ад кніжкі цікавай адарвацца не магла, а так на прыродзе гуляла...

Людка адчувала дужыя рукі, ад Хрыстафора патыхалі нейкія невядомыя, але прыемныя, мужчынскія духі. Не несла гарэлкай, і дыханне, як кажуць дыктары тэлевізіі, было чыстае і свежае.

– Чым сёння пасля танцаў займацца будзеце? Мо да мяне зойдзем – я адзін жыву ў люксе, каньячком пачастую марачным.

– Марачным? – узняла дугой чорныя броўкі жанчына, шырака раскрыла вочы. – Люблю марачны. Вельмі-вельмі. Я згодна.

– І лады, – задаволена адобрыў Хрыстафор, і з узнёслым настроем кружляў яе па зале.

Але калі зайгралі наступны танец, то Людка Хрыстафору ўжо не дасталася – абагнаў яго спрытнейшы мужчына, што стаяў збоку, не пытаючы дазволу, вырваў яе з натоўпу, пацягнуў на сярэдзіну залы, прытуліў да сваіх грудзей. А яна і не адсоўвалася ад яго, наадварот, яшчэ мацней прыціскалася – як дражнілася, як намякала, што ёй прыемны яго грубы дотык...

– Мяне Сцяпанам завуць, а цябе як?

– Людка я, Людміла!

Трэцім запрасіў вясёлы мужчына, назваўшыся Барысам, за ім Віктар...

Пасля іх неяк зноў уціснуўся Хрыстафор. Нават вымову зрабіў Людцы, што так абышлася з ім, заслужаным чалавекам, крыўдліва падцяў губу, папракнуў:

– Я ж, Людміла Дамінікаўна, ад чыстага сэрца – спадабаліся вы мне вельмі, а вы вунь як – з усімі пайшлі танцаваць... Я люблю пастаянства. Дык можа давайце збяжым з гэтых танцаў – прама цяпер, га?

– Хрыстафор, дарагі мой, – уключыла Людка свае чары, перайшла бесцырымонна на “ты”, адчувала сябе ўжо як растоплены пад сонцам кахання воск, ёй з усіх пачаў падабацца Віктар, але як бы і не праляцець – такі поспех! – Давай яшчэ трошкі патанцуем – і тады збяжым да цябе, бо я так даўно не танцавала – хачу ногі размяць... Давай, Хрыстафорык, яшчэ трошкі пабудзем, добра?

– Ну, ладна, – неахвотна злітаваўся ён, – тры танцы будзе досыць з цябе?

– Дастаткова! – прымружыла вочы, кіўнула Людка галавой, узяла яго за руку, каб супакоіць, не выпусціць з рук сініцы, зноў падумала: “Божа, як такое можа быць – тры вечары ўсе былі сляпыя, ніхто і не падыходзіў, а тут аж вочы разбягаюцца – адзін прыгажэй за другога... Але як выбраць аднаго з іх? Але чаму менавіта – аднаго? З гэтым добра будзе сёння, а з Віцем заўтра... А чаму б і не? Чым я не заслужыла такой павагі і ўвагі з боку мужчын?”

Але зацягнуў да сябе ў ложак Людку не Хрыстафор, а той жа Віктар, якога і выбрала яна сама сярод усіх. Танцаваў ён з ёю трэці, як і абяцала, апошні танец, а потым нечакана схапіў за руку, як загадаў, як меў поўнае на тое права:

– Пайшлі адсюль! На сёння танцы скончыліся. Зоймемся чым-небудзь цікавейшым!..

А Людцы і даспадобы яго словы, яго загад, яго ўладарнасць, і тое, што само сабой усё і вырашылася, – ёй і галаву цяпер ламаць не трэба пра тое, да каго прыхінуцца. Падняліся на трэці паверх. Віктар, злёгку хістаючыся, дыхаючы на яе пахам гарэлкі, расчыніў перад ёю дзверы свайго пакоя:

– Запрашаю, Людка, Людміла Дамінікаўна! Вечар танцаў будзем працягваць тут!

... Прыйшла да Аксаны пад раніцу.

Дзяўчына яшчэ спала, але дзверы пакінула незамкнёнымі. Яшчэ гадзіну можна было паляжаць да таго часу, як усім уставаць. Тое Людка і зрабіла. Легла – і праваліласяў сон. Першы такі сон за ўсе ночы, як была ў санаторыі.

– Падымайся, Людка-сяброўчка, бо і абед праспіш, як і сняданак праспала!

Над ёю схілілася Аксана, усміхалася, кранула лёгка за белае гладкае плячо, села побач.

– Натамілася за ноч?

– Мг... Ненасытны нейкі папаўся, выбачай за шчырасць, бо з дзяўчатамі пра такое не гавораць... І вокам не звяла ўсю ноч. А ты тут адна была?

– Адна.

– І на танцах цябе не бачыла чамусьці.

– То я табе танцы ўступіла. І кавалераў усіх. Ну, як, было ўсё так, як я паабяцала табе?

– Так, усё так. Як і дзякаваць табе, не ведаю. Аддзячыць як?

– А навошта мне дзякаваць? Не думай кепска пра мяне – і таго дастаткова. Мы ж з табой – аднаго поля ягадкі.

Людка не зразумела дзяўчыну, яе выраз пра поле і ягадкі. Не прыдала проста значэння, бо з вялікай радасцю адчула, што ёй больш нічога не пагражае, і не будзе ў яе больш турбот.

– Я і так думаю з удзячнасцю. А ты каго-небудзь сабе выбрала? – затоена спытала Людка, разумеючы па-свойму, што Аксана ведае толк у гэтай справе, бо распараджацца чалавечымі душамі і думкамі не кожнаму дадзена...

Чараўніца павярнулася зноў да акна, уздыхнула. Яна ніколі і ні з кім так шчыра не гаварыла – не мела ў тым патрэбы, ды ці і адкрыеш сваю душу перад сваімі аднавяскоўцамі? Перад кім? Не зразумеюць, ды можа і правільна, бо яшчэ больш пасля прызнання пачнуць ненавідзець і за вочы абгаворваць. Адзіны субяседнік у яе – Уладар цемры, ды і ён, калі на тое, не паспачувае, а толькі папракне, што раскісае яна, што няма ў яе неабходнай злосці і жорсткасці...

– У тым і боль мой, што не магу тое зрабіць. Не таму, што не ўмею, а ад таго, што тое шчасце, якое я здабуду, будзе толькі мной заваяванае. А я не хачу такога. Я хачу, Людка, каб у яго самога прачнулася тое вялікае пачуццё, і ён сам, без майго прымусу і ўдзелу, сказаў мне тыя адзіныя пяшчотныя і шчырыя словы, каб узляцела я разам з ім на тое сёмае неба... Тады я страціла б сваё ўменне і свае здольнасці кіраваць не толькі яго сэрцам і душой, але і ўсіх людзей – тады я перастала б рабіць агіднасці і парвала б дружбу і стасункі з Уладаром цемры... Ён бы, Вінцук, растапіў бы мяне сваім каханнем-полымем, і я стала б такой, як і ўсе жанчыны, стала б маці і жонкай, паслухмянай і цнатлівай, пяшчотнай і дабрачай...

Людка яшчэ больш падзівілася, пачуўшы такое нечаканае прызнанне. Не разумела ўсяго і таго, пра што казала Аксана Журавель, вясковая паштарка, але тое, што яна адкрылася так шчыра перад ёю, палохала нават, наводзіла ў душу нейкі незразумелы страх, насцярожанасць – перад ёю была не проста дзяўчына, не проста прадстаўнік сувязі, а прадстаўнік нейкага іншага роду чалавечага, але якога менавіта – баялася нават згадваць і думаць, бо яна прачытае яе думкі, – а прасіла ж, патрабавала нават, каб думала пра яе толькі добрае... А як скіруеш свае думкі так, каб яны падабаліся, каб былі прычасаныя, добрыя і светлыя? А яны ў Людкі як патырчакі – тырчаць у розныя бакі: і так, і гэтак, і гэтак, і так... Вялікія намаганні трэба, каб выраўняць іх, прывесці ў патрэбную ці неабходную адпаведнасць. Ніколі не задумвалася яна над сказанымі словамі, над сваімі думкамі і жаданнямі, – патрэбы такой не было, а тут упершыню ў жыцці сутыкнулася з гэтым і зразумела пра сябе – не, не ўмее яна кіраваць і стрымліваць свае эмоцыі, плыве па жыцці, не кіруе сваім караблём, не трымае штурвал у руках, бо ёй падабалася жыць – як набяжыць...

– Дык жа табе вельмі цяжка жыць, Аксанка! І ты, мусіць, вельмі няшчасны чалавек.

Суседка не адрывалася ўсё яшчэ ад акна, як што пільнае ўгледзела там для сябе, глыбока ўздыхнула, хітанула галавой:

– Так, Людміла, цяжка. І вельмі...

– Выбачай за дурныя словы...

– Але ты не шкадуй мяне, не шкадуй. Гэта горш, чым думаць пра мяне кепска. Мо то мне кара за ўсё... За ўсё, што зрабіла маці, бабуля. Яны шмат зрабілі людзям зла...

Хацелася тут жа папытацца: "А якога зла?", але не асмелілася, стрымалася, і так яна нагаварыла шмат чаго, мо потым жа і шкадаваць будзе, але можна толькі здагадвацца, пра якое зло гаварыла-прызнавалася дзяўчына.

– Ну, усё, нагаварыліся, – апамяталася Аксана, адышоўшы ад акна, адразу перамянілася тварам, позірк стаў цяплейшы і голас памякчэў, усміхнулася нават, падбадзёрыла: – Нічога, Людка, нічога! Усё наладзіцца! А ты ўставай, падымайся, абед пачынаецца ўжо...

Брыгадзір трактарнай брыгады Пятро Ястрабок размеркаваў хлопцаў на работу. Зміцера Макарцова, вечнага халасцяка, як казалі пра яго вяскоўцы, і Рафала Крупу паслаў у лес – цягаць сасновыя калоды да ракі, а Вінцука і астатніх траіх – араць іржышча, каб пасеяць азіміну...

Вінцук узрадваўся – любіў працаваць на адзіноце, каб яму ніхто не замінаў у полі. У калгасе не хапала механізатараў, і калі яму прапанавалі павучыцца на кароткатэрміновых курсах – прама ў калгасе, каб перад арміяй папрацаваў на трактары, Вінцук з радасцю згадзіўся...

Заправіў "Беларуса", падчапіў навясныя плугі – і пагнаў трактар за Міколікаў брод, дзе толькі ўчора зжалі камбайнам збажыну. Сабралі на круг вельмі мала, мізер, – мо ад таго, што не ўгноілі як след зямлю, а мо і ад таго, што лета стаяла засушлівае, і таму ўсё пагарэла...

Доўгі бярозавы гай за вёскаю, потым неглыбокая рачулка з чыстай вадой – вышэй білі крыніцы, – потым зноў гнаў трактар праз белыя ствалы бяроз, пасля – хвойнікам, і зноў пераехаў брод рачулкі – балотнай, дзе патыхала тванню, дзе зялёная раска раскашоўвалася ад берага да берага...

Поле адкрылася нечакана. Як толькі выехаў на яго, сонца асляпіла. Ён аж спыніў трактар, каб не заехаць у канаву. Счакаўшы і прызвычаіўшыся, пакіраваў далей – у канец поля. Спыніўся на ўзмежку. Пакінуў кабіну, пахадзіў па іржышчы, памеркаваў, адкуль пачынаць ворыва. Але захацелася трошкі прайсціся, падыхаць бярозамі і мохам.

Адышоў ад трактара – завярнуў у прылесак. Трашчала пад кірзачамі галлё – ужо другі месяц не выпала ні кроплі дажджу. Недзе на Віцебшчыне, як казалі па радыё, ішлі праліўныя дажджы – затапіла лугі і палі, а тут, на Палессі, сухмень – і чарнобылем пасыпанае, і сонцам выпаленае... І хоць пракладалі некалі дрэнаж, калі меліярыравалі зямлю, абяцаючы, што ў любую засуху будзе вільготна, – аж дудачкі: грошы меліяратары закапалі ў балоты, але і пра сваю кішэню не забыліся...

Недзе ў вільчыку сасны зашчыраваў дзяцел, зашчаміўшы ў расшчэліну спелую шышку. Праляцела бокам, у накірунку Забалацця, зграя варон. Лёталі ў небе маладыя буслы – вучыліся лётаць, гартавалі крылы. Хацеў дзенебудзь прысесці – паразважаць, абдумаць, абмеркаваць сваё становішча... Побач пня не знаходзілася, і ён няўцямна падаўся між бяроз, удыхаючы ў сябе церпкае паветра, настоенае на імху, жывіцы, дзеразе...

Зноў і зноў напамінала пра сябе Аксана. Чулася яе пытанне: “Калі ж прыйдзеш, як абяцаў?” Помнілася тое здранцвенне, калі глядзеў ёй у вочы, забыўшыся зусім, хто быў перад ім – і ўліп, акамянеў, змярцвелі мазгі і ногі, ды так, што не ведаў, на якім свеце знаходзіцца – і колькі часу быў без памяці. Добра яшчэ, што вярнула да свядомасці, а мог жа і застацца такім – і не жывым, і не мёртвым...

Па целе прабеглі нават дрыжыкі ад таго ўспаміну: “Сапраўды яна валодае невядомай сілай, ды валодае так, што можа ўкамяніць чалавека, спалярушаваць яго, адабраць розум і сілу... А што яна яшчэ ўмее акрамя гэтага, адзін, мусіць, д’ябал і ведае. Адвядзі, Божа, ад мяне гэтае зло, памажы выбавіцца ад яе чараў, – няхай яе і спасцігне тое, што яна іншым жадае і робіць, што для мяне замысліла...”

Наперадзе ўбачыў пень – ці не дубовы? – і пакіраваў да яго. Нехта на ім забыўся вяроўчыну ці конскае пута – ляжала кольцам. Калі ж падышоў бліжэй, “вяроўчына” падняла галаву і пагрозліва зашыпела...

“Гадзюка! – апякла здагадка, і ён рэзка адскочыў назад. – Няўжо мяне паджыдаеш, няўжо і тут Аксана свой след пакінула, мяне палохае?”

Гадзюка ўжо стала старчаком, амаль на хвасце стаяла, зіркала макавінкамі вачэй на хлопца – пагрозліва шыпела, адганяла ад наседжанага месца. Было напачатку жаданне схапіць які дручок і забіць яе, вунь як агрэсіўна напруцілася, – вось-вось скруціцца кольцам-спружынай і паляціць на яго, цыкне атрутным джалам... Але не ўзяў, хаця наступіў нагой на сасновую палку, не забіў, а павольна адступіў – далей ад нечаканай госці. Выдыхнуў з сябе агіду, хутка пакалдыбаў да поля, дзе стаяў і вуркатаў трактар...

Цэлы дзень варочаў зябліва. Нават на абед забыўся, хаця маці паклала ў сумку добры перакус. Перад вачыма стаяла, выструніўшыся, тоўстая і шэ-

рая вяроўчына – і яшчэ чулася яе пагрозлівае сычэнне. Не мог адагнаць ад сябе думку-асацыяцыю: замест гадзючынай галавы бачылася яна, Аксана...

“Гэта добра, што яна з’ехала ў санаторый, – думаў трактарыст, – хоць будзе мажлівасць спакойна абдумаць усё, што-небудзь прыдумаць... Павінен жа быць нейкі выхад з гэтага становішча, быць такога не магло, каб не было выхаду...”

Разносіла Аксана перад гэтым газеты па вёсцы, і зноў, калі маці не было дома, наведалася да яго. Прынесла абласную “брахалаўку”, але ліст з Кіева зноў жа не аддала. Была нейкая засяроджаная, сур’ёзная.

– З’еду я, Вінцук, ад цябе, – прамовіла ціха, аддаючы газету.

– Куды з’едзеш? На заробкі куды?

– Ды не, не ўгадаў. У санаторый. Дакторка сказала, каб я ныркі свае падлячыла. Піеланефрыт нейкі ў мяне знайшлі. А тут начальнік пошты кажа, што акурат такую пуцёўку на нашую арганізацыю выдзелілі. Не Трускавец, але ўсё ж такі... Параіў паехаць. А ты як – раіш, Уюн?

– Што я павінен сказаць? Калі ж доктар раіць, то што я? – не разумеў, да чаго хіліць дзяўчына, чаму ў яго пытаецца, прыставіў кулак да рота, кашлянуў.

– А ты што, захварэў?

– Ды ангіну падчапіў, ломіць усяго. Тэмпература высокая...

– А чым лечышся?

– Прыходзіла з медпункта Вера Ігнатаўна, укол зрабіла, аспірыну дала. Маці давала варэнне малінавае з гарачым малаком... Але яшчэ не адпускае.

– Дык ты вылежвайся, Вінцук, папраўляйся. Выздараўлівай. А я думала... Ды ладна, як вярнуся ўжо. А ты нікуды не ўцячэш за гэты час, як мяне не будзе?

Дзяўчына кісла ўсміхалася, глядзела яму дапытліва ў вочы, глядзела зычліва, не так, як тады, вочы ў вочы, – і ён адчуў нават цеплыню і спагаду, шчырую зацікаўленасць і клопатнасць пра яго здароўе...

– Уцяку. На Паўночны полюс. Да белых мядзведзяў, – усміхаўся і ён, адказваў такім жа тонам, каб і намёкам не выдаць сябе, не выказаць сваю радасць, што яна на час з’едзе з вёскі...

– Да іх можна.

– Тады ў мяне будзе просьба – прывязі мне белае футра, калі табе падорыць які белы асілак.

– Футра? Футра можна. Прывязу. Абавязкова, Аксана, прывязу.

Наступіла маўчанне. Усё, здаецца, перагаварылі.

– Пабегла я, – махнула рукой, – папраўляйся. Паслязаўтра еду. Мо й напішу табе адтуль, пабачу...

Да пабачэння!

“Напішу”... А што падумае пра тое маці?”

– Бывай!

Хіліўся долу вечар. Ужо доўгімі сталі цені ад сонца. Выразна чуўся крык варанячай зграі, што пералётвалі з аднаго боку поля ў другі. Агледзеў зробленае і застаўся задаволены: “Заўтра прыеду і ўжо да канца ўзару, калі трактар не падвядзе – чыхае нечага, як прастудзіўся ўсё роўна; трэба з раніцы пакалупацца ў яго чэраве...” Назад ехаў той жа дарогаю. Зірнуў міжволі ў правы бок – туды, дзе быў пень. Але ні пня, ні гадзюкі не ўбачыў. Мо далекавата было, а мо то і прывід быў перад ім, хто ведае...

Паставіў трактар на сваё месца – да чырвонага цаглянага плота. Выцер анучай рукі, памыўся пад мыцельнікам, каб неісці па вёсцы мурзатым...

Сустрэў каля варот машыннага двара Петруся Ястрабка, які спяшаўся некуды, але, убачыўшы Уюнова, затрымаўся, пацікавіўся:

– Зрабіў норму?

– Ага. Заўтра тое поле, за Бронькай, павінен да вечара ўзараць.

– Тады – хакей! Заўтра і кіруй туды.

– Добра.

Калі зайшоў у хату, убачыў, што за сталом сядзіць зажураная маці – ці не плача? – вочы вільготныя, глядзіць няўцямна ў стол.

– Што з табой? Здарылася што?

Мальвіна не адказала. Але падала сыну канверт і паперку. Зірнуў на адваротны адрас. З ваенкамата прыслалі позву, якую ён і чакаў. Маці зажурылася, а ён абрадаваўся: праз тыдзень яму трэба быць на прызыўным пункце.

– Ды не бядуй ты, мама, – абняў за плечы Вінцук маці. – Цяпер жа няма Афгана, ніякай іншай трасцы, у роднай Беларусі служыць буду, а не на Камчатцы ці Сахаліне.

– Армія ж, сын, яна і ёсць армія, а гэта значыць, што трэба браць у рукі зброю. А зброя – смерць. Могуць жа паслаць забіваць, як яны гавораць, у гарачыя кропкі.

– Ды не могуць нікуды паслаць – мы ж ні з кім не ваюем, зразумей!

– Так цябе і паслухаюць... ды ці мала што... Сёння час неспакойны, ва ўсім свеце неспакойна. Баюся я, сын, за цябе. За бацьку баялася – а ён таксама супакойваў, за Сымона хвалявалася – ён толькі ўсміхаўся... Свае забілі, хаця якія ж яны свае – абрэкі... У кожнага народа ёсць вылюдкі, але проста так забіць, нізавошта... Не магу зразумець такога.

– Ды хопіць табе слёзы ліць. Калі шчыра, то я сам хачу ісці ў войска, разумееш, са-ам!.. Мне ўцячы трэба, ма...

Мальвіна здзіўлена паглядзела на сына:

– Уцячы? Ад каго? Утварыў што, сын?

– Ды не, нічога не ўтварыў, не хвалюйся. Тут іншае. З Аксанай Журавель звязанае...

– Што – "звязанае"? – насцярожылася маці, нядобра паглядзела на Вінцука. – Божачка, што? Сур'ёзнае што, сын, скажы? Мо закахаўся, а я, дурная, і не ведаю...

Сын уздыхнуў, супакоіў:

– Усё не так. Усё наадварот. Яна прыстае да мяне, праходу не дае. Зацягнула-завабіла нават да сябе ў пуньку, на сенавал, сябе давала...

Мальвіна ўжо шырака раскрыла вочы, рыхтавалася пачуць тое, што так старанна ўтойваў ад яе сын.

– Нічога ў нас не было. І я вельмі рады таму. Яна вырвала з мяне абяцанне, што я некалі наведаюся да яе зноў. Яна нікога не хоча акрамя мяне, і хоча стаць жанчынай толькі са мною... Дурноцтва нейкае... Вось што адбылося. І – нічога больш, праўду кажу табе.

Маці прымружыла вочы, уздыхнула, прыходзіла ў сябе пасля напружанага чакання адказу, пахітала скрушліва галавой:

– Божа, Божа, як жа мне не шанцуе ў жыцці... Чым правінавацілася я перад Табой, у чым мой грэх? Вінцук, як я баюся за цябе, каб ты толькі ведаў. Вядзьмарка паклала на цябе сваё вока, і цяжка будзе выбавіцца з яе палону. Толькі адзін Бог і зможа табе памагчы... Так, вось што мы зробім з табой... Заўтра ж пойдзем са мною ў царкву, паставім свечкі нашым продкам і родным – за спакой і ўзнясенне, папросім Бога абароны і засцярогі ад злых сілаў...

Маці стала перад абразамі на калені, уголас загаварыла:

– Заступіся, Госпадзе, перад тымі, хто судзіцца са мною, зваюй тых, хто ваюе мяне; вазьмі шчыт і латы, і ўстань на дапамогу мне; агалі меч, і заступі дарогу тым, хто гоніць нас; скажы душы маёй: Я – ратунак твой! Хай пасаромяцца і паганьбуюцца тыя, хто цікуе душу маю; хай адступяцца і пакрыюцца ганьбаю тыя, хто шкоду нам намысляе... Хай будуць яны, як пыл на вятрах, і анёл Гасподні хай праганяе іх. Хай будзе шлях іхні цёмны і коўзкі, і анёл Гасподні няхай гоніць іх, бо яны без віны схавалі мне яму – сетку сваю; выкапалі на нявінную душу маю! Хай спадзе на яго пагібель раптоўная, і сетка ягоная, якую ён схаваў, яна схавана на сыночка майго, хай сама і зловіцца ў яе, упадзе ў яе на пропадзь сваю. А душа мая няхай узрадуецца ў Госпадзе, усцешыцца збавеннем ад пакутаў і насланага на нас гора! Амін!..

Сын не замінаў маці, маўчаў, гледзячы на абразы, таксама думкава прасіў помачы ва Вышняга.

Потым выйшаў у двор і доўга разважаў пра сваё становішча, у якім апынуўся... І вельмі хацелася яму выбавіцца з той пасткі.

Віктар Барылін, радавы ўзброеных сіл незалежнай Рэспублікі Беларусь, за год, што быў у войску, прайшоў скрозь знявагу і здзекі “дзядоў”, цярпеў іх дыктат, згінаўся, падпарадкоўваўся, выконваючы іх каманды, а потым у нейкі момант не вытрымаў, раз’ятрыўся, узарваўся – завадатару, старэйшаму вайскоўцу, камандзіру дзядоўскай мафіі, так уляпіў цяжкой табурэткай па галаве, што таго адразу забралі ў шпіталь...

Раней, як быў Саюз непарушны, як спявалі ў гімне, салдаты пяхоты ненавідзелі салдат-авіятараў, і наадварот, па нацыянальным прызнаку – малдаване біліся з расейцамі і беларусамі, армяне з украінцамі... Пераваралі, так бы мовіць, у жыццё лозунг “дружба паміж народамі СССР – вечная!”, даказваючы, сцвярджаючы, што ніякай той дружбы, пра што баялі камуністычныя ідэолагі, і ў паміне не было... У незалежнай Беларусі тая ж “дзедаўшчына” набыла новыя абрысы, ператварылася ў новы гібрыд – гарадскія білі маладых салдат з вёскі, гомельцы з мінчукамі, берасцейцы з віцебчукамі, магілёўцы з гарадзенцамі... Прычыны для знявагі і бойкі знаходзіліся самыя розныя, да абсурднасці простыя...

Дазнаваліся, распытвалі ваенныя следчыя, адкуль у яго, Вячаслава Хвойнага (пацярпелага) такая траўма галавы.

– Ішоў па дарозе. Паслізнуўся. Ударыўся аб бардзюр.

Не верылі. Зноў дапытваліся, калі ачуняў, перапытвалі.

– Ішоў... Паслізнуўся. Ударыўся аб бардзюр...

І больш з яго не маглі выцягнуць ніводнага слова, як ні стараліся, як ні прыставалі. За гэты час “дзяды” чамусьці Віктара не чапалі, адчапіліся (ці толькі надоўга?), мусіць, чакалі, калі выпішацца са шпіталя іх верхавод і скажа, як ціснуць салажатаў далей.

Барылін не збіраўся адступаць і тым больш моўчкі адседжвацца, чакаць нейкіх пераменаў у лепшы бок. Ведаў, што да лепшага яно не выкруціцца – “дзяды” не даруюць яму яго супраціву. Рашыў сам абагнаць падзеі, бо па сялянскай логіцы разумеў – пад ляжачы камень вада не збярэцца. І слабаком перад іх хеўрай не хацеў выглядаць, жадалася быць няхай і не пераможцам, але хаця б нескароным... Ён пайшоў на рызыку. Хлопец рашыў наведацца да Хвойнага. І выбраў той час у суботу, адразу пасля абеду.

Калі пераступіў парог палаты, адразу ўбачыў перад сабою Хвойнага. Трое хворых, у шэрых халатах, сядзелі каля акна – гулялі ў карты, і на таго, хто зайшоў, не звярнулі аніякай увагі. У палаце было восем ложкаў – чатыры з аднаго боку, і столькі ж з другога, паміж імі – вузкі праход...

– Здравія жалаю, таварыш малодшы сяржант Хвойны! – з парога вясёла павітаўся наведвальнік, нават далонь да скроні прыставіў, строгі выгляд надаў твару. – Разрашыце! – і ўжо цішэйшым голасам, як бы вінавата, апраўдваючыся за свой прыход, прамовіў: – Вось у адведкі, як гаворыцца, прыйшоў таварыш малодшы сяржант. Вы ж не супраць, так? Нават радыя, думаю, майму прыходу.

Віктар прайшоў да табурэткі, што стаяла каля тумбачкі, акурат такая, якой і агрэў Хвойнага, сеў на яе. Паглядзеў на Славіка, горычна пашкадаваў:

– А і схуднеў ты, хлопча, і не пазнаць! А як галаву забінтавалі – жах! Рукі паадбіваць мала, усю прыгажосць табе сапсавалі. І хто ж гэта, братка, так цябе ўдзелаў, га? І што за гад такі асмеліўся руку на стараслужачага падняць, га? А я ж зусім і забыўся, гэта ж ты ішоў, паслізнуўся – і ўдарыўся галавой аб бардзюр, так? Як у тым кіне Нікулін на банане паслізнуўся. А ты сказаў тыя словы, як трэба было – “чорт падзяры!”? Не? Ну, во, з-за гэтага і не пашанцавала табе...

Вячаслаў нядобра бліснуў на наведвальніка зневажальным позіркам, прашыпеў ад затоенай злосці:

– Якога хрэна ты прыпёрся сюды, жаўтароцік недабіты? Вось выйду, тады разбяруся з табою.

– Добра, добра, Славік, я не супраць, – усміхаўся, ківаў згодна галавой Віцька і выцягваў з жоўтага цэлафанавага пакета пачастункі. – Тут табе ад жаўтароцікаў – яблыкі, пячэнне, цыгарэты нават... Выбачай, што не змаглі дастаць “Мальбара” і каньячку, толькі “Прыма” і мінералачка...

– Ды ідзі ты адсюль са сваімі...

– Ну не трэба так, Славік, не трэба. Во які няўдзячны, а мы ж ад усёй душы, і з павагаю да дзядоў, стараліся, каб не пакрыўдзіць цябе, каб, значыць, улагодзіць. Я ж з вёскі, а ты з горада Гомеля, а гарадскіх трэба паважаць, дагаджаць ім...

– Пшоў адсюль, казёл! – усё больш і больш ятрыўся “пацярпелы”, адчуваючы недарэчнасць становішча, ды і перад сябрамі па палаце было няёмка – здзек, а не адведкі, і дурню тое было зразумела, і казе, як кажуць, панятна, што выцірае жаўтароцік аб стараслужачага ногі. – Я ж сказаў, калі выпішуся, то...

– Я ўжо тое, Славік, чуў, не паўтарайся. Вось што значыць, калі галава пашкоджана... Але паслухай мяне, “дзядок”, – і Віктар Барылін нахіліўся ніжэй – амаль да самага вуха, прашаптаў: – Жук прасіў перадаць табе вось што: калі да мяне ці да маіх сяброў дакранецца твая альбо тваіх дружбаноў рука, то ён, Жук, прасіў напомніць, што вельмі будзе кепска тваёй маці –

Людміле Дамінікаўне, і сястрычцы тваёй, Святланцы, якая завінавацілася дванаццаць тысячаў баксаў Квачу – у яе ж катэджык невялічкі будуецца на беразе Сажа, ці не так? Добры такі, трохпавярховы, катэджык. Ну, а пра астатняе пакуль што прамаўчу – не час раскрываць карты, а казыры ўсе чырвоныя, ды адныя тузы і каралі... Як небудзь іншым разам, іншым часам...

Віктар сеў зноў роўна, агледзеўся па баках, як бы асцерагаўся, каб не пачула яго словы чужое вуха, ужо грамчэй загаварыў, заўсміхаўся:

– А і ўмовы тут у цябе, далажу шчыра – атвраціцельныя. І прасціны не першай свежасці. Столькі тут жаўтаротых, а ты ў брудзе ляжыш... Ці мо і тут па струнцы маладых ставіш, га, Славік? Як, салагі, не прыстае да вас кароль дзядоўскай мафіі? – звярнуўся ён да салдатаў, што ўжо ўважліва назіралі за імі. – Не прыстае, значыць, тут ён баіцца... А то ён аб бардзюр ударыўся, яму ж лячыцца трэба, умовы трэба – цішыня і спакой, і каб яму прыслужвалі... А інакш...

– Хто такі Жук? – бліснуў вачыма “дзед”, клюнуўшы на нажыўку, прыўзняўшыся над падушкай, уперыўся позіркам у наведвальніка.

– А гэта такі жучок з кучы гаўна, у якім і ты можаш апынуцца, калі не прыслухаешся да яго папярэджання...

– Падла, на понт мяне бярэш? – звузіліся вочы пад чорнымі брыўмі, свідравалі, стараліся пранізаць наскрозь.

– Бяру, бяру, – усміхаўся задаволены радавы Барылін, узіраючыся ў тыя ж вочы крыўдзіцеля, збіраўся ўжо і пакінуць Хвойнага – пачаў акуратна складваць пакецік на каленях, ужо і не глядзеў на Славіка, і табе след брацца, толькі за розум... Ну, а цяпер – усё. Салавей не ўдод, а бусел не верабей, праўда? А ад жаўтароцікаў вялікае прывітанне галоўнаму “дзеду”. “Ішоў, паслізнуўся, ударыўся аб бардзюр...” Хм... А малайчына, розум у галаве яшчэ застаўся, хаця добра дасталося мазгам... “Ішоў, паслізнуўся, ударыўся аб бардзюр...” Гы-гы-гы... Анекдот. Руб – не грошы, а мужык не пан!..

Зачыніў за сабою дзверы, прайшоў па калідоры між хлопцаў, у шпітальных байкавых халатах, выйшаў на вуліцу.

На душы няхай было няхай і не радасна, але была ўнутраная задаволенасць – выбраны правільны ход, правільная мелодыя, вельмі правільная. І як добра, што Лёнік Гайкевіч, капцёршчык, зямляк – з самога Мазыра, запрасіў яго ў капцёрку, каб раздзяліць пляшку “чарніла”, і дазволіў пакапацца ў чамадане Вячаслава Хвойнага. Там і адшукаў Віктар пісьмы ад маці і ад сястры Светы... А астатняе – справа фантазіі на мяжы, так бы мовіць, фола...

“Ну, цяпер мо адчэпіцца, няхай хоць на нейкі час, – разважаў ён, кіруючыся сваёй вуліцы, якая цягнулася аж да самай яго вайсковай часці, – не

можа быць, каб не адчапіўся... У вачах сполах? Напужаўся... Значыць, наступіў на хворае месца. Хай цяпер думае пра Жука і Квача, а пакуль дадумаецца, дакумекае, што да чаго, то і прыйдзе пара яму скідваць пагоны...”

Па дарозе размяшчаўся невялічкі рынак. Некалькі радоў крытых палатак. Людзей было няшмат – асноўныя пакупнікі былі раніцай, а цяпер, пасля абеду, так сабе, выпадковыя ды запозненыя.

На гэтым рынку і купіў Барылін для “дзеда” Хвойнага яблыкаў – ранніх, салодкіх. Мог і кіслых узяць, і ўвогуле са сметніцы нагрэбсці гнілых, – такое і мільганула жаданне, калі ўбачыў, як жанчына-гандлярка адкідвала іх у скрынку, каб потым выкінуць на сметнік, – хай бы ведаў, як да яго адносяцца тыя, каго ён хацеў прыгнуць да зямлі і зламаць, адабраць душу, прынізіць, – але тут жа і перадумаў. Не, нельга прыпадабняцца яму самому і апускацца да яго ўзроўню, трэба прыйсці да Хвойнага, як годны чалавек да пераможанага Галіяфа, але ласкавымі словамі трэба сказаць яму пра галоўнае, так, між іншым, без боязі, без страху, і паказацца яму ўпэўненым у сабе, у сваіх сілах... Каб даказаць яму адну простую ісціну – грэх брацца яму за старое... Каб адумаўся, каб узяўся за розум...

Зноў завітаў Віктар на той рынак. Ужо каб купіць сабе і хлопцам па яблыку – маці прыслала трохі грошай, каб ён купіў сабе чаго смачнага пакаштаваць. А што яму трэба? Цыгарэты, ну і на “чарніла” зрэдку, каб з сябрамі пасядзець, наладзіць з імі моцныя стасункі... А яблыкі так, каб зубы патачыць... Выбраў самыя прыгожыя – адзін у адзін, чырванабокія, аж свяціліся на сонцы. Жанчына аб нечым размаўляла з мужчынам, не бачыла, што салдацік паклаў вока на яе яблыкі.

– Колькі просіце за яблыкі, шаноўная спадарыня? – не адрываў Віктар позірку ад ранета, выбіраў ужо, якія пакладзе сабе ў пакет, такія ж самыя раслі і ў іх садзе.

Гандлярка перапыніла размову, адгукнулася на пытанне:

– Ды за так, сынок, амаль аддаю, поўны сад, а дзяваць няма куды... Бяры, за кіло па дзесяць тысячаў.

Віктар усміхнуўся, паглядзеў на гаспадыню:

– А ці не задорага, цётачка?

Ён не губляў надзеі старгавацца, угаварыць на меншую цану, а то і ніжэй, бо і яблыкі яму дужа спадабаліся.

– Авойечкі мне! – жанчына пачала ўжо і жартаваць з салдацікам. – Век гарую і смаку не чую!

– Калі ж дома няма куды дзяваць, то тут яны хіба залатымі стануць? Руб – не грошы, а мужык – не пан. Паспаць бы мне, ды падушка задужа мулкая!..

Мужчына ў шэрай кепачцы адразу насцярожыўся, падышоў бліжэй да прылаўка, пільна прыгледзеўся да вайскоўца:

– Скуль ты будзеш, хлопча? З якой мясцовасці?

– Я? З Мазыршчыны.

– Ці не з Замошша – во толькі цяпер успомніў назву вашай вёскі.

Віктар падзівіўся, паглядзеў на незнаёмца:

– З Замошша. А вы як здагадаліся?

– Ды па тваёй прымаўцы. І – па "падушцы". Чуў я такі выраз ад аднаго чалавека. Ад Антона Уюнова. Мо чуў пра такога?

– Чуў. Мальвіна з Вінцуком ад нас праз пяць хатаў жывуць.

– А завуць цябе як?

– Віцька я. Барылін.

Незнаёмец нечаму абрадаваўся, замітусіўся:

– Слухай, Віцька! Бяры сабе яблыкаў колькі хочаш, гэта ж мая сястрыца, Таццяна Міхайлаўна, і сваім сябрам бяры, пачастуй іх, – сам набраў поўную сетку, нават і не пытаў згоды ў сястры. – І пайшлі мы з табою пасядзім-пагамонім, калі часу трошкі маеш, півам цябе пачастую. Ты ж мне цяпер як родны...

Віцька нічога не разумеў, але асабліва і не здзівіўся ад шчырасці гэтага невядомага чалавека – на прайдзісвета не падобны, вочы дабрачыя, даверлівыя...

– Я час маю.

Акурат у піўным бары і людзей было няшмат. Выбралі столік за калонай, дзе было зацішна і ніхто не мог угледзець салдата – каб патруль які не прычапіўся.

– Я ж і не назваўся – Адамам мяне маці назвала. От добра, што я цябе напаткаў, а то столькі гадоў прайшло, а я з-за дурной галавы...

Адам узяў два куфлі піва, на сподку прынёс вэнджаную скумбрыю – і пацякла-палілася шчырая гутарка-бяседа, радуючы душу і вайскоўцу, і Адаму... А каб Віктар не мучыўся сумненнямі, чаму захацелася чалавеку пагаварыць з невядомым салдатам, адразу ж прыступіў да асноўнай размовы...

Не заўважылі, як хутка праляцеў час. Перакінуліся, здавалася, некалькімі словамі, а прайшло паўгадзіны ўжо. Адам і яшчэ прынёс па куфлю, і яшчэ...

Віцька забыўся пра час.

– За кароткі час ён стаў мне добрым сябрам. І на табе – такая трагедыя. Ты перадай, Віцька, Мальвіне ад незнаёмага Адама Камко прывітанне, а я потым ёй напішу пісямцо. З Кіева ўжо напішу – заўтра еду назад. Мальвіна выйшла замуж?

– Ды не, адна жыве. З Вінцуком. Сваталіся да яе, ведаю, але яна нечага адпрэчыла жаніхоў. Удавой так і засталася.

– Гм... Лёс у жанчыны – ворагу не пажадаеш. І мужа страціла, і сына. Вось што такое армія. Гэта ж не армія, а зброд дэбілаў і бандытаў, дзе генералы правяць свой баль... І на вайне, і ў мірны час. Цябе хоць не даймае там “дзедаўшчына”? – нечакана пацікавіўся ён у Барыліна, перавёўшы ўжо размову ў новае рэчышча.

– Даймаюць... Дык я аднаму табурэткай па галаве. У шпіталі вунь ляжыць. Ад яго і іду – праведваў... Але і прыпужнуў яго, каб на корч не лез...

– Аднак ты не з баязлівых, бачу, – ці то пахваліў, ці то адобрыў ягоныя дзеянні субяседнік.

– Міжволі, дзядзька Адам, смелым станеш. Слабога сагнуць у дугу...

– У водпуску не быў?

– Пакуль не. Але камандзір за стрэльбы абвясціў падзяку і выдаў кароткі водпуск. Чакаю, калі выканае сваё абяцанне.

– Віншую. Выканае камандзір сваё абяцанне... Тады, як паедзеш, то і перадай Мальвіне і Вінцуку мой паклон. А я чыркану ім асобна пісямцо. Тады, танкіст, бывай! Мо і ўбачымся калі.

Абняліся, як свае.

Праз паўгадзіны Віктар Барылін быў ужо ў казарме, частаваў хлопцаў чырвонымі яблыкамі, нахвальваў гатунак, сам упіваўся маладымі зубамі ў чырвоныя бакі, пырскаў сокам... Узялі па яблыку і “дзяды” – ім перадаў Барылін прывітанне ад Хвойнага, падкрэсліўшы тым самым, што з тым наладжаны нейкія стасункі. Яны моўчкі жавалі ранет, нічога не гаварылі.

Іх маўчанне і спадабалася Барыліну.

“Хай не думаюць, што я зломак нейкі... Хай здагадваюцца, хай ламаюць галавы, хай доўжыцца час незразумеласці сітуацыі...”

## 8

Людка ў пакоі не начавала зноў.

Людка заставалася спаць там, куды яе клікалі, куды запрашалі, дзе паілі каньяком і віном, дзе здавольвала і спатольвала яна сваю душу, дзе тушыла ўнутраны пякельны агонь. Але тушыла яго на кароткі час – усяго на некалькі гадзін. Заставалася ў чарговага спадарожніка столькі, колькі таго і сама жадала.

Рэдка з’яўлялася і за абедзенным сталом. Ды навошта быў ёй той посны абед ці вячэра, калі ў дырэктарскім люксе хапала ўсяго – і пітва, і яды, і – задавальнення... Ад апошняга яна хутка стамлялася, але ўжо праз тры-

чатыры гадзіны зноў узыходзіла на слодычную Галгофу, – сама не разумела, чаму мужчыны, ад’ехаўшы на чатыры тыдні ад дому, такія ненатольныя – як быццам бяруць тое “багацце” апошні раз у жыцці. Дарэчы, як і яна, Людка...

Так расказвала, такімі думкамі дзялілася яна з Аксанай, калі днём прыходзіла ў пакой, каб пераапрануцца. Аксана толькі ківала галавой, разумеючы яе, не адабраючы, але ж і не хвалячы і не ўхваляючы тое, як яна сябе паводзіла, як адносілася да жыцця – было нешта ў ёй ад бяздумнасці і бесклапотнасці, ад павярхоўнасці і няпэўнасці. Радавалася хіба аднаму – суседка зусім не начавала ў сваім пакоі. Так і хацела Аксана, так і скіравала дальнейшы ход падзей...

У акно зазірала паўнатварая поўня – як гожы твар дагледжанай маладзіцы. Яна, поўня, была так блізка каля акна, што, здавалася, рысчыні насцеж рамы, выдаўжы руку – і дакранешся да яе, адчуеш яе таямнічы холад, адкрыеш яе шматгадовую загадку.

Была глыбокая ноч – блізка каля трох гадзінаў.

“Уладар цемры і мой пан, – зажмурыла Аксана вочы, схіліўшы да грудзей галаву, аддаючыся ўладзе нябачнай сілы, пагружаючыся ў яе, паддаючыся ёй, адчуваючы, як наліваецца ўсё цела той энергіяй, якая можа спапяліць усё навокал, прынізіць чалавека і зрабіць яго бязвольным, бяссільным, безцялесным... Альбо штурхнуць яго на тыя ўчынкі, на тыя дзеянні, на якія ён ніколі не быў здольны, чаго ніколі ў жыцці не рабіў... – Да цябе звяртаюся, з табой хачу параіцца, ад цябе большай сілы набрацца... Ты тут, са мной?..”

У кутку, у цемры, рыпнуў Людчын ложак:

– Тут я, я штоноч з табою... Аберагаю твой сон.

– Паглядзець хачу, што робіць мой абраны – пра каго думае, што сніцца яму?

– Добра...

Перад расплюшчанымі вачыма паплылі ружова-жоўтыя касмылі-кругі, потым яны пачалі пакрысе пульсаваць,ператварацца ў блакіт неба... Вось і поле, тое, што за Бронькай, куды па першыя баравічкі прыбягала Аксана, а яшчэ далей – балотца, куды за гускамі для парсюка наведвалася... На полі трактар, але без Вінцука. Дзе ж ён? А, у гаёк пайшоў, прагуляцца захацеў... Пасядзець хочаш, адпачыць? Пянёк шукаеш? На і пянёк табе... Ідзі, ідзі, чаго ж стаіш? Нешта на пні ўбачыў? То ж мой падаруначак-напамінак пра мяне, і вяроўчына-пута, без чаго я не абыйдуся... Чаго ж адскочыў так, не бойся, не ўкусіць... пакуль не ўкусіць... Ад мяне ўцячы хочаш? Але ты забыўся пра адну простую ісціну – чым далей ты збіраешся ўцякаць, тым мацней я ўтрымліваць буду цябе.

Усё бачыла Аксана – як прыехаў пасля на машынны двор, як мыўся, як гаварыў з Ястрабком, каму з дзяўчат усміхаўся... Павячэраўшы, лёг спаць. Нікуды не пайшоў – стаміўся? Ці не было да каго ісці? А мо да кульгавай Лёдзі, аднакласніцы, ці да гарбаценькай Юлькі? Ніштаватыя дзяўчыны – прыгожыя з твару, але з трэшчынкамі...

– Ну, супакоілася? Усё пабачыла?

– Дзякую, супакоілася.

Цяпер можна было спаць, цяпер ужо нішто хваляваць не будзе... Яна як забітая ўпала на падушку. Яе зноў пачало трэсці, бы ў ліхаманцы; сашчаміла зубы, сціснула кулакі. Чакала, калі міне тры хвіліны яе вяртання да чалавечых якасцяў. А праз пяць яна правалілася ў мройны туман – ляцела ў сне сваімі сцежкамі... І на іх напаткала неўзабаве Вінцука. Ён смяяўся, абдымаў яе, а яна вяла яго ў свае ўладанні, каб ператварыць яго ў тую істоту, якой была сама... Рука яго не вырывалася, была бязвольнай, падпарадкоўвалася яе жаданню, сціскала яе ўсю мацней і мацней.

“От бы так заўшэ, – думала радасна і салодкая млявасць разлівалася па ўсім целе. – Я тады была б самая шчаслівая ў свеце, а мо і ў сусвеце...”

9

Дзед Нікадым быў для многіх жыхароў чалавекам незразумелым і непрадказальным, дзіваком, адзінотнікам, чалавекам “з прыветам”, які быў непадобны ні на кога з тутэйшых людзей – і адзеннем, і думкамі, і паводзінамі, і спосабам жыццяіснавання... Як для яго, дарэчы, і людзі былі дзіўнымі і незразумелымі – ніяк не мог уцяміць, як можна жыць пад прымусам Сатаны, падпарадкоўвацца начальнікам і абставінам, мітусіцца ў чалавечым мурашніку, змагацца за ўяўныя даброты, імкнуцца да багацця, нешта збіраць на будучае, якое потым і не спатрэбіцца, мяняць на золата сваё сумленне, нават душу сваю...

А што ж казаў Ісус Хрыстос? Праз Мацвея Ён даводзіў: “Таму і кажу вам: не турбуйцеся дзеля душы вашае, што вам есці і што піць, ні дзеля цела вашага, і ў што апранucца. Ці ж душа не большая за ежу, і цела – за вопратку? Зірніце на птушак нябесных: яны не сеюць, не жнуць, не збіраюць у засекі; і Айцец наш нябесны корміць іх. Ці ж вы, людзі, не нашмат лепшыя за іх?

Дык хто ж з вас, турбуючыся, можа дадаць сабе росту хоць на адзін локаць? І пра вопратку што турбуешся? Паглядзіце на лілеі польныя, як яны растуць: не працуюць, ні прадуць... але кажу вам, што і Саламон ва ўсёй славе сваёй не апранаўся так, як кожная з іх... Шукайце ж найперш Цар-

ства Божага і Праўды Яго, і гэта ўсё дадасца вам... Дык вось, не турбуйцеся заўтрашнім днём, бо заўтрашні сам за сябе патурбуецца: досыць кожнаму дню свайго клопату...”

Ніхто не ведаў, колькі старому Нікадыму гадоў – ці дзевяноста, ці ўжо даўно за сто. І сам ён пра тое, мусіць, не ведаў, ды і не задумваўся над тым ніколі... Як і памятаюць людзі, калі яны прыходзілі да яго, то быў ён заўсёды ў адным і тым жа адзенні – у зрэбнай кашулі, світцы і нагавіцах, пры сівой і доўгай, як не да каленяў, барадзе. І заўсёды босы – няхай то летняя спёка ці зімовая сцюжа... Вяскоўцы і здзіўляліся, і не разумелі яго. Хаця ж – звыкліся, прызвычаіліся да дзедавых дзівосаў. Але ж – ніколі не абгаворвалі, адносіліся з павагай.

Кожнай зімой, калі прыпякаў люты мароз, што аж трашчалі сцены, ды яшчэ змяюка-вецер скавытаў у завуголлі, ні ў адной хаце людзі, якім ён памог, прагнаў ад іх хваробу, маглі з трывогай падумаць: “І як там, на сваім хутары, дзед Нікадым, ці жывы хоць, ці не замёрз у такія лютыя маразы?..»”

Калі ж здаралася, што некага прыціскала хвароба ці немач – да няўсцерпу, і чалавек не мог нідзе знайсці паратунку – нават у бальніцы, – тады было толькі адно і апошняе спадзяванне – на старога Нікадыма і на Бога.

Да яго дапіналі па бездаражы – па плюхаце і халяпе, у слату, і ў пякучыя маразы. Дапіналі да яго з апошнім спадзяваннем, з сабою несучы бохан хлеба і кольца каўбасы, яшчэ – брус сала; падалі ў ногі, прасілі даць якой рады – вылечыць ці то жанчыну, ці немаўля...

Прыходзіў, правільней, амаль прыпаўзаў да яго і Барылін, – скручваў спіну радыкуліт ці што іншае, моўчкі, умольным позіркам прасіў у дзеда помачы. Нікадым, бліскаючы з-пад калматых броваў чэпкім позіркам на калгаснага механізатара – каржакаватага і дужага – з’едліва пытаўся:

– Чаму ж табе, Пятрок, не памаглі вучоныя дактары – яны ж павінны лячыць вас... А хто я – у мяне ўжо і сілы не тыя, а ты так доўга не ішоў да мяне. Чаму?

– Думаў, што памогуць, два месяцы ў больніцы праляжаў...

– Два месяцы, два месяцы, – бурчэў нязлосна дзед, але з першых ягоных слоў пасылаў ён на Барыліна свае промні, свае лекі. – Ды ладна, тут-ка тваю, так і быць, мо і паможа Бог табе...

І ён станавіўся пад абразы, доўга чытаў малітвы, прасіў у Айца Нябеснага дазволу на дзейства.

Людзям жа заўсёды казаў-раіў:

– Прасеце – і дасца вам; шукайце – і знойдзеце; стукайцеся – і адчыняць вам. Бо кожны, хто просіць – атрымлівае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стука-

ецца – таму абавязкова адчыняць... Вы пастукаліся – і я адчыніў вам, вы папрасілі – і я даў вам... А цяпер ідзіце з Богам...

Чараваў ён над Петрусём мо і не доўга – з хвілінаў дзесяць, але праз кароткі час хворы заснуў – аж захроп, адкінуўшы ўбок галаву; цела ўсё размякла, абвяла, – і стары пакінуў яго ў такім стане, сядзеў побач, маўчаў...

Маўчала і жонка Петрыка, Алёна, баялася і слова вымавіць, каб не парушыць суладдзя паміж лекарам і хворым... Нікадым узяў Петрыка за руку – і ён прахапіўся. Здзіўлена глядзеў на старога, на Алёну, не разумеў, што з ім, і чаго ляжыць на дзедавым ложку.

– Уставай – і ідзі дадому, – загадаў стомлена дзед Нікадым, – чаго разлёгся на маім лежбішчы... Ці свайго ложка нямашака? Ідзіце з Богам.

Пятрок асцярожна прыўзняўся на ложку – памятаў яшчэ сваю нямогласць, глядзеў то на дзеда, то на жонку, – і сеў, спусціўшы ногі, і ўстаў, цвёрда стаўшы на ногі, не адчуўшы пры гэтым ніякага болю ў паясніцы... Не паверыў – зрабіў адзін крок, другі, трэці, прысеў нават. Заўсміхаўся, радасна паглядзеў на Алёну, як бы хвалячыся сваёй папраўкай. А Нікадым і не павярнуўся да яго, сядзеў спінай да дзвярэй, моўчкі ўнурыўся некуды сабе пад ногі...

– Чым жа аддзячыць табе, дзед Нікадым, чым расплаціцца? – пытаўся расчулены Пятрусь.

– Анічым, тут-ка тваю, ні грошай, ні сала мне не трэба... Хадзі на здароўе.

Махнуў слаба рукой, усё яшчэ не паварочваючыся, амаль прашаптаў:

– Ідзіце з Богам – стаміўся я...

Усё ўмеў рабіць дзед – мог вылечыць амаль ад усіх хваробаў. З-пад Мінску прыехала да яго жанчына, выпадкова даведаўшыся, што ў глухім паляшуцкім лесе жыве такі незвычайны дзед. У аддзеле аховы здароўя працавала ў раённым цэнтры. З дачушкай здарылася бяда – адняліся ногі. Цэлы свет аб’ездзіла – нідзе не далі рады.

Прывялі іх да дзеда Барыліны. Святланку прынёс на сабе Пятрусь. Дзед адразу, як толькі пераступілі парог, загадаў малую пасадзіць на яго ложак. Нікадым, здавалася, і не лячыў яе, а толькі распытваў у жанчыны, чым яна займаецца, калі такое здарылася з дзяўчынкай. Паўгадзіны мо прайшло як яны завіталі ў хату, не больш. А потым і да Святланкі павярнуўся, як усё роўна ўспомніў пра яе існаванне, пагладзіў яе па русявых косках, усміхнуўся, здзіўлена спытаў яе:

– А ты чаго, шаноўная паненачка, расселася тут, на маім ложку, тут-ка тваю! Ану ўставай і займайся сваімі дзіцячымі клопатамі!..

У маці акругліліся вочы ад бесцырымоннасці і здзеку дзеда, толькі далаunion да рота прыставіла, каб не сказаць чаго крыўднага.

Дзяўчынка ўстала, хістаючыся, усё яшчэ не верачы ў цуд, што адбыўся, пайшла да маці – уткнулася тварам у грудзі... І тады жанчына заплакала, скрозь слёзы глядзела на дзеда, сілілася нешта сказаць – і не магла...

– Я ж казала табе, што толькі мне дзед і паможа, – тлумачыла маці, супакойвала яе. – Мне ён сніўся, я яго такім і бачыла...

Усіх мог вылечыць Нікадым ад хваробы, а вось унука свайго, Міхаську, не мог...

Старую Антолю яшчэ да вайны Бог паклікаў да сябе, і яны засталіся ўтрох – Нікадым, дачка Ганя і Міхаська.

У вайну Ганю забілі немцы – прама ў хаце. Прачэсвалі лес – шукалі партызан, на іх хату наткнуліся...

Нікадыма пасля вайны энкавусаўцы адправілі ў лагеры – нечым не дагадзіў уладам. Міхаську даглядалі розныя людзі – найбольш тыя, каму хоць раз прыходзілася звяртацца да дзеда за помаччу... З хаты ў хату пераходзіў Міхаська. Быў ён бяскрыўдны, ціхі, толькі пасміхаўся, гледзячы некуды сабе пад ногі, і гаварыў ён адно і тое ж: “Казаў жа дуб асіне, каб не вельмі высільвалася, каб не гнулася надта пад ветрам...”

Ніхто не ведаў, што азначалі яго словы, які мелі сэнс, ды і адкуль узяліся, хто іх гаварыў, што малы запомніў...

Ад нараджэння ў яго здарылася такая хвароба... Антоля не ведала, і сама Ганя не ведала, ад чаго такое здарылася з ім – нідзе ж не падаў, галоўкай не ўдараўся... І цяпер унук сядзеў у запечку. Калі ж пайшлі Барыліны, сказаў дзеду:

– Дзед Нікадым... Казаў жа дуб асіне, каб не гнулася дужа пад ветрам. Казаў, дзед?

– Казаў, Міхасёк, казаў, але што паробіш, нябожко! Іначай нельга, тут-ка тваю...

– Вецер моцны, асіна слабая, не след было так гнуцца...

– Не след, – пагаджаўся дзед і ўздыхаў, ведаючы, што праўду гаворыць унук, але і па-іншаму ўжо рабіць не мог.

Раней у дзеда ад жалю да ўнука выступалі на вачах слёзы, калі ён чуў пра дуба і асіну, туліў да сябе, паддакваў няўцямна:

– Так, так, нябожко... І я таксама казаў той асіне, ды не слухаецца яна мяне, таму і невядома, што чакае яе наперадзе. А ты ўсё ведаеш, усё адчуваеш. Гэта добра, што адчуваеш, мо калі і ўсялю ў цябе розум, хаця ж ты і не дурны, а калі разабрацца, то мо і разумней за ўсіх...

– Так, дзед, разумней, – згаджаўся Міхаська, – мне б толькі зразумець, дзядуля, людзей, а яны чамусьці не хочуць мне адкрывацца, яны маўклівыя са мной, як нежывыя сядно... Толькі шкадуюць мяне, лічачы, што я...

– Мо, дасць Бог, і зразумееце адзін аднаго, яшчэ прыйдзе такі час... Толькі ці я сам зразумею цябе – хто яго, мусіць, ведае, тут-ка тваю...

Цяпер жа, пасля таго, як паставіў на ногі Пятруся Барыліна, дзед Нікадым адчуў сябе вельмі стамлёным. Яго жыццё здавалася, вісела на валаску, не мог нават загаварыць, бо ведаў – толькі напруцься, толькі загавары, – і абарвецца кволенькая нітачка, паляціць дзядуля ў прорву-яму, і ніколі ўжо не выберацца адтуль, а паселіцца ў іншым месцы, на другой планеце, і будзе яму тады ўжо не сто дзесяць гадоў, а зноў трыццаць тры – як Ісусу Хрысту перад укрыжаваннем...

З грудзей вырваўся нейкі сіпаты і кароткі гук, і дзед, здаецца, усхліпнуў, не расплюшчваючы вачэй – яму стала чамусьці страшна, страшна, можа, ўпершыню ў жыцці. Страшна ад таго, што сілы яго ўздзеяння пачыналі губляць сваю моц, яны раставалі, бы сакавіцкі снег пад промнямі цёплага сонца.

– Хр-рр-х... – хрыпеў Нікадым, не гледзячы на ўнука, – хр-хррх...

– Казаў жа дуб асіне, каб не дужа гнулася пад ветрам, вось табе ад таго і кепска, і мне памагчы ўжо не здолееш. Нікуды не варты ты стаў, дзед, кволы... Але не сёння твой вечар, яшчэ на дзве бяседы ў тваіх жылах ажывіцца кроў...

Ніхто не ведаў, што елі дзед Нікадым і Міхаська. Як і не ведалі, за кошт чаго яны выжывалі, бо ніколі ж не палілі ў печы, не распальвалі грубкі. Таму што іх у хаце і не было. З таго часу, як людзі ў скуранках прыйшлі да дзеда і разбурылі іх, б'ючы абухамі сякер па тонкіх сценках з цэглы, яны і не ладзілі сабе ні грубкі, ні печы...

Не было ў хаце ні чыгуноў, ні місак. Толькі некалькі драўляных кубкаў, якія вырабіў даўным-даўно Нікадым. Чыгуны былі, але яны стаялі не ў хаце. Схаваны яны былі пад дубовым пнём і добра замаскіраваны ад чужога вока. То было іх адзінае багацце – у чыгунках рабілі адвары з зёлак, расклаўшы агонь каля самага ўзболатка, куды ніхто не мог дабрацца і перашкодзіць рабіць тую працу, якая доўжыла ім жыццё, давала сілы...

Чараваў над чыгункамі заўсёды дзед. Унук толькі назіраў, уважліва запамінаў, што рабіў Нікадым. А дзед зачэрпваў ліпавай конаўкай адзін адвар, выліваў у другі чыгун, а потым змешваў варыва ў трэцім – ужо з іншымі зёлкамі; потым, праз нейкі час, выліваў гарачы канцэнтрат у адмысловыя бутэлькі з часоў напалеонаўскай вайны...

То Міхаська знайшоў скарб пад дубам. У металічным куфэрачку было золата і брыльянты. Паказаў дзеду, і на яго вачах тое зіхоткае багацце закінуў у багну – яно ім карысці не прыносіла. А ў вялізнай скрыні, абабітай па вуглах і кантах нержавеючым металам, знайшоў бутэлькі з тоўстага шкла –

з зялёным адлівам. Дзед, убачыўшы такое багацце, абрадаваўся – пачаў адкаркоўваць бутэлькі. Наладзіў цэлую кананаду – коркі стралялі, вылятаючы з гарла, і ляцелі некуды ў балотную твань, туды, куды перад гэтым Міхаська адправіў зіхоткія вырабы.

Нікадым страляў, радаваўся, як малы, а ўнук рагатаў, гледзячы, як дзед расстрэльвае балота, пужаючы жаб і вужоў.

Хаця ж і не было ў хаціне печы, у драўляным цэбрыку ніколі, нават і ў трэскучыя маразы, ніколі не замярзала вада. І ніколі не было холадна, хаця ад марозу трашчалі вуглы і сцены... І тое таксама здзіўляла людзей, калі яны ў такі час завітвалі да іх. Што яны елі, і ўвогуле ці елі калі хаця б штонебудзь, ніхто дакладна не ведаў. Бо тыя ж кольцы каўбасы і хлеб, што прыносілі людзі, так і ляжалі некранутымі на стале.

Да яды не дакранаўся ні ўнук, ні Чарадзей. Але раз на год выбіраўся дзед Нікадым на вёску. Выбіраўся той парой, калі спраўлялі дажынкі, калі з першага збожжа можна было спячы хлеб – пад Багатуху, Багача. Яму ж пяклі тры боханы – і таго ставала на ўвесь год. І той хлеб у Нікадымавай хаце быў як толькі што выпечаны.

Летам і зімой у хаце дзеда было шмат гасцей: вуж Маўчун, гадзюка Царыца, – праўда, жылі яны асобна, у розных кутках хаты. Маўчун дык і на стол мог запаўзці, на плячы Чарадзея ўладкавацца. І Царыцу браў у рукі Нікадым. Але толькі тады, калі трэба было пазычыць у яе атруты – для лячэння бясплоднай жанчыны. Ён дабаўляў кропельку яе ў адвар з сямнаццаці зёлак. Гэты сакрэт трымаў дзед у тайне, аднаму Міхаську паказаў, як варыць і з чаго...

Лось і алянуха прыходзілі да двара. І воўк наведваўся часта, і ліса, вавёркі дык і зусім жылі ў хаце круглы год, на спажыву ды дзеля нарыхтовак на зіму пакідалі хіба толькі дзедаву хату...

Калі ж у Нікадымавыя нетрыскі кіраваўся які чалавек, пра тое папярэджвала сарока Чака – неспакойна лётала тады над хацінай і трывожна чахкала, даючы сігнал трывогі. Тады ўсе лясныя госці вярталіся на свае сцежкі і ў свае сховішчы – не жадалі сустракацца з людзьмі, паказвацца ім на вочы... Не любілі яны людзей з вёскі, – асабліва пасля таго, як невядомыя пабурылі ўсё ў хаце Нікадыма... Спаліць яшчэ хацелі селішча, ды ні адна сярнічка не загарэлася ў іх...

Тады машына, на якой пад'язджалі людзі да тэрыторыі Чарадзея, ужо на адваротным шляху, пераадольваючы невялічкі брод, правалілася ў багну – як у прорву. Ледзьве паспелі выратавацца. А тыя, што разбуралі печ і спрабавалі падпаліць дзедава селішча, не паспелі выскачыць з кабінкі – так і пайшлі на дно разам з машынай...

Потым тую машыну шукалі, спрабавалі дастаць, але нават і намацаць яе не маглі – згінула як на той свет. Ніхто не ведаў: то Нікадым адпомсціў зласліўцам за шкоду, якую нанеслі яму, ці тут ужо ўмяшаўся Бог і пакараў іх – злыя людзі яшчэ той жа сякерай пасеклі дзедавы абразы Божай Маці з маленькім Ісусам Хрыстом...

Пра той выпадак ведалі не толькі ў вёсцы, але і далёка за яе межамі.

...Нікадым сядзеў на прызбе, падставіўшыся сонцу. Прымружыў вочы, драмаў. Міхаська некуды збег – таптаў свае лясныя сцежкі, знаходзіў сабе занятак па душы: клікаў-склікаў да сябе лясных жыхароў і дурэў з імі да салодкай знямогі. Толькі звяры разумелі яго, толькі з імі адчуваў сябе шчаслівым і зразуметым. З ваўком спрачаўся навыперадкі –- па дваццаць кіламетраў маглі прабегчы без супынку, і на спіне таго ж ваўка ён вяртаўся дадому...

На каленях Чарадзея ляжаў, звіўшыся кольцам, шэры вуж.

З раніцы груваспіліся над лесам аблокі – пнулася неба на дождж, абяцала, што вось-вось абрынецца спорным ліўнем, ды нешта не заняжарнелі воблакі вільгаццю – паляскалі-пабурчэлі грамы-маланкі, ды і перасталі, суцішыліся... Людзі, ведаў Нікадым, чакалі дажджу. Бо на сотках гарэла бульба – звяў бульбоўнік  і памідоры пачалі хіліцца долу, страчвалі сілу і моц. Як на згубу смаліла спякота. А яму, Нікадыму, дык і ўсё роўна было, ідзе той дождж ці не – ні сеяць, ні жаць яму не трэба было. Але было шкода людской працы, патрачаных сілаў...

Жыў у дзеда і чорны бусел. Круглы год жыў. Ён адзін і не хаваўся ад людзей, хіба што яшчэ вавёркі... Для бусла Міхаська зімой даставаў з глыбіні прамерзлага азярца змерзлых жабаў. А ў сак, пад ільдом, убіваліся ўюны – любімы ласунак Чорнага.

Бусел падышоў, стаў побач. Паглядзеў на дзеда – як пра што пытаўся ў яго.

– Што, сумна аднаму, Бацян? – прытуліў Чарадзей чорную птушку, і бусел паклаў галаву старому на калені – як вінаваціўся за што перад гаспадаром. – Ну,  чаму не ляціш да сваіх суродзічаў? Я ж табе крыло змайстраваў – вунь як добра лётаеш над лесам. Баішся, што не даляціш у цёплыя свае краіны? Значыць, маеш розум, калі так, бо ведаю, што ты не з лянівых, і што птушка ты найразумнейшая з усіх...

Чорны заклекатаў, як бы гаворачы, што зразумеў дзеда, павярнуў галаву ўбок – пачаў услухоўвацца ў пошум густых дрэваў. Толькі тады зачахкала над галавой сарока, папярэдзіла-паведаміла, што да Чарадзея кіруюцца людзі з вёскі...

Нікадым ведаў, хто ішоў, але не ведаў таго, ці здолее памагчы ім, – кожны дзень адбіраў у яго дадзеную Богам здольнасць бачання і прадбачання падзей і даўжыні чалавечага жыцця, – ды і век яго ўжо рабіў свае апошнія кругі... Але ж тым людзям, што кіраваліся да яго, яму найбольш з усіх і хацелася памагчы... Яны былі яшчэ далекавата – толькі ўзыходзілі на хісткую кладку праз ручэй. Маці паперадзе, а сын ззаду – падтрымліваў яе, каб не ўпала, не звалілася да жабаў і вужоў, што кішэлі ў траве і лотацях...

“От, каб вы раней трошкі, ну хаця б на месяц раней выправіліся да мяне, як я яшчэ збольшага валодаў той сілай, якая магла вырваць дуб з коранем, чаго, праўда, я ніколі не рабіў, – то я адвёў бы ад вас бяду, прымусіў бы яе, гадаўку, замоўкнуць, адабраў бы ад яе чорныя мячы цемры – і яна назаўсёды адхіснулася б ад сваёй ахвяры... А цяпер што, што цяпер – ад хваробы яшчэ не адышоў, я амаль ужо і не Чарадзей-Чараўнік, і амаль што не чалавек... Ды што ўжо і казаць, аткі-маталкі, экх-хх...”

Стары зноў расчуліўся. Апошнім часам з ім тое здаралася часцей і часцей, што ён ужо і сам сябе ненавідзеў за тое. Вільготнымі рабіліся вочы, пачыналі дрыжэць рукі. А ён вельмі не хацеў гэтага, паказваць тое не хацеў...

Ён гладзіў даўгадзюбую птушку, быццам ёй скардзіўся на сваю нямогла写 сць, верачы, што бусел разумее яго, зразумее парэшты яго. Потым прыхінуўся спінай да сцяны, падставіў сонцу твар: “Грэй, сонейка, адагравай мае старыя косці, разагравай кроў, якая ўжо загусла, не так порстка бегае па маім целе, як раней... Эх-ма, тут-ка твою... Божа, то Ты, Усемагутны Божа, вучыў мяне: “Ці ёсць сярод вас такі чалавек, які, калі папросіць сын ягоны ў яго хлеба, камень падаў бы яму? І калі рыбы папросіць, змяю падаў бы яму? Дык вось, калі вы ліхія, умееце дары добрыя даваць вашым дзецям, тым больш Айцец ваш, Які ў нябёсах, дасць дабраты тым, хто папросіць у яго...

І вось усё, што хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабеце ім: бо ў гэтым закон і прарокі. Уваходзьце вузкаю брамаю, бо шырокая брама і прасторная дарога вядуць у пагібель, і многія ідуць імі; бо вузкая брама і цесная дарога вядуць у жыццё, і нямногія знаходзяць іх...”

10

Мальвіна яшчэ звечара замясіла цеста ў дзежцы, кінула туды трошкі насення кропу (ведала, што Нікадым любіць такі хлеб), накрыла палатняным ручніком і пакінула ў запечку.

Раніцай выпаліла ў печы бярозавымі і дубовымі паленцамі – каб дух быў мацнейшы, каб хлеб набыў сваю духмянасць і сілу, каб стаў той жывой істотай, без чаго не можа пражыць ніводзін чалавек...

Хаця Вінцуку ўжо можна было і пакінуць працу, заставалася мала часу на зборы і падрыхтоўку, ды прыбег дадому брыгадзір трактарнай брыгады, пачаў умольваць-угаворваць хлопца:

– Браце Вінцук, ну хоць дзянёчак яшчэ пакруці баранку, га? Бо хлопцы з пахмелля, насвяткаваліся на дажынках, што і яшчэ не могуць ачомацца... Я прымусіў бы іх працаваць, ды каб якой бяды не нарабілі... Выручы хіба, Вінцук, га? Богам прашу...

– Добра, Пятро, угаварыў. За Адолькавым кругам араць?

– Ага, за Адолькавым. Дзякую, Уюн, выручыў. Будзеш у арміі – не хвалюйся – з соткамі маці не будзе мець праблемаў, ну і ў іншым ад мяне помач будзе, – паабяцаў сябар, паціснуў руку і пашыбаваў далей па сваіх клопатах.

А Вінцук на тым полі ўсё, як мерыўся, не ўзараў. Не паспеў. Паехаў туды і на другі дзень, хаця яго і не прасіў ужо Ястрабок, саромеўся, ды і так уважыў яго... Працаваў у ахвотку, ведаючы, што надоўга развітваецца з трактарам, мо і назаўсёды, бо даб'юць пасля яго хлопцы да ручкі, ды і тэрмін яго выпрацоўкі даўно скончыўся – яшчэ пазалетась...

Апошні разварот на полі зрабіў па абедзе. І з добрым настроем вяртаўся на машынны двор. Адступіла некуды на задні план Аксана з яе неадольнай прагай-смагай і імкненнем аблытаць яго, спалюндраваць... Ёй яшчэ два тыдні заставалася быць у санаторыі. А за гэты час Вінцук апране вайсковую форму, возьме ў рукі аўтамат, які ўсырычваюць кожнаму грэнадзёру, – і памінай як звалі... Але кожную ноч у сне прыходзіла-прыпаўзала тая, на пні, гадзюка, матляла галавой, стаяла на хвасце – хацела ўкусіць. Потым ператваралася ў незразумелую пачвару – з тварам Аксаны Журавель.

У хаце, калі зайшоў Вінцук, церпка патыхала свежаспечаным хлебам.

Хлеб ляжаў на лаве – умыты крынічнай вадою, накрыты палатняным ручніком. Пяць круглых боханаў ляжалі на шырокай лаве.

"І куды столькі, навошта? – падумаў, распранаючыся. Кінуў сваё адзенне асобна ад усяго – бруднае, у якім ён пэцкаўся пад трактарам. – Хіба ў армію мне, дык я цэлы ўзвод ці роту магу ім пачаставаць..."

Стукнулі веснічкі, прыйшла з фермы маці. З акна ўбачыў яе – ішла да хлява. Мальвіна прачыніла дзверы і выпусціла ў двор рабых парсючкоў – каб на сонцы пагрэліся, у канаве-калюжыне пакачаліся...

– То ты прыйшоў ужо? – не падзівілася маці, скідаючы з сябе шэры пінжачок. – А я, бач, хлеба напякла.

– І навошта столькі?

– Тры занясем Нікадыму і Міхаську.

– Нікадыму? – паглядзеў на яе сын. – Да яго пойдзем? Чаго?

– Да яго, сын. Трэба ісці. Бо не бачу іншага выйсця. Не хачу, каб і цябе яна зжыла са свету, не давядзі, Божачка! Прашу, сынок, не праціўся. Ён жа і бацьку твайго некалі адратаваў, і мяне, як Макушыха сурочыла, хваробу наслала. І цябе, веру, абароніць ад злых чараў вядзьмаркі... Пойдзем, га, сын?

Ён паразважаў, адказаў:

– Добра, мама. Сходзім. Калі?

– Заўтра. Акурат і маладзік нараджаецца – усё набірае сілу, і дзед мо мацнейшы будзе. Вунь Пятро Барылін – ледзьве дапоўз да яго, а вярнуўся здаровым чалавекам... А ў цябе не хвароба, у цябе іншае...

Маці паставіла на стол абед – гарачы, толькі з печы, капусту з грыбамі, патэльню з бульбай і яечняй. Але не паспелі сесці за стол, як у сенцах нехта гучна загрукаў ботамі, потым яшчэ мацней загрукаў у дзверы. Дзынкнула клямка, расчыніліся дзверы. І на парозе, прыставіўшы руку да брыля фуражкі, выструніўся салдат, зычна прамовіў-далажыў:

– Радавы Барылін прыбыў у адведкі! Дзень добры вам у хату!

Нейкі момант Вінцук стаяў здранцвелы, як і маці, – не чакаў убачыць перад сабою свайго лепшага сябра. Потым кінуўся да яго, абняў і сціснуў у абдымках, прыпадняў, адарваў ад падлогі.

– Віцька, ці ты гэта, га?

– Я, я... Вось з’явіўся, не запыліўся.

– Чаму не напісаў, не папярэдзіў?

– Я і сам не ведаў, нечакана ўсё адбылося.

Яны яшчэ нейкі час не адпускалі адзін аднаго з абдымкаў, як танцавалі нейкі незразумелы танец, пераступаючы з адной нагі на другую, прытуліўшы шчаку да шчакі.

– Ох, Віцька, і ўгадаў ты прыйсці – акурат абедаць сабраліся. Сядайце за стол, хопіць абдымацца, – глядзела цёпла на іх Мальвіна, радуючыся сустрэчы і таму, што ў яе сына такі добры сабар – сын яе сяброўкі.

Вінцук аслабіў рукі, выпусціў танкіста са сваіх абдымкаў, ужо глядзеў яму ў вочы:

– Прашу за стол! Маці, дзе наша горка-салодкая?

На стале з’явілася пляшка “карчоўкі”, што вясной з сынам выгналі ў лесе, у карчах, ля возера. То ж і да пасяўной трэба, і калі хто дроў прывязе, і госць які ў хату завітае, – без яе, самагонкі, не абыдзешся. І з ёю гора, а без яе і ўтрая горш...

Калі Вінцук наліў па шкаліку, і маці трошкі, калі прайшло першае ўзрушэнне і радасць, калі зноўку напоўнілі, калі гамана ўжо стала спакойнай і ціхай, прамовіла:

– А ты, Віцька, як узмужнеў за год – сапраўдным мужчынам стаў...

– Армія, цётка Мальвіна, яна робіць з нас мужчынаў... Каго згінае ў дугу, а каго песціць... Калі прыйдзе пара і Вінцуку ісці ў войска, то сам даведаецца, што і да чаго...

– Ды прыйшла пара ўжо, – уздыхнула маці. – Праз тыдзень забяруць.

– Праз тыдзень? – падзівіўся Віцька з навіны, не верачы. – Дык я, выходзіць, на тваіх праводзінах пагуляю?

– Пагуляеш. На пачэсным месцы пасаджу, – кіўнуў яму сябар і зноў наліў – але па палавінцы ўжо, перад маці няёмка было – не любіла яна, калі хто задужа браў гарэліцу, і яго аберагала ад гэтага...

– Вам з Кіева не прыходзіла не так даўно пісьмо? – пацікавіўся Віцька, успомніўшы пра сустрэчу на базары Маладзечна, здаволіўшыся абедам і “карчоўкай”.

– Не, – адказала маці. – А хто павінен быў яго прыслаць?

– Адам Камок... Вы яго не ведаеце. Ён разам з вашым Антонам на зборах быў. Расказваў, як загінуў Антон. Месяц назад мы з ім пазнаёміліся. Не можа быць, каб не напісаў. Не дайшло, значыць, а мо і згубілася па дарозе... А мо і не прынеслі. Мо і Аксана...

– Можа і яна, – пагадзіўся Вінцук. – Усё можа быць.

“Ды яна, няйнакш, – падумала пра сябе, не праказала ўголас Мальвіна, успомніўшы, як паштарка пазбягала сустракацца з ёю, аббягала, не глядзела ў вочы пры нечаканай сустрэчы, хаця, з другога боку, не было і ў яе вялікага жадання і ахвоты сустракацца з дзяўчынаю, – і не навядзеш цяпер ніякай даведкі, бо можа не заказным адправіў, без уведамлення... А шкада, слоўца пра Адама ўсцешыла б душу, мо што і новае пра яго даведалася б...”

– На яго руках памёр, – ціха праказаў Віцька, – а машына іх у роў звалілася... Узбек, першагодак, быў за рулём... Вінцук, давай твайго бацьку кропляй памянём...

– Давай.

І маці выпіла, пра сябе зноў падумала: “Адабралі бацьку ў сына, мужа ў жонкі – і вінаватых няма, як і не было чалавека на свеце... Хай будзе праклятая тая армія, якая губляе сваіх саладатаў не на полі бою, а на будаўніцтве катэджаў для генералаў!..” Потым Віцька глянуў на гадзіннік і засабіраўся, адчуваючы, што забавіўся, а маці не папярэдзіў – хвалявацца будзе.

Падзякаваў за пачастунак, развітваючыся каля парога, сказаў:

– Цётка Мальвіна, і ты, Вінцук, у пятніцу да нас прыходзьце, невялічкую вячэру сустрэчы наладзім... Без вас нельга, таму прашу прыбыць. Вы ж для нас, самі ведаеце, самыя жаданыя госці. Прыходзьце!

– Ды прыйдзем, прыйдзем, – паабяцала Мальвіна, і на яе твары засвяцілася ўсмешка – прыемна, калі ёсць сябры, калі ёсць да каго схадзіць у госці... Спяшайся да маці, бо, мусіць жа, не сказаў, куды пабег?

– Не сказаў, – матлянуў галавой адпускнік і хуценька нырнуў у прачыненыя дзверы, што нават Вінцук не паспеў падрадзіцца правесці яго, а калі ўжо выйшаў следам у двор, то сябар ужо далёка ад веснікаў шыбаваў па вуліцы ўбок сваёй хаты...

Да дзеда Нікадыма выбраліся пад абед.

Вінцук нёс у палатнянай торбачцы тры хлябы.

Тупаў следам за маці – як у дзяцінстве, калі яна яго вадзіла да Чарадзея. Мо з тае пары і не была Мальвіна ў яго хаце. Але бачылася з ім значна пазней – у краме. Нікадым, здаецца, нічога і не збіраўся купляць, – у яго ніколі не вадзіліся грошы. Ды ён ніколі і не імкнуўся іх мець. Хаця ж, калі ён таго захацеў бы, то мог стаць першым багацеем сярод тутэйшых шараговых людзей.

Мальвіна тады павіталася, схіліўшы перад дзедам галаву, як перад святым, спытала, гледзячы ў разумныя, блакітныя, як у юнака, вочы:

– Як здароўечка, дзед Нікадым? Даўно вас не бачыла. Як Міхасёк ваш?

Ад дзеда плыў пах васковых свечак, сухіх пахкіх зёлак, парэчак... Ніхто з людзей так не пахнуў, як дзед.

– Дзякую, нябога, нічога. І я, і Міхасёк. Добра нам там, убаку ад вашага тлуму... Спакойна. Не чуем пра вашую калатнечу, пра вашыя пустыя клопаты і трывогі... Усё мітусня... А там я бліжэй да Бога. З Ім мы вядзем доўгія і задушэўныя бяседы...

Ну і тады, як Макушыха наклікала на яе бяду, убачылася з дзедам яшчэ раз. І тады ён прыходзіў у вёску. Як адчуў, як ведаў, што яе пранізалі чорныя стрэлы хваробы...

– Не адставай, сынок, – абярнулася маці, – мы і так прыпазніліся трошкі, а стары не любіць, калі хто на схіле сонца прыходзіць да яго.

Сын нічога не адказаў, а толькі прыспешыў крок. Задумаўся, таму і запаволіў хаду. Трошкі было і няёмка, што маці так апякае яго, нават недзе і сорамна, быццам ён яшчэ хлапчук. Але тут, калі паглядзець трошкі інакш на ўсё, то тое выглядала не апякунствам, не матчынай сляпой любоўю, а неяк зусім інакш – матуля старалася знайсці для яго заступніка і абаронцу ад чорных чараў унучкі Макушыхі... Бо баялася за яго, Вінцука, які ўляцеў у пельку, ублытаўся ў сіло, як птушка, з якога цяжка выблытацца без пабочнай дапамогі – верыла ў тое, што адзін толькі дзед здолее памагчы. Бо Бог яго надзяліў дзівоснай сілай, якую ён выкарыстоўвае толькі на добрыя справы...

Была ж шырокая дарога, бальшак, але маці чамусьці павяла вузейшай дарогай, дзе быў масток, праз які ехалі вазы... Потым павяла вузенькай сцежкай, якая вывела на доўгую кладку праз балотца. Праціскалася між дзвюх тоўстых алешын, азіраючыся, ці не адстае ад яе сын...

Яны выбіліся на светлы прагалак. Маці ў кароткіх гумовіках, у тых, што хадзіла па ферме, ён жа – у рыбацкіх, бацькавых, з апушчанымі халяўкамі, – не па сухім жа збіраліся ісці, а па балотах і гразкіх сцежках: глыбока і далёка хаваўся дзед Нікадым ад людскога вока. Да яго не вяла ніякая сцяжынка – кожны таптаў сваю...

Не тутэйшы, чалавек з іншых мясцінаў, ніколі ў свеце не знайшоў бы дарогі. Не ўсе і вяскоўцы маглі знайсці яго – каго не хацеў бачыць Чараўнік, то і не дапускаў да сябе, – і блудзіў той чалавек, не знаходзячы ніякай сцежкі ці дарогі. Ніхто не мог прывесці да яго чужынца альбо злога чалавека – Нікадым на адлегласці ведаў, хто і па якой прычыне кіраваўся да яго...

Зачахкала над галавою сарока, як пыталася, што за людзі ідуць, куды трымаюць шлях:

– Чак-чах... ча-ча-чак!..

– Да дзеда Нікадыма ідзем, сарока-белабока! Ці дома хаця ён, а мо дзе падаўся па сваіх клопатах-сцежках? – маці глядзела ўверх, над галавой, дзе пырхала неспакойная птушка, размаўляла як з разумнай істотай... – А мы ў госці ідзем, ёсць пільная патрэба...

Перайшлі яшчэ адзін ручэй, потым другі...

Зноў кладка праз дрымучую багну. Нехта зваліў алешыну і счасаў роўненька зверху, – каб льга было пераходзіць на другі бераг. Маці баялася глядзець уніз, але ішла роўна і прама, не хісталася, не махнуўшы ніводнага разу рукамі для раўнавагі. Вінцук зірнуў уніз. Убачыў, што ў балотнай твані поўзалі вялікія жукі; маўкліва поўзалі адзін па адным і ныралі ў нетрыскі тоўстыя шэра-карычневыя вужакі.

Не хапала адно хіба балотнага цара, які сядзеў бы на сваім залачоным троне, і кіраваў бы балотным жыццём...

– Ну, Вінцук! – ужо з таго берага зноў клікала дакорліва Мальвіна, – усюды яму трэба зазірнуць, убачыць на свае вочы... Тут дзедава царства-каралеўства, і чалавечаму воку не след тут прыглядацца да ўсяго...

“Ну, як дзіця неразумнае, мо таму і не можа выбавіцца з Аксанінай пасткі, бо слабы яшчэ душою і целам...”

А во зноў кладачка. І для рук нехта жэрдачку прымацаваў. А за пагорачкам, на якім выраслі дуб, елка і бяроза, у гушчыні яловага лесу ёсць тунэльчык. Пасля яго сцежка выведзе на паляну... А вось за ёй ужо, у густым ельніку – і хата Чараўніка...

Дзед сядзеў на прызбе – грэў на сонцы сваю белую, бы воблакі ў небе, бараду. Не зварухнуўся, калі падышлі да яго. Не зварухнуўся, калі сталі, чакаючы, калі паглядзіць на іх лесавік.

– Ну, што, з’явіліся? Ведаю, чаго... А раней чаму не дадумаліся? Думаеце, я ўсясільны, тутка-тваю, эх-ма... Ну, сядайце, раз прыйшлі... У нагах ніхто праўду не паклаў...

– Добры дзень, дзядуля! – павіталася жанчына, за ёю і сын: – Добры дзень, дзед Нікадым!

Госці селі, глядзелі ўважліва на Чарадзея.

– Ну, што мне сказаць табе, хлопча? – уздыхнуў цяжка дзед, расплюшчваючы вочы, узіраючыся ў хлопца, – атуліла цябе сваім чорным крылом вядзьмарка. Добра, што не паддаўся на яе чары, устояў, – згарэў бы ты на тым агні за некалькі дзён... Яна магла цябе і сама прываражыць, прычараваць, і нікуды ты не падзеўся б... Але яна хоча, каб ты сам закахаўся ў яе... Тут-ка тваю...

“Адкуль Нікадыму вядома гэта? – здзіўляўся хлопец, гледзячы на старога. – Ён жа не жыве ў вёсцы – нікога не бачыць, адкуль ведае пра ўсё?!”

Ад гэтых думак у яго па спіне прабеглі мурашкі, халодны павеў ветру лізануў за грудзі – тут нешта было ад містыкі, ад фантастыкі. І ў тое цяжка было паверыць. Такое не ўкладвалася ў галаве – у дзеда ёсць нябачная відэкамера, камп’ютар? Як і чым ён усё бачыць, ведае і чуе?

Да госці падышоў бусел, схіліў галаву, як нечага чакаў ці прасіў.

– Пачастуй, Мальвіна, бацяна тым, што прынесла.

Жанчына дастала бохан хлеба, адламала ладны кавалак і падала Чорнаму. Ён асцярожна ўзяў у дзюбу пачастунак і адышоў убок – пачаў разломваць і задзіраць дзюбу...

– Ведаю пра ўсё, але не ўпэўнены, ці здолею памагчы табе, хлопча... Сілы ўжо не тыя, лічы, што іх зусім ужо нямашака... Ведаю, што замысліла яна чорнае супраць цябе. Калі ж будзе не па-ейнаму, калі ты не спраўдзіш яе спадзяванні, то можа пайсці вядзьмярка на крайнія меры. Таму асцерагайся, хлопча, яе, не бойся, але асцерагайся... Будзь мудрым і настойлівым. Вазьмі вось, адзень на шыю, адзінае, што яшчэ трымае маю сілу. Калі ж адчуеш млявасць, калі ж адчуеш, што яна падступаецца да цябе і хоча ўпіцца сваімі кіпцюрамі ў цябе, то чытай, хаця і пра сябе, “Ойча наш...” Ды не на чужой мове, а на нашай... А крыжык будзе ахоўваць цябе ад яе чорнага ўздзеяння. Астатняе будзе залежаць ужо толькі ад самога сябе і – ад Бога.

– Дзякую, дзед Нікадым, – шчыра падзякаваў Вінцук, адчуўшы сама найбольш, мусіць тут, каля Чарадзея, якая небяспека яму пагражала.

Пачутае ўразіла, ашаломіла, хаця ён і здагадваўся, і ведаў, у якую багну трапіў. А словы мудрага старца раскрылі на ўсё вочы з поўнай існасцю і разуменнем. Ён тут жа прасунуў галаву ў шаўковую завязку – і срэбны крыжык лёг яму на грудзі.

Чараўнік вяла махнуў сухенькай рукой:

– Не трэба мне дзякаваць. Богу дзякуй. То з Яго ласкі ўсё мае быць... Малітва да Бога ў слове, а слова – ёсць Бог. А цяпер ідзіце з Богам – стаміўся я дужа. У маім жыцці вы апошнія, каму я аказваю помач... Больш да мяне ўжо ніхто не прыйдзе – згасаюць мае сілы, во на яго, Вінцука, хаця хапіла б...

Да іх нячутна падступіўся Міхасёк, стаў побач з дзедам, і як бы з дакорам сказаў:

– Я ж казаў дзеду Нікадыму, і дуб казаў асіне, каб не гнулася дужа пад ветрам... А вам трэба было трошкі раней прыйсці, як дзядуля быў дужэйшы...

Вінцук паглядзеў са здзіўленнем на маці – адкуль узяўся гэты хлапец у зрэбным, як і дзед, адзенні, і пра якога дуба і асіну казаў? Дык то мо той Міхаська, унук яго, пра якога гаварыла маці і людзі ў вёсцы, што ў яго трошкі парушаны розум...

Але ж і не скажаш, што ён дурненькі, як мовілі вяскоўцы, – і словы, і думкі ў яго правільныя, лагічныя...

Тады ж чаму дзед не можа вылечыць яго, калі і сапраўды валодае незвычайнымі лекарскімі здольнасцямі?

– Не маглі мы, Міхасёк, раней, – адказала Мальвіна, папраўляючы пасмачку косаў, што зляцела на вочы, – ды і не думалі, што так яно ўсё абернецца. Думалі на добрае, а яно, бач, як павярнулася ўсё... Дык мы ўжо і пойдзем, дзядуля?

Нікадым ледзь-ледзь паварушыў рукой, але ўжо не здолеў падняць яе, каб махнуць, дабраславіць на дарогу... І губы ў кудлатай барадзе толькі крануліся, не выпусціўшы слова: дзядок заснуў, як праваліўся ў бяздонне і не падаваў адтуль хаця б слабога голасу...

– Я правяду вас з Чорным, – падрадзіўся Міхаська і сам першы, разам з бацяном, пайшоў паперадзе. – Я ж казаў дубу, каб асіна дужа не гнулася пад ветрам... Бо яе ж можа вецер вырваць з коранем...

– Можа, Міхасёк, можа, – паддаквала яму Мальвіна, шкадуючы адначасова хлопца, што яму выпала такая горкая доля ў жыцці – што як не стане раптам Нікадыма, то куды ж яму падзецца, што станецца з ім? Бо дзед вунь як сябе пачувае – слабее і слабее з кожнай гадзінай, як і трымаецца яшчэ душа ў слабым целе?

Яны прайшлі гушчарняк, і Міхась застаўся з Чарняком на беразе, а Мальвіна і Вінцук пайшлі па кладках. Мальвіна яшчэ раз азірнулася, прамовіла да хлапчука:

– Бывай, Міхаська! Глядзі дзеда, ён дужа слабы!..

– Казаў жа і дуб асіне, а яна...

І – заплакаў.

Як хаваў каго.

Як праводзіў некага ў апошні шлях.

Як адышліся ад Нікадымавых уладанняў, Вінцук не вытрымаў, папытаўся ў маці:

– Як ты да яго дарогу знайшла? Мне б ніколі і не адшукаць...

– Таму і пайшла, сынок, з табою. Ведаю, што табе не даспадобы мая апека, бо ты думаеш пра сябе, што ты дарослы, што ўсё ведаеш, маеш свой розум і што сам выбіраеш свой шлях у жыцці, не любіш, калі хто ўмешваецца ў твае клопаты... Усё так, правільна. Але тут, сын, іншае. Тое ты з цягам часу зразумееш, калі не зразумееў сёння. Самі мы ніколі не выблыталіся б з чорнага павучыння вядзьмарства, таму і пайшлі да яго. Як знайшла? Я і не шукала яго. То дзед нас сам вёў да сябе. Думаеш, што ўсе, хто хацеў дабрацца да яго, даходзілі? Ды не, каго не хацеў бачыць Чарадзей, то ўказваў яму другую дарогу...

– Чаму?

– Значыць, чалавек недзе награшыў, быў не ў суладдзі з Богам, а грахі не замаліў. Дзед такім памагчы не мог... Цябе ж дзед прыняў, хаця, як я бачу, траціў на цябе апошнія сілы. Цяпер ад цябе ўсё залежыць, і мая апека больш не спатрэбіцца...

Вінцук нічога не сказаў, уздыхнуў, ківаючы згодна галавой, чакаў, калі маці ступіць крок, каб ісці далей.

“Божачка, памажы нам, памажы майму сыну!.. Адвядзі бяду ад нашай хаты, ад майго Вінцука, – прасіла жанчына дапамогі ў Вышняга, у сілу і міласэрнасць Якога верыла і спадзявалася... Няхай абміне нас бяда і няшчасце.. Навучы мяне, Госпадзе, шляхам Тваім, і накіруй мяне на сцежку праўды... Злітуйся над намі, памажы!..”

Дадому прыйшлі як сонца ўжо сядала за лесам, свяціла ў спіны, яны наступалі на свае цені.

Куры, што сноўдалі па двары, чакалі, калі гаспадыня дасць ім корм, парсюк, пачуўшы іх, падаў голас.

Сабака вылез з будкі, пачаў віляць хвастом, пазяхаў.

– Пацярпіце трошкі, – загаварыла да ўсіх Мальвіна і, закасаўшы рукавы, адразу ж прынялася порацца па гаспадарцы.

## 11

Ужо трынаццаты дзень Аксана ў “Соснах”.

Час быў запоўненымі рознымі працэдурамі – прымала жамчужныя ванны, глытала кіслародную пену, хадзіла на падводны масаж, купалася ў басейне, сцякала потам у саўне, – а пастаянна думала пра Забалацце, пра Уюна... Як захварэла ім, як паралельна з піеланефрытам другая хвароба прычапілася да яе. І сама сябе дакарала, ненавідзела нават, былі моманты, што хацела скарыцца лёсу – ну не хоча яе, дык няхай яно так і будзе, дык не, Уладар цемры ноччу шаптаў нешта здзеклівае на вуха, пасміхаўся з яе, папракаў у яе слабасці...

Апошняй ноччу дык і прысніўся Вінцук. Быццам гулялі з ім па бярозавым гаі, у тым, што за Бронькай, а потым яна яго завабіла ў сваю пуньку – і абдымала, і цалавала яго да кружэння ў галаве, радуючыся, што здзяйсняецца задуманае... Яна лётала ў аблоках ад шчасця, ад таго, што ён паддаўся, пакахаў парэшты яе, зрабіў жанчынаю... А потым ён захацеў спусціцца ўніз, на хвілінку, па патрэбе, і, не апранаючыся, голенькі, шуснуў уніз... Яна чакала яго, адчуваючы, як гулка б’ецца яго сэрца. Пачала клікаць, не баючыся, што яе пачуюць з вуліцы... Уюн не абзываўся. Тады яна спаўзла на край праёміны і спужалася, жахнулася, – унізе спрэс была вада. Шмат вады, што і дна не відаць. І не стала драбіны, па якой падымаліся. Уюн забраў? Ці вадой знесла? А як жа Вінцук – ці не ўтапіўся? Ці збег ад яе, сеўшы ў човен... Але які тут можа быць човен? Нехта захіхікаў за падстрэшшам, як здзекаваўся з яе...

Яна баялася ступіць у ваду – не ўмела плаваць. Нехта невядомы, ззаду, піхнуў яе ў спіну – і яна паляцела ў праёміну, у шэрую ваду. Ад страху, што было моцы, закрычала:

– Ую-юуун! Вінцу-ууук!..

Голас са сну перарос у яву – яна на ўвесь пакой выводзіла працяжнае “у-ууу...”

І ад свайго ж голасу-завывання прачнулася. У пакоі нікога не было – Людка, як і кожную ноч, ляжала, абвітая нечымі чарговымі мужчынскімі рукамі. Аксана села на ложку, спусціўшы ногі долу. Хацелася ўключыць святло, але размаранасць была мацней за жаданне. Ды і жаданне было слабое, бо не любіла яна святла, яе душы больш падыходзіла цэмра ці шэры змрок. У цемры Аксана адчувала сябе як рыба ў вадзе, бачыла лепш, чым днём. Ноччу ж яна размаўляла з Уладаром цемры, раілася з ім, брала ў яго чорную энергію на чорныя справы...

Днела – слабое святло прабівалася скрозь фіранкі.

А праз хвіліну пачаў ружавець усход. Таму дарэмна было ўжо выклікаць свайго дарадчыка для парады – не адгукнецца, не паможа пры святле. Бо бяссільны, бездапаможны пры святле... Спаць ужо не хацелася. Але калі зноў прытуліла галаву да падушкі, каб проста паляжаць і не пра што не думаць, – тут жа яе абвалок цёпла-салодкі туман, – і яна паплыла ў чоўне па тым жа разліве, грабучы важкім кляновым вяслом. Грабла і азіралася вакол – мо дзе ў такім жа чоўне плыве і Уюн. Але як ні ўглядалася ў густое мроіва туману, колькі ні кружляла між купчастых лазнякоў і алешын, – не ўгледзела яго...

Прачнулася ад таго, што загаварыла радыё. То яно маўчала ўвесь час, а то нечакана прарваўся непрыемны хрыпучы голас. Расплюшчыла вочы – побач з ёю стаяла Людка.

– Выбачай, што разбудзіла, – вінавацілася жанчына, прычэсваючыся адначасова, – але пара ісці на сняданак. Ці ты мо прыхварэла, прынясу табе сюды?

– Ды не, – пацягнулася ў ложку Аксана, хаця і была не задаволеная ў душы, што сон перарваўся на самым цікавым месцы – яна акурат убачыла між лазнякоў, наперадзе, нечы човен, – падалося, што ў ім сядзеў Уюн, сядзеў спінай да яе. – Не ты разбудзіла, а радыё.. Спалася кепска, толькі пад раніцу звяла вокам.

Порстка паднялася, прайшлася голая па пакоі, і Людка паспела агледзець яе. Стройная, гнуткая, налітыя маладыя грудзі з тоўстымі ружовымі саскамі, якія яшчэ не зведалі грубых мужчынскіх рук, і ў клубах добра складзеная – што яшчэ трэба яе хлопцу? Прынцэса!

– А ніштаватая ты дзеўчына! – не вытрымала, пахваліла Людка, ужо адвёўшы позірк. – Усё ў цябе ёсць, і ўсяго па норме...

– Дзякую…

– І не можаш прыцягнуць да свайго прыгожага цела аднаго з тысячы хлопцаў? – дзівілася настаўніца, села на свой ложак. – Сляпы ён у цябе ці дурны? Я б, маючы такую сілу, як у цябе, закахала б яго ў сябе – і не мучыла б сябе дарэмна.

Аксана нахілілася нізка над галавой Людкі – вочы ў вочы, лёгка ўсміхаючыся, прызналася:

– Людка, Людка... Ды я яго магу на адлегласці прысушыць, зрабіць так, каб ён на крылах, заўтра ж, прыляцеў да мяне, падаў і качаўся ля маіх ног, умольваў, каб я была яго, толькі яго... Але – не хачу так. Усё тое, Людміла Дамінікаўна, будзе мой прымус, маё чарадзейства. А я хачу, каб у яго самога тое пачуццё прачнулася. З-за якога людзі вар’яцеюць і робяць бяздумныя ўчынкі. Я такога хачу! Такога хачу кахання – і ніякага іншага!

Людка адхіснулася, але не спалохалася, хаця ад дзяўчыны сыходзіла гарачыня, як ад жнівеньскага сонца, – толькі глядзела шырока раскрытымі вачыма і не магла нічога вымавіць – ні адобрыць жаданне паштаркі, ні пасмяяцца з яго...

– Але калі ж не адбудзецца тое, калі ён адпрэчыць мяне, то... – зноў заўсміхалася Аксана, не даказаўшы, што ж хлопцу пагражала за яго ўпартасць, і ў яе ўсмешцы было нешта пагрозлівае, ад чаго ў Людкі прабегла па целе дрыготка – ад суседкі па пакоі ўжо плыў халадок, снежнай лавінай выглядала яна, – і я ўжо тады з сабою нічога парабіць не змагу. Таму ён павінен баяцца мяне і асцерагацца майго гневу...

Аксана выпрамілася, як быццам апамяталася, што робіць нешта не так – хуценька апранулася, а потым толькі спаласнула твар пад мыцельнікам, адным дотыкам рукі паправіла прычоску, весела ўсклікнула:

– Усё, Людка! Пайшлі снедаць – спазняемся.

Уладар цемры пасылаў ёй свае сігналы праз сны. Напамінаў, што не так проста ўсё, як думалася, як планавала для сябе вядзьмарка. І Аксана яшчэ ноччу адчула трывогу. Вада і лодка, у якой сядзеў Уюн, азначала, што хлопец збіраецца некуды з’ехаць. Але куды ён з’едзе – хіба ж ёсць на зямлі такое месца, куды яна не змагла б дабрацца? Няма такога месца...

Каб да канца разабрацца ў сваіх сумненнях, рашыла пазваніць на пошту сваім сяброўкам. Верка Дранік, якая падмяняла яе, якая насіла пошту ў Забалацце, павінна ведаць, якія там навіны. Тым больш, ад’язджаючы, Аксана прасіла яе, каб тая “трымала руку на пульсе”...

У паштовым аддзяленні санаторыя, у танклявай, малой, бы падлетак, але маці траіх дзяцей, Алёны, заказала перамовы. Праз колькі хвілінаў з цэнтральнай пошты зазвінеў званок, і яна пайшла ў кабінку.

– Як ты там, Аксана? – пацікавілася на другім канцы дроту падменшчыца; чуўся яе смех – дзяўчаты, мусіць, разбіралі пошту. – Адпачынак і лячэнне ідуць на карысць?

– Усё нармальна, Верка. Надвор’е выдатнае, хаджу на працэдуры, гуляю па лесе. Пошту разносіш спраўна?

– А як жа.

– У армію там нікога з хлопцаў не забіраюць?

– Занесла позву Уюнову. У суботу яго забіраюць. І яшчэ траіх – з суседніх вёсак.

– Уюн ідзе ў армію?! – перахапіла дыханне ў горле. – Я ж цябе прасіла пазваніць, калі яму занясеш позву... Ты што, Верка?!

– Ой... Я і забылася... – сумелася сяброўка, не ведала, як і апраўдацца. – Я зусім забылася. Вечар праводзін у пятніцу, а ў суботу – усіх у ваенкамат.

Аксана злосна кінула тэлефонную слухаўку, быццам Верка была вінаватая ў яе душэўных непаладках. Яе душыла злосць. І – крыўда. На Верку, на Вінцука, які даў слова не ўцякаць ад яе. А калі з другога боку – хіба ж ён уцякае, то яго забіраюць, адрываюць ад яе... Яна з усіх сіл старалася і абараніць яго ад самой сябе, хацелася даць яму яшчэ адзін, і, мусіць ужо, апошні шанец для выратавання. Каб потым ужо і сябе не дакараць за тое, што паступіць з ім жорстка і з халоднай абдуманасцю. Хацелася самой упэўніцца, пераканацца, каб потым ужо абрынуць на яго ўсю сваю злосць і знявагу...

Кінуць-рынуць усё і з'ехаць – яна не магла. У бібліятэцы ўзяла некалькі кніг, а бібліятэкарка захварэла і будзе толькі праз два дні, як напісана ў аб'яўцы на дзвярах, ды і цягнік ідзе толькі па цотных... Браць таксі і гнаць без супынку? Дык і грошай на такое не набярэцца. Парэшты яна шукала толькі прычыну, хаця ж магла плюнуць на ўсе ўмоўнасці і сказаць галоўнаму ўрачу санаторыя, што ў яе памерла маці, што ёй трэба быць абавязкова дома, – і выправіцца неадкладна ў дарогу. Хоць на перакладных, хоць на спадарожных...

Але нешта яе ўтрымлівала. І не толькі ўсведамленне таго, што нікуды ён не падзенецца ад яе, што і на адлегласці ён будзе побач, і яна ўсё роўна будзе мець над ім уладу. Думала і пра тое, што не след гарачыцца, а трэба спакойна абдумаць усё, узважыць... Бо вельмі ж шмат пастаўлена на Уюна, каб адным неасцярожным і неабдуманым учынкам усё не перакрэсліць...

Нават не выклікала ноччу Уладара цемры, не пажадала раіцца з ім, узгадняць – і сама бачыла, што чакаецца наперадзе. Ведала і тое, што будзе потым папракаць яе за мяккацеласць, за адсутнасць смеласці і рашучасці. Бо магла б усё вырашыць адным махам, адным сваім жаданнем і загадам... Але ж хіба растлумачыш яму, што і яна гэтак жа думала напачатку, але ў нейкае імгненне перамяніла сваю думку і пайшла ўжо іншым кірункам, – і нічога ўжо з сабой парабіць не магла: хацела займець Уюна чыстым і цнатлівым, пяшчотным і закаханым, каб і самой, гледзячы на яго, перамяніцца, ператварыцца ў зусім іншую істоту – з такімі ж чыстымі думкамі і мроямі, і быць добрай для ўсіх, каб ніхто не праклінаў яе злымі словамі.

Але ж жыццё дужа непрадказальнае, як і дзеянні чалавека.

Як вясновы лёд на плыткай Прыпяці ўспорваецца ад падводнага цёплага ціску, так і ў душы Аксаны нешта ўзарвалася, – узбунтавалася, рэзка адмоўна запярэчыла сваім жа разважанням, яшчэ і абазвала сябе брыдкімі словамі, абсмяяла, зняважыла, растаптала нагамі і выцерла іх аб свой гонар і пыху, – і, не дабыўшы да канца, не далячыўшы свой піеланефрыт, кінулася наўздагон, на пярэймы Уюну. Кінулася, каб упэўніцца ці пераканацца ў сваіх

падазрэннях і здагадках, каб потым ужо альбо злучыцца з ім назаўсёды, альбо... альбо спаліць дашчэнту той хісткі масток, які яна масціла, выкладвала мройнымі ўзорамі, дзявочымі марамі; ён жа не паклаў у той масток ніводнай маснічынкі, і таму за тое адкажа, сплоціць ёй належны доўг... У яе ў гэты момант была толькі адна мара – дагнаць і паглядзець яму пільна ў вочы. Паглядзець і зразумець. Пераканацца. Каб не памыліцца. Каб вынесці справядлівы прысуд. Яму і іх каханню... Толькі б зірнуць яму ў вочы, толькі зірнуць бы...

Калі яна похапкам збірала свае рэчы, у пакой завітала Людміла Дамінікаўна – спакойная, улагоджаная і задаволеная, якой усяго хапала, і як бы здзіўлена папыталася-пацікавілася:

– Аксана, ты што, з’язджаеш? Здарылася што?

– Ды як табе сказаць – і здарылася, і не здарылася... У войска яго забіраюць. А ён і рады, што забіраюць, мне пра тое не паведаміў...

– Дагнаць хочаш?

– Хачу. І разабрацца ва ўсім жадаю.

– Ох, Аксана, Аксана, якую ты ношку ўзваліла на свае плечы... – паспрабавала паспачуваць яна дзяўчыне, не ведаючы, ці і трэба тое рабіць – спачуваць.

– Ды не шкадуй ты мяне, не шкадуй, спраўлюся я са сваімі клопатамі вельмі лёгка і проста, – без крыўды адказала дзяўчына, – а ты пазвані, Людка, свайму сыну, ён выпісаўся з ваеннай бальніцы, то пагавары з ім, падтрымай.. Яму цяпер цяжка, надламаўся ён ад сваёй жорсткасці... Але гэта не апошняе яго выпрабаванне, будзе і яшчэ... Тут ужо мне ён дарогу перабягае...

– Табе? Мой сын? – выдыхнула Людка і села на ложак, як апамяталася, на якім яна свеце знаходзіцца, трывожна дапытвалася. – Што з ім, Аксана?

– Жывы і ўжо здаровы. Пазвані... Больш нічога не скажу. Бывай, Людміла Дамінікаўна, не памінай, як кажуць, ліхам!..

Яна падышла да Хвойнай, абняла яе, сціснула плячо:

– Па душы ты мне прыйшлася... І добра, што да спадобы. Усяго табе добрага!

І вышмыгнула з пакоя, пакінуўшы Людмілу ў разгубленасці і недаўменні. Ведала, што сказанае Аксанай не мана, і, апамятаўшыся, як не бегма кінулася ў паштовае аддзяленне, каб пазваніць у вайсковую часць пад Маладзечна...

Аксана дабіралася на легкавых і грузавых машынах. Да вакзала ехала ў спадарожным “Мерседэсе”. Нахабны юнак, з вусікамі, у чырвоным пінжаку, хрыплым голасам намякнуў на нешта, лапаў за калені.

Не вытрымала, сказанула:

– Ты, як цябе там... Ты ўчора амаль не папаў у катастрофу – па сваёй жа віне. Збіў жанчыну і ўцёк з месца здарэння. Я ж магу зрабіць так, што ты, высадзіўшы мяне, уключыш хуткасць, а яна дасягне двухсот кіламетраў, – і ніхто не зможа спыніць твой “Мэрс”...

Кіроўца ўвагнуў галаву ў плечы, сумеўся, глуха сказаў:

– Выбачай, не буду... Я думаў... Едзь з Богам далей.

З Богам яна не ехала. Яна выклікала Уладара цемры і папрасіла, каб ён расчысціў ёй дарогу, каб нішто і ніхто не замінаў на яе шляху... Узяла білет у плацкартны вагон. Даехала да Жлобіна. Потым перасела на аўтобус і даехала раніцай да Мазыра. Было дзесяць раніцы. Дзе размяшчаўся ваенкамат, яна ведала. Даехала аўтобусам да рынка, потым паднялася па пакручастай дарозе, што вяла пад гару, паўз царкву, да ваенкамата... Там ужо разлягалася людская гамана, хвацка граў нехта на гармоніку, спяваў імпэтна “салёныя” прыпеўкі, гухкаў бубен і барабан...

*Каханаму надоечы*
*я давала стоячы, –*
*ці з-за дробязі такой*
*на зямлі ляжаць сырой?..*
*Эх-эх–эх!..*

“Яшчэ не ад’ехалі, – радавалася Аксана, аддыхвалася, падыходзячы да тлумна-п’янага натоўпу, – яшчэ гудуць, праводзяцца...”

Убачыла найперш Віцьку Барыліна, які абдымаў за плечы Уюна, – нешта даводзіў яму, махаючы перад носам рукой, як памагаў сам сабе. І Мальвіна стаяла, накінуўшы на плечы кашміравую, у кветы, хустку, і маці Віцева стаяла – праводзілі ўсе прызыўніка. Там жа прыкмеціла і Клаўку Сташкевіч, і Кацярыну Мотуз, і Янку Касцюкова, – усе аднакласнікі. Тут жа былі Змітрок Пелікаў, Рафал Крупа, нават кульгавы Змітрок стаяў і ўсміхаўся, барабаніў, памагаў гарманісту... Праводзіў і Пецька Ястрабок.

Аксана падышла з другога боку, яе і не заўважылі адразу. Яна зрабіла вясёлы і радасны выгляд, павіталася гучна:

– Дзень добры ўсім! Цябе, Вінцук, у армію забіраюць?

Яна ўжо не бачыла, як змянілася з твару і нахмурылася Мальвіна, як лёгкі цень сполаху і здзіўлення прабег па твары Вінцука, як ад яго хуценька адышла Кацярына, вызваліўшы сваю руку – трымалася за хлопца. Адзін Віцька Барылін, ускінуўшы п’яненька рукі, расплыўся ў прыдуркаватай усмешцы, віхляста падышоў да Аксаны, абняў яе:

– Аксанка? І ты тут? А казалі, што ты на курортах, загараеш-адпачываеш... А мы во Вінцука праводзім... Далучайся! Мо наліць кроплю, бо мы ўжо бухія...

– Не пю я, Віцька, гарэлкі, муціць мяне ад яе...

– А дарэмна, а за свайго сябрука я пагатоў і літру выжлукціць!

Аксана гаварыла з Барыліным, а ўвесь час не адрывала позірку ад Уюна, не звяртала ўвагі, як тое расцэняць прысутныя. Гармонік за спіной Вінцука аж захлёбваўся – відаць было, што гарманіст добра каўцянуў перад гэтым: наўкол усё гуло, танцавала, рагатала...

– Віцька, не пі болей – дадому не даедзеш, – прасіла ўмольна Алена свайго сына, калі ён зноў прыклаўся да бутэлькі...

Мальвіна пільна глядзела на паштарку, прадчувала, што не проста так яна сарвалася са свайго санаторыя і падышла да іх – нешта ж намысліла... Злое намысліла.

– Даеду, не бойся, мама... Ногі мяне добра трымаюць.

Аксана падышла і стала ўпрытык да Вінцука, стараючыся як мага мякчэйшым і пяшчотным голасам прамовіла:

– Размова ёсць, Вінцук. Можа адыдзем трошкі, пагаворым, вельмі трэба...

Ён не ведаў, што адказаць, як выбавіцца з таго здранцвення, якое апанавала ім, і, намагаючыся, зрабіў крок наперад.

– Не пушчу-ууу! – як не закрычала Мальвіна, спалохаўшыся, што сын падпаў мусова пад яе ўладу, і ўжо, мусіць, не валодае сабой. – Не пушчу! Ведзьма, адстань ад майго сына, ну не хоча ён цябе, не чапляйся да яго! – яна ўжо ўчапілася ў Вінцука і стала паміж імі, засланіўшы сабой сына.

– Ты ўсё мамку сваю слухаеш, так, Вінцук? – крывотліва ўсміхалася паштарка. – І доўга ты так пад матчынай спадніцай хавацца будзеш? Ты ж тады не хлопец, не мужык, ты – анучка бязвольная!..

– Аксана, вельмі прашу, Богам прашу – пакінь мяне ў спакоі, – умольна загаварыў Уюн. – Ну не можам мы быць з табой разам, сама бачыш, што не можам... Чаму не можаш зразумець і змірыцца з гэтым?

– Што, Уюн?! Змірыцца?! – дзяўчына перамянілася ў твары, і вочы з блакітных адразу ж ператварыліся ў чорна-смаляныя, злосныя, атрутныя. Яна пранізвала яго стрэламі нянавісці і знявагі, гатовая была спапяліць яго, знішчыць, сцерці тут жа з твару зямлі. – Што, Вінцэнькі-дурненькі, паўтары, што ты толькі што прамяўкаў? Разам не можам быць? Змірыцца? Вось гэтых слоў я асабліва і баялася пачуць... Таму вось што я скажу табе – цяпер сцеражыся майго гневу, мой каханы! Але ты не ўсцеражэшся – не ўдасца, так і ведай!

Твар яе зрабіўся зеленцавата-жоўтым, рукі ўзляталі як крылы, акурат так, як і Макушыха махала на Мальвіну. Жанчына стаяла між вядзьмаркай і Вінцуком – з усіх сілаў маліла Госпада, каб адвёў ад іх злое ўздзеянне Макушыхінай унучкі...

У небе нечакана жыханула маланка – і злы пярун ударыў у сухі дуб, у вяршыню яго. І абгарэлая галіна, адламаўшыся, упала на зямлю, на шчасце, нікога не зачапіўшы, але ўпала непадалёк ад Вінцука – за два метры ад яго... Ніхто і не заўважыў, адкуль і калі насунуліся шэрыя хмары, бо толькі перад гэтым, хвіліну якую назад, на небе не было ніводнага воблачка, свяціла вераснёўскае сонца... А тут такая раптоўная перамена надвор’я...

– Па машынах! – скамандаваў афіцэр, накідваючы на плечы зялёную плашчнакідку.

Прызыўнікі абдымаліся-цалаваліся з роднымі, потым беглі кожны да свайго аўтобуса. Трэцім ці чацвёртым ускочыў туды Вінцук Уюноў. Ужо з аўтобуса, з апошняга сядзення, махаў рукой тым, хто яго праводзіў.

П’яненькі Віцька крычаў:

– Мо сустрэнемся ў арміі, мо ўбачымся... Я абараню цябе ад дзядоў.

Ніхто не надаў увагі яго словам. І Вінцук не зразумеў, пра што ён казаў.

Паліў спорны дождж. Не аціхаў, узмацняўся яшчэ больш і больш. На ўзгорку, побач з пакалечаным дубам, стаяла Аксана Журавель. Яна адна не хавалася ад дажджу, глядзела на аўтобус, на тое месца, дзе сядзеў Вінцук, чула, што крычаў Барылін, і паўтарала як закляцце адны і тыя ж словы:

– Сцеражыся майго гневу! Сцеражыся майго гневу!..

Хоць і вымакла да рубчыка, але холаду не адчувала. Па твары, па ўсім целе цяклі калючыя ручаі, але яна не звяртала на тое ўвагі, злавесна паўтарала адно і тое ж:

– Сцеражыся, Уюн, майго гневу! Сцеражыся!..

12

– Сынок, што з табою там здарылася? – крычала ў тэлефонную слухаўку Людміла Дамінікаўна, як быццам знаходзілася за трыдзевяць зямель і яе было не чуваць.

– Нічога, мама, не здарылася, а што?

– Ты ляжаў у шпіталі?

– Ляжаў. Грып быў...

– З грыпам ляжаў? А сінякі на галаве, чаму быў забінтаваны?

Людка пайшла ўжо на хітрасць, каб выпытаць у сына паболей, пра што ён не хацеў расказваць.

– Якія сінякі? – смяяўся сын. – Хто табе такога наплёў?

– Наплялі... Цябе бачылі ў шпіталі... Зноў, Славік, за сваё? З некім учыніў бойку, так? Ты не можаш без гэтага?

– Усё нармальна, мама! Нармальна ўсё. Ты адкуль звоніш, з дому?

– З санаторыя. Хутка паеду дадому.

– Як там сястрычка мая?

– У яе ўсё добра. Ну то бывай, і глядзі там...

– Гляджу, маці, гляджу! Цалую.

У слухаўцы пачуліся кароткія гудкі.

“Так і ёсць, – разважала Людка, паклаўшы трубку на апарат, – праўду казала Аксана – у шпіталь з грыпам не кладуць. Перапала, мусіць, яму добра, таму і паклалі... Эх, сын, сын, знаходзіш ты на сваю галаву розныя прыгоды... Колькі намучылася з табою дома – і з міліцыі выслабаняла, штраф плаціўшы, задобрывала, каб у суд не падавалі, і збітага да паўсмерці на вуліцы знаходзіла... Думала, што армія навучыць якому розуму, дык тая армія яшчэ больш, мусіць, калечыць чалавечыя душы... Як ён далей жыць будзе, не ведаю...”

Людка, моўчкі разлічыўшыся за перамовы, пакінула паштовае аддзяленне і выйшла на вуліцу.

Было ціха і сонечна. Толькі неспакойна было ў Людкі на душы. Нейкі ўнутраны цяжар прыгнятаў яе, не даваў вярнуцца ранейшаму бесклапотнаму і вясёламу настрою.

13

Маладых, зялёных хлапцоў пераапранулі ў аднаколернае адзенне, – і ўсе яны сталі такімі шэрымі і аднолькавымі, як кланіраваныя. Хто быў вышэйшы ростам, хто ніжэйшы; у аднаго з-пад фуражкі тырчэлі вушы, у другога... Не хутка навучацца яны распазнаваць адзін аднаго з-за спіны, не хутка кожны з іх зжывецца з вайсковай формай і будзе адчуваць сябе ў ёй як у сваім прывычным адзенні...

Вінцук адразу папаў у вучэбку. Яго, калгаснага механізатара, вайсковыя камандзіры адразу вырашылі зрабіць механікам-вадзіцелем. За тры месяцы ён асвоіў лёгка гэтую спецыяльнасць, і яго разам з іншымі накіравалі ў танкавую часць – для праходжання далейшай службы.

Бываюць жа ў жыцці супадзенні... Калі прыбыў у распараджэнне камандзіра батальёна, калі склалі ў капцёрцы свае рэчы і ішлі на абед у сталоўку, на калідоры – лоб у лоб, грудзі ў грудзі – сутыкнуўся са сваім аднавяскоўцам – сябрам Віктарам Барыліным.

Нейкі час здзіўлена глядзелі адзін на аднаго. Першым апамятаўся Барылін.

– Вінцук, ты?!

– Я!

– Да нас служыць?

– Выходзіць, да вас!

– Гэта ж цудоўна! Я ж казаў, што можам сустрэцца, я ж прарочыў гэтую сустрэчу... З вучэбкі?

– З вучэбкі. Як тут служба?

– Ды так, па-рознаму. Раскажу пасля, зразумееш... Дзедаўшчына ёсць, цвіце, як маліна. Слухай... Добра будзе, калі мы з табой не будзем паказваць сяброўства, і што мы з табой з адной вёскі. Што і да чаго, я потым табе растлумачу. І – трымай пільную насцярожанасць. Я заўсёды буду побач, хаця і на адлегласці ад цябе.

– Зразумеў. Выберам час і месца – пагаворым.

Адзін аднаго ляпнулі, паразумеўшыся, па плячы і разышліся, па-змоўніцку мірганууўшы адзін аднаму, як дамовіўшыся на тайнае супрацоўніцтва і супрацьстаянне таму злу, якое іх чакала, і ад якога яны не маглі ніяк ухіліцца, а толькі вымушаны прайсці паўз яго, не пакінуўшы на целе сінякоў, а на душы шнараў...

## 14

Мальвіна, развітаўшыся з сынам, усе дні адчувала сябе блага. Нямогласць падступілася, слабасць і млявасць авалодалі ёю. Адчула такую ж немач, як і тады, пасля таго, як убачыла над сабою рукі-крылы Макушыхі. Ціснула нешта важкае і тупое пад скроні. Ватнымі рабіліся ногі і рукі. Асабліва рукі – яна іх не чула, і не магла нічога рабіць па гаспадарцы, – як нежывая ўсё роўна была.

Зноў яе падмяняла Алена Барыліна і памагалі іншыя, хто мог.

Як падаілі кароў, Алена адразу ж да Мальвіны прыйшла. Рой на яе і не брахнуў – ведаў, хто да гаспадыні ходзіць. Мальвіна ляжала ў ложку – няўцямна глядзела ў столь.

– Ты што, зноў занядужала, мая сяброўка? – Алена села побач на ложку, паклала сваю руку на яе.

Жанчына ўздыхнула, перавяла стомлены позірк на Алену, як прасіла даравання за сваю хваробу.

– Зноў вам работы падкінула, быццам сваёй мала.

– Ды кінь ты, што нам маладым ды здаровым, накінуліся разам ды і выдаілі тваіх рагулек... Не перажывай дужа. Мо доктара табе, Мальвіна?

Алёна цёпла глядзела на хворую, стараючыся чым-небудзь памагчы ёй. З дзяцінства яны ведалі адна адну, з маленства давяралі адна адной свае сакрэты... Паўнагрудая, з дужымі, як у мужчыны, рукамі, не з дробнага роду жанчына, – яна была як абаронца для хударлявай Мальвіны, заступніцай...

– Ды навошта той доктар, Алена? Тут доктар не паможа... Сама ж ведаеш... То яна, Аксанка, на мяне свае чорныя стрэлы помсты паслала. І на сына. Ды не ўдасца ёй дамагчыся свайго... ёсць і супраць яе сіла. Боская сіла.

Алена, бачачы, што Мальвіне стала трошкі лепш, што можна ёй і добрую вестку паведаміць, спытала:

– Вінцук піша?

– Даўнавата ліст быў. Ды ён і пісаў, што будуць пераязджаць з месца на месца – таму будзе не да пісання.

– А хацела б ад яго атрымаць вестачку?

– Вельмі... Як яму там, цікава, служыцца?

Алена зрабіла невялічкую паўзу, пахвалілася:

– Яны разам служаць. У адной часці з Віцем.

– Адкуль ведаеш? – не паверыла навіне Мальвіна, пільна паглядзела на сяброўку – ці не жартуе.

– Віцька сёння ліст прыслаў. І табе ў канверце вестачка ад сына.

Мальвіна нічога не разумела – чаму ў Віцевым канверце? Бачачы яе недаўменне, Алена растлумачыла:

– Калі б Вінцук прыслаў ліст на цябе, то Аксана магла і не прынесці, а то і выкінуць. А так хлопцы прыслалі на маё імя, ды яшчэ з паведемленнем... Вось яно, сынава пісямцо...

Мальвіна ўзяла ў рукі аркушык паперы, спісаным дробным почыркам, адчула, як да яе вяртаюцца страчаныя сілы, пачала разважліва чытаць уголас:

“Дарагая матуля! Пішу праз Віцьку. Каб не задагадалася Аксана, бо яна чытае чужыя пісьмы... Служыць, дзякуй Богу, прыслалі ў Віцеву часць. Разам нам смялей і весялей. Гэта нас з вучэбкі прыслалі – на пастаянную службу.

За мяне не хвалюйся, у мяне ўсё добра.

Вось, бадай, і ўсё. Калі трохі агледжуся і агойтаюся, тады напішу падрабязней. Перадай Клаўдзі Сташкевіч, што ёй я напісаў на цэнтральную пошту – да запатрабавання. Пісьмо аддадуць ёй толькі ў яе рукі...

Цалую. Твой сын Вінцук. 22 лістапада 1995 года”.

– Ой як добра, што ты мне такую прыемнасць падаравала, – шчасліва, скрозь слёзы, заўсміхалася Мальвіна, – як лекі для мяне, як свежае паветра...

І не вытрымала, яшчэ і яшчэ раз перачытала радкі, – пра сябе ўжо, уяўляючы перад сабою сына, чуючы яго голас... Прымружыла вочы, убачыла ўвачавідкі перад сабою яго вочы і ўсмешку, – і на яе твары нараджалася лагода і спакойнасць...

– То і добра, а таму, сябровачка мая, нічога не бяры да галавы – перамелецца ўсё, наладзіцца да лепшага...

– Каб жа так, Аленка, каб жа так... Чуе толькі мая душа, што не пакіне яна, гадаўка, яго – помсціць будзе... Гэта яна ўмее, навучана гэтаму...

– Ён жа далёка ад яе. Ці дастане?

– Для яе адлегласці не існуе. Толькі на Бога і буду спадзявацца. Я потым напішу яму, возьмеш, пашлеш праз Віцьку.

– Добра.

У двары брахнуў Рой – раз, другі, ні на кога, проста так, мусіць, пачуўшы брэх на вёсцы.

Жанчыны маўчалі, думаючы пра свае клопаты.

15

Вінцук Уюноў прыйшоў да свайго ложка.

Выняў з чамадана мыла, зубную пасту, – хацеў пакласці ў тумбачку. Яна стаяла неяк бокам, не роўна. Ён пасунуў яе да сцяны, як і стаяла да гэтага. На падлозе ўбачыў чырвоную густую пляму – кроў ці разліты таматны соус?

“Калі кроў – то адкуль? Парэзаўся хто? А мо што іншае – толькі што?..”

Нікому нічога не сказаў пра тое, але ўспомніў папярэджанне Барыліна трымаць пільнасць. Сержант Бандарэнка, у распараджэнне якога папалі новенькія, спытаў, ці ёсць у чым патрэба. Патрэбы ні ў кога ніякай не было...

– Лады, – плямкнуў ён таўсматымі губамі, – не – дык не. Так і запішам.

І пайшоў па сваіх клопатах, мармычучы нешта пад нос. Ён ішоў, як згорблены, як нёс што на сваіх плячах, а ногі сунуў па падлозе, як не мог іх адарваць ад яе...

– Эй ты, салага, “Мальбара” ёсць? – нехта некага спытаў за спінай.

Вінцук не звярнуў на той голас ніякай увагі, чытаў ужо кнігу, седзячы на табурэціку.

– Я ў цябе пытаюся, салага, ты што, глухі? Чытаць многа – урэдна.

Зразумеў, што звярталіся да яго, абярнуўся. У яго нахабным позіркам упе-рыўся “дзед” – расхлістаны і, здаецца, на падпітку.

– Ты ў мяне пытаеш?

– У цябе, у цябе, салага ванючы. “Мальбара”, пытаюся, ёсць?

– Я не курашчы. Не навучыўся...

– А ты чаго, салага, сядзіш, калі з табой “дзед” размаўляе? Га?

Вінцук нічога не адказаў – паглыбіўся зноў у чытанне. У руках у яго быў той жа томік Максіма Багдановіча. Тут, у войску, радкі Максіма асэнсоўваліся неяк інакш, і кожны радок набываў зусім іншы сэнс. Было ўражанне, што ён, Вінцук, першы раз узяў у рукі кнігу гэтага славутага паэта...

*Кінь вечны плач свой аб старонцы!*
*Няўжо-ж а цёмнай ноччу ты*
*Ня бачыш, што глядзіцца сонца*
*Ў люстэрка – месяц залаты?*
*Не згасла сонца! Сонца гляне,*
*Усіх падыме ада сна.*
*Ён, гэты дзень, яшчэ настане, –*
*І ачуняе старана!*
*Я пад яе зімовай маскай –*
*Пад снегам – бачу твар вясны,*
*І вее верш мой дзіўнай казкай,*
*І ясны ён, як зорак сны...*

"Божа, дык гэта ж пра мой край, пра Забалацце, пра Радзіму!.. У гэтых радках зусім іншая мелодыя, чым там, дома, калі чытаеш... А тут, нават не на вялікай адлегласці ад роднай хаты, разумееш усё глыбей, трагічней, пафасней... Якую моцную сілу мае слова, асабліва слова Максіма-Чараўніка!.."

– Я яшчэ раз паўтараю, салага, для цябе – чаго рассеўся перад "дзедам"?

"Дзед" ужо стаяў побач, і гугнявіў ужо недзе зверху, на яго Вінцук і не зірнуў – не адрываўся ад радкоў.

– Ну, салага, пагадзі! Не паважаеш, значыць? Ну-ну... Я папярэдзіў. Каб потым не шкадаваў.. Каб потым не казаў, што мы бессардэчныя...

*І вее верш мой дзіўнай казкай,*
*І ясны ён, як зорак сны...*

"Колькі сілы і моцы ў радках! Якая глыбіня, якія пачуцці!..."

Сярод ночы, калі сама сон, нехта пабудзіў Вінцука, напаўголасу строга загадаў:

– Пад'ём! Уставай!

Не падазраючы нічога, думаючы, што гэта сяржант Бандарэнка кліча на нейкае заданне, спытаў:

– Апранацца?

– Навошта? І так добра, салага...

Толькі тады дайшло да яго свядомасці, што дзённая размова цяпер мае працяг. Што рабіць, не ведаў. Нікога з камандзіраў не было – усе спалі дома ў сваіх кватэрах, са сваімі сем'ямі.

Яго завялі ў капцёрку. За вялікім сталом сядзела чалавек з восем хлопцаў. На стале пляшкі з віном, гарэлка, закусь – хлеб, сала, вінаград... Падвялі за рукі і пасадзілі на табурэтку – як арыштанта, як прыгаворанага да самага строгага пакарання. Той, што сядзеў з краю, што ікаў раз за разам, наліў поўную шклянку віна, падаў яму.

– Пі, – загадаў зноў ікнуўшы, пракаўтнуўшы ікотку, зморшчыўшыся – тоўсты нос задраўся ўгору, шчарбатыя зубы – жоўтыя і гнілыя – выглядвалі з роту. – Я цябе сёння частую, заўтра – ты мяне. А каб ведаў, хто я, называюся для знаёмства – Славік Хвойны. Пі, дружа, весялей жыць будзеш!

– Я не п'ю.

– І дзевак не трахаеш?

Уюноў маўчаў, ацэньваючы сітуацыю. Дабра ад іх, само сабой, чакаць не прыходзілася. Паклікалі на здзек, гвалт і расправу. Ведаючы пра тое, што камандзіраў няма, што той жа камандзір Падкаваеў амаль ніколі ноччу ў падраздзяленне не прыходзіць... І сярод ночы ніхто з іх не будзе, бо служкі цемры – стараслужачыя, "дзяды"...

– Маўчанне – знак згоды. І – пакоры. Правільна. Тады мы цябе трахаем усе па чарзе, і будзе ўсё "хакей"... Пі, больш асалоды атрымаеш, сам у тым жа і пераканаешся...

Усе зарагаталі, гледзячы на такую сцэну.

– "Мальбара" маеш?

– Я ж казаў – не куру. Ніколі не курыў.

Нечаканы ўдар локцем прыйшоўся прама ў жывот, і ад таго адразу пацямнела ўваччу. Ён паваліўся з табурэткай на спіну, потым, скурчыўшыся, перакуліўся на бок. Сціснуў зубы, застагнаў ад невыноснага болю. Ніхто не падымаў яго, чакалі, калі сам падымецца. Як падняўся, атрымаў новы ўдар – ужо ў сківіцу. З носу на падлогу пацякла кроў, – хлынула цэлай калюжынай.

"Во што было пад тумбачкай... Тут канцлагер, а не армія. Тут воўчыя, нечалавечыя законы. Тут забіваюць духоўна і фізічна... Са згоды лейтэнантаў, палкоўнікаў і генералаў. Не на адданасці і доўгу, а на страху ўсё пабудавана..."

Пакуль ляжаў, зноў упаўшы, апрытомніваў, "дзяды" паналівалі сабе па поўнай шклянцы – хто гарэлкі, хто віна, а хто наздрынай нюхаў белы парашок, – падагравалі сябе, настройваліся на асалоду, якую мерыліся атрымаць ад паху і выгляду крыві, ад вэрхалу і жорсткасці... Раздавалі карты на ўсіх, – і каму выпадала чырвовая дама – дама кахання, – таму і выпадала першым трахнуць першагодка, "пасвяціць" яго ў сапраўднага вайскоўца нечалавечай дзікай арміі...

Нехта ботам ударыў зноў у жывот. Загадаў устаць. Вінцук, сцякаючы крывёю, падняўся. Адно вока, правае, заплыло крывёю – бачыў толькі левым. Стаяў, чакаў, што ж яны прыдумаюць яшчэ... Літасці не прасіў, бо ведаў, што падымуць на смех, ды і выглядала б тое наіўна, па-дзіцячы... Ён глядзеў на іх безуважна і абыякава, нават не стараўся запомніць кожнага ў твар –

навошта? Калі і застанецца жывы, ды надумае паскардзіцца на іх, то ніхто іх караць не будзе – яны ж выдатна ведаюць пра тое...

– Ну, што, гатоў? Сам хочаш аддацца ці пад прымусам? Сам? Правільна – супрацiўляцца, сабе ж нашкодзіць.

Яго ўхапілі за рукі, жыватом прыціснулі да брыжыка стала, крывавы твар прыціснулі да паверхні. Нехта зняў з яго трусы – і яны спаўзлі на падлогу. Нехта халоднымі і слізкімі рукамі абхапіў яго за азадак...

Тое, што адбылося далей, не чакаў ніхто...

Дзверы капцёркі выламаліся разам з замком і завесамі – ад удару нечых ног. З грукатам упалі на таго, першага, каму выпала чырвовая дама, які і стаяў спінай да дзвярэй, супусціўшы свае штаны да каленяў... Першы ўдар металічнага прута прыйшоўся па галаве Вячаслава Хвойнага, які трымаў Вінцука за левую руку і прыціскаў твар да стала, другому, хто стаяў побач з ім... У Хвойнага твар адразу заліўся крывёю і ён асунуўся, страціўшы прытомнасць, на падлогу.

Прэнт хадзіў ужо без разбору па спінах, плячах і рэбрах. Нехта, зразумеўшы безвыходнасць сітуацыі, спрабаваў нырнуць у праём дзвярэй, але, убачыўшы, што там ужо ляжаць у крыві “дзяды”, адступіў назад, але і яго дастаў арматурны прэнт – прыйшоўся па шыі, і той таксама “скапыціўся”...

Усе да аднаго ляжалі скрываўленыя на падлозе. Барылін яшчэ ботам спускаў кожнаму юшку з носа. Толькі потым нахіліўся над сваім сябрам:

– Вінцук, ты жывы хоць? Жывы?

Хлопец не мог расплюшчыць вочы, але здолеў паварушыць распухлымі губамі:

– Жы... вы, Віцька... жы… вы..

Барылін ускінуў яго на спіну, панёс да ложка. На падлозе, скрозь, была кроў, і ён слізгаў па ёй, бы ішоў па слізкім ільду, нёс свайго сябра. Паклаўшы, падышоў да днявальнага, адпіхнуў ад сябе, узяў тэлефонную слухаўку:

– Алё! Дзяжурны ваеннай пракуратуры? У нас “чп”... Прыязджайце...

– Што здарылася?

– Самі ўбачыце... Вынік дзедаўшчыны. Тое, на што вы заплюшчваеце вочы...

– Вашае прозвішча?

– Як прыедзеце, я і назавуся...

Паклаў слухаўку, а днявальнаму гучна загадаў:

– Аб’яўляй трывогу! Ну-у, неадкладна!..

Днявальны здзіўлена глядзеў на акрываўленага танкіста ў парваным адзенні, быццам ён нічога не чуў і не бачыў, быццам нічога гэтага не ведаў, – не рухаўся з месца.

– Я табе што сказаў, ну-ууу!..

Толькі тады паставы ачомаўся, націснуў на чырвоную кнопачку. І ў той жа момант загула сірэна – трывожна і пагражальна. Гула бесперапынна і хвіліну, і тры, і пяць...

Барылін выцер мокрым ручніком скрываўлены твар Вінцука, пачаў змазваць ёдам. Хлопец скрывіўся ад болю, застагнаў.

– Жывы будзем, не памром, Вінцучок! Добра яны прайшліся па тваім твары. Ну і я ім адпаведна вывескі папсаваў... Будуць помніць. А то, бач, верх над намі ўзялі... Цяпер больш такога не паўторыцца, Вінцук, будзь спак...

Нехта з дзядоў, якія не прымалі ўдзел у начным дзействе, хацеў выцерці кроў на падлозе – узяў у рукі швабру, але Віцька коршакам наляцеў на яго, кулаком з усяе сілы ўдарыў па твары, закрычаў:

– Што, чысціні захацелася? Поўзай па ёй, па крыві, што вы наспускалі...

Прыехалі з пракуратуры. У казарму зайшло чацвёра – падпалкоўнік, маёр і два капітаны. Глянулі на відовішча, спахмурнелі...

– Што тут адбылося? – спытаў маёр і падышоў да першагодка, што сядзеў на сваім ложку, выціраў з твару кроў.

– А вы ў дзядоў спытайце. У Хвойнага, у Моклага, Бандарэнкі, Іванова, – адказаў салдацік і ўсхліпнуў, заплакаў. – Яны сярод ночы завялі голага Уюнова ў капцёрку і пачалі здзекавацца над ім, а нас збівалі тут, у ложках...

Аднаго за адным выводзілі старaслужачых у калідор, каб потым пасадзіць у машыну. Адзін Хвойны не падымаўся з падлогі – у яго быў праломлены чэрап...

Камандзір часці прыехаў праз чвэрць гадзіны. Не паверыў, убачыўшы ўсё, здзіўлена глядзеў на крывавую падлогу, на акрываўленых салдатаў... Ад яго несла гарэлкаю і часнаком, – хістаўся, тлустыя і бліскучыя губы шапталі няўцямнае:

– Бля.. што нарабілі... Казаў жа, каб да крыві не даходзіла... Плугі калгасныя...

Палкоўнік пракуратуры паказаў нейкую паперчыну. Той махнуў няўцямна рукою:

– Валяйце... Сам бачу, не сляпы...

Хлопцаў павезлі некуды ў грузавой машыне. У кузаве іх суправаджалі салдаты з аўтаматамі, забаранілі строгім голасам размаўляць між сабою.

Палкоўнік сеў на табурэтку пасярод казармы, спытаў:

– Сынкі! Дык што ж гэта робіцца, га? Як прымірыць вас – два пакаленні з розніцай у адзін год? Га? Дык, што, выходзіць, няма ніякай дружбы не толькі паміж народамі, і спаміж нават і славянаў, так? Дык чаму ж наш

самы галоўны далдоніць пра нейкае славянскае брацтва? Вось яно, брацтва... Блядства, а не братства... Адкажыце вы мне, дурному выпускніку ваеннай акадэміі, чаму ўсё так? Чаму вы ненавідзіце адзін аднаго, а вы ж браты родныя, сынкі незалежнай дзяржавы, якая завецца Беларусь, вы ж нашчадкі ліцьвінаў і вояў Княства Літоўскага...

Ён сядзеў і плакаў. І то плакала не толькі гарэлка, якую ён жлукціў цэлую ноч – адзначаў свой дзень нараджэння, плакала яго спакутаваная душа, якая не ведала, не адчувала болю сыноў яго Айчыны...

Палкоўнік меў сэрца палешука, некалі быў як і яны, малады і дурны, але дурноцтва тое не даходзіла да такіх памераў і не пераступала недазволеных межаў... Ён адчуваў, што з'яўляецца чужым і далёкім, не тым, як яго называлі бацькам-камбатам... Які ж ён "баця", калі ў яго падраздзяленні творыцца такое? Дык які ж ён бацька, калі не ведае, што ў яго сям'і дзеці купаюцца па вушы ў крыві?..

Да яго падышоў Вінцук Уюноў – быў амаль без памяці, і яго не ўтрымліваў Барылін.

– Спадар палкоўнік! Паглядзіце на мяне.

Камандзір часці, здаецца, пачаў цверазець, – узняў галаву і зірнуў на салдата.

– Я стаю перад вамі такім, якім мяне нарадзіла мая матуля. Ніводнага разу за ўсё жыццё мяне не біла маці, нават не сварылася, бо не было на тое прычынаў... Якія ж былі прычыны ператвараць мяне ў вашай вайсковай катавальні ў кавалак крывавага мяса? Толькі за тое, што я салага? Што я не магу быць слугой "дзядоў", выконваць іх дурныя жаданні, аддаваць ім грошы, купляць віно, гарэлку і цыгарэты "Мальбара"? Але ж я не наркаман, не курэц, не жанчына парэшты, што мяне хацелі згвалтаваць восем чалавек у капцёрцы... Я – механік-вадзіцель, скончыў вучэбку, і заўтра сваімі трапнымі стрэламі ў цэль заваюю вам ачкі, каб вас яшчэ больш павысілі ў званні... Але ж заўтра вы мяне аддасцё, закрыўшы вочы, на расцярзанне тым жа "дзядам", каб яны правучылі мяне, зрабілі шаўковага, бо не вы, палкоўнік, а яны кіруюць тут і правяць баль... Вы – днём, а яны – ноччу... Яны служаць Сатане, Уладару цемры, і вы з імі заадно. І вы аддасцё мяне на з'ядзенне гэтым ваўкам, і мне тады ўжо не жыць...

– Не аддам! – крыкнуў палкоўнік і стаў перад танкістам на калені, потым абхапіў яго рукамі, прыціснуў з усіх сілаў да сябе. – Не аддам... Не дапушчу больш такога. Слова даю. Калі ж я схлушу, хай тады мяне пакарае Бог!

– У нас кажуць так – дай, Божа, нашаму цяляці воўка з'есці. Пераначаваў бы, ды падушка дужа мулкая...

Палкоўнік не чуў яго слоў, а калі і чуў бы, то нічога не зразумеў бы.

А для Вінцука адкрылася і была зразумела адна выснова: лозунг афіцэраў, што армія – гэта школа мужнасці, поўнасцю дурны і абсурдны. То не школа, а сапраўдны фашысцка-бальшавіцкі канцэнтрацыйны лагер, дзе гарылы запраўляюць усім, і што трэба нечалавечае намаганне, цярпенне, стойкасць і моц, каб выстаяць у гэтай калатнечы, не дазволіць забіць сваю душу...

І было зразумела і іншае – колькі ж прыйшлося вытрымаць Віцьку Барыліну, каб навучыцца супрацьстаяць тым гарылам, знайсці ў сабе сілы, каб адпомсціць за здзекі і катаванні – і яго, Віцькі, і яго, Вінцука. Ды і іншых хлопцаў, з якіх здзекаваліся...

– Вінцук! – пагукаў слабым голасам Віцька – ляжаў на крайнім ложку, трымаючыся за жывот. – То ж мяне, аказваецца, Хвойны нажом па жываце паласнуў, распароў...

Хлопец лёгка, але настойліва адпіхнуў ад сябе камандзіра, паклыпаў, цягнучы і кульгаючы на адну нагу, да яго. Скрозь пальцы лілася кроў. Віцька ўвесь збялеў, вось-вось знепрытомнее... І ў той жа час у казарму зайшлі ў белых халатах людзі – жанчыны і мужчыны...

– Божачка, што гэта? – усклікнула дакторка “хуткай”, паслізнуўшыся на лужыне крыві – ледзьве не ўпала, яе падхапіў доктар з чамаданчыкам.

– Ратуйце Віцьку! – крыкнуў умольна Вінцук, стоячы каля сябра. – Ён сцякае кроўю – жывот разрэзаны.

Хлопца паклалі на насілкі, спыніўшы крывацячэнне, і подбегам панеслі да “хуткай дапамогі”. Уюноў лёг на акрываўленыя прасціны, абхапіў галаву рукамі. Маліў Бога, каб Віцьку давезлі да шпіталя, каб з ім нічога не здарылася благога. Палкоўнік на “газіку”  паехаў следам за “хуткай”.

16

Аксана старалася не сустракацца з Мальвінаю.

У той час, як яна была на ферме, ці была ў хаце, а не ў двары, – паштарка нішком утыркала ў самаробную скрынку газеціну і хуценька адыходзіла ад веснікаў.

Не таму, што ў нечым баялася жанчыну, наадварот, не хацела, каб Уюнова маці ў яе вачах бачыла нянавісць, смагу помсты. Яна старалася душыць у сабе тыя пачуцці, хавала ў душы, не давала вырывацца вонкі. Дакарала сябе за нястрыманасць, за тыя словы, што пры ўсіх сарваліся з языка. Людзі ж чулі, і таму што падумаюць, калі яна здзейсніць задуманае? Але старалася і супакоіць сябе – ну і што з таго, што сказала, – ці мала што можна мянціць языком… Да Вінцука яна ж і пальцам не дакранецца – пра тое будзе ўсім вядома.

Спаць у адрынцы было ўжо холадна, і таму яна перабралася ў хату.

На магіле маці яна адшукала маленькі гліняны гаршчэчак. У ім нічога, аказваецца, асаблівага і не было – толькі белы невялічкі каменьчык, памерам з галубінае яйка. Але яна ведала, што гэта такое было... Не простае яечка, нават не залатое, а больш каштоўнае...

Прыйшоўшы дадому, паклала на стол белае яйка. Зажмурыўшы вочы, звярнулася да Уладара цемры. Прыйшла пара сказаць яму пра свае задумы, пра тое, што яна прыняла яго ўмовы, што толькі цяпер яна згодна здзейсніць тое, да чаго імкнулася, але адцягвала, колькі магла...

“Даўно б так, даўно б так, – прашамкаў нячутны голас, але чутны толькі для Аксаны, – я чакаў гэтай хвіліны, бо ведаў, што некалі ж павінна была спаўзці паляндра з тваіх вачэй, з таго прыдуманага, уяўнага кахання. Цяпер ты тая, якой і павінна быць, – толькі ці гатова зрабіць тое, што задумала?”

“Гатова, мой Пан і натхніцель! Гатова! Усялі ў мяне належную канчатковую чорную сілу – і я выкарыстаю яе па прызначэнні!”

“Бяры! Карыстайся ёю! І помсці за здзекі з сябе. Ты выпакутавала сваю помсту...”

Белы каменьчык на стале загарэўся яркім ружовым агнём. Здавалася, пачала хістацца хата – затрашчалі нават вуглы, быццам іх курочыў дужы мароз. А тым часам цела Аксаны ахутаў сапраўдны холад, што, здавалася, і кроў змерзла ў венах, і галаву сціснулі ледзяныя вобручы, ды так, што яна не вытрымала – і з грудзей вырваўся немы жудасны крык:

– А-ааа!.. а-ааа!..

Яна не ўпала на падлогу, як падчас апошняй сустрэчы і размовы з ім, а наадварот, стаяла цвёрда і ўпэўнена, і чорная сіла, што ўсялілася ў яе, прагла дзеянняў, прагнула выконваць любыя загады сваёй гаспадыні, любыя яе прыхамаці...

Вочы свідравалі любую рэч, што знаходзілася ў хаце, позірк пранізваў усё наскрозь. Яна бачыла ўжо, што было ў халадзільніку, у шафе, ды і сцен у хаце не было бачна – на вуліцы, за нябачнай глухой сцяной, свяціў зверху слупа ліхтар, ехала машына і бліскала фарамі... Слуп і спыніў яе ўвагу.

Яна пачала пільна ўзірацца ў яго, вадзіла позіркам зверху ўніз, прымружыла вейкі, думкава пасылала каманду. Бетонны слуп затрашчаў каля зямлі, пачаў хіліцца долу. Не вытрымаў, парваўся дрот, пераплёўся між сабою, – і тут жа ад кароткага замыкання ўспыхнула з трэскам зыркая маланка, узарвалася трансфарматарная будка – як хто падклаў пад яе міну ці бомбу...

“Валодаю! Я валодаю той сілай! – хацелася крыкнуць ад радасці, але стрымалася, прытушыла ў сабе покліч, адчуўшы сябе ўжо ў іншым вымярэнні, без сэрца і без чалавечых пачуццяў, без эмоцый і кахання, паражы-

ванняў і іншых сантыментаў, якія ўласцівыя чалавеку і яго душы. А каханне дык яна і назусім пахавала – канчаткова і назаўсёды. І лічыла сябе не вінаватай у тым, а вінавацiла толькі яго, Уюна... У яе душы нарадзіўся пастаянны холад, і ўсё тое, што было ў яе людскага, чалавечага, змерзлася, акамянела, – яна стала нічым, увогуле перастала як бы існаваць... – Я і павінна была валодаць гэтымі здольнасцямі, і я цяпер заўжды буду гаспадыняй сваіх жаданняў. І ніхто мне не запярэчыць, і ніхто мяне цяпер не ўказчык – ні Нікадым, нават і сам Бог!..

А цяперака няхай уся вёска пабудзе ў цемры, а я з Гаспадаром цемры спакойна прайдуся па вуліцах Забалацця... Мы тут ноччу будзем гаспадарыць, мы будзем выбіраць – каго мілаваць, а каго караць, – цяпер ніякага спуску і жалю не будзе; час дабрыні скончыўся; цяпер людзі яшчэ больш будуць ненавідзець адно аднаго – яшчэ больш будуць жорсткія і агрэсіўныя, – яны перадушаць адно аднаго, перастраляюць, ператруцяць... А застанемся толькі мы – дзеці і гаспадары цемры...

І будзе так! Няхай будзе так! Мы даможамся, што так яно і будзе!..”

Яна бачыла Вінцука ў крыві, і яе ўжо радавала тое. Няхай не думае, што Бога ўхапіў за бараду, калі пабыў у старога Нікадыма... У яго і жыцця на адзін-два ўздыхі... Не паможа ён табе, Уюнчок-прастачок, не паможа. Ну, як маё другое папярэджанне? Праўда, мацнейшае, чымся гадзюка на пні? А будзе яшчэ і трэцяе... Але ўжо апошняе. То ўжо будзе не папярэджанне, то ўжо – дзейства!

Вядзьмарка рашыла пакінуць яго на дзевяць дзён у спакоі. Каб расцягнуць задавальненне ад расправы над ім, каб адчуў, што не мінуць яму таго, што намечана і наканавана, – каб ведаў і пераканаўся, што ніякая сіла ў свеце цяпер не адвядзе ад яго смерць, помсту за няўважлівасць і пагарду...

“Адпачывай, загойвай-залізвай раны, пабудзь яшчэ на судовым працэсе... са сваім дружбачком... Можа, гэта я і паслала табе яго на дапамогу, паслала за тую адну, падораную (я ж амаль не прымушала, не загадвала, а толькі прасіла) сустрэчу на сене – якая хоць і нічога не дала, але ў мяне было прадчуванне блізкасці будучай жанчыны... То быў мой апошні капрыз, але тое было да майго новага нараджэння. Усё. Масты, так бы мовіць, спалены дашчэнту. І касцёр нават згас. І ні жарынкі няма ў ім, нават і попелу...”

Аксана рагатала, смяялася з самой сябе, з той, ранейшай, дакарала, што позна ўзялася за розум. Яна хадзіла побач з Вінцуком, чула і бачыла, чым ён займаецца і пра што думае, што жадае. Яе не жадаў, не ўспамінаў...

Хадзіла, але нічым не напаміналa яму аб сваёй нябачнай прысутнасці...

17

І быў суд... Быў наладжаны паказальны судовы працэс.

І прыехалі на яго Мальвіна Уюнова, Алена Барыліна і Людміла Хвойная. Прыехалі і іншыя маці сваіх сыноў – “салагаў” і “дзядоў”.

“Дзядоў” абвінавачвалі ў “нанясенні цялесных пашкоджанняў, звязаных з пагрозай для жыцця пацярпелых...” Прысутнічалі і камандзіры часцей – каб самі ведалі і пераканаліся, што робяць “дзяды” ў іх адсутнасць.

Маці схапіліся за галовы, пачуўшы, у чым абвінавачваюць іх сыночкаў. Паверыць не маглі ў тое. Гвалтавалі хлопцаў? Ды быць такога не магло... Дома ж яны не былі такімі, былі рахманыя, спакойныя і спакойныя. То ж такімі во яны сталі тут, у арміі. Такімі менавіта іх і зрабіла армія...

Людка так і не дабілася ніводнага слова ад сына, калі праведвала яго ў шпіталі. Вячаслаў глядзеў на яе няўцямным позіркам, не разумеючы, што хоча ад яго невядомая жанчына. Ніхто не ведаў, ці пазнае калі-небудзь ён сваю маці...

Віктара Барыліна напачатку хацелі засудзіць на ўсю катушку, але абаронца і адвакат змаглі пераканаць суд, што ў дзеяннях салдата было жаданне не толькі абараніць свайго сябра і аднавяскоўца, але і адпомсціць дзядам за здзекі над сабой, хаця ён і не пайшоў на крайнія меры – у такім стане, стане ўзрушанасці і празе помсты, мог прарвацца да пірамідаў з аўтаматамі... Тады б трагедыі не мінуць... Далі ўмоўны тэрмін, а па сканчэнні зняць з яго поўнасцю пакаранне. Астатнім дзядам свяціў доўгі тэрмін зняволення.

Вадзілі іх да “варанка” ў кайданках... Галасілі мацяркі, бачачы, як вядуць іх сынкоў, умольвалі запознена суддзяў не судзіць іх так строга і жорстка. Бацькі ж хмурыліся, стараліся не глядзець на людзей, самі да канца яшчэ не маглі паверыць у тое, што адбывалася, і што іх сыны здольны на такое...

– Адпускаю вас на суткі, – сказаў камандзір часці, – можаце ў горад ехаць, можаце ў лес схадзіць, пабыць разам з сынамі, а то і ў нас можаце пераначаваць – ёсць спецыяльны пакойчык...

– Пагаварыць бы... – нясмела прамовіла Мальвіна.

– Вось заўтра, як прыйдзеце, і пагаворым, – згадзіўся ён, і скураныя рамянюкі на ім рыпнулі, як маснічыны падлогі, – а потым і на вакзал вас адвязем... Так што ні пра што не думайце, усё мінулася...

– Дзякуй вам...

Дзень быў сонечны, цёплы – другое бабіна лета. І таму выбралі лес. А Віцька добра ведаў мясціны і павёў кампанію да возера, дзе ляснік абходу зрабіў прыгожую альтанку – у ёй яны і пасядзяць, пагавораць, парадуюцца сустрэчы...

Вінцук трымаў маці пад руку, маўчаў. Яна ж ледзьве стрымлівала слёзы – і ад радасці сустрэчы з сынам, і ад успамінаў пра тое, што пачула на судовым працэсе.

– Сын... – спрабавала нешта сказаць Мальвіна, усхліпнула.

– Не трэба, мама, – перабіў яе Вінцук, – не будзем ні пра што гаварыць – мы жывыя і здаровыя, і дзякуй Богу...

– І то праўда, Мальвінка, – падтрымала хлопца Алена, – не трэба, сёння радавацца трэба, што бачым сваіх дзяцей... Вунь дзень які, а мы сядзем ды на радасцях з табою віна вып’ем – за здароўе нашых сыноў. Ну, весялей, Мальвіна, не наводзь нуду...

Жанчына ўсміхнулася, згодна пахітала галавой.

18

– Як жа такое магло адбыцца, Сымон Міхайлавіч? – папыталася Мальвіна, уздыхнуўшы, у яе голасе боль і пакуты, недаўменне і роспач. – У нашай галаве такое не ўкладваецца...

Яна сядзела побач з Алёнай, без сыноў, у кабінеце камандзіра часці.

Камандзір маўчаў, не ведаючы, як апраўдвацца перад жанчынамі.

– Мы ж вам сваіх сыночкаў далі нябітых і не злых, мы і зусім бы вам іх не далі, дык жа законы нейкія дурныя існуюць – нарадзі, выгадуй, пакладзі на дзяцей усё жыццё, а яны тут для вас не людзі, а...

– Абаронцы Айчыны.

– Абаронцы? Ад каго абараняюць, спадар палкоўнік? Ад Амерыкі? Ад Польшчы? Ад Нямеччыны? Дык жа яны перажываюць за нас, лекі і харч шлюць нам, адзенне... Ці, можа, ад Расеі ці Украіны? Ад каго? У мяне сын быў, ваш цёзка, Сымонка. Дык яго ў цынкавым адзенні, як казала Макушыха, прывезлі з Афганістана. Хто ў тым вінаваты, можа, я? Для гэтага я яго гадавала, ночы не спала, – для смерці, значыць, гадавала... Каб ён быў забойцам нявінных людзей? Ісус Хрыстос казаў, хто нават і не забівае, а пасылае забіваць іншых, то і таго спасцігне смерць... І тых камандзіраў, што пасылалі майго сына забіваць, насцігне тое ж самае... І Бог пакарае, не я. Я дурная з вёскі жанчына, усё жыццё кароў даіла. У гаўне па пояс таўкуся во са сваёй сяброўкай Аленай, і мо ад нас тым сялянскім гноем і патыхае, бо яго нічым нельга вытравіць з нашага цела, ды вы толькі з-за далікатнасці выгляду не падаеце, як культурны чалавек, што ад нас не французскімі духамі пахне, – дык вось я скажу вам, дарагі камандзір. Армія ваша – гэта нават і не нашая калгасная ферма. Гэта бойня жывёлы, быдла. У быдла выператварылі нашых сыноў. Армія – гэта кроў і смерць у мірны час. Добра,

калі б у імя каго ці чаго – незалежнасці, пры тым сапраўднай, а не інтэгратарскай, шчаслівай долі, а так...

– Я не збіраюся... – хацеў нешта ўставіць палкоўнік, схіліўшы галаву, але яго настойліва перабіла жанчына, не дала даказаць – у яе душы кіпеў боль за свайго сына, за сына сяброўкі, за ўсіх сыноў, што аддалі мацяркі ў войска:

– ...а так мы, выходзіць, на бойню і здаем сваіх дзяцей. І муж у мяне быў. Узялі на ваенныя зборы. Замест збораў будаваў генералам катэджы. У роў машына скацілася – везлі матэрыялы для будаўніцтва. Удавой я стала, а сыны без бацькі. Дык што, вы хочаце, каб і апошні мой сынок загінуў тут, у вашай часці?

– Вашага сына ніхто больш і пальцам не кране! – цвёрда паабяцаў камандзір – у яго пачырванеў твар, ад сціснутых зубоў перакатваліся жалвакі. – Больш такога не паўторыцца...

– Не паўторыцца?! – Мальвіна пільна паглядзела на палкоўніка. – Слова вашае – пусты гук, прабачайце... То ж у Чачні льецца кроў нявінных людзей, забіваюць тых, хто і зброі ў руках не трымаў ніколі. У іншых месцах вайна ідзе, дык вы ж туды разам з расейскімі генераламі можаце паслаць на смерць, а потым спісаць на ваенную прысягу...

– Тут ужо іншае.

– Іншае? Смешна чуць ад вас такое... Для вас можа і іншае, ды толькі не для нас... Шкада, што мы, мацяркі, не маем сілы, мацнейшую за вашую, а то б... А то не аддавалі б мы на смерць сваіх сыноў. Самі і ваюйце, самі і ідзіце на смерць, але не пасылайце іншых замест сябе...

Да рукі Мальвіны дакранулася Алена, умольна папрасіла:

– Мальвінка, не трэба так. Мо Сымон Міхайлавіч і не вінаваты, над ім і яшчэ ёсць камандзіры.

Але ўдава адпрэчыла руку, хацела да канца выказаць сваю думку.

– Не вінаваты? То мы з табою вінаватыя тады, што не бандытамі сваіх сыноў выгадавалі. Тады б ніякая сволач іх не кранула б... Табе во дзякуй за сына, што адзін на такую ваўчыную зграю асмеліўся рынуцца – адзін усіх паклаў. Мой бы не паклаў. Я свайго песціла і аберагала. Бо ён будучы муж і бацька, але не для арміі я яго рыхтавала, не для арміі, як і ты, даруй мне...

– Мальвіна...

– Добра, добра, а то падумаеце яшчэ, што я з глузду з’ехала, хаця я і блізка каля гэтага. Я ніколі і нікому такога не гаварыла. А тут не вытрымала, выгаварылася. І не злуй на мяне, не крыўдуй... І вы, Сымон Міхайлавіч. Але на развітанне вось я што яшчэ скажу. Калі што здарыцца з маім сынам і з сынам маёй сяброўкі, як і з іншымі дзецьмі, над вашай сям’ёй і асабіста над вамі павісне пракляцце. Як і над вашым былым саюзным міністрам абароны –

Язавым... Як і над Брэжневым, які падпісваў паперы, каб кінуць дзяцей у афганскае пекла... Запомніце тое. І – выбачайце за шчырасць, даруйце, калі недзе і не даспадобы нашыя думкі і меркаванні. Але гэта словы жанчыны. Словы – маці.

Сымон Міхайлавіч кісла ўсміхнуўся, моўчкі кіўнуў галавой.

Праводзячы ўжо жанчын да ганку, сказаў ім:

– Праз гадзіну вас вадзіцель адвязе да вакзала. Вас праводзяць сыны. А за шчырасць дзякую. Словы вашыя буду памятаць. Добрай вам дарогі!

Мальвіна затрымала дапытлівы позірк на палкоўніку – як хацела пераканацца ў шчырасці і праўдзівасці яго слоў. І, здаецца, не заўважыла фальшы ці падману. Толькі пасля гэтага пачала спускацца па прыступках, адвярнуўшыся ад камандзіра танкавага батальёна...

## 19

Поўня круглая і празрыстая, як пераспелая антонаўка пад зыркім сонцам. Вінцук глядзіць на яе, а думкамі пераносіцца ў сваю вёску – у Забалацце. У яго добры настрой – Кацярынка прыслала ліст. Шмат чаго цікавага напісала яму. Паступіла ў тэхнікум – тэхналагічны. Нічога асаблівага, здаецца, не паведаміла, найбольш пра вучобу, пра сяброўак і пра выкладчыкаў. Ні слова пра нейкія пачуцці і іх адносіны, але Вінцуку ўсё роўна цёпла ад яе радкоў. Ён здолеў па-за тэкстам прачытаць тое, што яму ніхто больш не змог бы так напісаць, і яе словы сталі кропелькамі-глыткамі крынічнай вады ў спёку, калі ён піў каля Ігналявай крынічкі. Кацярына не Аксана – ніколі не надумаецца прымусіць яго, каб пакахаў яе, не папросіць нават, – і ён ужо думае пра тое, якое пяшчотнае і цёплае пасланне дашле ёй у адказ...

Помніўся яе голас, вочы, усмешка, сакаўныя вусны, да якіх ён першы раз і дакрануўся на праводзінах у вёсцы. Ён праводзіў яе дадому. Прасталі з гадзіну пад ліпай. Тады ж і асмеліўся – прытуліў яе да сябе, абхапіў няўмела за шыю і першы раз пацалаваў. Потым і яшчэ – ужо смялей, адчуўшы, што і яна жадала таго ж... Гулка білася сэрца, у твар ударыла гарачыня. Вусны здаліся салодкімі і былі жаданымі. Упершыню адчуў такое.

На развітанне, падчас развітання каля ваенкамата, шапнула яму:

– Не забывай мяне, Вінцук!..

І шмат чаго азначалі тыя словы. У лісце яна не пісала іх, але ён добра памятаў пачутае...

Поўня непрыкметна ператвараецца ў твар Кацярыны, і яна па-змоўніцку яму падміргвае, як здзекуецца з яго нясмеласці і маўклівасці, – і Вінцук

у адказ міргае ёй, падыгрываючы, радуючыся, што бачыць яе... Хочацца сказаць ёй патаемныя, сагрэтыя сэрцам, словы, але ніяк не можа іх успомніць, таму моршчыць лоб, сіліцца вярнуць іх у памяці... Па-дурному ўсміхаецца, адчуваючы, як да яго сэрца падступае замілаванасць і пяшчота да дзяўчыны... А тут у ім нейкая перамена – ён як быццам страціў сувязь з наваколлем, і ўжо не чуе хлопцаў, з якімі знаходзіцца ў каравульным памяшканні; яны ў нейкім малочным мроіве, у тумане, іх галасы аддаляюцца ўсё больш і больш, робяцца глухімі, ватнымі...

Поўня то змяншаецца, то павялічваецца ў памерах, – і ён ужо бачыць не Кацярыну, а Аксану – прыгожую, з мяккім голасам; на ёй тая ж, блакітная сукенка, у якой была ў той вечар, як запрасіла на пахкае сена, пяшчотна папыталася:

“Як табе служыцца, Уюн?..”

“Ды нічога, цяпер ужо нічога... Чорныя дні мінулі, цяпер стала жыць весялей і радасней...”

“Ну то і добра... Я радая за цябе... Не бойся мяне, я больш прыставаць да цябе не буду. Толькі давай напаследак, на развітанне, пагуляем з табой у адну школьную гульню. Гэта апошняя-апошняя да цябе просьба. Больш ніколі ты мяне не ўбачыш, не пачуеш. Памятаеш нашую настаўніцу Вікторыю Кірыкаўну? Як яна замест урока праводзіла ўрок-дыктоўку? Дыктавала тэкст і потым выводзіла сапраўдную адзнаку за пісьменнасць, памятаеш?..”

“Памятаю...”

“Вось і ўяві, што я буду за настаўніцу. І буду дыктаваць табе тэкст... Самы лёгкі – ліст роднай матулі. Мы ёй напішам пяшчотнае і прыгожае пісямцо, добра? Я яго і аднясу потым ёй, аддам.... Але ты напісаць павінен без аніводнай памылкі...”

“Добра... Дыктуй...”

Аксана нейкі момант маўчала, як усё роўна абдумвала словы, жартоўна дадала:

“Дамовіліся – без памылак. Бо я строгая настаўніца... Тады слухай тэкст. Пачынаем з абзаца –

“Дарагая матуля! Піша табе Вінцук, твой любімы сынок. Мама, мне тут добра – служба праходзіць спакойна і цікава. Але маё сэрца з сённяшняга дня будзе належаць Уладару цемры. Таму калі ты атрымаеш мой ліст, то я ўжо буду сярод Сымона і бацькі. Перадам абвязкова ад цябе прывітанне... Яны мяне ўжо клічуць да сябе, і ніхто не прымушаў мяне ісці да іх, я сам, па добрай волі і па сваім жаданні...”

“Напісаў, Уюн?”

“Напісаў... “па сваім жаданні...”

“Малайчына, правільна. Дыктую далей, пакуль пішаш без памылак, гэта вельмі добра...»

Хлопцы не звярталі на яго ўвагі. Усе пісалі, калі былі вольныя пасля дзвюх гадзін стаяння на варце, ахоўваючы ваенны аб’ект. Пісалі каханым, матулям, сябрам... Яны і не чулі патаемнага голасу Аксаны, якая дыктавала страшны тэкст. Кожнае слова таго тэксту магло забіць таго, каму яны прызначаліся...

*«Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і слова было Богам...»*

Праз нейкі час ён склаў у чацвёра аркушык паперы, засунуў у канверт з надпісаным адрасам, заклеіў і кінуў да стосіка астатніх, што сябры паспелі напісаць... На душы стала лёгка-лёгка, як звалілася з плеч вялікая гара. Заваліўся, усміхаючыся, на нары. І снілася яму матуля. Усміхалася, чытаючы яго ліст, і на яе твары гулялі блікі ад промняў сонца, якія адбіваліся ад вады – сядзела каля возера? І Сымон глядзіць у ліст, нешта тлумачыць, і бацька потым чытае, увесь час пяцярнёй закідвае назад валасы... І радасна было ад таго, што ўся сям’я ў зборы, і на матуліным твары і на сэрцы няма болей ніякага смутку і болю...

Праз нейкі час яго катурхнулі за плячо – пабудзілі. І ён прачнуўся бадзёры, з добрым настроем, быццам праспаў усю ноч, а не дзве гадзіны... Сяржант Грынькоў пастроіў трох салдат – і ўсе разам пайшлі ў цемру, каб змяніць тых, што адстаялі свой час.

– Стой, хто ідзе? – пачулася з цемры.

– Разводзячы са зменай!

Гэтак жа падышлі да другога, да трэцяга паста. Вінцук застаўся адзін на адзін з ноччу і зоркамі, што густа высеяліся і выясніліся ў небе. Сам не ведаў, ад чаго ў яго быў узнёслы настрой, чаму так радасна і цёпла стала на сэрцы... Падумаў пра тое, што трэба было б напісаць ліст маці – ужо колькі тыдняў прайшло, як апошняе адправіў... Крыўдзіцца будзе і перажываць, падумае, што зноў нешта здарылася... Ён любіў назіраць за зоркамі. Гледзячы на іх, добра марылася.Верылася тады, што ўсе жаданні ператворацца ў яву, што на абранай ім дарозе не будзе калдобінаў і глыбокіх ямаў...

*Сонца ціха скацілася з горкі;*
*Месяц белы заплаканы свеціць,*
*Аглядае бахматыя зоркі,*
*Цягне з возера срэбныя сеці.*
*Ў іх русалкі заблуталі косы, –*
*Рвуць бліскучыя, яркія ніці;*
*Ноч плыве над зямлёй, сее росы,*
*Ноч шапоча русалкам: “Засніце”.*

Чамусьці раптоўна пахаваліся зоркі. Аднекуль наплылі хмары, абклалі ўсё неба, і знік Валацужны Шлях праз усё неба... Затрашчала над галавой маланка, абрынуўся на зямлю халодны і калючы дождж. Неба раздзялілася – з аднаго боку было цёмна і даждліва, а з другога, ад захаду, яно было чыстым і светлым, нават з зоркамі... Вінцук падзівіўся: “Як быццам змагаюцца дзве сілы – цемры і святла, зла і дабрыні...”

– Вінцук, ты чуеш мяне? – голас з цемры – ці то Кацярыны, ці то Аксаны – мілагучны, добразычлівы.

– Чую, – не здзівіўся вартавы, хаця ведаў, што яму не дазволена размаўляць, перад ім ужо была не ноч, а быў дзень, і на яго глядзелі вочы ці то Аксаны, ці Кацярыны, ды не, то ж вочы матулі... – То ты, мама?

– Пазнаў, – абрадавалася маці. – То пайшлі, сынок, прагуляемся з табою – камандзір дазволіў нам прагуляцца, я і дранікаў табе нарыхтавала з дамашняй каўбасой... пайшлі...

У руках маці кошык з прысмакамі – пачуў пахі і пракаўтнуў сліну.

– Я ж не магу, мама, пакінуць пост, – запярэчыў слаба, робячы ўсё ж крок да яе. – Вось змянюся, тады і прыходзь да мяне...

– Нікуды твой пост не падзенецца, – супакойвала Мальвіна, – ды мы доўга і не будзем – пасядзім на грудочку, ты пад’ясі – і назад вернемся. Там і Віцька чакае цябе... А то даўно мы з табой не бачыліся... Пайшлі, сынок...

Яна вяла яго за сабой, пратоптваючы дарогу, махала рукой – прыспешвала яго хаду. А ногі былі як ватныя, як хто навешаў на іх важкіх камянёў, – і ён з цяжкасцю перастаўляў іх, як марудзіў нечага, супраціўляўся.

– Не адставай, сынок, у нас мала часу... ідзі хутчэй за мной...

Як да дзеда Нікадыма акурат ідуць, гэтак жа падахвочвае яго да хады.

Ужо і дарога не дарога, а нейкая лесвіца, якая вяла некуды вышэй і вышэй – да аблокаў, а маці ўсё махае і махае рукой, просіць паспяшацца... Зноў жыхаюць маланкі, лье праліўны дождж... Але – во дзіва! – ні ён, ні матуля, што была без плашча ці якой накідкі, – ані кроплі на іх, сухія, як і не пад даждэом крочылі наперад...

– Ідзі, сынок, паспяшай... Хутка вернешся... Вунь Віцька нам рукой махае...

Ён не заўважае, што яны ідуць па сцяне недабудаванага высотнага – у дзевяць паверхаў – дома, на апошнім паверсе знаходзіліся... Ужо і да вугла заставалася крокаў з дзесяць, не больш... Калі ж зноў жыханула маланка і асвяціла наваколле і іх, то Вінцук угледзеў, што то і не маці зусім перад ім, а вядзьмарка Журавель, і праз тоўшчу адлегласці і часу да яго даляцеў слабы старэчы голас: “... калі што адчуеш, то чытай “Ойча наш”...

*– Ойча наш, існы ў нябёсах... Няхай свяціцца імя Тваё, няхай прыйдзе Валадарства Тваё, няхай будзе воля Твая на зямлі, як і на небе...*

Ён прашаптаў толькі некалькі слоў, як адразу перакрывіўся твар у Аксаны. А побач з ёю вырасла постаць Нікадыма – ён узняў над сабою рукі, гледзячы ў неба, крыкнуў з апошніх ужо сілаў:

– Абарані, Божа!..

Розум і асэнсаванне рэчаіснасці пачыналі яснець, як быццам нараджалася раніца, як быццам ён пачаў абуджацца ад сну...

Зноў крыкнуў дзед, але ўжо зусім аслабелым голасам:

– Жыві, хлопча! Бог пачуў тваю малітву!

Аксана тут жа, на вачах, ператварылася ў нейкую чорную птушку – ці не ў крумкача, але памерам з бусла; паспрабавала ўзляцець, мусіць, уцячы, ды не здолела – з дзікім жудасным крыкам звалілася ўніз і наткнулася на вострыя пікі арматуры...

Загайдаўся, бы здань, і дзед Нікадым, радасна ўздыхнуў, заўсміхаўся, – і растаў у начной цемрадзі... Нехта падхапіў Вінцука дужымі рукамі – ледзьве не зляцеў і сам, паслізнуўшыся, следам за чорным крумкачом-буслам, адна нага ўжо вісела над безданню...

– Ты што, Вінцук?! Чаго цябе занесла сюды? Чаго?

– Куды, Віцька?

– На гэтую будоўлю. Мы ж на дзявятым паверсе стаімо – на самай верхатуры, то ж для афіцэраў дамы ўзводзяць...

– Будоўля? Дзявяты паверх? І ты дурыш мяне, як Аксана. То яна мяне... сюды зацягнула, паклікала...

– Аксана? - падзівіўся ўжо і Віктар. – Нашая вядзьмарка?

– Яна. Падобнай стала на маці. Голасам і тварам. Але, мусіць, ужо больш ніколі не пакліча. Здаецца, разбілася... Як убачыла дзеда Нікадыма і пачула, як я пачаў чытаць малітву... кульнулася ўніз, ператварыўшыся ў вялізнага гругана...

Барылін верыў і не верыў у тое, што казаў сябар. Туліў яго да сябе – быў рады, што ўратаваў яму жыццё. Уратаваў у другі раз.

– Добра, добра, я ўсё зразумеў. Ты ў парадку? Ты ўсё разумееш, што з табой адбываецца?

– Разумею, а што?

– Тады аддай мне свой аўтамат – ён зараджаны і ўзведзены. Прымі палец з пускавога кручка, ну-ууу!.. Загадваю, як камандзір твой!

– Яна загадала, каб я ў канцы дарогі стрэліў сабе ў грудзі.

– Усё. Аддай. Страляць не трэба – я адмяняю загад Аксанкі. Забудзь пра ўсё.

Вінцук скрыгатнуў зубамі, заплючыў вочы, выпусціў з рук зброю – і ўпаў на бетонную падлогу. Не чуў, як яго, беспрытомнага, знеслі на насілках уніз,

як завезлі ў шпіталь. Спаў ён, не прачынаючыся, трое сутак. Віцька расказаў доктару – пажылому чалавеку ў акулярах, – што адбылося з хлопцам, і што таму было прычынай. Той здзіўлена матлянуў галавой і зрабіў вывад, што салдату Уюнову не патрэбны ніякія лекі і ўколы. Каб вывесці яго з таго стрэсавага стану, галоўным і дастатковым лякарствам для яго неабходны глыбокі і доўгі сон.

На трэцця суткі Віцька ўбачыў, што ў Вінцука стала белай галава – як прыцярушыў валасы першы сняжок з маладым марозівам...

Аксану Журавель пастухі ўбачылі пад вялікім старым дубам – сядзела, трымаючы ў руках канверты. Думалі, што заснула. Калі ж дакрануліся да пляча, яна ўпала на бок – няўцямна глядзела ў неба...

Побач з ёю ляжала мёртвая ці то варона, ці крумкач – не зразумець было, такіх птушак ніхто ніколі не бачыў... Казалі людзі, што днём, калі паштарка ішла па сваіх адрасах і села адпачыць пад дуб, каб схавацца ад дажджу, то ў сухую верхавіну ўдарыў пярун – і забіў паштарку...

Вяскоўцы знайшлі ў паштовай сумцы Аксаны і лісты, якія яна чамусьці не аддала адрасатам. Пісьмо там было і з Кіева – ад Адама Камка., Віці Барыліна да маці, дзе ён пісаў пра дружбу з Вінцуком. І яшчэ некалькі канвертаў... Сярод тых лістоў, якія яна збіралася разнесці, было і перадсмяротнае пісьмо Вінцука да маці. Было ў сумцы і белае каменнае яечка. Людзі здагадаліся кінуць яго ў агонь – і яно выбухнула, як граната, рассыпалася на дробныя пясчынкі...

Алёна ўзяла ліст ад Вінцука, і не ведала, што рабіць – з вайсковай часці не было ніякага паведамлення, а ў пісьме вунь што напісана... Гора якое... Не вытрымае Мальвіна такога ўдару, разарвецца ў яе сэрца... З цяжкім каменем на сэрцы ішла да сяброўкі, а ногі не слухаліся. У самой разрывалася сэрца на кавалачкі ад прачытанага, міжволі на вочы набеглі слёзы...

“Значыць, цяжка было, значыць, зноў збілі, таму і не вытрымаў... – падумала пра сябе. – А палкоўнік даваў жа слова, бажыўся, што з імі нічога не здарыцца...”

– Алена, го Алена! – з парога будынка ашчаднай касы пагукала касірка Улляна Аўсяюк. – От добра, што цябе ўбачыла. То ж твой сынок табе звоніць... Просіць да тэлефона.

Подбегам, подбегам, як маладуха, дапяла да парога, ускочыла на высокія прыступкі, ухапіла слухаўку:

– Віцечка, ты?

– Я, мама! Мы з Вінцуком у горадзе, у звальненні. Рашылі пазваніць. Дык віншую цябе з днём народзінаў! Як ты там, як цётка Мальвіна?

У яе адняло мову. Адзервянеў язык, і яна не магла вымавіць ні слова. Сілілася нешта сказаць, але атрымалася нейкае мычэнне...

– Алё, мама, алё!..

“Што ён гаворыць? Пра дзень нараджэння я і забылася зусім... А... З Вінцуком гуляюць? Як гэта?..”

– Ві... Ві... Віцька, а Вінцук жывы? З табой побач? Кажы!

– Жывы! А чаго ён павінен быць нежывы? Ды што з табой, мама?! Чаго ты плачаш? Што там у цябе, ці ў вас?

– Дык ён жа, Вінцук, пісьмо такое напісаў, што рукі наклаў на сябе. У Аксанінай сумцы мы знайшлі, у нежывой узялі, яе пярун забіў – пад дубам сядзела.

– Якое пісьмо? Ён кажа, што не пісаў ніякіх пісем! Ды жывы ён, жывы! Вінцук сам табе пра тое і скажа. Вінцук!..

На другім канцы лініі нешта зашамацела, потым нехта кашлянуў, і тады пачуўся голас Уюнова:

– Дзень добры, цётка Алена! І я віншую вас з днём народзінаў! Поспехаў вам і здароўя! Што там здарылася, што за перапалах? Я не пісаў ніякіх пісем. Збіраюся маме напісаць. Перадавайце ёй прывітанне. Скажыце, што я жывы і здаровы. І ад камандзіра часці нашага вам абедзьвюм прывітанне – асабіста прасіў перадаць.

– Дзякуем. І яму перадавайце...

У душы Алёны перавярнулася на лепшае. Унутраны боль, што невыносна пёк, некуды прапаў, знік. Толькі не праходзіў халадок на патыліцы.

Пакрысе падступалася да яе радасць. Думалася толькі пра светлае і вясёлае...

Папрасіла ў Уляны сярнічкі. Тут жа, на яе вачах, спаліла чорнае пісьмо, – каб і не напамінала ні пра што. Яно доўга не загаралася – як мокрае было, і толькі недзе з пятай ці шостай запалкі нечакана ўспыхнула і выбухнула – як было абліта бензінам. І – дзіўна – ад яго не засталося ніводнай чорнай парушынкі. Толькі попельнае воблачка павісла на імгненне перад вачыма – і знікла.

“Значыць, не просты ліст быў, – заключыла жанчына, – значыць, падроблены... Але хто ж яго тады напісаў? Почырк жа Вінцукоў... Прыклала руку вядзьмарка? На адлегласці нават?... Ці можа такое быць?.. Выходзіць, што можа, раз яна на такой адлегласці дапяла да хлопца... Во, гадзюка, во ўчапілася ў яго, і якую пачварнасць замысліла. Але што хацела, таго і дамаглася!..”

Нешта кальнула ў скроні, потым у патыліцу. Потым галава праяснілася, наваколле зноў набыло светлыя і прыгожыя колеры, зноў пачуліся гукі і дыханне вёскі, – і жанчына заўсміхалася, ледзьве ў скокі не кінулася – ой. з якой

харошай весткай яна пойдзе да сваёй найлепшай сяброўкі! Даўно не было ў яе так радасна і шчасна на сэрцы, ой даўно!

“Зайду ў краму, куплю з гэтай радасці магазіннай гарэлкі, – падумала Алёна радасна, – ох і вып’ем мы з сяброўкай за сыноў, за іх здароўе і добрую службу, і во, за мой дзень нараджэння, пра які я і забылася зусім з-за клопатаў і гэтых падзей!..”

Бадзёрым і размашыстым крокам ішла жанчына па роднай вёсцы.

……………………………………………………………………………..

Дзед Нікадым памёр у той жа дзень, калі пярун забіў вядзьмарку – перад заходам сонца.

Хавалі Чарадзея ўсёй вёскай.

Мальвіна ўзяла Міхаську да сябе.

А ён паўтараў і паўтараў скрушна кожны дзень:

– Я ж казаў дзеду Нікадыму, каб не гнуўся дужа пад ветрам людскіх хваробаў.. А ён не паслухаўся. Надарваўся. А так бы пражыў яшчэ гадоў з дзесяць... Затое ваш Вінцук жывы застаўся, абараніў яго дзед ад Аксанкі...

– Дзеду дзякаваць, і табе, Міхаська, што разумееш усё і ведаеш...

На вачах Міхаські слёзы. Яму шкада дзеда, шкада ўсіх, шкада, што застаўся адзін. Але ён нікому не гаварыў, што ўсе хваробы, якія прыставалі да людзей, якія не мог ужо вылечыць Чараўнік, ён браў на сябе.

І нёс іх на сабе, як сын Божы, нёс крыж, ідучы на Галгофу...

……………………………………………………………………….

…Тое ўсё я пачуў ад стогадовай бабулькі Дамінюські ў вёсцы Крушнікі, што на Мазыршчыне.

Скончыўшы аповед, уздыхнула, гледзячы ў блакітнае неба, наклаўшы на сябе крыж, прамовіла:

– Ніколі нельга нікога ні ў чым прымушаць, скажу табе, нябожко, ісці супраць волі чалавека. Тым больш у каханні, ды прымяняць яшчэ для сваёй задумы чорныя сілы... Прымус – як гадзюкі ўкус...

*Санаторый “Алеся”, Янова –*
*21 лістапада – 7 снежня 1999 года*

# Муха

*Фантазіі дысідэнткі*

*Муха звычайная, безвалоска звычайная – насякомае сямейства безвалосак атрада двухкрылых. Пашырана ў Еўропе. Вочы фасетачныя, вялікія.*
Энцыклапедыя прыроды Беларусі, т. III, Мінск, 1985)

***Частка нулявая***

0
– Бз-ззззз-ззззззззззз-ззззззззззззз!..
.........................................................................................................

***Частка першая***

1

Мая госця праяўляла ўсё большую надакучлівасць – звінела пад столлю, як спявала нейкую нудную песню…

“Адчапіся… – адпрэчыў думкава, не расплюшчваючы вачэй, ува мне пачынала ўжо нараджацца слабая злосць на яе за тое, што яна дражніцца, пацвельваецца з мяне, як стараецца вывесці з душэўнай раўнавагі. – Адчапіся, бо…”

“Што – “бо”? Што? – яе смех тоненькім званочкам ліецца скрозь тоўшчу пакаёвай прасторы. – Чаго ты злуешся? Сам усюды гойсаеш, а мне дык і пакайфаваць не дазваляеш… Эгаіст ты, Антон, няйначай…”

“Сама ты эгаістка, – лена дасылаю помслівыя словы, мяне ўсё больш пачынае агортваць сон, зліпаюцца вейкі, – я ўжо гайдаўся ў нябачным чоўне на хвалях лагоднай ракі, чакаючы тую хвілю, тое імгненне, калі правалюся ў салодка-жаданую невядомасць… – Не замінай, прашу…”

Кватарантка на гэты раз змоўчала, паслухалася, мусіць, адчуўшы мой стан, а мо занялася нечым сваім, мушыным клопатам; і я абрадаваўся гэтаму, бо човен яшчэ больш закалыхваў мяне, люляў, набліжаючы да той запаветнай мяжы, якую імкнуўся пераступіць. Паспаць я любіў, можа і задужа, сорам у тым прызнацца…

Слаба, амаль нячутна, да мяне даносіліся словы ці то пажадання, ці калыханкі:

*"Спі, спі, засынай... Спі, спі, засынай..."*

Я нырнуў у шэрае сутонне, мяне нешта панесла ў бяздоннае тумановае малодзіва, – быў я ўжо невядомай істотай, якая поўнілася жаданнем і радасцю, налівалася спакоем, спеласцю думак і ўпэўненасцю, у нейкім таямнічым прызначэнні, у тым, што я рабіў, да чаго імкнуўся…

… наш рыбалавецкі сейнер ішоў проста на сонца. І яно было так блізка перад намі, што, здавалася, выдаўжы руку – і апячэцца яна ад дотыку да чырвонай магмы.

Малінавае кола брыжыкам дакранулася да марской роўнядзі, разрэзала тоўшчу вады, і яна, падалося, засычэла, і пачала падымацца ад яе пара; потым сонца апускалася глыбей і глыбей у нябачнае бяздонне, як бы спяшаючыся схавацца ад людскога вока, ці хацела астынуць у вадзе глыбокага акіяна… Потым яно нырнула зусім, і толькі водсветы яшчэ доўга трымаліся на небе і воблаках…

– Цё там цікавае ўбачыў, Антон сан? – ля майго пляча стаіўся Саяма, бліскучымі вузенькімі вочкамі ўзіраўся ў далячынь.

– Сонца, сонца нырнула ў мора.

– Харосяе сонца. Сонца – Бог.

Мой японскі сябар схіліўся ў нейкім таямнічым паклоне, склаўшы перад носам далоні – адна да адной, колькі імгненняў маўчаў, не мяняючы паставы.

– Люблю сонца, калі яно ўкладваецца спаць.

– Той, хто любіць сонца, той любіць Бога.

– Усе любяць сонца, але не ўсе любяць Бога.

– Затое Бог любіць усіх людзей. І даруе чалавецтву яго правіны.

– Дараваць вечна ён не можа…

– Так, не можа.

Ужо і водбліскі ад сонца зніклі, ужо і знаку ад іх не засталося, а на гарызонце роўненькім шнурочкам падзялялася прастора акіяна і неба. Потым і раздзяленне знікла, і ўжо суцэльная намітка шэрай сінечы была перад намі.

– Чаго ў тваіх вачах сум, Антон сан? Ад чаго боль у тваім сэрцы?
– Няма суму, Саяма сан. Ёсць стома. Дні ж цяжкія былі ў нас з табою.
– Былі, так… Але вочы не павінны паказваць тое. На розум не павінны ўздзейнічаць знешнія сілы. Мы павінны хаваць у сабе эмоцыі і не разбураць суладдзе душы і цела.
– Згодзен, Саяма сан, але ты не ўлічваеш розніцу ў нашым выхаванні. У вас з дзяцінства душа вучыцца разумець прыгожае і адчуваць, як б’ецца сэрца зямлі…
– Так, але ты з дзяцінства рос сярод дубоў і бяроз. І таму ты таксама ўвабраў у сябе дадатную энергію, уменне разумець і адчуваць наваколле. Не кожнаму ж дадзена здольнасць размаўляць з ляснымі жыхарамі і хатнімі жывёлінамі, нават з мухамі і камарамі, – а ты ў іх лічышся за свайго…
Я не змог яму запярэчыць. Саяма гаварыў амаль праўду.
Расказвала маці, што некалі, даўно-даўно, калі я яшчэ і не памятаў самога сябе, згубіла яна мяне ў лесе. Праўдзівей сказаць, не згубіла, а не памятала, як тое адбылося, бо гарэла сама ў гарачцы і не ведала, куды ішла з немаўлём на руках. Адзінае, што помніла, як знясіленая прылегла пад сівым пракаветным дубам, паклаўшы мяне паміж двух пакручастых каранёў – як у калыску…
Ачуняла невядома праз які час і адчула, што была далёка ад таго дуба. Апамяталася – і жахнулася. Закрычала, рукі выдаўжыўшы ў неба, да Бога скрушна загаварыла, вінавацілася, што так атрымалася – сына ў лесе пакінула, бездапаможнага, безабароннага, які і не ведаў яшчэ, што існуе на свеце гора і бяда… Колькі дзён і начэй, мо і тыдняў, блукала па лесе, нічога ўжо не баючыся: страшней, як страціць адзінага сына, ёй здавалася, ужо нічога і ў свеце няма…
Яна забылася і пра свой голад, і пра тое, што яе пакідалі сілы, адно хвалявала яе – як адшукаць сына, і таму страх падштурхоўваў да нейкіх дзеянняў… Ведала, што заблудзілася, і таму не магла вызначыць кірунак – а куды ж ісці, куды кіравацца, каб выбіцца на тую адзіную сцежку, якая выведзе яе да таго месцейка… Жанчына як не ірвала на сабе косы, ганячы і ўшчуваючы сябе, што дапусціла такое… Цяпер ёй і жыць – не жыць…
Адшукала яна мяне зусім у іншым месцы. Не пад пракаветным дубам я ляжаў, загорнуты ў рыззё, а ў жыце. У разоры. Не магла зразумець, чаго мяне туды занесла – хадзіць ці нават поўзаць я яшчэ не ўмеў. Але хто ж мяне туды занёс-перанёс? Дзіўна было маці – я яшчэ быў жывы, бо за некалькі сутак, як яна шукала мяне, я павінен быў памерці альбо змарнець да непазнавальнасці… Дзіўна, але я яшчэ быў і вясёлы. Усміхаўся, гледзячы на матулю, спрабаваў нешта сказаць – такое ж радаснае і вясёлае, як падбадзё-

рыць яе, суцешыць, як быццам несвядома ведаў, што рабілася ў яе на сэрцы. Маці не верыла свайму нечаканаму шчасцю, не верыла раптоўнаму цуду, што адбыўся на яе вачах… Мо яна ад радасці і страціла зноў прытомнасць, паваліўшыся побач са мною, паспеўшы толькі нахіліцца ў адваротны бок, каб не прыдушыць сабой дзіцёнка…

Калі ж ачулася, убачыла блізка каля свайго твару ваўчыныя вочы. Вочы былі не злыя, а добрыя, як чалавечыя. І таму маці не спалохалася, нават заўсміхалася, спрабуючы ўстаць, шапнула нешта ласкавае лясному зверу, каб ішоў сваёй дарогай…

Калі ж ваўчыха падышла да немаўляці і нахіліла над ім галаву – як праверыла сядно, ці зручна ляжаць маленькай істоце, то толькі тады маці ўбачыла, як адвіслі – амаль сунуліся па зямлі – сасцы цыцак, і тады ж зразумела, уцяміла, што перад ёю стаіць ваўчыха. Ваўчыха-маці.

Яна скавытнула працяжна, узняўшы галаву да неба, страсянула з сябе шэра-срэбную поўсць. Як быццам адчула нейкую палёгку, як быццам скінула з сябе нейкі нябачны цяжар.

А я, аказваецца, даўно вылузаўся з пялюшак, круціў неспакойна рукамі і нагамі, глядзеў на ваўчыцу, а не на маці, і біў яе няўцямна па сасках…

Маці нешта зразумела, але найперш адчула, хто быў выратавальнікам немаўляці. Ваўчыха ўхапіла зубамі чорную нежывую гадзюку, якая ляжала па другі бок дзіцяці (адкуль яна з’явілася тут, і хто яе задушыў? Ваўчыха, ратуючы немаўля?!), аднесла яе і, матлянуўшы галавой, адкінула чорную вяроўчыну як мага далей. Яна вярнулася, стала над дзіцём, апусціўшы да твару чорныя саскі. І малы ўхапіўся ў іх рукамі, пачаў смактаць…

Ваўчыха знячэўку завыла, закінуўшы галаву да льдзінкі-месяца, што слаба выдзяляўся на купале неба, – і болей не захацела глядзець на жанчыну. Больш таго, падышла да яе і, падняўшы нагу, пякучымі пырскамі ўдарыла ў твар, як абазначыла яе, як зняважыла, як папракнула, што вялікі грэх узяла на сваю душу, пакінуўшы роднае дзіця…

Маці не выціралася, прыняла абразу як плату за свой грэх, адно хіба саргравала душу – жывы, жывы яе сын, і выратавала яго ад галоднай смерці і гадзюкі яна, ваўчыха!

Не аглядваючыся, бо звярына і не ўмела аглядвацца, яна пакрысе пачала перабіраць нагамі, каб пакінуць людзей, не замінаць ім… І сама радая была, што чалавечая маці знайшла сваё дзіця… Запознена, што можа яна і не пачула яе, прамовіла наўздагон, наўслед:

– Дзякуй табе, жонка ваўка, што ўратавала майго Тоніка!..

І толькі пасля гэтага схапіла аберуч, шэпчучы і плачучы: “Родненькі мой, як жа гэта я цябе згубіла? Няма мне даравання, няма…” А сын смяяўся,

накормлены малаком ваўчыхі, шчасліва заплюшчыў вочы, ухапіўшы ручкай некалькі блакітных васількоў – як букет самых прыгожых кветак на зямлі падрыхтаваў для сваёй матулі…

– У нас сваё, – згаджаюся я, – але мы не надавалі таму асаблівага значэння, і не рабілі з таго культу, не абагаўлялі, нават і не лічылі за нешта значнае, што магло даваць карысць душы наступным пакаленням…

Саяма ўсміхнуўся, павярнуўшыся да мяне:

– Гэтая васая палясуцкая сціпласць… Як быццам самі сабе рыхтуеце пакутніцкі шлях і імкнецеся крочыць па ім усё сваё жыццё, як усё роўна Хрыстос, несучы на сабе крыж, каб на той Галгофе распнулі вас…

– Такія мы ўжо, і нас не перарабіць, – згаджаючыся з яго ацэнкай і прысудам. Саяма глыбокі правідца і прарок. Ад яго дапытлівага розуму і рэнтгенаўскага пранікнення ў пласты будучага і мінулага часу нічога не магло схавацца – ён як жывы мініяцюрны камп'ютар мог выдаваць без затрымкі складаныя формулы жыцця і іх рашэнне – нават пры самых цяжкіх абставінах. – Але якія мы сапраўды – і самі не ведаем…

– І добра, што не ведаеце! – ухваліў гучна мае словы Саяма. – Каб ведалі, то і не былі б такімі.

– Якімі?

– Тымі, хто вы ёсць. Які ты ёсць.

Я разумею яго і не разумею. Хаця з усіх сілаў стараюся тое зрабіць.

І калі я напручваю мазгі, сілячыся нешта асэнсаваць ці даць нейкую ацэнку, то тады нараджаецца ўпэўненасць, што мне зразумелая яго загадкавасць і яго жыццё, узведзенае ў культ, узнятае на самую высокую вяршыню японскага падпарадкавання цудоўнаму і прыгожаму.

"Добра мне з табою, Саяма сан, – удзячна адрасую яму маўклівае прызнанне і ўдзячнасць. – Радней за роднага брата ты для мяне стаў на гэтай планеце…"

"І ты мне радней за ўсіх, Антон сан, – парыруе мне тым жа самым мой сябар, – і добра, што нас звёў лёс. А лёс – гэта таксама Бог. Нічога выпадковага не бывае ў нашым жыцці. Бо ў нас кажуць – харошых сябрукоў сустрэнеш не часта, а дурняў – хоць гаць гаці".

Між намі існуе суладнасць.

Згода і зладжанасць…

Наш сейнер не зразумець пад якім сцягам выйшаў у мора, якой краіне належыць.

Але гэта і не так важна, бо ў гэты момант мы не належым ніякай краіне, ніякай дзяржаве – мы належым толькі самім сабе...

2

Акіянскае параходства Тайваня набірала добраахвотнікаў на сейнер "Чорная пантэра". Я і не ведаў пра тое, хаця колькі разоў наведваўся да начальства прычала. Але ці то я сваім выглядам наводзіў падазронасць, ці па мне было бачна і няўзброеным вокам, што з мяне храновы марак і рыбалоў, – мне кожным разам маўкліва паказвалі на дзверы.

У скверы я адшукаў лаўку і бавіў на ёй час – праседжваў на ёй гадзіны. Грошы мае заканчваліся, ад гасцініцы прыйшлося адмовіцца, заставалася толькі на некалькі абедаў у таннай сталоўцы.

Калі да мяне падсеў незнаёмец, я і не заўважыў – драмаў, апусціўшы галаву на грудзі. Адчуў толькі яго прысутнасць. І пасля гэтага не паварочваў да яго галавы – мяне не цікавіла, хто сеў побач…

– Саямам мяне маці назвала, – загаварыў першым сусед па лаўцы, не гледзячы на мяне, а некуды ўдалеч, у бясконцы акіян. – А цябе Антон сан, ці не так?

Я нічога не адказаў, але павярнуўся на яго голас. Адразу вызначыў, што ён быў родам з краіны Узыходзячага Сонца. Але ўжо здзіўлена глядзеў на яго, не могучы зразумець, што ён хоча ад мяне. Было жаданне, каб ён як мага хутчэй адчапіўся ад мяне, пакінуў аднаго…

– Плаваць хоцацца, а цябе не бяруць на борт, ці не так, Антон сан?

– Так. Адкуль ведаеш?

Саяма загадкава ўсміхнуўся.

– Прыходзь заўтра на гэтае месца. У такі ж час. Заўтра зоркі павернуцца па-іншаму. Таму ўсё будзе добра.

Так я яму і паверыў. Не на дурня напаў. Вучоны ўжо. Колькі разоў абдурвалі людзі, прыкідваючыся дабрадзеямі, абяцалі залатыя горы, а калі я даваў грошы ў рукі, іх і след прападаў…

Я прыйшоў на ранейшае месца. Але не з-за таго, што мне прызначыў час Саяма, проста я ўжо амаль месяц прыходжу да лаўкі, сядаю і чакаю, калі мяне паклічуць начальнікі – ім добра відаць з акна, што я штодзённа стаю на варце… Ён, той, што набіваўся ў мае знаёмыя, ужо сядзеў на лаўцы, як чакаў мяне. У мяне было такое ўражанне, што ён і не знікаў нікуды, знаходзіўся тут увесь час…

Мы павіталіся, і першым маім пытаннем было:

– Адкуль ты ведаш маё імя?

– То ёсць вялікі-вялікі сакрэт. Бо я ёсць вялікі-вялікі чараўнік. Я магу сказаць, як завуць тваіх бацькоў, брата, каханую жанчыну…

– Скажы, – захацелася праверыць яго.

– Маці – Ганна, бацька Мікола, брат – Міколка, а сэрца твайго суцяшэння – Яніна…

Мне прыйшлося толькі падзівіцца:

– Усё так, Саяма сан. Сапраўды – ты чараўнік.

Ён павёў мяне на прычал. Той чалавек, які адмаўляў мне і не глядзеў мне ў вочы, радасна заўсміхаўся, нахіліўся ў нізкім паклоне, запрасіў нават сесці. Гаварыў Саяма. Тлумачыў. Начальнік – у фуражцы з бліскучай чэшкай – ківаў згодна галавой. Потым падаў нам дзве блакітныя паперчыны з круглай пячаткай унізе.

– Кантракт на паўгода. Аплата нармальная. Мы будзем з табою разам плаваць. Ты не супраць, Антон сан?

Я абрадаваўся, што буду не адзін, а са сваім новым спадарожнікам-прыхільнікам, які можа калі-небудзь стане маім сябрам.

Нам нават выдалі аванс. І сказалі, што мы павінны прыбыць на сейнер праз чатыры дні. Саяма па маіх вачах бачыў: я – шчаслівы, але не імкнуўся, каб аддзячыць яму. Я адчуваў тую неабходнасць, нават нешта і падказвала тое зрабіць, але чамусьці не хацеў…

3

Каманда на сейнеры падабралася ніштаватая. Розныя людзі, розныя абліччы. Па камандзе можна было вызначыць, колькі нацый існуе на свеце. Ад кожнай краіны, мусіць, было па адной душы. Можа я адзін і быў са сваёй Ліцвініі – адзін аднаго мы не ведалі…

Капітан – вёрткі і строгі чалавек з завязанымі на патыліцы валасамі – пры першым зборы абвясціў, што любіць і патрабуе поўнага падпарадкавання яго волі, не любіць і не церпіць непаслухмянства, і за тое можа быць самае строгае пакаранне.

– Усё будзе харасё! – шапнуў на вуха Саяма. – А капітан чалавек хоць і строгі, але ж справядлівы.

Я пагадзіўся. І тыдзень, і два, і тры мы былі ў адкрытым акіяне. І месяц, і два, і тры мы амаль круглыя суткі ганяліся за касякамі рэдкай рыбы, якую потым капітан прадасць па вельмі высокай цане.

Капітан звязваўся тады па радыётэлефоне з берагам, і да нас падплывала вялізная субмарына, на якую мы перагружалі злоўленую рыбу. Кожнаму з нас рэгулярна выдаваліся чэкі на атрыманне на беразе ў банку заробленую валюту. Лічба расла і расла. Мне не верылася ў тое.

На “Чорнай пантэры” не было ні жанчын, ні спіртнога.

Здараліся сваркі, але да бойкі не даходзіла…

Аднаму бамбізе Саяма ў нечым не саступіў, і той замахнуўся, трымаючы гантэлю ў руцэ. Здавалася, Саяма нічога не рабіў, каб адвесці бяду, нават не сагнуўся, не адышоў хаця б на крок, – але зласлівец раптоўна закрычаў, вырачыўшы вочы – і рука стала безжыццёвай і бязвольнай, выпусціла гантэлю – і яна бразнулася яму на нагу… Ён яшчэ мацней закрычаў ад невыноснага болю. Мусіць жа, затаіў бамбіза на японца зло.

Не разагнуць спіны. Дрыжэлі, калаціліся ад перанапружання ногі. Малаткі стукалі ў скроні. Ледзьве дапаўзалі мы да ложкаў – падалі і адразу засыналі, паспеўшы перад гэтым нядобрым словам абмацюгаць сваю працу… Ноччу снілася рыба з вострымі зубамі, і яна хацела схапіць мяне за руку…

Ніколі ніхто з нас не спазняўся на вахту: загад капітана “Чорнай пантэры” выконваўся бездакорна.

4

Нішто не абяцала кепскага надвор’я.

Калі ж мы перасеклі мерыдыян, і калі ўвайшлі ў воды Ахоцкага мора, аднекуль, па ўсім небе, сышліся чорна-свінцовыя аблокі, знячэўку ўсчаўся шалёны і напорысты вецер – і нашую пасудзіну загайдала, бы трэску…

Зразумела было, што нам дастанецца па самую завязачку – шторм нараджаўся ўвачавідкі, пагрозліва стагнаў, хваляваўся акіян, шпурляючы салёныя важкія пырскі на твары і спіны, стараючыся збіць нас з ног… У кожнага трывожна на душы, але ніхто адкрыта не паказваў яе – было забаронена паказваць, бо мора не для слабакоў, мора любіць мужных і настойлівых…

А пасля ў дадатак паліў дождж – густы і халодны.

У той час, як наш сейнер пачало разгойдваць усё больш і больш, мы з Саямам скончылі працу. Але не пацягнуліся да сваіх ложкаў, як раней, а заставаліся на палубе – толькі трошкі адышліся ад рабочых месцаў і прылеглі на мокры брызент, каб адпачыць, перавесці дух…

Хаця збольшага ўцягнуліся, сталі, так бы мовіць, двужыльнымі, і ўсё радзей і радзей пачыналі адчуваць стому, на гэты раз прыйшлося найбольш цяжэй… Але прылеглі мы не для таго, каб аддыхацца і набрацца сілаў – нешта не пускала спусціцца ў трум, замінала штосьці.

А потым мы падняліся, каб сысці з палубы. Нешта хацелі сказаць адзін аднаму, ды не хацелася перакрыкваць шторм, які сварыўся-гірчэў на розныя галасы, гразіўся змыць нас у мора… Саяма стаяў да мяне тварам, трымаўся за металічную парэнчу, чакаў, калі я першы ступлю і ён пойдзе следам за мною…

Добра, што не заспяшаўся, добра, што затрымаўся на секунду-дзве, бо тут жа ўбачыў, як за яго спінай, у наш бок, на нас, кацілася вялізная бочка. У некалькі тонаў вагой. Ці яна сама сарвалася з мацавальнікаў, ці хто знарок яе адкруціў з асновы і піхнуў на японца, я не ведаў, – стаяла густая сцяна дажджу, і таму наўрад ці што можна было заўважыць у гэтай шэрані…

Я не крыкнуў сябру, каб паасцярогся, – ён бы і не пачуў мяне і не зразумеў бы, каго ці чаго трэба асцерагацца. Таму я скочыў да яго і пацягнуў убок, – і ён упаў на мяне… Бочка з грукатам праляцела па тым месцы, дзе толькі што стаяў Саяма, раструшчыла кабіну, паламаўшы рознае карабельнае начынне… Саяма пільна зірнуў туды, адкуль каціласся смерць. Падалося: шэры цень прашмыгнуў за скрынямі, у якіх знаходзіліся канаты і знік за гарой складзенага брызенту… З твару Саямы цяклі густыя струмені дажджу, і ён не хаваўся ад яго, хадзіў заўсёды з непакрытай галавой.

– Антон сан… Я твой даўжнік. Ты мне ўратаваў жыццё. Я быў на валаску ад смерці.

– То я твой даўжнік, Саяма сан.

– Зноў твая сціпласць бярэ верх?

– Саяма сан! Я нічога такога не зрабіў, каб ты лічыў сябе даўжніком. То ты мне выратаваў жыццё, узяўшы мяне з сабою ў гэты незвычайны рэйс. То я табе ўдзячны, дарагі мой дружа!

– Ты малайчына, Антон сан, малайчына!..

А шторм узмацняўся яшчэ больш, набіраў сілу, злаваўся і вар'яцеў. Капітан выкрыкваў каманды, прымушаў усіх выконваць нашую ж работу, каб льга было зберагчы “Чорную пантэру”, на якой яшчэ трэба было працаваць, і выратаваць саміх сябе, свае жыцці…

– Трымайся, Антон сан! – крычыць на вуха сябар, падтрымлівае мяне, каб не паслізнуўся і не пасунуўся па палубе да парэнчаў.

– Трымайся, Саяма сан! – адгукваюся я, учапіўшыся, што было сілаў у парэнчы, якія вялі да ўвахода ў чэрава сейнера. – Выстаім! Капітан выратуе нас!..

5

Шторм аціх толькі пад раніцу… Мы, знясіленыя і нямоглыя, пападалі дзе хто стаяў. Трое сутак капітан не будзіў людзей. Калі спаў ён сам, ніхто не ведаў.

А потым, калі ўсе ачухаліся (ніводнага не прымусіў падняцца па камандзе), калі стала навокал ціха-ціха, калі ўсе прачнуліся і адчулі сябе шчаслі-

вымі, што засталіся жывыя, – загадаў капітан сабрацца ўсяму экіпажу на верхняй палубе.

– Дзякую ўсім, што выратавалі “Чорную пантэру”! – абвясціў усім падзяку. – Дзякую, што ніхто не збаяўся стыхіі!

– То табе дзякуй, капітан Кісана! – нечакана для мяне пахваліў яго мой сябар.

Мы і не ведалі, як завуць нашага капітана.

– Дзякуй Кісану! Дзякуй Кісану! – падтрымалі вокліч усе да аднаго.

Здаецца, мацней за ўсіх крычаў я.

6

І прыйшоў апошні дзень нашага плавання ў акіяне.

Дзіўным для мяне было тое, што пачыналася і заканчвалася плаванне адным і тым жа краявідам – у акіян апускалася малінавае кола расплаўленага сонца. Мы рухаліся на яго, не баючыся, што можам згарэць у крывавай чырвані гарызонту.

Нам аднолькава з Саямам падабалася сонца, мы аднолькава любілі і шанавалі Бога. Кожны свайго, але адзінага ў Сусвеце. І абодва жадалі, каб і нас любіў Бог…

Мы сядзім на лаўцы, схаваўшыся ад сонца, жуем цукаты, і Кэніці Саяма расказвае пра сябе… Я папрасіў яго расказаць, бо ён пра мяне ведаў усё-усё, а я пра яго анічагусенькі…

З цікавасцю слухаю, не прапускаючы ніводнага слова, бо за ўвесь час плавання нам не выпадала ніводнай вольнай хвілінкі пагаварыць…

– Калі ехаць з Модзі па асноўнай галіне кагасімскага кірунку, то, не даязджаючы трох прыпынкаў да Хаката… Ты ведаеш, што такое – Хаката?

– Не, адкуль мне ведаць.

– Хаката Фукуока – гэта два гарады-суседзі на Кюсю. Але сёння пра іх можна сказаць, што яны браты-блізняты, бо вельмі разрасліся, і між імі няма ўжо дакладнай, як раней, мяжы…

– Зразумеў, Саяма сан.

– Дык вось, не даязджаючы трох прыпынкаў да Хакаты, знаходзіцца станцыя Касіі. Ад гэтай ужо станцыі, калі ісці дарогай праваруч, то дойдзеш да горада сінтаісцкага храма Касінамія, а леваруч – да бухты Хаката. То і ёсць мае родныя мясціны. І сёння перад вачамі стаіць вузкая каса, якая бясконца цягнецца ў мора. Гэтая каса злучае ўзбярэжжа з гарыстым востравам Сіганосіма. Калі ж добра ўгледзецца, альбо калі няма туману і свеціць сонца, то можна ўбачыць сілуэт вострава Наканосіма…

– Я ўжо бачу той востраў, Саяма сан, – кажу я, не расплюшчваючы вачэй, – і сапраўды мне бачыўся той востраў, і быў ён прыгожы, таямнічы ў сваёй прыцягальнасці…

– Веру, што ты здольны бачыць нябачнае і чуць нячутнае. Гэтае прыгожае ўзбярэжжа называюць Касійскім узмор’ем, а некалі, у старыя часы, яно было вядомым проста як бухта Касіі… Атома-но-Табібіта, вядомы канцлер, гуляючы аднойчы па беразе, склаў такія прыблізна радкі:

*На беразе прыгожай бухты Касіі*
*ранічкай дзеці збіраюць дарункі мора,*
*чэрпаючы рукавамі чысты і бялюткі пясок…*

– Любіш ты сваю радзіму.

– Люблю, Антон сан, і вельмі. Заставайся жыць у нас, вялікім чалавекам станеш, маючы такія здольнасці… Цябе ж там, на радзіме, арыштуюць і запхнуць у клетку…

Я маўчу. Ён ведае, якім будзе адказ, хаця і не жадае паздзекавацца з мяне. Правярае, мусіць, ці ад няма чаго рабіць пацвельвае мяне.

– Правільна, што маўчыш. І таму ведаю, пра што думаеш. Ты пра свой край думаеш. Баліць сэрца і душа за тое, што творыцца там у цябе. Сэрца разрываецца ад таго, што не можаш дамагчыся шчасця і спакою радзіме. Што дыктатар дабраўся да ўлады і правіць свой баль, заганяе непакорных за краты. За адныя толькі словы “Жыве Радзіма!”, “Радзіма ці смерць!” хлопцам пакутаваць гадамі за кратамі, а каго дык і зусім са свету зжылі…

“Саяма сан, не вырывай мне сэрца з грудзей, яно і так ледзьве трывае…”

“Добра, не буду… Даруй. Не ведаў, што табе так балюча”.

7

У бухту мы прыйшлі пад раніцу.

Капітан стрымаў сваё слова – усіх да аднаго разлічыў да апошняй іены. Дакументы на іх атрыманне выдаў. Каманда не далічылася аднаго чалавека. Таго, які неўзлюбіў Саяму. Ніхто не ведаў, што з ім здарылася. Не ведаў пра тое і Саяма, хаця ў яго ніхто і не цікавіўся пра тое…

Наша каманда выйшла на японскі бераг. Перад тым, як развітацца назаўсёды, запрасіў мяне Саяма ў кавярню, якая называлася “Кайсо”. Маладзенькая афіцыянтачка, прыгожая і гнуткая, падала на стол па шкаліку японскай гарэлкі, усміхнулася ветла, пажадала добра правесці вечар.

– Я даўжнік твой, Антон сан, – прамовіў ціха мой сябар і тут жа забараніў мне што-небудзь пярэчыць, убачыўшы, – маўчы, нічога не кажы… Гаварыць буду я.

Я так нічога і не сказаў.

– Дык вось слухай сюды… Ты заўважыў, што я адразу, пры першай сустрэчы, пачаў гаварыць з табою на паляшуцкай мове? Спачатку з няправільным вымаўленнем – з “сё” і “ся”, а пасля выправіўся. Пэўна ж, заўважыў, быць таго не можа. З цягам часу ты зразумееш, чаму. Мы з табой разлучаемся быццам бы і назаўсёды, але яно не так, зусім не так. Але развітваца павінны так, як і сапраўды быццам ніколі не пабачымся. Як казаў ваш ліцвінскі класік Сваяк: “Заўсёды развітвайцеся назаўжды, хаця пакідаеце каханых хоць на адно імгненне…”

Мне прыходзілася толькі маўчаць, як загадаў ці папрасіў мой сябар.

Я глядзеў неадрыўна яму ў вочы, лавіў хвалі дабрыні і пяшчоты, што зыходзілі ад яго, хаця то ўжо былі не хвалі, а языкі полымя, якое гарэла штодня, і не спальвала, а толькі саграvала мяне, прыдавала сілы. Мусіць жа, сам Бог паслаў мне яго, каб я выжыў, каб не стаў бамжом ці прапойцам, ці – яшчэ горш – злачынцам у сваёй вымушанай эміграцыі, калі абставіны выпхнулі мяне з маёй радзімы, ад чаго боль мой патроіўся. Бо боль на адлегласці – нашмат большы, невымяральны нават.

– Слухай сюды, Антон сан, – разліваў сябар па келіхах мандарынавы сок, – што я табе сказаць хачу. Падрыхтаваў я для цябе два падаруначкі. Недарагія. Каб не думаў, што я адкупіцца хачу. Ні ў якім разе. Дык вось, першы мой падарунак – дзоры. Не ведаеш, што гэта такое? Дзоры – мяккі абутак японцаў. Па вашаму – тапкі, ходнікі, пасталы. Яны вельмі танныя, недарагія ў параўнанні з іншымі прадметамі абутку...

Саяма дастаў іх аднекуль з-пад стала і паклаў побач на драўлянае крэсла:

– Вось яны. Акурат па тваіх нагах. Такі фасон можна купіць за паўіены ў любой японскай краме, але такія, як гэтыя, ты не купіш нідзе. І ні за якія грошы.

– І чым жа яны адметныя? – асмеліўся пацікавіцца, бо ведаў, што прыйшла пара і мне ўставіць свае тры грошыкі.

– Чым? А тым, што ты іх на ногі не насоўвай кожны дзень. Не адпачывай, як Шэрлак Холмс, вечарамі каля каміна. Насі з сабой, абуеш толькі ў самым крытычным выпадку – калі будзе невыносна цяжка, ці калі надарыцца безвыходная сітуацыя, у якой ужо ніхто і ніштo памагчы не здолее…

– Хочаш аблегчыць мне жыццё? – па-дурному пракукарэкаў, але Саяма не пакрыўдзіўся на маю заўвагу, нават і вокам не міргнуў.

– Я толькі даю табе магчымасць абысці дурную сітуацыю. Слухай, – нечакана ён перабіў і самога сябе, – а давай закажам тэмпуры, бо я чамусьці не магу наесціся. Гэта рыба, смажаная ў цесце. Наш нацыянальны наедак.

– Давай. І я з’ем. І я не магу наесціся – як быццам мы галадалі з табой цэлы год.

Калі афіцыянтка прынесла нам смажаную рыбу, калі ветліва нахілілася гнуткім станікам над сталом і пажадала нам смачна есці, Саяма сказаў:

– Дзоры – рэч карысная і неабходная. Табе – тым больш. Бо там у цябе, на радзіме, ідзе ўдушэнне святла і розуму. Ты ж адчуваеш абсурднасць і злачыннасць усяго, але нічога парабіць не можаш, каб спыніць рабаванне і вэрхал ведзьмаў… Таму памажы сабе сам, памажы краіне сваёй…

– Дзякую. І не толькі ад  мяне.

– Першыя, даруй, разумныя словы, – заўсміхаўся Саяма, і яго вочы яшчэ больш звузіліся, сталі як шчылінкі, у якія прасвечвалася ранішняе сонца.

Я яшчэ раз падзякаваў.

– А цяпер другі падаруначак, Антон сан. Ён маленечкі-маленечкі, як карабок сярнічак. Ён і выглядае як карабок запалак. Але калі ты ссунеш пальцам верхнюю пласцінку, то ўбачыш кнопачкі з літарамі і лічбамі. Гэта – радыётэлефон. Ты ж павінен са мной трымаць сувязь? Павінен. Ты можаш мне званіць у любы час – сярод ночы і днём – і я табе адкажу. Калі ж мяне не будзе, альбо пільна буду заняты – адкажа нехта іншы, мо і мой электронны сакратар.

– Дык я ж і мовы толкам вашай не ведаю.

– А тое і не трэба. Калі ж ты будзеш гаварыць са мною, то на сваёй, а словы аўтаматычна перакладуцца на мову той краіны, куды будзеш званіць. Не верыш? Можаш праверыць. Можаш пазваніць сакратару Біла Клінтана альбо Моніцы Левінскі і спытаць, дзе ў дадзены момант Біл.

– Не можа такога быць!

– Можа. Усё можа быць. Нават можаш набраць нумар тэлефона тваёй Яніны. Яна адкажа табе.

Я акругліў вочы, не верыў, а калі і верыў, дык не ведаў, якім павінна быць маё здзіўленне. А ён смяяўся з маёй недасведчанасці.

– Дык я ж нават яе і нумара не ведаю! – крычу я роспачна, тым самым даказваючы, што бязглудзіцу неймаверную нясу, а ён пасміхаецца з мяне, радуецца, што мне даспадобы такі падаруначак. – І ты пра тое ведаеш, Саяма сан!

Ён націснуў некалькі кнопачак з лічбамі, паклаў карабок перада мною на стале, прыўзняў матавую пласцінку, на якой бегалі-міргалі лічбы, шукаючы неабходныя, з мільёнаў нумароў выбіралі адзін, прызначаны для Яніны… У мяне ўсё пахаладзела ўсярэдзіне – на экране высвецілася яна, Яніна і яе нумар тэлефона. Бачыў, як яна здзіўлена ўзяла слухаўку, паднесла да вуха:

– Алё! Алё, я вас слухаю, гаварыце!

А ў мяне адняўся язык. Як змярцвеў. Як анямеў. Яніна як бы што зразумела, адчула, дыхала ў слухаўку і чакала ўсё ж такі пачуць маўклівага абанента.

“Ну, Антон сан, чаго ж ты так, га? – не разумеў мой сябар, пакутліва глядзеў на мяне, падштурхоўваў да разумных дзеянняў. – У яе ж разрываецца сэрца ад невядомасці і прадчування…”

“Ведаю, ведаю пра тое, Саяма сан, а парабіць з сабою нічога не магу… Загавару да яе – парушу ўсё, разбуру. Не прыйшоў яшчэ, мусіць, той, наш час, і таму нельга быць забойцам сваёй каханай, нашага кахання, чым адарыў нас Бог…”

“Можа і так, можа і правільна, – згаджаецца Саяма, і ўжо шкадуе, што наладзіў такі нечаканы эксперымент. – Выбачай, Антон сан… Хацеў прыемнае табе зрабіць…”

І ён тут жа націснуў  чырвоную кнопачку.

Маўклівая і збянтэжаная Яніна, мая прыгажуня, маё жыццё і смерць, шчасце маё і пакуты, знікла, як знікла даўным-даўно, мо тысячы год таму з майго жыцця, па маёй жа віне, па маёй жа дурасці, – і я не паспрабаваў ніводнага разу наладзіць з ёю духоўную сувязь,  каб растлумачыць хоць на адлегласці, чаму так здарылася-адбылося, чаму згасла тое полымя, што так напачатку шугала і саграевала абаіх… Дакараў і не дакараў сябе за тое, як і не ведаў, ці правільна тое рабіў… Мне заўсёды не ставала рашучасці, настойлівасці, перакананасці і цвярозасці. Я як плыў усё роўна па цячэнні, не ведаючы, што можна плыць і супраць плыні, тым самым можна памяняць свой лёс і жыццё… Ніхто мне і не падказваў пра тое, а сам я быў такі нездагадлівы, да глупства нездагадлівы…

Мы маўчалі. І маўчанне нашае было няёмкае, бо ўва мне ўсё трымцела і не выходзіла вонкі назапашанае за доўгія гады недаўменне і незразумеласць становішча, якое склалася між намі. Але няёмкасць была кароткай, маўчанне, як імгненне бліскавіцы, як чырканне знічкі на шэрым небе…

– Выбачай, Антон сан, спадар Антон Клімовіч, – вінаваціўся Саяма, паклаўшы сваю далонь на маю руку, і я адчуў, як яна дрыжыць, амаль калоціцца (ад чаго? Хіба ж то яму пазванілі?), – я ўсё ніяк не магу зразумець вашага паляшуцкага характару… Вы нейкія асаблівыя людзі, незвычайныя… Нават нам, фанатам цудоўнага і прыгожага, можна ў нечым павучыцца ў вас…

Я паціснуў плячыма – не пачуўшы цалкам яго словы, бо тут і ён, як кажуць, перагнуў палку, – ім вучыцца ў нас?! Абсурд!

– … так, так, павучыцца ў вас. А ці ведаеш ты, Антон сан, што паэзія нашага Ісікавы Такубоку, заснавальніка дэмакратычнай паэзіі, перакліка-

ецца з творчасцю вашага класіка – Максіма Багдановіча. Як і пераклікаецца творчасць групы пісьменнікаў “Белая бяроза” Мусякодзі Санэацу, Сіга Наоя, якія імкнуліся да самаўдасканальвання, да вытанчанага псіхалагізму. Яны ўсе разам вынайшлі ў паэзіі рэлігію быцця і існавання душы чалавека на пачуццях і эмоцыях. Правільней будзе сказаць – пастулаты Бібліі і запаветы Буды пераклалі на мову паэзіі, каб крануць самыя запаветныя струны чалавечай душы – і ўсё для таго, каб ён хутчэй змог звярнуцца да Бога і быў бліжэй да Яго ў сваіх дзеяннях і памкненнях… Гэтыя і іншыя людзі абраныя Усявышнім – Хрыстом і Будам. Бо яны ўказваюць нам шлях да самаўдасканалення і самаўсведамлення, вызвалення ад путаў духоўнага рабства… Ты хоць слухаеш мяне, Антон сан?

– Слухаю. І вельмі ўважліва. І твае словы – не проста словы, а ўказальны кірунак майго жыцця. Бо і цябе паслаў мне Бог. І я ва ўсім павінен слухацца цябе, падпарадкоўвацца табе.

– Найперш самому сабе. Тады да мяне будзе не падпарадкоўванне, а імкненне ўдасканаліць самога сябе. Ты тое зразумееш пасля...

Мы даелі тэмпуру, дапілі гранатавы сок.

Адчулі адначасова, што прыйшла тая хвіля развітання, і яе не абыдзеш, не аб’едзеш.

– Любое тваё жаданне я выканаю, – гаварыў-развітваўся Саяма, і ў яго вачах я не заўважыў ні суму, ні радасці, як быццам ён быў абыякавым да нашага развітання.

– А калі я папрашу камара падкаваць ці муху – здолееш? – я пачаў ужо і здзекавацца з самога сябе, і з яго, майго сябра, сам не ведаючы, чаго – мусіць жа па той прычыне, што развітанне заўсёды рэч непрыемная і нават балюча-горкая, што яно раніць сэрца…

– Няма нічога прасцей, Антон сан… Не злуйся на развітанне. Не ў нашай уладзе яго пазбегнуць. У нас з табою ніколі не будзе развітання, таму што ў цябе ёсць “Кайсо” – я буду чуць цябе і бачыць, а ты – мяне… У любы час, у любую секунду…

– Дзякую. Ты стаў мне братам. Ты стаў для мяне праваднікам. Ты стаў маім другім “я”.

– А ты маім. І табе дзякую, што сустрэў мяне.

Мы падняліся. Стукнуліся лбамі, абняўшы адзін аднаго. Маўчалі. Усё было сказана і выказана.

“Бывай, Антон сан!..”

“Да сустрэчы, Саяма сан, будзьма!..”

– Да сустрэчы!

8

“Доўга спіш, Антон… Зм-ммм… Прачынайся, ты ж паабяцаў па тэлефоне, што павінен да дзевяці сустрэцца з заказчыкам і аддаць яму эскізы будучага макета календара…”

У мой сон зноў стукалася яна, мая кватарантка, але мне ўжо было радасна ад таго, што мой дзень пачынаўся з пэўнага раскладу маіх клопатаў.

“Уставай, уставай, устава-ааай!.. Я ведаю, што ты любіш, лежань, паспаць раніцай, але ж…”

І я ўжо расплюшчваю вочы.

Першае, што адчуў, дык гэта ўнутраны прыліў сілаў, светласць у галаве і лёгкасць, ад учарашняга песімізму не засталося і знаку. Значыць, дзень абяцае быць насычаным і ўдалым, і я яго пражыву з карысцю, без сораму за бязладнасць і пустэчу. Як і памятаю, калі прачынаўся з такім настроем, то потым не шкадаваў, і, як казаў мой сябра-драматург Васіль Ткачоў, хваліў пражыты дзень…

“Ды прачнуўся я, дзякую, што разбудзіла…”

“Бачу, бачу… У цябе сёння сапраўды клопатны дзень”.

“Ведаю. Падымаюся…”

За акном шэрань. І таму не зразумець – сонца яшчэ за гарызонтам ці вынырнула ўжо з-за шчыкоў далёкага лесу. Гадзіннік, што вісеў на сцяне, паказваў дзявятую гадзіну… Заведзенага распарадку сну ў мяне не было. Усё залежала ад таго, колькі і як я працаваў вечарам перад гэтым. Калі заседжваўся над пісаннем да раніцы, то і прачынаўся сярод дня. Калі ж прастойваў за мальбертам дапазна, то тады няведама калі і прачынаўся, блытаў раніцу з ноччу…

“Пара галіцца, Антон…”

“Ну ты мяне і дастаеш, Мухіко сан! Зундзіш, як надакучлівая муха, не даеш засяродзіцца…”

“Дык я ж муха і ёсць. Хіба ж не ведаеш?”

“Ды яшчэ ж і занудлівая…”

“Такая ўжо нарадзілася, выбачай… Лепшай ці горшай быць ужо не змагу. Не перараблюся я ўжо, так і ведай…”

“Ведаю. Ды ладна, будзь такой, як ты ёсць… А мне, мусіць, прыдзецца трываць і цярпець твае дурыкі…”

“Буду такой, буду… Ды дзякуй за дазвол, спадар Антон…”

Я пагаліўся, памыўся. Адчуваў, што мяне не пакідае першапачатковы настрой – і гэта мяне радавала. Заўсёды раніцай я прашу ў малітве да Бога, каб даў сілы і розум для вырашэння ўсіх маіх вялікіх і малых клопатаў. А іх

набягала процьма – як камарынае воблака. І выбраць з іх галоўнае ці пабочнае нельга было – яны выстрайваліся ў нябачную чаргу, і мне прыходзілася выхопліваць з гэтага шэрагу тую, якая найперш завісла ў маёй памяці і найбольш непакоіла…

“Антон сан, – просіць мяне мая кватарантка. Яна жыве на крышталёвай люстры, начуе ў карабку з-пад сярнічак. Адтуль яна вядзе са мною доўгія і маўклівыя, часам фантастычныя дыялогі, – пакуль ты голішся-чапурышся, уключы мне маю любімую…”

“Не можаш без гэтага?”

“Не магу. Ты ж таксама любіш розныя мелодыі. Калі слухаеш цыганскія ці індыйскія матывы, я ж табе не замінаю – засынаю і маўчу, нават і сігналаў не падаю… Ці не так?”

“Так, так… – згаджаюся я, і рабіць няма чаго, іду да магнітафона, стаўлю касету ВІА і ўключаю ў электрасетку. Музыка – стэрэа, гук бегае па дзвюх калонках, і гэта нагадвае жывы арганізм, які авалодвае чалавечым розумам і псіхікай, калі не душой. А ў маёй кватаранткі, цікава, ёсць душа?

*Муха, мая муха,*
*нашапчы на вуха,*
*што не так усё глуха,*
*як у танку…*

Ведаю, што Мухіко ад гэтай мелодыі балдзее, і на доўгі час адчэпіцца ад мяне, будзе слухаць і слухаць заказаную мелодыю. Уяўляю, як яна зажмурвае ад задавальнення фасетачныя вялікія вочы, цярэбіць-перабірае нагамі, трэ адно аб адно празрыстыя крыльцы, і пры гэтым ківае ў такт мелодыі галавой… Кайф-фф! Калі яна ў мяне просіць, каб я пракручваў для яе гэтую мелодыю, то я стаўлю ў адтулінку толькі “яе” касету, на якой запісана адна і тая ж тэма – пра жыццё яе крылатых суродзічаў. Песні з усяго зямнога шара пра мух, стракоз, конікаў, карацей, пра ўсіх, хто здольны лётаць. А потым стаўлю праграму на рэверс.

А гэта азначае, што “яе песні“ будуць гучэць бясконца – увапрэцца касета ў тормаз, і зноў уключаецца на новы круг, – аж пакуль я не прыйду са сваіх маршрутаў і не выключу…

Сам не разумею, чаму яна атрымлівае ад гэтага асалоду, але я выконваю яе прыхамаці. Бо свой жа – у рэшце рэшт – чалавек, ну, няхай не чалавек, а жывая і пры тым разумная істота, з якой мне цікава, з якой весела, і я зусім не лічу, што я адзінотнік…

У яе я ўклаў шмат энергіі і сілы, вольнага часу і настойлівасці. Я навучыў яе шмат якім цікавым рэчам, перакаваў яе на новы, амаль чалавечы лад. І, галоўнае, навучыў сваёй роднай мове. Нашай, ліцвінскай, мове. Навучыў

размаўляць безгалосна, моўчкі, нават на адлегласці. Няважна на якой. І ніхто ў свеце не мог падслухаць наш дыялог.

Хто я сам? Мастак, пісьменнік, заолаг, біёлаг, лінгвіст, псіхолаг, экстрасенс, чалавек пятай расы… Колькі мне гадоў? Мо і сто, а мо і пяцьсот, не ведаю, бо не падлічваў… Дзе жыву? У сваім горадзе – родным ці не родным, гэта не мае аніякага значэння для гісторыі чалавецтва, – але ў ім я быццам бы нарадзіўся. Не ад маці. Духоўна. З дзяцінства я жыў на прыродзе, на хутары, непадалёк ад вёскі… Жыў і ў лесе сярод ваўкоў і барсукоў… Таму ведаю іх мову. Ведаю мову дрэваў і неба, ветру і зямлі…

Але мне ні ў якім разе нельга жыць на адным і тым жа месцы, ды і яшчэ ж адной і той жа істотай – за шмат стагоддзяў я павінен быў стаць птушкай і зверам, ветрам і дрэвам, чалавекам і голасам.

## *Частка другая*

### 1

З чаго пачаліся ўсе дзівосы і гэтая гісторыя?

У маё жытло ў прачыненую фортку з дзікім лямантам уляцела муха – уцякала ад вераб'я, які хацеў ёю паабедаць… Порстка кінулася пад столь, на люстру, зашылася пад крышталёвыя капяжы і пачала цяжка дыхаць – сэрца разрывалася ад сполаху і страху, не знаходзіла сабе супакаення… Доўга не праходзіў у яе страх і здранцвенне – на валаску ж была ад смерці…

“Муха, а муха, злязай з люстры, – папрасіў я ціха. – Небяспека мінула, і няма табе больш чаго баяцца…”

Але яна тады яшчэ не чула мяне. Яна і не магла мяне чуць, бо не ўмела яшчэ мяне чуць, – не ведала, што мы можам чуць адно аднаго і перагаворвацца.. Я пакарміў яе, растварыўшы драбок цукру цёплай вадой – паставіў сподак на стол. Яна адразу ж і зляцела з люстры, пачала піць салодкі нектар.

Назіраючы за ёю, адзначыў, што гэта незвычайная і нават рэдкая муха, можа яшчэ і не даследаваная вучонымі-біёлагамі… Можа то і не муха зусім, а цікавая істота, мо гэта нават жанчына, ператвораная Вышнім па яе характары і натуры ў такую істоту. Тут трэба яшчэ ў гэтым разабрацца… А можа… можа хто і зусім іншы, нават і не чалавек, а нехта… Дык тады – хто?

– Ну, будзь тады тут за гаспадыню, – сказаў я ўголас, збіраючыся пакінуць жытло на цэлы дзень, – у шмат якія дзверы мне трэба было пастукацца і дастукацца да чэрствых сэрцаў чыноўнікаў… Глядзі тут, Мухіко, толькі не высоўвайся на вуліцу, бо верабей мае пільнае вока…

– Бз-ззз! – зазвінела радасна кватарантка, зрабіўшы па пакоі некалькі віражоў – але да форткі не падлятала, баялася, асцерагалася. – Бз-ззз-зззз-! – гэта быў голас згоды і радасці, што яна паразумелася з чалавекам, і што яна гатова быць за гаспадыню, за маю памочніцу… – Поспехаў табе, Антон!

– Дзякую! Усё. Прыду позна. Каб тут быў поўны парадак, каб быў вымыты посуд, адпрасаваны мой касцюм. Ну, і ўсё, само сабой, астатняе.

2

– Бз-ззз…бз-ззз…ззз!..

Яна лётала радасна па пакоі, робячы кругі, то падала, то імгова ўзлятала да столі. Я прычыніў  за сабою дзверы, і ўжо не чуў яе ўзбуджанага гуду і весялосці… Калі выйшаў на вуліцу, забыўся зусім і пра кватарантку, і пра ўсё, што было звязана з ёю, забыўся  на яе, як на ўчарашні подых ветру, на кароткі дождж, што нечакана абрынуўся на мяне. І думаў я пра свае неадкладныя клопаты.

Найперш я праведаў свайго сябра – Алеся Шэліпава, мастака, які захварэў на ангіну і не мог падняцца з ложка. У яго рыхтавалася абласная выстава. Мне ж трэба было ўдакладніць такія-сякія дэталі ў падрыхтоўцы такой імпрэзы. Занёс яму яблыкаў, пляшку “Дарыды”. Перакінуліся словам-другім. Папаіў яго гарачай гарбатай з малінамі, паклаў на столік, ля ложка, свежыя газеты – купіў у шапіку…

Не заўважылі, як хутка праляцеў час – дзве гадзіны праседзелі, прагаманілі… Потым заскочыў да Рыгора Адрыдаўца – рэдактара часопіса “Паляшук”, які ён заснаваў і ім кіраваў. Часопіс быў без штатных супрацоўнікаў. Ён, Рыгор, узяў на сябе адказную ролю – і рэдактара, і рэцензента, і крытыка, і карэктара… Адна асоба ў дзесяці адказных пасадах. Ніколі не напісаўшы ніводнага рамана ці апавядання, а толькі заметкі ў газетах, ён браў на сябе адказнасць даваць ацэнкі таленавітым аўтарам і графаманам…

“Выбіваў” у банкіраў грошы на гэты клопат, а ў пісьменнікаў браў творы (сам іх скарачаў, падганяў да патрэбнага памеру), друкаваў, выплачваючы невялікія ганарары… Дзеля смеху аднёс яму апавяданне “Камар”. Пра тое, як я прыручыў камарыка і ён жыў у маёй хаце, пра тое, як мы з ім паразумеліся, як расказвалі адзін аднаму байкі-растабайкі…

Рыгор пры мне і прачытаў напісанае (тэксту было ўсяго з восем старонак на машынцы), перакрывіў у кіслай грымасе твар, выказаў прысуд:

– Разумееш, нічога, але, прашу прабачэння, чытач не паверыць у такую лухту…

– Якую – лухту? – не зразумеў я.

– Ну, што ты камара прыручыў. Няхай птушку якую, варону, у рэшце рэшт, ці звера якога, але каб камара…

– А муху?

– Што – муху? Якую муху? – ужо не разумеў пытання, нахмурыўся, чакаючы ад мяне нейкую падначку.

– Муху, скажы мне, можна прыручыць? Да мяне муха ўчора заляцела, ад вераб'я хавалася, – яе можна прыручыць?..

– А якая розніца – муха ці камар? Мажа, ты і блыху, ці клапа якога з тараканам прыручыш, але пра тое трэба пераканаўча і таленавіта напісаць, расказаць так, каб табе паверылі, каб жахаліся ад здзіўлення, вішчэлі ад задавальнення з такой кнігай ці героем.

– А "Камар" – не пераканаўча? Не таленавіта?

– Прашу прабачэння, не. – Рыгор аж пачырванеў ад шчырага прызнання, аддаў мне назад мой твор.

Што ж, можа, яно і сапраўды так усё выглядае, можа, мне і сапраўды не хапіла сіл, здольнасцей і таленту, каб раскрыць душу камара (а хіба яна ёсць у яго – душа?). Мяне разбіраў смех, але я не дзяліўся сваёй нязгодай з Рыгорам. Фантастыка? Нерэальна? Выдумана? Не раскрыў усіх глыбіняў? Для мяне гэта ж чыстая рэальнасць, але ці здольны тое зразумець спадар рэдактар?

– Значыць, не надрукуеш? – пытаюся ўсур'ёз, як быццам мяне сапраўды хвалюе пытанне надрукавацца ў яго. – Не падабаецца?

– Не, – ужо цвёрда і адназначна робіць прысуд рэдактар, – не падыходзіць ён для нас… Добры твор, але ты не дацягнуў яго да ўзроўню нашага часопіса. Нясі што іншае. Нясі нешта цікавае, такое, як ты пра вужыка напісаў.

– Але ж ты яму зрабіў габрэйскае абразанне без майго дазволу.

– Ну і што? Я ж рэдактар. А гэта слабое… На мой, безумоўна, погляд…

– Добра, што хоць толькі на твой…

Так і не зразумеў мяне Рыгор. Як і не зразумеў майго "Камара". А шкада. А я лічыў, што стварыў выдатны вобраз сучаснага крывасмока…

З рэдактарства ён вынес галоўны досвед – навучыўся прабіваць і выпрошваць грошы ў тых, у каго яны ёсць, – на рэкламу. Тады ж і цюкнула ў галаву – з такім жа поспехам можна збіраць грошы і для іншага выдання, якое можна самастойна заснаваць, напрыклад – часопіс. Так яно і сталася… Карацей, я не крыўдаваў на Рыгора. Няхай лічыць сябе і паэтам, і празаікам, і тым, што мог вяршыць суд і выносіць прысуд любому твору і творцу. Што ж, ён меў на тое права, бо ён яго купіў, купіў настойлівасцю, працай і ўвішнасцю.

Далей мой шлях ляжаў да гарадскіх уладаў. У горадзе знішчаліся апошнія парасткі беларушчыны, гінула апошняя беларуская школа: загадчык гарадскога аддзела адукацыі Вадзім Рабкоў заслаў у школу манкуртаў, каб тыя пераламалі ход падзей, каб прымусілі бацькоў перапісаць свае заявы і прасілі дзяцей сваіх вучыць толькі на мове суседняй дзяржавы… А потым апраўдваўся, даказваў нават, што то не ён вінаваты, што на тое была бацькоўская воля – “воля родителей”. Вось так – і ніхто ім не ўказ. Нездарма ж кажуць – які поп, такі і прыход. Які старшыня калгаса, такія ж і брыгадзіры…

Потым я завітаў на рынак, дзе перад уваходам у яго гандляваў сваімі карцінамі празаік і паэт Юрась Фатнеў. Нечакана адкрыў у сабе талент мастака, – узяўся за пэндзаль і пачаў маляваць. Ды і яшчэ прадаваць свае творы. Гандаль нечакана для яго самога пайшоў добра. Ён набыў скураную куртку, абутак, накупляў яшчэ фарбаў і багетавых рамак. Адчуў сябе незалежным чалавекам. І ўжо марыў пра тое, калі ён трохі назбірае даляраў, то адправіцца ў невялічкае падарожжа – у госці да Эйфелевай вежы, каб пабачыць, як людзі жывуць на гнілым захадзе, пахадзіць, паглядзець на мастакоў Манпарнаса…

– Як жывеш, Юрась? – павітаўшыся, падышоў да вялікай карціны – зімовага пейзажу. Здзіўлены быў яго смеласцю і непасрэднасцю. Яго пэндзаль валодаў нейкай таямнічай сілай, няйначай. За простасцю малюнкаў угадвалася нейкая паэтычная мелодыя пейзажаў…

– Ды нічога, змагаемся…

І ў гэты ж час да мастака падышла жанчына, пацікавілася, колькі каштуе яго “Зіма”.

– Ды ўсяго два мільёны, шаноўная спадарыня!

– А за паўтара? – паглядзела яна ўмольна на Юрася.

Ён трохі паразважаў, павагаўся, усміхнуўся, махнуў рукой:

– Так і быць, угаварылі! Толькі для вас.

Потым мне дзякаваў:

– Неяк дзіўна атрымліваецца – як толькі ты наведваешся да мяне, у мяне абавязкова купляюць карціны. Ці не падгаворваеш ты людзей?

– Падгаворваю, – смяюся я і рады, што дзень у яго не прайшоў марна, ведаю, што вечарам ён з добрым настроем возьмецца за верш ці будзе працягваць свой раман пра сівыя стагоддзі…

Ідучы ад яго, убачыў, як жанчыны прадавалі сушаных падлешчыкаў. Не ўтрымаўся, купіў два. А перад самым домам узяў пяць пляшак піва. Захацелася наладзіць сабе невялічкае свята. Без прычыны. Не сказаць, каб я быў вялікі аматар піва, але калі-нікалі мне яго вельмі жадалася. У халадзільніку

ляжаў ладны шмат сала. І я ўжо ўявіў, ідучы, як я яго з цыбуляй, з хлебам, – і міжволі пракаўтнуў сліну…

Трэба было забегчы ў якую сталоўку ды пасёрбаць баршчу ці крупніку, ды і біфштэксік гарачы з’есці з грэчкай, ці плоў – сілы ж трэба, Антон сан, а ты ўсё пускаеш на самацёк, а потым здзіўляешся, чаму часам галава кружыцца ды мухі белыя лётаюць перад вачыма…

Вось так, сам сябе дакараючы, я падымаўся пакрысе на свой пяты паверх. Калі ж пераступіў парог кухні, то быў здзіўлены і агарошаны: квадратны стол быў засцелены вышываным абрусам (акурат такі, як некалі бабуля Настазя вышывала), а на тым абрусе… Мяне чакаў святочны, не ведаю з якой нагоды, абед.

У місцы чырванеў – ішла ад яе пара, – боршч, якога мне хацелася паесці ў сталоўцы, толькі што выняты з вясковай печы, і біфштэкс з грэчкай, ды долькі лімона зверху ляжалі – тоненька парэзаныя. І ад усяго гэтага ішоў такі пах і водар, што ў мяне злёгку закружылася галава…

Напачатку я, здаецца, напалохаўся. Затоена азірнуўся, думаючы, што нейкая невядомая ці знаёмая жанчына завітала да мяне ў хату і падрыхтавала такі пачастунак (а мо гэта яна, Яніна, усё ж вярнулася да мяне ды стаіць у схованцы за фіранкаю – схавалася?), як вінавацілася перада мною.

Ні за шторай-фіранкай, ні ў шафе, ні на балконе яе не было. І праз дзверы, само сабой, ніхто завітаць не мог – другога ключа ні ў кога не было. Дзверы маглі хіба толькі ўзламаць. Але тое я адразу заўважыў бы. Хіба праз акно? З балкона? Дык і тыя дзверы на зашчапку ўзяў.

“Ды што я, дурань, ламаю сабе галаву, – накінуўся я немаведама на каго, – галодны, як воўк…”

“І я ж пра тое, – пацвердзіў нехта мае думкі. – Шмат думаеш і здзіўляешся, Антон сан…”

“Хто гэта са мною гаворыць?”

“Ужо і не прызнаеш? То загадаў гаспадыняй у тваёй кватэры заставацца, а то ўжо і зусім забыўся на маё існаванне, так?”

“Муха? – не паверыў я. – Няўжо? Ты, аказваецца, не пакінула мяне?”

“Як жа я магу цябе пакінуць, калі ты аддаў мне загад тут заставацца?”

“Даруй, я і забыўся… – хацелася прызнацца, што я ўсё ўспрыняў як жарт і гульню, але не хацеў пакрыўдзіць яе, дадаў: – Думаў, што ў маім жытле табе будзе сумна, што табе трэба воля…”

“А што такое – воля, Антон?”

“Воля? Гэта калі належыш толькі самому сабе, а не абставінам, калі робіш тое, што хочаш, ідзеш ці ляціш, куды жадаеш, гаворыш ці пішаш, што падказвае табе душа…”

“Дык я і так раблю, што хачу… А ты еш, еш, ты ж з дарогі, у жываце бурчыць. Пагаварыць у нас часу будзе шмат. Ідзі да стала, частуйся. Смачна табе есці!..”

“Добра, але адкажы на апошняе пытанне, бо ты заставалася за гаспадыню, – будзь ласкавая, скажы, хто прыгатаваў усё вось гэта?”

“Сядай за стол, калі ласка. Як паясі, то тады і пагаворым далей”.

“А ты?”

“Мне нельга за стол. Забаронена гігіенай, ёсць такая навука. Мы заўсёды раздражняем і псуем людзям апетыт, калі лётаем каля стала…”

Але яна маўчала, тым самым выказвала нязгоду, упартасць і вытрымку.

Абед быў смачны, дужа смачны. Мусіць, я ніколі нічога смачнейшага і не еў. Абед запіў халодным цёмна-карычневым півам. Нават і ляшчы не спатрэбіліся. І адчуў я сябе задаволеным і шчаслівым чалавекам, якому нічога не трэба было ў гэтым жыцці, якому ўсё ўдаецца, у якога ўсё ладзіцца. А Мухіко сан (так я назваў чамусьці муху – на японскі манер) не падавала голас, не прыляцела да мяне, як я прасіў. Вытрымлівала, значыць, гонар, затаілася недзе ў сваёй схованцы…

3

За акном стаяла ранняя цёплая восень. Тая пара, калі і летам не назавеш, і на восень не вельмі падобна. Вяршыні бярозы, што дасягалі майго акна, былі яшчэ спрэс зялёнымі – і крапінкі жоўтай нідзе на іх не значылася. Дрэвы яшчэ жылі ў пары шчаслівага і спякотнага вымярэння, цёплага дажджу, мройных жаданняў – і сны ў іх былі спакойныя, як і летняя дажджавая пара…

“Ну, які настрой маеш? – падала голас Мухіко. – Ці прыйшоўся даспадобы табе абед?”

“Дзякую… Вельмі ж смачны. Паэзія, сімфонія, а не абед… Буду памятаць усё сваё жыццё…”

Мяне ахутала разамлеласць і лянота – гаварыць больш не хацелася, а было жаданне прылегчы на канапу, ды яшчэ глыток-другі каўцянуць халоднага піва. Але да піва не дайшлі рукі – як толькі сеў на канапу, як прытуліў галаву да мяккай спінкі, мяне адразу ахапіў сон. Так я, мусіць, яшчэ ніводнага разу не засынаў – адразу і моцна.

І снілася мне “Чорная пантэра”. І мой сябар з вачмі-шчылінкамі. Усміхаўся мне і, круцячы рукамі, гаварыў весела:

– Харасё зіць пачаў, Антон сан… Ты дазіў да камунізьму ў асёбна ўзятай кватэры. Знаціт, цібе не трэба ціпер ні за цьто змагацца, ні за цьто перажываць… Харасё, харасё, харасё…”

4

Спаў я, мусіць, доўга. Дужа доўга.

Што снілася акрамя сейнера, нічога не памятаў: як у бяспрасветнае беспамяцтва праваліўся.

Адзінае, пра што я не ведаў, як гэтым, нечаканым і некім падораным, багаццем распарадзіцца, распарадзіцца так, каб не нашкодзіць самому сабе і не сапсаваць музыку цудадзейнага і чароўнага, якое прыходзіць не да кожнага і не так часта, – а мо і не прыходзіць зусім…

Я ж нікога не клікаў, не скардзіўся на свой лёс, не крыўдаваў на сваё жыццё. Адзінае, у чым адчуваў дыскамфорт, горыч, шкадаванне, крыўду, знявагу, і што мяне палохала і апякала ўсярэдзіне, – дык гэта жорсткае бязладдзе на маёй Радзіме. Зневажала адкрытая хлусня, замаскіраваная пад клопаты “аб прастом народзе”, непрыхаваны цынізм, які ўзялі на ўзбраенне ўсе вертыкальшчыкі і ўся вертыкальна-гарызантальная хеўра на чале з галоўным камандуючым, галоўным вертыкальшчыкам – Галверам.

Хаця ж я магу быць не да канца шчырым. Найбольш перад гэтым мяне ўзрушыла і вывела з раўнавагі (прызнаюся, што ж рабіць?) Яніна. Правільней, тое, што яна збегла ад мяне. Пакінула не ў пажары сваркі ці істэрычнай спрэчкі, і нават не з-за таго, што я пачаў піць ці весці распутны лад жыцця… Хаця ж і піў, праўда, чыстая праўда. Бо мне нічога не ўдавалася, нічога не тварылася, бо знямеў пэндзаль, а ў ручцы высахла чарніла і я не мог нарадзіць ніводзін прыстойны радок… Творчы застой. Тупік… Яна мне ўсё даравала. Не магла толькі дараваць іншага – маю няўвагу да яе. Тое для яе было страшэнным ударам.

Аднойчы прыйшла з працы вясёлая і шчаслівая. Але ў вачах я заўважыў схаваны сум і журбу. У руках трымала вялізны букет чырвоных ружаў, і сама разружовілася ад іх. Я здзіўлена глядзеў на яе. Жонка спявала напаўголасу нейкую песеньку, глядзелася ў люстэрка, што вісела каля парога – як бы ацэньвала, рабіла агледзіны збоку. У яе і прычоска была нейкая незвычайная – такой ніколі не бачыў, і выглядала яна на той момант гадоў на дзесяць маладзей.

– І дзе ж гэта ты, мая жоначка, столькі кветак расстаралася? – не вытрымаў і папытаўся, настроіўшыся на вясёлы лад, падлабуньваўся, стараўся падтрымаць яе святочны і адначасова незразумелы настрой.

Яніна вытрымала паўзу і, не гледзячы на мяне, а некуды ўбок, прамовіла з мяккай, але глыбокай балючай падначкай, якая асляпіла мяне маланкай і забіла перуном, прынізіла, раструшчыла, знішчыла ўшчэнт мой паляшуцка-шляхетны гонар:

– Ну, калі каханенькі-родненькі муж забывае пра тое, што ў яго жонкі дзень нараджэння, то, дзякуй Богу, пра тое добра памятаюць мае палюбоўнікі!..

Пада мною, здаецца, расступілася зямля – і я, не маючы ніякага апірышча, ляцеў у бяздонне, праклінаючы сябе, сваю дзіравую памяць, бязглуздую ўпэўненасць у сваёй бязгрэшнасці і правільнасці, і запознена да мяне пякучай пульсацыяй даходзіць: “Божачка! Дык жа ў Яніны сёння, аказваецца, дзень народзінаў. Узрост Хрыста! Ёлупень! Ты пра што думаў, склероцік тупагаловы, га?!”

Ды каб жа толькі гэты выпадак. Ён жа не адзіны! Не толькі гэты пракол. Мне Яніна даравала б такую правіну, мо і не звярнула б на тое ўвагі, перавярнула б усё на жарт, але ж я ўмудраўся выкідваць шмат якіх і іншых конікаў, чым усё больш і больш выводзіў яе з раўнавагі і цярпення…

Траўма, што адбылася са мной падчас другой службы ў савецкай арміі, напамінала пра сябе. Тады ж мы перавярнуліся з машынай, і я балюча ўдарыўся галавой аб столь крытага грузавіка. Пашкодзіў пазванок, і адбылося страсенне мозгу. Беспрытомным быў каля сутак… Каля двух месяцаў праляжаў у шпіталі… Пра тое я не расказваў Яніне. Сам не ведаў, чаму. Мо ад таго, што хацеў выглядаць здаровым і дужым – без фізічных комплексаў і адхіленняў. Мо і так… А калі дакладна, то не хацеў напамінаць лішні раз пра тую аварыю на дарозе. Бо толькі ад аднаго напамінку нешта адразу пачынала шпыраць у скроні, і я пачынаў адчуваць, як з-пад ног спрабавала ўцячы ад мяне зямля ці падлога, – і тады я пачынаў губляць пачуццё рэальнасці… Не ведала, ці не разумела, ці не захацела зразумець мяне, стараючыся не абцяжарваць сваё жыццё непатрэбнымі клопатамі? Я ж не стараўся нешта зрабіць, нешта памяняць, перайначыць, каб усё стала на сваё месца, бо паміж намі не было ніколі ніякіх непаразуменняў… Тут ужо зноў была мая віна. Віна бязвольнасці. Я, выходзіць, сам сябе пакараў.

Але як можна было мяне разумець, калі я забываўся сустрэць яе з працы, калі яна з раніцы прасіла пра тое, ведаючы, што зойдзе ў краму і будзе несці важкі груз?.. Як можна было разумець, калі я ўсе жыццёвыя і бытавыя клопаты ўзваліў на яе? Успамінаю цяпер, дык чырвань падкатваецца да твару, сорам апякае, – і тады я абзываю сам сябе самымі агіднымі і брыдкімі словамі… Але ад таго лягчэй на душы ў мяне не рабілася.

Снілася амаль кожную ноч. І там снілася, на “Чорнай пантэры”. І цяпер сніцца. Нічога не гаворыць, а толькі смяецца-рагоча, аж залівaецца, а то зусім маўчыць і скрушна паглядае на мяне – як шкадуе, як перажывае за мяне, што я няправільна жыву, няправільна думаю і пражываю свае дні… Я ж чамусьці баюся загаварыць з ёю, баюся парушыць слабое, амаль кво-

лае суладдзе (калі яно яшчэ і было), толькі слухаю, што яна думае, як ацэньвае сітуацыю. Ніводнага промніка папроку ці жадання не зыходзіла ад яе – як і не чалавек яна была, а нешта іншае – без эмоцый, без крыўды, без душы…

Аднойчы, вярнуўшыся з тыднёвай камандзіроўкі, убачыў на паліраваным часопісным століку аркушык паперы. Словы былі акуратна напісаныя, як даўно вывераныя і выпакутаваныя:

“Антон, зразумей мяне…

Сам жа ведаеш і адчуваеш, што так бясконца працягвацца ўсё не можа…

Цябе хвалююць найбольш свае, прыватныя, і адраджэнцкія клопаты, – ім найбольш аддадзены твой час. Але ж я ўсяго-наўсяго жанчына, якая патрабуе да сябе хаця б маленькай увагі і клопатаў. Ведаю, што кахаеш мяне, як і я цябе, але між намі нехта збудаваў ці ўзвёў высокую гару і раздзяліў нашы душы, прымусіў жыць паасобку, нават калі мы і разам. Мо ў тым мы і не вінаватыя, а вінаваты нехта іншы, нябачны, пра каго мы не ведаем. Так, як жылі да гэтага, я не хачу. Не мае сэнсу. Гэта – не жыццё, гэта – пакуты. Немагчыма такое вытрываць.

Я думаю, што ты зразумееш мяне. Як і я разумею цябе, але нічога, на вялікі жаль, парабіць з сабою не магу. Бо я проста слабая і кволая жанчына.

Таму – даруй і выбачай, не праклінай і не ўшчувай, а проста выкінь са сваёй памяці капрызлівую і неўтаймаваную бабу. Я заслужыла таго. У нечым, ды пры тым у вялікім, і я вінаватая, тое я дакладна ведаю, і перакананая ў тым… Але і я выпраўляцца не хачу, дарэчы, як і ты… У мяне чамусьці такое адчуванне, што ў цябе ёсць свая нейкая тайна, з якой ты не захацеў падзяліцца са мною. Тайна тваёй душэўнай расхрыстанасці, але – не безадказнасці. Ты пашкадаваў мяне, не падзяліўшыся ёю, але не пашкадаваў таго, што нарадзілася між намі. Можа, я і зразумела б цябе, адкрыла б цябе іншага, непадобнага на існага, і даравала б усё, але ў мяне не было апірышча пад нагамі і ўпэўненасці, што нешта можа змяніцца... І нічога не мянялася сапраўды. Нараджаўся недавер. А недавер заўсёды нараджаў лёд. Ільдзінку растапіць лёгка. А калі ж мы нарадзілі айсберг? Хто растопіць яго?

Таму – за ўсё даруй. Мы некалі, у нейкім мінулым стагоддзі, страчаліся з табой. Нават лёталі на планету Ахутавану – прасторы багіні Кахання, мо і яшчэ там некалі стрэнемся ў нейкім новым жыцці і вымярэнні – на ўсё ласка Божая, плюс – нашае жаданне і імкненне да яднання нашых душаў. Але то ўжо са сферы фантастыкі і фантасмагорыі, мрояў і нядзейсненых жаданняў… Як было сказана ў Першым пасланні карынфянам? “*Каханне церпіць доўга, мае міласэрнасць, каханне не зайздросціць, каханне не прыўзносіцца, не ганарыцца… не вар’яцее, не шукае свайго, не раздражня-*

*еццa, не замысліваe злога; не радуеццa няпраўдзе, а сурадуеццa ісціне; усё пакрываe, усяму верыць, усяго толькі спадзяеццa, і ўсё церпіць і трываe; каханне ніколі не перастае быць, хаця ж і прароцтва спыняеццa, і языкі змоўкнуць, і веды знікнуць; таму што мы часткова ведаем і часткова робім прароцтвы; калі ж прыйдзе час удасканальвання, тады ж тое, што часткова, і спыніцца…"*

Даруй, Антон, выбачай, што ў нас так з табою атрымалася, правільней сказаць – нічога зусім не атрымалася.

Моцна цалую. Твая заўсёды. Твая – Яніна…"

Спачатку не адчуў, што здарылася, што адбылося. Пачуццё рэальнасці прыйшло да мяне значна пазней, калі ў хаце не было чуваць яе голасу, калі з кухні не даносіўся пах кавы ці гарбаты, калі ноччу не супакойвала мяне ў трывожным і страшным сне… Я найперш напалохаўся адзіноцтва. А потым пачаў нечакана для самога сябе прывыкаць да яго.

Калі ж мяне кінулі і другі, і трэці раз за духоўныя краты – я ўцёк… Мне далі часовы прытулак за мяжой у далёкай краіне. Так я стаў палітычным эмігрантам… Потым кідала мяне жыццё з адной краіны ў другую. І пазней нейкім ветрам занесла на Тайвань. Там і сустрэўся з Саямам. Правільней, Бог нам паслаў абодвум такую сустрэчу… Бог паслаў мне Саяма сана…

5

Праз год я вярнуўся дадому. Як і параіў мне ён тое зрабіць… А яшчэ праз год у фортку майго акна ў маю кватэру заляцела нечакана муха…

"…бз-ззз-зззз!.. – недзе пад столлю падала голас мая кватарантка. А можа і не кватарантка, а пастаянная жыхарка ўжо, сябра сям'і. – Бз-зззззз!.."

Мусіць, яна доўга спала, адпачывала, як і я, а цяпер бадзёрыцца, настройваецца на працоўны лад. Мяне не чапае, не хоча, напэўна, назаляць, лезці сляпіцаю ў вочы, чакае, калі сам абзавуся, паклічу яе.

Я ляжу з заплюшчанымі вачыма, думаю, разважаю, будую нейкія планы. Мною апаноўвае ці то лянота, ці соннае здранцвенне, ці я проста быў на нулявой адзнацы паміж дзеяннем і бяздзеяннем, і я чакаю, куды схіліцца стрэлка-кірунак майго быцця…

"Ты дзе, Мухіко сан? – не вытрымліваю маўклівасці, пацікавіўся, не расплюшчваючы вачэй, не падаючы голасу. – Схавалася ад мяне?"

"А дзе ж мне быць? Тут я, недалёчка…"

" І што, калі не сакрэт, ты недалёчка парабляеш?"

"Тое, што і ты – нічоганепарабляюпакульшто…"

“Давай знаёміцца бліжэй – я ж пра цябе амаль нічога не ведаю. Адкуль ты, чым займаешся, дзе навучылася разумець чалавечую мову… Чаго да мяне завітала, а не да каго іншага?.. Ну, і гэтак далей, і гэтак далей…”

“Ого, колькі ты пра мяне хочаш ведаць, – какетліва загаварыла лятаючая істота, не злятаючы са свайго месца. – Калі пра ўсё расказваць, ды яшчэ падрабязна, ды яшчэ з эпітэтамі і метафарамі, то нам трэба з табою па гадоў сто яшчэ пражыць…”

“Тады раскажы пра тое, пра што сама хочаш, і столькі, колькі сама жадаеш, – адступіў я колькі крокаў назад. – Выбачай за бестактоўнасць… Мы ж з табою яшчэ ніводнага разу не размаўлялі  па душах…”

“І няпраўду мовіш, спадар Антон! Чаму гэта – ніводнага разу? А хто мяне вучыў ліцвінскай мове? Ці не ты расказваў пра сябе, пра Яніну, пра беларускі народны фронт? І ці не ты прымусіў мяне напісаць адразу дзве заявы – адну ў раду БНФ, а другую – у ТБМ? Я ж цяпер бэнээфаўка і тэбээмаўка. Да мяне баяцца з вуліцы іншыя мухі прылятаць у госці, кажуць, што я нацыяналістка і што па мне даўно турма плача… А самі ж прыляцелі з будынку абласной вертыкалі. Хваляцца, што яны цалуюць без памяці партрэт таго, хто вэрхал наладзіў у семнаццатым. А не ведаюць, дурніцы, што робяць адваротную справу – заквэцваюць лысенькага ўшчэнт! Паслухай, Антон, а што такое турма, пра што яны баялі?”

“Турма – гэта няволя. Туды саджаюць тых, хто адстаў ад жыцця... Але там сядзяць і злачынцы, забойцы…”

“А як я буду сядзець сярод людзей? – чамусьці занепакоілася Мухіко. – І хто мяне туды пасадзіць? А можа ёсць турмы для крылатых, як я? Можа, які ўказ чарговы выйшаў, а я і не ведала, газет жа не чытаю дзяржаўных… “

“У нашай краіне ўсё магчыма, Мухіко сан!..”

“А добрае ты мне імя даў – так прыгожа і замілавана гучыць. Дзякую, Антон!..”

“Ды няма за што.”

Я не памятаў, каб вучыў яе роднай мове, каб прасіў пісаць заявы аб прыёме… Калі тое было? Як спаў? Дык мо і не спаў,  а выконваў нейкую іншую, паралельную і неабходную працу? Можа і была якая думкавая просьба, але каб прымушаў?!

“Не прасіў, а прымушаў! Прымушаў! – абазвалася, пачуўшы мае патаемныя думкі муха, хіхікнула, што я не памятаю таго, – праўда, не моцна, не настойліва, але папрасіў, каб я… стала патрыёткай, актывісткай. Ці не так, га?..”

Яна тут жа пастаралася патушыць маё недаўменне, зарагатала: “Ну, як я цябе? Напалохала, так? Не прымушаў, не прымушаў, спадар Антон! То я сама ўсё зрабіла, як цябе не было дома, па сваёй ахвоце зрабіла. Таму мы

цяпер з табою заадно, цяпер мы з табою – адраджэнцы! Апа-зі-цыя! Цікава быць у апазіцыі! Захапляльна! Цяпер мы з табою на мітынгі разам хадзіць будзем, разам з усімі крычаць на ўсё горла, скандзіраваць: “Жы-ве Ліцвінія! Жы-ве Ліц-ві-ні-яяя!..”

Мне стала ніякавата. А што калі даведаюцца сябры, што я ўцягнуў у нашыя шэрагі… муху? Падзівяцца, палічаць мяне дзіваком ці нават… Ат, якая розніца кім палічаць…

“Не палічаць, не хвалюйся, – супакоіла разважліва сяброўка-аднадумка, – бо і я магу прыносіць нейкую карысць. Яшчэ не ведаю якую, але прадчуваю, што карысць магу прынесці вялікую, нават неацэнную…”

“Пры табе хоць не думай ні пра што, – заўважыў я, адчуваючы сябе ўсё ж няёмка, ды няёмка ад таго, што ад яе не схаваеш свае думкі, – ты ж ведаеш пра ўсе мае думкі і планы, цябе не падманеш, не схітруеш…”

“Так, так… Бо і ў Пасланні тым жа да карынфянаў сказана: “Не злоўжыву я тваім даверам і шчырасцю,ператвару ўсё ў добрае і шчаснае…”

Зноў шчыра падзівіўся:

“Табе вядома слова Божае?”

“А хіба ж яно пісалася толькі для людзей? Для ўсяго жывога на зямлі – і для лятучых, і плаваючых, і земнаводных…”

“Значыць, я яшчэ не да канца цябе ведаю?”

“Можа і так… – уздыхнула муха, але ў яе ўздыху я не пачуў ні шкадавання, ні папроку. – На ўсё воля Бога, на ўсё час і жаданне…”

Прыйшлося падняцца, схадзіць на кухню, уключыць газавую пліту, паставіць гарбатнік (а калі каву, то каўнік?), прыгатаваць сабе кавы. Успомніў пра Мухіко і занёс ёй на люстру паўгарбатнай лыжачкі купленага ў краме вішнёвага сіропу…

“Дзякую, што не забываеш пра мяне, – адобрыла адраджэнка, – як угадаў маё жаданне…”

“Ласуйся на здароўе, набірайся сіл!..”

Кава падбадзёрыла, настроіла на дзелавы і рабочы лад. Але я не хацеў больш заігрываць са сваёй сяброўкай, не хацелася нічога думаць ні пра яе, ні пра сябе, хаця ж яна і папярэдзіла, што не будзе злоўжываць маім даверам, цікавіцца маімі думкамі – і патаемнымі, і грамадскімі, і наіўнымі… Заўважыў, што яна радзей пачала звяртацца да мяне першай, чакала, калі я яе паклічу сам. А потым, калі я і сам не хацеў, каб яна чаплялася за маю думку ці вокліч, то яна маўчала, як ведала мой настрой. І я ўжо прызвычаіўся да яе паводзінаў, так бы мовіць, прывык, навучыўся кіраваць сітуацыяй, і не адчуваў ужо няўтульнасці ад таго, што нехта падслухоўваў мае думкі, што гэта пагражае іх зразумець не так, як трэба, нават перавярнуць іх, перайначыць…

– Ты ведаеш такога – Лукіяна? – спытала ўголас Мухіко.

– Не, хто гэта такі? – насцярожыўся я.

– Не ведаеш, хто такі Лукіян? – здзекавалася з маёй недасведчанасці мая кватарантка. – Гэта ж старадаўні рыторык і пісьменнік. Жыў ён каля 125 года да новай эры. Нарадзіўся ў Самасаце, што ў Сірыі. Выступаў са сваімі прамовамі ў Рыме, у Афінах. Ён высмейваў у сваёй сатыры як язычства, якое аджывала свой век, так і хрысціянства, якое пачынала нараджацца.

– Адным словам, бязбожнік?

– Няхай будзе так, – згадзілася яна, – але мы будзем разглядаць яго не як атэіста, а як пісьменніка...

– Цікава.

– Дык вось. Лукіян напісаў трактат “Пахвала мусе”. Азнаёміць цябе з гэтым тэкстам?

Мне нічога не заставалася рабіць, як даць на тое сваю згоду.

– Тады слухай... Табе будзе цікава пачуць, што старадаўнія гаварылі пра мяне, якія выказвалі думкі. Увесь трактат я табе прыводзіць не буду, хаця ён і не дужа вялікі, але вытрымкі нейкія прачытаю...

*“Не малое месца сярод лятаючых займае муха, калі яе параўноўваць з камарамі, мошкамі і іншай крылатай дробяззю, якую настолькі велічынёй пераўзыходзіць муха, наколькі яна сама саступае пчале. І крыламі муха надзелена не па агульных мерках. Адным дадзена суцэльна зарастаць валоссем, другім жа – карыстацца хуткімі крыламі, – не як конікам, стракозам і пчолам, з сятчаткі крылы ў мухі, крылы іншых гэтак жа грубыя, як грэцкае адзенне супраць тонкіх і мяккіх тканін індыйскіх. Да таго ж, калі хто пільна прыгледзецца – крылы мухі расквечаны, як у паўліна, калі яна, распластаўшыся, узмахвае імі пад промнямі сонца”.* Ну, як, Антон сан?

– Цікава, – адгукнуўся я. – Чытай далей.

– Добра, слухаюся. *“ І палёт мухі не падобны на хуткія ўзмахі кажана, не падобны на падскокванне конікаў ці кружэнне асы – плаўным паваротам імкнецца муха да нейкай мэты, якую намеціла ў паветры. І да таго ж яна ляціць не маўкліва, але з песняй, аднак не з варожай песняй камароў, не з цяжкім зумканнем пчол ці вос, страшным і пагрозлівым, – не, песня мухі настолькі званчэй і саладзей, як супраць трубаў і кімвалаў мядовыя флейты...”*

Муха трошкі памаўчала, як давала мне час пераварыць пачутае, асэнсаваць, працягвала:

– *“Што ж да іншых часцін цела, то галава мухі найтанчэй злучаецца з шыяй, лёгка паварочваючыся вакол, а не зросшыся, як у коніка; вырачаныя вочы з вялікай колькасцю рагавіцы: грудзі, цудоўна складзеныя, і лапкі, прарастаючыя вольна, без залішняй звязанасці, як у асы. Чэраўца – моцнае*

*і падобнае на панцыр сваімі шырокімі паяскамі і луской. Абараняецца муха не хвастом-джалам, як у пчалы ці асы, але губамі і хабатком, такім жа, як у слана; ім яна адшуквае і хапае яду, і ўтрымлівае яе, моцна прытуліўшыся, быццам мацкі паліпа, хабатком. З яго паказваецца зуб, якім яна пракусвае цела і п'е кроў; п'е яна і малако, але салодкая для яе і кроў, і боль пакутніка не дужа вялікі. Шасціногая, але ходзіць толькі на чатырох, карыстаючыся двума пярэднімі, як рукамі. І можна бачыць муху, якая стаіць на чатырох і, як чалавек, трымае на вазе ў руках што-небудзь з харчу..."*

– Ты глядзі, – выказваю здзіўленне. – Сапраўды цікава...

– Яшчэ б... А далей слухай. *"І яшчэ буду я гаварыць пра вялікі розум, калі пазбягае муха злоснага і варожага ёй павука: яна падглядвае за ім, які цікуе яе, каб зацягнуць у свае сеткі, і раптам адхіляе палёт, каб не папасціся, не аблытацца яго спляценнямі. Пра мужнасць і адвагу мухі не нам трэба гаварыць; найяскравейшы з паэтаў – Гамер – не з львом, не з леапардам і не вепрам параўноўвае адвагу лепшага з герояў, жадаючы яго пахваліць, але з дзёрзкасцю мухі, з бястрашшам і ўпартасцю яе націску. Ён так прама і гаворыць: не дзёрзкая, але смелая. Таму што, злоўленая, кажа паэт, яна не здаецца, але наносіць укусы. І ўвогуле так усхваляе паэт і захапляецца мухай, што не адзін толькі раз і не рэдка, але вельмі часта ўспамінае яе: так, толькі памянёная, яна ўпрыгожвае паэму. То расказвае паэт, як плоймамі злятаюцца мухі на малако, то расказвае пра Афіны, калі адводзіць яна стралу ад Менелая, каб не нанеслі яму смяротнай раны; параўноўваючы яе з клапатлівай маці, якая ўкладвае сваё немаўля, зноў супастаўляючы з ёю муху. Гэтак жа цудоўным эпітэтам упрыгожыў ён мух, празваўшы "моцнымі", а рой іх называў "народам".* Не стаміўся яшчэ слухаць мяне, Антон?

– Ды не, ты ж цікавыя рэчы адкрываеш для мяне.

– Я радая, што табе падабаецца, – засмяялася Мухіко, – таму яшчэ трошкі паслухай... *"Адно паданне расказвае, што ў старажытныя часы жыла-была Муха – найцудоўнейшая жанчына, спявачка і з языком балаболістым, як млын, і былі яны разам з Селенай..."* ведаеш, хто такая Селена, Антон?

– Не, падкажы...

– Багіня месяца, закаханая ў прыгожага Эндзіміёна. Яна кожную ноч сыходзіць з неба, каб абдымаць свайго каханага юнака... *"... і былі яны разам з Селенай закаханы ў Эндзіміёна. І вось пастаянна яна будзіла юнака, лапочучы, напяваючы і пасміхаючыся над ім, – і так рассердзіла яго аднойчы, што селена ў гневе ператварыла жанчыну вось у гэтую муху. Таму і цяпер, успамінаючы Эндзіміёна, яна быццам зайздросціць сну, асабліва маладых і пяшчотных. Укус яе і смага крыві – знак не нянавісці, але кахання і пяшчо-*

*ты, бо імкнецца яна, па магчымасці, адведаць ад усяго і здабыць мёду з прыгажосці...”*

Мухіко зрабіла кароткі перапынак на колькі секунд, а потым працягвала:

*– “Па сведчаннях старадаўніх, была таксама і нейкая жанчына, якую называлі Мухай, – паэтэса, прыгожая і мудрая, і другая яшчэ – слынная ў Атыцы гетэра, аб якой камічны паэт сказаў: “Ну, укусіла Муха, дык да сэрца дрыжыкі працялі...”* Альбо яшчэ – і ўжо, бадай, апошняя вытрымка: *“Вясёлая камедыя гэтаксама не гідавала і не закрывала доступ на сцэну імю Муха. Не саромеліся яго і бацькі. Мухай называлі нават сваіх дачок. Ды і трагедыя з вялікай пахвалой успамінае муху ў вершах:*

*Якая ганьба! Без страху муха на людзей*
*Імкне палёт адважны, хоча смерці іх.*
*І вoі ніякавеюць перад дзідай ворага...*

*Існуюць яшчэ і асаблівыя мухі, якіх многія называюць “салдатамі”, другія ж – “сабакамі”, з суровейшым бзыканнем і хуткім палётам. Гэтыя даўжэй за іншых і ўсю зіму абыходзяцца без яды, але большай часткай хаваюцца пад дахам. Дзіўна яшчэ і тое, што мухі здзяйсняюць належнае для абодвух – і жаночага і мужчынскага родаў, паперамення ў іх выступаючы, па слядах сына Гермеса і Афрадзіты з яго змешанай прыродай і двайной прыгажосцю...*” Але я, Антон, спыняю свой аповед, бо, як і казаў той жа Лукіян, можна было пра муху расказваць і расказваць, але каб ты не падумаў, як пра тое кажа прымаўка, што я хачу з мухі зрабіць слана.

Мухіко мяне здзівіла. Я не ведаў, чым яна можа мяне здзівіць яшчэ, але ў адным я быў перакананы – межаў яе эрудыцыі няма. Не ведаў, што ў яе вобразе сустрэну такога цікавага і разумнага субяседніка... Я канчаткова перастаў комплексаваць з гэтае прычыны. І мы цяпер мірна і палюбоўна ўжываліся ў нашай жыццёва-жыллёвай прасторы, не заміналі адно аднаму, не перабягалі адно аднаму дарогі, – хаця апошнім часам яна ў нас была адна, бо абралі мы яе назаўсёды…

Нам хораша было з ёю. Нам было пра што пагаварыць, чым падзяліцца. І гэта радавала нас абодвух.

### *Частка трэцяя*

1

“Мухіко, а Мухіко, я пайду па сваіх клопатах, – падаў сігнал сваёй сяброўцы, спадзеючыся, што яна адразу пачуе мяне. – Ты дзе?”

“Там, дзе заўсёды, там, дзе я і павінна быць – на люстры”.

“Уключыць, як заўсёды?”

“Не, сёння не трэба… Не той настрой, Антон. Надоўга збіраешся?”

“Не ведаю. На гадзін чатыры адлучуся…”

Яна памаўчала трохі, а потым папрасіла:

“Я не хацела б, каб ты сёння прыйшоў позна. Ці зможаш ты прыйсці не пазней трынаццаці гадзінаў?”

Клопатаў, здаецца, вялікіх у мяне не было, але і не з рукі было пытацца-цікавіцца, чаму яна просіць пра такое. Але раз просіць, то, мусіць, так і трэба. Некалі ж і Яніна, здаралася, прасіла мяне прыйсці ў пэўны час дадому, а я мог і забыцца, загалуніўшыся нечым, пра дадзенае слова… А тут як быццам нешта іншае, тут быў нейкі іншы выпадак і абавязак, толькі вытлумачыць яго не мог.

“Добра, роўна а трынаццатай гадзіне я буду дома, – прыйшлося цвёрда паабяцаць мне, нават і на люстру кінуў позірк, як быццам хацеў Мухіко ў вочы паглядзець, даказаць, што не хлушу, што не забудуся на абяцанае, але кватарантку не ўбачыў – мусіць, схавалася. – Не сумуй без мяне, усё будзе добра…”

Адказу не пачуў. Нешта здарылася з маёй госцяй, а што, не ведаў. Няўжо і ў яе бывае кепскі настрой? Ведаў, што ў двухкрылых настрой залежаў ад надвор’я. Але ж на дварэ было сонечна – промні зазіралі ў вокны, адбіваліся нават на люстру. Тады, можа, муха прадчувае перамену надвор’я, ваганні атмасфернага ціску дзейнічаюць на яе?

Ціха прычыніў дзверы, як бы баючыся патрывожыць яе спакой.

На пляцоўцы сустрэў “жырыноўскага сокала” – Івана Трафімавіча, ветэрана вайны, адстаўнога афіцэра недзе з-пад Тулы родам, а прыехаў жыць на маю радзіму. І пенсію атрымлівае вялікую, не тое, што нашыя гаротныя былыя даяркі і паляводы, якія ж і кармілі афіцэраў той жа савецкай арміі. Ганіць і зневажае ўсё ліцвінскае, расейскі свой гонар і пыху дэманструе.

– По делам опять, по делам? – яхіднічае адстаўнік, з’едліва ўсміхаецца.

– Па справах.

– От не отучат вас от этого мужицкого языка, коверкаете красивую нормальную русскую речь, стыдно за вас – интеллигентный, умный, казалось бы, человек, при галстуке, а вот когда откроете рот… Стыд и срам.

– Кожнаму казлу – па пары рагоў.

– Сам ты козёл! – не вытрымлівае абразы былы афіцэр, маёр запаса. – Мало вас стреляли, мало… Но ничего, ничего, скоро вас научат уму-разуму. Националисты! Фашисты!

Больш казаць яму што-небудзь ахвоты не было. Хіба ж яго пераканаеш у чым? Ён працаваў у газеце “Сокалы Жырыноўскага”, і з усёй апантанасцю

і непрымірымасцю да іншай думкі і становішча, на старонках роднай газеты абліваў брудам наша роднае, здзекаваўся з нацыянальных святыняў, – і нішто яму за такую агрэсію і абразу не пагражала. Такога закону не было. А хаця б і быў, то ніхто яго не прымяняў бы на практыцы. Мы разышліся як у моры караблі, каб праз дзень-два зноў сутыкнуцца-сустрэцца на лесвічнай пляцоўцы…

Божа, на сваёй роднай зямлі адчуваць сябе абражаным і цярпець выпады ад прыдуркаватых, цярпець здзек ад чужынцаў? Чаму на стыку двух стагоддзяў і тысячагоддзяў нельга знайсці на іх кару? Чаму ў іх, у людзей суседняй дзяржавы, такія імперскія замашкі, заваёўніцкія інтарэсы і прэтэнзіі? Мы іх пусцілі за стол, а яны з нагамі на покуць. Рассяліліся па нашай зямлі, і яшчэ хочуць стаптаць нашыя душы сваімі бруднымі ботамі. Не прашу нават пакарання, а прашу, каб усяліў Бог у іх расхрыстаныя бязбожныя душы і сэрцы разуменне і розум, навучыў не лезці ў чужую царкву са сваімі крывавымі мячамі… Чаму і да сённяшняга часу знаходзяцца паслядоўнікі Івана Жахлівага і Пётры Першага, якія нарабіў гвалту ў Полацкай Сафійцы, пасекшы з Меншыкавым уніяцкіх святароў?.. Чаму? Падтрымка сатаны, няначай...

Высака ў небе рэактыўны самалёт (якой дзяржавы?) прачырыў на небе белую доўгую паласу. Сонца яшчэ па-летняму было цёплае і ласкавае. Хто хадзіў у тэніскахі кашулях ці сукенках, хто ў касцюмах. Ішоў сваёй сцяжынай – тратуарам да будынка абласнога ўпраўлення адукацыі, а з галавы не выходзіў раскормлены твар адстаўніка-суседа Меншыкава. Як злы лёс – у самадзержца быў памочнік Меншыкаў, і тут, у мяне, за сцяной… Адкуль у яго душы столькі атруты?

Кіраўнік адукацыі Барыс Яфімавіч, калабок, шчокі блішчаць, вочкі бегаюць, не спыняюцца ні на чым, расказвае мне як наіўнаму пачаткоўцу ў журналістыцы:

– Волнует областное управление эта тема… Но национальные школы не сокращаются, а наоборот, увеличиваются. Уже на сегодня в области восемьдесят процентов национальных школ…

Ці я дурны і глухі, ці Барыс Яфімавіч так апантана навучыўся хлусіць? І што мы, аматары Таварыства беларускай мовы, можам супрацьпаставіць такім чыноўнікам? То напачатку Вясны, як быў у парламенце Зянон Пазняк, як вёў рэй Станіслаў Шушкевіч, калі кіраваў рэспубліканскім таварыствам беларускай мовы Ніл Гілевіч, то тады неяк прыслухоўваліся, усе стараліся пераходзіць на родную мову, і радасць была ва ўсіх, што сваё роднае вяртаем… А потым як які нячысцік падножку паставіў. Як галёкнуў адзін “ату!”, так і пачалі, нават з апантанай радасцю, цурацца свайго, як ад роднай матулі адцураліся адначасова, зноў пачалі “чёкаць” і “рёкаць”...

Яшчэ схадзіў у бібліятэку, глянуў у чытальнай зале апошнія газеты, але тых, што былі мне па душы, бібліятэка не выпісвала – не быў дадзены дазвол і грошы. І прыкмеціў, адчуў па сваім настроі і ўнутраным трывожным адчуванні, што як толькі я сышоў з дому, мяне пастаянна прыгнятала нейкае незразумелае прадчуванне, а пад грудзі шылася пачуццё трывогі. Не мог вызначыць толькі, адкуль бралася тая трывога. Успомніў, што даў абяцанне Мухіко прыйсці дадому а першай гадзіне дня. Быў яшчэ толькі поўдзень. Калі яшчэ завітаць па дарозе ва ўнівермаг і купіць чорнага чарніла для маёй кітайскай аўтаручкі – то акурат у намечаны час і з'яўлюся дадому, пераступлю парог кватэры…

Вярнуўся а трынаццатай. Калі ж адчыніў дзверы, то пачуў пранізлівы і тонкі крык:

"Антон, ратуй! Я блізка ад смерці. Ратуй!…"

"Дзе ты, Мухіко?! – устрывожыўся я, не ведаючы, у якую бяду яна магла трапіць. – Дзе?"

"На кухні, над газавай плітой, у кутку. Павук-жырыновец мяне…"

Кумельгам кінуўся на кухню. У кутку, у нябачнай павуціне (адкуль яна і ўзялася, я ж зусім нядаўна вычысціў усе куткі і закуткі – не люблю, калі павучынне ў хаце), чорны павук ашчаперыў лапамі маю кватарантку, вострым хобатам імкнуўся пранізаць бакавіну…

"Ра… Ант.. " – ужо не магла гаварыць муха, вочы заплюшчыла, здавалася ў палон крывапійцу.

Каб не задушыць абодвух, я прыцэліўся і пстрычкай збіў павука з мухі. Ён адляцеў да другой сценкі, ударыўся аб яе, упаў на падлогу… Мухіко была ледзьве жывая, амаль не дыхала. Я ўзяў пусты карабок з-пад сярнічак і паклаў яе туды.. А карабок аднёс на плафон люстры – пад самую столь.

"Жывая?"

"Здаецца, жывая… Каб ты спазніўся на колькі секунд, то... Дзякую табе. У другі раз мяне ратуеш…"

"А калі першы?"

"Калі ўпусціў у фортку…"

"А-ааа…"

"Капні мне кроплю вады… абмыю раны. А чаму ты павука не забіў? – спахапілася яна, як спалохалася, як баялася, што зноў да яе чапіцца пачне. – Ён жа забойца…"

"Думаю, што яму больш ужо не захочацца ганяцца за табою. Але людзі павукоў не забіваюць – не прынята такое рабіць… "

"Гэта яго падгаварылі іншыя мухі. Зайздросцяць мне ў нечым… "Запанела", гавораць, з чалавекам пасябравала, вылучыцца быццам хачу… Што

яшчэ сказалі, – што я мару быць прэзідэнтам энергетыкі і вылучу сваю кандыдатуру. Ну і нацкавалі на мяне павука. Я і не падазравала нічога, там і павучыння не было, я ўсю кватэру абследавала, а ён спадцішка накінуў на мяне сваю мярэжу… І папалася, дурная. Яшчэ раз дзякую за вызваленне. А таму цяпер я перад табой у неаплатным даўгу. Рабі са мной што хочаш…”

Я засмяяўся ўголас, усеўшыся на канапу:

– А што я з табою магу зрабіць? Я і так зрабіў шмат – прыручыў цябе, навучыў размаўляць, далучыў да грамадскай і палітычнай дзейнасці.

“Гэтага мала… Я хачу быць карыснай агульнай справе. А хочаш, я стану для цябе тваім другім вокам і вухам, сведкам тых падзей, якія ніхто не можа бачыць?”

“Як гэта?”

“А так… Бачу, ты мяне вельмі недаацэньваеш. Гэта нічога, што я папалася павуку… Ды я і не папалася, гэта чыстай вады дыверсія. Запланаванае забойства. Але я больш не пападуся ніколі. І ў гэтым дапаможаш мне ты.”

“Я? Якім чынам?”

“Ты, і толькі ты. І не толькі ты, дарэчы. А яшчэ і Саяма сан. Той, пра якога ты мне расказваў.”

Я не разумеў. Пры чым тут мой японскі сябар? І калі я расказваў ёй пра сваю эміграцыю, пра “Чорную пантэру”? Чытала мае ўспаміны, калі я спаў ці думаў пра той час?

Як, якім метадам яна дамаглася дабрацца да маіх думак? Якім дарам яна валодае? Пытанні адныя нараджалі другія, а адказаў на іх я не знаходзіў…

“У цябе ёсць далькажык, што ён падараваў? – дапытвалася далей у мяне муха. – Маленькі такі – з карабок запалак.”

“Ёсць. Я ім амаль не карыстаюся. Не было вялікай патрэбы.”

“Цяпер ёсць патрэба і нагода. Пільная нагода. Пазвані яму, скажы, што яго хоча праведаць адна госця – тэбээмаўка і бэнээфаўка. Скажы, што мяне ён павінен узброіць мікравідэакамерай з мікрафонам. Усё гэтае начынне ён павінен умацаваць на мне. На мае вочы. Я потым буду шныраць усюды, дзе неабходна будзе нашаму руху.”

– Хочаш стаць шпіёнкай? – не вытрымліваю і пачынаю гаварыць уголас.

“Антон сан! Гавары са мною ласкава і пяшчотна. Я якая ні ёсць, а ўсё ж паненка…”

– Выбачай, занесла, – апамятаўся, адчуўшы сваю віну перад ёю. – Я забыўся спытаць, а адкуль ты родам – цікава мне ведаць…

“Хіба ж я не казала? З Мухаўца я, што на Берасцейшчыне. Выбачаю табе. Дык як ты глядзіш на маю прапанову, Антон? Праўда будзе здорава, га, прызнайся?”

А я ўсё адно не цяміў. Якой камерай яе неабходна забяспечыць? Што, яна фільмы здымаць будзе, відэакліпы? І як завезці яе туды, у далёкую Японію? На чым?

“А ні на чым. І замежны пашпарт мне не трэба, як табе. Толькі каб паскорыць справу і час – ты мяне павінен завезці на аўтобусную станцыю, адкуль ідзе аўтобус у аэрапорт”.

– І – што?

“Як што? – дзівілася з маёй недасведчанасці Мухіко. – Я сяду ў аўтобус. Ён завязе мяне ў аэрапорт. Там я перасаджваюся ў самалёт. Добра будзе, калі гомельскіх дзяцей з чарнобыльскай зоны павязуць у Варшаву, то я тады прамым рэйсам дабяруся да Токіа. А так трэба ляцець праз Маскву, чаго мне вельмі не хочацца. А там я дарогу да Саямы знайду, абы ён даў згоду на нашую аперацыю…”

– Ці то мне сніцца, ці не сніцца, ці так і ёсць і сапраўды – злучыла нас з табой крыніца, злучыла нас на ўсе гады, – прадэкламаваў я ўголас свой жа, некалі даўно напісаны, верш да Яніны.

– Не сніцца, усё адбываецца наяве…

2

Я ўсё думаў і не пераставаў думаць, што жыву ў нейкай чароўнай казцы, і што ў ёй выконваю нейкую, хаця і сам не ведаю якую, ролю.

Які чараўнік наладзіў такі цуд, укінуў мяне ў іншае вымярэнне, у віртуальны свет, надзяліў мяне і маіх суразмоўнікаў незвычайным дарам?

Але прыйшлося змірыцца і з іншай высновай і пераканаўчым вынікам – ды ніякага цуду і казкі няма, я жыву ў рэальным свеце, проста на маіх вачах ажывала рэальнасць дзівоснага і чароўнага нейкага патойбаковага свету, да якога я цяпер маю самае непасрэднае і актыўнае дачыненне… І як жа мне пачувацца цяпер у гэтым новым для мяне вымярэнні?

“Ты любіш мроі, жывеш летуценнікам, – вось і дамроіўся, – тлумачыць мне маю незразумеласць і здзіўленне Мухіко. – Такая твая планета. Так што сам сабе і павінен падпарадкоўвацца. Не мне, а сабе. Таму бяры, дружа мой дарагі, далькажык. Узяў? Вельмі добра. Набірай цяпер нумар Саямы. А далей ведаеш, пра што гаварыць…”

Я ледзьве адшукаў яго: схаваў на антрэсолі перад уваходам на кухню – засунуў у вугал, загарнуўшы яго ў рознае рыззё і прычындалы: каб не кінулася ў вочы рабаўніку-зладзею, калі залезе выпадкова ў кватэру – хаця што ў мяне было рабаваць – амаль голыя сцены. Ды шафа, крэслы, ложак, паліца з кнігамі… Паклаў далькажычак на стол. Разгарнуў, як блакноцік. На яго

адразу ж села Мухіко, задрыгала неспакойна нагамі, крыло аб крыло пацерла, задрыжэла ад задавальнення.

“Ну, давай, не марудзь, – прыспешвала нецярпліва муха, – такія справы трэба рашаць хутка, не раздумваючы…”

Панаціскаў на патрэбныя кнопачкі з лічбамі, чакаў. Праз секунд колькі на табло высвеціўся матавы экран і з ідэальнай выразнасцю я ўбачыў буйным планам твар Саямы.

– Прывітанне, Саяма сан! Гэта Антон. Пазнаў?

– Здароў быў, Антон сан! Пазнаў. Чаго так доўга не званіў? Я сам набіраў цябе, ды ты нешта не адказваў.

– З сабой не нашу твой падаруначак, баюся згубіць. А вось цяпер надарылася нагода пагаварыць.

– Якая нагода? Што трэба, Антон сан, гавары?

– Памятаеш, ты мне абяцаў-гаварыў, што можаш камара ці муху падкаваць?

– Помню. І што? Спатрэбілася падкаваць камара?

– Не камара, а муху. І не падкаваць, а… Нас ніхто не можа падслухаць?

На другім канцы нешта піснула, і Саяма супакоіў мяне:

– Цяпер – не. Закадзіраваў лінію. Што ж за пільная патрэба, спадар Антон?

– Трэба аснасціць сучаснай звышсакрэтнай апаратурай муху, з якой мы пасябравалі. Ужывіць у яе вочы відэакамеру з мікрафонам.

– Яна сама таго хоча?Вельмі жадае?

Я паглядзеў на Мухіко.

“Жадаю! Сама жадаю! – яна ўзляцела і зрабіла над галавой колькі кругоў. – Гавары хутчэй, не марудзь!”

– Так. Яна пацвердзіла. Яна і сама пра тое скажа. Але ці магчыма такое, Саяма сан?

– Скажу шчыра – справа не вельмі складаная. Калі не простая. Думаю, што мы зробім усё неабходнае. Разумею, што гэта будзе не забава, а неабходная рэч для агульнай справы… Так што выпісвай камандзіровачку. Як яе завуць хоць?

– Мухіко! Мухіко сан.

– Харошае і прыгожае імя. Я буду чакаць яе ў такійскім аэрапорце праз тры дні. Бачыць яна мяне на экране?

“Бачу, бачу! – усклікнула муха, сядаючы мне ўжо на плячо (пасмялела ці рашыла зрабіць мне прыемнае?). – Пазнаю яго сярод мільёнаў людзей. Тым больш, што ў яго кепка з пяром дзівоснай птушкі, якая ніколі не есць мух.

– Яна запомніла цябе, Саяма сан! Чакай! І – дзякую!

Мы перакінуліся яшчэ некалькімі словамі, падзяліліся навінамі, пажадалі адзін аднаму поспехаў.

– Праз дні чатыры мы выйдзем на сувязь. Сігнал ты пачуеш, і будзеш бачыць тое, што будзе бачыць Мухіко…

– Буду чакаць ад цябе вестак.

– Бывай, дружа! Поспехаў!

– Да пабачэння!

3

Чамусьці, сам не ведаю, чаму, але з’явілася неадольнае жаданне пазваніць ёй, Яніне. Пасля кароткага вагання набраў патрэбны нумар. Спачатку пачуўся вясёлы смех, потым, праз нейкі час, яна прыставіла слухаўку да вуха:

– Слухаю вас! Але! Не маўчыце, слухаю…

Я не мог ёй сказаць ніводнага слова. Бо ўсе яны здаваліся недарэчнымі і няўклюднымі. Галоўнае, што я пачуў яе голас – некалькі слоў. Націснуў тут жа чырвоную кнопачку.

“Навошта ты гэта робіш?! – дакараў ужо самога сябе. – Яна ж ад цябе далёка-далёка, за тысячы кіламетраў, і не да цябе цяпер ёй, мо і выкінула цябе са сваёй памяці і сэрца, а ты вярэдзіш ёй раны…”

Нехта другі, больш стрыманы і строгі ў сваіх пачуццях, лупцаваў мяне, дакараў, папракаў, абзываў рознымі словамі і выразамі, каб засаромеўся я свайго ўчынку і не дзяцінеў, не ўпадабляўся таму неразумнаму дзіцёнку, што шкадуе аб страце сваёй любімай цацкі… Мне і сапраўды стала сорамна і прыкра за самога сябе. Ну навошта, сапраўды, трывожыць яе, навошта назаляць, напамінаць пра сябе? Адно хіба радавала, што яна не падумае, не здагадаецца, што званіў я. Бо нікому ж у свеце яна не давала свой нумар. Бо ніводнага разу не званіла мне па звычайным тэлефоне, нумар якога яна ведала, памятала...

– Ну, што, Мухіко сан, можна і збірацца. Дазвол дадзены. Што ад мяне яшчэ трэба?

“Табе трэба толькі з’ездзіць на аўтавакзал. Разам са мною. А што мне збірацца – я, як тая піянерка з чырвоным гальштукам, – заўсёды да ўсяго гатова! Толькі трэба дакладна ведаць маршрут і час вылету самалётаў. Але то ўжо не твой клопат – я з усім спраўлюся сама”.

Адвёз я муху, як і прасіла, на аўтавакзал.

Падышоў да аўтобуса, што кіраваўся ў аэрапорт.

Яна выпырхнула са свайго сховішча (і сам не ведаю, дзе размясцілася), крыкнула мне ва ўвесь свой мушыны голас:

“Дзякую, дружа! Цяпер я разбяруся з усім сама і дабяруся да намечанага месца. Мухіко сан стане “зайцам”. Ты чуў калі такое? От бедны заяц, дастаецца яму і ад паляўнічых, і ад ваўка, і ад казачнікаў… Так, праслухай, Антон, інструктаж. Паводзь сябе добра. Не пі гарэлкі. Яна і так табе шмат нарабіла бяды… Не забудзь, як выходзіш з кватэры, выключаць святло. Пра ваду не забывай. У цябе кран сапсаваны ў ванным пакоі, сантэхнікаў выклічы. Не забывайся купляць хлеб, а то раніцай заўсёды хочаш перакусіць, і крыўдуеш на сябе, што вечарам пра яго забыўся…”

“Акурат як Яніна інструктуеш мяне. Яе словамі гаворыш…”

“А я і ёсць… Ой, што яшчэ? Не забывай заплаціць за газ і ваду. Не рабіся бамжом, а то пры новай уладзе вертыкальшчыкаў можаш апынуцца на вуліцы… А яны толькі і шукаюць прычыну, каб паквітацца з табою за твае нацыяналістычныя адхіленні… А бытта і сам не ведаеш…”

“Ведаю, і не толькі здагадваюся… Слухаюць мяне штодзённа, у слухаўку дыхаюць перагарам. Мне нават адзін кэдэбіст пад п’яную руку (а мо і не пад п’яную, а спецыяльна) гадзіннік свой наручны падараваў. Дык я паклаў яго побач з магнітафонам, які выдаваў пастаянны запіс: “Кэдэбісты і мянты – прыдуць вам усім кранты!..” Праз тры дні мой гадзіннік зусім знік – нехта з хаты ўкраў. А ў хаце ўсё цэлае, і дзверы не выламаныя. Во працуюць, хлеб не дарма ядуць…”

“А ты кажаш…”

“А я кажу…”

“Ой, Антон сан, аўтобус адпраўляецца. Бывай. Паляцела я! Цалую!..”

“Ого – і палюбоўніцай ужо стала?”

“Стараюся. Але то толькі пачатак. Як Алачка спявае? “То ли еще будет, ой-ёй-ёй!..”

“Паклон Японіі! Кланяйся Саяме. Поспехаў табе!”

“Дзякую! Лячу-ууу!..”

Бз-зз-ззззззз! …зз-ззззз!..

... Дадому чамусьці ісці не хацелася. Было яшчэ ўсяго дзве гадзіны па абедзе. Мне стала маркотна, акурат так, як я праводзіў некалі Яніну ў яе камандзіроўкі-паездкі.

У мяне і было такое адчуванне, што я праводзіў не Мухіко, а яе, Янінку. Захацелася схадзіць за Сож, дзе на зялёнай яшчэ пахкай лугавіне было льга пасядзець-паляжаць, падыхаць пераспелымі травамі і дзікім часнаком. Там яшчэ палымнеў блакітам, як у жыце сінія васількі, цыкорый.

Церпка патыхала мацярдушкай і дзікім кменам.

У нізіне стаяла некалькі копаў свежага сена – скошанай і высушанай атавы – цыганы з бліжэйшай Якубоўкі рыхтавалі для сваіх коней на зіму корм. Адна капіца стаяла воддалеч, а мо і не капіца, а проста куча сена, што засталося, што не скінулася ў вялікую капу ці стог, – і яна паклікала мяне ў свае абдымкі.

Не ўтрымаўся, паваліўся ў яе, і праваліўся ў асалоду, у небыццё, у свае дзіцячыя сны і мроі, у сваё вясковае жыццё, калі тата з матуляй бралі мяне на сенакос, калі жыццё было суцэльнай казкай і ўсё наўкола здавалася казачным і непаўторным; калі кожны дзень адорваў мяне дзівосным адкрыццём ці незвычайнымі падарункамі – новымі і новымі старонкамі – і я на ўвесь свет гатоў быў закрычаць:

– Божа! Чым аддзячыць Табе за гэтую радасць і асалоду? Што яшчэ саладзей у нашым жыцці можа быць, як не яднанне з прыродай, зямлёй і небам?..

Мне падалося, што я ляжаў на крылах нейкай вялікай і дзівоснай птушкі, якая несла мяне некуды ў новую і незвычайную краіну, несла менавіта туды, куды і жадалася мне, хацелася, куды я і імкнуўся ўсё сваё жыццё… Як імкнуўся ў Індыю, да чараўніка кіно Раджа Капура, да цудоўных і пранікнёных мелодый, якія нарадзіліся на фундаменце тысячагадовай рэлігіі, на веданні душы чалавека і яго святога прызначэння. Як імкнуўся ў краіну ўзыходзячага сонца, дзе рэлігія была культам культуры, дзе культура была культам рэлігіі; дзе чалавек не бачыў пад нагамі калюжыну і бруд, а бачыў у ёй зоркі і радаваўся дзівоснаму нечаканаму спалучэнню; дзе на пачатку першага тысячагоддзя быў пабудаваны храмавы ансамбль Ісэ; у 1503 годзе ў Кіёце ўзведзены храм Фенікса ў манастыры Бёдоін; у перыяд Эды – у прэфектуры Сага – нарадзіўся замак Хіконэ… А раннія паэтычныя помнікі восьмага стагоддзя “Кодзікі”! А анталогія “Ман’ёсю”, якую яшчэ называюць “Збор мірыяды пялёсткаў”!..

Я плыў, я ляцеў і быў у становішчы бязважкасці, і радаваўся такому незвычайнаму адчуванню, і ведаў, пераканаdebug быў, што прыйшло маё новае нараджэнне, наступіў час майго перараджэння, – што я павінен, вымушаны нават, як некалі мой добры сябар вужык, скінуць з сябе непатрэбнае адзенне, сваю скуру і стаць у нейкай новай сваёй якасці, у новым сваім “я”… Ведаў, што гэта заўсёды балючы працэс, які пранізваў усё цела, – і тады я быў на мяжы паміж смерцю і жыццём, паміж небам і зямлёю, паміж агнём і вадою, спаміж Сатаной і Богам, паміж ноччу і днём, спаміж Каханнем і Нянавісцю… Так як яно было тады, калі я быў Антонам Клімовічам з Пецькам-Джо ў бацькавым лесе, калі быў у пякельным раі ў сховішчах

сусветных скарбаў на Пакрову, калі лётаў са сваёй каханай, той, незямной, Янінай, на планету Ахутавана…

Я трызніў, мяне пранізвалі маланкі, я кідаўся, як у гарачцы, з боку на бок, скрыгатаў зубамі ад невыноснага болю, крычаў, клікаў некага на дапамогу і не мог даклікацца, упіраўся нагамі ў зямны шар і абдымаў яго рукамі, учапіўшыся ў яго з усяе сілы, каб не згубіць, каб не адарвацца і не ўзляцець у блакіт неба і не згубіцца там у прасторы часу, у плойме зорак, мелодый і спадзяванняў… І ў гэты ж час да мяне прыходзілі святыя радкі з адзінай кнігі, і нехта чытаў мне іх на вуха, чытаў спакойна, ціха-патаемна, нараспеў, як некалі бабуля расказвала мне, хвораму, ці то казку, ці шаптала малітву:

“Калі кіпела сэрца маё, калі раздзіралася нутро маё, – тады я быў невук, і таму не разумеў: як быдла я быў перад Табою. Але я заўсёды быў перад Табою; Ты трымаеш мяне за правую руку. Ты кіруеш мной парадай Тваёй, і пасля прымеш мяне ў славу. Хто мне на небе? З Табою нічога не хачу на зямлі. Зняможаная плоць мая і сэрца маё; Бог – цвярдыня сэрца майго і частка мая навек…”

І тады ж я, звязаны сваёй зямлёй і Богам яе, звяртаюся да Вышняга: “Мы зрабіліся пасмешышчам у суседзяў нашых, зняважаннем і стыдобай у акаляючых нас. Дакуль, Госпадзе, будзеш гневацца бесперапынна, будзе палаць рэўнасць Твая, як агонь?! Пралі гнеў Твой на народы, якія не шануюць і не ведаюць Цябе, і на царствы, якія імя Тваё не заклікаюць…”

І пачуў Бог маю малітву, і згусціліся-згрувасціліся хмары на светлым бязвоблачным небе. І бліснула зыркая маланка, і загрымелі магутныя грамы. Тады ж, адразу, і паліў дождж, – на ўсё наваколле, на лугі і палі, на мяне, наэлектрызаванага так, што вось-вось з мяне гатовы быў успыхнуць пякельны агонь і ўзгарэцца зыркім свяцільнікам, каб ні знаку пасля не засталося ад мяне, ні парушынкі…

4

Кроплі дажджу падалі на мяне і сычэлі, як злыя гадзюкі.

Але я чамусьці застаўся жывы…

Значыць, Бог дараваў мне новае, не ведаю, якое і па ліку ўжо жыццё, натхніў і блаславіў на новыя ўчынкі, уклаў у мой розум новыя жаданні, у сэрца – новыя рытмы, у душу – полымя барацьбы і змагання, непакорнасці ўлады Сатаны і Цемры… І таму я дзякую Яму, значыць, я раблю тое, што трэба Яму, трэба Сусвету…

“Божа, Ты і ззаду, Ты – і спераду, і знізу, і – зверху; абдымаеш мяне, і кладзеш на мяне руку Сваю. Калі я іду ці адпачываю, Ты ахутваеш мяне,

і ўсе мае шляхі і думкі вядомы Табе. Яшчэ не нарадзілася слова на языку маім, а Ты яго ведаеш ужо, Ты, Госпадзе, ведаеш яго дасканала. Дзіўныя для мяне паводзіны Твае, – высока не магу спасцігнуць іх!.. Дзякую, Божа, дзякую, дзякую… І не стамлюся ніколі дзякаваць Табе і ўслаўляць імя Тваё!”

На мяне тут жа абрынуўся цёплы і ласкавы, спакойны і пяшчотны дождж.

Ён паліў спорна і густа. А я падстаўляў яму твар свой, губамі кроплі лавіў, глытаў і тушыў агонь, што гарэў ува мне, у сэрцы і душы, у сасудах, дзе амаль што не закіпала кроў і гатова была разбегчыся-расцячыся па венах і артэрыях… Я, як малы, радаваўся дажджу і прыпяваў сам сабе:

*Дожджык, дожджык, сыпані,*
*бабу з поля прагані!..*

Я вымак увесь да рубчыка, да апошняй ніткі, і не адчуваў таго. Як з пякельнай парылкі нырнуў у басейн з халоднай і чыстай вадой, радаваўся асалодзе астывання, асалодзе вяртання ў натуральнае становішча, адчуваючы адначасова: арганізм мой ачысціўся ад рознай поскудзі, ад рознай брыдоты, што загнаў ці загналі ў розныя гады… Радаваўся, што ў мяне, пяцідзесяцігадовага чалавека, дзіцячы арганізм, які не зведаў яшчэ ні атрутнага паветра, што забрудзілі вярхоўнікі, дабіваючыся перамогі камунізму, запаскудзілі свінячым і чалавечым гаўном чыстыя азёры, рэкі і моры; радаваўся, што магу пражыць яшчэ не адну сотню гадоў у тым жа брудзе, што сам сабе падрыхтаваў чалавек…

Я не рухаўся і быў як усё роўна нежывы, ляжаў крыжам на сене, ушыркі раскінуўшы рукі, падставіўшы небу самога сябе – для прасвятлення, для падзарадкі, для наталення нектарам Боскай энергіі.

Я ажываў, я нараджаўся, я прыляцеў з аблокаў і апусціўся на зямлю.

Калі ж сеў, схіліўшы галаву на грудзі, адчуў – страшэнная стома авалодала мною. Ведаў, што тое ненадоўга, на некалькі хвілінаў. А каб пазбавіцца ад рэшткаў слабасці, задраў уверх галаву, заплюшчыў вочы і з усяе сілы крыкнуў у неба:

– А-ааа-аааа!.. а-ааа-аааа!..

І мой крык патануў у мроіве дажджу, зглух у тугіх промнях, – яго ніхто і не пачуў… Апошнія струмені амывалі мой твар, выраўнівалі, падганялі маю тэмпературу цела да той, што меў пастаянна кожны чалавек. Я ж таксама імкнуўся ім стаць, каб выканаць тое, што было мне наканавана…

Калі перастала бунтаваць мая душа, калі спыніліся дрыжыкі па ўсім целе, калі лёгкія ўвабралі ў сябе водар атавы, – у тое ж асамае імгненне і перастаў ісці дождж.

Мне падалося, што яго зусім і не было таго сена, на якім я ляжаў, было яно сухое і пахкае; патыхала разнатраўем, а адзенне на мне адразу пасвят-

лела. Адзінае, што ад мяне ішла пара, – як усё роўна хто затушыў касцёр вадой.

– Цыганскі дождж прайшоў – ліў, ліў, а ўсё сухое, – стаяў каля мяне чарнявы вясковец – у ботах-гумовіках, з граблямі і віламі, мусіць, з Якубоўкі. – І ты, бачу, сухі…

Ён усміхнуўся, паглядаючы на мяне, потым прысеў побач, спытаў:

– Мо ў цябе, чавэла, закурыць ёсцека, га?

Я адмоўна пакруціў галавой. Яшчэ не было сілаў гаварыць, але і размаўляць з ім жадання вялікага не было – некага напамінаў мне сваім візглівым голасам, як што перашкаджала ў горле.

– А шкада, сваю “прыму” дома забыўся…

На плячо мне села шэрая муха.

Не зганяў яе, хаця ведаў дакладна, што гэта не Мухіко, а толькі родзічка яе, ды і дужа далёкая. Ад яе не сыходзіла ні сігналаў, ні гукаў, ні покліч. Як і ад усіх мух, што лёталі побач з намі, з’яўлялася толькі раздражненне, што надакучвалі сваім гудзеннем… І тады ж падумалася: “Цікава, а дзе ж цяпер мая Мухіко? І што яна парабляе ў такі час? Што парабляе цяпер Яніна? На якіх шыротах і мерыдыянах яна праводзіць свае вопыты над тымі, іншымі, загадкавымі крылатымі стварэннямі?”

5

Яніна, Яніна… Не ўпісаліся мы ў нашае супольнае жыццё, не зразумелі адно аднаго. Яе прыцягвала біялогія, клеткі насякомых, раслінны свет. Стала кандыдатам біялагічных навук, яе запрашалі ў замежныя Акадэміі біялогіі – у Лондан, у Вашынгтон, – прапаноўвалі высокія пасады, самастойную працу па распрацоўцы яе тэмаў.

Невядома чаму, але Яніна зацікавілася мухай цэцэ – шкодным стварэннем, якое – ці якая – у Афрыцы знішчае жывёл, ад чаго з голаду выміраюць цэлыя пасяленні і плямёны… У яе была гатовая доктарская, у якой яна даказвала стварэнне (нават у штучным асяроддзі) антымухі на-на, якая здольна перамагаць муху-забойцу, і не толькі перамагаць, а і знішчаць яе. Чаму яе прыцягваў Ніл, чаму яна зацікавілася флорай і фаўнай Егіпецкай ракі, насякомымі і птушкамі, – да цяперашняга часу ўцяміць не магу. Як і яна, мусіць… Кожны ж выбірае ў жыцці сваю дарогу, нават і не ўсведамляючы, куды яна потым выведзе – на бальшак ці завядзе ў цянётны тупік…

Калі ж запрасіла да сябе Акадэмія навук Афрыкі, то яна адразу ж і згадзілася. І кандыдацкая, і доктарская былі напісаны на роднай мове. І патрабаванне да яе было такое, калі запрашалі да сябе, – навуковая праца

павінна быць на роднай мове. А казаў жа галоўны вертыкальшчык, ён жа і Галвер, на сустрэчы з раённымі вертыкальшчыкамі ў цэнтры былой палітасветы Гомеля, што той, хто пішат і разгаварывает на беларускам языке, не спасобен, как правіла, нічаво дзелаць… А пераклалі ж працу Яніны на англельскую мову, здзіўляліся, якая гэта цікавая і мілагучная мова. Цяпер Яніна стала галоўным кансультантам па барацьбе з мухай цэцэ…

То ж яна, выходзіць, па Ніле плыла, калі я званіў ёй, і за яе спінай звісалі ліяны. То ж не сабакі былі на дрэвах, як мне падалося, а малпы, якія пераскоквалі з галіны на галіну… У душы ў мяне была вялікая радасць і нават гонар за маю, няхай і былую, жонку. Але ці існуюць былыя? Мусіць жа не, бо куды падзець успаміны, слодычныя ночы, падарожжы з ёю па розных мясцінах, а словы прызнання, а яднанне душаў… Хто іх разарве? Аніхто… І быў рады яшчэ за тое, што яна здолела знайсці ў сабе сілы і парваць са мною, каб выканаць прызначанае ёй Богам. Ведаю, наколькі цяжка далося ёй тое рашэнне…

Пакідаў я Засожжа ўжо зусім іншым чалавекам – памаладзелым, абноўленым, памяркоўным. У маёй душы не было ні злосці, ні крыўды, ні зайздрасці, ні саманадзейнасці… Нават ногі не адчувалі зямлі. Дык гэта мо пра такіх і сказана: “Ён зямлі пад нагамі нечуе”? Можа і так… Я ж як усё роўна ляцеў, кружляў над зямлёю – і дзіўным мне самому было маё становішча: і не чалавек, але ж і не птушка, і без крылаў, а не на зямлі.

Кожным разам са мною рабілася такое, калі я перараджаўся, набываў новае жыццё. І кожным разам не магу прывыкнуць да самога сябе, усё яшчэ не веру, што такое можа быць… А потым праходзілі і дні, і тыдні, і месяцы, – і я ўваходзіў у сваю звычайную і зразумелую каляіну, набываў рысы і паводзіны, уласцівыя ўсім людзям, што акружалі мяне, з якімі я меў кожны дзень стасункі…

Але ў якім вымярэнні я ні быў бы, кім бы не прызначаўся працаваць і зарабляць сабе на хлеб, якога ні быў бы ўзросту, – заўсёды заставаўся пры сваім прозвішчы – Антон Клімовіч. Таму і ламалі галаву служкі тайнай паліцыі падчас царызму, пасля – энкусаўцы, кэдэбісты… У трыццатых гадах мне было пад семдзесят, і мяне пасадзілі за краты – за нацыяналістычную дзейнасць. А я знікаў невядома куды, хаця і знаходзіўся пад узмоцненым наглядам. Потым заводзілі зноў на мяне справу – за нацдэмаўшчыну. І было мне сорак пяць з паловай гадоў. Зноў сядзеў у турме, і зноў знікаў адтуль, не пакідаючы пасля сябе ніякіх слядоў, чым нямала выклікаў здзіўлення ў ахоўнікаў… А ў шасцідзясятых мне стукнула роўна сто, калі кэдэбэ завяло на мяне чарговую папку. На допытах шчыра дзівіліся, калі на розных папках былі розныя фатаграфіі.

Следчы, у чорных акулярах, як усё роўна інвалід па зроку, дапытваўся:

– Это вы?

– Я.

– А вот здесь?

– Таксама я.

– А вот на этом фото? Вы?

– Таксама я, хіба ж не бачыце?

Следчы ўскіпеў, ускочыў з табурэткі, забегаў па пакоі, закрычаў, размахваючы рукамі:

– Ты мне Ваньку здесь не валяй, умник, а то припаяю лет двадцать пять, тогда узнаешь!..

– Паяй, ты на гэта спец…

– А ты мне не тыкай, не тыкай, – распаляўся ўсё больш і больш следчы, уваходзіў у сваю ролю вяршыцеля людскіх лёсаў. – Свиней я с тобой не пас…

– А мо і пасвіў, толькі ты таго не памятаеш…

Міцька Звераў, так звалі кэдэбіста, спыніўся каля дзвярэй, павярнуўся да мяне і застыў, як укапаны – яго як быццам спалярушавала.

– Ты… ты… – задыхаўся ён у сваёй нянавісці да мяне, – ты еще пожалеешь, что так говорил со мной! Сгною в никелевых рудниках! На вечную каторгу выпишу билет!

– Злыя людзі і хлусы будуць жыраваць у зле, уводзячы ў зман і падманваючы самога сябе… А я буду ў тым, чаму навучаны, і што мне даверана, ведаючы, кім я навучаны; пры тым я з дзяцінства ведаю Святое Пісанне, якое мне і паможа выратавацца вераю ў Ісуса Хрыста…

Міцька глядзеў на мяне, як на прыдурка. Яму нават і шкода стала мяне, і ён, хмыкнуўшы, пакруціў пальцам ля скроні:

– Псих, ну что с тебя возьмешь… Но и психам также на всю катушку – и без всякого сожаления. Всё! Черненко! Забери этого придурка отсюда… Он молитвы начинает читать – верующего корчит из себя…

“Вунь яно што, – апамятаўся я, – думаў, што пра сябе чытаў словы са Святога Пісання, а аказваецца, што уголас…”

Мяне вывелі з кабінета следчага. Адвялі ў камеру. Мерыліся ранічкай зноў правесці допыты, але ўжо з прымяненнем метадаў катавання. А ноччу я збег. Прайшоў паўз Зміцера, які стаяў на калідоры і курыў. Хістаўся – быў п’яны: выпіў дзве малянкоўскія шклянкі гарэлкі ці спірту… Хто ж я цяпер, які выгляд маю? І колькі сёння мне гадоў?А мо я сёння юнак, падлетак?

На лесвічнай пляцоўцы сусед падазрона паглядзеў на мяне, калі я ўстрыкаў у шчылінку замка ключ, не ўтрымаўся, спытаў:

– Вы да Клімовіча?

– Не, Іван Трафімавіч, я да сябе. Хіба ж не пазналі?

Ён вырачыў вочы – голас мой, адзенне маё, і аблічча, мусібыць, прыйшлося яму недаспадобы. Ветэран крутануўся на адной назе, як на страявым пляцы праходзіў страявую падрыхтоўку, вымавіў дужа незадаволена:

– Понимаешь, театры тут устраивают… Мало им, националистам, над ветеранами издеваться, так они ещё и маски одевают. Не иначе, как грабежами занимаются…

– У тваю кватэру не палезу, калі буду рабаваць, – засмяяўся я, бо ў мяне не было ўжо ўчарашняй злосці на былога танкіста: што ж зробіш, калі чалавек хворы, невылечна хворы – у ім яшчэ і сёння сядзіць бацыла савеціка-дураваціка, і таму ніякія лякарствы, ніякія санаторыі, у якіх ён штогод ездзіць, не вылечаць: гарбатага толькі магіла выправіць…

Калі ж я, пераступіўшы парог кватэры, зірнуў на сябе ў люстэрка, што вісела ў калідоры, то, здаецца, ніякіх зменаў не заўважыў. Чаму ж тады не пазнаў мяне ветэран?Калі ж я выключыў святло і мельгам зіркануў зноў у люстэрка, то твар падаўся мне нейкім чорным – і быў я падобны на негра. Уключыў зноў – твар як твар. Выключыў – Патрыс Лумумба…

“Тады зразумела, чаму сусед казаў пра нейкую маску…”

6

У кватэры мне стала нуднавата: пачало прыгнятаць адзіноцтва. Мне падалося, што і столь апусцілася ніжэй – пачаў чапляцца за яе галавой, і сцены сціснулі плошчу кватэры – ад чаго зрабілася цесна і душна.

І кватэра падалася мне нейкай чужой, нават не кватэрай, а той камерай, у якую стараліся ўсё жыццё загнаць мяне зневажальнікі. Падалося нават, што не рамы на вокнах, а рашоткі, якія мяне і ўтрымліваюць па нечым загадзе ў гэтай камеры-карцэры… І дужа сумна стала без Мухіко, без яе гудзення, замаркоціўся па нашых размовах, па спрэчках… Пачынаў прывыкаць збольшага да адзіноцтва, калі пакінула мяне Яніна, звыкацца да свайго лёсу, навучыўся гатаваць сам сабе, мыць бялізну, займацца бытавымі клопатамі – адным словам, рознай драбязой, з-за чаго і нараджалася ў галаве меней дурных думак пра сваё адзіноцтва.

Мне яно, маё адзіноцтва, нават пачынала і падабацца. А тут зноў абавязак – прывязаўся да жывой істоты…

На другім канцы горада, у мікрараёне “Фестывальны” (так і па сёння не ведаю, чаму яго так ахрысцілі чыноўнікі ад улады) чакае мяне – днём і ноччу – Таццяна. Хто такая? Бібліятэкаркай працуе. Аднойчы запрасіла

па телефоне загадчыца бібліятэкі мяне на прэзентацыю маёй кнігі “Кунега кахання”. Думаю, што ўсё ж ініцыятаркай гэтай імпрэзы і была Таццяна, толькі падгаварыла сваю начальніцу пазваніць мне.

І было тое роўна праз год пасля таго, як з’ехала мая Яніна ў невядомым кірунку – дзень у дзень – дваццаць пятага верасня. Я чамусьці і абрадаваўся, што паклікалі мяне, бо быў такі настрой у той дзень, што хацелася напіцца, каб прыглушыць ці зусім забыцца на тое, што здарылася…

Я прыехаў у намечаны час – нават за паўгадзіны раней.

І чытаў свае вершы пра каханне, чытаў свае прытчы аб мроях, а неяк так само сабой атрымалася, што чытаў свае радкі адной той, якая сядзела каля акна пад пальмай-вазонам і неадрыўна глядзела на мяне, пранізвала цёплым позіркам, падтрымлівала мяне, падахвочвала чытаць і чытаць… І была яна падобна як дзве кроплі вады… на Яніну. Напачатку нават перапалохаўся, убачыўшы яе ўпершыню, – вочы, прычоска, нават і голас яскрава нагадвалі мне пра жонку.

– Таццяна Раманкова, – назвалася яна, і ў яе вачах люстравалася нявыказнае каханне і пяшчота, незапатрабаваная душэўная дабрыня. Ад яе зыходзіла жаноцкая жаданасць, цнатлівасць. Магутнай была ў яе ўнутраная энергія, якая прыцягвала да сябе, лашчыла мройным туманам, самаахвярнасцю, гатовая была падзяліцца ёю.

Усміхалася, і ў куточках вуснаў хавалася прыцягальная сіла, незвычайны магнетызм, а ў позірку было ці то пасміханне, ці радасць сустрэчы, ці таямнічасць яе сэрца… Як мяне зваць, яна ведала. І не толькі ад таго, як называла мяне загадчыца, але і этыкет патрабаваў, каб прамовіў і сваё імя.

– Антон. Антон Клімовіч.

Мы селі за стол у асобным пакойчыку.

– Таццяна, а на колькі разлічана нашая сустрэча? Якога часу прытрымлівацца мне, каб не стаміць слухачоў?

– Колькі? – ускінула яна броўкі, выгнула іх дужкай. – А мы і не планавалі, на колькі. Разлічвайце самі. Мусіць жа, не першы раз выступаеце?

– Добра, тады, як звычайны ўрок у школе. А там як падкажа сітуацыя.

Таццяна ў знак падтрымкі кіўнула.

Прыйшлі вучні двух класаў з суседняй школы – дзесяцікласнікі. У іх быў урок па беларускай літаратуры, і настаўніца рашыла яго правесці такім чынам. Я пастараўся не чытаць ім лекцыю ці даклад, а больш падахвочваў да пытанняў, каб наладзіць дыялог, а не маналог… Калі ж адчуў, што аўра цікавасці набыла найбольшую напружанасць і вось-вось пачне спадаць, я апярэдзіў той перыяд, і таму прамовіў апошняе пытанне – як на разітанне:

– Ці будуць яшчэ пытанні ў шаноўных слухачоў?

Зразумела, што пытанняў больш не было.

Аказваецца, яны ў кнігарні набылі маю кнігу, і цяпер хацелі, каб я падпісаў іх. Што я і зрабіў з вялікай ахвотай.

І яшчэ колькі хвілінаў доўжылася размова. Былі і пытанні, але ўжо прыватнага характару, нават інтымныя. Бялявае дзяўчо, Верка Шахрай, прасіла даць параду – кінуў яе хлопец, не хоча больш сустракацца. Мне ж хацелася сказаць: "А мяне кінула жонка, дык што ж нам, бедным, цяпер рабіць?" Але сказаў банальнае – каб слухала сваё сэрца, каб была заўсёды вышэй абставінаў, бо ў жыцці часта прыйдзецца рабіць нейкі выбар, адступаць, ісці наперад; што трэба ўмець перажываць свае інтымныя непаладкі, але не лічыць іх вялікімі трагедыямі… Не ведаю, зразумела яна мяне ці не, але, усміхнуўшыся, пакінула мяне самай апошняй…

І была потым водарная гарбата ў тым жа пакойчыку, і трое прыгажунь на чале з загадчыцай Веранікай Адольфаўнай частавалі мяне гарачым пахкім напоем, падлівалі яго час ад часу ў гліняны кубак. Самі пілі, смяяліся, і былі шчырымі, прыгожымі, дасціпнымі… А потым неяк хутка развіталіся, спаслаўшыся на нейкія пільныя клопаты, пакінулі нас адных.

Таццяна злёгку пачырванела, быццам прасіла дараваць, што так атрымалася, баялася, каб не падумаў, што так усё падстроілі яе сяброўкі.

– Вы не спяшаецеся? – удакладніла яна, адхлёбваючы гарбату, ледзьве дакранаючыся вуснамі да брыжыка кубка.

– Здаецца, не, – супакоіў яе, бо мне і сапраўды не хацелася нікуды спяшацца, адно, што паабяцаў свайму сябру драматургу Васілю Ткачову, што прыйду на прэм'еру яго п'есы…

П'ес у тэатры я не разумеў, нешта штучнае мне падавалася ў спектаклях. Гэта ў кіно герой робіць некалькі дубляў, і рэжысёр выбірае самы лепшы, а потым, склеіўшы стужку, аддае нам на суд… Пра тое я і казаў Васілю, і таму быў упэўнены, што ён не пакрыўдзіцца на мяне за маю няўвагу да яго твора… Мне было хораша побач з Таццянай. Зразумеў, што гэты вечар мне быў некім падораны, што ён быў для мяне замест лекаў ад маёй душэўнай хваробы, ад пякучай паразы ў каханні… Нешта падступалася да маёй душы – ці то асуджэнне маіх паводзінаў, ці папрок самому сабе ў тым, што я кінуўся ў вір ракі, не ведаючы глыбіні… Але я адкінуў сумненні і трывогі, махнуў на ўсе перасцярогі рукой – а, што будзе, тое і будзе, а што павінна быць, то тое не абмінеш… А потым, як змрок ахутаў горад, ішлі мы па прасторнай і ціхай вулачцы. Выходзіла, само-сабой, што праводзіў я яе дахаты.

– Вось тут я і жыву, – спынілася Таццяна, зірнула ўверх, на вокны і балкон, – і во мой другі паверх, і балкон з кветкамі…

У вокнах было цёмна. Значыць, дома нікога не было. Жыла адна? На рагу сцяны прымацаваная шыльда з надпісам – вуліца Кастуся Каліноўскага.

– То нядаўна гарадскія ўлады прычапілі – замест Камуністычнай, – растлумачыла яна, убачыўшы маё здзіўленне. – Вы і не ведалі?

– Шчыра кажучы – не…

– Калі ёсць жаданнеі час, і даруеце маю нясціпласць, то я хачу запрасіць вас на кубачак кавы… – у голасе была ці то натуральная лёгкасць, ці то шчырасць, а мо і жаданне прадоўжыць нашую размову, якая пачалася ў бібліятэцы, і якая нарадзіла цікаўнасць адно да аднаго, жаданне блізкасці, еднасці.

– Жаданне ёсць. І час маю. І таму не адмаўляюся ад запрашэння… Буду рады завітаць да вас.

Дзяўчына абрадавалася, што я не адмовіўся, што зрабіў крок насустрач.

– Тады – пайшлі?

– Пайшлі.

7

Раніцай, падаўшы кубачак кавы мне ў ложак, сказала:

– Я не ведаю, прыйдзеш ты больш да мяне ці не, але, калі будзе цяжка вось так, як учора, прыходзь – заўсёды буду радая цябе бачыць.

– Адкуль ты ведала, што мне было ўчора цяжка?

– Вочы пра тое твае гаварылі. І – голас. Але ніхто з прысутных тое не адчуў. Я настроілася на тваю хвалю і адчула неймаверны боль. Ён нарадзіўся ў цябе год назад. Ведаю, што не вылечыла цябе, але напалову ты пазбавіўся ад сваёй нудоты.

Вочы ў яе блакітна-зялёныя. Як ўсё роўна ў траве ля жыта раслі васількі. У голасе – адданасць. І – незвычайная пяшчота. Шчаслівы будзе той муж, якога яна пакахае. Яна нахілілася, пацалавала мяне ў вусны. У мяне было жаданне абхапіць яе і закінуць зноў да сябе, але патушыў у сабе такое жаданне. Ноччу яе пацалункі спапялялі мяне, падкідвалі да зораў і шпурлялі ў бяздонную прорву суседніх галактык, забівалі і зноў прымушалі нарадзіцца, каб адчуць слодыч яднання з жаночым сэрцам, з сусветам… І таму і яна выглядала нейкай іншай, была не такой, якой я ўбачыў яе на працы… І яна перарадзілася?

– Дзякую, Таццяна.

– У любы час прыходзь… У мяне, як ты ведаеш, да цябе нікога не было. І не будзе пасля цябе…

– Чаму так?

– Не скажу, любы… Навошта табе тое?

Яна выпрамілася, паправіла на стройным станіку белы шарсцяны світэрак, прычасалася перад люстэркам, заспяшалася:

– Пара мне…

Дакранула да ручкі дзвярэй, але перадумала адчыняць іх, вярнулася зноў да мяне, нахілілася блізка-блізка, зрэнкі ў зрэнкі, усміхнулася, прашаптала:

– Божа мой, і адкуль ты толькі ўзяўся на маю галаву? Ці не з планеты Ахутавана?

– А адкуль табе вядома пра гэтую планету? – падзівіўся я і пільна зазірнуў у яе вочы – адкуль дазналася?

Яна рассмяялася:

– З тваёй кнігі і даведалася. Прэзентацыя якой была ўчора.

– А-а, – заківаў я галавой, – я і забыўся…

Хаця, калі прызнацца, я не памятаў, ці пісаў у вершах пра Ахутавану. Значыць, забыўся, якія складаў вершы…

– Дзякуй табе за тое, што ў цябе ёсць такая цудоўная планета!

Далібог голас Яніны?! І вочы яе?! Яе?! Як такое можа быць, Божа? Звар’яцець можна. Як хто здзекуецца з мяне.

– Усё, дарагі! Я пабегла! Сняданак на стале. Бывай!

І выпырхнула птушкай з хаты, такая лёгкая і мройная, як з паветра сатканая. Чуў потым, як абцасікі яе туфляў адбівалі па бетонных прыступках нейкую знаёмую мелодыю… І здавалася, што я чуў яе часта і да гэтага, і ў душы было хваляванне, калі я чуў тое…

Не вытрымаў, падняўся, адхінуў жоўтую фіранку і паглядзеў на дарогу. Гаспадыня кватэры лёгка і хутка крочыла па асфальце. Як плыла ў запаволеным рытме… Азірнулася – як ведала, што буду праводзіць позіркам, – памахала рукой, паслала паветраны пацалунак. Я адказаў ёй тым жа.

Толькі цяпер я агледзеў яе жытло. Звычайная аднапакаёўка. Акурат такая ж, як і ў мяне, толькі неяк “навыварат”, як у люстэрку. У мяне ложак стаяў амаль каля акна, у яе ж – каля сценкі. І шафа іншая, і кнігі іншыя, і малюнкі на сцяне… І пры гэтым нешта было блізкае і роднае, адчуванне было такое, што я тут, ці недзе ў іншым месцы, бываў не адзін раз, і было мне хораша і соладка ў такой утульнасці… Пахі ж і аўра кватэры напаміналі пра шчымліва-салодкае і напаўзабытае, якое прайшло паўз мяне, скрозь мяне, пранізала і пакінула на сэрцы ці то рубец-ранку, ці то светлую адмецінку…

Як той невядомы мудрэц казаў – і хочацца, і колецца… Так цяпер і ў мяне: і пакідаць утульнасць не хацелася, і клопаты неадкладныя клікалі да сябе. А было сараматлівае жаданне-пажаданка заваліцца зноў у ложак, заплюшчыць вочы – і ляжаць так цэлы дзень – ляжаць-ляжаць-ляжаць – і ні пра што

не думаць, выкінуць усё лядайкае са сваёй галавы – розныя клопаты і трывогі, а толькі чакаць-мроіць, калі прыйдзе-вернецца з працы Таццянка, калі абдасць гарачым полымем неўтаймаванага кахання і ахіне сваім пяшчотным крылом, прымусіць забыцца пра ўсё-ўсё на свеце.

І тады ж нарадзіліся нечакана і міжволі прошана-няпрошаныя радкі:

*Цалую твае грудзі,*
*цалую твае вочы…*

На душы, адчуў, стала лёгка, павесялелым чалавекам пачаў я пачувацца, светлы настрой падымаўся ўсё больш і больш. Нейкі цяжар і недаўменне спалі з мяне, і тады новая прыйшла да мяне палёгка.

“Чараўніца Таццяна, няйначай, – адзначыў пра сябе, ідучы на кухню, каб прыгатаваць кавы. – Калі і бывае чалавек шчаслівы, то толькі ў такія імгненні…”

Кава яшчэ больш падбадзёрыла, настроіла на дзелавы лад. На падаконніку ляжаў агульны сшытак у зялёнай вокладцы. Захацелася прадоўжыць верш, які нараджаўся ўва мне, прасіўся на волю:

*Цалую твае грудзі,*
*цалую твае вочы…*
*Такога больш не будзе,*
*не будзе такой ночы, –*
*вар’яцкай і салодкай,*
*пякельнай і віхурнай,*
*і доўгай, і кароткай,*
*адзінай, непаўторнай…*
*Бо дзе ж такое ў свеце –*
*такое й не прысніцца:*
*сярэдначы – памерці,*
*а з сонцам – нарадзіцца…*

8

… І дзень, і два, і тры праляцелі як адзін дзень, як адно імгненне, як усё роўна знічка чыркнула па краі неба і патухла ў бясконцым акіяне prасторы… На маім стале ляжала чорненькая каробачка – далькажык ад Саямы. Ніхто не падаваў мне ніякіх сігналаў. Я ж сам не набіраў яго – не хацеў прыспешваць падзеі, тым больш была дамоўленасць, што ён першы падасць голас. І на чацвёртую ноч, пад раніцу, калі пасля бяссоннай ночы мяне нарэшце ахапіў глыбокі сон, забулькацеў над вухам сігнал – меладычна, нават пяшчотна, як бы просячы прабачэння за пабудку.

Я націснуў зялёную кнопачку. І адразу пачуў знаёмы голас з далёкага паўвострава:

– Хопіць спаць, Антон сан!

Голас у Саямы вясёлы, як заўсёды, перамешаны на жарціках. Здавалася, у яго ніколі ў жыцці не было цяжкіх і трывожных хвілінаў, што ўсё яго існаванне было сплецена толькі са светлых і мажорных колераў…

– Ужо не сплю, Саяма сан! Добры дзень!..

– І табе добрай раніцы, Антон сан! Выканаў тваю просьбу. Мне прыйшлося трошкі ўдасканаліць тое, што ты прасіў. Зрабілі Мухіко невялічкую аперацыю. Нейкі час яна праходзіла рэабілітацыю, цяпер паправілася, стала дужай і здаровай. Цяпер ёй ніякі верабей ці павук не зможа прынесці шкоду. Але пра ўсё яна табе раскажа сама, як прыляціць.

– Дзякую. І дзе яна цяпер, Саяма сан?

– Тут. Побач. Хочаш пагаварыць з ёю? Калі ласка.

Павіталіся. Найперш распытала пра мае трывогі і клопаты. Удакладніла, ці ўсё я зрабіў так, як яна загадвала. Парадавалася за мяне.

– А ў цябе выдатны сябар, Антон сан! Мы паразумеліся з ім. Цяпер ты мяне не пазнаеш. Ён мяне нашпігаваў такой апаратурай, што ўся тэхніка кэдэбэ і цэрэу, разам узятыя, не ідзе ні ў якае параўнанне з тым, што я маю на сабе. Так што нас з табою чакаюць наперадзе вялікія справы!

– Калі прыляціш?

– Вылятаю заўтра – першым рэйсам на Варшаву. Ноччу павінна быць.

– Сустракаць на аўтавакзале?

– Ды не, не трэба. Цяпер я няўлоўная для ўсіх. Адзінае, не зачыняй фортку.

– Добра, Мухіко сан!

– Мне не церпіцца паказаць свае здольнасці. Хочаш паглядзець, што я цяпер магу?

– Хачу.

– Добра.. Тое, што я буду бачыць, будзеш бачыць і ты. На экране тэлевізара.

Яна ўзляцела высока-высока, і я ўбачыў Токіо зверху – з вышыні птушынага палёту. Найперш – высотныя гмахі-дамы, аркі, масты… Усё – у роўнай суразмеранасці і размеранасці, у строгіх прапорцыях, – усё выглядала акуратна і прадумана.

– Бачыш усё добра, Антон сан?

– Бачу, і ўсё вельмі ўражвае…

А потым аб’ектыў мікравідэакамеры быў скіраваны на іншыя аб’екты. Нейкі багаты палац – вазы, кветкі, дзявочыя галасы, смех. На экране паказаліся голыя прыгажуні. Аб’ектыў буйным планам выхапіў ружовыя плямінкі

акругленых узгоркаў, твар, вочы… Прыгажуні і не падазравалі ні пра што, бесклапотна вялі свае гутаркі.

– Падабаецца? – аператар ужо, мусіць, здзекавалася з мяне, здаецца, нават хіхікала…

– Ну, мм… ммм…

– Падабаецца, падабаецца, ведаю, што ты стары распуснік. Хто ж скажа, што яны непрыгожыя?

Потым аператар здымала вуліцы і праспекты. Вагон электрычкі – сядзелі і стаялі людзі, гаварылі між сабой. Лілася ціхая мелодыя. На экране зноў новы відарыс – нешта накшталт дзіцячага садка: дзеці згуртаваліся купкамі і спявалі песні. У кожнага быў зялёны з жоўтым колерам веер – дзеці паказвалі, як летам гуляе вецер…

Шмат чаго цікавага я пабачыў вачыма аператара Мухіко.

Чуў званы Херасімы і Нагасакі, і яны галасна пераклікаліся са званамі Чарнобыля. І мінорна-хаўтурны гул, як набат, быў падобны на боль нашых спакутаваных ад бязладнасці сэрцаў…

Потым Мухіко прыляцела зноў да Саямы, уселася на шафу – і адключылася ад мяне.

– Ну, задаволены зробленым? – пацікавіўся Саяма, седзячы на падлозе, падабраўшы пад сябе ногі.

– І зробленым, і ўбачаным. Усё ўбачанае – цуд! Казка! Не ўяўляў, што такога можна дасягнуць і на такое здольны чалавечы розум.

– Я вельмі рады, што дагадзіў табе. Адна парада і пажаданне – мой даручанак выкарыстоўвай толькі на карысць сваёй бел-чырвона-белай дзяржавы. І таму – жыве Ліцвінія!

– Жыве! – крыкнуў я, абрадаваны таму, што Саяма перажывае за лёс маёй радзімы, такім чынам, робіць унёсак у адраджэнне маёй сінявокай Ліцвіні.

Экран патух, хаця я яго не чапаў – не ўключаў і не выключаў – але перад гэтым высвецілася заставачка з Пагоняю ў цэнтры.

“Яго, Саямы, работа? – цёпла падумаў я пра сябра. – Дзякуй за гэта. Ведае ж, што нам усім даспадобы такі лагатып…”

Экран-дысплей зноў загарэўся і высвеціў твар Саямы.

– Антон сан, я і забыўся сказаць яшчэ пра адну рэч. Ведаю, што не глядзіш дзяржаўную тэлевізію, і правільна, бо з чужымі мелодыямі . Таму ёсць незалежнае вяшчанне, якое вядзецца з другой галактыкі – з планеты Ахутаваны. Перадача чыста ліцвінская, якая адначасова і лечыць, абдужвае, настройвае на добрыя ўчынкі. Перадача з пяці тэмаў – духоўная, культурная, літаратурна-драматычная, гісторыя Ліцвініі і – Каханне…

– Такога падарунка мы і не чакалі.

– Ведаю. А каб уключыць яе, набяры на табло пароль Ліцвініі.

– Жыве Радзіма? – здагадаўся я. – Так?

– Так, Антон сан! Правільна. Поспехаў! Перамог!..

9

Каб скараціць час, каб прытушыць маленькі неспакой і ўзрушанасць пасля размовы з Мухіко і Саямам, рашыў узяцца за пэндзаль.

Чамусьці захацелася маляваць японскія пейзажы – дахі дамоў з загнутымі ўверх канцамі, з дзівоснымі канфігурацыямі і незвычайным дойлідствам. Горы маляваліся са снежнымі вяршынямі, японскія жанчыны ў святочным кімано, Вялікі Буда… Чаму мяне захапіў той дзівосны край, і сам не ведаю, але прыцягваў ён мяне кожны дзень з новай і неадольнай сілай… Стаяў за мальбертам тры гадзіны, пяць, восем…

Зваліўся на канапу недзе пад раніцу. Нават да выключальніка рука не дацягнуўся – так і заснуў з запаленым святлом, не распранаючыся, апаражніўшы за ўвесь час працы каля мальберта дзве пляшкі сухога малдаўскага віна…Стома была жаданай і прыемнай, таму і сон быў мой глыбокі і моцны. Снілася, што гуляў па беразе Японскага мора разам з Саямам, а на плячы ў мяне сядзела апаратар Мухіко і, жмурачыся ад сонца, грэлася на цёплых промнях, напявала напаўголасу нейкую, толькі ёй адной і зразумелую, песеньку...

І яшчэ сем сутак я чакаў Мухіко.

І зразумеў, што яе напаткала бяда.

“Значыць, не ўбераглася, – шкадаваў яе. – Значыць, Саяма нешта не разлічыў, адпраўляючы яе ў зваротны шлях…”

“ І няпраўда твая, і як толькі ты мог пра такое падумаць? – абурылася госця, пачуўшы мой скрушны голас і мае перажыванні. – Я ж тут ужо… З ночы тут. Адпачываю цяпер”.

“А дзе ж ты столькі прападала?! – я павысіў ужо, здаецца, на яе голас, каб суняць свае перажыванні. – Адкажы мне, Мухіко?”

“Гісторыя банальная, але і не смешная. Схавалася аднаму прыдурку ў чамадан, каб адпачыць, гэта ў самалёце – паміж Менскам і Гомелем – прызнавалася і вінавацілася апаратар, – а ён зачыніў мяне на ўсе замкі. А адкрыў вечка толькі тады, як спатрэбілася яму ўзяць неабходныя рэчы… Сама вінаватая. Прытупілася пільнасць. Ну ды ладна. Ты тут як без мяне?”

“Нудзіўся і перажываў, што выправіў цябе ў такі далёкі шлях”.

“Дарэмна перажываў. Я ў парадку”.

“А дзе ты цяпер?”

“На люстры адпачываю. Хочаш паглядзець на мяне зблізку?”

“Хачу”.

Мухіко пакінула люстру, зляцела ўніз. Села на рукаў сарочкі. Пашавяліла крыламі, пакруціла вачыма і – знікла.

“Я не знікла, я злілася з колерам сарочкі, – патлумачыла муха. – Саяма так пастараўся, каб я была няўлоўнай, каб мне нішто не пагражала. Пакладзі на стол чысты аркуш паперы – і ты лепей разгледзіш мяне…”

На паперы і сапраўды стала яе лепш бачна. Але я не заўважыў асаблівых пераменаў – на ёй не было нічога пабочнага, што магло б кінуцца ў вочы. Хіба што  паміж вачэй свяцілася ледзь прыкметная кропачка – зялёнага колеру.

“У гэтай мініяцюрнай кропачцы і закладзена ўсё начынне, – патлумачыла зноў  разведчыца-падарожніца на ніве адраджэння, пакруцілася на адным месцы, як патанцавала. – Там і відэакамера, і мікрафоны, і ўсё астатняе… Ды ты і сам усё зразумееш”.

“Цікава…”

“Вось і я кажу, што цікава… Прачытаеш мне сёння, Антон, на ноч пра камара і муху, што прыдумаў Максім?”

“Прачытаю, абавязкова… Ты скажы мне, як там было ў Японіі?”

“Дужа цікава. Пакуль ляжала падчас рэабілітацыі, то і паспела вывучыць японскую мову. Цяжкавата было, але нічога. Не складаней, чым кітайская…”

“А што – ты і кітайскую ведаеш?”

“Што ж тут дзіўнага? Чаму ты так здзіўляешся? Як жа я буду размаўляць з людзьмі, калі лёс закіне мяне ў далёкія краіны?”

“Пра тое я і не падумаў, – прамовіў сур’ёзна, каб не пакрыўдзіць падарожніцу, – сапраўды існуе праблема яднання і ўзаемаразумення…”

“Антон, а хто мне будзе выплачваць камандзіровачныя? Я ж столькі сутак галадала – і макавага зярнятка ў роце не было…”

“У якой валюце жадаеш атрымаць? – мяне разбірае смех, але я не выдаваў сябе. – У далярах ці зайчыкамі?...”

“У салодкай валюце… Хаця б сіропчыкам якім пачаставаў мяне, га?”

Жарт мой быў няўдалы. Я ўстаў, адчыніў халадзільнік і ўзяў бутэльку з сіропам.

Капнуў колькі кропель на паперу і занёс на люстру. У пакоі стала ціха. Нішто больш не парушала мой спакой. Злавіў сябе нечакана на тым, што мною авалодала жаданне пачуць голас бібліятэкаркі Таццяны. Накруціў на дыску патрэбныя лічбы, слухаў доўгія поклічныя гудкі.

– Алё, слухаю вас!

– То я, Таццяна. Добры дзень. Захацелася пачуць цябе. Які маеш настрой?

– Працоўны. Шмат клопатаў, шмат інструкцый дасылаюць нам – быццам бы не ведаем, як трэба весці сваю ж працу.

“Мусіць, не спытае, калі я праведаю яе, хаця па голасе можна здагадацца, што чакае, калі сам прапаную сустрэчу…”

– І я ўвесь у працы. Таму і не прыязджаў. Але на тым тыдні, на пачатку яго, хацеў бы праведаць цябе. Калі што не перашкодзіць.

– Няхай ніхто не перашкодзіць.

– Няхай. Тады – цалую.

– І я цябе.

“Крыўды ў голасе не чуваць. Няма і папроку нават. Хоць пазваню праз паўгода, хоць праз год ці дзесяць, то голас будзе такі ж самы. Што за чалавек яна такі, Таццяна? На чым жывіцца яе вера і ўнутраная спакойнасць? Ніколі, мусіць, мне не зразумець, не распазнаць яе душу. На вякі вечныя яна застанецца для мяне загадкай, складанай формулай, ураўненнем з дзевяццю невядомымі…”

## ***Частка чацвёртая***

### 1

Цягнік прыбыў рана – а шостай гадзіне.

Правадніца пабудзіла за гадзіну да прыбыцця – таму і паспаць якую гадзіну-дзве не ўдалося. Ніколі не магу заснуць у вагоне, як ні стараюся тое зрабіць. Ці то ляскатанне колаў аб стыкі рэек, ці прысутнасць вакол чужых людзей, ці якія іншыя прычыны перашкаджаюць, не ведаю…

З прыгнечаным настроем выйшаў з вагона. Адзіны прытулак для тых, хто прыехаў і каму яшчэ рана ісці па сваіх клопатах, новая забудова каля вакзала, – так бы мовіць – пачакальня. Іду па гафрыраванай дарожцы – пад гару, і здаецца, што наваколле нахілілася, а сам я іду правільна – гарызантальна… Я правільна, толькі ўсе няправільна ідуць наперад. Акурат як у нашым жыцці. Паміж лаўкамі, на якіх спалі-драмалі пасажыры, прахаджваліся міліцыянты – у кожнага з іх звісалі з папругаў важкія гумавыя дубінкі.

У жываце пасля ляжання забурчэла. Я падышоў да маладжавага хлопца – з вусікамі, з чорнымі вачыма, але са строгім выглядам, папытаўся:

– Скажыце, калі ласка, а ці ёсць тут дзе прыбіральня?

Ён пільна спыніў на мне свой позірк, агледзеў з ног да галавы, насупіў бровы і строгім голасам спытаў:

– А почему вы разговариваете на белорусском языке?! Бэнээфовец? Опять собираетесь в шайкі, чтобы устроить бойню?

– Я – беларус. І мова мая родная – беларуская. На ёй і размаўляю. А што – ёсць забарона?

– А значок почему бэнээфовский носите? Нарушаете государственную символику!

– Гэта штандар Вялікага Княства Літоўскага, і змагаліся пад ім супраць расейскіх прыгнятальнікаў Касцюшка і Каліноўскі, якія…

Але міліцыянт не даслухаў маіх довадаў і пярэчанняў – з усяго размаху ахрысціў мяне дубінкай – ды прама па галаве, што аж іскры заскакалі перад вачыма. Я закрыўся ад яго рукамі, каб не прапусціць наступны ўдар, але ён яшчэ больш імпэтна пачаў працаваць гумавым дручком…

– Ды што гэта робіцца, людцы добрыя! – успляснула рукамі жанчына, што стаяла побач. – Так і забіць можна чалавека… Што ён табе такога гідкага зрабіў, што так дубасіш яго, га?

Міліцыянт і цётку агрэў дубінкай. Яна войкнула, але не спужалася – раззлаваная несправядлівасцю, што разгортвалася на яе вачах, рынулася на крыўдзіцеля, піхнула яго так, што ён паляцеў на людзей, што сядзелі на лаўках, упаў на іх. Усчаўся вэрхал. На дапамогу міліцыянту прыбеглі яго сябрукі, пачалі ўсе разам малаціць усіх, хто быў побач – без разбору, спаганяць на іх сваю незразумелую злосць. Людзі ўскочылі і рынуліся на вартавых парадку – завадатараў беспарадкаў…

Хлопцы, трэба аддаць належнае, адчайна працавалі дубінкамі, махалі імі, як некалі мячамі паўстанцы-гладыятары, – раздзялілі людзей "клінам", урэзаўшыся ў грамаду, нахабна і жорстка малацілі па галовах, бы боб малацілі цапамі, – пусцілі некаму чырвоную юшку, некага павалілі на зямлю, тапталі ўжо сваімі тоўстымі падэшвамі скураных ботаў і чаравікаў з кароткімі халяўкамі…

– Гвалт, людзі! – закрычала ўжо жанчына, не могучы стрымаць мужчынскі націск міліцыянтаў – у яе пад вокам быў сіняк, распэтланая, разгубленая, нічога не разумела, што адбывалася, што тварылася на вачах у людзей. – Ды што гэта творыцца, Божа? За што нам такія пакуты і здзекі? Сынкі мае! – звярнулася непасрэдна жанчына да іх. – Вы ж сваю родную матулю збіваеце, радзіму сваю збіваеце!

Адзін з міліцыянтаў зноў паласнуў па галаве жанчыну чорнай гумай, потым па плячах, па спіне, зноў па галаве. Жанчына ўпала. Я падбег да яе, падхапіў пад пашкі. Яна, здаецца, знепрытомнела.

Новы ўдар гумы прыйшоўся па маёй ужо галаве. Ударыў той жа, у якога я і папытаўся напачатку пра прыбіральню – ударыў моцна, з адцяжкай,

з выдатным веданнем сваёй справы па збіванні свайго ж народа… А мо і не свайго, а чужога, бо шмат набралі на службу іншаземцаў – з усходу, тых жа макашоўцаў і баркашоўцаў… Той жа міністр замежных справаў Антановіч быў з чужых – не меў нават ліцвінскага грамадзянства!

– Вот тебе за твой белорусский язык, вот тебе за БНФ! Скрутить ему руки, в райотдел милиции. За нарушение общественного порядка. За призыв свержения власти!

Ён ужо чотка і завучана, як надрэсіраваны цюцька, падаваў каманды.

Яны перамаглі народ, церпячы на вачах таго ж народа паразу, паказваючы свой сапраўдны твар, дэманструючы на іх вачах беззаконне і бязмежную абмежаванасць у ацэнцы таго, што яны тварылі… Адчуваючы бязгрэшнасць і беспакаранасць сваіх дзеянняў і паводзінаў, яны паказалі, што самі былі сапраўднымі грэшнікамі на сваёй жа зямлі.

Везучы ў “уазіку”, мяне яшчэ больш жорстка збілі, – ніхто з людзей і не бачыў тое. Адзін з міліцыянтаў-паліцыянтаў шаптаў-шыпеў на вуха:

– Мы вас, белорусских националистов, передушим по одному, чтобы вы зареклись на столетия от своего сувернитета, от своего мужицкого языка. Есть один – великий и могучий – русский!..

Збіты быў я на горкі яблык. У роце было солана, быццам нажаваўся таранкі і не мог яе праглынуць. І зноў звярнуўся ў малітве да Вышняга, прасіў дараваць мне грахі мае і правіны. Мяне кінулі ў камеру без паветра, бы ў свінарнік, дзе бегалі па сценах і столі тлустыя і шустрыя тараканы.

Божа, Божа, хіба ж ведаў, што можа такое адбыцца? Сам жа вінаваты, што раней не звяртаўся да Цябе, не прасіў помачы… Аглядваючыся назад, у сваё далёкае і блізкае мінулае, аналізуючы свае ўчынкі, крокі, жаданні, ацэньваючы сваю прафесійную дзейнасць, прыходжу яшчэ і яшчэ раз да высновы: сорамна і крыўдна, горка і непрыемна ад таго, што так доўга ішоў да Цябе, Ісусе Хрысце!

Памілуй мяне, Божа, даруй мне грахі мае і глухату маю, слепату і абыякавасць, што так доўга спаў і не мог прачнуцца! А колькі разоў Ты ратаваў мяне, адводзіў ад мяне бяду, вырываў з лапаў смерці… Не ведаў, што Ты быў заўсёды побач, амаль за руку вёў мяне ў заўтрашні дзень, вучыў, дакараў за памылкі, выпраўляў перада мною крывую сцежку, каб я не збіўся з абранага шляху.

У той далёкі дзіцячы час, калі быў у пятым класе, купаўся ў Беразіне – каля самага Бабруйска. Ныралі з хлопцамі – хто глыбей дасць нырца і даўжэй пратрымаецца пад вадой. Нырнуў – і зачапіўся трусамі за нейкую патырчаку, як ні спрабаваў адчапіцца, нічога не атрымлівалася… Напалохаўся страшэнна, і думкава паслаў у прастору сігнал бядоцтва: “Памажыце!..” Не ведаў, у каго прасіў дапамогі, таму ніхто і не мог пачуць мяне ў той

момант. Але… Як толькі я “адправіў тэлеграму SOS”, у той жа момант і адчапіўся ад нябачнага крука.

І тады я, Божа, аднёс сваё выбаўленне да чыстай выпадковасці, што ўсё адбылося само па сабе. Цяпер жа ведаю – не, не само па сабе, а па волі Тваёй, Госпадзе!

Яшчэ пазней, гадоў праз тры, там жа, на той Беразіне… З моста лавіў рыбу самаробным спінінгам – закідваў блешню з аднаго боку моста ў раку, а потым цягнуў да сябе. Але нечакана зачапілася за нешта, і мне захацелася паглядзець з другога боку – за што ж магла зачапіцца блешня? Толькі памкнуўся пайсці, як убачыў, што на мост на вялікай хуткасці ўз’ехала грузавая машына – лесавоз. Я нецярпліва дачакаўся, калі яна праедзе, і, дачакаўшыся, калі скончыцца борт, зрабіў крок наперад… Ступіўшы ўжо, падаўся нават наперад, убачыў, што да машыны на доўгай трубе прымацаваны прычэп і чорнае высокае кола насоўвалася, падскокваючы, прама на мяне… Яно пагатоў было ўрэзацца ў мяне, збіць з ног і раструшчыць ушчэнт… Тады, упершыню ў жыцці, я міжволі выдыхнуў:

– Божа!..

Я не паспяваў зрабіць крок назад, хаця б адхіснуцца, каб адхіліць галаву, хаця гатовы быў сустрэцца з самым страшным.

Запомнілася на ўсё жыццё: кола чамусьці запаволіла бег (было яно вышэй за мяне), і ў тое ж імгненне я знайшоў сілы адступіць назад… Кола прасвістала ля самага носа, апякло сваёй гарачынёй. Я, тут жа страціўшы сілу, асунуўся на зямлю. Доўга не мог ачомацца, а да свядомасці далятала горкая выснова – я ж быў на валасок ад смерці…

Адначасова з недаўменнем апанавала радасць, што застаўся жывы, але зноў жа не мог пэўна сказаць, Хто адвёў ад мяне бяду. Дзякуй, Вышні, даруй мне мае паводзіны і неразумнасць маю!

У дзясятым класе… За сем кіламетраў хадзіў у школу – праз балоты і лясы, у слоту і снегапад. Ішла на мае Крушнікі грузавая машына – цэглу везла. Калі папрасіўся ў Юзіка, каб падвёз, ён паказаў на цэглу, што была ўпоравень з бортам.

– Нічога, – паглядзеў на яго, – за кабінку трымацца буду…

Перад самай вёскай правае кола апусцілася ў выбоіну, а потым рэзка падскочыла правым бортам уверх. Мяне выкінула за борт. Злёгку ўдарыўся галавой і плечуком аб змерзлую зямлю. Але што дзіўна, упаў паміж мёрзлых глыбаў на чыстую пляцоўку. Калі б на мярзляк, то…

Знепрытомнеў, нейкі момант ляжаў, не адчуваючы ні болю, ні галавакружэння. Холад падняў мяне з зямлі. Я ўстаў і пайшоў… у адваротны бок, зноў у школу. А Юзік, і тыя, хто быў з ім у кабіне, не заўважылі, што згубілі мяне.

І тут Ты, Божа, падклаў пад мяне сваю мяккую і выратавальную даланю!Гэта я сёння ведаю, што гэта быў Ты, Ісус Хрыстос, – Слава Табе!.. Такіх выпадкаў, калі мяне аберагаў Бог, не злічыць.

Сабраліся групай у Польшчу. І ў Брэсце, на мытні, выйшаўшы з аўтобуса, паслізнуўся, і, падаючы, бачыў, што тварам апускаюся на бетонную глыбу… І ў поўнай свядомасці (мусіць, упершыню ў жыцці, спадзеючыся на дапамогу, як не крыкнуў: “Божа, памажы!” І ўпаў не на бетонную плаху, а побач з ёю, не адчуўшы ніякага болю. І тады ж, усвядоміўшы ўсё, прашаптаў: “Дзякуй Табе, Божа, што адвёў ад мяне бяду!”

Ніколі ў жыцці не спавядаўся. Ведаў адну жанчыну, Валянціну Башлакову, былую настаўніцу, пенсіянерку ўжо, якая пачала хадзіць у храм. Спытаў, як схадзіць на споведзь. Сказаў, што падчас споведзі хацеў бы святару расказаць пра свае грахі на роднай мове, ведаючы, што расейская царква не вітала такое. Абавязкова, параіла яна, прайсці трохдзённы пост, прачытаць малітвы. Ды і падказала яшчэ, да якога святара мне неабходна падысці – да айца Георгія.

Праз тыдзень я сустрэўся са святаром у храме, пазнаёміўся.

Голас яго мне падаўся незямным, спакойным і пераканаўчым. Са мной ніхто ў жыцці не гаварыў так пранікнёна і душэўна. Калі яму сказаў пра споведзь, ён усміхнуўся і сказаў, што гэта механічна зрабіць немагчыма, але параіў, калі я імкнуся да Госпада, то неабходна прайсці катэхізацыю, – і толькі пасля гэтага змагу зрабіць першую прыступку да Бога…

Вывучаючы, паглыбляючыся і асэнсоўваючы тэксты Бібліі, адкрываў для сябе з кожным разам новыя і новыя таямнічыя старонкі, якія раней для мяне знаходзіліся за сямю пячаткамі. А калі мы пачалі збірацца ўсе разам, праходзячы катэхізацыю, то нараджалася радасць, што знаходжуся сярод сваіх братоў і сёстраў, з якімі разам ішлі да Бога, і разам з імі хадзілі ў Храм, што чулі пад малітвы голас Бога. Мне здавалася, што я чую дакорлівы голас Айца, які існы ў небе, што так доўга марудзіў у рашэнні прыйсці да Яго…

Я ўдзячны Вышняму, што падарыў мне сустрэчу з айцом Георгіем, што я ўпэўнена сёння крочу па тым шляху, якая вядзе да Храма і Хрыста. Цяпер я не збочу з тае дарогі, па ёй буду крочыць усё жыццё.

Удзячны яшчэ Богу і за тое, што Ён падараваў мне і трэці перыяд катэхізацыі, – калі я пабыў на споведзі і пакаяўся ва ўсіх сваіх грахах, што прымаў Святое  Прычасце, што пачаў адчуваць сябе зусім іншым чалавекам. Бо сёння адчуваю, ведаю, што побач пастаянна са мной Святая Тройца, якая аберагала мяне і беражэ сёння ад усялякіх нечаканасцей, і не толькі аберагае, а і дае сілы для будучых дзён і здзяйсненняў.

*Ішоў я наперад нябачнай дарогай,*
*не адчуваючы сваёй слепаты...*
*Цяпер жа паверыў у Адзінага Бога,*
*і ў Хрыста, разам з Ім і ў Дух Святы...*

2

Ачуньваў доўга, лежачы на мокрай халоднай падлозе…

“Спадар Антон, як ты адчуваеш сябе? – праз тугую намітку забыцця данёсся нечы слабы голас. – Збілі моцна?”

“Хто… хто ты? – ледзь-ледзь працаваў мой мозг, дасылаў у прастору няволі слабыя штуршкі згасаючай энергіі. – Хто?..”

“Няўжо забыўся пра Мухіко?”

“Хіба ты тут? Я думаў, што ты засталася ў Гомелі”.

“Я ж таксама хачу паўдзельнічаць у Чарнобыльскім Шляху, як і ты, бо ў Херасіме і Нагасакі я прысутнічала…”

“Але ж мяне не хутка выпусцяць адсюль – я не змагу ўдзельнічаць”.

“Ты ж забыўся пра падарунак Саямы. Дзоры ты прыхапіў з сабою?”

“У сумцы…”

Трохі счакаўшы, калі пройдзе боль, калі праяснее мой розум і ў цела ўвальецца, вернецца хоць якая сіла, – я адшукаў сумку – ляжала ў цёмным кутку, у брудзе. Кашалька з грашыма, што быў ва ўнутранай кішэні пінжака, само-сабой, я не знайшоў, а тапкі-дзоры, на шчасце, былі на месцы. І спартовае трыко. І нават бел-чырвона-белы сцяг, што быў загорнуты, схаваны ў шэрую брудную майку, быў на месцы – як толькі не адабралі яго?

Скінуў чаравікі, паклаў у сумку, павесіў праз плячо, і усунуў у дзоры ногі. І адразу растварыўся, знік з зямнога жыцця, – стаў бесцялесны і лёгкі. Калі ж устаў з падлогі, то пад нагамі адчуў цвёрдае апірышча.

І – пайшоў, хістаючыся, з камеры. Скрозь дзверы, паўз ахоўніка-вартавога, потым праз таго, што шаптаў мне злыя словы, абяцаючы перадушыць тубыльцаў. На стале, за якім ён сядзеў і складаў на мяне пратакол, стаяла бутэлечка з фарбай-масцікай – для пячаткі.

Я выліў вадкасць яму на галаву. Па шчоках і за каўнер паплылі фіялетавыя раўчакі. Ён нешта адчуў, азірнуўся, не ведаючы, чаму мокрай стала галава.

Двое, што сядзелі за сталамі – насупраць яго, убачыўшы тое, не ведалі – смяяцца ці здзіўляцца, але папрасілі толькі, каб ён паглядзеў на сябе ў люстэрка…І тады ж пачуўся самы сакавіты, самы злы і вядомы расейскі мацюк, без якога не абыходзіцца амаль ні адзін чалавек на неабсяжных абсягах той

краіны. І мацюкі тыя вымаўляюцца толькі на “великом и могучем…” – без прымешвання чужых моваў.

А Мухіко лётала над столлю, была бязгучнай і нябачнай, а мне прамовіла:

“Я ўсё здымаю-фатаграфую… І пратакол засведчыла. Потым, калі будзе суд над імі, гэта і шмат іншых эпізодаў будуць яскравым доказам праявы іх жорсткасці…”

Начаваў я ў Віктара Казько. І цэлую ноч Ніна, яго жонка, прыкладала мне прымочкі да пакалечанага твару, паіла нейкімі гарачымі адварамі…

– Ты як на вайне пабыў, – горка пажартаваў сябар.

– Горш, – паправіў я яго, – але пабачыў на свае вочы, на сваёй спіне адчуў… А ты хочаш паглядзець, як гэта ўсё было?

– Як – паглядзець? – не разумеў празаік, былы дзетдомавец, на шыю якога таксама галвераўцы жадалі накінуць пятлю, ды не ўдавалася ім тое зрабіць – магутны і непераможны быў паляшуцкі дубок.

– А па тэліку… Мухіко, ізабразі, шаноўная жэншчына, пакажы клас…

Успыхнуў экран без уключэння, паказалася застаўка, а потым – гармідар у пачакальні, дзе міліцыянты збівалі і мяне, і людзей…

Пахмурнеў твар у палешука, уздыхала яго жонка. Апаратар адначасова рабіла і мантаж, так што непатрэбныя дэталі не паказваліся, і сам сюжэт ішоў лагічна і не задоўжана…Потым я падыходзіў да дзвярэй пад’езда, націскаў кнопачкі кода, потым ліфта. Калі ж націснуў кнопку званка іх кватэры, тады ж пагас экран і адключыўся тэлевізар.

– Дурдом, – заключыў аўтар пятнаццаці раманаў, якія ўпрыгожылі сапраўдную ліцвінінскую літаратуру. – Вар’яцтва!

Раніцай я быў гатовы стаць у агульную шарэнгу чарнобыльцаў – удзельнікаў мітынга “Чарнобыльскі Шлях”… А ўвесь час, як ляжаў і корчыўся ад невыноснага болю, як засынаў, думаў пра сябе: “Вось такія яны – лжэапосталы, лукавыя і хцівыя “дзеяцелі “, якія прымаюць выгляд Апосталаў Хрыстовых “для прастога народа”. Таму і не дзіўна: сам сатана прымае выгляд Анёла Свету. А таму і не вялікае дасягненне, калі і служкі яго прымаюць выгляд служкаў праўды; канец жа іх будзе такім, якім яны яго сабе і падрыхтавалі”…

Кожнаму – сваё. Хто шукае будучыні чорнымі шляхамі і спробамі – той і атрымае такое ж чорнае пакаранне. Бо нічога не праходзіць бясследна…

... Сонца то хавалася за белыя аблокі, то зноў вынырвала з іх, – і тады ўжо шчодра кідала свае промні на зямлю. Калона дэманстрантаў рухалася павольна па праспекце Францішка Скарыны. Шкада, што не было побач Вікта-

ра – з раніцы трэба яму было наведацца ў бальніцу – на абследаванне: падводзіла сэрца… Людзі неслі бел-чырвона-белыя штандары, іконы з Хрыстом і Божай Маці, Пагоню, партрэты слынных сыноў і дачок Ліцвініі, транспаранты з заклікам і патрабаваннем спыніць беззаконне і генацыд супраць свайго ж народа… Вакол – шмат вядомых людзей. Пісьменнікі і вучоныя, інжынеры і кіраўнікі прадпрыемстваў, рабочыя, студэнты – і проста людзі, якім неабыякавы лёс сваёй Радзімы. Твары ва ўсіх урачыстыя, асветленыя значнасцю падзеі, радасныя ад таго, што адчуваюць плячо адзін аднаго, што яны – сіла, што яны не “кучка народа”, як сцвярджалі галвераўцы, а грамада, а тую грамаду дзядзька Якуб клікаў “на прастор, на шырокі разлог…” Сярод нас і ветэраны Другой сусветнай, з ордэнскімі планкамі на грудзях, былыя камуністы, якія парвалі са сваім чорным мінулым, – знайшлі сілы прыйсці да Бога; крочылі юнакі і дзяўчаты, старыя і маладыя, – прыехалі з Хойнікаў і Брагіна, Нароўлі і Чачэрска, прыехалі з Украіны, сталі поплеч, – здавалася, што ўся Беларусь-Ліцвінія выступіла на абарону сваёй годнасці… Ішлі амаль моўчкі. Але гэта была не хаўтурная працэсія, не мы хавалі сваю радзіму, – гэта мы ў агульным маўчанні праклiналі тых, хто надзеў наручнікі свайму ж народу, запіхаў у рукі кляп лепшым прадстаўнікам яго, – і супольнае наша маўчанне гучэла набатам-прысудам дыктатарскаму рэжыму…

“Антон, – дакладала мне па-ваеннаму аператар, – на ўскраіне Менску стаяць бронетранспарцёры, процьма салдат і паліцыі… Сярод іх шмат расейскіх салдатаў, якіх запрасілі, таму яны так і ірвуцца адпрацаваць заробленыя грошы, як тыя сабакі рвуцца з ланцугоў, каб накінуцца на безабаронных людзей… Акрамя гэтага я злётала ў Міністэрства ўнутраных спраў. На стале загад пра сённяшнія падзеі. Сёння павінны распачацца беспарадкі. Іх павінны ініцыяваць правакатары…”

“Зразумела. Будзем мець на ўвазе.”

“А ў тым жа загадзе ёсць пункцік-дадатак, дзе сказана, што правакатарамі будуць макашоўцы, якія будуць несці бел-чырвона-белыя сцягі – як быццам хлопцы з трактарнага завода. Яны пачнуць кідаць камені ў міліцыянтаў. Яны таму так і апрануліся, што і гарматай іх не праб’еш… Але для здымкаў дзяржаўнага тэлебачання і прэс-службы адміністрацыі падрыхтаваны міліцыянты, якія будуць мець выгляд пабітых і акрываўленых – грым што трэба наклалі на іх… Смех дый і годзе. Тыя ж макашоўцы-баркашоўцы будуць і пераварочваць міліцэйскія легкавікі, біць прэнтамі вокны…”

“А дзе яны цяпер, Мухіко?”

“Ідуць ззаду цябе, праз тры рады. Іх трое. У сярэдняга сумка на плячы. Жоўтая. А ў ёй – камянюкі і металічныя прэнты”.

Я падышоў да знаёмых хлопцаў, шапнуў на вуха аднаму з іх:

– Трэба разаблачыць трох правакатараў. Яны позаду нас ідуць. Трэба адабраць ад іх сумку з камянямі і выгнаць з калоны…

Мы трохі адсталі, падышлі да іх ззаду. Я скруціў сярэдняму рукі назад, сарвалі з пляча сумку – важкую, пад пуд вагой. Двое сябрукоў паспрабавалі ўцячы, але ім падставілі падножкі, і яны пакаціліся па зямлі – да тратуара. Я высыпаў змесціва сумкі ім на галовы – з каменнем, з жалязякамі, гайкамі… Потым нехта надзеў ім наручнікі – і іх павялі ў невядомым кірунку… Але пра тое будзе ведаць аператар. Акцыя правакатараў правалілася. Дзякуючы пільнасці і ўмелым дзеяннем Мухіко. Зразумела, што заслугоўвае вялікай узнагароды, але якой?

"Працую я не дзеля ўзнагарод, мне б толькі бачыць родны край і вольным і шчаслівым! – вясёла прадэкламавала аператар. – Вось так!"

"Чые гэта радкі? А мо твае, прызнайся?"

"А што? Чаму я не магу быць яшчэ і паэткай?.."

Яна насілася з аднаго месца на другое, фіксавала падзеі, пісала-здымала ўнікальную гісторыю-біяграфію нашай невясёлай сучаснасці. Пісалася ўсё тое на мікракасету, якая магла ўмясціць ў сабе мільёны кіламетраў магнітнай стужкі, і сюжэты можна было глядзець у любы час і на любым тэлевізары.    Дарогу нам перагарадзіў кардон міліцыі. Насупленыя твары, бяздумныя позіркі, глухія і безуважныя.

У кожнага ў кішэні для нас падрыхтаваны падаруначак – "Букет чаромхі". Калі будзем на іх наступаць, то яны папырскаюць нас салодкімі і водарнымі духамі, мо і прыемнейшымі чым "Шанэль". Каб упалі мы на зямлю і адразу задрыгалі сутаргава нагамі. І вынішчаць яны нас як тараканаў. Бо мы для іх нелюдзі, мы для іх "кучка людзей", якія "мяшаюць" дыктатару весці сваю гнюсную справу па знішчэнні дзяржавы…

Пачаў абурацца і нешта даводзіць палкоўніку міліцыі Станіслаў Шушкевіч, да яго падышоў і Вінцук Вячорка, спрачаўся воддалеч з юнаком у форме невядома якога звання Сямён Шарэцкі, побач стаяў Юры Хашчавацкі…

– Жыве Ліцвінія! – пачалі крычаць дэманстранты.

Валянціна Коўтун несла абраз Еўфрасінні Полацкай, за ёй неслі абразы Божай Маці і Хрыста.

– Жыве Ліцвінія і згінуць яе ворагі!

– Жыве!..

– Нам трэба прайсці да Опернага тэатра, а вы нам перашкаджаеце, – даводзіў Юрась Залоска, утаймоўваючы ў сабе ўнутраную злосць. – Там у нас асноўны мітынг…

– Граждане националисты и бэнээфовцы, просьба расходиться по домам! – металічны голас праз мегафон ляцеў над дэманстрантамі. – Вы нарушаете закон об общественном порядке, и потому каждый из вас подпадает под статью уголовного кодекса номер… Расходитесь! Расходитесь! Ибо мы всех вас арестуем!

– Усіх не арыштуеце! Жыве Айчына!

– Жы-ве Ліц-віні-яяя! Жы-ве Ліц-ві-ні-яяя!..

Каманды падаваліся на чужой мове, не на мове дзяржавы. Тое яшчэ больш абражала нас. Бо аб нас выціралі падэшвы ботаў, плявалі ў твар, зневажалі. Нас не пускалі наперад, туды, дзе і дала дазвол гарадская ўлада праводзіць мітынг. Нас туды не пускалі. Як не пускалі некалі камуністы ў царкву, не дапускалі да Бога… Цяпер жа ад нас адбіралі яшчэ і душу.

Да майго пляча дакранулася нечая рука – цёплая і даверлівая. Са мной побач ішла Таццяна-бібліятэкарка.

– Ты? – шчыра падзівіўся і адначасова абрадаваўся, зірнуўшы ў яе вялікія вочы.

– А хто ж яшчэ? – асляпіла белізной яблыневых пялёсткаў. – Яна самая. У нас сёння выхадны, вось і рашыла падацца ў сталіцу, з усімі разам прайсціся па праспекце нашага слыннага першадрукара…

Яна ўзяла мяне пад руку, ведаючы, што я рады буду адчуваць яе, ісці з ёю поруч. У яе таксама быў шчаслівы і асветлены твар, і яна разам з усімі скандзіравала самыя галоўныя для краіны словы.

– Прызнайся, спадар Антон, ты не чакаў мяне сёння тут бачыць, ці не так? – прытулілася яна да мяне.

– Не чакаў.

– І гэта тое, што перашкодзіла нашай сустрэчы, пра што ты казаў па далькажыку?

– Чаму перашкодзіла? Мы ж разам.

– Ага, гэта калі я ўмяшалася і змяніла сітуацыю. Сам ты не здагадаўся б паклікаць мяне ў такую вандроўку…

У голасе не чуваць было папроку ці крыўды, адно дабрыня і жартоўнасць.

– Не здагадаўся. Але, найперш, не асмеліўся. Не ведаў, ці з рукі табе такая прапанова. А цяпер рады, што ты побач, што ты разам з намі.

Далей мы ішлі моўчкі.

– Ты калі, Антон, едзеш дадому?

– Пазаўтра.

– А я сёння, адразу ж пасля сканчэння “Шляху”. Мая сяброўка з мужам на машыне прыязджалі, ну я і папрасілася. У цябе тут шмат клопатаў?

– Шмат. У выдавецтве пабыць трэба, у саюзе пісьменнікаў. У часопісы зазірнуць, дзе ляжаць мае аповесці.

– Як вернешся – патэлефануеш?

– Абавязкова.

– А ты тут глядзі – будзь, калі ласка, асцярожным… Быццам бы і ціха, але сітуацыя выбуховая.

– Ведаю. Мы да ўсяго гатовы.

Потым Таццяна некуды знікла, нас раз’яднала магутная плынь людзей, якіх усё большала і большала. Добра было чуваць, як з іх нехта адзін, самы галоўны, інструктаваў:

– Первыми не начинать!.. Ожидайте, когда начнут бросать камни и железки, переворачивать машины… Иностранных корреспондентов не подпускать! Дубинок и наручников не жалеть!

Абрадавала хіба адно, што побач не было Таццяны. Не хапала яшчэ, каб і яна была ўцягнута ў гэты крывавы вір, каб які міліцыянт не пахадзіў па твары з дубінкаю… На кожнага з нас, ды і не толькі на ўсю калону, а нават і на ўсю краіну, для кожнага няўгоднага ці не па дзве-тры пары бліскучых кайданкоў падрыхтавалі, каб ўціхамірыць нас, стрыножыць і малаціць дубінкамі да тае пары, пакуль не толькі выкрык, а нават стогн не павінен вырвацца з нашых глотак... З цяжкасцю, але прайшлі да тэатра. І выступалі лепшыя людзі краіны – Генадзь Карпенка і Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі і Васіль Быкаў, ветэраны вайны, невядомыя юнакі і дзяўчаты…

Увесь час я назіраў, што за мною неадступна сочаць нечыя злавесныя вочы. Як ні стараўся злавіць позірк, тое мне не ўдавалася. Вочы тыя былі то злева, то справа, а то і зусім ззаду… Як прывід нейкі прыліп да мяне… Мухіко недзе гойсала, і я не пасылаў ёй ніякіх сігналаў – не перашкаджаў, не адрываў ад працы. Яе хапала ёй па самую завязачку. Адчуваў толькі, што яна ўвайшла ў азарт, творчы імпэт, і хто ведае, чым яна магла здзівіць нас ці мяне нечаканым сваім адкрыццём і апантанай дзейнасцю…

3

Усе разыходзіліся пад вечар – узбуджаныя, настраёвыя, і над усімі намі вялікім ружовым шарам вітала добраўплыўная энергія пяшчотнай аўры. Яна, аўра, кожнаму давала сілу, ачышчала, натхняла на новыя добрыя ўчынкі…

Я ішоў слаба асветленым завулкам. Рашыў скараціць дарогу да месца свайго начлегу. І тут аднекуль з цемры вынырнулі цёмныя постаці і накінуліся на мяне. Гэта былі дужыя малойцы – напачатку агрэлі нечым тупым і важкім па галаве, а потым пачалі біць нагамі па спіне, жываце, па твары.

Але то былі не рабаўнікі, а бандыты – бандыты ад улады. Яны перайшлі на новую тактыку ўдушэння – лавілі людзей па цёмных завулках. Яны днём сачылі за імі, здымалі на камеру ці фотаапаратам, а потым высочвалі, куды той чалавек ідзе. Нават да дзвярэй кватэры праводзілі, каб дакладна ведаць, дзе ён і жыве. У цёмных жа кутках аператараў няма, ніхто не засведчыць, што яны палююць за іншадумцамі…

– Это тот, который удрал, – тлумачыў адзін з іх і "гумаўка" тупа бухнула мне па цемені. Удар быў моцны, спрактыкаваны, нічога не скажаш – прафесіяналы… Я адразу ж знепрытомнеў. – Сейчас не сбежит, а начнет убегать – ноги переломаем…

Амаль безжыццёвага ўкінулі мяне ў "варанок", да другіх, такіх жа небаракаў, якіх лавілі пад покрывам ночы. Сярод нас сядзела і жанчына сталага веку, недаўменна пыталася ва ўсіх:

– Людцы добрыя, а за што ж мяне, га? Ішла сабе нікога не чапала, спытала толькі ў міліцыянера, ці харчовая крама яшчэ працуе, – а за гэта атрымала дубінкай па галаве. За што, га?

– Вось за тое і схапілі, што пра краму спыталі. Каб вы спыталі: "Скажите, пожалуйста, работает ли гастрономический магазин?" – тады да вас аднесліся б інакш…

– А хіба за гэта содзяць – што я беларуска? – шчыра падзівілася наша калега па няшчасці.

Тое я чуў, як скрозь сон. Я не сядзеў, я ляжаў. Адно вока заплыло пухлінай, а другое не мог чамусьці раскрыць. Вясёлая сабралася кампанія, усе смяяліся з таго, што з намі адбывалася – сапраўды яно збоку выглядала смешна. І – абсурдна. Нас укінулі зноў у такую ж камеру (ці не ў тую самую, што сядзеў да гэтага?), і праз колькі хвілінаў выклікалі на допыт. Ісці я не мог – балела ў баку (мусіць, пераламалі рэбры) і балела галава – ванітавала мяне дужа. Мо яшчэ і адбілі мазгі ў дадатак… У памяшканне, дзе вёўся допыт, мяне занеслі на руках. Калі ж пасадзілі на крэсла, мяне званітавала – і я рыгануў прама на падлогу…

– Он еще и водки нализался! – зароў нада мною міліцыянт, і зноў дубінка прайшлася па галаве.

Я ўпаў у свае ж ваніты і нічога больш не памятаў – што было ў той момант, і што было пасля.

Знайшлі ўчарашнюю "Справу", што завялі на мяне. Калі я ачуўся і няўцямна паглядаў на іх, дапісалі яшчэ, што быў на мітынгу, выступаў, патрабаваў скінуць з пасады галоўнага ўзброеным шляхам, што мне заплацілі за ўдзел сто даляраў… Патрабавалі прызнаць гэтыя факты. Я кісла ўсміхнуўся: "Калі пагаджуся, што яно так было і сапраўды, то кратаў мне не мінаваць…"

“Надта ж яны любяць цябе, Антон сан, – скрушна выказала сваё меркаванне Мухіко, – як д’ябал ладан…”

“І не кажы…”

Яна некуды зноў знікла, і я не паспеў папрасіць яе выканаць маленькую просьбу. У мяне з рота пайшла кроў, і нейкая жанчына загрукала ў дзверы:

– Доктара! Паклічце доктара – чалавек памірае!

З-за дзвярэй данеслася пагрозліва-пасмешлівае, здзеклівае:

– Не умрёт… А сдохнет, так и святым сразу же станет, как Кастусь Калиновский или Ефросинья Полоцкая… Гы-гы-гы… – міліцыянт вельмі радаваўся, што адказаў з вялікім гумарам.

Нада мною нехта схіліўся, а хто, не мог угледзець у цемры, толькі падалося, што вельмі знаёмым быў шэпт і ўздых. Рукі былі жаночыя – мяккія і гаючыя. На твар мне паклала незнаёмка мокры ручнік (дзе ўзяла, дзе намачыла?), выцерла крывавы твар і не здымала мокрую халодную тканіну з вачэй.

– Ты – хто?

– Маўчы…

– З намі пасадзілі?

– Ага…

Голас быў да болю знаёмы, блізкі і жаданы, але я баяўся назваць імя, каб не выглядаць смешным дурнем, каб не паказацца саманадзейным ёлупнем.

– Усіх не перасадзяць…

– Маўчы… Нельга… У цябе пашкоджаны бок.

– Я сёння ж выберуся адсюль. Шкада толькі тых, хто застанецца тут… Не змагу ім памагчы.

– Маўчы. Цябе ніхто не асудзіць, не папракне .

Потым на вочы насунулася шэрань, і я перастаў чуць, што тварылася навокал. Усё знікла. Пэўна, я заснуў…

Сніўся мне Саяма, а разам з ім і бібліятэкарка Таццяна, і кватарантка Мухіко. І мы ўсе разам гулялі па беразе акіяна – размаўлялі, смяяліся, дурэлі. І было нам весела, быццам усё жыццё ў нас існавала такая вясёлая кампанія. Я нават у сне я лавіў сябе на тым, што мне ўвесь час хацелася пазваніць Яніне, але ў тым я не мог прызнацца чамусьці Таццяне – як усё роўна вінаваціўся перад ёю, ад чаго разрываўся на дзве палавіны, адна належала Таццяне, а другая ёй – Яніне… І калі пакласці на шалі, то ні грама, ні паўграма ніхто не перавешваў…

– Климовича – к начальнику! – выгукнуў маё прозвішча вартавы, што стаяў каля дзвярэй.

Я не рухаўся – не мог пашавяліцца. Яшчэ больш балеў правы бок, кружылася галава, ванітавала..

– Кому сказана – к начальнику! – павышаў голас міліцыянт, нервуючыся, што яго не паслухаліся з першага разу. – Срочна!

– Дык ён жа рухацца не можа – вы ж збілі яго на горкі яблык! – абурылася, не вытрымала жанчына.

“Мо яна і рабіла мне прымочкі, а прымроілася немаведама што, – падумаў я, але распытваць у яе не стаў, не асмеліўся, – так можна і зглузду з’ехаць…”

– Так что – может самому начальнику к тебе придти, а? – яхіднічаў ужо міліцыянт.

– Вось няхай начальнік і ідзе да нас… – пагадзілася жанчына з прапановай вартавога. – Хацелі б яму ў вочы паглядзець, вызначыць, адкуль ён родам, хто ў яго тата і мама…

– Ты мне поговори, поговори! – выкрыкваў, а як быццам гаўкаў злосны сабака, міліцыянт. – Тагда чтобы на меня не жалавались…

– Не чапляйцеся вы да яго, – ціха папрасіў я жанчыну. – Ён ні ў чым не вінаваты. То грошы і ўлада над іншымі засланілі яму розум… Ён і сам не ведае, што творыць…

– Ты як праведнік кажаш.

– Усе мы з вамі праведнікі, таму і за кратамі.

Я прыўзняўся з халоднай і слізкай падлогі. Па-ранейшаму ванітавала. Хістаючыся, трымаючыся рукой за бок, выйшаў у расчыненыя дзверы. Крокі мне даваліся цяжка, – боль пранізваў бок і страляў у скроні. На першае пытанне – як маё прозвішча – я не адказаў: упаў з рыпучага крэсла.

Мяне аблілі халоднай вадой і зноў пасадзілі.

– Так какая у вас фамилия? Климович, кажется… Так, так… Ну, расскажите, как вы дакатились до такой жизни… Кого свергнуть задумали?..

Я маўчаў. Адчуваў, як зноў перад вачыма пачало хістацца наваколле, уцякала з-пад ног падлога… Назад мяне пацягнулі пад пашкі – ногі чырылі падлогу. Калі прыйшла да мяне свядомасць, сукамернікі спыталі:

– Ну, што там, адпусцілі?

– Не… Сказалі, што буду я сядзець да “выяснення абстаяцельств”, пакуль справу не аддадуць у суд.

– І колькі яны будуць выясняць?

– Пра тоене паведамілі…

Калі ўлегліся на ноч спаць – дзе хто прымасціўся, і, дачакаўшыся, калі стала ціха ў камеры, насунуў я на ногі Саямавы дзоры. Праз колькі хвілінаў пакінуў КПЗ – камеру папярэдняга зняволення. Ішоў па галоўнай вуліцы сталіцы, па праспекце першадрукара і ніхто мяне не бачыў – не хацелася пакуль здымаць дзоры.

Ішоў і маліўся шчыра Вышняму і Усемагутнаму, верачы, што з яго дапамогай наступіць лад у нашым committed княстве:

– А я, дзеля вялікай ласкі Тваёй, увайду ў дом Твой, пакланюся святыні Тваёй богабаязна. Госпадзе! Вядзі мяне ў справядлівасці Сваёй на недругаў маіх; выпрастай перада мною дарогу Тваю. Бо няма вернасці у вуснах іхных, сэрца іхняе – ліха, горла іхняе – адкрытая магіла, язык іхны – ліслівы…

Запознены аўтобус з трыма пасажырамі пранёсся паўз мяне, абдаўшы едкім дымком.

– Абвінаваць іх, Божа! Няхай загінуць ад задумаў сваіх жа; за ліхадзействы вялікія адкінь іх, бо яны збунтаваліся супроць Цябе. А ўсе, хто на Цябе спадзяецца, будуць цешыцца вечна; і Ты будзеш бараніць іх; і будуць хваліцца тыя, хто любіць імя Тваё. Бо ты, Госпадзе, дабраславіш справядлівых, і, як шчытом, засланяеш іх зычлівасці…

Сышлі некуды на захад аблокі, і на чыстым небе высыпалі буйныя спелыя зоркі. Поўня цікаўна аглядвала наваколле. Дзе ў гэты час была Мухіко, я не ведаў, і не клікаў яе – значыць, працуе, значыць, рупіцца. Мы адшукаем адно аднаго, калі будзе ў тым патрэба, не згубімся ў гэтым сусвеце.

Адлежваўся ў сябра некалькі сутак і, адчуўшы, што збольшага агойтаўся, рашыў вяртацца дадому.

4

Прыехаў у свой горад сярод ночы – кіеўскім.

На пляцоўцы чакала двое незнаёмых – рукі ў кішэнях, вусны сціснутыя, словы цэдзяць скрозь зубы.

– Вы – Климович?

– З кім маю гонар гаварыць?

– Мы из органов.

– З органаў – жаночых? – наліўся я абурэннем – і тут ад іх паратунку няма, нідзе не схавацца.

Маю заўвагу прапусцілі міма вушэй. Адзін з іх – прычоска вожыкам – разгарнуў пасведчанне і падсунуў мне пад нос. “Камітэт дзяржаўнай бяспекі… Акліманаў…” паспеў мельгам прачытаць некалькі слоў.

– Чым абавязаны наведванню такіх высокіх і глыбокапаважаных нашым народам гасцей?

– Может пройдем в квартиру?

– У мяне непрыбрана, рэзрух, і я не хацеў бы выглядаць у вашых вачах неахайным.

– Ничего страшного, мы и не заметим ничего, – найстойвалі госці.

– І ўсё-ткі я не хацеў бы запрашаць вас да сябе. Не магу нічым пачаставаць вас – ні кавы ў хаце, ні гарэлкі. Так што выбачайце.

Ім, канечне ж, не спадабалася мая настойлівасць. Хлопы пераглянуліся, як пыталіся адзін у аднаго, што трэба рабіць у такім выпадку. Не зразумеў, якое яны прынялі рашэнне, але тон размовы збавілі на больш лагодны, нават і заўсміхаліся.

– Калі я дзяржаўны злачынца, і вы маеце ордэр на арышт, то можаце прама цяпер закаваць мяне ў кайданы, – прамовіў я, гледзячы на іх, – калі ж нешта іншае… Я не разумею, чаму я спатрэбіўся вашым органам…

Яны зноў пераглянуліся.

– Мы не имеем права говорить вам об этом, – пачаў тлумачыць адзін з іх – вышэйшы ростам, у паласатай куртцы, з даўгімі валасамі (працаваў пад рабочага Гомсельмаша?), – но мы хотели бы, чтобы вы завтра явились к нам в шестнадцать ноль-ноль…

– Куды гэта? Па якім адрасе.?

Яны назвалі мне адрас, нават растлумачылі, дзе гэта…

– У які кабінет?

– Мы вас сами встретим на входе.

– Лыжку з сабой прыхапіць?

– Не надо. Арестовывать вас никто не будет. Будет просто разговор. Просто необходимо уточнить кое-какие детали.

– Дэталі – чаго? Удакладніце тут – і я скажу ўсё, што ведаю.

– Всё вы очень хорошо знаете.

– Усё ведае толькі дурань. Мудрэц жа – сумняваецца.

– Вы же не дурак и не мудрец.

– А хто ж тады я?

– Это, спадар Климович, вам лучше знать. Честь имеем. Бога ради простите, что в такой поздний час наведались к вам. Извините…

Ні слова больш не кажучы, яны развярнуліся і пайшлі ад мяне. Я яшчэ чуў, як яны вельмі ціха тэпалі па прыступках, як спусціліся на першы паверх, як ляснулі дзвярыма – былі на спружыне. Слаба піснулі ўнутраныя дзверы суседа-ветэрана. Падслухоўваў нашую размову? Мо ён і навёў іх на мяне… Мо і настрачыў, каб разабраліся са мною, каб правучылі, каб не псаваў яму нервы сваім суседствам…

“Што ж ім ад мяне трэба? – без трывогі запытаўся ў самога сябе, адмыкаючы дзверы. – Чаго зацікавіла іх мая асоба?”

Тое, што ўбачыў у кватэры, мяне здзівіла – усё было перавернута дагары нагамі. Раскіданы ложак, усе кнігі вынятыя з паліц і раскіданы па падлозе…

“Што шукалі ў мяне? Ксеракс, камп’ютар – як раней сышчыкі шукалі ў мяне друкарскі станок? Пракламацыі і заклікі супраць дыктатуры? Дык я ж гэтым ніколі і не займаўся. Усе мае думкі і разважанні выкладзены ў радках, што надрукаваны ў апазіцыйных газетах. Дзяржаўная мяне не друкавала – вяртала, спасылаючыся на «неабгрунтаванасць пазіцыі”…

Тут жа апякла думка пра далькажык – ці цэлы хаця? Кінуўся на антрэсоліну. І там усё было перавернута, але калі засунуў руку за прамасленыя майкі і анучкі, то з радасцю намацаў запаветны карабочак… Не ўзялі, не знайшлі. Але на душы было пагана, як быццам не ў жытло да мяне залезлі, а ў душу, і там справілі свае патрэбы. Заўтра дваццаць першае стагоддзе, а сышчыкі дзейнічаюць так, як і перад бальшавіцкім пераваротам. Чаму ж не прыйсці як людзі, пагаварыць, распытаць што да чаго, дык не…

Калі добра будзе? Скарочана – кдб… А калі добра будзе, то і на які ляд тое кдб? Ім жа пастаянна трэба ворагі. Прыдумваюць іх, а потым і шукаюць. А калі іх не будзе ў сябе – пераловяць і перасадзяць усіх, то яны будуць на Захадзе, – іх, ворагаў, вакол ого-го колькі!

Даўно званіў Саяму. А дзе Мухіко носіцца – яшчэ ў сталіцы? Захапілася шпіёнскай працай? А як зловяць? Яшчэ завярбуюць, пераманяць на свой бок, прапануюць пасаду галоўнага сышчыка.

“І памыляешся, і памыляешся, спадар Антон, – не вытрымала, падала голас муха, не стрымала абразы ў свой бок. – І як ты пра такое можаш падумаць”

“Ды жартую…”

“Нічога сабе жарцікі… Памерці можна са смеху. Ад такіх жарцікаў сапраўды мухі дохнуць”.

“Калі з’явілася?”

“Разам з табою і з’явілася. У адным вагоне і ехалі. Месца толькі я выбрала каля плафона – там цё-ооопле-еенька…”

“І не падавала голасу?”

“Навошта? У цябе і без мяне хапала ўсяго… І ў сталіцы хапіла па самую завязачку…”

“Хапіла… Нічога, вытрываю… Ты бачыш, што яны ўтварылі ў кватэры?”

“Ды бачу… Ну што тут скажаш – каменнае стагоддзе. Ды ладна, як той казаў. Кладзіся спаць. Пераначуем – болей пачуем! Ды і мне таксама працы хапіла. Ох і сюжэтаў я надыбала! Дзіву толькі даюся – дзе я толькі ні пабывала! У кабінетах самых высокіх начальнікаў – засакрэчаных і не, даведалася пра іх тайны і планы, што аж крылы ад жаху выварочваюцца.. Але – усё, усё… Спаць, спаць, спаць…”

Я ўжо не рэагаваў на яе словы – стома авалодала мною.

Але заснуў не адразу. Доўга круціўся з боку на бок, перад вачыма ўзнікалі падзеі апошніх дзён, праведзеных у Менску… Праціналі дрыжыкі ад жудасных успамінаў. У баку боль яшчэ не аціхаў – пастаянна напамінаў пра сябе. Трэба было б наведацца ў паліклініку, паказацца доктару, – даўно клікала ўчастковая доктарка, каб прыйшоў, каб забраў накіраванне ў галандска-беларускі цэнтр – не падабалася ёй мая шчытападобная залоза. Яна ў мяне павялічвалася, стала другой ступені, але што будзе пасля, я не ведаў…

“Спаць, спаць, спа-аааць… – дасылала словы калыханкі Мухіко, старалася, каб я ўсё лядайкае выкінуў з галавы… – Спі, Антон, спі…”

5

А ранічкай…

Ранічкай я не пазнаў сваю кватэру – усё было прыбрана, раскладзена, упарадкавана. На кнігах, што сталі на сваё ранейшае месца, не было ніводнай пылінкі-парушынкі. У хаце даўно не было такога ідэальнага парадку, хіба яшчэ тады, як жыла тут Яніна…

“Хто ж так пастараўся, хто?”

Мухіко маўчала, як і не чула майго пытання, а мо паляцела куды па сваіх клопатах, бо не абзывалася. У пакоі чамусьці пахла прывяленым сенам – быццам хто варочаў валкі граблямі, каб яго дасушыла сонца; і ў акно ўжо млявае сонца дасылася свае промні – лашчыла твар…

Мяне падбадзёрыў кубак гарбаты, вярнуў да ранейшага працоўнага стану. У такі час я звычайна сядаў за стол. Нейкі час збіраўся з думкамі, а потым на аркушы чыстай паперы адбіваў літары на сваёй старой гэдээраўскай машынцы “Эрыка”.

Я адгарнуў зялёную папку, дзе ляжаў пачатак аповесці “Секутура”. То быў толькі пачатак яе – палова старонкі. Мне хацелася расказаць пра свайго японскага сябра, пра тое, як мы паўгода былі ў акіяне… Не даходзілі рукі прадоўжыць – клопаты адбіралі ўвесь час. Але мне верылася, што ў нейкі дзень ці вечар удасца засесці за машынку, і тады я, нырнуўшы ва ўспаміны і далучыўшы фантазію і імпэт, змагу за месяцаў пяць-шэсць выкласці жаданае на паперу… На ўсё патрэбен свой час. Час раскідваць камяні і час збіраць іх. Час рабіць справы – і час адказваць за свае ўчынкі...

Не-не ды ўспаміналася ўчарашняя сустрэча з хлопцамі-малойцамі. Яны задоўга да гэтага ведалі, калі я рушу назад, і таму спакойна рабілі ў кватэры ўсё, што хацелі? А можа, я прыехаў знянацку, і яны перад самым носам выскачылі з кватэры? Нехта ж тады папярэдзіў іх пра мой прыезд… Ці не сусед часам, назіраючы за пад’ездам са свайго акна?

А шаснаццатай гадзіне да іх? Чым жа яны абрадуюць мяне, чым слых мой і душу пасалодзяць? Амаль гадзіну хадзіў па алеях парку. Купіў у шапіку “Навіны”, “Свабоду”, “Народную волю”, “Пагоню”, прачытаў уважліва асноўныя артыкулы, паклаў чытво ў валізку, якую заўсёды насіў пры сабе…

– А мы чакаем вас, – сустрэлі на парозе ўчарашнія хлопцы, усміхнуліся прыветна. – Пайшлі…

Дзяжурнаму, што стаяў за сталом, сказалі:

– Мы да дваццаць пятага!

Той кіўнуў галавой. Дзяжурны быў пры пагонах, маёр. І форма ў яго была савецкай арміі. Уражанне было, што машына часу занесла мяне ў гады майго юнацтва, калі я насіў салдацкую форму і казыраў такім вось афіцэрам – аддаваў чэсць. І гонар. І – душу. І – здароўе. І – … хто ведае, што яшчэ. Усё аддаваў. Але не, пардон, не ўсё. Душу не аддаваў, як ні стараліся яе адабраць, падпарадкаваць сабе…

Мы падышлі да дзвярэй, абабітых чорным дзерманцінам. “Вожык” зайшоў у кабінет і тут жа выйшаў, сказаў, звярнуўшыся да мяне:

– Вас ждут.

За сталом сядзеў і не малады, але ж і не стары яшчэ чалавек. Як я зайшоў, устаў з крэсла, выйшаў з-за стала. Павітаўся, паказаў на крэсла:

– Сядайце, калі ласка, Антон Ігнатавіч!

“О, як далікатна і культурна. І нават – па-беларуску!”

За спінай, на сцяне, вісеў партрэт жалезнага Фелікса. З другой сцяны глядзеў строгі і насуплены Ільіч – як падслухоўваў, пра што мы будзем гаварыць. Я маўчаў, глядзеў на Ільіча, у вочы гаспадару кабінета глядзець чамусьці не хацелася.

– Как жизнь, Антон Игнатьевич?

– Ды мацуюся. Нічога. Жыць можна.

– Как пишется?

– Ды па-рознаму. То цяжка, то нішто сабе. Усё залежыць ад настрою і ад абставінаў.

– О чем пишете, если не секрет? – голас затоены, як коцік мурлыкае, як сон наганяе, каб потым знянацку скочыць і ўвагнаць вострыя кіпцюры ў бок.

– Пра Японію пачаў. Пра флору і фаўну Японскага мора. Ды пакуль спыніў працу – клопатаў шмат.

– И в газеты пишете?

– І ў газеты, але вельмі рэдка.

Мы доўга хадзілі з ім па лясных і балотных сцежках – то спускаліся з гары, то зноў падымаліся на ўзгорак, – і кружыў ён мяне па бездаражы вакол ды каля з гадзіну, а ў мяне з галавы не выходзіла галоўная думка,

свідравала няшчадна: “І калі ж ты пра галоўнае папытаеш, ужо і галава ад тваіх пытанняў-загадак забалела?”

Усё ж такі мы выбіліся на бальшак, затоена ён і спытаў:

– В Минске, когда вы наведывались недавно, участие в митингах принимали?

– Прымаў, а як жа… І не толькі я. Шмат людзей удзельнічала. Я – ліквідатар ЧАЭС, таму як не прыняць удзел у Чарнобыльскім Шляху?

“Ну, во табе і галоўнае, з-за чаго і пакліканы я сюды…”

– Вот ваша деятельность – высказывание в газетах, ваша личная оппозиция к руководителю страны, высказывания в его адрес, призывы к свержению власти, – как вы думаете, не подлегает ли это под статью уголовного кодекса?

Ён вельмі хацеў пабачыць маю рэакцыю на яго словы, а я сядзеў і ўсміхаўся, цяпер ужо гледзячы прама яму ў вочы. І ўбачыў, што яны ў яго зялёныя, як і яго мундзір, – як зрасліся два колеры. І не зразумець было – ці то кіцель быў пры такіх вачах, ці вочы пры кіцелі.

– Асабіста я так не думаю. Канстытуцыю я не парушаў. У нас сёння дэмакратыя, свабода слова… Гэта абазначана і ў міжнародных пагадненнях па правах чалавека, да якіх далучылася і наша дзяржава, і ў тым ліку – ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і Міжнародным пагадненні аб грамадзянскіх і палітычных правах. А тое, пра што я пішу, і ёсць ажыццяўленне маіх журналісцкіх і пісьменніцкіх прафесійных абавязкаў…

– Хм… а вы, признаюсь, неплохо подкованы в этом смысле, – ці то здзіўляўся, ці то хваліў мяне кэдэбіст, ці, як сказалі суправодзячыя, дваццаць пяты.

– Выбачайце, але я не конь, каб мяне падкоўвалі. Тыя палажэнні, пра якія я казаў, павінен ведаць кожны грамадзянін, кожны беларус. Але пра гэта чамусьці не хочуць распавядаць і вучыць людзей сучасныя агітатары.

– Даже так? – рыжыя бровы рэзка ўзняліся ўверх – над акулярамі.

– Нават так.

– Ладно, оставим эту тему, лучше расскажите нам о другом – как вы умудрились дважды сбежать из здания милиции?

– З кэпээз, з турмы…

– Не совсем так, да ладно… Расскажите, пожалуйста, нам об этом, поделитесь, так сказать, опытом. Расскажете честно – и мы никогда не будем к вам приставать.

– А я і не збягаў. Атрымоўвалася вельмі проста – калі мяне несправядліва крыўдзяць, то я прымаю рашэнне і пакідаю тое памяшканне, дзе знаходжуся.

– И от нас вы можете уйти? – насцярожана паглядзеў на мяне начальнік.

Я паглядзеў на яго – жартуе ці хоча праверыць мае здольнасці? Ён пасадзіць мяне ў сваю камеру, дзе ўстаноўлены аб'ектывы – і будзе назіраць за мною, за кожным маім рухам…

– Тут ужо як у казцы атрымліваецца: я от дедушки ушел, я от бабушки ушел, и от вас немудрено уйти? Не ведаю. У вас дужа сцены тоўстыя і краты моцныя. У трыццаць сёмым мой дзед Ян у вас сядзеў. Дык, на вялікі жаль, не змог уцячы…

– А если мы вас посадим в отдельный кабинет, сможете? – дваццаць пяты напіраў і напіраў, яму так карцела раскрыць мой сакрэт уцёкаў, як маладой у шлюбную ноч…

Я паціснуў плячыма.

Сапраўды, хітры быў пакойчык, куды завялі мяне. Праз нейкі час начальнік уздыхнуў, праказаў няўцямнае:

– Ну, что ж…

Я застаўся адзін. Адчуў, як за мной уважліва назіралі. Чакалі, калі я зраблю цуд – і яны мае дзеянні возьмуць на ўзбраенне…

І суткі, і двое, і трое я сядзеў у цесным пакойчыку. Мяне не кармілі, не давалі нават вады, і ўвогуле больш са мною ніхто не размаўляў – як і забыліся на маё існаванне. Я ж трымаўся, не выказваючы нічым сваёй слабасці, не прасіў у іх літасці ці дапамогі, чаго, мусіць, чакалі ад мяне. Добра, што хоць прыбіральня была праз сцяну, але і там, адчуваў, былі ўстаноўлены нябачныя відэакамеры… За голад я не перажываў – даўно сам хацеў наладзіць галадоўку, каб паправіць страўнік, асвяліць галаву. А тут такая нагода...Зняможаны ад духаты я ўпаў на падлогу. Расчыніліся дзверы – да мяне падышоў чалавек у белым халаце і зрабіў у вену ўкол.

– Ну, так что, фокусника из вас не получилось? – горычна спытаў дваццаць пяты, сядаючы на сваё месца за сталом.

– Не выйшла, таварыш…

– … полковник Гашенко.

– … таварыш Гашэнка! Ды і не фокуснік я. І не цыркач. Не Кіо і не Месінг.

– Так может мы вас не за того приняли? – падзівіўся шчыра палкоўнік. – Дело Климовича Антона начато еще до Великой Октябрьской Социалистической революции. И он то появлялся, то опять неожиданно исчезал. То исчезает, то появляется, то он молодй, то пожилой…

Палкоўнік Гашэнка падышоў да акна, якое было закратана, закурыў "Космас" і паглядзеў безуважна на вуліцу, на чырвоную сцяну фабрыкі "Паледрук", каля якой ў поўны рост стаяў рашучы Дзяржынскі. А пастамент,

скульптура, выглядала неяк збеднена, здробнена, а "жалезны" быў нейкі маленькі, нібы высах ад доўгага стаяння пад сонцам і ветрам… І ў некага, ці не ў самога сябе найперш спытаў начальнік кіравання кэдэбэ з роздумам:

– И что же мне теперь с вами делать? Улик никаких, судить вас не за что…

Пад сталом, на каленях, я намацаў сумку. Выцягнуў з яе дзоры, паклаў на падлогу – і ўсунуў у іх ногі.

– Ума не приложу, что мне с вами делать, – "дваццаць пяты" павярнуўся да мяне і аслупянеў – за сталом нікога не было.

А я сядзеў за сталом і не падымаўся. Мне трэба было яшчэ сем секунд, каб прыйсці ў належны стан, каб я мог лёгка, бы птушка, выпырхнуць з пакойчыка…

– Ни хрена не понимаю, твою мать!.. – прамовіў абурана палкоўнік, смачна вымавіў расейскі мацюк. – Только что сидел – и исчез. Неуловимый националист. Латыпов! – паклікаў ён некага.

З другога пакоя выйшаў сярэдніх гадоў афіцэр, застыў па камандзе "зважай", рукі выдаўжыў уздоў сцегнякоў.

– Слушаю, товарищ полковник!

– Ну, не заметил, что он предпринимал для того, чтобы исчезнуть?

– Никак нет, товарищ полковник! Вы же запретили устанавливать в вашем кабинете аппаратуру.

– Да знаю, – адмахнуўся як ад надакучлівай мухі, – идите…

Выгляд у палкоўніка разгублены і нават няшчасны. Праз колькі хвілінаў ён набраў мінскі тэлефон, далажыў шэфу:

– Не получилось, товарищ генерал… Исчез на глазах… Виноват, товарищ генерал!

У слухаўцы доўгае маўчанне, потым пачуўся ўздых:

– Ладно, я сам лично разберусь с этим вопросом, раз вы такие раззявы…

Гашэнка выціраў насавой хусцінкай буйны пот, што выступіў на ілбе. Паклаў слухаўку і гучна выдыхнуў з сябе паветра, як цяжар скінуў са сваіх плячэй, пашкадаваў:

– Не видать мне поощрения из-за этих националистов… Это же надо, как подставил меня… твою мать!..

6

"Ну далажы, калі ласка, спадарыня Мухіко сан, чым займалася гэтымі днямі, што цікавае адбылося, – папрасіў я сяброўку вечарам, павячэраўшы, меўшы добры настрой – рашыў сам сабе наладзіць вечар адпачынку і ўзаемазгоды. – Так бы мовіць, трымай справаздачу. Як ты глядзіш на гэта?"

“Гляджу дадатна, – тут жа адгукнулася мая кватарантка (ці ўжо даўно не кватарантка, а… дарэчы, які можа быць другі статус? Трэба падумаць…), ажывілася, стала вясёлай, радаснай, што я крануў яе, папытаўся пра нешта. – Ты думаеш, што я лынды б’ю, дарэмна твой сіроп спажываю, так? Памыляешся, даражэнькі… Гэта добра, вось так, вечарочкам, паглядзець тое, чым я займалася… Толькі гэта будзе не вечар адпачынку, шаноўны спадар Антон, гэта не адпачынак, а нешта іншае. Гэта – больш чым праца. А вынікі яе. У мяне ўжо назапашваецца вялікі архіў для відэатэкі. Абвінаваўчай відэатэкі. Такога матэрыялу ні ў кога няма – ні ў кога!

Пахвальбы ў яе голасе не было, проста яна падкрэслівала значымасць таго, што мерылася паказаць, прадэманстраваць.

Зноў адчуў сябе ніякавата, што не ў той манеры пачаў. Не трэба было адносіцца да мухі, як да нечага нязначнага ці смешнага, што не заслугоўвае вялікай увагі. Характар мой дурны… Не раз, і не дзесяць цярпеў з-за яго вялікія дурбасеянкі, кляўся-бажыўся, што перамянюся, што стану больш памяркоўным, ураўнаважаным, чуйным і спагадлівым да чужой думкі, а рабіў сваё… Як тады не зразумець Яніну, якая столькі год (а мо і стагоддзяў?) цярпела мяне, але ў нейкі момант яе цярпенне лопнула…

– Выбачай, шаноўная спадарыня, хацеў жартачкамі ўсё, ды, відаць, тут не да жарцікаў. Даруй…

– Ды нічога, нічога, я прывыкла ўжо, прывыкла… І як толькі трывала твая жонка – характар у цябе, скажу па праўдзе, аніякі, у сэнсе – памерці і не жыць…

– Ты ўжо і ўголас навучылася гаварыць?

– З табой не толькі ўголас, з табой на крык пяройдзеш, дынамікі з дэцыбеламі ўключаць прыйдзецца…

– Ну, ужо і напала ты на мяне, спасу няма…

– Пагавары мне яшчэ, пагавары. Так, а цяпер сур’ёзна – ты гатовы да маёй справаздачы?

– Гатовы. Чакаю.

Успыхнуў экран тэлевізара, хаця вілка не была ўторкнута ў разетку. Адкуль тады бралася энергія? Загадка…

А, во, мы ў Менску… Ідзем калонай. Побач са мною ідзе Таццяна (трэба ж – забыўся пазваніць, а абяцаў жа – адразу, як прыеду, пазваню ёй; трэба наладзіць сустрэчу кахання, нават ноч кахання), трымае мяне за руку… У пакоі натуральны пошум і гамана той атмасферы, галасы людзей. Дынамікамі служылі сцяна, падлога і столь. Мне падалося, што я зноў рухаюся разам з усімі па праспекце. Аб’ектыў паказваў нас то зверху, то буйным планам (ніхто не бачыў аператара, таму твары і паводзіны людзей выглядалі

натуральна і немусова) твар Таццяны – яе ўсмешка, вусны, шчаслівы позірк… А потым мы адбіраем каменне ў правакатараў. Пасля – мітынг каля опернага… А вось я іду цёмным завулкам і на мяне накідваюцца бамбізы, збіваюць з ног. Хаця і цёмна, але твары іх бачна выразна – вочы, нос, ваўчыны аскал жорсткасці, калі яны б'юць мяне нагамі, лупяць па твары… Мне стала зноў балюча – як быццам яны і цяпер збівалі мяне – і я хапіўся за бок.

Ляжу на бруднай падлозе і нейкая жанчына выцірае акрываўлены твар. Пазнаць яе чамусьці не мог, але такая разам з намі ў камеры не сядзела. Некага нагадвала, а каго, зразумець не мог…

"Ты і там пабывала? Як табе тое ўдалося?"

"Работа, браце, такая, – без залішняй сціпласці адказала назіральніца-летапісец.– А гэта – абавязвае…"

А потым яна пабывала ў тым кабінеце, куды і не кожны мог зайсці... Аб'ектыў быў скіраваны на паперу, што ляжала на стале – зацверджаныя дакументы і тыя, што чакалі разгляду і зацвярджэння. Кожны дакумент быў зняты буйным планам – відаць добра кожная літарка і лічба…

"І такое можа быць?"

"Чаму ж не… Ёсць. Пры жаданні гэтыя дакументы можна прапусціць праз камп'ютар, і ўсе дакументы адксеракопіць у чыстым выглядзе…

"Неверагодна!.. Дык табе ж, сястрыца мая, цаны, так бы мовіць, няма, як казаў мой сябра Толя Зэкаў – выдатны паэт і парадыст".

"А я табе пра што баяла?"

"Каб ты была жанчына, расцалаваў бы цябе да бяспамяцтва…"

"Мо калі і здарыцца такое… А хіба ж я не жанчына, Антон?" Апошнім словам я не надаў ніякага значэння, як усё роўна і не чуў. Падумаў толькі, мо калі і навучуся цалаваць муху – як падзяку за ўклад у адраджэнне…

А далей… Што было на экране далей!

Муха аблётала шмат якіх кабінетаў, процьму якіх дакументаў зафіксавала. Была і ў Міністэрстве замежных справаў у расейца Антановіча, у Міністэрстве ўнутраных справаў, у тым жа кэдэбэ…

"Жах! Мухіко, гэта ж унікальныя дакументы. Сведчанне таго, які адбываецца генацыд пад прыкрыццем "заботы о простом народе".

"Так, так… Але я хачу есці. Ты забыўся мне падаць мой любімы сіроп", – як бы пакрыўджана паскардзілася сяброўка.

Хуценька выканаў просьбу – пабач з карабком паклаў паперчыну з некалькімі кроплямі малінавага сіропу – сутачны рацыён.

Глядзець тое можна было гадамі. Але і тое, што я прагледзеў за пяць гадзін, не ўкладвалася ў галаве. Задача заключалася ў тым, каб выкарыстаць усё з карысцю для агульнага клопату.

...Пад вечар, адчуваючы, што да мяне вярнуўся ранейшы добры настрой, пазваніў я ўсё ж у бібліятэку Таццяне:

– Ці можна прыехаць да цябе?

Яна трошкі памаўчала, як бы разважала, і спытала-ўдакладніла:

– А хіба ўжо прыйшло дваццаць шостае верасня?

– Не разумею…

Яна рассмяялася:

– Ты прыязджаеш раз у год, і толькі ў гэты дзень. А думаеш, што прыязджаеш кожны тыдзень, кожны месяц… Я ж табе сказала, што заўсёды рада цябе бачыць. Надумаўся – прыязджай…

І зноў жа – не было і намёку на папрок у яе словах, хіба што непрыхаваная няпэўнасць становішча, якое склалася… Але я не ведаў, што можна змяніць ва ўсёй гэтай гісторыі, змяніць так, каб зрабіць Таццяну шчаслівай… Але прыдумаць што-небудзь быў не здольны – не з таго цеста злеплены, хаця некалі і смактаў сасцы ваўчыхі. Ваўчыха была задужа рахманая? Разлічыўшы час, калі яна павінна была прыйсці дадому, я сеў на “чацвёрты” тралейбус. Праз паўгадзіны я ўжо быў на ўскраіне горада, дзе на рагу вуліц Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касцюшкі стаяў дом, у якім знаходзілася яе кватэра…

І то была пятая вар’яцкая ноч, і кожная цікавей і саладзей за папярэднюю… Колькі ўжо прайшло стагоддзяў, як ад мяне з’ехала-ўцякла Яніна?! Праляцела-мінула тысячы гадоў… Дык чаму ж мой сум па ёй, пяшчотная і салодкая настальгія па мінулым не аціхаюць, не тухнуць, а разгараюцца з новай, ды яшчэ з большай неадольнай сілай?! Чаму? Чаму? Чаму?..

7

У Менску сярод людскога натоўпу – дзясяткі тысячаў чалавечых душ, – дзе ніхто і нікога не заўважае і не бачыць у твар, дзе лёгка згубіцца, адстаць ад каго, нават згінуць і ніхто не заўважыць таго, – у гэтым жывым і гулкім віры насустрач, лоб у лоб, аж грудзьмі стукнуліся, сутыкнуўся я са сваім ранейшым таварышам Валодзем Мацюкевічам.

– Антон?! Здравствуй! – адразу прызнаў мяне былы абкамаўскі сакратар камсамола – кінулася ў вочы, што не змяніўся тварам, выглядаў, як і раней, маладжава, і пастава такая ж юначая, і ў вачох зіхаткі цікаўны агеньчык, удумлівы праніклівы позірк. – Ты ли это? Сколько лет не виделись…

– Ды, выходзіць, я. Здароў быў!

Нас піхалі то справа, то злева, штурхалі ў спіну – як грымака давалі, і на гэтым людскім расхрыстаным і расхлістаным раздарожжы нам, зразумела,

стаяць не выпадала. На ім быў недарагі, але ладна сшыты шэры касцюмец, блакітная, пад колер вачэй, кашуля, гальштук…

– Свободное время у тебя есть?

– Ды ёсць, а што?

– Да пошли куда-нибудь посидим, чашечку кофе выпьем.

– Ды гэта можна.

Мы ледзьве выбраліся з густой плыні людзей, прайшлі па вуліцы з сотню метраў і напаткалі невялічкую кавярню, дзе, калі мы ўвайшлі, пахла кавай – сапраўдны водар. Неяк хутка і, падалося мне, спалохана падняліся са сваіх месцаў наведвальнікі, адна толькі маладая пара – ён і яна – здзіўлена пагля-далі на бармена, які, мусіць, загадаў і ім пакінуць столік…

– Пожалуйста, проходите, – ветліва сустрэў нас афіцыянт у белай ка-шулі, на шыі “бабачка”. – В углу свободно…

Пакуль мы гаварылі пра ўсё і ні пра што, выбіваліся на асноўную тэму гутаркі, бармен паставіў на стол графінчык – напалову напоўнены карыч-невым напоем (каньяком?), парэзаныя лімоны, бутэрброды з вяндлінай…

Я няёмка паглядзеў на прынесенае, але Валодзя супакоіў:

– Я частую, не хвалюйся… Ганарар сёння выдалі з газеты Пашкі Якубо-віча, дык можна і адзначыць.

– А-аа… Ну, тады частуй.

Успомнілі агульных знаёмых – Далідовіча і Вялічку, Шаплыку і Гаўры-ленку, Бязлепкіна Пецю…

Ён наліў па шкаліку, падняў, запрашаў чокнуцца. Дзынкнулі чарачкамі. Выпілі. Пазнаёміліся мы з ім у Мазыры падчас сакратарства ў гаркаме кам-самола. Цікавы хлопец, неардынарны, кемлівы, высокаадукаваны. Не было ў яго разгубленасці ці ваганняў у вядзенні справаў, вырашаў усё хутка, упэўнена. Мне ён падабаўся – як чалавек, як асоба. А потым сустрэліся ў Гомелі, калі яго перавялі ў абкам. Праходзіла справаздачна-выбарная кан-ферэнцыя, і яму даручылі выступаць. Ён, пакутуючы ў думках над заўт-рашнім выступленнем, адшукаў мяне.

– Ведаеш, хачу заўтра абкаму камсамола падкінуць бомбу. Хачу падар-ваць камсамол знутры. Расказаць сумленна пра застойнасць, бюракратызм, безжыццёвасць многіх пастаноў, рашэнняў, іх бязглуздасць, усюды – пака-зушнасць і двурушнасць… Мо чым паможаш, як журналіст, едкае што ўставіць у выступленне..

Я засмяяўся тады з яго шчырага памкнення, можа недзе і наіўнага пам-кнення, быццам пра тое ведаў толькі ён адзін. Так, ведалі, але не гаварылі пра тое з высокіх трыбунаў, амаль не пісалі – партыя наклала табу на гэтую тэму…

– Ты ж, браце, практык, а я ўсяго назіральнік, фіксатар падзей… Табе ж лепей за ўсё бачна, як на далоні, падводныя цячэнні і рыфы… Я магу неяк пакруціць, прыдаць нейкі каларыт трывогі твайму выступленню, але тое, упэўнены, ты здолееш зрабіць і сам. Згодзен паглядзець напісанае, паправіць нешта, падказаць… Калі б я захацеў надрукаваць тваё выступленне ў сваёй маладзёжнай газеце, то яго не далі б… А нас з табою паклікалі б на гутарку ў кэдэбэ.

– От тое кэдэбэ, – уздыхнуў тады ён, і не зразумець было, ён ганіў яго, як і камсамол, ці лагодна папракаў. – Шкада, Антон, шкада… Але я ноч спаць сёння не буду, а падрыхтую нечаканку…

Мне падабалася, што ён размаўляў са мною на роднай мове, хаця ў камсамоле тое было не ў пашане. Памятаў шмат вершаў нашых слынных паэтаў, байкі Крапівы. І я міжволі знайшоў у яго асобе суразмоўцу, аднадумца, смелага  і разумнага чалавека…

Так, сапраўды Мацюкевіч падрыхтаваў бомбу. Прадстаўнікі з цэка сталіцы рэспублікі і эсэсэсэр, пачуўшы першыя сказы, пачалі пераглядвацца, ёрзаць на крэслах, пачалі раіцца, што рабіць. А яго ўжо ніхто стрымаць не мог. Калі перад ім выступалі другія, то і зала, і прэзідыум перагаворваліся між сабою – зала гудзела, як пчолы ў вулляку, – выступоўцаў ніхто не слухаў, бо ніхто нічога новага не гаварыў. А тут…

Тут жа была суцэльная цішыня. Калі б камар ці муха ляцелі над галовамі, то іх бы пачулі. Цішыня была, як напятая струна…

А Валодзя схітрыў, як мне прызнаўся перад гэтым: “Я ім для пратакола аддам “правільнае” выступленне, а пра сапраўднае не прызнаюся…”

Калі ж скончыў, калі прамовіў апошняе слова, у зале доўга стаяла цішыня.  А потым зала ўзарвалася гулам апладысментаў. Цэкоўцы не пляскалі ў далоні. Цэкоўцы не ведалі, як рэагаваць на тое, што адбылося… Яго выступленне дапамагло і мне зрабіць тады  ніштаваты артыкул для газеты, за што рэдактар нават пахваліў на лятучцы. Зразумела, што я абышоў самыя  вострыя вуглы, але такія-сякія праблемы закрануў…

А пасля Мацюкевіча забралі ў абкам камсамола – другім сакратаром, а потым ён (як і шмат да яго з гэтай пасады) перайшоў на працу ў тыя органы…

– Як цяпер жывеш, дзе працуеш?

– Ды як сказаць… Працую дома. Пішу…

– І хапае на жыццё?

– Як калі. Каб сёння друкаваць свае кнігі, трэба мець грошы. А як надрукуешся, то трэба прадаць іх. А ў дзяржаве, у якой задушылі дзяржаўную родную мову, кнігі на гэтай мове асабліва і не раскупляюцца… Адвучаны

беларусы ад роднага, – выхоўваюць іх на чужых прыкладах, на чужой культуры. Усё стараюцца даказаць, што мы славянскія народы і што нам трэба мецць адну мову. Дык чаму б тым жа суседзям не ўзяць нашую за аснову? Тым больш, што прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага вучылі царскую сям’ю грамаце – той жа Сімяон Полацкі?.. Дзе ж справядлівасць і роўнасць?

Валодзя апусціў галаву, прапусціў міма вушэй “задушылі” і іншыя словы, потым зноў наліў па шкаліку. А каньячок быў ніштаваты. Няёмка было спытаць, якой ён быў маркі і дзе выраблены. Ды ўвогуле, якая тут розніца –наліваюць надармака, дык і пі, – як той казаў, на халяву, дык і воцат салодкі… Дзіўна, але галава святлела, у целе адчувалася бадзёрасць і незразумелы цёплы настрой, калі ўсё вакол здаецца родным і блізкім, і людзі, што акружаюць, самыя блізкія і дарагія – кожнага хочацца абдымаць і цалаваць…

“Для чаго сустрэў, для чаго паклікаў? Не проста ж так мяне вылавіў у тлумным натоўпе. Выпадковасцю тут і не пахла… Значыць, нас вялі, значыць нас сутыкнулі, зрабілі так, як быццам мы выпадкова ўбачылі адзін аднаго… То ж яму далажыў “дваццацьпяты”, што са мною нічога не атрымалася, і Мацюкевіч паабяцаў, што з усім разбярэцца сам. Вось і разбіраецца…”

– Мг… – шматзначна праказаў мой таварыш, і не зразумець было – ці шкадаваў ён, што так адбывалася з краінай і са мной, ці проста адрэгаваў, быццам ён уважліва слухаў мяне… – Слушай, – нечакана ажывіўся ён, і ў вачах загарэліся жвавыя агеньчыкі, – а давай заглянем ко мне на работу, посмотришь, какие у меня апартаменты, и там продолжим беседу, а?

Ён ужо забыўся, што перад гэтым стараўся трымаць марку беларуса, каб дагадзіць мне і паказаць, што ён не цураецца роднай мовы, – чакаў, што адкажу я.

“Ну, вось, да чаго ішлі, да таго і прыплылі. Мухіко, як ты думаеш, ісці ці не ісці?”

“Абавязкова! Неадкладна! І паводзь сябе натуральна, не рабі прыгнечаны выгляд, як быццам цябе вядуць на Галгофу, радуйся, што так усё адбываецца і разгортваецца. Весялей, браце, глядзі на жыццё!” – адказала і параіла адначасова няштатная кэдэбістка, мой саксуп, агент, які атрымліваў самую мізэрную (а мо і самую вялікую ў свеце) зарплату – 0,0005 грамаў малінавага сіропу…

– Дык я ўжо быў у “дваццацьпятага” – прыблізна ведаю, што за апартаменты…

– Не крыўдуй, – паморшчыўся Валодзя, – ну не ўмеюць прафесійна працаваць – ні культуры, ні інтэлекту, ні душы… Ніякіх нечаканасцей не будзе, абяцаю…

Для прыліку я нейкі час паразважаў, а потым згадзіўся:

– А што? Давай сходзім… Ніводнага разу не пераступаў парог вашай сталічнай установы. А то дзе напішу, а з вашых нехта і скажа, што я і не быў у вас... Згодзен. Пайшлі!

Валодзя абарадаваўся, разліў апошнія кроплі каньяку. Прыкусілі лімонам.

– Пойдзем?

– Рушым!

Мне было па-дурному весела. Мне па-вар’яцку было цікава – а што з гэтага ўсяго выйдзе? Што хацеў ад мяне Валодзя Мацюкевіч, мой таварыш? Пакоры? Згоды? А можа – супрацоўніцтва? Бо і спытаў, ці ёсць грошы на пражыццё. Мо падкарміць хоча?Думаў, што ён павядзе мяне праз парадныя з боку праспекта Францішка Скарыны, дзе былі высокія калоны, высокія дубовыя дзверы, але мы зайшлі зусім з іншага боку. І пры тым зусім у іншы будынак. Вартавы ці дзяжурны аддаў нам чэсць. І мне, значыць, аддаў? І адразу чамусьці ўспомніўся анекдот. У армянскага радыё спыталіся, чым адрозніваецца дзяўчына ад салдата. Дзяўчына аддае сваю чэсць усяго адзін толькі раз, а салдат кожны дзень і па некалькі разоў…

Падняліся на другі паверх, дзе было ціха, быццам мы і не былі ў цэнтры тлумнага Менску, а недзе ў лесе, сярод пушчы.  Валодзя расчыніў перада мною дзверы:

– Прашу!

Потым расчыніў другія, трэція, чацвёртыя – дубовыя, высокія, аж пад столь, да якой было метраў з пяць. Перад пятымі з-за стала  жвава  ўскочыў маёр у зялёнай вайсковай форме, адбрыліў гучна:

– Товарищ генерал! За время…

Валодзя махнуў рукой, як загадаў маўчаць, пасадзіў маёра на месца. Зноў пахкая кава, зноў каньяк – таго ж гатунку. Падумалася: а мо ёсць каньяк спецыяльнага разліву і гатунку пад назвай “Кэдэбісцкі вытрыманы марачны”?

8

Выпілі мы кожны па адной бутэльцы, але ў галаве было светла, спакойна. Усе трывогі сплылі і адхінуліся на задні план.  А Валодзя наліваў і наліваў па поўненькай чарачцы.

Потым закурыў. А потым паставіў музыку.

“Антон, спытай, ці няма ў яго маёй любімай касеты”, – папрасіла муха.

– Валодзь, а Валодзь, а ці няма ў цябе песні пра муху?

– Пра муху? Не, тут няма… А дома дзеці круцяць нейкую: “Муха моя муха, нашепчи на ухо…” А чым яна табе падабаецца?

– Ды не мне…

– А каму? – насцярожыўся раптам гаспадар кабінета, і я адчуў, што ён вельмі напруціў слых.

– Маёй жонцы Яніне, – схлусіў я. – Ды толькі на беларускай мове.

– А хіба такі ёсць запіс – на беларускай?

– Канечне ж, ёсць.

“А шкада, Антон. Настрой у мяне цяпер песенны… Мусіць, ад вашай каньячнай пары я балдзею… І як толькі вы яго смокчаце?”

“Я ж на заданні – трэба піць…”

“Пі, ды хоць не хмялей… А то выдасі ўсе сакрэты – чаго ён і дабіваецца ад цябе. Хіба не адчуваеш хітрасці?”

“Адчуваю… Добра, Мухіко, слухаюся…”

Зноў поўныя чаркі. Але чамусьці я не п’янею – ці не ваду мы пілі насамрэч? Зноў лімон, але ў дадатак ужо белы хлеб з чорнай ікрой. Добра яно вось так, на халяву… А на халяву... І потым ужо, калі дайшлі “да кандыцыі”, калі ў мяне і ў яго пачалі хістацца галовы, папытаўся мой субяседнік пасвойску:

– Антон, справа мінулая, як кажуць, але ты як сябру мне скажы, прызнайся, і я не выдам нікому твой сакрэт, буду трымаць у тайне – як табе ўдаецца ўцякаць з турмы? Ну, скажы, выдай тайну… Мы цябе ахоўваць будзем, берагаць… Скажы, га?

Мы асалавелі. Хто з нас больш – невядома. Мацюкевіч стаў самім сабой, голас быў той, ранейшы, які некалі я чуў – без падтэксту, шчыры.

– Калі шчыра, Вовік, то я і сам не ведаю, як гэта атрымліваецца. Я толькі падумаю пра ўцёкі – і перада мною расчыняюцца нябачныя дзверы.

– Мо і так, магу паверыць… Але прадай нам свой сакрэт. Любы ганарар выплацім, у любой валюце.

Нейкі момант я маўчаў. Абдумваў, як далей весці гамонку.

– Каб жа шчасце толькі ў грашах было, то яно так, але калі паглядзець з другога і трэцяга боку, то яно атрымліваецца і не зусім так, як і хацелася, – прагаварыў я абы-што, сам з сябе здзіўляючыся, чаго гэта я намалаціў столькі. Потым уздыхнуў і наліў (здаецца, першы раз сам разліваў – яму і сабе) па поўнай, не заўважыўшы таго.

– А ў чым тады заключаецца яно, тое шчасце?

– У адраджэнні. Тое, што я ўцякаю, нагадвае нейкі фокус, цыркавы атракцыён. А вось калі я табе пакажу, што мы сапраўды ўмеем, чым валодаем, то табе не хопіць ніякага ганарару адплаціць мне. Мы можам прадаць сак-

рэт, але з адной толькі ўмовай – калі вы вернеце нам нашае, а вы і павінны самі тое рабіць, дарэчы, то ёсць ваш прамы і непасрэдны абавязак – ахоўваць і дзяржаўную бяспеку, і яе самыя дарагія каштоўнасці і багацце. Тую ж мову народа, якая недатыкальная, а вы яе растапталі…

– Да не я это, Антон, пойми, – зноў не заўважыў пераходу на іншыя рэйкі субяседнік.

– Ну, няхай не ты, але ж вашая служба. Ну дык слухай – у нас ёсць яшчэ адзін сакрэт.

– Какой? – насцярожыўся і ажывіўся Мацюкевіч, радуючыся, што добрая ў нас ідзе размова, што мы можам па вялікім рахунку і дамовіцца. – Поделись…

– Ну, добра. Ты скажы, спадар Валодзя, вось пра што. Што робіць-парабляе ў дадзены момант самы галоўны ? Якога вы, дарэчы, аберагаеце і ахоўваеце?

Гаспадар кабінета акругліў вочы:

– Ну, як дзе, у сваім, мусіць, кабінеце…

– Давай праверым…

Успыхнуў экран вялікага тэлевізара “Соні”. На секунду паказаўся бел-чырвона-белы штандар з “Пагоняю”, і адразу знік. А замест яго паказалася нечая спіна, потым аб’ектыў выхапіў буйным планам твар таго, каго пажадаў бачыць мой субяседнік…

Нешта рабіла за сталом асабістая дакторка – ці то рыхтавала лякарствы, ці то афармляла нейкія медыцынскія дакументы…

Мацюкевіч нічога не разумеў. Паглядзеў на мяне, як бы пытаючыся, што за жарты я наладзіў.

– Кто это снимает?

– Я.

– Как ты, если ты здесь?

– Я і тут, я і там…

А потым на экране з’явіліся мы абодва. Сядзім, п’ем каньяк. Здымае нас Мухіко ад кніжнай шафы, дзе стаяць творы Маркса і Энгельса, Леніна і Дзяржынскага. Праўду казаў Саяма – мы не ўбачым яе, ні пачуем. Мускулатуру ёй замяніў на іншую, што цяпер і гудзення яе не чуваць, і зліваецца з любым колерам, што немагчыма ўбачыць…

Валодзя аслупянеў. Падняўся, пахадзіў па пакоі, шукаючы камеру. Яе нідзе не было. Ён працверазеў адразу, і быў як бы напалоханы тым, што адбывалася. Ён жа выдатна ведаў, што ніякіх аб’ектываў у яго кабінеце не было… А потым на экране паказаліся сакрэтныя дакументы, якія ляжалі на верхняй паліцы прачыненага сейфа. Буйным планам, на ўвесь экран. Ва-

лодзя спалатнеў, абхапіў галаву рукамі, а потым пабег да сейфа. Ледзьве не зачыніў там майго агента… На экране разгублены твар Валодзі. Ён плямкае губамі, прыкушвае ніжнюю губу.

– Фантастыка! – усклікнуў ён, ускінуўшы рукі. – Неверагодна!

“Так, Мухіко, так, збі яго з панталыку…”

– Здорава! Вось бы нам такую тэхніку… Ды такой нават і ў цэрэу няма, ці не так?

– Няма, факт… А ў нас ёсць. Так што думай. Калі пойдзеце насустрач, мы дадзім вам усё неабходнае, прададзім, правільней, абмяняем адно на другое… Але ці пойдзеце вы на супрацоўніцтва з бэнээфам і тэбээмам? Нацыяналісты ж, ворагі свайму народу…

– Ды за такое з кім заўгодна можна пайсці на супрацоўніцтва! Праз тры дні я дам адказ. Мне трэба параіцца, сам ведаеш. Абмазгаваць гэта трэба, узважыць. Гэта ж не жартачкі, то ж – дзяржаўны прэстыж!

– І я пра тое ж! Толькі ўлічы, Валодзя, што гэтай апаратурай зазнята тысячы дакументаў – сакрэтных і звышсакрэтных. Так, так, і з твайго кабінета, і з іншых уладных кабінетаў. Адсюль і адбываецца ўцечка інфармацыі. А вы ламаеце галовы, адкуль ды што, шукаеце здрайцаў у сваіх шэрагах… І ў вас працуюць сумленныя людзі, толькі не ад іх чэрпаецца інфармацыя…

Мы налілі яшчэ па шкаліку. За ўзаемаразуменне, за дружбу, за прыгожых жанчын, за… За каго толькі мы не падымалі кілішкі. Нават за птушак, якія спявалі бесклапотна за акном… І асалавелі мы канчаткова.

9

Валодзя Мацюкевіч бяздумна глядзеў у адну кропку, асэнсоўваў пачутае і ўбачанае. Ён, здаецца, плакаў, ці то вочы ў яго блішчэлі ў шэрым прыцемку…Не вытрымаў, папытаўся, што непакоіла мяне за ўвесь час гутаркі:

– І як ты, Вовік, мог пайсці на такую службу? Я ж у цябе верыў…

Ён уздыхнуў:

– То адбываецца міма маёй волі і жадання. Тут як у альпіністаў – пакарыў адну гару, хочацца ўзабрацца і на наступную. Вось і ўзабраўся…

У голасе ці то шкадаванне, ці адчай – адразу і не зразумець.

– І яшчэ. Знікаюць і будуць знікаць людзі… І на тваім гэта будзе сумленні. Некалі ж прыйдзе пара адказваць, трымаць справаздачу перад грамадствам… Люстрацыя, так бы мовіць…

– Ведаю.

Калі адчуў, што прыйшла пара пакінуць кабінет, калі здалося, што ўсяго было ўдосталь – размовы, каньяку – спытаў шэфа “дваццацьпятага”:

– Валодзя, а ты мяне хоць выпусціш адсюль? Бо калі я п'яны, то не ўмею рабіць тыя фокусы…

– Конечно же выпущу… Ты же всё равно сбежишь – хоть пьяный, хоть трезвый. С тобой нужно по-хорошему, с лаской, с подходиком…

– Усё ты правільна разумееш. А за разуменне – мая асабістая падзяка.

Мы з ім і развіталіся па-сяброўску. Расцалаваліся нават, як цалаваліся пры сустрэчы і развітанні Брэжнеў і Кебіч, Чарнамырдзін і … Узасос, з расцяжкай.

– Не прападай!

– Добра, пастараюся.

– Даруй, калі што не так… Сам ведаеш…

– Ды не, усё ў нармалях. Дзякую за каньяк і закусь, усё было вельмі смачна.

Правёў да дзвярэй, расчыніў іх перада мною. На маёй дарозе па доўгім калідоры не сустрэўся ніводзін чалавек. Як быццам у гэтай вялікай і страшнай установе ніхто і не працаваў. Але я ведаў, што за мною назіралі сотні аб'ектываў, якія фіксавалі мой кожны крок, кожны мой уздых… Ці мне тое толькі здавалася?

На вуліцы была ўжо шэрань; над галавой нізка грувасціліся свінцовыя воблакі, схаваўшы ў сваіх нетрысках неба. Нічога вакол не змянілася. Спяшаліся па сваіх клопатах людзі, перазвоньваліся на калейцы шустрыя трамваі, па сваіх маршрутах кіраваліся аўтобусы і тралейбусы…

Не адразу я выпхнуў з сябе паветра і ўнутраны цяжар, якія падпіралі сэрца – як бы выштурхоўвалі яго з мяне. Калі ж вызваліўся ад шэрай накопленасці, то пасля трэцяга-чацвёртага ўздыху пачаў вольна дыхаць – бы нарадзіўся зноўку, як быццам зноў на зямлі пачаўся жыццёвы шлях… Дзіўна, як прыгняталі сцены той установы, дзіўна, як ціснула на галаву столь… Дык гэта мы гаварылі толькі, але як пачуваюць сябе тыя, каго абвінавачваюць і прыводзяць туды, няхай і не ў той кабінет, дзе я быў?

"Ты едзь, Антон, дадому, а я яшчэ застануся-затрымаюся на дзень-два, – папярэдзіла мяне супрацоўніца. – У мяне ёсць яшчэ такія-сякія клопаты…"

"Якія, калі не сакрэт?"

"Ды тут з суродзічамі трэба правесці растлумачальныя гутаркі – не адукаваныя яны палітычна, ну, зусім неадукаваныя. Цёмныя, хаця і жывуць у сталіцы! Кажуць, чым больш будзе гнілля і брыдоты, тым сытней будзе жыць мухам. Хачу давесці ім, што калі ўсё гніць будзе, то і ўсім халэмус будзе… Ну і з гісторыі ВКЛ ім трошкі прачытаю. Падштурхну іх толькі да думак і разваг, а далей хай самі кумекаюць, прадзіраюць свае вочы…"

"Добрая справа, сястра! Поспехаў табе!.."

“Дзякую! І табе таго ж!”

Поезд стаяў на пятай калейцы і адпраўляўся а васямнаццатай гадзіне. Да адыходу заставалася каля дзвюх гадзінаў.

“То адбываецца міма маёй волі і жадання, Антон, – успаміналіся словы генерала Мацюкевіча. – Пакарыў адну гару, хочацца ўзабрацца і на наступную. Вось і ўзабраўся…”

Не ведаў, ці шчыра казаў ён тыя словы. У душы хацелася – каб шчыра.

Сам не ведаю, чаму…

10

Вечар… ноч… раніца… дзень… вечар…

Перагружаны працай. Аналізую, пішу, перарабляю… Нават і ў сне мозг не пераставаў думаць – круціў і круціў свой махавік, наганяючы і ў такім стане стому… Інфармацыі, якая сабралася ў архіве Мухіко, не маглі разабраць і прывесці да ладу і сотня чалавек.

Зацікавіліся матэрыяламі ўсе, каму былі дасланы факсы.

– Як гэта табе ўсё ўдалося, спадар Антон? – шчыра дзівіліся госці, якія прыехалі да мяне. – Гэта нават не фантастыка, а цуд, які не можа растлумачыць ніводная навука ў свеце!

– Хлопцы, гэта зусім проста. Трэба сябраваць з усімі жывымі істотамі, і тады яны табе аддзячаць добрымі справамі. А тут проста вінаваты верабей…

– Пры чым тут верабей?

– І верабей павінен быць галодным. Тады ён будзе ганяцца за мухамі, камарамі, рознымі казуркамі…

“Я не казурка, – пакрыўдзілася Мухіко, – ты ж не блытай высакародную муху з казуркай. Я не проста муха, а муха-цэкатуха… Я ў цэка партыі працавала – пры Брэжневе працавала, пры Гарбачове працавала… Я ж была парцейнай, бальшавічкай!..”

“Ого, як страшна! – смяяўся ад прызнання мухі, ведаючы, што яна мне так помсціла за мае неабдуманыя словы. – Даруй!..”

Не разумелі нічога мае сябры-адраджэнцы.

“І добра, што не зразумелі… – смяецца мая сяброўка, правальваючыся ў сон – стамілася. – Каб і расказваў ім чыстую праўду, то і ў тое не паверылі б, падумалі б яшчэ, што – “таго-гэтага…”

“Мо і так… Таму хай глядзяць, здзіўляюцца… А я…”

Муха засынала. Яна пачала сніць дзіўныя сны. Былі яны прыгожыя і светлыя, цёплыя і радасныя, паветраныя… І ў сне прыемна ёй было думаць, што яна з кожным днём усё больш і больш удасканальвае сваё майстэрства

відэаапаратара… Хлопцы курылі, пілі гарбату і каву. Нехта збегаў за півам – цэлую сумку прынёс і цэлую сетку сушонай рыбы…

Абменьваліся думкамі, не адрывалі позірку ад экрана. Вілка ад шнура тэлевізара па-ранейшаму ляжала на падлозе. Але гэтага, мусіць, мае госці не заўважалі…

Сярэдначы, пайшоўшы ў ванны пакойчык – узяў з сабою падарунак Саямы. Набраў нумар тэлефона.

– Алё. Гэта ты, Антон?

– Я.

– Адкуль ты здагадалася, што гэта я?

– Бо мне больш ніхто і не звоніць, акрамя цябе… Стала сумна і ты адважыўся пазваніць? Ці не спіцца?

– Так і не так. Я не ведаю, што са мною творыцца – раздзяліўся на дзве палавіны.

– Як твае госці?

– Адкуль ты ведаеш пра іх? – зноў здзівіўся я.

– Ды па галасах здагадваюся…

“Як яна магла чуць галасы, калі я зачыніўся – і іх зусім не чуваць. Не разумею…”

– Мне сапраўды сумна, хаця цяпер глыбокая ноч. Ты даруй, што разбудзіў цябе…

– Нічога, табе можна…

Маўчала. Адчуў бязглуздасць свайго ўчынку – гэта яшчэ не азначае тое, што калі табе аднаму не спіцца, то павінен увесь свет не спаць. Эгаіст я, няйначай…

– Тады – дабранач?

– Дабранач, Антон!

– Звані. Прыязджай.

– Добра. Будзьма!

Госці і не заўважалі маёй адсутнасці – іх цікавіў толькі экран. Яны рабілі вельмі важную і адказную працу – складалі расшыраны мартыролаг…

– Дзякуй табе за матэрыялы, – ціснулі на развітанне хлопцы руку, – неацэнныя дакументы. А што цяпер з імі рабіць, мы ведаем.

– Ды не мне дзякуй кажыце, а Мухіко. Яна мне дапамагала ў іх зборы …

– І Мухіко дзякуй, – сур’ёзна гаварылі госці. – Малайчына! Вышэйшы клас работы. Яе ўклад у агульную справу цяжка пераацаніць.

“Чуеш, Мухіко?”

“Чую, чую… Гэта ж не ты, які доўга не мог аб’явіць мне падзяку. Скажы ім, што я шчыра ўдзячна за ацэнку маёй сціплай работы…”

### *Частка пятая*

1

У тую ноч я доўга не мог заснуць… Яшчэ з вечара пачало блажыць, кружылася галава і дужа ламала суставы. Яшчэ сушыла ў горле…

“Мусіць, прастудзіўся, – падумаў найперш пра хваробу, і чамусьці ўспомнілася, як я піў у піўной разліўное піва – з чужога, вымытага ў халоднай вадзе, куфля. Гандлярка іх ніколі, мусіць, не мыла, а толькі апаласквала. А перада мной піў мо які прастуджаны…

Ноччу, мусіць, трызніў. Ці то Саяма сядзеў каля мяне, ці то Таццяна, і Мухіко, здавалася, нешта крычала, як папярэджвала пра нешта… Калі ж да мяне вярталася свядомасць, то ўсе некуды пазнікалі, пакінулі мяне аднаго…

“Ты дзе, Мухіко?”

Адраджэнка-аператар не падавала голас – мусіць жа, недзе на баявым заданні, якія яна сабе і давала.

Загарэўся, здалося мне, экран тэлевізара, але ішлі нейкія перашкоды – ішоў суцэльны “снег”. Тэлевізар у маіх вачах “гайдаўся”, мяне хіліла ў сон…

Зазумкаў прыемнай мелодыяй далькажык.

– Як ты там? – пацікавіўся Саяма.

– Прыхварэў штосьці – грыпую…

– А як жа ты будзеш сустракаць?

– Каго, Саяма сан?.. – з цяжкасцю прамаўляю словы.

– Ну, як бы табе… – ён чамусьці не адказваў напрамкі, і адразу парвалася з ім сувязь.

Зноў правальваюся ў бяспамяцтва, і мроіцца, што йду нейкай невядомай сцяжынай, перанітаванай спрэс чарнічнікам і дзеразой, чапляюся нагамі, спатыкаюся і ледзьве не падаю старчма на зямлю… Выразна чулася, як недзе ззаду вылі ваўкі, і я чуў голас “маёй” ваўчыхі, якая некалі выратавала; бачыў, як на шчыку ссохлай хваіны дзяцел адбіваў лясному цару азбукай морзе тэрміновую тэлеграму; на краі ўзболатка, над балотнай тванню канавы, стоўпіліся вялізныя мухі… Пільна ўглядаюся ў іх рой, але Мухіко там не знаходжу… Здалося, што нехта дакрануўся да маёй рукі. Не расплюшчваючы вачэй, падумаў, што то, мусіць, Таццяна. Але ж я ёй не даваў ключ. Хаця прапаноўваў – адмовілася, не ўзяла. Тады – хто?

Калі расплюшчыў вочы, нікога перад сабою не ўбачыў. Пачуў нечае дыханне – як хто стаяў каля акна. Прыўзняўся і павярнуў галаву ў той бок. Спачатку перад маімі вачыма ўспыхнуў зыркі арэол, таямнічае свячэнне –

як над абразамі, – яно пералівалася, было як жывое. А потым і ўгледзеў чалавека, ад галавы якога сыходзіла тое святло.

І – пазнаў… І – не паверыў, гатовы быў перахрысціцца. Быць таго не магло – няўжо Яніна?! Яна стаяла каля акна і чамусьці не асмельвалася падысці – глядзела на мяне, як чакала, калі я абуджуся ад сну і хваробы.

– Ты?! – прашаптаў я асмяглымі губамі, баючыся, што гучным пытаннем напалохаю прывід, і ён знікне, як знікаў колькі разоў перад гэтым. – Я не веру сваім вачам. Не можа таго быць, ты мне снішся, так?

Яна ступіла крок да мяне, паказваючы, што я не памыляюся, але сама баялася чамусьці гаварыць. Глядзела на мяне, таяніча ўсміхалася.

– Не, Антон, не снюся я табе… Перад табою сапраўды я – твая Яніна.

– А як ты зайшла да мяне?

– Ты ж забыўся, што некалі, даўным-даўно, шмат гадоў ці стагоддзяў назад ты прымусіў узяць мяне мой жа ключ…

Але ж я ведаю, што мяняў двойчы замок – ламаўся. І той, яе ключ, не мог падысці да замка. Дык як тое разумець?

“Не, гэта не прывід, праўда, Мухіко сан?”

У адказ – маўчанне. Я зноў упаў на падушку. Усё яшчэ не верыў у Янініна паяўленне. Мяне сляпіла сонца сярод ночы. Яна была сонцам, і яе промні спапялялі мяне, адначасова вылечваючы ад хваробы. І я ўжо зноўку не бачыў яе, а толькі сонца – вялікі-вялікі шар і зыркі вакол яго круг, і яно, сонца, прыветна ўсміхалася мне… Яна, Яніна, няйначай сонцам і была для мяне – і да гэтага, і пасля… Толькі калі яно перастала свяціць, я зразумеў, як мне яго не хапала. Як не хапала яе.

– Я не забыўся. Думаў, што ты яго выкінула дзе ў Ніл ці Місісіпі. Як і мяне выкінула са свайго жыцця.

Нарэшце яна падышла да ложка, села на яго, глядзела мне ў вочы. Зазірнула глыбока-глыбока ў душу, на самае донца яе, і, мусіць жа, убачыла там тое, што не мог убачыць і зразумець ніводзін у свеце чалавек, акрамя яе, Яніны. Яна нахілілася і дакранулася вуснамі да маіх губ – абдала гарачым дыханнем і полымем, пранізала ўсяго нябачнымі промнямі…

## 2

Я быў бязвольны. Нават не мог абняць яе і прытуліць да сябе, хаця тое мне вельмі хацелася зрабіць, – рукі былі безжыццёвыя.

Жанчына адарвалася ад мяне, і зноў скрыжаваліся нашыя позіркі…

“Мухіко, дзе ты, гэта сон ці ява? – хацелася дастукацца мне да свядомасці сведкі, якая магла пацвердзіць альбо абвергнуць мае здагадкі-мроі…

Як на тую бяду, яна некуды знікла. Вось так заўсёды – калі пільна трэба, то яе не дагукаешся, а калі не трэба, то яна тут як тут…”

“Адкажы, Мухіко…”

– Чаго так доўга не прыязджала да мяне?

– Бо ты не клікаў.

– Але я чакаў цябе. Кожны дзень чакаў.

Хацелася папытацца пра самае галоўнае, што мяне хвалявала ў тыя хвіліны, але чамусьці вагаўся, падбіраў словы і, асмеліўшыся, асцярожна кінуўся ў разведку:

– Адкажы на такое пытанне – ты ў адведкі прыехала да мяне ці?..

– Ці, Антон, ці…

Яна засмяялася, адкінуўшы косы на плечы, і па кватэры паскакаў яе вясёлы смех – як некалі, калі яна была ў добрым настроі, дадала:

– Назусім, каханенькі-родненькі, назусім! Калі ты, адкажы чэсна, жадаеш гэтага.

– І болей не пакінеш мяне, так?

– Не пакіну…

Я ўзяў яе тонкую, спрацаваную гадамі, руку, паднёс да губ:

– Дзякую.

– Я вельмі вінаватая перад табой – даруй мне.

– То я вінаваты, Янінка. Гэта ты мне выбачай мае правіны…

– Калі мы выбачаем нашы правіны адно аднаму, то Бог даруе нам нашыя грахі, ці не так?

– Так, Янінка, так… Мусіць жа, так. Я вельмі хацеў бы, каб яно так і было насамрэч. Але і яшчэ адзін грэх маю перад табою.

– Бібліятэка? Таццяна? – яна хітра і загадкава паглядае на мяне, усміхаецца куточкамі вуснаў, а потым усмешка нараджае смех…

– Столькі гадоў быць аднаму – гэта ж ненармальна…

– І гэтыя словы гаворыш ты?! – дзіўлюся новаму адкрыццю – яна ж раней так ніколі не гаварыла, і намёк на гэта быў ёй непрыемны. – Не можа таго быць!

– Я, Антон, я. У цябе ж сёння сустрэча з Таццянай. Можаш адмяніць?

Зноў загадкава паглядае на мяне, чакае.

– Магу. І зраблю тое зараз жа…

Але як я ні стараўся, колькі разоў не набіраў яе нумар, – ішлі толькі кароткія гудкі: як дома, так і ў бібліятэцы. Як хто сеў на тэлефон і гаварыў безупынку, альбо адключылі сувязісты за няўплату…

– Ты мо нумар забыўся? – спачувала жонка, а на самай справе здзекавалася з мяне, як толькі яна і ўмела.

– Ды не, здаецца, чатыры пяцёркі і дзве двойкі.

– Пазвані па 09 – даведка ўсё растлумачыць.

Пазваніў, спытаў пра бібліятэку, а потым пра хатні тэлефон Таццяны Аўсяюк, то дзяўчына ў сваю чаргу недаўменна перапытала:

– Каліноўскага і Касцюшкі? Няма такіх вуліц у Гомелі, таму і тэлефонаў там не можа быць…

– А бібліятэка па вуліцы Вітаўта, дваццаць пятая?

– Не значыцца такая ў даведцы.

Яніна адвярнулася, як быццам яе зацікавіла карціна, што вісела на сцяне. Яна вісела і пры ёй – што знайшла цяпер у ёй цікавага? А мо баіцца разрагатацца зноў, каб не выдаць сябе? Толькі з чаго рагатаць, што тут можа быць смешнага? У глыбіні душы я пра нешта пачаў здагадвацца. Але толькі пачаў. Але толькі – здагадвацца. Штосьці ў маю свядомасць прылятала, але я і баяўся, і хацеў, каб тое знайшло сваё пацвярджэнне.

Тады я ўзяў далькажык. І тады ж на табло-дысплеі высвеціліся словы: “Такога нумара тэлефона ў Японіі не існуе. Як і не існуе ў свеце Саямы…”

Тады не вытрымаў і, каб развеяць апошнія сумненні, паставіў табурэтку і зірнуў на люстру: там не было ні каробачкі з-пад сернікаў, ні кавалачкаў газеты з малінавым сіропам, ні самой мухі…

Калі ж зноў лёг на ложак, спытала ўстрывожана:

– Што з табой, каханы мой?

У позірку – смяшынкі. Вось-вось зноў засмяецца ўголас, але стрымлівае сябе неймаверным намаганнем унутранай волі, сціснула да болю вусны.

– Не ведаю… Усё перавярнулася. І – нічога не разумею, хоць забі. Адно толькі – здагадваюся. Падазраю. Але тое – яшчэ не доказ.

Пахітала скрушна-жартоўна галавой:

– Зусім галаву згубіў. Антон, прачніся. Зірні на свет. Ты з-за сваёй пісьменніцкай працы, з-за барацьбы за адраджэнне, і свету божага не бачыш… Прыдумаў нейкага Саяму, Мухіко… А мяне дык і зусім выкінуў са сваёй памяці. Ці не сорамна, га?

Яна стала сама сабой – сур’ёзнай і спакойнай. Я пільна-пільна прыгледзеўся да яе, пранізваў яе як рэнтгенам, стараючыся дакапацца да самага донца сваіх падазрэнняў.

– Дык, значыць, Яніна, то ўсё ты?! Скажы – ты?!

Зноў смех, але ўжо не здзеклівы, а паблажлівы, пяшчотны:

– А хто ж яшчэ, Антон? Я бачыла, як табе было цяжка ў эміграцыі…

– І стала Саямам?

– Так…

– І дзоры падаравала. А радыётэлефон – далькажык, які пераадольвае любую даль-далячынь?

– Далькажык – гэта рэальнасць.

– Ну ладна, а муха?

– Імі я займалася прафесійна. Навучылася разумець іх мову. Вось такую разумную падабрала і паслала табе – да цябе.

– Гм… А Таццяна, як яна, адкуль нарадзілася?

– То таксама была я. Засумавала, ёсць такі грэх на мне. Засумавала па табе – вось і стала ёю. Але ты яе кахаў нашмат болей, чым мяне, – не ўтрымалася, нават папракнула мяне, але зноў жа – са смехам, з падначкай, ведаючы, што між намі ніякіх тайнаў не існавала. – Але і гэтаму я была рада…

Вось і зразумей яе.

3

Вось і зразумей іх, жанчын…

Яніна паднялася, і толькі цяпер я заўважыў, што на ёй светла-шэры, пад колер скуры, плашчык; што пад ім, з-пад тонкага світэрка, выпіралі па-маладому грудзі – такія знаёмыя і такія жаданыя. Пайшла ў калідорчык, скінула верхняе адзенне, павесіла на вешалку. І яшчэ адну перамену прыкмеціў у ёй – коратка пастрыглася, а раней у яе заўсёды была доўгая каса. І сама яна як быццам змянілася, і як быццам не перамянілася зусім.

– Дык я ўсё ж такі хачу пачуць – жонка я табе ці не?

– Жонка, жонка! – крычу радасна, не ведаючы, куды хіліць Яніна, і што я павінен рабіць у дадзеным выпадку.

– Калі так, то я, мусіць, павінна рыхтаваць сняданак, як і некалі, ці не так?

– Павінна, павінна! – уключаюся ў яе гульню, падыгрываю ёй, а падсвядомая думка точыць маю душу – калі ж гэта я прачнуся, калі наступіць рэальнае жыццё? Але чамусьці і баяўся таго рэальнага жыцця…

– І лячыць цябе павінна?

– І – лячыць!

Жанчына падышла да халадзільніка, адчыніла, пляснула рукамі:

– А Божачка, тут зусім пуста!.. Адно толькі піва. І аніякага харчу! Добра, што я з сабою прывезла, як ведала, што так мяне сустрэнеш… А я марыла, што на стале будзе стаяць бутэлька “Ліцвінскага шампанскага”, ружы ў вазе…

– Вінаваты, карай!

– Вінаватых не караюць, іх шкадуюць.

“А сапраўды – чаго не адчуў, не зразумеў? – выліваў на сябе дакор, здзіўляўся сваёй нездагадлівасці. – Саяма папярэджваў, а я…”

На кухні праз нейкі час засквірчэла, засычэла, – і праз момант па кватэры панёсся пах смачнага сняданку – аж закружылася галава.

Потым жонка прынесла кубак гарбаты з нейкім незвычайным пахам – ці то мяты, ці то багуну…

– Вось гэта выпі, і хваробу тваю як рукой здыме, – паставіла гарбату побач на тумбачку. – Потым пагаліся, памыйся, прывядзі сябе ў прыстойны стан – і будзем снедаць, святкаваць наш сённяшні дзень. Апрані сваё самае лепшае, каб я магла любавацца табой, каб пераканацца магла, што ты па-ранейшаму малады і бадзёры, вясёлы і дасціпны… Так што чакаю роўна праз паўгадзіны.

4

Усё адбывалася як у чароўным сне.

Мяне ўсё яшчэ не пакідала недаўменне – то сон, а цяпер ява, ці перад гэтым было ўсё явай, а цяпер у летаргічным сне? З маёй свядомасці ўцякла рэальнасць, сапраўднасць, – і я не ведаў ужо, як паводзіць сябе, каб не нашкодзіць самому сабе, каб мяне не напаткала расчараванне, – як тое было не раз у маім жыцці…

Здаецца, сапраўды стала лягчэй пасля Янінчынага напою.

Калі ішоў да ваннага пакойчыка, то адчуў, што перастала кружыцца галава. Знайшоў новае лязо, уставіў у станочак, – хацеў выбрыцца чыста-чыста, каб мая жонка не дала мне ніводнай заўвагі, нават не падумала, што я паленаваўся з’явіцца перад ёю ў найлепшым выглядзе…

Пасля яна прыйшла да мяне, прытулілася ззаду, як рабіла некалі, шчакой дакранулася да пляча:

– Антон, у мяне такое ўражанне, што я ніколі і не з’язджала ад цябе…

– І я так падумаў. Ну, хіба з’ездзіла некуды ў адпачынак – па пуцёўцы.

Не паварочваўся да яе, адцягваў тую хвілю духоўнага яднання, бо зноў жа баяўся, баяўся прызнацца сабе, што ўсё, што адбываецца, – ненатуральна, і Яніна – прывідная, і я сам – невядома хто і ў якім вымярэнні жыву.

– Ты  хутка будзеш гатовы? – прашаптала затоена.

– Так.

Памыўшыся, выйшаў з ваннай. Дастаў з шафы святочнае адзенне, якое не апранаў ніводнага разу пасля таго, як з’ехала Яніна.  Апранаўся няспешна, каб адцягнуць той урачыста-святочны момант… Мусіць жа, жонка хацела наладзіць Свята Сустрэчы, Свята Вяртання да саміх сябе… І я павінен быў падпарадкоўвацца яе жаданню, яе капрызам, не патураць ёй, а рабіць тое, што неабходна абаім у такі момант…

За акном яшчэ ссутоньвалася шэрань, яшчэ ноч не спаўзла з зямлі – ледзь-ледзь угадваўся ранак. Зоркі ўжо згаслі, схаваліся за тоўшчу смугі.

Дзверы на кухню былі зачыненыя, і было там цёмна: гафрыраванае шкло не адсвечвала святло – было там, унутры, цёмна?Нешта таямнічае і загадкавае адбывалася ў паводзінах жанчыны, якая вярнулася на сваё роднае котлішча. Мною ж пачынаў авалодваць невядомы страх – а што там, за цёмнымі дзвярыма? Ці не падрыхтавала яна якую-небудзь горкую нечаканку? Ціха было за дзвярыма – як і зусім там нікога не было.

Рука міжволі дакранулася да ручкі дзвярэй. Я крутануў яе ўніз, пацягнуў на сябе… І тады ж адразу ўспыхнула яркае святло зыркай лямпачкі, якой да гэтага не было. Палілася ціхая, прыглушаная музыка невядомага аркестра.

На стале, засцеленым вышываным абрусам, стаяла пляшка "Ліцвінскага шампанскага". У крышталёвай вазе стаяла пяць вялізных чырвоных ружаў (пяць гадоў ростані, пяць гадоў іспытаў на выпрабаванне чалавечай годнасці?)… Стаялі ў місах прыгожыя, і таму, мусіць, смачныя стравы…

А за сталом сядзела Яніна ў белай сукенцы – свяцілася ад шчасця. Высокая прычоска (і калі паспела прывесці сябе ў такі святочны выгляд?), усмешка на вуснах, позіркам пыталася, ці здзівіла яна мяне…

Ды не гэта ашаломіла мяне. А тое, што Яніна была падобная на тую, ранейшую, даўнюю, калі мы толькі-толькі пазнаёміліся – было ёй трошкі больш за дваццаць год. Ці можа быць такое на яве, а не ў казцы, не, такое можа быць толькі ў прыгожым казачным сне… Значыць, і яна зноўку нарадзілася, як і я на лузе – за Сожам, і ў яе, як у мяне, нараджаліся маладыя жаданні, як казаў Багдановіч?..

"Мне ж гэта сніцца, Мухіко сан, скажы, не маўчы!.."

– Мне гэта сніцца, Яніна? Сніцца, скажы?

– Не, Антон, мой любы, не сніцца. То ты сваім каханнем зрабіў такі цуд. Таму я і памаладзела на дзесяць гадоў. Гэта – ява, і мы з табой – жывыя, сапраўдныя, і мы з табой – закаханыя, і каханне нашае доўжыцца не адно стагоддзе…

Я сеў насупраць. Не зводзіў з яе вачэй.

Калі мы стукнуліся лёгенька крышталёвымі фужэрамі, напоўненымі залацістым нектарам радзівілаўскага гатунку, я міжволі зірнуў на сцяну, якая прыцягнула маю ўвагу… На ёй, усутыч, адна каля адной на аднолькавай вышыні, віселі тры – у памер газетнай паласы – ці то фатаграфіі, ці то малюнкі. На адной з іх я пазнаў Саяму, на другой – Таццяну, на трэцяй… буйным планам фасетачныя вочы Мухіко. Саяма плыў на сейнеры "Чорная пантэра". Таццяна стаяла ў праёме сваіх дзвярэй і махала (мне?) рукой. А Мухіко ляцела над Токіа – пад ёй былі бачны начныя агні горада…

Калі яна паспела ўсё гэта аформіць і развесіць на сцяне?

– Дык гэта ўсё сапраўды было?!

– Было, Антон, сапраўды было… “То не мроі, а ява, як сапраўднае наша жыццё…” Ты ж так, здаецца, пісаў у сваім зборніку вершаў, ці не так?

Напой салодкі, з кіслінкай, дзівосны і незразумелы, як і нашае каханне… Мы пілі і не хмялелі, гаварылі і не маглі нагаварыцца… Узляталі ў блакітнае неба, не адчуваючы вышыні, не бачачы перад сабою планеты… Мы чаргавалі асалоды – нейкі час праводзілі на кухні, тушачы шал, а потым вярталіся ў спальню – пад воблакі-прасціны – на планету Ахутавану…

Калі стамляліся нашыя крылы ад тугога паветра, калі мы зняможана раскідвалі іх на падушкі, – прашаптаў я соннай і зняможанай Яніне:

– Ты паспі, адпачні, бо ты з дарогі… Я адлучуся па сваіх клопатах. Праз гадзінку вярнуся. Толькі ты не ўцякай больш ад мяне, добра?

Не расплюшчваючы вачэй, прашаптала:

– Добра, маё сонца, ляці… Вяртайся…

5

Не верылася, хоць забі, не верылася да канца ў тое, што адбывалася пасля прыезду Яніны. Таму не вытрымаў, сеў на “чацвёрку” – і тралейбус даімчаў мяне да прыпынку “Сасновая”. Прайшоў трохі назад, узяў лявей, пачаў шукаць яе дом… Стаяў на месцы, нікуды не падзеўся…

Падняўся на другі паверх, падышоў да яе дзвярэй – № 25, паразважаў, што рабіць – пазваніць ці адкрыць дзверы ключом, што дала мне Таццяна. Дастаў яго з кішэні і трымаў у руцэ… Уставіў у шчылінку, але ён не тапіўся да канца – зусім быў іншы замок.

“Калі паспела пераставіць?” Пазваніў. Доўга чакаў, калі адчыніць дзверы гаспадыня. Праз колькі хвілінаў шчоўкнулі ўнутраныя засаўкі, прачыніліся дзверы, і на парозе стала жанчына ў старым паношаным халаце. У зубах цыгарэціна. Спытала строга, змераўшы мяне з ног да галавы:

– Вам каго?

– Мне Таццяну Аўсяюк. Яна тут жыве?

Яна здзіўлена акругліла вочы:

– Якую Таццяну? Я тут сорак гадоў жыву адна. Не ведаю такой… І нікога я не брала ніколі на кватэру… Вы можа не пахмяліліся сёння, малады чалавек?

Калі ж выйшаў на вуліцу, найперш пацікавіўся назвай вуліцы. Шыльды сведчылі, што вуліцы не насілі імёны слынных сыноў ліцвінска-беларускай зямлі Каліноўскага і Касцюшкі. Вуліцы называліся інакш, ды яшчэ на расейскай мове – Коммунистической и Дзержинского…

Калі ж прайшоў да таго дома, дзе павінна быць бібліятэка імя Еўфрасінні Полацкай, то на першым паверсе знаходзілася не бібліятэка, а “магазин “водка-вино”, і п’яныя члены электарата сеткамі насілі таннае “чарніла”… І бібліятэкі, значыць, зусім не было?!

Дык што ж тады ўсё-ткі было?! І ці было ўсё тое наогул? І ці з’язджала ад мяне Яніна? І ці я сам – Антон Клімовіч? І ці былі падзеі, у якіх я варыўся? Хто прыдумаў усё тое і для чаго?

Хто дапаможа мне раздзяліць праўду ад маны, рэальнасць ад уяўнасці, на тое, што было насамрэч, а што прымроілася ў маёй галаве? Хто?

6

Калі вярнуўся дадому, Яніна спала, падклаўшы пад шчокі далані – скурчылася, падабрала ногі, як быццам было холадна ў кватэры. Не чула, як я зайшоў, а мо і чула, ды не паказвала выгляду. Накрыў яе махровай, на ўвесь ложак, прасцінай. Жанчына ўсміхнулася, як падзякавала, што ўгадаў яе жаданне. Ці буду я ўгадваць яе жаданні і надалей?..

На кухні наліў паўшклянкі гарэлкі і выпіў нагбом, каб утаймаваць незразумелую дрыготку і хваляванне. Але смаку не адчуў, і ў кроў, здаецца, алкаголь не папаў…

“Што са мной адбываецца? Ці рэальна ўсё, што я бачу? А калі рэальна, то чаму не адчуваю? Калі ж то сон, то чаму не магу прачнуцца?!”

За акном вецер згінаў галіны дрэў, яны стукаліся ў шыбы, як напаміналі пра нешта, ці стараліся растлумачыць мне пра маё незайздроснае становішча… Толькі я ўжо, здаецца, развучыўся разумець мову ветру.

Перада мною, на стале, ляжаў далькажык Саямы. Набраў на дысплеі роспачнае пытанне: “Хто ж я ў гэтым свеце і як мяне назваць пасля ўсіх прыгодаў?” Міргалі доўга лічбы, наскокваючы адна на адну, высвечваліся формулы, а потым на маёй роднай мове высвецілася ўсяго толькі адно слова з шасці літар… Як прысуд. Як дыягназ маім дзеянням і мроям. Каб зразумеў, што нельга жартаваць у жыцці з многімі рэчамі, каб умеў заўсёды адрозніваць мроі ад рэальнасці, жаданні ад іх здзяйснення…

Доўга сядзеў на кухні ў роздуме, даючы рэальную адзнаку сваім дзеянням і ўчынкам. Шмат чаго мне самому не падабалася ўва мне, і было сорамна за сказаныя неўлад словы, за сваю саманадзейнасць, за не падмацаваную нічым радасць, за… Адзінае тое слова, што высвецілася, было чыстай праўдай… Хаця яно было і абразлівым, я не крыўдаваў. А на каго было крыўдаваць, як не на самога сябе? Праз прачыненыя дзверы кухні бачыў, як падымалася Яніна. Яна спусціла ногі з ложка.

На падлозе, каля яе ног, былі Саямавы дзоры. (Дык дзоры засталіся – і яны маюць яшчэ магічную сілу?!)

Хто іх дастаў з маёй валізкі? Чаму яны аказаліся каля ног Яніны? Яна ці хто іншы падсунуў іх? Я зразумеў, што можа адбыцца праз секунду-дзве, калі яна ўсуне ногі ў цёплыя тапкі. Мне хацелася крыкнуць, каб яна не рабіла таго – не дакраналася да дзораў, бо хапіла ж з нас выпрабаванняў-іспытаў, – але ў мяне акамянеў язык і я не мог вымавіць ні слова, тым больш не мог закрычаць – папярэдзіць…

Яна ж глядзела на мяне праз прачыненыя дзверы, усміхалася, нават міргапула мне, падбадзёрваючы, дзякуючы, што спраўдзіліся яе ўсе жаданні, – як бы разважала-вагалася – ісці ёй у ванную босай ці ў дзорах…

Я са страхам чакаў, што яна зробіць, і не мог ужо ўмяшацца ў сітуацыю – не кіраваў ёю: нехта адабраў ад мяне такую магчымасць. Мне было страшна, трывожна і неспакойна.

Яніна пазяхнула, пацягнулася, выдаўжыўшы рукі над галавой, ужо не гледзячы на мяне, паспрабавала адшукаць нагамі пакаёвыя пантофлі…

І…

7

– Бзз-ззз-зззззззззззз!.....

*Санаторый “Бярэсце”,*
*25 лістапада – 5 снежня 1998 года*

.....................................................................

***Ад аўтара.*** *Самаабвяржэнне. Калі ж хто з чытачоў ці тых, хто ўбачыць у гэтым творы паклёп на рэчаіснасць, я скажу наступнае: да напісанага вышэй я не маю ніякага дачынення. І прозвішчы, і падзеі не адпавядаюць праўдзе, – то хворыя выдумкі ці трызненні крылатага стварэння. Такога не можа быць ні ў нашай і ні якай іншай краіне, бо такога не можа быць увогуле.*

*Таму я здымаю з сябе ўсялякую адказнасць, усе прэтэнзіі да пляткаркі Мухі – Мухіко сан. І хіба ж ёй накінеш каручнікі? У яе і рук нямашака... Хіба на крылы – накрыльнікі? Таму перашкодзіць ёй у выкладанні падзей, з яе пункту гледжання, я не змог.*

*Яна без майго дазволу і ўзгаднення ўставіла ў кнігу свае ўспаміны, свае асабістыя бачанні таго свету, у якім яна знаходзілася. І я ўжо нічога не мог зрабіць, нешта перайначыць... За свае ўчынкі і ўсё напісанае няхай яна сама і адказвае...*

# Курт – сябар Петруся

*Дакументальная аповесць*

*пра Пятра Сіліча, на вялікі жаль, нябожчыка, якому ў гады вайны было пяць-сем гадоў...*

*Яго бачанне вайны...*

*“І зразумеў я, што няма інакшай мудрасці для нас, чалавекаў, акрамя той, што трэба быць па-чалавечы добрым і мужным, – у часы бурнаплыннай маладосці і на марудлівым сконе дзён”.*

Міхась Стральцоў
“Адзін лапаць, адзін чунь”

*“А Я кажу вам: любеце ворагаў вашых, дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых, рабеце дабро ненавісьнікам вашым і малецеся за крыўдзіцеляў вашых і за ганіцеляў вашых; каб сталіся вы сынамі Айца вашага, Які ёсьць у нябёсах...*

Евангелле ад Мацвея, 5:44-45

Ноч...

Глыбокая і золкая ноч раскашоўвалася на зямлі...

Два чалавекі, на адлегласці адзін ад аднаго ў некалькі дзясяткаў соцен кіламетраў, прачнуліся ў адзін і той жа час.

У Гомелі было тры гадзіны ночы, а ў Санкт-Пецярбургу – чатыры, так рассунуліся гадзіны па раскладзе новага адліку часу, калі ўсталяваліся межы паміж дзяржавамі, якія адчулі сябе самастойнымі і незалежнымі...

У вокны абодвух глядзелі, пераміргваючыся, густыя зоры і паўнатварая поўня, як шляхетная паляшучка, між іх.

І Малочная Дарога Неба – бальшак касмічных валацужнікаў – указваў чалавечым душам кірунак у сваю бессмяротнасць...

Зоркі былі буйныя, як пераспелыя жытнія зярняты ў коласе, поўня – як задумлівая дзяўчына перад вяселлем. Час адлічваў свае секунды і хвіліны, з якіх складваліся стагоддзі і бясконцасць быцця...Гамяльчанін не вытрымаў, паглядзеў за акно, потым, як адчуўшы нейкую трывогу, выйшаў на балкон і закурыў.

У другім далёкім расійскім горадзе Віктар Дударэнка, даўно ўжо Віктар Рыгоравіч Дударэнка, таксама выйшаў на шырокі балкон, з якога быў відзён Ісакіеўскі сабор – таксама закурыў і глядзеў на поўню. Поўня свяціла абодвум у твар, дасылала кожнаму сваё дабраслаўленне, злучыла іх позіркі і душы.

Пятра Сяргеевіча Сіліча і Віктара Рыгоравіча Дударэнку разбудзіў адзін і той жа сон: быццам бы Курт пасадзіў іх – Петруся і Віцьку – на самаробныя саначкі (сам жа і змайстраваў іх), пасадзіў спераду, а сам сеў ззаду, – і пакаціў іх з высокай горкі. Саначкі былі маленькія, лёгкія, хвацка ляцелі з гары, набіраючы і набіраючы хуткасць... Здзіўляліся толькі – як на такіх маленькіх саначках змаглі яны ўмясціцца ўтрох...

Вецер свістаў у вушах, прабіраў да касцей, а ім, падшыванцам, было весела і радасна, як і радасна было іх даросламу сябру – Курту Венцэлю, які таксама любіў гуляць у дзіцячыя гульні, – але саначкі набіралі і набіралі разбег, шалёны разбег, што аж душа трымцела, і ад таго рабілася страшна... А Курт крычаў-галёкаў нешта радаснае і вясёлае на сваёй мове...

Хлапчукамі авалодаў страх. Ён перарастаў у нешта жахлівае, прымушаў сцяцца, напруціцца ўсё цела, – і яно здранцвела, стала як чужое, як і не іх. І ў іх ужо не ставала сілы крычаць, прасіць у каго-небудзь дапамогі, а Курт, размахваючы рукамі, ускрыкваў задаволена і радасна адно і тое ж слова: “Гут! Гу-ууут!..”

– А-ааа! – сіліўся закрычаць Сіліч.

– А-ааа... а-ааа! – спрабаваў вырваць з сябе голас Віктар Дударэнка, – у сне ён заставаўся хлапчуком Віцькам...

Прахапіліся яна аднačасова.

На вуліцы раскашоўвалася ноч. Глыбокая зімовая ноч. З халоднымі зоркамі і маладой, у росквіце красы і прыгажосці, поўняй.

“Дзіўна, – падумаў Пятро-Пятрусь, ніяк не могучы атрэсці з сябе рэшткі сну, – чаму прысніўся ты мне, мой дарагі сябрук Курт? Адкуль ты клічаш мяне, пра што хочаш нагадаць-напомніць? Пра сваю віну? Дык і не было яе асабіста ад цябе, наадварот, у маёй памяці ты застанешся самым дарагім чалавекам сярод чужых, не родных мне людзей. Што ж там здарылася ў цябе, на тваёй Планеце, што прымусіла цябе наведацца ў маю дзіцяча-дарослую душу? Неспакой за мой лёс, за маё здароўе?.. Ці што іншае? Няўжо ведаеш, што мне цяжка, невыносна цяжка – і фізічна, і духоўна?..”

“Цікавыя адбываюцца рэчы, – падумаў недаўменна Віктар-Віцька, патушыўшы цыгарэціну, прыйшоўшы ў пакой, завітаў на кухню, сеў за стол. Каб зняць хваляванне, наліў сабе беларускай “Белавежскай” у вялікую чарку – і за адзін глыток выпіў налітае. – Чым бліжэй да нас падкрадваецца старасць, тым часцей напамінае пра сябе дзяцінства... І чаму менавіта Курт напамінае нам пра тое? Дзе ж ён цяпер, дзе душа яго, на якім ён цяпер небе? Тады ж яму было, мусіць жа, гадоў з трыццаць, ну, мо меней на гады тры... А мо і жывы яшчэ, калі выжыў, калі вылузаўся з чорных лапаў той недарэчнай і нечалавечай вайны, калі не загінуў, як нямецкі палонны... Чым жа мы тады запалі табе ў душу, добры наш сябар Курт? Мы памятаем твае добрыя вочы, твой дабразычлівы пагляд, цяпер толькі здагадваемся, што ты ў кожным з нас, асабліва ў Петрыку Сілічу, бачыў свайго сына... Ці ўбачыўся ты хоць з ім? Ці лічыў ты тое спатканне і сяброўства з намі развітальным акордам са сваім сынам? Можа і так, хто ведае... Мы верым, што Бог дапамог выжыць табе, бо ты быў веруючым чалавекам, і строга прытрымліваўся аднаго з запаветаў – не забі...”

У абодвух нарадзілася жаданне напісаць адзін аднаму доўгі і падрабязны ліст, падзяліцца сваімі думкамі і ўспамінамі, папрасіць даравання адзін у аднаго за маўчанне, успомніць добрым словам свайго сябра – Курта Вянцэля... І дзіўна – тыя лісты былі б падобныя адзін да аднаго. Бо адны і тыя ж думкі наведалі іх, прыйшлі да сяброў адначасова. І пісалі б яны пра адно і тое ж – успаміналі б дзяцінства, Забалацце, свае дзіцячыя гульні, нямецкіх афіцэраў, з якімі жылі ў дружбе і зладжанасці, адчуваючы іх прыхільнасць да сябе і ахову ад ворагаў – сваіх і чужых...

Калі яны – Пятро і Віктар – здагадаліся хаця б пазваніць адзін аднаму, то адразу знялі б з сябе тое незразумелае напружанне і боль, што падгарнуліся да іх ў адну і тую ж хвіліну. Але Пятрусь баяўся, што разбудзіць сярод ночы Віктара ў Піцеры, а Віцька шкадаваў трывожыць сон свайго сябра ў Гомелі...

А тэлефон жа стаяў пад рукамі – толькі крутані на дыску неабходныя лічбы, і яны адразу апынуліся б там, у Забалацці, сярод сваіх аднагодкаў, якія заставаліся ў жывых, і якіх няма на свеце яшчэ з той дзіцячай пары, якіх вывезлі альбо якія папалі ў пастку смерці... Але ўсё роўна звінелі б дзіцячыя галасы, радасныя воклічы, смех, – весялосць дзіцячай пары не ведала межаў. Дарослыя толькі не разумелі іх, сцішвалі іх, як яны лічылі, дурную радасць, бо была вайна, вакол смерць і страх, – але ніхто не мог утаймаваць і забараніць ім радавацца жыццю... Дзеці не разумелі дарослых – немцы ж нічога кепскага вяскоўцам не рабілі, наадварот, кармілі іх, аберагалі ад нечаканасцей...

Не здагадаліся, не настоялі на сваіх памкненнях, пашкадавалі адзін аднаго, – ліцвінская сціпласць і далікатнасць узялі верх...

Толькі на адлегласці дасылалі праз прастору часу кароткія сігналы ці то ненапісанага пісьма, ці то шкадавання, а можа і духоўнай падтрымкі... І словы тых сказаў былі цёплыя, шчырыя, поўныя любові і павагі.

*Бо дзіцячае сяброўства, апаленае вайной, хрышчонае ліхалеццем і нішчымніцай, горкімі слязьмі і душэўным болем, будзе працягвацца-доўжыцца і на тым свеце не адно тысячагоддзе...*

1

Вечаровае стомленае сонца раскідала млява-крывавыя пырскі па высозных гурбах мяккага, яшчэ не зляжалага, снегу.

Здавалася, што снег выпраменьваў пахі свежага сырадою ці тварагу, пацвельваў над галоднай дзіцячай душой і страўнікам, – і тады міжволі на язык накотвалася сліна і хлапчук каўтаў яе, каб не захліпнуцца. Кружылася галава, падкошваліся ногі.

Над Забалаццем плыла мройная і звонкая цішыня, і таму здавалася, што не было на свеце аніякае вайны і калатнечы, ніякіх чужых людзей у вёсцы, чужой мовы, ніякага гуду чужых машын, – тое было ў нейкім трывожным сне, у хворым трызненні. Падціскаў ужо ладны марозік, дужаўся з кароткім зімовым днём, рожкамі маладзіка біў пад бокі, браў верх. Заходзіліся ў шпары ногі, праз дзіравыя чаравікі дапякаў холад, але Пятрусь не спяшаўся ўцякаць ад яго ў хату, хаця не адзін раз гукала маці і пагражала нават:

– От бо выйду, ды перацягну бацькавай дзягай па рэбрах – не хапала яшчэ, каб застудзіўся на такой халаднечы... От, Божачка, неслух расце, ну што з ім паробіш!.. Ідзі дадому – зараз жа!

Пятрусь усміхаўся, чуючы матчын голас, але ведаў, што яна зусім і не злуецца, занятая сваімі клопатамі ў хаце, а сварыцца для прыліку, каб паказаць сваю злосць, што не адабрае яго стаяння на вуліцы.

– Іду, іду! – адгукваецца сын, але ўсё яшчэ не адрывае позірк ад вялікага сланечніка-круга, не ведаючы, чаму ў яго ногі прыраслі да ўмерзлай са снегам зямлі, і якая колецца тысячамі іголачак, што і ўтрываць нельга, як не танцуе, пераступаючы з адной нагі на другую.

А сонца завісла над Шкрадзюковымі платамі, што ледзьве тырчаць з-за гары снегу, – яно акурат уціснулася ў разгаліну куртатай дзічкі, – як зачапілася сядно ў тую расшчэліну і не мела сілы адарвацца, вылузацца з палону і нырнуць за высокія сумёты шэрай смугі гарызонту.

Недзе брахнуў коратка і як бы боязна сабака – ці не ў Аўгушовых, а мо і за імі ў каго, не разабраць. Рэха паскакала па сумётах і платах, як мячык, – і зглухла ў кустоўі, што падступаліся да лугоў. Ногі ўжо, здавалася, не адчу-

валі холаду. Яны ўжо зліліся з халадэчай, і Пятрусь забыўся на перасцярогу – адно “танцаваў” і слухаў, як парыпвае пад дзіравымі падэшвамі чаравікаў крухмальны снег.

Аднекуль вынырнула нячутна сініца, пырхнула шэрымі крыльцамі і села на частаколіну, што была за паўметра ад хлапчуковых вачэй. Глядзела на яго цікаўным вочкам, як дзівілася з яго – чаго мерзне на такім марозе. Увага хлопчыка перабегла на маленькую птушачку з жоўтай манішкай на грудзіне, і ён не ведаў, як паводзіць сябе побач з ёю. Сінічка прылятала і раней, не толькі зімой, а і летам, восенню, калі з дрэваў злятала зжоўклае лісце. Цяпер жа ён ведаў, што сінічка прасіла ў яго есці. Ён пашкроб кішэні – мо што засталося там пасля сухароў, што насіў заўчора, калі пачаставала маці, – але няшмат назбіралася ў дзіцячую жменьку рэшткаў хлеба. Выкінуў шалупінне на снег каля плота – і туды ж адразу пырхнула сінічка, нешта знайшла для сябе, бо дзюбкай раз-пораз дзяўбла нябачны наедак.

“Значыць, засталося нешта для сінічкі, – радасна падумаў хлопчык, зноў запусціўшы руку ў кішэньку, але нічога ўжо выграбці не ўдалося – амаль пустую жменьку выняў і растапырыў пальцы. І зноў сінічка, яшчэ з большым імпэтам, накінулася на пацяруху. – Сам галодны, дык хаця сінічку падкармлю, – падумаў горычна Пятрусь, не адрываючы позірку ад крылатай госці. – Добра ўсё ж дзяліцца з некім, калі хоць нешта маеш...”

Ён зноў зірнуў на Шкрадзюкову грушку, і яго тут жа апанавала расчараванне – сонца ў разгалістай выемцы не было, яно ўжо схавалася за гарызонтам, толькі чырвоныя водсветы выпраменьваліся ў крывавых аблоках, што нізка плылі над зямлёю, у тым баку, дзе, як казаў бацька, быў Бабруйск.

Неўпрыкмет знікла і сінічка, ведаючы, што ў хлопчыка скончылася частаванне. Сонца схавалася, не паказаўшы на развітанне нават акраец свайго брыжыка. Ён здрыгануўся, сцепануўся ад холаду. Падышоў да дзвярэй, узяўся за клямку. Яшчэ раз азірнуўся: на небе нават і водсветаў чырвоных ужо не было. Сонца легла на спачын. А мо і ўцякло ад марозу.

Ён адчыніў дзверы, і першае, пра што падумаў, дык гэта пра тое, як яму цяпер адагрэць ногі: іх амаль не адчуваў.

2

– А што ж было пасля, баба Васіліха? – папытаўся Пятрусь у жанчыны, седзячы насупраць, пазіраючы ў яе светлыя і спагадлівыя вочы. – Раскажы, баба Васіліха...

– Ото калі цікава вам, нябожкі, то і раскажу. Чаму ж не расказаць...

Васіліха нахіліла ў правы бок галаву, прымружыла вейкі, як усё роўна старалася ўбачыць тое, пра што збіралася апавядаць хлапчукам – Петрусю і Віцьку – уздыхнула, сашчапіла на каленях вузлаватыя спрацаваныя пальцы, вялікімі круціла адзін вакол аднаго, на нейкі момант замоўкла, як збіралася з сіламі і думкамі.

– І пасля гэтага  Гасподзь угледзеў чатырох анёлаў, а яны, у сваю чаргу, стоячы на чатырох вуглох зямлі, трымалі чатыры вятры зямлі, вельмі ж стараліся, каб ня дзьмуў вецер ні на нашую зямлю, ні на глыбокае мора, ні на якае дрэва – малое і вялікае...

“Як толькі такое і можа быць – чатыры вуглы зямлі? – недаўменна думаў Пятрусь, але стараўся не перабіваць бабу Васіліху, бо ведаў, што яна надта ж не любіць, калі яе перабівалі – саб’ецца з думкі і зусім перастане расказваць пра тое, што сніла-мроіла. – Як цікава Васіліха расказвае – дзень і ноч слухаць яе можна...”

Не адводзіў позірку ад яе і Дударэнка. Думалі абодва над тым, што казала жанчына.

– І тады, нябожко, Гасподзь угледзеў і другога анёла. А ён ужо ўзыходзіў ад усходу сонца, і вялікая адказнасьць ляжала на ім – ён меў пры сабе пячаць ад Бога Жывога. І тады ён, увабраўшы ў сябе нябеснага паветра, гукнуў на ўсю моц вялікім голасам да тых чатырох анёлаў, якім і было дадзена чыніць шкоду і зло зямлі й мору, дрэвам і птушкам...

Васіліха ажывілася, набрала ў грудзі паветра, ператваралася ў апавядальніцу-артыстку – вочы гарэлі таямнічым агнём, голас мяняўся, пераўвасабляўся ў іншыя, і хлапчукі здзіўляліся, як гэта ў яе лоўка выходзіць.

– Гэ-гэ-гэ! Слухайце мяне, перш чым узяцца за д’ябальскую справу! Слухайце! Ня шкодзьце ні зямлі, ні мору, ні дрэву, ні птушачцы, ні казурцы да тае пары, пакуль не папячатаем рабоў Бога нашага на лабох іхніх. Пячатка ў кожнага мелася стаяць, кожная жывая істота павінна быць Богам занесена ў свае атраманты-спісы, нічога, нябожко, нічога ў Бога ніколі не выпадала з-пад Яго пільнай увагі...

“Значыць, і пра мяне Бог ведае, і пра Верку, і пра Толіка, і пра Міколку, пра маці, пра бацьку... – Пятрусь не адрываў позірку ад твару жанчыны, адчуваючы, як ад яе сыходзіла нябачнае цяпло – быццам ён сядзеў каля невялікага вогніка і грэўся-радаваўся, і на яго наплывала мройная палярына, як сядно агортваў сон, але не той, глыбокі, падчас якога сняцца цікавыя і дзівосныя сны, а павярхоўны, калі чуеш усё-усё, а сказаць нічога не можаш... – І пра бабу Васіліху ведае, так як і баба Васіліха ведае пра Яго, Бога...”

Гэтаксама думаў пра Васіліху і Віцька.

– І пачуў тады Ян Багаслоў сапраўдную лічбу ўсіх папячатных. А іх, Петрусёк і Віцька, было ні многа ні мала, а сто сорак чатыры тысячы – то з усіх родаў сыноў Ізраілевых...

Із роду Юдавага дванаццаць тысячаў папячатаных. Із роду Гадавага дванаццаць тысячаў... Тое ж із роду Асіравага дванаццаць тысячаў. Із роду Нафталімавага гэтаксама дванаццаць тысячаў, із роду Левіявага і Ізахарава – гэтулькі ж...

– Бабо, а бабо, а адкуль табе ўсё тое вядома? – не ўтрымаўся, забыўся пра перасцярогу Пятрусь, а, спахапіўшыся, апамятаўшыся, са шкадаваннем і трывогай паглядзеў у вочы старой.

– А адтуль і вядома, Петрусёк, бо я кажынны дзень і ноч з Богам размаўляю, з Ім вяду размову.

– І пра мяне ўспамінаеш?

– І пра цябе, і пра Віцьку. А як жа? Часта гавару пра вас, каб абярог ад бяды, каб сілу вам даў абодвум.

– І пра Курта?

– І пра яго таксама. Як жа ён без цябе? Вы ж як два боты – пара...

Пятрусь засмяяўся – вясёлая баба Васіліха! Нездарма ж людзі вымаўляюць яе імя на свой лад – Весяліха. Бо вяселіць усіх.

– Дык от слухайце, дзеткі, што было далей. Бо болей ні ад кога не пачуеце такое. Дык от што далей было... Папячатныя сталіся яшчэ і із роду Завулёнавага, із Язэпавага, Беніямінавага – па столькі ж...

Жанчына чамусьці зірканула за акно, як бы цікавала за кім, але ўпэўнілася, мусіць, што памылілася, ці не было нічога вартае яе ўвагі, зноў да хлапчукоў павярнулася. А пасля як успомніла, што траціць дарма час са сваімі маленькімі суседзямі, за верацяно ўзялася. Паслюніла тры пальцы і пачала скубці з кужалю, што быў прымацаваны да прасніцы, нітку. Верацяно маўкліва закруцілася ў правай руцэ, і Васіліха ўсё далей і далей адводзіла руку ад каленяў...

Пятрусь і Віцька ведалі, што баба Васіліха была майстрыхай на ўсю вёску, што лепш за ўсіх умела ткаць прасцірадлы і ручнікі – вунь на абразах якія прыгожыя. Бабка яшчэ і павітухай была. Маці казала, што то дзякуючы Васілісе ён, Петрусёк, нарадзіўся на Божы свет, як і ён, Віцька Дударэнка...

– Дык пра што гэта я? А, успомніла... Пасля ўсяго гэтага глянуў сьвяты Ян, а перад ім велізарны натоўп, а палічыць, колькі там было жывых душаў, ніхто, здаецца, і не змог бы – із усіх пляменьняў і родаў, і народаў, і языкаў, земляў і абшараў, стаіць той натоўп перад пасадам і перад Ягнём, а ўсе такія незвычайныя, аж свецяцца ўсе, і як быццам бачна кожнага наскрозь, бо былі яны ўсе апранутыя ў белыя шаты, і пальмы, пальмы ў руках іхніх, як

жывыя былі, лісточкі блішчэлі, адсвечваліся ад нейкага таямнічага сьвятла, хаця і сонца, здавалася, не было ў небе...

“А адкуль жа тады сьвятло было? – дзівіўся хлапчук. – Дзе ж тады сонца дзелася? Хто ўкраў яго?..”

– І тады пачуўся адзіны працяглы вокліч, нават не вокліч, а велічны і зычны, як удар языка аб сценку звона:

– Ратаваньне Ягняці!

– Ратаваньне нашым збаўцам!

І што тады, дзеткі мае, адбылося! Усе анёлы стаялі навокал пасаду і сьсівелых ад доўгага веку дзядоў, у якіх бароды цягнуліся па зямлі ў некалькі аршынаў – як воблакі плылі па зямлі, і як па небе, і не чуваць было нават, як яны, бароды, сунуліся па зямлі. Яшчэ тамсама стаялі чатыры жывёліны, і яны няўзнак укленчылі перад пасадам, упалі пысамі ў зямлю і сукланіліся Богу. Так яны ў маўклівасьці стаялі працяглы час, даказваючы і паказваючы сваю павагу і любоў, а потым мовілі ўжо не такім, як натоўп, зычным голасам, а нейкім сцішаным, пакорлівым і спадзеўным:

– Амін! Амін! Амін!..

– Багаслаўленне і хвала, і мудрасьць, і падзяка, і чэсць, і моц, і сіла Богу нашаму на вечныя вякі! Амін!

І тады ж, у тое імгненьне, азваўся адзін з тых сівых пракаветных дзядоў, якія пражылі мо не адну тысячу гадоў, павярнуўшыся да Яна, стаўшы на поўны рост, выпнуўшы наперад грудзі:

– Адкажы мне – гэтыя, апранутыя ў белыя шаты, – хто яны і скуль прыйшлі?

Ян, усміхнуўшыся, мовіў з хітрым прымружам вачэй:

– Быццам ты і сам, васпане, не ведаеш, адкуль і чаго яны завіталі сюды?

І адказаў тады сьцьвярджальна і радасна даўгабароды, што сьвяты Ян усё чысьценька ведае і адчувае, што ад чаго дзеецца і да чаго прыйдзе, ускінуўшы да неба рукі, і барада яго гэтак жа ўзьнялася да неба, зьлілася з кужэльнымі воблакамі:

– Так, сапраўды, гэта тыя, што прыйшлі зь вялікага гора. Так, яны памылі апранахі свае і выбелілі апраткі свае ў крыві Ягняці! Дзеля гэтага яны перад пасадам Бога, і служаць Яму ўдзень і ўначы ў храме Ягоным. І сам ведаеш, васпан Іаан, што і Сядзячы на пасадзе жыцьме ў іх. Так трэба. Так загадана Богам і Небам. І таму ня будуць яны ўжо хацець есьці ані піці, і не падзе на іх сонца, аніякая жадная сьпёка. Бо Ягня, што пасярод пасаду знаходзіцца, будзе іх пасьвіць і вадзіць іх да жывых крыніцаў. І абатрэ тады Бог кожную сьлязінку з вачэй іхніх, асабліва дзіцячых...

Апавядальніца зноў заціхла, услухоўваючыся ў сябе, у хлапечыя душы, перажывала адначасова – ці не нагаварыла чаго непатрэбнага для іх, бо не разумеюць жа яны ўсяго, пра што яна казала-мовіла, – калі ўжо на тое, то яна і не ім апавядала, а самой сабе апавядала, правяраючы, ці ў суладдзі яна з Богам, ці не забылася пра тое, што апавядаў сьвяты Ян-Іаан, але ў тайнічках сваёй душы верыла ўсё ж – хаця ж і не ўсё зразумелі яе малыя слухачы-субяседнікі, але зярняткі спадзявання яна ўсё ж пасеяла ў іх душэўную ральлю. І гэта яны потым, калі падрастуць і стануць мудрымі, стаўшы дарослымі людзьмі, успомняць яе словы. Абавязкова ўспомняць. Не плевелы-пустазелле яна кідала ў ральлю, а Божае слова, дабрыню і пяшчоту. Зярняткі некалі прарастуць і вырастуць буйным і магутным дрэвам. У іх народзіцца вера ў светлае і добрае, і яны паверадь, пераканаюцца потым – усім на свеце кіруе Бог. А чалавеку пакідае толькі магчымасць і жаданне служыць яму, Богу. У іх наперадзе цэлае жыццё, і таму яе словы былі абярэгам ад уздзеяння на іх душы чорных сілаў...

Хлопчыкі разважалі над словамі Васіліхі. Сваім дзіцячым розумам яны не разумелі сапраўднага сэнсу сказанага, але адчувалі, што баба расказвала ім не казку пра чароўныя пераўтварэнні і цуды, а нешта больш значнае, без чаго не абыходзіцца ні адзін чалавек на зямлі.

Нешта падобнае расказвала і маці, але яна гаварыла неяк не так, трошкі інакш, больш проста і коратка.

У бабы ж Васіліхі тое атрымлівалася неяк прыгожа і таямніча, словы захаплівалі, бралі ў палон мройным туманом, суцішвалі боль, а замест яго тут жа падкатвалася суладнасць і супакаенне.

– Баба, а баба, а што ж было далей? Што сталася з тым Ягнём? Ты не думай, што мы маленькія і нічога не разумеем. Мы ўсё чысценька разумеем, толькі пераказаць не можам. Бо не ўмеем мы яшчэ пісаць і чытаць. Але з цягам часу навучымся, вось пабачыш...

Васіліха стомлена ўсміхнулася:

– Навучыцеся, хлопчыкі, навучыцеся, чаму ж не навучыцеся? На тое і мае чалавек розум, каб навучыцца грамаце. А што далей было, пытаецеся? Цікава было далей. Але не ўсё ж адразу і расказваецца. Ва ўсіх добрых клопатах павінны і перапынкі быць, бо чаго зашмат, тое не на карысць і ўжо нецікавым робіцца. Вы разбярыцеся з тым, што пачулі, а потым праз нейкі час зноў наведайцеся.

– А калі, баба Васіліха? – удакладніў Віцька.

– А вы самі павінны пра тое ведаць, – усміхалася, гледзячы на іх, бабуля, паднялася з услона, патэпала да печы. Прыўзнялася на дыбачкі, прасунула некуды руку і, мусіць, з нейкага патаемнага мяшэчка зачарпнула жменю і

другую гарбузікаў з арэхамі, сушоных дзічак-грушак... – Во, вазьміце, патачыце зубкі...

Жанчына забожкала, зноў гледзячы ў вокны. На дварэ пачынала ссутоньвацца, на шыбах вымаляваліся дзівосныя ўзоры. Ведама ж – дужэў мароз, браўся ў сілу. Жанчына як бы ўжо й не глядзела на хлапчукоў, якія завіталі да яе ў госці, яе ўжо непакоіла нешта іншае – трывожнае і неадступнае. Яна прыкусіла ніжнюю маршчакаватую губу, задумалася на момант – як вырашала нейкую сваю задачку, якая непакоіла яе, турбавала. Васіліха то падыходзіла да печы і заглядвала ў яе чорнае чэрава, то спынялася каля акна, зноў жа нешта выцікоўваючы. Але што можна было там убачыць, калі па шыбах спрэс мароз намаляваў дзівосныя казачныя галіны і карункі...

Пятрусь адчуў, што яны з сябрам ужо і пераседзелі ў хаце бабулі, мо нават і замінулі ўжо, і ёй не да размоў з імі цяпер, не да тлумачэння Святога Пісання...

– То мы пойдзем ужо, баба Васіліха, забавіліся мы ў цябе, і маці нашы будуць непакоіцца, – сказаў, стоячы ў парозе, за абодвух Пятрусь.

– Аўжэ ж, нябожко, ідзіце, ідзіце, – азвалася старая – як і не да іх, а да некага іншага і нябачнага ў хаце, – маці спытай, чаго доўга да мяне не заходзіла... Ідзіце, хлопчыкі, ідзіце. Не мінайце маёй хаты.

Васіліха ўжо і не была падобна на тую Васіліху, якая была перад імі колькі хвілінаў назад – гаваркая і дабрачая, і ў вачах свяцілася дабрыня і спагада, сама свяцілася нейкім таямнічым святлом, якое ахутвала іх, – цяпер жа яна падалася быццам бы і чужой, якой і не бачылі да гэтага. Бо вунь як голас памяняўся, пастражэў.

На яе твары стома. І – боль. Туга і скруха.

– То дабранач, баба Васіліха! – узяўся за клямку Дударэнка.

– Дабранач, нябожко, дабранач! Хай памагае вам Бог!

Як толькі выйшлі ў двор, убачылі, як сядала сонца за небакрай – і брыжык чырвоны ўбачылі, які Пятрусь празяваў надоечы. І тады да сяброў прыйшоў цёплы настрой – падумалі, раз убачылі захад сонца, то ўсё ў іх будзе добра. Гэтай прыкмеце яны прывучыліся верыць.

Пад ногі кінулася шэрая чародка неспакойных вераб'ёў, пырхнулі крыльцамі, зноў памкнуліся некуды за платы. Петрусю здалося што яны, вераб'і, усе да аднаго сталі белымі – як анёлы, пра якіх апавядала баба Васіліха. Птушкі паляцелі напрамкі да брыжыка сонца і зніклі – як згарэлі ў чырвоным полымі. Азірнуліся – у хаце бабы Васіліхі было ціха, як ніхто ў ёй і не жыў.

Цішыня стаяла ва ўсім Забалацці, было незвычайна ціха. Сябры, развітаўшыся, разышліся ў розныя бакі. Холад зноў падкраўся да Петруся і выкраў

у яго цяпло. Ён сцепануўся ад холаду, пашыбаваў да сваёй хаты. У кішэні прыемна грэла думкі жменька гарбузікаў. Во абрадуецца Верка, калі ён насыпле ёй у далоньку дарункаў бабулі. Будзе абавязкова дапытвацца, дзе ўзяў. А ён і скажа ёй, што вавёрка з лесу прынесла. І гарбузікі, і арэхі.

І думаў, што сястрычка ўсяму паверыць...

У вокнах хаты Сілічаў ужо запалілі святло – на камінку разгаралася лучына, якую бацька заўсёды нарыхтоўваў летам са смалістых пнёў.

Пятрусь узяўся за халодную клямку...

3

Немцы ў Забалацці з'явіліся нечакана.

Усе ведалі, што вораг узяў Бабруйск. Забалацянцы трывожна перагаворваліся, перашэптваліся, у душы кожнага нарастала трывога за заўтрашні дзень.

Пятрусь не чуў, пра што гаварылі людзі, не ведаў, як і не ведаў, хто такія немцы і што такое вайна... Разумеў з урыўкаў нечаканых размоў, што вяскоўцы гаварылі пра нешта страшнае, якое ўсялілася ў іх душы і жыццё...

Ноччу сніліся страшныя сны са злымі пачварамі, страшыдлы з рагамі і даўжэзнымі крыламі. І тады ён усхопліваўся, напалоханы страхамі сну, крычаў незразумелае, ратуючыся ад нечага невядомага і жахлівага.

– А мо нас абыдуць? – меркавала маці, гледзячы на бацьку. – Мо не зачэпяць нас, га?

– Цыц, старая, – агрызаўся нязлосна бацька, смокчучы сваю цыдульку, – як гэта абыдуць, калі мы знаходзімся побач з асноўнай дарогай, га? Прыскачуць, вось пабачыш, і радасці ад іх не будзе, але што паробіш...

Чужынцы прыехалі сярод дня. У самую спякоту. Немчукі былі запыленыя, у касках і без касак, у нейкім шэрым, непрывычным для вяскоўцаў, адзенні, у ботах з кароткімі халявамі, з невядомымі мелодыямі, што вывадзілі яны на губных гармоніках...

Немцы згружалі з высокіх машын нейкія скрынкі, металічны посуд, коўдры, прасціны, і шмат чаго не зразумелага для яго, Петруся. Машын ён такіх да гэтага не бачыў. Ён увогуле не бачыў ніколі ніякіх машын – і гэта для яго цяпер было вялікім дзівам.

Здзівіла яго і яшчэ адна акалічнасць у тэхніцы – яны гудзелі, а з трубы, што тырчэлі ззаду, выходзіў сіні дым. Хлопчык не ўтрымаўся, падышоў да тае трубы, унюхаўся з асалодаю ў яе смярдзючы дым. Ён ніколі такога паху не смакаваў. Гэта напомніла, як ён са старэйшымі хлапчукамі паліў на вогнішчы старую гуму. Але тут было штосьці іншае, тут не гума, – гэты дым, мусіць, і штурхае магутныя машыны.

Немцы гергеталі на сваёй мове, рагаталі, жартавалі між сабой. Нейкі высокі, і адзенне было не такое, як у іншых, аддаваў каманды і загады. І людзі, што былі ў касках, слухаліся яго. На хлапчука ніхто не звяртаў увагі, і ён асмялеў, абышоў машыну і з другога боку, стаў спераду, пакратаў пальцам фары, правёў паласу па брудным шурпатым шкле.

Дзядзькі, што прыехалі да іх, падаліся хлопчыку не злымі.

Яны штурхалі адзін аднаго, абліваліся вадой, калі мыліся, але пра што яны гаварылі, зразумець не змог. Адзін з іх, што корпаўся ў сваёй валізцы, дастаў з яе нейкую бліскучую паперчыну, нешта загорнутае ў ёй, і падазваў да сябе Сіліча. Хлопчык не ведаў, падыходзіць да яго ці не. Але, убачыўшы ў яго светлых вачах давер і дабрыню, ступіў наперад.

Незнаёмец выдаўжыў руку з бліскучым невялічкім пакуначкам.

“Браць ці не? Бацькі заўсёды гаварылі, што ніколі нельга нічога браць у невядомых людзей”.

– Бітэ, бітэ, – гаварыў даверліва мужчына ў форме афіцэра – у яго былі чорныя валасы, і тварам быў нечым падобны на брата Толіка. – Бітэ...

Петрык усё ж недаверліва паглядзеў на незнаёмцаў, такіх не падобных да забалацянскіх людзей, а таму і незразумелых і неспадзяваных, і рука паміма волі падалася да бліскучага падарунка – як міласціну ўсё роўна прасіў. Але такога адчування на той момант у яго не было, ён яшчэ не ведаў, што такое міласціна, толькі бачыў, як жабракі, праходзячы вёску, прасілі ў людзей хлеба...

То пазней ужо, калі прыходзілі да іх бежанцы недзе з-пад Смаленска, калі хворая жанчына ўпала на зямлю, укленчыла перад маці, шаптала асмяглымі вуснамі: “Паміраю, людцы добрыя, ці не выратавалі б мяне ад смерці?..” Маці не пагнала з двара чужынку, падхапіла яе пад пашкі і амаль зацягнула да парога. Жанчына нічога не прасіла, толькі ўмольвала выратаваць ёй жыццё. Яна раз-пораз кашляла – глуха, надрыўна...

– Нэме, нэме, брать, вкусно, – падахвочваў афіцэр, пры гэтым не пераставаў даверліва ўсміхацца, чакаў, калі хлопец возьме ад яго салодкі ласунак.

Петрык узяў з рук  пакуначак і не ведаў, што з ім рабіць – разглядваў як нейкую дзіваванку. А ўсе глядзелі на яго, чакаючы, калі на яго вачах народзіцца радасць і паспытае тое, што трымаў у руках. Хлопчык круціў у руках бліскучы дарунак і, хоць забі, не ведаў, што з ім рабіць.

Тады афіцэр здагадаўся, чаму разгубіўся хлопчык. Ён сам разгарнуў пакуначак, зашамацеўшы абгорткай, адламаў ад пласцінкі колькі квадратных карычневых частачак, паднёс да рота зніякавелага хлапчука, зноў падахвоціў:

– Эсэн, бітэ, кушать, вкусно...

Пятрусь узяў карычневыя квадрацікі, якія ўжо раставалі на вачах і прыліпалі да пальцаў, паклаў у рот. Тады адразу і зразумеў, што гэта было. Такога смакоцця ён, здаецца, ніколі не спрабаваў. І таму па-дурному заўсміхаўся, гледзячы ўжо вясёлымі вачыма на ўсіх, хто стаяў над ім, і ўжо не смяяўся натоўп, а рагатаў з яго недаверу і недасведчанасці, з яго радаснага нечаканага адкрыцця.

Больш Пятрусь Сіліч не асмельваўся адломваць долькі ад шакаладу, загорнутага ў такую бліскучую і прыгожую абгортку, бо падумаў: “А Верка? А маці?..” Ды і падумаў пра тое, што добра было б піць гарбату, па кавалачку адломваючы і адкладваючы на далей... Дзе ж такога смакоцця раздабудзеш па такім часе? Таму ён загарнуў пакецік і кінуў запазуху, паказваючы, што есці пры ўсіх і ўсё не будзе – у яго яшчэ дома ёсць тыя, каму ласунак прыйдзецца даспадобы...

Калі адсмяяліся, калі аціхлі, калі супакоіліся і нешта зразумелі, то той жа афіцэр, ужо стаўшы сур’ёзным, зноў засунуў руку ў свой чамадан-сумку, дастаў адтуль і яшчэ некалькі плітак шакаладу, падаў хлапчуку:

– Бітэ... Ду іст швестэр унд мутэр... Бітэ... Сестра, мать...

Нехта даў бохан хлеба, хтосьці пакет цукру... Надавалі столькі, што ён усё гэта не мог увабраць у свае дзіцячыя рукі – і багатым чалавекам ён ішоў дадому. Не вытрымаў, падбег да яго самы лепшы сябрук Віцька Дударэнка, здзіўлена паглядаў на яго і на тое, што ён трымаў у руках, спытаў:

– За што яны табе столькі падаравалі?

– А ні за што. На і табе, мне не шкода, – спыніўся Пятрусь, аддзяліў і Віцьку плітку шакаладу, цукар і пачак пячэння.

Сябра стрымгалоў кінуўся дадому, каб пачаставаць сямейнікаў салодкімі ласункамі.

Пятрусь ведаў, што не вельмі і вялікае багацце нясе ён дадому. Бацька з маці, калі адышлі чырвонаармейцы і падступаліся да Бабруйска немцы, падаліся ў горад, у якім нікога не было – ні чужых, ні сваіх. Усе крамы былі аддадзены на разрабаванне (усё роўна немцам усё дастанецца!), і бацькі прынеслі адтуль столькі ўсяго-усялякага, колькі здолелі панесці. Яны закапалі ўсё тое ў агародзе, пад яблыняй. Петруся на той час адправілі гуляць на вуліцу, каб не падгледзеў, каб не выдаў потым незнарок ці суседзям, ці тым жа немцам... Але ён падгледзеў адным вокам. Але ён не такі дурны, каб каму расказваць пра тое, язык распускаць не прывык, хоць і быў яшчэ малечай...

Бацькі, як і думаў Пятрусь, сустрэлі яго і прынялі падарункі без асаблівай радасці, што, між іншым, не засмуціла хлапчука. Найбольш хіба рада-

валася Верка, калі брацік даў ёй шакалад, што не даеў там, каля машыны. Астатняе маці прыхавала, а куды, сын і не заўважыў. Па сялянскай завядзёнцы ведаў, што ўсяго і адразу есці нельга – маці пакідала на далей і для ўсіх.

– Петрык, а дзе гэта ты ўсё ўзяў? – папыталася Верка са шчаслівымі вачыма, жуючы павольна смачны наедак.

– Ды тыя дзядзькі далі, што каля машыны, – кіўнуў на вуліцу.

– А чаго яны прыехалі да нас у вёску?

– Не ведаю... Нейкія немцы, кажуць.

Для Веркі тое слова нічога не азначала. Гэтаксама як і для яго, Петруся. Галоўнае, што яны яму спадабаліся. Не з-за шакаладу і пячэння, безумоўна, што шчодра адарылі яго, а падаліся яны яму нейкімі таварыскімі, вясёлымі.

А потым немцы пачалі раскватароўвацца па хатах. Размяшчаліся амаль у кожнай, дзе было трохі прасторней, дзе можна было паставіць ложкі для адпачынку. У Сілічаў хата была ніштаватая, і нямецкія афіцэры аблюбавалі другую палавіну, дзе было больш прасторней, і вокны большыя.

– У вас будзе жыць нямецкі афіцэр Курт Венцэль. Яму трэба вызваліць жыллё, – сказаў перад гэтым перакладчык – невысокага росту, з вострым даўгім носам.

– Айн хальб, – паправіў афіцэр, здымаючы з рук пальчаткі, чамусьці кінуўшы пільны позірк на Петруся.

– Так, пан Венцэль будзе займаць толькі палову вашай хаты. А вы будзеце жыць у той, што злева.

Пятрусь адчуў на сабе пільны позірк, і ў адказ паглядзеў на Курта. Калі афіцэр усміхнуўся, тым жа адказаў і ён: адгукнуўся на дабрыню незнаёмага чалавека. З’явіўся незнаёмец з нейкага іншага, невядомага хлапчуку, свету, таму цікавага і дзівоснага, – і паміж імі адразу ж нарадзіўся ўзаемадавер і прыхільнасць.

Курт як нечакана кінуў на яго позірк, гэтак жа нечакана і адвярнуўся, гледзячы ўжо на вуліцу. Нешта сказаў салдатам, што былі з ім, – і тыя пайшлі зноў да машыны. З ім засталося некалькі чалавек і перакладчык. Венцэль больш не праяўляў ніякай цікавасці, мелькам кінуў позірк на гаспадароў, што стаялі збоч, задумаўся. Верка спалохана прыціснулася да маці, учапілася ў спадніцу, з цікаўнасцю пазірала на людзей, што стоўпіліся ў двары.

Браты Петруся на вочы немцам не паказваліся. Хлопчыку тое было незразумела. Яны нават сышлі некуды, схаваліся. А чаго хавацца? Вунь як усміхаецца ветліва нямецкі афіцэр, што частаваў яго шакаладам, жартуюць і смяюцца з нечага салдаты. Хіба ж яны могуць што кепскае зрабіць?

У душы хлопчыка спела нейкая незразумелая радасць. То была звычайная радасць сустрэчы з іншымі людзьмі. Яго радасць была падобна на тую,

калі ў бацькоў збіралася процьма народу на свята Савы. Прыязджалі людзі – знаёмыя і незнаёмыя, вясёлыя і негаваркія, пахмурныя і надзьмутыя, – адныя заўважалі яго, другія – не, – але ўсё роўна ад таго тлуму і гармідару на душы рабілася радасна-неспакойна...

Ён тады жыў у прадчуванні нечага незвычайнага, цікавага і дзівоснага, нават казачнага цуду. Тое дзівоснае і таямнічае не прыходзіла, бо людзі былі занятыя сваім – сядалі за стол, пілі гарэлку, спявалі, а на яго забываліся, нават не глядзелі ў яго бок. Яго, Петруся, зноў і зноў зачапіў позірк нямецкага афіцэра. Здавалася, той позірк пранізваў яго, даходзіў да самага сэрца.

Напачатку ён і не пачуў, як яго завуць. Потым і Курт пра сябе напомніць, калі прыйдзе на другую палову хаты, каб бліжэй пазнаёміцца. Маці з бацькам перанеслі транты ў сваю палавіну.  Не разумеў Пятрусь, чаму прыгнечаныя і маўклівыя бацькі, чаму не ўсміхаюцца, чаму маці не спявае больш песень, як раней, чаму браты Толік і Мікола стараюцца не пападацца на вочы чужынцам.

Немцы паводзілі сябе спакойна і ціха, на іх палавіну без асаблівай патрэбы амаль ніколі не заглядвалі. Яны і не выстаўлялі сябе галоўнымі, паводзілі сябе, як кватаранты.

Калі ж маці падаіла карову, адзін з іх падышоў да яе, папрасіў:

– Матка, млеко. Харашо? Гут?

Маці заківала галавой, даўшы зразумець, што ўцяміла, што ён прасіў.

– Добра, пан афіцэр, прынясу вам гладышку малака.

– Данке, мутэр, данке, – ветліва гэтак жа кіўнуў галавой немец і пайшоў да сваіх.

Маці працадзіла малако, адліла ў гладышку – для “гасцей”, панесла ў другую палавіну хаты. Хутка адтуль і выйшла. Выйшла без гладышкі, але ў руках трымала кулідку хлеба. То так нямецкі афіцэр аддзячыў за малако.

Потым пачулася, як у іх нехта зайграў на губным гармоніку. Але Пятрусь не ведаў такога музычнага інструмента – ніколі не бачыў. Музыка яму спадабалася, хаця і была чужой, не такой, якая чулася ў Забалацці.

Але хіба ж уседзіш у хаце, калі на вуліцы раскашоўваецца лета. Калі можна бегаць босаму, купацца, лавіць рыбу. Хлапчукі і наладжвалі сабе гэтую радасць, бегаючы на рачулку, якая вілася па шырокім лузе і ўпадала недзе за ўзлескам у Беразіну.

Старэйшыя дык і з таптухаю поўзалі па берагах, і ім траплялі карасі ды плоткі – добрую тады ладзілі дома юшку. А то і не дома. Хто-небудзь прыносіў з сабою вядро і тут жа, на беразе,  раскладвалі цяпельца і варылі, сыпнуўшы туды трохі бульбы, трошкі цыбулі, лаўрухі ці перцу, ладную і густую юшку.

А тады ўжо кубкамі чэрпалі з вядра смачны кіпень і, абпальваючы губы і горла, маленькімі глыткамі адхлёбвалі пахкае варыва.

Вось і цяпер – хутка забяжыць Васілёк Бандарчук, і яны разам пабягуць на рачулку. Вельмі ж хацелася паплёхацца ў цёплай вадзе...

Над вёскай нечакана загудзеў самалёт. Раней Петрык ніколі не бачыў іх, і таму спалохаўся, не ведаючы, што гэта такое. Бачыў бусла, коршака з вялізнымі крыламі, – дык яны махалі крыламі, а гэты не махае, а ляціць праменька ў адным кірунку. Самалёт зрабіў разварот і паляцеў некуды ў той бок, дзе быў луг.

“Мо пакупацца хоча, як і мы? – падумалася хлапчуку. – А куды ён, цікава, сядзе – на траву ці на ваду?”

Бачыў, што панесліся хлопцы на вуліцы ў той бок, дзе намерыўся сесці самалёт. Але Пятрусь збаяўся чамусьці туды бегчы, сам не ведаў, чаму.

Праз нейкі час да хаты Сілічаў прыйшлі невядомыя людзі ў скураных камбінезонах. На галаве квадратныя акуляры, сонца адсвечвалі.

– Хто гэта, мама? – ціснучыся да яе, спытаў спалохана Пятрусь.

– А гэта, сын, лётчыкі з таго самалёта, што толькі што праляцеў над Забалаццем.

– Лётчыкі? Дык як жа яны змаглі ўмясціцца ў тым самалёце? Ён жа такі маленькі, а дзядзькі вунь якія вялікія.

– То ён у небе маленькі, а як сядае на зямлю, то большы за нашую хату.

– За нашую хату? – не паверыў сын. – Большы?

Лётчыкі былі як бамбізы – здаровыя, нейкія непаваротлівыя. Калі ж знялі з галавы шапкі, то падаліся нейкімі рыжымі, і выглядалі яны стомленымі. Яны пайшлі ў хату – да нямецкіх афіцэраў, а Пятрусь, нічога не кажучы маці, вышмыгнуў на вуліцу і пабег даганяць сваіх сябрукоў.

Ён не мог дапусціць таго, што яны першымі ўбачаць той самалёт, на якім прыляцелі гэтыя людзі ў скураных шлемафонах. Яны ж – Васілёк Бандарчук і Алёша Бандарчук – і будуць потым хваліцца перад усімі, што першымі з усіх хлопцаў падыходзілі да нямецкага летака...

А такой абразы, што ён можа не пабачыць крылатую жалезную птушку разам з хлопцамі, Пятрусь Сіліч вытрымаць не мог. Сам жа сябе потым зневажаць будзе за марудлівасць, абзываць будзе самога сябе рознымі нядобрымі словамі...

Вось ужо і хата Шкрадзюкоў, потым платы бабы Варвары, а далей пачынаўся поплаў – здалёк убачыў, што на выгане стаяў вялізны самалёт з распластанымі крыламі, і хлапчукі, што былі побач з ім, выглядалі маленькімі, бы мурашы...

4

“Божа, Божа, што за насланнё такое на нас? – скрушнаківала маці галавой, уклаўшы спаць дзяцей – Верку і Петруся. Толік і Колька пазбягалі пакуль начаваць у хаце, бо баяліся, што іх, дарослых, можа забраць немчура на якую-небудзь службу. У тыя ж паліцаі. – Вось тады ўжо ад сораму і ганьбы не адцярэбішся, на ўсё жыццё выпэцкаешся ў брудзе. Як жа яно будзе далей, невядома... Каб жа так яны сябе паводзілі і далей, немцы, то яно яшчэ б нічога, а калі... Ой, Божачка, якой тут даць рады, як абысці гора? Як дзяцей уратаваць ад гэтай навалачы, як уберагчы ад бяды?..”

Напачатку напалохалася, страх непазбыўны прычапіўся да яе, як убачыла, колькі нямецкіх ваякаў прыехала ў вёску. Але, на дзіва, яны не ўчынялі ніякіх зверстваў, нічога і нікога не рабавалі, былі гаваркія і вясёлыя. А калі падсялялі ў іх хату афіцэраў, то і зусім супакоілася – да іх ніхто не чапляўся, у хляве стаяла карова, парсюк гадаваўся для зімы, куры хадзілі па двары, гусі...

Аднойчы салдат падкраўся да курынага седайла, доўга цікаваў-чакаў, калі чубатка згубіць яйка, а калі дачакаўся, то курку застрэліў. Яна не пачала сварыцца, не абурылася нават, толькі скрушна паглядала, як немец абскубваў чубатку і пер’ечка ляцела па двары...

Той стрэл пачуў Курт, і таму выйшаў у двор. Убачыў салдата з забітай куркай у руцэ. І нешта выкрыкнуў афіцэр злоснае салдату. Той выпусціў з рук чубатку і стаў навыцяжку. І яшчэ колькі хвілін выгаворваў нешта салдату, а потым падышоў да Алены Іванаўны і неяк вінавата сказаў:

– Эндшульдзіген зі бітэ, мутэр!

Што ён сказаў, жанчына не зразумела, але ў голасе пачула вінаватасць. Яе тое найперш уразіла і здзівіла. Сама цікавае выйшла тое, што ні ў тыя дні, ні пасля таго здарэння, нават за ўсе гады вайны, калі ў іх знаходзіліся нямецкія афіцэры і салдаты, ні ў іх, нават па ўсёй вёсцы ні ў кога нічога не забралі, не адабралі... Больш таго, нікога не расстралялі, не павесілі, не спалілі ніводнай хаты...

Як быццам сам Бог ахоўваў і аберагаў забалацянцаў ад бяды і гора. Хаця ж ведалі людзі, што не ўсюды такое было, што па ўсёй краіне лілася кроў і гарэлі паселішчы, гінулі дарослыя і дзеці, і невядома яшчэ, ці выжыве ўвесь народ і краіна...

У адзін з дзён, калі адлілі цёплыя і спорныя дажджы, прыехалі ў вёску і немцы, і паліцаі, і шмат якіх яшчэ невядомых людзей...

“Божачка, скончылася нашае спакойнае жыццё, нешта страшнае рыхтуюць нам, – перапалохалася не на жарт Алена Іванаўна, дзяцей да сябе прыціскаючы, хацела ўжо і старэйшым казаць, каб уцякалі. Але куды ўця-

каць, калі вакол чыстае поле ды луг. А да лесу бегчы і бегчы, а калі і пабяжыш, то што могуць падумаць пра тое немцы і паліцаі? То потым вяскоўцы выказвалі здагадку, што, мусіць, з-за таго, што ў іх не было побач лесу, немцы і не асцерагаліся, што паблізу ёсць партызанскія атрады. – Нешта ж іх дужа багата панаехала – з чаго б гэта?..”

Людзей са зброяй амаль не было, і тое крыху пачало супакойваць людзей. А калі абвясцілі па вёсцы, што збіраецца агульны сход вяскоўцаў, перахрысціліся: “Слава табе, Госпадзе, слава Айцу і Сыну, і святому Духу, цяпер, на ўвесь час і вякі вечныя. Амін”.

З усімі разам прыехаў і Вінарскі – бургамістр акругі, з Кавалёў. Яшчэ стала на сэрцы лягчэй – Вінарскага Сілічы ведалі добра: перад вайной не адзін раз прыязджаў да іх у вёску праводзіць сходы – працаваў у абласным выканкаме, у Бабруйску, – кожны раз спыняўся начаваць у іх хаце. Падоўгу гаварылі з гаспадаром, Сяргеем Фёдаравічам, і бачылі, пераканаліся, што чалавек ён быў неблагі, сэрца меў добрае, мог выслухаць кожнага чалавека і памагчы, калі што было ў яго сілах і кампетэнцыі. Калі ж хто потым з вяскоўцаў дабіраўся да яго на працу, каб параіцца ці папрасіць якой помачы, ніколі і нікому не адмаўляў.

Цяпер жа Вінарскі і выгляду не падаў, што некалі зналіся з Сілічамі. Гэтай перамене не здзівіўся ні Сіліч, ні яго жонка.

“Не хапала яшчэ, каб мы ў абдымкі кінуліся, – падумала пра сябе Алена Іванаўна, – а і добра, што ён за бургамістра – людзей у крыўду не дасць...”

Побач стаялі Апанас Чэрнік са сваімі – дачкой Вальжынай і сынам Мікалаем, Аўгушова Варвара – з сынам і дачкой, Ганна Шкрадзюк, адзінокая жанчына, якая ніколі не выходзіла замуж – не ладзілася ў жанчыны жыццё, Іван Шкрадзюк і з імі Сашка, Ніна, Марыя, Васіль і Таццянка, баба Васіліха Бандарчук з двума сынамі – Янкам і Міхасём, дачкой Ганнай, Матруна Бандарчук... Гэта былі суседзі, якія жылі побач з Сілічамі, а астатніх, хто стаяў воддалеч, і не злічыць – уся чысценька вёска прыйшла на сход.

Лёс вырашаў жыццё людзей. Людзі вырашалі самі свой лёс.

Гаварыў Вінарскі. Гаварылі іншыя. Казалі тое, што хвалявала людзей, непакоіла. Вінарскі выглядаў спакойна і гаварыў ціха, гледзячы на людзей, якіх добра ведаў, якія добра ведалі яго:

– Людзі! Вы мяне знаеце даўно. Як і вы ведаеце тое, што я нікому з вас нічога кепскага не зрабіў. І нікому не адмовіў, калі хто прыязджаў да мяне ў Бабруйск. Скажыце, паклаўшы руку на сэрца, – ці ёсць сярод вас хаця б адзін чалавек, каму я не памог? Ёсць такія?

Натоўп маўчаў, як усё роўна маўчаннем сваім пацвярджаў справядлівасць яго слоў.

– Тады спытаюся інакш.  Той, хто верыў мне і верыць сёння, падыміце рукі.

Пасля гэтага натоўп ажывіўся, загаманіў, і ўсе да аднаго паднялі ўгару рукі.

– Жыццё наша пацякло па-іншаму, і тое не залежала ад нас. І таму мы – хочам таго ці не – павінны падпарадкоўвацца гэтаму, а яшчэ канкрэтней – падпарадкоўвацца той уладзе, якая прыйшла сёння на нашую зямлю. Я даю слова ад імя нямецкай улады, што ніхто з вас не будзе беспадстаўна пакрыўджаны і абражаны. Калі ж такое здарыцца, падавайце скаргу мне. Мне дадзена права разглядаць такія канфлікты, і я абяцаю быць  на баку пакрыўджанага. Што яшчэ хачу вам сказаць. Кожная сям’я атрымае надзел зямлі ў дзесяць дзесяцінаў і будзе апрацоўваць яе, садзіць і збіраць ураджай. Нейкую частку, невялічкую частку, трэба будзе здаваць у бургамістрат. Так сказаць, падатак. Каб мы маглі добра разумець адно аднаго, нам трэба будзе абраць старасту  Забалацця. Мы прызначаць яго не будзем, вы павінны самі яго абраць. Ён будзе ваш камандзір, ваш бацька і матка. Вы павінны адразу ж, сёння, тут жа, на гэтым сходзе, назваць імя такога чалавека. Пакуль я пагутару з нямецкім афіцэрам, вы падумайце, парайцеся паміж сабой.

– Мы ведаем яго! – выгукнуў нехта з натоўпу – ці не Апанас Чэрнік, і натоўп захваляваўся, як бы падтрымліваючы вокліч вяскоўца. – Ведаем!

Пятрусь з хлапчукамі асмялелі і выйшлі наперад натоўпу, сталі паміж людзьмі і Вінарскім. Уважліва сачылі за тым, як праходзіў сход.

Вінарскі зрабіў крок, каб падысці да афіцэраў, але тут жа павярнуўся на вокліч, моўчкі паглядзеў на людскую грамаду. Глядзеў на ўсіх, а ўсё роўна як пранізваў кожнага сваім уважлівым і пранікнёным позіркам. Ён стаяў за некалькі метраў ад Петруся, маўчаў, не пытаўся ў людзей ні пра што, чакаў іх адказу.

– Ёсць такі чалавек! Несцера трэба абраць, Несцера! Так, Бандарчука Несцера!

Выгукнуўшы гэтае прозвішча, забалацянцы яшчэ больш загудзелі, узрушана пачалі выкрыкваць адно і тое ж прозвішча:

– Правільна! Правільна – Несцера! Справядлівы чалавек, ніколі нікому кепскага не зрабіў.

– І цяпер не зробіць!

– Несцера! Несцера! – чулася з усіх бакоў.

На твары Вінарскага засвяцілася ледзь прыкметная ўсмешка. Ён радасна глядзеў на людзей, што не памыліўся ў вяскоўцах, ківаў адабральна галавой, што людзі зрабілі правільны выбар, бо ён і сам добра ведаў Несцера – не раз звяртаўся да яго раней і за парадай, і за падтрымкай.

“Ой як добра, – узрадвалася Алена Сіліч, штурхаючы злёгку пад бок гаспадара, выказваючы сваю радасць і задаволенасць, бо і тут выходзіла палёгка – Несцер даводзіўся родзічам Сілічам. – Дзякуй Богу, што так атрымалася!..”

Пятрусь падышоў да маці, побач з якой стаяла Верка, і яна яго моцна прытуліла да сябе. Позаду стаялі Мікола, Валодзя і Толік.

Але радасць была перамешана і з мацярынскай трывогай: “Як, як выгадаваць чатырох сыноў і дачушку? Дзе ўзяць сілы? Чым карміць, калі ніякай дапамогі ні ад кога не будзе? Немцы памогуць? Як і за што? За ўсё ж трэба плаціць. А якую плату яны запатрабуюць?..”

– Але ў нас не вырашана і яшчэ адно пытанне, – сказаў Вінарскі. – Акрамя старасты ад вашай вёскі неабходна прызначыць паліцая. Такі парадак, шаноўныя грамадзяне. Так патрабуюць нямецкія ўлады. Але сёння мы яго выбіраць не будзем. Гэтае пытанне мы пакінем на пазнейшы час. А вы падумайце таксама, каго можна прызначыць на гэтую пасаду.

І пазней ім стаў Іван Шкрадзюк.

Ніхто не ведае – сам напрасіўся, ці запрасілі, каб ён ім стаў. А мо і пад прымусам, хто знае. Але ўся вёска ведала, што больш паскуднага і злога чалавека ў Забалацці нельга было і адшукаць. І таму ў кожнага стала прыкра на душы, бо ведалі, што любую агіднасць а то і гора ён мог прынесці нечакана ў любую хату.

Але яшчэ не размясціліся па ўсіх хатах немцы, яшчэ не ўсталяваўся абяцаны нямецкі парадак, а гора на людзей пачало накручвацца, як снежны камяк...

Наехала немчура з машынамі і аўчаркамі, з аўтаматамі салдаты і ў касках, на матацыклах і пеша, – і пачалі нечакана хапаць людзей для адпраўкі ў Нямеччыну. Без разбору. Без папярэджання. Наехалі знекуль з Бабруйска, так бы мовіць, “чужыя”, тыя, што знаходзіліся ў вёсцы, удзелу ў той акцыі не прымалі. Толькі паліцай Шкрадзюк, як яго называлі вяскоўцы – Дранік, бегаў разам з іншымі паліцаямі і немцамі, штурхаў вяскоўцаў у агульную калону.

Крык, галашэнне, плач, стогн, брэх сабакаў... Лютыя вышчараныя іклы злосных аўчарак гатовыя былі ўчапіцца ў любога чалавека і разарваць яго ўшчэнт. Ледзьве стрымлівалі іх на сворцы ахоўнікі і вартавыя.

Схапілі і яе, Алену Іванаўну, а на руках Верка і Пятрусь – абвілі за шыю, не адпускалі.

– Паночкі, у мяне пяцёра дзяцей, як жа іх пакіну? – прасіла літасці жанчына, на калені перад немцамі падала. – Яны ж паўміраюць без мяне. Пашкадуйце, паночкі!

Нехта груба схапіў яе за шыю і з усяе сілы піхнуў на зямлю. Петруся немец узяў за каршэнь і панёс дахаты, як палена кінуў на палок – хлопчык балюча ўдарыўся галавой аб сценку, і праз момант знепрытомнеў...

Здаецца, абвяла і жанчына – перад вачыма ўсё паплыло, бы ў шэрым тумане, і неяк невыразна бачыла людскія твары, такія знаёмыя, і такія няшчасныя ў сваёй бездапаможнасці, да якіх лёс аднёсся безуважна і жорстка. Яе ўпіхнулі ў агульную калону, наздагон ударыўшы ў спіну нечым тупым і важкім.

– Пашавелівайся тут! Хутчэй! Калі не прывыклі яшчэ да нямецкага парадку, дык мы хутка навучым, тваю маць!..

Шчыравалі найбольш свае – паліцаі, немцы толькі назіралі за тым, што тварылася, і падавалі толькі каманды.

“Усё, не вырвацца, застануцца дзеці без маці, – скрушна ламала рукі жанчына, ногі ледзьве трымалі яе, вадзіла ўбок, як п’яная была. – Божачка, злітуйся! Чым я перад Табой правінавацілася, скажы, Божачка? Даруй, калі парушыла Твае запаветы! Калі Ты ёсць, калі Ты існы ў небе і ратуеш нашы душы, то памажы мне, Ойча!.. Хай свяціцца імя Тваё, няхай накрые мяне валадарства Тваё і буду я пазбаўлена Табою ад пакутаў...”

Нехта побач упаў у гарачы пясок, хтосьці падняў чалавека, нехта з жанчын загаласіў, – але яна нічога не бачыла перад сабою і не чула, – як хто вушы заткнуў, як мову адняло...

Фарміравалі адну калону, за ёй другую. Збіралі людзей у групы, запіхвалі ў машыны і везлі некуды далей – ці не ў Бабруйск, на чыгуначную станцыю. А там вядома што, там чакаюць таварныя вагоны...

Трошкі пасвятлела ў вачах. Яна пачала ўжо цяміць, што тварылася наўкола. Трошкі адышлася ад калоны, прыхінулася да вушака нечай хаты, старалася не ўпасці, хапала ротам паветра, і была ў той момант падобна на рыбіну, выкінутую на бераг...

– Алена, не абарачайся... Не абарачайся, кажу!

Голас знаёмы, прыемны, хаця і строгі. Дык гэта ж ён, Несцер! Божачка, Ты пачуў маю малітву! “Не, я не адвярнуся, не – што трэба рабіць далей?”

– Я адыду, а ты хуценька бяжы ў мой бок, на мой голас, завярні за рог і хавайся ў хлеў. Сядзі там і не шавяліся. Усё. Не зявай толькі!

Жанчына трошкі пастаяла, перахрысцілася і борздзенька пабегла туды, куды ўказаў Несцер. Яна яго не бачыла. А мо яго і зусім не было, і ўсё тое ёй толькі падалося, то Бог пачуў яе малітву і прыйшоў на дапамогу?

Але дзверы хлява былі расчыненыя. Яна ўскочыла ў праёміну, забілася ў сена і не высоўвалася. Тады ж за ёю нехта і зачыніў дзверы. Ці не ён, Несцер?

Яна чула людскія галасы, крыкі і стогны, брэх сабак, радавалася, што, мусіць жа, вырвалася з лапаў смерці, хаця ж адначасова і грызла сумленне: “А як жа астатнія людзі? Што іх чакае наперадзе? Ці застануцца хоць жывыя? Ці вернуцца калі дадому?..”

Яе калаціў страх, хаця на вуліцы была спякота, але яе білі халодныя дрыжыкі, “сакаталі” зубы, – і яна ўсё не магла ніяк сагрэцца.

“Божачка, памажы!.. Памажы ўбачыць маіх дзетак – Верку, Петрыка, Толіка, Кольку і Валодзьку!..”

Калі ўсё аціхла, калі ўжо ад’ехалі машыны, калі пераcталі гірчэць і гаўкаць аўчаркі, яна падышла да дзвярэй і прыслухалася. Нікога побач не чулася, маўклівасць акружала яе.

Яшчэ пільней прыслухалася – здаецца, было ціха і бязлюдна. Дзверы, на шчасце, звонку не былі зашчэпленыя, а толькі прачыненыя, каб ніякае злое вока не зазірнула ў хлеў.

Калі яна паспрабавала больш прачыніць дзверы, то яны слаба рыпнулі. Ёй падалося, што тое пачула ўсё наваколле, і што на гэта маглі звярнуць увагу немцы і паліцаі. Жанчына высунула галаву. Яшчэ раз пераканалася, што ёй не пагражала ніякая бяда, і толькі тады супакоілася.

Забалацце як вымерла. На небе не было ні воблачка. Няшчадна паліла сонца. Алена яшчэ нейкі час разважала, вагалася, як выбірала спрыяльны момант пакінуць сваю схованку, але страх перамагаў, прымушаў асцерагацца, – і яна працягвала стаяць на месцы, не рухалася.

І – рашылася ўсё ж, перамагла страх і подых невядомасці. Алена ці то бегла, ці то ішла подбегам, раз-пораз аглядваючыся, як усё роўна хто гнаўся за ёю, спатыкалася, падала, зноў уставала, азіралася, баючыся, што нехта нябачны вось-вось учэпіцца ў яе кашчавымі рукамі...

Жанчына дабегла да хаты, расчыніла дзверы і найперш убачыла на палку Петруся. Кінулася да яго, а ён паспеў расхінуць рукі, абняў матулю, і з яго грудзей вырваўся доўгачаканы і такі родны вокліч:

– Мама! Мамачка, ты вярнулася?

– Вярнулася, сынок!

– Назусім?

– Назусім, сынок! Вырвалася... Памог добры чалавек. А Верка дзе ж? Бацька, Толік?

– У падвале... А я не змог ісці, ударыўся вельмі. Галава дужа баліць. Немец шпурнуў мяне сюды... І я не помню, што было потым...

Маці плакала, хаваючы слёзы, усё яшчэ не верачы, што вырвалася на волю, што бачыць зноў Петруся, што ўбачыць хутка і астатніх сваіх дзяцей, гаспадара, што яна зноў у роднай хаце.

Курт прыехаў у вёску праз дзень. Калі даведаўся, што здарылася, вельмі перажываў. Не адыходзіў ад Петруся. Прыводзіў да яго ваеннага доктара. І той даў яму пякучы ўкол, насыпаў жменю нейкіх таблетак.

Праз колькі дзён павесялеў Пятрусь, радасным позіркам глядзеў на Курта. Курт усміхаўся, скрозь слёзы шаптаў:

– Гут, Пэтер, гут... Майне Пэтер...

5

Добрыя суседзі былі ў Сілічаў.

Што і казаць – таварыскія людзі, дабрачыя, заўсёды адгукаліся на любую просьбу, і самі калі прыходзілі за якой дапамогай, то атрымлівалі яе. Ніколі і ніхто нікому не адмовіў ні ў чым.

Сядзіба Сілічаў была не апошняй у Забалацці. Трэцяя з краю, з другога боку, што ад бальшака на Бабруйск.

Кастусь Бандарчук – з аднаго боку, ён і быў другім ад краю. Кастусь трошкі маладзей за Сяргея Сіліча. Дачка Вальжына, аднагодак Петруся – Генка. За імі, як кажуць, мая хата з краю, жыла Матруна Бандарчук, – дзве дачкі гадавала – Волечку і Марынку... А праз дарогу хата Івана Шкрадзюка была. То ён стаў паліцаем. Суседзіла з ім Васіліха Бандарчук, у якой былі два сыны – Міхась і Янка, дачка Ганна. Апошняй, з другой вуліцы, за Іванам Шкрадзюком, жыла адзінокая Ганна Шкрадзюк.

А з другога боку вуліцы суседзямі ў Сілічаў былі Апанас Чэрнік. Сябраваў Пятрусь з дачкой Волечкай. Мікола быў ужо дарослы, хаўрусаваў са старэйшымі. За Чэрнікамі жыла Варвара Аўгушова – з сынам і дачкой...

Вось такое суседства. Вось такая сям’я, калі адно без аднаго не маглі жыць, не маглі абысціся без дапамогі і падтрымкі, без шчырага ўдзелу ў сваіх агульных клопатах і нечаканых выпадках жыцця, без талакі, калі навальваліся агулам на нейкую цяжкую працу...

А вайна ўнесла ў душы людзей няхай не раз’яднанасць, а ўнутраны недавер, паняверку, перасцярогу, бо кожны вясковец ведаў, што шчырасць і адкрытасць у такіх выпадках можа даць непажаданыя і прыкрыя вынікі. Хаця б з тым жа Янкам Шкрадзюком. Здаецца ж, і ніштаватым чалавекам быў, хаця і скнара, а тут, як займеў стрэльбу, на плячо яе пачапіў, то і пераменіўся, заганарыўся, нос задраў высака. І нікога ўжо не шкадаваў, да людскога гора і бяды не прыслухоўваўся, нікому і ні ў чым не саступаў, – адчуў смак улады і радасна ўпіваўся ёю. І не падазравалі людзі, што ў ім могуць адкрыцца самыя агідныя якасці. Хаваў, хаваў іх у сабе чалавек, а тут яны і вырваліся на волю, як ваніты з сярэдзіны выйшлі...

Але, як кажуць, той, хто шукае, то абавязкова і знойдзе. Ці, як і яшчэ дакладней, – Бог шэльме абавязкова адмецінку паставіць...

6

А жыццё неяк жа наладжвалася, уваходзіла ў свае берагі.

– Жыццё як у ваўка і барсука, якія жывуць побач, – казаў Сяргей Сіліч. – Адзін аднаго не пакусаюць, але і сябрамі не назавеш...

Ённазіраў такое суседства, калі хадзіў у лес. Напаткаў неяк логава ваўчыхі. Каля яго было шмат костак, і побач, праз курганок, была нара барсука. Барсук жыў бы пад прыкрыццём ляснога гаспадара, якога ўсе баяліся.

Воўк за здабычай бегаў за сотні кіламетраў, а каля сваіх мясцінаў ніколі не чапаў ні авечак, ні кароў, нават у калгасныя кашары не меў звычкі залазіць. Ведаў, што потым паляўнічыя могуць наладзіць яму аблаву...

Так і тут. Немцы жылі сабе, не зважаючы на іх сям'ю, не ўляазячы ў іх клопаты. З цягам часу людзі асмялелі. Словы Вінарскага пра клопаты аб людзях пацвярджаліся, хаця тыя ж людзі не маглі ацаніць і асэнсаваць тое, чаму так здарылася, што немцы раптоўна зрабілі аблаву і шмат людзей павезлі ў Нямеччыну. Здагадваліся – ён не меў такой сілы, каб нешта змяніць, перайначыць. Суцішвалі хіба сябе тым, што ведалі – ён здольны толькі зменшыць нейкую бяду, якая абрынецца на іх, але не адвесці яе зусім...

Сяргей Сіліч запрагаў каня, грузіў на воз мех-два жыта, якое ўпотай ад чужога вока выкопваў з зямлі – зарабіў да вайны на працадні, і вёз да мельніка. Але аднойчы ў начной цемрадзі перастрэлі партызаны. Пацікавіліся, што вязе. Адказаў, што раздабыў трохі жыта, сям'я з голаду памірае...

– А мы не паміраем? Мы ваюем з фашыстамі, а ты на печы бокі грэеш... Так ты памагаеш фронту?

– Ды ў мяне пяцёра дзяцей, злітуйцеся... Пакіньце трохі.

– Яшчэ адно слова і кулю атрымаеш, – прыгразіў басавіты голас, яшчэ і затворам клацнуў для страху.

Усё забралі, да грама.

На гэты раз вяртаўся дадому з мукой. І тады ўжо трошкі спакайнела на душы – пракорміцца неяк сям'я, з голаду дзеці не паўміраюць. Ды і сыны памагалі – то дроў прывязуць, ды потым і паколюць іх, складуць у штабялёк, то рыбы натопчуць...

Дзіўна, але і "кватаранты" прасілі ў Толіка ці Валодзі сякеру і самі спрабавалі калоць дровы – для размінкі, мусіць. Старэйшы, Клаўс, ледзьве не параніў сабе нагу – сякера саскочыла і чырканула па калене. З гарадскіх, мусіць, быў, адразу бачна, што сякеры і ў руках не трымаў. А вось Курт

Венцэль, якога добра запомніў Сіліч, працаваў увішна і весела. Пад яго рукамі, здавалася, усё гарэла і спявала. Махаў і махаў сякерай, а чурбакі, як трэскі, адлятали ад калодкі. Спраўны быў немец, працавіты, што вельмі спадабалася гаспадару. Працаваў Курт да сёмага поту, а потым браў вядро з халоднай вадой – са студні, і абліваўся ёю, ускрыкваючы радасна ад задавальнення. Вясёлы быў немец, таму і незразумелы. Было такое ўражанне, што ён тут і жыў у вёсцы недзе па суседстве...

Гаспадар, як і ўсе, меў дзесяць дзесяцін зямлі. І апрацоўваў яе на кані. Памагалі сыны – Толік, Валодзя і Мікола. Працавалі з раніцы і да вечара.

Не раз заглядваў да іх у хату Янка Шкрадзюк.

А на гэты раз у іх палавіну не зазірнуў, на прызбе ўладкаваўся. Зацягваўся самасадам, жартаваў-усміхаўся, з нейкім намёкам гаварыў:

– Цягаю-цягаю цэлы дзень гэтую стрэльбу, а ўзнагароды ніякай. Сабе на шкоду толькі, і людзі спадылба пазіраюць на цябе. Брыдота, адным словам...

– Дык і не ішоў бы, – казаў Мікола, – хто ж прымушаў?

– Гы-гы. Які разумны... – хітра смяяўся Янка. – А сам то ты чаго не ідзеш у паліцаі, га?

Шкрадзюк павярнуў размову ў свой, патрэбны толькі яму, кірунак, мусіць жа з-за гэтага ён і прыблэндаўся да Сілічаў, спытаў і хітра прыжмурыўся, зацягваючыся глыбока едкім самасадам – чакаў, ой як чакаў, што адкажа на яго запытанне сусед.

І тады Мікола зразумеў, сэрцам адчуў, што цяпер ужо не адчэпіцца ад яго паліцай: хоча і яго ўцягнуць, зрабіць сваім памагатым.

– Адкажы, чаго сам не ідзеш, га? Чаму, скажы, будзь так ласкавы, адзін я павінен аддувацца за ўсіх?

– Не аддувайся – спакайней будзе, – параіў Сіліч.

– Не я, дык заўтра іншага прымусяць. Заставяць. Мо і цябе канкрэтна, Мікола, як ведаць. А мо і Толіка заграбуць. А што? Узростам вы акурат выйшлі, любы пацвердзіць.

– Ну, тое як яно яшчэ павернецца, Янка. Мо цябе аднаго і дастаткова будзе. Вінарскі пра тое казаў – аднаго. А ты спраўна служыш, немцы хваляць. А я і ростам не выйшаў, і мордай таксама.

Паліцай крутануў галавой, як усё роўна адганяў мух, бо рукі былі занятыя, зірвануў нядобра на хлопца.

– Ты, ета самае, мне жарцікі не строй. Не строй, – стражэў і хмурнеў Янка, пыхкаючы дымком, гледзячы прыжмураным вокам некуды за плот, дзе вішні пазгіналі свае галіны да зямлі. – А я вось вазьму ды і скажу нямецкаму афіцэру ці бурмістру, што ты маеш вялікае жаданне стаць паліцаем, ды толькі вельмі саромеешся ў тым прызнацца.

Мікола збялеў, але на гэты раз нічога не адказаў – не хацеў абвастраць абстаноўку, бо ведаў, што гэты нямецкі паслугач і сапраўды можа сказаць. Тады ўжо не выкруцішся, як піць даць прымусяць насіць старэльбу і прычэпяць на руку павязку з фашысцкай свастыкай...

– Спужаўся? Гы-гы, спужаўся, га? – павесялеў паліцай, заўважыўшы на твары юнака збянтэжанасць і разгубленасць. – Не баісь, сусед, не баісь, калі што – прыкрыю, аберагу... Сам буду гэтую ношку несці, каб толькі мяне аднаго праклiналі людзі... А тое, што я многіх з няволі выбавіў, прыкрыў, як кажуць, сваімі грудзьмі, тое ніхто і не ўспомніць. Ды ладна, то я так, жартую-здзекуюся з самога сябе... Не звяртай асаблівай увагі.

Памаўчалі. Шкрадзюк дакурыў сваю самакрутку, хмыкнуў пад нос. І, стаўшы сур’ёзным, загаварыў ужо іншым тонам:

– Ну і правільна. Мне спадабаўся твой адказ. Але я хачу сказаць пра іншае. Я хацеў, каб ты быў побач са мною. Не прыслужваць немцам, а змагацца з імі. То ні я гаварыў так з табою, а памочнік партызанскага атрада. Табе рызыкоўна заставацца ў вёсцы, рана ці позна трэба будзе рабіць выбар: альбо ў партызаны, альбо ў паліцаі...

І, перайшоўшы амаль на шэпт, дадаў:

– Я на падпольнай службе. І цябе хацеў далучыць. Тваю сям’ю ў партызанскім атрадзе ведаюць, бацьку твайго ведаюць. Таму і паў выбар на цябе. Адказ дай не сёння, пазней, калі надумаешся нешта. Усё. Думай.

Ён яшчэ сядзеў нейкі час, маўчаў ужо, курачы трэцюю ці чацвёртую цыгарэціну. А потым уздыхнуў, падняўся і, не развітваючыся, паклыпаў да веснікаў. Потым ужо, выйшаўшы на вуліцу, гэтак жа, сагнуўшы галаву, паплёўся да сваёй хаты.

Мікола быў ашаломлены. Не ведаў, верыць Шкрадзюку ці не верыць.

“Не, не да дабра Дранікавы намёкі, – падумаў пра сябе Сяргей Сіліч, пачуўшы праз акно размову – у хаце быў на той час. – Пра тое і сынам трэба сказаць... Партызаны? Але чаму ж не да мяне хто прыйшоў, а праз паліцая размова? Не, асцерагацца трэба яго, абыходзіць, на вочы не пападацца, і не нарывацца з ім на спрэчку ці сварку. Што ён замысліваe, і чорт яго не разбярэ... Але што тут разбіраць – у паліцаі сына ўцягнуць хоча, няйначай...”

Мікола зайшоў у хату, убачыў, што бацька сядзеў каля акна.

– Ты ўсё чуў?

– Чуў, сын, чуў, не глухі.

Алена таксама занепакоілася, калі гаспадар расказаў пра падслуханае. Забожкала, на абразы перахрысцілася, папрасіла Бога адвесці бяду...

– Ад мяне ён не адчэпіцца, – уздыхнуў Мікола, гледзячы праз шыбы ў двор.

– Не адчэпіцца, – згадзіўся бацька.

– Што ж рабіць у такім выпадку?

– Што? Пакумекаць трэба...

Пятрусь глядзеў на брата, шкадаваў яго. Паспрабаваў уявіць, як ён са стрэльбай будзе хадзіць па Забалаццю разам з Дранікам, і не мог.

У хаце ўсталявалася маўчанне.

...Летам накасілі карове на зіму сена, трохі бульбы ўкапалі. Каб на мірны час, то маліны можна было б наварыць – зімой яно, варэнне, добра ад прастуды, ды і з гарбатай смачна... Але як яго зробіш, калі цукру няма? Немцы падзяліліся “цукрозай”, але то ж не цукар.

Алена сушыла на зіму малінавыя галінкі – для гарбаты. Падмешвала яшчэ лісты смуроды, святаяніку, сухога квету ліпы...

Ужо ішла другая ваенная зіма... Тыя запасы, што прынеслі Сілічы з Бабруйска, ужо заканчваліся. Ды і не маглі яны доўга захоўвацца – псаваліся.

Трэба было неяк дабрацца да Вінарскага – з ім параіцца не шкодзіла б. Ён абавязкова падказаў бы, што рабіць, як паводзіць сябе, каб пазбегнуць бяды. Нездарма ж на тым сходзе, калі Сяргей Сіліч стаяў непадалёку ад яго, злавіў позірк, як даў зразумець усё роўна, што паміж імі існавала нябачная нітачка ўзаемаразумення. А як тапталіся адзін каля аднаго, дык і на нагу яшчэ наступіў. Быццам бы выпадкова. Але больш позіркамі не сустракаліся, адышлі адзін ад аднаго.

“Трэба, трэба схадзіць і параіцца, павінен жа падказаць, параіць, памагчы. Але ў які дзень выбрацца? А можа, тады, калі на млын трэба? Так, на наступным тыдні...”

Думаў, разважаў над сваім лёсам і лёсам сям’і Сяргей Сіліч. Верыў, што Вінарскі не адпрэчыць яго, выслухае ды і параду дасць патрэбную. Бо заўсёды ён вылучаўся мудрасцю і дальнабачнасцю.

“Так, на наступным тыдні...”

7

– Гутэн таг, – на парозе стаяў Курт Венцэль і ветліва ўсміхаўся, як прасіў прабачэння, што без запрашэння зайшоў у іх палавіну. – О, майне кляйн фройнд Петрусь, біттэ эссэн... Кушать, Петрусь, кушать...

Курт, называючы яго па імені, рабіў націск на “е”, стараўся называць яго так, як клікала маці – Пятрусь, Петрусёк.

У руках Курта былі алюмініевыя міскі з ядою. Немцам рэгулярна, калі яны былі на месцы, прывозілі ў тэрмасах тры-чатыры разы на дзень харча-

ванне. Калі ж яны некуды знікалі, то машыны ці матацыкліст з тэрмасамі не з’яўляліся.

Курт наблізіўся да стала, паставіў міскі. Потым падышоў да Петруся, які сядзеў у кутку і разглядваў малюнкі ў нейкай старой зашмальцаванай кніжцы, узяў за руку і падвёў да стала.

– Кушать, Петрусь, тебе кушать...

Спачатку хлопец не разумеў, чаму толькі яго аднаго запрашае немец да стала. Хлопчык сеў, азіраючыся на Верку, узяў у руку лыжку, згаладала пачаў есці. Жуючы, не адрываў позірку ад Венцэля. Усё яшчэ не мог зразумець яго жэст – чаму ён прынёс яду толькі яму аднаму. Вунь і Верка галодная, і маці не адмовілася б, мусіць...

З’еў хутка. Як за сябе выкінуў, паспеў падумаць толькі: “Мусіць, лішняя порцыя засталася, вось і аддаў ён яе мне...”

Курт сядзеў маўкліва побач, пра нешта думаў. З задумлівым выглядам курыў, зацягваўся пахкім дымком. І той дым для Петруся падаўся прыемным, нават салодкім. У блакітных вачах афіцэра хлопчык заўважыў ці то сум, ці то скруху. Як быццам у яго была нейкая бяда ці гора. Курт раз-пораз уздыхаў, глядзеў некуды ў нябачную кропку.

Потым ён наліў хлопчыку з бліскучага тэрмаса салодкай кавы. Зноў жа – такога напітку Пятрусь ніколі не спрабаваў, не ведаў, як той напой і называецца. Кава яму не вельмі спадабалася.

– Ду іст Петрусь, – паказаў пальцам афіцэр на хлопчыка, а потым, ткнуўшы сябе пальцам у грудзі, прамовіў: – Іх хайзэ Курт. Курт Венцэль. Фэрштэйн? Понимаешь?

– Ты – Курт, – паказаў Пятрусь на яго. – Курт Венцэль. Так? Правільна?

– Рыхтык! Правильно! – радасна падхапіў нямецкі афіцэр. – Петрусь і Курт. Курт – фройнд Петрусь. Ты есть мой друг. Я есть твой друг. Твой фатэр – Сергей, муттэр – Елена. Дайн брудэр – Николай, Анатолий, Владимир, швестэр – Вера. Рыхтык?

– Рыхтык, Курт, рыхтык! Ты ўсіх ведаеш. Ты – мой сябар. Я – твой сябар! Курт – сябар Петруся!

Нечакана Курт падхапіў хлопчыка на рукі і пачаў насіць па хаце. Садзіў на плечы, распластваў рукі, гудзеў, як самалёт і насіліся з ім па хаце. Маці спачатку здзівілася, напалохалася, а потым пачала ўсміхацца, рагатаць:

– Уздурнеў немчык, няйначай...

Растапырыў рукі і Пятрусь, пачаў гудзець, як яго сябар.

Потым Курт паставіў яго на ногі, абняў, як свайго роднага, прыгаворваў:

– Курт – сябар Петруся, так?

– Так, Курт, рыхтык, правільна! Сябар!

Бацькі здзіўлена назіралі за гэтай сцэнай і не маглі зразумець – чаму нямецкі афіцэр упадабаў іх сына? Мо хоча забраць яго ў Нямеччыну? А мо што іншае ўдумаў? Не спадабалася ім такое сяброўства. Яно не ўзрадвала іх, а, наадварот, насцярожыла. Але змяніць нешта, забараніць ім сябраваць не маглі, не ў іх сілах было тое.

Тое ж паўтарылася і назаўтра. Дурэлі, як маглі, дэманструючы сваю радасць яднання.

Пазней ужо, мо на чацвёрты ці пяты прыход да іх, Курт Венцэль дастаў з кішэні блакноцік у цвёрдай вокладцы, выцягнуў з яго фаотакартку, паказаў Петрусю:

– Дызэ майне фамилия… Семья… Дызэ – Пэтэр, майн зонэ, мой сын. Ду – ист аух майне сын. И ты теперь мне стал сыном…

Ён тую фотакартку паказваў і бацькам. Яны жахнуліся, і тады для іх усё стала зразумелым – на фота хлопчык быў падобны на іх Петруся. Як дзве кроплі вады. Калі б яшчэ Пэтэр быў апрануты так, як забалацкі хлопчык, то ніхто і не адрозніў бы іх. Яны аж напужаліся напачатку – як быццам гэта іх сынок сядзеў побач з Куртам і яго жонкай. Вось чаму так ставіўся Курт да іх сына – у самога у далёкай Нямеччыне гадаваўся такі ж хлапчук. Балела бацькава сэрца па Пэтэру, і яны – Алена і Сяргей – разумелі той боль...

А як зразумелі ўсё, то і перасталі баяцца, наадварот, адчулі, што Петрусю нічога не пагражае, што ў яго з’явіўся не толькі добры прыхільнік, а і сябар, абаронца ад злыбяды, ад яго недругаў ці ворагаў...

Было нават смешна глядзець, як Курт садзіў на плечы Петруся і бегаў з ім па хаце, хаця ў іх палавіне нельга было дзе і развярнуцца.

Пятрусь расстаўляў рукі, як крылы, і ўяўляў сябе тымі лётчыкамі, што прыляцелі на луг. А Курт яшчэ і гудзеў, як самалёт, – то прысядаў, то зноў выпрамляўся.

Здзяцінеў немец, няйначай, так збоку можна было падумаць таму, хто бачыў бы тое на свае вочы. Ён бы не зразумеў, што тут і да чаго.

Рагатаў і вішчэў ад радасці і задавальнення хлапчук; смяялася Верка, гледзячы на іх забаву, зайздросціла іх гульні, самой карцела быць на месцы брата, але не асмельвалася нават і папрасіць пра тое, бо ведала, адчувала, што тая радасць належыць толькі Петрыку...

Курт прыходзіў да свайго сябра амаль кожны вечар. Прыносіў шакалад, галеты, іншыя прысмакі. Адзінае, што вельмі не падабалася Петрусю, дык гэта тое, што яго сябар не дазваляў больш нікому есці прынесенае. Нават Верцы, якая, не адрываючыся, каўтаючы сліну, глядзела на брата, як ён чэрпаў лыжкай кашу і падносіў лыжку да рота. А яна ж была меншая за Петруся...

І тады ён пайшоў на хітрасць. Калі Курт прыносіў шакалад ці цукеркі, то ён рабіў выгляд, што са смакам жуе, і доўга жуе. Курт, седзячы побач, звычайна задумваўся і курыў, асабліва і не назіраў за хлопчыкам, чакаў толькі, калі той павячэрае. Пад сталом стаяла табурэтка. На яе і складваў, хаваючы ад Курта, рэшткі пачастунку.

Нямецкі сябар прыносіў то аловак, то сшытак, то нейкую цікавую, з каляровымі малюнкамі, кніжку. Падараваў нават сцізорык, чаму вельмі абрадаваўся Пятрусь, хваліўся потым перад сябрамі на вуліцы. Губны гармонік нават падараваў. Але не ўпадабаў яго чамусьці хлапчук, сам не ведаў, чаму. Ці то музыкальнага слыху не было, ці лічыў тое рыпанне несур'ёзным заняткам, але праз некалькі дзён засунуў тую бліскучую цацку пад комін на гарышчы і болей не ўспамінаў пра яе...

А аднойчы Курт, застаўшыся амаль на цэлы дзень у іх палавіне, змайстраваў яму аўтамат. Аўтамат не быў падобны ні на нямецкі, ні на які іншы, але выглядаў натуральна і ўнушальна – зноў жа, на зайздрасць Петрусёвых сябрукоў.

Венцэль яго яшчэ і пафарбаваў чорнай фарбай – пад колер сапраўднай зброі. Фарсіў хлопец, ды яшчэ і як, перад сваімі аднагодкамі. Зайздросціла яму ўся вёска, і асабліва Віцька і Васіль, Пятрок і Зміцер. Калі ж гулялі ў вайну – у чапаеўцаў і белагвардзейцаў – то па чарзе прасілі аўтамат "паваяваць". Але даваў Пятрусь зброю не ўсім, а тым, з кім меў сапраўдныя сяброўскія стасункі, хто і яму ніколі і нічога не шкадаваў. Як і той жа Віцька Дударэнка.

І трэба ж было здарыцца такому.

Нечакана ўсё адбылося, раптоўна. Як чорны віхор наляцеў на Забалацце – ніхто і не падазраваў і не прадчуваў...

Аблава пачалася. Аблава на дзяцей.

Невядома адкуль і з'явілася тая машына з паліцаямі і немцамі, і яшчэ з нейкімі невядомымі людзьмі – мусіць жа, таксама паліцаямі, але з іншых вёсак. Машына пакрысе паўзла па вуліцы, а паліцаі забягалі ў кожную хату, хапалі і выцягвалі на вуліцу хлапчукоў, якім было больш за пяць гадоў...

Людзі ведалі, чаго забіралі іх дзяцей. Для параненых салдатаў вермахта патрэбна была кроў, дзіцячая кроў. Шпіталі рабілі запасы дзіцячай крыві...

Нехта бачыў, быццам бы ў адной з тупарылых машын быў і Дранік. Не ў Забалацці, ды ў іншых вёсках памагаў адбіраць у бацькоў дзяцей і запіхваць у кузаў крытай брызентам машыны.

Галасілі мацяркі, стараючыся вырваць з рук паліцаяў сваіх дзяцей, прасілі пакінуць, умольвалі, заклінали і – праклінали тых, хто адарваў ад сям'і роднае дзіця...

Вырывала, што было сілы, і Алена Сіліч свайго Петруська ў невядомага ёй паліцая – чорнага, як галавешка, ці не цыгана бяздомнага, прыблуды з іншых мясцінаў. Перад гэтым кінулася ў другую палову хаты, каб папрасіць Курта аб дапамозе, каб выбавіў свайго сябра з палону, але той, як на тую бяду, некуды з’ехаў са сваімі ў невядомым кірунку...

– Не забірайце, прашу, не трэба. Ён хвoранькі ў мяне, слабенькі... – учапілася ў сына, трымала, што было сіл.

– Пшла адсюль! – адпіхнуў яе той жа чорны, як грак, паліцай, адной рукой падняў Петруська і закінуў у кузаў, дзе месцілася ўжо каля дваццаці дзяцей...

Жанчыны крычалі, плакалі, галасілі... Алена, падаючы на зямлю, балюча выцялася аб змерзлую храпу – ужо лістапад гуляў па зямлі. А яна выбегла без світкі, нават хустку не здагадалася накінуць.

Калі апрытомнела, доўга не магла ўцяміць, чаму ляжыць на зямлі, чаму галосяць жанчыны.

– Павезлі на станцыю! – пачула нечы голас.

“Вязуць дзяцей на станцыю! Туды мне трэба! – прыйшла да яе думка. Нікому нічога не кажучы, бегма кінулася да горада – верыла, упэўнена была, што ўдасца выратаваць сына. – Божа, памажы і на гэты раз! Ты не раз памагаў, і я ўдзячна Табе! Выратуй і памілуй!..”

Трынаццаць кіламетраў жанчына прабегла няхай і не хутка, але ніводнага разу не спынілася, не перавяла дыханне і не прысела. Толькі кружылася галава, падкошваліся ногі. Але яна знаходзіла ў сабе сілы, каб бегчы і бегчы наперад. Ведала, дзе станцыя, ведала, дзе можа адбывацца пагрузка дзяцей.

Не памылілася – сэрца маці вяло правільным кірункам.

“Цялятнікі” стаялі збоч асноўнай станцыі, у тупіку. Жанчына баялася, каб і яе не схапілі ды не кінулі ў вагоны да дзяцей, таму старалася не выклікаць падазрэння немцаў і паліцаяў, што шнyралі туды-сюды... Доўга прыглядалася да таго, што рабілася, выбірала зручны час і месца, каб падступіцца да вагонаў...

І – о, Божа! Алена ўбачыла непадалёк ад сябе Несцера. Ён стаяў з нейкім паліцаем і пра нешта гаварыў, найбольш слухаў, што той тлумачыў. Алена ўпілася пільным позіркам яму ў патыліцу.

І Несцер павярнуўся да яе. Жанчына ўмольна глядзела на яго, не зводзіла позірк, маліла зноў Бога, каб стараста пачуў яе боль і покліч.

Скончыўшы размову, падышоў да Алены, але не адразу, а трохі счакаўшы. Пахадзіў яшчэ трохі сярод натоўпу, пераканаўся, што не пагражае небяспека, – тады толькі стаў побач.

– Што здарылася, Алена? Якое гора ў цябе?

Стараста стаяў побач, але адвярнуўшыся ад яе, як і не ведаў жанчыну, і спытаў праз плячо, гледзячы на перон, дзе адбывалася размеркаванне і пагрузка дзяцей.

– Гора, Несцерка, ой якое гора! Схапілі майго Петрыка, на машыну пагрузілі і сюды, мусіць, прывезлі. Недзе тут ён, мо і Дранік яго садзіў, бо казалі, што сярод іх быў...

– Добра, стой тут, а я што-небудзь прыдумаю... Толькі адыдзі адсюль, далей стань, каля тых скрыняў схавайся...

Яго не было доўга, можа, цэлую вечнасць. Яна ўжо і не ведала, колькі прайшло дакладна часу, бо вельмі змерзла, і запознена шкадавала, што не прыхапіла ў гарачцы з сабой якой-небудзь апранахі. Мо то з-за холаду доўжыўся час, а мо і з-за хвалявання і невядомасці. Цярпенне пакідала яе. Яна ўжо і пашкадавала, што звярнулася да Несцера, – мо сама даўно ўжо дабілася б нечага, дамаглася б. Але тут жа сабе і дакор выказала – нельга ж так, не ведаючы, ганіць чалавека. Калі ўзяўся, то будзе старацца памагчы ёй... Можа, проста пакуль не ўдалося, бо нялёгка адабраць сына ў немцаў, нейкія ж важкія прычыны павінны быць на тое... А якія тут могуць быць прычыны, хто ім паверыць... Бралі ж усіх падрад, пачынаючы з пяцігодак... Мо і сам чалавек папаўся праз гэта, і яму будзе гора і кара...

– Алена, ты дзе? – пагукаў недзе збоку Несцер, і яна скаланулася, ледзьве не закрычала, але стрывала, моўчкі прыўзнялася са сваёй схованкі, выпрамілася.

– Тут я, Несцерка!

Стараста, усміхаючыся, падштурхнуў у плечы хлапчука:

– Бяжы да маці!

А потым пастражэў тварам, загадаў затоена:

– Хуценька ўцякайце адсюль! Зараз жа! Бяжыце да Беразіны, перасядзіце там з паўгадзінкі, а потым толькі ідзіце дадому...

– Дзякую, Несцер!

– Хутчэй, Алена! – не адказаў на падзяку, крутануўся і пабег назад, асцерагаючыся, каб не хапіліся яго.

Маці абхапіла сына, прытуліла да сябе, як старалася абагрэць яго апошнім сваім мацярынскім цяплом. Туліла і аглядвалася па баках, каб не папасці каму на вочы. Потым пацягнула яго за сабой, але не вытрымала, узяла на рукі, трымала як неацэннае багацце, імкнулася бегчы туды, да вербалозу, дзе іх ніхто не ўбачыць, не разлучыць іх больш.

За спінай чуваць гудкі паравозаў, дзіцячы плач, нейкія глухія выбухі ці стрэлы, ляскат вагонаў...

– Сыночак, ты як, цэлы хоць? – спытала запознена, сеўшы з ім на пясчаны бераг.

– Галава баліць, а так нічога...

– Як Несцер адшукаў цябе, сынок?

– Я сам яго ўбачыў, але не крыкнуў, а толькі памахаў рукой. Ён і ўбачыў мяне. Мы былі ў апошнім вагоне...

– Разумнік ты мой, малайчына! – пахваліла маці, цалавала і цалавала яго ў галаву, гладзіла па спіне, зноў туліла да сябе.

Калі аціхла радасць сустрэчы і прыйшло разуменне таго, што самае страшнае засталося ззаду, маці пачула недаўменнае пытанне сына:

– Мама, а дзе ж Курт, чаму ён аддаў мяне паліцаям?

– А ён і не бачыў усяго гэтага, сынок. Яны ўсе некуды з'ехалі... Я шукала яго, каб папрасіць дапамогі, не знайшла...

– Шкада. Ён бы не аддаў мяне ім, праўда?

– Праўда, Петрык, праўда... Ляжы, маўчы, так Несцер загадаў. Я з табой, і цяпер нам нічога не страшна. А дадому мы з табой хуценька зойдзем, напалім у печы. Адагрэю цябе і сама адагрэюся...

Сын перастаў дрыжэць і калаціцца, супакоіўся. Дрыготка прайшла, і ён ужо драмаў на руках маці. А потым прахапіўся, як усё роўна яго абудзіў напамін пра нядаўняе страшнае, папытаўся:

– А куды яны нас хацелі везці, мама?

– Куды? Несцер казаў, што з вас хацелі браць кроў.

– Для чаго?

– Для нямецкай арміі.

– А Пецька, Змітрок, Паўлік, Колька – яны там, засталіся ў вагонах, так?

Маці нічога не адказала. Не хацела больш нічога гаварыць сыну, каб не вярэдзіць дзіцячае сэрца. Але ён і так усё зразумеў, заплакаў, уткнуўшыся ў грудзі маці.

Яна мацней прытуліла да сябе, стараючыся, як магла, утаймаваць боль, суцішыць яго пакуты. Ён доўга ўсхліпваў, не могучы суняць дрыготку, шкадаваў, што немцы і паліцаі адабралі ад яго добрых і верных сябрукоў. А потым суцішыўся, заснуў. І снілася яму чыстае і прасторнае поле – вялікае і зялёнае. І што нясе яго на сабе Курт, нешта вясёлае і радаснае расказвае пра сябе. Але слоў Пятрусь не разумее, толькі адчувае радасць яднання, радасць сяброўства.

Алена пабачыла на сынавым твары спакойную ўсмешку і сама паспакайнела.

Ужо можна было ісці дадому, але не магла рашыцца будзіць Петруся, хацела, каб ён паспаў яшчэ якую хвілінку... Жанчына зноў падзякавала Богу,

што паслаў ёй Несцера, што навучыў яго, як адшукаць яе сына... Падумала яшчэ, што ўсё жыццё будзе ўдзячна яму за дапамогу.

“Няхай потым будуць казаць, што ён служыў немцам, назавуць яго здраднікам ці іншым словам, – я ніколі пра яго не скажу ніводнага кепскага слова. Як і не скажуць пра яго і іншыя забалацянцы. Стараста? Але ж ён і не напрошваўся на тое старасты. Дранік вунь сам пайшоў у паліцаі, і што пра яго кажуць людзі? Не толькі мне памагаў Несцер, а шмат каму і яшчэ...”

Калі ж перастала адчуваць ногі, калі да яе прыгарнулася мройная цеплыня, жанчына спужалася: гэта азначала, што яна пачынала замярзаць. Яна злёгку патармасіла за плечы сына. Ён і прахапіўся, глядзеў здзіўлена на матулю.

– Пайшлі, Петрык, дадому... Позна ўжо.

Лістападаўская ноч накідвала сваё шэрае халоднае прасцірадла на зямлю. Ад Беразіны патыхала холадам і зябкасцю. Было зімна. Здавалася, што вось-вось з неба пачне падаць густы і лапушысты снег...

Не даходзячы да дарогі, пачула фырканне матацыкла. Прыўзнялася, каб пільней прыгледзецца. Сапраўды, на паваротцы заўважыла матацыкл. На ім сядзела двое. Падумала: “Мо то Курт едзе, даведаўшыся пра ўсё? Ратаваць спяшаецца... А мо і не ён, а хто іншы...” Але на ўсялякі выпадак прыгнулася з сынам як мага ніжэй да зямлі.

Перачакала, пакуль невядомыя ад’едуць ад іх далей. Толькі пасля гэтага ўзяла сына за руку і, выйшаўшы на дарогу, спусцілася да Забалацця. Стомы жанчына не адчувала. На сэрцы – бязмежная радасць.

Курт Венцэль вярнуўся ў вёску пад абед.

Даведаўшыся, што здарылася з Петрусём, збялеў, скрыгатнуў зубамі, вылаўся. Адчуў, як пякучы боль паласнуў па сэрцы. Ён не знаходзіў сабе месца, курыў і курыў адну цыгарэту за другой. Адчуванне было такое, што гэта не ў Сілічаў, а ў яго аднялі сына...

Напачатку было жаданне кінуцца следам за машынамі – дагнаць на дзяжурнай, што прывозілі ім абед, але перадумаў – яго маглі няправільна зразумець. Асабліва Гунтэр Клаўс, патомак баронскага роду, які не прызнаваў ні жаласці, ні шкадавання. Ён маліўся толькі свайму адзінаму богу, якога прыдумаў, і рысы характару пераняў у таго вар’ята, які паабяцаў сваёй нацыі росквіт і працвітанне, калі яны заваююць усходнюю краіну... Калі жыхароў ператвораць у рабоў, і яны будуць працаваць на іх, арыйцаў...

“Гэта Шкрадзюк, толькі ён, – падумаў Курт, – і як толькі можна так – быць сярод сваіх і прыносіць ім гора. Няўжо ён так шчыра верыць, што Гітлер пераможа Сталіна, і што яму дастануцца ўсе даброты і багацце пасля

перамогі? Наіўны і дурны чалавек. Не, гэта я дурны чалавек, дужа дурны. Як я не здагадаўся сказаць раней, каб Петрык, калі што якое, хаваўся ў другой палавіне хаты – туды не асмеліліся б зазірнуць паліцаі, ім забаронена без дазволу пераступаць парог жылля афіцэраў... Хаця... Не, не такі выхад, не такі. Забралі, адабралі ад мяне майго Пітэра, я і не ведаў, што так прывязаўся да яго, палюбіў яго... Божа, каму патрэбна гэтая крывавая і такая бесчалавечная вайна?..”

Курт Венцэль быў не з беднай, але і не з багатай сям’і. Бацька быў чыгуначнікам, працаваў на станцыі. Маці – у прыватнай бальніцы. А потым яны пабудавалі невялічкі дамок на ўскраіне горада, куды потым Курт перабраўся з маладой жонкай.

Ён набыў спецыяльнасць інжынера і працаваў на вялікай фабрыцы, якая вырабляла адзенне, а Марта, жонка, працавала фармацэўтам у аптэцы. Праз год у іх нарадзіўся сын. А праз пяць гадоў яго прызвалі ў армію вермахта. Паслалі ў невядомую краіну забіваць людзей. Яму пашанцавала. Яго прызначылі служыць у жандармерыю, дзе трэба было займацца фарміраваннем і камплектацыяй фуражу, пракладваць дарогі, будаваць масты...

Пад вокнамі завуркатаў матацыкл. Курт выглянуў у акно – да дзвярэй кіраваўся салдат, трымаючы ў руках пакет. Венцэль не вытрымаў, выбег насустрач.

– З Бабруйска?

– Так, пан афіцэр. Для вас пакет. Са штаба перадалі. Тэрмінова.

– Дзякую, – адказаў безуважна Курт, паразважаў крыху, разарваў канверт, выняў паперы, прабег позіркам па радках.

Аднёс у хату, паклаў пад падушку.

“Добра, што няма побач Гюнтэра, – адзначыў радасна, – пачаў бы распытваць, што і да чаго, а так абыдуся без сведак...”

Вярнуўся да салдата, які чакаў яго адказу, распараджэнняў.

– На Бабруйск! Тэрмінова! – загадаў матацыклісту і тут жа сеў у каляску.

Матацыкл каціўся па ўмерзлай дарозе хутка і роўна. Курт хаваўся ад сустрэчнага сівернага ветру, сагнуўся, трымаў рукой фуражку, каб не зляцела з галавы.

“От каб нас перастрэлі партызаны, – падумаў нечакана, гледзячы на ўзбочыну дарогі, – тады б скончыліся мае пакуты невядомасці, і прыйшло б да мяне супакаенне. Я сказаў бы ім, што сам даўно збіраюся перайсці да іх... Але дзе яны, тыя партызаны, тут жа і лясоў няма, а яны ў глыбокіх пушчах і барах, куды і дабрацца немагчыма... Ды не, я не пра тое думаю, мне трэба найперш вызваліць майго Пэтэра, Петруся...”

Курт, як і Алена, прасіў Бога, каб выбавіў яго маленькага сябра з бяды.

На паваротцы, калі яны міналі лагчынку, падалося яму, што нехта хаваўся за невыскім кустом, прыгнуўся. Хацелася нават сказаць кіроўцу матацыкла, каб спыніўся, бо адчуў, як сэрца ёкнула ў грудзях, але шкадаваў часу, імкнуўся на станцыю.

Не спыніў, бо калі другі раз зірнуў на тое месца, то нікога і не ўбачыў.

“Падалося, мусіць, хто ж там, у такую халадэчу, мог схавацца? Каб партызаны, то даўно спынілі б іх ці далі аўтаматную чаргу...”

– Шнеллер, шнеллер! – падганяў матацькліста.

Ён мітусіўся сярод тлумнага натоўпу, падыходзіў да купак дзяцей, позіркам вышукваў таго, дзеля каго ён і прымчаў на станцыю.

Дзяцей па двое аддзялялі ад групы і заводзілі ў вагон. Пераканаўшыся, што на пероне Петруся не было, пачаў заглядваць у кожны вагон.

– Петрусь! Сіліч!

Але ніхто не адгукаўся – у гэтым мурашніку цяжка было адшукаць хлапчука, амаль немагчыма. Вагоны пакаваліся не толькі з дзяцей, а і з дзяўчат і маладых жанчын. І вагонаў было шмат, і на розных платформах...

Да яго падышоў забалацянскі стараста. Той пра нешта хацеў спытаць, але яго апярэдзіў Венцэль – узяўшы за каўнер світкі абедзьвюма рукамі, як не закрычаў:

– Сіліч! Во Петрусь Сіліч?

Несцер нечакана для Курта ўсміхнуўся, зразумеўшы і адчуўшы неспакой сілічаўскага кватаранта, прамовіў словы, зразумелыя і радасныя:

– Аллес гут! Сіліч цузаммен муттэр коммэн нах хауз.

Немец не паверыў, перапытаў, амаль перайшоўшы на крык:

– Нах хауз? Домой? О, майн Гот! Ты памагаць, да?

Несцер на вачах Курта ўбачыў слёзы, чаму нямала здзівіўся.

І толькі пасля гэтага Венцэль похапкам выхапіў цыгарэты і закурыў, часта зацягваючыся... Потым ківаў галавой, як прасіў даравацьза нешта, вінавата гаварыў:

– Данке, Несцер, данке!..

На душы паспакайнела, але ўсё роўна ў скроні тоненькімі іголачкамі пульсавала трывога, і яе яшчэ доўга не маглі затушыць ні доўгая і глыбокая зацяжка, ні ўсведамленне таго, што самага страшнага не адбылося...

Курт сеў на лаўку, шчасліва ўсміхаўся, нешта казаў сам сабе. А Несцер не вытрымаў, падышоў да яго, паклаў руку на плячо, прамовіў:

– А харошы ты чалавек, немец Курт. Вельмі харошы немец!

Венцэль ківаў галавой, як усё роўна згаджаўся са словамі старасты. А мо ён і не чуў яго слоў, толькі па голасе зразумеў, што той гаварыў яму нешта цёплае і адабральнае...

## 8

Пятрусь прахапіўся сярод ночы.

Яго разбудзіла незразумелая валтузня ў хаце, прыглушаная размова. Усё гэта адбывалася ў цемры – нават не запальвалі смалякоў.

– Кажушок вазьмі, Колька, – упрошвала маці.

– Навошта ён там, у партызанах, там абмундзіруюць, – з цемры абзываўся незадаволены бацькаў голас.

– А як жа чакай, з самай Масквы даставяць, персанальна Колю Сілічу, – здзекавалася маці, як пасміхалася з бацькі.

“Колька ідзе ў партызаны? – адразу бліснула думка, і ён споўз са свайго палка, ужо прызвычаіўшыся да цемры, ды і ў акно заглядваў спелы маладзік, і ён добра бачыў, хто таптаўся ў хаце. – І мне нічога не гавораць?”

– Мо яшчэ і валёнкі апошнія аддай, – падначваў ужо Сяргей Фёдаравіч, курачы самасад.

– А што, – упарцілася маці, увіхалася, борздзенька бегала з кутка ў куток, нешта знаходзіла, запіхвала сыну ў торбачку – у далёкую дарогу збірала, на вайну збірала, і ніхто не ведаў, ці пабачацца больш, – і валёнкі дамо, каб быў не горшы за ўсіх, каб не абгаворвалі потым, што Сілічы свайго сына голым у лес выправілі. Не будзе такога...

– Ды сапраўды, мамо, мо і не след было б так пра мяне клапаціцца – як жа вы тут без абутку? – апамятаўся Мікола. – Маразы вунь якія пякуць...

– А ты – цыц, ты матку слухайся, тады ўсё будзе добра.

Петрык падышоў ззаду брата, абняў яго, моўчкі заплакаў.

– То ты, Пятрусь? Разбудзілі цябе? Ды не бойся, я не пайшоў бы, не развітаўшыся з табой. Ты б на мяне крыўдаваў бы тады, ці не так?

Ён моцна прыціснуў да сябе брацікa, выказаў яму сваю любоў.

– А ты хутка вернешся?

– Не паспееш падрасці, як я вярнуся. І зноў з табой будзем рыбу лавіць, знаходзіць пчаліныя гнёзды.

Брат падхапіў Петруся на рукі, абняў, як маленькага, прытуліў да шчакі, а на вуха прашаптаў:

– Вярнуся, брацейка, вярнуся. Ты тут ужо глядзі. Ды з Куртам ты, я думаю, не прападзеш, так?

– Мг... Добры ён сябар... А ты ідзеш біцца з немцамі-фашыстамі?

– Ага.

– А Курт – ён таксама немец?

– Немец.

– Дык ты будзеш і з ім біцца?

– Не, з ім не буду. Ёсць розныя немцы.

– А мой сябар – Курт – добры немец?

– Вельмі добры. Ён любіць цябе.

– Я ведаю...

Усё напакавана, усё сабрана. Здаецца, нічога не забылася маці пакласці – усім кіравала яна. Клапатлівая Алена ўсё да дробязяў паўспамінала і ўклала ў торбачку самае неабходнае, што можа спатрэбіцца ў дарозе.

Сын звязаў за гарлавіну торбачку, каб потым, як рэчавы мяшок, закінуць яе за спіну.

– Дзе хлопцы будуць чакаць? – удакладніў бацька.

– Коля Аўгушоў за канавай, пад карчом, а Чэрнік трошкі далей – каля ўзболатка, пад крутой алешынай, – прашаптаў Мікола. – Дык я пайду?

– Не, сын, не спяшайся, – спыніў яго бацька, – спачатку я выйду, разведаю, што да чаго, гляну, а потым у акно пастукаю. Ці мала якога сабаку можна напаткаць?

– Добра, але і не баўся доўга. Хлопцы, мусіць, зачакаліся.

– Пацерпяць твае сябры, вытрымаюць – не на пагулянку да дзяўчат збіраецеся, на вайну ідзяце, а яна не выбірае сваіх жаніхоў...

Гаспадар выйшаў, і ўсе потым доўга ўслухоўваліся ў рыпенне падэшваў на хрумсткім снезе, чулі, як кашляў, як таптаўся за плотам, ходзячы туды-сюды, – усё правяраў, асцерагаўся, перастрахоўваўся.

А потым і Курт выйшаў, накінуўшы на плечы шынелак, – па патрэбе, перакінуўся словам-другім з гаспадаром хаты, і хуценька шусьнуў назад, дагледжваць свае сны. Ніякай аховы нямецкія афіцэры не выстаўлялі, і бацька яшчэ раней супакоіў іх, сказаўшы, што партызанаў у гэтых мясцінах няма, і таму асцерагацца іх няма патрэбы. Венцэль паверыў Сілічу.

Праз нейкі час гаспадар пастукаў сагнутым пальцам у шыбіну. Усхліпнула, не вытрымала, маці, абняла першай сына. Потым Валодзька сціснуў яго ў сваіх абдымках. За ім – Толік, Верка на рукі ўскочыла.

Апошнім абдымаў яго Пятрусь, прыціснуўшыся да шчакі, што было сілы сціснуў у сваіх абдымках...

– Бог у помач! – прамовіла Алена, наклаўшы крыж на сына. – Захавай яго, Божа, уратуй ад бяды і смерці!

Сын нячутна шуснуў з хаты, акурат і хмарка набегла на месячык – як памагала стаць непрыкметным у зімовай ціхай начы.

– З Богам!

Маці падышла да абразоў і доўгі час чытала малітву, выпрошвала ў Бога жыццё для сына. Маці ніхто не замінаў. У хаце стаяла гнятлівая цішыня. Кожны думаў пра сваё, жадаў добрай дарогі Кольку.

Не хутка заснуў Пятрусь...

А потым і сам не заўважыў, як пайшоў побач з Міколкам. І з імі – во дзіва! – ішоў і Курт. Ён трымаў яго, Петруся, за руку і пра нешта гаварыў з братам. Пятрусь яшчэ падзівіўся: “Во, і Колька навучыўся гаварыць так, як Курт – разумеюць цяпер адзін аднаго... І я навучуся, абавязкова навучуся. Я ж ужо шмат якіх слоў ведаю, і таму выдатна разумею свайго сябра, як і ён разумее мяне...”

...........................

Таццянка, самая малодшая у Шкрадзюкоў, да Сілічаў прыбягала не адзін раз. Да Веркі. Назбіраюць рознага шмацця, у лялькі гуляюць. Не любіў Пятрок іх забавы, румзамі абзываў іх, бо толькі зачапі каторую, не так скажы, то адразу ў слёзы. Ён бы і яшчэ спаў, так соладка было яму на палку, і сны прыгожыя сніліся, а тут яна, Таццянка, прыперлася, запішчэла-зашчабятала:

– Давай, Верка, у лялькі гуляць. Спавіваць іх будзем!..

Здаецца, і не вельмі ж крычала, але вуха пачула – і абудзіўся ад сну. Хацеў прыкрыкнуць на іх, ды ўбачыў, што на вуліцы даўно раніца, што ў вокны б’юцца ад сонца зыркія промні...

У жываце бурчэла – з вечара яшчэ галодным лёг спаць. Усё, што гатавалася, маці паклала Міколу ў торбачку. Успомніў Пятрусь пра брата, і яго ахапіла шкадаванне – дзе ён цяпер, ці дайшоў туды, у той Клічаўскі раён, ці ў лесе дзе густым адседжваецца, ад ворага хаваецца?

Маці не звяртала на малых увагі, поралася каля печы. Толік недзе знік, а Валодзька да сваёй Машы падаўся, як заўсёды. Пакінулі яго, Петруся, аднаго во з гэтымі плаксамі.

Позна тапіла маці ў печы.Перад гэтым, ведаў хлопчык, яна пякла хлеб у бабы Варвары – для ўсёй кампаніі. Каб не выклікаць падазрэння ў немцаў. Не Курта баялася, а таго белабрысага, які хадзіў заўсёды насуплены, які спрачаўся не раз з Венцэлем – у нечым не саступаў яму, агрызаўся. Старалася заўсёды асцерагацца яго. Калі ж Венцэля не было, а ён заставаўся дома, то імкнулася і на вочы яму не пападацца.

Маці ўвішна круціла вілошнікам, качаргой адгортвала жар, і туды ставіла чыгуны, каб зварыць для каровы і свіней бульбы. Потым бацька будзе таўчы яе, перамешваць з сечкай і карміць жывёлу...

– От каб не той Дранік, то хіба пайшоў бы мой Колька ў тыя партызаны, – уздыхнула маці, праказала няведама каму, от так ляпнула пра сябе, бо ведала, што нікога ў хаце не было, а што малыя поўзаюць па падлозе, дык хіба яны што разумеюць?..

Пятрусь заўважыў, як натапырыла вушы малая Шкрадзючыха.

Няхай што малая, а хітрая-хітрая, што ліса, яна заўсёды і Верку абдурвае ў гульні, дурной прыкідваючыся, дражніцца, пацьвельвае, таму і не любілі яе дзеці, не мелі асаблівай ахвоты гуляць з ёю...

– Мама, а ці хутка ты есці згатуеш? – папытаўся сын, каб яна больш яшчэ чаго не сказанула пры малой шпіёнцы, бо невядома яшчэ як яно можа абярнуцца з тым матчыным шкадаваннем, – вушы ж ёй не заткнеш...

– От няўпраўка табе, от толькі каб паесці, – нязлосна адказала маці, але ўжо забылася пра тое, аб чым толькі што гаварыла пра Кольку – тое і абрадавала хлапчука.

– А куды пайшоў ваш Коля? – спытала, трохі счакаўшы, Таццянка ў Веркі, спадзеючыся, што тая, нічога не падазраючы, дакладна распавядзе ёй пра брата.

– Дровы з бацькам пілуюць, – абыякава адказала сяброўка.

Перад гэтым і бацька, і маці вельмі ж прасілі, каб яна нікому-нікому не гаварыла, не прызнавалася, куды пайшоў яе брат. Вучылі яшчэ – калі ж прыставаць будуць з пытаннямі, то каб казала, што дровы з бацькам пілуюць. Навука пайшла на карысць.

“Тут хоць хапіла розуму адказаць, – адобрыў і пахваліў пра сябе сваю сястрычку брат. – А то прыстае Дранічыха – усё ёй цікава, куды ды што, усё выпытаць хоча. За сваім вунь братам-паліцаем прыглядвай, а не за намі цікуй...”

Таццянка яшчэ які час пагуляла, не нагулялася нават, і сказала, што яе дома чакаюць, шуснула нішком з хаты. Пятрусь маці нічога не сказаў – што яму, малому, папракаць яе, ведала ж, што казала, значыць, не баялася...

Пад вечар у іх хату завіталі бежанцы. Пятрусь і не чуў такога слова, то маці так сказала, убачыўшы праз шыбы абарваных і стуленых ад холаду людзей:

– Зноў бежанцы... Божа, Божа!..

Іх было чацвёра. Чатыры жанчыны. Адна з іх была пажылога веку, астатнія – аднагодкі, але значна маладзей. Петрусю яшчэ кінулася ў вочы, што адна з іх бесперапынна кашляла, прытуляючы кулак да рота.

– Скуль вы будзеце, людцы добрыя? – спагадліва спытала маці, выціраючы ражком фартуха мокрыя рукі.

– З-пад Смаленска. Папалілі нас, у Нямеччыну амаль усіх вывезлі, мы ледзьве ўцяклі... Шукаем прыстанішча. Мо б у вас маглі як прытуліцца?

Маці разгубілася. Не чакала такой просьбы, задумалася.

– Не ведаю, дарагія мае... Ой, не ведаю... Бачыце самі, колькі ў нас сваіх – то мае двое малодшанькіх, гаспадар і два сыны на працу пайшлі –

немцы прымушаюць. І самім цесна. То ж з нас з другой палавіны хаты сюды перагналі...

Жанчына заплакала, пачуўшы такое. Скрозь слёзы загаварыла ўмольна:

– Ды мы як-небудзь, у куточку скраёчку, нам шмат і не трэба... І мы вам работу рабіцьмем любую, нахлебнікамі не будзем... Пусціце радзі Хрыста, век на вас маліцца будзем... Бо смерць нам прыходзіць, больш ужо і сіл няма далей ісці...

Пятрусь глядзеў на незнаёмых жанчын, і ў яго, як і ў маці, прачыналася міжволі шкадаванне да бежанцаў. Ён не ведаў, што адкажа маці. Верка цікаўна паглядала з-за стала на чужых людзей.

Алена азірнулася на дзяцей, як бы ў іх пытаючыся дазволу ці згоды, уздыхнула, горычна сказала:

– Ну што з вамі паробіш – гора і ёсць гора. Яго не аб’едзеш, ні аббяжыш. Заставайцеся. Разам будзем нішчымніцу сёрбаць...

Тая жанчына, што стаяла побач з маці, кінулася пад ногі, укленчыла, дзякавала, але гаспадыня адхіснулася спалохана і незадаволена – не спадабалася ёй такое, таму строга загадала:

– Вы што – зараз жа ўстаньце! Нельга так... Устаньце. А то перадумаю.

Пагроза падзейнічала, і жанчына тут жа паднялася, не ведала, што рабіць.

Гаспадыня яшчэ нейкі час паразважала, агледзела ўсё ў хаце і прамовіла:

– Вось той кут і займайце. Пакуль адпачывайце з дарогі, а я вас гарбатай з маліны папаю. А потым вады гарачай нагрэю і абмыю вас з дарогі. Будзем жыць, будзем... Бог паможа нам усім выжыць.

Брат і сястра назіралі за бежанцамі са свайго кутка, не асмельваліся да іх падысці, загаварыць.А жанчына кашляла, і кашляла, і кашляла...

“Во як застудзілася, – пашкадаваў яе Пятрусь, – як і я летась... Мяне дык маці адпойвала гарачымі духмяна-горкімі адварамі. І Курт нейкія таблеткі даваў...”

9

Немцы прыехалі на двух матацыклах. Яны падрулілі пад двор, злезлі з сядзенняў і пакіравалі ў хату Сілічаў. Курт стаяў на ганку і курыў. Яны выдаўжылі перад ім рукі. Крыкнулі “хайль”. Ён вяла адказаў ім, пра нешта спытаў. Яны паказалі на акно другой палавіны хаты, дзе размяшчаліся Сілічы і бежанцы.

Зайшлі ў хату. Адразу ж загадалі гаспадару і маці выйсці на вуліцу. Сілічы не разумелі, што хочуць ад іх немцы. Тады яны сілай выштурхнулі іх на

двор. Адзін з немцаў на ломанай рускай мове сказаў, што іх неабходна даставіць у Кавалі – да бургамістра. Такі загад яны атрымалі ад нямецкага камандвання і самога Вінарскага.

“Калі да Вінарскага, то не бяда, – адзначыў пра сябе Сяргей Сіліч. – Толькі чаго так тэрмінова? Што адбылося?”

Іх у Кавалі прывезлі хутка – дарогая не дужа доўгая, у сем кіламетраў. Там размяшчаўся і бургамістрат. Немец руляй аўтамата падштурхоўваў іх, каб не марудзілі, а хутчэй ішлі. Расчыніліся дзверы, а потым і другія, і іх упіхнулі ў прасторнае памяшканне. За сталом сядзеў бургамістр Вінарскі, каля сцяны – некалькі афіцэраў. Тыя, хто прывёз Сілічаў, адступілі назад, зачынілі за сабой дзверы.

– Вы ведаеце, чаго вас даставілі сюды? – спытаў злосным голасам бургамістр, бровы на вочы наступіў, незадаволенасць сваю паказваў.

– Не, пан бургамістр, не ведаем, – паціснуў плячыма Сяргей, недаўменна паглядзеў на Вінарскага. – А чым мы маглі правінавацінца? На працу ходзім, выконваем усе павіннасці, слухаемся нямецкіх афіцэраў.

Вінарскі падняўся з-за стала, выйшаў на сярэдзіну залы, потым скіраваў да Сілічаў, счапіўшы рукі за спінай, гледзячы пільна ім у вочы, яшчэ больш злосці напусціў на свой твар, запытаў:

– Тады адкажыце мне чэсна, а дзе ж тады ваш сын Мікалай? Ну?

“А, вось яно што, – адзначыў пра сябе Сяргей Сіліч, і адразу паспакайнела на душы, бо ён баяўся чаго іншага, неспадзеўнага і страшнага, а тут аказалася... Дык то ж Драніка работа, яго, нездарма Пятрусь казаў, што Таццянка ўчула, што маці ненарокам прагаварылася, забыўшыся, што яна ў хаце была. Яна, малая ліса, ну сарока, ну паршыўка...”

– Мікалай? – перапытаў здзіўлена Сіліч. – Казаў, што пойдзе ў прымы недзе пад Бабруйск... Учора ў госці прыходзіў. І Курт Венцэль яго бачыў, наш пастаялец... А што здарылася, пан бургамістр? Мо забілі дзе, ці ён забіў каго? – устрывожыўся сур’ёзна бацька.

– Забілі майго сыночка! – заплакала тут жа Алена, галавой захітала, слёзы пачала ліць.

Вінарскі агледзеў тых, што сядзелі каля яго і слухалі ўсю размову, як бы даказваючы: “Вось бачыце, а вы пра людзей так кепска думаеце...”

– А ці не хлусіш ты, Сяргей Сіліч, га? – прымружыў вока бургамістр, яшчэ бліжэй нахіліўся, свідраваў сваім позіркам. – А падманваць нямецкую ўладу нельга – такое караецца вельмі строга па сённяшнім часе.

– Ведаю, пан бургамістр, – аддана выцягнуўся прыведзены, як па струнцы стаў, як салдат перад генералам, прадчуваючы, што Вінарскі выручыць, адвядзе ад яго падазрэнні.

– Дык чаму ж тады Іван Шкрадзюк дакладвае мне, што твой сын падаўся ў партызаны?! Чаму?

“Ага, пра сябрукоў не ведаюць, значыць, пра іх не ведала малая даносчыца, – адзначыў пра сябе і зразумеў, што бургамістр адкрыў перад ім карты, намякнуў, адкуль той вецер дзьме, хто заварыў гэтую кашу. – Ну і Дранік, ну і падонак... Пачакай, ты яшчэ будзеш адпомшчаны – і за жонку, што ледзьве не запёр у Нямеччыну, і за Петрыка, што амаль не падвёў пад нямецкі шпрыц...”

– Пан бургамістр, Шкрадзюк можа сказаць, што і я партызан, – усміхнуўся Сіліч, – і што мая жонка Алена – партызанка. Ды ўсё гэта, пан бургамістр, скажу я вам чэсна і паклясціся магу, усё з-за таго, што ён думае, што я яго карову некалі атруціў. А сам жа накарміў яе нейкім паскудствам, што яна і капыты адкінула... Злы ён на мяне, пане бургамістр, і зайздросны без меры. Хай мая Алена пра яго скажа.

– Чыстая праўда, па бургамістр! – прамовіла жанчына. – І даўно тое цягнецца, вельмі даўно. Дранік – ён і ёсць Дранік.

– А гэта што азначае?

– Ды так дражняць яго ўсе ў Забалацці – збрэша і не засмяецца.

На твары Вінарскага адбілася ледзь прыкметная ўсмешка. Пасля пасур’ёзнеў, а звярнуўся да прысутных ужо іншым голасам:

– Паклёп таксама строга караецца. Паклічце мне Дра... Шкрадзюка сюды!

Праз колькі хвілінаў на парозе з’явіўся паліцай Іван Шкрадзюк. Уважліва паглядзеў на Вінарскага, чакаў, што той скажа яму важнае.

– За тое, што наводзіш паклёп на невінаватых людзей, ты, Іван Шкрадзюк, атрымаеш трыццаць плётак. І зараз жа!

– За што, пан бургамістр? – узмаліўся паліцай. – Я не вінаваты, мне так далажылі!

– Хто далажыў? Пляткары? – пацікавіўся бургамістр, але ўжо не жадаў пачуць ад паліцая адказ, адвярнуўся ад яго.

Двое немцаў схапілі Драніка, паклалі на лаву, скінулі штаны і па голым азадку адлупцавалі трыццаць разоў. Але таго ўжо не бачылі Сілічы. Яны і не жадалі глядзець на тую экзекуцыю, хаця ў душы радаваліся, што так усё абышлося. Пра сябе адзначыў Сіліч, што яшчэ трымалася сувязь паміж ім і Вінарскім. Значыць, быў і застаўся чалавекам бургамістр...

– Гэта я, Сярожа, вінаватая, – вінавацілася перад гаспадаром Алена, – язык распусціла... Няма мне даравання...

– Эх ты, балаболка! – замахнуўся на яе Сіліч, але не ўдарыў, толькі ўздыхнуў, крутануў галавой. – Баба, яна і ёсць баба, і мазгі ў яе курыныя...

Не крыўдавала яна на такую абразу, згаджалася, бо сама сябе ненавідзела ў гэтыя хвіліны. І было б лягчэй ёй, мусіць, ад таго, калі б даў ёй муж добрага кухталя...

…А Таццяна Шкрадзюк ужо больш ніколі да Сілічаў у госці не з’яўлялася. Ні падчас вайны, ні пасля яе...

Той жа выпадак наклаў адбітак і на адносіны паміж нямецкімі афіцэрамі і Сілічамі. Яны пачалі радзей мецъ размовы з гаспадарамі, трымаліся больш стрымана і афіцыйна – мусіць жа асцерагаліся, што могуць данесці і на іх, і асабліва на Курта, што ён занадта ў цёплых адносінах з сям’ёй Сілічаў і бежанцамі...

Але Курт доўга не асцярожнічаў. Праз колькі дзён зноў прыйшоў да Петруся. Прыходзіў з тымі ж алюмініевымі міскамі. Ставіў іх перад хлопчыкам і не адыходзіў да тае пары, пакуль яго “сын” не падмятаў усё да дна.

– Эссэн, Петрусь, эссэн... Тебе нужно кушать, хорошо кушать... Фрау очень больной, нужно кушать...

І, як звычайна, задумваўся, курыў, глядзеў у адну кропку. Дзе ён быў у такія хвіліны? Сярод сваіх – на радзіме? Побач з жонкай і са сваім Пітэрам? Ніхто пра тое не ведаў.

10

І не раз, і не два быў Пятрок Сіліч у бабы Васіліхі.То з сябрам Віцькам, а то і без яго, але не мог і тыдня пражыць, каб не праведаць яе, пагаварыць з ёю. Калі вясёла на душы было, калі грудзі распірала радасць, – да яе бег, каб падзяліцца, каб і яна ведала, што яму добра. А калі цяжка было, калі прыгнятала нешта, ці балела ўсярэдзіне, як быццам вуголле ў жывот папала, – да яе ішоў, спадзяваўся, што Васіліха дапаможа, аблегчыць яго пакуты.

Занядужаў аднойчы яго старэйшы сябар – Курт. І лекар прыязджаў да яго, лячыў сваімі лекамі, ды нешта не ачуньваў чалавек, яшчэ горш рабілася.

– Баба Васіліха, а баба Васіліха, – прыйшоў да яе Пятрусь, – вылечы майго сябра – шкада мне яго... Мяне ён не раз вылечваў, як і ты, а я яго не магу. Не ўмею. Ад таго і кепска мне. Памажы, баба, га?

Жанчына для выгляду яшчэ трошкі паўпарцілася, каб пабачыць, як хлопчык перажывае за Венцэля, а потым, лагодна глянуўшы на малога госця, прычасаўшы светлыя косы, згадзілася:

– Ну, то добра, добра, прыйду ўжо, палячу твайго немчыка.

– Не, баба Васіліха, цяпер пайшлі, разам пайшлі. Ён цябе чакае.

– Ты казаў пра мяне? – яе светлыя вочы пранікліва глядзяць у хлапчуковыя – як два васількі сярод жыта.

– А як жа, казаў.

– І ён зразумеў цябе?

– А як жа – ён усё разумее, толькі пакуль што не можа гаварыць па-нашаму, як у Забалацці.

Курт як быццам і сапраўды чакаў забалацянскую лекарку, бо слаба пасміхнуўся, паказаў, каб жанчына села на табурэтку, што стаяла побач.

Шаптуха села, уздыхнула, папыталася:

– Ну, што, галубец, занядужаў? Што баліць?

Венцэль паказаў на галаву. Дакрануўся рукой да патыліцы:

– Кранк майн копф, больно голова...

– Зразумела, галубок, зразумела. Добра, ляжы, заплюшчы вочы. Во, так... Сапраўды ўсё разумееш, як казаў Петрусёк.

Васіліха абхапіла яго галаву рукамі, сціснула раз, потым другі, пачала шаптаць сваю нейкую малітву, зноў абхапіла, але ўжо там, дзе скроні, потым дзве далані на лоб паклала. Зноў адняла, паўтарыла ўсё зноў...

Шаптала, доўга шаптала, трымаючы рукі на галаве. Потым тры раз сплюнула, гледзячы на парог... Петрусю здавалася, што доўга, надта доўга чаравала над яго сябрам шаптуха. Але радаваўся, ведаў, што калі яна згадзілася выгнаць з Курта хваробу, то абавязкова тое зробіць... Калі што бабе было не пад сілу, то яна і не бралася за лячэнне.

– Ну, во, а цяпер спі... Доўга спі. Пайшлі, Пятрок, ён доўга спаць будзе – не трэба замінаць яму. Да яго трэба яшчэ раз прыйсці, і не раз. Хворы ён. І хвароба яго не прастудная. Ён там яе нажыў, на сваёй радзіме, і сам не ведаў пра тое...

– Адкуль ведаеш, баба Васіліха? – ужо на вуліцы пацікавіўся ў яе, зазіраючы ў вочы.

– Ведаю, хлопча. Я ўсё ведаю.

– Баба Васіліха, не пайму я цябе. Твае сыны на фронце, можа, іх і немцы забілі, не дай Бог, а ты майго сябра лечыш, як нашага забалацянца. Можна сказаць – ворага. Як такое можа быць?

– Вось бачыш, ты і сам кажаш, што ён твой сябар. А хвароба, нябожка, не выбірае – ты немец ці беларус, габрэй ці ўкраінец... Усім аднолькава баліць. Твой Колька, – баба перайшла ўжо амаль на шэпт, каб ніхто не пачуў, – пайшоў на вайну з немцамі, але ніколі не забіў бы твайго Курта. Ці не так?

– Так, баба, і ён мне казаў пра тое.

– Трэба ўсім рабіць дабро, як раіў Гасподзь, тады і табе аддзячыцца...

– Як гэта, баба Васіліха? Раскажаш сёння?

– Можа і раскажу, але трошкі пазней. Сёння я стамілася вельмі. Цяжка хварэе твой Курт, шмат сілы аддала яму.

– А калі, баба?

– З сябрамі прыходзь, і сястрычку Верку вазьмі з сабой. Праз днёў тры прыходзьце. Я падужэю да таго часу. І тады да твайго немчыка схаджу, зноў сілы яму прыбаўлю.

– Пад вечар прыходзіць?

– Ага, пад вечар, – адказала стомлена шаптуха і, ні слова больш не гаворачы, пасунулася пакрысе, перавальваючыся з нагі на нагу, да свайго дворышча.

Хлопчык яшчэ доўга глядзеў ёй услед, і на душы ў яго цяплела ад таго, што не адмовіла шаптуха ў яго просьбе, што аблегчыла пакуты хвораму. І адначасова пашкадаваў Васіліху – вунь як стамілася – і голас зусім аслабеў, і ногі ледзьве трымаюць...

Дабрачая баба ў яго, і ўсім-усім дапамагае!

Курт спаў і суткі, і двое, і трое.

Пятрусь раз-пораз заглядваў да яго, але, убачыўшы, што яго сябар спіць і не прачынаецца, не пераступіў парог. І яго саслужывец, прывыкшы ўжо да з’яўлення хлапчука, ведаючы, што гэта ён прыводзіў лекарку, моўчкі паціскаў плячыма, паказваючы на соннага, як бы гаворачы: “Спіць, не прачынаецца... Не будзем турбаваць яго...”

Калі ж Сіліч прыйшоў на наступны дзень, то падзівіўся – Курт сядзеў на ложку, трымаў у руках кубак з пахкай кавай, адхлёбваў па глытку. Убачыўшы яго, заўсміхаўся, запрасіў да сябе. І добра, што Курт быў адзін, без прысутных ён адчуваў сябе смялей...

– Ну, як табе, Курт, палепшала?

– О, мой Петрусь, гут, зер гут... Твоя гросмуттер Василиха большой доктор! Большой! Зер гут!

Пятрусь шчасліва ўсміхаўся, гледзячы на Венцэля.

– Баба і яшчэ прыдзе. Аднаго разу мала. Сёння прыдзе...

Курт не адрываў позірку ад хлапчука, радаваўся, што бачыць яго.

– Данке, Петэр, данке... Дзякуй!

...І зноў баба сабрала ў гурт дзяцей, зноў чытала ім аберагальную малітву.

– І Ён у тыя дні ўзышоў на гару памаліцца. І ўсю ноч прабыў у малітве да Бога...

Васіліха сказала першы сказ і паглядзела на сваіх маленькіх слухачоў. Кожнаму перад гэтым яна дала па коржыку з жытняй мукі, падмяшаўшы

туды намолатых грушак-дзічак, – і смакталі дзеці яе прысмакі, слухалі, пра што баяла-расказвала Васіліха. А яна як пастар была над імі, як усё роўна праводзіла катэхізацыю, сеючы ў дзіцячыя душы першыя зярняткі, каб узышлі яны добрым парасткам, а потым і буйным коласам, каб ведалі, Каму яны ўдзячны сваім з'яўленнем, і ад Каго залежала іх будучае шчасце...

Мудрая была бабуля Васіліха, усіх магла абагрэць, кожнага ахутаць сваёй дабрынёй.

– Ноч была і не сказаць каб і не доўгая, але ж і не кароткая, а такая, якая бывае акурат у Бога. Калі ж прыйшоў дзень, калі прабіліся праз воблакі першыя промнікі сонца, склікаў Ён вучняў адданых Сваіх, але выбраў зь іх толькі дванаццаць... “Я выбіраю вас, бо Бог выбраў вас, і вы будзеце цяпер Апосталамі. І будуць пра вас ведаць праз стагодзьдзі і стагодзьдзі, і будзеце вы несьці людзям усяго свету маю праўду і вучэньне, слова Божае і Яго дабрыню...” І пачаў Ён называць кожнага зь іх, каб пачуў тое Бог, каб ведалі пра тое людзі. Найперш назваў Сымона, каторага і назваў Пятром, як і імя нашага Петруся, і Андрэя, брата яго, Якава і Яна, Піліпа і Баўтрамея...

А потым і Мацьвея, Хаму, Якава Алфеева і Сымона, называнага Зілотам...

“Якія цікавыя імёны, – падумаў Пятрусь, гледзячы на сваіх сяброў – Віцьку Дударэнку, Кольку і Андруся, – мо то пра іх і расказвае баба Васіліха? І адкуль, цікава, яна ведае столькі імёнаў?”

– А потым пачаў – Юду Якубавага, а пасля і другога Юду – Іскарыёта. Гэта ён, дзетачкі мае, пасля і выдаў Ісуса Хрыста, стаў здраднікам і закляйміў сваё імя на ўсе вякі вечныя. Вось і ўсе яны дванаццаць, і ўсе яны ўвайшлі ў гісторыю – у вялікую сьвятую кнігу, якая перадаецца з рук у рукі, з пакаленьня ў пакаленьне...

І, зыйшоўшы зь імі, стаў Ён на роўным мейсцы, і свяцілася круга Яго, як сонца, як месячык, і мноства вучняў Яго і шмат народу з усяе Іудзеі і Ерузаліму, і іншых прыморскіх мясьцінаў і паселішчаў – Тырскіх і Сідонскіх... Шмат і шмат народу папрыходзіла туды, і не зьлічыць усіх. Кожны хацеў ня толькі паслухаць Яго, а і пазбавіцца хваробаў і немачаў сваіх, як і тыя, хто цярпеў пакуты ад нячыстых духаў, якія невядома і як авалодалі чалавечымі душамі. Мусіць жа, усё ад таго, што не было ў іх сэрцах Госпада і Яго вучэньня. Калі ж толькі яны прасілі Яго пазбавіць іх хвароб – і яны пазбаўляліся, рабіліся здаровымі... І тады, дзетачкі мае ўлюблёныя, людзі зразумелі, што Ён валодае вялікай сілай, цудадзейнымі здольнасьцямі, і кожны імкнуўся хаця б дакрануцца да яго адзеньня, – і не памыляліся: ад Яго сыходзіла Боская сіла і моц, і тут жа перасялялася ў тых, хто верыў, што сапраўды вылечыцца...

Тады Ён, бачачы, што народ паверыў у Яго, падняўшы рукі да неба, а вочы скіраваў на вучняў Сваіх, прамовіў:

– Шчасьлівыя ўбогія духам, бо вашае ёсьць Царства Божае. Шчасьлівыя, бо галодныя цяпер, бо насыціцеся. Шчасьлівыя, хто плача цяпер, бо засьмяецеся... Шчасьлівыя вы, калі зьненавідзяць вас людзі і калі прагоняць вас і будуць зьневажаць, і выкінуць імя вашае, як зло, за Сына Чалавечага. Таму радуйцеся ў той дзень і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода і падзяка на нябёсах. Таму што так абыходзіліся з прарокамі айцы іх... Пра багатых жа ўсё наадварот. Гора вам, багатыры! Бо вы пасмакавалі ўжо і атрымалі сваю радасьць!

Да ўсіх, дзетачкі мае любыя, зьвяртаўся Ён, кожнага бачачы наскрозь, адчуваючы кожнага, як травінку, як вецер, як промнік сонца... Усё Яму было падуладна, усё слухалася і падпарадкоўвалася Яму.

– Але гора вам, хто перасыціўся цяпер, бо будзеце наперадзе адчуваць і цярпець голад. Гора вам, хто сьмяецца цяпер, – бо заўтра вы заплачаце і зарыдаеце. Гора вам, калі ўсе людзі будуць гаварыць пра вас толькі добра. Зразумейце – гэтак жа рабілі з фальшывымі прарокамі бацькі іх. Але вам усім, хто слухае Мяне, скажу: “ Любіце ворагаў вашых, чыніце дабро нават тым, хто ненавідзіць вас, абражае вас, жадае зла вам...”

“Во адкуль у бабы Васіліхі яе дабрыня, во адкуль у яе тое, што яна нам казала, калі мы выходзілі ад Курта, – думаў пра сябе Пятрок, – яна ўсім робіць дабро... Нават Драніку, які загнаў яе родзічку ў Нямеччыну... Дзіўная бабуля, таму і незразумелая, нялёгка зразумець яе... Для чаго яна нам усё гэта расказвае, няўжо не ведае, што мы ўсяго не разумеем? А мо і разумеем, ды не можам паўтарыць усяго, пераказаць? Слоў такіх яшчэ не ўмеем гаварыць... Але ж, мусіць, галоўнае пакуль не пераказваць, а разумець. Дык чаму ж тады, чуючы бабулю-шаптуху, прыходзіць незразумелае супакаенне і лагода? Можа, то яна і лечыць так нас, пераказваючы сваю святую кнігу, праз малітву і словы дорыць нам здароўе і розум? Можа, яна засцерагае нас ад будучых няшчасцяў і нашых ворагаў?..”

Баба Васіліха перавяла дух, як быццам стамілася, расказваючы, пераказваючы Святое Пісанне, якое чытала кожны дзень, якое на памяць ведала, – выдатная памяць была ў забалацянскай бабкі-павітухі і чараўніцы! Потым набрала ў грудзі паветра, зноў прабегла позіркам па тварах і вачах маленькіх слухачоў, пераканалася, ці слухаюць хоць, ці цікава ім, і ўбачыла тое, што хацела ўбачыць, працягвала:

– Дык от што далей надарылася, пташачкі мае...

Далей Ён казаў так: “Дабраслаўляйце тых, хто праклінае вас і маліцеся за тых, хто крыўдзіць і робіць балюча вам. Той, хто ўдарыць цябе па адной шчацэ, то падстаў яму другую. А таму, хто здыме з вас апошнюю кашулю ці верхняе адзеньне, не замінайце яму браць і ўсё астатняе...”

“Не, вось тут ужо я з бабай Васіліхай не згодзен, – нахмурыўся Петрык, пачуўшы такое, – як гэта, крывароты Паўлік будзе мяне біць, юшку спускаць, а я маўчаць буду, павінен падставіць яму яшчэ і другую шчаку? А дудкі... Баба Васіліха, адумайся, ці пра Святую Кнігу ты гаворыш нам?..”

– Я бачу, як ты, Петрык, перакрывіўся, пачуўшы такое, і ты падумаў, што зусім ужо здурэла баба. Ці не так? Так, так... Я вам расказваю сёння, каб вы тое зразумелі заўтра. І паверылі ў тое. Прыйдзе час, калі вы паверыце ў тое. Дык ось што было далей... Ён казаў яшчэ: “Усякаму, хто просіць цябе, давай, і ад таго, хто ўзяў у цябе, не адбірай і не патрабуй назад...”

“Маці ж так і зрабіла, калі бежанцы са Смаленска прыйшлі да нас – папрасілі, і яна прытуліла іх, хаця і самім цесна жыць... Значыць, маці шануе Бога, і робіць усё так, як Ён хоча?”

– І калі хочаце, каб з вамі людзі былі добрымі, то і з імі будзьце добрымі! І калі ўжо любіце тых, хто любіць вас, – якая тады вам за тое ўдзячнасьць? Бо і грэшнікі любячых іх любяць. І калі ж вы дабро робіце тым, што робяць вам дабро, якая вам за тое ўдзячнасьць? Бо і грэшнікі тое ж робяць...

Шмат чаго яшчэ Ён казаў людзям. І кожны слухаў, не прапускаючы ніводнага слова, – і таму рабіўся мудрэйшым і добрым, спагадлівым і шчырым, не здольны ўжо на падман. Бо казаў Ён, што добры чалавек з добрага скарбу сэрца свайго выносіць добрае, а благі чалавек з благога скарбу сэрца свайго выносіць благое. Бо ад перапоўненага сэрца гавораць вусны яго...

Заціхла Васіліха, глыбока ўздыхнула, галаву схіліла. Нешта балела ёй, а што, ніхто з дзяцей не ведаў, ды і не адчувалі яны яе болю. Дзіцячыя душы яшчэ не навучыліся ўспрымаць чужы боль. Ды і не хацела яна, каб дзеці пра тое ведалі – ім наперадзе яшчэ гэтага ліха-дабра хопіць і хопіць...

– Баба Васіліха, а як нам адносіцца да ворагаў нашых? Яны ж сеюць, як казала маці, смерць і голад.

Віцька Дударэнка спытаў пра балючае, што хвалявала кожнага. Ведаў, што Васіліха адкажа, растлумачыць.

Жанчына памаўчала трошкі, як усё роўна абдумвала адказ, прамовіла:

– Некалі, Віцька, ворагі нашы будуць шкадаваць пра тое, што ўчынілі. Каяцца будуць перад жывымі і мёртвымі. І доўга не змогуць дараваць людзі ім іхняга граху. Такое будзе... Пры вас будзе.

– Ці ж праўда тое, бабуля?

– Чыстая праўда. Я ж казала, што тыя, хто хацеў пазбавіцца ад сваёй немачы, пазбаўляліся, нават і тыя пазбаўляліся, хто цярпеў пакуты ад нячыстых духаў. І быццам бы свой, а вар’ят, нячысты духам, і вораг таксама вар’ят – усяліўся д’ябал у душу. І гэны, наш, і той, вораг, не захацелі пазбавіцца ад д’яблавага ўздзеяння на сваю душу, бо не ведалі нават пра тое,

уявіўшы, што яны і толькі яны валадары зямлі і народаў... Аж наадварот усё выйдзе. І таму праклянуць іх людзі ўсёй зямлі, хаця атожылкі ад іх яшчэ доўга будуць існаваць і перашкаджаць шчасліваму жыццю і тым, хто набліжаны да Вышняга... І пра гэтае вы зразумееце пасля, як дарослымі станеце, як палавіну сваёй планеты пераступіце. Каму дадзены розум, той разумным будзе – іншых мудрасці навучыць...

Маўчаць дзеці, нават перасталі грызці коржыкі і сухары, – і разумеюць бабу Васіліху і не разумеюць. Прыцягвала яна да сябе нейкай добрай таямніча-чароўнай сілай, і святлеў іх розум, святлелі чыстыя і цнатлівыя душы, і рабіліся яны дзівоснымі птушкамі-анёламі, у якіх толькі-толькі пачыналі праклёўвацца крылы, якія праглі тугога паветра, нябеснай вышыні, каб дапяць туды, адкуль і сыходзіла ўсялякая сіла на род людскі. Верылі, што даляцяць.

Верылі, што не падмане іх баба Васіліха. Верылі, што і яна валодае той цудадзейнай сілай, якая робіць немагчымае і дзівоснае. Бо вунь жа як атрымалася – схадзіла адзін раз да Курта, падзялілася з ім сваёй сілай і здароўем, перадала яму яму сваю моц, – і палепшала яму адразу...

Васіліха, Васіліха! І чым потым табе аддзячаць дзеці, калі праз шмат гадоў ты прыйдзеш да іх у сны разам з Куртам – і ворагам, і сябрам, са шчырай непасрэднай усмешкай, з добрым і чуйным сэрцам, якое не магло пагадзіцца на зло, якое выпраменьвала толькі дабрыню?..

Шаптуха-павітуха не мела адукацыі, была амаль непісьменнай, чытаць навучылася па Бібліі, – але валодала яна неацэнным дарам – дарам прадказальніцы і дабрадайнасці, мудрасці і ўсёдаравання. Людзі цягнуліся да яе, любілі і паважалі  яе.

Цягнула і прыцягвала Петруся Сіліча хата бабы Васіліхі. Як і сябрука яго – Віцьку Дударэнку. Тут, у хаце Васіліхі, набіраліся мудрасці і сілы, вучыліся. Хаця і слаба яшчэ асэнсоўвалі сваё прызначэнне на зямлі, але цвёрда ступалі на свае  будучыя сцежкі і заблытаныя дарогі, верачы, што яны абавязкова выведуць на жыццёвы бальшак...

– Ну, што, дзеткі, патаміліся, слухаючы дурную бабу, так? – свяціўся сонейкам твар бабулі, і яна выглядала перад дзецьмі як святая, як іх абаронца  ад злыбяды.

– Дзякуй табе, за гасцінцы, за тое, што расказвала нам так цікава, – здагадаўся Віцька ад імя ўсіх падзякаваць бабулі. – Мы будзем помніць твае ўрокі ўсё жыццё...

– Дай Божа, каб так і было!

Васіліха сядзела нейкі час маўкліва, а потым, глянуўшы на Петруся, праказала:

– Ну, што, сёння да твайго немчыка сходзім?

11

А жанчына кашляла ўсё часцей і часцей... І ніякай сілы ўжо не знаходзілася спыніць той кашаль. Не памагла і баба Васіліха, хаця яна наперад ведала, што нічым ужо не пасобіць беднай жанчыне... Было зразумела, што жанчына хворая на сухоты. Употай ад людзей Верцы і Петрыку казала-наказвала маці:

– Вы ўжо, дзеткі, старайцеся як падалей быць ад той жанчыны. Барані Божа, каб не пілі з яе кубка, каб не елі з яе міскі – каб на вас хвароба не перакінулася. Чуеце хоць, што я загадала вам?

– Добра, мама, добра! Будзем асцерагацца! – адказаў Пятрусь, не разумеючы, як гэта хвароба можа перакінуцца ад жанчыны, як і не разумела тое Верка.

Ды і таварышкі хворай самі аберагалі дзяцей.

Ды не ўбераглася Верка. Пра тое і сама не здагадвалася. І бацькі напачатку не здагадваліся... Ды і адкуль было здагадацца, калі ўсе амаль кашлялі – то прастудзяцца на холадзе, то ногі прамочаць у халяпу, – як малыя, так і дарослыя... Хвароба ў Веркі толькі-толькі нараджалася...

А голад даймаў усё часцей і часцей.

Курт знікаў па сваіх справах – будавалі масты і дарогі – то выклікалі ў далёкі штаб, то кідалі іх на рыццё канаў. Не раз яго бачылі на тых работах забалацянцы. Яшчэ два ці тры разы наведвалася да яго бабуля. Гэтак жа шаптала, сціскаючы галаву, малітвы чытаючы. І потым жа сама сказала яму:

– Цяпер, пан афіцэр, усё. Больш не будзе ў вас балець галава. Ніколі. Выйшла з вас хвароба.

Вельмі дзякаваў Венцэль за лячэнне. І не толькі дзякаваў, а цэлую сумку прынёс бабе прысмакаў – і хлеба, і сала, і кансерваў...

Склікала бабуля да сябе дзяцей – для іх стол накрыла, з радасцю і скрухай глядзела, як малыя елі... Усміхалася, падпершы бараду рукамі. Калі ж Венцэль прыязджаў стомлены і нявыспаны, то ўсё роўна заглядваў да Петруся, каб сустрэцца-пабачыцца, каб прынесці яму ў алюмініевай місцы яду...

Цярпеў-цярпеў бацька да апошняга, а потым не вытрымаў, раней часу выкапаў з зямлі скрыню, адгроб паўмеха жыта. Звазіў да мельніка Чумака, а назад ноччу вярнуўся з мукою. Хлеба напяклі, цудадзейным духам набрыняла хата. Ды мо то зусім і не хлеб быў, а праснак, бо напалову з бульбай, напалову сланечнік, з жалудамі, перамолатымі на жорнах... З таго ж сланечніка, выціскаючы алей, макуху рабілі... Выкручваліся, як маглі, усё рабілі для таго, каб не памерці з голаду...

Праходзілі праз Забалацце розныя войскі – і італьянцы, і мадзяры... Людзі баяліся не так немцаў, як мадзяраў. Тыя не разбіралі, дзе хто, у любы хлеў

маглі зайсці, забіць жывёлу, курэй пастраляць... Выглядалі яны няйначай як рабаўнікі, на якіх няма ніякай управы. Забалацянцы вельмі баяліся іх, не спрачаліся з імі, і думалі, што спакойнае жыццё, якое было пры адных немцах, скончылася...

...Калі рабілася млосна, калі наступала слабасць ад голаду, Пятрусь лез на гарышча. Там, ля цёплага коміна і лежака, ён падсцілаў старую кажушыну і любіў ляжаць на ёй, прытуліўшыся спіной да цэглы.

Хлопчык зажмурваў вочы, уяўляў, што знаходзіцца сярод квітнеючага луга, а твар грэюць гарачыя промні сонца. Тады яму рабілася цяплей. Тады адтавала душа, і не так хацелася есці, не так кружылася галава.

Ужо колькі дзён ён не завітваў да бабулі Васіліхі – не хацеў паказвацца з такім кіслым выглядам. Тады яна пачне шкадаваць яго, а ён вельмі не любіў, калі яго шкадавалі, адносіліся да яго, як да малечы... Ён ужо не малы, ён амаль дарослы чалавек.

Адольваў голад – бурчэла і пякло ў жываце пастаянна. Ужо колькі разоў разам з Віцькам успорвалі снег пад грушамі – шукалі змерзлыя дзічкі. Адкапалі некалькі, са смакам жавалі іх, глыталі, але ўсё роўна голад не знікаў... То ж будзе добра вясной, калі спадзе вада пасля разліву! Яны з Віцькам возьмуць вялікі кош і пойдуць таптацца па канавах. Тады яны наловяць поўную торбу ліноў і карасёў, плотак і нават шчупакоў. Тады ён, як і летась, абавязкова пачастуе свайго сябра Курта. Ён з вясёлым выглядам будзе сёрбаць юшку, глядзець радасна на Петруся і ўсклікаць удзячна: “О, гут, смачна, вельмі смачна!..”

Ад думак у жываце забурчэла яшчэ больш, разанула лёгкім болем. Але ён стараўся не думаць пра яду. Той хлеб, што выдзеліла маці на дзень, ужо быў амаль увесь з’едзены, заставаўся маленькі акрайчык, на адзін зуб, – і сінічка не наелася б... І то ён думаў аддаць той акрайчык Верцы, бо яна захварэла – пачала часта кашляць, акурат, як тая жанчына-бежанка... Мо то і не прастуда зусім, а тая хвароба, што была ў прышлай кабеты?

Яе, бежанкі, не стала ўжо – пахавалі, а вось хвароба засталася жыць, і перасялілася ў Верку.

Жанчына перад смерцю счарнела ўся, не пазнаць было. Бацька памагаў хаваць – труну зрабіў, адвёз на могілкі. Маці малітву прачытала памінальную. Пятрусь і сам не заўважыў, як яны разам з Куртам пайшлі па заснежаным нерушы, як гаварылі пра вясёлыя клопаты. І на душы ў хлапчука адразу ж зрабілася спакойна і суладна. Яму заўсёды было хораша і спакойна побач з Куртам, во акурат як цяпер.

Яны спачатку ішлі як быццам бы па полі – ці то на лыжах, ці то на каньках, – а пасля ўжо пайшлі басанож па лузе. А скрозь лятали чмялі і пчо-

лы. Пятрусь любіў пчол, хоць яны і кусалі колькі разоў яго. Перад вайной бацька трымаў некалькі вуллякоў, і таму прывучыў сына да гэтай цікавай працы. А ў вайну Пятрусь меў справу з дзікімі пчоламі. Гэтаму яго навучыў Мікола, брат. Яны, пчолы, маглі сяліцца ў дуплах дрэваў, а то маглі асесці пчаліным вулеем у зямлі, як чмялі. І тады Пятрусь разам з Віцькам выдзіралі іх з дуплаў, а дадому прыносілі каштоўны дарунак – і тады ўжо ўдосталь можна было напіцца гарбаты, усалоджваючы душу бурштыновым нектарам... Тады і Курта частаваў Пятрусь. Сябар піў гарбату, смяяўся чамусьці радасна, нешта вясёлае лапатаў...

Потым Петрусю захацелася плаваць – і ён кінуўся першым у плыткую Беразіну, пачаў махаць рукамі. Яго не пускаў туды Курт, але хлапчук вырваўся з яго рук, не разумеў, чаму не дазваляў сябар яму купацца... Рэчка была чамусьці брудная, шэрая і – халодная... Мах-мах рукамі – і праплыў трохі, яшчэ некалькі ўзмахаў – яшчэ далей адплыў ад берага...

Але Курт неяк жа злаўчыўся і ўхапіў яго за руку – сілком выцягнуў з вады, сварыцца нават пачаў, чаго палез туды – захварэць можна. Хлопчык пачаў вырывацца, каб зноў кінуцца ў неспакойныя хвалі, але Венцэль так моцна сціснуў яго руку, што адразу ад яго адскочыў сон...

Расплюшчыў вочы і здзівіўся, чаму гэта перад ім не Венцэль, а брат Валодзька – устрывожана мацаў яго лоб, пытаўся, чаму залез на гарышча...

– Купаўся, а Курт забараняў мне тое рабіць...

Ён не ведаў, што хоча ад яго брат, чаму перабіў такі слаўны сон. І есці ўжо зусім не хочацца, толькі галава не перастае кружыцца, а хочацца спаць, спаць і спаць... Брат узяў яго на рукі, некуды панёс. Да рэчкі? Насуперак Курту? Навошта?... Здаецца, спускаліся па драбіне. Перадаў яго ці то маці, ці Машы, сваёй будучай ці цяперашняй жонцы... У іх нешта было накшталт вяселля, на якім быў Несцер, быў нават Курт – выпіў чарачку, куфэрачак ім падарыў з нейкімі ўпрыгожваннямі...

А мо то і Курт узяў яго на рукі, нельга разабраць, вочы не расплюшчваліся.

– Ой, дык ты ж гарыш увесь! – пачуўся голас, здаецца , матулін.

Яна моцна прытуліла яго да грудзей, некуды панесла... Паклала на цвёрды палок, дала нешта папіць з глінянага кубка. Пітво было горкім і брыдкім...

Потым як скрозь сон памятаў, што прыходзіў да яго Курт. Ён перад ім быў як у нейкім тумане. Даў нейкія жоўтыя таблеткі, і потым Пятрусь зноў праваліўся ў глыбокі сон. І той сон, які перарваўся, зноў прыйшоў да яго. Яны з Куртам зноў былі разам, разам хадзілі па Петрусёвых сцежках, выкалупвалі з дуплаў пчаліныя соты...

Калі ж прачнуўся, над ім сядзела баба Васіліха. Яна клала на лоб далонь, нешта шаптала, прымружыўшы вочы. Палёгку ён адчуў не адразу, а калі

адчуў яе, то пачала кружыцца галава, і яго некуды зноў панесла, бы на крылах – ці то па вірлівай рацэ, ці то ў паветры, не разабраць... Усё сплывала некуды, а перад ім стаяў суцэльны туман...

Праз колькі дзён Венцэль прыйшоў да яго разам з доктарам – чалавекам у гадах, у акулярах, нават і на немца непадобнага, а на іх родзіча – Несцера, старасту. І гаварыў ён нешта спакойнае і ціхае, але ўкол даў у азадак балючы і пякучы – як і год назад, – ад чаго хлопчык неўзлюбіў яго адразу, адвярнуўся нават ад яго. Бо ўколы ён разумеў па-свойму, ён іх баяўся як агню – то ж яго ледзьве не здалі ў Нямеччыну для тых уколаў. І ён заплакаў, спужаўшыся, што не пазбегнуў іх...

Не спадабалася, як усміхаўся Курт, калі ён, Пятрусь, скрывіўся ад болю: як быццам радаваўся, што яму балюча. Але на Курта ён не ў крыўдзе. Крыўдаваў ён на самога сябе. То ж трэба – з Віцькам на канаву паперліся, думалі, што мо дзе ў прарубленай пельцы ўюноў кошам наловяць. Уюноў не налавілі, а Пятрусь ускочыў у пельку па самы пояс. Ледзьве выцягнуў яго сябрук. А час быў перадвечаровы, з марозікам.

Пакуль дабраліся дадому, то за дарогу і прыхапіла – жар падкінуўся да яго...

Больш за тыдзень пралежаў Пятрусь на сваім палку.

Больш за тыдзень неадступна не адыходзіў ад яго Курт Венцэль – нават нікуды не выязджаў з вёскі, адзін і заставаўся дома.

– Ну, што, нябожко, выжыў, выкарабкаўся? – клала Васіліха даланю на лоб. – Вярнуўся з таго свету? А мы ўжо думалі, што не вырвем цябе... Перажываў вельмі за цябе твой Курт, як за роднага хваляваўся. Ёсць, значыць, Бог на свеце, што ты такога заступніка займеў сабе, як анёла-ахоўніка ўсё роўна...

Венцэль сядзеў побач, ківаў радасна галавой, як пацвярджаў словы шаптухі, паддакваў:

– Я, я, Петрусь, очень был больной... Сейчас хорошо, всё будет абгемахт!..

А іх ужо выселілі і з другой палавіны, і ў іхняй хаце пасялілі новую каманду немцаў – і мадзяраў, і італьянцаў. Сілічы перасяліліся ў падвал, што знаходзіўся асобна ад дома, за хлявом. Дзверы ад падвала выходзілі ў двор. Як у зямлянцы ўсё роўна знаходзіліся, спалі на самаробных ложках – палках. Адзінае, што дазвалялі немцы, дык гэта распараджацца печчу – рыхтаваць яду для сябе і для жыўнасці, якую яшчэ не да канца пазнішчалі прышлыя чужыя людзі...

Наведваўся – і не раз – да яго Віцька Дударэнка, Вася Бандарчук, усе яго сябры-аднагодкі, з якімі хаўрусаваў. І яму весялей было, але шчымела душа, што не мог выйсці на вуліцу – не трымалі ногі, слабасць вялікая была ў целе...

А ўжо і сорак другі год адышоў у небыццё, і сорак трэці завяршаў свой ход... Так і Петрусю – на пачатку вайны было пяць гадоў, а то ўжо сямігадовым хлопцам стаў, разумеў усё, што і да чаго, што дзеелася на свеце...

Выбавіўся з хваробы Пятрусь Сіліч. Павесялеў, акрыяў, набіраўся моцы. Ужо не так кружылася галава, мацней трымалі ногі. Ужо і сам схадзіў колькі разоў да бабы Васіліхі – прасіла сама, каб праведаў яе. Не столькі праведаць, як хацела-жадала да канца вылечыць яго хваробу.

Пасадзіўшы яго перад сабою, чытала малітвы, шаптала свае, толькі ёй і вядомыя, замовы. І абавязкова ўсё рабіла пры запаленай свечцы. Паіла халоднай салодка-горкай вадой, невядома на якіх зёлках настоенай.

І потым хуценька дадому выпраўляла:

– Ідзі паляжы, Петрык, на сваім палку. Табе ляжаць цяпер трэба.

А ў двары нейкая ўзбуджанасць узнікла сярод немцаў. Яны бегалі перад вокнамі, радаваліся нечаму, як не танцавалі. Пілі шнапс, пэўна, бо былі п’яныя.

– Капут Москаў! Масква – капут! – падняў над галавой Гюнтэр вялікую лучыніну-факел, крочыў-маршыраваў, як на парадзе.

Ужо змяркацца пачало, і ў вечаровай шэрані добра выдзяляліся чырвоныя факелы.

– Москаў фойер! Москва в огне! – крычалі яны ў радасным парыве, паказваючы-дэманструючы сваю радасць.

Чамусьці радасна стала ад тае навіны і Петрусю. Ён не ведаў, што такое Масква, і чаго яна гарыць, і хто яе падпаліў. У цемры так і не вызначыў – быў сярод іх Курт ці не.

Колькі ні ўглядаўся, Венцэля не ўгледзеў. Хлапчук стаяў воддалеч ад п’янай кампаніі і маўкліва назіраў за ўзбуджанымі немцамі.

Нехта пацягнуў яго за рукаў.

– Ідзі, сынок, на свой палок, – лагодна загадала маці, – радасці мала глядзець за п’янымі і слухаць іх п’яную балбатню...

Ён паслухаўся маці, адразу ж пайшоў следам за ёю.

...Дасылаў калі-нікалі весткі з партызанскага атрада Мікола Сіліч. Яго атрад знаходзіўся на Клічаўшчыне. У кароткіх запісках перадаваў бацьку, што Масква выстаяла, што на подступах да яе разбілі немцаў; абяцаў, што ў хуткім часе пагоняць немчуру назад, адкуль яны і прыйшлі...

І сапраўды, праз колькі дзён пасля той сваёй радасці, яны сталі нейкія прыгнечаныя, хмурыя. Адзін Курт Венцэль быў аднолькава і вясёлы, і заклапочаны. Па-ранейшаму прыходзіў да свайго малодшага сябра з алюмініевымі міскамі, бавіў з ім час...

Гітлераўцы, атрымаўшы магутны адпор пад Масквой, пачалі адступаць. Тое пачаў ужо разумець і Пятрусь Сіліч. З хлопцамі не раз “абмяркоўвалі становішча на фронце”.

Старэйшы, крывароты Зміцер, які заўсёды любіў з некага паздзекавацца, сказаў з’едліва Сілічу:

– Хутка паб’юць усіх фашыстаў. І Курта твайго заб’юць – ён жа таксама фашыст, гітлеравец!

– Не заб’юць. Курт добры, ён не вораг, – нахмурыўся Пятро Сіліч, спадылба паглядзеў на нядобразычліўца – што ён мае да Курта і да іх сяброўства? Зайздросна стала, што яны паразумеліся?

– Ён нікога не забіваў, то Дранік людзей гнаў у Нямеччыну, і мяне туды хацеў загнаць, ды Венцэль выручыў...

– Нічога. Усё роўна заб’юць... І цябе па галоўцы не пагладзяць, што з немцам хаўрусаваў, вось пабачыш...

А вось гэтага ўжо Пятрусь вынесці не мог, гэта ж абраза і Курта, і яго. Падскочыў да Змітрака, з усяго размаху гвазданўў кулаком у сківіцу – аж рука забалела. Той хацеў даць здачы, размахнуўся нават, але Сіліч вывернуўся, нанёс новы ўдар – ужо прама ў нос... Змітрок заліўся чырвонай юшкай.Тады яны счапіліся ў бойцы...

Ледзьве разнялі іх хлапчукі, якія назіралі за гэтай сцэнай...

Начавалі ў хаце немцы-франтавікі, што ўжо адступалі на захад – далей ад Масквы, ад паляшуцкіх балот, ад партызанаў – адно стараліся пазбегнуць смерці, застацца ў жывых і вярнуцца ў родны Фатэрлянд.

Пасялілася адна група немцаў у Сілічаў, пажыла і далей паехала. Замест іх новая каманда прыехала, пасяліліся ў хаце. Новыя і новыя, і былі яны не падобныя да тых немцаў, што жылі першымі ў іх. З тымі няхай і не адразу, але ж паразумеліся, знайшлі, так бы мовіць, агульную мову, а гэтыя... Нейкія злыя, раз’юшаныя, раздражнёныя. Хадзілі па вёсцы, як гаспадары. Забівалі жывёлу, курэй, парсюкоў, – усё, што пападала пад руку і на вока. Не стала тады каровы і ў Сілічаў – нават і Венцэль не памог, калі паспрабаваў уступіцца. Нейкі вялікі начальнік – афіцэр – злосна прыкрыкнуў на яго і загадаў не ўмешвацца.

Маці перажывала вельмі – як жа цяпер пракарміцца, без каровы сапраўдны голад наступіць. Курт бачыў, як пакутуюць бацькі яго малога дружбака, чым мог пасабляў... У той палавіне, дзе жылі немцы, была грубка. Ад грубкі да агульнага коміна цягнуўся ляжак.

Паміж лежаком і сценкай прагалак, у які можна прасунуць галаву. Немцы нешта ўзбуджана абмяркоўвалі.

Пятрусь зразумеў, што новыя, тыя, хто толькі што прыбылі, жвава распытвалі ў тых, хто прымаў удзел у баях, а тыя адказвалі неахвотна, найбольш маўчалі... Ведама ж, дасталося, ведама ж, добра пашчыпалі, вунь якія патрапаныя, змэнчаныя твары, і адзенне пашкамутанае...

Сілічу стала цікава, а што на фронце адбываецца, хто каго перамагае. Ну проста цярпення ўжо не было, так цікавасць разабрала хлопца... Ён услухоўваўся ў размову, і можна было падумаць, што ён добра ведаў нямецкую мову. Такім чынам, Пятрусь пачаў здабываць сакрэтную інфармацыю, збіраць, як сапраўдны савецкі разведчык альбо падпольшчык, якога заслалі ў тыл да немцаў...

Каб лепей чуваць і бачыць, ён пастараўся прасунуць галаву паміж комінам і сцяной, павярнуў яе так, каб бачыць нямецкіх ваякаў. Гэтым жа і выдаў сябе – што значыць без спецыяльнай падрыхтоўкі пайсці на заданне ў разведку...

Немцы пілі шнапс, закусвалі кансервамі, пілі каву – пах яды і пітва разносіўся па хаце. Крычалі, спявалі, смяяліся.

І трэба ж – нехта з іх заўважыў за комінам хлапчукову галаву. Ні слова ні кажучы, самы высокі з іх, узяўся за аўтамат. Не цэлячыся, націснуў на курок, скіраваўшы рулю на сцяну, у напрамку галавы “разведчыка”... Стрэл, здавалася, аглушыў хлопца – і адразу выразна засмярдзела парахавым дымам...

Ён здрыгануўся ад нечаканага выбуху, страх скаваў усё цела, імгненна хацеў схаваць галаву назад, але яна, на вялікі жаль, заціснулася ў праёміну так, што нельга было ёю і пашавяліць...

І тады “разведчык” Пятро Сіліч ад бездапаможнасці заплакаў, так і не здабыўшы сакрэтную інфармацыю ад ворага аб сапраўдным становішчы на фронце... Заплакаў ад невыноснага болю, але найбольш – ад страху.

Найперш перапалохаўся Курт Венцэль, за сябра свайго спужаўся. Хацеў яму памагчы выбавіцца з палону, але не здолеў тое зрабіць – галава цесна ўбілася між цаглінаў. Падышоў з другога боку – той жа вынік.

Рагаталі немцы, убачыўшы, што адбылося. А потым, убачыўшы, як устрывожыўся Курт, перасталі смяяцца. Пачуўшы стрэл, прыбег бацька. Убачыўшы, у які нерат папаў сын, адразу знайшоў выхад: узяў зубіла і малаток, выбіў з коміна некалькі цаглінаў – і такім чынам выбавіў галаву з праёміны.

А калі вызваліў, то адразу ж дзягай колькі разоў перацягнуў па азадку няўдалага шпіёна...

– Забіць жа маглі. Табе няма месца дзе пагрэцца?

Маці потым рабіла адвары з зёлак, прыкладвала прымочкі да сінякоў.

Тыя кулі потым доўга заставаліся тырчэць у сцяне.

Як напамінак пра “дыверсійную работу” Пятра Сіліча.

## 12

Вайна ўсё ж дакацілася і да Забалацця.

У небе змагаліся самалёты – хто каго. Падалі, падбітыя, потым чуліся гучныя выбухі – яны падалі на зямлю і ўзрываліся. Але чые то былі самалёты, ніхто не ведаў, бо ўсе людзі хаваліся па падвалах, у хлявах...

Паўз вёску прагрукацелі варожыя танкі. Падаліся некуды ўбок Гомеля. Праз вёску ішлі і ішлі нямецкія войскі. Усё перамяшалася і злілося ў суцэльны пагрозлівы і трывожны гул. Здавалася, што дрыжэла зямля...

То быў ужо чэрвень... То быў ужо сорак чацвёрты год.

Жыта ўжо амаль адкаласілася і паднялася порстка ў рост.

– Сядзіце ў падвале і нікуды не вылазьце! – падаў каманду бацька і сам некуды знік – хаваўся ў сваіх схованках.

А схаваўся ён у тое ж жыта, што расло непадалёк ад хаты. Не вытрымаў Пятрусь і следам за бацькам падаўся, але не па яго слядах, а трошкі збоч, правей, дзе расло некалькі бярозак.

Вакол Забалацця шнырылі немцы з аўтаматамі на грудзях, страчылі ў кожны падазроны куст ці купіну...

Пятрусь прылёг каля канавы, бачыў, як на бацьку насоўваецца нямецкі аўтаматчык – у руках аўтамат, палец на спускавым кручку. Сын хацеў нават крыкнуць бацьку, каб прыгнуўся, схаваўся, каб яго не заўважылі. Але не паспеў крыкнуць – было позна: гітлеравец убачыў яго. Бацька як стаяў на каленях, так і застаўся стаяць, як каменны стаў. Немец жа падышоў да Сіліча – амаль упобачкі стаў, за нейкія два крокі, і ўжо рукой мог дакрануцца да яго.

Сын бачыў, як бацька, безабаронны, стаў перад немцам. І шкадаваў, што не было побач Курта – той адвёў бы бяду, загадаў бы аўтаматчыку адвярнуць рулю аўтамата... У вачах бацькі страх, бездапаможнасць. І – мальба. Ён як быццам стаяў перад іконай і ўпрошваў Вышняга, каб застацца ў жывых. Бацька і сапраўды перахрысціўся – як усё роўна развітваўся з жыццём, бо ведаў, што не дачакаецца літасці ад ворага...

Немец нейкі час раздумваў, вагаўся – страляць ці не. Але, напэўна, той немец не быў фашыстам і быў веруючым. Бо, убачыўшы, што чалавек быў без зброі , укленчыўшы, умольна паглядаў на яго, а мо і ўбачыў, што чалавек наклаў на сябе крыж, а можа проста быў з той дабрачай кагорты, што і Курт Венцэль, – ён рэзка развярнуўся і пайшоў у адваротны бок, не стрэліўшы, нават і аўтамат не наставіўшы на Сяргея Сіліча...

Бацька ўпаў на локці – тварам у зямлю, а потым паваліўся на бок. Мусіць жа нялёгка даліся яму тыя секунды, калі ён знаходзіўся паміж жыццём і смерцю.

У вёсцы чуліся, не аціхалі, стрэлы... Праз нейкі час яны, хаваючыся, прыгінкамі, прыбеглі да свайго падвала. Бацька рашыў усё ж схавацца разам з усімі – з бежанцамі, са сваёй сям'ёй, з суседзямі, што набіліся туды, ратуючыся ад карнікаў. Да кожнай забалацянскай хаты, дзе знаходзіліся нямецкія афіцэры і салдаты, пад'язджалі вялікія машыны, – спехам грузілі на іх свае рэчы – зброю, пажыткі, адзенне.

Стаяла машына і каля хаты Сілічаў. Салдаты выносілі з хаты ўсё, чым карысталіся афіцэры. Курт, здавалася, забыўся пра свайго малодшага друга – быў заняты таксама эвакуацыяй. А мо ён і шукаў яго, Петруся, ды не мог знайсці, ведаючы, што хаваўся разам з бацькамі – вунь як яно ўсё перавярнулася дагары нагамі... Не здагадаўся зазірнуць у падвал.

Недзе ў тым баку, дзе знаходзіўся Бабруйск, і да якога было больш за дзесяць кіламетраў, чуліся выбухі і стрэлы гарматаў. У небе страчылі з кулямётаў нябесныя стралкі...

Амаль усе немцы пагрузіліся на машыны. Толькі чамусьці затрымліваўся ў хаце Курт Венцэль. Сядзей на табурэціку, глядзеў няўцямна ў падлогу, курыў цыгарэту за цыгарэтай. За ім паспяшаліся двое афіцэраў і амаль сілком зацягнулі яго да машыны... Перад тым, як сесці ў машыну, азірнуўся. Усё позіркам шукаў хлопчыка, чакаючы, што ён сам падбяжыць да яго, абдыме, развітаецца, скажа нейкія словы...

І здагадаўся ж "дыверсант" Пятрусь Сіліч здзейсніць новую "аперацыю" супраць немцаў. Тым больш, што ў яго і зброя была – аўтамат, які змайстраваў і падараваў яму Курт Венцэль.

Пятрусь Сіліч, ведаючы, што ўсе немцы пагрузіліся на машыны і яму нічога не пагражае, узабраўся на прыдашак падвала, заняў зручную пазіцыю, якой яго ніхто і ніколі не вучыў, узяў на прыцэл таго афіцэра, якога неўзлюбіў, які сварыўся нават з Куртам, і пачаў па ім страчыць:

– Ту-ту-ту!.. Та-та-та!...

На тую бяду той жа афіцэр заўважыў, як па ім страчыў з аўтамата Пятро Сіліч, успрыняў тое сур'ёзна ці палічыў за абразу, невядома, але, не раздумваючы, скінуўшы з пляча аўтамат, узвёў затвор і скіраваў рулю ў бок хлапчука, прыцэліўся нават...

Амаль адначасова з ім заўважыў "дыверсанта" і Курт Венцэль. І калі Гюнтэр амаль дакрануўся пальцам да спускавога кручка, крыкнуўшы на ўсю моц сваіх лёгкіх "на-аайн!", коршакам кінуўся на яго, падштурхнуўшы рулю ўверх...

І аўтаматная чарга расстраляла... неба. Праз колькі імгненняў Курт пераскочыў высокі плот (потым Пятрусь і сам будзе здзіўляцца, як можна было пераскочыць яго адным махам), падбег да "дыверсанта", ухапіў за каршэнь,

зцягнуў з даху, – і панёс, як шкадлівага ката, у падвал. Ды ад дзікай ярасці не разлічыў, і Пятрусь зачапіўся галавой за вушак дзвярэй, – аж іскры заскакалі ў вачах, і ён адразу  зпрытомнеў... Але гэтага не заўважаў Венцэль, кінуў яго на мяшкі з рыззём. І яшчэ раз хлопец балюча ўдарыўся аб сценку... Чаго-чаго, а такога ён ад Курта не чакаў. Ён жа за яго помсціў таму  Гюнтэру, за свайго лепшага сябра – чаму ж ён так узлаваўся на яго?!

– Шайзэ! Кіндэр – думкопф! Гаўнюк! Дурань!

Абзываў хлапчука markdown рознымі словамі, стараючыся ўтаймаваць сваё хваляванне і злосць. А потым нечакана ўхапіў дзягу, што вісела на цвіку, і на вачах усіх пачаў лупцаваць Алену Сіліч, гнучы пры гэтым нейкія свае мацюкі і абразлівыя словы.

Хацеў уступіцца, не ведаючы сітуацыі, за жонку гаспадар, дык на яго так бліснуў Курт азвярэлымі вачыма, што Сіліч не пасмеў і слова сказаць... Ніводнага разу ён не бачыў такім раз’юшаным нямецкага афіцэра, не ведаў, што было таму прычынай... Потым Курт сеў на тапчан і заплакаў, абняўшы галаву. Потым апамятаўся, прытуліў да сябе хлопчыка, шаптаў нешта няўцямнае, як прасіў даравання за такую жорсткасць да яго...

Бачыла ўсё бежанка – Зоя. Сказала гаспадару – шапнула на вуха. Сяргей Сіліч пахітаў галавой, збялеў тварам. І ў яго часаліся рукі ўзяць дзягу ды правучыць сына за яго безразважлівасць і дурноцтва...

Колькі разоў потым будзе сніцца Пятру Сілічу той эпізод – вочка рулі нямецкага аўтамата і чарга, якая расстраляла неба. А тыя ж кулі прызначаліся для яго... І ён кожны раз будзе прахопліванцца ад страху ў сне, і доўга яшчэ не будзе верыць, што тое яму толькі прыснілася.

Каб зняць хваляванне і калатун у целе, Курт Венцэль зноў закурыў – рабіў глыбокія зацяжкі і не мог утаймаваць у сабе прыкрую горыч пераживання. Кідаў пад ногі цыгарэту, і тут жа прыпальваў новую ад запальнічкі...

Рукі ў яго трэсліся, і ніяк не мог знайсці душэўную раўнавагу. Усе, хто знаходзіўся ў цесным падвале, маўчалі, не маглі нічога зразумець, не здагадваліся, чаго так раз’ятрыўся нямецкі афіцэр.

А немцы абшукаліся яго – клікалі і гукалі. А ён і не адгукаўся – як усё роўна хацеў застацца сярод вясковых людзей. Растварыцца сярод іх, стаць непрыкметным, незаўважным... Потым нехта здагадаўся зазірнуць у падвал і, схапіўшы яго пад рукі, зноў пацягнуў да машыны.

Курт вырываўся, крычаў адно і тое ж:

– Сталін – шайзэ! Гітлер – шайзэ!..

Потым, калі ўсё аціхла, калі перасталі раўці рухавікамі машыны, а ў яго перастала гудзець у галаве, асмеліўся выйсці у двор. Не вытрымаў, пайшоў у тую палавіну хаты, дзе жыў Курт.

Пятрусь заўважыў на сцяне кабуру. У ёй быў наган. І тут жа, каб не ўбачыў тое бацька, хуценька схаваў яго за грубку – пад праломленую падлогу... За "праяўленае геройства" бацька дабавіў сыну па азадку некалькі разоў дзягай, ды нашмат мацней, чым Курт, – сын доўга потым не мог сесці на лаўку.

– Каб надалей разумнейшым быў і не падстаўляў сваю галаву пад нямецкія кулі, – як бы апраўдваўся бацька перад ім, тым самым тушачы сваё хваляванне, як і тушыў перад гэтым Венцэль. А маці сказануў крыўдныя словы, дадаў ужо ціха:

– Прасіў жа – сачы за ім, каб не пабег куды і не ўлез у якую бяду. Гэта ж здагадацца – страчыць па немцах з аўтамата! Мог жа Гюнтэр на той свет адправіць – яму ж не да гульняў і жарцікаў... Каб жа не Курт, то...

Той дзень запомніўся хлопцу на ўсё жыццё... Так бы мовіць, атрымаў баявое хрышчэнне...

На жыццёвым календары было дваццаць дзявятага чэрвеня сорак чацвёртага года...

Тады ж ішла аперацыя "Баграціён", пра што пісаў Мікола ў сваім пісьме да бацькоў. Вызвалялі ўжо ад захопнікаў Бабруйск.

То пазней ужо, калі Пятрусь Сіліч пойдзе ў школу, даведаецца падрабязней пра той час. Ён дачуецца пра бабруйскі "кацёл", пра так званую аперацыю войскаў 1-га Беларускага фронту па разгроме часцей 9-й нямецкай арміі, якую акружылі пад Бабруйскам 27-га чэрвеня 1944-га. Пад наступам савецкіх войскаў варожая група ўка была раздзелена на дзве часткі: на ўсходзе ад ракі Бярэзіны (ліквідавана 28-га чэрвеня, знішчана дзесяць тысячаў, узята ў палон шэсць тысячаў салдатаў і афіцэраў) і гарнізон у самім Бабруйску, які прарваўся ў навакольныя лясы (ліквідаваны 1-га ліпеня, знішчана больш як 10 тысячаў чалавек).

Даведаўся ён і пра Бабруйскі лагер смерці, які быў створаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў акупаваным горадзе летам 1941 года. Пад канец года ў ім было каля 60 тысячаў ваеннапалонных, з іх больш як 20 тысячаў жылі пад адкрытым небам... У школу, калі Сіліч быў у старэйшых класах, прыходзіў былы вязень гэтага лагера, які цудам выжыў у тых нечалавечых умовах. Расказваў, што ад холаду і голаду, антысанітарных умоў у лагеры ўспыхнула эпідэмія сыпнога тыфу. Але мала было фашыстам такіх здзекаў, яны прыдумалі і яшчэ больш жудасныя. Каб заразіць здаровых ваеннапалонных, гітлераўцы падсялілі да іх у барак хворых. І тады за суткі памірала да тысячы чалавек... Цяжкахворых фашысты вывозілі за горад і закопвалі ў зямлю разам з мёртвымі... Прадстаўнік вярхоўнага камандавання герман-

скай арміі палкоўнік Штурм аддаў загад начальніку лагера Рэдэру і яго намесніку Лангуту падпаліць баракі. Калі ж людзі выбягалі, ратуючыся ад агню, з тых баракаў, іх палівалі свінцовым агнём з кулямётаў... Забілі ўсіх савецкіх ваеннапалонных…

У лагеры заставалася яшчэ пяць тысячаў цывільных вязняў, якіх ужо вызваліла Чырвоная Армія...

...Непадалёк ад вёскі прызямліўся падбіты савецкі самалёт. Амаль непашкоджаны апусціўся на луг – кіламетры з два ад Забалацця.

Не вытрымалі, перамагла смага цікаўнасці, рушылі туды старэйшыя хлопцы – Вася Бандарчук, Алёша Бандарчук, а Пятрусь з Віцем Дударэнкам прыбеглі апошнія...

Экіпаж самалёта быў з пяці чалавек. Усе лётчыкі былі мёртвыя. Яны забілі самі сябе. Адным наганам. Хлопцы знайшлі яго на зямлі. Яны, лётчыкі, нават не ўступілі ў бой з фашыстамі, хаця боепрыпасаў у іх было яшчэ некалькі камплектаў. І кулямёты былі спраўныя, цэлыя... Што штурхнула іх на самагубства? Чым кіраваліся? Даў такую каманду камандзір? Ці самі – калектыўна – прынялі такое рашэнне?Ніхто пра тое не ведаў і не даведаецца ўжо, бо яны не пакінулі пасля сябе ніякіх сведчанняў і дакументаў, ніводнага перадсмяротнага слова. А ўсе, хто бачыў, як сеў самалёт, бачылі і другое – ніхто з немцаў да іх не набліжаўся. Ім ужо было не да таго, уцякалі ад савецкіх войскаў, ратавалі свае душы. Таму боя з лётчыкамі не было... Значыць, змаладушнічалі? Спужаліся? Не ведалі абстаноўкі?... Загадка. А маглі б і жыць, калі дачакаліся б першых людзей, хто прыйшоў бы да іх... Няўжо хлапчукоў не адрознілі б ад немцаў?

Пасля таго, як уцяклі немцы, праз паўгадзіны ў Забалацце прыехалі рускія войскі – так іх называлі вяскоўцы. Пятрусь не ведаў, хто такія рускія, і таму недаверліва сустрэў салдатаў у выцвілых гімнасцёрках, у кірзавых ботах. Ён баяўся іх, думаў чамусьці, што і яны будуць забіраць яго, каб выцягнуць з яго кроў... На дзіва, недаверліва аднесліся да прыходу салдатаў і дарослыя – усе думалі, што то нейкая правакацыя: толькі-толькі былі ў вёсцы немцы, а тут з’явіліся свае... І калі пачуліся ўжо расейскія словы “папаша”, “мамаша”, “как водички испить” – людзі выйшлі, хаця і недаверліва, на вуліцу.

Петруся падхапіў на рукі нейкі салдат, даў яму амерыканскую галеціну. Адразу есці не асмельваўся, а потым пачаў жаваць. Не зразумеў – смачная яна ці не. Вызначыў так – аніякая.

Гэтак жа аднёсся і да вызвалення сваёй вёскі ад фашысцкіх акупантаў – аніяк. Не ўсведамляючы, што гэта такое – вызваленне...

Завяршыўся "Бабруйскі кацёл"... Немцы, што знаходзіліся на гэтай тэрыторыі, трапілі ў акружэнне. Ноччу прысніўся Петрусю нейкі дурны сон пра Курта. Быццам ён, Венцэль, абмотвае сябе нейкімі вяроўкамі, і ногі ў яго стрыножаныя, што ісці не можа, просіць у Петруся, каб пазбавіў яго тых вяровак... Прачнуўся, не мог зразумець, да чаго такі сон.

Усхліпваючы, хаваючыся ад усіх, хлапчук пытаўся ў нябёсаў: "Ты дзе цяпер, мой сябар Курт? Я не ведаў, што мне будзе так цяжка без цябе... Я так хачу пабачыцца з табой, мой добры Курт!.."

Ішла, павольна рухалася доўгая-доўгая калона ваеннапалонных немцаў, падымаючы пасля сябе пылоту...

Немцаў вялі некуды ў бок Бабруйска, у накірунку Доўскай шашы, туды, дзе праходзіў тракт Брэст – Масква. Ад Забалацця да яго было з кіламетраў сем, не болей. Канваіраў было няшмат, адзін ад аднаго ішлі мо за сотню крокаў. Ведалі ж, пэўна, што ніхто не ўцячэ. Ды і ніхто не ўцякаў з палонных – мусіць жа, і ўцячы было немагчыма, а мо яны і не стараліся тое зрабіць, бо палон для іх азначаў сканчэнне вайны, а, значыць, была мажлівасць выжыць, не папасці зноў у жорны гэтай бязглуздай вайны...

Пятрусь Сіліч безуважна глядзеў на даўгую калону чужых яму людзей, выбіраў з іх "добрых" і "кепскіх" немцаў. Раўняў добрых на свайго Курта – тварам, поглядам, усмешкай. Шмат было падобных на Венцэля – маладыя, вясёлыя, яны як быццам радаваліся, што для іх ужо скончылася вайна, што не трымаюць у руках зброю, ніхто яе не настаўляе на іх...

На яго, Петруся, ніхто не звяртаў увагі – стаіць сабе збоч дарогі хлапец, ну і няхай стаіць, паглядае на іх, палонных фрыцаў... І ніхто яго не адганяў – вунь салдат у гімнасцёрцы няспешна ішоў, трохлінейка на плячы, амаль і не сачыў за калонай. Палонныя цягнулі стомлена ногі па зямлі, падымаючы пылоту – як чарада вясковых кароў ішла, калі пастух гнаў на пашу. Яны ішлі маўкліва, апусціўшы галовы, унурыўшыся ў сябе...

"Цікава, а дзе мой сябар цяпер? – падумалася раптоўна, калі паглядзеў на яго суайчыннікаў. – Ці паспеў хоць уцячы? Але чаму ж ён так не хацеў уцякаць разам з іншымі, чаму яго сілком цягнулі з хаты да машыны?.."

Сіліч яшчэ падумаў, што трэба было б абавязкова перахаваць яго наган. Калі ж угледзіць бацька, то яму не дастанецца. І кіцель трэба недзе схаваць – для яго, Петруся, пакінуў? На памяць? У кіцелі быў запячатаны канверт. Пісьмо для яго? Таксама трэба схаваць, бо бацька ўсё павыкідае – ён заўсёды быў чалавекам асцярожлівым, абачлівым. Значыць, былі на тое прычыны, значыць, Пятрусь шмат чаго яшчэ не ведаў у жыцці. Таму і не крыўдаваў асабліва на бацьку – ведама ж, зла свайму сыну ён не жадаў...

А калона рухалася і рухалася, як ціхая рака плыла між высокіх берагоў. Адзін з палонных, што ішоў збоку, маўкліва схіліў галаву, другі, побач з ім, накульгваў, апіраючыся на плячо свайго сябрука... Паперадзе іх, невысокага росту, крочыў бадзёра і цвёрда салдат, махаў рукамі ў такт хадзьбы, усміхаўся... Нават Пятрусь з вышыні свайго гледжання адзначыў, што гэтыя немцы ўжо не былі падобны на тых салдат, якія вялі вайну, якія вольна расхаджвалі па іх вёсцы, і не былі падобны на тых апошніх, самых злосных, якія дэманстравалі сваю жорсткасць і агіднасць. Гэта былі простыя і звычайныя людзі, якія выкінулі са свайго сэрца злосць і жорсткасць, агрэсію і ваяўнічасць, яны цяпер былі аддадзены на волю лёсу, маючы ў душы толькі адно спадзяванне – выжыць, застацца жывым і вярнуцца, калі дасць Бог дазвол, на радзіму да сваіх родных...

– Петрусь! – нехта выгукнуў з калоны яго імя, з тым жа націскам на “е”, і тое мог зрабіць толькі адзін чалавек ва ўсім свеце. І ёкнула сэрца ад трывожна-салодкага прадчування – няўжо?! Няўжо гэта ён, Курт Венцэль? Пачаў пільна ўглядацца ў запыленыя твары гэтых запыленых людзей.

– Петрусь!

І ён убачыў яго! Убачыў і адразу пазнаў свайго сябра! Курт, распіхваючы палонных, імкнуўся выбрацца з шырокага патоку, каб дабрацца да свайго “прыёмнага сына”...

– Курт! Курт! – крыкнуў, што было сілы малодшы сябрук, памкнуўся насустрач, радасна зноў крыкнуў роднае яму імя, – і папаў у абдымкі. Сам абняў яго, што было сілы, прытуліўся, пацалаваў нават...

– Петрусь...

– Курт, мой дарагі Курт, ты не вырataваўся, папаў у палон? Чаму? У вас жа былі машыны...

– Нас бамбілі... Многія загінулі. Я рад, вельмі рад, што бачу цябе...

Курт гаварыў да яго, і на вачах выступілі слёзы. У вачах – радасць, што трымае на руках свайго Пэтэра. Усе здзівіліся, назіраючы за гэтай сцэнай і нічога не разумелі.

Плакаў Пятрусь ад радасці сустрэчы, плакаў і Курт, не выпускаючы хлапца са сваіх абдымкаў. Так і стаялі сярод шырокага шляху, абняўшы адзін аднаго.

– Курт...

– Майнэ Петэр... Петрусь, ты мой сын... Петрусь, я живой, я буду жить, я напишу потом тебе письмо, когда буду домой. Хорошо?

– Добра, Курт, добра! Гут, мой сябра!

– Мой китель. Там тебе письмо. Нужно прятать письмо. Прочтешь через много лет, ты меня поймешь... Как хорошо, что я снова вижу тебя!

Курт за гады вайны навучыўся рускай і беларускай мове, і таму мог дакладна выказаць свае думкі і пачуцці свайму малодшаму сябру. Нечыя дужыя рукі адарвалі хлапчука ад Курта, а яго самога адпіхнулі ў калону. Гэта быў ахоўнік, які вёў калону.

– С врагом нашей Родины целоваться? И кто тебя, паршивец, этому научил?

Вайсковец у выцвілай гімнасцёрцы мацюкнуўся расейскім мацюком, чаго хлопчык ніколі не чуў, адкінуў яго ад калоны ў канаву.

– Пшёл отсюда! – яшчэ смачней мацюгнуўся салдат, папраўляючы на плячы трохлінейку. – Значит, помогал фашистам, раз целуешься с нашим врагом! Значит, полицаями были родители!

Пятрусь аказаўся не проста ў канаве, а ў бруднай калюжыне, што яшчэ больш абразіла хлапчука. Ён узненавідзеў таго салдата, спадылба глядзеў на яго. Але хуценька падскочыў і, не баючыся, што канваір зноў спіхне яго ў канаву, пабег даганяць калону, каб хоць яшчэ раз убачыць Курта, свайго збавіцеля ад голаду і смерці, свайго сябра, які ўвайшоў у хлапучковае сэрца назаўсёды, на ўсё жыццё...

– Курт! Дзе ты, Курт! – крычаў наўздагон хлапчук, размазваючы слёзы па твары, пакідаючы брудныя пісягі. – Курт, выжыві, і дабярыся да сваёй Марты і Пэтэра! Выжыві!

Яму ўдалося параўнацца з сябрам, і ён бачыў на адлегласці яго радасна-ўзнёслы твар і слёзы на вачах, але ўжо не асмельваліся кінуцца адзін да аднаго, каб яшчэ больш не ўзлаваць злога канваіра...

– Петрусь! Я не забуду цябе ніколі!

– І я цябе, мой дарагі Курт!

Далей ужо дарогу, не вытрымаўшы такога свавольства, перагарадзіў ахоўнік. Нічога, праўда, не сказаў, але выгляд яго гаварыў пра тое, што хлапчуку далей ісці забаронена, і што жартаваць ён не любіў... І хлопец не пайшоў. Ён сеў у пясок і схіліў галаву, гледзячы на свае калені. Слёзы капалі ў пясок, і ён больш не выціраў іх, даўшы ім волю...

Доўга рухалася калона... Доўга сядзеў на ўзбочыне шляху Пятро Сіліч.

На яго ўжо ніхто не звяртаў увагі – ні палонныя немцы, ні канваіры. І ніхто, ніводзін чалавек на зямлі, не адчуваў, што рабілася з ім, не адчуваў яго болю, душэўных пакутаў. Ды і не кожны мог зразумець яго боль, як і не змог бы зразумець сяброўства паміж Куртам Венцэлем і Пятром Сілічам – беларускага хлопчыка і захаёўніка, які прыйшоў ворагам на беларускую зямлю, але не быў залічаны ў разрад ворагаў нікім з вяскоўцаў...

Дадому ён вярнуўся позна – на Забалацце ўжо начная шэрань накінула сваю коўдру. Ён не прыслухоўваўся, пра што гаварылі бацька і маці, што

гаварыла Маша і чаму плакала, не адрываючыся ад Валодзькі, чаму Толік смаліў цыгарэціну за цыгарэцінай і глыбока ўздыхаў...

У яго былі свае бяда і горыч на душы, у яго самога разрывалася сэрца ад шкадавання, што не так, як трэба было, развітаўся са сваім сябрам, неяк яно не па-людску выйшла, ой як не па-людску... Перад вачыма стаяў злосны твар ахоўніка і яго абразлівыя словы, яго позірк, і яшчэ больш балюча стала, калі ўспомніў, як яго, Петруся, шпурнуў у калюжыну... Як свінню якую ў гразоцце кінуў...

Потым зноў пасяліліся ў Забалацці немцы – але цяпер ужо палонныя, без зброі. Амаль да кожнага падступаўся хлапчук, задаваў адно і тое ж пытанне: “Майн фройнд Курт Венцэль – мо хто чуў пра яго?”

Палонныя адмоўна круцілі галовамі – не, не ведаем, не чулі пра Венцэля... Наведаўся ён разам з Віцькам Дударэнкам у Плёсы, Кавалі, іншыя вёскі, дзе камплектавалі палонных у групы і некуды адпраўлялі далей, – але нідзе не пападалі на след Петрусёвага сябра, растварыўся ён, змяшаўшыся з тысячамі і тысячамі іншых лёсаў...

13

Праз дні тры ванкамат паклікаў на вайну бацьку – Сяргея Фёдаравіча Сіліча. А праз дзень атрымаў позву Уладзімір Сяргеевіч Сіліч.

Атрымаў яе і Анатоль Сяргеевіч Сіліч. На той час партызанскі атрад на Клічаўшчыне, якім камандаваў Комінаў, злучыўся з часцямі Трэцяга Беларускага фронту – і партызан Мікалай Сяргеевіч Сіліч стаў радавым Чырвонай Арміі... Яго цяжка параніла, і знаходзіўся ён на лячэнні ў шпіталі...

Толік на фронт не папаў. Яго накіравалі ў “вучэбку”, а потым ён служыў на караблі і яшчэ доўга вылаўліваў на марскіх прасторах нямецкія міны...

З дзённіка Пятра Сіліча:

“Прыйшоў брат Коля – партызаны на той час злучыліся з рэгулярнымі войскамі Трэцяга Беларускага фронту.

Калі быў першы штурм Кёнігсберга, а ён, на думку ваенных спецаў, быў неабдуманы і неапраўданы, загінуў брат, “пал смертью храбрых”, як напісалі потым у пахаванцы... Я ездзіў туды, у горад Несцерава, адшукаў брацкую магілу. Залатымі літарамі напісана на сцяне і прозвішча майго брата – *Мікалай Сяргеевіч Сіліч.* Там пахавана дзесяць тысячаў савецкіх салдатаў. А пражывае сёння ў Несцераўскім раёне восем тысячаў жыхароў. Там дзесяць брацкіх магілаў, і ў кожнай па тысячы палеглых байцоў... То дзякуючы следапытам Калінінградскай вобласці я пабачыў магілу, дзе пахаваны Коля...

А Валодзьку забілі пад Варшавай – у сорак пятым. Тую мясціну называлі далінай смерці. Там палегла больш як шаснаццаць тысячаў байцоў. Шмат прозвішчаў не ўстаноўлена. Але тое, што там пахаваны Валодзя, сцвярджае яго сябра – Аркадзь Сакун, на вачах якога нямецкі снайпер прамым пападаннем у галаву забіў Валодзьку Сіліча... Ён жа, Аркадзь, і хаваў разам з байцамі ўсіх тых, хто загінуў... Бацьку пры фарсіраванні Нарвы перабіла нагу – шэсць скразных ранаў. З мінамёта біў немец па нашых байцах... Вярнуўся дадому пакалечаны – жывога месца не было на ім – увесь быў у пісягах і ранах...

...Мама ўмела і любіла выпякаць хлеб.

Да сённяшняга дня памятаю яго пах – непаўторны, смачны і прыгожы . Калі яна чаравала каля печы, то гэта быў цэлы таямнічы абрад – яна і малітвы шаптала, і песні спявала, калі саджала на гарачы чарэнь круглыя боханы. Мо ад яе пяшчоты і кулідкі атрымліваліся такія незвычайныя і прыцягальныя. Калі ж хлеба назбірвалася некалькі мяхоў, бацька запрагаў каня, і мы ехалі ў Бабруйск. Каб за той хлеб выручыць якую капейчыну, каб купіць льга было якога абутку для дзяцей, сітчыку на сарочкі...

Бацька ў той дзень быў у добрым настроі – купляў усё, што прасіла маці.

А ў мяне папытаўся:

– Пятрусь, а ты хочаш на чырвоным кані пакатацца?

– А дзе ён, той чырвоны конь?

– Перад табой. Выглянеш у акенца, што над канём, а дзядзька і сфатаграфуе цябе.

Мне падставілі табурэцік, паказалі, як трэба паглядаць і куды глядзець.

Калі мы праз нейкі час атрымалі фатаграфію, радасці не было мяжы. Маці паглядзела на кавалерыста Петруся, сказала сур’ёзна:

– Ну, выліты Будзённы. І шашка збоку.

Я, прыехаўшы дадому, з адваротнага боку напісаў: “Чэмпіёнам краіны па канькабежцы з’яўляецца Пётр Сіліч...”

То было ўжо ў сорак восьмым годзе...

...У нашай хаце пасялілася гора.

Не ўберагла мая сястрычка Вера – падхапіла ў вайну тую хваробу. Ад бежанкі. Памерла сястрычка, і яе пахавалі ў Забалацці.

Спахапіліся, ды позна – хвароба была ў самым разгары. А было ж сястрычцы трошкі больш за дзесяць гадоў. Да мяне часта падступалася слабасць, кружылася, як і раней, галава і балела ў грудзях. Калі я паскардзіўся маці пра тое, вельмі занепакоілася, спалохалася за мяне, баялася, каб і я не

захварэў той страшнай хваробай. На той час з'явіліся рэнтгены, і калі мяне аднойчы прасвяцілі ім, то доктар адразу вызначыў маю хваробу – туберкулёз лёгкіх закрытай формы.

Тады ж не было ні пініцыліну, ні стрэптаміцыну, яно было, канечне ж, ды не ўсім дастаць выпадала, асабліва нам, вяскоўцам... Маці не ведала, што рабіць... Старэйшы брат Анатоль служыў на флоце. Сем гадоў праплаваў ён на тральшчыку. Расказваў потым мне, што шмат мін было на моры – і іх прыходзілася збіраць. Калі памерла Верка, яго выклікалі на пахаванне. Не заспеў. Пахавалі без яго. Вельмі перажываў, што не развітаўся з сястрычкай. Калі ж даведаўся, што і мяне падцікавала тая страшная хвароба, не на жарт захваляваўся і за маё жыццё.

Адразу ж падаўся ў бальніцу – да галоўнага ўрача. Расказаў пра бяду, прасіў даць накіраванне ў які-небудзь санаторый.

– Нічым памагчы не магу! – катэгарычна адмовіў галоўны ўрач Кацнельсон. – Хай ваш брат тут лечыцца.

– Дык у вас жа тут няма неабходных лекаў! – Толя як не крычаў на яго, бачачы, што таму да лямпачкі дзіцячы лёс нейкага вяскоўца.

Прыехаў дадому раззлаваны, але ні пра што не расказваў. Цэлую ноч думаў, не спаў, вырашаў, як паступіць, як знайсці выхад з тупіковага становішча... Раніцай, папярэдзіўшы маці, што адлучыцца на дзень-два, знік. У Менск падаўся. У Міністэрства аховы здароўя. Не ведаю, у якія ён там дзверы стукаўся, каго прасіў і ўмольваў, але адтуль прыехаў радасны і задаволены. Паклаў на стол паперчыну і абвясціў:

– Во, Пятрусь, трэба ехаць у Наваельню. У дзіцячы санаторый. На лячэнне. Праз два тыдні трэба выязджаць...

Потым расказваў, што сустрэўся з чэрствасцю чыноўнікаў. Але калі пачаў грукаць корцікам па стале, абяцаючы даць тэлеграму ў Маскву, нарабіць шуму, яго пачалі супакойваць:

– Добра, добра, супакойцеся... Атрымае ваш брат пуцёўку ў санаторый.

Тры з паловаю месяцы прабыў я ў тым санаторыі. Хлапчукі прыязджалі з розных мясцінаў, але ў асноўным з гарадоў. Тыя, хто быў з горада, грэбліва крывіліся ад поснай кашы ці бульбы, супу ці баршчу. Я ж падмятаў усё, што давалі – яшчэ і дабаўкі прасіў. Як за сябе выкідваў усё...

Пасябравалі мы з хлопцамі, больш таго, параднілiся. Фатаграфаваліся на памяць. Кожны з хлопцаў падпісаўся на тым фота. На той жа першай фатаграфіі стаіць дата – 23 ліпеня 1950 года. Гляджу на твары хлапчукоў, успамінаю той нялёгкі час, а ведаю – у жывых з іх не засталося нікога. Ні-кога! Скасіла хвароба. Выжыў толькі я. Як з поля бою выйшаў... Нарадзіла мяне маці, даўшы жыццё. Выратаваў ад галоднай смерці Курт Венцэль.

Вярнуў да жыцця мой брат Толік.

За гэты час я паправіўся, і ўжо больш не кружылася галава, цвёрда і ўпэўнена хадзіў па зямлі. Галоўны ўрач дзіцячага санаторыя здзівіўся, гледзячы на рэнтгенаўскія здымкі, пільна паглядзеў на мяне, узнёсла прамовіў:

– Я віншую цябе, Пятро Сіліч! Ад тваёй хваробы і знаку не засталося.. Значыць, на карысць пайшло лячэнне. Я жадаю, каб ты болей ніколі сюды не вяртаўся...

Ён мне паціснуў руку як дарасламу. Я ж, не вымаючы сваёй рукі з ягонай, перапытаў:

– І я не памру, як мая сястрычка Верка? Не памру, доктар?

– Сто гадоў жыць будзеш! Вер майму слову!

І я паверыў яму. Дадому прыехаў здаровы і вясёлы. Не пазнала маці, абняла, шчасліва ўсклікнула:

– О які спраўны стаў! От што значыць пабыць у санаторыі.

...Восенню яно нічога, а вось калі прыходзіла зіма, калі марозныя завірухі пранізвалі ўсё цела, калі ў піліпаўку ваўкі шчэрылі на нас белыя іклы, а хадзілі мы ў школу з Петрусём Забалоцкім з маёй вёскі, – калі праходзілі паўз могілкі і на іх кожны раз нешта спявала-скавытала, а ў нас валасы станавіліся старчака, – гатовы мы ўжо былі і адступіцца, адмовіцца ад вучобы за столькі кіламетраў. Страх, здаецца, быў мацней за ўсё...

Але чамусьці кожным разам помніліся словы Мастовіча – выкладчыка літаратуры. Ён казаў-папярэджваў, што адзін раз у жыцці збаяўшыся, будзеш баяцца ўсё жыццё. Мудры быў настаўнік. І ў тыя ж хвіліны каля могільніц, ідучы насустрач сівернаму ветру, я цвёрда шаптаў сабе: “Не, не адступлю. Няма такой сілы, якая прымусіла б мяне праявіць маладушша. Перад маці будзе сорамна, перад Толікам, перад Куртам...”

Праз нейкі час прыйшло фота ад Анатоля – з горада Савецкая Гавань. Спачатку ён служыў на Балтыйскім флоце, а пасля перакінулі на Ціхі акіян.

“З Новым годам! З новым шчасцем! – напісаў ён на адваротным баку фота. – На памяць маім родным, бацькам, ад сына Толіка. 1-га студзеня 1950 года”. Я ганарыўся сваім братам. Паказваў усім фота і казаў, што і я, калі вырасту, буду мараком...”

## 14

“Дарагі дружа Пятрусь, дарагі мой Пётр Сяргеевіч! – пісаў з далёкага горада на Няве Віктар Дударэнка. – Сабраўся ўсё ж напісаць табе. То ўсё часу не ставала, то лянота падгортвалася, а то і не было, здавалася, неабход-

насці такой, – а тут сны спакою не даюць: як не штоноч наведваецца да мяне мудрая баба Васіліха, што нам з табой пупы завязвала, і Курт Венцэль разам з ёю... Нешта патрабуюць ад нас, напамінаюць пра сябе...

Я так разумею, што недарэмна яны стукаюцца ў нашую памяць.

А я ведаю, Петрык, што яны хочуць ад нас. Зразумеў, зусім нядаўна зразумеў. Яны жадаюць, каб мы не забывалі не толькі пра іх, а і пра саміх сябе. Памятаць адзін пра аднаго – гэта адно, а вось не парываць духоўную нітачку між намі і імі – то ўжо зусім іншае. Нас усіх павінна жывіць памяць, і мы ні ў якім разе не павінны адмаўляцца ад іх духоўнай дапамогі, хаця, здавалася б, іх і няма побач з намі. Не, яны ўсё ж побач з намі. І таму яны думаюць пра нас, перажываюць за нас, падказваюць нам, як трэба крочыць у заўтрашні дзень...

Мы ў хуткім часе павінны з табою сустрэцца. Ды і не толькі сустрэцца, а і наведаць з табою тыя мясціны, дзе мы слухалі мудрыя парады і настаўленні бабы Васіліхі, дзе вялі вясёлыя забавы з Куртам... Зайздрошчу табе – ты бываеш у Забалацці часта, а мяне лёс закінуў сюды, за тысячы кіламетраў. Хаця ж, з другога боку, у нас не павінна быць аніякіх прычын рэдкага з'яўлення на роднай зямлі...

Мы сходзім з табой абавязкова на магілку бабы-павітухі, памянём яе добрым словам, а потым у царкве паставім памінальныя свечкі Курту і бабцы Васілісе... Не апошнюю ролю адыгралі яны ў нашым жыцці. Тое, што яны далі нам, не маглі даць пазней ні навука ў інстытутах, ні кнігі, якіх мы шмат з табою прачыталі... Недарэмна прысніўся мне Курт адначасова з табой, недарэмна ў сне мы разам з ім імчалі на саначках. Ён дасылаў нам добрую вестку са сваіх планет, бо думаў пра нас толькі добрае. Як і мы пра яго...

Так, мы ўжо з табой прайшлі-пражылі добрую палавіну свайго жыцця, і едзем на тых саначках з гары і сёння, і на душы ў нас светлы і добры настрой, – значыць, наперадзе ў нас яшчэ шмат спраў і клопатаў, і мы іх павінны давесці да канца, да свайго лагічнага завяршэння...

Баба Васіліха, як я разумею, правяла з намі некалькі ўрокаў па катэхізацыі – знаёміла з азамі Бібліі. Хаця мы тады не разумелі ўсяго, але сёння, аглядваючыся на той час, унікаючы ў радкі Святога Пісання, яна скіроўвала нас на шлях, які вядзе да Бога. І мы ідзем па тым шляху, не збочваем, бо дарога да Бога – самая прамая і жыццесцвярджальная дарога, бальшак...

Мне ўспамінаецца чамусьці той падбіты самалёт і лётчыкі-самазабойцы – і сёння не магу зразумець, чаму яны так лёгка развіталіся з жыццём? Успамінаецца, як мы стралялі з нагана Курта, і як падкраўся да нас твой бацька, адабраў той наган і разбіў потым молатам на накавальні...

Памятаю, як ты перепалохаў усю школу, надзеўшы кіцель і фуражку з чэшкай, што пакінуў табе Венцэль, і зайшоў у клас, крыкнуў на ўвесь голас: “Хэндэ хох!” Ваенрук, які любіў паздзекавацца з цябе, збялеў і не ведаў, што рабіць – так напалохаўся... У яго адняло мову. А потым завуч школы Мікалай Фёдаравіч Дзятлаў, твой далёкі родзіч, адлупцаваў цябе дзягай за такія выхадкі... Правільна адлупцаваў, сам ведаеш, і згодзішся са мной, ці не так? Бо тады які час быў – адно слова ў органы, і твайго бацькі, а то і ўсёй сям’і не было б у жывых..

А памятаеш, як з нас здзекаваўся дурань-перарастак Якаў – на сем гадоў старэйшы? А ты аднойчы гвазданууў яму ў лоб ручкай з пяром-“зорачкай”... То ж Дзятлаў тады смяяўся і нават радаваўся тваёй смеласці – меншы большага перамог, правучыў нават. Ён болей і не падыходзіў да цябе. Нездарма ж цябе называлі камендантам Белагорскай крэпасці... Камендантам! Званне высокае і ганаровае!

Шмат і шмат чаго яшчэ можна ўспамінаць, але пісьмо ёсць пісьмо, тут усяго і не ўспомніш, а калі і ўспамінаць, то кніга цэлая атрымаецца – то ж колькі захапляльнага, цяжкага, горкага і цікавага прыйшлося на нашую долю! Ды ні ў якія кнігі ўсяго не ўбярэш!

А якія мы з табою пісьменнікі, сам ведаеш: не да таго было – усё аддавалі працы, сям’і, і нешта ж, дзякуючы Богу, дасягнулі ў гэтым жыцці, здзейснілі, не сорамна будзе перад нашчадкамі... Я рады за цябе – расказваюць сябры і знаёмыя пра твае поспехі ў энергетыцы. Хай у цябе стае энергіі на доўгія-доўгія гады, мой дарагі дружа Пятрусь! Адно засмучае, калі даведаўся пра цябе, што ты паклаў сваё здароўе у Чарнобыльскай зоне. Што пасля хваробы ў дзяцінстве ты ніколі не хварэў, а тут столькі нагарнулася на цябе... І ты не захацеў нават атрымаць інваліднасць, якую прыпісвалі табе дактары ад камісіі... Колькім пакалечыў жыццяў той Чарнобыль!

Прашу цябе, выстаі, вытрывай, перамажы і на гэты раз сваю хваробу. У цябе ж і прозвішча якое – Сіліч, а, значыць, корань ад слова “сіла”...

Абдымаю цябе, твой назаўсёды сябар – Віктар Дударэнка...”

15

“Віцька, дарагі мой дружбачок, добры дзень, маё табе вітанне! – адказваў на ліст сябра гомельскі энергетык Пятро Сіліч. – Так, дзяцінства стукаецца ў нашы сэрцы, напамінае пра той нялёгкі час... А там жа былі Васіліха і Курт, нашы сябры і бацькі – маладыя і прыгожыя. Таму аніяк мы не можам вырвацца з таго непрымусовага палону, а яно і добра, што не можам, – бо яно нас жывіла і будзе жывіць доўгія гады, даваць моц і энергію...

Так, дарагі Віцька, да драбніц памятаю дні ў Забалацці – дні акупацыі, галадоўку, нішчымніцу, Курта Венцэля і бабу Васіліху... Усё тое ўспамінаецца светла і хараша. Памяццю, дзякуй Богу, я надзелены цудоўнаю, і таму мне навукі даваліся лёгка і хутка. Колькі прайшло дзесяцігоддзяў, а памятаю як не да хвіліны кожны дзень – дзе мы былі, што рабілі, калі прыйшло вызваленне, калі я апошні раз бачыў свайго Курта...

Так распарадзіліся абставіны, так наканаваў пражыць нам жыццё Вышні, пра Якога так таленавіта і мудра нам даводзіла лекарка і шаптуха...

Каб не Дранік, то наш Колька хоць які гадочак пажыў бы дома, сярод нас, сярод таты і мамы... Дранік, каб на яго, хацеў займець сабе сябручка ў яго чорных справах, і для гэтага выбраў нашага Міколку... Таму і падаўся ў партызаны раней часу. Потым брата цяжка параніла. Ляжаў у шпіталі пад Бабруйскам. Меркаваў так: трошкі паправіцца, і адпусцяць яго камандзіры на колькі дзён дадому. Паправіўся збольшага – і нечакана яго часць, і яго разам з усімі, пагналі далей, на захад. А ён праязджаў ад Забалацця ўсяго сем кіламетраў. І не ўдалося заехаць да нас. Дык жа здагадаўся перадаць вяскоўцамі кароценькае пісямцо бацькам...

Пісаў, што вельмі шкадуе, што не змог пабачыцца, бо вельмі спяшаліся рухацца наперад. Шкадаваў, што вельмі паранены бацька. Колька ведаў, што ён быў у шпіталі пад Нарвай... Загінуў, на вялікі жаль, пад Кёнігсбергам...

Нешта няма сігналаў ад Васіля Бандарчука – як ён там, таксама ж некалі разам з намі вайной загартоўваўся. Шкадую, вельмі шкадую, што своечасова не схаваў тое пісьмо, якое пакінуў мне Курт. Калі раніцай палез у кішэню кіцеля, канверта таго, што трымаў у руках, што мне прызначаўся, не было. Колькі потым не дапытваўся ў бацькі, ён катэгарычна адмаўляўся, што не браў яго. Зразумела ж, хлусіў. Такі быў тады час, што бацька ўсяго асцерагаўся. Таму і пабіў кувалдай наган, пазнішчаў усё, што было звязана з немцамі, – мусіць, каб не абвінавацілі яго ўлады ў хаўрусе з імі...

Дарэчы, я памятаю, які лёс спасціг нашага старасту Несцера Бандарчука, які выратаваў жыццё не толькі мне і матулі, а і многім-многім вяскоўцам. Шкада чалавека, ой як шкада... Для нас ён быў абаронай і засцярогай, але, на вялікі жаль, для ўладаў ён быў ворагам народа, здраднікам... Не, ён нам не здраджваў, гэта мы яму здрадзілі, аддаўшы яго на здзекі законнікам, якія не былі пад акупацыяй... Ні ў чым ён ні быў вінаваты, ні ў чым...

А бургамістр Вінарскі? Ці можна ацаніць па высокай шкале дабрыні ўсё тое, што ён зрабіў для людзей? Усё наша Забалацце пацвердзіла і даказала б, што гэта былі тыя людзі, якія застануцца ў памяці кожнага забалацянца – ды і не толькі забалацянца! – як самыя добрыя і спагадлівыя землякі. Смелыя і адважныя, яны рызыкавалі, хадзілі штодня па лязу нажа...

Паліцая Драніка будуць успамінаць па-іншаму. Але Бог яму, як кажуць, суддзя – не судзі, ды не судзімы будзеш... Так, здаецца, казала Васіліха.

Дзякуй табе, што першы напісаў мне, што сабраўся з сіламі і духам, і паклікаў мяне туды, у далёкі сорак першы-другі-трэці-чацвёрты і іншыя пазней гады... Яны з намі, неадчэпна з намі, і нікуды іх не выкінеш, не забудзеш, – яны будуць стукацца ў нашыя сэрцы і напамінаць пра самыя простыя ісціны, пра якія казала баба Васіліха: “Любіце ворагаў сваіх, чыніце дабро нават тым, хто ненавідзіць вас, абражае вас, хто праклінае вас. І маліцеся за тых, хто крыўдзіць і робіць вам балюча...”

Як проста і як геніяльна сказана*: “І калі вы хочаце, каб з вамі абыходзіліся па-людску, то самі будзьце людскімі; добры чалавек з добрага скарбу сэрца свайго выносіць добрае, а благі чалавек з благога скарбу сэрца свайго выносіць благое... ”*Мела рацыю Васіліха, калі казала нам, што з гадамі мы тое зразумеем і ўсвядомім. Так яно здарылася і насамрэч. І я рады гэтаму. Яе мудрасць, ды яшчэ матуліна пяшчота і любоў памаглі мне ў жыцці. Мне ўдалося, дзякуючы ім, пазбегнуць шмат якіх недарэчнасцяў і памылак, абысці іх бокам, – і я не параніў, не апёк сваю душу благім і непрыгожым, не выпэцкаўся ў чорным брудзе быцця... Я вынес добрае з добрага скарбу свайго сэрца. І ўсё жыццё буду ўдзячны майму старэйшаму сябру – Курту Венцэлю. І ён таксама, як і ўсе, навучыў мяне дабрыні і спагадлівасці.

Дарагі дружа! Чакаю цябе ў госці. Нашы сэрцы б’юцца ў такт, нашы думкі пераклікаюцца на адлегласці, і таму недарэмна мы часта з табою бачым адны і тыя ж сны...

Абдымаю. Чакаю.

Твой – Пятрусь, сябар Курта і твой найлепшы сябрук...”

16

Хлопчык бязмоўна глядзіць у маўклівае зорнае неба...

Хлопчык застанецца хлопчыкам да тае пары, пакуль ён будзе яскрава і выразна помніць той далёкі час, калі ўпершыню нешта пачне запамінаць убачанае вачыма і пачутае вушамі – пра першыя запамінальныя і значныя падзеі, што адбываліся каля яго і вакол яго...

Пятрусь узіраўся ў неба... Пятрусь знаходзіў там зоркі нябожчыкаў – сваіх бацькі і матулі, Веркі і Валодзькі, Міколы і бабы Васіліхі. Там жа знаходзіў сляды і сваіх сябрукоў, якіх па волі злога лёсу некалі сілком павезлі ў Нямеччыну, і якія не вярнуліся адтуль – прапаў іх след на зорных сцежках чалавечага існавання... Малы-дарослы чалавек пільна ўглядаўся ў прасторнае зорнае неба, углядаўся да тае пары, пакуль не пачуў голас свайго сябра –

Курта Венцэля... Быццам той стаяў недзе непадалёку, а то і зусім побач, датыкаючыся плечуком да малодшага сябра...

– Як жывеш, Петрусь? Як жывеш, Пятро Сяргеевіч?

Сіліч не спалохаўся голасу свайго сябра, які даляцеў да яго з небыцця, наадварот, абрадаваўся гэтаму чаканаму-нечаканаму пытанню. Нейкі час раздумваў, як ужо – па-даросламу – адказаць даросламу сябру.

– Ды як табе адказаць, дарагі мой сябра Курт, на тваё пытанне? Жыву, цябе ўспамінаю з удзячнасцю, снішся ты мне часта, і не толькі мне, а і маім сябрам. Ці жывы ты хоць, ці ўдалося табе вырвацца тады з тае Сталінска-Гітлераўскай чалавекадрабілкі?

– Навошта табе тое ведаць, Петрык? Памятай мяне такім, якім і запомніў. Я ж табе адрас і месцажыхарства напісаў у пісьме, а ты служыў у мяне на радзіме матросам, – зусім непадалёчку ад маіх мясцінаў – чаму не цікавіўся хоць, ці жывы я, і не пазнаёміўся з маім Пэтэрам?

Пятро адчуў ніякаватасць, падумаў пра сябе: “Прызнавацца ці не?” Але хлусіць у такім выпадку не мог – ніколі ён не хлусіў Курту:

– Знікла тое пісьмо, Курт, і сам я павінен у тым, – не збярог я яго, не схаваў адразу, як убачыў. Мо бацька ўзяў ды спаліў, ці хто іншы, – да сённяшняга дня не ведаю, за што караю сябе няшчадна ўсё жыццё.

– Не карай... Не вінаваты ты. Але калі будзеш на маёй радзіме па справах сваёй працы, абавязкова раскажы пра мяне маім суайчыннікам. Яны абавязкова зразумеюць цябе. Не ўсе мы былі такія, якія сеялі смерць і гора тваёй радзіме Беларусі. І мой народ павінаваціцца перад вашымі людзьмі – жывымі і нябожчыкамі. Табе з Віцькам пра тое казала баба Васіліха...

– Добра, Курт, абяцаю. Праз месяц я буду на тваёй радзіме. Будуць сустрэчы з немцамі, будзем гаварыць пра энергетыку. Абавязкова раскажу пра цябе. І пра сябе. Пра нас з табою. Раскажу, як ты выратаваў мяне ад галоднай смерці. А ім, тваім суайчыннікам, скажу такую фразу:

– Курт Венцэль – быў і застаецца маім сябрам, ім ён застанецца на ўсё жыццё... Няма народаў, якія павінны быць ворагам адно аднаму – мы ж сям’я на нашым зямным шары і, можа, ва ўсім сусвеце, – таму мы павінны шанаваць і любіць адно аднаго. Як завяшчаў тое Хрыстос... Яны зразумеюць мяне, Курт? Зразумеюць, праўда?

– Абавязкова зразумеюць. Вельмі добра зразумеюць. Дзякую, што ты стаў тым, якім мне і жадалася. У пісьме я і пра гэта пісаў. А цяпер – бывай... Мо калі сустрэнемся.

– Сустрэнемся...

Пятрусь і яшчэ пра нешта хацеў спытаць, але адчуў, што застаўся адзін, што Курт Венцэль растаў у зорным небе, а злева, там, дзе заканчваўся баль-

шак Малочнага Шляху, сарвалася са свайго месца велізарная зорка і, прачырыўшы белую дугу, паляцела некуды ўніз і згарэла за гарызонтам – акурат над Бабруйскам...

Сярод зорак нараджаўся маладзічок – тоненькі-тоненькі, як злізаны сярпочак, якім карысталася падчас жніва Алена Сіліч...

Пачынаўся чарговы месячны цыкл касмічнага жыцця планеты Зямля.

Заўтрашні працоўны дзень Петруся, генеральнага дырэктара вытворчага аб’яднання “Гомельэнерга” Пятра Сяргеевіча Сіліча, абяцаўся быць вельмі насычаным і цяжкім.

Усе добрыя справы ён прывык распачынаць на маладзік.

Бо так заўсёды вучыла яго маці – Алена Іванаўна, так вучыў бацька – Сяргей Фёдаравіч.

Так таго патрабаваў і космас, зоркі і – Бог.

Таму і нарадзіўся, жыў і працаваў пад сваёй шчаслівай зоркай Пятрусь Сіліч – сябар Курта Венцэля.

*Забалацце, Бабруйск, Гомель*
*1998-2003 год*

P. S.

Лёс па-свойму распараджаецца жыццём людзей.

У 1999 годзе, напрыканцы ХХ стагоддзя, не стала Пятра Сіліча – трагічна загінуў.

Пахаваны ён непадалёку ад Гомеля – на Рандоўскіх могілках.

Яго прозвішча і яго справу працягваюць яго сыны – Ігар і Валодзя, якіх нарадзіла Анастасія Міхайлаўна – жонка Пятра Сіліча – і ўнукі...

# Алачка, альбо Зуб мудрасці

1

Алачка любіла раскошу.

Не так каб і надта, але ўсё ж... Дробязныя перашкоды ці бытавая неўладкаванасць раздражнялі і прыгняталі яе, быццам напаміналі, што яна такая ж, як і ўсе. Ну, амаль як усе, у якіх нечага не стае, у нечым маюць патрэбу, праз што і пакутуюць простыя смяротныя, сварацца, нават ненавідзяць адно аднаго... Яна ж гэтага баялася, і лічыла, што калі хапае ўсяго з коптурам, то і жыццё праходзіць гладка і спакойна.

Алачка – Скарпіён. Нарадзілася пад такой зоркай, якая дае права рабіць іншым балюча, наносіць нечаканыя ўколы і ўдары, тым самым улагоджваючы сваю неспатольную і жорсткую душу...

Можа наплесці сяброўцы ці знаёмай такой лухты ці бязглуздзіцы, што і не разбярэцца тая, дзе праўда, а дзе мана, а яна і брывом не павядзе ад сваёй прамоўленай хлусні, уздыхне толькі, закаціўшы вочы недзе пад лоб, слязу ружовую на шчаку выкаціць, пакажа, прадэманструе свае душэўныя пакуты, як ёй цяжка жывецца на гэтым свеце. У голасе пры гэтым могуць зажурчэць адначасна і чуллівыя ноткі, ад чаго новы, зусім незнаёмы чалавек, які сустрэнецца ёй, ды што незнаёмы, нават самая задушэўная і блізкая сяброўка, якая ведае-знаецца з Алачкай не адзін год, можа ўспрыняць усё за чыстую праўду, і міжволі агорне яе шчырае шкадаванне да няшчаснай... А незнаёмец ці незнаёмка пранікнецца да яе такім жалем і спачуваннем, што гатовы кінуцца ў бой з крыўдзіцелем, каб абараніць няшчасную жанчыну ад нечаканых і жорсткіх удараў лёсу...

Алачка калі ў нешта ўглядаецца, дык заўсёды прымружвае вочы. Яна трошкі падслепаватая, хаця баіцца насіць акуляры, каб, крый Божа, не выдаць свой узрост. Гэтая тэма для яе балючая. Яна вельмі ж не хоча старэць і марыць толькі пра адно – надоўга застацца ў сваім узросце, каб мужчынам кружыць галовы. У яе проста сэрца крывёй абліваецца, калі бачыць ці чуе, як гавораць пра нейкую жанчыну, што тая выглядае нашмат маладзей за свае гады. Тады ў яе надзімаюцца наздрыны на востранькім носіку, наліваюцца чырванню шчокі, і яна не можа ўжо вымавіць і слова – “душыць яе жаба”, забівае ад рэўнасці і зайздрасці дыханне...

Алачка – доктар. Ды не абы-які, а зубны, стаматолаг. Гэта табе не ў вушы заглядваць ці дно ў вачах правяраць, а самая што ні на ёсць з прэстыжных прафесій – зубы баляць амаль у кожнага чалавека, і той, кожны, гатовы аддаць усё, каб пазбавіцца ад болю і адзець на зуб каронку... О, тут наша гераіня заўсёды на вяршыні славы! Тут ужо яна свайго не ўпусціць. Яе ўчэпістасці можа пазайздросціць нават і шуляк – што пападзе ў яе рукі, ніколі не выслізне, не вырвецца, як сядно прыклеіцца імгненным клеем – мёртва, моцна...

На працы між сабою яе празвалі Тышто альбо Ашто. Калі Алачка выказвае здзіўленне ці недавер, то абавязкова акругліць вочы, якія ў яе пастаянна зацягнуты нейкай шэрай празрыста-мройнай павалокай, і запытае як быццам наіўна:

– Ты што?

Калі ж яна хоча пра нешта пахваліцца ці паведаміць, а ёй пярэчаць ці не згаджаюцца, то абавязкова ў такім разе можна пачуць:

– А што? Хай ведаюць, хто я...

Гэтыя два выразы – неад’емныя атрыбуты ў яе лексіконе, і маюць яны шмат якіх адценняў і значэнняў. Алачка лічыць сябе інтэлігенткай, і гэтае права ёй дае тое, што яна мае вышэйшую адукацыю і што яна ўрач. “Мы ж урачы, а, значыць, інтэлігенты, уладары блакітнай крыві”, – любіць яна часта націснуць на рычагі і педалі сваёй упэўненасці. Муж яе, Віця, калгаснік, значыць, мужык неабчасаны, хаця ж і ён доктар, заканчваў той жа інстытут. Бацькі яго не ўдаліся ў інтэлігентаў – гаспадар круціў баранку, а маці амаль зусім не працавала – гадавала дзяцей.

Ала нарадзіла двое сыноў – Віцьку і Міколку. Тут ужо з мужам адразу ж вызначылі іх лёс – сыны будуць вучыцца толькі ў інстытуце міжнародных зносінаў. І толькі там. А што? У гэтай задуме галоўнае падмазаць у школе – каб хлопцы мелі пры сканчэнні залатыя медалі.

“Падмазаць” жа было за што і чым: у Алачкі шыфаньер забіты французскай парфумай, каньякамі розных марак. Усяго хапіла б ні то што адной класнай і асноўным настаўнікам класа, а нават і ўсёй школе, нават і райана. А што? Гэтак жа потым можна падкупіць і ў інстытуце, галоўнае ведаць, на каго выйсці, каму даць у лапу. Але “духоўны” і “каньячны” запас не быў галоўнай крыніцай, якая давала ўпэўненасць у заўтрашнім дні, гэта дапаможная, ускосная нават, так бы мовіць, падмазка, асноўная ж – за сямю пячаткамі. Аднойчы за п’яным сталом Віцечка прабалаболіў, што ў малочным бідоне ў яго забіты адныя соценныя купюры...

Хлопцы не паверылі, п’яна крутанулі галовамі, вочы вылупілі, перапыталі, ці праўда. Тады і дайшло да яго нешта, апамятаўся, пакрыўдзіўся на

самога сябе за раскрыццё тайны, і ён нечакана для іх сам сабе пад нос падставіў дулю, разрагатаўся:

– Авой, як вам лёгка лапшу на вушы вешаць. Як у тым анекдоце: Рая лапшу варыць, а Міхал Сяргеевіч нам яе на вушы развешвае...

Хлопцы разрагаталіся, забыўшыся адразу пра яго жарт пра бідон.

Віктар з Алачкай у разводзе. Але і ў разводзе яна не выпускае яго са сваіх кіпцюрыкаў. Трымала ўсё ж не яна, а дзеці. Пры сваіх заганах і недахопах ён клапаціўся пра іх – каб паказаць на працы перад сваімі калегамі і супрацоўнікамі, што ён не падонак, што і ў яго ёсць душа, шкадаванне да сваіх нашчадкаў. Так, да дзяцей ён адносіўся з павагай, ускладаў на іх вялікія спадзяванні. Былая жонка магла суткамі расказваць калегам і сяброўкам пра тое, які ён агідны чалавек – на дзяцей нуль увагі, і што ёй прыходзіцца ўсё рабіць самой. А недахопу ў слухачах не было – кожны дзень хворыя сядалі ў яе крэсла і, што паробіш, слухалі яе горычную споведзь. І тады раз-пораз яна ўстаўляла нязменнае “а што?”, чакаючы пацвярджэння сваёй праваты. Любіла падаграваць сябе жаласцю, падахвочвала сама сябе, уваходзіла ў ролю маладой і прыгожай, але пакрыўджанай жыццём жанчыны, старалася выклікаць да сябе спачуванне, спачуванне яе гору і слязам, што ліліся тут жа, у прысутнасці таго, хто сядзеў у крэсле і слухаў яе жыццёвую споведзь.

– Ён загубіў маё жыццё, – амаль што румзае Ашто, выцірае нос ружовай насовачкай, якая разносіць водар няўлоўных французскіх духоў, і бярэцца у рэшце-рэшт за бор-машыну, і Віталь Цаплеевіч, на дадзены момант яе пацыент, “хворы”, уздыхнуў ад радасці, што маналог дакторкі скончыўся, напруціўся ўсім целам, аддаўся ўладзе медыцыны, савецкай медыцыны...

Дакторка падслепавата ўглядваецца ў раззяўлены рот, закладвае металічнае люстэрка, зноў націскае нагой на педаль рухавіка, і ён пагрозліва завывае – бор-машына ўгрызаецца ў хворы зуб. Чуецца пах паленага, ідзе дым, а Віталь курчыцца ад болю, спрабуе нешта сказаць. На яго вачах слёзы, на лбе выступіў халодны пот.

– Пацярпіце, бальной, пацярпіце, – уладарна загадвае дакторка, кідае позірк на яго жонку, што сядзіць на крэсле ля дзвярэй – прывяла мужа ў паліклініку. – А вы, здаецца, у “Акіяне” працуеце?

– Ага, – бянтэжыцца чамусьці жанчына, не здагадваючыся, куды хіліць дакторка, – так, загадваю аддзелам...

– Здаецца, учора ікра пастуціла да вас... Вось пакуль я буду лячыць вашага мужа – а гэта яшчэ каля гадзіны будзе, бо ў Віталія Цаплеевіча вельмі ўсё запушчана, – ці не змаглі б вы за гэты час прывезці мне тры-чатыры бляшаначкі. Вельмі трэба. Дзеці хворыя, на ўліку ў дыспансеры...

Ала – сама цнатлівасць, сама невінаватасць. Папрасіла яна такім няшчасным голасам, што хіба ж адмовіш гаротнай жанчыне, якая так клапоціцца пра сваіх дзетак, і во, яе мужа, што сядзіць у крэсле, палечыць добра...

– Добра, я пастараюся, – паднялася жанчына, паглядзела на мужа, які сядзеў да яе спінай – хацела пераглянуцца з ім, удакладніць нешта, але, уздыхнуўшы, адчыніла дзверы і выйшла ў калідор.

Алачка нахілілася як мага ніжэй да хворага, пачала пільна ўглядацца, вызначала, што будзе далей рабіць...

2

– Ты куды сёння?

Пытанне для дзяўчыны прагучэла як чароўная незямная мелодыя, доўгачаканая, жаданая, і яна аж спалохалася свайго радаснага прадчування – ён, Віцечка, якога яна сніла, якім жыла, якога раўнавала да ўсіх дзяўчат усіх курсаў і патокаў, якіх ён вадзіў да сябе ў пакой, першы загаварыў нечакана з ёю. А то ж ніколі і не глядзеў у яе бок, колькі ні сілілася прыкаваць яго ўвагу да сябе, – як і не існавала яе на зямлі.

– Не ведаю...

Голас ціхі, затоены, з прыдыхам. Часцей забілася сэрца: “Чаго спытаў? Няўжо закадрыць мяне хоча?”

– У мяне ёсць выдатная бразільская кава. Ты любіш, Алачка, каву?

– Люблю. А дзе твае сябры?

– Сябры? – Віктар перапытвае і смяецца, глядзіць на яе сінімі вачыма – ведае, чаго цікавіцца дзяўчына, адзіноты хоча. – Гуляць пайшлі. І гуляць будуць да заўтрашняга вечара...

– Гуляць? Да заўтрашняга вечара?

Яна не разумела. Выгляд зрабіла, што не зразумела, хаця ўсё выдатна ведала наперад – і пра тое, што ў пакоі Віктара адначасова маглі знаходзіцца цэлую ноч па дзве, а то і па тры пары, займацца ў адкрытую каханнем, распрануўшыся дагала, не саромеючыся адно аднаго. Потым мяняліся дзяўчатамі і хлопцамі, і ніхто ні на кога не скардзіўся, не раўнаваў. Наладжваўся сапраўдны эдэм.

Перапытала здзіўлена-наіўна:

– Жартуеш?

– Ды не. Проста Колабаў з’ехаў дадому – з маці нешта там здарылася, а Макушнікаў падаўся ў Зялёны Луг на п’янку – дзень нараджэння свайго родзіча, сказаў, што начаваць там будзе, што п’яны праз увесь горад ехаць не хоча...

Яна нейкі час раздумвала, зазірнула наіўна яму ў вочы:

– А гэта нічога, што мы будзем адныя? Ты ж нічога не дазволіш сабе, праўда?

Ён зноў рагоча, у яго блішчаць роўныя зубы, пра якія так падрабязна гавораць на занятках і лекцыях, якія некалі прыдзецца ім лячыць, пламбіраваць, вырываць... Юнак упэўнены ў сабе, ён атлетычна складзены, ходзіць пружыніста, бы кот. Яго і сапраўды празвалі за вочы катом, ды яшчэ і памыйным. З-за таго, што таптаў дзяўчат без разбору і сумневу, нават мог і не ведаць, як каторую і завуць. Але ж сілком да сябе ён іх не цягнуў – самі прыставалі да яго, навязваліся настойліва і бессаромна.

– Праўда, Алачка, як скажаш, так і будзе.

– Ну, глядзі. Я паверыла табе.

– Правільна, што паверыла. Праз гадзіну чакаю цябе.

... Яна зайшла ў пакой смела, як быццам і прыходзіла туды кожны дзень. Не здзівілася эратычнаму календару, які вісеў над ложкам Віктара – маладыя дзявочыя грудзі ўпірался ў валасатыя грудзі юнака. На ложку ляжаў такі ж часопіс, на вокладцы якога буйным планам у натуральных колерах было паказана інтымнае дзеянне... Ала з абыякавым выглядам, быццам стары “Огонёк”, узяла і пачала гартаць бліскучыя старонкі.

Спачатку ў яе ледзь прыкметна заружовіліся шчокі, потым адчула, як нешта соладка-мройна кальнула ў саскі грудзей і скроні, па целе разлілася млявасць і неадольнае жаданне патушыць пажар, які паміма яе волі разгараўся ў ёй...

Запахла кавай. Ён заварваў і назіраў за ёю, прасочваў яе рэакцыю ад фотаздымкаў. І не памыліўся – дзяўчына ела вачыма ў старонкі, у яе пачало забівацца дыханне, позірк абвалокваўся санліва-пажадным шалам... Госця перагарнула апошнюю старонку, калі гаспадар падсеў на табурэцік і падаў ёй кубачак кавы. Яна падзякавала, падкурчыла пад сябе ногі, уладкоўваючыся на яго ложку. Віця дастаў з тумбачкі пляшку каньяку і, не пытаючыся ў яе згоды, ладна лінуў у кубак. Яна і не пярэчыла, прымала ўсё так, як ён і дыктаваў.

Ад гарачай кавы і каньяку злёгку закружылася галава, пакойчык адразу падаўся маленькім і ўтульным, а хлопец яшчэ больш прывабным і жаданым. Ён дапіў каву, каньяк, сеў побач, глядзеў не адрываючыся ад яе.

– Табе падабаецца наша логава?

Пытанне прашаптаў амаль нячутна, затоена, як бы запрашаючы да інтымнасці, яшчэ, каб пачуць яе адказ і пераканацца – ці “саспела”, ці не будзе марокі з ёю далей.

– Дужа падабаецца. Утульненька...

Голас быў той, які і хацелася, які сведчыў пра тое, што госця даўно ведала, што яе чакае ў гэты вечар і ноч. Рука легла на яе голае плячо. Адчуў, як яна ўздрыгнула, стала часцей дыхаць, а потым як абвяла – рукі не прымала, яго не адпіхвала, слухала і чакала, што будзе далей. Потым яго пальцы расшпілілі верхнія гузічкі яе сукенкі, пасля апусціліся яшчэ ніжэй. Бюстгалтар на спіне пстрыкнуў, расшпіліўся, і ён падняў яго вышэй невялічкіх белых грудзей, асцярожна дакрануўся губамі да ружовага саска, ухапіў на ўвесь рот...

Алачка выгнулася, застагнала, бязвольна апусціла рукі.

“Ты ж даўно гатовая, а я адцягваў час, – слаба дакараў ён ужо самога сябе, даючы волю рукам, распранаючы яе пакрысе з салодкім прадчуваннем блізкасці і авалодвання ёю. – Пераспела нават, зачакалася...”

Яна спала ў яго ложку да раніцы. Дакладней, заснула толькі пад раніцу. Засынаючы, прашаптала мройна на вуха:

– Віцік, а ты са мной жэнішся?

У адказ маўчанне. Толькі ўздыхнуў, усміхаючыся, гледзячы на яе стомленую і ўлагоджаную.

– Жэнішся? Скажы, Віцік. Я цябе даўно люблю, даўно кахаю. З першага, лічы, курса, як убачыла, так і рашыла, што ты мой будзеш, толькі мой...

“Бач, як вылічыла... Як бухгалтар...”

– А як жа жонка, Алачка? У мяне ж дачка расце.

– Ну і што? І ў нас будзе. І не адна дачка, а яшчэ і сыны. Ад гэтай ночы нешта будзе. У мяне акурат залатая сярэдзінка – так што ты папаў як у яблычка...

Адчуў, як на ілбе выступіў пот. Не, гэтая дзяўчо не тыя, што прыходзілі да яго перад ёю. Тым абы ноч, і выпіць каб добра, а гэтая... Сабе на ўме – як гадзюка падпаўзла да яго, цнатлівай прыкінулася. Во ўліп... І як толькі вырвацца з яе цянётаў? І ці здолее тое зрабіць? І быў ужо не рады, што зацягнуў яе да сябе, больш таго, праклінаў сябе за бяздумнасць і неабачлівасць...

– Спі. Днём пра ўсё пагаворым.

– Добра, Віцік, добра, мужанёк мой дарагі...

Студэнтачка не жартавала, яна гаварыла праўду і ад чыстага сэрца верыла, што яно так і будзе. Яна так задумала, яна так рашыла. А што?!

3

Студэнтам прыходзілі лісты на адрас медыцынскага інстытута.

У галоўным корпусе, у фае, стаяла скрынка з ячэйкамі ў алфавітным парадку. Дзіўна, але пісьмы Алачка і Віктар бралі з адной ячэйкі пад літарай “Ш”. Яна – Шалова, ён жа – Шарамецьеў.

Граф Шарамецьеў – так жартоўна называлі яго тыя, хто ведаў яго ці хадзіў у сябрах. Яна падцікавала пісьмо жонкі да графа, узяла непрыкметна ад чужога вока, сунула ў сумачку. Пакуль пажылы дэкан Іван Піліпавіч Будзень (аказалася, што нават родны дзядзька Віктара, і што ёй вельмі імпанавала на будучае) чытаў студэнтам уводзіны да лекцыі аб аказанні неадкладнай хуткай дапамогі, яна прачытала жончын ліст.

“Дарагі Віцечка! – пісала жонка. – Чаму ж так рэдка пішаш і прыязджаеш? Мо знайшоў якую там – прыгажэйшую і маладзейшую за мяне? Жартую... У нас усё добра. Ірачка папраўілася ўжо, а то ж доўга хварэла, мы табе і не пісалі пра тое – не хацелі турбаваць, бо ў цябе ж вучоба і хваляванне можа перашкодзіць, выбіць з напружанага рытму. Бацькі твае пачуваюцца нічога, заходжу да іх амаль кожны дзень. Свякруха бадзёрая, бегае, а вось свёкар пачаў чамусьці здаваць – мусіць, хвароба даймае яго...”

– Хваробы зубоў, якія акружаюць зубы тканак, захворванні зубных радоў сустракаюцца даволі часта, – працягваў сваю лекцыю Іван Піліпавіч. – Не меней часта назіраюцца ненармальнасці развіцця сківіц (анамаліі развіцця), якія ўзнікаюць у выніку самых разнастайных прычынаў. Пасля транспартных і вытворчых пашкоджанняў, аперацый на твары і сківіцах, калі пашкоджваюцца ці выдаляюць вялікую колькасць мяккіх тканак і касці, пасля агнястрэльных раненняў не толькі маюць месца парушэння формы, але і значна пакутуе і сама функцыя...

Алачка амаль не слухала дэкана, адвярнулася да акна і думала пра сваё, будавала планы, мроіла, узважвала, планавала...

– Гэта тлумачыцца тым, што сківічная сістэма ў асноўным складаецца з касцявога шкілета і апорна-рухальнага апарата. Лячэнне паражэнняў гэтага апарата заключаецца ў прымяненні розных артапедычных апаратаў і зубных пратэзаў. Э-ээ... Распазнаванне ці вызначэнне характару пашкоджання, захворвання і складанне плана лячэння з’яўляюцца раздзелам урачэбнай дзейнасці... Э-эээ...

Алачка яшчэ раз прачытала ліст да апошняга радка, як усё роўна купалася ў чужой рэчцы сямейнага шчасця і жыцця, тым часам і сабе выбірала месца. Не зразумела толькі – кахала аўтарка ліста свайго мужа ці не. А хоць бы і кахала, то што з таго? Цяпер яна, Алачка, кахаць яго будзе. І нічога, што хлопцы заглядваліся на яе, не толькі каханне, а і сэрца прапаноўвалі ёй. Няма дурных: пакуль яны яшчэ дасягнуць сваіх вяршынь у жыцці, навучацца кахаць, як след, яна ўжо будзе на сваім Алімпе дабрабыту і шчаслівых уцех. Тут жа гатовы, спечаны, бяры яго і карыстайся, рабі з яго, што хочаш... Не любіла яна маруднасці і няпэўнасці – падавай ёй адразу і ўсё да кропелькі.

То ж трэба не так даўно паклікаў яе студэнт з суседняй групы ў кіно. Проста падышоў да яе і сказаў, што ёсць два білеты на забойны фільм. Хлопец недзе з-пад Лельчыц, апранаецца абы-як, гаворка – не зразумець, пра што гаворыць – “брукі”, “пачаму”, “жэншчыны”, “у чачэніі” – у палюбоўнікі набіваецца. Яна змерала яго з ног да галавы, абразліва, з вышыні свайго інтэлігенцкага палёту, сказанула яму:

– От тебя, дорогой, навозом еще деревенским несёт...

Той сумеўся, не рашаўся нават адказаць гэтак жа, бо не чакаў ад яе пачуць такой абразы. Пачырванеў, павярнуўся і пайшоў прэч. Дні і ночы сядзеў над канспектамі, рыхтаваўся да экзаменаў, а тут рашыў адвесці душу з дзяўчынай, не замахваючыся нават на нешта інтымнае... Напароўся. Як на міне падарваўся.

Не ведаў, а мо толькі адчуваў, што дзейнічаў закон, які падзяляў людзей на гарадскіх і вясковых. Горад пагардліва ставіўся да вёскі, пакепліваў з хлопцаў і дзяўчат, асабліва тады, калі яны ўжывалі ў размове сваю родную мову, быццам горад мацаваўся і рос на сваім асабістым грунце. Не хацеў прызнаваць шматвяковую ісціну, што “ўсе мы з хат”. І саромеліся многія, стараліся пазбаўляцца ад матчыных слоў і выразаў, таптaлі ў сабе сваё ж крэўнае, што стагоддзямі ўлівалася ў кроў і душу. Але многім і не ўдавалася “ру” змяніць на “рю”, як і іншыя спалучэнні...

Адваротны адрас на канверце яна перапісала ў сшытак для канспектаў тады, калі дэкан скончыў сваю лекцыю і клаў аркушы паперы ў сваю скураную папку. Ён на развітанне агледзеў залу, чакаючы пытанняў, але не пачуў іх, і толькі тады сышоў з кафедры...

...Пасля тае ночы Віктар Шарамецьеў да яе і не падыходзіў. Спадзяваўся: начная госця пажартавала, каб паздзекавацца з яго, адпомсціць яму за легкадумнасць. Але яна вечарам сама прыйшла да яго ў пакой. І не зважала, што Лёня Колабаў хадзіў у трусах, а Пятро Макушнікаў ляжаў амаль голы ў ложку...

– Чаго ж гэта ты, Віцечка, пазбягаеш мяне? – хітравата-лісліва рагатнула. – Мо чым правінавацілася перад табой, дык ты скажы.

Твар Віктара перакрывіўся як ад зубнога болю, схлусіў:

– Ды часу ўсё няма. Экзамены ж хутка – рыхтавацца трэба.

– Ну і што? І я рыхтуюся да экзаменаў. Дык мо я нямілай ужо стала, га? Як ты зацягнуў мяне сілком у свой ложак, абяцаючы залатыя горы, дык і забыўся, мусіць?Жанчынай зрабіў...

А Віця як лёд. Як айсберг у акіяне. Аніякай увагі на госцю. Алачка пусціла слязу. І – зноў нічога. Атрымлівалася, што яе прыроджаныя таленты

актрысы прападалі ні за грош. Яна ведала, якой дарогай трэба было ісці да сваёй мэты, калі не ўдасца цяпер яго расчуліць, тады яна пераменіць сваю тактыку.

– Не цягнуў цябе я ў ложак, не была ты ў гэтым пакоі, і ведаць цябе я не жадаў і не жадаю.

Яна кісла ўсміхнулася.

– Ну, што ж, Віцік, глядзі сам. Але пры хлопцах кажу, што вельмі пашкадуеш. А што? Заставайся вясёлы і бадзёры. Салют!

– Салют, Алачка! – адказалі хлопцы замест яго.

Ала выйшла з пакоя, але не грымнула імі, нават не зачыніла за сабой дзверы. Як усё роўна нейкі знак падала, што вось-вось вернецца...

...Праз месяц купіла білет на аўтобус, які завёз яе ў далёкі паляшуцкі гарадок Нароўлю. Без асаблівых цяжкасцяў адшукала патрэбны адрас – Чкалава, 46... Паднялася на трэці паверх, націснула на чорненькую кнопачку электрычнага званка. Дзверы прачыніла бялявая, прыгожая тварам, жанчына – гожы твар, уважлівыя акруглыя вочы, пульхныя вусны, верхні гузічак грудзей ледзьве трымаўся – яго напорыста напіналі поўныя грудзі.

“Але я ўсё роўна прыгажэй і прывабней, – нагарнулася адразу ж рэўнасць, апякла крапівой, да самага сэрца дастала. – І мае ён нахвальваў грудзі...”

– Вы да каго? – здзіўлена спытала жанчына за парогам, насцярожылася.

– Вы Эльвіра Шарамецьева?

– Я. А вы хто?

– Я – Ала Шаўлова. З медыцынскага інстытута, з таго, дзе вучыцца ваш муж. А да вас я прыехала па неадкладнай справе.

Жанчына злёгку перамянілася ў твары, адчула нейкую трывогу, найперш пра Віктара падумала:

– З мужам што здарылася? Ён жывы?

– Не хвалюйцеся, з ім усё добра, – паспяшалася адразу ж супакоіць гаспадыню няпрошаная госця, і не ведала, ці то самой пераступіць парог, ці далікатна пачакаць, калі яе запросяць пераступіць парог. – Жывы і здаровы, як конь, як певень, які не прапускае ніводнай куры...

– А вы праходзьце, даруйце мне, – спахапілася Эльвіра, адчыніла дзверы, а самую не пакідала няўцямная трывога і недаўменне, адчула нешта нядобрае, нават агіднае, калючы халадок пашыўся пад грудзі. – Тут і бацька Віктара, у госці прыйшоў да мяне.

– Гэта добра, – адобрыла Алачка ўпэўненым і павесялелым голасам – яна адразу ўхапіла сітуацыю ў свае рукі, цяпер ужо ведала дакладна, што ёй

рабіць, як ісці ў наступ: усё абарочвалася як нельга лепей, нават не так, як яна і планавала. Прайшла ў залу, дзе на канапе сядзелі хударлявы мужчына пажылога веку – у ім пазнала Віцевы рысы, і круглатварая жанчына з касой, заплеценай на спіне.

– Добры дзень вам!

– Дзень добры!

Агледзелася. Звычайная абстаноўка, якая бывае ў кожнай хаце. Кожная сям'я купляла тое, што прадавалі, што "прабівалі" ці то на гандлёвых базах, ці ў крамах. А прадавалі адно і тое ж – выбару не было ніякага. Сервант, кніжная шафа, "сценка", люстра, дыван на сцяне...

– Дык я слухаю вас, – адарвала Эльвіра госцю ад агледзін, села побач з бацькамі на канапу. – З-за нечага ж вы ехалі ў такую далеч... Прысядзьце.

Госця не спяшалася з адказам, не спяшалася і сесці, як шкадавала ўсё роўна сваю ахвяру, адцягвала тую хвілінку, калі запусціць вострыя кіпцюрыкі ў яе сэрца, пад крамяныя грудзі, якімі выхваляецца. Запусціць без жалю, без шкадавання, як не шкадуе яе Віцік, пасміхаецца і здзекуецца з яе. Адыграюцца яму яе слёзы. А ў гэтым жыцці толькі так: альбо ты, альбо цябе... А што?

– Так, сапраўды такая далеч ад Мінску, намучылася. А магла і не ехаць. Як вам сказаць, як прызнацца, з-за чаго прыехала... – Ала села на крэсла, што было прыткнута да серванта, ёмка ўселася ў ім, як мела на тое поўнае права, адначасова падбірала неабходныя і патрэбныя словы. – Аднойчы мы рахтаваліся да экзаменаў і Віктар зацягнуў мяне ў пакой, каб я яму расказала пра тэму, лекцыі па якой ён прапусціў. Ён скруціў мне рукі, паваліў на ложак і ссільнічаў, згвалтаваў...

Ала апусціла скрушна галаву, уздыхнула.

– Гэта б нічога, я стрывала б абразу, але ў мяне будзе дзіця. У нас з ім будзе дзіця. Вось я і прыехала да вас, каб расказаць, каб параіцца, што нам цяпер рабіць... Па-людску ўсё трэба зрабіць, як дыктуюць абставіны...

Эльвіра збялела, нахмурылася. Да яе ўсё яшэ не даходзіў сэнс сказанага, пачутага ёю. Жарт? Дык няўдалы. Нагавор? Дык для чаго?

– Хм... Абставіны... – заўсміхалася кісла Эльвіра, зразумеўшы недарэчнасць абставінаў. – У яго ж сям'я. І вам не сорамна было класціся з жанатым мужчынам у ложак, і потым разбіваць яго сям'ю. Вы гэтага хочаце, так?

– А што? Я не вінаватая ў гэтым.

– Хто ж вінаваты? Як можна згвалціць жанчыну ў інтэрнаце, калі вакол людзі, і ўсё чуваць, што робіцца наўкола?

Алачка прапусціла яе словы, не адрэгавала, толькі зрабіла здзіўленыя вочы і паціснула плячыма:

– Ён кляўся мне ў каханні і таму я паверыла яму. А цяпер напрошваецца такі вывад – пажыла ты, а цяпер я з ім пажыву. А што?

– Гэта ж нахабства, Алачка! Не па-чалавечы неяк. Няўжо табе няма халастых хлопцаў, свабодных, прыгожых? Я нават не веру, што ты была з ім у ложку. З некім іншым пераспала, а на Віктара дзіця хочаш павесіць?

– З іншым, Эльвіра? Спытай у яго сама. Ён усю праўду табе раскажа. Прызнаецца, нідзе не падзенецца.

Пелагея Арцёмаўна, маці Віктара, пачуўшы размову, перамянілася ў твары, папрасіла нявестку прынесці вады. Бацька яшчэ нічога не разумеў, да яго ніяк не даходзіў сэнс пачутага.

– Можна я ў вас застануся начаваць, бо я тут нікога не ведаю, – папрасіла нясмела Ала, павесялеўшы, што пераступіла парог няпэўнасці, што яна выбілася на роўную дарогу ў задуманым клопаце. Як душэўны груз з сябе скінула, палёгку адчула. А ў душы смяялася – во які канцэрт наладзіла ўсім.

– Што ж з табой паробіш, нахабства, бачу, табе не займаць, – уздыхнула Эльвіра Шарамецьева, зразумела, як звязваў Віця ёй рукі – сама найперш каму хочаш звяжа, але то ўжо дэталі, што здарылася, тое здарылася, калі яно і сапраўды адбылося...

– Сітуацыя, – заўсміхалася прыезджая студэнтка, – як з яе і выбрацца...

– З-за цябе ўсё...

“Нічога, – падумала пра сябе студэнтка, – выцерпяць адну ноч, нікуды не падзенуцца, я ўжо як-ніяк і родзічкай ім даводжуся... Свёкар і свякруха прызнаюць мяне, усё яшчэ наперадзе... А што?..”

– Ды не з-за мяне, Эльвіра. З-за яго...

4

Жонка хворага прыехала праз сорак хвілінаў. Зайшла ў кабінет, паставіла на крэсла побач з доктарам цэлафанавы пакет з бляшанкамі чырвонай ікры.

– Прывезлі? – стральнула Алачка падслепаватым вокам на каляровы пакет.

Жанчына кіўнула галавой.

– Дзякуй вялікі. Ну што, Віталь Цаплеевіч, на сёння ўсё. Паслязаўтра ў такі ж час. Потым будзем ставіць каронкі. Іх зробіць самы лепшы зубны тэхнік палiклінікі – я дамовілася ўжо з ім.

– Дзякую, Ала Антонаўна!

– І вам дзякую. Усяго добрага.

Калі яны пакінулі кабінет, Алачка адразу ж узяла пакет у рукі: у ім ляжалі чатыры бляшанкі ікры.

“Не падманула, – адзначыла пра сябе, – значыць, не скнара, таму і будуць добрыя зубы і палячу добра...”

Яна пасядзела трохі, перакінулася словам-другім з урачамі суседніх крэслаў. Іх было двое – вечна ўсім незадаволеная, і ў першую чаргу мужам-міліцыянерам Святлана Свянціцкая і пажылая, маўклівая Соф’я Піліпаўна – у акулярах, нізкарослая, хударлявая. Праз нейкі час, трошкі адпачнуўшы, Ала націснула на стале кнопачку выкліку: на табло, што вісела над дзвярыма ў калідоры, загарэлася лямпачка, высвеціла яе прозвішча.

Расчыніліся дзверы, і на парозе ўзнікла постаць пажылога, з ордэнскімі планкамі на грудзях, ветэрана вайны – з кавенькаю, з сівой галавой. Зайшоў з гордым выглядам, трымаўся з годнасцю і ўнутраным спакоем.

– Добры дзень, доктар! Мне прызначылі на чатырнаццаць, а цяпер амаль шаснаццаць. Чаму так атрымліваецца?

– У хворага быў запушчаны зуб – прыйшлося павалаводзіцца. Не магла ж я выгнаць яго з крэсла, як вы думаеце? І з вамі невядома колькі я працаваць буду. Я ж павінна абслужыць хворага, зрабіць усё, як след. Ці не так?

– Вы чакалі, калі з прэзентам вернецца жонка хворага?

Ала трымалася ўпэўнена, не спалохалася, не прасіла прабачэння.

– Чамусьці ўсім здаецца, што нам нясуць днём і ноччу прэзенты. Праходзьце, сядайце ў крэсла.

Ветэран павольна абыходзіў крэсла, а Ала зларадна падумала пра сябе: “З цябе нічога не сарвеш, гэта зразумела, але ж і атрымаеш такія зубы, што праз месяц зноў прыбяжыш, а потым зноў... Абрыдне табе бегаць і сядзець у чаканні, тады і зразумееш, што трэба для таго, каб не пакутаваць у чэргах і як займець добрыя і трывалыя зубы...”

У кабінет завітаў у белым халаце мужчына. Нахіліўся да Алы Антонаўны, шапнуў напаўголасу:

– Дзе адпачываць думаеш, жана?

Яна дзёрнула плечуком, вусны чырвоныя перакрывіла:

– Не ведаю яшчэ. Мо якую пуцёўку куплю на дзён дзесяць.

– А дзеці?

– Адзін у лагеры, другі – на месяц у Польшчу.

– Добра. З’ездзі. А потым у жніўні паедзем удвох да Чорнага мора. Добра?

Яна згодна кіўнула галавой, заўсміхалася:

– Добра, Віцік. Хачу вельмі да мора.

– Будзе табе мора.

Яна правяла позіркам свайго разведзенага мужа, нахілілася над былым палкоўнікам:

– Ну, што ў вас, шаноўны, дзе баліць?

5

Віцік з Алачкаю ў разводзе.

Гады ўжо са два. Для Алачкі той развод быў вялікай душэўнай траўмай. Колькі слёз праліла, колькі разоў сэрца рвалася на дробныя шматкі. А колькі праклёнаў ляцела ў яго адрас: “Каб ты... Нягоднік! Блядун! Калхознік! Імпатэнт!..”

Кожны выхадны Віктар Шарамецьеў з сябрамі адпраўляўся на паляванне. Калі б ён ні вяртаўся – глыбокай ноччу ці пад раніцу, яна яго адразу выпраўляла ў ванную. Здольны ён быў стаяць на нагах ці не, усё роўна яна прапускала яго праз “санпрапускнік”. Тым часам, пакуль ён плёхаўся ў гарачай з пенай вадзе, яна праводзіла крымінальную экспертызу: да міліметра вывучала яго джынсы. Асабліва шырынку. Шукала на іх сляды спермы. Яна нават прынюхвалася да джынсаў, як натрэніраваны да следу ганчак...

Аднаго разу захапілася і не разлічыла – граф заспеў яе за тым заняткам. Стаяў у паласатым халаце, распараны, стомлены, не разумеў, чаго яна чаруе над яго старымі і выцертымі джынсамі – дзіркі зашывае?

– Што ты шукаеш, золатца, у маіх штанах, што ты там хочаш знайсці, зорка мая ненаглядная? – спытаў насмешліва, нават і не падазраючы пра агіднасць яе дазнання.

Яна ўздрыгнула ад спуду, выпусціла з рук штаніну.

– Гляджу, ці не садзіў ты  блядзей сабе на калені.

– І праз штаны тое відаць?

– Відаць. Часта бачу... А што? Апошнім разам – тыдзень назад.

– То ж ты мяне марожаным і абліла, дарагая жоначка, і сама таго не заўважыла.

– Дык ты што хочаш сказаць, што я сляпая? Сляпая, так?

Алачка заводзілася. Алачка чакала сваркі і чакала, калі ж муж падштурхне сітуацыю да гэтага. Халодная вада пакрысе пачала закіпаць у душы, вось-вось выскачаць на паверхню кіпні-бурбалкі... Віця маўчаў. І тады яна бразнула талерку вобзем.

– Сляпая? Так?

– Супакойся, жонка. Мне абрыдлі твае канцэрты.

– А што? І гэта ты мне так сплочваеш за маё каханне?

Сыны прачнуліся і напалохана выглядвалі са спальні, не ведалі, каго вінаваціць у сварцы – бацька маўчаў, маці распалялася ўсё больш і больш.

Гаспадар стаяў каля халадзільніка, піў з бутэлькі кэфір. Ведаў, што са свайго пакоя слухаў іх звягу і цесць. За сваімі зарашочанымі дзвярыма ён, мусіць, натапырыў вушы і лавіў кожнае слова, гатоў быў кінуцца абараняць

дачку ад знешніх і ўнутраных ворагаў. Пэўна ж, адарваўся ад свайго малявання. Быў ён чалавекам вялікага мастацтва: капіраваў партрэты правадыроў – Леніна і Сталіна, Хрушчова і Брэжнева, Андропава і Гарбачова...

– Супакойся, прашу.

– Ты мне рот закрываеш? Ты сваім падсцілкам закрывай, а не мне...

Алачка з графінам у руцэ паднялася з табурэта, пайшла ў калідор. Адчыніла дзверы і з надрывам закрычала на ўвесь пад’езд:

– Блядзям сваім указвай, а не мне! Ясна табе, калхознік?

Графін дрызнуўся аб цёмна-зялёную сцяну, разляцеўся на дробныя аскалёпкі разам з пырскамі вады – на пляцоўцы адразу ўтварылася лужына.

Расчыніліся адныя дзверы, другія. Людзі прачнуліся, здзіўлена выглядвалі з прачыненых дзвярэй, не разумелі, што адбывалася. Сусед, Міхал Аронавіч, баязліва высунуў галаву, ацэньваў абстаноўку. Убачыў, што Ала Антонаўна адна, падышоў бліжэй.

– Ала Антонаўна, што ў вас здарылася? Хто вас пакрыўдзіў? – пазяхнуў, прыкрываючы рот рукой – быў у трыко, у белай майцы, спіна зарасла чорнай шчэццю – як у малпы. – Час позні, вой-вой, людзі спяць даўно...

– Ну і няхай спяць, а мне што? Хто ім перашкаджае? А ты, жыд пархаты, чаго выпаўз? Паглядзець, як з мяне муж здзекуецца? Вунь ён стаіць, выглядвае з кухні... Стрэльба ў руках... Не хавайся, выйдзі, пакажы, які ты вылюдак...

– Ну, няхай я жыд, ну, няхай пархаты, але вам, паважаная Ала Антонаўна, пара спаць. Усе спяць. І мая дачка Рэня даўно спіць... Тры гадзіны ночы, вой-вой...

Выйшаў Віктар, узяў жонку за локаць:

– Не смяшы людзей, Алачка. Ты ператамілася на рабоце. А вы не звяртайце ўвагі, Міхал Аронавіч, і даруйце, нервы, разумееце... Пайшлі, Ала, спаць...

– Нічога, нічога, я разумею, нервы, час такі, ведаеце, вой-вой... Нічога.

Гаспадар амаль сілком зацягнуў жонку ў калідор, падаў шклянку вады.

– Супакоілася? А цяпер ідзі ў ложак. Кладзіся.

Ён адвёў яе ў спальню да дзяцей. Амаль прымусам паклаў на ложак, накрыў коўдрай. Потым выключыў святло. Сам жа доўга курыў на кухні, пускаючы дым у прачыненую фортку. Курыў у цемры, каб лепей было бачыць начное неба і зоркі. На тэлевежы завісла поўня і ніяк не магла адчапіцца ад яе металічных карункаў. Калі глядзеў на яе, прыходзіла нейкае супакаенне. Але пальцы зноў і зноў сціскалі чарговую цыгарэціну.

Дзіўна, але піць не хацелася. Мо таму, што пітва было з коптурам на паляванні – пілі да бяспамяцтва. І да жонкі не цягнула. Наадварот, нешта

адштурхоўвала ад яе. Бо і кахання на тым паляванні хапіла ўсім. Чацвёра дзяўчат аддаваліся з асалодай кожнаму, хто таго жадаў... Кожны паспрабаваў чатырох, як і кожная столькі ж. Але асалоды не помнілася – нейкае гвалтаванне самога сябе. Гэта было ўжо як нейкая помста. Жанчынам. З-за якіх Віцева жыццё рабіла непажаданыя віражы, правальвалася ў пекла...

Помсціў жа ў першую чаргу ёй, Алачцы...

...Ён тады не ведаў, што яна ездзіла да жонкі. Як і не ведаў, што чакала ад яго дзіця. Хаваўся ад яе, нават не начаваў у інтэрнаце, калі дазнаваўся, што Алачка вольная ад вучобы і будзе шукаць з ім сустрэч.

А яна і не шукала, знала: прывязала яго, як бычка на вяровачцы.

Калі стукалася вечарам у дзверы іхняга пакоя, перад ёю ўзнікаў Макуша, як яго празвалі сябры, недаўменна глядзеў на яе, чакаў пытання.

– Хлопчыкі, а Віцік дома?

Макуша адсылаў пытанне таўсматаму Калабку, які сядзеў за сталом і піў гарбату з булкай:

– Стары, ты не ведаеш, Віцечка наш дома?

Калабок доўга думаў, потым праспяваў у адказ:

– И кто его знает, где он бывает, с кем он бывает, кого обнимае-еет...

Макуша пасля таго разводзіў перад Алачкай рукамі, паціскаў плячыма:

– И кто его знает... А мо зойдзеш да нас. Мы – хлопцы мацакі, не тое, што твой граф... Слабак ён, калі ад такой дзяўчыны збягае. А мы не падвядзем цябе, слова даем...

Алачка з грукатам бразнула дзвярыма, а хлопцы заходзіліся ад смеху.

Тым часам граф Шарамецьеў ехаў дадому.

Дарогай ён склаў план, як пазбавіцца ад надакучлівай каханкі. Сведкаў, якія пацвердзілі б, што яна начавала ў яго, не было. А, значыць, з яго як з казла малака. Прыдзецца, праўда, ахвяраваць іншым...

Трэба адваліць ёй тысячу, і няхай коціцца на ўсе бакі. А тая тысяча можа быць у бацькі. Застаецца толькі прыдумаць нейкую прычыну, каб бацька без шкадавання адшпіліў для яго партманэ.

Нідзе не дзенецца, уважыць, толькі трэба з толкам правесці з ім падрыхтоўча-ідэалагічную працу.

Жонка сустрэла ласкава і ветліва, нават і задужа, як падалося яму. Пасадзіла за стол, чарку нават наліла, накарміла, шчыра здзівілася:

– А чаго ж ты, каханы мой, адненькі прыехаў?

Паглядзеў з недаўменнем на яе:

– А з кім жа яшчэ павінен быў прыехаць? Сяброў не запрашаў, – ён глядзеў на яе пяшчотна і замілавана – выглядала яна прывабна, прыцягвала

да сябе, што і не кажы, прыгожая яна ў яго, і паказаць сябе ўмела. А дачушка якая! Кветачка, прыгажунька! Во дзе сапраўды ўцеха і шчасце!

– Як гэта – з кім? А з Алачкай?

У яе голасе ні крыўды, ні злосці, адно пасміханне. Яна як бы ўдала жартавала, і ўся размова не кранала сэрца. Гаварыла як з чужым, гаварыла, як здзекавалася, як помсціла сваёй дабрынёй і добрым настроем, сваёй жаночай даверлівасцю.

– З якой Алачкай? Хто табе наплёў такой лухты?

– Лухты? Яна сама і напляла... З'явілася раптоўна і заявіла, што спіць з табой даўно, што стала тваёй жонкай. Яшчэ сказала, што дзіцёнка чакае ад цябе, якое зачалі ў тваім жа пакоі. Ці не так?

Віктар нахмурыўся, твар запунсавеў, у голасе дрыготка:

– Хлусня! І ты паверыла гэтай аферыстцы? Гэтай блудніцы?

– І тое хлусня, што вадзіў у пакой не толькі яе? І прозвішчы яна называла ўсіх – Шклярэнка, Дубасава, Цяплакова, Гаркавая... Усіх я не запомніла, бо і пальцаў на руках не хопіць. А цябе, як яна прызналася, на гора сваё пакахала, і паабяцала, што такога, роднага і каханага, нікому не аддасць. Нават мне. Заявіла з усмешачкай, пры бацьках тваіх так і заявіла: "Ты з ім пажыла, нацешылася, а цяпер і мне трэба такога шчасця паспытаць..."

Ён яшчэ ніжэй апусціў галаву.

"Вось як яно ўсё павярнулася, – скрыгатаў ён зубамі. – Во сучка, во вядзьмарка..."

Напачатку думаў аблашчыць жонку, зацягнуць яе ў ложак і ў парыве экстазу нагаварыць ёй мільён пяшчотных слоў, тым самым адкінуць ад сябе ўсялякія падазрэнні і абвінавачанні... Такое памагала раней, калі ён у нечым правінавачваўся, калі падазравала яго ў здрадзе. Цяпер жа яго "каронны нумар" даў збой, страціў сілу і прыцягальнасць, таямнічую чароўнасць. Пра тое сведчыў голас жонкі, тэмбр яго голасу, ноткі агіды да яго і абыякавасці.

– Што цяпер? – ён з вялікай цяжкасцю выціснуў з сябе пытанне, адчуў, як узмакрэла ад хвалявання галава і дробненькія кроплі каціліся са шчок і капалі з падбароддзя...

Заўсёды, калі хваляваўся і баяўся нечаканай бяды, ён макрэў, абліваўся потам – у дадатак да ўсяго быў яшчэ і баязлівы, нерашучы.

Жонка адпіла глыток кавы, спакойна адказала:

– Тое, што і павінна быць. Я падаю на развод. Прычына ўважлівая. Суддзя, я думаю, доўга пытаннямі надакучваць не будзе. Ды і Алачка пацвердзіць на судзе, што яна маці твайго будучага дзіцяці...

Віктар выдыхнуў праз нос паветра, вінавата праказаў:

– Эльвіра, не ўсё тут так, як ты думаеш. Давай спакойна разбярэмся ва ўсім – я не хачу губляць цябе, маю дачушку: даражэй за вас у мяне нікога няма ў свеце. Ці мала якая аферыстка будзе патрабаваць, каб я стаў яе мужам. Даруй мне, Эльвіра, даруй, каханая! Давай спакойна ўзважым усё і абмяркуем, як нам выйсці з гэтай бяды.

Яна паднялася з-за стала, надрыўным голасам папыталася:

– Дык ты спаў з ёю ці не?! Прызнайся, хоць тут не крыві душой, як ты ўсё жыццё крывіў і падманьваў мяне.

– Эльвіра, дарагая, як табе сказаць...

– Значыць, было, значыць ты здрадзіў мне.

– Я не хацеў, павер...

– Цяпер ты вольная птушка, крылы ёсць – ляці, куды хочаш і з кім хочаш, – прапусціла жонка яго словы міма вушэй, як і не казаў ён іх, яшчэ раз даказваючы, што яна рашылася на ўсё, што для яе стала ўсё зразумела і яна не думае з ім нічога ні вырашаць, ні ўзгадняць. – Слёз не будзе. Істэрык таксама. Ні гора, ні скрухі. Я адчуваю нават аблягчэнне. Бо ведаю, колькі ваўка ні кармі, ён усё роўна мерыцца ў лес збегчы. Усё рашылася само сабой. Думаю, што сварак не будзе, як і папрокаў, з-за дачкі таксама спрачацца не будзем. Святланка са мною будзе. Табе ж аддаваць на выхаванне – значыць, загубіць яе.

Ён устаў з крэсла, стаў побач з ёю.

– Эльвіра, яшчэ раз прашу – падумай, не прымай так блізка да душы тое, што здарылася. Так, я памыліўся трохі, так, паслізнуўся, памажы мне выбрацца з гэтай ямы...

– Памажы? Віця, я ж ездзіла ў Мінск, ты таго і не ведаў. Да таго яшчэ, як была тут Алачка. Каб пераканацца ў сваіх прадчуваннях і снах. Вужакі мне сніліся, што віліся вакол цябе. Кажынную ноч сніліся. Не вытрымала, паехала. Тры вечары хадзіла каля твайго інтэрната, з пад’езда дома, што блізка ад вас, бачыла твой пакой. Ты яго і не занавешваў нават. Бачыла, каго ты прыводзіў да сябе, колькі прыходзіла дзяўчат да вас, як вы ўсе распраналіся, а потым тушылі святло... І аднаго вечара не вытрымала. Калі ты патушыў святло, уклаўшыся з чарговай каханкай у ложак, папусціла камянюку ў тваё акно. Брыдка, ведаю, але як я магла табе даказаць, што я і без Алачкі ўсё ведала...

“Кругом вінаваты, – з горыччу падумаў Віктар, адчуваючы і ведаючы, што спалены ўсе масты, спадзяванні і думкі пакінулі яго, і цяпер нельга нічога зрабіць, нельга нічога перайначыць, – і віну маю даказала, як следчы, як пракурор... Можна лічыць цяпер, што пастаўлена кропка, кропка вялікая і апошняя. Яе, Эльвіру, цяпер нічым нельга пераканаць, слоў такіх няма, каб кранулі яе сэрца і душу...”

Граф маўчаў. Не апраўдваўся больш, не ўпрошваў адумацца. Расла толькі неймаверная злосць на Алачку. Забіць яе мала... Ён нават і не падазраваў у ёй такія здольнасці. А была ж такой непрыкметнай, слабай, рахманай, не паказваючы да пары да часу свае кіпцюрыкі. А брала ўчэпіста і мёртва. Але не будзе па-ейнаму, не будзе. Ён і інстытут кіне, але не паддасца на яе дамаганні і шантаж.

Вось толькі параіцца трэба з дэканам, родным дзядзькам – бацькавым братам – мо што падкажа, мо чаму навучыць. Алачцы не пакіне ніякага паратунку, ён ёй не даруе абразы да самае смерці. Алачка – гадзюка, што ўпаўзла ў яго сэрца, у яго сям'ю. Што, ёй мала халастых? Бач, прыкінулася цнатлівай авечкай...

Чаго яна выбрала менавіта яго? Ды яшчэ ў мужы. Які ў гэтым рэзон і сэнс? Мужык з элементамі, як воз без кола... А, можа, як кажуць, гатовенькі, ва ўпаковачцы... Не, у гэтым нешта ёсць, нейкая загадка-рэбус, якую пакуль што разгадаць немагчыма...

...У той жа дзень, як граф размаўляў са сваёй жонкай, зразумеўшы, што сямейны карабель Шарамецьева пайшоў на дно і яго нічым нельга выцягнуць з той глыбіні, Алачка пераступіла парог дэкана факультэта.

– Добры дзень, Іван Піліпавіч! Ці можна да вас?

Дэкан неахвотна адарваўся ад сваіх папер, паверх акуляраў зірнуў на наведвальніцу.

"Падобны на свайго брата, – падумала студэнтка, – толькі старэй трохі..."

– Заходзьце... Праўда, у мяне часу бракуе – ісці пара на калёквіум.

Іван Піліпавіч зняў акуляры з мясістага носа, пацёр стомленыя вочы, пільна паглядзеў на наведвальніцу, што села ўжо насупраць – з другога боку стала. Яна нервова ламала пальцы, не ведала, з чаго пачаць размову.

– Ну, што ў вас? Як вашае прозвішча?

– Шаўлова я, Ала Шаўлова. З лячэбнага аддзялення. Тут такая далікатная і інтымная справа... Мяне згвалтаваў студэнт. З нашага ж курса. Заманіў у свой пакой пад выглядам падрыхтоўкі да экзаменаў і згвалтаваў. І цяпер я цяжарная... Не ведаю, што рабіць.

У дэкана напружыўся твар. Да яго прыходзілі такія студэнткі, якіх чамусьці гвалтавалі, заманьваючы ў пакой. І гэтую ж таксама згвалтавалі – па яе ж ініцыятыве. На твары тое напісана. Іван Піліпавіч беспамылкова навучыўся распазнаваць людзей па голасе, па рухах, па вачах – люстэрку душы – таму мог адрозніць ману ад праўды.

– Цяжкі выпадак, – згадзіўся дэкан, чапляючы зноў акуляры на загарэлы нос. – Вельмі цяжкі, далажу я вам, шаноўная студэнтка Ала. У вашым пакоі?

– Не, – крутанула яна адмоўна галавой, ад чаго пасмачка кос прыкрыла правае вока, і яна даланёй адкінула яе за вуха, – ён прапанаваў, каб я дапамагла яму разабрацца з канспектамі.

– І звязаў вас? Ці апаіў чым, падсыпаўшы сонны парашок? Як?..

– Ды не. Ён даў часопіс... ну, той, што галяком сфатаграфаваны... І каву пілі з каньяком...

– А-а, – дэкан зразумела паківаў галавой. – І хто ж ён, той нягоднік, што каньяком дзяўчат спойвае?

Яна нерашуча апусціла галаву, амаль прашаптала:

– Віктар... Віктар Шарамецьеў.

– Хто?! – дэкан аж прыўзняўся, не паверыў пачутаму. – Віктар? Дык ён жа жанаты? Як вы маглі?

– Я ж тлумачу – заманіў, згвалціў... Я ж не хацела гэтага. Хлопцы вунь набіваюцца, жаніцца хочуць са мной, а ён прыстаў – памажы з канспектамі... Мне ж вучыцца трэба – які замуж, а тут...

Яна ўсхліпнула, насоўкай пачала выціраць слёзы, апусціла галаву. Іван Піліпавіч устаў з-за стала, пайшоў да акна. Глядзеў скрозь шыбы на вершаліну тапаляў. Алачка ведала цяпер, як далей весці размоу. Яна і не чакала іншай рэакцыі ад роднага дзядзькі Віктара. Яна да драбніц разлічыла ўсё правільна і метадычна. Сцэнарый удаўся на славу. Цяпер далей асечкі ўжо не магло быць ніякай. Яна ўдала масціла сабе дарогу ў будучыню. Да свайго шчасця праз балота жыцця яна ішла напралом, не замачыўшы нават ногі ў балотнай твані...

“І нікуды вы, родненькія, не падзенецеся... Прыдзецца, ой прыйдзецца вам прымаць мяне ў сваю сям’ю. І тады ты, дэкан, пень стары, прызнаеш з цягам часу мяне жонкай графа, што паробіш – се ля ві, як кажуць французікі. Так што я стану графіняй, стану!..”

Не паварочваючыся да яе, глуха прамовіў:

– Ідзіце. Разбярэмся з ім...

“Во-во, разбірайцеся і разбярыцеся, – усміхулася Алачка, – мне няма калі, мяне клопаты чакаюць...”

Яна асцярожна прычыніла за сабою дзверы.

...Калі ж Алачка праз колькі дзён пастукалася ў іх пакой, дзверы адчыніў граф.

– Добры дзень, Віцік! Чаго ж пазбягаеш мяне? Няўжо разлюбіў?

Замест адказу граф з усяго размаху заляпіў ёй аплявуху. Яна адляцела ад яго на некалькі крокаў і стукнулася аб сцяну. Упала і ўдарылася галавой аб выступ дзвярэй – адразу ж закаціла пад лоб вочы, знепрытомнела.

Праз колькі хвілінаў яе забрала “хуткая дапамога”.

Граф не суправаджаў Алачку – пакрыўдзіўся і ўзлаваўся на яе.

Адтуль ужо, праз колькі дзён, сяброўкамі перадала канверт з кароткім пасланнем дэкану:

“... калі ж ваш студэнт Шарамецьеў яшчэ будзе ўпарціцца, я падаю на яго ў суд. У першую чаргу пішу заяву ў міліцыю, каб пераканаліся, якія мне нанесены маім будучым і цяперашнім мужам пабоі. Сатрасенне мозгу – такі дыягназ у мяне. Тое пацвердзяць медыкі. А тое, што ён ударыў мяне, бачылі студэнты, яны выступяць у якасці сведкаў. Так што выбірайце...”

Граф ад бяссілля скрыгатаў зубамі, калі дэкан паклаў перад ім допіс Алачкі.

– Ну, што, пляменнічак-стаеннічак, даскакаўся? – свідраваў ён злым позіркам графа праз шкельцы акуляраў. – Сорам які, ганьба... Быў бы бацькам, збіў бы цябе на горкі яблык...

Віктар маўчаў, глытаючы маўкліва пякучы папрок свайго дзядзькі.

Да яго пакрысе даходзіла ўсведамленне свайго безвыходнага становішча. Тупіковага становішча.

– Калі ж міліцыя і суд уключацца ў гэта, то табе не толькі не відаць дыплома ўрача, а і зноў за кратамі можаш апынуцца, – падвёў вынік размовы дэкан.

– Дык што, выходзіць, здавацца ў палон гэтай аферыстцы? – раздражнёна спытаў будучы дантыст.

– Ты заварыў гэтую кашу, табе яе і расхлёбваць. Тут табе ніхто не дапаможа, не пасобіць. Я – таксама.

– Я кіну інстытут, але не жанюся з ёй, з гэтай сцервай...

– Давай, давай, кідай... Тады і ў турме апынешся. Другі раз. Алачка ведае, што робіць. Яна, як агент ЦРУ, перад тым, як легчы з табой у ложак, усе даведкі пра цябе навяла. Пастку расставіла яна прафесіянальна. І папаўся ты, як сом у сак.

Граф абхапіў галаву рукамі.

– Шарамецьеў, у карцар! – пачуўся за спінай патрабавальны голас, і Віктар уздрыгнуў, завыў, як воўк, пускаючы слязу, біўся галавой аб сценку. – Карцар па табе плача!

– М-ммм, м-ммм... – мычэў ён з заплюшчанымі вачыма, хістаючыся з боку на бок.

– Давай, давай, – падахвочваў дэкан, – мо дурное выб’еш са сваёй галавы... От кабан ненаедны. Як цяпер мне брату ў вочы глядзець, бацьку твайму?

6

Калі яшчэ ў сям'і было неяк па-добраму, Віця з Алай жылі ў двухпакаёўцы, непадалёк ад рэчкі, на самым, можна сказаць, яе беразе. Алін бацька, Антон Сідаравіч, адстаўнік, былы лётчык, выхоўваў сваю дачку са сваёй другой жонкай – кандыдатам хімічных навук Палінай Пятроўнай, дабрачай жанчынай, якая, па сутнасці, замяніла дзвюм сёстрам родную маці.

Святлана – малодшая сястра, па характары мяккая і памяркоўная, шчырая і даверлівая. Алачка ж мела бацькаў характар і лічылася любімай дачкой. Бацька быў жорсткі і педантычны, ніякіх сантыментаў ці жартаў не прызнаваў. Гэтаму ж прывучыў і Алачку, гаварыў ёй не адзін раз:

– Ніколі не раздумвай, калі намерылася нешта зрабіць. І ніколі ні аб чым не шкадуй. Ніколі не кажы людзям праўды, бо яны заўсёды будуць зайздросціць табе... Хавай усё ў сабе і дабівайся перамогі ўсімі сродкамі... Тады цябе будуць паважаць. І – баяцца...”

Калі падраслі Сярожа і Ціма, стала цеснавата ў кватэры. Бацька неяк прапанаваў дачцэ:

– Рабі, Алачка, абмен-размен... Дзве мяняй на чатыры. І маю аднапакаёўку прыплюсуй. Шукай яшчэ адну. Колькі мне жыць яшчэ, а вам чатыры пакоі акурат спатрэбяцца.

Алачка ўвяла размову-прапанову з бацькам у вушы Віктару. Той доўга раздумваў, узважваў і прыкідваў, пагадзіўся:

– Добра. Грошай для даплаты хопіць. Зорка мая, а ты хораша з бацькам прыдумала. Паліклініка і праз сто гадоў той кватэры не выдзеліць, гэта факт, ад якога нікуды не падзенешся.

Антон Сідаравіч стварыў такія невыносныя ўмовы ў сваёй кватэры, што Паліна Пятроўна маўкліва пакінула яго. А ўклала ж у яго і дачок сваю душу і здароўе. Апошнія гады былы лётчык часцей прападаў па шпіталях, марнеў з кожным днём.

Паліна падняла на ногі лепшых сваіх сяброў-урачоў, з-пад зямлі і за вялікія грошы расстаралася дэфіцытных лекаў. І вярнула амаль з таго свету адстаўніка, паставіла на ногі.

А як акрыяў, стаў яшчэ больш невыносны. Прыдзіраўся то да аднаго, то да другога – тое яму не так, гэтае не зусім, – усё яму атручвала жыццё. Ну, проста пеклам стала жыццё. Прыйшоў аднойчы дадому, аж бачыць: няма жончынага чамадана і яе рэчаў – адзення, кніг, абутку...

“Пакінула мяне, у рэшце рэшт, – хмыкнуў задаволена, – што і патрабавалася даказаць, і чаго мне жадалася. Баба з возу – кабыле палёгка. Першым дзелам, першым дзелам самалёты, ну, а бабы, ну, а бабы, на патом...”

Але калі ўключыў тэлевізар, калі ўтаропіўся ў экран, задаволена пацягваючы з пляшкі халоднае піва, адзначыў: чаканай палёгкі не адчуў ад таго, што застаўся адзін. Ні радасці, ні горычы... Ні солана, ні соладка... Кватэра патрэбная падшукалася. На трэцім паверсе старога, але таўстасценнага дома, з вялікім калідорам, с высокай столлю, – хоць у валейбол ці футбол гуляй. Радаваліся, што не блочны, якія пачалі будаваць у горадзе, а з чырвонай цэглы. Калі ж Алачка на першых агледзінах убачыла пакоі, радасна ёкнула сэрца: “Божа, зрабі так, каб мы гэтую кватэры вымянялі сабе... Мне яна вельмі і вельмі спадабалася...”

Алачка не ўмела маліцца, але ў адказныя моманты свайго жыцця звярталася да Бога, прасіла ў Яго помачы. Адна сям’я ўсялілася ў іх двухпакаёўку, другая – пажылога веку бабуля, – заняла бацькаву кватэру. За згоду ўсяліцца не ў вельмі добрую кватэру прыйшлося даплочваць немалыя грошы. У графа Шарамецьева з гэтым не было ніякіх праблемаў...

Бацька Алачкі намеціў сабе пакойчык адразу перад уваходам, злева – каб не замінаць дачцэ з зяцем, не назаляць ім сваёй прысутнасцю. Ён зрабіў сабе металічную рашотку з сакрэтным замком – каб ніхто без яго не заглядваў у яго апартаменты. Ажурную вязь зрабіў на свой густ – у цэнтры рашоткі нешта накшталт прапелера самалёта. І крылы – справа і злева.

І ўнука да сябе падпускаў толькі аднаго – Ціму, які рос непаслухмяным і неахайным, ленаваўся да вучобы. Ён мог сарваць урок, накрычаць на настаўніцу. Яму ўсё сыходзіла з рук – калі ж быў які сігнал на паводзіны сына ў школе, Алачка тут жа ляцела да класнай з каньяком альбо французскай парфумай.

У двары дзеці баяліся кулакоў Цімы, бо біўся няшчадна і жорстка, без жалю – мог і забіць, каб не адбіралі ад яго сябры яго ахвяру. На яго нешта находзіла ў той момант, ён нават страчваў рэальнасць, не ведаў, дзе знаходзіцца, што робіць... Адчуваў нейкую жывёльную радасць у крывавай бойцы.

У тым, вядома, была заслуга бацькі. Віктар не раз садзіў яго ў машыну і вазіў за рэчку на прасторны луг, дзе ніколі днём не было людзей. Пераапраналіся ў спартыўнае адзенне, рабілі кароткую прабежку, пасля гэтага фізкультурныя практыкаванні. Пасля ўсяго – бокс і каратэ.

Бацька казаў голасам строгага настаўніка:

– Ты, сын, будучы дыпламат. А такія людзі павінны мець не толькі бездакорны розум, а і быць вынослівымі і моцнымі. У жыцці бываюць розныя сітуацыі, калі трэба будзе абараніць сябе. Трэба штодня паводзіць сябе так, каб цябе баяліся не толькі аднагодкі, а і старэйшыя. А раз будуць баяцца, то і будуць паважаць. Заўсёды старайся, калі не мінуць бойкі, біць першы – не

давай апамятацца праціўніку, заспей яго знянацку, і перавага будзе на тваім баку, не толькі перавага, а і перамога...

Яны махалі рукамі і выкідвалі ногі, падскоквалі вышэй сябе, качаліся па лузе, зноў уставалі і кідаліся ў бой. Калі жа на сынавай спіне выступала дзесяць патоў, бацька даваў каманду:

– Досыць, будучы дыпламат! На сёння ўсё...

Ціма падаў на траву, скідваў з сябе сінюю мокрую тэніску, аддыхваўся. Ён быў непаваротлівы, са слабой рэакцыяй, і тое бацька добра бачыў. Але ўвагі на тое не звяртаў, лічыў, што галоўнае, каб сын паверыў у свае сілы, а далей усё прыкладзецца.

Прыблізна таму ж самаму вучыў і дзед:

– Ціма, я табе так скажу: калі аднагодкі баяцца тваіх кулакоў, то ты гаспадар свайго двара. Сталін мог пераламаць хрыбет любому, таму яго і паважалі, і баяліся.

– Дзеда, а пра Сталіна пішуць, што ён дэспат.

– Дурні і пішуць, – парыраваў дзед, радуючыся, што ўнук пярэчыць яму не будзе, – а каму тое выгадна, мы добра ведаем. Парадак быў у краіне, па-ра-дак! А цяпер адзін разбой і рэзрух, бардак, адным словам.

Унук памаўчаў трохі, а потым прамовіў:

– Бардак...

– Дзед, а я хачу арэхаў, – стаяў за рашоткаю ў калідоры малодшы унук, амаль усхліпваў ад зайздрасці, што дзед не частуе яго прысмакамі, як брацікa.

– А ты ў свайго бацькі папрасі, – хіхікае дзед, гладзячы Ціму па галаве, выказваючы яму сваю любоў і павагу, што слухаецца яго і шануе. – Еш, Цімка, еш, а ён няхай у свайго бацькі грубіяна-калхозніка папросіць...

Унук адыходзіў ад дзвярэй, як ад кратаў турмы, і каўтаў сліну зайздрасці. У такія хвіліны ён ненавідзеў дзеда і думаў, якую падлянку яму ўчыніць. А, можа, забіць кошку ды падкінуць яе, мёртвую, яму пад ложак?

Часта здаралася, што Алачка была не ў гуморы. Яна і кахала свайго Віціка, і раўнавала, і смерці яму жадала, і жыццё за яго аддала б. Яна чакала кожнай ночы, калі яны лягуць у ложак, калі ён пяшчотна дакранецца да яе белых грудзей. Ён згараў за нейкую хвіліну, а яна, толькі распачынала разгарацца ў тым трапяткім полымі... Граф, узмакрэлы, пакідаў яе і адварочваўся, а яна каменем падала ўніз са сваёй вышыні, куды яна ўзляцела з-за яго, але без яго, пляснулася праменька ў бруд, у гразь, у пекла...

– Што з табой?

Ён не адказваў. Віцік нічога не мог парабіць з сабой – у вачах усё стаялі яе крымінальныя даследаванні, і ўсярэдзіне ад адных думак усё абрывалася, прападала ўсялякае жаданне да пяшчоты.

Алачка ўтыкалася ў тварам падушку, калацілася ў немым плачы, адчуваючы неймаверны галаўны боль – яго нараджала няздзейсненае жаданне згарэць, спапяліцца ў полымі пажаднага жадання. І ляцелі тады ў яго адрас праклёны з яе вуснаў...

...Вечарам ён прыйшоў дадому не так і позна, але ж і не рана – а восьмай гадзіне.

– Зноў са сваімі шлюхамі час бавіў? – кідала пробны шарык жонка, чакала, стараючыся па яго голасе вызначыць – праўду кажа ці, як заўсёды, хлусіць.

– Манеты кляпаў. Пазвані ў рэгістратуру, спытай, калі я выйшаў з працы...

– І многа ж ты іх накляпаў?

Ён падышоў да стала, пачаў выварочваць кішэні. На сурвэтку ляцелі скамечаныя дваццацьпяткі, пяцідзясятныя, соценныя купюры. І расла цэлая гара банкнотаў. З усіх кішэняў павытрасаў. Яшчэ з-за запазухі выграб тры жмені... Яны, грошы, ужо ляцелі на падлогу, не ўмяшчаліся на стале.

– Гэта за дзень, Віцік? – перамяніла жонка каленкор гаворкі, у яе радасна бліснулі вочы.

– За дзень. Гэта ўсё табе, радасць мая. А ты кажаш, што я табе грошай не даю.

У Алачкі адразу ж пацяплела на сэрцы. Яна падслепавата зіркала на грашовую гару, як на кучу апалага восенню кляновага лісця, нават падышла, спаднізу ўсунула пальцы і падкінула іх над сталом – зрабіла залаты дождж і рассмяялася, падскочыла да мужа, абняла яго, расцалавала... Зноў падышла да стала, пачала ўжо складваць паперкі – адну да адной, уголас лічыла, суміравала... Голас у яе ўжо ціхі, затоены, з прыдыхам.

– Тры тысячы... І ты так можаш кожны дзень?

Віктар сеў на табурэтку, адкрыў халадзільнік, павярнуўся да яе:

– Ды не. Проста я падвёў вынікі-рахункі тыдня. Усё сабраў на адзін дзень. Выпіць у нас што-небудзь ёсць? Дзень выдаўся надта ж цяжкім, усё на нервах. Ды і абмыць багаты ўлоў не шкодзіла б, га?

Алачка была ўлагоджана, яна цяпер што хочаш аддала б мужу – што б ні пажадаў. Ён наліў сабе поўную шклянку, выпіў адным махам, не перакрывіўся. Ала паставіла на стале перад ім дзве звараныя і абсмажаныя куры, аздобленыя перцам, з цыбуляй і аджыкай. Ён з'еў адну, без перадыху, прыняўся за другую. Што-што, а паесці граф любіў – ён і па пяць курэй з'ядаў, як за сябе выкідаў. Алачка прыкідвала ўжо, на што патраціць грошы.

Ён жа думаў пра тое, ці ўдасца яму заваліцца раней у ложак, і яшчэ – каб не прыставала жонка...

7

У той вечар яны напіліся да страты памяці. Да свінячага віску, калі ўжо на тое. У іх, стаматолагаў, была такая традыцыя – збірацца раз-два ў месяц і правіць баль: піць столькі, колькі пажадае кожны, а кожны жадаў прыняць па тры, а то і па чатыры пляшкі на адно горла... Піць дык піць!.

Збіраліся, звычайна, утрох. Тры “паўторнікі”. Тыя, якія жаніліся паўторна. Мікола Абламейка, які працаваў у паліклініцы адлівальшчыкам – адліваў металічныя каронкі па тых формах, што давалі яму зубныя тэхнікі – з чырвонай пластмасы. Ён жа з іх будаваў адмысловую “елачку”, наклейваючы галінкі – адна да адной, потым усё засыпаў кварцавым пясочкам. Пасля заліваў у ствол елачкі расплаўлены метал. Калі ж метал астываў, ён аддаваў елачку назад, каб кожны тэхнік адпілоўваў алмазным дыскам “свае” зубы. Працэс складаны і адказны. Тут трэба далікатнасць і шанцаванне. Не пасняшацца, але і не празяваць.

Абламейка насіў вялізныя кучары – сівыя-сівыя. Як лютаўскі снег. Колькі разоў пад п’яную руку настаўляў у грудзі жонкі зараджаную стрэльбу, крычаў, што яна не любіць яго. І бацьку свайго адмяцеліў так, што той каля двух месяцаў правалэндаўся на бальнічным ложку – вылезла бокам, што ўступіўся за нявестку. І Зінаіда баялася яго, трывала здзекі і абразу. І так сталася, што на рабоце ён паклаў вока на танклявую, невысокага расточку, дробненькую з твару – увесь у рабацінні – Галку. “Завінціў”, як ён хваліўся потым сам, а потым і яна сама бегала ўжо за ім.

І скончылася ўсё тым, што ён прапанаваў ёй стаць жонкай.

Зінаіда, дачуўшыся пра тое, абрадавалася, уздыхнула, на абразы пераімагнулася, што нарэшце скінула з плячэй сваіх непасільны груз, паверыла, што цяпер у яе жыццё нашмат аблегчыцца і паспакайнее...

На работу пасля прыходзіў да Абламейкі хваравіты Міколка. Ён заўсёды прастужваўся, кашляў, у яго слязіліся вочы, бы плакаў. Сын нясмела таптаўся ў калідорчыку, чакаў, калі выйдзе бацька – клікаць яго сам саромеўся і не асмельваўся, баяўся, што пападзе не пад настрой і той накрычыць на яго, насварыцца, а то і адлупцуе пад п’яную руку...

– Табе што? – убачыў сына каля дзвярэй, глянуў незадаволена, не хацеў, каб малога бачылі калегі па рабоце і тым больш новая жонка.

– Добры дзень, бацька. У мяне чаравікі парваліся, а ў мамкі грошай няма іх купіць...

– То яна падаслала цябе?

– Не, я сам... Каб не адарвалася падэшва, я не прыйшоў бы...

З раззяўленай пашчы чаравіка выглядвала мокрая чорная шкарпэтка.

Бацька выняў з кашалька пакамечаны траяк, сунуў у руку. Адышоў, не бачыў, як выступілі на вачах у сына слёзы, як ён пракаўтнуў крыўду і абразу, і не мог зрушыцца з месца...

Праз колькі гадзінаў Абламейка падышоў да рабочага стала зубнога тэхніка Галі, сваёй маладой жонкі, паклаў перад ёю стосік соценных і пяцідзесятных купюр, радасна шапнуў:

– Вось, трымай. Прабяжыся па магазінах, купі сабе што-небудзь...

Яна свяцілася шчасцем – вельмі ж любіла грошы. Не проста любіла, а малілася на іх, як на Бога, хаця ж і ў Бога яна не верыла. Усё жыццё яна вымярала рублём – калі чалавек пры грашах, то з ім смела можна быць побач, адчуваць сябе як за каменнай сцяной. Калі ж не, то...

А быў жа Абламейка старэйшы за яе на дваццаць пяць гадоў. У іх з цягам часу нарадзілася дачка – Зіначка.

Другі паўторнік, ці трэці, – Гена Кухалёў. Жонка ў яго была выкладчыцай. Бацька, працуючы ў аблвыканкаме, расстараўся дачцэ кватэру – як мяняў сабе на прасторнейшую, дачцэ з зяцем пакінуў сваю. Аднойчы жонка з'ехала ў Маскву на тыдзень – па выкладчыцкіх клопатах, а Генадзь прывёў на ноч Наталлю, з якой даўно дзялілі не толькі каханне... Засталіся начаваць. А ў жонкі ў той Маскве перамяніліся планы – на два дні раней прыехала, без папярэджання. Так іх, голенькіх, і ўбачыла ў ложку, калі ўключыла святло. Яны нават і не чулі, як яна зайшла ў кватэру.

– Прэч! – загадала спакойна Наталлі.

Калі ж тая, паўголая, выскачыла на лесвічную пляцоўку, такім жа тонам загадала і яму:

– І ты таксама ідзі вон. І каб болей твая нага не пераступала гэты парог. Будзеш сустракацца з дачкой, напамінаць пра сябе, то скажу бацьку – ён управу на цябе знойдзе. Во-оон! І неадкладна!

Наталля стала другой жонкай... І, далучыўшыся да іх Маскалёў і Бісераў – Бісер Кіраў, так называлі яго, лічыліся за лепшых сяброў. Яны не належалі да "паўторнікаў". Хоць якімі хлопцы не прыходзілі ці прыпаўзалі дадому, хоць як на іх і сварыліся жонкі, пагражаючы разводам, на памыйку сваіх мужоў не выкідвалі, суседзям языкамі не мянташылі, адзін на адзін ім крыўду сваю выказвалі.

Бо кожны дзень з кішэні выглядвала ці то дваццацьпятка, ці то соценка. О, няхай хто скажа благое слова пра Нікадыма Маскалёва ці Бісера – вочы выдзеруць таму пляткару...

Дык вось – гарэлкі ў той вечар набралі столькі, што ад зямлі адарваць нельга гаспадарчую сумку. Тут талоны нельга атаварыць, а то іх і зусім няма, а хлопцы лавачку сабе адкрылі – хоць ты іх на Нобелеўскую прэмію

вылучай. Хлопцы ўжо разоў з дзесяць жаніліся. Адзін за адным. Правільней сказаць, падавалі заявы ў ЗАГС. Падгавораць дзяўчыну, купяць ёй добры падарунак або “натурай” разлічацца – той жа гарэлкай, якую выдзяляюць у спецкраме – калі ёсць запрашэнне з ЗАГСа. Сорак пляшак даюць. Хочаш каньяком бяры, хочаш – “шампанскім”. І бралі. І гудзелі то пад коркавую кананаду, то з грузінскім ці армянскім каньяком. Не жыццё, а маліна!

У магазіне загадчыца дзівілася:

– То ж, здаецца, хлопцы, вы ўжо бралі для вяселля, і не так даўно.

– То мы для сябе, а цяпер для сяброў...

Калі тая ж загадчыца спецмагазіна Клара Адамаўна больш прычапілася да іх, то прыйшлося падзяліцца і з ёю. Тады яна аціхла, уздыхнула, калыхнуўшы грудзьмі над сталом:

– Мне то што – было б запрашэнне...

Па традыцыі адзін з іх павінен быў браць гарэлку, а другі – закусь. Бралі ў рэстаране, за любы кошт. Маглі ж баляваць і ў сутарэнні паліклінікі, у той жа ліцейцы Абламейкі, зачыніўшыся. Але апошнім часам стала рабіць тое рызыкоўна – баяліся ўказа Лысага з плямінкай. Ішлі на бераг ракі. І пасля ўсяго, калі кожны выліваў у сябе па тры пляшкі гарэлкі, Абламейка сядаў на свой “Жыгуль” і гнаў яго праз увесь горад. Дзіву даваліся хлопцы, назіраючы за яго яздой – на знакі ён не глядзеў, і перакрыжоўкі праязджаў так, быццам на дарозе была толькі яго адна машына...

Пілі шклянкамі. Дзіва дзіўнае. Раней, калі было гарэлкі ўдосталь, калі стаяла яна на ўсіх паліцах і каньяк, і шампанскае, то і не пілося, а пілося, то не так, не з тым смакам... А як выйшаў той строгі гарбачоўскі ўказ па барацьбе з зялёным змiем, то народ як звар’яцеў: бралі па пяць, дзесяць і больш пляшак. А цыганы з цыганскага пасёлка дык у адзін голас адабральна заявілі:

– Мы нашаму дарагому Мішу помнік з чыстага золата паставім, а каням залатыя зубы паўстаўляем... Жылу залатую для нас адкрыў.

І яны не крывілі душой. Прадаўшчыцам пераплачвалі за гарэлку, беручы яе машынамі. Яна з базы нават не даязджала да крамы – знікала яшчэ каля варот лікёра-гарэлачнага завода. А ноччу, калі хто дапінаў да цыганоў, у каго “гарэлі каласнікі” ці была патрэба ў застоллі, тым прадавалі ўжо ўтрая даражэй. І бралі, а што паробіш... Багацеямі зрабіў іх былы генеральны антыгарэлачны сакратар, потым і першым прэзідэнтам стаў эсэсэра. Для цыганскіх мафіёзі ён застанецца ў памяці як самы лепшы чалавек на зямлі. Толькі ці ведаў ён сам пра тое, у якой быў пашане? Мусіць, не. А мо і ведаў. Які гэта эканаміст падлічыў і назваў лічбу: каля дзесяці мільярдаў рублёў асела не ў казне, а ў кішэнях спекулянтаў...

Ніхто ў свеце не здагадаўся і не здолеў так геніяльна падарваць эканоміку дзяржавы, як ён, ну, як дыверсант нейкі быў засланы цэрэушнікамі ў імперыю зла, як празваў яе амерыканскі прэзідэнт. Як вораг. Во памагатыя былі ў прэзідэнта, ведалі, як пахіснуць эканоміку і народ зняславіць на ўвесь белы свет. Відовішча з чэргамі за гарэлкай – яскравы малюнак перабудовы, распачатай вялікім рэфарматарам. Як адметная рыса выніку той неабдуманай афёры. Як доказ бязглуздасці і вар'яцтва арганізаванай утопіі адарваць чалавека ад выпіўкі. Народ не тое што адвучыўся піць – чаго ніколі за ўсё існаванне не было, а ўтрая больш пачаў ужываць яе – ці то ад горычы, ці то ад таго, што яе дастаць было немагчыма, – а, можа, і ад злосці на той указ...

Яны ўжо не пазнавалі адзін аднаго, а пытанне ў кожнага аднолькавае:

– Хлопцы, а выпіць у нас яшчэ што-небудзь засталося?

У сумцы ж пуста, палапалі, палапалі, сумку нават перавярнулі, не паверылі:

– Хто ж папіў нашую гарэлку?

– Дзе падзеліся нашы дзесяць бутэлек?

– Ты, можа, не купляў столькі?

Асалавелыя, разгарачаныя размовамі і спрэчкамі, потныя, расхрыстаныя... Чым больш наліваўся граф гарэлкай, тым больш расла ў ім унутраная злосць – яму хацелася даказаць сябрам сваю значнасць і перавагу над імі ў гэтым свеце. У яго ўжо наліліся чырванню вочы, перасохла ў горле і адзеравянеў язык, раз-пораз паскрыпвалі зубы – адметны знак нарастаючай агрэсіўнасці. Свярбелі ўжо рукі, сціскаліся ў кулакі – не цярпелася паспрабаваць іх моц на чым-небудзь твары.

Але кожны раз, калі ён ужо, здавалася, пачынаў замахвацца, каб нанесці моцны сакрушальны ўдар у сківіцу, знекуль з-за спіны даносіўся зычны голас ахоўніка Парыконава:

– Шарамецьеў! У карцэр!.. Ну-ууу!..

І ў той жа момант граф ніякавеў, і ў яго міжволі расціскаліся кулакі. Два гады, што адседзеў перад інстытутам, марна не прайшлі – навучылі шмат чаму, дадалі розуму, і, галоўнае, што ўсярэдзіне пасяліўся нейкі маленькі Парыконаў-ахоўнік: як пачынае "цягнуць на подзвігі", той жа ахоўнік адразу пачынае пагражаць карцарам... А ў карцар яму дужа не хочацца, дзеясятаму заказаў там знаходзіцца, – ледзьве вытрымліваў тое асяроддзе, быў на мяжы вар'яцтва і смерці... І апускаліся рукі ў графа, пачынаў біць ад страху калатун.

Карцар быў для самых непаслухмяных і непакорлівых. Адзін з тысячы, а мо і з дзесяці тысячаў вытрымліваў такое пекла, адзін з тысячы паміраў, траціў прытомнасць, але не прасіў літасці. Трымаўся доўга і граф. Сам з сабою пайшоў у заклад на стойкасць і вытрымку. Халодная падлога з цэменту,

і тут жа вядро з парашаю. У акенца падаюць кавалак хлеба ці халодны блін з кубкам халоднай вады. На дзень. Праз тыдзень-два ад буйнога характару не заставалася і следу. Вязень карцара быў ужо не чалавек, а паўжывая істота без думак і ўражанняў, без жаданняў і прэтэнзій...

– Шарамецьеў, у карцар!..

– Не хачу ў карцар! – крычаў граф, адмахваўся ад некага рукой, супраціўляўся. – Не хачу-ууу!

– І не трэба. Правільна! – згаджаўся Абламейка, штурхаючы пад бок графа, які скрыгатаў ужо зубамі. – Ты што, Віця, на белага каня ўскочыў? Граф, ачніся! Ну-ууу!...

– Не хачу ў карцар! Не хачу-ууу! – стаяў цвёрда на сваім Шарамецьеў, махаў рукамі.

Абламейка ўдарыў па шчацэ даланёй – каб прывесці ў свядомасць. Не памагло, ударыў другі раз – ужо мацней, з адцяжкай.

– Апомніся, граф... Што ты нясеш? Які карцар?

Страсянуў, што было сілы, за плячо – аж галава ледзьве не адарвалася.

– Табе піць шкодна. Не ўмееш, не бярыся. А ты не ўмееш, граф, піць, скажу табе ад шчырага сэрца. На белага каня сядаеш. Чапаем быць хочаш... А тое, браце, не па-нашаму, нам такое не да твару.

Нечакана граф зарагатаў, а пасля зацягнуў нізкім голасам:

– Чуть помедленнее, кони, чуть помедле-еее-ннее...

– Во, гэта ўжо іншая размова, – сеў на сваё месца Абламейка, усё яшчэ падазрона паглядваючы на графа – ён ужо прымружыў вочы і цягнуў песню, як сабака ці воўк выў на месяц...

Пападалі ў кожнага галовы на стол – адолеў кожнага жаданы сон. А граф спяваў, цягнуў на адной ноце, выказваў некаму свой боль, прасіў коней не спяшацца, а то ён не спраўляецца са сваімі клопатамі. У гэты момант можна было падумаць, што на свеце ён самы няшчасны з людзей. У графа цяклі слёзы з вачэй, ён не бачыў нічога перад сабою, не адчуваў нават, на якім ён свеце і ці жывы наогул. Больш двух радкоў песні ён не запомніў, і таму яго спеў напамінаў шыпячы патэфон з сапсаванай кружэлкай – раз за разам паўтаралася адно і тое ж. Але яго ніхто не чуў, ніхто не спачуваў яму, ад чаго было яшчэ больш невыносна і горычна...

Калі ж скончыў сваё сольнае “выступленне”, паглядзеў на хлопцаў. Катурхнуў за плячо Абламейку.

– Непарадак, Мікола, у нашай паліклініцы, непарадак, скажу табе, як сябру. Калі б я быў галоўным урачом... я навёў бы парадак. У мяне ўсе хадзілі б як па струнцы. І на работу ніхто ніколі не спазняўся б. Як штых – роўна ў сем трыццаць...

– Граф, тут ты не праў... – Абламейка шкроб галаву – нешта калючае ўблыталася ў яго сівую расліннасць, потым лапаў рукой у сумцы, шукаючы шапку. – Гэта галоўурач працуе па графіку, бо да яго прыходзяць людзі, а зубному тэхніку тое да фені – ён і так па паўтары нормы за капейкі гарбее... За капейкі, улічы. Дзяржава пра яго не думае, маўляў, хай сам выжывае...

– Трэба самому рабіць грошы. Самому. Тры скуры трэба здзіраць з пацыентаў. Хай трасуць свае панчохі. Так ці не?

– Не ўсе ж і багатыя, граф.

– Нічога, абы я таго хацеў і багацеў.  От скарэй бы дэпутаты прынялі закон аб прыватызацыі – купіў бы я нашую паліклініку з вантробамі разам. А галоўны ўрач у цябе быў бы старшым па замесу гіпсу... Га-га-га... Хы-хы...

– А грошай, граф, у цябе хопіць выкупіць паліклініку?

Віця крутануў галавой:

– Хопіць і цябе купіць. Я ўзяў бы “Мерсэдэс”, каб не было падазрэння на маю працу. Куплю пазней, як усё праясніцца. А яно цікава павінна праясніцца. Выпіць у нас яшчэ ёсць?

Абламейка лыпнуў паўсоннымі вачыма:

– Узялі мала, блін. Не разлічылі. Трэба браць не па тры на нос, а па пяць – тады будзе акурат. Улічым на наступны раз, абмылачка выйшла. Ну, а цяпер разбягацца трэба – лавіць таксі будзем. На таксі ў нас ёсць грошы?

– Мг... Ёсць. Давай будзіць хлопцаў. Бо я сам вось-вось засну.

– Нельга нам спаць тут. Позна ўжо. Ты пасядзі, а я пайду злаўлю таксі.

Вярнуўся ён праз хвілінаў дзесяць. Упала і буйная Віцева галава на стол. На недаедзены селядзец. Проста носам у нос. І снілася графу мора, і што ён плавае на рыбацкім сейнеры і ловіць селядцы. Івасі. З крыламі пазалочанымі па баках. Ловіць і кладзе ў цэлафанавыя пакеты. З вінным соусам. Прыемны сон, прачынацца не хочацца. Ледзьве зразумеў, што ад яго Абламейка хоча, чаму цягне на сабе на вуліцу, мацюгаецца за слабасць графа. Гэтак жа перацягаў на сабе і астатніх... І здолеў падагнаць яшчэ для іх “калымагу”...

Ніхто з хлопцаў не супраціўляўся.

8

Алачка яшчэ не спала, корпалася на кухні: даварвала вішнёвае варэнне.

Другая гадзіна ночы.

Граф усунуўся ў дзверы пасля трох гадзін. Спрабаваў нешта сказаць, але не слухаўся язык.

– Пайшлі дабавім – у мяне ў халадзільніку каньяк ёсць.

Але Абламейка хуценька шуснуў у дзверы, выскачыў на лесвічную пляцоўку, баючыся паказацца на вочы Алачцы, пабег уніз. Граф стаяў у праёміне дзвярэй, абапёршыся плечуком у вушак другіх дзвярэй – раздумваў, што рабіць: ісці на кухню і наліць шклянку каньяку, ці ісці і адразу боўтнуцца ў ложак.

– О, Божа, зноў намазаўся да ўсрачкі! – узарвалася адразу жонка, убачыўшы яго такога, счырванела ўся да каранёў косаў, прагнала адразу ад сябе цёплы паўсон – распэтланая, у блакітнай камбінашцы.

– Ціха, бо заб'ю, – крутануў ён галавой, не расплюшчваючы вачэй. – Мяне нельга чапаць у такім стане. Сам ведаеш... Я ў карцар не хачу...

– Каб цябе ўжо... – выдыхнула з сябе словы, але прадаўжаць не асмелілася, прыслухалася да пагрозы Віціка.

Ён палез па кішэнях, пачаў выкідваць з іх грошы. Яны ўжо валяліся пад нагамі, як ашмоцце старых газет, па якіх прайшоўся асенні дождж, змыў з іх бруд і пылоту, а вецер высушыў – грошы шамацелі пад нагамі, як пружынілі.

– Тваю маць, – скрыгатнуў зубамі граф, не разбіраючы, куды яму ісці і што рабіць. – Дай выпіць.

– Ідзі спаць. Ты сваё сёння адпіў. І занадта ўжо.

Сказала ўжо лагодна, апамятаўшыся, убачыўшы “грашовую пярыну”.

Ён замахаў рукамі, паваліўся на падлогу – тварам у дыван. Крутануўся, падняўся, стаў на карачкі, выпрастаўся. Зачасаліся кулакі. Цаляў у твар Алачцы, але яна ўхілілася ад яго ўдараў.

– Шарамецьеў! Карцар па табе плача! – крыкнула строга жонка, ведаючы, якая пасля гэтага будзе рэакцыя ў мужа.

Ён скалануўся. Яшчэ ні разу жаночы голас не пагражаў яму карцэарам. Закрыўся ад яе рукамі, закрычаў голасна ад страху – аж стала чуваць, мусіць, у суседніх кватэрах:

– Не хачу ў карцэр! Не хачу-ууу!

– Ідзі спаць, зараз жа!

– Не хачу ў карцар! Не хачу, не хачу...

Алачка сілком зацягнула яго на канапу. Як толькі шчака дакранулася да падушкі, граф адключыўся – захроп гучна і з асалодай.

Пасля гэтага Алачка пачала збіраць грошы. Поўзала па падлозе – дабірала астатнія да кучы. Потым села за стол і пачала пералічваць, раскладваць іх па пачках – соценныя ўлева, пяцідзеясятныя – направа, драбязу ў асобную горку – на штодзённыя выдаткі. З пакоя выйшаў бацька. У доўгім халаце, падперазаны поясам. Паклаў руку ёй на плячо:

– Дачка, колькі так можна? Кідай яго, Ала. Ты ж маладая, прыгожая, жанчына ў росквіце, выйдзеш яшчэ замуж. Ты ж такая далікатная, а ён грубіян,

алкаголік, калхознік... На канюшні яго месца. Ці табе ён раўня? Хіба ж ён можа параўняцца з табою – інтэлігенткай?

Алачка маўчала. Думала пра сваё.

Бацька ўбачыў на стале гару грошай, здзівіўся:

– Палучку прынёс?

– Што? – дачка не зразумела пытання.

– Палучку мужанёк прынёс, замочваў яе, а цяпер што палена ляжыць?

– А, гэта... І палучка, і акрамя палучкі. Навар, у нас кажуць – хейфіц.

– Так, панятна... Вось што цябе трымае. Ну, што ж, глядзі сама. Табе відней.

Алачка ўздыхнула, дакранулася да бацькавай рукі.

Глядзела ў цёмнае акно – на сваё адлюстраванне. Ёй было крыўдна і горка. Столькі мужчынскіх позіркаў яна адчувала на сабе, столькі было прапаноў правесці дзень на прыродзе... Яна ведала сабе цану. Памятала, як было соладка, калі з Фімам Берштэйнам яны закруцілі любоў, калі злучаліся прама на рабочым стале, калі яна нечакана зацяжарала і прыйшлося тайна рабіць аборт... Фіма, зубны тэхнік, тады абставіў усё, здаецца, як мае быць, але граф, мусіць, нешта адчуў, бо адразу ж запатрабаваў, каб яна перавялася з прыгараднай паліклінікі ў гарадскую...

Фіма быў шчодры на дзіва. Прадаў Алачцы залатыя пласцінкі, з якіх вырабляліся залатыя каронкі. Граф з іх, як пусціў у справу, і купіў першую машыну... З Фімам даўно ўжо нічога няма, выветрылася, але такі ж забаронены плод мроіўся ў яе хваравіта-інтымным уяўленні будучага, яшчэ нязведанага напоўніцу, кахання. І – шчасця.

“А што? Можа ўзяць ды паслухацца бацьку? Навошта так пакутаваць без кахання? А што?!”

З палявання ён прыехаў, як звычайна, позна. У суботу. Настраляў рабчыкаў. Аж дзесяць штук. Граф быў вельмі п’яны, жартаваў.

– Добра папалявалі ўчора. І сёння нічога. Абламейка дзве качкі падстрэліў. На другім возеры быў.

– Зраблю добрую вячэру, – паабяцала жонка. – Кідай у таз, ідзі мыйся...

Пачысціў стрэльбу, схаваў на антрэсолях: хаваў ад сыноў, каб чаго не ўтварылі. Не ведаў, што старэйшы даўно ўжо прыцэльваўся з акна на прахожых. І ў акно настаўніцы, якая жыла праз дарогу, якую неўзлюбіў за тое, што не ставіла яму высокіх адзнак і на хаўрусы з маці не ішла – каньякі і французскія духі не брала.

Ала абдала кіпнем рабчыкаў, з іх вельмі лёгка абдзёрла пер’е. Выпатрашыла вантробы, якія Віктар тут жа вынес на сметнік.

У нядзелю ў Алачкі быў дзень нараджэння. З рабчыкаў зрабіла выдатнае смажанае – з цыбуляй, аджыкай, living рознымі іншымі спецыямі і прыправамі. Паклікала сваіх знаёмых і сяброў.

Віктар пры ўсіх цалаваў жонку, гаварыў прачула і пранікнёна:

– Вып’ем, дарагія госці, за самую прыгожую жанчыну – маю палавіну, якую я люблю ўсё больш і больш. І ўдзень яе нараджэння я дару ёй пярсцёнак з брыльянтам...

Калі ён узяў яе за руку і надзеў на палец пярсцёнак, у Алачкі загарэліся шчасцем вочы, адразу ж ацаніла сюрпрыз – брыльянт цягнуў на тысяч пяць, не меней... Госці зaапладзіравалі, як быццам гаспадар здзейсніў гераічны ўчынак ці сказаў з трыбуны цыцэронаўскую прамову. У імянніціцы зашчымела сэрца ад радасці. З замілаваннем глядзела на мужа, верыла кожнаму слову, што ён прамовіў. Серж і Ціма пабіліся за сталом, не могучы падзяліць між сабою сцягенца рабчыка. Сяргей з асалодай джвагнуў брату пад вока кулаком, і той зароў на ўсю хату – з раскрытага роту тырчэла смажаніна...

Не хутка іх супакоіла маці, адправіўшы ў спальню.

Бацька Алы панура глядзеў у талерку, не ведаў, як паводзіць сябе сярод гасцей. Бо і дачка папярэдзіла, каб ён нічога не гаварыў, не выступаў, а толькі маўчаў. Баялася за яго, каб не сказануў бязглуздзіцу, з-за чаго было б ёй сорамна за свайго бацьку.

На стале стаялі бутэлькі каньяку, у місах – чорная і чырвоная ікра, балык, бужаніна і пастрама, – усё акуратна раскладзена па талерачках. Госці елі асцярожна, як баяліся паказаць, што яны галодныя. Налівалі яшчэ і яшчэ. Граф гарэлкі і каньяку не шкадаваў, радаваўся, калі выпівалі да дна. За сталом сядзелі паважаныя людзі, ад улады і медыцыны, паважныя і строгія. Шарамецьеў чакаў таго моманту, калі яны пераступяць бар’ер цвярозасці, калі ўдарыць у галаву гарэлка, калі яны скінуць з сябе паляндру пыхлівасці і сур’ёзнасці, калі пачнуць балаболіць, наліваць ужо самі сабе, калі асалавеюць і будуць несці глупства, дурэць, выварочваць сябе навыварат, стануць тымі, кім яны і ёсць на самай справе... Яму хацелася, каб яны напіліся ўдосталь, каб нырнулі п’яныя пад стол... Тады яны зраўняюцца з ім, ці ён зраўняецца з імі... І тады яны будуць усе падобны на тых, каго нарадзіла савецкая сістэма, – з іх заганамі і душэўнымі хваробамі, з мужланскімі паводзінамі, з рысамі зайздрасці і хціўвасці, ганарыстасці і духоўнай беднасці... Падахвочваў, да кожнага падыходзіў, амаль прымушаў наліваць з коптурам, ведаючы, што і яны самі таго ж жадаюць, сам, пры іх, выпіваў да дна...

Пра развод, да якога схіляў бацька, Алачка забылася.

Бляск брыльянта і горка грошай, якая бачылася і мроілася ў заўтрашнім і паслязаўтрашнім дні, перанесла ўсё тое на далей, на невызначальны тэрмін.

Граф піў і піў. Піў, але не п’янеў.

Алачка весялела ўсё больш і больш. І ружова-мройны туман супакойваў яе сэрца, усяляў добрыя надзеі...

Галоўны ўрач паліклінікі Іван Зуй паклаў тэлефонную слухаўку і ўздыхнуў. Ён гатовы быў разбіць тэлефонны апарат, які прыносіць столькі непрыемнасцяў. Сядзіш сабе спакойны, успамінаеш, як учора частаваліся і ладзілі застолле, салодкая стома ахутвала ўсё цела, спявала душа ад узнёсласці, ад чаго хацелася спяваць, а тут... Дзынь-дзынь, ало, з абкама партыі, загадчык аддзела, што курыруе медыцыну, назваў прозвішча жанчыны, а ён, Іван Мінавіч, павінен сустрэць яе ветліва і задаволіць яе просьбу...

Што такое “задаволіць”, Зуй ведае. Жанчына – альбо родзічка абкамаўца, альбо палюбоўніца, і ёй трэба паставіць залатыя каронкі. Калі ж запісваліся паўгода таму на чаргу, то каля паліклінікі была наладжана варфаламееўская ноч – дзяжурылі людзі ноччу, каля парога, да самай раніцы, стоячы на вуліцы. Хто іх папярэдзіў пра тое, даўмецца не мог – сам жа, здаецца, анікому і словам не заікнуўся... Разведка працуе. Мусіць жа, цэрэу стала пра тое вядома.

У абкаме ёсць свая паліклініка, спецыяльная, дзе лечаць эліту. Цяперашніх і колішніх партыйцаў. Там насустрач выбежыць занадта ліслівая дакторка, сагнецца ў тры дугі, дзяжурную ўсмешку састроіць, ласкава запросіць Анатоля Аляксандравіча ці Міхаіла Сяргеевіча ў кабінет. Усадзіць у крэсла, будзе распытваць, як здароўе, як “стул”, які апетыт, як...

У звычайнай паліклініцы гадзінамі людзі чакаюць прыёму, а тут прымаюць без чаргі, якой ніколі і няма, і бальнічны выпішуць на столькі дзён, колькі скажаш... А ў звычайную, савецка-айчынную, прыпаўзі на карачках, і табе не павераць, што ты хворы, скажуць яшчэ, што ты сімулянт...

Калі Зуя прызначылі галоўным, яго асабліва не ўразіла тое, што яна, паліклініка, была падобна на нейкую канюшню, і нават не нагадвала медыцынскую ўстанову. Ёю ніхто не займаўся, не клапаціўся пра яе аздабленне як сучасным абсталяваннем, так і медпрэпаратамі. Зуй прывык да бязладнасці і савецкай забітасці, і адчуваў ён сябе ў гэтым рэчышчы спакойна і камфортна. У сваім родным горадзе, дзе ён быў галоўным урачом, кіраўніцтва буйнога нафтагіганта не пашкадавала грошай для будаўніцтва гарадской стаматалагічнай паліклінікі. Ён, па сутнасці, і будаваў яе, прападаючы на рыштаваннях дні і ночы, пакуль будаўнікі не здалі чатырохпавярховік пад ключ.

Не кожны горад мог пахваліцца такой будынінай – і басейн, і душы, і пакойчык для адпачынку – з магнітафонам і тэлевізарамі. А рабочыя сталы!

Імпартныя бормашыны, якія свідруюць хворы зуб без болю, а айчынныя, савецкія, працуюць, як адбойныя малаткі шахцёраў. А доктару працаваць з імпартнымі інструментамі адно задавальненне.

Адзінае, што зубныя тэхнікі, як іх яшчэ называюць дантыстамі, якія выконвалі ювелірную работу, не было аніякай палёгкі – той жа "Самсон" для працяжкі гільзаў, той жа нязменны малаток, тыя ж злепкі-адбіткі з гіпсу, каляровая пластмаса, пылоту ад якой і пару, калі вараць, глытаць прыходзіцца штодня. І ніводная экалагічная служба, ніводная санстанцыя ніколі не наклала вета на шкоднасць здароўю ад кіслаты і той жа пластмасы, якія свідруюць лёгкія і пячонку...

Зуй пра ўсё ведае, але нічога змяніць не можа. Не ў яго ўладзе тое змяніць, перарабіць, ні ў сілах ягоных. Паліклініку некалі абсталявалі на першым паверсе пяціпавярховага дома – жылога дома. Зубныя тэхнікі працавалі ў адным пакоі, адзін супраць аднаго і спінай да суседа ззаду, набілася, як селядцоў у бочцы, і разам глыталі адну і тую ж кіслату і пылоту. Гармідар штодзённа... Калі ж заспрачаюцца пра нешта, ад гаманы ў кожнага баліць галава, і пасля ўжо не хочацца ні думаць, ні гаварыць. У пакойчыку, дзе на агні прапальваюць гільзы, заўсёдны бруд, разліты на падлозе бензін і кіслата... Каб дзе ў іншым гарадку прапанавалі пасаду галоўнага, не паехаў бы пад расстрэлам, думаючы, што там адсталасць і цемра, а тут жа абласны горад – прэстыжна, ганарова, а ў выніку... За год загадчык абласнога аддзела кіравання аховы здароўя Трутнеў паабяцаў памагчы з выдзяленнем кватэры. Слова стрымаў. Атрымаў Зуй два пакоі, хаця ў яго было двое дзяцей. Ён і таму рады.

Першыя ночы не браў сон. Непакоіла тое, што не ведаў, як працаваць далей – ніякай перспектывы не праглядвалася. Тое найбольш і палохала. Затое ж праблемаў і недахопаў – з коптурам...

Смешна, але не хапала бораў. Адным і тым жа зубы свідравалі дзесяткам людзей. Пайшла пагалоска пра СНІД, выказвалі дактары апасенне, што лёгка будзе так "узнагародзіць" гэтай страшнай хваробай сотні людзей, ды што сотні – цэлы горад і вобласць. Прасіў, падаў на калені – не давалі, адказвалі, што краіна бедная, няма дзе браць.

Зуй не антысеміт, але ж яго раздражняла, што паліклініка стала вотчынай Віленскіх і Файнштэйнаў. Яны ж пасля ўладкоўвалі ў паліклініку сваіх дзяцей, а потым і ўнукаў, знаёмых і родзічаў. Галоўны ў іх кагорце Ізя Файнберг. Увайшло ў правіла – калі ж прыязджаў селянін з далёкай ці блізкай вёскі ставіць звычайную металічную каронку ці лячыць зуб, то ехаў абвязкова з двума кошыкамі прысмакаў і вяндліны, бо ведаў, што не падмажаш – без зубоў вернешся дадому. Правільней, не даб'ешся нічога ў паліклініцы,

Пагалоска такая пайшла, што да іх трэба ехаць не з пустымі рукамі. А што паробіш? Хоць і сказана было ў савецкай канстытуцыі, што савецкая медыцына – самая бясплатная і гуманная, то на тое яшчэ трэба было б паглядзець. Не заплаціш дзяржаве, то аддасі Іцку...

Гэта пасля ўжо ўзялі на працу дачку работніка абкама партыі Паліну Прахарэнку. На развод узялі, як яна жартавала і смяялася. І цяпер працуе – зубным тэхнікам, да пенсіі засталося колькі гадоў. А пасля яе Веру Навінскую ўзялі. Бацька ў аблвыканкаме працаваў. У кантрольна-рэвізійнай камісіі. Ведалі, каго браць у сваю кагорту. Алена і Вера былі партыйнымі. І ганарыліся гэтым. Ого, толькі дай ім слова на партыйным сходзе – столькі нагавораць, наплятуць, што і ў мех не ўбярэш... Любілі ліць ваду, як і ўсе, хто насіў у кішэні партыйны білет...

А якія былі неахайныя прадстаўнікі іярданскай даліны! Абрам Майсеевіч ніколі не мыў рукі – калі вымаў з рота хворага пацыента каронку ці запускаў яе туды, каб пасадзіць ці зняць адбітак. Яму рабілі ўрачы заўвагу, а ён у адказ на поўным сур'ёзе: "Калі часта мыць рукі, то яны сівераюць. Яшчэ больш шкоды будзе хвораму..."

Зуй памятае, як прыязджалі і заходзілі да іх амерыканцы. Не спецыяльна там з нейкім візітам, а ў іх былі свае клопаты – вывучалі радыяцыйную абстаноўку ў вобласці на другім годзе пасля катастрофы на атамнай станцыі. У аднаго з гасцей нечакана заныў зуб. Спыталі ў Зуя, ці можна будзе палячыць. Таго хацелі адвезці ў спецпаліклініку, а амерыканец чамусьці заўпарціўся:

– Не, я хачу там палячыцца, дзе радавыя бальшавікі і просты народ лечыцца, мне б там, дзе ўсе...

Вось і на табе.... Пераступіў парог, а далейісці баіцца. Шмарганулі ўсе яго сябры носам – атрутай патыхае. Дасталі з кішэняў датчыкі зялёненькага колеру, націснулі кнопачкі, а яны і запіпікалі чырвоным агеньчыкам: "Экалагічная абстаноўка небяспечная для здароўя".

– Гэта, мусіць, склад бруду, а дзе вашая паліклініка? – дапытваўся Артур Кларк – так назваўся госць з-за акіяна.

– Вы і знаходзіцеся ў паліклініцы, – чырванеў Зуй, гатовы быў скрозь зямлю праваліцца ад сораму. – Вам тут і падлечаць зуб.

Артур здзівіўся адкрыццю. Акругліў вочы, прамовіў:

– Бальшавікі адсталі ад нас на сто гадоў. У вас жа – каменны век.

Той здзіўлены пагляд найчасцей і ўспамінаўся, і ён пакутаваў ад тых успамінаў. Адчуваў не толькі сваю нікчэмнасць, а і сваёй краіны, кіраўнікі і ідэолагі якой збіраліся пабудаваць у ёй камунізм... Сцвярджалі ў Савецкім Саюзе – у нас усё бясплатна, а ў Амерыцы трэба аддаваць за лячэнне не

адну тысячу даляраў. Амерыканец адмовіўся лячыцца нават за бясплатна. Паклаў ватку на зуб, якую змачыў у нейкім жоўтым растворы, што насіў з сабою, і боль адразу сціх.

Больш за ўсё баяўся, каб янкі не папрасіўся ў туалет. Тады ўжо сапраўды трэба было павесіцца. Туалет адзін на ўсіх – жанчын і мужчын. Ды такі вузенькі і нязручны, такі ванючы і абшарпаны, што... Яны, мусіць, здагадаліся пра астатняе. А мо і не жадалася яму ў той "кабінет", хто ведае. Галоўны ўрач ведаў, што сцены ў туалеце выпэцканы фекаліямі – выціралі аб сценку пальцы. Ведалі, чые то былі сляды. Бо і санітарка Кацярына, паддавальшчыца, але ж і працаўніца, не вытрымала, падала заяву на звальненне, прызналася:

– Мо б я і працавала ў вас, але выціраць са сцяны жыдоўскія пархі не ў маіх сілах.

Віленскі, калі яму гаварылі пра тое, даказваў, што ўжываць туалетную паперу шкодна для здароўя. І ў ізраільскіх, і ў амерыканскіх часопісах, ён быццам бы вычытаў пра тое. Як здзекваўся з іх усіх...

Зуй не мог забыць прыход амерыканца, а ў памяці ўсплываў анекдот пра старшыню калгаса, да якога таксама прыехалі амерыканцы на ферму. У райкаме партыі малады інструктар пераблытаў калгас і прывёз гасцей у самы бедны і жабрацкі, каб паказаць перадавую ферму. А старшыня не спалохаўся, не хаваўся нават, калі тыя клацалі затворамі "Ніканаў", здымалі кінакамеры, як каровы з пазападалымі бакамі ад голаду ледзьве стаялі на нагах. У калгасе было некалькі фермаў. Была і ніштаватая – на яго погляд, з механічным даеннем, чыстая і ўтульная. А ён, старшыня Міцін, знарок на горшую павёў, як развесяліць усё роўна хацеў гасцей з-за акіяна.

Вечарам па тэлефоне першы сакратар Бязлепкін уперамежку з мацюкамі пагражаў зняць з працы за тое, што ён замест перадавой фермы на горшую турыстаў павёў. Старшыня слухаў, слухаў, а потым абыякава прамовіў:

– А пускай клявешчуць, Пётр Міхайлавіч, усё роўна ім ніхто не паверыць, што ў нас горш, чым у іх. А з намі нічога не стане...

У адказ было доўгае маўчанне, а потым пачуліся кароткія гудкі.

Калі галоўны ўрач збіраўся пазваніць у абласны аддзел аховы здароўя і падняў слухаўку, каб набраць нумар, у дзверы ўвалілася старшыня мясцовага камітэта Святлана Свянціцкая – мажная, пад сукенкай калыхаліся грудзі, на высокіх ацасах. З твару строгая, голас як і ў ва ўсіх прафактывістаў – патрабавальны, зычны. Яна гэпнулася ў крэсла, і яно тоненька піснула.

– Іван Мінавіч, у нас чэпэ.

Галоўны паклаў слухаўку, паглядзеў на дакторку. Ведаў, што з ёю гаварыць трэба асцярожна, спакойна. Бо калі ёй патрапіць пад настрой, паддакнуць, то яна так разыдзецца, што і не супакоіш. Тады прыйдзецца слухаць, які кепскі ў яе муж, з кім гуляе, якія ў яе разумныя дзеці, якіх яна, лічы, і выгадавала адна.

– Нехта аддаў усю зарплату ў фонд міру?

То некалі такое граф Шарамецьеў такое ўтварыў. Сказаў, што калі галоўны ўрач лічыць яго заробак зарплатай, то ён аддае яе ў фонд міру. Смеху тады было на ўсю паліклініку. А ў райкаме партыі Зую наківалі пальцам, сказалі, што ён распусціў калектыў, а тое азначала, што ў калектыве нездаровая атмасфера, што фонд міру – арганізацыя ўплывовая і з ёю жартаваць нельга...

– Кіньце смяяцца, Іван Мінавіч. Тут не да смеху. Неабходна збіраць тэрмінова паседжанне прафсаюзнага камітэта.

– Будзем прамываць нечыя косткі?

– Будзем. І вельмі. Па ўсёй строгасці.

Іван Мінавіч у душы вылаяў сябе, што ўзяў спачатку такі тон размовы, пачасаў грудзіну. Трэба было абсекчы яе адразу і паставіць усё на месца. Свянціцкая заўсёды любіла збіраць плёткі, абгаворвала ўсіх і ўсё, хлебам не кармі, а дай носам парыцца ў чужых пасцелях.

А тут ёй і карты, так бы мовіць, у рукі – прафсаюзны дзеяч на варце павінен стаяць, строга караць за дурныя выбрыкі. Яна ж і на варце маральнага клімату ў калектыве. Усе адмаўляліся ад гэтай пасады, а яна сама напрасілася, папрасіла нават асобна кожнага, каб за яе прагаласавалі на сходзе, калі прапануюць яе кандыдатуру. Прапанавалі. Па яе ж падказцы.

І прагаласавалі – баба з воза, кабыле лягчэй. А тут наадварот – баба на воз ускочыла, як коніку быць?

Зуй тады перайшоў на строгі тон:

– Што здарылася, Святлана Віктараўна?

– Што здарылася? – схапілася жанчына за кінутую нітачку, за галоўную жылу, абрадавалася нават, што ёсць магчымасць праявіць сябе, даказаць, што яна недарэмна есць прафсаюзны хлеб. – А здарылася вельмі непрыемнае. Гэта вандалізм, далажу я вам, паважаны Іван Мінавіч, калі муж прыходзіць дадому і правярае моц сваіх кулакоў на твары жонкі. Калі кожны вечар п’яны, калі з-за палявання закінуў сям’ю і блукае невядома дзе... Вядома, канечне, дзе – да маладых бегае, бо свая прыелася...

– Хто такі? Што вы загадкамі гаворыце? Усё вакол ды каля...

– ... прыелася, а свежанькага хочацца. А яна, бедная жанчына, выбілася з сілаў, выхоўваючы дзяцей. Ды ён выконвае свае абавязкі мужа раз у два месяцы, і то хапае на тры хвіліны...

– Ты з секундамерам стаяла, Святлана Віктараўна? – галоўрач пачаў ужо налівацца злосцю, нерваваць. – Тут работы процьма, а ты прыйшла са сваімі фантазіямі...

– Пры чым тут секундамер, Іван Мінавіч? Тут справа надта сур'ёзная. І вось у прафсаюзны камітэт паліклінікі прыйшло пісьмо, у якім няшчасная жанчына просіць аказаць дапамогу ў наладжванні сямейнага жыцця.

Зуй усміхнуўся:

– Ты так дасканала і глыбока ведаеш прадмет размовы, што ў мяне закраліся сумненні – а ці не ты сама прыклала да гэтага руку? Ну, пісьмо такое скласці, га?

Твар Святланы заліўся густой бурачковай чырванню, забегалі неспакойна вочы, і яна апусціла галаву. Потым зноў уздрыгнула, каб паправіць прычоску, як конь грыву, працягвала ўладарна:

– Я, Іван Мінавіч, на пасту прафсаюзных інтарэсаў. І падлогам не займаюся. І вам сорамна абвінавачваць мяне ў нечым недазволеным. Я павінна ўсё ведаць падрабязна перад тым, як ісці да вас.

– Можа і так. Але я ведаю, што ты памагала пісаць такія пісьмы. І пры тым з ахвотаю. Але я не пра тое. Хто ж такі той вырадак і алкаголік, які ў нас завёўся? Столькі доўга гаворыш, а ўсё ў сакрэце трымаеш.

Святлана набрала ў сябе паветра, ад чаго ўзняліся да самага падбароддзя – акруглага, парослага нябачным мохам-пушком, глянула ва ўпор на галоўнага – як расстрэльвала позіркам.

– Гэта ўрач-пратэзіст Віктар Шарамецьеў!

Галоўны хмыкнуў, перакрывіўся тварам, заўсміхаўся. Зразумеў усё, бо ведаў пра ўсё тое, як і ведаў, адкуль растуць ногі ў гэтай гісторыі, і які тут мела інтарэс прафсаюзная дзяячка.

– І Ала здагадалася напісаць тое пісьмо, скаргу? Слова ў слова?

– Сама. Аддала мне ў слязах, папрасіла даць ход.

– Сама? З рук у рукі? І ты яе не схіляла да гэтага? Не абяцала ў сваім кабінеце, што прафсаюз можа паставіць яго на месца?

Зноў выступіла чырвань на твары жанчыны. Зуй добра ведаў пляткарскі характар і Святланы, і яе сябровак. Бо сам жа не раз піў з тым жа Шарамецьевым, Абламейкам. У Абламейкі быў нават за кума – хросным бацькам дачкі. Хаця, праўда, па п'янцы ўсё выйшла, нечакана.

– Іван Мінавіч, а вось пра тое вы ў яе самі і спытайце.

– І спытаю. Пакліч. Толькі пакінь мне паперы. Каб я ёй іх паказаў. І – толькі без цябе.

– Пажалуйста, – прафарг крутанула азадкам, як усё роўна спакушала галоўнага, паднялася, і крэсла зноў незадаволена піснула, што яго патрыво-

жылі і такі груз узвалілі на яго. Свянціцкая паклала на стол паперы, спісаныя з абодвух бакоў, счэпленых разам металічнай змацоўкай, горда ўзняла галаву і пайшла да дзвярэй.

– Э-э, Святлана, хвілінку, – спыніў яе Зуй. – А на паперы няма ніякіх пазнакаў. Можа, ты яго знайшла на вуліцы. Павінна быць дата, калі атрымана, пазначыць канверт. Запісаць у журнал прыходу карэспандэнцыі. Адваротны адрас з прозвішчам, хто прыслаў, хто аўтар. Тут жа нічога няма, Святлана! Як ты можаш мне аддаваць такія паперы і ўцягваць мяне ў вашыя плёткі? Пастой, я прачытаю хуценька вашыя ананімкі...

– Гэта не ананімкі. А крык душы.

– Пабачым...

Ён прабег вачыма напісанае. Сапраўды, почырк быў урача стаматолага Алы Шарамецьевай. Скардзілася на свайго мужа. “У прафсаюзную арганізацыю стаматпаліклінікі...” Аўтарка падрабязна, з інтымнымі дэталямі, расказвала пра грахі і недахопы свайго мужа. Пісала, што ён абірае просты люд, вымагае з іх грошы за дзяржаўную работу, што б’е яе, гуляе з чужымі жанчынамі, што... І просіць разабраць яго паводзіны на прафсаюзным сходзе, строга пакараць пры гэтым. Як пакараць, не пісала. Зуй асцерагаўся, каб яна дзе не ўспомніла, што і ён ездзіў з імі на паляванне. Не, не напісала... Ці хто іншы не напісаў?

– Так, Святлана, я пагутару з Шарамецьевай. Калі яна пацвердзіць напісанае, то вы ўсё роўна павінны аформіць гэта афіцыйна, а яшчэ лепей выкінуць у сметнік. Не тым займаецеся, шаноўная спадарыня, не тым. За сваёй сям’ёй сачыце. Я не здзіўлюся, калі следам прыйдзе пісьмо і на вашага мужа. І вы разам напішаце тое пісьмо... Ідзіце.

На твары Святланы – незадаволенасць і расчараванне. Яна думала, што Зуй падтрымае яе, дасць ход лісту Алы, а ён...

– Ну, ведаеце, я...

І выйшла з кабінета.

У дзверы пастукалі. Потым яны расчыніліся, і на парозе стаяла Ала Шарамецьева. У беласнежным халаціку вышэй каленяў – стройненькая, ружавашчокая, маленькая, бы школьніца, падслепавата глядзела на гаспадара кабінета з выглядам няшчаснай, прыгнечанай сваім мужам. Чакала.

У Алачкі вось-вось выкацяцца на шчокі буйныя слёзы. Слёзы вялікага гора.

– Ала Антонаўна, толькі чэсна. Вы самі вось гэтае напісалі? – Зуй узяў пісьмо, трымаў над сталом.

– Я. А што?

– Ды нічога. Дык вы хочаце, як я зразумеў, каб калектыў пакараў вашага мужа?

– Прашу разабраць яго. Каб прызнаўся, што ён кат і п’яніца, што збівае кожны дзень мяне. Хай ведае калектыў, хто з нас праведны, а хто грэшны і вінаваты. Хай не прыкідваецца ягняткам.

“Ну і гадзіна ж ты, графіня Шарамецьева. Ён не анёл, праўда, але ж і ты не нашмат лепшая за яго. І так табе хочацца вынесці свой сямейны бруд на вочы і слых людзей... Не дай Бог мець такую жонку...”

– А вас не будзе потым пячы сорам, калі яму і вам будуць задаваць розныя пытанні?

– Ну і што з таго? Няхай задаюць. Адкажу на ўсе. Але хто іх будзе задаваць – усе адным маслам мазаныя. Ва ўсіх амаль тое ж самае. То я магу ўсім задаваць пытанні. І вам у тым ліку, Іван Мінавіч, што вы не прымаеце ніякіх мераў, і таму ў паліклініцы працвітае п’янства. Абламейка ў сваёй ліцейцы цэлы рэстаран адкрыў і гарэм наладзіў, а вы, як кум яго, скрозь пальцы на ўсё глядзіце. І гэта ў той час, як Міхаіл Сяргеевіч выдаў строгі ўказ па барацьбе з гэтым злом. Калі ж хоць адзін сігнал дойдзе да райкама партыі, то вы і партыйнага білета пазбавіцеся... і пасады. Тады вашае месца зойме мой муж, чаго ён і дамагаецца, сама чула ад яго тое. А ён тады тут такі парадак навядзе, што і вам месца не знойдзецца. А што?

Зуй хацеў крыкнуць ёй: “Выйдзі вон!”, але маўчаў і выслухоўваў маналог Алы Антонаўны. Мусіў выслухоўваць. Бо не хацеў пападаць пад строгі абстрэл яе злобнай артылерыі.

“І як толькі з такой жыве Віця? – у каторы раз пытаўся сам у сябе галоўурач. – Горшага пакарання для яго Бог прыдумаць не змог...”

– А што? Няхай ведае, што і на яго ўправа знойдзецца. Ці я няпраўду кажу, Іван Мінавіч?

– Праўду, праўду, вашай бы праўдай ды суп саліць, – згадзіўся галоўны, жадаючы хутчэй пазбавіцца ад Алачкі, бо чаго добрага яна яшчэ ўпадзе прама перад ім на крэсла і будзе расказваць падрабязна, як здзекваецца з яе граф. – Вы ідзіце, а мы падумаем, што рабіць, як і якія прыняць меры. Не хвалюйцеся...

Дзверы зачыніліся.

Зуй застаўся адзін.

Званіць у абласны аддзел аховы здароўя ўжо расхацелася – не пад такі настрой трэба гаварыць з абласнымі чыноўнікамі, не з такім. Ён яшчэ раз узяў у рукі данос, пачаў зноў чытаць. Адначасова думаў, як выйсці з гэтага непрыемнага становішча.

9

Алачка зайшла ў свой кабінет, падышла да крэсла, у якім сядзела жанчына з раззяўленым ротам – чакала дакторку.

– Ну, як? – затоена спытала Святлана, і ў яе аж загарэліся вочы ад цікаўнасці, як не сліна цякла па барадзе ад прадчування інтымных адкрыццяў.

– Аніяк. Выплюньце, што ў роце, – павярнулася яна да хворай. – Раскрыйце зноў, я пагляджу, што ў нас атрымалася.

Жанчына выканала загад-просьбу, глядзела на Алачку, якая, жмурачыся, накіроўвала бор да хворага зуба. Рухавічок загудзеў, як чмель...

Калі ж скончылася працэдура з лячэннем, Алачка прамовіла:

– Заўтра ў шаснаццаць я чакаю вас. І прынясіце тое, што паабяцалі. Калі тое не абцяжарыць вас.

– Добра, Ала Антонаўна. Не забуду. Дзякуй вам.

– Да заўтра.

Жанчына выйшла за дзверы, а Алачка са стомленым выглядам села ў драўлянае крэсла, уздыхнула. Глядзела безуважна на Мадонну, што весела пагладала з каляровага календара, выставіўшы напаказ сваё багацце, адзначыла пра сябе: “І ўсё роўна ў мяне не горшыя грудзі, чым у цябе... А што? Нездарма ж капітан міліцыі нахвальваў, калі абдымаў, прызнаючыся ў каханні...”

Трошкі адпачыла, з цягам часу павесялела. Са Святланай гаварыць не хацелася.

– Тарасаўна, паклічце наступнага! – папрасіла медсястру, што мыла кюветкі ля ўмывальніка.

Палагея Тарасаўна няспешна падышла да дзвярэй, прачыніла іх, прамовіла:

– Хто да Шарамецьевай?

Жанчына ўляцела ў лячэбны пакой, як віхор. Бэзавы плашчык расхрыстаны, у руках чорная сумачка. Гадоў ёй можна было даць і пяцьдзясят, а мо і болей. Яна нядобра бліснула вачыма, шукаючы некага, звярнулася да Святланы, якая корпалася ў роце пацыента:

– Скажыце мне, а дзе гэта ваш доктар Шарамецьеў?

– Пайшоў да галоўнага ўрача. А што ў вас? Можа, хто іншы заменіць яго?

– Заменіць? – перапытала злосна жанчына, і ў яе голасе зазвінелі металічныя ноткі. – Ён ужо замяніў мне, тваю маць... Савецкая медыцына, называецца. Бясплатная і самая лепшая ў свеце.

– А што, собственна, здарылася?

Жанчына нічога не адказала, крутанулася на месцы, рэзка адчыніла дзверы і вылецела з пакоя. Прафсаюзны важак недаўменна заўсміхалася, пакруціла галавой, падазраючы, што Алаччын муж зноў нарваўся на нейкую непрыемнасць. Будзе зноў пра што пачасаць язык.

І трэба ж – у калідоры грудзі ў грудзі пакрыўджаная сутыкнулася з доктарам. Віктар ішоў з радасным настроем, пасміхаўся з нечага, задумаўся.

– Ой, даруйце, – сумеўся Шарамецьеў, папраўляючы белую шапачку на галаве. – Не трэба ж так спяшацца.

– Не трэба? – яна яшчэ больш пачала наступаць на яго, свідравала помслівым позіркам. – Не трэба, кажаце? А як бедную жанчыну ганяць па дзесяць разоў за аднымі і тымі ж зубамі, за якія заплочана ўтрая больш, дык гэта можна, га? Можна, скажыце?

Да графа сэнс выстраленых слоў не даходзіў – яму з адной тэмы пераключыцца адразу на другую было цяжка, ды яшчэ галава гудзела пасля ўчарашняга, толькі-толькі пачынала праясняцца. Ён ужо марыў збегаць да піўнога бара, каўцянуць яшчэ пару куфляў і паправіць канчаткова здароўе і настрой. А тут проза жыцця – нейкія зубы...

– Пры чым тут зубы? У каго? Хто бегае дзясяткі разоў?

– Я бегаю. Я зараз жа пайду да галоўнага ўрача, раскажу, якія вы грошы здзіраеце з бедных людзей, а пасля і здзекуецеся з іх жа... Вы мне вырвалі здаровы зуб мудрасці, а замест яго зрабілі нешта незразумелае, што і ў роце не трымаецца...

Да графа нешта дайшло. Адчуў, што гэты канфлікт неабходна ўладзіць адразу і тут жа, каб не нарабіла жанчына якой бяды. Толькі што была размова з Зуем. Пра пісьмо, што настрачыла Алачка са сваім штурмавіком-бацькам і нейкім яшчэ памагатым. Даў слова, што не будзе нараканняў на рабоце, а тут прынёс нячысцік гэтую жанчыну...

– Пачакайце. Давайце спакойна разбярэмся, а пасля ідзіце, куды і да каго хочаце – хоць да галоўнага, хоць ў аблздраў. Што ў вас, раскажыце? Толькі спакойна, разважліва. Давайце адыдзем трошкі, каб не замінаць іншым. І вашую бяду мы паправім. Толькі скажыце, у чым вашыя прэтэнзіі.

Яны адышлі ад хворых, што сядзелі на лаўках у чаканні выкліку. Граф павёў яе ў калідор, дзе мала хадзілі людзі, дзе за шклянымі перагародкамі, да столі, працавалі ў пакоі зубныя тэхнікі.

– Слухаю вас.

– Што слухаць. Вось яны... Панасіла з тыдзень, і самі вываліліся з рота. Скажыце, гэта нармальна?

– Не, гэта не нармальна. Які ж партач вам іх рабіў?

– Вы ж і рабілі. То вы і ёсць той галоўны партач.

Граф пракаўтнуў пілюлю, дакараючы сябе: “Дурань, куды спяшаешся? Чаму выдаеш сам сябе? Не праспаўся, дурота, не праспаўся...” Як аплявуху сам сабе падараваў. Нізашто. Нехаця прызнаўся:

– Значыць, і я партач. Але ж хіба я вінаваты? На той час не было японскай пластмасы, і прыпой быў наш, айчынны. Зубны тэхнік рабіла індывідуальна, старалася, я ж прасіў яе. Вось што значыць рабіць айчыннымі інструментамі і матэрыяламі...

Ён зазірнуў у прачыненыя дзверы, пагукаў:

– Алеся Карэнаўна, можна вас на хвіліначку?

Да іх падышла невысокага росту, чарнявая жанчына, ветліва ўсміхнулася, паглядзела запытальна на графа. Куточкі вуснаў злёгку ўздрыгвалі – чакала ад Віктара нейкай смешнай падначкі.

– Тут такая справа, Алеся. Гэтая жанчына атрымала два тыдні таму зубы. І яны ў яе вываліліся. Вось прыйшла са скаргай. І правільна. Трэба памагчы. Я растлумачыў, што ты, як самы лепшы тэхнік, зрабіла немагчымае, але падвялі айчынныя матэрыялы, якія нічога не каштуюць. Мы паступім так... Ты возьмеш табулятар, праверыш усё, як трэба, выпішы японскую пластмасу і якасны прыпой. Зробіш новыя зубы, і пры тым па новай тэхналогіі, каб жанчына радавалася ад нашай работы. Каб выглядала прыгожа і ўсмешка была прывабліівай. Праз колькі ёй можна будзе прыйсці?

Алеся пасур’ёзнела. Але нічога не зразумела з размовы. Які табулятар? Што гэта за апарат такі? Якая японская пластмаса і прыпой? Ён непрыкметна міргануў ёй.

– Ну, праз тыдзень, напэўна. Так, праз тыдзень.

– Не, не, Алеся. Пажадана раней. Можаш паслязаўтра? Акурат пятніца, перад выхаднымі? Трэба ўважыць жанчыну.

– Ну, добра, я пастараюся. Толькі пасля абеду.

– Добра, няхай пасля абеду, – абрадвалася жанчына, пасвятлела тварам, радая была, што дамаглася свайго, што ёй пайшлі насустрач. – Няхай будзе так. Я падыду да канца рабочага дня. У гадзін пяць, добра?

– Да пяці зраблю. Усё? – Алеся павярнулася да графа, адчуваючы яго задаволенасць, заўважаючы на яго твары радасць.

– Усё. Дзякую. І даруй, што адарваў ад працы.

Калі яны засталіся адны, жанчына хуценька ўсунула ў кішэню графа дваццацьпятку, шапнула:

– Дзякую. І прабачце, што я так напачатку накінулася на вас. Зло ўзяло, самі разумееце. Як жа ў маім узросце без зубоў?

– Нічога, нічога, – кланяўся Віктар, радуючыся, што так лёгка выйшаў з сітуацыі, ды яшчэ на дзве пляшкі хабар усунула.

Пазней ужо, калі на калідоры зноў сустрэўся з Алесяй, папрасіў у яе прабачэння.

Яна ж пацікавілася, што за такі табулятар ён прыплёў.

– І сам не ведаю. На язык ускочыў. А што – прыгожае слова, таямнічае. Та-бу-ля-тар! Здорава!

– Табе не доктарам быць, а ў тэатры працаваць, – заўважыла з усмешкай, пакідаючы яго, зразумеўшы, што ён цырк наладзіў перад жанчынай. – А зубы сапраўды перарабляць будзем?

– Ды не. Проста пасадзіць іх трэба добра. Цэмент быў кепскі.

Яна толькі паківала галавой, здзіўляючыся яго ўменню выблытвацца з розных сітуацый, абмінаць вытворчыя падводныя рыфы. Штукар ды і толькі. Так ён і з Алачкай, пэўна, іграе ўсё жыццё, а яна верыць, прымае ўсё за чыстую манету. Як і гэтая жанчына, пачуўшы загадкавае слова табулятар. Як і яна нават, Алеся. Віктар стаяў каля калоны, курыў, усміхаўся.

А потым не вытрымаў, пабег на вуліцу – да піўнога бара.

10

Сустрэла яна яго ў той дзень, калі ехалі разам у турыстычную паездку ў Прыбалтыку. Малады, дужы, маладзей яе на гады два-тры, а мо і болей. Ім выпала спаць у адным купэ вагона – ляжалі на верхніх паліцах. У цемры знайшоў яе руку і сціснуў. Яна адказала такім жа поціскам.

Калі ж праз нейкі час пад імі засаплі іх спадарожнікі, адразу перабраўся да яе. Яна чакала яго. Абвіла рукамі шыю, упілася вуснамі ў яго – гарэла, сілячыся знішчыць у сабе дрыготку. Перад гэтым скінула з сябе ўсё лішняе, каб не валаводзіцца і не разбудзіць дзвюх жанчын.

Алачка ведала, што яго звалі Валерам, што працаваў у міліцыі, што меў званне маёра. Падсвядома прыкінула, што ў далейшым ён можа ёй спатрэбіцца, у нечым і памагчы. У чым, яшчэ дакладна не ведала, але адчула, што маёр хлопец не з ціхмяных. Калі добра прыбраць да рук, то ён будзе здольны на многае.

Рыга ёй спадабалася. Спадабалася не толькі Домскім саборам, куды яны хадзілі слухаць арганную музыку, а і ціхімі вулачкамі і ўтульнымі кавярнямі на заходні манер, дзе можна было ціхенька пасядзець за кубкам кавы і паразмаўляць пра ўсё на свеце. Прыемна ўразіла і гасцініца, дзе былі створаны ўсе ўмовы, каб людзі маглі правесці цікава не толькі вечар, але і ноч.

Яе пакойчык з Вікай Лашковай, прадаўшчыцай з “Бярозкі”, быў у самым канцы калідора. Віка таксама знайшла сабе часовага спадарожніка, які спецыяльна і пасяліўся з маёрам міліцыі.

Чатыры ночы, што яны правялі ў Рызе, былі аддадзены інтыму. Маёр яшчэ аказаўся і ненасытным у каханні. Можа ўпершыню ў жыцці здзівілася, што можа быць такое шчасце ў жанчыны. Успамінала графа, і яе агортвала агіда ад адных толькі ўспамінаў, тут гадзіны, а там тры хвіліны яна прымала за асалоду...

Яна плакала, ліла слёзы, і яны капалі маёру на валасатую грудзіну.

– Што з табой, Алачка? Пакрыўдзіў чым-небудзь? – папытаў, абдымаючы.

– Не-не, наадварот, я не была ніколі такой шчаслівай, як з табой. Можаш не верыць, але такой асалоды і шчасця я не адчувала за ўсё жыццё... Сорамна прызнацца, але гэта так. Столькі гадоў прайшло без гэтага. Без адчування асалоды і наталення ўнутранай смагі.

Ён маўчаў, курыў, потым прамовіў:

– Калі так, то я вельмі рады, што ты тое адчула, што стала сапраўднаю жанчынай. А я можа ўпершыню адчуў сапраўдную асалоду. Ты фантастычная жанчына. Мо ад таго, што не зведала гэтага, і расцвіла ва ўсёй красе. Бачыш, я пачынаю ўжо гаварыць паэтычным стылем. Смешна.

– Цяпер я зразумела, чаму на зямлі шмат няшчасных жанчын. Менавіта з-за гэтага, што не могуць нарадзіць у сабе шчасце.

Праз колькі хвілінаў яна зноў прашаптала яму на вуха:

– Валерка, а колькі ў цябе дзяцей?

– Двое. Сын і дачка.

– А жонка дзе працуе?

– На заводзе. Тэхнолагам.

– Ты кахаеш яе?

– Так, як можа кахаць муж жонку.

– Як гэта?

– Каб нам было добра абодвум...

Назад, у родны горад, вярталіся ранічкай. А сёмай гадзіне.

Многіх сустракалі родзічы і знаёмыя. Маёра чакала жонка і дзеці – з кветкамі. Валеры кінуўся абдымаць іх, цалаваць. Жонку абняў, прытуліў да сябе. Алачку як усё роўна апякла ўбачаная сустрэча – яна ўжо як бы адчула нейкія правы на маёра, хацела распараджацца ім поўнасцю, дыктаваць сваю волю, як ён дыктаваў ёй у ложку сваю... А пра жонку, агледзеўшы падслепаватым позіркам, змераўшы з галавы да ног, адзначыла з прыкрасцю: “Карова! І як толькі ён кладзецца з такою ў ложак? Жах...”

Таксіст, калі яна села моўчкі на пярэдняе сядзенне і не зірнула ў яго бок, пацікавіўся:

– Вам куды?

– На Жукава.

– Даставім. А ў вас выдатны настрой і прыгожа выглядаеце. Жадаю быць такой кожны дзень.

І ўзяўся за ключ запальвання, што тырчэў у шчылінцы.

Дома яна прыняла душ, вымылася, выйшла з ваннай і пачала прычэсвацца перад люстэркам. Глядзела на свае грудзі, гладзіла іх, адзначала, што яны яшчэ прыцягваюць мужчынскія позіркі, і нават маладых, во як і міліцэйскага маёра. І заўсміхалася задаволена. А потым блазотна набрала адразу ж нумар тэлефона, доўга чакала, калі хто адгукнецца на другім канцы дрота.

– Алё, – пачуўся ў трубцы жаночы голас, – слухаю вас.

– Добры дзень. Паклічце мне, калі ласка, Аксану, вельмі трэба.

Незадаволены голас, як і чакала Алачка, абвясціў:

– У нас ніякай Аксаны няма, вы пераблыталі нумар тэлефона.

На маёра ўзяло зло: “Не мог сам падысці, дык карову сваю падаслаў...”

Настрой быў сапсаваны. Не хацелася глядзець тэлевізар, слухаць музыку. Наліла сабе чарачку каньяку. Каўцянула колькі разоў. Прыкусіла кавалачкам сыру. Адчула: паступова вяртаецца лагодны настрой.

“Нічога, нічога, цярплівасцю бяры, цярплівасцю. Не падганяй падзеі... Як спяваў Высоцкі: “Чуть помедленнее, кони...” Ведала, што гэтую песню любіў Віцік.

Пачала рыхтаваць вячэру. Хутка павінны прыйсці дзеці са школы, Віцік з працы. Бацька недзе швэндаецца па горадзе, абы каб не сядзець дома. Успомніла, як сустракала жонка маёра на вакзале, падумала чамусьці пра Віціка: “А мог бы і ты сустрэць мяне. Ды з абярэмкам кветак, хай бы пазайздросціў Валера, убачыўшы, як сустракае мяне мой каханы...”

11

Алачка палічыла, што тых грошай, якія яна атрымлівала на дзяржаўнай рабоце ў савецкай медыцыне, было занадта мала, і што на іх не дужа разгонішся – не купіць сабе абноўкі, ні смачна паесці. Жабрацкае існаванне.

І надумалася Алачка кінуцца ў бізнес. Цяпер жа ўсё дазвалялася, ніякіх нікому перашкод – абы толькі твая галава варыла, хоць чорта лысага бяры сабе ў памагатыя і кляпай сабе рублікі. Чорта не чорта, а нешта блізкае каля гэтага ёй спатрэбілася. Ніколі не звяртала ўвагі асаблівай на сабак, а тут раптоўна на рынку ў мажнай цёткі папыталася:

– А колькі ж, цётачка, ваш шчанючок каштуе?

Жанчына прыцэлілася вокам да незнаёмкі, прыцэньвала – цікавіцца проста так, ці нейкі інтарэс да сабак мае?Палавінчата і адказала:

– А гэта каму як. Вы купляць будзеце, ці проста пачасаць языком захацелася?

Алачка разгубілася – не чакала, што так жанчына пачне весці з ёю размову, адразу пераключылася на патрэбную танальнасць, каб цётка не паслала яе куды далей... Нейкая аднак цікавасць і настырнасць авалодалі ёю, таму затоена прамовіла:

– Набыць хачу і развесці дома. Грошай не хапае, таму думаю гэтай справай заняцца... Парайце, падкажыце, ці след мне ісці па гэтай дарозе...

Жанчына рассмяялася, але не зларадна, наадварот, зычліва, паправіла на сабе джынсавую спадніцу:

– Тады ты, даражэнькая, на тую і патрапіла. Магу даць табе карысную параду. За майго я прашу пяць тысяч. Для таго, каб развесці дома сабак, трэба найперш выбраць пароду, якая дае добры прыплод і, панятна, ад гэтага і прыбытак. Для гэтага, даражэнькая, трэба экстэр’еры ці ньюфаўндленды, лэсі ці арбітыны... На тое трэба шмат грошай – коры дарагія. Штодня трэба купляць свежае мяса, гародніну, яблыкі і грушы, штораніцы выгул – процьма чаго трэба яшчэ, каб дабіцца поспеху ў гэтай справе...

– І колькі ж можна мець за год ад усёй працы? Калі ўсё, канечне ж, пойдзе на лад?

– Колькі? – жанчына перакрывілася, няўцямна паказваючы, што тут не ўгадаеш, што ўсё залежыць шмат ад чаго. – А як пашанцуе, як будзеш душу і здароўе ўкладваць у такую справу. А можна і прагарэць, што, праўда, малаверагодна, але ўсё ж... А так за год можна займець каля ста тысячаў.

– Колькі? – у Алачкі нешта перахапіла ў горле. – Каля ста?

– Так, так, – паўшэптам пацвердзіла жанчына. – Тут без брахні ўжо. Але трэба аддаць сябе гэтай задумцы поўнасцю. Тады, даражэнькая, і поспех не прымусіць чакаць.

– Ведаю. Само нічога ў рукі не прыходзіць. Але хто мяне навучыць усяму гэтаму? – у голасе была тайная надзея і спадзяванне на падтрымку. Не ведала чаго, але сэрцам адчувала, што гэтая жанчына пойдзе ёй насустрач, паможа. І яна ж, Алачка, не застанецца ў даўгу, аддзячыць, чым можа.

Жанчына прыхільна ўсміхнулася.

– Я і памагу вам, калі зразумеем адна адну, – адгукнулася на покліч незнаёмай субяседніцы і, мусіць, пакупніцы.

– Я думаю, што зразумеем. Я працую зубным урачом у палікліхніцы. Думаю, што і вам спатрэблюся. Бачу, што з зубамі вам даўно трэба завітаць да нас...

– Так, так, але на ўсё часу не хапае. Даўно збіралася, правільна кажаце. Так што самі бачыце, як мы адно аднаму патрэбны. Я згодна быць вашым кансультантам. І памочнікам у гэтай справе.

Алачка агледзела ўсё навокал. Рынак гудзеў, бы патрывожаны вулей. Людзі спяшаліся, як не піхалі адзін аднаго, недзе за спінай мужчынскім басавітым голасам жанчына прапаноўвала: “Пирожки горяченькие, пирожки с мясом, капустой, картошкой!..”

Рынак жыў сваім жыццём, сваімі клопатамі, сваім рытмам – бязладным, напружаным, крыклівым...

– А дзе вы жывяце? Я хацела б запісаць ваш адрас і прыехаць да вас.

– Адрас вельмі просты – завулак Зялёны, пяць. Дваццаць пятым аўтобусам – і да самага канца. Мой дом крайні. Кватэра сорак пяць. Антанінай Кірылаўнай мяне завуць. Тэлефона толькі няма. А вас як зваць-велічаць, даражэнькая?

– Ала Антонаўна. Калі да вас можна будзе прыехаць?

– Калі? – зморшчыла лоб Антаніна. – А можаце і ў суботу. Я цэлы дзень буду дома. Пакажу і раскажу, як усё робіцца. Буду чакаць вас, прыязджайце.

Алачка паклала ў сумачку паперку з адрасам Антаніны, пагладзіла шчанюка па галаве, заўсміхалася:

– Добра, Антаніна Кірылаўна. У суботу і пад’еду. Пад вечар – у гадзін пяць. Так добра для вас?

– Ага, – заківала жанчына галавой, абрадавалася, што адбылося нечаканае і патрэбнае знаёмства, – акурат нармальна. Чакаю вас.

“Каля ста тысяч, каля ста тысяч...– свідравала неадступна думка пасля таго, як яна развіталася з Антанінай. – Гэта ж харошыя грошы... І занятак цікавы... Каля ста тысяч, каля ста тысяч...”

То не заробак, што яна атрымлівала акрамя зарплаты, што давалі ўдзячныя пацыенты, а так, ну, так бы мовіць, для падтрымкі штаноў ці спадніцы. А вось тут дык можна разгарнуцца, абы было жаданне. А жаданне ёсць, калі такія магчымасці адкрываюцца. Потым жа тыя шчанюкі ў Польшчу. А там, кажуць, яны ідуць па мільёну і больш... А паездкі для яе цяпер будуць наладжаны рэгулярна. Улад Ляскоўскі, даўні яе знаёмы, цяпер увесь пры ўладзе, любое яе жаданне – для яго закон. Так ён і сказаў, і дадаў, што для яе не будзе аніякіх перашкод ні з пашпартам, ні з візай, ні з графікам. Адно яе слова – і ўсе мытні будуць падаць перад ёю на калені. Лысы, лысы, а які ўсемагутны – нездарма ж працаваў перад гэтым у апараце абкама партыі. Нябачныя пружыны падтрымліваюць іх – яны ўсё яшчэ могуць, усё ўмеюць, перад імі, як і раней, усюды расчыняюцца дзверы.

Ведала Алачка, каго выбіраць сабе ў палюбоўнікі.

“Каля ста тысяч, каля ста тысяч... А што?..”

Граф узяў спіс на зарплату, знайшоў сваё прозвішча, распісаўся.

– І шмат там табе налічылі драўляных, Еўстратавіч?

Віктар усміхнуўся кісла, уздыхнуў:

– Так шмат, што не ведаю, куды і на што патраціць іх. На скрутак туалетнай паперы мо і хопіць.

Ліцейшчык Абламейка, беручы тую ведамасць у рукі, дадаў:

– Так, у нашай краіне дзяржава медыкаў не лашчыць. Спадзяецца, мусіць, што доктар і сам сабе зарплату зробіць. З чалавека, які прыйшоў зрабіць каронку, дзяржава бярэ сто пяцьдзясят рублёў. А зубны тэхнік з тае сумы бярэ ўсяго тры з паловай капейкі. Абсурд.

– Тое ж і пра сябе магу сказаць, – адгукнуўся Шарамецьеў, калі Абламейка распісаўся і атрымаў грошы, паклаў іх у кішэню – таксама не густа, аж смешна, што так не густа. – Стаю цэлы дзень на нагах, корпаюся ў роце, невядома яшчэ і ў якім роце – можа там і СНІД падцікоўвае мяне, во палец парэзаў, не гоіцца, але каму пра тое скажаш... Гэта ж сорам і ганьба – мець вышэйшую адукацыю, сушыць мазгі столькі гадоў за навукай, а атрымліваць сто сорак рублёў... Наша Ліда, прыбіральшчыца, больш атрымлівае...

– Калі ж, братка, дзяржава думае, што яна мяне робіць шчаслівым, выдзяляючы такі заробак, то няхай хворыя думаюць, што я ім раблю харошыя зубы. Так ты гаворыш, граф?

– А як жа інакш?

У калідоры стаяў галоўны ўрач, чакаў іх.

– Хлопцы, зазірніце да мяне. Размова ёсць.

У голасе галоўнага абыякавасць і спакой. Значыць, нешта звычайнае і абыдзеннае. А мо і не? Галоўны ўмее і прытварацца, лагодную ўсмешачку можа на твары намаляваць, а потым нечакана шандарахнуць словам-пытаннем, што і ведаць не будзеш, куды ўцякаць ад яго ласкі.

Хлопцы дакурылі цыгарэты, і праз колькі хвілінаў падаліся за ім следам.

...Калі што намерыцца Алачка зрабіць, то свайго абавязкова даможацца. Усе перашкоды паломіць, што перашкаджаць будуць, напралом пойдзе, але даб’ецца намечанага, чаго б тое ні каштавала. Такі ўжо ў яе характар, так ужо выхавалі яе бацька і жыццё.

“Сто тысяч, сто тысяч...” Не выходзіла з галавы лічба, вярэдзіла душу, спаць не давала. У сне ноччу прыснілася, што ў яе кватэры шмат сабак. Калі ж яна пераступіла парог, то кожны трымаў у зубах па купюры па пятнаццаць тысячаў, – аддана глядзелі на яе, чакалі.

Яна, здзіўленая, спынілася каля парога. І тады кожны падыходзіў да яе і клаў каля ног грошы. Пакладзе адзін цюцька, адыходзіць, за ім наступны – схіляе галаву, разяўляе пашчу, і купюры кладуцца адна на адну, роўненька

ў стосік. Здзівілася яшчэ – здаецца ж, купюры з такой вартасцю не прыдумалі, не выпускалі, але тут жа супакоіла сама сябе: “Значыць, я проста пра тое не ведала...”

Алачка сабрала тыя грошы, паклала на стол. Прыгледзелася да адной соценнай і жахнулася: замест Уладзіміра Ільіча на паперцы быў нейкі другі чалавек, і падобны ён быў на яе Віктара – графа Шарамецьева. Граф ледзь прыкметна пасміхаўся – мо з яе, Алачкі? Падміргваў яшчэ і гаварыў: “Ну, што, жоначка, любіш грошыкі? Любіш. Цяпер іх у цябе будзе вельмі шмат – сто тысяч, сто тысяч...” І пачаў чамусьці рагатаць.

Дзіўна, але стосік грошай быў ужо болей за той, які яна падняла з падлогі. Ці не ўтрая больш. У Алачкі соладка на душы, і яна пачала нават спяваць: “Сто тысяч, сто тыся-яяяч!..”

Новае дзіва – за спінай у яе вырастаюць крылы, і яна пачынае адчуваць іх дужасць, яны ўжо просяць пругкасці паветра, і яна ўжо не вытрымлівае, выходзіць на балкон. Каля ног круцяцца аддана сабакі, чакаюць нейкае каманды. Толькі цяпер яна заўважае, што яны featureрознай масці і колеру, нават памеру – маленькія і вялікія, чорныя і карычневыя, нават адзін быў у палосачку, як зебра, што выклікала ў яе ўсмешку.

“Вось такога выгадую і павязу на варшаўскі рынак – не адзін мільён адхаплю...”

Але крылы за спінай пачынаюць варушыцца, і яна ўжо ўзмахвае імі, адрываецца ад падлогі балкона. Не, яна не палохаецца, не ўскрыквае ад страху, адно хіба што замірае душа – але ці то ад радасці, што яна ў палёце, што яна ўжо незямная, дзівосная птушка, не падобная да ўсіх астатніх, асаблівая і ўнікальная, ці ад прадчування, што яна зведае хутка нешта новае і непрадказальнае... З вышыні свайго палёту яна здолее ўбачыць цэлы свет. Адразу ж і падумала: “Вось такім жа макарам можна і за мяжу злётаць – ні табе мытняў, ні ў чарзе стаяць перад прапускным пунктам...”

Радасна на душы, узнёсла. Так лёгка, што спяваць хочацца. І – танцаваць. Але дзе тут патанцуеш – на воблаках хіба, але да іх яшчэ ляцець і ляцець. А спяваць, дык і словы ўсе пазабываліся, толькі і прыйшлі на памяць тыя, што пра коней. Дык тут і не трэба сунімаць хуткасць, няхай нясуць яе крылы ў бязмежжа – яна любіла лётаць, не першы раз лётае, і ў дзяцінстве некалі лётала, і пазней, калі Віціка прыбірала да рук...

Вунь яе родны горад, вунь вулачка яе. Людзі ходзяць, у яе бок пальцам паказваюць, нешта гавораць. А яна ўжо і рэчку бачыць, луг, кветкі на ім... А дыхаецца вольна, лёгка, ледзь толькі паколвае ў скроні, але яна ведае, што тое ўсё ад чыстага кіслароду – на зямлі такой чысціні няма, як тут... Непадалёк ад яе пачуўся нейкі незразумелы посвіст. Яна азірнулася: побач ляцеў

бусел. Ён павольна ўзмахваў крыламі і паглядаў на яе. Недаўменна паглядаў – як быццам пытаўся ў яе, як сюды занесла і што парабляе на такой вышыні жанчына. Яна паціснула плечуком, адказваючы, што і сама не ведае, чаму тут апынулася. Бусел скіраваў рэзка ўправа, а пасля спікіраваў уніз – да свае буслянкі, якая прымасцілася на вільчыку ссохлага дуба. Там і дзеці былі – клекаталі, чакалі бусліху, клікалі да сябе, разявіўшы дзюбы...

А ёй хацелася падняцца яшчэ вышэй, каб больш чаго ўбачыць. Але тут нехта катурхнуў яе за плячо. Яна азірнулася незадаволена, не разумеючы, хто гэта мог яе патрывожыць у такі прыемны момант палёту, але нікога не ўбачыла.

– Мама, уставай. Я есці хачу...

Нічога не разумела Алачка – нікога побач няма, і нехта загаварыў з ёю. Хто б гэта мог быць?

– Ну, прачніся, мама...

Толькі тады яна расплюшчыла вочы, прымружыла іх, пакрысе ачухалася.

“Божачка, які прыгожы сон бачыўся мне! Я ж так даўно не лётала ў сне... Дзіцячы сон. І такі прыемны, салодкі. Але да чаго ён? Ці ёсць якая рагадка гэтага сну?..”

– Падымаюся, сын, падымаюся. Пастаў толькі чайнік.

– Я ж не ўмею, – насупіўся сын, не адыходзячы ад яе. – Ты ж сама пра тое ведаеш...

– Ды ведаю-ведаю, што бязрукі ты расцеш у мяне, – яна пазяхнула, пацягнулася ў ложку, і не магла забыць, як лётала ў паднябессі, як цюцькі кідалі ёй пад ногі тысячы, сто тысячаў, і тут жа ўспомніла: “То ж сёння да сабакаводкі трэба з’ездзіць, абяцала ж прыехаць... Дык вось да чаго сон. Да прыемнага пачатку новага клопату ў яе жыцці. Грашавітага клопату”.

Сыну зрабіла снеданне на хуткую руку – адрэзала кавалак каўбасы і разбіла ў патэльню некалькі яек. Ён любіў паесці, апетыт быў як і ў бацькі, які мог за вячэру паўкабана з’есці.

З Графам яна вызначыла сыну спартыўную дарогу. Палічылі так – калі ён будзе вучыцца ў школе са спартыўным ухілам, то і есці там будзе, і вучыцца. Так сказаць, на дзяржаўным забеспячэнні. За ім там будуць прыглядваць, адказваць за яго.

А хлопец без бацькоўскага догляду разбэсціўся, стаў грубы і патрабавальны да сваёй асобы. Ён мог расквасіць нос таварышу ці сябру і не праявіць пры гэтым ніякага шкадавання ці спачування, наадварот, колер крыві выклікаў у ім задавальненне, нават асалоду.

Алачка назірала, як сын похапкам упіхваў у рот сняданак, а думала пра сваё – ёй мроіўся заўтрашні дзень чароўнай казкай, прыгожай марай, адчу-

вала і верыла, што перад ёю адкрываецца незнаёмая перспектыва яе жыцця, якое будзе інакшым, чым гэтае, у якім яна знаходзілася і пакутавала ад сваёй непаўнавартасці...

Антаніну Кірылаўну і сапраўды адшукаць было няцяжка. Як і гаварыла, аўтобус пад'ехаў амаль да самага дома, і ад прыпынка некалькі крокаў.

Гаспадыня чакала, адчыніла перад ёю дзверы.

У нос адразу ўдарыў пах псіны, сабачага юру і мачы. Алачка сабралася перакрывіць твар і зморшчыцца, што яна і зрабіла б у іншым месцы і пры іншых абставінах, але тут, падумала, трэба выцерпець, прывыкнуць, таму ветліва ўсміхнулася, падзеньдобрылася.

– Праходзьце, Ала Антонаўна, адчувайце сябе як дома. І муж мой дома, і дзеткі.

Скрозь у кватэры былі сабакі і сучкі. Яны не звярнулі ўвагі на новага чалавека, дурэлі між сабой, – у іх былі свае сабачыя клопаты і гульні. Адзін ляжаў на канапе і драмаў, другі чакаў, калі гаспадыня пакорміць, трэці паклаў галаву на лапы і назіраў спакойна за ўсім, што тварылася ў кватэры...

Усіх сабак, калі Алачка палічыла, было недзе каля дваццаці. Яна тут жа імгова перамножыла колькасць сабак на кошт кожнага, і адзначыла пра сябе, што зможа цярпець такія невыгоды і жыць у антысанітарных умовах: не ўсё ж жыццё такое будзе. Ды, у рэшце рэшт, усё і акупіцца добрай капейчынай і дабрабытам...

Антаніна Кірылаўна ўсадзіла госцю ў мяккае крэсла, папярэдне засцяліўшы яго чыстым покрывам, сама ж пайшла на кухню – рыхтаваць частаванне. Да маці падышла малая дачка, хударлявая і плаксівая, нясмела папрасіла:

– Мамка, дай мне хоць кавалачак... Есці хачу...

Маці злосна прашаптала, прычыніўшы дзверы, каб не чула госця:

– Нягодніца, хто цябе зваў сюды? Ты ж бачыш, што да нас прыйшлі, гэта не для цябе.

– Ну, хоць кавалачак, я ж галодная.

– Марынка, ідзі адсюль, сказала табе. Каб не бачыла цябе. Не памрэш, бач, губу раскатала на смачненькае. Ну, марш адсюль!..

Дзверы расчыніліся, і дзяўчынка, нізка і вінавата апусціўшы галаву, зашморгала носам. Прайшла паўз госцю, не зірнуўшы на яе, не павітаўшыся. Зачынілася ў другім пакойчыку.

На кухні скварчэла, уперамежку з сабачымі пахамі панёсся пах смажаніны. Праз колькі хвілінаў Антаніна паклікала госцю да стала. І муж пады-

шоў – выйшаў з таго пакоя, дзе схавалася Марынка. Павітаўся, папрасіў госцю не саромецца, адчуваць сябе як дома, заўсміхаўся.

Гаспадары паставілі на стол пляшку гарэлкі, але Алачка выставіла на стол сваю – пляшку армянскага каньяку.

– О, якая прыемнасць! – зарадаваўся гаспадар Селівон, і ў яго вочы загарэліся таемным шчаслівым цяплом. – За такую выдатную справу, за якую вы ўзяліся, Ала Антонаўна, не грэх і выпіць. Вам здорава пашэнціла, што вы сустрэлі Антаніну, маю Тонечку. А яна ў гэтай справе, сабачай справе, толк ведае, далажу я вам, адным словам – экстраклас!

Ён жа хуценька і наліў у шкалікі, гэта жа борздзенька і выпіў, яшчэ больш павесялеў, разгаварыўся. У яго ўзмакрэў пакаты лоб, востры нос блішчэў ад выпітага і вулічнага святла.

За дзвярыма патрабавальна гаўкнуў сабака.

– Чомб, не перажывай – мы занятыя. Патрывай трошкі, і да цябе чарга дойдзе.

Антаніна ўстала з-за стала, вынесла Чомбу абгрызеную костачку, паклала каля дзвярэй. Пачуўся хруст.

У гэты ж час гаспадар яшчэ раз наліў. Падняў, пачакаў, калі падыме і госця, стукнуўся з ёю – далікатна, ледзь чутна. Зірнуў на жонку, кіўнуў і выліў вадкасць у разяўлены і шчарбаты рот. Хукнуў, ухапіў відэльцам скрылік агурка, пачаў жаваць.

– У гэтай справе галоўнае што? – пракаўтнуўшы, пачаў даваць парады. – Цярплівасць. І веданне таго, чаго дабіваешся. Але мы паможам, абяцаем, што не пакінем вас у адзіноце. Колькі ў вас пакояў?

– Чатыры. А правільней – тры. Мой бацька жыве ў чацвёртай.

– Гэта ж выдатна! І балкон ёсць, ці не так?

– Ёсць. Не вельмі, праўда, вялікі.

– А паверх які?

– Другі.

– Вельмі добра. А чаго ж вы не п’яце, Ала Антонаўна? – толькі цяпер угледзеў гаспадар, што ў госці амаль некранутая чарачка, ды яшчэ адстаўленая ўбок.

– Я болей не магу, даруйце.

У Антаніны і другая чарачка была пустая. Селівон наліў ужо трэцюю, падняў над сталом сваю.

– Калі другую не выпілі, то наступную я проста раю – за вашую прыбытковую справу. Яна не толькі дасць прыбытак, але ж і міласэрнасць вашай душы праявіцца. Гэта ж нашыя малодшыя браты, як сказаў паэт. А да іх мы павінны адносіцца з душой, усім сэрцам. Ці не так, Тоня?

– Правільна, Селівон, гэта справа міласэрная. Прыходзіш дадому з нікудышным настроем, аж чорна на душы бывае, а пагладзіш аднаго, зазірнеш у вочы другому – і адразу на душы прасвятленне, як на свет нараджаешся. Сабакі вельмі чуйныя да дабрыні і адплочваюць тым жа. Нездарма ж кажуць, што сабака – лепшы друг чалавека.

Алачка для прыліку адпіла палову, падахвоціўшы гаспадароў, каб яны не саромеліся, пілі і закусвалі. І гаспадара, і гаспадыню прымушаць не трэба было – пілі і елі яна спраўна, на поўны рот, яна не паспела і агледзецца, як ад курыцы засталіся толькі костачкі. І ўспомніла пра дачку, якая прасіла хоць кавалачак, і стала ёй вельмі шкада Марынкі. У сумцы ляжала тры шакаладкі, забылася дастаць. Вось яна і пачастуе Марынку, як устане з-за стала...

– Дык з чаго мне пачаць, Антаніна Кірылаўна?

– З чаго? А з таго, што купіце ў нас суку. Выгадуеце яе, а праз дзесяць месяцаў павяжаце з пародзістым псом. А потым атрымаеце прыплод. Падгадуеце і, калі ласка, давайце аб'яву, што ад пародзістага сабакі ў вас ёсць гадавалыя шчанюкі, што яны каштуюць столькі і столькі. Прадасцё, а потым зноў сучку на новую злучку. І новаму пакаленню дасце рады. Як выхоўваць, што ім трэба даваць, як карміць, мы вам падрабязна раскажам дома. Літаратурай неабходнай забяспечым. Сучку мы вам даставім дадому, выберам самую лепшую. Каштаваць яна будзе пяць тысячаў.

– Пяць? – не ўтрымалася Алачка ад здзіўленага воклічу, і ў яе забілася дыханне.

– Пяць, пяць – вы пачулі правільна. Не хвалюйцеся, Ала Антонаўна. Ад пародзістага бацькі дзеці будуць каштаваць ад пяці да васьмі тысячаў, а то і больш. Мы вам прадаем па заніжанай цане, ніжэй ужо нельга, далібог, праз год вы не толькі акупіце свае выдаткі, а і памножыце у дзесяткі разоў свой прыбытак, а пры жаданні – і ў дваццаць-трыццаць...

– Зразумела.

– Калі да вас прыехаць? Калі прывесці шчанюка? Вось я вам пакажу яго, адну хвілінку.

Селівон крутануўся на табурэце, хуценька выкульнуўся з кухні, і праз момант вярнуўся назад, трымаючы ў руках карычневай масці шчанюка.

– Гэта – экстэр'ер. Пародзісты. Радаслоўная маецца, усё, як мае быць. Без падману, без балды.

Шчанючок цікаўна паглядаў на госцю жаласлівым позіркам, як быццам прыцэньваўся – ісці да гэтай жанчыны на выхаванне ці застацца дома.

– Падабаецца? Праўда, прыгожанькі?

– Вельмі, – заўсміхалася Алачка, пагладзіла псіну па галаве. – А як зваць яго?

– Пакуль ніяк. Мы не даем клічку, яе павінны даць той, хто купіць.

– Граф! – чамусьці прамовіла Алачка і тут жа зарагатала. – Канечне ж, Граф. Граф! Граф! Во, і адгукваецца ўжо на покліч. Так і быць, будзеш Графам.

Алачка ўзяла на калені шчанюка, зноў пагладзіла, прытуліла да сябе. Адчула яго цяпло. Граф ледзь-ледзь падрыгваў, як змерз усё роўна. Але будучая гаспадыня ведала, што ён перажывае, вунь як б'ецца яго ўсхваляванае сэрца.

– Не бойся, Граф, не пакрыўджу цябе, – запэўніла Алачка, тулячы да сябе маленькае стварэнне.

Селівон зноў узяўся за пляшку, наліў у шкалікі:

– Вось за знаёмства з Графам і вып'ем, і за яго хрышчэнне. Ала Антонаўна, мы віншуем вас з удалай пакупкай!

– За Графа! – усклікнула Тоня.

На гэты раз Алачка выпіла да дна. З каленяў не спускала цюцьку, леваруч сядзеў і тыцкаўся мордачкай у жывот яе новы жыхар. Прыкусіла скрылікам дзяшовай каўбасы, адкусіла, але есці не стала: усё, здавалася, было прапітана сабачацінай – і хлеб, і гуркі, і тая ж курыца, якая амаль і не дасталася ёй, як і Марынцы. Яе пачало ванітаваць. Добра, што на стале яшчэ была мінеральная вада. Калі ж адпіла, то яна падалася ёй сабачым потам.

“Божа, няўжо я вытрываю ўсё? – жахнулася яна ад адной толькі думкі, што ёй прыйдзецца вынесці за той час, як нечага даб'ецца, і асцярожна апусціла шчанюка на падлогу. – Як я прывыкну да гэтага смуроду, як есці буду і спаць, адчуваючы ўсё тое ў сваёй хаце? Як аднясецца Віктар да маёй задумы? Адно што дзеці будуць задаволены, бо даўно прасілі купіць сабачку... Але ж гэты сабачка не для забавы, а для... Але ж сто тысячаў, сто тысячаў, – нехта з'едліва пытаўся, стоячы за спінай. – Пра іх забылася? Забылася, так?..”

– Дзякуй вам, гаспадары. Мне пара ўжо дадому. Паабяцала, што не затрымаюся доўга. Шмат клопатаў дома.

– Тады – аглабельную, на пасашок, як кажуць! – зразумеў намёк Селівон. – За вынік будучай справы, Ала Антонаўна! За ваш бізнес! За поспех!

Выпіла, але закусваць не стала. Каньяк, здаецца, трошкі перабіў непрыемны пах і адчуванне агіднасці, прыглушыў адмоўныя асацыяцыі. Паднялася з-за стала. Пайшла ў ванную, памыла рукі з мылам і твар, як быццам хацела змыць з сябе ўсё тое, чым набрыняла ў гэтай хаце. У ваннай было больш ванюча і непрыемна, патыхала нечым кіслым і вільготным. Але халодная вада супакоіла яе, выраўняла збольшага душэўны стан.

Марынка сядзела на падлозе з Графам, гладзіла яго, як быццам развітвалася з ім.

– Вы яго выбралі? – папыталася дзяўчынка ў госці.

– Яго, Марынка. Графам назвала.

– Графам? – шчыра падзівілася малая, нахіляючыся да пысы шчанюка. – Граф! Граф! Гаф!.. Гаф!... Але ж гэта не хлопчык, а дзяўчынка, значыць, Графа.

– Хай будзе Графа, Графка. Прыгожа.

Алачка дастала з сумачкі шакаладкі і падала Марынцы.

– Гэта табе.

– Дзякую, Ала Антонаўна.

– На здароўе! Прыязджай да мяне ў госці, добра?

– Добра. Як возьме мамка.

– Возьме. Я папрашу яе.

Хацелася забраць Графа зараз жа, але падумала, што калі ў аўтобусе ён абмочыць ёй спадніцу, не будзе ведаць, што рабіць.

– Грошы калі вам аддаць – цяпер, ці пазней, калі прывязеце Графа?

– Не-не, усё па-чэснаму, – захітаў адмоўна галавой Селівон. – Як прывязем – тады і грошы аддасце. Я падбяру кнігі і выразкі з газет і часопісаў, каб вы ведалі ўсё пра сабак. У вас дома і будзе першы ўрок. Згодны так?

– Згодна. Дзякую вам. Прыязджайце.

Алачцы такая пастаноўка пытання спадабалася – не рвачы, здаецца, людзі простыя, са сваімі заганамі і недахопамі (а ў каго іх няма?), якія хочуць сваёй працай здабыць капейчыну. Яна і перажываць не будзе за грошы, якія б аддала загадзя.

Падышла да дзвярэй:

– Калі вас чакаць?

– А калі вам зручна? – падышла Тоня, расчырванелая, задаволеная, што гешэфт адбыўся, што ёй гандаль дае прыбытак, глядзела прыхільна ў вочы. – Заўтра? Паслязаўтра?

– Давайце паслязаўтра. Пасля работы. У гадзін шэсць.

– Добра. І нам такое падыходзіць. Чакайце. Мы прыедзем з Графам. Так, Граф?

Марынка ляжала на падлозе, сваім носам дакранулася да носа Графа. У руцэ – распачатая шакаладка. Шкада, мусіць, было ёй развітвацца са шчанюком. Але ж бізнес ёсць бізнес. Паслязаўтра яна аддасць за яго пяць тысячаў, і ён будзе бегаць па кватэры, радаваць сыноў.

Алачка верыла, што выгадуе і выхавае з яго выдатнага сабаку – разумнага і паслухмянага.

А за ўсе яе клопаты і турботу, пяшчоту і ласку прынясе прыбытак у сто тысячаў... Сто тысячаў...

– Тады – да паслязаўтра. Адрас я свой вам дала. Ехаць проста і лёгка. Як і ў вас – дом каля прыпынку. Ды я вас убачу з акна. Усяго добрага. І Марынку не забудзьце ўзяць з сабой.

– Добра. Да пабачэння!

Зачыніла за сабою дзверы і пастаралася як хутчэй выйсці на вуліцу, каб удыхнуць свежага паветра. Выйшла ў двор, села на лавачку ў ценю, і доўга не магла ачомацца. Недзе ў глыбіні душы ледзь прыкметна жыла, віравала думка – плюнуць на ўсё, вярнуцца назад, пастукаць у дзверы і сказаць, што перадумала, што не будзе займацца сабачай справай... Але перад вачыма настойліва блішчэла лічба з адзінкай і некалькімі нулямі, і яскрава бачыла тых сабак, у сне, якія клалі перад ёю купюры, купюры, купюры...

“Не! Я яшчэ пазмагаюся! Я не здамся! Дакажу, што і сабакі могуць абагаціць мяне. А што?”

Пераламала сябе, і ўздыхнула лягчэй, паспакайнела на сэрцы. О, Алачка не такая, каб здавацца абставінам у палон! Хутчэй абставіны здадуцца ёй...

Алачка папарадкавала ўсё ў кватэры – прапаласкала бялізну, нагатавала для дзяцей катлет на заўтрашні дзень, адпрасавала бялізну, якая высахла на балконе – на вуліцы было цёпла і суха; зашыла старэйшаму сыну дзірку ў штанах, гледзячы адначасова ўрыўкамі мексіканскі серыял; уклала дзяцей на ноч...

Зноў замачыла бялізну, і глыбокай ноччу прылегла ў ложак.

Над галавой, на брыжыку ложка, ляжалі апошнія газеты і “Каралева Марго”.  Перад сном падабалася ёй ныраць у Гарбачоўска-Ельцынскую газетную сварку і звягу. Прабягала вокам па беларускіх газетах, чытала на той мове, якую ненавідзела, і дзецям з малых год унушыла, як, дарэчы, і бацька яе, што гаварыць на “дзеравенска-калхознай” мове вельмі “непрылічна”, што гэта не ўпрыгожвае інтэлігентную сям’ю савецкага медыцынскага работніка...

Алачка жыла Масквой і Варшавай.

Яна са скуры вылузалася б, каб паказаць, асабліва на людзях, што яна самая сапраўдная інтэлігентка, і не бяда, што бацька яе, і бацькавыя бацькі да такой касты ніколі  не належалі, а сама яна ўжо колькі год не можа прачытаць адну-адзіную кнігу “Марго”... То яны, бацькі, а вось яна мае ўсё, што ёсць у інтэлігентаў – машыну і відак, хату і мэблю ў ёй, апранаецца па апошняй модзе, чытае разумныя кнігі і газеты, цікавіцца палітыкай... І размаўляе на чыста русском языке. І за сталом есць, як сапраўдная інтэлігентка –

выстаўляе какетліва мізінчык, і міміка, і пастава, усё-усё ў ёй гаворыць пра тое, што ў яе жылах цячэ тая блакітная кроў інтэлігенцкага саслоўя...

Ледзь чутна зазумерыў тэлефон – мякка, быццам прасіў у гаспадыні прабачэння за турботы. Рука адклала “Каралеву”, узяла слухаўку.

– Да-да, – з пявучым расцягам прамовіла Алачка, напручваючы слых, хто б гэта мог званіць у такі позні час.

– Гэта я – Валера, – пачуўся ў трубцы вясёлы і бадзёры голас. – Прывітанне з добразычлівай Прыбалтыкі!

– А, ты? Думаю, дзе падзеўся – як скрозь зямлю праваліўся.

– Правільна, я там быў, дзе скрозь зямлю і праваьваюцца.

– Дзе гэта, Валера?

– Прабач, што не падаваў голасу. Кінулі ў гарачую кропку – у Арменію, дзе ліецца кроў. Там ні з кім сувязі не трымаў – нельга было.

– Зразумела. Адкуль звоніш – з дому?

– Не, Алачка, з дзяжурства.

– Таксама зразумела.

– Алачка, я адразу да галоўнага. Ты любіш прыроду?

Яна насцярожана задумалася: “Куды ён гне? Для чаго славесная гульня?”

Адказала ж коратка:

– Канечне ж, люблю.

– Тады як ты глядзіш на тое, што мы маглі б адправіцца ў суботу на паляванне. Пераначуем у лесе, ёсць добрыя палаткі і будуць усе выгоды. Шашлыкі прыгатуем. Ёсць добрае крымскае віно. А ў нядзельку, пад вечар, вернемся дадому... Што адкажаш на маю прапанову?

Яна нейкі час маўчыць, абдумвае і ўзважвае, не хоча адразу ж і абрадавана адгуквацца на яго заляцанне, успамінае, ці вольная субота, ці не паламаецца які іншы план, і што з таго будзе, калі яна згодзіцца на паездку...

– Ну, што маўчыш, Алачка?

– Думаю. Нечаканая прапанова. А я гляджу на календар, ці не загружана ў суботу і ў нядзелю.

– Да суботы яшчэ два дні. Я проста прапанаваў, а ты глядзі. У мяне будзе ўсё гатова, астатняе залежыць толькі ад цябе. Табе спадабаецца, даю слова. Будуць яшчэ маіх два сябрукі, і яны са сваімі сяброўкамі. Людзі правераныя, надзейныя. Таму заўтра вечарам, у такі ж час, я табе пазваню зноў. Вазьму спецыяльна дзяжурства, каб у два выхадныя мяне не маглі чапнуць, і гэтак далей...

Ёй і хочацца адразу сказаць, прызнацца, што яна на ўсё згодна, але ж і разважлівасць інтэлігенткі, якой яна сама сябе лічыць, не дазваляе адразу

кідацца ў вір з галавой, цвярозы розум бярэ верх, і яна расцягвае паўзу, стараючыся прыдаць размове значнасць і вагу, уздыхае:

– Трэба падумаць. Баюся, каб хто не паламаў планы...

– Тады пазваніць заўтра?

– Так лепш будзе. А я пастараюся ўсё ўладзіць. Думаю, што мы здзейснім твой план. Добрага табе дзяжурства.

– А табе добрых сноў. Усяго найлепшага, цалую.

Яна ўсміхнулася, паклала слухаўку. Аб’явіўся, усё-ткі, а думалася, што ніколі больш не падасць голасу. Пэўна ж, хлусіць, што знаходзіўся ў Арменіі, але ж не праверыш, ды і навошта ёй тое, якая ў тым розніца. Пазваніў жа, значыць, засумаваў, значыць, хоча пабыць разам, ды і вунь якую забаву прапаноўвае. Родненькі граф вунь амаль кожныя выхадныя на паляванні знікае разам з Абламейкам і сябрамі. Вось яна і паглядзіць, як яны там страляюць, якія трафеі здабываюць у тым лесе, на лугах ды азёрах...

Адчувала, ды і ведала, што паляванне – гэта толькі шырма, бабы і гарэлка галоўнае... Вось і яна далучыцца да таго, у чым варыўся Віцік, зразумее асалоду і водар начных вогнішчаў... Рука пацягнулася да выключальніка, пстрыкнула клавішай, і ў пакоі стала цёмна.

Потым з вуліцы ад начнога ліхтара ў спальню прабіўся прамень святла і прыліп да сцяны, да светлых шпалераў. Але яна ўжо таго не бачыла, прымружыла вейкі і чакала, калі яе агорне цёплы і спакойны сон. Уяўляла, як добра будзе разам з Валерам, як ён зноў закіне яе пад воблакі, і яна будзе лётаць шчаслівай птушкай у тым чароўна-салодкім мроіве...

Мышка... Так ахрысцілі маладую жонку Абламейкі. Вяртлявая, хітрая, вочы так і шныраць туд-сюд, ніводнае слова вухам не прапусціць, ніводзін жэст чый-небудзь не праслізне па-за яе ўвагай...

Худзенькая, росту невысокага, гнуткая станам, прычоска з завітымі залацістымі косамі. Ходзіць нячутна, сапраўды як мышка, знянацку вынырне з дзвярэй і здзіўляе ўсіх – пра яе гавораць, а яна тут як тут. Таму стараліся пра яе і не гаварыць зусім, каб не ўчула, каб пасля не нагаварыла ў запале чаго непрыемнага для кожнага...

Абламейка сівеў з кожным месяцам усё больш і больш. Наколькі сівеў, настолькі ж і аддаляўся ад жонкі. Раней і паддобрываўся да яе пачкамі грошай – суне пад сталом на рабоце пачак, а яна праз колькі хвілін шмыг за дзверы – толькі яе і бачылі. Па крамах пабяжыць, будзе шнырыць, шукаць нешта, купляць усё, што пад рукі пападзе. Пакуль не растрыньчыць тыя тысячы, дадому не прыйдзе. Проста хвароба ў яе такая была – траціць грошы.Сама ж зарабляла мала, амаль меней за ўсіх. А навошта? А Абламейка

для чаго ў яе? Да яе, як да жонкі Абламейкі, галоўны не чапляўся, бо з аднаго боку, быў і кумам (ведаў Абламейка, чым абяззброіць Зуя), а з другога боку, сам ліцейшчык пад п'яную руку мог нагнуць такіх мацюкоў, не кантралюючы сябе, што галоўны не ведаў бы, куды і падзець сябе. Не ведаў, як ад яго пазбавіцца – і шкадаваў, і пабойваўся адначасова. Ліцейшчык з кожным днём заліваў у сябе гарэлку ўсё больш і больш. Калі-нікалі жонка прыходзіла на працу з падбітым вокам ці сінякамі на плячах. Не пыталіся пра тое, а яна сама і не расказвала, не хвалілася, не скардзілася. Напачатку хлусіла, што ў пограб спускалася, ды з драбіны сарвалася, а потым і перастала, ведала, што не паверацъ яе хлусні, бо і муж прыходзіў на працу з драпінамі на твары – як з катамі біўся.

Мышка магла з'ехаць на месяц-два да сваёй цёткі ў далёкі Растоў. Абламейка заставаўся адзін, без мышкі, без дачкі, без сняданкаў і абедаў. Піў тады да паўсмерці...

Тады ж прыходзіла, ведаючы пра яго адзіноцтва, суседка Марына, прыходзіла без запрашэння, спадзеючыся на нешта.

– Галава гудзіць, Абламейка, пасля ўчарашняга. Ці не пачаставаў бы грамчыкам... – наведалася на цямочку, расфуфыраная, наквэцаная парфумай, каб не прамазаць, каб прама “у дзеясятачку”, каб сябе не абразіць і яго не пакрыўдзіць...

Ён ляжаў у ложку – у самога трашчала ў галаве, нават не памятаў, з кім учора сядзеў да поўначы, у кутку стаяла батарэя пустых пляшак з-пад піва і гарэлкі.

– Я і сам такі – каласнікі гараць. Не ведаю, ці ёсць, ці засталося што... Здаецца, на падваконне ставіў учора паўпляшкі, за фіранку. Паглядзі...

Яна, віхляючы зазыўна азадкам, да якога колькі разоў прыкладваўся ён і не шкадаваў пра тое, паглядзела на ўсе вокны, але безвынікова. Пакіравала да таго, што знаходзілася каля дзвярэй. Адхінула фіранку і шчасліва заўсміхалася – стаіць родненькая, аж паверыць у тое немагчыма, стаіць, але паўпляшачкі, заткнутая коркам. За вазончык схаваная. І то шчасце. Марына прытуліла яе да грудзей як немаўля, пацалавала потым за халодны бачок, усклікнула:

– Які ты малайчына, Абламейка! На сёння пакінуў... Такое рэдка здараецца – гудзяць жа да канца, а ты... Ай і малайчына, ай і мудрэц, ета самае!..

Жанчына акуратна наліла ў шклянку, якая стаяла тут жа, на стале, меней паловы, падала першаму гаспадару:

– Каўцяні, ета-самае, палячыся...

Ён не чакаў, калі яна сабе нальe, каб выпіць разам, каб стукнуцца бакамі шклянак, адным махам выліў у асмяглы рот, не скрывіўся, толькі кракатнуў

ад задавальнення, прымружыў вочы. Марына ж расцягвала асалоду, трымала ў руцэ налітае, глядзела на Абламейку, прыкідвала, што з яго можна будзе ўзяць – ці здатны ён на што-небудзь. Палову намечанага яна ўзяла, а вось як з астатнім? Як бы гэта акуратна падкаціцца да яго, не ўзлаваць. Ведала і адчувала нутром, што вельмі кепска папасці мужчыне не пад настрой, вельмі кепска... Але надзеі не пакідала, настройвала сябе, настройвала і яго... Выпіла, не спяшаючыся, за некалькі доўгіх і працяглых глыткоў, цмокнула языком, няспешна паставіла шклянку на брыжык стала. Адламала ад сухой скарынкі крышыначку, у рот укінула...

– Толькі не думай, Маша, у ложак ты мяне не зацягнеш. Сёння не баец я, сама бачыш, што анучка...

– Нічога, ета самае, што не баец. Я і мёртвага падыму з таго свету. Табе і рабіць нічога не прыйдзецца – я ўсё зраблю сама.

– Тады рабі, што хочаш. Засталася яшчэ кропля?

– А як жа! Засталося, дарагі суседзік, засталося. Ета самае, на два разікі яшчэ. Па грамульцы. Акурат на дваіх. Як ведаў, што я наведаюся. Трымай, і закусі во, ета самае...

Яна распранулася і легла побач, зашылася пад прасціну. Але не спяшалася, галоўнае, што сусед не прагнаў яе, а астатняе ўжо залежыць ад яе. Яна згодна і на тое, не першы раз...

На працу ён не пайшоў. Праз гадзіну зноў, знясілены, заснуў. Марына пакінула яго аднаго – падалася далей па сваіх клопатах.

Ачомаўся на трэція суткі – пад раніцу. Завінулі сябры, завінула Марына, – і ўсё пачалося спачатку, завіхурылася па новым крузе. У паліклініку з’явіўся счарнелы і сінякамі пад вачыма – як хто таптаўся па ім ці запрагаў у хамут. Але ніхто не папытаўся, не пацікавіўся, бо выдатна кожны ведаў, што з ім магло быць, як і ведалі, што цяпер ён будзе хадзіць маўклівы і паслухмяны, хоць да раны прыкладай. Да яго адзін за адным падыходзілі зубныя тэхнікі, прасілі адліць зубы, бо ўсе тэрміны прайшлі, што галоўны бегае і шукае яго...

– Нічога, патрывае галоўны, патрываеце і вы. Не спяшайцеся, усе па чарзе. Будзеце прыставаць, зусім адліваць не буду...

Вось і пагавары з ім. Як барчук, як панок, як незаменны. І галоўнаму не паскардзішся, бо і Зуй яго баіцца зачапіць, бо пашле пра ўсіх і прыгразіць яшчэ, што пакажа, дзе ракі зімуюць... Чакалі, калі душа памякчэе ў яго, калі на твары ўсмешка з’явіцца. Чарачку для яго падрыхтавалі, не больш, баючыся, каб зноў не нырнуў у запой ліцейшчык. Ён і сам не хацеў нырцы тыя даваць... А потым і Мышка вярнулася. Абламейка перамяніўся, павесялеў, на працу прыйшоў паголены і наадэкалонены, з парога абвясціў:

– Ну, каму найперш трэба, налятай, браты і сёстры!

Вось тады яго працаздольнасці і апантанасці можна было пазайздросціць – за тыдзень выконваў месячную норму. Амаль начаваў у сваёй ліцейцы, каб замаліць свой грэх перад зубнымі тэхнікамі. І ўсё ў яго йшло спорна, ладзілася, усё спявала пад рукамі. Яму падсоўвалі дзяржаўныя работы і "хейфіц" – так называлі яны "левыя" работы, калі рабілі знаёмым ці па нечай просьбе.

Ён тады чараваў у сваёй ліцейцы бязвылазна, насвістваў сваю любімую мелодыю, смяяўся без прычыны, рагатаў. Не браў і кроплі ў рот. Яго і не запрашалі, не прапаноўвалі, бо ведалі, што Абламейка можа зноў забурыцца на паўмесяца, а тое ўдарыць не толькі па асабістай кішэні, а і па паліклініцы.

Тады і галоўны падыходзіў да яго, смела размаўляў загадчык артапедычнага аддзялення Петруноў. Шаўковы быў Абламейка, падатлівы, хоць на Дошку гонару яго партрэт прымацоўвай. Вось да такога і рахманага і падкацілася Мышка. У першыя дні не прыставала да яго – усё добра разумела, бо і трусы Марынчыны знайшла пад падушкай, выкінула іх адразу на сметнік, – насмажыла курэй, свініны на рынку адборнай накупіла. Нагатавала ўсяго, каб адкарміць, адхаяць мужа, выраўняць яго душэўны стан, улагодзіць добрым позіркам і словам, душэўнай спагадай. Сама ж падлашчылася, разбудзіла ў мужа тыя сонныя і стомленыя струны, падняла яго на тыя ранейшыя вышыні, калі яны яшчэ толькі пачыналі сямейнае жыццё.

У стомленага ўжо, улагоджанага і сытага, шампанскім падлечанага, і папыталася:

– Як ты глядзіш, Колечка, на тое, каб я ў вясковай цішыні сабе дамок прыдбала?

– Як гэта?

– Мая сяброўка навучыла, даўняя, яна аграномам працуе ў саўгасе, што пад Рудняй. У іх шмат перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. Даюць назусім, калі ўнясеш нейкі працэнт за дом.

Ён пакуль нічога не разумеў. Да яго не даходзіў сэнс таго, што прапаноўвала жонка. Домік? Для чаго? Навошта?

Мышка ўжо тысячы і тысячы разоў пракручвала лічбы ў галаве, асэнсоўвала варыянты, і той план пачынаў ужо набываць рэальныя рысы, рабіўся дасягальным і рэальным. Яна заблытвала сцежкі перад мужам, кружыла вакол галоўнага, потым зноўку выводзіла думку на роўную дарогу.

– Дык ты ж на рабоце лічышся тут, у горадзе... І гэты ж дом на табе лічыцца. А ў пашпарце ты распісана са мною. Як жа я? Ты ўсё абдумала?

Яна прытулілася бліжэй да яго, пяшчотней зашаптала:

– Абдумала ўсё да драбніц. Я ж не збіраюся перабірацца туды назусім жыць. Хачу афарміць на сябе дом. Ён і дачай будзе для нас, адпачываць

будзем прыязджаць туды. Нейкі агародзік засеем. А распісаны... Абдумала. Нам трэба будзе на нейкі час развесціся з табою, каб мне быць маці-адзіночкай. Там уладкуюся на працу, аформлю на сябе селішча, а потым і ты прыедзеш да мяне... А не, дык я буду штодзённа прыязджаць сюды.

– Ты хочаш жыць там? – ухапіўся за вымаўленую думку Мікола і насцярожыўся. – Да чаго гэта ты хіліш?

– Чаму жыць? Да нас прыязджаць будзеш... І я прыязджаць да цябе буду. Будзем жыць на два дамы. Затое дырэктар саўгаса будзе выдзяляць мне бясплатна гародніну і мяса за бясцэнак. Я хачу, каб да мяне прывыклі там, прыгледзеліся. Тады і дом за мною замацуецца. Юрыдычна. А сёння дом – гэта ўсё.

Абламейка жмурыўся, быццам яму ў твар упіраліся промні зыркага сонца – асэнсоўваў прапанову, на веру не браў, ведаў, што жоначка можа замысліць такое, што і тысячы шуфляў не разграбуць яе афёру...

Якую яна хоча мець з гэтага выгаду? Але чым больш напручваў мазгі, тым больш заблытваўся, спатыкаўся, быццам ішоў па сухім высокім верасоўніку ў глухім лесе, а потым набрыў на балота, дзе ні апірышча нагам, ні рукам няма за што зачапіцца...

– Прабач, Галінка, але да мяне ніяк не даходзіць сэнс тваёй задумы – хата ў вёсцы, развод, сяброўка-аграном... Для чаго тое ўсё? Каму трэба гэта – мне, табе, дачцэ?

У жонкі на шчоках выступіла лёгкая чырвань, яшчэ ярчэй і выразней праступала рабаціння, яна зрабіла акруглыя вочы, заўсміхалася, не ведаючы, як глыбей захаваць сэнс задуманай аперацыі.

– Хоць ты, Абламейка, і старэй за мяне, мудрэй, здавалася б, а дурны, даруй мне, як сібірскі бот... Толькі і ведаеш, што жлукціць гарэлку ды да баб бегаць. А пра будучае дачкі нашай Зінкі, пра нашае будучае – ты анічагусенькі не дбаеш.

Абламейка на папрок нічога не адказаў – прапусціў міма вушэй, пракаўтнуў і крыўду, і абразу, не ведаў, адкуль у яе такая інфармацыя – сама здагадалася ці данеслі суседкі? Ці калегі па рабоце?

А Галіна на гэта яму сваё маўклівае меркаванне: “Хай ведае, чыё сала з’еў і маўчыць, – бач, не апраўдваецца... Не ведаеш, каханенькі-родненькі, што цябе далей чакае... Я адпомшчу табе за ўсё. За здзекі і сінякі, слёзы і знявагу. За здраду. Толькі таму я ласкавая з табой сёння... Праз сілу.”

– Але зноў жа – не разумею нічога. Блытаніна ў цябе. Ты не збівайся з галоўнага, не наводзь туману. Нешта ж ты надумала, душа мая чуе. Слухаю цябе далей. Давай, накручвай.

Абламейка ўжо напруціўся, пачаў сціскацца, бы спружына, адчуваў небяспеку, падкоп. За дзесяць гадоў жыцця з Галкай навучыўся адрозніваць

фальш ад праўды, і таму залішняя яе пяшчота і адданасць выклікалі ў яго падазронасць.

– Эх, Абламейка, Абламейка, учарашнім днём жывеш. Пра заўтра не хочаш думаць, лянуешся, зусім мазгі прапіў, і абляніўся, абламеіўся... Пра Зінку не хочаш думаць. Пра нас не хочаш думаць. Ты што, думаеш, што на тваёй паліклініцы свет клінам сышоўся? Мелка плаваеш, мой міленькі! Прачніся, азірніся! Усе цяпер прадпрымальнікі, бізнесмены. Твой жа лепшы сябар Граф збіраецца будаваць катэдж на беразе Нёмана.

– Не ведаў. Цікава. Мне пра тое не казаў.

– І не скажа. Бо ў сакрэце трымае.

– Ты адкуль ведаеш?

– Ведаю. Сяброўка ў зямельным аддзеле выканкама працуе, расказала. А ў будучым яго катэджык больш мільёна каштаваць будзе. Вось як...

Мікола хмыкнуў, павярнуўся да жонкі:

– А мы з табой якое дачыненне маем да бізнесу?

Ён пачаў паціху выблытвацца з павучыння неразумення, цаляў, як п’яны, нагой на бітую сцежку, а яго кідала то ўлева, то ўправа. Але нешта замінала, перашкаджала, слізгаў і ледзьве не падаў.

– Не зусім да бізнесу, а да таго, што трэба сёння галавой мікіціць. Згодна, ты мікіціш даўно на сваім месцы, грошы грабеш. І неблагія. Так што хутчэй павінен зразумець мяне. Ты думаеш пра сённяшні дзень, а я – пра заўтрашні, паслязаўтрашні. Пастарайся зразумець мяне.

– А я і стараюся, вельмі стараюся, ды нешта не атрымліваецца ў мяне, слабы на тэсты стаў.

Мікола ўсміхнуўся, наліў сабе чырвонага віна, палову фужэра жонцы. Адпіў колькі глыткоў свайго, глядзеў на жонку, чакаў, калі ж яна раскрые перад ім свае карты. І ці раскрые?

– Калі вельмі захочаш, то і атрымаецца. Ты пнешся даведацца, а я якія выгоды мець буду з гэтага?

– Вот іменна. Даўно хачу ведаць.

– Іх, Мікола, шмат. Па-першае, хата будзе лічыцца на мне. А гэта азначае, што я ёю магу распараджацца, як захачу. Верка навучыла, што калі я добра і з розумам пагавару  з дырэктарам саўгаса, ну, дам яму тысяч дзесяць-пятнаццаць, то я магу той дом і прыватызаваць. А потым яго і прададзім – у сто разоў даражэй. Па-другое. За год можна атрымаць легкавую машыну – нават па льготнай цане. Трэцяе. Цяпер у пяцьдзеясят-сто разоў падскочыў кошт будаўнічых матэрыялаў. Мне ў саўгасе, як медработніку, ён будзе прададзены амаль бясплатна.

– А навошта табе будаўнічыя матэрыялы?

– Не разумееш? Нашую ж, гэтую хату, трэба абсталяваць як след. Абшыць цэглай знадворку. Зрабіць склеп, бо не будзе дзе бочкі з саленнямі і марынадамі ставіць. Бульбу ж трэба хаваць на зіму, гародніну. Ды і гараж зрабіць трэба. Сабака гэта добра, а раптам заб'юць яго, хто ахоўваць будзе?

Мікола зноў наліў сабе. Потым выпіў.

– Ты хоць разумееш, што я хачу? – адхілілася Мышка ад сваіх думак-разважанняў, на Абламейку паглядзела, вокам стрэліла, не даючы апамятацца, ішла напралом, каб заблытаць усё, каб ён і сам стаміўся ад сваіх думак.

– Ну і размах у цябе, жонка! Не падазраваў! І адкуль тое ў цябе? Хто надаўміў на такое? Не мела баба клопату, вось як усё тое называецца...

– А я не магу без клопатаў, Абламейка! Мне надакучыла жыць жабрачкай і нічога не рабіць, каб змяніць гэта. Я дзейнічаць хачу, працаваць, рабіць вялікія справы і мець вялікія грошы. Ува мне гаспадарнік прачнуўся. Бо вялікі грэх не падняць з зямлі залатнік, які валяецца. Мікола, ты не хвалюйся, я ўвесь цяжар узвалю на свае плечы. Я маладзейшая, я вытрымаю, ды мне і цікава тое рабіць. Ты толькі назіраць будзеш, не перашкаджаць, ну і паможаш калі – парадай. Добрым словам... Ну, Колечка, падумай, рашыся. Вось пабачыш, якія далі-гарызонты адкрыюцца перад намі...

Яна зноў пачала лашчыцца да яго, абдымала, туліла да сябе, абвалоквала сваёй усепакорнай сілай, абуджала ў ім новае жаданне. Ведала, раз Мікола смокча спакваля віно, то ў яго нараджаецца лагодны і падатлівы настрой. Ён амаль саспеў, бы той асенні яблык – вось-вось упадзе на зямлю. І тут вельмі важна не атрэсці яго заўчасна і мусова, а дачакацца, калі ён сам упадзе – даспелы, ружовенькі, пахкі...

– Ну і задачкі ты задаеш, мая жоначка! То з'язджаеш да цёткі, не папярэдзіўшы, на месяц, то прыязджаеш нечакана, без папярэджання – я сустрэў бы, падрыхтаваўся б, а то выкідваеш нейкія фантастычныя праджэкты, ад якіх галава ідзе кругам, і не ведаю, на якім я цяпер свеце...

– Не фантастычныя, а рэальныя. Па маёй сіле і розуму. Я ж не зялёненькая дзяўчынка, якая бачыць усё ў ружовым святле. Для мяне цяпер існуе адзін колер – рэальны, бо я жанчына, як кажуць, бальзакаўскага ўзросту, калі мяне ні ў чым ніхто не можа падмануць.

– А ці не задужа ў цябе худзенькія плечы – здужаеш? – ён прыняў рукі і яна паклала галаву на грудзі, косы рассыпаліся, зашлыкаталі. Мікола абняў яе, здзівіўся, адчуўшы ў сабе раптоўнае жаданне.

Галіна ведала, адчула найперш, што, здаецца, дамаглася свайго. Яго жаданне – яе маленькая перамога. І яна старалася не расчараваць яго, падняць на воблачныя вяршыні задавальнення. Ведала, што ў такія хвіліны

Мікола любіць яе сама больш, і тое ёй было даспадобы, – ён бывае яшчэ той, якога можна хоць і з прыкрасцю, але трываць, і можна без агіды адчуваць сябе жанчынай. Толькі тады, калі ён не дыхае ў твар гарэлачным перагарам і не гне мацюкі, не махае кулакамі... Перакананая была: такая бліскасць цяпер – як не самая апошняя, далей ужо, пасля гэтай, тэатральнай, будзе ўсё інакш, будзе так, як яна зажадае... Заставалася пасля ўсяго самая дробязь, самая галоўная дробязь – каб Абламейка падпісаў фіктыўныя дакументы на развод. А тое, што ён падпіша, у яе не было нават і расінкі сумнення. Толькі б не расчараваць яго, пабыць такой, якой ён і хоча, і жадае – калі ён наліваецца сам сілай, адчуваючы ў сабе прыліў магутнай сілы і энергіі. Пасля яго ўзлёту і радаснага падзення з яго хоць вяроўкі ві, працівіцца ні ў чым не будзе: кахаў ён яе да бяспамяцтва... Пра тое яна ведала. І карысталася яго слабасцю. Хітрая Мышка, ой хітрая. Норку сваю ведала. І цягнула ў яе ўсё, што траплялася ў яе вастранькія кіпцюрыкі, не грэбавала нічым – нават чалавечай душой...

Не ведаў, не здагадваўся Абламейка, што мышкай стаў ён сам, а яна – рыссю. Яна з цягам часу ператварылася ў вялікую драпежную кошку – злую, дзікую, якой не знаёмая ні спагада, ні жаласць. А мышку яна трымала не ў кіпцюрыках, а ў вострых зубах – вось-вось храсне хрыбетнік... Абламейка адчуваў сябе пакуль што магутным арланам, радаваўся, што яшчэ раз даказаў сабе, што ён можа пераўзысці свае магчымасці, ганарыўся, што ўзняўся вышэй самога сябе, узляцеў, і крылы ў яго былі налітыя сілай і порсткасцю, як ніколі, і яны не могуць ніколі падвесці, ім не страшны быў аніякі вецер-ураган... Наперадзе бачыліся толькі шчаслівыя і радасныя дні. Таму ён выціснуў з сябе, паміма сваёй волі, словы згоды:

– Ладна... Рабі, Галка, што хочаш...

12

Машына прыехала ў прызначаны час. І менавіта туды, куды і папрасіла Алачка – за рог аптэкі, у невялічкі тупічок. Зручна з двух бакоў – тое месца бачна з акна яе кухні, і, па-другое, да легкавушкі можна было падысці непрыкметна ад старонняга вока. Навошта суседзям бачыць?

Валеры быў загарэлы, як з курорта толькі што вярнуўся (мо і сапраўды быў у той Арменіі?), прачыніў перад ёю пярэднія дзверцы, радасна прамовіў:

– Усё зрабіў так, як ты і прасіла. Добры дзень. Усё ўпарадкавала?

– Здаецца, усё, – кінула сумку на задняе сядзенне.

– Малайчына. Мы добра правядзем час, абяцаю.

Ён узяў яе руку, паднёс да губ, пацалаваў. Нейкі час як быццам раздумваў, што рабіць далей. І папытаўся жартоўна:

– Ну, што, пагналі нашы гарадскіх?

Алачка кіўнула – паехалі.

– Пра цёплыя рэчы не забылася? – апамятаўся ён, удакладніў.

– Не, ты ж загадаў узяць.

– То на ўсялякі выпадак, у нас ёсць спальныя мяшкі. Ды і так не замерзнем – ночы цёплыя... Ды і мы, здаецца, не старыя яшчэ, ці не так?

Валеры жартаваў, глядзеў цёпла на сваю спадарожніцу, радаваўся, што ўсё добра складвалася – як ён і запланаваў. Адчувалася, быў заўсёды ўпэўнены ў сабе. Акуратна падстрыжаны, але не коратка, паголены да сінечы. Прамы, правільны падбародак, з ямачкай. Ёй, Алачцы, падабаліся валявыя, упэўненыя ў сабе мужчыны. З такімі лёгка, надзейна. Як за каменнай сцяной. Такія ведаюць сабе цану і высока ацэньваюць тых, хто згадзіўся быць побач з імі. І таму бяруць ад жыцця ўсё, што могуць, тое, што ім і належыць.

Губы ў Валеры тугія і адчувальныя. Яна іх памятала з тае першае ночы ў вагоне. Яна яшчэ ніколі не рабіла тое ў вагоне, і той учынак уразіў яе, прыемна ашаламіў. Але не расчараваў.

Машыну маёр вёў упэўнена, вольна трымаўся за рулём. Легкавік слухаўся гаспадара, падпарадкоўваўся яго думкам і жаданням. І рухавік працаваў бездакорна, прыглушана і ўпэўнена. І тут угадвалася рука вадзіцеля – догляд “жыгулёнку” ён забяспечваў належны.

Адна рука трымае стырно, правай дастаў з пластмасавай ячэйкі касету. Утыркнуў яе ў магнітолу. Палілася спакойная, добра запісаная музыка. Калонак не было бачна, яны недзе схаваныя ў бакавіне. Добрую музыку і выдатную замежную апаратуру Алачка любіла і магла ацаніць яе якасці. Кожны раз, калі на душу ціснуў незразумелы цяжар, яна ставіла гаючую мелодыю, клалася ў пасцель, прымружвала вейкі і слухала, слухала, слухала...

Валеры паклаў руку на Алаччына калена, лёгенька сціснуў:

– Сумавала па мне?

– А ты па мне?

– Сумаваў... І кожны дзень.

– І не мог напісаць ці пазваніць? Ці даць свой адрас ці тэлефон – праз сяброў?

– Не мог. Ні тое, ні другое... У нас была толькі рацыя, і ніякай больш сувязі. Нават жонка не ведала, дзе я знаходзіўся. Выконваў, так бы мовіць, заданне КДБ. І былі мы там інкогніта.

– На якім вы былі баку – улады ці людзей?

– Мы былі на баку закона і канстытуцыі, – нахмурыўся нечакана Валеры.

– Якой канстытуцыі – эсэсэраўскай ці іхняй?

– Канстытуцыі праўды. Навошта табе такія падрабязнасці? Ты ж не палітык. Ну, захацелі самастойнасці, ну, трэба было правучыць трохі...

– У мяне растуць сыны.

– Сынам тое не пагражае.

– Дай Бог...

Выехалі за горад з кіламетраў дзесяць. Маёр прыпаркаваў машыну да ўзбочыны. Прытуліў да сябе спадарожніцу, пацалаваў згаладала, прасунуў у расшпіленую кофтачку рукі і сціснуў цёплыя грудзі. Яна абняла яго за шыю, як адказала на пытанне, што поўнасцю належала яму.

– Мне так не хапала цябе доўгія месяцы – ты і ўявіць не можаш... – шаптаў ён, чуючы пах дарагіх французскіх духоў – амаль такіх, як і тады, у вагоне, але цяпер яшчэ больш далікатных і ледзь улоўных. – Снілася кожную ноч... Я і не ведаў, што такое можа быць...

Алачка маўчала, зараджалася яго настроем і жаданнем. Прыемна ёй было чуць такія словы, вельмі прыемна. То толькі граф нічога не разумеў у такой далікатнай справе, а мо і разумеў, ды не звяртаў увагі, лічыў, што яна старая і ёй тыя словы былі непатрэбныя... Ён жа прарочыў, што на яе ніхто і не гляне, што яна ўжо абабілася, з кожным днём робячыся ўсё больш непрыгожай і непрываблівай. Вось так, граф Шарамецьеў, як Вы, высокае ваша броддзе ці мосць, памыляецеся... Ці гаварыў мне апошнім часам такія словы? Ці надзяляў такой пяшчотай? І ці дарыў такія доўгія і салодкія ночы, як ён, Валеры? Адна ноч з ім перацягвала і пераважвала ўсе ночы, пражытыя з табою... Ды і маладзейшы ён нашмат мяне, так што не спісалі Алачку на бераг, не спісалі, у поўнай яна квецені і росквіце, у самым смаку, у поўнай яркай пары жадання і прываблівасці, вось так...

А музыка!.. Што яна рабіла з Алачкай! Выварочвала душу і сэрца, прымушала лётаць і танцаваць, усяляла ўпэўненасць толькі ва ўсё добрае, натхняла, пераконвала, што яна сваёй прыгажосцю даб’ецца ўсяго-ўсяго...

Яна знемаглася, упала на адкіднае сядзенне...

Дарога роўная, без калдобінаў. Толькі сустрэчны ветрык залятаў у прачыненае акно, студзіў твары. Усё гэтак жа мройна і пяшчотна лілася музыка, усё гэтак жа лагодна і ў прадчуванні яшчэ большай асалоды пачувалася Алаччына душа...

На прызначаным месцы – праз сорак кіламетраў – іх чакала белая “Волга”. Спераду сядзела двое мужчын, на заднім сядзенні дзве бялявыя маладыя дзяўчыны. Машыны сталі ўпрытык адна да адной, і таму спадарожніц льга было разгледзець. Алачка прыжмурылася, чэпка ўпілася позіркам, на

сэрцы адразу ж адлегла – дзяўчаты былі незнаёмыя, ніштаватыя, але просценькія, адным словам – дзяшовачкі...

Валеры адчыніў дзверцы, выйшаў з машыны. Падышоў да вадзіцеля з другога боку.

– Як у вас?

– Парадак.

– Усё захапілі неабходнае?

– А як жа – не навічкі.

– Тады – пагналі нашы гарадскіх?

– Даўно пара там быць.

Алачка страціла цікавасць да дзяўчат, прымружыла вочы, слухала мелодыю. Яны ж, седзячы ў “Волзе”, рагаталі з нечага, чуўся іх беспрычынны візгат.

Легкавушка ўздрыгнула – Валеры гэпнуўся на сваё месца.

– На іх не звяртай ніякай увагі. У лес аднаму сёння ездзіць не з рукі, рызыкоўна, сама ведаеш. Нават і са зброяй. А гуртам смялей. Але не па той прычыне – гуртам і весялей. А ноч у нас будзе спакойная і толькі нашая. Зразумела, Алачка?

– Я ўсё разумею. Ва ўсім падпарадкоўваюся і давяраю табе. Мне ж няма чаго асцерагацца – я вольная, разведзеная жанчына, нікому справаздач не даю. Сама сабе гаспадыня.

– Рады, што ты ўсё разумееш. Таму і люблю цябе за тое.

Ён зноў узяў яе руку і пацалаваў.

...Мужчыны і не старыя, і не маладыя. Акурат у тым узросце, калі дакладна і не скажаш, па колькі ім гадоў. Гаспадар “Волгі” – Толік Дзяйкун, загадваў харчовым магазінам. Высокі, стройны, пэўна ж, былы спартсмен. Валасы пышныя, цёмныя, без сівізны. На твары пастаянная ўсмешка, але найбольш маўчаў, наразаў хлеб і каўбасу.

Процілегласць яму – Руслан Гульскі. Той працаваў будаўніком, кіраваў будаўнічым упраўленнем, хадзіў у зяцях дырэктара ўнівермага. Гаварыў без перапынку, сыпаў і сыпаў анекдотамі, але расказваў без “солі”, прыстойна і з гумарам.Твару цыганскага, з вусікамі, з высокай смаляной шавялюрай. Вочы агністыя, шустрыя, гляне – праніжа наскрозь. У стракатай тэнісцы, у джынсах і красоўках – дэндзі.

Спачатку дзяўчаты трымаліся ад Алачкі адасоблена, адчуваючы, што яна не вельмі рада іх прысутнасці і задзірае свой кірпаты носік, паказваючы ў нечым сваю перавагу над імі. Але ў чым перавага? Яна ж такая, як і яны, ведама, чаго прыперлася са сваім маёрам... А пасля першай і другой чаркі

нябачныя грані недаверу сцерліся, і яны ўжо гаварылі і смяяліся, як даўнія знаёмыя ці сяброўкі.

– Я прапаноўваю выпіць за нашых прыгожых дзяўчат – Алачку, Віку і Святлану, – падняў Толік шклянку, напоўненую да палавіны. – Каб у жыцці ім шанцавала на добрых людзей, асабліва на сяброў.

Алачцы тост спадабаўся. На душы адразу пацяплела – і ад выпітага, і ад слоў, яе душа адразу разамлела, супакоілася. Каньяк быў смачны, закусь была зроблена з густам – шашлыкі, якія так хутка згатаваў Толік, юшка са шчупакоў і ліноў, якія прыхапілі недзе па дарозе ў рыбакоў, сухая каўбаса і ікра, шмат зеляніны... І ўсё акуратна, з відэльцамі і нажамі, на складных століках. Пэўна ж, не першы раз ладзілі яны такое застолле і ведалі, трэба прызнаць, у гэтым толк. Усё было прыстойна, і Алачка не шкадавала, што прыняла Валераву прапанову. Дым касцярка, пах шашлыкоў, касмылі сівога туману, які пакрысе пачаў напаўзаць ад рачной затокі, – усё гэта разам узятае спрыяла добраму настрою, весялосці, упэўненасці, што вечар і ноч павінны прайсці хораша і весела.

– Я хачу тост сказаць! – падняла шклянку Светка, павяла плечуком, задзірыста страсянула галавой.

Яна ўжо на падпітку, думак і слоў не кантралявала, а мо і не рабіла тое ніколі. На твары весялосць, апантанасць.

– Давай, Свецік, слухаем цябе.

– Мы вып’ем за вас, хлопчыкі. Каб вас ніколі і ніхто не падводзіў, а вас не падводзіла здароўе, і каб ніколі не прападала жаданне жыць весела, апантана, напоўніцу. За вас!

Яна выпіла сваё за некалькі глыткоў, рэзка, са звонам паставіла шклянку на пластмасавую паверхню стала, абняла свайго спадарожніка, пацалавала і разрагаталася.

– Купацца! Купацца хачу! – зноў ускочыла з месца.

Алачка і вокам не паспела міргануць, як яна ў імгненне скінула з сябе сукенку і стаяла перад усімі голая, – загарэлая з ног да галавы, і нідзе белай плямінкі не было на целе. – Ну, чаго стаіцё? Асвяжыцца трэба...

Следам за ёю агалілася і Віка, гэтак жа хуценька скінуўшы з сябе адзенне, пабегла следам за сяброўкай і бухнулася ў ваду.

Алачцы купацца не хацелася. Яна сядзела на сваім месцы, глядзела, як яны плёхкаліся ў вадзе, як абдавалі адна адну пырскамі.

Не ўтрывалі, пайшлі да іх Толік і Руслан. Там ужо, на беразе, скінулі з сябе адзенне і без плавак кінуліся ў ваду. Лавілі сваіх спадарожніц, падныралі пад іх, і яны віскаталі голасна, і рэха ляцела далёка на другі бераг, на паплавы і лугі...

Весялосць працягвалася, набірала сілу.

– Падабаецца табе тут? – Валеры падсеў бліжэй, пацалаваў у аголенае калена.

– Харошыя мясціны. І паветра чыстае.

– Каб Чарнобыль не сапсаваў нам прыроду... Хіба ж знойдзеш прыгажэй за гэтыя такія мясціны? Лічу, што такіх няма. А тут, праўда, мясцінка чыстая і зацішная – як усё роўна Бог атуліў яе сваёй дланню... Пяць мікрарэнген усяго... Фон. А колькі той поскудзі яшчэ ў зямлі, ніхто не ведае, а калі і ведае, то ўсё роўна не скажа. А калі і скажа, то што з таго?

– Так, бяда напаткала нас, і вялікая бяда.

– Як ты глядзіш на тое, каб мы з табой на тыдзень-два закаціліся да Чорнага мора? Я купіў бы пуцёўкі на дваіх.

– Калі тое магчыма, то я згодна. Толькі каб загадзя ведаць, каб я дзяцей уладкавала.

– А як жа. А ты сама выберы час, і пра тое мне скажаш.

З Нёмана німфаў мужчыны неслі на руках. Паклалі іх пад ракітавы куст, самі побач леглі. Алачка адвяла позірк, баючыся пачырванець, здагадваючыся, як і што будзе далей...

Валеры сціснуў руку:

– Пойдзем у машыну? У мяне там усё падрыхтавана.

Яна пакорліва паднялася, першай пайшла паперадзе...

13

Познім вечарам ставілі палаткі.

Дзве. У адной, што была прасторней, зашыліся Толік і Руслан, з імі і німфы.У другой размясціліся Валеры і Алачка. Трошкі воддалеч, пад шатамі дуба. Алачцы такое зноў жа спадабалася, і яна была ўдзячна маёру за яго абачлівасць і далікатнасць у іх каханні. Яе нейкі час грызла асцярога, а, можа, і цікавасць – а што калі і іх пачнуць дзяліць між сабой, як Свету і Віку Руслан з Толікам, чаргуючы між сабой? Тады выходзіла, што яна павінна была паспытаць траіх... А, цікава, як бы тое выглядала? Ці атрымала б яна задавальненне? Некалі ў інтэрнаце, падчас вучобы ў інстытуце, рабілі студэнты такое. І казалі, што атрымлівалі вышэйшы кайф...

Яна ўсміхнулася ад сваіх блюзнерскіх думак... Настрой быў бесклапотны, без трывог. Нішто не вярэдзіла душу, нішто не прыгінала да зямлі, не прымушала забываць, што ты чалавек, што ты жанчына, што ёсць на зямлі нешта незямное і ўзвышанае... Скінула з сябе адзенне, каб нічога не замінала. Гладзіла валасатыя грудзі маёра, маўчала, заплюшчыўшы вочы, чакала,

ведаючы, што жаданае вось-вось прыйдзе... Валеры спраўдзіў яе спадзяванні, Валеры стрымаў сваё слова, што будзе весела, і ёй спадабаецца. Яшчэ раз падумала, што з ім надзейна, што з ім ніколі не будзе праблемаў. Як за каменнай сцяной сябе адчувала. Недзе пад поўнач, калі аціхлі спевы ў суседняй палатцы, калі змоўклі ў кустоўі галасы позніх птушак, калі пасля дзённай узрушанасці і душэўнага ўздыму на змену прыйшло супакаенне, стома і ўнутраная лагоднасць, з панадворку пачуліся галасы і крокі – чужакоў.

– Эй вы, чувакі, выходзьце – размова ёсць!..

Алачка ўздрыгнула, напруцілася, усю яе істоту ахапіла нечаканае хваляванне і страх. Здагадалася, што начныя госці прыйшлі не гасцяваць, ад іх можна чакаць усяго, нават самага страшнага.

– Што рабіць будзем, Валерка? – спалохана прашаптала Алачка – яе пачалі біць дрыжкі.

– Не бойся нічога, ты ж ведаеш, што я не дам цябе ў крыўду.

– Усё роўна баюся. За ўсіх нас.

– Загадваю не баяцца. Ляжы, не высоўвайся пакуль. Мо мясцовыя хлопцы, пажартаваць хочуць ці выпіць. Ляжы!..

Ён не губляў часу – хуценька насунуў джынсавыя штаны, апрануў шэрую куртку, якую купілі некалі разам у Рызе, выкульнуўся з палаткі. Незнаёмцаў было некалькі чалавек – у цемры і не разабраць, колькі. Зыркі прамень ліхтара ўдарыў у вочы, асляпіў. Ад палаткі ішлі, прыкрываючыся рукой, Толік і Руслан.

– У чым справа, хлопцы? – спакойным голасам спытаў Валеры, напручваючыся адначасова, ацэньваючы абстаноўку – калі што якое, то Толік і Руслан не памочнікі, у бойках, здаецца, не ўдзельнічалі, так што спадзявацца трэба на самога сябе, на свае сілы і спрыт.

– А ні ў чым... – голас з цемры са смяшком, нахабны, з выклікам. – Бабы ў вас ніштаватыя, падзяліцца трэба, а не, дык канфіскуем, яшчэ Ленін казаў, што дабром трэба дзяліцца. Ці не так, Свішч?

– Усё так, Чапа. Яны тут сексоляць, а дома жонкі аддаюцца другім.

– Свішч, а тут цэлая скрыня каньяку ў машыне, – данёсся радасны вокліч – голас быў тонкі, пісклявы. – Во жывуць, гады, і талоны ім не трэба. Відаць, свой каньячны завод маюць. Капіталісты! Рэквізаваць, Свішч?

Ну, тое ўжо занадта. Распараджаюцца, як гаспадары, адчуваючы беспакаранасць, а прыезджых безабароннасць. Нехта ўдарыў Толіка ў жывот, і ён, скурчыўшыся, упаў на зямлю. Той, што стаяў наперадзе – цень толькі падаў на Валеру, – замахнуўся, і бліскучае лязо нажа паласнула па левай руцэ. Маёр сцішыў, безумоўна, удар, але адчуў, як кроў пацякла да локця. Раздумваць больш было нельга ні секунды – пахла смерцю.

Маёр упаў нечакана Свішчу пад ногі, адначасова выхапіўшы з-за папругі “ТТ”, збіў таго з ног. Стрэліў у ліхтар – зверху ўніз, каб нікога не закрануць куляй. Потым рэзка ўскочыў. Калі зрок прызвычаіўся да паўцемры, выдзеліў у шэрым сутонні постаць і ўдарыў рукаяццю па галаве. Пачуў воклiч злева – рэзка падскочыў, і ўжо з вышыні ўдарыў туды, адчуў, што ў сківіцу...

Ліхтар упаў і пакаціўся па зямлі – побач з галавой Свішча. Валеры падхапіў яго і навёў прамень на машыну – там было яшчэ трое. Адзін з іх цэліўся ў яго бок, але не страляў, бо не ведаў, хто перад ім. Валеры выключыў святло і кінуўся ўбок, каб нечакана падысці да іх. Калі ж пачуўся стрэл, ён знаходзіўся побач і выбіў рукаяткай нагана зброю з рук, нагой зачапіў крайняга, што крычаў. Заставаўся адзін, той, што стаяў каля капота машыны. Яго паклаў на зямлю адным ударам, той нават і не войкнуў.

Усё адбылося імгова, у некалькі імгненняў. Валеры пасвяціў на зямлю, адшукаў наган. Казённы, з нумарам...

– Толік, Руслан, вы дзе?

– Тут мы...

– Уключыце фары! Хутка!

Валеры пасцягваў начных гасцей у адно месца – пад прамень святла. Адзін з іх паспрабаваў замахнуцца, але яго супакоіў адным ударам далані.

– Хлопцы, мы пажартавалі, адпусціце, – заенчыў, ачуняўшы, Свішч, зразумеўшы, у якую сітуацыю папаў, спрабаваў падняцца.

Валеры рэзка і наводмаш ссекануў яго па карку, крыкнуў:

– Ляжаць! Хто будзе ўцякаць – страляю!

Падышоў да свае машыны, пстрыкнуў уключальнікам, і ў дынаміку пачуўся гул і трэск эфіру.

– Я – “сёмы”, я – “сёмы”! Хто мяне чуе, адкажыце!

Толькі на чацвёрты выклік адгукнулася даішная машына, што ішла па трасе.

– Я пад вёскай Асаліны, ля Нёмана. Адразу ж за ўказальнікам. Затрымалі начных бандытаў – узброеных нажамі і наганам. Пяцёра. Прашу прыехаць. Маёр Сташкевіч.

– Абстаноўку зразумеў, таварыш маёр, накіроўваемся да вас...

Калі бандытаў забралі, калі ўсё ўвайшло ў норму, калі зразумелі, што небяспека мінула, Руслан падняў над галавой пляшку, крыкнуў:

– За Валеру вып’ем. Правучыў ён іх добра. Малайчына!

Дзяўчаты падтрымалі тост, але ранейшай весялосці на іх тварах не адбівалася. Дзіўна, але Алачка перанесла начное здарэнне спакойна. Магічныя Валеравы словы ўсялілі адразу ў яе ўпэўненасць, што ён нічога не трэба баяцца. Яна нават і не зразумела, што адбылося. Каньяк выпіла з задаваль-

неннем, запіла халодным адварам юшкі... Потым толькі ён папрасіў яе перавязаць руку, каб спыніць кроў.

Праз паўгадзіны яна ляжала побач з маёрам. Чула, як білася яго сэрца – роўна, рытмічна. І яшчэ раз пацвердзіла сваю думку – з ім надзейна і спакойна. Падумалася: “Слабакоў у гарачыя кропкі не пасылаюць...” Заснула хутка, і прыйшоў да яе прыгожы сон – яна купалася ў цёплым моры, а пасля на моцных мускулістых руках нёс яе некуды маёр Сташкевіч, шаптаў ёй на вуха пяшчотныя словы... Яна добра ведала, куды ён нёс яе...

...Спалі да дзевяці раніцы.

Першым падняўся Толік. Расклаў касцёр, разагрэў юшку, нарэзаў скрылікамі сыр, каўбасу. Калі ж усё было гатова, калі на стол паклаў яшчэ і некалькі лілій, якія сарваў у затоцы, крыкнуў:

– Эй, народ! Хопіць спаць! Пад’ём! Сняданак на стале чакае вас!

Алачка пайшла да рэчкі, памылася, прычасалася – хацела выглядаць прывабнай і гожай, як заўсёды, маладой і прыцягальнай.

Пагаліліся хлопцы, нагрэўшы вады, ласьёнамі твары аздобілі. Пра ўчарашняе не ўспаміналі, як і не было ноччу нічога. Пра тое напамінала хіба перабінтаваная рука Валеры.

– Я наліваю, але не ўсім.

– Усім, – паправіў Валеры, – нічога страшнага. Дарога ў нашым распараджэнні. На трасе ўсё будзе добра.

Каньяк сагрэў ранішнюю холаднасць у целе. Волкае паветра разлягалася па лузе. Сівыя касмылі туману шыліся ў затокі. Зноў стала весела, як і ўчора, і не хацелася ўжо раз’язджацца, не хацелася пакідаць прыгожы бераг рэчкі.

Спакойным і засяроджаным быў Валеры.

14

Вярталіся дадому пад вечар. Валеры, выехаўшы на бальшак, павярнуў праз колькі кіламетраў улева – на грунтавую дарогу.

– Куды мы едзем? – Алачка паглядзела на вадзіцеля.

– Убачыш.

Пад’ехалі да апошняй хаты прырэчнай вёскі. Спыніліся каля веснікаў. Валеры пасігналіў тры разы. Праз колькі хвілінаў да іх выйшаў дзед з сівой барадой – апіраўся на драўляную кавеньку. Відаць, быў яшчэ рухавы, дапытліва і з хітрынкай у паглядзе пазіраў на іх.

– Дзень добры, Макаравіч? Як здароўе маладое?

– Дабрыдзень! Ат, якое здароўе – кешкаюся паціху. Што сёння – рыбалка ці паляванне?

– Паляванне, Макарыч, На рабчыкаў.

Алачка асабліва і не ўслухоўвалася ў размову, безуважна аглядала з машыны вёску, хлявы, агароды, возера. Кінула кароткі позірк на дзеда, паглядзелася ў люстэрка – як выглядала пасля ночы. Засталася задаволенай. Уключыла музыку.

Дзед спытаў пра нешта і ў Руслана. Потым пайшоў у двор. Праз хвілін колькі вынес Руслану цэлафанавы пакет з рыбай – кіло з дзесяць, а Валеру падаў сетку – з нейкімі забітымі птушкамі. Потым ён паклаў іх у вялізную сумку, паставіў ззаду.

– Дзякуй Мікіта Макаравіч! Вось вазьмі, – Валеры падаў некалькі купюр.

– Ці не зашмат?

– Не, дзед, усё нармальна. Дзякуем. Здароўя табе. А мы пагналі далей.

Калі ад'ехалі, калі выбраліся зноў на асноўную дарогу, не ўтрымалася Алачка, пацікавілася ў маёра міліцыі:

– А што гэта дзед даў табе? Для каго?

Валеры паглядзеў, усміхаючыся, на яе:

– Не здагадалася? А як жа мне апраўдацца перад жонкаю – дзе я быў? На паляванні быў. Рабчыкаў страляў. А Руслан на рыбалцы быў – яму дзед шчупакоў прынёс. Тактыка, адным словам. А як жа. Навошта лішнія перажыванні жонцы? Няхай скубе рабчыкаў, смажаніну гатуе! Любіць яна рабчыкі!

Рабчыкі!.. Божа мой! То ж і граф Шарамецьеў прывозіў ёй кожны раз рабчыкаў! І во, акурат у такой сетцы, у дзеда іх, мусіць, шмат. Тут у яго цэлы бізнес – заязджаюць да яго штодня... А яна ж так любіла гатаваць з рабчыкаў смажаніну, гасцей частавала, ды і нахвальвала яшчэ страву. Хвалілася, што які харошы паляўнічы ў яе муж, што ніколі з палявання з пустымі рукамі не прыязджае... А во, аказваецца, на якія паляванні ездзіў яе былы мужанёк, недарэмна ж тады бунтавала яе душа, не прымала ўсяго, прадчувала, што не так усё добра, як стараўся абмаляваць ёй граф. Божачка, ён жа дурыў мяне разам з Абламейкам! От дурніца, от якая бязглуздая... Запозненая рэўнасць успыхнула з новай сілай, апякло ўсё ўсярэдзіне, злосць і крыўда на Шарамецьева перамяшалася з горыччу, і яна ўжо слала праклёны ў яго адрас, што так лоўка падманваў яе...

Спачатку Алачка хіхікнула, пасля засмяялася, пырснула смехам. Па-дурному рагатнула і сціхла, здзівіўшыся з самой сябе. Потым рогат вырваўся вонкі паміма яе волі і жадання. Перакрывіўся ў страшнай грымасе рот, не

ставала дыхання. Яна ўчапілася рукамі ў абшыўку сядзення, пачала сутаргава лавіць паветра – як рыба, якую выкінулі нечакана на бераг... Яна задыхалася, ловячы ротам паветра, пасінеў твар, акругліліся вочы...

– Што з табой, Ала? Што здарылася? – занепакоіўся маёр, не на жарт перапалохаўшыся, прадчуваючы нядобрае. – Табе блага, скажы? Блага?

Яна носам уцягнула паветра, пакруціла адмоўна галавой. Паліліся слёзы, закалаціліся плечы. Яна ўжо не магла стрымаць перад Валерам істэрыку і не магла растлумачыць, што з ёю адбываецца.

– Алачка, радасць мая, скажы, што з табой? Мо каньяк не пайшоў?

Яна зноў пакруціла адмоўна галавой. Іх абагнаў Руслан, пасігналіў, што паехаў далей адзін. Валеры махнуў рукой, як усё роўна адпускаў яго.

А Алачку біла істэрыка больш і больш, выкручвала, ламала яе, курочыла.

Яна ж, каб даць нейкае выйсце свайму стану, закрычала. Закрычала, і тут жа закрыла рот рукой, сілячыся прыглушыць той крык.

З усяе сілы здушыла сябе, стараючыся ўтаймаваць яго. Але ён, насуперак ёй, узмацніўся яшчэ больш, прарваўся скрозь заслонку, і стаў ужо вар’яцкім, нечалавечым.

Валеры з усяе сілы сціснуў і прытуліў яе да сябе, ротам уткнуўся ў напятыя ад напругі на шыі вены, трымаў доўга, не адрываў ад сябе да тае пары, пакуль не адчуў, што крызіс пачаў змяншацца, сцішвацца, затухаць, пакуль яна не абвяла ў яго абдымках і бездапаможна не апусціла рукі.

Ён здагадаўся з аптэчкі дастаць флакончык карвалолу – накапаў колькі кропель, даліў туды вады, прымусіў выпіць.

Яна каўтанула горкую вадкасць, перакрывілася, уздыхнула, набраўшы паветра ў грудзі.

Адкінула галаву на сядзенне, прымружыла вочы. Маўчала, цяжка дыхаючы. Пачала нават і драмаць.

Ён не чапаў яе, цярпліва чакаў, калі яна ачомаецца, калі пяшчотная ўсмешка кране яе твар, і пачуе даверлівы яе голас...

Паўз іх на поўнай хуткасці праносіліся легкавікі і грузавыя машыны, і ад іх ветру ледзь чутна ўздрыгваў “Жыгуль”, хістаўся, і абодвух як усё роўна закалыхвала на лёгкіх хвалях іхняга мора...

– Ну, палепшала?

– Здаецца... Але пастаім яшчэ трошкі.

– Добра.

Ён уключыў зноў музыку, і зноў цёплы ветрык напоўніў ветразі іх карабля спакоем і сілай, – так, як і ўчора, адпраўляў у невядомую, але жаданую абаім, дарогу...

15

Не шанцуе, не шанцуе, а потым як... не пашанцуе. Так і ў Абламейкі. На што ўжо быў упэўнены ў сваёй усемагутнасці і беспакаранасці, а атрымалася ўсё не так, як прывык заўсёды мець і атрымліваць, а зусім і зусім інакш, насуперак усяму. І хто быў бы вінаваты, дык ніхто, а толькі сам...

Нечакана прыйшоў сын, зноў стаў прасіць грошай. Прасіць маўкліва, бо нават не асмельваўся і слова вымавіць. Стаяў у калідоры і чакаў, калі бацька будзе праходзіць і зверне на яго ўвагу. Зразумела ж, чаго прыйшоў. Можна было і так здагадацца, што сыну не зашкодзілі б тысячы дзве-тры – бо вунь і падэшвы ў чаравіках паадляталі, і касцюмчык на ім ношаны-пераношаны, а каштуе цяпер усё гэта па новых цэнах уга колькі – новыя цэны накручваюцца штодня, як звар'яцелі... Яму б, бацьку, убачыць усё, здзівіцца і жахнуцца, пашкадаваць, ды з сынам у краму пайсці, накупіць хоць разочак усяго неабходнага – свая ж кроў, адзіны сын, дык не, як што засціла яму тую дарогу і прасвятленне, як хто паляндру на вочы накінуў, кратом сляпым зрабіўся, – ніводная жылка шкадавання ці спагады-жалю не ўздрыгнула, не абазвалася...

– Што, маці зноў прыслала? – толькі і сказануў замест прывітання і радасці сустрэчы, злосна бліснуў вачыма на сына.

– Не, тат... я сам... мамка і не ведае. Яна сварыцца, калі я да цябе прыходжу. На працы яна.

Абламейка сунуў сыну ў руку некалькі скамечаных дзесятак – на некалькі порцый марожанага, выправадзіў за дзверы.

Жанчыны непадалёк стаялі – урачы з лячэбна-хірургічнага аддзялення, бачылі ўсё і размову чулі бацькі з сынам, не вытрымалі, заківалі галовамі:

– І як табе, Абламейка, не сорамна? Цябе ж Бог за чэрствасць тваю і бяздушнасць пакарае. Роднаму сыну грошай пашкадаваў. Табе ж сёння перапала не адна тысяча... Мышцы ўсё аддасі, так?

– Не лічыце мае грошы! Свае лічыце.

– Ды не грошы мы лічым, а з цябе здзіўляемся. Не па-боску так, Мікола. Гэта ж такі грэх вялікі на душу бярэш сваю...

– Ужо і Бога прыплялі. Пры чым тут Бог?

Вось і пагавары з ім, на сваё ўсё і пераверне. Ну і няхай, яму жыць, яму і адказваць за ўсё – перад самім сабой і перад сынам, не маленькі ўжо. Бог усё бачыць і чуе.

Галка ж свайго дамаглася – паехала ў Залессе з дачкою. Не прыязджала і тыдзень, і два. Да Абламейкі завітала суседка, на хвілінку зайшла, каб солі пазычыць, словам перакінуцца. Ды пасцеляй усё скончылася. Гаспадар піў

і не адставаў ад яе, піў і рагатаў, як быццам з самога сябе смешна было, і са свайго становішча – суседка жонку падмяняе.

Пад вечар на работу паплёўся. Лыка, як кажуць, не вязаў. Але сеў у легкавік і памчаў па горадзе. Для яго не існавала чырвонага колеру на святлафорах, суцэльны зялёны. Колькі разоў так ганяў. Спынялі даішнікі, адбіралі правы, а праз дзень-два вярталі назад – сябры, што там працавалі, памагалі выкруціцца з бяды.

Падкаціў пад чорны выхад з паліклінікі, праз якія хлопцы ў двор выходзілі пакурыць альбо збегчы раней часу дадому, каб не папасціся галоўнаму на вочы. Нырнуў у дзверы, але не ў ліцейку пайшоў, у сутарэнне, а на людзі, быццам выклік усім рабіў і дэманстраваў сваю беспакаранасць.

На першага, на каго папаў, быў загадчык лячэбна-хірургічнага аддзялення Валодзька Чыркуноў. Вочы васільковыя па яблыку зрабіў, калі ўбачыў у такім стане Міколу – расхрыстанага, раскудлачанага, позірк невідушчы і тупы, у куточках губ белы налёт...

– Чаго вытарашчыўся – не бачыў ніколі? – з выклікам спытаў Абламейка, як шукаў усё роўна спагнаць на кім-небудзь зло, як хацеў адпомсціць за свае няўдачы.

– Ідзі зараз жа дадому! – загадаў шэптам Валодзя, нахіліўся нават, каб не чулі хворыя, што сядзелі і стаялі непадалёк ад іх.

– Ды сам ты пайшоў, ды і яшчэ далей – на ... – Абламейка вылаяўся са смакам, хацеў нешта дадаць яшчэ, ды да іх неспадзеўкі падышоў галоўны ўрач, гэтаксама здзіўлена паглядзеў на ліцейшчыка, галавой пахітаў.

– Што, не падабаюся такім? Мордай не выйшаў? – пачаў і на галоўнага наступаць Мікола, наліваўся бурачковай злосцю. – Я вам усім...

– Зараз жа пішыце заяву аб звальненні! – пачырванеў і Зуй, не вытрымаў, плюнуў на ўсе перасцярогі, на пагрозы Абламейкі, што чуў ад яго не раз.

– Напужаў, гы-гы-гы... І напішу! Дзе напісаць? Мо ў тваім кабінеце?

– А хоць бы і ў кабінеце, – не адступаў Зуй, зразумеўшы, адчуў дзясятым чуццём, што гэта адзіная магчымасць пазбавіцца ад яго – ды яшчэ якая! Сам жа і напрасіўся.

Утраіх яны і зайшлі-ўваліліся ў кабінет галоўнага. Зуй адразу паклаў перад ліцейшчыкам чысты аркуш паперы.

– Што пісаць?

– А так і пішы – галоўнаму ўрачу абласной стаматпаліклінікі Зую ад ліцейшчыка Абламейкі. Прашу звольніць мяне па асабістым жаданні, так як я не магу пазбавіцца ад алкагольнай залежнасці...

Абламейка хутка, не задумваючыся асабліва, быццам ён кожны дзень пісаў такія заявы, настрачыў некалькі радкоў, шпурнуў пад нос Зую. А той

і ручку напагатове трымаў, не верачы ў такую ўдачу, адным росчыркам пяра наклаў рэзалюцыю: “Задаволіць! У загад!” Клічнікі нават паставіў, чаго ніколі не рабіў, а потым падумаў і яшчэ па два пасля кожнага слова дадаў. Аж тры атрымалася. І хуценька адкрыў сейф, туды паперчыну паклаў, каб хаця, не дай Бог, хто не прыбраў яе да рук...

– Ну, вось і ўсё, – Зуй нават рукі пацёр пад сталом ад задавальнення, паглядзеў на загадчыка аддзялення, міргануў яму. – Цяпер мы, так бы мовіць, квіты... Палюбоўна ўсё і парашалі. Будзь здароў, Абламейка, і не кашляй.

Абламейка крутануў галавой, спадылба зіркануў на Зуя:

– Хрэна вы мяне возьмеце!

– Такая ўжо наша доля, – уздыхнуў кіраўнік медыцынскай установы, адчуваючы неймаверную ўнутраную палёгку.

– Усе вы ў мяне... Усе да аднаго будзеце танцаваць белы танец. Вось пабачыце, вось успомніце маё слова.

– Успомнім. Пабачым, Мікола. А цяперака ідзі, мне працаваць трэба.

Зуй устаў, выйшаў з-за стала. Падышоў да дзвярэй, расчыніў іх, стаў на парозе, чакаючы, калі пакіне Абламейка кабінет. І той падняўся. Яго павяло з боку ў бок, і ён плячом абаперся аб Алу Пугачову – на сцяне вісеў каляндар з фатаграфіяй расейскай спявачкі. Падтрымала – не ўпаў Абламейка. Вылаяўся зноў. Не бачачы дзвярэй, пасунуўся некуды наперад. Яго хацеў падтрымаць Валодзя, ды ён груба адпіхнуў яго, сказануў:

– Пшоў ты... Памочнік мне знайшоўся, сракаліз няшчасны.

Абламейка яшчэ не ўсведамляў, што адбылося, што ён сам утварыў, не адчуў, якое залатое дно страціў. Не адчуваеш беднасці і незайздроснага становішча тады, калі з кожнай кішэні соценныя і дваццацьпяткі выглядваюць, ды яшчэ калі іх шмат, не ведаеш, колькі за дзень кладзеш, – тады верыцца, што так заўсёды будзе, бо пад такой зоркай нарадзіўся...

– Я вам, сукі, усім пакажу... – сунуўся па калідоры, спатыкаючыся на роўным. Абламейка нічога не бачыў перад сабой, нікога не чуў. – Да аднаго вы ўсе ў мяне, вось пабачыце, я вас яшчэ правучу, у-ууу!..

...Апамятаўся раніцай, як прачнуўся. Нешта ўспомніў, як сон начны ўспомніў. І не ведаў ужо – то было з ім сапраўды ці ў сне? Няўжо – на самай справе?! Лоб халодным потам пакрыўся. А мо – толькі дурны сон? Выпіў учора лішняга, вось і наплялося пад хмелем...

Абламейка пагаліўся, апрануў як не новы касцюм, чыстую светлую сарочку адпрасаваў – як на вяселле сабраўся. Ехаў на працу, а трывожны халадок шыўся вужакай пад грудзі – сон ці ява? Ява ці сон? Канечне ж, сон, ды яшчэ такі дурны...

Нішком шуснуў у свой падвал, адчыніў ключом замок.

Пераапрануўся, накінуў белы халат. Трохі счакаўшы, падняўся наверх, зайшоў да зубных тэхнікаў, абвясціў:

– Каму ліццё – нясіце!

На яго паглядзелі ці то здзіўлена, ці то недаўменна. Маскаль і Бісер усміхнуліся, унурылі галовы ў плечы, кляпалі малаткамі па алавянным “аладку” – рыхтавалі сталёвыя каронкі.

Заблажыла ад нядобрага прадчування. Перапытваць не хацелася, баяўся ўдакладняць, каб не пацвердзілася страшнае. Ён не ведаў, што рабіць, да каго падсесці і пагаварыць – як што замінала. Упершыню такое адчуў. Сеў на табурэцік каля тэлевізара, пакруціў галавой туды-сюды – ніхто да яго не падыходзіў. І так сядзець доўга не выпадала – не ў яго характары, ды і не яго гэта была пазіцыя, поседам сядзець. Рабочы стол зубнога тэхніка Абламейкі быў такім, якім ён яго і пакінуў – ён працаваў і зубным тэхнікам, ліцейшчыкам быў па сумяшчальніцтву. Канверты з гіпсавымі адбіткамі стаялі на месцы. Гэта ўсяліла надзею. На душы стала трошкі весялей і святлей. Але ўсё ж нешта грызла, тачыла яго, як шашаль дрэва, непакоіла няўцямнае становішча – як з’еў выпадкова нешта атрутнае і чакаў, што з таго выйдзе.

Па радыё перадавалі грызню дэпутатаў, дзе кожны даводзіў сваё, не згаджаўся з думкай папярэдніка, крычаў толькі пра сваё. Хаос, ва ўсім адчуваўся хаос і неразбярыха. Як і ў яго на душы...

Да апошняга спадзяваўся, да апошняга жыў надзеяй, што яму прысніўся алкагольна-вытворчы сон, верыў, што і на гэты раз завіруха праімчыцца паўз яго, не зачапіўшы, не крануўшы яго сваім калючым і халодным крылом. Так жа было заўсёды. І – праносіла. Калі ж і цяпер пранясе, падумаў ён, то трэба завязваць з п’янкамі, дэбошамі, пара брацца за розум. Толькі б пранесла на гэты раз...

Чамусьці падумалася пра абарванага сына, і першы раз сціснулася сэрца ад шкадавання. А што, калі сам такім стану – абарванцам і безабаронным?

Да зубных тэхнікаў у другі пакой забег усхваляваны Зуй. Як заўсёды, чэшучы рукой азадак, папытаўся:

– Анастасія Фёдараўна, як там твая работа? Хворая прыйшла, бунтуе, абураецца, што не гатовая.

Зубны тэхнік здзіўлена паглядзела на галоўрача:

– Іван Мінавіч, яшчэ ўчора я паклала ў шафу гатовую работу.

– Учора? – рука пераскочыла на патыліцу – шкрабла ўжо там, быццам кусалі блохі ці надакучвалі камары. – Я і не паглядзеў там... А потым перавёў позірк на Абламейку, які сядзеў, сагнуўшыся, спінай да дзвярэй і слухаў размову, нечага чакаў, спадзяваўся. – Абламейка, а ты чаго тут?

– А дзе я павінен быць? Чакаю, калі зубныя тэхнікі дадуць работы на адліўку... – унутры ўсё пахаладзела – вось-вось павінна наступіць развязка. – Пакуль не нясуць...

– І не прынясуць, дарагі мой. Ты сваё ўжо адліў. У бухгалтэрыі ты павінен быць цяпер. Разлік атрымаць. Я задаволіў тваю просьбу.

– Якую... просьбу?

– Тую, што ты ў заяве напісаў. Па асабістым жаданні просіш звольніць. Я падпісаў яе. І загад падпісаны ўжо – хіба не чытаў? На дошцы ў калідоры... Ідзі азнаёмся...

Ногі сталі як ватныя. Не верыў, да апошняга не верыў. Думаў, што жартавалі ўсе разам з галоўурачом, любіў той калі-нікалі падыграць жартаўнікам. Схадзіў у калідор. Адзіны загад вісеў на дошцы. І ён тычыўся яго, Абламейкі. Чорным па белым напісана, надрукавала Зіна, сакратарка на машынцы, якую вазіў некалі на бераг Нёмана, ды нічога не выгарэла яму. Тэкст абвяшчаў, што загадам па паліклініцы зубны тэхнік і па сумяшчальніцтвt ліцейшчык Мікола Абламейка, згодна з пададзенай заявай, звольнены з працы...

Наліўся нечакана злосцю, сціснуў кулакі. Хацеў вымесціць яе на Зуі, але своечасова апамятаўся – так і за краты нядоўга загрымець, толькі і закрычаў на ўвесь калідор:

– Б...дзі! Усе згаварыліся! Да ўсіх дабяруся!

Потым усё ж пабег да галоўнага, стоячы ззаду яго, прыгразіў, скрыгочучы зубамі:

– Я гэта табе яшчэ, куманёк, дарагі, успомню і запомню. Шкадаваць будзеш, што так абышоўся са мною.

Іван Мінавіч павярнуўся да яго тварам:

– Абламейка! У чым я вінаваты? Я не прымушаў цябе пісаць заяву – ты сам яе настрачыў. У прысутнасці загадчыка аддзялення.

– Ды я табе, ды я...

– Будзеш бузацёрыць, Мікола, і пагражаць, то я міліцыю выклічу. Не перашкаджай людзям працаваць – не на базары.

– Я табе яшчэ ўстрою базар... Усё жыццё базарыць будзеш. Узятачнік, хабарнік!..

Сказануў і тут жа пакінуў кабінет. Напэўна, упершыню ў жыцці адчуў сваё бяссілле, да канца яшчэ так і не паверыўшы ў яго.

Прыехаўшы дадому, выпіў нагбом адну за адной тры пляшкі гарэлкі. Потым зваліўся без памяці на падлогу. Аж пакуль не прыйшла да яго суседачка – добрая прыяцелька – ды не зацягнула яго на канапу: быў ён, як кажуць, у поўнай адключцы, што і вочы не расплюшчваў...

16

Галка-Мышка не прыехала ні праз месяц, ні праз чатыры.

Трэба ж – прыглянулася адразу галоўнаму заатэхніку саўгаса – Пятру Громаву, маладому хлопцу, халасцяку, які дабудоўваў хату і не ведаў яшчэ, хто за гаспадыню будзе ў ёй. У другі ж вечар, як правёў яе з клуба, прапанаваў:

– Выходзь за мяне, буду добрым мужам табе.

Без ваганняў, без угаворванняў згадзілася, адчуўшы, што шчасце вялікае ёй Бог паслаў за ўсе пакуты і здзекі...

Пад восень прыязджала ў паліклініку. Разам з Пятром. Перамянілася жанчына, у вачах шчасце і задаволенасць. Неяк па-жаноцку памажнела, пахарашэла. Калі Алачка спытала, з кім прыехала, праз акно паказваючы на “газік” з невядомым хлопцам, жартам адказала:

– Вадзіцель мой. Анічога хлопец, праўда?

Але ж хіба схаваеш сваю радасць і жаноцкае шчасце ад людзей – глядзела на Пятра з замілаваным позіркам, радасць свяцілася на твары, якой да гэтага не заўважалі, і ўся яна была перапоўнена нечым светлым, шчасным, радасным.

Алачка, зразумеўшы ўсё, як не счарнела ад зайздрасці:

– І трэба ж, як пашчасціла табе – малады, прыгожы, не тое, што Абламейка – грыб чарвівы. Не пашанцавала яму, п’яны прыпёрся на працу, з галоўным пасварыўся. Ну, той не вытрымаў, сказаў, каб пісаў заяву аб звальненні. Ён і напісаў.

Нічога не адказала Мышка. Не хвалявалі яе цяпер праблемы Абламейкі. Да чаго імкнуўся, на тое і напароўся.

– А ты як, Ала? Не знайшла каго?

Алачка паціснула крыўдліва плячом, даючы зразумець, што ў яе ўсё без зменаў, што яна свабодная жанчына, маладая, прыгожая, інтэлігентная, пара ўжо займець спадарожніка жыцця, ды і не абы-якога – а што? – але ніхто з яе палюбоўнікаў кідаць жонак не збіраўся... Як Галка сядала ў “газік”, было добра бачна з вялізнага, на ўсю сцяну, акна, што Алачка ўся калацілася ад злосці і зайздрасці. Мышка і сама ведала, што за ёю назіраюць, мо і спецыяльна пад акно пад’ехала, таму развітальна памахала гледачам рукой, заўсміхалася.

Хутка адышла ад акна – апякала зайздрасць, не затухала. Паляцела ў свой кабінет і пачала расказваць чарговаму хвораму пра сваё беднае і няшчаснае жыццё, чакаючы з боку таго спагады і жалю. І міжволі ў яе ліліся слёзы. Святлана Віктараўна была задаволена – Алачка дзейнічала правільна, згод-

на распрацаванага агульнага плана і інструктажа з боку прафарга. На фоне Алаччынага лёсу і свой пераносіўся лягчэй...

...Абрам Майсеевіч – чалавек хітры і скнарны. Калі ў каго пазычыць дзясятку ці з кім зробіць “левую” работу, і пасля трэба аддаваць палову, то доўг з яго вырваць было лягчэй, чым дрэва з коранем. Аж губа тады трасецца адвіслая і сліна на пяць метраў ад яго ляцела, калі пачынаў нешта гаварыць ці выказваць сваю незадаволенасць, што яго рабуюць сярод белага дня...

Ён і ажаніўся ў пяцьдзясят гадоў толькі таму, што баяўся ўвайсці ў рэзрух – невядома ж якая магла папасціся жонка, можа, была ненасытная ў ядзе, піхае ў сябе, як вар’ятка. А потым ужо, як нарадзіўся Яша, пачаў ад жонкі і сына масла і каўбасу ў тумбачку замыкаць на вісячы замок. А ўсё ад таго, што жонка магла з’есці нават поўную пачку масла. А гэта ж вялікія выдаткі... Калі ўсе яго сябры і знаёмыя – Хайкін, Шайкін, Басін, Кацнельсон і іншыя – паехалі на зямлю абетаванную, ён жа сам не спяшаўся пакідаць горад і працу. Злётаў у Амерыку праз акіян – тут ужо не маглі яго зразумець, як ён не пашкадаваў такія грошы на білет, і маўчаў потым, не дзяліўся нават уражаннямі ад паездкі. А калі цікавіліся, калі і ён паедзе, коратка адказваў:

– Я пакуль пачакаю...

Басін загадваў зубным аддзяленнем у медыцынскім вучылішчы. Ва ўсе гады, асабліва ў апошнія, спецыяльнасць дантыста была як не самая прэстыжная. З беларускай вёскі ці райцэнтра якога выпускнік з медалём не мог паступіць на гэтае аддзяленне, а з сонечнага Узбекістана ці Кіргызстана, Арменіі ці Грузіі троечнікі былі для яго самымі таленавітымі. Ведалі пра тое і ў райкаме партыі, але маўчалі, вядома, чаго маўчалі – загадчык аддзялення шчодра дзяліўся з імі... І калі ж сабраўся ўсё ж ехаць у Ізраіль, то аж тры ці чатыры вялікія машыны перавозілі, збітыя з сасновых дошак, скрыні. Багаты капіталістычны рай, а вось з беднай жабрацка-лапцёжнай Беларусі везлі дзясяткамі халадзільнікі і тэлевізары, пыласмокі і электратавары... Мытня? Але зноў жа – і яна закуплена ад пачатку да канца. І правяраючы на пачатковай станцыі адпраўкі з дзелавым выглядам апламбіраваў новенькія, струганыя аж да бляску, скрыні з дабром. Бялізна і коўдры, залатыя вырабы, мельхіёр, срэбра... Бедная Беларусь! Як жа ты збяднела пасля жыдоўскага бегства, калі не ажыццявіліся планы Троцкага і Кагановіча – закаваць усю краіну ў жыдоўскія ланцугі, накінуць кожнаму беларусу ярмо на шыю. І не толькі беларусу...

З усіх Абрам Майсеевіч баяўся ў паліклініцы толькі аднаго – Руднёва, урача лячэбна-хірургічнага аддзялення. Не кожны дзень баяўся, а толькі тады, калі той быў на добрым падпітку. А такім ён быў часцяком. Раз-два на

тыдзень. Мо і раз на месяц. Як агню баяўся, як чумы. Бо Руднёў мог стаць у калідоры, курыць, і, убачыўшы Абрама Майсеевіча, прама папытацца ў яго:

– Ну, што, жыд пархаты, ты яшчэ тут? Уцякаеце, як пацукі з тонучага карабля? Адабралі ад вас пасады, партфелі, кумпякі – вы і даеце драла. Троцкаму паверылі, што пры камунізьме жыць будзеце, мы на вас працаваць будзем... Так, Абрам?

– Адстань, мужык ванючы! – вырываўся з рук, ды не мог, учэпіста трымаў яго Руднёў, дыхаў на яго пахамі гарэлкі.

– Жыд пархаты. Вось чаму я не магу зразумець вас, жыдоў, чаму ад нацыі сваёй адкараскваецеся? Я – беларус, бульбашом яшчэ называюся. Ганаруся гэтым. А ты не жыд хіба? Не габрэй хіба? Гогаль і Дастаеўскі, Гарэцкі і Кузьма Чорны так і пісалі пра вас – жыды. А, то Троцкі указ выдаў, каб вас, бедненькіх, абражаць такім словам нельга, бо адразу ж пад суд... І судзілі. А суддзя – Файнштэйн, начальнік турмы – Цукерман...

Абрам Майсеевіч з усіх сілаў пручкаўся, каб вырвацца з учэпістых рук:

– Мужык бескультурны, адпусці! Мала вас у турмах згнаілі...

– Нямала. Але не ўсіх. Засталося яшчэ трошкі, каб выгнаць крыўдзіцеляў са сваёй зямлі. Каб не смярдзела. І чаго вы такія баязлівыя, не любіце праўды пра сябе? Ні ў адной газеце, ні ў адной кніжцы, не дай Бог, каб хаця адзін радок гаварыў пра тое, што жыды – гэта і ёсць жыды. Чаму вы лічыце, што гэта абраза? Я ўчора быў у бібліятэцы, і што цікавае вычытаў у старых падшыўках газет? Адразу пасля вайны ніводзін беларус не займаў кіруючай пасады ў абласным цэнтры. Альбо рускі, альбо жыд... Загадчык абласнога аддзела культуры – Фінкельштэйн, загадчык аблана – Цукерман... Хіба ж яны адраджалі беларускую мову і культуру? Усімі сіламі душылі яе, прыніжалі... Я памятаю, як у школе Сара Абрамаўна, якая выкладала з картавым "р" рускую мову, здзекліва і абразліва сказала: "И представьте, как это будет звучать на мужицком белорусском языке – "Мой дядзька самых чэсных правил, калі не жартам занедужел..." Клас смяяўся, рагатаў, а я плакаў. Бо адчуваў, як мяне аблытваюць калючым дротам. Дык хто на каго крыўдзіцца павінен, скажы, Абраме? Скажы, га?

– Сам на сябе, сам на сябе... Вой, бо ты дурак, дурак, і род такі ж у цябе... Вой, адпусці...

– О, вы хацелі, каб мы былі дурнямі, са скуры лезлі, так стараліся. Дзе адзін жыд, то туды сотню такіх жа далучаць. Куды ж было дастукацца, у якія дзверы дурному і сарамяжнаму, цярпліваму беларусу? Бо за дзвярыма загадчыка аблздрава – Борух Ізрайлевіч Вайнбранд, рэдактар абласной газеты – Борух Ізрайлевіч Пейсаховіч. А што вы з нашымі цэрквамі зрабілі? Ленін, ён жа – Бланк, аддзяліў царкву ад дзяржавы, а жыды аб'яўлялі – што рэлігія

і ёсць опіум для народа. Не так? Дэкрэт 18-га года Саўнаркама ажыццяўляць узяліся супрацоўнікі 5-га аддзела Наркамюста. А сярод іх не было ніводнага праваслаўнага, ні-вод-на-га! Усе – жыды! Жыд Моўша Свердлаў, даручыў жыду Юроўскаму знішчыць царскую праваслаўную сям'ю...

– Хлусня! Такога не было! То ўжо твае мужыцкія выдумкі, – круціўся Абрам Майсеевіч, не могучы ніяк вырвацца з абдымкаў Руднёва і ўцячы, але ведаў, што хоць і вырвецца, то Руднёў будзе хадзіць следам за ім па паліклініцы і чытаць яму лекцыі-натацыі. Таму падумаў пра тое, што няхай выгаварыцца ўжо тут, у глухім калідоры, дзе і людзей няшмат, а якія і ёсць, то з палiклінікі. – Ідзі, праспіся!

Руднёў нідзе і нікому не мог выказаць свой боль. Ён грыз яго, тачыў знутры, апякаў полымем сэрца. З дзяцінства той боль нарадзіўся. Калі забралі бацьку, што мястэчковага габрэя назваў жыдам. За тое, што абважыў бацьку на цэлае кіло. Тады па ўсёй Беларусі, па ўсіх гарадах пісалі на платах і сценах – бі жыдоў, ратуй Расію! А Беларусь? Беларусь хто ўратуе?

– Абрам, а Абрам, скажы напаследак вось пра што, і пасля гэтага я адстану ад цябе. Колькі жыдоў перад вайной навучалі рускай мове рускіх і беларусаў? Хаця б у Еўрапейскай яе частцы? Больш палавіны ці...

– Нас у вайну загінула шмат! – не вытрымаў Абрам Майсеевіч, замахаў рукамі.

– А беларусаў? А рускіх? А ўкраінцаў? Вы ж нас губілі яшчэ раней. Адразу ж пасля ленінскага перавароту пачалі. Вы былі ўвесь час магнатамі ў кіно, у музыцы, у журналістыцы, літаратуры і культуры, у медыцыне. Дзеяч народнай асветы Луначарскі, ваш ідэолаг, настаўляў педагогаў, а якіх, вядома: "Пристрастие к русскому языку и русской речи, и русской природе... это иррациональное пристрастие, с которым, быть может, не надо бороться, если нет в нем ограниченности, но отнюдь не нужно воспитывать". Чуеш, Абрам, "не нужно воспитывать". А трэба забыць пра сваю радзіму – рускую ці беларускую – забыць аб патрыятызме, аб думках і клопаце пра будучыню. Вось і выхавалі!

– Алкаголік! Напіўся і меле чорт ведама што...

– Што, надакучыла слухаць? Хай другія слухаюць. У сямнаццатым Троцкі і яго прыхлябаі прыехалі з-за рубяжа на ўсё гатовае і хуценька наставілі ўсюды сваіх, выцесніўшы нават тых, хто працаваў у падполлі. Саўнаркам у першыя месяцы Савецкай улады аж кішэў жыдамі. Рускіх двое, а жыдоў васямнаццаць! Ваенны камісарыят, які ўзначальваў Троцкі: рускіх не было, адзін латыш, а ўсе астатнія – трыццаць чатыры – жыды! Наркамат унутраных справаў – усе да аднаго твае родзічы. Усе карнікі. Наркамат фінансаў – з трыццаці дваццаць шэсць жыдоў. Наркамат юстыцыі – васямнаццаць жыдоў...

– Антысеміт! Алкаголік! Куды толькі міліцыя глядзіць. П’яны на рабоце. Нельга працаваць у такім стане.

– А я ўжо адпрацаваў сваю змену, Абрам. Анекдот пра перастройку. Хто ў цыганоў і жыдоў Бог? А не ўгадаеш, бо гэта Гарбачоў. Бо і цыганы і жыды на яго моляцца. Цыганоў зрабілі мільянерамі, а вам дазволілі выехаць і вывезці з сабой усё нарабаванае...

– Міліцыю, я пайду пазваню ў міліцыю, – адчайваецца палоннік, думаючы, што хоць гэтым напалохае Руднёва, але таму ўсё да фені, але ж умудрыўся, крутануўся і выслізнуў з-пад рук, вільнуў азадкам і шмыгнуў у дзверы.

Перакур у хлопцаў заканчваўся. Такая моўная размінка праходзіла не першы раз, можа, і не ў такім ключы, як на гэты раз, але што Руднёў не мог фізічна пераварваць Кацнельсонаў, пра тое ведалі ўсе ў паліклініцы...

17

Рашыўся ўсё ж, асмеліўся Абрам Майсеевіч выехаць за мяжу. Бо і сын падрос, скончыў чыгуначны інстытут – будучы інжынер. Ангельскую мову і іўрыт вывучыў. Хайкін не ў Ізраіль імкнуўся, а ў Штаты. Да далёкай родзічкі, якая даўно яго запрашала, даўно ўгаворвала. Развітальную нават вячэру зрабіў, чым здзівіў усіх, ашаломіў. Нават і Руднёва запрасіў, толькі папрасіў, каб той на развітанне не нагаварыў яму крыўдных слоў. Прынёс памідораў і гуркоў кансерваваных, якія пракіслі за шмат гадоў, стоячы ў кладоўцы, сала з магазіна – зжоўклае і сухое. Гарэлкі – той, якой нанасілі як хабар людзі...

Усе маўчалі – ні піць, ні есці, усё брыдота. Толькі санітарка Палагея Макарава, якая ад беднасці нічога смачнага не каштавала, ні выпіла ніколі, за рубля яму кожную пятніцу генеральную ўборку рабіла, заплакала як па нябожчыку, расчулілася ад выпітага, загаласіла:

– Які ўрач пакідае нас! Колькі дабра зрабіў людзям Абрам Майсеевіч! Хай і там, у Амерыцы, вам шчасце будзе!

Адна толькі Барнова, камуністка, пажылога веку жанчына, паставіла ўсё на месца, сказаўшы:

– Мы жадаем вам, Абрам Майсеевіч таго, чаго вы нам тут жадаеце!

Ён здзіўлена паглядзеў на яе, адвесіўшы губу, з якой вось-вось звесіцца сліна, але нічога не прамовіў у адказ – ні падзякваў, ні паддакнуў... Хацела нешта дадаць і Алачка, і роцік ужо адкрыла з падфарбаванымі вуснамі, каб сказаць шматзначны і глыбокі выраз, ды нехта ж наступіў знарок на нагу і націснуў, што было сілы, як загадаў: “Маўчы, і без цябе абыдуцца...”

Гэтак жа частаваў, ад’язджаючы, і Сенька Хайтман, які з усіх сіл стараўся ўвесь час паказаць і даказаць, што ён не такі, што ён адрозніваецца ад

жыдоў (так і называў іх сам, бо быў з бедных, перанёс галечу і голад, і яны яго самі недалюблівалі, пагарджалі ім), а пачастунак быў амаль такі ж самы – мужыкі і ёсць мужыкі, паядзяць, што ні пастаў, і падзякуюць яшчэ...

Хто сказаў, што не існавала антаганізму паміж абарыгенамі-беларусамі і прышлымі жыдамі? Хто баяўся загаду, што нельга распальваць да пажару нацыянальнае пытанне? Хто-хто, а беларус ніколі не стрэліць і не скажа першы абразу -– ні жыду, ні немцу, ні д'яблу. Да апошняга чакаць будзе, калі яго пакрыўдзяць, альбо давядуць да той ступені, што ён будзе вымушаны ратавацца, абараняючыся...

Але ж вельмі не любіць беларус (як і любы чалавек на зямлі), калі на ім ездзяць, пагарджаюць ім з-за таго, што ён мужык, дурны мужык... Колькі ж можна яму трываць, цярпець? А дзе ж гонар? Сумленне? Чалавечая годнасць?Ёсць яшчэ яна, ёсць. У кожнага з нас. Ды не ва ўсіх, на вялікі жаль, прачнулася. Дрэмле? Калі ж прыйдзе яно, абуджэнне?

Прыйшло ўжо, прыйшло... На парозе яно. Толькі крок ступіць засталося, каб пераступіць парог. І мы пойдзем. Да свайго абуджэння.

Алачка паднялася рана. Пабудзіла, як і абяцала, Цімоха:

– Уставай, сынок, паможаш мне...

Ён прадраў вочы, але ўставаць вельмі ж не хацелася, не прывык так рана падымацца.

– Мо сама ўправішся, спаць ахвота.

– Сёння раней ляжаш, – настойвала маці, сцягваючы з яго прасціну, – уставай, бо можам спазніцца, не дастанецца нам...

– Дастанецца, – бурчэў сын, але ўсё ж падняўся: сеў на ложку, пазяхаў, адганяў ад сябе сон.

Няспешна пайшоў у ванную, доўга там корпаўся, і нарэшце выйшаў. Алачка дык даўно свой марафет навяла – апранулася ў спартыўную форму, прычапурылася, настроілася на харошы лад. Графа як адчувала, што ўсе раннія клопаты і зборы з-за яе, таму неспакойна круцілася ў калідоры, разпораз шкрабалася ў дзверы, выказваючы нецярплівасць.

У рэшце рэшт выбраліся. Да "пяцёркі" тралейбуса ад дома, як кажуць, рукой падаць. Алачка ўшчаміла пысу цюцькі ў наморднік, павяла да прыпынку. Людзей такім часам было няшмат, таму яны выбралі зручнае месца ззаду, каб не замінаць нікому і не перашкаджаць тым, хто заходзіць ці выходзіць. Праз дваццаць хвілінаў яны выйшлі на Лугавой.

Лугавая – першы прыпынак за Нёманам, дзе і сапраўды цягнуўся паркавы луг, дзе цыганы штолета накошвалі вялізныя стагі сена. Лугавая – гэта і прыпынак вёскі, якая пачыналася адразу ж за дарогай, у лагчыне. Гэта

яшчэ і прыпынак сабачнікаў, месца, дзе трэніруюць і вучаць сабак, дзе праходзіць злучка знакамітых парод, адзначаных прэстыжнымі выстаўкамі і конкурсамі. Тут і памяшканне абсталявалі – цэлы сабачы цэнтр.

І можна было біцца аб заклад, што ніводзін гаспадар ці спадарыня, што прыводзілі туды сваіх чатырохлапых, не кіраваліся адно пяшчотай і любоўю да “братоў нашых меншых”, а толькі нажывай, толькі бізнесам і прэстыжам трымання пароды сабакі...

Там ужо збіраліся людзі. Трымалі на шворках сучак і кабялёў.

– Трымай, Ціма, я выберу для нас патрэбнага, – падала маці павадок, а сама адышла і пачала хадзіць каля гаспадроў, якія трымалі пры сабе эстэр’ераў і ньюфаўндлендаў, лаек і таксаў, пудзеляў і нямецкіх ганчакоў.

Алачка патрэбнага цюцьку выдзеліла адразу. Яна была ўжо вопытная ў гэтай справе, перачытала тысячы старонак кніг, раілася з дзясяткамі сабакаводаў. Аж сэрца ёкнула, калі ўбачыла, так спадабаўся ёй грацыёзны і горды спаніель. Такіх сабак купляюць з ахвотаю, тое яна ведала дакладна. Урокі Антаніны дарэмна не прайшлі – вучаніца схапіла навуку адразу, як бы прэтэндуючы ў гэтай справе на залаты медаль, як і ў інстытуце, які яна скончыла з чырвоным дыпломам.

– Выдатная парода, – пахваліла яна, павітаўшыся, спынілася каля гаспадара – худога, высокага чалавека, у сіняй, высокай, як кацялок, кепцы з доўгім брылём – на амерыканскі манер. – У вас хлопчык?

– Мала таго – мужчына! – заўсміхаўся субяседнік, паказваючы рад белых зубоў. – А ў вас дзяўчынка?

– Так. Першы раз...

– Для вашай дзяўчынкі падыдзе мой Бард.

– Якая ваша цана? – Алачка дзелавіта наступала, дэманструючы сваю прафесіянальнасць і веды ў гэтай вобласці, нават і жаргон адпаведны засвоіла, каб не быць белай варонай і не аказацца ў пройгрышы. Разоў колькі прыходзілі сюды з Антанінай, так што яна не навічок.

– Цана? А яна стандартная – або першы шчанюк, альбо тры тысячы рублёў. Што для вас лепей?

– Разлічуся грашыма.

– Добра. Мне ўсё роўна.

– Тады дамовіліся.

Ён аддаў ёй шворку, і сабака паслухмяна пайшоў паперадзе Алачкі, разпораз аглядваючыся, як чакаў нейкай каманды. Графа-графіня ўбачыла гаспадыню, захвалявалася, закруціла нецярпліва куртатым хвастом.

Цюцькі абнюхалі адна адну, зразумелі, што яны і сышліся дзеля таго, каб злучыцца, і таму танцавалі свой, толькі ім і зразумелы шлюбны танец. Хаця то

быў і не танец, а нейкі інстынктыўны рытуал, без якога нельга было абысціся, абмінуць...

– Сын, ты будзеш трымаць Графу, – падказала Алачка, бачачы, што спаніель збіраецца ўжо заскочыць на сучку, – возьмеш толькі за ашыйнік...

– Добра, – зразумеў сын, ніякавата адчуваючы сябе ў незвычайнай ролі, якую выдзеліла яму маці, працівіўся, адчуваючы, што робіць нешта агіднае і непрыгожае, але падпарадкоўваўся загаду маці, якая, мусіць, ведала, што рабіла... Паабяцала ж яму купіць тое, што ён зажадае.

Цюцька гарцаваў, таптаўся, зноў нюхаў то падхвосніцу, то жывот, але рабіць галоўнае чамусьці не спяшаўся – пэўна, вытрымліваў гонар, пацвярджаючы свой радавод, паказваючы, што добрыя справы спехам не робяцца... “Амерыканец” сядзеў на лаўцы каля плоту, гартаў “літаратурку”, курыў “Мальбара” і ў працэс не ўмешваўся, але крадком назіраў за ўсім, што адбывалася. Побач з ім сядзела яшчэ некалькі чалавек, якія пра нешта гаварылі між сабой. Зразумела, пра іх гаварылі, пра сваіх “малодшых братоў”... І ўсё, а як жа інакш, пераводзілі на грошы – рублі, даляры, маркі...

Бард усё ж ускочыў на Графу, яна аж пахіснулася, ледзьве не ўпала.

– Трымай, сын, мацней! – загадала абрадавана маці, спалохаўшыся адначасова думкі, каб што не парушылася, і не паламалася тое, што было запланавана.

Цімох абедзьвюма рукамі ўхапіўся за ашыйнік. Бард высалапіў язык – з раскрытай пашчы пацякла белая сліна, капала на спіну сучцы. Цімафею здавалася, што Бард вось-вось клацне ікламі і схопіць яго за галаву – зажмурыўся, каб не бачыць так блізка пысу чужога сабакі, адхіснуўся на бяспечную адлегласць.

Спаніель паслізнуўся, і сучка вывернулася з яго абдымкаў.

– Цімох! – грозна крыкнула Алачка, незадаволена тупнула нагой. – Ты што, не выспаўся? Ану, трымай добра!

Сын нахмурыўся, узяўся ямчэй за ашыйнік. Бард незадаволена гаўкнуў раз-другі, потым прадпрыняў новую спробу. І тут хлопец зразумеў, што ад яго патрабуецца – зашчаміў між ног галаву Графы, учапіўся, што было сілы, у ашыйнік...І раз, і два, і тры – паўтаралася ўсё спачатку. Цімафей аж узмакрэў ад такой непрывычнай і агіднай работы. Алачка таксама ўпрэла, падстройваючыся пад нораў Барда. Яна ўвайшла ў азарт, і ў яе ўжо нараджаліся розныя сексуальныя асацыяцыі...

– Добра, сын, добра! – падхвальвала Алачка, калі ўсё пайшло добра і па ўзаемазгодзе – Графа аж вішчэла ад задавальнення.

Але, мусіць, найбольшае задавальненне і радасць ад такога дзейства атрымлівала сама Алачка, ёй мроілася адно і тое ж – “сто тысяч, сто тысяч...”

...На працы не ўтрымалася, пахвалілася, як удала і выгадна знайшла “кавалера” для сваёй Графіні.

– І ўсё тое адбывалася на вачах у сына? – здзівіліся калегі па працы, недаўменна паглядалі на яе.

– Чаму на вачах? Ён памагаў мне – трымаў Графіню за ашыйнік. А што?

Да Алачкі дайшло, што яна нешта не тое ляпнула, прагаварылася ў нечым непрыстойным і недастойным яе інтэлігенцкага гонару, але ж слова не верабей – пырх, злаві яго цяпер. Ну і што з таго? А што? Яна як быццам забылася, як сын насцярожана і сарамліва аглядаўся па баках, баючыся сустрэць у тым натоўпе аднакласнікаў ці каго-небудзь са знаёмых...

У калідоры, за расчыненымі дзвярыма, стаяў Віктар – хітаў дакорліва галавой, пальцам каля скроні круцячы: так, такое толькі можа адбывацца з яго былой жонкай – зусім з глузду з’ехала на тых сабаках. І не растлумачыш ёй агіднасць і брыдоту таго, не пераканаеш.

Віктар прапанаваў Алачцы паехаць разам на курорт. У душы спадзяваўся, што яны перадурэюць і аб’яднаюцца зноў. Яна, на яго здзіўленне, адмовілася ехаць з ім. Ведала, што ніякай радасці і асалоды яна не атрымае на тым курорце. Гэта ж не Валеры, і не Генадзь – загадчык міжнароднага турызму ў аблсаўпрафе. Алачка нічога лепшага не магла прыдумаць, як даручыць Віктару Графіню.

І ён, пераступіўшы цераз самога сябе, сам з сябе здзівіўшыся, згадзіўся ў сваёй аднапакаёўцы патрымаць цюцьку. Выконваў усе рэкамендацыі былой жонкі. Пляваўся, праклінаў той дзень, калі згадзіўся, паддаўся на ўгаворы, але адмовіцца было позна – яна паляцела на самалёце ў Анапу.

Яна, адчуўшы, як красуе вакол жыццё, ведаючы, як можна ўпрыгожыць не толькі дні, а і ночы, падымалася ўсё вышэй і вышэй па прыступках да вяршыні свайго шчасця, выціраючы ногі аб свайго Віціка... А што?

18

Антон Язэпавіч скапіраваў чарговы партрэт – на гэты раз генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова. Так быў падобны, што не прыдзярэшся. Толькі над адным задумаўся – пакідаць метку на лбе ці сцерці. Паслаў партрэт па пошце – на імя Прэзідэнта Саюза...

А раніцай Саюз распаўся, і Міхаіл Сяргеевіч застаўся без партфеля. Вельмі ж перажываў Антон Язэпавіч за распад імперыі, за савецкую авіяцыю, якая ўжо стала не савецкай, не адзінай... Прыдумалі, бач, ворагі, – распінаўся ён у двары, – незалежнасць, сувернітэт, розныя там народныя

франты дураць народ. Ён, як камуніст былой капээсэс дужа перажываў, што няма больш і партыі, што няма абкамаў і райкамаў. А найбольш за ўсё перажываў, што ў незалежнай Беларусі ўнукам прыдзецца вывучаць брыдкую мужыцкую мову. Хіба тое да твару інтэлігентнай сям'і яго дачкі?

Алачка паехала грэцца на моры не з Валерам. Яго не адпусцілі на працы. Зноў паслалі ў нейкую Тмутаракань. Пазнаёмілася з каапературам армянінам Вазгенам, з якім закруціла чарговы раман...

Граф Шарамецьеў у чарговы раз прасіў у былой жонкі, як вярнулася, руку і сэрца. Атрымаў адмову. Алачка толькі пасмяялася з яго, сказала: "Ты ж здатны толькі падлогу мыць, а мужык, скажу табе шчыра, з цябе храновы... Ды і рабчыкі ў цябе лепей атрымліваюцца – іх у дзеда на ўсю вобласць хопіць... То ты вазіў рабчыкаў, а цяпер я іх купляю ў Макаравіча..." Ён вылупіў на яе вочы, але яна адвярнулася і бачыць яго бянтэжанасці не хацела.

А шчанюкоў Алачка ў Польшу правезла. Кожны каштаваў па мільёну злотых. Так што яна перакрыла свой фінансава-бізнесовы план, і на вельмі шмат. І яшчэ некалькі разоў яна адпраўлялася ў такую паездку. І кожны раз удала...

Далучылі яе да паездак, пачала і сама вазіць дзяцей у Польшчу. Закупіла ў краме больш як тысячу акуляраў і апраў да іх. Загадчыцы зрабіла залатыя зубы. А каб не прычапіліся на мытні, кожнаму начапіла на нос акуляры і сказала пагранцам, што з чарнобыльскай зоны едуць, з таварыства сляпых едуць на аздараўленне...

...Мышка дабілася свайго – рассекла вузлы з Абламейкам. Выйшла замуж за галоўнага заатэхніка. Абламейка прапіваў апошнія грошы, што пакідаў на чорныя дні. Яны і сапраўды наступілі, і не ведаў ён, ці будзе які прасвет наперадзе...

...Са школы пазваніла ў паліклініку Алачцы класная Цімоха, з горыччу сказала, што па беларускай і рускай мовах у хлопца могуць быць за чвэрць "двойкі". І дадала, што нешта незразумелае творыцца з хлопцам – падкрадваецца ззаду да дзяўчат і задзірае спадніцы...

Алачка разгубілася, сказала, што пад вечар зазірне да Клары Сямёнаўны дадому. Прыйшлося грузіць сумку дарагімі духамі і каньякамі, каб выручаць сына з бяды.

Гэтак жа прыйшлося завалачы дадому і спартыўнай трэнершы, якая ўключыла другога сына ў алімпійскую рэзервовую групу. А тое азначала, што яго будуць карміць бясплатна па пяць разоў на дзень, а на лета адпраўляць на зборы – у Адлер...

19

І трэба ж такому здарыцца...

Іван Мінавіч да лецішчы памагаў суседу прабіваць свідравіну: “бабай” забівалі ў зямлю трубы-нержавейкі. Зуй неяк умудрыўся падсунуць пальцы абедзьвюх рук пад “бабу” – і іх раструшчыла...

Ён нема ўзвыў, падскочыўшы на месцы. Спачатку твар наліўся чырваннаю, а потым ссінеў. Ад невыноснага болю не ведаў, куды падзець сябе, і вымазаў крывёю твар – збоку можна было падумаць, што змясілі чалавека на горкі яблык. А як з лецішча дазвонішся да “хуткай дапамогі”? Прыйшлося аднаму з кампаніі бегчы на бальшак, упрасіць вадзіцеля, што імчаў па дарозе і якога супыніў, за вялікія грошы ўгаварыў забраць чалавека і адвезці ў горад.

Як прakляў яго Абламейка, паабяцаўшы, што адпомсціць яму за звальненне, што танцаваць будзе. Танцаваў – і добра танцаваў... І траўма ж... Бытавая, на лецішчы. Пальцы ампутавалі, а як жа яму лячыць хворых, за бор брацца? Ці застанецца галоўны ўрач без урачэбнай практыкі? Інвалід, а не ўрач. І смех, і гора... Ні панос, дык залатуха. Ніхто ніколі не ведае – дзе знойдзеш, а дзе згубіш, дзе ўпадзеш, а дзе ўзляціш пад воблакі...

...У графа жорсткасць накаплівалася гадамі. Жорсткасць да ўсяго – да людзей, да былой другой жонкі, да абставінаў. Столькі было планаў, столькі сяброў. Той жа Абламейка... “Кідай, пакінь, знойдзеш сабе другую – свет клінам сышоўся на тваёй Алачцы?” А сам жа як у памыйную яму боўтнуўся – Мышка правучыла яго, як след...

... Прасторны кабінет на пятым паверсе агромністага будынка, на фасадзе якога яшчэ і па сёння вісіць герб Савецкага Саюза. Злева д яго ноччу неонам гараць агні “Слава Савецкаму”, а справа – “народу”...

Няма капээсэс, а на фасадзе двухпавярховага рэстарана – упрытык да аблвыканкама, праз дарогу, такімі ж літарамі абвешчана, што народ і партыя – адзіныя. У адной неразрыўнай звязцы. Ніхто чамусьці не асмельваецца скінуць той заклікальны лозунг. Быццам засеў, стаіўся з ружжом у прысадах парка бронзавы Ульянаў, а замест яго стаіць на пастаменце іншы і паказвае працягнутай рукой у пачварнае бяздонне, абяцае, што кожнага, хто ўзбярэцца да тых магічных літараў, возьме на прыцэл снайпер...

У прасторным кабінеце вялізны, пад дуб, двухтумбовы стол. За ім сядзіць гаспадар – малады, у чорным касцюме, хлапец. У белай сарочцы і пры тоненькім, бы вужака, шэра-бліскучым гальштуку. Упэўнены ў сабе, без пыхі і комплексаў, сучасны бізнесмен, былы савецкі спекулянт. Чарнявы, з роду

плямёнаў зямлі абетаванай, але з расейска-беларускім прозвішчам Засімовіч...

Гаспадар гутарыць з наведвальнікам, тлумачыць яму, памагае жэстамі. Ці то не ўключаны мікрафоны, ці іх словы надта ціхія – нічога не чутно.

Але вось голас прарваўся – можна пачуць і разабраць кожнае слова.

І тут жа стукаецца нехта ў дзверы – коратка і настойліва. На парозе, апрануты ва ўсё белае і замежнае, стаяў Віктар Шарамецьеў.

– Дзень добры! Ці можна да вас? – спытаў не вельмі гучна, і гаспадар кабінета хацеў сказаць, што ў яго наведвальнік, але зразумеў, што ад такога не адчэпішся, кіўком галавы паказаў на крэсла.

– Сядайце. Што ў вас за пытанне?

– Вы загадваеце аддзелам па прыватызацыі?

– Я. А што вы жадаеце прыватызаваць?

– Што? – Шарамецьеў крыху задумаўся – выкладаць усё адразу пры наведвальніку, ці потым, каб сам-насам пра ўсё дамовіцца? Але, набраўшы паветра поўныя грудзі, гледзячы ў вугольныя вочы гаспадара кабінета, выпаліў, як залпам “Аўроры”: – Хачу прыватызаваць абласную стаматалагічную паліклініку!

Твар Засімовіча з каменнага ператварыўся ў вясёлы. Ён адкінуўся ў крэсле, задраў галаву, зарагатаў:

– Ну, і дзянёчак сёння! Жывот можна падарваць ад смеху.

Адсмяяўшыся, паправіў гальштук на шыі, пасур’ёзнеў:

– Вось перад вамі пан Моўша Фраерман. Таксама з такой просьбай прыйшоў.

Толькі цяпер убачыў граф, што перад ім сядзіць Моўша. Той Моўша, які за дзесяць залатых дыскаў для зубоў купіў Алачку – пераспаў з ёю некалькі начэй. Не падарыў нават, а прадаў па дзяржаўнай цане, сказаўшы, што з цягам часу кошт іх узрасце ў сотні разоў. Як у ваду глядзеў. Выходзіць, Моўша купіў і яго, графа.

– Ты? – Віктар адчуў, як пачалі свярбець далоні, як быццам хто ўкінуў у іх гарачае вуголле, і тут жа нехта з-за спіны спытаў пра карцар, чым астудзіў адразу графа.

– Я. А што? Я даю тры мільёны за паліклініку. Хаця яна каштуе адзін.

– Тры? За паліклініку? – здзівіўся граф. – Адкуль яны ў цябе? – а потым, павярнуўшыся да Засімовіча, як не крыкнуў: – А я даю чатыры. Не – пяць!

Засімовіч правёў языком па верхняй губе, пільна паглядзеў на наведвальнікаў:

– Будзем рашаць... Дачакаемся аўкцыёну. Пішыце заявы. Зацвердзім на паседжанні гарвыканкама і аблвыканкама. Тут трэба ўлічваць мноства фак-

тараў... Можам абдумаць гэтае пытанне. Калі не хопіць будзе ў вас сродкаў, можам аб'яднацца...

У дзверы пастукалі.

– Заходзьце! – дазволіў гучна чыноўнік.

На парозе стаяла маладая прыгожая жанчына – у плашчыку, на высокіх абцасах, з эмблемай на грудзях "ЗША". У кароценькіх штоніках. Фіфа! Падслепавата жмурылася, святло з вокнаў біла ёй у твар, і яна не бачыла, хто сядзеў у кабінеце.

– Вы кіруеце прыватызацыяй?

– Я. А вы хто?

– Я – зубны ўрач Ала Шарамецьева. Хачу выкупіць абласную стаматпаліклініку... У колькі мільёнаў яна ацэньваецца на сёння?

Ускочыў са свайго месца граф, падышоў да Алачкі. Не паверыў, перапытаў. Алачка не адказала, чакала, што адкажа загадчык аддзела.

– Алачка, ты здольна выкупіць паліклініку?

– Я ўсё магу. А што?

Маўчаў, разявіўшы рот Фраерман, і ён здзіўлена глядзеў на былую жонку Шарамецьева.

Яна павяла плечуком, заўсміхалася. Што тут такога дзіўнага? А што?

Гаспадар кабінета ўжо не смяяўся.

Ён пасур'ёзнеў. Нахмурыўся.

Падышоў да яе, пільна паглядзеў у вочы:

– Вы – сур'ёзна?

– А што? Сур'ёзней быць не можа...

У кабінеце ўсталявалася няёмкае і незразумелае маўчанне.

..........................................................................................................

… Да скanання Савецкага Саюза заставалася...

*Крым, Кактэбель, 1992, жнівень...*

## Ахутавана

*Прытча аб мроях*

*...каханая, як цяжка без цябе.*
*Без погляду твайго, твайго кахання...*
*Згараю ў полымі гарачага дыхання.*
*Ці ажыву я зноўку ў святой мальбе?!*

Адкуль прыйшлі да мяне гэтыя радкі, я не ведаў. Яны нарадзіліся самі, без майго жадання. Складаць іх я не збіраўся, толькі ў думках нашэптваў словы. Падумалася: а мо хто падслухаў мае радкі і паклаў іх на паперу. Але хто?

Верш я знайшоў у сваім стале. Замок у мяне быў адмысловы, і ніхто не мог адамкнуць шуфлядку. Раніцай, калі адамкнуў яе, убачыў зверху жоўты аркушык паперы. Чатыры радкі былі напісаны невядомым мне чарнілам.

Непакоіла хіба адна думка – хто вадзіў маёй рукою? Ці не ты, Ойча? Усемагутны і Усёмогучы Божа! Калі ж я пачаў першыя радкі, памажы дапісаць і астатнія. Толькі на Цябе мая надзея...

*... каханая, як цяжка без цябе...*

З маіх душэўных нетрыскаў не выходзіў нясцерпны боль.

Мне не было вядома, калі ён нарадзіўся.

Мройна памятаўся нядаўні сон. Каляровы сон. Ён прыходзіў да мяне не раз і раней. Бачыўся адзін і той жа малюнак: зялёна-ружовы, у кветках, луг; крумканне жаб і гудзенне пчол; малочная квецень вішанніку... Адмысловыя пялёсткавыя карункі на маіх вачах пачыналі ажываць, надзімацца, і тады яны адрываліся ад галінаў і мкнулі ў блакіт неба, каб стаць аблокамі і далучыцца да іншых... І вось з гэтага казачнага хараства – з гукаў і пахаў вясны, з маіх думак і жаданняў, з майго трызнення і радасці прадчування ўзнікаеш ты, нараджаючыся з небыцця, з нічога. Ты крочыш мне насустрач – жаданая

і казачная, расхінаеш, бы крылы, рукі – ці то хочаш узляцець з гэтага дзівоснага лугу ў бездань неба, ці то мкнешся да мяне, каб агарнуць сваёй пяшчотай...

Ты не прыйшла на сустрэчу на другі, і трэці, і чацвёрты дзень... Штовечар я наведваўся на нашае месца сустрэчы, чакаў да апоўначы тыдзень і другі, але ты не з'яўлялася. Ведаў, што вельмі завінаваціўся перад табою. Пакрыўдзіў неасцярожным словам, параніў позіркам тваё сэрца. Не знаў, як выправіць памылку, чым замаліць віну.

Ад невядомасці разрывалася сэрца. Я думкава дасылаў табе словы роспачы, пытаўся ў Бога, чаму ты так жорстка абышлася са мною. Не верылася, што больш ніколі не зробіш крок насустрач...

Потым быў вымушаны ляцець самалётам на Кіеў. У камандзіроўку. Мяне цікавілі матэрыялы ў архівах, што тычыліся Вялікага Княства Ліцвінскага. Мо за гэты час ты і прыходзіла, не ведаю... Праз тыдзень я вяртаўся на "ТУ-104" дадому...

Таму не паверыў, калі ты з'явілася перада мною ў мройным тумане. Перакананы быў – прывід. Але міжволі ўскідваю рукі, каб злавіць цябе, атуліць, упусціць у сваё сэрца і не выпускаць больш на волю... Хацелася зрабіць цябе вязнем замка Кахання, сваёю ўласнасцю, сваім дарагім і неацэнным прыватным шчасцем. Памятаю ж: у хвіліны свайго найвышэйшага ўзлёту душы ты, перапоўненая жаноцкасцю і асалодай, прамовіла:

– Я тваё кацянятка, якое заўсёды будзе вуркатаць у цябе над вухам і прыносіць толькі радасць...

Ты памкнулася мне насустрач. Неяк лёгка адарвалася ад зямлі і ўжо не ішла, а ляцела, бязважкая, – і трапіла акурат у мае абдымкі. Але я не паспяваю прытуліць да сябе – во дзіва! – ты прайшла скрозь мяне. Твае ногі прайшлі праз мае ногі, рукі – праз рукі, галава – праз галаву. Толькі два сэрцы не сустрэліся адно з адным: палавінка твайго засталася ў маёй грудзіне, а мая палавінка засталася ў цябе...

Твае косы аксамітным шлейфам яшчэ доўга абвівалі мае грудзі, плечы і шыю, калолі нябачнымі іголкамі... Ці то ты сама, ці то шолах тваіх кос шапталі нейкае загадкавае для мяне слова:

– Ахута... вана... ахутавана!..

Я сілюся паўтарыць гэтае дзіўнае слова – як быццам хто прымушаў тое рабіць, – але мае губы не варушацца, яны здранцвелі і зрабіліся нежывыя – як і не мае, як быццам дакторка Перліна зрабіла мне ўкол-замарозку, каб палячыць хворы зуб, і навакаін скаваў мне язык...

"Аху... та... ва... аааа" – паўтараў толькі думкава, запомніўшы гэтае загадкавае і чароўнае слова.

Спрабую павярнуцца, каб паглядзець, як гэта ты змагла прайсці скрозь мяне (ці я праз цябе?), але ў мяне нічога з таго не выйшла – я як скамянеў, не мог паварухнуць ні рукой, ні нагой... І тады мяне ахапіў жах. Памятаў, калі мае кашмары ў снах пераходзілі мяжу майго цярпення, тады я ратаваўся крыкам аб дапамозе – і прахопліваўся.

Тут жа было ўсё інакш... Мяне ахапіў страх. Ён не перарываўся, наадварот, узмацняўся яшчэ больш і больш. А пасля ўжо я і зусім нічога не разумеў – раздзяліўся на дзве палавіны. З мяне ўжо выйшаў... хто?! Я выйшаў з сябе? Божачка, ці можа быць такое не ў сне? А тое, што то быў не сон, ведаў дакладна... Бачыў сумны позірк майго другога «я», але ён чамусьці не заўважыў мяне, бо глядзеў, як павярнуўся да мяне, скрозь мяне. Калі ж я прасцярожліва дакрануўся да пляча, то не адчуў яго – мая рука праляцела ў пустэчы, ні за што не зачапіўшыся. У мяне не было рук? Ды што рук, у мяне зусім не было нічога – ні рук, ні ног – анічога! Я быў бесцялесны. У тым пераканаўся, калі паглядзеў у люстэрка – адлюстравання свайго не ўбачыў...

Божа, што са мною адбылося?! А я не адрываў позірку (чым жа я мог глядзець?) ад свайго двайніка, майго другога «я». Ён падняў павольна нагу і апусціў яе, потым гэтак жа другую. Тое чамусьці напамінала мне тых салдатаў, што неслі ганаровую вахту ля мармуровага скляпення сатаны... Толькі праз нейкі час ногі сталі спружыністымі, гнуткімі. Але імі ўжо я не кіраваў – у мяне было сваё асабістае асяроддзе і біяполе, свае пачуцці і адчуванні.

Што адбылося ўсё ж са мною? Трагедыя? Здзек? Злы выпадак? Праз якія паўгадзіны ўжо не адчуваў ні страху, ні боязі. Нават цікаўнасць пакінула мяне, зусім перастаў задумвацца над сваім становішчам.

Мне стала нечакана лёгка. Незвычайна лёгка. Быццам хто выпадкова скінуў з маіх плячэй неймаверны груз, які прыгнятаў мяне ўвесь час, прыціскаў і згінаў да зямлі, згінаў у дугу, каб я быў падагнаны пад стандарт паставы раба. Я шмат гадоў згінаўся, амаль навучыўся складвацца, як сцізорык, і ўкладваўся ў тыя пачварныя рамкі пракруставага ложка, які прызначаўся кожнаму з нас яшчэ з пялюшак... Каб жа той сатана-творца пакінуў у нашых мазгах толькі ўсяго адну звілінку, то тады мы і сапраўды ператварыліся б у быдлячча, пакорлівы статак нелюдзяў, і можна тады было б аддаваць любыя каманды ці загады – і не было б тады сумневу, што нехта з нас не выканаў бы іх...

Бабця Настазя, а было ёй пад дзевяноста, мудрая і спакойна-разважлівая, раптам пасуровела, калі прынёс дахаты партрэт сатаны і павесіў яго на сцяну, прамовіла:

– От бо ўдумаў, унучак, утварыў... А гэны думаў, што сябе замест Хрыста ў кут павесіць... Дык то ж ненадоўга, ведалі пра тое ўсе... От бо... А што ні

кажы, сатана і ёсць сатана. Так і ў Святым Пісанні напісана... Здымі, унучак, выкінь... З маёй хаты выгані яго...

Нічога не зразумеў я з бабульчыных слоў. Але ж перапытваць не асмеліўся – баяўся пакрыўдзіць бабу. Два словы – Хрыстос і сатана – уяўляліся мне нечым таямнічым і недасягальным для дзіцячага розуму. Усё тое і прымусіла сцяцца сэрца і ўпершыню задумацца над тым, што, пэўна, існуюць у жыцці рэчы, якія трэба спасцігаць самому, без чыёй-небудзь помачы...

Навука ў школе – то адно, што не аб'едзеш, не абыдзеш. Светапогляд спагадлівай і дабрачай бабы Настазі – тое зусім іншае, адчуваў – больш грунтоўнае, бо гаварыла яна ўпэўнена і пераканаўча, мудра і проста. Значыць, ведала, пра што казала. Калі ж прыняць за праўду, што чуў і вучыў у школе, то выходзіла, што баба зусім ужо дурная і страшная, неадукаваная, багна дрымучая, – хіба можа яна навучыць чаму-небудзь разумнаму? Але ж сэрцам адчуваў, што не такая яна, мая добрая, чулая і мудрая бабулечка, – ніводнага разу ад яе не пачуў злоснага ці крыўднага слова...

Колькі ж мне яна казак расказала, колькі тайнаў раскрыла ў лесе, калі брала з сабою ў грыбы ці ягады. Колькі калыханак праспявала мне замест мамы – і сёння перад сном, здаецца, чую яе голас і пяшчоту... Яна раскрывала мне таямніцы дабра і валодання энергіяй душы, якая ўмацоўвала ў мяне ўпэўненасць і сілу...

У школе, памятаю, мне было заўсёды сумна і нудотліва, страшэнна нецікава і нявесела, хоць плач. І так мне не ставала штодня маёй бабкі! Ратавала хіба тое, што мне ўяўлялася яна побач са мною. Быццам сядзела, супакойвала: «Не ўбівайся так ужо, унучак, і не бяры адно ў галаву – што паробіш, гэтую бяду – вучобу-пакуты – не абыдзе ніводзін дзіцёнак... Цярпі адно, такая ўжо доля, значыцца, на тваёй Планеце...»

От каб гэта яна, бабка, выкладала ўрокі мовы замест заўсёды падпітага і занудлівага Зіновія Арсенцьевіча ці маршчакаватай злой пенсіянеркі-хіміцы Паліны Адольфаўны... Яна гаварыла б і тлумачыла ўсім, як для мяне асабіста, а тут выходзіла, што Паліна тлумачыла ўсяму класу – і нікому аднаму. Не было сувязі паміж вучнямі і настаўніцай. І таму мы замыкаліся ў сабе. Баяліся, што выкліча яна адказваць урок тады, як не падрыхтуешся...

Настаўніца не магла ды і не хацела далучыцца да нашых сэрцаў, таму і не магла дастукацца да патаемных струнаў дзіцячых душаў. А я дык сёння думаю так: а ўсё ж, можа, і добра тое, што мы не здалі ёй у палон свае сэрцы, бо што карыснага пераняў бы? Вечную незадаволенасць і злосць? Скрыпучы і звяглівы голас? Калечыла, яшчэ і як, нас савецкая школа. Найперш духоўна. З нашых сэрцаў выкідалі ўсё добрае і чыстае, а ў нашы вены заганялі бацылы страху і паслухмянства.

На сённяшні розум (каб жа яго раней можна было ўкласці ў дзіцячую галаву), дык за сотні і тысячы кіламетраў абабег бы яе, школу, каб не атрымаць тых калючых крывавых парэзаў на сэрцы і не згінацца пакорліва дугой перад уяўнымі арэоламі...

Вялікія выхавацелі са скуры лезлі, стараліся, каб мы былі падобныя адзін да аднаго, каб былі адданыя і пакорлівыя, каб мы ў любы час маглі крыкнуць без раздумвання “Заўжды гатоў!” ці “Служу Савецкаму Саюзу!”... Саюзу рабоў Сістэмы?

Не сагнуўся, а выпраміўся, разарваўшы ланцугі, што аблытвалі мяне: праламаў сцяну, што аддзяляла мяне ад духоўнай волі, прайшоў скрозь яе – зноўку нарадзіўся, зрабіўшы першы ўздых, набраўшы ў лёгкія напоўніцу нейкага ўжо новага і дзівоснага паветра...

Ахутавана? Ахутавана...

Тым часам я пачынаў набываць ужо рэальныя абрысы. На мне сядзеў ладна касцюм. На лацкане, як і кожны дзень, прымацаваны белы, як воблачка, сцяжок з чырвонай палоскай пасярэдзіне. Пры гальштуку. А штаны адпрасаваны так, што муха крылы паабсякае. На нагах карычневыя чаравікі на скураной падэшве.

Каб не ведаў, хто гэта такі, першы раз убачыўшы, далібог, падумаў бы, што гэта надта ж акуратны чалавек, педант, не з нашай дзяржавы, бо і трымаўся вольна і раскавана. Смелы і ўпэўнены позірк, а рухі... І дзе толькі ён так навучыўся хадзіць? У якіх акадэміях узорных паводзінаў вучыўся?

Глядзеў неадрыўна на яго, а сам міжволі пытаўся ў самога сябе: “Я – гэта ён, тое зразумела. А тады ж хто я?!”

Хто ж тады я, калі ён – гэта я?

“Яніна, ты дзе? Куды знікла, што не бачу цябе? – запознена пытаюся ў каханай, павярнуўшыся ўжо ў той бок, куды яна накіравалася. – Ты была ці не?..”

“А як жа, любы, была, ёсць і буду. Заўжды”.

“Чаго ж ты так доўга не прыходзіла? Я ўсе дні чакаў цябе...”

«”Чакала, калі ты пачнеш свой верш да мяне. “Каханая, як цяжка без цябе...” Я выпрабоўвала цябе. Бо не верыла ў тваё каханне...”

“А цяпер – верыш?”

“Не скажу, сам здагадайся...”

“Дык то ты напісала мае думкі?”

“Я... А што – нельга? Ты ж для мяне рыхтаваў словы”.

Я чуў яе голас, але не бачыў.

“Дзе ты, Яніна?”

Ты бачыш мяне, але не хочаш у тое паверыць. Ты шмат у што не верыш яшчэ. Але хутка навучышся. Бо ты ж – немаўлятка яшчэ. Ты ж і хадзіць яшчэ не навучыўся. Як і размаўляць, лётаць, жыць пад вадой...»

“Здзекуешся, так?”

“Ды не, праўду кажу. Павер”.

“Тады адкажы мне – што са мною адбылося?”

“Хіба ты яшчэ не зразумеў?”

Пэўна ж, не пасміхалася. І не здзекавалася. Ад яе слоў павявала дабрынёй і пяшчотаю, і вылучала яна чароўную энергію. Гаварыў маўкліва з ёю, яе ж не бачачы, толькі адчуваў яе прысутнасць, яе дыханне. Ведаў, што яна бачыць мяне, сочыць за мной.

“Такое, спадар Антон Клімовіч, адбываецца напачатку...”

“Напачатку – чаго?! Нічога не разумею...”

Чую яе смех. Яна то злева, то справа. То ўзлятае ўверх, то каля самага вуха.

“Твайго новага нараджэння. А калі больш дакладна, то – пятага перараджэння. Ты – чалавек пятай расы. Суперсенс”.

“Што гэта азначае?”

“Раскажу трошкі пазней...”

“Ты мяне бачыш, Яніна? Я цябе – не”.

“Бачу. І нават адчуваю. Хочаш, я дыхну табе ў твар. Ну, пачуў?..”

Сапраўды пачуў дыханне – такое знаёмае і роднае. Яна не падманвала мяне. Бо адчуў нават пах яе кос. Яны казыталі шыю, пахлі васількамі і жытам.

“Але я ўсё роўна не бачу цябе, як і не чую голасу, – скрушна ўздыхаю і зноўку спрабую дакрануцца да яе – і безвынікова, бо пальцы адчуваюць толькі паветра. – Чую цябе не вушамі, а нечым іншым. Ты недзе побач і так далёка ад мяне. Чаму – адкажы?”

“Любы мой, які ж ты неразумны... Ты не бачыш мяне таму, што я злілася з табою, стала табой. А ты – мной. Ты ж пакінуў сваю абалонку і ўсяліўся ў мяне. Тое з табой зрабіла тваё каханне да мяне. Я ж, даражэнькі мой, папярэджвала цябе, умольвала, заклінала нават, каб ты не запальваў таго агню. Бо ведала, што яно можа перарасці ў полымя. Прасіла?”

“Прасіла, не адмаўляюся...”

“Яшчэ прасіла не аддаваць мне сваё сэрца. Бо пасля горка пашкадуеш пра тое. Гаварыла? Гаварыла. Але ж ты настойлівы, як бык, нездарма ж ты Цялец. І Венера твая спадарожніца і натхніцелька. Але ты мяне не паслухаўся. І што цяпер? Шкадуеш? Шкадуеш, так?..”

«Ні аб чым не шкадую, каханая! Хто табе сказаў пра тое? – як не крычу на ўвесь свет. – Але мне ўсё роўна хочацца ведаць, што адбылося са мною.

Мною авалодаў не страх, нават і не цікавасць, мяне прыгнятае незразумеласць майго становішча. Хто я – чалавек? Жывёліна? Ці ні тое ні другое? Аднак мне вельмі хораша. Мне нават незвычайна лёгка. Сам толькі не ведаю – чаму...”

Зноў адчуваў прысутнасць жанчыны, яе подых і пах, але яна падалася мне няўлоўнай і нябачнай.

“Але ў словах тваіх слабыя ноткі страху і... шкадавання...” – чую не папрок, а прызнанне, нават перасцярогу.

“Даруй, Яніна, але я сам не адчуваю таго, пра што ты гаворыш... Ты няправільна чытаеш мае думкі... Хочаш пазлаваць мяне? Ты ж тое некалі рабіла з задавальненнем...”

“Выбачай, калі крыўдзіла цябе. Мне здавалася, што мая гарэзнасць табе даспадобы... Ці я памыляюся, скажы?”

“Падабалася і будзе падабацца. Ты больш мяне не пакінеш?”

У адказ маўчанне, а потым прашаптала недзе звысоку:

“Не, любы мой! Цяпер ужо ніколі. Цяпер разам – на ўсё жыццё. Ты пачуў мяне?”

“Пачуў, але не голас. Нейкая вібрацыя...”

“Ты чуеш рытм нашых сэрцаў. Зліваючыся ў адно, яны і ўтвараюць амплітуду энергіі нашай размовы. За нас гавораць біярытмы. У цябе ад нараджэння ўменне чытаць людскія думкі”.

Ды і не толькі людскія, а ўсіх жывых і нежывых істот. Вельмі рэдкае ўменне ў вас на зямлі. То дарунак Бога».

“Чаму – “у вас”? – насцярожваюся я, стараюся разгадаць сэнс слоў. – Хіба – ты...”

“Не-не, ты не так зразумеў мяне, – спахопліваецца і чамусьці сама палохаецца (толькі чаго?) Яніна. – У вас, у мужчынаў. Бо гэта дадзена жанчынам-чараўніцам. Іх Бог першымі надзяліў дарам правідцаў і яснабачання, бо мужчынскі мозг чамусьці слабей паддаецца апрацоўцы...”

“А Настрадамус?..”

“Ну, то ўжо іншае. То як выключэнне. Але ты пра ўсё зразумееш і сам. І даволі хутка”.

“Пра якую апрацоўку мозгу ты гаварыла?” – вяртаюся на ранейшую сцежку, на якую вывела сама Яніна, і мне робіцца ніякавата. Няўжо нада мной робяцца нейкія эксперыменты, а Яніна прыкінулася маёй каханай, у што я шчыра паверыў?!”

“Я ж казала, што тое ўсё ад Бога. Ён дае людзям фантастычныя здольнасці і магчымасці, самім чалавекам не раскрытыя нават і на адную мільённую... Чалавек нічога не ведае пра сябе, нічога не ўмее. Ад ляноты сваёй не

ўмее. Ад прыгнечанасці. Ад адчування сваёй непаўнацэннасці. Ты ж абудзіў мяне. Ты нарадзіў мяне. А я – цябе...”

“Я табе ўдзячны, Яніна! Адчуў я сапраўдную волю. Вельмі добра ні ад кога не залежаць, акрамя Вышняга. Толькі ён кіруе маім розумам, маімі жаданнямі і думкамі. Але то не залежнасць, а незалежнасць”.

“Ты дасягнуў за гэтыя хвіліны разумення свайго прызначэння і адметнасці. Некалі ты адчуеш і найвышэйшую асалоду. Адкрыеш для сябе смак шчаслівых імгненняў, з якіх тчэцца вечнасць...”

“Калі Бог не пазбавіў мяне асалоды кахаць цябе, то ён і падараваў магчымасць адчуваць шчасце... Я раней не адчуваў сваёй душы, а тут яна аддзелена ад цела. Мая душа, ведаю, была агіднай і пачварнай, засмечаная зайздрасцю і сквапнасцю, скнарнасцю і жорсткасцю. Нездарма ж апостал Ян казаў: “Той, хто любіць душу сваю, заб’е яе; а той, хто ненавідзіць душу сваю ў свеце гэтым, захавае яе ў жыццё вечнае...”.

“Я зноў радуюся шчыра твайму прасвятленню, дарагі мой Чалавек! Ты думаеш так, як і я, бо так яно і сапраўды павінна быць. Бо мы ж – адно цэлае. Мы з табой – адзіная субстанцыя...”

Але ўсё роўна для мяне шмат чаго яшчэ было незразумелым і невядомым... Я прымаў усё такім, якім яно і было, але прымесь недаверу яшчэ жыла ўва мне.

“Цябе, Антон, хвалюе, як жа ты будзеш адчуваць мяне – дакранацца, цалаваць, згараць разам са мною ў тым нязгасным полымі, у якім згаралі самыя моцныя, самыя апантаныя, самыя адчайныя?”

“Ты нават чытаеш мае думкі, якія павінны вось-вось прыйсці да мяне?”

“А мае хіба ты не навучыўся чытаць?”

“Здаецца, навучыўся...”

“Яшчэ раз віншую. Ты яшчэ не можаш даўмецца, як жа табе нябачную кахаць?”

У яе голасе лёгкі дакор. Таму не ведаю, што адказаць.

“Дзівак і наіўны хлапчук, – смяецца Яніна. – Табе ж падуладны любыя жаданні. Толькі трэба ўсклікнуць адно-адзінае слова... Аху...”

– Ахутавана? – ускрыкваю радасна, пачуўшы падказку.

– Нарэшце ўцяміў? – чую я ўжо вясёлы, зычны смех побач. – Ну, смялей! Не бойся! Хто сказаў: “Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог?”

“Яно было напачатку ў Бога”.

“Усё праз яго пачало быць, і без яго нічога не павінна быць, што пачалося быць”.

“У ім было жыццё, і жыццё было святло людзей”.

“І святло ў цемры свеціць, і цемра не зацьміла яго...”

Я набіраю ў лёгкія паветра – гаючага, мяккага, адчуваю прыліў незвычайнай сілы, пругкасці ў нагах і руках, яснасці розуму, бязгучна крычу ў палескую прастору:

– Ахутавана! Зрабі цуд, Божа! Вярні мне бачанне і адчуванне!

Першае, што адчуў, дык гэта лёгкае паколванне ў скроні, і нехта (ці не Яніна?) падказаў, каб я зажмурыў вочы. Тады ж наліліся цяжарам рукі, ногі, і лёгкі боль пранізаў шыю, потым патыліцу, перакінуўся ў скроні. Але то былі прыемныя адчуванні, якія не выклікалі больш трывогі, а, наадварот, нараджалі веру ў тое, што цяпер усё будзе добра. Будзе так, як і зажадаю...

– Адплюшчы павекі, не бойся... – шэпча, падказвае зноў Яніна. – Ну, асмелься...

“Божачка, ты пачуў маю малітву?!”

Я адчуваю яе рукі на маіх плячах. Яе косы датыкаюцца да маёй шчакі. Калі ж расплюшчваю вочы, мяне ахоплівае здзіўленне: я бачу яе, бачу! І трымаю ў сваіх абдымках! Бачу і свае рукі, плечы, ногі. Вочы ў Яніны ці то блакітныя, ці то зеленаватыя. У яе пяшчотная ўсмешка, поўныя і сакавітыя вусны, ямачкі на шчоках. Уздыхаю з палёгкаю, як вызваляюся ўсё роўна ад нябачнага цяжару, не верачы яшчэ ў тое, што адбылося, што здзейснілася.

Я нараджаўся зноўку. Рабіўся тым, кім быў і да гэтага. Быў ці буду?

– І Слова стала істотаю і стала жыць з намі, поўнае лагоды і ісціны.

– І мы бачылі славу Яго, славу як Адзінароднага ад Бацькі...

Мы гэтыя словы прамовілі ўголас. Прамовілі адначасова, сінхронна, бо выразна бачыў, як варушыліся вусны Яніны.

– Ахутавана!

Што за такое чароўнае слова? І хто прыдумаў яго?

– І ўсё ж адкажы – што з намі адбывалася? – папытаўся і пачуў свае словы, сябе пачуў. – Што са мною было?

– Анічога, любы мой. Ты вярнуўся да самога сябе.

– “Закаханыя! Будзем любіць адно аднаго, таму што каханне ад Бога, і кожны, хто кахае, народжаны ад Бога і ведае Бога”. Ты хацела так сказаць?

Яніна радасна паглядзела на мяне, дадала:

– “А той, хто не кахае, той не пазнаў Бога, таму што Бог – і ёсць каханне”. Так сцвярджае святы Ян, хаця ён у гэтыя цудоўныя словы ўкладваў яшчэ і іншы, куды больш глыбокі сэнс – любоў да Бога.

– Тады хто мы ў гэтым свеце, Яніна?

– Найперш, Антоне, людзі.

– Але ж чалавек не ўмее і не можа рабіць тое, што ўмеем мы. Не можа бачыць так, як мы. Адчуваць, як мы...

– А ён і не павінен тое рабіць. Ён такім стаў сам. А напачатку быў створаны Вышнім усёмогучым і ўсёўмеючым. Чалавек развучыўся тое рабіць. Ён павінен вярнуць сабе тую здольнасць. Мы навучым гэтаму людзей. Нам і дадзена такое даручэнне.

Асцярожна, каб не выказаць залішнюю цікаўнасць, перапытваю:

– Кім – дадзена?

– Вярхоўнай Радай Ліцвініі. Мы павінны сабраць усіх ліцвінчукоў з усяго свету. Ліцвінія – то ж наша з табою Радзіма. Мы яе сыны і дочкі. І кожны з нас павінен зрабіць для яе пачэсны ўчынак.

Зноў раздумваў над яе словамі. Пра нешта здагадваўся, пра нешта падазраваў, але канчатковы сэнс не даваўся мне – выслізваў, як уюн. Тое мяне злавала.

– Тады, выходзіць, ён, чалавек, навучыцца распазнаваць і зло, якое рыхтуецца супраць яго?

– І не толькі. Ён будзе вольны і несмяротны.

– Дзіўна. І няўжо ад гэтага ўмення ў чалавека будуць нараджацца толькі чыстыя і добрыя памкненні? Ён жа будзе вымушаны штохвілінна кантраляваць свае памкненні і жаданні. Яму нельга будзе пераступаць мяжу недазволенага – бо пра тое ж будуць ведаць і ворагі і сябры...

– Разумееш усё правільна, спадар Антон!

– Але ж у мяне сумненні ёсць. Адкажы – а ці не сумна тады будзе чалавеку жыць на сваёй зямлі? І ці правільна ўсё тое? Ён жа, чалавек, пасля ўсяго не будзе аддадзены самому сабе. Ён жа будзе закаваны ў ланцугі адказнасці. Кожны крок, кожная думка ці жаданне – пад самакантролем! Жах! Ці не занадта жорстка падыходзяць сябры Рады, беручыся за ўдасканальванне ліцвінчукоў? Ці ж гэта шчасце?

Яніна ўсміхнулася і ўздыхнула:

– Чорная аўра пакіне яго зусім і назаўсёды. І таму чалавек ніколі не будзе нікому рабіць зла. Як і самому сабе.

– Але ж...

– Ты хвалюешся, што чалавек не будзе належаць самому сабе? Але ты ж забываеш, што яму падуладна ўсё-ўсё. Ён жа не цацка ў нейкіх чужых руках. Ён сам сабе камандзір, спадар і гаспадар. Адно яго слова – і чалавек раствараецца ў прасторы і часе, і яго ўжо ніхто не можа пачуць і ўбачыць...

– Так ты можаш збегчы ад мяне і я не змагу цябе адшукаць? – жартую.

– І так, і не так, – жанчына весела смяецца, адчуўшы перамену ў маім голасе і настроі. – Мы з табою не можам уцячы адно ад аднаго. У нас, закаханых, ёсць дадатковая энергія. Астатнія пазбаўлены яе, таму і не змогуць адно аднаго дагукацца, акрамя сігналаў аб дапамозе ці прадчування нейкае бяды...

– Ну а калі нехта надакучыць свайму каханаму ці каханай? Ці сустрэне новага каханка ці каханую? Несці прымусова крыж і пакутаваць? Яны ж будуць у палоне аўры кахання, з якой нельга выбрацца.

– Навошта, Антоне, пакутаваць? У любы час можна вырвацца, вызваліцца ад уздзеяння агульнай энергіі, і тады ўжо ніхто не дастукаецца да яго сэрца. Тут ус проста. Бо знікне рэўнасць і жаданне вярнуць каханага да сябе.

– І...

– І толькі тады чалавек будзе па-сапраўднаму шчаслівы, калі будзе кіравацца толькі чыстымі і светлымі жаданнямі. Як і памкненнямі. Энергетыка яго душы і цела вырасце ў тысячу разоў. У яго хопіць сіл, каб траціць яе толькі на добрае і карыснае. І будзе ў дадатак да гэтага жыць столькі, колькі прадвызначана Богам – згодна ўчынкам сваім і жаданням.

– Колькі ж можа найбольш пражыць чалавек, калі будзе кіравацца Божымі законамі?

– І трыста, і шэсцьсот, і дзевяцьсот гадоў. У Бібліі пра тое сказана.

– Дзіўна, аднак...

– Хутка ты перастанеш з усяго здзіўляцца.

На даляглядзе зырка бліснула маланка. Потым пракаціўся, грукочучы нябачнымі коламі калясніцы па брукаванцы, гром. Над жытнёвым полем згрувасціліся воблакі – шчыльна церліся бакамі, абганяючы адно аднаго. Нагрувашчванне нараджала гарматны выбух. Падзьмуў вецер, ускудлаціў косы Яніны, і яны абвілі нашыя галовы, як хмель абвівае алешыны ў балоце. Неўздалёк ад нас адзінокая танклявая бярозка як не прыгіналася верхавінай да збажыны.

– Бяжым, а то вымакнем... – не вытрымліваю, хвалююся больш за яе, за Яніну, – што стане з косамі?

Яна ж не выказвала ніякай трывогі ці занепакоенасці.

– Навошта? Ты яшчэ хіба не пазбавіўся трывогі? Нам жа з табою нічога не страшна. Ты толькі павінен падумаць, каб дождж абышоў цябе, – і ніводная кропля не ўпадзе на нас.

“Я яшчэ не перастаю быць чалавекам...” – падумаў пра сябе.

– Гэта не так і страшна – заставацца чалавекам, – кажа ўголас Яніна, адказвае мне, папраўляе косы і глядзіць у вочы. – Мы ж людзі і маем сэрцы...

– Я адчуваю сябе няёмка, калі гавару з табой, бо думаю і яшчэ пра нешта. Але ж я магу падумаць міжволі і пра штосьці інтымнае, непрыстойнае – я ж чалавек, сапсаваны часам і абставінамі. І наўрад ці навучуся кантраляваць і сябе, і працу свайго мозгу. Таму ці можна навучыцца адключаць паралель-

ныя думкі, каб іх не чуў ніхто? Нават і ты. Каб не гарэць ад сораму ці не пакрыўдзіць цябе...

– Я ж тлумачыла – канечне ж, можна. Усё залежыць толькі ад твайго жадання.

– Акрамя цябе хто яшчэ будзе чытаць мае думкі?

– Толькі Ойча. Больш ніхто.

– Каго буду чуць я?

– Усіх і ўсё, бо і Бог казаў, што ў свеце няма нічога тайнага, каб не стала вядомым... Хіба ты раней, у тым, зямным, жыцці не задумваўся над тым, што цябе пастаянна чуе Бог? Што ведае і бачыць усё, што ты робіш – і кепскае, і добрае. Чаму ж перад Ім не было сорамна за брыдкія словы, за зайздрасць, за патаемнае жаданне забіць свайго ненавісніка, свайго ворага, за... Можна пералічыць тысячы чорных жаданняў і думак, з-за чаго чалавек і ёсць стварэнне грэшнае. Але мы не пра тое, ці не так?

– Так, любая, так... Даруй. Я вымушаны згадзіцца з табой: у чалавека шмат заганаў, і ён вымушаны ад іх пазбаўляцца.

Маланкі жыхалі ўжо над нашымі галовамі. Вецер як не ламаў недаспелае жыта, гнуў яго да зямлі. Мы стаялі абняўшыся. Нас не чапаў ні вецер, ні важкія кроплі дажджу. Я пачуў боль каласоў, іх крык і просьбу аб дапамозе. Кроплі дажджу перад падзеннем ператвараліся ў градзіны-ільдзінкі. Нас яны не даставалі – над галовамі шыпелі і раствараліся, як падалі на гарачую патэльню. Град пляжыў траву і жыта –  каласы падалі на мокрую зямлю... У мяне разрывалася сэрца ад таго крыку. То мо і не крык быў зусім, а нават стогн. Як параненая птушка не разумела, што адбылося, калі ў яе зласлівец перабіў каменем крыло і яна не магла ўзляцець у неба.

“Не паможаш, – глядзіць Яніна скрушна ў бок поля. – Буран чалавеку помсціў за тое зло, што ён зрабіў, – павысушваў балоты. А ў адносінах да законаў зямлі – то злачынства”.

“І мы бяссільныя памагчы?”

“Паможаш тут, а ў іншых месцах? Што загадаў Вышні, таму і быць. Значыць, так і трэба, у імя Вышэйшай мэты. То ж ніхто іншы, а сам чалавек сваімі дзеяннямі наклікаў на сябе такую бяду. І ён павінен расплаціцца за свае памылкі. Каб зразумець, што рабіць так нельга. Бо адно зло спараджае новае. Яшчэ большае”.

– Жорсткія законы існавання, – тулю яшчэ больш да сябе Яніну. – А што будзем цяпер з табою рабіць? Паедзем дадому?

– А хіба ў нас ёсць дом?

– Не ведаю. А мо і ведаю.

– Тады – паехалі, Антон.

– На чым?

– Ты хацеў, каб на гэтай дарозе паказаўся аўтобус і ўзяў нас да горада?

– А чаму б і не? – падтакваю я ёй. – Я і сапраўды так падумаў.

– Тады пайшлі да дарогі. Вунь, бачыш, з-за павароткі паказаўся аўтобус. Вадзіцель спыніцца, забярэ нас. Рушылі?

І мы, узяўшыся за рукі, няспешна пайшлі да дарогі. Усё адбылося так, як і абяцала Яніна. Калі ж зайшлі ў аўтобус, цётка з кашалём на каленях здзіўлена паглядзела ў наш бок:

– Бачце вы, людцы, на двaрэ ліўняк як з бочкі, а на іх і кропля не ўпала. Пад якім дахам у лесе вы хаваліся? Ці закаханых і дождж абыходзіць, га?

Усе павярнуліся да нас, чакалі, пэўна, адказу.

– Правільна, цётачка, – вымаўляю нечакана для самога сябе, бо і не хацеў секунду назад загаворваць з жанчынай, і на петрыкаўскі манер тлумачу: – То ж каханнечка мы маем такое гарачае, як полымя, таму і кроплі дажджу згараюць над нашымі галовамі.

– Авоечкі мне! – пляснула па каленях – кашэль стаяў ужо каля яе ног, хітравата зіркануда на мяне, языком правяла па асмяглых вуснах, хацела нешта сказаць яшчэ, каб падвесяліць людзей, што маўкліва сядзелі і ўперыліся позіркамі на нас, ды слоў патрэбных не знаходзіла, усё ж ачомалася, радасна дадала: – Авоечкі, людцы! Чыстая і святая праўда...

– Такая, цётачка, праўда, як і тое, што вы ў радзілку едзеце. А дачка вашая, Ядзя, вам двух унукаў падаравала. А вы, канечне ж, чакалі ўнучку. І імя нават прыдумалі ёй – Зойка. Як яшчэ і праўда тое, што вы пасварыліся з вадзіцелем у вёсцы, што ён позна прыехаў...

Гаварыў я, але не свае думкі. То так падказвала Яніна – прыкусіла губу і стрымлівала ўжо сябе, каб не рассмяяцца. Яна пацяшалася не над цёткай Анэляй, а нада мною – я яшчэ ніводнага разу не гаварыў яе вуснамі. І я ёй паказаў кулак. Жанчына шырака раскрыла вочы, ашаломленая і здзіўленая, азірнулася на пасажыраў, як бы чакала ад іх якой падтрымкі ці абвяржэння, выдыхнула, не паверыўшы:

– А ты адкуль, добры чалавек, ведаеш пра ўсё?

– Сарока-белабока на хвасце прынесла, – адказаў весела, нахіліўшыся да жанчыны, шэптам дадаў: – І яшчэ сарока сказала, цётачка Анэля, каб тыя пяць тысяч, што вы схавалі пад ліфчык, не аддавалі зяцю ў рукі – адразу прап’е...

Жанчына зусім зніякавела, паспрабавала нават адсунуцца. Я пачуў яе недавер і страх: “Што ж за насланнё такое на мяне? Адкуль ён дазнаўся пра ўсё? Няўжо падгледзеў, як грошы хавала? Ніхто ж, здаецца, і не бачыў, нават Рыгор... А пра ўнукаў як дазнаўся, мяне ж першы раз бачыць... Авоечкі, што ж мне рабіць?..”

– Што рабіць? – перапытваю і гляджу на цётку. – Анічога не рабіць. Не бойцеся, зла я вам не зраблю, – супакойваю ўжо жанчыну і толькі цяпер заўважаю сябе на першым сядзенні – таго, хто выйшаў з мяне, пайшоў ад мяне, што ператварыўся ў бетонную статую, а потым жа і ажыў, – толькі меней распускайце язык. Шмат пакут вы з-за яго перанеслі, ці не так?.. І думкі чорныя выкіньце з галавы.

Цётка Анэля пракаўтнула сліну і сцялася, схіліўшы галаву, хуценька загаварыла пра сябе: “Маўчу, маўчу, добры чалавеча! Зла табе таксама не жадаю – едзь сваёй дарогай, і паненцы тваёй шчасцейка... Дзякуй, што навучыў, бо я баба дурная і бесталковая. Даруй мне, Божачка, і ты, добры чалавек!”

– Дарую, цётка Анэля!

Ён – я, значыць, называць яго трэба – Ён-я! Не, не так, непрыгожа гучыць. А мо – Яён? Так дык яно і лепей. Яён пра нешта засяроджана гаварыў з вадзіцелем, на мяне не звяртаў ніякай увагі, як нічога нас і не звязвала – ні да гэтага, ні цяпер. Яніна драмала на маім плячы, адпачывала. Я адчуваў дотык цёплага і даверлівага цела.

За акном ужо добра змерклася. Мне шкада было будзіць маю спадарожніцу – моцна спала. Думак яе не чуў – роўна білася жылка на руцэ, якую трымаў у сваёй. Яён сядзеў, адвярнуўшыся да акна. Мо назіраў за мною, гледзячы ў чорную шыбіну – як у люстэрка. Вадзіцель, пад’ехаўшы да гарадской аўтобуснай станцыі, голасна абвясціў:

– Спадары палешукі! Мы прыехалі. Не пакідайце ў салоне свае рэчы.

“Божа! – пачуліся сігналы ад Яніны. – Як я кахаю цябе, Антон! І толькі дзеля цябе я пайшла на ўсё...”

“Ведаю, Янінка, і веру табе да кожнага слова. Ты – мая адзіная і назаўсёды...”

“Дзякую, любы! А на Яёна не звяртай увагі. Пакуль што не чапай яго. Ён яшчэ і сам не разумее, што адбылося з ім, як і не ведае, кім быў да гэтага. У яго няма яшчэ ні думак, ні жаданняў. І ён не ведае нават, куды едзе... Пакінь яго ў спакоі. Прыйдзе яшчэ час зблізіцца з ім, расказаць адзін аднаму пра ўсё...”

“Добра. Прачынайся...”

Мы першыя ступілі на мокры асфальт. Я падаў ёй руку. Думкі яе былі роўныя і ўпэўненыя, як і хада.

“Але ж дзе мы сёння будзем начаваць? Мне здаецца, што мы прыехалі ў нейкі незнаёмы горад, у якім ні знаёмых, ні сяброў...”

“Ты зноў забыўся пра ўсё...”

– Выбачай, Яніна!

– Вось тут мы і будзем начаваць. І не толькі начаваць, а і жыць, – падышла Яніна да тэлефоннай будкі, прачыніла шкляныя дзверцы, пераступіла парог.

– Тут? – не выказваю здзіўлення, разумеючы яе жарт – хоча пазваніць знаёмым і папрасіцца на ноч.

– Заходзь, – запрашае ўсмешліва.

Зайшоў следам і я, прычыніўшы за сабою дзверцы. У вачах гарэзлівасць і загадкавасць.

– Абдымі мяне, Антон, – шэпча жанчына і туліцца да мяне, – і зажмур вочы, уяві, што мы з табою ўзляцім вышэй зорак. Зажмурыў?

– Як прасіла.

Яна абняла мне галаву і дакранулася вуснамі да маіх губ. Ад дотыку хмельна закружылася галава. І кружылася яна некалькі секунд – колькі і не адрывалася ад мяне Яніна.

– А цяпер пайшлі.

– Куды?

– Які нездагадлівы. Сам жа пытаўся, дзе начаваць будзем.

– Але ж ты хацела некаму пазваніць.

Яніна шчыра засмяялася, адкрываючы дзверцы.

– А я і пазваніла.

Найперш мне кінулася ў вочы тое, што я не пазнаў тое месца, дзе мы знаходзіліся: ў нейкім вялізным памяшканні, у якім ніколі не быў. Рухі, мне падалося, былі нейкія запаволеныя, бы на нашы рукі і ногі прывязалі нябачны груз.

– Дзе мы?

У маім голасе не было здзіўлення. Адчуў, што пачаў жыць у іншым вымярэнні, якое ўспрымаў як належнае, да якога быў гатовы даўно.

– У нашым доме, дзе мы будзем з табою жыць.

Яніна не жартавала. Тое я зразумеў па яе сур’ёзным выглядзе і па тэмбры голасу.

– Табе неабходна цяпер паспаць, адпачыць, – дакранулася яна да маёй рукі, – шмат нечаканасцей звалілася на цябе ў адзін дзень...

Мяне сапраўды ахутала стома, хіліла ў сон. З цяжкасцю пераастаўляў ногі. Як скрозь туман бачыў, як Яніна адчыніла дзверы. Мы прыйшлі ў нейкі цёплы і вялікі пакой. Не распранаючыся, упаў на ложак... Нешта шаптала мне над вухам жанчына, але голасу яе не чуў.

Сон мне сніўся дзіўны, які ніколі не сніўся да гэтага. А мо то і не сон быў зусім? Яскрава яго бачыў, жыў у ім. Я не хадзіў, але ж і не лётаў. Затое лёгка перасоўваўся з месца на месца.

Для мяне не існавала адлегласці і часу. У сне была і Яніна – у тым жа самым адзенні: у плашчыку, у чорных туфлях, на галаве бел-чырвона-белы пасачак. Пра свой стан я не цікавіўся ў яе, хаця тое яшчэ мяне непакоіла. Проста я перастаў у нейкі момант здзіўляцца. Уражанне было такое, што даўно жыву такім жыццём, таму і прымаў яго такім, якім і бачыў.

Мне лёгка і ўтульна пачувалася ў маім сне. Бачыў кожную жылку і нервік у маім целе, бачыў, як сэрца перакачвала густую вадкасць, як яна, кроў, цякла па венах, пульсавала... Нічому ўжо не здзіўляўся, бо даўным-даўно ведаў сябе такога.

На левай руцэ бачыў, як кроў слаба прабівалася ў адным сасудзе – ёй замінала звужанасць. Мо ад таго і нямела зрэдку рука – не мог даць рады. Калі ж дакрануўся да таго месца даланёй правай рукі, то кроў прабіла сабе дарогу шырэй, і адчуў лёгкі боль. Затое праз хвіліну неймаверная сіла ўлілася ў левaую руку. І я зразумеў, што магу сам сябе лячыць. Пашкадаваў, што тое было толькі ў сне.

“Чаму толькі ў сне? – узлятаюць тонкія бровы над усмешлівымі вачмі. – Такое ты ўмеў рабіць даўно, ды не здагадваўся пра тое...”

“А хто ж у мяне адкрыў такі дар?”

Я ўсеўся на галіне тоўстага дуба (а мо і бука?), насупраць мяне – спадарыня Яніна, нагамі боўтае паветра.

“Я і адкрыла. Ты сам адкрыў бы сябе з цягам часу. Проста я прыспешыла падзеі”.

Яна пераляцела яшчэ вышэй, але ляцела не як птушка, а як паветраны шарык. Уселася ямчэй на самым вільчыку. Мне ж не хацелася падымацца вышэй, застаўся ўнізе.

“Яніна, ты толькі што адкрыла ў мяне “тое” – ці?..”

“Ды не, значна раней... Людзей пятай расы ўжо шмат. Мо і не так шмат, але яны ёсць...”

“Пятай расы? – гляджу на яе знізу ўверх, як кепскі вучань, перапытваю ў настаўніцы незасвоены ўрок. – Як тое зразумець, растлумач...”

Над намі праляцелі незнаёмыя птушкі – ці то буслы, ці то жоравы. Яны праляцелі клінам у бок сонца і згарэлі ў яго зыркіх промнях.

“Мы жылі ў чацвёртым вымярэнні і адносіліся да людзей чацвёртай расы. Жылі звычайным жыццём. Бачылі свет і наваколле сваім зрокам, але не бачылі трэцім вокам і не чулі трэцім слыхам. Ты цяпер і бачыш трэцім зрокам. Бог даў жыццё людзям у пятым вымярэнні даўно – як даў Леанарда да Вінчы і Настрадамусу, Блавацкай і Скарыну... Нехта так і не адкрыў у сабе новага чалавека і застаўся чалавекам чацвёртай расы...”

“Чаму ж так, Яніна? Баяўся быць звышчалавекам?”

“Не верыў, што такое можа быць. Таму і не раскрываўся, бо людзі бачылі ў іх вядзьмарак і чараўнікоў. Казкі пра чараўнікоў – хіба казкі? Чыстая праўда...”

“Сапраўды так?”

“Сапраўды, Антон”.

“Гэта людзі, якія маюць павышаную адчувальнасць да падзей, што здараліся ў дзяржавах і краінах. Яны ведаюць усё пра сваё здароўе і іншых. Могуць лячыць любыя хваробы. Яны ведаюць усё і пра ўсё. Для іх не існуе ніякіх тайнаў Зямлі і Сусвету. Калі ж ім трэба пра нешта тэрмінова даведацца, яны проста падключаюцца да крыніцы дадзеных энергаінфармацыйнага поля Зямлі і Сусвету. За долі секунды ім будзе выдадзена неабходная інфармацыя. Такіх людзей называюць суперсенсамі. Яны лёгка здымаюць інфармацыю з падсвядомасці любога субяседніка. Суперсенсы чытаюць думкі як Кнігу жыцця, могуць зрабіць дыягностыку любому жывому арганізму і вылечыць ад хваробаў...”

“І нават камара?”

“Не смешная падначка... І камару, і любой казурцы. Суперсенс можа прадказаць падзеі будучага часу. Яны дасканала выкарыстоўваюць думкафільмы і думкавобразы, з якімі могуць працаваць на любой, нават на самай далёкай адлегласці...”

“На любой?”

“Так. Але наступнае іх дасягненне – тэлепартацыя. Што мы з табою і здзейснілі, зайшоўшы ў тэлефонную будку. Мы імгова перамясціліся ў далёкую кропку Сусвету”.

“Тады нам не трэба ні самалёты, ні чыгунка, так?”

“Так, любы, так. Гэтыя атрыбуты застануцца ў нашай памяці як музейныя экспанаты і гімн дваццатага стагоддзя і людзям, якія пераадольвалі прастору з дапамогай рухавікоў унутранага спальвання і электрарухавікоў. Медыцына суперсенсаў цесна пераплятаецца з духоўнасцю...”

“А каханне – духоўнасць?”

“Але, так. Каханне і любоў. Гэтыя два паняцці маюць вялікую энергетыку, якою можна за колькі хвілін узвесці егіпецкія піраміды”.

Яніна падляцела да мяне і села ў нябачнае крэсла - сядзела ў паветры без усялякага апірышча. Але я яго бачыў – то была паветраная канапа. Каханая гайдалася, як у шэзлонгу. За блакітны гарызонт сядала зялёнае сонца.

Воблакі не рухаліся, як заснулі пад цёплымі промнямі.

Потым мы йшлі шырокай алеяй – як тунэлем. Над намі звешвалі свае галіны дзівосныя дрэвы з шырокім лісцем.

Яно падала ўжо долу, спрэс усцілала зямлю (зямлю?), але не шамацела пад нашымі нагамі, хаця мы і ішлі па ім – над ім.

“Што мне рабіць з маім адкрыццём? – упершыню ў сне прамаўляю словы ўслых, жмуруся ад апошніх сонечных промняў, прыпыняю крок. – Нездарма ж ты паклікала мяне сюды. Нездарма ж вылучыла мяне з усёй грамады... Каго ж яшчэ ты вылучыла? І колькі ж нас, скажы?..”

Яніна зноў засмяялася, падляцела да галіны высознага явара і сарвала ліст з адмысловым узорам – малюнак «Пагоні» нашага Княства. Доўга глядзела, як вывучала яго, уздыхнула, журботна паглядзела на акрайчык сонца:

– Столькі пытанняў адразу... Што рабіцьмеш, пытаешся? Працаваць будзем, шаноўны спадар Антон, працаваць на карысць Ліцвініі, нашай радзімы. Так, паклікала нездарма. І вылучыла нездарма. Мы з табой павінны вылучаць іншых. Вылучаць і лячыць тых, хто духоўна цяжкахворы. Таму ты будзеш працаваць на зямлі ў любым тлумным месцы. Каб адчуў і зразумеў свае магчымасці. Каб канчаткова паверыў у сябе.

– А сюды як дапінаць – без цябе?

– У цябе ж ёсць ключ – чароўнае слова. Прамовіш – і ты тут.

– Добра. Колькі я тут прабуду?

– Некалькі дзён. Табе трэба набрацца моцы і сілы. Тады там, на зямлі, ты зробіш усё неабходнае.

Я спаў суткі, і двое, і трое...

Працоўны дзень у мяне пачынаецца а дзясятай гадзіне. Але прыходжу заўсёды на паўгадзіны раней, каб падрыхтаваць пустую тару, каб лягчэй і хутчэй было спраўляцца з працай, калі пачнецца мітусня са здачай пустых бутэлек.

Мой напарнік – неспакойны і зухаваты Змітрок Кісялёў – як метэор, лётае то ў двор, выносячы напоўненыя скрынкі пляшкамі ад каньяку і ліманаду, гарэлкі і піва, то ў залу, то на вуліцу... Змітрок – унікум. Змітрок – дзіўны і не падобны ні на кога чалавек. З ім добра і ўтульна. Неразгаданы і супярэчлівы чалавек... Вечарам, калі хлопец вяртаўся дадому, напаў на яго ў цемры бамбіза – ударыў пляшкай з-пад шампанскага па галаве. У гарачцы паспеў яшчэ даць здачы – той і паляцеў старчма на жалезны плот...

Зміцер, акрываўлены, паваліўся на зямлю. З сатрасеннем мозгу забралі раніцай у бальніцу. Ляжаў больш месяца. А пасля, як вылечылі, і паклікалі ў суд.

Перад судом наведваўся да яго “пацярпелы”. Шапнуў на вуха, нахіліўшыся да яго, што калі Зміцер адваліць яму пяць тысяч, то ён забярэ назад сваю заяву ў судзе.

Зміцер паказаў яму дулю, ды яшчэ падсунуў яе пад самы нос, што аж задраў таму кудлатую галаву, яшчэ і ў твар плюнуў пры ўсіх. Каб бачылі, што не страціў ён яшчэ чалавечую годнасць і гонар.

Ну і загрымеў хлопец на чатыры гады – суддзя ўбачыў у ім злоснага злачынцу.

З ім я сустрэўся нечакана ў людскім натоўпе. Пачуў яго голас – крык аб дапамозе. Ён думкава прасіў Бога выбавіць яго з бяды, выцягнуць з яміны, у якую трапіў. Тады ж я і вырашыў быць побач з ім, тым больш што працаваў ён у такім прыдатным для мяне месцы.

Змітракоў бацька кіраваў будаўнічым трэстам.Бацькі былі ў разводзе. Таму хлопец ні да кога з іх не наведваўся. Маці дазналася пра яго зняволенне праз тры гады пасля суда. Жахнулася, але не з’ездзіла да яго, нават не напісала хаця б кароценькае пісьмяцо.

Зміцер вучыўся ў чыгуначным інстытуце. Скончыў адзін курс. Выдатна вучыўся. А калі за судзімасць выключылі, потым, адседзеўшы, аднаўляцца не стаў. Бацька сустрэўся з ім пасля адбыцця тэрміну. Прасіў, каб адумаўся, перагледзеў сваё жыццё, абяцаў падтрымку і дапамогу. Раіў аднавіцца ў інстытуце. Пасаду добрую абяцаў. У другі раз, як зацягнуў да сябе ў кабінет, грошай цэлую гару перад ім паклаў. Але не загарэліся вочы ў юнака – маўчаком падняўся і пайшоў з бацькавага шыкоўнага кабінета. Нават не развітаўся. Маўчаннем сваім даў зразумець, што чужыя яны і што дарогі іх больш ужо ніколі не перакрыжуюцца.

Нікому ў свеце не дадзена зразумець Змітрака. Як і не пачуць боль яго спакутаванай душы. Любіў Зміцер Кісялёў іграць на гітары. Толькі ёй давяраў тугу сваёй душы, свае патаемныя думкі. Калі ў нас пачынаўся абедзенны перапынак ці з-за недахопу тары білі лынды, ён сядаў у сваім закутку і браў у рукі гітару...

Што за песні спяваў ён? Ды то і не песні, мусіць, былі, а нешта іншае, ні на што не падобнае. Маналогі? Прытчы? Балады?.. Я не ведаў, да якіх жанраў іх аднесці.  Экспромты-фантазіі жыцця? Каскад добраўплыннай энергіі, якая давала сілу таму, хто слухаў? І гэта таксама. А вось што было галоўным лейтматывам яго споведзі – то тое, мусіць, не ведаў ніхто...

Ён быў загадкавым самародкам, геніем. Песні спяваў нікому быццам бы і не вядомыя, але зразумелыя і блізкія – нібыта апавядаў пра патаемныя памкненні душы кожнага з нас. Песні, дарэчы, былі невядомыя і самому Змітраку, бо яны ніколі не паўтараліся. Выконваліся ўсяго адзін раз. Адзіны раз яны і прыходзілі да яго. Словы былі даўночаканымі і выпакутаванымі. Ён іх клікаў з нетрыскаў сваёй памяці, свайго натхнення. Экспромты нараджаліся адразу ж, як толькі дакранаўся пальцамі да струн. Словы родныя і блізкія, як пах паляшуцкай зямлі перад сяўбой. Слухаў яго, а чуў рык зубра. А то аднекуль накатваўся магутнай хваляй паланез Агінскага і пранізваў мяне ўсяго наскрозь. Уплятаўся яшчэ пошум дуброў і пушчаў, спакой надпры-

пяцкіх узболаткаў і лугоў. Так нараджалася з крынічкі Прыпяць. Так нараджалася каханне ад раптоўнага позірку прыгажуні паляшучкі...

Колькі жыву, не чуў такога. І таму ўдзячны Богу за такую асалоду – ні на якім канцэрце славутых зорак, ні на якой творчай сустрэчы прызнаных не адчуваў тое, што падараваў мне Змітрок Кісялёў... Найперш мяне здзіўляла і ўражвала чароўнасць і мілагучнасць словазлучэнняў і параўнанняў. Тое было нешта ад паэзіі, ад касмічнага ўзлёту – слова няўлоўнае, але пранізвала сэрца, нараджала незвычайную асалоду Адкрыцця. І тады адбывалася дакрананне да Святога і Светлага, Найчысцейшай крыніцы Жыцця, адчуванне Прысутнасці Бога...

Гаварыла-бунтавала хлопцава душа. Дзялілася болем і пяшчотай, радасцю і дабрынёй. Ці можна перадаць боль параненага звера, які перадсмяротным рыкам скаланае Сусвет? Ці можна перадаць боль сваёй Радзімы – паднявольнай і зняважанай, абрабаванай і аплёванай, – якая хоча стаць на ногі і не знаходзіць апірышча?

Адкуль, адкуль у Змітраку жыла гэтая адданасць родным гаям і пушчам? Бацька ж даўно адрокся ад мовы. Пасада вымушала часта бываць у Маскве. Яму снілася пасада міністра Саюза па будаўніцтву. Маці працавала настаўніцай. Выкладала расейскую мову і пасміхалася з мовы сваіх жа бацькоў. Перакладала знарок «Анегіна» на беларускую мову і смяялася разам з вучнямі, як гучыць непрыгожа пераклад на мужыцкай мове... З сябе, выходзіць, і смяялася...

Змітрок два леты быў у бабы Еўдакеі на Петрыкаўшчыне, у Навасёлках. Бегаў босы, купаўся ў крыніцы, пасвіў кароў з бабкай. Хадзіў з ёю ў грыбы і ягады. Слухаў казкі і паданні, міжволі запамінаў... Першае незразумелае слова, якое пачуў і запомніў, – мульмо. На руцэ бабуля ўбачыла мулякі – касіць вучыўся. Спадабалася хлопцу бабчына навука. Зразумеў, што ёсць шмат прыгожых і нечаканых слоў. Прасіў і прасіў бабку расказваць пра сябе, пра сваё жыццё...

Спявала яму Еўдакея толькі свае песні, якія ўнук ніколі і не чуў. Казкі расказвала, ад якіх прыходзіў у захапленне. Бабка і не падазравала, што сеяла ў дзіцячую душу зярняткі надзеі на тое, што песні бабкі вечныя, як само неба і жыццё на зямлі, што яны, як абрус на святочным стале ліцвінаў.

Пэўна ж, зярнятка стала парасткам, і расцвіў ён у хлапчуковай душы буйным дрэвам...

“Мусіць жа, нічога чалавек гэты Антон, – пачуў яго думкі. Ён не пераставаў спяваць, а я прыхінуўся да сцяны спінай, прымружыў вочы. – Не лезе ў душу, не дапытваецца ні пра што. Не павучае і не дакарае, размаўляе, як з роўным... А вось самога не зразумець – маўклівы нейкі, як асцерагаецца

нечага, хаця кепскага ад яго не зыходзіць... Трэба з ім чару добрую калі ўзяць, раскрыецца тады, быць такога не можа, каб не расслабіўся...”

Мне хораша, далібог хораша побач з ім, і мне жадалася, каб яго песні ніколі не сканчаліся... Але ўспамінаю, што мае жаданні могуць збывацца, спахопліваюся:

– Пара ўжо і ў дзверцы нашыя кулаком грымнуць – трэба ж табе і адпачыць ад канцэрта...

– За гэтым не заржавее, – усміхаецца Кісялёў, – сумаваць нам не дадуць...

І тут жа нечы кулак страсянуў дзверы.

– Эй вы, алкаголікі! – даносіўся хрыплы голас п’янай жанчыны. – Вы нас тут доўга марынаваць будзеце? Панапіваліся там і песні гарлапаняць, а нам тут гібей...

Змітрок замоўк. Нейкі момант сядзеў з заплюшчанымі вачыма, а потым устаў, павесіў гітару на цвік.

– Усіх абслужым – не хвалюйцеся! – крыкнуў у дзверы і пайшоў іх адчыняць – дзве палавінкі з драўняна-стружкавых пліт, пафарбаваных у цёмназялёны колер. – Вось прыедзе машына са скрынкамі – і прымем ад вас бутэлькі.

– Ды ты што, хіба яшчэ не прыехала машына?! – узрываецца тая ж цётка і крые нас мацюкамі на чым свет стаіць. У яе маўчыць “другі канал”, усю сілу ўкладвае ў словы. – Якога ж хрэна вы тут рабілі паўдня? Я на вас буду скардзіцца ў райком...

– Цётачка, які райком-гарком, калі яны даўно накрыліся жаночай хусцінкай, – рагоча Зміцер і трасе весела русявай галавой. – Ты б лепей да пракурора схадзіла... Ён бы нам паказаў, дзе ракі зімуюць, а твой райкам... Ні ў піпі, ні ў Красную Армію.

– Бач, ён яшчэ мяне і вучыць, – закіпала цётка, як самавар, і я пачуў яе клопат: “З-за гэтых прыдуркаў і не пахмелішся, а галава, як цэбар – пустаяпустая... От бардак развялі...”

– Яшчэ паспееш пахмяліцца, Агата Піліпаўна, – кажу я, не вытрымліваю несправядлівых папрокаў, – машына з тарай будзе роўна праз дзесяць хвілінаў...

– Сам ты алкаголік! Вунь які нос сіні. А ён мне – “паспееш пахмяліцца!”. А ты мне наліваў, га, скажы?

– Ну не я, дык сужыцель твой – сусед Міхаіл. Ці не так?

Жанчына вырачыла вочы. Хацела нешта сказаць, але тут Зміцер шуснуў у калідор, набраў гару пустых скрынак з кузава машыны, прынёс і гэпнуў каля акенца, загадаў:

– Давай, цётачка, твае пляшкі! Правільна Антон кажа – яшчэ пахмелішся. Вымай, стаў на прылавак! Не затрымлівай чаргу!..

“Адкуль ён ведае, што я сплю з Міхалам? – цётка чамусьці не спяшалася выстаўляць бутэлькі, дзівілася са слоў, пачутых пра сужыцеля. – Мо побач жыве? А ці няма тут каго з нашага дома – за тры кіламетры цягнулася сюды, каб не сутыкнуцца з кім. Каб жа жонка дазналася, павырывала б косы пры людзях. Казала ж, асцярожна трэба, дык за шклянку “чарніла” гатовы і на клумбе – навідавоку ва ўсіх...”

Жанчына здала дзве сумкі бутэлек, схапіла свае законныя тысёнцы, борздзенька шуснула ў дзверы – не аглянулася, не затрымалася. Гарэлі ў жанчыны “каласнікі”...

Пачаў выстаўляць на прылавак бутэлькі сівы згорблены дзядок у дзіравай світцы. У яго дрыжалі рукі, слязіліся вочы.

“Як жа ты там, Ганулька, на тым свеце? Каб жа ты ведала, як цяжка без цябе... Уласці хочуць выселіць мяне з нашай хаты, а мяне здаць у дом састарэлых. А як жа я без тых сценаў, якія чулі твой голас, бачылі цябе. Мне ж ніяк нельга без цябе – ты штохвілінна сядзіш побач са мною... А мне і пенсіі не хапае на хлеб – другі дзень галодны. Во бутэлек у парку назбіраў... Сорамна, але што паробіш. Ганулька, каханая мая, забяры мяне да сябе, не магу я тут, бо тут не краіна, а прыбіральня – смярдзіць, дыхаць няма чым... Лішні я тут чалавек. Нікому не патрэбны. Ваяваў за савецкую ўласць, а яна мне жабрацтвам аддзячыла... Як здзек прыдумалі словы: “Молодым везде у нас дорога, старикам везде у нас почет!” Які абсурд! Можа, і саграшыў, Ганулька, але я свой і твой парцейныя білеты з профілем сатаны на вокладцы аднёс на плошчу і кінуў да падножжа яго ж помніка... Твая душа побач са мной – днём і ноччу...”

Дзядулю замест дзясяткі даў сотню – ён і не заўважыў. Па рытме сэрца ведаў, што жыць яму заставалася тыдняў тры. Бачыў: над ім згасала энергія жыцця, а брала верх шэрае воблака – подых смерці. Яму ніхто ўжо не мог памагчы.

– А малочныя вы прымаеце? – зазірнула ў акенца дзяўчына – вусны нафарбаваныя, бялявая, у карычневай скуранцы. Погляд вясёлы, бесклапотны, з іскрынкамі жарту.

– Толькі ад прыгожых наведвальніц, – тым жа тонам гаворыць Змітрок, падміргвае нават ёй, выклікае на шчырасць.

“Каб быў ён трошкі чысцейшы, аддалася б яму ў першы ж вечар... А то Андрэй мой нешта не вельмі... Як спакусіць яго, вымыць перад гэтым, пырснуць французскімі духамі ды зацягнуць у цёплы ложак?”

– А я – прыгожая? – абрадавалася жанчына-дзяўчына, што так удала закінула вуды – абнадзеілася, паспадзявалася.

– Такая прыгожая, што каб прыснілася ноччу, то крычаў бы так, што і суседзі пазбягаліся б, – прызнаўся шчыра Зміцер Кісялёў, заўсміхаўся, залатым зубам бліснуў.

Яна пачырванела, прыкусіла язычок і пеканула, як ёй здавалася, едка і балюча:

– Прапойца! Ды ты ж год не мыўся, а туды ж...

– А чукча ніколі не мыецца, а дзяцей рабіць умее, – абыякава заключыў ён і загадаў: – Давай бутэлькі, прыгажуня, а то зачыню кантору!..

Яна хутка выканала загад, маўчала, чакала грошы. Напарнік паклаў перад ёю скамечаныя паперкі і пачаў ставіць бутэлькі ў скрынку.

“Думае, што яна пава... Выпендрываецца яшчэ. Выпіць бы сёння не шкодзіла. Шклянку-дзве сухога віна. Чырвонага. Якое і радыяцыю, кажуць, выганяе чарнобыльскую... Вераніка, пэўна, і не ўспамінае пра мяне. А мо і правільна, што не ўспамінае – хто я ёй? Што магу даць, чым ашчасліваць?..” – ”Эх, Вераніка, Вераніка! – не гляджу я ў бок напарніка. – Якая ты вялікая дурніца, што не разумееш Змітрака! Як не ўцяміць табе, што ён адзіны ва ўсім свеце можа зрабіць цябе шчаслівай... Тое, што пад рукамі, не каштуе нічога, пра тое, што недасягальнае, марыш”.

– Змітрок-Кісялёк, – дакранаюся асцярожна да пляча, – у маёй шафцы стаіць пляшка. Пачні, а я пасля цябе...

Хлопец напачатку не разумее, што сказаў яму. Але ж пайшоў, адчыніў дзверцы і ўбачыў пляшку кабернэ. Адкаркаваў, наліў у вялікую шклянку. Зажмурыў вочы, выдыхнуў паветра і выпіў.

Падышоў да мяне, зазірнуў цікаўна ў вочы:

– Слухай, стары, а адкуль ты ўведаў, што мне страшэнна захацелася выпіць? – у яго цяплее позірк, мякчэе голас. Паралельна чую словы падзякі і пахвалы ў мой адрас. Але я не адрываюся ад работы – лічу бутэлькі, што паставіў перада мною маўклівы пажылы мужчына.

– Ты ж сам сказаў: «Эх, каб цяпер чырвоненькага!..»

– Так і сказаў?  не паверыў мне сябар. – Не можа таго быць. Ну і мастак ты хлусіць. Я ж усё памятаю, што гаварыў.

– Значыць, Змітрок, можа. Яшчэ і як можа быць. Мы ж часта не ведаем – ці мы так гаварылі, ці так думалі.

– Ну і няхай так будзе. Але ж перад гэтым не было ніводнай пляшкі. Я ж некалькі разоў заглядваў. Адкуль яна, скажы мне, узялася? – ён не рабіў мне допыт, у яго адлегла ад сэрца, і ён дэманстраваў свой добры настрой, хаця ж і дзівіўся адначасова з таго, што адбываюцца з ім такія метамарфозы.

– Мышы прынеслі і схавалі. А потым я ў іх купіў за скарыначку хлеба. Жытняга. Свежаспечанага.

Ён маўчыць, выцірае рукавом узмакрэлы лоб, моршчыць яго, уздыхае. Пачынае крыўдаваць, што я з ім у хованкі гуляю.

– Ты выпадкова ілюзіяністам у цырку не працуеш? На паўстаўкі... А мо і на цэлую цягнеш.

– Не. На паўстаўкі я працую яшчэ ў лазні. Лазеншчыкам. І масажыстам. У выхадныя дні. Хіба ж я не казаў табе? Разумееш, грошы вельмі патрэбны. “Жыгуля” думаю купіць.

– А-а, вось яно што. Дык так то яно, канечне, па правілах, але калі яно не там, то так і будзеш лысым хадзіць, але тое паправіць лёгка – бо калі каза заходзіць у агарод, а гаспадар думае, што то карова, ды яшчэ і яго, то яно, натуральна, не бульдзянёж...

Абракадабру ён прагаварыў на адным дыханні, не спыняючыся. Любіў ён тое рабіць, калі хацеў паздзекавацца з мяне, уставіць шпільку... І не мацюкаецца, але ўсё ж... Пахадзіў вакол, патаптаўся, зноў падышоў, паў-шэптам спытаў:

– Антон, а можна яшчэ шкляначку?

Ведаў, што не адмоўлю, куражыўся, рахманым прыкідваўся, лісіцай хітрай слаўся. Вуркатаў, як котка на сонцы.

“Што са мной творыцца, Божа? Чаму я такі неўладкаваны? Выпіць хочацца – гэта што, падзенне? Дэградацыя? Ці натуральны стан чалавека? Што падумае пра мяне Антон? А Вераніка?..”

– Чаму ж няможна? Можна. Чырвонае віно ў Францыі п’юць, як кампот, падчас абеду.

– Праўда, Антон?

– Сам бачыў, як быў там. І піў таксама кожны дзень. Пасля працы і я з табою вып’ю. Разам з табою прыму на грудзіну. Добра?

– Дак там жа не застанецца пасля мяне... – сябрук глядзеў на мяне разгублена. – Дак тады мо я збегаю ў камок – грошы ў мяне ёсць.

Я ўсміхнуўся і адмоўна пахітаў галавой:

– Не хвалюйся. Мне прынясуць.

– Хто?

– Сам убачыш. Таму не пакідай для мяне.

Кісялёў пацiскае плячыма, нічога не разумее зноў. Губу прыкусіў, хмыкнуў, не паверыўшы, але пайшоў да тумбачкі.

Праз хвіліну зноў вярнуўся, яшчэ больш падвесялелы зрабіўся, падабрэў.

– Усё. Да кроплі. Нават мышам на пахмелку не пакінуў. Так што ты можаш праляцець, як фанера над Парыжам, у якім ты меў гонар быць.

– На здароўе. Палепшала табе?

– Цяпер адчуваю сябе выдатна. Дзякую. Не разумею толькі – для таго каб выраўняцца, каб прыйсці ў норму духоўнага стану і раўнавагі, – мне неабходна заўсёды “браць на грудзі”.

– Неабавязкова. Віно цябе супакоіла на тры адсоткі, астатнія дзевяноста сем – ты сам сябе вылечыў. Ты сам можаш вылечыць сябе і ад астатніх хваробаў – больш значных...

Зміцер хмыкнуў, недаверліва пахітаў галавой. Не верыў. Не хацеў верыць.

Калі ж людзей не стала, маўкліва пасунуўся ў свой закутак. Гітару ўжо не браў. Сядзеў і думаў, гледзячы ў адну кропку. Курыў, разважаў пра нешта. І думкі яго былі простыя і зямныя. Я адключыў іх ад сябе, каб засяродзіцца на сваім.

Кісялёў хварэў. Хварэў да Веранікі і на любоў да сваёй зямлі. Гэтыя два паняцці зліваліся ў адно цэлае, даючы яму дзівосныя крылы. Ён, каб ведаў, мог узляцець над Сусветам, над сваімі клопатамі і трывогамі. Не здагадваўся, якія ў яго былі магутныя крылы. Не спрабаваў узляцець. Драмалі ў ім сілы. Чакалі свайго часу. Той час павінен быў наблізіць я.

Харошы, задушэўны ў мяне сябрук – Змітрок, Зміцер, Дзмітрый! Я не прыхарошваў яго, не ляпіў у сваім уяўленні такім, якім хацеў бы бачыць. Такім нарадзіла яго маці, якая ж і адмовілася ад яго, а жыццё ўдыхнула ў яго паляшучка-бабуля. На такіх бабулях, пэўна, і трымаўся залаты дух Ліцвініі.

Я прысеў на мяккае крэсла, якое выменяў у вадзіцеля грузавіка на пляшку гарэлкі. Ведаў, што ён збіраецца яго выкідваць, а яно мне адразу спадабалася, таму і папрасіў яго прадаць. Вадзіцель Пятрок Піліповіч нават таргаваўся са мною, апасаўся, каб не прадзешавіць. Для прыліку я павагаўся і аддаў яму пляшку белай. Гэпнуўся ў крэсла, выдаўжыў ногі і паклаў іх на табурэцік. Склаў рукі на жываце, прымружыў павекі і – адключыўся ад усяго свету: нічога не чуў, не бачыў, не адчуваў. І лётаў я па сваіх маршрутах, хадзіў па сваіх сцежках, бегаў разам са звярамі ў пушчы, узлятаў разам з птушкамі ў неба. Шчаслівым чалавекам адчуваў я сябе!

– Вы чаго спіцё на рабочым месцы? – пачуўся над вухам знаёмы голас – вясёлы і бадзёры. То прыйшла яна, Яніна.

– Я не сплю. Я думаю і адпачываю, – адказваю, паварочваючыся да яе, і ў мяне ледзь чутно іголачкі кальнулі ў скроні – прыйшла праверыць ці з чым іншым?

– Ад думак рана сівее галава, – папярэджвае яна, і між сакаўных вуснаў белізной высвечваюцца роўныя зубы. – Урэдна, кажуць у нас, шмат думаць...

– Добра, не буду шмат думаць. Сядай, калі ласка, адпачні са мной. Даруй, што сустрэў цябе вось так, правільней, зусім не сустрэў. Не чакаў цябе.

– Дзякуй за шчырае прызнанне. Ну і як у вас тут жыццё?

– Нічога. Уежна і ўлежна. Зміцер памочнік спраўны, праблемаў з ім няма.

– Я тут прынесла, што абяцала.

Госця паставіла сумку на стол, і тут да нас падышоў Кісялёў.

“Што за птушка такая? Чаму яна прынесла Антону віно і за што? Не бачна, каб паддавальшчыца, але ў сумцы, б’юся аб заклад, некалькі пляшак... Думаю, што там чырвонае сухое. І чаму ўвесь час толькі чырвонае віно? Як кроў Хрыста? Эх, каб пазваніла сёння Вераніка... каб толькі пазваніла... Якое было б у мяне сёння свята! Божа, зрабі так, як я мару!”

– Дзень добры вам, шаноўная спадарыня!..

– ...Яніна, – падказваю, памагаю яму.

– Дзень добры, Змітрок! – бадзёра адказвае госця, усміхаецца, пэўна, чытаючы тыя ж думкі, што і я. – Як у вас тут жыццё?

– Як у ангельскай каралевы: што ні зажадаеш, усё збываецца – аніякіх праблемаў. Аж нецікава часам робіцца... Жартую, канечне. Клопатаў шмат, і круцімся мы з Антонам, як вавёрка ў коле. Але нічога, уцягнуліся, спраўляемся паціху з клопатамі.

“Ну і індывідуум твой напарнік, Антоне! Мяне, тваю каханую, зганіў. Ганьба мне! І паверыла я табе, што самая прыгожая ў свеце. Во дурніца! Якая я дурніца!..”

Я смяюся, гляджу ў гарэзлівыя вочы жанчыны, радуюся, што бачу яе, чую яе голас і рытм сэрца. Змітрок ёй спадабаўся – назычыла яму шчасця. Мы гаворым пра яго. Ён і не здагадваецца пра тое. Калі я ўзяў сумку, зазваніў тэлефон у закутку.

“Няўжо?! Няўжо?..”– закалацілася сэрца ў юнака.

Змітрок бяжыць у бакавушку, хапае слухаўку і прыстаўляе да вуха.

– Вераніка, ты?! – не верыць у сваё шчасце Зміцер Кісялёў і шчыльней прычыняе дзверы ў бакоўцы, каб не замінаць нам у размове. – Я ўжо і не думаў, што пазвоніш калі-небудзь...

– Ды вось надумалася... Хацелася, каб...

Мы адключаемся адначасова з Янінай ад яго поля і хвалі, бо ведаем, што скажуць адно аднаму два спакутаваныя сэрцы. Радуемся за іх.

– Я зноў вымушана з’ехаць, Антон. Толькі не крыўдуй на мяне. Нічога не паробіш. Адказнасць – вышэй за нас.

– Адлучышся надоўга?

– На тыдзень. Не больш.

– Тут ты сабе не падпарадкоўваешся?

– Пакуль не. Ты на першай стадыі, я на пятай. Каб дасягнуць найвышэйшага ўдасканальвання, трэба быць у шостым полюсе. Тады я навучуся назапашваць у сабе энергію і ашчадна карыстацца ёю. І належаць сабе.

– І калі тое будзе?

– Усяму свой час. Не хвалюйся, любы, усё будзе добра. Каханне і ёсць вечнае выпрабаванне. Памятаеш, як у Першым пасланні святога апостала Паўла карынфянам? “Цяпер ведаю я часткова, а тады спазнаю накшталт таго, як і я спазнаны. А цяпер зіхацяць толькі тры: вера, надзея, каханне. Але каханне – найбольшае з іх. Дасягайце кахання; раўнуйце аб дарах духоўных, асабліва ж пра тое, каб прадказваць...”

– Вучымся гэтаму. Вучымся прадказваць. Чым мне займацца ў час тваёй адсутнасці?

– Працуй. Услухоўвайся. Вылучай асаблівых. Не абмяжоўвай сябе ў дзеяннях. Але ж надта і не ўмешвайся ў жыццё людзей. Зміцер нездарма заўважыў, што яму лёгка ўсё ўдаецца. Не трэба так, Антон, мы ж не ў цырку працуем...

– Згодзен. Ён так напакутаваўся, што яму трэба знайсці сябе. Яму неабходны маленькі штуршок. Ён жа чалавек новай фармацыі, чалавек пятай расы. Абраны Богам.

– Не праяўляй залішнюю актыўнасць.

– Я пра ўсё памятаю. Памятаю і тое, што залішняе шкадаванне можа нарабіць зашмат бяды. Бо сказана Богам: “Глядзіце, дапамагайце асцярожна, не як неразумныя, але як мудрыя...”

– Правільна – але як мудрыя.

Мой уздых быў глыбокі і працяжны. Яніна паклала рукі на мае халодныя далоні, як хацела сагрэць іх, перадаць мне сваю ўпэўненасць і спакой.

– Мне будзе не ставаць цябе.

– А мне – цябе, – Яніна глядзела праніклівым позіркам мне ў вочы, і ў яе зрэнках люстраваўся сум, але не адчай.

Як суцешыць яе, пераканаць, каб не брала боль на сваё сэрца, бо не ведаў, ці магчыма такое ў нашым імкненні да дабра. Ведаем, што за развітаннем будзе сустрэча, і гэта сагравае і суцешвае нас. Мы адключылі і сваё паралельнае поле. Нашы думкі цяпер не будуць вярэдзіць адно аднаму душу.

На Яніне лёгкі, колеру марской хвалі, плашчык. Пад ім тонкая блузка. Доўгія распушчаныя косы звісалі на плечы.

– Заданне цяжкае? – цікаўлюся пра галоўнае, выказваючы сваё хваляванне.

– Не зусім. Сярэдняй складанасці. Праз нейкі час вазьму цябе з сабою – удваіх будзе цікавей. Я вярнуся хутка, ты і засумаваць не паспееш...

– Вяртайся. Я спакойны. Вунь і Змітро спакойны – колькі радасці ў яго сёння! Ён хоча напаіць мяне і выведаць нейкую важную для яго тайну.

– Так можна і алкаголікам стаць, – папярэджвае госця, усміхаецца, як дзякуе за разуменне яе ад’езду.

Мне хораша і прыемна, адказваю з гумарам:

– Ат, тае бяды, вылечаць, калі што, у ЛПП.

– Пакалечаць, а не вылечаць. Дзе ж ты бачыў такога чалавека, якога вылечылі, які пазбавіўся б ад алкагольнай хваробы?

Адказаў поціскам плячэй.

– Ну, мне сапраўды пара, – уздыхнула Яніна Альшанская, паглядзела яшчэ раз пільна мне ў вочы, чакала маіх слоў.

– Добрага табе падарожжа. Вяртайся хутчэй...

– Пастараюся.

Я так і застаўся сядзець у крэсле – загадала Яніна. Яна пайшла да дзвярэй, прачыніла іх, азірнулася. Хітануў галавой, паспрабаваў усміхнуцца, падбадзёрыць. Не ведаю, ці тое мне ўдалося.

...Праз колькі хвілінаў набілася столькі людзей, што можна было падумаць, што пазачыняліся ўсе ППШ горада. А можа, то так Альшанская пастаралася, каб мы са Змітром не сумавалі?

Адразу ж на падмогу прыбег памочнік. У вачах радасць, акрыленасць. Шчасце так і выпірала з яго душы. Цяпер ён горы мог перавярнуць, сілы ў яго прыбавілася столькі, што мог падзяліцца ёю з дзесяццю...

– Табе мо з базы званілі? Прэмію даюць? – пытаюся абыякава, адстаўляючы бутэлькі – адна да адной у радочак, каб потым было лёгка і беспамылкова пералічыць. – Свецішся, як велікоднае яйка...

– Не з базы. Не ўгадаеш.

– Тады не ведаю, Змітрачок... Мо прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі табе званіў – на работу запрашае?

Ён уздыхнуў, хітануў галавой:

– Не хапае ў цябе, Антоне, фантазіі. Таўстаскуры ты да бязмежнасці. Як белавежскі зубр. Як гіпапатам. А яшчэ такія пенкныя паненкі да цябе прыходзяць! Ладна, мо пасля раскажу – за келіхам віна. Пагудзім мы з табою сёння, Антон?

– Калі ёсць, як кажуць, нагода.

– Ёсць! Ды яшчэ якая нагода! Эй, людзі, не напірайце, ёлкі-маталкі, усе паздаяце. Мы вас мігам абслужым, праўда, спадар Клімовіч?

– Праўда, Змітрок, праўда! Сто дваццаць шэсць бутэлек, тры бітыя – мінус, а такія, замежныя, мы не прымаем – наша айчынная вытворчасць не разлічана наліваць у іх напоі. Так што вам належыць атрымаць... Калі ласка! Змітро, тваю макаўку, загружай тару!

А ён круціцца, як убарцкі ўюн. Праца гарыць у руках – вокам не паспееш міргануць, а скрынка поўная ўжо. Адна за адной – цэлая гара аж пад столь вырасла. Працуе Зміцер Кісялёў у пальчатках – старых, дзіравых. У ка-

пелюшы з шырокімі палямі. Проста люба глядзець на яго. Здаецца, даручы яму любую складаную работу – і ён выканае яе бездакорна і хутка. Як бы паміж іншым, зноў жа – як гуляючы.

– Мо перакурым, Кіселькін? – пытаюся ў яго, заўважаючы, што на лбе выступілі кроплі поту. – Закрываемся раней часу.

– Ты што?! – спалохана глядзіць на мяне сябар і шэптам пытаецца: – Ты хочаш, каб яны разнеслі наш ППШ? Нас жа на дробныя шматкі разарвуць...

Вось і дагадзі яму. Падбі на добрае, дык яшчэ і абмацюкае на чым свет стаіць. Не патыкайся цяпер да яго – гарачы, як кацёл з парай. І вясёлы, і адчайны адначасова.

“От добра, што не робяць перапынак, – чую радасны мужчынскі задаволены голас-сігнал – чацвёртага чалавека ў чарзе, – а то трэці раз прыходжу і не магу здаць – то зачынена, то тары няма... Хай жа пашанцуе сёння, а то цягацца з тымі бутэлькамі туды-сюды...”

“Пусціць мяне хоць жонка пераначаваць сёння ці зноў застануся на лесвічнай пляцоўцы?.. Во пакаціўся дык пакаціўся па жыццёвых прыступках, тваю маць... А некалі ж шапкі перада мною здымалі, ёлкі-маталкі, казлы брыдотныя... Мог пасадзіць любога, а мог і памілаваць. Калі добры хабар давалі...”

“...тваю маць, хто спі... апошнія грошы? Ці не Кацярынка, сволач такая, як пада мной ляжала... Я ж ёй, падлюцы, хавальнік раздзяру...”

Я зноў адключыўся ад людскіх тайных і брыдкіх думак. Чаму ў іх столькі злога і агіднага? Няўжо так завярэдзіліся за савецкім часам мазгі? Няўжо ўсё жыццё чалавека – гэта дробязныя клопаты, неўладкаванасць, пастаянная патрэба нешта знайсці, прабіць, купіць, дастаць? Ці для гэтага створаны чалавек? Кара на яго такая наслана за адрачэнне ад Бога?Чаму ў людзей шмат зла? І кожнае, хаця і малое зло, нараджае новае, яшчэ большае. Як вучыць Ойча? “Не адказвайце злом на зло ці мацюкамі на мацюкі, наадварот, блаславўляйце, ведаючы, што вы для таго закліканы, каб наследаваць блаславўленне. Таму што хто любіць жыццё і хоча бачыць добрыя дні, той стрымлівае язык свой ад зла і вусны свае ад зларадных прамоў – таму ўхіляйся ад зла і рабі дабро, шукай міру і імкніся да яго...”

Якая ж усё-ткі складаная істота ці стварэнне – Чалавек! І які ж ён у той жа час безабаронны і кволы...

– Усё, панове-спадары! – падняў угору рукі напарнік. – Засталося тры скрынкі. Адзін-два чалавекі... А астатнія прыходзьце заўтра. Даруйце, даражэнькія, ну няма ў што ставіць – не за пазуху ж мне іх піхаць.

– Ды што гэта за бардак такі, ё... тваю маць! – крычыць мужчына з чаргі. – З чорнага ўвахода дык вы прымаеце любога. Вось так і нажываюцца на нашых мазалях. Міліцыю сюды, хабарнікі, алкаголікі!..

Цікава было б уключыць паралель, але я не рабіў гэтага. Як і не пасылаю балячку на язык таго злога чалавека – няхай выгаварыцца, няхай накрычыцца, мо і лягчэй стане чалавеку. Баліць жа, і зразумець яго па-добраму можна...

Вось і рабі добрае людзям. Ідзеш, як кажуць, насустрач працоўным масам, а яны табе за тваё дабро... Натоўп загудзеў не як пчаліны вулей, а шэршневае дупло – пагрозліва, злосна, агрэсіўна: вось-вось шэршань, здаецца, куляй стрэліць у лоб і ўвап'ецца вострым джалам... Той жа дзяцюк замахнуўся бутэлькай з-пад "Агдама", і я ледзьве паспеў думкава схапіць яго за руку – папусціў бы ў Кісялёва, які стаяў адкрыты для пляўкоў і брудных слоў.

Я ж нічога не чуў – выключыўся зусім. Толькі слухаў плёскат хваль Адрыятычнага мора. Потым – пошум палескага бору, верхавін высозных сосен. І для мяне ўжо нічога не існавала навокал. Нават напарнік адплыў некуды ў шэрае бяздонне – толькі мора і бор, цішыня і спакой...

– Ты што, ачмурэў? – катурхае мяне ў грудзі Змітрок, просіць вярнуцца ў рэчаіснасць, зазірае ў вочы, спалохана дамагаецца дазнацца прычыну майго здранцвення – пэўна, думаў, што людскі натоўп адмоўна паўздзейнічаў на мяне, і таму спалохаўся. – Што з табою, Антон? Прачніся. Усё ўжо ціха і спакойна. Я іх супакоіў, мірна ўсё абышлося...

– Што – "абышлося"? – раблю выгляд, што нічога не разумею, падстройваўся пад яго, каб развеяць думкі пра мяне, пра тое, што яму здалося-падалося...

– Уціхаміраўся ў рэшце рэшт бунт здатчыкаў посуду. Ім жа вечна не дагодзіш. Заўсёды мы вінаватыя. А што зробіш, калі не хапае той тары, скажы, шаноўны спадар, што?

– Нічога, – кручу адмоўна галавой, як ачомваюся ад нейкага наслання. – Няма тары-растабары, дзень ляжы – гуляй на нарах!

– Ты – малаток! – крычыць на вуха радасна Кісялёў, бачачы, што абудзіў мяне, вырваў з маўклівага стану. – І дзе ты так навучыўся складна гаварыць? У нас у камеры быў адзін такі, дык вершыкамі і гаварыў. Думалі, што псіх, але не, кацялок варыў. Сядзеў на нарах, а на волі кніжка вершыкаў выйшла. Дык ты мне яго і напомніў.

– Прыемна чуць... дзякую.

– Ды ты не крыўдзіся, галубе, – спахопліваецца Зміцер, напалоханы неабдуманым параўнаннем-прызнаннем, зазірае аддана ў вочы, хоча пераканацца, што не крыўдую на яго. – Мяўкнуў, не падумаўшы...

– Ладна. Лічы, што не чуў нічога. Што з табою паробіш?

Сам дзівіўся, як з ім размаўляў – гаварыў і сам сябе слухаў, – ці не заносіла мяне, ці не пераігрываў? Напарнік пазачыняў усе дзверы. Выклю-

чыў усюды святло. Да канца працоўнага дня заставалася з паўгадзіны. Пацягнуў мяне Кісelькін у прыбудовачку – патаемнае наша месцейка. Усадзіў у княскае крэсла, на стале расставіў закусь, паналіваў няспешна ў келіхі віна – як чараваў над ім, як рытуал які язычніцкі здзяйсняў.

– Вып'ем, дружа! За што? За яшчэ адзін працоўны дзень, які мы пражылі. Мы тут як за амбразурай, а людзі, як Матросаў, кідаюцца на яе. За нашую працу нам павінны не толькі плаціць валютай, а яшчэ і ордэны даваць.

– Герояў Савецкага Саюза? – запытаўся з'едліва, адпіваючы пакрысе са шклянкі даўкае віно.

– Навошта? Я прысвойваў бы, напрыклад, ордэн мужных прыёмшчыкаў пляшак і слоікаў. У нас жа кожны дзень – подзвіг!

Дзынкнулі запознена келіхамі – высокімі, шклянымі, дзе толькі і расстараўся Зміцер? Закусвалі сыркамі і варанымі яйкамі, вэнджанай каўбасой і гуркамі.

– А я, прызнацца, думаў, што ты вальтануўся, далібог... Яны... яны паднялі вэрхал, вось-вось кулакі пусцяць, а ты ўсміхацца нечага пачаў. Як і не чуеш нічога. Мо ты і сапраўды нічога не чуў. Дак я... я хутчэй пачаў іх выганяць, наплёў, што ў цябе няшчасце, тое-сёе... Ну, сам разумееш...

– Разумею. Дзякую табе...

– Ды кінь ты, дробязі... Мне прыемна, што мы з табою паразумеліся. Да цябе быў, дак не прасыхаў – штохвілінна пад градусам. І мяне далучыў да гэтага.

– Між тым, ісціна ў віне, – прамовіў я, каўцянуў зноў трохі.

Сябрук не здагадваецца, што ад гэтага віна ап'янець я не змагу, але раблю выгляд, што "насёрбаўся", ледзьве варочаю языком, хітаю п'яна галавой...

– Раскажы пра сябе, – папрасіў нечакана Кісялёў, не дачакаўшыся, калі я сам пачну выварочваць яму душу. – А то ўжо амаль месяц мы трэмся з табою азадкамі адзін аб аднаго, пасябравалі нават, а пра цябе я – ну ні кропелькі не ведаю. Пра сябе ж я расказаў усё чысценька, нічога не ўтойваў. Ці не так?

– Так, Змітрачок, так. І дзякуй табе за тое.

– На здароўе, – хітае захмялелай галавой хлопец і ляпае мяне па плячы.

– Ды што табе расказваць – і сам не ведаю. Ляцеў у самалёце. Разбіўся. Пра тое, здаецца, марыла жонка. І таму, мусіць, не шкадуе. Раздзяліўся на дзве палавіны. Жыву цяпер у двух вымярэннях. Магу перакінуцца ў мінулае. Магу кінуцца ў будучае... Ды ці мала што я магу!

"Ёлупень! Што ты пляцеш? Ап'янеў? Ці з глузду з'ехаў?!"

Зміцер Кісялёў соладка спаў, прыхінуўшыся да сцяны русявай галавой. Вераніка пакутліва падымала слухаўку тэлефона, каб набраць нумар, але ёй

перашкаджаў, замінаў дзявочы гонар – і яна зноў клала яе на месца. Добра, што і не званіла – не дазванілася б... У акно нехта пастукаў. Раз, другі... Як ведаў, што мы знаходзімся ў памяшканні. Трохі счакаўшы, я падняўся і пайшоў у залу, дзе стаялі, прыстаўленыя адна да адной, пад самую столь, напоўненыя пляшкамі скрынкі – заўтра раніцай іх забяруць, а нам дадуць пустыя...

“Хто б то мог быць? І да каго – да мяне ці да Змітрака? Мо – ён? Адкуль уведаў, што мы тут?..”

Падышоў да акна – ціха. Хацеў павярнуць назад, але зноў пачуўся стук у шыбіну. З-за малінавага сонца цяжка было пазнаць госця, але па абрысах здагадаўся, хто прыйшоў. Так, то быў Яён.

– Выйдзі, – ці то папрасіў, ці загадаў мне кіўком галавы.

Трохі павагаўшыся, выйшаў у двор. Яён сядзеў ужо на лаўцы, што змайстраваў некалі Зміцер – да мяне яшчэ, зацягваўся цыгарэтным дымком. Быў ён у доўгім, як не да пят, расшпіленым светлым плашчы, у шэрым, як пасля першых прымаразкаў трава, касцюме. На нагах – светла-карычневыя чаравікі. Побач, на лаўцы, ляжаў пашарпаны “дыпламат” карычневага колеру з сакрэтным замочкам.

– Здароў быў!

– Добры дзень! Закурым?

– Не, не навучыўся...

– Ну, як хочаш... А я атрымліваю асалоду. Не ведаў раней, што дым – гэта прыемна. І супакойвае.

– Ад чаго? У цябе ж усё нармальна.

– Ды як сказаць. Як на тое паглядзець...

Маўчым.

– Як Яніна?

– Нічога, дзякую. З ёю ўсё добра.

– Дзякуй Богу. А сам?

–Таксама не бяды. Абвыкаюся.

– Чаму не шукаеш са мною сустрэчы?

– Не ведаю, ці тое патрэбна.

– І я таксама не ведаю, але ж, бач, зайшоў да цябе.

– Нас жа разлучыў самалёт. А злучэнне мо ад нас і не залежыць.

– А калі то не самалёт?

– Хто ж яшчэ?

– Не ведаю. Але тут нешта іншае.

– Чаму змяніўся абліччам? Каб не пазналі? Ці хаваешся ад каго?

– Так трэба.

– Мо ты і маеш рацыю...

Цыгарэты курыў Яён нейкія замежныя, не нашыя. І непадобныя былі на цыгарэты – як кукурузныя палачкі, што прадаюць для дзяцей. Дым прыемны – як быццам побач пачынала цвісці магнолія. Ува мне жыло няўцямнае шкадаванне па страчаным, абыякавасць да двайніка, супакоенасць і перакананасць, што так яно павінна і быць, а не інакш... Дзіўна, але я адчуваў сябе галоўным, старшым камандзірам у гэтай незвычайнай сітуацыі. Я як быццам загадваў, патрабаваў, а ён прасіў, амаль умольваў, як вінаваты быў мне. Я ж не ішоў насустрач, але і не ўцякаў. Яён глыбока ўздыхнуў, і позірк яго ці то сумны, ці то заклапочаны... Твар зямлісты, загарэлы, і толькі цяпер убачыў, што ў яго сівыя вусы і барада (я ж ніколі не насіў барады і вусоў!), шнар-пісяг праз увесь твар – ад левай скроні праз нос і шчаку (а то што за адмеціна?), рукі ў пальчатках з тонкай тканіны.

Я не ўключаў свой разведачны полюс-лакатар, не захацеў слухаць яго другі голас – і ленаваўся, і нецікава было. Мо так віно мяне размарыла, а мо стаміўся за дзень, хто ведае...

– Падабаецца тут працаваць? – парушае маўчанне Яён, тушыць цыгарэтку, шпурляе недакурак пстрычкай акурат у металічную скрынку са смеццем. Акуратны, хаця якую акуратнасць можна было праяўляць тут, сярод бруду.

– Падабаецца. Слухаю людзей, хачу спасцігнуць іх душы. Зразумець хачу, адкуль на зямлі шмат зла і бруду.

– Раней не разумеў?

– Не звяртаў проста ўвагі. Чуў толькі словы. А што было за словамі, не ведаў. Другое было схавана ад мяне. Кожны чалавек – гэта кніга. Адну чытаць цікава, а ад другой – нават брыдка... Так і з людзьмі.

– Табе то якая карысць, што адкрываеш таямніцы чалавечага існавання?

– Вялікая. Калі бачыш вытокі, прычыны, то лягчэй чалавека накіраваць на той шлях, які ўказваў Хрыстос. Ліцвінія павінна быць здаровай і магутнай дзяржавай. Так што не з-за карысці ўсё, з-за справядлівасці.

– Справядлівасці? Якой?

– Справядлівасці існавання Ліцвініі.

– Што ж, я рады за цябе. Так дзейнічай і далей.

– Чаму рады? Загадкамі гаворыш...

– А ты не загадкамі? Але я напраўду разумею. Таму што чытаю курс лекцый у Акадэміі навук – “Вышэйшая субстанцыя чалавека ў сямі вымярэннях” і “Найвышэйшае прызначэнне Чалавека”. Месяц ужо чытаю. Мы разам з табою пачалі працаваць. Так што задачы ў нас з табою аднолькавыя. Вось так, даражэнькі браток! Ты мне брат, так?

– Я не задумваўся над гэтым. Пэўна ж, брат, а то хто ж? Але імя я табе ўжо даў – Яён. Падабаецца?

– Нічога. Тады ты – гэта я. Значыць, Яты?

– Хай будзе так.

– На практычных занятках, восенню, трэба каб ты правёў практычныя заняткі па сувязі з касмічнай прасторай і ўменню чытаць думкі людзей на адлегласці... Ты паможаш мне?

За кароткі час мы з ім пераступілі мяжу недаверу. Нават зблізіліся, паразумеліся, як быццам пасля нейкай сваркі памірыліся маці з сынам ці брат з братам. Нас ніхто не змушаў да гэтага, атрымалася ўсё самахоць, прыдатна для абодвух. Адзінае непакоіла, як аднясецца да ўсяго Альшанская. Ніякай жа строгай забароны ці пільнай парады яна не выказвала. Ці маю я права адмаўляць ці перашкаджаць тварыць дабро? Святы апостал Іакаў казаў у саборным пасланні: “І так, хто разумее рабіць дабро і не робіць яго, таму грэх...”

– Памагу, браце, памагу. Як і ты мне потым паможаш.

– У чым, Яты?

– Прыйдзе час – скажу.

– Добра, будзем лічыць, што мы заключылі дамову на супрацоўніцтва.

Яён зноў закурыў. Пакідаць мяне не спяшаўся. Мы плылі па цячэнні нашай ракі, не ўзмахвалі вёсламі, і наш човен пакрысе зносіла ўніз. Нам было хораша і спакойна, хацелася прымружыць вейкі і ні пра што больш не думаць... Стома брала сваё.

– Эй, хлопцы, пра што вы там маўчыцё-гамоніце? – вывеў нас з задумення Змітрок, выйшаўшы на ганак. – Пайшлі віно піць – па пляшцы на нос яшчэ, аказваецца, засталося... А што ў цябе за госць, Антон?

– Брат мой – завітаў на агеньчык...

– Тым больш ёсць нагода выпіць. Пайшлі, га?..

– Не-не, – адразу адмовіўся Яён, як спалохаўся запрашэння, засабіраўся, “дыпламат” на калені паставіў, зірнуў на мяне. – Нельга мне – у мяне яшчэ сёння адказная праца. Так што дзякую, шаноўныя, і даруйце...

– Шкада. Што ж, праца – галоўнае. Тады – да сустрэчы?

– Да сустрэчы, брат. І вам усяго добрага, – кіўнуў, далікатна схіліўшы галаву ў развітальным паклоне, падняўся, выпраміўся і з выглядам дзелавога чалавека падаўся да металічных варотцаў.

Ступіўшы на прыступку, азірнуўся, прыўзняў над галавой капялюх, яшчэ раз кіўнуў, усміхнуўся і тады ўжо зусім пераступіў парог.

– А непадобны на цябе брат твой, – гаварыў Зміцер Кісялёў, наліваючы ў шклянкі чырвонае віно, – ані кропелькі непадобны. Чаму так, Антон? Ад розных бацькоў? Даруй зноў мне, не ў сваё лезу...

– Правільна пытаешся. Ад аднаго бацькі, спадар Дзмітрый, – ад Бога.

– А-а, мнагазначна пахітаў галавой сябрук, як быццам яму стала і сапраўды ўсё зразумела, хмыкнуў, узяўся за шклянку, – тады за вашую сустрэчу і вып’ем.

І сам першы, не чакаючы майго слова, нагбом выпіў поўную шклянку – пэўна, трываць ужо больш было няўсцерпкі.

За шыбамі ўжо ссутоньвалася. Асядала сонца за небакрай, атухалі пакрысе малінавыя водсветы. Вечар нацягваў на горад і дамы шэрае прасціradла ночы. На ім залатым шытвом вызначыліся Млечны Шлях і маладзічок – тоненькім сярпочкам, Вялікая і Малая Мядзведзіца ў карагодзе буйных і малапрыкметных зорак... Яны – зоркі і месячык – усё ведалі пра кожнага з нас, і не толькі ведалі, а і ўказвалі нам кожнаму свой шлях. Бо і ад Лукаша ў Святой Добрай Вестцы сказана: “Таму што няма нічога тайнага, што не зрабілася б яўным, ні патаемнага, што не зрабілася б вядомым і не выявілася б... І так назірайце, як вы слухаеце; таму, хто мае, таму дадзена будзе: а хто мае, у таго адбярэцца і тое, што ён думае мець...”

Застолле нашае працягвалася. Нам было хораша і весела. Хаця ж мы і бралі з сумкі бутэлькі, колькасць іх не памяншалася. Для мяне было проста застолле, а для Кісялёва – свята. Яму ж пазваніла Вераніка! Заўтра ён пазвоніць ёй – дзяўчына будзе чакаць ад яго званка.

Не ведаў Дзмітрый Кісялёў, што не віно ён піў, а лекі. Лекі, падрыхтаваныя мной і Янінай. Яго пасля гэтага ніколі больш не будзе цягнуць да віна...

– Гуляем, спадар Антон? – у вачах хлопца радасныя іскрынкі, у голасе – шчырасць і радасць.

– Гуляем! Гудзім да трэціх пеўняў! Зразумела, што сёння мы нікуды не пойдзем – будзем спаць тут, у нашай хаціне – ППШ.

У Змітрака прыхаваны ў шафе дзве раскладушкі.

Спаў я суткі, і двое, і трое...

Памарака нейкая найшла на мяне. Не бачыў і не чуў, як напарнік шчыраваў каля акенца, як насіў і складваў скрынкі з бутэлькамі ў грузавую машыну, прыносіў тару. Потым прымаў ад сварлівых і нервовых людзей слоікі і бутэлькі, а ўзамен аддаваў грошы...

“Няхай паспіць Антон, з непрывычкі ўрэзаў. Ды і я, здаецца, ніколі не піў столькі. Але хіба гэтулькі магла прынесці Яніна? Антон нахаваў у тайніку? Трэба абавязкова пазнаёміць з ім Вераніку. Хай адпачывае. За ўчарашні пачастунак я і за яго работу зраблю...”

Я зноў адключыўся ад усяго – ад Зямлі і Космасу, ад Змітрака і Яніны... Жаданне спакою і адзіноты сталіся мне даспадобы.

Прачнуўся сярод ночы, пад раніцу. Патухлі зоркі, калі растварыўся ў ранішнім мроіве і месячык. У нашым графстве быў поўны парадак. Усё складзена, упарадкавана. Нічога нідзе не валялася. Усюды падмецена, і нават вымыта падлога. Акураціст гэты Змітрок і дзівак! Дзе яшчэ і стрэнеш такога! Ён ляжаў побач на раскладушцы. Моцна спаў. У мяне не было ніякіх думак і жаданняў. Спаць ужо не хацелася. Чым толькі заняць сябе?

Дзе цяпер Змітрок? Мне захацелася праверыць яго Планету. Ён гуляў з Веранікай па вуліцах незнаёмага горада і расказваў пра сябе. Адначасова баяўся, што яна можа пакінуць яго... Дзяўчына смяялася і думала ласкава: "Дурань, які дурань мой Дзімка! Калі ён толькі навучыцца разумець дзявочую душу?"

За яго я быў спакойны. Збольшага перастала бунтаваць душа – Вераніка зрабіла крок насустрач, і адбыўся цуд. А цяпер ужо ўсё астатняе залежала толькі ад яго. Пасля Змітрака падключыў касмічную прастору. Выбраў найважнейшае, пацікавіўся, ці не шукае хто мяне ў Сусвеце – можа, каму я спатрэбіўся ў гэтыя хвіліны?Але Космас маўчаў. Правільней, не маўчаў, а жыў – крычаў і сварыўся, ласкава гаварыў і папярэджваў некага аб няшчасці, некаму помсціў, некага ратаваў... То мяне не тычыўся ніводзін сігнал. Тое радавала і крыху засмучала. На нейкую хвілю мне здалося, што я адзінотнік і нікому да мяне няма клопату...

І тут жа скрозь гул Галактыкі і пошум метэарытаў, праз вечныя песні чалавечых душаў уварваўся трывожны голас Яніны:

"Што з табою, любы? Што здарылася там, на Зямлі? Ты засумаваў без мяне і з крыўды адключыўся не толькі ад Зямлі, а і Сусвету? Чуеш цяпер мяне? Не рабі мне балюча, любы мой! Я ж была ў тваіх снах, але з табою чамусьці парушана сувязь".

"Я чую цябе, каханая, чую... Жывы я і здаровы. Спаў доўга, набіраўся сілы. Вылечыў Змітрака ад яго хваробаў і душэўнага болю. Цяпер чую цябе, і мне стала лепей, лягчэй".

"Гэта добра, Антон! Я забылася цябе папярэдзіць аб нараджэнні такога стану... Ты не крыўдуй, у нас тут невялічкія непаладкі, і таму абставіны вымушаюць затрымацца яшчэ на тыдзень... Абяцаю, што больш ніколі не будзе такіх доўгіх адлучак-разрываў. Я не разлічыла свае сілы, таму і здарылася такое... У мяне сэрца разарвецца ад болю, калі ты папракнеш ці падумаеш хаця б што лядайкае пра мяне".

"Янінка, не хвалюйся!.. У табе гаворыць спрадвечны інстынкт жанчыны – суперажываць за сітуацыю будучыні. Мы выстаім з табою, выпакутуем сваё заўтрашняе Удасканальванне і Разуменне самога сябе. То пра нас сведчанне ад Яна Святая Добрая Вестка: "Жанчына, якая нараджае, церпіць сму-

так, таму што прыйшоў яе час; але калі народзіць немаўля, то не памятае ўжо смутку ад радасці, таму што нарадзіўся Чалавек у Свет. Так і вы цяпер маеце сум; але я бачу вас зноўку, і ўзрадуецца сэрца вашае, і радасці вашай ніхто не адбярэ ў вас...”.

“Дзякую, каханы мой! Такія словы і ў такія хвіліны! Ты выратаваў мяне. Я нараджу нам сына, і назавём яго Ахутаван. Ён будзе мужны і дужы. Ён будзе чалавекам будучыні...”

“Добра. І я хачу таго ж!..”

“Раскажы, што цікавага адбылося? Ці ёсць што значнае?»

«Асаблівага нічога. Як і раіла, не ўмешваюся ў жыццё ліцвінаў. Дапамог, праўда, Змітраку і Вераніцы. Падказаў толькі зрабіць крок насустрач адно аднаму...”

“Што яшчэ? Мне цікава чуць...”

“Вывучаю людзей, іх псіхалогію. Яны не здагадваюцца, што ад іх я адбіраю пакрысе агіднае і злое, таму яны робяцца іншымі. Зразумеў, што трэба пэўны час, каб выцягнуць з іх душэўныя хваробы і болькі. Яён прыходзіў. Прасіў памагчы правесці практычныя заняткі ў Акадэміі...”

“Вы не можаце асобна існаваць. Так, як і ты без мяне. А я без цябе. Мы ўсе ўзаемазвязаны і злучаны ў адно цэлае. Як узаемазвязаны Зямля, Паветра і Вада...”

“Тады, выходзіць, я рабіў усё правільна і паводзіў сябе прыстойна. Не парушаў прынцыпаў суладнасці часу і касмічнай сістэмы. Чалавек настолькі наіўнае стварэнне і дурная істота, што нічога не каштуе зласліўцу перакнаць яго, што ён самае звычайнае быдла. Надзень яму яшчэ ярмо, і ён падзякуе, падумае, што так і трэба, што ярмо – яго воля і шчасце... Таму лячыць чалавецтва трэба даўно. Тое бачыў Бог і яго сын Ісус Хрыстос... Я стаў больш мудры і цярпімы да людскіх заганаў. Сёння я бачу глыбей, чым да гэтага, далей і дакладней. Дарэчы, ты далёка ад мяне цяпер?”

Нейкі час звінела маўчанне, і я падумаў, што між намі парушылася сувязь, але праз колькі доўгіх секундаў пачуўся яе чысты і ўпэўнены голас:

“Калі па часе, то далёка. Па адлегласці – не вельмі. А так, то ля Дзвіны, недалёчка ад ракі. Сафійка добра бачна, сонцам асветлена...”

“Пра які час ты гаварыла? І што там за крыкі ў цябе? Ты нешта не дагаворваеш, Яніна! У нейкім страшным ты часе, у якім?!”

Зноў маўчанне. Потым пачуўся ўздых. Некага папрасіла не замінаць ёй, вымаўленне было не сучаснае, як са мной гаварыла, а старажытнабеларускае. Праз колькі хвілінаў мне паведаміла кароткімі сказамі:

“Я – у Полацкім княстве. Спалены вёскі і паселішчы. Расейскі грозны цар Пятро Першы забраў беларусаў у рабства, у няволю. Нас вяроўчынамі павя-

залі і пагналі ў палон – у Масковію... Я ж – палачанка, нявольніца, прыгонная... І я разам з людскім натоўпам брыду босая па мёрзлай зямлі. Гінуць людзі – дзеці, жанчыны, дзяўчаты. Тут – пекла. Тут – жах і смерць...”

“Яніна-ааа! – крычу занепакоена ў прастору, малю Сусвет, каб не абарвалася нашая сувязь. – Янінка! Каханая! Мне можна да цябе? Я выратую і выбаўлю з таго жудаснага царскага палону...”

“Не, не і не! Ні ў якім разе! За мяне не турбуйся – усё будзе добра. Ты ж ведаеш, што я ў тваім часе жывая. Таму і не павінна са мною здарыцца кепскага. То з княствам кепска. Чорныя часы ў гэтым стагоддзі... Гісторыкам не пад сілу апісаць і перадаць тыя пакуты, што выпалі на долю Полаччыны. Адключыся ад мяне на некалькі дзён. Так трэба. Цалую, любы! Набірайся сілаў для будучых сваіх падарожжаў. Наперадзе ў цябе вельмі адказнае і цікавае жыццё. Бывай, каханы, чакай мяне! Хутка пабачымся!..”

“Цалую. Да сустрэчы!..”

Нічога сабе камандзіровачка – на вайну ў Полацкае княства! Ці не ў самы страшны і крывавы час занесла яе? Сама ж, пэўна, і выбрала. Для чаго тое ўсё? Хіба ж мы можам цяпер што-небудзь змяніць, памяняць ход гісторыі, пусціць у другое рэчышча? Ці можа якая больш важная задача стаіць перад ёю і перад тымі, хто паслаў яе туды? Пэўна ж, збірае тыя камяні-сведкі, што і лягуць у агульны падмурак княства Ліцвініі... Зноўку ўсё аціхла. Цяпер выразна было чуваць, як Змітрок пасвістваў носам, нешта мармытаў у сне.

Я прыняў рашэнне. Унутраны стан мой прачнуўся і прагнуў нейкіх дзеянняў. На месцы ўжо заставацца больш не мог.

“Мой харошы і шчыры сябар Змітрок-Кісялёк! – накрэмзаў я на паперы зварот да яго. – Не крыўдуй, але мне трэба адлучыцца па вельмі і вельмі вялікай патрэбе на дзянёк-другі... Згода? Пацярпі мяне ўжо такога. Я адраблю сваю радоўку, усе дні потым вярну табе працай. Буду ўкалваць дні і ночы...”

На вуліцу выйшаў нашым тайным калідорчыкам. Зачыніў на сакрэтны папіхач дзверы і падаўся ноччу на чыгуначны вакзал.

Было ціха і зорна ў небе.

На вакзале процьма народу – з клункамі, кашалямі, сумкамі, чамаданамі... Спалі “працоўныя масы” на сваім законным месцы – на падлозе, сярод пляўкоў і харкаў уперамежку з крывавымі высілкамі; падсцілалі якую газеціну ці світку, а то і зусім нічога – клаліся на халодны, вытаптаны мільёнамі падэшваў, бетон. Людзі ніколі не абураліся, радаваліся за месца. За доўгія гады быдлячага існавання прыцярпеліся, прызвычаіліся. Мне можна пайсці ў вакзальны гатэль. Але мне нельга было тое рабіць. У мяне ж, як

і ўва ўсіх астатніх, не было ўдосталь грошай. Ліцвін лепей прасядзіць ноч на падлозе, перадрэмле, перачакае, перацерпіць, чымся заплаціць грошы за выгоды і зручнасці. Заўсёдна думае: “Не, лепей я іх, свае грошыкі, на нешта іншае патрачу, карыснае і значнае, а адпачнём некалі пасля, на тым свеце адаспімся...” Такім ужо нарадзіўся ліцвін. Такім ужо зрабіла яго жыццё.. Прысеў упобачкі з бабуляй у старым паношаным паліто і ў хустцы-канаплянцы, слухаў сны і думкі, смяяўся разам з усімі, радаваўся, перажываў...

Не, тут быў не ППШ, тут іншы пласт і настрой. Той пласт людской дабрача-шчымлівай энергіі, калі выпадковыя людзі, перакінуўшыся словам-другім, адразу пачынаюць цяплець душой і гатовы падзяліцца сваімі нават самымі патаемнымі думкамі і меркаваннямі, планамі і марамі...

Дзіўнае стварэнне чалавек – непрадказальны! Адкрывай і адкрывай у ім прыгожае і добрае – і дарэшты ніколі не адкрыеш! Што ні чалавек, то новая загадка. Што ні жанчына, то клубок эмоцый і жаданняў... Чаго толькі не жадалася жанчыне! Пра тое яна нікому-нікому не раскажа, якая б ні была балаболка. Ёсць у яе забароненыя тэмы, вядомыя толькі аднаму Богу. Жанчыны марылі пра дужых і здаровых мужчын, пра бяссонныя ночы ў іх абдымках, пра салодкія словы, ад якіх млела душа і маладзела сэрца, абнаўлялася ў венах, як не закіпала, кроў. І ў той жа момант чуў, як іх добрыя памкненні раз’ядала рэўнасць. Кожнай здавалася, што яе не так кахаюць, не ўсё аддаюць, што ёй належыць...

Мне прыйшлося адключыцца ад іх хвалі, бо пачаў чырванець ад іх жаданняў і мрояў. Чуўся ўжо плёскат хваль Мора Спакою і пошум палескага бору... Падумалася: “Дык, пэўна ж, і Яніна думае гэтак жа – і яна ж Жанчына!..”

Вочы ў мяне заплюшчаны. Адчуваю, як да мяне падсеў хлопец. Яго зацікавіў мой партфель, што стаяў побач са мной. Рашыў паджартаваць над злодзеем. Захроп яшчэ мацней. Хлопец радасна хапіў партфель і спакойнай хадой пашыбаваў да выхаду. Не ўтрымаўся, на хаду раскрыў яго... Раскрыў, зазірнуў туды і нема закрычаў, выпусціўшы яго з рук, адкінуўшы нагой ад сябе...

– Гадзюкі! Там поўна гадзюк! – крычаў і бег ён далей ад гэтага страшнага месца.

Людзі глядзелі ў раскрыты партфель і нічога не бачылі – ён быў пусты.

Двое юнакоў заспрачаліся між сабою пра жыццё ў Ліцвініі. Пра мову гэтай дзяржавы заспрачаліся. Адзін гаварыў на ліцвінскай, другі – на мове суседняй дзяржавы, якая стала радней за родную.

– Ты ж у ярме чужынца! – даводзіў Лявон Казыра, здзіўляўся бязладнасці думак спадарожніка.

– Чушь несешь, в каком это еще ярме? – не разумеў настаўнік матэматыкі вясковай школы Сямён Казлоў.

– Даўно ліцвінам мроіліся Спакой і Воля, у іх уздымаўся нацыянальны Дух і прага Незалежнасці ад прыгнятальніка, ад ненавіснага пана. Адзіным панам, зноў жа, над усімі можа быць толькі Бог.

– Ну и что?

– Але сатана загадаў адрынуць людзей ад Госпада. А Бог казаў: “Да волі закліканы вы, браты, толькі б воля (вашая) не была прычынай улагоджвання плоці, але любоўю вы служыце адзін аднаму. Бо і ўвесь закон у слове заключаецца: “...Любі бліжняга твайго, як самога сябе”. Калі ж адзін аднаго згрызаеце і з’ядаеце, беражыцеся, каб вы не былі знішчаны адзін адным...”

– К чему клонишь? Я сам себя истребляю?

– Ты сам і адказаў сабе на сваё ж пытанне... Падумай у вольны час пра сваё жыццё. Што незразумела, знойдзеш у Бібліі...

Калі ж аб’явілі пасадку на цягнік – дызель, які кіраваўся на Мазыр, падаўся і я разам з людскім натоўпам на перон. А ў вагоне, дзе ўсе сядзелі, было гэтак жа суладна і добра. Чамусьці падумалася – а калі яны бутэлькі здаюць у прыёмных пунктах, таксама такія добрыя і лагодныя?

Мне добра пачувалася ў людскім віры, у чалавечай неўладкаванасці, маўклівай крыўдзе на ўвесь свет. Яны не пратэставалі ўжо, а пакорліва, як статак, неслі на худых плячах сваіх адвечную крыўду. То быў дзівосны асяродак, востраў, над якім пагрозліва стагнаў, напамінаў, хто галоўны над людзьмі, Сусвет. Як сустрэне мяне, незнаёмага чалавека, мая жонка? Ці адчуе мяне, ці не западозрыць чаго? І што, цікава, скажа пра мяне, былога мужа? Якія словы знойдзе – крыўдныя, злыя ці, наадварот, ухвальныя?

Сам не ведаў, чаго ехаў да яе. Ці ведае пра тое Яніна? Не, раўнаваць яна не будзе, тое выключана. Адно хіба непакоіла – ці не парушу гэтым запавет дазволенага, закон раўнавагі і суладнасці жыцця чалавека? Супакойваў хіба сябе – я ж не прызнавацца еду, а высветліць думкі і адносіны да самога сябе. Я ж не ведаў пра сябе анічагуські. Ды каму тое ўдавалася зрабіць? Хіба што душы нябожчыкаў калі-нікалі прыходзяць да родных, каб памагчы, аберагчы ад гора ці няшчасця, пачуўшы іх покліч...

Яшчэ – зразумець хачу: хто ж я ў гэтым Сусвеце? Ды і цікава пачуць пра сябе меркаванне некалі блізкага чалавека – жонкі. Каму, як не ёй, бачны ўсе мае недахопы ці добрыя бакі... А я ж ёй столькі прынёс пакут і няшчасцяў! І не даравання за ўсё прасіць еду, хаця, мажліва, тое і трэба было б зрабіць... Непакоіла яшчэ адно: ці не параню сваім прыездам яе душу, ці не апалю сэрца неасцярожна сказаным словам-напамінкам? Бо тады мне ўжо ніхто не даруе, тое сабе не дарую і сам...

Памажы, Божа, і мне, і ёй!..

Доўга блукаў я вакол нашага дома, у якім пражыў не адзін год. Стараўся ўтаймаваць хваляванне і неспакой, каб на вочы Людміле Герасімаўне паказацца чалавекам прыстойным і каб не выклікаць ніякага падазрэння. Мусіў прызнацца, што ніяк не мог прыдумаць паданне, каб не выклікаць у яе хаця б іскрынкі насцярожанасці, нават і намёку на яе.

Дом-"хрушчоўка" стаяў над саменькай Прыпяццю – паўз дарогу на Кімбараўку. Хоць вудачкі з балкона ў рэчку закідвай і цягай падлешчыкаў і шчупакоў... У акне – нашым акне – гарэла святло. Бачыў, хадзіла жанчына па кухні. Мо рыхтавала гарбату ці каву. Навучыліся мы гатаваць адмыслова – ляснік паляшуцкі, дзядзька Язэп, навучыў, калі ездзілі да яго ў госці. А запарваў ён кіпень на сваіх зёлках – лясных і лугавых...

Не ўключаў дадатковага поля, нікога не слухаў, не хацеў сапсаваць задуманага. Зрабіў крок насустрач нашаму нечаканаму спатканню і тут жа падумаў: а мо дарэмна ўсё тое, нікому ж яно не патрэбнае? Мо лепей забурыцца ў човен, што гайдаецца прывязаны да бетоннай сцяны на беразе, ды дачакацца раніцы? А раніцай што? Што пераменіцца?

Я ўсё больш і больш вярэдзіў сваю душу, не могучы спыніцца на нечым пэўным... Убачыў, як клыпае пакрысе дзед Віталь з сеткай у руцэ – жыве ў аднапакаёўцы на першым паверсе. Настаўнічаў усё жыццё. На старасці перабраўся ў горад. Як ветэран атрымаў жытло і дажываў тут свой век.

А вунь дзяўчаткі з другога пад'езда – Зінка і Таццяна – чакаюць, калі прыйдуць да іх хлапчукі з гітарамі. А як падраслі, не кулачкі грудзей, а як наліўныя яблыкі з-пад сукенкі выпіраюць. Жыццё працягвалася, рухалася па сваёй арбіце, і ніхто не мог яго парушыць.Толькі я выпаў з таго часу. Для мяне ён спыніўся, ператварыўся ў нешта іншае, не падобнае на ранейшае жыццё. І я чамусьці не шкадаваў пра тое...

– Дзядзечка, а вы каго чакаеце? – крануў мяне за рукаў хлапчук, задраў галаву ўверх, шукаў мой позірк – яму хацелася памагчы незнаёмцу, ды не ведаў як.

– Не, Пятрусь, я гуляю, – адказаў ціха і не адрываў позірку ад акна на чацвёртым паверсе – жанчына перастала хадзіць: мо сядзіць цяпер на кухні і ўдыхае водар гарбаты.

– А адкуль вы ведаеце, як мяне завуць? – здзіўляецца хлапчук – жыве ў трэцім пад'ездзе, сын майго сябра Багданава, з якім разам працавалі на заводзе. Ён і цяпер працуе – галоўным ужо інжынерам. А перад тым здарэннем са мной быў маім намеснікам...

– Я і бацьку твайго ведаю, Валодзю.

– Вы з ім працуеце?

– Працаваў. Цяпер на іншай рабоце.

– І ў нас у хаце былі?

– А як жа. Толькі даўно. Ну, бяжы, Пятрусь, дадому. Бо маці хвалюецца, цябе ўжо даўно з балкона выглядае. Бацьку прывітанне перадавай.

– А ад каго?

– Ад яго былога начальніка.

Ён прайшоў колькі крокаў і азірнуўся.

– А я вас раней бачыў. І не раз. Праўда.

Толькі як адышоў Пятрусь ад мяне, пачуў, як ад яго зыходзілі біятокі чалавека новай фармацыі. Пятрусь, як і Змітрок, валодаў чароўным дарам правідцы і прадказальніка. У дзяцей тое праяўляецца чамусьці мацней...

Мяне праняў холад. "Засакаталі" зубы. Што тое азначала? Страх? Хваляванне? Не думаў, што так цяжка будзе сустракацца са сваім мінулым. І з жонкаю, якая не кахала і якая цяпер не прызнае і не пазнае мяне...

"Ну, смялей, рабі крок наперад – ты ж так імкнуўся прыехаць сюды, ну!.." – падштурхоўваў самога сябе, здзіўляўся нечаканай нерашучасці, якой у мяне і быць не магло.

Але мяне ўсё ж нешта яшчэ ўтрымлівала, нейкая патаемная сіла прывязала да месца – як хто трымаў за крысо. І ўсё ж я не хацеў быць іншым. Не хацеў уключаць усе свае дапаможныя сродкі. Тады і не будзе жаданага эфекту, натуральнасці, дзеля чаго і наважыўся з'явіцца.

І – рашыўся. "Ат, будзе як будзе! – падахвоціў сябе жартоўна. – Ну, тарэадор, смялей у бой! Карыда чакае цябе!.."

Знаёмая чорненькая кнопачка на вушаку дзвярэй. Заўсёды, калі быў у добрым настроі, націскаў на яе і даваў сігнал марзянкі: "Дай-дай-закурыць", што азначала два працяжнікі і тры кропкі. То нас некалі ў войску Алесь Вінчук вучыў так азбуцы Морзе. Каб мы, маладыя байцы, лепей запаміналі, ён прыдумваў розныя спалучэнні слоў.

Ледзьве так і не зрабіў, але адумаўся. Націснуў адзін раз – кароценька і нясмела. Прайшло мо з паўхвіліны, а дзверы ніхто і не збіраўся адчыняць. Хацеў паўтарыць сігнал – доўгі і патрабавальны, але перада мною адчыніліся дзверы. Людміла здзіўлена прыжмурылася, гледзячы на мяне (а я так баяўся і адначасова жадаў, каб яна пазнала мяне, кінулася на грудзі, гаварыла нейкія банальныя словы, прасіла за нешта выбачэння...), чакала, што скажа начны госць. У яе вачах не было ні суму, ні скрушнасці. Мо хіба трошкі стомлена выглядала. Але абыякавасці, здаецца, не прыкмеціў.

– Добры вам вечар, – апамятаўся я. –- Даруйце, што позна. З Растова я. Прозвішча маё – Рашын.

– Вечар добры. Вы да каго?

– Да Антона Клімовіча.

Яна ўздыхнула, памуляла ненафарбаванымі вуснамі, сцепанула недаўменна плечуком:

– Заходзьце, калі так.

Знаёмы калідор, дзе нічога пасля мяне не змянілася – гаспадыня, мусіць, не хацела нічога мяняць. Мне было прапанавана распрануцца, павесіць на ласіныя рогі плашч. Рогі нам падараваў ляснік Язэп.

“Што за візіцёр з’явіўся? На злодзея не падобны. Толькі чаго ў мяне ёкнула сэрца, калі зазірнула яму ў вочы? Чаму пацяло ўсю – з ног да галавы? Напомніў нешта?..”

– Праходзьце, сядайце. Вы з дарогі? Я зраблю гарбаты. Ці мо лепей кавы?

– Глыток гарбаты, калі можна.

Ведаў, што ў бляшанай каробачцы, што некалі прывезлі мы з поўдня, заўсёды былі зборы зёлак. Ці нарыхтоўвала іх без мяне Людміла?

Сапраўды, праз колькі хвілін па хаце паплыў фантастычны водар карпацкіх і палескіх лугоў. Я ў прадчуванні асалоды прыжмурыў вочы.

– Вось і гарбата. З дзевяці траў. Хочаце, цукар насыпайце.

– Дзякую. Лічу, што гарбата сама па сабе як цукар.

“Так і Антон гаварыў некалі... Але што гэта ён салаўём заліваецца? Што яму трэба ад Антона? Мо ў якіх чорных справах быў замешаны?.. А як яму сказаць, што Антона няма ў жывых? Пазней сказаць ці цяпер, адразу?..”

– Дык слухаю вас, госць Рашын...

– Рашын Віктар.

– Слухаю, Віктар. А я – Людміла.

– Спытаеце, чаго прыехаў? Ды служылі мы разам з Антонам у войску. У Нямеччыне. Была такая група савецкіх войскаў. Як і ў Польшчы, Венгрыі... Перапісваліся пасля дэмабілізацыі. Да мяне прыязджаў адзін раз, як не быў жанаты. Мо і расказваў пра мяне. Працую я ў абласной газеце на чыгунцы. Неяк з жонкаю пасварыўся. Знайшла яна сабе больш прыстойнага і багатага – пісьменніка, з пасадай і прывілеямі. Ну, падала, само сабой, на развод...

“Усе вы, дружкі, аднолькавыя... Паслухаеш вас, дык толькі жонкі адныя ва ўсіх і вінаваты, што ў вас жыццё не складваецца. Дык хто ж вам у тым вінаваты? І Антон, пэўна ж, яму плакаўся ў пісьмах, што са мною жыцця няма. А ці ведаў ён толькі пра дырэктара завода Ягорава, з якім мне ночкі былі мілей за ўсё на свеце? Мусіць жа, не, бо быў заўсёды ўнураны ў працу, у сябе, для яго не існавала нічога вакол... Мо ад таго і не атрымаўся дзіцёнак пры такім каханні, хто ведае. З Ягоравым быў бы

абавязкова. Дык жа пазбавілася, дурная, а цяпер во і шкадую, не была б цяпер адна...”

“Калі ж гэта ты пазбавілася дзіцёнка? Чаму не прыкмеціў? А можа, тады, як сказала, што ныркі застудзіла і легла на тыдзень у бальніцу? Напэўна, бо мяне паслалі ў камандзіроўку ў Менск...”

– Сумная гісторыя, – канстатуе Людміла і далівае мне гарбаты з фарфоравага пузатага чайніка, які я прывёз з таго ж Менска.

– Не такая і сумная, бо ў жыцці ўсё мае свой пачатак і свой канец. Ад Мацвея ў Святым Добрым слове сказана: “Усякаму, хто дае, даецца і прыўмножыцца, а ў таго, што не дае, адымецца і тое, што мае...”

– Вы – веруючы? – жанчына пільна прыгледзелася да мяне, глядзіць так пранікліва, што мне здаецца, вось-вось раскрые падман, маю тайну і тут жа жахнецца, самлее.

– Жыву згодна Божых законаў. І толькі Богу веру ў гэтым жыцці.

– І нікому больш?

– Яшчэ – свайму сумленню. Але гэта амаль тое ж самае.

– Перапрашаю за пытанне, сама не ведаю, чаму спытала.

“Такі ты веруючы, як я апостал Павел. Навучыўся людзям мазгі пудрыць і мне прыйшоў іх прачышчаць. Мо які баптыст. Але ўсё роўна цікава, і цікава яшчэ, што з нашай размовы атрымаецца... Так што давай, залівай, вешай локшыны на вушы, як некалі вешаў Мішка Гарбачоў...”

– Дык вось, калі мне было цяжка, я папрасіў яго прыслаць мне грошай – колькі тысяч. Прасіў, каб пазычыў, дастаў хоць з-пад зямлі, бо мне былі б капцы. І ён мне выслаў іх. Дзесяць тысячаў.

– Дзесяць тысяч? – у яе ад маіх слоў заняло дыханне, заружовіліся шчокі, ледзь прыкметна тарганулася правая шчака – прыкмета асаблівай узрушанасці. – Не можа таго быць. У нас ніколі такіх грошай не вадзілася. Тут нешта не так...

“Няўжо мяне падманваў Антон? Чаму я не ведала пра тыя грошы, што ён пасылаў? Во які хітрун, нездарма ж я ніколі не давярала яму ні ў чым... Які вужака! Мог запаўзці ў любую шчыліну і дзірку. Цікава, вельмі цікава... Ну і што з таго, калі пазычаў? На блядзей, значыць, і пазычаў, каб развеяць душу...”

– Даруйце, усё так. Дзесяць. Як лёду. Але тое ж было колькі гадоў таму. Сёння такая сума – пыл. Каб гэтыя грошы былі на ашчаднай кніжцы, то вы пацярпелі б крах. Дзяржава не вярнула б іх вам. Сёння інфляцыя, рэзрух, сёння, як казаў адзін дэпутат парламента, “я – нішчы...”. Так што тыя дзесяць тысячаў трэба памножыць не на сто, а на тысячу. Плюс-мінус дэнамінацыя... Так што я павінен аддаць Антону дзесяць мільёнаў. Расейскімі,

а не “зайчыкамі”. Смешна, але і расейскія драўляныя часова сталі накшталт валюты...

Раскрыў “дыпламат”, дастаў дзесяць пачак з аднолькавых купюр, паклаў на стол.

У Людмілы, чуў, адняло дыханне. Не можа вымавіць і слова.

“Божа, што ж гэта такое? А калі я скажу, што Антона няма, што я развялася з ім, а пасля ён загінуў у авіякатастрофе? Як ён тады распарадзіцца грашыма? Забярэ назад? “Зайчыкамі”. Гэта ж... утрая больш. Жах! Адкуль у Антона такія грошы былі?»

– Толькі мне неабходна аддаць непасрэдна Антону, – прамовіў спакойна і хлебтануў з кубка ўжо не гарачую гарбату. – Дарэчы, а дзе ж ён? На працы затрымаўся?

– Антону... Антону... – Людміла моршчыць лоб, паправіла на грудзях бэзавую кофту і кулон, што я падараваў на дваццаціпяцігоддзе, адкінула рукой за спіну косы.

На вачах у Людмілы слёзы. І толькі цяпер я заўважыў, што на стале, побач з тэлевізарам, стаіць маё фота ў чорнай рамцы. Памятае пра мяне?

– Віктар, у мяне вялікае гора. Антона няма... Ляцеў самалётам з Кіева і... Адзін пашпарт і застаўся ад яго – знайшлі ў абломках. Пад Нароўляй разбіўся. Магілу паставіла ўмоўную. Як і ўсе людзі, у якіх разбіліся родзічы і блізкія.

Я падышоў да яе ззаду, паклаў рукі на плечы.

– І мне ніхто не паведаміў... Я прыляцеў бы. Сніўся нейкі дурны сон пра яго, ды не надаў значэння. А яно вунь што, аказваецца, азначае... Гора, якое гора ў вас, Людміла! Прыміце мае спачуванні...

Яна ўздрыгвала – шчыра плакала ці толькі перад госцем?

“А дзе ён сёння спаць будзе? Няўжо папросіцца на ноч? Не хапала мне яшчэ незнаёмага госця... А грошы як – пакіне? Ці забярэ назад? Ды пра што я, дурніца, якое гэта мае значэнне?”

Хударлявыя знаёмыя плечы, косы, якія кожны раз абразала Людміла – ніколі не любіла доўгіх. Як толькі датыкаліся да плячэй, адразу бегла ў цырульню. Усё тое навявала нейкія далёкія, як у дзіцячым сне, успаміны, але якія ўжо не выклікалі ў мяне ні шкадавання, ні жалю, ні горычы...

– Ніколі не ведала, што так цяжка будзе адной...

– Я разумею вас. Я вельмі вас разумею.

“Хрэна лысага ты разумееш... Такі ж змей, як і Антон. Сэрцам адчуваю. Чаму я адразу неўзлюбіла цябе, не ведаю...”

У калідорчыку зазваніў меладычна тэлефон.

– Даруйце, – паднялася Людміла і пайшла ў калідорчык: – Ало, слухаю...

“Добры дзень, Людачка! Ці можна праз паўгадзінкі заскочыць да цябе? Які ў цябе, дарэчы, настрой? На якой ты цяпер хвалі – хвалі жадання ці смагі?”

– Ведаеце, сёння не трэба, Рэгіна Пятроўна! Да мяне прыехаў Антонаў сябра з Растова – мы з ім тут гаворым... Мо заўтра тады прынясіце, я буду дома...

“Сапраўды, Людка, не падманваеш?”

– Ну, во і дамовіліся. Усё будзе добра, не хвалюйцеся. Да заўтра...

Яна прыйшла і села ў крэсла, адпіла гарбаты, здзівілася, што яна астыла, ахвотна прапанавала:

– Я нагатую свежай – ахалодала...

– Дзякую.

“Хаця б не здагадаўся, што мне *ён* пазваніў... Мо і пачуў, калі слых добры – голас у слухаўцы зычны. Ну і хрэн з ім, калі і здагадаўся. Што з таго? Справаздачу перад ім трымаць? Хіба не маю права на асабістае жыццё? Сумленне ў мяне чыстае...”

Эх, Людка, Людка, ніхто цябе ўжо не пераробіць, не перайначыць... Як жыў у табе недавер да ўсіх і зло на ўсіх, так і жыве, з гэтым ты і памрэш... І як цябе твой дырэктар кахае – за што толькі, хацеў бы я ведаць? Ты ж – як той лёд, як айсберг у акіяне... Падманваеш усіх і сябе ў першую чаргу, кожны дзень жывеш з хлуснёю. Я ж памятаю, як ты на дарогу мне істэрыку закаціла: “Каб ты дадому не вярнуўся, каб ты ў самалёце тым разбіўся! Як ты мне абрыд за жыццё!..”

Мілка-Людка маўчала. Чамусьці не пасылала ніякіх сігналаў – як усё роўна ўмела адключацца ад майго поля. Што мяне ў нейкай меры і здзіўляла.

– Можа, вас пакарміць з дарогі? – стала яна на парозе кухні, паглядала на мяне, як адчувала нейкую віну. – А то гарбатай голад не прагоніце...

– Не, не, дзякую, не хачу, – паспяшаўся адмовіцца і не глядзеў на яе, задумліва ўперыўся ў паліраваную паверхню журнальнага століка.

– Тады мы зробім інакш, – прыняла рашэнне мая былая жонка. – Ёсць праваслаўны звычай – памянуць нябожчыка... А вы чалавек веруючы, нават не веруючы, а той, хто жыве неаддзельна ад Бога і Божага вучэння, таму вы не павінны адмовіцца...

Мне нічога не заставалася рабіць, як згадзіцца. Мілка злавіла мяне на маім жа полі. О, тое яна ўмела добра рабіць! Загаворыць, прытушыць пільнасць, а потым нечакана пытаннечка ў лоб...

“Што яна яшчэ падумае пра мяне?”

“Трэба хоць чарку наліць, а то падумае, што я злая ведзьма... Не ведаю, як і паводзіць сябе з ім, нейкі незразумелы тып. Каб не прынёс грошы, то

падумала б, што абрабаваць мяне збіраецца... Здаецца, што ён бачыць мяне наскрозь і думкі мае нават чытае...”

“Адкуль гэта ў яе? Няўжо я праколваюся на дробязях?..”

– Людміла, я не сказаў у пачатку, што ў мяне вельмі мала часу. Я ж праездам – праз Калінкавічы, зрабіў супынак. Закампасціраваў квіток на менскі цягнік. Так што ў мяне ў запасе, – зірнуў на гадзіннік – хвілін сорак-пяцьдзеясят. Я думаю, што не багата адыму ў вас часу...

– Не, што вы... А то маглі б і застацца, – высіліла з сябе гаспадыня ветлівасць, – пераначаваць жа ёсць дзе – два пакоі.

– Мяне там сябры чакаюць. Будуць хвалявацца, дзе падзеўся, што са мною. Заўтра ж у вашай сталіцы міжнародная нарада па правах чалавека. Я яе ўдзельнік.

– Ну то глядзіце самі, як вам лепей.

“Во які паварот нечаканы. А я і не ведала, што рабіць. Добры, вельмі добры паварот... І выгнаць не выганіш, і пакінуць – не выпадае... А так усё і вырашылася адразу. Ды ці наўрад у яго цягнік, мо ў гатэль пацягнецца, а так далікатным чалавекам прыкідваецца... Але чаму яго не ўзрушыла смерць Антона? Сябрам жа быў, сам хваліўся... Пэўна ж, мужчыны так не перажываюць, як мы, жанчыны, ім тое не дадзена...”

Мілка разліла каньяк па крышталёвых чарачках. Ведама ж, павесялела, хаця выгляду не паказвала, паводзіла сябе як удава, якая не можа забыцца пра мужа.

– Хай пухам яму зямля, – кажу ціха і першы выпіваю да дна.

– Хай пухам, – паўтарыла гаспадыня, адпіла палову, прыкусіла скрылікам лімона.

Маўчым. Я неўпрыкмет назіраю за рухамі і позіркам Людмілы, адзначаю, што яна прыкметна супакоілася, калі ўсё стала на свае месцы, і больш не пасылае сігналаў. Улагоджана веданнем сітуацыі.

– Людміла, раскажыце мне пра Антона, – дакрануўся да халоднай, як быццам чужой рукі – з чорнай кропачкай каля костачкі, і адчуў, як яна ўздрыгнула, напруцілася (спалохалася, ці што?), – ведаў я яго добра толькі як салдата, у адным узводзе былі. Сувязістамі служылі. У пісьмах ён не расказваў мне пра свае няўдачы, ніколі не расказваў і пра сям’ю. Не ведаю, чаму. Ды і перапісваліся мы рэдка – гады ў рады, як кажуць у нас на Палессі...

– Вы з Беларусі?

– А хіба вы не адчулі па маёй размове?

– Адчула, але ж... здзівілася толькі – прыехаў з Расеі, а гамонка паляшуцкая, амаль такая, як была ў Антона.

– Што ён за чалавек быў – таленавіты ці не вельмі, няўдачнік ці ўсё яму ўдавалася? Даўно збіраўся прыехаць да вас у госці, бо запрашаў ён мяне на касцёр каля Прыпяці, каб юшкі наварыць, прагаварыць усю ноч... Мара ў яго была такая – пасядзець са мною і пасёрбаць юшкі з убарцкіх уюноў... А вось я і прыехаў. Позна, выходзіць, прыехаў.

“А пра якога табе расказаць, міл чалавек? Пра таго, што да слёз даводзіў сваёй цярпімасцю? Хоць бы раз узбунтаваўся, насварыўся, накрычаў... З - усім згаджаўся, усё яму было добра. Яго абражаюць, зневажаюць, а ён адно ўсміхаецца, на ўсё рукой махае...”

– Ды што расказваць... Чалавек як чалавек... І складаны, і просты, і добры, і жорсткі. Мо я яго не разумела як след. Як і ён, дарэчы, мяне...

Усміхнулася, схіліла галаву.

“Слёзы шчырасці?”

– Любіў, мусіць, выпіць?

– Не так каб і любіў, але здаралася, што і пад раніцу прыходзіў дадому...

“Люд, як жа табе не сорамна, – пытаўся моўчкі ў яе, здзіўлены і такім адкрыццём. – Калі ж, золатка маё, тое было хоць разочак?”

– ... а то і зусім не прыходзіў начаваць. Мо дзе ў другой жыў, не ведаю.

– Дык жа ў Бібліі сказана – у пасланні апостала Паўла да каласянаў: “Апраніцеся, як абраннікі боскія, святыя і закаханыя, у міласэрнасць, дабрачыннасць, мудрасць, цнатлівасць, доўгацярпенне ў паблажлівасці адно да другога і даруючы ўзаемна, калі хто на каго мае крыўду: як Хрыстос дараваў вам, так і вы... Але больш за ўсё скіруйце свае сілы ў любоў, якая ёсць сукупнасць удасканалення – і хай уладарыць у сэрцах вашых свет Божы, да якога вы і закліканы ў адным целе, і будзьце дружалюбны...”

Люда глядзела мне ў вочы, а я пастараўся не адвесці позірку, вытрымаць, дачытаць Святое слова да канца. Маўчала, не дасылала свае думкі ні голасам, ні позіркам.

– Вы гаворыце не як журналіст, а як святар, – ці то пасміхалася, ці то хваліла гаспадыня, і я не чую пацвярджэння ні першаму, ні другому – здаволілася?

– Калі б не быў журналістам, то стаў бы абавязкова святаром. Таму і пішу кнігу пра Хрыста, пра яго любоў да людзей. Хачу яшчэ расказаць, як жывецца Богу ў нашым княстве – Ліцвініі.

– А ён хіба жыве ў нас? Вы дакладна ведаеце?

– Перакананы. У кожнай хаце жыве. У кожнай душы ліцвіна. Бо і сам я ліцвін. Лёс проста закінуў туды. Вярнуся сюды праз год.

– І як пішацца?

– Цяжкавата. Як быццам нехта перашкаджае. Не дае гаварыць праўду. Загадвае, каб счакаў трохі, бо не прыйшоў яшчэ мой час. Таму і пакутую.

– А вы як лічыце?

– Толькі Яму і вядома.

Мілка мне зноў наліла поўную. Тут яна на Змітрака падобная, думае, што ап’янею, то і болей скажу. Але ж і сабе напоўніла з коптурам.

– Развялася з ім, калі ўжо гаварыць шчыра і калі ўжо перад журналістам-святаром паспавядацца, – кісла ўсміхнулася, прызналася ўсё ж – і адвяла позірк.

– Перасталі кахаць?

– Ды не, тут нешта іншае. Не растлумачыш нават, што і да чаго, хто найбольш вінаваты... Слоў для таго, каб расказаць, мне, мусіць, і не знайсці...

“Божа, ну хто мяне прымушае расказваць пра тое, што нельга, што было толькі між намі?.. Хто накіроўвае мае думкі? Я ж ніколі на такое не была здатная. Для чаго хачу адкрыцца, паспавядацца? Вымаліць у яго дараванне? Але за што? Ці ёсць у мяне хаця б маленькая віна? А што такое – віна?!”

– Мы жылі з ім бы на двух мастах. Калі праз рэчку ўзведзены два масты – адзін ля аднаго за некалькі метраў. Ні даскочыць адно да аднаго, ні даляцець... Ён ходзіць па сваім, не бачачы мяне – вочы як завязаныя, а я па сваім, не бачачы яго... Ды і глухія яшчэ ў дадатак абое. Хто болей, хто меней – невядома...

“Божа-аачка, навошта язык распускаю? Для чаго? Ён жа можа і ўзненавідзець мяне!..”

– А ноччу, калі былі пад адной коўдрай... мною апаноўвала абыякавасць, апатыя... Я нічога не адчувала. Не запальвалася ўва мне ніводная іскрынка жадання, ніводная свечачка не загаралася... Грэх вялікі, Божа, што я кажу, але гэта так... Хіба я вінаватая ў тым, Божа?

– Значыць, былі ночы саладзей за тыя, што былі ў вас з Антонам. Выбачце, і я крануўся недазволенага і патаемнага... Даруйце, дзеля Хрыста!..

“Госпадзі, ён распранае маю душу. Дамагаецца адкрытасці і шчырасці. Для чаго? Навошта тое яму? Каб выратаваць мяне спадзяваннем-спавяданнем? Тады ж чаму ў мяне няма на яго ні зла, ні крыўды?! Няўжо ён валодае патаемнай сілай, якая можа змяніць Чалавека?..”

На пытанне не адказала, быццам маўчаннем сваім сцвярджала правільнасць маіх здагадак. Ды што здагадак – маіх перакананняў.

– Ведаю, ён будзе і на тым свеце крыўдаваць на мяне, – уздыхнула скрушна, сашчапіла на каленях пальцы рук, – але што паробіш... Назад ужо нічагуські не вернеш, як таго ні жадала б...

“Ну, дзякуй табе, Людміла, хоць за гэтае прызнанне, – ці не першы раз мяне кранулі яе шчырыя словы, – то ты ж сама сябе падахвоціла каньяком да

шчырасці, то не я, і не прымаў у тым ніякага ўдзелу... Хаця трошкі падлячыць цябе трэба. Лягчэй жыць будзе далей...”

– Напэўна, мы не змаглі абое распаліць той касцёр кахання... Дровы, мусіць, нам папаліся сырыя і асінавыя. А тут смалячок напачатку павінен быў. А пасля ўжо дубовыя ды бярозавыя паленцы... Мы ж не здагадаліся прасушыць іх на сонцы, правеяць скразнячком, каб касцёр потым быў дык касцёр, каб полымя з яго – дык полымя! Не інквізітарскае, а полымя Кахання. Полымя Узнёсласці, Шчасця і Вечнасці. Грэшныя мы перад Богам, грэшныя. Мо з-за таго, што не вянчаліся ў царкве, – я ж была камсамолка, а ён пад партыяй. Хіба ж без партбілета яму маглі даверыць пасаду галоўнага інжынера? Адабралі ў нас Бога, адабралі і спаганілі душы, падсунулі замест Бога нешта агіднае і ліпкае, пачварнае і крыважэрнае...

– Пасаду не даверылі б, з тым было вельмі строга – наменклатура, адным словам, – уставіў я тры грошыкі і тут жа думкава абсек сябе: “Ёлупень! Што ты нясеш?! Вар’ят! Замоўкні зараз жа!..”

– Я казала яму, – пераключылася Мілка, таго сама не заўважыўшы, – давай павянчаемся... Тады Бог нас уратуе ад няшчасцяў. А яны ў нас здараліся на кожным кроку. Бо ўсюды быў падман, хлусня, няпраўда... Чыталі пастановы партыі, прымушалі іх вывучаць, а ніхто не верыў у іх праўду, усе смяяліся ў душы, а перайначыць ніхто не змог... Дзякуй Гарбачову, што ўзарваў той гнілы нарыў на целе грамадства.

– Не згадзіўся Антон?

Былая жонка адмоўна пахітала галавой. Тут яна ўжо не хлусіла, казала чыстую праўду. Як быццам баялася, што можа саграшыць перад нашай памяццю...

“Святы Божа! Я прыехаў, каб пераканацца ў вінаватасці жонкі, а пераканаўся, што сам у сто разоў больш вінаваты, чым яна... Эгаіст, калун, пень, кавалак ільду... Ды такога і слоўніка няма, каб адшукаць там словы, якімі можна было б абазваць цябе. Не выдалі яшчэ такі...”

Нешта зласліва піснула злева – за сценкай. Жаночы голас некаму даводзіў: “Зноў Людка свайго хахаля прывяла. Каньякі імпартныя п’юць. Во для чаго ёй патрэбен быў развод! З-за яе, мусіць, і пайшоў Антон на той свет – а залаты ж чалавек быў, заўсёды вітаўся каля пад’езда. Грошы пазычаў, калі нявыкрутка была...”

“А, гэта ты, Якаўлеўна? Пра ўсіх ўсё ведаеш, усяму ацэнку сваю дасі, – пеканула мяне крыўда – я ўжо, здаецца, пачынаў абараняць сваю жонку, у крыўду не даваў – усяму ж ёсць мяжа. – У следчых органах табе працаваць бы... Ды Бог з табой... Я і не ведаў, што ў цябе такая душа, а на людзях прытваралася дабрадзейкай...”

– Ну, што, Людміла Герасімаўна, загаварыліся мы з вамі. Пара мне. Прабачце за візіт, даруйце, што прымусіў вас зноў успомніць пра гора... Мой лёс амаль падобны на ваш. Так што я разумею вас і спачуваю.

– Прайшлі ўжо тыя хвіліны, пра якія вы казалі?

– На жаль, праляцелі.

– Віктар, я ўсё разумею, але з грашыма не ведаю... Бралі ж у Антона, не ў мяне. А аддаяце мне.

– Ён жа і вашыя грошы аддаваў. А вы маглі тады купіць сабе нешта неабходнае, а не купілі, пазычылі мне. Гэтыя грошы выратавалі мяне ад бяды. Яшчэ раз дзякую.

– А вы што – мільянер?

– Амаль што... Кнігу аднаму генералу напісаў. Слабую, праўда, кнігу. А ў яго грошай – не ведае, куды і дзяваць... А такіх генералаў ды палкоўнікаў, якія хочуць пакінуць сваё прозвішча і след у ваеннай гісторыі, сотні. Ім усім карціць расказаць новаму пакаленню, як яны здабывалі перамогу, як мудра камандавалі на цяжкіх участках вайны... Я ім аддаваў рукапісы праз паўгода. А потым яны ўжо прабівалі іх у выдавецтвах. Мне ж плацілі свой ганарар. Павышаны. Халтурай гэтай я заняўся і не так даўно, калі прыйшла пара аддаваць Антону доўг. А потым і ў азарт увайшоў, цікава нават стала пісаць такія мемуары. Так што грошы я зарабіў сумленна, сваімі мазгамі.

– А вы злы, аказваецца, чалавек, калі здзекуецеся з людзей.

– Не здзекуюся, а пасміхаюся. У салдата, які вынес тую вайну, не было часу і здароўя сядзець над мемуарамі.

– Але ж мне ўсё роўна няёмка... Зразумейце правільна.

– Не перажывайце – усё па-людску. Не ўспамінайце кепскім словам. І – бывайце! Яшчэ раз выбачайце!

Я пайшоў да парога, пачаў апранацца. Яна чакала ад мяне нейкіх слоў – важных і значных. Якіх – і сама не ведала, але чакала, спадзявалася. Я ж узяў яе за руку, пацалаваў, шапнуў:

– За ўсё даруйце. Мне і Антону.

– За што?! – спалохалася здзіўлена і адхіснулася ад мяне. – Не разумею вас. Чаму так баліць у мяне душа?

– То мая баліць, не ваша. Выбачайце, што без запрашэння ўварваўся ў вашую душу і жыццё, што прымусіў расказваць пра Антона. Хораша вы пра яго расказалі. Цяпер я разумею яго. Праз яго і сябе.

– Чаму – сябе?!

– Не ведаю...

Здзіўляўся – чаму рука ў Людмілы такая халодная і безжыццёвая?

Ці то гарачымі былі мае губы? У вусны пацалаваць мне жадалася найбольш за ўсё. Але я ведаў, што тады пераступлю парог дазволенага, нараблю шмат бяды... І для сябе, і для Людмілы Герасімаўны...

“Не, усё-ткі нейкі загадкавы і незразумелы госць наведаў мяне. Незямны. Як прышэлец нейкі з незямной цывілізацыі. Вылучае нейкую энергію і ўздзейнічае на мяне. Але без шкоды, без чорных думак, як добры чараўнік з казкі. Не дзіўна, што я адчуваю лёгкае паколванне ў скронях – як быццам мяне шчыплюць алавяныя пласцінкі электрафарэзу. І губы, што дакрануліся да рукі, як электрычнасцю працялі. Ад чаго тое? Не здзіўлюся, калі ён чытае наскрозь мае думкі і жаданні...”

“Э-ээ, браток, ты перабольшыў свае паўнамоцтвы, – упікнуў я сябе, – загаварыўся, расчуліўся, забыўся пра перасцярогу... Мала табе паўгадзіны на разведку-допыт, табе гадзіны падавай! Яшчэ перадумай і ў ложак да яе папрасіся, пад гарачую коўдру – ты ж умееш тое рабіць. Захочаш толькі – яна сама пра тое папросіць. Ну, пакажы сваё майстэрства і ўменне, бабнік, кот памыйны!.. Ану, прэч, нягоднік, зараз жа вымятайся адсюль, ну-ууу?!”

– Бывайце, Людка! – заспяшаўся, крутануўся на назе, выконваючы свой асабісты загад, баючыся, каб не сказаць тое ўголас. – Шчасця вам!

– Усяго добрага вам, Віктар! Добрай вам дарогі!

Ужо за дзвярыма я пачуў яе запозненае шкадаванне: “І чаго тэлефон не ўзяла ці адрас – мо калі што трэба было б, павіншавала б са святам ці пра Антона што...”

З вуліцы доўга яшчэ назіраў за акном сваёй кватэры.

Чуўся ўсхліп жанчыны. Яна нікога не праклінала, не асуджала. Калі ж выплакала свае слёзы, неўзабаве сцішылася. Ужо не адказвала нікому на тэлефонныя званкі, а потым і зусім адключыла яго. На душы стала суладна і цёпла. Яна праз нейкі час правалілася ў сон: гуляла па беразе Прыпяці, ногі мачыла ў прыпяцкіх хвалях. Вось тады і адключыўся ад яе, каб не трывожыць нічым – ні папрокам, ні тайным якім жаданнем...

Не я праганяў яе ад сябе, а яна мяне. І ўсё роўна не было крыўды на яе за тое. Наадварот, нечага радаваўся нават: Богу – Богава, жанчыне – жаночае... Месячык заглядваў мне ў твар – адзінокі ліхтарык у небе. Ды яшчэ святло спальні Людмілы выдзялялася ва ўсім доме. А потым я выдаўжыў руку, варухнуў пальцам – і яно пагасла.

“Спі, Люда, няхай нішто не патрывожыць твой сон!..”

Спаў і Пятрусь, прыгожыя сны бачыў...

Доўга яшчэ блукаў па родным горадзе, быццам развітваўся з ім назаўсёды. Разглядваў вітрыны з пустымі паліцамі магазінаў і крамаў, чытаў аб’явы і рэкламы пра “снікерсы” і “стымаролы”, і ўвесь час брала жудаснае

здзіўленне і крыўда – ніводнага слоўца на мове Ліцвініі! Ніводнай крапінкі ці пялёстачка нашага Княства! Прыкра, але васілёк быў заменены гваздзіком чырвонага колеру. Скрывянілі яго, падагналі пад сатанінскі колер, якога баяцца на ўсім зямным шары... Можна было падумаць, што стагоддзі лётаўвітаў над нашым Княствам дух крыважэрнага Аляксея Міхайлавіча, які перамог ваяроў Вялікага Княства на чале з вялікім гетманам Янушам Радзівілам... Той жа Януш Радзівіл яшчэ ў 1655 годзе сказаў пра таго ж цара: "Так шмат душ у няволю забраў і зямлю тую, што не ляхамі, але Руссю заселена, ні за што пагубіў, які ж то абаронца ваш і як вас абараняе?.."

Дык хіба ж толькі ў маім родным мястэчку моцны чужы смярдзючы дух? Дык хіба ж толькі тут атручана, стаптана царамі і яго служкамі роднае і блізкае? Служкі сатаны потым давяршылі пачатае чужынцамі...

Спіць гарадок. І не чужы, і не свой... І не родны, і не блізкі. Як быццам і ў нашым княстве, але ў венах чужая кроў, не нашая... І песні не нашыя, мелодыі не нашыя...

Спяць ліцвіны, нават і ў сне маўчаць, не бунтуюць. Звыкліся, змірыліся... А калі каму і прымроіцца ў сне зямля продкаў і далёкія прашчуры, то толькі падзівіцца, не паверыўшы, што ў іх душах заўсёды вітаў і жыў гонар за вольны край і што ён пагарджаў абдымкамі чужынцаў. Жыццё аддаваў, каб вызваліцца ад іх... У нашых жылах цячэ яшчэ кропелька паляшуцкай крыві, астатняе прымусова ўлілі ў нас... Калі ж ачысцімся ад прымесяў, якія мяняюць характар, душаць нашую волю, нашыя памкненні? Калі ж станем самімі сабой? Хто адкажа? Адкажы, гарадок на плыткай рацэ! Маўчыш?

Дзе, на якой глыбіні косці маіх прашчураў, якіх загубілі казакі Багдана Хмяльніцкага і Залатарэнкі? Пасылаў іх цар на вайну з ліцвінамі, каб палюндравалі Княства... Маўчыць зямля. Але я чую яе стогн. Шмат костак у ёй, і зямлі ад таго балюча, невыносна, што палітая крывёю нашых прашчураў... Каркае ў начной цемрадзі ці то крумкач, ці то варона, як наклікае чарговую бяду на прыпяцкую зямлю. Ці то мне прарочыць птушка чорны заўтрашні дзень? У небе праляцела камета, чырканула белай ніткай па шэрым небе. Я паглядзеў у далёкае сузор'е і адразу падумаў пра тое, што быў ужо вельмі позні час. Над горадам лёталі іншыя жыцці, якія існавалі толькі ноччу. Пра іх людзі не ведалі, нават не здагадваліся... Я ім не перашкаджаў: мне нельга было з імі наладжваць сувязі. Пакуль што. Папярэджвала пра тое Яніна.

"А як жа там Альшанская?! – апякла мяне раптоўна думка. – Ці выстаяла? Ці вытрымала? Яна ж на сабе, на сваім целе адчула ласку і пяшчоту крыважэрнага цара..."

Не ўключаўся пакуль на яе хвалю – строга выконваў загад.

“Ахутавана, ахутавана...” – толькі ўздыхнуў, але без думак і загадаў, проста захацелася прамовіць слова, якое яна падаравала мне. Каб супакоіцца і прыглушыць трывогу... Адчуў – адразу стала лягчэй...

...Зміцер Кісялёў не падвёў мяне – усё давёў у нашай гаспадарцы да ладу. Скрынкі з бутэлькамі складзены ў тры рады да самай столі – заўтра па іх прыедзе грузавая машына. Падбіты рахункі – колькі атрымана бутэлек, колькі заплачана грошай, колькі адпраўлена посуду. Асобна зроблена заяўка на тару... Усё сыходзілася, па кожным дні. Цаны яму няма, Змітраку!

Як і паложана, ён даваў хабар кожны раз вадзіцелю, а той далей – намесніку раённага гандляра. Так павялося. Так было не адзін год. Бо лічылася гэтая “кропка”, як і ўсе па горадзе, залатым дном. Калі жыць умеючы. Калі галава, як кажуць, ёсць на плячах. Я гэтак і прыйшоў сярэдначы, як і выйшаў, ведаючы, што ён і не хадзіў усе дні ў свой інтэрнат на Чарнігаўскай шашы, што, напрацаваўшыся пад завязачку, спаў, як немаўля пасля матулінай цыцкі... Стан яго быў спакойны, але выразна набірала моц прастуда – працяла хлопца скразняком, не ўбярогся на нашых перакрыжоўках-вятрах. Заўтра ў яго падскочыць тэмпература, і ён, зняможыўшыся, пойдзе ў паліклініку. Сон яго прадвяшчае хваробу – купаецца Зміцер у бруднай вадзе, ногі грузнуць у балотнай твані, і смярдзіць яму агідна, брыдка...

Маладзічок за акном увабраўся ў сілу, памацнеў – ражок патаўсцеў нашмат. На наступным тыдні пачнецца поўня. То мае самыя моцныя дні, якія будуць жывіць мяне незвычайнай энергіяй. Яна мне і патрэбна для здзяйснення ахутаваны... Я буду стаяць, падставіўшы небу твар, зажмуру вочы і адчую, як ад мяне праз босыя ногі ў зямлю пачне выцякаць чорная нерыва, што збіралася ўвесь час, замінала, непакоіла, перашкаджала ў дасягненні Вялікай Мары... Потым ужо сонца давершыць працу месяца, падсілкуе мяне іншай, дабратворнай рунай, новым дадатным зарадам, і я, як магутны касмічны акумулятар, пачну аддаваць яе на прапаведаванне Дабра, траціць сілу і моц на Аднаўленне, кіруючыся Божым дабраслаўленнем, якое спасылае Ён на людзей нашай Ліцвініі...

Больш за гадзіну стаяў пад маладзіком. Пасля адправіўся ў прыбудоўку.

Доўга ляжу на раскладушцы, аж пакуль не зморвае сон. Перад гэтым паспяваю яшчэ адаслаць сябе ў самую харошую для маёй душы мясцінку – у чарнічны бор з пракаветных высозных сосен. Потым доўга буду блукаць між стромкіх дзеравін і дыхаць напоўніцу гаючым паветрам, аж пакуль не стамлюся і не ўпаду пад шаты магутнага дуба. А яму пад шэсць стагоддзяў. Буду тады доўга ўслухоўвацца ў яго дыханне і чуць яго думкі-шэпты, і ён абавязкова падзеліцца са мною пра тое, што ўтрымлівае яго памяць і розум

за сівыя стагоддзі, раскажа, што чуў і што ўбачыў... І тое таксама прыдасць мне сілы і яснасць думкі, мудрасць і прасвятленне – з усіх дрэваў ён для мяне самы родны, самы блізкі...

Гудуць пчолы. Шэпчуцца патаемна вяршыні дрэў. Плыве па лесе мройная цішыня. А я плыву ў чоўне свайго задавальнення і радасці. Адчуваю, як вырастаюць у мяне нябачныя крылы, святлее розум, і я не адчуваю пад нагамі зямлі. Я зноў раблюся чалавекам Космасу.

Раніцай катурхае мяне пад бок Змітро, сіпла гаворыць, адвярнуўшыся:

– Дабраніцы, Антон! Добра, што ты прыехаў.

– Здароў быў!

– Не буду... Не памочнік я табе сёння – занядужаў, здаецца. Баюся цябе заразіць... Адчуваю, што надоўга захварэў. Без памочніка будзеш...

У яго чырвоныя вочы, слабы голас, працінае калатун – холадна, ніяк не можа сагрэцца.

– А ты сваё адрабіў... Цяпер я на змену. Можаш лячыцца і адпачываць хоць тыдзень, хоць месяц... З лазняй я ўладжу, падменяць.

– У паліклініку мне трэба – пайду на бальнічны.

– Правільна, схадзі. Я табе і раней казаў, каб праверыўся. Не падабаўся ты мне сваім здароўем.

– Ну то цяпер пайду. Прыйшла, значыць, пара. Вось адляжуся трошкі і падамся. Як з’ездзілася?

– Нармальна. Справіўся з клопатамі. Мо не так, як жадалася, але ўсё ж...

– Ну то і добра. Абы справіўся.

Занядужаў, ды і вельмі сур’ёзна, Змітрок. У вачах патух агонь, у паглядзе адсутнічалі жвавасць і жаданне. Нават сплыла на другі план Вераніка – ён ужо не думаў пра яе, не клікаў да сябе. Саромеўся свайго нягеглага выгляду і стану. Баяўся, што, убачыўшы такога, яшчэ расчаруецца ў ім...

– Згатаваць табе гарбаты, Змітро? У нас жа файная ёсць заварачка. Лекавая.

Сябрук маўчаў, прыплюшчыўшы вочы. Не было сіл адказваць. На ілбе пот, у руках дрыготка. Яго пакідалі сілы. Тэмпература падымалася да самай высокай сваёй рыскі... Ускокваю з лежбішча, хапаю чайнік і наліваю ў яго вады, стаўлю на электраплітку. Я не лячыў яго, хаця мог тое зрабіць за адну секунду – толькі дакрануўшыся даланёй да лба. Я стараўся толькі аблегчыць яму пакуты – проста праяўляў сяброўскія клопаты. І ён тое зрабіў бы, калі б я захварэў. Не было, здаецца, у маіх паводзінах і дзеяннях нічога падазронага і дзіўнага... Але дзіўнае было вось у чым – Змітрок сябе таксама мог бы вылечыць. Калі б паклаў на сваю грудзіну растапыраную далонь пра-

вай рукі. Але пра тое ён не ведаў... У кіпень укінуў святаянік і мяту, чабор і багун, дадаў яшчэ маладыя лісты малінніку і парэчак.

– Каўцяні, Змітрок, мо палягчэе...

Ён абдымае далоньмі слоік, апякае рукі, але робіць некалькі глыткоў. Уздыхае, пераводзіць дыханне. Вялікі боль сыходзіў ад яго – як і трываў толькі.

– Дзякую, Антон! Добрая гарбата. Умееш гатаваць... Лугам пахне. Здаецца, трошкі лепей стала. Дадалося сіл.

– Толькі каб дайсці да паліклінікі.

– Ды дайду ўжо...

– Мо я “хуткую” выклічу, га? Ты ж гарыш увесь.

– Ды што я – маленькі? Не смяшы...

– Ну то глядзі сам, – не настойваў, паслухаўся яго, хаця ведаў, што раблю глупства.

Ён зрабіў няспешна яшчэ колькі глыткоў і зняможана апусціў на падушку галаву. Увесь мокры. Яго блажыць. Змітрок аддыхваецца, як пасля цяжкай працы, не расплюшчвае вачэй. Здаецца, пачаў засынаць... Праз колькі хвілінаў падымаецца, апранаецца моўчкі, накідвае на плечы плашч.

– Мацуйся тут. Не сумуй. Поспехаў.

– А табе – хуткай папраўкі.

Ён паціснуў мне руку, і я адчуў – яго далонь гарачая, бы агонь. Ды ён сам гарэў на тым агні. Праводзіць не дазволіў.

Быў чацвер. Праз нейкі час я адчыніў наш ППШ. Адкрыўся на дзве гадзіны пазней – па графіку ў такі дзень павінна была ісці пагрузка-разгрузка тары. І людзі, згодна з прачытанай аб’яўкай, маўкліва стаялі на вуліцы, чакалі. І рушылі потым з сумкамі і мяшкамі. Загаманілі, загулі на ўсе лады. Тут жыццё дыктавала свае прынцыпы і законы, і іх ніхто адмяніць не мог. Нават вышэйшы ўказ.

– Не піхайцеся, не нервуйцеся – тары сёння дастаткова, хопіць на ўсіх, – пастараўся супакоіць натоўп, настройваючыся на рабочы рытм, адчуваў, што дастанецца мне па самую завязачку.

Так, як і даставалася Змітраку, калі я адсутнічаў...

…Вечарам ледзьве дапоўз да сваёй раскладушкі – спіну не разагнуць. Падэшвы ног гарэлі, як цэлы дзень хадзіў па гарачым вуголлі, а рук, здавалася, і зусім не адчуваў – як анямелі. Я нічым не аблягчаў свой лёс. Працаваў, як і Зміцер, гэтак жа мацюкаўся, гэтак жа і агрызаўся, калі “сіняносік” настойліва ўпрошваў прыняць бітую бутэльку... І зусім забыўся, што адарваўся ад душ людзей, ад Яніны. Ляжаў і думаў: вось-вось збяруся з сіламі і ўключу-

ся на антэну Сусвету і часу, абавязкова злаўлю Планету Яніны, і тады мяне перастануць турбаваць неспакой і трывога. Але працягваў ляжаць, збіраў сілы. Во выбраў сабе месцейка працы! То ж не пасада галоўнага інжынера буйнога завода, калі толькі і ведаў тое, што даваць рабочым накачку за кепскую працу... А падумаўшы, то і невялікі мёд быў на той пасадзе – кожны дзень як на Галгофе. Нездарма і жонка неўзлюбіла мяне, цельпука, – што з мяне ўжо можна было патрабаваць пасля работы, калі я падаў на ложак без задніх ног... Абрыдла тады ўсё.

Прахапіўся ад дотыку цёплай і знаёмай рукі.

– Ты?! – не расплюшчваю вачэй і тут жа адзначаю, як радасць тоненькімі іголачкамі пабегла па ўсім целе. – Даўно каля мяне?

– З паўгадзіны. Назірала за табой. Я люблю глядзець, як ты спіш. Ты падобны тады на маленькага дзіцёнка. І такі ж смешны тады робішся.

– Калі вярнулася?

– Заўчора. Суткі адпачывала. Засумавала па табе.

Калі расплюшчыў вочы, убачыў зблізку яе зрэнкі. У іх убачыў сябе. Яна была стомленая, але ж нейкая памаладзелая. Стала больш спакойнай і, здаецца, мудрэйшай. Больш прыгожай. Усмешка выпраменьвала пяшчоту і дабрыню, нявыказанае каханне.

– Раскажаш? – не адрываю ад яе вачэй, адчуваю, як гарачыня і жаданне пранізваюць мяне. Яе вусны, бы магніт, засланілі ўсё на свеце. Яны ледзьледзь уздрыгвалі, як клікалі мяне, прыспешвалі...

– Тое не перадаецца словамі. Нездарма ж летапісцы падбіралі ёмкія і кароткія словы, каб было магчымым дадумваць і ўяўляць яскрава той час...

– Мне цікава ведаць, што там адбылося, што табе прыйшлося перажыць?

– Тое ж, што і Княства Ліцвінія, – і здзек, і жах, і жорсткасць. Яшчэ – бяспраўе і безабароннасць. Але не будзем цяпер пра тое, пазней. Тады ты ўсё ўбачыш і зразумееш...

– Што – убачу і зразумею?

Да мяне пачало пакрысе вяртацца ўсведамленне таго, дзе ўсё ж была Яніна.

– Тое, дзеля чаго мы існуем на гэтай зямлі.

Яніна дакранулася да маіх губ і апякла гарачым полымем. Усё захісталася перад вачыма. Здавалася, яна ніколі мяне так не цалавала. Жанчына злівалася зноў са мною, і я рабіўся бязважкі і бязвольны, наліваўся лёгкасцю і пяшчотаю да яе, жаданнем адчуць зліццё на вяршыні Гары Шчасця і Суладнасці, каб разам згарэць на кастры Апантанасці і ўваскрэснуць на беразе акіяна Задавальнення...

І адно, і дзесяць, і сорак доўгіх імгненняў доўжылася нашае злучэнне вуснамі. Нам не хапіла дыхання, нам не хапала сіл трываць. Скроні, здавалася, разрываліся ад незвычайнай пульсацыі хмельнай крыві...

– Паляцім да мяне? – шэпча мне на вуха Альшанская, задыхаючыся ў маім дыханні.

– Мг...

– Заплюшчы вочы! Дай руку. Паўтарай за мной – Ахутавана! Ахутавана!

– Ахутавана!

Мяне нешта прыўзняло ад падлогі, правільней, ад раскладушкі – і панесла некуды ўвысь. Барабанную перапонку сціснуў лёгкі боль – як падняліся на самалёце на вялікую вышыню. Злёгку закружылася галава, потым нас апусцілі на нешта мяккае – ці не на ложак?

– Цяпер расплюшчы вочы.

Альшанская смяецца, сядзіць побач:

– Ахутавана! Мы на месцы.

Так, я ляжаў у прасторным ложку. І мы знаходзіліся ў нейкай шыкоўнай, як не князёўскай, святліцы-патаемніцы. На вокнах зялёныя фіранкі – з пералівам блакітнага, празрыстыя, як неба. Святло выпраменьвалася ад сцен.

Усё адбылося так нечакана і проста, як у дзівоснай казцы. Але ў казкі я перастаў верыць даўно. Наша жыццё было, як суцэльная казка, а мы ігралі ў ёй галоўныя ролі.

– Яніна, мне здаецца, што я тут ужо некалі быў, ці не так?

– Так, любы, так... Мы ўжо прылятаплі сюды. З тэлефоннай будкі.

– Тады гэта – не казка? Не сон?

– Правільна, не казка і не сон. Хаця, калі паглядзець, і тое, і другое. Так, гэта ява.

Голас яе ліўся пяшчотнай музыкай, празрыстай, як крынічка, мелодыяй.

– Ты толькі не здзіўляйся, спадар Антон, навучыся глядзець на ўсё, як на звычайныя рэчы. Цяпер усё падпарадкавана тваёй волі. Калі б ты меў духоўныя заганы, калі б ты не належаў да абраных Богам людзей пятай расы, то ты не падняўся б сюды і той раз, і гэты... Першае тваё з'яўленне сюды лічылася пропускам у Вярхоўную Раду Ліцвініі. Касмічную Раду...

– Не здзіўляюся. Прымаю ўсё як належнае.

І быў дзень. І была ноч. І надышла раніца. І праляцеў той час як адно імгненне, хаця час там доўжыўся павольней, чым на зямлі. Крылы кахання атулілі нас сваім цяплом, і мы дзівоснымі птушкамі лёталі ў прасторы, не адчуваючы ні паветра, ні вышыні. Нас не брала стома. Мы шапталі адно аднаму чароўныя словы, якія жывілі духоўным нектарам нашыя душы... Калі ж намі авалодала стома, тады Бог паслаў нас на сцежку да крынічкі ната-

лення. Дзіўна, але мы і напіцца не змаглі, наталіць сваю смагу – пілі і пілі боскі напітак. Чым часцей дакраналіся нашы губы да дзівоснага збанка, тым болей і з новай сілай нараджалася ненатольная смага...

– Ахутавана! Ахутавана!

Дык вось яшчэ што азначала чароўнае слова! Памерці – і зноўку нарадзіцца, нарадзіцца – і зноў памерці. Памерці для таго, каб забыцца, што было з табою колькі хвілінаў таму. Тады прыходзіла радасць нараджэння і апаноўвала з новай сілай шчасце існавання на зямлі, абнаўлення, пераўтварэння з адной якасці ў нешта іншае – чароўнае і незвычайнае, непадобнае на ранейшае існаванне. Кожны раз – нараджэнне. Нараджэнне душы. Нараджэнне Кахання і Любові – вечнай крыніцы, якую падараваў Вышні. Тады ў чалавека нараджалася новае жаданне і ўлівалася новая энергія, новая ненатольная смага. Мы падключыліся да вечнага рухавіка, які ніяк не могуць прыдумаць на зямлі вучоныя. А ў прыродзе ён існуе даўно. І працуе бясконца і бездакорна...

– Ахутавана!..

– Цяпер ты пераканаўся, што ў нашым жыцці няма нічога немагчымага? Абы нашае жаданне. Але жаданне светлага і жыватворнага, што дае жыццё Дабру, Святлу і Спакою.

– Пераканаўся, Яніна.

– Нашыя душы жывуць у спакоі і для спакою. Наш унутраны спакой бязмежны. Як бязмежнае неба.

За акном праплывалі ці то белыя воблакі, ці то нейкі туман Галактыкі ахутваў нашае жытло.

– Найвышэйшая мудрасць і ўменне – ствараць Дабро і перамагаць зло. Шукаць спакой унутры нас. Ён і з’яўляецца асновай нашага жыцця. Калі ж наша апірышча моцнае і трывалае, там нам не можа пагражаць ніякая небяспека. Таму што спакой унізе, спакой – уверсе, спакой – унутры нас, спакой звонку – гэта ўсё нашая засцярога...

“Можна я даскажу тое, што ты мне расказваеш, каб даказаць, што я поўнасцю далучаны да ўлады Спакою і нашай Суладнасці?”

“Можна, слухаю цябе...”

– Спакой сам па сабе – ёсць Моц. Калі мы маем унутры Спакой, мы можам мець радасць і захапленне. Уступаючы ў Знешні Свет – куды б мы ні заляцелі – мы ствараем свой Уласны Спакой. Ніякая цана не з’яўляецца вельмі вялікай, каб заплаціць за яго. Бо ён – гэта гарманічнае кіраванне намі, вібрацыя між энергіяй і жыццём. Але ўсё ж ён, чалавек, неадлучны ад зямнога існавання. Калі ж кожны чалавек, няхай то мужчына ці жанчына, паспрабуе адчуць, што ён належыць да ўсіх народаў, да ўсяго Свету – цалкам,

і прыняць Сям’ю – Свет як сваю ўласную і родную, – тады і будзе Мір і Спакой ва ўсім свеце.

– Так, Антон, правільна. Ты зразумеў, што Перамога і Параза цесна пераплецены і знітаваны Богам. Таму мы не будзем імкнуцца раздзяліць гэтыя два паняцці, а паспрабуем выйсці за іх межы... Пакуль мы будзем займацца клопатамі і болем нашай Ліцвініі...

– Жыве Ліцвінія!

– Жыве!

Ад Яніны плыў водар спелых суніц. Яе вусны і сапраўды ў сунічным нектары. Вярнулася толькі што з сунічнай паляны? Яшчэ патыхаў водар жытнёвага поля і свежай атавы. Гуляла па лузе? Чуўся пах неба і космасу. Лётала між воблакаў, прагульвалася між зорак? Усе пахі кружылі мне галаў – быццам кружыліся мы з ёю ў вясельным танцы, а пляцоўкай з’яўлялася прасторнае неба, і воблакі былі для нас шлюбнай пярынай... Я баяўся аднаго – каб не прайшло наталенне, каб ніколі не пераступіў парог задаволенасці...

“Не бойся, каханы мой, гэтага... Толькі праз тысячу гадоў ты адчуеш тое. А пакуль жыві каханнем, жаданнямі і мроямі, рабі Дабро. Перарабляй Свет і людзей. Адкрывай таленты і такія якасці, як у самога сябе, у нашых ліцвінаў...”

І быў наступны дзень. І была наступная ноч. Сон змарыў нас. І нават у сне мы жадалі адно аднаго. І ніхто не мог перашкодзіць нам у гэтым святым жаданні і імкненні.

А ў нейкі дзень я не вытрымаў і папытаўся:

– Яніна, а як жа з маёй працай у ППШ? Магу атрымаць вымову, мяне ж могуць звольніць за прагулы... Я ж адзін за дваіх застаўся. Змітро ў бальніцы, за ім догляд патрэбен... Клопатаў звалілася на маю галаву шмат.

Альшанская смяецца і мружыць вочы:

– Дзівак ты, Антон! Ты ж не толькі не прагуляеш, а нават і не спознішся на працу.

Яе вейкі напамінаюць мне ўзмахі крылаў жорава.

– Як гэта? – прыўзнімаюся на локцях, хачу зазірнуць ў вочы – ці не пасміхаецца з мяне?

– Мы ж з табой жывём у другім вымярэнні. На зямлі гадзіна, а тут – двое сутак. Мы з табою ўсяго шостыя суткі тут...

– Ты кажаш “тут” – гэта дзе?

– У мяне. Да пачатку тваёй працы яшчэ цэлая вечнасць, мой любы...

– Проста ўва мне жыве яшчэ дысцыплінаваны чалавек. Ніводнага разу я не спазняўся на працу. А тут хвалююся і за Кісялёва.

– Ты мне напамінаеш салдата.

– Усе мы салдаты. І ты – таксама. Цябе ж... паслалі ў той палон. Не сама ж кінулася ў вір здзекаў і зняваг.

– Я выбрала сама той час і тую долю. То мая тэма. А паслалі мяне па маёй жа просьбе. Па маім жаданні...

– Як добраахвотніка? Хто ж паслаў? Хіба мы не аддадзены самім сабе?

Альшанская паклала галаву на мае грудзі, уздыхнула. Я перабіраў пальцамі яе косы, быццам на сонечных промнях-струнах іграў нячутную мелодыю.

– Ты нейкі наструнены сёння, недаверлівы. Агрэсіўны нават. Хто паслаў, дапытваешся? Касмічная Рада  Княства Ліцвінскага.

– Для чаго яна створана?

– Кожны народ мае такую Раду. Але ніводзін народ у свеце так не пакрыўджаны лёсам, як Ліцвінія. Мо хіба і Атлантыда, але там іншае... Хто толькі не дапінаў у нашае Княства! Перліся заваёўнікі і з Усходу, і з Захаду. А мы – як між двух жорнаў... Нас прыніжалі, зневажалі, заганялі ў ярмо няволі і рабства. Яркія, светлыя старонкі нашай гісторыі жорстка вырываліся з людской памяці. Вырывалі тыя, хто паланіў нас, называючы палон дапамогай.

– Мы толькі можам шкадаваць пра тое – не больш...

– Няпраўда твая. Ёсць у Бога Вялікая Кніга Памяці. Яшчэ яна называецца Кніга Жыцця. Яе ніхто прачытаць не можа. Такую ж Кнігу Праўды, дзе фіксуюцца падзеі да адной секунды, стварае Касмічная Рада для Ліцвініі. Кіруе гэтым наша князёўна Ліцвінія. Яна ж – Прадслава, Еўфрасіння Полацкая... Калі ж Кніга Праўды будзе адпавядаць кожным радком і старонкай той Кнізе, што ў Бога, тады толькі Ойча паселіцца на зямлі Ліцвініі. А такіх старонак яшчэ шмат трэба далучаць да нашай Кнігі Праўды.

– І таму...

– І таму мы павінны прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртанні ўкрадзеных радкоў і старонак. Тым самым выканаць адзін з Божых запаветаў, што няма нічога тайнага ў жыцці і гісторыі, нішто і ніхто не можа схавацца ў небыцці ці за хлуснёй...

Тое, што расказвала мая спадарожніца, было прыемным для мяне, прыдатным майму сэрцу.

– Як жа мы зможам памагчы вярнуць, калі тое ўсё было ў мінулым? Нас жа там не было. А сведчыць пра тое могуць толькі відавочцы...

Яніна ўсміхнулася і засвяцілася сонейкам, ад яе пачало сыходзіць жаноцкае цяпло і пяшчота.

– Мы далучаны з табою да гэтай працы. Мы і будзем сведкамі. Мы ж маем такую здольнасць, здольнасць рэтрапартацыі, жыць у тым адрэзку часу, які

вырваны зласліўцамі з нашай гісторыі. Мы сваімі вачыма будзем бачыць тое, што адбывалася на ліцвінскай зямлі. Потым у нашай лабараторыі з нашага зроку-памяці ўсё тое будзе перанесена на відэастужку. І тады ніводзін нюансік, ніводная самая нават нязначная падзея, штрышок не выпадуць з мартыролагу краіны...

Нейкі час раздумваў над яе словамі, узважваў іх сэнс, а сказаў, як даўно вырашанае:

– Пэўна ж, вялікае шчасце і пачэсны, ганаровы абавязак быць сведкам мінулых падзей. Але хто ж тады суддзі?

– Суддзі? Час. І – ліцвіны. І – Бог у першую чаргу. Тады людзі прачытаюць сапраўдную, сваю ж, гісторыю – і абудзяцца ад летаргічнага сну. Тады сатанінскае замбіраванне, што было разлічана на стагоддзі, страціць сілу, і самы апошні скептычны ліцвін скіне са свайго духоўнага аблічча тое павуцінне...

– Тады і перастануць балець нашыя сэрцы “аб радзімай старонцы”, пра што пісаў Максім Багдановіч? Хлусня і падман назаўсёды знікнуць з гісторыі Княства?

– Так, Антон, так, любы мой! Цяпер для цябе нічога няма незразумелага. І тое добра.

– Я ж рады свайму прасвятленню. Дзякуючы табе!

Яніна вольна раскінула рукі на ложку, як адпачывала. Нашая размова, яе адкрытасць-споведзь падняли мяне на яшчэ адну прыступку майго ўдасканальвання. Я падымаўся ўсё вышэй і вышэй – да ўзроўню маёй настаўніцы. Мне хацелася прайсціся. Калі ступіў на падлогу, нагамі адчуў шаўковасць маладога мурагу. Падышоў да акна, расхінуў фіранку.

За акном кусціліся белыя воблакі. Яны былі і ў другім акне, у трэцім. І – над намі. Толькі цяпер убачыў празрыстую (ці без нічога) столь. Скрозь – неба, неба і неба. На чым мы трымаліся? Дзе мы знаходзіліся – на станцыі? На мацерыку іншага Сусвету? Была ноч ці быў дзень?

– Што цябе ўсхвалявала, любы?

– Невядомасць.

Яніна засмяялася, прыўзнялася на ложку, падбароддзем дакранулася да сагнутых каленяў, абхапіўшы іх рукой:

– І гэта табе пара ведаць. Мы з табой знаходзімся ў сузор’і Кахання. Тут няма Сонечнай сістэмы, няма знаёмага табе прыцяжэння Зямлі. Ёсць толькі прыцягненне душ. І тут мой Дом. Тут сплю і адпачываю. Тут можаш жыць і адпачываць і ты. У любы момант, калі таго пажадаеш. Сюды ніхто не мае права прыходзіць, пераступаць парог без майго дазволу.

– Ты тут адна?

– І адна, і не адна. Я адчуваю пастаянна прысутнасць і людзей зямлі, і сяброў Касмічнай Рады, якія вядуць даследаванні. Нам лёгка сабрацца, паклікаць адзін аднаго. Для гэтага ёсць тэле- і радыёсувязь, тэлепатыя. Я магу сачыць за жыццём станцыі – усё мне бачна. Як і бачна ўсё, што робіцца на зямлі. У любым куточку роднай Ліцвініі.

– І ты ўбачыла там мяне?

– Убачыла, – яна хавае ўсмешку і чырвань на твары.

– І спусцілася на зямлю, каб вылучыць мяне? Пачала працаваць у дзіцячым садку, каб сустрэцца на тым пасяджэнні, што праводзілі перад святам...

– Я найперш зразумела, што ты належыш да людзей пятай расы, як і зразумела, што ты сам пра тое не здагадваўся. Тады ў мяне зусім не было ніякіх думак і жаданняў. Нечакана я пачула цябе. Чула, як ты хваляваўся, перажываў, калі я выступала, рабіла справаздачу пра сваю працу ў садку, і бачыла, як ты адабральна, ледзь прыкметна ківаў галавой, калі мне ўдавалася сказаць нешта трапнае і значнае. Але тады не пайшла табе насустрач. Хаця ж ведала і бачыла, што рабіў з табою мой позірк.

– Той крок зрабіў я першы. І не адзін крок. Значыць, так наканавана мне. Наканавана абаім. Усё ва ўладзе Вышняга, Які думае пра нас і пра лёс Вялікага Княства Ліцвінскага...

– Так, Бог выдзеліў кавалачак зямлі для Ліцвініі. Бог даў нам мову, каб на ёй ладзілі сваё жыццё, ладзілі сябе. Сцвярджалі сваю годнасць і гонар.

– Але Бог жа бачыў, што тварылася і творыцца ў Княстве – чаму не абараніў, не засланіў ад навалы, ад гора, што абрынулася на нас? Чаму ж столькі крыві пралілося на гэтай шматпакутнай зямлі? Чаму столькі костак – ліцвінчукоў і чужых – пасеяна на ёй за тысячагоддзі?! Чаму Бог не памог людзям, якія верылі ў Яго, верылі ў сваё шчасце? Чужога яны не рабавалі, ні за што не адбіралі чужыя жыцці. Не нападалі ніколі, а толькі абараняліся... Ты мне хоць гэта раскажаш, мая настаўніца, мая каханая, мой гонар і сумленне?..

Не адказала. Вочы зажмурыла, сціснула вусны, лоб нахмурыла. Ды і не ў яе пытаўся я пра набалелае. Хто ж адкажа на такія пытанні, акрамя Яго Самога? Калі Хрысту сказалі, што ў хаце ляжыць хворы, Ён адказаў: “Я прыйду і вылечу яго...” Хто скажа Ісусу Хрысту пра нас? Мы ж таксама хворыя... На страшную хваробу хворыя. А мо мы і павінны Яму сказаць? Сказаць як сведкі. Што бачылі і сведчым пра гора і бяду. І што найбольш самі ліцвіны ў тым горы і вінаваты...

– Дык то, выходзіць, быў не сон, калі мы лёталі з табой па тваёй Планеце. Калі ты мне расказвала пра суперсенсаў?

– Безумоўна, не... То я рыхтавала цябе да будучай дзейнасці, каб не было здзіўлення і недаверу.

– Ці можна прагуляцца па тваёй Планеце?

Яна лёгка ўскочыла з ложка, як гімнастка, спружыніла і падляцела да мяне.

– Запрашаю. Пайшлі.

Мы ідзем упобачкі па светлым і доўгім калідоры, нячутна ступаючы ці то па дыване, ці па мурожнай траве. Потым Яніна ступае паперадзе, я ж – праваруч, крыху адстаўшы. Не пытаўся больш ні пра што, як ведаў ужо і верыў, мы робім неабходнае і важнае.

Святло ў калідоры сыходзіла ад сцен. Яны ж вылучалі і музыку – павольную, лёгкую, якая супакойвала і бадзёрыла адначасова. Мелодыя была няўлоўнай, шчырай і зразумелай, як подых роснай раніцы. Як узыход сонца. Як слова Бога. Тут жа і ўспомніў: то ж Змітрок іграў мне такую мелодыю на гітары. Адкуль яму толькі і вядомая гэта мелодыя? Бываў тут? У гэтых сценах? Але ж гэта мелодыя будучыні. Мелодыя Спакою. Мусіць жа, яна ад душы лагоднага і цярплівага народа. Ад яго казак і паданняў, песень і прымавак. Бо душа ліцвіна саткана з дабрыні і пяшчоты...

– Чаму ж не пытаешся, куды я цябе вяду? – мая спадарожніца не спыняецца, не сцішвае хаду, як быццам не хоча спазніцца на нейкую адказную імпрэзу. Усё ж паварочваецца да мяне. – Можа, я цябе на Галгофу вяду?

– Ты даўно ўжо мяне завяла на тую Галгофу.

Яна ўсміхнулася, разумеючы мяне. Перад намі расхінуліся дзверы – я і не заўважыў іх адразу. Мы пераступілі зялёны парог, за намі нягучна зачыніліся дзверы. І – зніклі.

Мы стаялі ўжо на ўскрайку жытнёвага поля, і лёгкі ветрык варушыў яе косы. Недзе ў небе заліваўся жаўрук. Лазовыя кусты звесілі свае галіны ў возера. Патыхала спелай вясной, квеценню садоў... Толькі цяпер заўважыў: былі мы ў нейкіх незвычайных касцюмах – светла-зялёных, накшталт камбінезонаў – з кішэнямі. На грудзях раз-пораз міргала ледзь прыкметная блакітная кропачка. На галаве ў Яніны вянок з васількоў – калі толькі і паспела сплесці?

З ранішняга мроіва туману, як здані, пачалі выходзіць невядомыя людзі. Шмат людзей. Яны гаманілі, спрачаліся, смяяліся, і ўсё наваколле абудзілася ад іх усхваляванасці і энергічных рухаў. На нас жа яны не звярталі аніякай увагі. За спінай у нас раслі ці то хвоі, ці то піхты. Бярозы і клёны прызнаў адразу.

“І тут ёсць прырода і жывёльны свет?”

“Ён ёсць усюды, Антон. Усё падуладна Богу”.

Людзі дзіўна апрануты. Уражанне такое, што мы прысутнічаем на здымках нейкага гістарычнага фільма.

“Не, гэта не акцёры. І адзенне ў іх натуральнае, не антуражнае. Гэта прадстаўнікі розных стагоддзяў. Толькі сабраліся яны ў адным часе, хаця ведалі адзін пра аднаго ўсё дасканала...”

Я пачынаў пазнаваць іх. Ці не Еўфрасіння Полацкая і Францішак Скарына стаялі неўзадалёк ад нас? Пра што раіліся-дамаўляліся? У яго руках “Біблія”, а ў святой князёўны таксама кніга, але значна меншая. На кнізе шыкоўны крыж... Той самы, што змайстраваў Лазар Богша? Цуд... Хто ж побач з імі? Калі не памыляюся, то гэта вялікі гетман Вялікага Княства Януш Радзівіл. Ён хворы, увесь час кашляе, але горда трымае галаву. Далей – князь Міхал Іванавіч, кіеўскі намеснік, які ў 1422 годзе падпісваў дамову Княства з Ордэнам, князь Андрэй Іванавіч Вязынскі – і дзеці ягоныя стаялі, нават Васіліса, Бельская князёўна, Соф’я, каралева Польшчы, і Марыя, жонка гаспадара Валахіі. Васіліса Андрэеўна, якая пабралася шлюбам з князем Іванам Уладзіміравічам Альгердавічам (Бельскім) перад лютым 1422 года. Соф’я Андрэеўна (можа, тая ж Сонька вядомая?!).

“Тая, Антон, тая... Аказваецца, ты выдатна ўсіх ведаеш. Прыемна адкрываць цябе такога!”

“Другая дачка пашлюбавалася ў лютым таго ж года з Уладзімірам Ягайлам, каралём Польшчы, – каранаваная ў Кракаве 12 лютага ў 1424 годзе... Ага, вунь жа і князь Юры Сямёнавіч, князь Гальшанскі, – у 1436 годзе ў Берасці падпісаў дамову з Ордэнам...

А гэта хто, што трымае “Мужыцкую праўду”? Кастусь Каліноўскі? Так... А з ім поруч – Тадэвуш Касцюшка, Міхал Клеафас Агінскі, за імі – Кірыла Тураўскі, Сімяон Полацкі... Божа, якое суквецце! Колькі светлых імёнаў! І кожнае з іх мае права быць залічаным у святыя... Кожны з іх жадаў і зычыў шчасця свайму Княству, жыў дзеля яго будучыні...”

– Вас чакаюць, шаноўныя спадары! – дакрануўся да майго і пляча Яніны невысокі, сярэдніх гадоў чалавек, з белымі, як выгаралая на сонцы пшаніца, валасамі.

– Добра, дзякую, найсвяцейшы ўладыка Васіль, – адказала Яніна, падала мне знак, каб ішоў побач з ёю.

“То вуніяцкі архіепіскап Васіль Лужынскі, які перайшоў потым у праваслаўе. Зрабіў з крыжам святой Еўфрасінні падарожжа ў Маскву і ў Пецярбург...”

Яніна падышла да клёна, выцягнула руку. Перад намі зноў узніклі дзверы – толькі ўжо іншыя, другога памеру і колеру. Мы стаім у калідоры з вокнамі і дзвярыма па абодва бакі. Яніна, мусіць жа, ведала, куды ідзём, бо, прайшоўшы крокаў колькі, спынілася зноў ля дзвярэй. Націснула квадратную ружовую кнопачку. І мы ўжо рухаемся па зале з высокімі вокнамі.

У дальнім канцы стаяў доўгі стол. За ім сядзелі людзі – мужчыны і жанчыны, маладыя і старэйшага ўзросту. А вакол нас, на ўзвышшы, круга сядзелі тыя, каго мы бачылі ля возера.

“Яны прысутнічаюць заўсёды, калі адбываецца чыя-небудзь справаздача перад Касмічнай Радай Ліцвініі. Яны пацвярджаюць праўдзівасць тых падзей, у якіх апынуўся сведка і зафіксаваў іх...”

Пачэснае месца займала прыгожая жанчына – маці свайго Княства, князёўна Ліцвінія. Блакітныя, бы азёры, вочы. Светлыя косы. На галаве, як і ў Яніны, вянок з васількоў. Веку і не старога, але ж і не маладзёнка. Адчуваў, як маё сэрца поўнілася шчаслівым прадчуваннем нечага незвычайнага і адметнага, прадчуваннем таго, што ў маім жыцці адбываецца, можа, самая значная падзея...

Мы спыніліся непадалёк ад стала. Яніна прамовіла з паклонам:

– Добры дзень, шаноўныя сябры Касмічнай Рады Ліцвініі! Добры дзень, мая князёўна! – Яніна глядзела ўжо Ліцвініі ў вочы.

– Дзень добры, любая! Як пачуваешся пасля падарожжа?

– Дзякую, ужо добра.

– Бачу, прыйшла да нас са сваім сябрам?

– Так. Ён шмат у чым памог. І вытрымаў усе выпрабаванні. Ён згодзен быць сведкам па аднаўленні гісторыі нашага Княства.

Я выйшаў наперад, прамовіў:

– І клянуся за святым сталом Касмічнай Рады Адраджэння Ліцвініі, што не сыду з абранай дарогі. Ахутавана!

– Ахутавана! – адказала князёўна. – Дзякую. За адданасць агульнай нашай справе ўсіхняя падзяка. Мы бачым тваё сэрца – яно б’ецца ва ўнісон рытму Космасу...

І тут жа ўсё замоўкла. Але я чуў сотні ўнутраных галасоў – сяброў Касмічнай Рады і гасцей, якіх запрасілі да ўдзелу, адным дыханнем яны стварылі малітву за народ Ліцвініі:

“Сусветны Валадару, Прадвечны Божа, Ты ўвесь Сусвет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў, кожнаму месца і мэту прызначыў, а людскі род так бясконца палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў на Зямлю, каб усе слухаючы Яго навуку ды йдучы Яго следам, увайшлі ў Тваё Нябеснае Валадарства. Мы, дзеці ліцвінскага народа, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасці чалавечае часта падалі і зневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, нашу нядбайлівасць у адносінах да сябе саміх і да іншых; даруй гэтак жа і тым, хто нас крыўдзіў і зневажаў. Молім Цябе шчыра: барані нас ад крыўды варожай і дай нам ды ворагам нашым шчодраю Тваёй рукою дух сапраўднае хрысціянс-

кае любові. Дай нам еднасць у веры, згоду ў сямейным і грамадскім ды палітычным жыцці. Загаі нашы асабістыя і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе спрычынілі або ад непрыяцеляў атрымалі. У нашым штодзённым жыцці, у змаганнях і спакусах, асвяці наш розум Тваім евангельскім святлом, каб мы, захоўваючы твае загады-запаветы, перамаглі ўсе цяжкасці і цярпенні ды заўсёды Цябе дабраславілі...”

У зале панавала ўзнёслая аўра – залатым німбам узвышалася над намі. Агульная малітва за Ліцвінію нараджала касмічную энергію Дабрыні.

“Дабраславі таксама нашы дачасныя дастаткі, не дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна развівацца і закрасаваць. Табе на славу, а ўсяму людству на карысць. Дабраславі працу сялянства на раллі, працоўных на іх месцах, вучоных ва ўсіх галінах іх працы, творцаў у мастацтве, каб за іх помаччу ліцвінскі народ мог разумна і прыгожа жыць ды развівацца.

Цябе, Прачыстая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся да нас, а Ты, святая Еўфрасіння Полацкая, – патронка Ліцвініі – ды ўсе святыя заступнікі ліцвінскага народа, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам святым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланства, каб прычыніліся да агульнага дабра тут, на зямлі, а ў мінулым жыцці атрымалі вечнае шчасце, і Табе, прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсць і паклон на вякі вечныя. Амін”.

На мяне глядзелі людзі, якія сядзелі за сталом. Я адчуваў іх падтрымку і радасць за мяне.

– Сядай, спадар Антон Клімовіч, цяпер і ты сябар нашай сям’і.

Голас у князёўны Ліцвініі прыемны і лагодны, як пераэвон чыстай паляшуцкай крынічкі.

Мы з Янінай паселі адно каля аднаго...

Роўным сярод роўных адчуў я сябе не адразу.

Як і не адразу ўсвядоміў тое, што ў гэтым свеце значу.

На тым вялікім сходзе Касмічнай Рады мне на ўсё раскрыліся вочы. З поспехам я прайшоў першыя прыступкі, даказаў прысутным, што асвоіў першыя азы свайго ўваходжання ў іншае вымярэнне. Я ператвараўся ў іншую істоту, якая валодала незвычайным уменнем пераўвасабляцца, пераносіцца ў прасторы, быць нябачнай, жыць пад вадой, чытаць думкі людзей, лячыць, жыць у любым стагоддзі мінулага і будучага часу...

Слабыя здагадкі мяне наведвалі і раней, калі прачынаўся пасля дзівосных сноў, калі мяне кружляла ў паднябессі, калі змагаўся ў нейкай бітве, уцякаў ці даганяў свайго ворага... Тады і пытаўся ў самога сябе: “Адкуль

тое прыходзіць да мяне? Хто кідае ў вір гісторыі? Для чаго? І каму тое патрэбна?” І вось мае здагадкі пачалі пацвярджацца. А потым ператварацца ў жыццё...

Задача Касмічнай Рады не адно стагоддзе была скіравана на тое, каб навучыць чалавека разумнага адчуваць сваю годнасць, навучыць вяртацца да першапачатковых вытокаў яго існавання і існасці. Каб ён, ліцвін, у душы займеў гонар называць сябе грамадзянінам сваёй вольнай і незалежнай радзімы, і не прымаць тую, бястварную і бяздушную, якая даўно прыгнечана і акупавана заваёўнікам... Таго хацеў у першую чаргу Прадвечны Валадар. Чалавек, які ўзнік на зямлі шмат тысяч гадоў таму, вельмі ж адрозніваўся ад сённяшняга. Жылі ў тыя далёкія часы людзі і па трыста, і па пяцьсот сонцаваротаў... Столькі, колькі вызначыў кожнаму Бог, даўшы ў спадчыну мову і культуру, розум і талент, мужнасць і гонар. Яшчэ – чыстую зямлю і паветра. Празрыстую і чыстую ваду. Кожны глыток тае цудадзейнае вады даваў чалавеку магчымасць прадоўжыць сваё жыццё на пяць – дзесяць гадоў. А зямля і сонца давалі яму сілу і моц. Ад таго ён рабіўся яшчэ больш магутным і ўпэўненым у сабе, у сваёй перамозе над стыхіяй, над ворагам.

Чалавек вучыўся ў прыроды і жыў з ёю ў згодзе і адзінстве. Калі што ў яе забіраў, то і аддаваў абавязкова. Вяртаў як мага больш, каб не ўгнявіць яе.

Чатыры “кіты” былі ў чалавека, на якіх ён трымаўся, якія давалі яму сілы і даўгалецце. Першая ўмова – здаровы лад жыцця. Другая – чалавек абавязкова павінен дыхаць чыстым паветрам і ўмець дыхаць пад вадой. Трэцяе – харчаванне натуральнымі стравамі. І – апошняя ўмова: чалавек заўсёды павінен не толькі думаць пра добрае, а і рабіць яго, жадаць не толькі самому сабе доўгага жыцця і здароўя, а і ўсім людзям. Чалавек не павінен нічога баяцца, ні пра што трывожыцца.

Гэтыя прынцыпы ніколі не браліся пад сумненне. Гэтыя прынцыпы дыктаваў нам Валадар у Кнізе Жыцця – Бібліі. Там жа сказана пра тое, што ў чалавека дом пастаянна пры ім – дзе б ён ні быў: у лесе, у полі, у паветры, пад вадой. І нават дома ён у доме. У сваім асабістым доме.

Як малявалі іканапісцы абразы?

І Хрыстос, і Божая Маці, і Буда – усе яны маюць над галавой кольца, залатое свячэнне, абарончы панцыр. Гэта наша аўра. Альбо нашае біяполе.

Бацька ў сям’і мае сваё біяполе. Жонка з дзецьмі – таксама. А над імі ўсімі – агульнае поле, агульнае свячэнне, якім і злучыў іх усіх Валадар. Дзіця, калі вырастае, убіраецца ў біялагічную і фізічную сілу, “уцякае” з біяполя сваіх бацькоў і нараджае новую супольнасць, новае асяроддзе. А пасля сустракаюцца дзве душы, аб’ядноўваюць свае аўры ў адну і потым ужо бяруць сваіх дзяцей пад яе апеку. І яны, дзеці, знаходзяцца абароненыя

пад тым жа “каўпаком” – нябачным, але самым надзейным і неабходным, самым устойлівым і самым... безабаронным...

Самае страшнае, калі нехта з бацькоў пакідае агульную аўру – пры разводзе. Пасля гэтага пачынаюцца хваробы і неўладкаванасці. І дарослых, і дзяцей...

Мяне слухалі, здалося мне, з цікавасцю. Напачатку не перабівалі. А потым удакладнялі, папраўлялі, падказвалі. А то падсоўвалі і мудрагелістыя пытанні, правяраючы мяне на моц ведаў у розных галінах. І я не збіўся, падхопліваў іх думку і развіваў яе далей...

У мяне дапытваліся, хто павінен памагчы чалавеку, які страціў сваё аблічча, забыўся пра сваё прызначэнне на зямлі? Адказваў, што яму памочнікі не трэба – ён сам сабе і павінен памагчы. Далёкія прашчуры вельмі добра валодалі такім дарам...

“На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова быў Бог. У ім было жыццё, і жыццё было святло людзей. І святло ў цемры свеціць, і цемра не паглынула яго...”

“Ісус, выдаўжыўшы руку, дакрануўся да яго і сказаў: “Хачу, ачысціся!” І ён у той жа момант ачысціўся ад пракаазы”.

Хрыстос дэманстраваў не фокус, тым больш не цуд.

Ён паказваў магчымасці чалавека і завяшчаў нам тое ўменне.

“І Слова стала плоццю і жыло з намі, поўнае жыватворнасці і ісціны; і мы бачылі славу Яго, славу, як Адзінароднага ад Бацькі...”

– Зажмурце вочы, а я вам падам крынічнай вады, перад гэтым скажу строга і папераджальна: “Шклянку кіпеню вам даў!” Упэўнены: шкло тут жа апячэ вам пальцы. Калі ж кіну ў вашыя далоні патухлыя вугельчыкі і крыкну: “Жару сыпнуў вам!” – перакананы: апякуцца вашыя далоні.

Але не дзеяннем я апёк вас і не агнём, а словам.

“На пачатку было Слова...”

Чалавек стаў чалавекам толькі тады, калі навучыўся гаварыць і разумець слова. Яно нараджала думку, а думка – у сваю чаргу – дзеянне. Тады можна смела сцвярджаць: слова – не пусты гук, які не зловіш, не адчуеш, не дакранешся да яго. А яно, слова, як і ўсё жывое ў свеце, мае форму і глыбіню, магутную энергію думкі. Гэтая ж энергія можа ўступіць у змаганне са злом, перамагчы і ўліць у арганізм яшчэ большую моц...

У зале ўсталявалася цішыня.

Яніна была задаволена тым, як я трымаў экзамен. Ліцвінія глядзела на мяне спагадліва і прыхільна, спытала прысутных:

– У каго яшчэ ёсць пытанні да Антона Клімовіча?

– Дазвольце мне, – падняў руку сівы дзядок – мо і Кірыла Тураўскі, сядзеў воддалеч ад Яніны. – Раскажыце, шаноўны, як вы разумееце сённяшні стан чалавека на зямлі.

– Чалавек – гэта біялагічная форма існавання. Таму яму Бог выдзеліў і такое харчаванне – арганічнае: клятчатка, садавіна, гародніна, сокі, мёд, семкі ды арэхі, пастаянна – салаты... Але чалавека губіць, і даўно, прамысловасць. Тыя харчы, што яна вырабляе, трошкі слабей за цыяністы калій. Тое, што спажывае чалавек, яно ўсё неператраўнае – шлакі і таксіны. Таму атручваюцца мозг, кроў і само цела. Чалавек забіў жывёліну і зрабіў з яе біфштэкс. А тое, што з крыві, улівае ў сасуды насілле і смерць. Чалавек забівае сябе самога. Жывёлінай авалодвае страх перад смерцю, у сасуды выкідваецца вялікая колькасць адрэналіну. Калі ж ён спажывае такое мяса, то ён праглынае дынаміт. Ён разбурае свой асабісты будынак, сябе самога – Чалавека Разумнага.

– Вы хочаце сказаць, шаноўны спадар, што Чалавек – істота неразумная? – удакладніў святы Кірыла.

– Не зусім так, Уладыка! Жывёліна, створаная Богам, мае душу. І таму чалавек павінен шкадаваць яе, як і самога сябе. Людзі выйшлі з травы, едучы траву, і таму вымушаны былі есці раслінную ежу, а не мяса, якое дае яму хваробы сэрца і сасудаў. Таму зямлянін тлусцее, перастае рухацца і жыве ў такім рытме, што на яго мускулы прыпадае ўсяго адзін працэнт нагрузкі. Адзін!

Князёўна Ліцвінія паглядзела на мяне з мацярынскай усмешкай:

– Вы валодаеце ведамі і ў гэтай галіне. З усімі тэмамі вы справіліся выдатна. Цяпер вы зраўняліся з Янінай. Жадаем вам поспехаў у высакароднай справе на карысць нашага Вялікага Княства!

– Дзякуй! Я – сын яе! Жыве Ліцвінія!

Усе падняліся са сваіх месцаў, і нават прысутныя на галёрцы ў адным імкненні адказалі, сціснуўшы правую руку ў кулак і прыставіўшы яго да пляча:

– Жыве! Жыве! Жыве!

...– Я віншую цябе, Антон Клімовіч!

Яніна ганарыцца тым, што я выдатна вытрымаў іспыты на Вярхоўнай Радзе, што падняўся на тую ж прыступку, што і яна.

– То ты мне памагла ўзняцца, пераскочыць дзве прыступкі.

– Добраму вучню і памагчы прыемна, – туліцца да мяне, напявае нейкую песеньку. Выдатны ў яе настрой!

– У мяне з’явілася пачуццё нястомленасці, а гэта для заўтрашняга дня неабходна. Ці магу я паглядзець копію тваёй справаздачы? Шмат чаго зра-

зумеў бы яшчэ. Каб не паўтараць тваіх памылак. Чаму князёўна Ліцвінія не дапусціла на тваю справаздачу? І чаго гэта так уз'еўся самадзержац Пятро Першы пасля прагляду тваёй відэастужкі?

– Табе нельга было тое глядзець. Ліцвінія асцерагалася, што ты не вытрымаеш... Без падрыхтоўкі. Сэрца ў цябе яшчэ не прыйшло ў належны стан. Цяпер ужо можна. А цару не спадабалася тое, што я бачыла на свае вочы... Касета ў мяне ў тумбачцы…

Мы выйшлі зноў у калідор. Прадстаўнікі і сведкі Вялікага Княства розных стагоддзяў і эпох удакладнялі адзін у аднаго незразумелыя для сябе пытанні. Гаварылі яны на мове свайго народа. Пісалі гусінымі пер'ямі, выціскалі літары на бяросце... Цяпер я ведаў, што яны рабілі тут...

– Куды цяпер, Яніна?

– Адпачываць будзем. Я вельмі стамілася, буду спаць. Ты ж можаш глядзець касету пра маё падарожжа ў Полацак. У цябе яшчэ шмат часу ў запасе.

Мы ступілі на невялічкі ўзгорачак, і за намі адразу ж зачыніліся дзверы. Той жа калідор, тыя ж пахі і тая ж музыка. Праз колькі хвілін мы апынуліся ў жытле Яніны. Усё акуратна складзена і прыбрана – скрозь ідэальны парадак. Нехта ж прыбраў, хаця гаспадыня жытла гаварыла, што ніхто пераступіць парог не мае права. Значыць, на адлегласці таго пажадала Альшанская... Даносілася ціхая музыка, чуўся пошум сосен. Было спакойна і лагодна.

– Як я, любы мой, стамілася, – паскардзілася Яніна, скідваючы з сябе зялёны хітон. – Прылягу, кружыцца галава...

– Кладзіся. Я буду ахоўваць твой сон.

Распрануўся і я, застаўся ў белым адзенні, што нячутна і прасторна аблягала ўсё цела. Я занёс яе на ложак – і была яна бязважкая. Па белай прасціне рассыпаліся косы, рукі абвілі маю шыю і не адпускалі.

– Любы мой, не расчаравала я цябе? – прашаптала набалелыя словы, горача дыхала ў вуха.

– А я цябе? – адказваю тым жа пытаннем, прыціскаю да сябе, чую, як грымотліва стукае яе сэрца ў маіх грудзях.

– Божа, як мне хораша... Я баялася напачатку адкрываць цябе, бо не хацела, каб між намі нарадзілася каханне... Таму і была такая жорсткая з табою...

– Хіба адно другому перашкаджае?

– Так я думала. Але ты не паслухаўся і не пакінуў мяне... Ты і цяпер не пакінеш мяне, каханы мой, скажы? Я ж казала-абяцала, што буду тваім кацяняткам – буду ляжаць каля тваіх ног, каля тваёй падушкі і спяваць табе песні-калыханкі, калі табе будзе цяжка. Калі будзе сціскацца ад болю тваё сэрца...

Настрой яе мне дужа не падабаўся. Яна, здаецца, плакала і таму хавала вочы, каб я не ўбачыў слёз. Што так устрывожыла яе?

– Што здарылася, дзівосная мая птушка? – следам хвалююся і я, слухаю, хачу зразумець яе неспакой. – Ты ж сама вучыла мяне ніколі не думаць пра кепскае, не трывожыцца...

– Вучыла. Бо я была настаўніца. А цяпер ты параўняўся са мною, і я не ведаю больш, чаму цябе навучаць. Ты ж цяпер будзеш атрымліваць яшчэ большую асалоду і сілу, таму памкнешся да другой планеты, а мо і душы...

– У мяне ёсць ты. І толькі ты... У цябе ж ніколі не было да гэтага страху. Адкуль ён?

Зноў маўчыць, прыплюшчыла салёныя вейкі. З яе знікае адзенне, растае, як прырэчны туман.

– Не глядзі на мяне – сорамна.

– Я ўжо не бачу цябе...

– Антон, пацалуй мяне. Моцна. Мне сапраўды страшна. Страх такі, як быў там, пад Полацкам. Мо тое і яшчэ сядзіць ува мне. Чаму ж так доўга?

– Мо паклічам лекара?

Яніна кісла ўсміхнулася:

– Мы ж не на зямлі. У нас тут такога няма. Мы самі сабе лекары...

І зноў прыйшоў вечар. Каханне з яшчэ большай сілай разгаралася ў нашых сэрцах. Зноў ноч. Пад раніцу Яніна заснула.

Трывожныя думкі павялі яе зноў пад Полацк, у крывавую калатнечу. Але я не пусціў яе туды, стаў папярок дарогі, паказаў на іншую сцежку і прагнаў яе адтуль. Можа, і груба тое зрабіў. Каб паслухалася. А потым дагнаў, усміхнуўся прыветна, узяў за руку і павёў надпрыпяцкімі абалонамі, дзе гулі сярод процьмы кветак пчолы і чмялі... Загадаў:

– Вось тут і збірай рамонкі. Вянкі пляці. І не думай пра благое.

– Добра, не буду... – пачуў у адказ і цяпер ведаў, што яна паслухаецца. Так таго хацеў я.

Заснуў разам з ёю. Прачнуўся першы. Яніна ляжала, адвярнуўшыся ад мяне. Спала моцна і спакойна. Роўным і сцішаным было дыханне. Падняўся, прыкрыў коўдрай. Дастаў з тумбачкі касету. Пайшоў у апаратную – круглы пакой з белымі сценамі. Там Яніна і спісвала са сваёй памяці падарожжа ў Полацкае княства. Як толькі пераступіў парог, мяне ахапіла ледзь прыкметнае хваляванне. У скроні з лёгкім паколваннем упіліся нябачныя іголачкі. Неймавернымі намаганнямі адсунуў ад сябе трывогу. Усеўся ў крэсла, але не спяшаўся нырнуць у падарожжа Яніны...

Сядзеў у цэнтры правільнага круга. Кругам была сцяна – і не было ёй ні пачатку, ні канца. Тысячы і тысячы аб’ектываў былі ўманціраваны ў тую

сцяну. Ведаў, што аб'ектывы высвецяць сапраўднае жыццё і сапраўдных герояў. Мяне чакала не відэаспаведзь Яніны. Мяне праз колькі хвілін завіхурыць натуральнае жыццё. Мне прыйдзецца прайсці шляхам Яніны. Ці вытрымаю псіхалагічную нагрузку? Нездарма ж мяне не пусцілі на прагляд...

У адтуліну ўвайшла маленькая, з запалкавы карабок, касета. Засвяціліся тры зялёненькія лямпачкі-светлячкі. На суседнім табло з аднолькавым інтэрвалам замільгала блакітная палоска – знак гатоўнасці. Напомнілі пра сябе тысячы аб'ектываў – чакалі маіх дзеянняў, каб прапусціць праз сябе пакуты Яніны Альшанскай. Нечага марудзіў, не націскаў галоўную кнопку. Настройваў сябе на цяжкія выпрабаванні, прасіў у Валадара духоўнай падтрымкі і моцы.

Лёгенька крануўся зялёнага квадрата… Адразу стала ціха і цёмна. Павеяла прахалодай. Глыбокая ноч – на небе зыркія зоры і месячык. І я ўжо быў не я, а яна – Яніна, бо дзіця яшчэ... Пераўвасобіцца ў дзяўчыну, напэўна, было лёгка – мы ж былі адно цэлае, і сэрца напалову ў мяне зрабілася жаночае... На мне спадніца. На нагах ці то лапці, ці то пасталы, на галаве старая, зношаная хустка...

І мне, дзяўчынцы, шаснаццаць з паловай гадоў... Не прыкмеціў, як пачалося іншае для мяне жыццё, як пачаў жыць ў іншым вымярэнні, у іншым часе – закружыла мяне, завіхурыла, прымусіла наліцца страхам і імкненнем перамагчы нечалавечыя пакуты і выжыць... З маіх грудзей вырваўся слабы дзявочы крык здзіўлення...

– Парасачка, го Парасачка! Куды ты падзелася, дачушка? – гукае мяне бацька з двара.

– Я тут, татусь, – адказала з гарышча, каб ён не хваляваўся за мяне, – ведама ж, трывожна вакол, ходзяць чуткі, што маскалі паляць вёскі і гарады, забіраюць у палон жанчын і дзяцей, мужчын і нават дзядоў, якія маюць талент у будаўнічай справе. Астатніх забіваюць, садзяць на кол – улюбёнае катаванне ўсіх расейскіх цароў.

– Татачка, можна, я пайду да таварышак, пагуляю трошкі з імі?

– Добра, схадзі! Толькі ж не баўся доўга.

– Не забаўлюся!

Бацька яшчэ нешта бурчыць сам сабе, грукае дзвярыма, ідзе ў хату.

Татачка, добры мой татачка! Ён так любіць мяне, малодшую, што баіцца штохвілінна – перажывае надта, калі не бачыць мяне побач. Мне смешна нават ад такой залішняй увагі – што ж са мною можа здарыцца?

Тата мой – званар. Кожны дзень ён падымаецца на вільчык царквы Еўфрасінні і размаўляе з Богам – і тады перамовы званоў чуе не толькі

ўвесь Полацк, а і людзі блізкіх і далёкіх паселішчаў, што раскінуліся вакол магутнага горада. Паабяцаў мне татусь, што раніцай возьме з сабою ў сабор Еўфрасінні: дасць і мне патузаць за вяроўчыны, якія трымаюць “сэрца” звона... А лезці туды, высака, мне страшна, але пра тое я бацьку не прызнаюся – не возьме тады з сабою.

Я і не заўважыла, як забавілася з сяброўкамі, вярнулася дахаты прыпозненa. Зачыняю за сабою дзверы і кладу засаўку. Ціхенька іду ў хату, знаходжу на стале кубак з малаком і выпіваю нагбом. Ведаю, што бацькі яшчэ не спяць, чакаюць, калі я ўлягуся спаць. Чую, як цяжка ўздыхае бацька, варочаючыся з боку на бок, – яго грызе трывога. Двое маіх старэйшых братоў, Уладысь і Францішак, служаць у дружынах вялікага князя, зрэдку наведваюцца дадому. Як тады радасна свецяцца твары ў таткі і мамы!

А Уладысь носіць мяне на руках, смяецца, гаворыць жартам:

– Вось падрасцеш, аддадзім цябе за княжыча – князёўнай будзеш!

– Не хачу за княжыча, – плачу ад крыўды, – за цябе, браток, хачу, не люблю княжыча, а цябе!..

Смяецца брат, глядзіць на мяне блакітнымі вачыма, і я адчуваю, якія ў яго дужыя рукі. Гаворыць, як здзекуецца:

– У мяне ж нявеста ёсць, а ты яшчэ ж маленькая...

– А я хутка падрасту, ты пачакай трошкі, – умольваю брата, і ў мяне такі прыліў любові да яго, што не ведаю, як і расказаць яму пра тое, – я і прыгожай стану, вось пабачыш...

– Ды ты і так самая прыгожая ва ўсім княстве, – шэпча мне Уладысь на вуха ласкавыя словы, цалуе ў шчаку, – акурат пара нашаму княжычу...

Ледзьве не плачу, чуючы зноў пра княжыча, ужо і злуюся на брата, адварочваюся ад яго, адчуваю, што пачынаю ўжо і ненавідзець сына вялікага князя, адзін толькі напамінак пра яго выклікае ў маёй душы незразумелае зло і крыўду... Але я засынаю на дужых руках брата пад яго шэпт-аповед пра нешта казачнае і патаемнае, вядомае толькі нам абаім...

Дзе цяпер браткі мае? Што сталася з імі? Біліся з маскавітамі, і не чуваць цяпер, дзе сёння... Вайна вялікая пачалася. Захопнікі хочуць людзей у рабства пагнаць. Кажуць яшчэ, што царскія войскі жорсткія расправы чыняць з людам полацкім... Не раз нападалі на Полацак то з Усходу, то з Захаду. З Украіны казакі дапіналі нават да Турава – руйнавалі пажарамі і мячамі мястэчкі і вёсачкі, высякалі гарады і паселішчы... І кожны палачанін думае, жахаецца – няўжо такі жорсткі маскоўскі цар, што не шкадуе ні старых, ні малых?Казалі людзі, што быццам бы цар Пятро Першы наважыўся на наш Полацак кірунак узяць, прыехаць са сваёй світай. Ці праўда толькі тое?!

...Ранічкай бацька, як і абяцаў, узяў мяне з сабою.

Мы ідзём халодным ранкам, і сіберны, пякучы вецер б'е шрацінкамі ў твар. Але мне не холадна – навучылася трываць холад, цярпець: татачка і наўчыў мяне. Ён ідзе няспешна паперадзе, унураны ў сябе. Я ведаю, як яму нялёгка, невыносна цяжка. У яго баліць сэрца не толькі за сям'ю, за нас, дзяцей яго, а і за Полаччыну. Ён раз-пораз уздыхае, а думкі далёка-далёка... Па дарозе да нас далучаецца дзячок Рыгорка Шкрабін – рухавенькі, невысокага расточку, з бародкай дзяцюк. Неаднойчы бываў у нас у хаце, салодкія мне абваранкі прыносіў. Павітаўся, мяне прытуліў да сябе, і я адчула, як ад яго запахла воскам і часнаком. Пахваліў, што я ўжо дарослай стала, пекнай палачанкай.

– Бяда, Мікіта, ой бяда якая! – заківаў галавой дзяк, і ў голасе пачулася вялікая трывога – голас Рыгоркі выдаваў. – Маскавіцкі цар едзе праз Полацак, мо ўжо і прыехаў... А што робяць яго збройныя людзі – не перадаць! Кажуць, што гарацъ-палаюць наўкола паселішчы – гарады і вёскі, смерць наслаў на нашую зямлю... – і пераўжагнаўся – раз, другі, трэці, – даруй мне, Божа, даруй грэшнаму, святая Еўфрасіння!

Хрысціцца і бацька, як і я, трывожыцца следам за дзячком:

– А мо Сафійку не чэпіць? Святая князёўна Еўфрасіння будавала з Божае ласкі і згоды – няўжо не пабаіцца цар граху перад Богам?

– І я спадзяюся, Мікіта, але, каб ты толькі ведаў, як баліць у мяне душа! – уздыхае Рыгорка, зноў хрысціцца, павярнуўшыся на ўсход.

Загаўкалі сабакі. Падаў голас певень. Месячык то схаваецца ў шэрыя воблакі, то зноў выгляне – як быццам пацікавіцца хоча: а што там на зямлі, ці ўсё ў парадку ў Божых уладаннях? Мне дык і зусім стала душна – ад хуткай хады. Бацька не аглядваецца, прыспешвае крок, пэўна, забыўся пра мяне. І добра – што я, маленькая? Я ўжо дарослы чалавек, таму за сябе пастаяць змагу, не дам сябе крыўдзіць...

Дзяк перад тым, як адамкнуць сабор, доўга моліцца, даўжэй за нас з бацькам, укленчвае:

– У імя Айца, і Сына, і Святога Духа... Божа наш міласэрны, які ў нябёсах, прабач нас, грэшных, што ўваходзім у тваю хату... Валадар наш Усёмагутны, даруй і выратуй насад чорнай навалы маскавітаў!..

Мы заходзім у сабор і зноў молімся, ужо стаўшы на ўзвышак, дзе амбон, схіляем нізка галовы. Рыгорка замыкае дзверы і ідзе ў свой закутак. Мы ж з бацькам падымаемся па прыступках наверх – да званіцы.

Раз-пораз спыняемся, аддыхваемся – найбольш бацька. Апошнім часам ён хварэў – схадзіў на дзікоў і застудзіўся. А ён жа ніколі не баяўся холаду –

босы па лёдзе хадзіў, у мароз у палонцы купаўся. У яго ад цяжкай хады сіпела ў грудзях, узмакрэў лоб. Вось і апошняя прыступка. Мы падымаемся наверх – па лесвіцы з тоўстымі дубовымі маснічынамі. Бацька прапускае мяне наперад:

– Табе першай ісці. Да Бога бліжэй будзеш.

Я падымаюся да праёміны, і ў твар дыхнуў жорсткі, са снегам, вецер, пранізаў усю – з ног да галавы.

Полацак – як на далоні. Хаця ж яшчэ і прыцемак, але ўгадваюцца хаты, цэркаўкі, рамесніцкія майстэрні. Тата мяне прытульвае да сябе, да свайго худога цёплага цела, хавае ад холаду, пытаецца:

– Прыгожы наш Полацак, дачушка?

– Надта прыгожы, татачка! Мо і ў свеце прыгажэй за яго няма.

– Так, дачушка, так, праўду гаворыш... Святая Еўфрасіння праславіла яго на ўвесь свет. І сябе ўзнесла на вялікі нябесны прастол. Бог упадабаў яе за добрыя святыя клопаты. Бо шмат дабра людзям зрабіла. Не холадна табе, Парасачка?

– Не. То напачатку было холадна, а цяпер сагрэлася ўжо. Горача нават стала.

Яшчэ нейкі момант стаім, углядаемся ў засмужаную далеч, маўчым. Бацька парушае маўчанне:

– Пара, дачка! Цяпер – пара!

Ён адвязвае ад праслаў вяроўчыны, дае мне:

– Пачынай, дачка! І запомні: з першым звонам на Сафійцы ты становішся іншым чалавекам... Цябе чакаюць вялікія выпрабаванні. І ты іх пераадолееш, бо тваёй заступніцай заўсёды будзе Прадслава – святая Еўфрасіння. Звані!..

Ледзьве стрымлівала дрыготку ў руках. Не ад холаду яна да мяне прычапілася, а ад хвалявання, узбуджанасці, ад урачыстасці святога моманту. Сапраўды, я гэтым ранкам пераступіла нейкую нябачную, але вельмі важную мяжу... Падымалася наверх дзіцем, назад жа, дадому, вярнуся дарослай палачанкай, з разуменнем адказнасці і свайго прызначэння. Разуменне ўсяго гэтага прыйшло нечакана – і назаўсёды.

– Звані, Парасачка, звані! Скажы толькі Святой Багародзіцы і Госпаду нашаму, што мы чуем іх і верым ім, дзякуем, што маем з Божае ласкі такую прыгожую зямельку!

Я ўзяла вяроўчыну, накручваю, як вучыў бацька, на руку, цягну на сябе важкую “булаву”, што вісіць у звоне. Яна пакрысе гайдаецца, марудна разгойдваецца, і тады мне памагае бацька – раз тузануў, другі... Я амаль і не адчуваю, як ён памагае мне...

– Бум-ммм! Бум-ммм!.. ммм! – панеслася слабое напачатку, як бы нясмелы, але настойлівы гул.

– Бум-ммм!.. Бу-ууумм! – і другі, і трэці раз – ужо мацней, упэўненей і гучней – цяпер ужо чуўся працяжны і магутны ўладарны звон, які чулі не толькі ў далёкім Кіеве, а і ў небе.

Мой слабейшы звон уплятаўся ў басавіты бацькаў, што быў побач, аздабляў яго, узмацняў, і гэтае суладдзе гукаў даносілася да кожнага праваслаўнага верніка, усяляла ў яго святую веру, давала сілу, спадзяванне на лепшыя часіны – жыве Сафійка, то будзе жыць і народ! Ніколі ў мяне ні да гэтага, ні пасля не было такой урачыста-лёгкай узнёсласці, яднання з Богам, разумення Сусвету, свайго месца сярод людзей. Ніколі мяне потым не наведвала такая шчымлівая, што даходзіла да слёз, радасць. Мне здавалася, што з кожным уздыхам звона, чароўнага звона, ляцела ў паднябессе і мая душа.

Я – птушка з магутнымі крыламі. Абдымаю нашую зямлю і ратую яе ад няшчасцяў і гора. Першы раз у жыцці пераджыла ў сваёй душы вялікае свята. Свята яднання з Богам. І тады ж адчула, як стогне полацкая зямля і просіць у Неба паратунку і заступніцтва. Пачула яшчэ крыкі людзей і жывёлы – кароў і свіней, якія больш за людзей адчувалі трывогу і гора, і тое перадавалася іх гаспадарам...

Данесліся смярдзючыя пахі пажараў, пахі попелу і вуголля, што заставаўся замест хацін... Далятаў крык адчаю. Мяне пранізваў усю крык аб дапамозе. Я яшчэ адчувала кроў. Шмат крыві.

– Татачка, чуеш – зямля гарыць! – крычу яму на вуха. Ён усміхаецца, аж прыжмурваецца, але, мусіць, не чуе, хаця трывога, што пасялілася ў ім звечара, не знікла. Яна вырасла яшчэ больш. І мае словы перасцярогі толькі больш яшчэ пераканалі, што з гэтым звонам, які абудзіў раніцу, пачаўся адлік новага часу, крывавага часу – новай жорсткай і крывавай эры...

Мы пра тое ў тую раніцу толькі здагадваліся...

І тады бацька пачаў званіць ужо неяк інакш. Не так, як заўсёды. Я тое адразу заўважыла. У звона з’явіліся душа, боль і трывога. І ён разлягаўся па ўсім наваколлі, абуджаючы ў людзей памяць волі, папярэджваў, крычаў пра гора і жах, што абрынуліся на Полацкую зямлю... Адчула тое сэрцам, бо яно пачало сціскацца і шчымець – як яго нехта прымушаў браць на сябе неабдымны боль усяго княства...

– Цяпер пачуў! Цяпер я пачуў! Валадар Нябесны, памажы нам, грэшным! Жыццё забяры, а зямлю маскавітам на здзек не аддавай! Перад продкамі будзе сорамна, што чужынец топча і паліць вёскі і гарады, высякае сякерамі і мячамі жывых людзей, забірае іх душы! Памажы, Гасподзь Усемагутны!..

– Памажы, Божачка, памажы, Святая Багародзіца, заступніца наша, як просіць мой татачка! – прашу я, умольваю, а трывога ўзрастае, шыецца халоднай вужакай пад грудзі, без жалю джаліць, дастае атрутным язычком да самага сэрца.

– Памажы!.. Уратуй, Божа, і захавай!..

Каб адагрэцца, спускаемся ўніз. Нас ужо не трымаюць ногі.

Дзяк маўкліва запальваў свечкі, і прыемна патыхала вашчынай. Пасля прыйшлі і іншыя вуніяцкія святары, пачалі правіць службу. І зноў стала ціха. Гаварылі пра тое, што Пятро Аляксеевіч быў набожным чалавекам – прыціхаў перад вучоным манахам Сімяонам Полацкім.

Ішла вайна са Швецыяй. У Паўночнай вайне памагаў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст Другі. Вось на сустрэчу з ім, у Біржайскі замак, і ехаў у лютым 1701 года на паштовых падводах праз Полацак маскоўскі цар. Нейкі ж злы лёс наканаваў, каб праз чатыры гады зноў выпала тая ж дарога...

Беларускія і летувіскія магнаты, што былі пад Сапегамі, падтрымалі шведскага караля Карла ХІІ і памагалі яму войскам. Прыхільнікі шведаў абралі сабе каралём і вялікім князем Станіслава Ляшчынскага. Такім чынам, Рэч Паспалітая набыла сабе двух гаспадароў, і нечакана між імі разгарэлася вайна. Тады скандынавы занялі Летуву і Гарадзеншчыну.

Ой як тое не спадабалася маскоўскаму самадзержцу! Ён проста азвярэў, мацюкаўся і пасылаў праклёны скандынавам. А ў душы і радаваўся такому зыходу падзей: ёсць жа выдатная прычына распачаць вайну ў Беларусі!

І вось сямідзесяцітысячная армія рушыла ў бок Полацкага княства. Цар быў упэўнены ў сваёй перамозе. Ён абвясціў паслам, што робіць справядлівы паход. Але полацкія святары ведалі, што цар не настолькі быў набожны, каб клапаціцца пра жывыя чалавечыя душы, пераканаліся ў ранейшых яго паходах. Таму манахі-базыльяне адаслалі з кляштара, што быў пры Сафійскім саборы ў Барысаглебскай царкве, што ў Задзвінні, срэбную труну з мошчамі Іясафата Кунцэвіча ў Жыровічы. Ведалі святары, як адносіцца манарх да вуніяцкай царквы...

Тым часам развіднела. Праехалі паўз кафедральны сабор адны сані, другія. Нейкі вазніца прывёз у горад сена, ды не ведаў, дзе пражываў купец, таму і распытваў у людзей пра яго.

Нам зноў прыйшла пара падымацца на званіцу. Каб аддзячыць Богу за клопаты пра нас, папрасіць прабачэння за грахі і памылкі.

– Бум-ммм!.. Бууу-ммм!

Гул званоў нарастаў і нарастаў. З ім і нарастала трывога. Яна мацнела, набывала неабдымныя памеры...

Да нас падняўся напужаны дзяк – задыханы, і спалоханым голасам абвясціў:

– Бяда, Мікітка, бяда! Божачка!.. Не звані... Цар загадаў. Ён унізе. Гразіўся, калі не перастане звінець... ой, Божа!..

І пабег тут жа ўніз. Бацька нічога не зразумеў з яго слоў. Загадаў мне сядзець і затаіцца. А калі што якое, то раіў схавацца ў невялічкую прыбудоўку, дзе мяне ніхто знайсці не зможа. Сам падаўся следам за дзякам. Мне боязна было парушыць бацькаў загад. Нейкае падсвядомае пачуццё і сіла штурхалі мяне туды, уніз, каб я, менавіта я засведчыла сваім вокам тое, што магло адбыцца... А што магло здарыцца ў святым кафедральным Сафійскім саборы, акропленым і ахрышчаным святой вадой патрыярха? Бог абароніць, Бог заступіцца за вернікаў...

З вялікай насцярогай спускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Нехта ўладарна і гучна закрычаў унізе. Рэха паскакала па белых сценах з фрэскамі святых. Зажмурылася ад страху маляваная на сцяне Еўфрасіння. Рэха заскочыла пад вільчык купала, забілася там пад чорны звон.

Бачыла зверху, што шараговых вернікаў-вуніятаў у Сафійцы не было. Малілася шасцёра святароў і манахаў.

А дзе ж той, пра каго гаварылі са страхам, якога баяліся як агню? Дзе ж ён, чаму не бачна? А, вунь... вунь ён – цар! І памагаты побач – Меншыкаў. Там жа і некалькі афіцэраў. З імянінаў у Божы храм – да мяне далятае пах гарэлкі. На добрым, мусіць жа, падпітку, бо вунь як Меншыкаў калываецца – вось-вось упадзе...

– ...токмо не уважаете царя всероссийского, который несет вам освобождение! – грымеў голас, і зноў рэха ўзляцела пад вільчык Сафійкі.

Я сцялася ад страху, да крыжа прыціснулася. Зноў агідная дрыготка падкацілася да мяне. Потым жа цікаўнасць усё ж узяла верх – захацелася яшчэ ніжэй спусціцца. Легла на прыступкі так, каб можна было назіраць за тымі, хто быў унізе. Схілілі ў малітве галовы святары. Чарнарызцы выглядалі супраць бамбізы-цара, няйначай, казуркамі. А ён стаяў у батфортах, з мячом у похвах, у камзоле з залатой абшыўкай. Побач і афіцэры – крыўляліся, перадражнівалі святароў. Якімі дурнямі выглядалі, самі таго не адчувалі, не ведалі, не здагадваліся...

– Осмотреть желаю Софию, которую вы называете святой! – гучным голасам загадаў імператар. – Убедиться хочу в этом. Ну-ууу!..

Вікарый Канстанцін Зайкоўскі спыніў богаслужэнне. Пачаў выконваць царскі загад. А кажуць, што ў чужую царкву са сваімі параносвамі не лезуць. Але то, мусіць, не цароў тычылася. Пачаў вікарый тлумачыць Пятру Аляксеевічу, што да чаго.

Спыняліся каля кожнага алтара. Цар, здавалася, уважліва слухаў, нервова круціў плячыма, скуб вусы.

– А это кто? Что за святой? – цар невядома чаго пачаў распаляцца, стражэў усё больш і больш, вочы наліваліся крывёю.

Айцец Канстанцін, трэба прызнаць, праявіў смеласць, спакойна і з гордасцю прамовіў:

– Гэта, ваша царская вялікасць, полацкі арцыбіскуп Язафат Кунцэвіч. Прыняў пакутніцкую смерць.

– Кто же его отправил на тот свет? – самадзержац крутнуў шалёна галавой, набычыўся, чакаючы, што скажа святы айцец.

Такім жа смелым прагучэў і адказ:

– Святога айца Язафата пазбавілі жыцця віцебскія схізматыкі, вашая царская вялікасць!

Пудовы кулак расейскага цара тут жа апусціўся на галаву пажылога святара. Зайкоўскі ўпаў, і цар пачаў біць яго важкім кіем, а потым, стаўшы шалёным і непазнавальным, замахаў шабляй. Меншыкаў, бачачы, як забаўляецца сп’янелы цар, сам выхапіў палаш і адным ударам забіў прападніка Феафана Кальбячынскага, які перад алтаром святога Кунцэвіча прымаў прычасце. А афіцэры ўжо секлі рэгента саборнага хору Якуба Кнышэвіча, айцоў Язэпа Анкудовіча і Мялета Кандратовіча...

Са сценаў кафедральнага сабора глядзелі на гэтае ведовішча святыя.

Па падлозе храма ракой цякла густая кроў, і па ёй, слізгаючы і падаючы, мацюкаючыся, коўзаліся цар і яго афіцэры. Мне было бачна, як афіцэры дапіналі старога архімандрыта Якуба Кізікоўскага, катавалі яго, рэзалі па жывому, дапытваліся, дзе саборны скарб. Не дапыталіся. Павесілі, так нічога і не дазнаўшыся. Такі ж лёс напаткаў і акрываўленага вікара Зайкоўскага...

Упаў, абезгалоўлены, і мой татка. У мяне пацямнела ў вачах, усё пачало перакульвацца, і я адчула, што вось-вось правалюся ў небыццё.

– Татка, татулечка! – крычу што ёсць сілы, але голас у мяне прапаў – нават і прашаптаць слова не магу, прасіпела невыразнае штосьці... Усярэдзіне ўсё здранцвела.

Вочы мае выразна бачылі, што вытвараў расейскі антыхрыст у Божым храме. Але мой дзіцячы розум адмаўляўся што-небудзь асэнсаваць і ўспрыняць убачанае. То было ўсё супраць логікі. Супраць чалавечнасці і Бога...

Усіх, хто быў у храме, цар і яго афіцэры пасеклі, як капусту. Цар няйначай звар’яцеў – сек усё, што пападала пад руку. Потым ужо, як стаміўся, асунуўся на лаўку. Загадаў тут жа спаліць пяцярых нябожчыкаў, а попел развеяць над Дзвіной.

– Для того, чтобы это место никогда не было местом поклонения! – растлумачыў цар. Ён цяжка дыхаў – значыць, цяжкая была праца адбіраць чалавечыя душы.

Дзе ты, Божа? Дзе ты, заступніца нашая, святая Еўфрасіння? Паглядзіце, што ў святым храме робіцца! Чаму дазволілі вылюдкам утварыць такое? Ці пакарае іх хто за тое? Сведкі таму злачынству былі. Я і ёсць першая сведка: праз мае вочы будучыя пакаленні павінны ведаць пра гэткі жах, гэткае крывавае злачынства. Нездарма ж, мусіць, мяне паслаў нехта ўбачыць праявы антыхрыста...

Меншыкаву ж крывавы дыктатар загадаў:

– Забрать всё – книги, иконы, золотые кресты и всяческую церковную утварь... и мы приумножим богатства России!

Як толькі яны пераступілі парог і выйшлі на вуліцу, я, мусіць, самлела. Пад грудзі падкаціўся даўкі камяк, закружылася галава. Нават не паспела заплакаць. Я праваліліся некуды ў бяздонне, дрыжучы ўсім целам. Не магла набраць на поўныя грудзі паветра, каб выдыхнуць з лёгкіх боль, каб хоць якнебудзь аблегчыць свае пакуты...

Мяне разбудзілі галасы.

Едкі дым выядаў вочы. Унізе ўжо маскавіты цягалі і цягалі дарагі скарб да павозак. Насілі кнігі, шытыя золатам і срэбрам рызы, скіпетры, аздобленыя дарагімі камянямі крыжы. Здзіралі баграмі са сцен іконы святых. Усё складвалі ў куфэркі і неслі да вазоў. Яны ўжо даверху былі набітыя царкоўным багаццем. Павозак было некалькі дзясяткаў... Крычалі, смяяліся, мацюкаліся, хадзілі і не зважалі на слізкую кроў; мачыліся і спраўлялі патрэбу тут жа, у храме... Ні сораму, ні павагі да Бога. Няўжо антыхрысты? Няўжо на іх няма крыжа? Пэўна ж, няма, калі такое ўтварылі.

Праклён табе шлю, маскоўскі самадзержац Пётра Першы! За бацьку свайго. За той сорам, што ты наслаў на Сафійку і на народ Полаччыны!

Праклён табе ад усяго княства Полацкага! Анафема! Гэткі сорам табе, расейская дзяржава, трымаць не адно стагоддзе. То будзе табе кара Божая! Анафема табе, анафема! Я была як нежывая – як спаралушавала ўсю мяне. Не слухаліся ні рукі, ні ногі. Нават пальцам не магла паварушыць. А слёзы яшчэ так і не прарваліся, не аблягчылі боль. Ён тупой стрэмкай упіўся ў маё сэрца...

Татачка, харошы мой татка! Вось чаму цябе прыгнятала цяжкое прадчуванне! Ты ўжо колькі дзён ведаў, што жыць табе заставалася зусім мала... І таму як сведку смерці сваёй узяў мяне з сабою ў храм. Сведку не толькі сваёй смерці, а і Сафійкі – ад крыважэрнага маскоўскага забойцы... Я і праз

стагоддзі, колькі і будзе жыць мая душа, кожны раз засведчу тое, што бачыла на свае вочы. Засведчу, як па калені ў крыві хадзіў ён, расейскі цар, адчуваючы сваю беспакаранасць. Анафема табе, анафема!

Толькі пад вечар спусцілася ўніз. Забегла ў каморку, хацела забраць торбачку, што прынёс раніцай бацька. Не знайшла яе там. Нечакана пачула стогн. Агледзелася. На падлозе варушылася рыззё. Пад ім нехта хаваўся. Адкінула ашмоцце і ўбачыла скрываўленага Язэпа Анкудовіча. Ён адзін і выратаваўся ад каранаванага ката і яго вылюдкаў...

– Я прытварыўся, дачушка, забітым, а потым адпоўз сюды... – плакаў святар, размазваючы кроў і слёзы па твары. – Божа літасцівы, што робіцца на белым свеце... Азіяцкі тыран, а не цывілізаваны манарх, выбач мне, Гасподзь, за грахі мае... Пакліч, Парасачка, каго з дарослых, у мяне кішкі з жывата выпаўзлі... Табе няможна глядзець такое...

Анкудовіча ўратавалі.

Глыбокай ноччу дабралася я да сваёй хаты. Да былой хаты. Яна дагарала на маіх вачах, а мамка, скрываўленая, ляжала на градах і ледзьве дыхала, не адчувала холаду мёрзлай зямлі...

І тут гора. Усюды – гора. Па ўсім княстве – вялікае гора і няшчасце...

...Нас звязалі вяроўчынамі і пагналі, як быдла, да астатніх людзей, што тоўпіліся і сядзелі на выгане.

Царскія грэнадзёры вязалі нас, білі палкамі, як валоў, якія не слухаліся. Яны і лічылі нас, палачанаў, за быдла, а не за людзей. Бо дзе ж гэта, у якой іншай дзяржаве абыходзіліся так з мірнымі паланёнымі, з родам чалавечым?! Мо таму і самі захопнікі выглядалі не інакш як звяры. Горш, мусіць, за звяроў...

Нас багата. Нас – шмат. Нас столькі, што здавалася, усё княства сагналі ў гэты паднявольны гурт, зрабіўшы з нас рабоў. Стогне ад пажараў мая зямля. Стогнуць ад болю і здзекаў людзі, прывязаныя адно да аднаго царскімі вяроўчынамі – расейскія грэнадзёры як не для кожнага ліцвіна нарыхтавалі іх...

Спачатку знепрытомнела маці, а потым і я... Мяне нехта падтрымаў, не даў упасці, а мо і пранёс, высільваючыся з апошняга, з якой паўвярсты. Потым даў пажаваць скарыначку хлеба... Смаку не адчула, як не адчувала ўжо болю ў руках і нагах... Напачатку зрабілася холадна, бо пасціраліся мае пасталы і я ўжо амаль босымі нагамі краналася ўмёрзлай зямлі... І тут да маёй свядомасці даляцеў нечы голас – ці то браточка майго, ці то суджанага, не ведаю. Папытаўся, дзе я і што са мной. Янінкай чамусьці назваў. А я ж Парасачка...

Адказала, што ў палоне – вядуць у маскоўскае рабства. Далёкі нейкі голас чуўся. Трывога была за мяне. Але памагчы мне не выпадала – як тое можна было зрабіць? Мы далёка адышліся ад родных мясцінаў. Усе ведалі, што ніхто з нас ужо болей не вернецца дадому, не ўбачыць мілых і родных краявідаў, роднай Полаччыны...

Зноў спыніліся на спачынак. Пападалі адразу там, дзе хто стаяў. Ногі ўжо не трывалі. Тады ж і прыскакалі да нас царскія вершнікі. Спыніліся, агледзелі, колькі нас засталося. Не злазячы з коней, абвясціў адзін з іх зычным голасам:

– Слушайте все царский указ – мемориал Петра Первого, императора всероссийского! Дабы вы все не усомнились в доброте и милосердии Богом посланного великого российского государя Петра Великого...

Мы маўчалі. Усцешвала хіба невялікая перадышка. Льга было прымружыць вочы, хоць трошкі адпачыць.

Гучны і пранізлівы голас на чужой мове абвяшчаў:

– “...Униатские духовные непрестанно с неприятели шведы и сапежницы имеют тайную корреспонденцию и опасные намерения противу войск царского величества. Однако ж его царское величество, уничижая те их злобы и снося великодушием своим, никакой противности им учинить не повелевал. Не последи, егда случилось его величеству итти мимо их костела и желая видеть их церемонии, пошел с несколькими знатными особами двора своего, когда помянутые злочестивые не токмо его величества с подобающею честью не приняли, но наипаче со всяким безчестием... Еже царское величество, однако ж, по благоутробию своему снес и пришед к некоторому ту паче прочих украшенному образу, вопрошал их: “Чей то образ?” Но сии злочестивцы ругательно отвещали, что сей образ священномученика их Иосафата, которого-де ваши единоверцы еретики и богоотступники и мучители, как и вы, убили. За которую мерзкую хулу возъярившися, повелел его царское величество при себе тогда обретающимся людям оных хульников и уличенных изменников взять и принесть за арест для осуждения, изшед сам вон от сих богомерзких...

Но оные... видя наших малолюдство, начали сим его царского величества людям противиться и кричать о помощи, так что еще иные к ним из их причету на монастыре со оружием приставили, хотя их отбить, и в том сопротивлении некоторых из его царского величества людей ранили... за что оные, озлоблясь, начали сами сих злодеев не щадя рубить, так что четыре из них, против воли царского величества, смертельно ранены и померли, избавя себя по отчуждению от достойной смертной безчестной казни...

Сие есть тако истинное возвещение того случая, еже всякому по известию служит, дабы клеветники того, ко вреду его царского величества высокой справедливости и приятственных к Речи Посполитой поступков, не могли инако разглосити...”

Я ж ведала цану гэтым словам. Кожнае слова – хлусня!

Працверазеўшы, мусіць жа, раніцай, забойца святароў задумаўся, зразумеў, што ўтварыў, вось і напісаў той мемарыял. Каб апраўдацца ў вачах нашчадкаў? Не, памыляўся ён надта, злачынства нельга схаваць ні за якімі хлуслівымі радкамі. Як і не схаваюць грэнадзёры цара таго, што ў Менску абчысцілі жаночы вуніяцкі манастыр Святой Тройцы, шукалі спажывы – золата. Пасля таго – Святадухаўскую царкву на Высокім рынку, а храмы, а кляштары? То рабілі ўсё крывавыя рукі царскай арміі.

А злачынствы царскіх казакаў і калмыкаў? Здабычы падалося ім мала, і пачалі яны рабаваць цэрквы аднаверцаў. Менскае брацтва кінула кліч: “Да зброі!..” І тады ж адбылася крывавая бітва на Нямізе... Вынікі той Паўночнай вайны трагічныя: з двух мільёнаў ліцвінаў (беларусаў) засталося... дзевяцьсот тысяч... Супакой, Божа, душы невінаватых, закатаваных грэнадзёрамі Пятра Крывавага!

Да мяне словы царскіх пасланцоў даляталі як з-пад зямлі. На сваім целе я адчула ласку і пяшчоту царскай міласэрнасці. Перад вачыма ўсё жыццё будзе стаяць відовішча ў Сафійцы і па калені ў крыві расейскі самадзержац. А, адумаўся! Датумкаў, дайшло да яго розуму, што супраць Бога ўтварыў яго меч? Цяпер свой грэх і злачынства хлуснёй прыкрыць хоча? Спадзяецца, што яго мемарыял увойдзе ў гісторыю і будуць праз сотні гадоў ламаць гісторыкі галаву – чаму ж гэта такі супярэчлівы ўказ цар выдаў? Са страху? Пра нас жа, смердаў, людзей зямлі, карміцеляў, у летапісах і не ўспомняць. Летапісцаў у шараговага люду ніколі не было...

Але мы – не мёртвая гісторыя. Мы – не безжыццёвы радок у ёй...

І ўсё ж мы не нямыя цяпер, а жывыя з жывых сведкі. І на Вялікім судзе ў судны дзень сведчыць будзем пра тое, што бачылі. Таму і абвінавачваем сваіх ворагаў і таго, хто выдаваў “высочайшие указы и мемориалы” аб нашым зняволенні.

Царская армада, ідучы на Полацак, вынішчыла дарогай усе паселішчы, папаліла і ў палон пагнала тысячы і тысячы ліцвінаў... Потым жа, вяртаючыся на Масковію, зусім ужо іншай дарогай, набіўшы з коптурам вазы і павозкі нарабаваным багаццем, зноў палілі, забівалі, рабавалі, гвалтавалі дзяўчат і іх мацярок...

Такога здзеку даўно ўжо не ведалі людзі Вялікага Княства! Ды мо і не было такога і зусім ніколі...

Мы зноў пакрысе рухаемся наперад. Сунемся, як здані, як нежывыя, і невядома, што нам дае яшчэ сілы, каб перастаўляць ногі. Усе падаюць на ўмёрзлую зямлю, у камяністую храпу, каб адпачыць. Але пасля гэтага падымаецца ўсё меней і меней люду... Я ўжо даўно не бачу сваёй матулі. Не памятаю, дзе і калі яна загінула ў гэтым пекле...

Дзе ж ты, Магутны Валадар, чаму адвярнуўся ад нас? Чым угнявілі Цябе, што дазволіў чужынцам так здзекавацца з нас?! З усёй нашай вялікай грамады засталася невялічкая купка людзей. Мы і не людзі, можа, бо не падобны ні на адну жывую істоту на зямлі. Мы – ніхто. Мы – міраж. Мы – здані і смерць... Завіруха шпурляла ў нас снежныя крупы–і льдзінкі, секла даўно абмарожаныя твары, якія ўжо нічога не адчувалі, не рэагавалі ні на што. Не ўсе, вядома, дойдуць з нас да той далёкай і ненавіснай Масквы, каб стаць там прыгоннымі і рабамі. Колькі таленавітых майстроў і дойлідаў аддадуць свой Божы талент чужынцам, будуючы, узводзячы той горад!

Колькі таленавітых дойлідаў, мастакоў, паэтаў, друкароў загінула па той дарозе ў маскоўскае рабства! Таму хай не здзіўляюцца нашчадкі ліцвінаў, калі праз шмат стагоддзяў, наведваючы гэты горад, у вас шчымліва зойдзецца сэрца і ўздрыгне ад незразумелага болю. То вас прашчур пазнаў і перадае праз вас прывітанне сваёй зямельцы. Далёкі прадзед ваш ці прабабуля... Адкажыце ім нізкім паклонам, прачытайце, калі ўмееце, малітву! Вы аблегчыце ім боль і пакладзяце бальзам на іх душэўныя раны...

Тады яны абавязкова крыкнуць вам услед: “Родныя мае! Землякі! Ніколі не забывайцеся на далёкае мінулае! Ні-коо-лі! Чуеце, ніколі! Бо вялікі грэх возьмеце на сваю душу!..”

У мяне сціскалася сэрца і разрывалася ад таго, што я бачыў, што адчуваў і перажываў. Я стаяў побач, клікаў Парасачку, але яна не заўважала мяне, глядзела няўцямна некуды наперад... Яна ўжо была не падобнай на чалавека – змарнелая, адзенне абарвалася і спаўзло з цела. Дзяўчына была амаль голая і босая... Здаецца, на маіх вачах выступілі слёзы, і я выдаўжыў руку, каб націснуць на кнопачку, каб спыніць і яе, і свае пакуты...

Але мяне апярэдзіла рука Яніны.

У пакоі зноў стала светла. Але я не расплюшчваў вачэй: быў яшчэ пад уражаннем убачанага і перажытага.

– Божа, як гэта страшна! Янінка, каханая мая, як ты толькі ўсё тое і вытрымала?! Але я хачу дагледзець усё тое да канца, як бы цяжка ні было тое ўспрымаць...

Яніна акруглiла вочы, як азёры, спалохана запярэчыла:

– Не-не-не!.. Ні ў якім разе! Не трэба, Антон, вельмі прашу! Ну, нельга... Мо калі пазней…

– Ты там... на той дарозе... памерла?

– Не, я дайшла да Масквы. Але ў тым і была мая трагедыя. Прашу, не пытайся ў мяне ніколі пра тое падарожжа. Паабяцай!

Маё маўчанне задоўжылася. Ніяк не мог асэнсаваць яе словы. Даўмецца не мог – чаму так не жадае Яніна, каб я ведаў усё да канца? Чаго асцерагаецца?

Альшанская стаяла ў мяне ззаду, паклала рукі на маю галаву – забірала ад мяне трывогу. Ахоўвала і аберагала мяне ад таго, што магло зашкодзіць нам, нашым адносінам. І я зразумеў, што яна баялася, каб у мяне нічога не з’явілася прыкрага ад убачанага пра яе. Во дурніца, хіба ж я нічога не разумею? Ці яна баялася, што шкадаванне пераможа пачуццё кахання?! На маё пытанне яна не адказала нічога. Ледзь-ледзь, чуваць было, кончыкі пальцаў вылучалі трывожныя біятокі.

– Прашу, Янінка, не хвалюйся – у сузор’і Кахання ніводная зорка не пагасне. Што б ні здарылася. Мы ж з табою – суцэльны Сусвет. А ён не раздвойваецца.

Яніна нахілілася і пацалавала мяне – у шыю. Але цяпер ужо яе праціналі дрыжыкі, як быццам стаяла ўсё яшчэ на тым марозе, і халодныя вяроўкі ўпіваліся ў зняможанае цела дзяўчынкі. Я ўстаў, павярнуўся да яе, прыхінуў да сябе, сціснуў да хрусту ў суставах. І трымаў да тае пары, пакуль не адчуў, што яна сцішылася, што па сасудах пачала пераліваецца кроў спакойна, рытмічнымі штуршкамі. На шчоках выступіла слабая чырвань...

Цяпер я быў спакойны за яе. Яна была той, ранейшай, блізкай і жаданай, вясёлай і зямной. Хваробу Яніны я ведаў. Быў упэўнены, што магу лёгка вылечыць яе. Па штуршках сэрца адчуваў. Па дыханні.

– Дзякую, мой рыцар, – прашаптала стомлена, – цяпер я зноўку нарадзілася. Сама не ведаю, што адбылося са мною.

“Божачка, што робіць са мною каханне! Я ж так баялася страціць цябе...”

“Калі толькі гэта, то дарэмныя твае перажыванні... Я ж побач, я ж заўсёды з табой...”

Мы вярнуліся зноў у яе пакой. Яна легла на ложак. Прымружыла вейкі. Мая рука дакранулася да цёплага ілба, і яна прыціснула яе яшчэ мацней. Ад мяне ў яе істоту пераліваліся дужасць і жыццядайнасць. Дыханне рабілася больш спакойным і ціхім. Жанчына правалілася ў сон. Зноў адправіў яе на росныя палескія лугі, дзе пах атавы адганяў трывогу і даваў спакой.

А сам сеў у прасторнае і мяккае крэсла-канапу, адкінуў да цёплага аксаміту галаву. Не скора да мяне прыйшла лёгкасць і супакаенне – перад вачы-

ма стаялі, павязаныя вяроўчынамі, людзі. І сярод іх тая дзяўчынка, у якую перасялілася душа Яніны... У такое падарожжа неўзабаве адпраўлюся і я. Толькі якое стагоддзе выбраць? Які час?

Паглядзеў на Яніну – цяпер ёй патрэбен толькі спакой. Спаць яна будзе некалькі сутак – нервовая перагрузка так лёгка і хутка не праходзіць. Яніна лячылася сном. Маёй прысутнасцю. Нашым каханнем. Мяне зноў апёк напамінак – я ж зусім забыўся пра працу на зямлі! Пра Змітрака забыўся! Я зірнуў на сонную Яніну – твар спакойны, ледзь-ледзь адкрыты рот, роўнае дыханне. Цяпер яе доўга не будзе нішто трывожыць. Тым часам мне ўдасца ўладзіць свае пытанні. Мне не трэба яе папярэджваць, яна і сама здагадаецца, куды падаўся.

Лёг на дыван, выдаўжыў рукі па баках – уздоўж цела, прашаптаў затоена нашае чароўнае слова:

– Ахутавана! Ахутавана!

Цененька закалола ў скроні. Пасля адчуў бязважкасць. Перахапіла дыханне. Мяне нехта падхапіў дужымі рукамі, падняў, а потым апусціў на брызент нашай раскладушкі.

Доўга не расплюшчваў вачэй – прыходзіў у належны стан.

Адразу ж пачуўся знаёмы пах – адкрытая бляшанка кількі ў тамаце, якую паспелі паспытаць мышы, патыхала аднекуль бензінам – з вуліцы? І смурод са сметніцы даносіўся, знаходзілася яна з тыльнага боку нашай прыёмні. Да пачатку працы заставалася каля гадзіны. Можна было б яшчэ і падрамаць трошкі, расслабіцца – я ж таксама стаміўся. Але за паўгадзіны раней прыехаў Рыгор Шамоцька – прывёз тару. Ледзьве разбудзіў мяне, грукаючы ў дзверы, здзіўляўся, скалячы жоўтыя пракураныя зубы:

– А дзе ж напарнік? Памагаць табе не буду – радыкуліт, каб на яго трасца, скруціў. Мо яшчэ і на бальнічны прыйдзецца ісці. Так што прабачай...

– Ды няма Змiцера. У паліклініку ўчора пайшоў і не вярнуўся, – праціраю кулаком вочы, ледзьве ўцямліваю, што ён ад мяне хоча.

Бягу да крана, спалоскваю твар халоднай вадой. Астатні марафет наваду ў абед.

– Мо і захварэў Змітрок. А ты не хвалюйся, я і сам усё панашу – колькі там тых скрынак, на паўгадзіны клопату...

– Ну, давай, давай, – хмыкнуў Рыгор, сцепануў плечуком, недаверліва зіркануў на мяне, калываючыся, пайшоў да машыны – адкрываць барты.

“Браць ці не браць у яго хабар? – пакутаваў ён пытаннем. – З Дзімам было ўсё зразумела – прыходжу, сядаю ў кабіну, а на сядзенні ляжаць купюры ў канверціку... Люба-дорага... А гэты нейкі хмурына. Што ў яго наўме, адзін хрэн ведае...”

“Не перажывай, дам табе ў лапу...” – хацелася мне сказаць уголас, супакоіць чалавека.

Ну, што, пара ўключацца на пятую хуткасць? За Змітрака і за сябе. Трымайся, браце! Палундра!!! Дзе мая маладая сіла? Дзе мой гонар? Наперад, спадар Клімовіч, не падвядзі працоўны калектыў і памочніка, які шмат праліў поту за цябе на гэтай падлозе...

Перш-наперш выгрузіў тару. Ссунуў на край і бегаў з шалёнай хуткасцю туд-сюд, несучы ажно пяць скрынак. Назад – зноў ухапіў столькі, але з бутэлькамі. Хвілін пятнаццаць мне хапіла, каб справіцца з усім.

– Ну ты і даеш, малато-ооок! – пакруціў здзіўлена галавой Рыгор, не могучы даўмецца, як я змог так хутка разгрузіць і загрузіць машыну. – Аўтамат ты, а не чалавек... Ад Зміцера, мусіць, навучыўся?

– Не ад цябе ж – тое і казе панятна! А барты ўжо закрывай сам, не ўмею тое рабіць, – прамовіў я на поўным сур’ёзе і не ўсміхнуўся нават.

Пакуль ён закрываў борт, я кінуў на сядзенне канверцік – няхай дзеліцца са сваім начальствам.

Да абеду, такім чынам, не разагнуў спіны – прымаў шклатару. Прымаў, а ўсё пра напарніка думаў, хваляваўся. Не выходзіў з галавы – перажываў надта за яго. Мне без цяжкасцей можна было даведацца пра стан, калі скіраваў бы думкі і энергію на Зміцера. Але з ім рабіць такога не хацелася, не меў маральнага права: яго нараджэнне павінна праходзіць натуральна і без касмічнага ўмешвання.

У абед пагаліўся, памыўся. Бо апошняя жанчына, што прынесла посуд, настаўніца-пенсіянерка, была парторгам у школе, праведніца, падумала пра мяне: “Як гэны апусціўся хлапец! Ужо і галіцца лянуецца – спіўся зусім. А яшчэ такі малады. І адкуль у нашай Айчыне лад будзе? Такія морды штодня бачыць! Жах! Дзе, на чым можа спыніць свой позірк інтэлігентны чалавек? Брыдота вакол, брыдота...”

Але ж гаварыла са мной ветліва, нават “дзякуй” сказала і “да пабачэння”. Культурная. Так што не ўсё і кепска ў нашай дзяржаве-каралеўстве!

Пасля абеду пайшло лягчэй. Меней з’явілася чамусьці народу. Адзін дзівак прывёз на машыне пяць мяхоў пляшак з-пад піва. Дык я яму паставіў скрынкі, сказаў, каб сам іх і ставіў – без маёй праверкі. Яму тыя пляшкі ні ішлі ні ехалі. То з брыгады будаўнікоў яго адкамандзіравалі – напілі столькі за месяц. Кінулі жэрабя – і яму выпала здаваць. Ён жа на тыя грошы зноў піва накупляе і адвязе на будоўлю.

Пад канец працы, як на тое, збегліся людзі, здавалася, з усяго горада. І смеласці не хапіла закрыць кантору, і сіл ужо не было маіх складваць тыя скрынкі...

Сядзеў, лічыў, а здатчыкі самі і ставілі ў скрынкі. Радыя былі, дзякавалі, што памог пазбавіцца ад непатрэбнага посуду.

– Скажыце, каб за вамі больш не займалі чаргі, прымаць болей не буду, – папрасіў сівога дзядка, што стаяў з сеткай бутэлек, – ужо і так гадзіну лішнюю прымаю – і я ж чалавек, і я адпачыць хачу...

Я ўжо гатоў быў падключыць касмічную энергію, каб аблегчыць сваю долю. Апошнія рухі рабіў як у сне... І ў рэшце рэшт замкнуў дзверы. Напрацаваўся, як дурны мыла наеўся. Не ведаю чаму, але ад гэтага працоўнага дня атрымаў незразумелае задавальненне. Ляжаў, з прыемнасцю выдаўжыўшы ногі, на раскладушцы. Думаў пра рознае. Пра кепскае і добрае.

"А зерне, якое ўпала на добрую зямлю, гэта тое, якое, пачуўшы Слова, захоўвае яго ў добрым і чыстым сэрцы і прыносіць плод у цярпенні. Сказаўшы тое, Ён усклікнуў: "Хто мае вушы чуць, хай пачуе!" Ніхто, запаліўшы свечку, не накрывае яе сасудам ці ставіць пад ложак, а ставіць на падсвечнік, каб тыя, хто зойдзе, убачылі святло. Таму што няма нічога тайнага, што не зрабілася б яўным, ні патаемнага, што не зрабілася б вядомым і не праявілася б.." Як правільна пра ўсё сказаў святы Лукаш!

Мы маем вушы і вочы, душу і сэрца і павінны тайну мінулага ператварыць у вядомае і адкрытае для ўсіх. Павінны і абавязаны. Тое пацвердзілася мне тут, як ні дзіўна, сярод пустых пляшак і слоікаў, якія нагадалі мне пра пустэчу нашых душаў...

...Нядзелька – законны выхадны. І распарадзіцца гэтым днём я мог па сваім жаданні. Павінна ўжо да гэтага часу прачнуцца і Яніна. Ці не спалохалася за маю адлучку? Не ведаў – чакаць яе ў пэпэша ці вяртацца да яе. Калі ж падключыўся да яе хвалі, душа маўчала і не падавала ніякіх трывожных сігналаў. Супакоілася? Каб тое так і было...

А як жа ўсё-ткі Змітрок Кісялёў? Мо пачакаць да заўтра і потым ужо ўзяцца за што-небудзь? Калі здаровы, то павінен паказацца тут. Але трывога за яго здароўе не пакідала мяне. Не вытрымаў, падключыўся да яго хвалі. Не адразу і пачуў яго. Змітрок плакаў. Клікаў мяне. Умольваў, каб пабачыўся з ім. Неадкладна. Звяртаўся да Бога, абяцаў паверыць у Яго, калі пакажуся яму на вочы. Знаходзіўся мой сябрук у лякарні. З паліклінікі і забрала яго !хуткая", і адразу ж завезлі дактары ў рэанімацыю – запаленне лёгкіх, цяжкая форма. Везлі амаль нежывога – не рэагаваў ні на што...

Зазваніў тэлефон. Званіла яна, Вераніка. Без майго ўдзелу і просьбы. Мусіць, наступіў той час і момант, калі ўсё павінна ісці па тым адным сцэнарыі, які ім падрыхтавала жыццё.

– Мне Дзімку, – трывожна і стоена папрасіла дзяўчына, забыўшыся нават павітацца.

– Вераніка? Добры дзень. Яго няма. Ён...

– Ой, даруйце, адкуль вы мяне ведаеце?

– Як добра, што ты пазваніла. Слухай мяне ўважліва. Змітрок чакае цябе. Яму вельмі цяжка ў гэтыя хвіліны. Толькі ты яму можаш памагчы. Толькі ты.

– Памагчы? У чым? Дзе ён, скажыце. Вы – Антон? – дзяўчына, здаецца, пачала плакаць і не хавала ўжо сваіх слёз.

– Так, я – Антон. А Зміцер, Вераніка, у лякарні. На пятым паверсе. У шостай палаце. Але пакуль у рэанімацыі. Заўтра ты прыйдзі да яго а сямнаццатай гадзіне – ён да гэтага часу будзе пераведзены ў палату.

– Што з ім? – сэрца ў дзяўчыны выскоквала з грудзей, ірвалася на волю.

– Ды на нашых скразняках застудзіўся, – стараўся гаварыць як мага спакайней, каб заглушыць трывогу дзяўчыны, – запаленне лёгкіх падхапіў... Не хвалюйся, усё будзе добра.

– Адкуль вы ведаеце? Хто вам сказаў?

– Доктар паведаміў. Я званіў паўгадзіны назад.

– Дзякуй, Антон! Вы мне памаглі вельмі. Ён шмат расказваў пра вас. Ён без вас не можа, як і без мяне. Вы ведаеце пра тое?

– Здагадваюся.

“Божачка! Памажы выжыць Дзімку, памажы!.. Я ведаю, здагадваюся, адчуваю, што ў яго нешта больш страшнае, але Антон не хоча гаварыць праўды, шкадуе мяне... Божа, як я вінаватая перад Змітраком, як заве яго Антон... Божа, уратуй яго!..”

Вераніка вымольвала ў Бога каханага. Праз боль і пакуты, праз недавер і рэўнасць, праз спадзяванне і роспач ішла насустрач яму, несучы свой нялёгкі крыж. І – верыла, што дойдзе. Перакананая была, што здабудзе сваё шчасце. Сэрцам тое адчувала.

Змітрок усё яшчэ быў беспрытомны. Калі дактары адышлі ад яго, глыбокай ноччу нішкам прайшоў у той рэанімацыйны пакойчык. Паклаў халодную далонь на гарачы лоб – забраў гарачку і боль, шапнуў на вуха, лечачы яго:

– Аху-ху-ху-тавана-ааа!..

Ён усміхнуўся, не расплюшчваючы вачэй, здзівіўся:

“Ты? Я верыў, што прыйдзеш. Бог цябе паслаў, бо я прасіў Яго пра тое. Святы Лукаш пра тое ж казаў: “Устань, ідзі! Вера твая выратавала цябе!” Вось і мая, Антон, вера ў цябе выратавала мяне...”

“Так, сапраўды – выратавала вера. І – Божае слова. Цяпер ты чуеш мяне, Змітрачок, мой добры сябручок?”

“А як жа, чую. Я і раней чуў цябе, ды не хацеў прызнавацца. Не разумеў напачатку, што такое са мной адбываецца. Баяўся чуць цябе, Вераніку... Мне думалася, што я звар’яцеў...”

“Ты стаў чалавекам. Стаў тым, кім і павінен быць. Ты быў таленавітым вучнем. Нам з табой неабходна зрабіць шмат добрых учынкаў. Калі ты таго жадаеш. Калі сваім жыццём і ўчынкамі жадаеш памагчы людству Княства...”

“Таго я вельмі хачу. Дзеля гэтага жыву...”

“Выбач, што натаміў цябе, таму знікаю. Калі трэба, пакліч. Пачую цябе ў любы час...”

“Дзякую. Ідзі...”

Сэрца Кісялёва білася ўжо роўна і спакойна.

Нада мною цэлы Сусвет. Нада мною – зоркі-пульсары, якія даносяць да людзей сваю моц і сілу, сілкуюць іх, умацоўваюць унутраную энергію. Дзесьці там, у неабсяжнай прасторы, засталася яна, Яніна. Не ведаю, у якім кірунку і сярод якога сузор’я знаходзілася яна цяпер, але адчуваў, што зрабіў балюча, нанёс ёй крыўду. Ад таго яна і пакутуе, застаўшыся на адзіноце. Мо таму і адключылася ад мяне і не пасылае мне ніводнага слова. Я не парушыў Запавет. Бо сказана ў “Дзеях”: “Вядомы Богу ад вечнасці ўсе справы яго”. Я ж не ўцякаў. Прыляцеў на Зямлю, каб ратаваць Змітрака. Мы ж закліканы тварыць дабро і памагаць спакутаванай душы насустрач. Няўжо ў душы жыло, не выветрылася пачуццё рэўнасці і крыўды?

– Янінка, дзе ты цяпер? Адгукніся, чаму маўчыш?

Ні слова ў адказ, ні ўздыху. Але праз колькі хвілінаў скрозь прастору часу пачуў ледзь улоўны стукат яе сэрца – слабенькі-слабенькі, кволенькі – вось-вось абарвецца... Яна ўжо нічога не магла сказаць, нават падумаць, пажадаць, а значыць, і пагукаць мяне... Магутны штуршок скалануў мяне, ударыў у левую грудзіну, рэзкі боль перакінуўся на патыліцу, у скроні. Так і ёсць – яна ў небяспецы! У вялікай бядзе! Ніхто, акрамя мяне, не мог прыйсці ёй на дапамогу... Забыўшыся на перасцярогу – папярэджвала, што нельга мне яшчэ рабіць частыя пералёты Ахутаваны, – рашыўся, плюнуў на небяспеку, падключыўся на пастаянна да Янінчынага сэрца... Хуценька лёг на раскладушку, зажмурыў вочы.

“І вось якую ўзнёсласць мы маем да Яго, што, калі папросім чаго па волі Яго, Ён слухае нас. А калі мы ведаем, што Ён слухае нас ва ўсім, чаго б мы ні папрасілі, – ведаем і тое, што атрымліваем тое, чаго просім у Яго. Я ж прашу аднаго: Божа, уратуй Яніну ад бяды, не адбірай у яе жыццё і маё каханне... Не адбірай. Бо страціць сэнс і маё жыццё, і маё існаванне. Тады Ты забярэш і маё жыццё”.

А цяпер – Ахутавана, Ахутавана, Ахутавана! Я напружыўся, сціснуў зубы.

Злёгку закружылася галава і тут жа перастала. Побач з сабою пачуў ледзь чутны стогн. Калі ж расплюшчыў вочы, убачыў каля сябе Яніну –

спакутаваную, амаль безжыццёвую. Паклаў даланю на лоб, але ёй не дапамог мой дотык. Яе пакідала абалонка жыцця. Была яна ружовага і белага колеру. Заставалася ўсяго толькі адна “пупавінка” – тоненькая нітачка, што трымалася за цемечка.

Баяўся вельмі – вось-вось абарвецца... Мне прыйшлося сабраць усю сваю энергію і волю, каб нарадзіць жаданне цуду. Пачаў чытаць самую моцную малітву... Вадзіў пры гэтым рукамі вакол галавы, ствараў магнітнае дадатнае поле, каб абалонка-аўра памкнулася назад, каб адчула прыцягненне... Яна ж спынілася і вісела на адным і тым жа месцы – як усё роўна раздумвала, што ёй рабіць далей... Стараўся не адпускаць яе, позіркам сіліўся вярнуць да Яніны, умольваў, упрошваў, адначасова і баючыся напалохаць сваёй настырнасцю, пакрыўдзіць неасцярожным словам ці думкай.

Адчуваў, як і самога пакідалі сілы, як слабела мая аўра, як пад скроні падкочвалася млявасць і пачыналі трэсціся ад слабасці рукі... Заставалася апошняе. Я зліўся з Янінай. Абняў, страсянуў, укрыўшы яе, як немаўля, сваёй абалонкай – як коўдрай... І ўскрыкнула яна. Здрыганулася ўсім целам, уздыхнула на поўныя грудзі. І тут жа на маіх вачах зліліся дзве аўры ў адну і зрабіліся аднолькавага колеру – зялёна-ружовага – абгарнула нас тугім панцырам, атуліла ад злога і пачварнага, што прычапілася да яе...

Альшанская прачнулася раніцай. Позняй раніцай.

Абняла мяне, вінавата заўсміхалася і тут жа зноў заснула. Спала і слухала, як б’ецца маё сэрца. Падладжваючыся пад маё, пачало біцца гэтак жа і яе – ужо роўна і сцішана. Адарваць ад мяне не магла ўжо ніякая сіла.

“А калі спазніўся б хоць на хвілінку?!”

Пякучая вінаватасць зноў авалодала мною.

“Ты, Божа, выратаваў каханую! Ты падштурхнуў мяне да дзеяння. Навучыў смеласці і ўменню. Я ўдзячны за Тваю міласэрнасць. Таму ўжо навучыўся нешта рабіць. Не толькі пералятаць з месца на месца, а і адказваць за чужое жыццё, за жыццё блізкага чалавека...”

З касмічнай прасторы даляцеў да мяне літасцівы голас, уздых згоды і падтрымкі...

– Што такое са мною адбылося? – пачуўся ціхі і слабы голас – як пасля цяжкай і доўгай хваробы.

Што адказаць ёй? Ці ў такім стане расказваць ёй праўду? Да яе вярталася зноў жыццё, яна толькі што пераступіла парог з небыцця.

– Даць чаго папіць?

– Прынясі. Звычайнай крынічнай вады з твайго мазырскага Палесся. Яна прыдасць мне сілы. А крынічку знойдзеш сам – яна недалёчка адсюль...

Вады прынёс у гліняным глечыку з вузкай гарлавінай. Наліў у такі ж гліняны кубак, амаль палову. Піла прагна, быццам мучыла яе смага цэлую вечнасць. З кожным глытком улівалася ў яе жыццёвая энергія, па венах расцякалася порстка кроў, і сэрца забілася рытмічна і спакойна. Потым зняможана ўпала на падушку. Глыбока ўздыхнула, заплюшчыла вочы. Слаба сціснула маю руку, як старалася ўтрымацца на гэтым свеце.

Нейкі час не гаварылі. Ды і нельга было ёй гаварыць. Нават думаць. З яе грудзей на волю вырваўся першы, як аблягчэнне, уздых. Потым другі, трэці...

– Чаго не паклікала адразу, як стала блага?

– Я клікала... Але голас мой так аслабеў, што не меў ужо моцы і, мусіць, не далятаў да цябе. Я чула цябе, але пра сябе не магла паведаміць...

– Тваё сэрца крычала аб дапамозе. Чаму ж тут ніхто не памог табе? Хіба ж не ведалі?

У адказ – маўчанне. Потым глыбокі ўздых. Вызваліла сваю руку, крутанулася ў ложку, – хруснулі суставы рук і ног.

– Ведалі. Але не маглі памагчы. Тое напаткала мяне там, у Полацкім княстве. Я не дазволіла табе дагледзець маё падарожжа да канца. Не хацела, каб ты тое ўбачыў. Баялася, што не так зразумееш. Бо там, напрыканцы, і здарылася тое страшнае і агіднае...

Не перабіваў, не хацеў, каб неасцярожнае слова напалохала яе.

– Нас адвялі ад родных мясцін далёка-далёка. Шмат загінула людзей на тых дарогах смерці. Гналі ў палон не толькі нас, а дзясяткі тысяч і іншых, дарослых і дзяцей нашага княства. На нейкай вярсце ўбачыла нечакана, што і ты ішоў, павязаны вяроўкамі, – памкнуўся ратаваць мяне, кінуўшыся, не разабраўшыся, што і да чаго, у гэты вір. У вір гульні і крывавай трагедыі. Думала, што на згубу сваю...

Мяне ўпадабаў царскі вершнік. У нейкім, ужо расейскім, пасяленні ён развязаў мяне і завёў у цёплую хату, каб сагрэлася. Напаіў цёплай вадой, накарміў. Думаў, што я абрадавалася яго ласцы... Трошкі счакаўшы, калі ачуняла, пачаў распранацца і распранаць мяне. Хаця што мне было распранацца – стаяла перад ім амаль голая, у нейкай мешкавіне… Убачыла, як ты збялеў, бачачы ўсё тое, як ты памкнуўся следам. Ведаю, калі б ты зайшоў у хату і ўбачыў усё, то забіў бы яго... Я ж не разумела нічога да тае пары, пакуль ён не занёс мяне на ложак... Каля галавы ён паклаў сваю вайсковую амуніцыю, і я ўбачыла рукаятку клінка. Тады ж убачыла і твае вочы, вочы маёй маці, Сафійку і крыважэрнага цара і... ухапіла той клінок. З усяе сілы пырнула ім у горла гвалтаўніку. Кроў пырснула мне ў твар... І цяпер памятаю пах тае крыві...

Палачанка Парасачка-Яніна плакала, закрыўшы твар рукамі. Яна выказала мне самае балючае, што непакоіла, хвалявала.

– Ты ж невінаватая. Ты ж абаранялася...

– Я здзейсніла непапраўны грэх. Бо адабрала чужое жыццё. Мне нельга было рабіць тое ні пры якіх абставінах, бо са мною нічога кепскага не магло і здарыцца... Вось тая душа, якую адабрала, і не адстае ад мяне, помсціць і ледзьве не забрала да сябе мой панцыр...

“Дык вось яно што...”

“Вінаватая я, Антон, яшчэ і як вінаватая...»

“Бог уклаў у твае рукі меч правасуддзя і пакараў замест цябе ворага. Ты ў чым вінаватая, Янінка? Нездарма ж Валадар Усемагутны вучыць нас: “Усё выпрабоўвайце, але трымайцеся добрага. Пазбягайце ад усялякага роду зла!” Ты думаеш, мусіць, пра гэтыя запаветы. Правільна. Але чаму ж не ўспомніш пасланне апостала Паўла да каласянаў: “І так знішчыце зямныя члены вашы: блуд, нечысціню, страсць, злую пажаднасць і любасцяжанне, якое ёсць ідаласлужэнне, за якія гнеў Божы ўпадзе на сыноў праціўлення...”

Не ведаў, чым можна было супакоіць жанчыну яшчэ. Страшнае ж мінула для яе і не вернецца, можа, больш ніколі.

– Цябе дакаралі за тое падчас справаздачы?

– Не. Але я адчула ўнутраны папрок сяброў Рады і князёўны Ліцвініі. Яна найбольш шкадавала мяне. Бо адна і працівілася таму, каб я адпраўлялася туды... Не паслухалася, дурніца, яе…

– Ды і не маглі яны цябе ні ў чым папракнуць. Чаму ж тады дапусцілі да такога? Ніводзін на свеце суд не можа абвінаваціць цябе. Нават Божы.

– А ты?

– І я не магу. Не маю такога права.

– Дзякуй табе, любы мой! Ты зняў цяжар з маёй душы.

– А ты зняла з маёй.

Яе даверлівы і цнатлівы позірк зазірнуў на самае донца маёй душы:

– Праўда? Не маніш?

– Навошта? Сама ж пра тое ведаеш. Мы ж здольныя лячыць і сябе, і адно аднаго ад любых хваробаў...

Твар жанчыны кранула стомленая ўсмешка. Яніна Альшанская, палачанка Парасачка і сведка крывавых падзей, нараджалася зноў. Зноў вярталася да жыцця, каб праз нейкі час адправіцца па загадзе свайго сэрца на пошукі ўкрадзеных старонак...

“Не схіляйся пад чужое ярмо з няверным, – вучыў святы апостал Павел у Другім пасланні карынфянам, – бо як жа можа ўжывацца праведнасць і беззаконне? Што агульнага ў святла з цемраю?” Так, сапраўды, чужое ярмо – цемра. А ліцвіны тое ярмо на сваім плячы і сваёй шыі паспыталі спаўна, і яшчэ

сляды крывяняць... Бог вучыць нас – у імя выратавання сваёй душы, сваёй Айчыны і трэба жыць.

Там жа, у апостала Паўла, прызнанне: “...Таму што сказана: у час спрыяльны Я пачуў цябе і ў дзень выратавання памог табе”. Вось цяпер і час спрыяльны, небам падораны час выратавання і выбаўлення з ярма няволі, з задушлівых абдымкаў магутнага суседа...

Княства маё роднае! Краіна мая магутная і гаротная! Колькі пакут вынесла, колькі вытрывала зняваг і болю, пагарды і здзекаў!

Колькі ліцвінаў прысвяціла сваё жыццё служэнню табе, не беручы нічога ўзамен! Не чакаючы ні падзякі, ні ўхвалы, не крыўдуючы, што сам застаўся невядомы, нябачны. І адзін быў кліч усім:

– Лепей смерць, чым няволя!

А што ў душах сённяшніх ліцвінаў? Калі прачнуцца? Як і чым памагчы ім выбавіцца з пачварнага сну?

– Паможам, Антон, – кажа Яніна. – І не толькі мы. З кожным днём прачынаецца ад летаргічнага сну ўсё больш і больш ліцвінаў...

І я шчыра верыў яе словам...

… Змітрака перавялі ў палату на трэція суткі.

Я прыйшоў да яго пад вечар. Кісялёў быў не адзін. Сядзелі каля яго Яён і Вераніка. На тумбачцы яблыкі і апельсіны.

– Здароў быў, Кісель! – прамовіў весела, вітаючыся з гасцямі, і далучыўся дарункамі да прынесенага. – А памерці табе не дадуць!

– Навошта ж паміраць? У нас яшчэ наперадзе – уга! – колькі спраў і клопатаў.

– Правільна, шмат. Так што доўга тут і не след залежвацца.

“Антон, – перайшоў на нашую хвалю Змітрок. – Скажы, прыгожая Віка, праўда?”

“Прыгожая. Надта. Званіла табе, ну я і накіраваў яе сюды...”

“Дзякую... Ведаю, што сама. І таму – рады”.

“І я таксама. За вас абаіх...”

Вераніка бачыла мяне ўпершыню, разглядвала з цікавасцю. Пэўна ж, другім я ёй уяўляўся. Маўчаў сур’ёзны мой двайнік, паклаў нагу за нагу, сашчапіўшы на каленях рукі. Абое ні пра што не думалі – пульсацыі энергіі ад іх не зыходзіла.

– Чаго ж замоўклі? Мо перашкодзіў вашай інтымнай размове? Дык я магу і пайсці! – разламаў я маўклівасць не надта жартоўным пытаннем, бо і сапраўды зайшоў неяк нечакана і выглядаў, пэўна, няйначай, як Піліп з канапель.

– Не, што вы... – успрыняла Вераніка ўсё сур’ёзна, заружавелася, папра-віла косы, весела зірканула на Змітрака. – Мы рады вашаму з’яўленню, і Дзіма казаў, што вы павінны падысці...

“А ён вясёлы, Дзімаў сябра, – пацяплела поле Веранікі, – такім яго і ўяў-ляла. Па тэлефоне толькі не вельмі ветліва з ім пагаварылі... Але ён зразу-мее мяне і даруе...”

“Бачыш, Антон, як прыхільна думае пра цябе... Спадабаўся ты ёй...”

“Файная дзяўчына. Не крыўдзі яе. У цябе апошні шанец”.

“Мне і Бог не дазволіць тое зрабіць...”

– А Яён рады? – паглядзеў на сябе, чакаю адказ.

– Як і ты. Нешта апошнім часам рэдка бачу цябе. Знікаеш некуды – ніхто і не ведае, куды.

– Ды праца такая – нацягаешся тых скрынак, дык потым спіш як мёртвы, без задніх ног... Зміцер вунь хай пацвердзіць, за мяне як не тыдзень пупок надрываў...

Сябар кіўнуў галавой:

– Пекла, а не праца. Таму і недаспадобы такі занятак Вераніцы.

Госця зноў чырванее, апускае галаву. Яе рука ляжыць на Змітраковай.

– То я раней гаварыла так. Цяпер – не.

“Праўду кажу, не хлушу... Дурніца была. Кніжак начыталася, прынца чакала. Цяпер я іншая. Цяпер зноў на свет нарадзілася... Дзякуючы табе, Змітрок... Як я кахаю цябе! Таму і не магу ўголас сказаць...”

“Чуеш, Кісель? Ёлупень ты гэтакі...”

“Чую, Антон, і яна цяпер, аказваецца, нас чуе... “І слова было ў Бога...”

Вераніка паглядала на нас і смяялася. Здзіўлена была свайму адкрыццю. Раней яна думак чужых не чытала.

Прыбывае людзей у нашай кагорце!

– Як там праца ідзе ў інстытуце? – звярнуўся да Яёна, каб перамяніць тэму размовы і выбавіць Вераніку з няёмкасці.

– Згодна з планам. Ужо вывучаем іншыя сусветы. Знаёмімся з іх цывілізацыяй, мовай і звычкамі. Шмат ёсць таленавітых студэнтаў. Пе-раконваюся, палешукі надта таленавіты народ. Але пакуль тэорыя, не ўсе яшчэ праніклісця цвёрдай верай у тое, чым ім належыць займацца...

– А ты раней сумняваўся ў іх таленце?

– Ды не. Але ўсе сродкі масавай інфармацыі далдонілі, што самі па сабе палешукі тупыя і бескультурныя. Што толькі пад уплывам дабрад-зеяў-акупантаў з іх “великим и могучим” ды яшчэ “направляющей и ру-ководящей»”мы можам сігануць да сапраўдных вяршыняў культуры і цы-вілізацыі.

– Добра, што разумееш, спадар Яён! Дзякую за тое. У мяне будуць сюрпрызы для тваіх студэнтаў. Цікавыя відэазапісы жыцця мінуўшчыны. Я папрашу, каб Касмічная Рада дазволіла іх паказаць... Каб навучэнцы адчулі і паверылі ў немагчымае. Вельмі цікавыя дакументы-сведкі. Іх шмат. Ёсць жудасная сцэна ўкрыжавання Ісуса Хрыста. Пасля яе прагляду чалавеку цяжка жыць на зямлі без веры. Ён разумее, які ён грэшны... Шмат старонак пра “нябесны агонь”, пра бессмяротнасць душы, як мяняецца з кожным годам час і прастора.

Расчыніліся дзверы, і на парозе з’явілася Яніна: у вязанай шапачцы, балоневая зялёная куртка ладна выдзяляла яе стан.

– Дзень добры ўсім! – павіталася з парога, на Змітраку позірк спыніла.

– Знаёмцеся: Яніна Альшанская, – назваў яе імя, абрадаваўся нечаканаму яе прыбыццю і яшчэ таму, што яна выглядала бадзёрай і вясёлай. – Даведалася пра Змітрака, прыйшла адведаць.

Села позаду мяне. Сабралася нас ніштаватая кампанія. Мы яшчэ пагаварылі нейкі час – пра ўсё і ні пра што, і Кісялёў позіркам папрасіў, каб пакінулі іх з Веранікай адных.

Трошкі счакаўшы, падняўся з табурэціка, сказаў:

– На гэтым, Змітрок, усё. Нам пара. Да сустрэчы. Папраўляйся.

Кісялёў неўпрыкмет міргануў мне. Падняўся і Яён, пацiснуў на развітанне руку хвораму. У вачах майго двайніка праглядвалася стома. І адначасова ўзнёсласць. Мо яшчэ і крыўда на мяне. За нетактоўнасць. Калі выйшлі на вуліцу, бралася ўжо на вечар. Шэрыя воблакі нізка кусціліся над зямлёю, схавалі святло раней часу. Павяваў слабы ветрык, трывожыў галіны дрэў.

– Каму куды?

– Мне ў другі бок, даруйце, – прамовіў Яён, пацiснуўшы мне руку, пасля Альшанскай. – Да сустрэчы на нашых арбітах.

– Бывай, Яён! Пра абяцанне памятаю. Чакаю выкліку.

І ён пашыбаваў асветленай ліхтарамі вуліцай, што вяла да прыпынку. Мой двайнік ніводнага разу не азірнуўся.

– Дык добры дзень, Янінка! Ты неяк раптоўна з’явілася. Як ты знайшла нас усіх?

Засмяялася, гледзячы на мяне, і я адчуў, як ёй цяпер хораша і лёгка.

– Ты ж штохвілінна клікаў мяне. Вось я і тут.

Прытуліў да сябе, стараўся сагрэць, бо і сапраўды на вуліцы ўжо было павечароваму золка.

– Цябе, спадар Антон, выклікаюць на пасяджэнне Касмічнай Рады. Ты павінен падрыхтавацца і прыбыць з гатовымі прапановамі. Час і месца дзеяння ты выбіраеш сам. Рада толькі дасць табе неабходныя рэкамендацыі.

– Калі неабходна з’явіцца?

– Як сам вырашыш, але скажаш загадзя.

– Зразумеў. Значыць, праз тыдзень. З панядзелка адпрацую за Змітрака, а потым зраблю два выхадныя. Такі расклад падыходзіць?

– Цудоўна.

– А ты ўжо выбраў час, у які адправішся?

– Выбраў.

Нясмела папыталася:

– А мяне з сабою возьмеш? Я вытрымаю... Буду табе памочніцай...

Рэзка адпрэчваць мне не хацелася (ці не досыць з яе таго, што перажыла?), таму адказаў няпэўна:

– А мо пакуль давай не будзем пра тое? Абмяркуем пасля.

– Хай будзе так, – уздыхнула мая спадарожніца. – А чым зоймемся цяпер?

– Давай сходзім у тэатр. Ставяць “Перамогу пад Ворша” – пра Кастуся Астрожскага. Яго перамога ўвайшла ў сусветныя аналагі вайсковага майстэрства і славы ліцвінаў.

– З радасцю пагляджу.

Узяла мяне пад руку. Праз колькі хвілін на сцэне ажылі героі, і сюжэт п’есы паглынуў нас, захапіў, зачараваў. Выдатны твор, цудоўныя акцёры і праўдзівы сюжэт! Як хораша, што ў нашай ліцвінскай гісторыі былі дні, якія множылі славу і гонар нашай дзяржавы.

Якія дабратворныя і жыццядайныя промні вылучала сцэна!

Мы бачылі, якой магутнай энергіяй сілкаваліся гледачы.

Вялікая сіла ў мастацтва і праўды!

...Я не прызнаўся Яніне Альшанскай, што для свайго падарожжа выбраў роднае Палессе – Тураўшчыну і Мазыршчыну...

Мяне даўно цікавіў з паляшуцкага жыцця адзін год – 1654-ы. Чаму менавіта гэты час? Бо пра падзеі таго года нідзе не змог прачытаць ні радка. Здзівіўся. Папытаўся ў пенсіянеркі-настаўніцы, што вяла ў нас гісторыю, хударлявай і строгай жанчыны, чаму такі прагалак у падручніку па гісторыі.

Яна зірнула на мяне праз шкельцы акуляраў і незадаволена адказала:

– Будзеш шмат ведаць, рана пастарэеш...

І добра, што так адказала. Яна толькі ўзмацніла маю цікавасць да таго перыяду, тым больш да сваіх родных мясцінаў. Не раз пасля той размовы думаў: ну няўжо маленькі лапік тураўска-мазырскай зямлі нічым не выдзяляўся на абсягах гісторыі, не адыгрываў ніякай ролі ў ліцвінскім Княстве? Ды быць жа такога не магло! Хавалі, значыць, ад нас праўду тыя, хто пісаў

для нас такі падручнік? Тады ж – чаму не праверыць, не пераканацца, калі ёсць такая магчымасць, што нешта ж тады адбывалася значнае, раз вырвалі тыя падзеі з нашай памяці. Мне трэ было на свае вочы пабачыць усё тое, не давяраючы нават даследчыкам і летапісцам...

І тады прамаўляю тое чароўнае Слова, якое ёсць Бог і якое дасць моц і ўдачу майму падарожжу ў невядомае:

– Аху-та-ва-на! Дай сілы, Валадар, вытрымаць выпрабаванне... І на крывавых дарогах нашага Княства нічога не прапусціць, убачыць сваім зрокам, зафіксаваць, засведчыць да драбніц!..

... Лес густы, непраходны, з пагрозлівым подыхам таямнічасці і магутнасці. Хаваў ён у сабе тайны тысячагадовай даўніны. Вакол нас – топкае балота, багна. Гіблыя мясціны. Сунецца туды чалавек, не ведаючы, – і згіне, прападзе ў бяздонных нетрысках... Звяры асцерагаюцца дрыгвы. За некалькі вёрстаў адчуваюць, што нельга сюды патыкацца. Аббягаюць далёка, задраўшы насцярожана пысы, каб не ўскочыць у мёртвую прорву...

Сярэдзіна лета. Нетрыскі патыхаюць вечнасцю і пагрозлівым спакоем. Патыхае багуном і хмелем. Да самае Прыпяці падступаюцца дубы. Ім па пяць-шэсць стагоддзяў. Шмат чаго чулі і бачылі на сваім вяку. Шмат чаго маглі расказаць. Але расказаць яны могуць толькі таму, хто іх чуе і разумее...

Шляхта і мяшчане пазбягалі ўсе ў лес. У балотах ды густых зарасніках хаваюцца ад лютага ворага. Яшчэ гады са два прыязджаў да нас ад вялікага князя Януша Радзівіла пасланец – шляхціц Дрынеўскі. Перадаваў ці то загад, ці то пажаданне, каб “купкаваліся, мацнелі духам і верай у сваю непахіснасць і моц”.

Не надалі значэння, не прыслухаліся да парад і прадказанняў. На тыя ж балоты паспадзяваліся, што хавалі не раз і да гэтага ад жорсткага ворага. Між сабой вялі размовы, супакойвалі адзін аднаго: “Не павінен прыйсці масковец і царскія ратнікі на нас – у багне загінуць...”

Аж яно іначай выйшла – дайшлі. Без перашкод амаль. Нехта ж падказаў, а мо і прымусілі каторага, прыгразіўшы на кол пасадзіць. Праз нашыя патаемныя сцежкі і дарогі прайшлі царскія коннікі і пешы збройны люд, больш магутны і большы.

“Божа, не адбяры ад мяне розум! Не заслані святло, пакінь сілу і моц! – на дзень па сотні разоў адбіваў паклоны Вышняму Валадару. Вымольваў у яго спагаду і любоў, Яго прыхільнасць і заступніцтва. – Злітуйся нада мною і даруй мне слепату і дурноцтва, а я буду Тваім верным рабом, адданым служкаю Тваёй Валадарнасці...”

Ці чуў мяне толькі Бог?

Не раз і не два дапінаў я да тураўскага падстаросты Хведара Ляўковіча – разумнага і дабрачага чалавека. Хведар некалі разам з бацькам маім меў гандлёвы хаўрус, таму да мяне ставіўся з павагай, калі не любоўю. Даваў чытаць рэдкія кнігі (я вельмі рупіўся да навукі, дзякуючы Божай ласцы і падтрымцы маіх бацькоў, якія мелі гонар быць шляхціцамі і мелі ладны надзел зямлі, быдла і дзесяцін колькі лесу з сажалкамі), вучыў жыццю, даючы парады ў маіх юначых памкненнях.

Частаваў мяне медавухай, а пад настрой любіў паразважаць пра жыццё ў Вялікім Княстве. І цяпер нашая сустрэча была цёплаю і радаснаю. Доўга мы сядзелі за вячэрнім сталом.

– Ласкі, сокал мой ясны, ад Масковіі нам чакаць не з рукі. Як і літасці ад іх. У траўні ў Маскве дзялілі тэрыторыю нашага Вялікага Княства Ліцвінскага. Паміж кім дзялілі? Паміж Масковіяй і Швецыяй. Чатыры разы перамервалі нашыя межы – то праз Слуцак мерыліся, то праз Нясвіж, а то і праз Менск... А потым Масква і цар яе наогул не пажадалі дзяліць.

– Гэта ж чаму, шаноўны падстароста Хведар? – адставіў я кубак з медавухаю – ударыла ў скроні: умеў ён рыхтаваць гэты напой, сакрэт ведаў нейкі, не ў кожнага такі і атрымліваўся.

Падстароста ўздыхнуў, расшпіліў шаўковую вішнёвую сарочку, пагладзіў акуратную ссівелую бараду, зірнуў на мяне, як дакараў усё роўна, што не ведаю такіх простых рэчаў.

– А таму, сокал мой ясны. Летась цар прапанаваў Швецыі разам выступіць супраць Рэчы Паспалітае, і багацце, што нарабуюць, вырашылі падзяліць пароўну. Але падтрымкі надзіва не знайшоў. Цяпер Аляксей Міхайлавіч тым шведскім паслам дулю з макам паказаў – упэўнены, што вайну і сам выйграе...

– А што ж Швецыя? – вельмі карцела даведацца, што ж думаў пра тое Хведар, – бо хто ж мог данесці да маіх юначых мазгоў тое разуменне – ніхто вакол за дзясяткі вёрстаў не мог пра тое ведаць так добра, як падстароста.

– Хм... Шведскі кароль Карл Густаў параіўся са сваімі дарадцамі, і ў сакавіку 1655 года рушылі на вайну з Рэччу Паспалітай. Зручнейшага моманту, скажу табе, сокал мой ясны, і прыдумаць было цяжка, які так спрыяў бы разгрому ненавіснага суперніка! Добрая ж магчымасць падгрэбці пад сябе ягоныя землі. А потым і Масква адумаецца... І ў чэрвені палявы маршалак Густаў Адольф Левенгаўпт рушыў на Дынабург. Роўна праз месяц на Вялікае Княства скіраваў свае сілы Магнус Дэлягардзі і скарыў Біржы. Шведы пайшлі на Польшчу – аж чатырнаццаць тысячаў, якія вёў палявы маршалак Вітэнберг. Каля трынаццаці тысяч жаўнераў вёў сам кароль. Артылерыяй

камандаваў Густаў Стэнбок. У сярэдзіне ліпеня Вітэнберг высадзіўся ў Памор'і, пад Вусцем, дзе непадалёк стаяла польскае рушанне. А раніцай яно здалося ў палон... А далей што – ідзі без перашкод, ніхто ўжо замінаць не будзе... Эхе-хе, жыццё нашае...

Падстароста замоўк. Паднёс да рота гліняны кубак з пітвом, глынуў колькі разоў, крактануў, выцер даланёй вусы. Няспешна прыкусіў вяндлінай, задумаўся. Пасля ўстаў з крэсла, падышоў да парэнчаў веранды, што выступала ад церама ў бок засмужанай Прыпяці, глядзеў удалячынь – як там усё роўна шукаў адказы на пытанні, што непакоілі яго...

Я падышоў бліжэй, стаў побач.

– Ты можаш запытацца, сокал мой ясны, а што ў такіх варунках заставалася рабіць Вялікаму Княству? – павярнуўся да мяне, не адрываючы рук ад парэнчаў. – Вайну ж трэба весці на два франты. З аднаго боку незлічоная царская арда. А з другога – вымуштраваныя шведскія ваяры. А сілы для супраціву такой няма, і ніхто не здолеў бы выстаяць, тое зразумела...

– Цяпер для мяне трошкі выяснілася, падстароста Хведар, чаму Януш Радзівіл, вялікі гетман, аддаў перавагу шведскай пратэкцыі перад маскоўскай тыраніяй.

– Так, сокал мой, так, тут ты правільна ўсё разумееш. Таму гэта быў адзіна правільны і мудры крок вялікага гетмана. Ды і сам ён тое разумеў лепш за ўсіх, бо пісаў свайму стрыечнаму брату Багуславу: "Іначай ратавацца не было спосабу..." Вось і было прынята ім афіцыйнае рашэнне – прыняць пратэктарат Швецыі ды прызнаць шведскага караля Карла X Густава вялікім князем Ліцвініі...

Загаварыліся, загалуніліся з Хведарам, не заўважылі, як надпрыпяцкае наваколле ахутала начная цемрадзь. Клаліся позна, пажадаўшы адзін аднаму добрага сну і Божай міласці...

Ранічкай, задоўга да ўсходу сонца, дабраславіў мяне падстароста ў далёкую дарогу, перахрысціў, прачытаўшы малітву, дадаў:

– То хай беражэ цябе Бог. Кланяйся нізка ротмістру Глябовічу, і няхай цябе абыдзе няшчасце ў няроўнай бітве. Даю табе аднаго з лепшых маіх коней, каб не спазніўся да месца службы.

– Дзякую шчыра, падстароста Хведар! Разлічуся, як прыеду. Я і так вам шмат вінен.

– Разлічыся сваім подзвігам. І няхай паможа табе Гасподзь!

Спраўна і лёгка нёс мяне конік. Скакаў да Ашмянаў я і дзень, і ноч, і зноў дзень. Сапраўды, быў ён з добрай кагорты – вынослівы, пруткі, слухаўся мяне, як кожны дзень быў са мною і ведаў мае звычкі...

На месцы быў пад наступную раніцу. Ротмістр Глябовіч – невысокага росту, чарнявы, рухавы, з вясёлымі вачыма, глядзеў на мяне – радаваўся бязмежна майму з’яўленню. Прыязна прыняў паклон ад падстаросты, падзякаваў. Распытаў яшчэ, як здароўе маіх бацькоў і малодшае сястры Ядвігі.

– Дзякаваць Богу, усё добра. Дакараць Бога ні ў чым не маем права. Тут як, цікава ведаць?

– Тут? – Глябовіч азірнуўся, быццам паказваў мне пазіцыі, кашлянуў у кулак. – Нашае войска рыхтуецца да бою з маскавітамі. А яны за Нёманам. Адтуль і чакаем нападу. Хутка пачнецца бой, шляхціц Антон Клімовіч! Нялёгкім ён будзе, ой нялёгкім! Але лепей смерць, чым маскоўскае ярмо. Гэта не мае словы, а ўсіх людзей – мяшчанаў і шляхты, што ў маім палку... Ну, што, сокал мой ясны, як любіць гаварыць Хведар, рыхтуй сваю харугву. Людзі падабраліся ў цябе смелыя, мужныя, вёрткія ў сечы, гатовыя памерці, але перамагчы захопнікаў. Ведаюць добра, што ад іх чакаць можна. І паможа няхай вам і нам Бог! Усё ў Яго ўладзе!

– Памажы, Божа!

Ротмістр, адчувалася, перажываў, хваляваўся. Ён як спрактыкаваны ваяр ведаў, што войска ў яго не адпавядала ўсім вайсковым патрабаванням. Прычына – у казне вялікага гетмана амаль не было грошай. Ды адкуль, калі ўжо на тое, было брацца тым грашам, калі гаспадарка краіны была ўшчэнт падарваная крывавай вайной?Палова дзяржавы акупавана ворагам. Зборы ў земскі скарб Княства, можна лічыць, не паступалі. Тым жа летам, як сказаў ротмістр, сабралі толькі дзвесце тысяч злотых – замест двух мільёнаў. Як жа тады наняць войска? А чым карміць, абуваць, забяспечваць амуніцыяй і зброяй?Мы не маглі нават перавезці з месца на месца некалькі сваіх гармат – артылерыя не магла ды і не мела для такіх мэтаў цяглавай сілы. Мы самі, прызнацца сорам, наймалі за плату бліжэйшых фурманаў...

Я растраціў амаль усе свае злотыя. Як, дарэчы, і ротмістр. Паспалітае рушанне страчвала сваю моц і сілу, хаця і яно было не вельмі вялікім. Як мне, адданаму шляхціцу, было ехаць да вялікага гетмана ў той час, калі крыважэрны і жорсткі захопнік, усё палячы і рушачы, быў каля нашых паселішчаў?

Соймікі яшчэ спрабавалі рабіць выгляд, што нешта прадпрымаюць, рупяцца. Прымалі нават нейкія рашэнні, каб сабраныя ў паветах і ваяводствах злотыя ішлі на харугвы – дзеля абароны іх жа саміх.

О, як радаваліся маскоўскія ваяводы таму становішчу, якое склалася – тады і накіраваўся цар і казакі Залатарэнкі на Менск... А пасля захопу Менска прамая дарога да сталіцы Вялікага Княства Ліцвінскага – Вільні...

На тым шляху стаялі мы – ваяры ротмістра Глябовіча.

Вялікі гетман прасіў ротмістра стрымаць націск, але і сам бачыў, што просіць немагчымага... І цяпер у вачах стаіць вобраз Януша Радзівіла – вочы вільготныя, і ён хавае іх ад ротмістра, абняўшы яго:

– Сыночкі, лепей ужо загінуць, чымся трапіць у ярмо маскавітаў. Адбіце ім ахвоту да нас совацца, вельмі прашу, пакарайце супастатаў...

– Добра, ваша мосць, пастараемся. Ведаем, за што ў бой ідзём – маскоўскі цар з нас рабоў зрабіць жадае.

– Во-во, рабоў... І адносяцца яны да людзей Княства як да быдла. Не людзі мы для іх, а прыгонныя. Не ліцвіны, а дадатак да Масковіі...

Вялікі гетман выпраміўся, потым сеў на жвавага каня і падаўся за ўзгорак, балюча перажываючы незайздроснае становішча – і войска, і сваё. Ніхто ў свеце не мог пазайздросціць яму ў гэты момант, ніхто...

Мы толькі зняліся з месца, каб заняць больш-менш лацвейшую пазіцыю, каб з узгорачка было нам усё выразна бачна – як на далоні. І трэба ж было тут такому здарыцца...

Мы ўжо рухаліся ўздоўж Нёмана, як на нас раптоўна з нейкім страшным і пагрозлівым гігіканнем з кустоў наляцелі казакі Залатарэнкі. Ляцелі яны з шалёнай хуткасцю. Цар Аляксей Міхайлавіч шчодра ўзнагародзіў Залатарэнку за перамогу над Радзівілам – аддаў яму Быхаўскае і Крычаўскае староствы, далучыў да яго рэшткі казакаў ліцвінскага палка Паклонскага. А наказному гетману выдаў грамату, каб ён мог набіраць сабе ліцвінаў з Магілёўскага ды Крычаўскага паветаў.

Пад ранішнім сонцам заблішчэлі клінкі ды мячы.

– Казакі! – крыкнуў я што было сілы, каб пачулі, каб звярнулі ўвагу, каб паспелі павярнуцца да ворага. – Займай абарону!

Ды было позна. Конніца казакаў урэзалася ў нашыя рады.

Мы біліся з апошніх сіл, высільваліся, але адчувалі, што перавага не на нашым баку. І тут нечакана я пазнаў яго, хахла Залатарэнку! Як ён імпэтна і ўзнёсла махаў мячом! Не згінаўся, сядзеў на кані прама, выпнуўшы грудзі наперад, як быццам яго не мог зачапіць ніводзін меч ліцвіна... Ён як здзекаваўся з іх... Я не адчуваў да яго ні варожасці, ні пагарды. Але было жаданне пакараць яго за такую пыху, правучыць. Падскакаў да яго, замахнуўся вострым палашом, але ён раптоўна, нават не азірнуўшыся, секануў мяне канцом мяча па плячы. Ён нават і не бачыў, каму нанёс удар...

Эх, ротмістр, ротмістр! Як я недаацэньваў цябе! Ты прымушаў апрануць мяне пад адзенне вязаную з дроту засцярогу, а я ўпарціўся, дурань, выхваляўся сваёй храбрасцю. Дзякуй табе, любы дружа, што абсмяяў мяне і амаль сілком прымусіў надзець тую апранаху. Ты ўбярог мяне ад смерці. Удар мяча зменшыўся, таму і не перасек жыццёва важную артэрыю...

Заліўся крывёю раптоўна. Зброя выпала з маіх рук. На маіх вачах пачала пераварочвацца зямля, а потым і зусім знікла ў тумане. Я страціў прытомнасць і не чуў, як асунуўся на зямлю, выпаўшы з сядла. Мяне абвалакло мроіва спакойнасці і жаданне спачыну. Пульхная багна, пах багуну, жывіцы і хмелю. Атрутная даўкасць лясной жывіцы пахіліла ў сон...

Разбудзіў мяне месяц. Зазірнуў цікаўна ў твар, бы рупіўся спытаць, ці не патрэбна мне помач. Доўга не мог зразумець, дзе знаходзіўся і чаго ляжаў на зямлі... Побач нехта застагнаў. Перамагаючы свой боль і галавакружэнне, падпоўз да такога ж няшчаснага, як і я. Паранены быў шляхціц Валенка-Марыніч. Нічым яму памагчы ўжо не мог – кішкі выпаўзлі на траву. Папрасіў, каб "пазбавіў яго жывата"... Ён аціх; праз колькі хвілін закрыў яму вочы, у якіх адбіваўся месяц.

Збольшага атрос з сябе нямогласць. Агледзеўся. На ўзгорку, пад высокімі соснамі, было шмат забітых. І нікога з жывых навокал. Усе паразбягаліся. Калі хто і быў жывы, то пастараўся знікнуць з гэтага страшнага месца. Вось яна, цана нашай бязладнасці, нашаму непаслухмянству абставінам. Цяпер што – шлях цару і яго ратнікам адкрыты. На яе, родную, на Вільню, адкрыты шлях... Даруй нам гэтую паразу, яснавяльможны Януш Радзівіл!

Даруй нам нашую ганьбу і сорам, Ліцвінія! Даруй, Божа!

А ці зможа ўжо цяпер зноў сабрацца паспалітае рушанне, адзін Валадар ведае. Хоць і пёк мяне сорам за нашую паразу, але зрабіць ужо нічога не мог, як бы ні хацеў, ні жадаў... Таму заставалася хіба адно – кіравацца дахаты. Да бацькоў. Ці хаця ёсць яшчэ яна, мая вёска, і ці стрэнуць мяне людзі? А можа, на мае вочы паўстануць перада мною папялішчы і чорныя каміны? А бацькі мо пасечаны царскімі воямі ды ўкраінскімі казакамі?

І запісаў у сваім пастаменце такія словы:

"Пад канец ліпеня цар асеў у Маладэчне. А праз колькі дзён перанёс сваю стаўку ў Смаргонь, ад якой да сталіцы – рукой падаць. Манарх лічыў сябе пераможцам. А як жа – патрыярх Нікан падбадзёрваў яго, дасылаючы лісты з Масквы, раіў настойліва не спыняцца на Вільні, а далей здабываць Варшаву, Кракаў і нават усю Польшчу... Апетыт у манарха і патрыярха бязмежны!

...Вільня! Мая прыгажуня, пекная Вільня! Якая ты магутная і слабая адначасова. Суперніца Масквы па прыгажосці. Ты чакала маўкліва свайго прысуду і не спадзявалася ўжо на міласэрнасць цара, як ягня, якое прынёс воўк у лес да свайго логава... Былі яшчэ апошнія высілкі – прыйшлі на дапамогу вершнікі ад Лідскага павета ды Ашмянскага. Па дзвесце гусараў ды казакаў!

Большая ж частка тэрыторыі была з-за акупацыі вызвалена ад земскай службы – Віцебскае ды Полацкае, Амсціслаўскае ваяводства, Варшанскі, Мазырскі ды Рэчыцкі, Старадубскі паветы – спрэс ды частка Браслаўскага. Заставалася яшчэ рушанне Берасцейшчыны... Але (Божа, уратуй нас!) баявы дух быў зломлены. Януш Радзівіл накіраваў шляхту Браслаўскага павета і жамойцкае і вількамірскае рушанні пад Браслаў, а лідчукоў ды ашмянцаў – да Смаргоні. Але, мне здаецца, сам не верыў вялікі гетман, што тое можа даць хаця б якія пэўныя вынікі".

У мяне разрывалася сэрца, калі запісваў гэтыя радкі!

"Божа, чаму такая кара на ліцвінаў спаслана? Хто прыдумаў яе і за што?! Каб жа я быў... Каб ведаў... XX, XXI..."

"...Вільня гарэла сямнаццаць дзён і начэй..."

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

"Каля дзесяці тысячаў загінула ў крывавым пажарышчы, што распаліў маскоўскі манарх. Выснова напрошвалася сама: там, дзе былі войскі Масковіі, – там пажары і смерць, там здзекі і гвалт з безабаронных людзей... І такое доўжылася стагоддзі і стагоддзі. Як яшчэ выжылі, як выстаялі?

Маскоўскае княства здабывала свае перамогі праз кроў і пагардай да іншых народаў. Які д'ябал усяліў у душы гэтых людзей іх звышабранасць? І беспакаранасць... А патрыярх Нікан зноў шле дабраслаўленне цару (ці не кашчунства царквы над вернікамі, над душой чалавечай?!) – пара ўжо яму называцца "Вялікім князем Ліцвініі". І ў пачатку верасня цар загадвае называць "наше царское величество Великим князем Литвинским и Белые России и Волынским и Подольским".

Праз колькі дзён цар надумаўся вярнуцца ў Маскву. З пустымі рукамі вяртацца не любіў. Таму прыхапіў з сабою радзівілаўскія сем пазалочаных купалаў, мармуровыя калоны. Садраў нават падлогу, забраў сталы, дываны, царкоўныя рэліквіі і шмат, і шмат чаго яшчэ іншага..."

...Дзякаваць Богу, бацькоў заспеў жывымі, але слабых, на вялікі жаль, здароўем. Беднота дакацілася і да іх. З Божай ласкі хоць жывыя і могучыя таптацца па двары, але ўрабляць зямлю ўжо не ставала моцы...

Доўга дома я не ўседзеў. Калі ж адчуў, што мае раны загаіліся, дзякаваць Богу і з Божае ласкі і любові да мяне і маіх бацькоў, наважыўся зноў вярнуцца на ранейшае поле бітвы. Абраза, якую нанёс мне Залатарэнка, не давала спакойна жыць на зямлі... Ён, як здань, як цень, не адставаў ад мяне. І ў снах, і наяве гнаўся за мною. Я бачыў яго ашчэраны ў ярасці твар, вочы, што свяціліся гневам. Лязо мяча сляпіла зыркім адбіткам ад сонца.

Я даў слова Ліцвініі адпомсціць яму за здзекі з люду Княства, майго роднага Палесся...

Зноў вымушаны пазначаць новыя радкі – у спадзяванні, што іх некалі хто-небудзь прачытае:

“Вялікі цар ніяк не мог супакоіцца, што не ўсе ўладанні Княства падпарадкоўваліся яму. Войскам Трубяцкога загадаў узяць Берасце. І яшчэ загадаў, каб “от Клецка идти войною до Слонима живыми и невоеванными месты розными дороги” – нішчыць усё жывое і нежывое”. Тое і рабіў Аляксей Трубяцкой. І таму слаў цару лісты: “...и многие места, и села, и деревни, и за Слоним верст по двадцать и больше, выжгли и разорили...”

У запісах маіх быў нейкі перапынак – не памятаю, якія таму былі прычыны. І напісанае пазней пазначалася ўжо другім почыркам і чарнілам.

“З цяжкасцю былі заключаны наступныя пагадненні. У новым акце пазначана, што Княства заключыла вунію са Швецыяй; абедзве дзяржавы павінны былі з’яднацца, выступіць разам супраць цяпер ужо агульнага ворага.

Як я зразумеў, тое пагадненне дэкларавала захаваць прававыя дачыненні, якія існавалі раней, – прывілеі і вольнасці шляхты (што тычылася мяне асабіста), але выключалі вольную элекцыю манарха і неабходнасць атрымліваць згоду шляхты для абвяшчэння вайны і заключэння міру. Нас, значыць, цяпер не ставілі ў вядомасць. Але радавала хіба тое, што пакінута была свабода каталіцкага, вуніяцкага ды праваслаўнага веравызнанняў...”

Прыязджалі, вярталіся шляхта і мяшчане да родных мясцінаў, расказвалі, дзяліліся ўражаннямі ад пачутага ды ўбачанага.

– Ведаеш, братка-ягамосць, – курыў штохвілінна сваю люльку сусед па сядзібе шляхціц Андрусь Лавоцька, які ў гетмана служыў, – адно вока ў сечы выкалалі, і шрам праз усю шчаку, – цар праз Барысаў і Магілёў на Маскву падаўся, а ў Менску скупіліся ўсе сілы ваяводы Чаркаскага... У Барысаве агляд войскаў наладзіў і мусіў адпусціць ратнікаў дахаты – голыя і босыя.

А казакі Залатарэнкі са згоды цара пад Стары Быхаў рушылі... Браў ён Вільню. Цар пажадаў, каб і Быхаў спаліў...

– А як сёння баявы дух, шляхціц Андрусь? – цікаўлюся, гледзячы на суседа, як на героя.

– Ат, браце-суседзе, і не пытайся, грэх прызнацца... Што ўжо засталося ад войска Вялікага Княства? Было Вялікае, ды стала маленькае... Гетман не мае над ім больш сілы. Кантракт жаўнеры падпісалі да дзявятага жніўня, а далей сказалі – усё, не будзем ваяваць, няма дурных. А за што ваяваць, скажы ты мне, браце-суседзе? За добрае слова? За якую ласку? Многія былі і супраць шведаў, і супраць Радзівіла. Тады яны паабяцалі сваю вернасць Янушу Казіміру і маршам адышлі ад Падляшша, паказваючы імкненне злучыцца з арміяй караля. А на самай справе яны кінуліся грабіць і рабаваць маёнткі князя Радзівіла... Во яно як, браце-суседзе... Жах!..

– Дажыліся! – з маіх грудзей вырваўся міжволі цяжкі ўздых. – Цяжка і чуць такое. І хто ж то за людзі такія, ведаеш, пэўна ж?

– Ды ўсе пра тое ведаюць. Старэйшы над дзвюма тысячамі канфедэратаў быў ваявода з Віцебска Павел Сапега. А галоўны падбухторшчык расколу ведаеш, хто?

– Хто?

– Ніколі не ўгадаеш! Вінцэт Гасеўскі.

– Быць таго не можа! Божа, які жах! А я чуў, што адданым быў гетману полк драгунаў. Сам жа бачыў, як яны смела змагаліся з маскавітамі... Ну і ну, хто б мог падумаць пра такое?

– Э-э, братка ты мой, добры сусед, – кісла засмяяўся Андрусь, – то ўсё ў мінулым. На маіх вачах драгуны пакінулі Януша Радзівіла і пайшлі на Падляшша.

– Дык тады ты мне скажы, шаноўны спадар, апошняе – колькі ж засталося ў магутнага гетмана вершнікаў?

Андрусь зноў распаліў люльку, якая паспела з-за доўгай размовы патухнуць, зацягнуўся раз, потым другі, адказаў горычна:

– Думаю, што з тысячу, а мо і дзве – не больш...

– Божа літасцівы! Навошта такую кару наслаў на людзей? – не ўтрымаўся я і ўмольна паглядзеў на неба, перахрысціўся, маё сэрца ахапіў невыносны боль за заўтрашні дзень нашага Княства. – Ці заслужылі мы такую кару?

– Відаць, заслужылі. Угнявілі Бога сваімі паводзінамі. Гонар і сумленне на грошы пачалі разменьваць. Вось з таго і пачалося. А Бог за такое карае. Жорстка карае. Нават і наступныя пакаленні, якія потым будуць здзіўляцца, за што яны нясуць крыж кары...

– Можа, і так. Яму ўсё бачна. Ён і суддзя, і меч...

Маўчым. Адчуваем, што стаміліся ад такой размовы. Вельмі нялёгкай размовы.

– І якая ж цяпер раскладка-расстаноўка сіл, спадар Андрусь? Дзе хто? Што нам чакаць заўтра і што трэба рабіць, каб ўратавацца?

Ён маўчыць, уздыхае.

– Хм... Залатарэнка лётае, як шалёны звер, па дарогах Княства – паліць, бурыць, забівае. Перад царом так выслужыцца хоча... А воіны ваяводы Чаркаскага спалілі ў жніўні Трокі, потым Коўню, Гародню. Казакі з Украіны, злучыўшыся з войскамі Трубяцкога, уніз па Нёмане захапілі Мерач, Ліду, Іўе, Ліпнішкі, Алькенікі, Любчу... А што ў Міры нарабілі вылюдкі! Крывавыя рэкі па вуліцах цяклі – жудаснае відовішча! Тое ж і ў Карэлічах, Ярэмічах, Свержані, Стоўбцах... Не дай Бог бачыць тое, браце-суседзе! У страшным сне такое не можа прысніцца – тут і відушчы сляпому пазайздросціць, напаткаўшы такое...

Яно ж, жахлівае відовішча, усё жыццё потым у сны і ў памяць прыходзіць будзе...

– І не кажы...

Мы маліліся Богу, спадзяваліся на Яго ласку і міласэрнасць, каб не адступіўся ад нас, каб абараніў і збярог ад навалы... Не збярог. Не ўратаваў... Ноччу наляцелі казакі Залатарэнкі – пусцілі ўсё пад меч і смяротны агонь.

І трэба ж – зноў з тым жа Залатарэнкам лёс сутыкнуў! І дзе? У паляшуцкай вёсцы. Толькі ўжо не на кані, а на зямлі. Я махнуў колькі разоў, гледзячы ў ненавісны твар, але толькі зачапіў, здаецца, яго – чыркануў ледзь-ледзь па левым плячы. Пырснула кроў... Але тут жа нехта наляцеў на мяне справа, думаючы, што не заўважыў, – але і яго паласнуў з усяе сілы па галаве, раздзяліў надвае... Тады ж зноў на Залатарэнку рушыў... А ён ужо азвярэў ад злосці, хрыпла крычыць: “Оцэ я тобі покажу скоро!” І пры гэтым махае пагрозліва палашом.

І – зазяваўся я: праткнуў ён мяне металічнай пікай, як муху іголкай... Скрываўлены, упаў на лопухі. Не адчуваў ні болю, ні шкадавання, што так няўдала завяршыў свой жыццёвы шлях... Развітваўся з белым светам, да Бога прасіўся – каб прыбраў мяне пад сваю апеку...

Выратаваў мяне цуд, няйначай.

Нейкая незнаёмая дзяўчына – з даўгімі косамі і цудадзейнымі рукамі – зацягнула мяне, беспрытомнага, на балотны астравок. Туды ніводзін чалавек не мог дапяць. Лячыла мяне нейкімі горкімі зёлкамі. Вочы ў яе чамусьці знаёмыя і родныя, але хто яна, адкуль і як яе звалі, не ведаў...

– Хто ты? – прашаптаў знясілена – голас пакінуў мяне.

– Ціха, маўчы, – закрыла мне рукой губы незнаёмка, другую да лба датуліла, – табе гаварыць нельга... смерць за табой доўга ганялася... упадабала чамусьці яна цябе, па пятах бегала. Ты з Залатарэнкам біўся?

Кіўнуў слаба галавой, адчуў тут жа, як мяне зноў пранізаў навылёт казацкі меч. Скрыгатнуў зубамі, ратаваўся ад болю і ўспаміну. Зноў знікае наваколле – у багну правальваюся. Калі ачомаўся, дзяўчыны побач не было. І на наступны дзень я не ўбачыў яе. Ужо думаў, што яна ў кіпцюрах казакаў ці расейскіх ваяроў. А з’явілася яна сярод ночы, калі на небе высеяліся буйныя зоркі. Не чуў, як села побач, як пах маладога дзявочага цела змяшаўся з пахамі багуну і жывіцы.

– Я думаў, што ты больш і не прыйдзеш да мяне.

– Дадому бегала.

– Далёка куды?

– За сто вёрстаў.

– Сто?! Як ты прайшла такую дарогу?

– А што тут такога? Лекі прынесла. Маці-нябожчыца навучыла, як гатаваць жывую ваду. А толькі ў нас такая крынічка ёсць. І зёлкі яшчэ. На, выпі, толькі пасля гэтага паверу, што станеш на ногі...

Дзяўчына паднесла да губ гладыш. Смак ці то малака, ці то квасу. Але з кожным глытком адчуваў прыліў сілы, жаданне жыць.

– Хто ж ты тады, незнаёмка?

– Тваё жыццё.

– Скуль ты? Як аддзячыць табе за ўсё, што зрабіла для мяне?

– Я з Вялікага Княства. А аддзячваць мне не трэба. Не ў нашых правілах тое.

– Што робіцца цяпер вакол нас?

– Тваё мястэчка Верасніца спалілі ўкраінскія казакі. Ад мяне пачуеш і цяжкую вестку: тваіх бацькоў забілі казакі Грышкі Чорнага. Не думай яму помсціць – ён і сам сваю смерць знойдзе гэтай зімой. Па ўсёй Тураўшчыне галоднымі ваўкамі шныраюць чаркасы. Маскоўскія ваяры гвалтуюць дзяўчат, распорваюць цяжарным жываты, каб не нарадзілі тых, хто ім помсціць за здзекі будзе... Сялян мучаюць, збіваюць насмерць. Вёскі спрэс паляць – разам з людзьмі... Усё, што добрае, забіраюць сабе. І маіх бацькоў спалілі – я ледзьве ў лес уцякла. Я ж з-пад Мазыра, з Кустаўніцы. Кажуць людзі, што кароў з усіх вёсак сабралі і пагналі на Украіну. Як жа будуць жыць палешукі-ліцвіны, як выжывуць?

Сціснуў дужую і цёплую руку паляшучкі, маёй выратавальніцы, якая не назвалася, але на ўсёй зямлі мне яна зрабілася самай блізкай і роднай. А мо была і да гэтага такой?

– Пойдзем са мною, мазыранка, разам будзем выжываць у гэтым пекле, – нечакана прапанаваў сваё рашэнне, – абаім лягчэй будзе. Абяцаю, слова шляхціца, што не пакіну цябе ніколі.

Дзяўчына нахілілася нада мною, шапнула даверліва на вуха як самаму блізкаму чалавеку:

– Не, мой любы, мне ніяк нельга, хаця чуць твае словы соладка і прыемна. Любы ты мне, не хаваюся, сэрца ў цябе добрае, таму і не перамог ты Залатарэнку. І добра, што не перамог. Так, я шчаслівая была б, каб пайшла за табою, ведаю. Але, на вялікі жаль, нельга мне. Так як і табе заставацца тут...

– Дзе – тут? У лесе?

– Не перабівай... Мала часу засталося табе тут быць... Шмат бяды вакол. Маскоўскае войска ад Турава ніжэй па Прыпяці пайшло на Смядынь. Ваяры

і ратнікі людзей забівалі ў хатах і ў лесе, калі знаходзілі іх там. Да апошняй хаціны спалілі Букчу, Глінную, Храпіна, Колкі... У Астражанцы і Смядыні замардавалі ўніяцкіх святароў. І толькі за тое, што яны вялі імшу на ліцвінскай мове... А ў Гліннай прылюдна расстралялі святога айца. Перад гэтым доўга здзекаваліся. Катавалі і шмат іншых людзей, крывавую пацеху наладзілі над імі. А потым іх, яшчэ жывых, закапалі ў зямлю... Людзі, што засталіся ў жывых, хацелі пахаваць нябожчыкаў па праваслаўным звычаі, дык маскалі прыбеглі і павыкідалі мёртвых з дамавінаў. О Божа, куды глядзіш, чаму не караеш антыхрыстаў? Вось што прынёс нашаму люду маскоўскі цар са сваімі вылюдкамі!.. Не волю, як ён хоча паказаць і пераканаць, а ярмо і смерць...

Бліснула маланка, пракаціўся над лесам гром – пагрозліва, як усё роўна Валадар пачуў папрок мазыранкі... Потым паліў дождж – густы, цёплы і спорны. Яшчэ мацней паплыў водар багуну, жывіцы і ядлоўцу...

Дзяўчына паклала на мой лоб гаючую руку. Потым абхапіла галаву абедзвюма далонямі і моцна сціснула – аж да болю. Здавалася, што не вытрымаю, і тады з маіх грудзей вырваўся гучны і трывожны крык – быццам ратаваўся ад нечага страшнага і пачварнага. Ад таго ж Залатарэнкі. Ад Чорнага. Сіліўся ўхапіць мазыранку за руку, каб вызваліцца ад невыноснага болю, выратавацца, зноўку ажыць і належаць жывым на зямлі, свайму краю, але не здолеў нават падняць рукі...

Тады ж мяне ахутаў адразу мройны туман, што паплыў з узболатку, і я праваліўся ў салодкае небыццё, адчуў, што плыву некуды ў бязважкасці і спакойнасці. Мільгалі перад маім сляпым позіркам зоркі і сузор'і невядомых галактык. Ляцеў, здавалася мне, цэлую вечнасць... Уцякаў ці вырываўся з павуціння няшчасця?Куды імкнуўся – насустрач свайму шчасцю ці гору?

..."І пераможаны быў вялікі дракон, старадаўні змей, якога называлі д'яблам і сатаною, які спакушаў увесь свет, зрынуты на зямлю, і анёлы яго зрынутыя з ім..."

Голас чуўся з неба. І ліўся ён меладычна і плаўна, пераканаўча і настойліва. Я толькі паспяваў запісваць пачутае. Пісаў для некага. Як быў упэўнены, што кожны радок будзе прачытаны, асэнсаваны... Пісаў не на паперы. Запісваў у памяць сваю, каб потым спісаць на Агульную Памяць, што далучыцца да Кнігі Жыцця.

"Цяпер прыйшло выратаванне і сіла і валадарства Бога нашага і ўлада Хрыста Яго, таму што зрынуты паклёпнік братоў нашых, які паклёпнічаў на іх перад Богам нашым дзень і ноч. Яны перамаглі яго крывёю Агнца і словамі сведчання свайго і не палюбілі душы сваёй нават да смерці..."

Словы святога Адкрыцця чытаў нехта знаёмы – жаночы прыемны голас. Я яскрава бачыў таго дракона, гада і сатану ў адной асобе. То яго аблічча

было ў кожнай хаце і кожнай установе, на плошчах і скверах. Хацеў зацьміць абразы Хрыста і Божай Маці. Пасміхаўся прыжмуранымі вачыма, як Юда, над ахвярамі, над кожнай жывой істотай, закутай з яго ласкі ў духоўныя жалезныя кайданы і калючы дрот... Я ж бачыў і Новы Дзень, калі люд скінуў з сябе павуцінне калючага дроту... Кожная ахвяра заклікала жывых успомніць, хто ён і адкуль, хто адбіраў жыцці... Памерлыя і закатаваныя заклікалі ў сведкі дух продкаў, тых, каго пасеклі расейцы. Ды ўкраінскія казакі, крыжакі і рыцары Ордэна... Яны, ліцвіны, плацілі жыццём за тое, каб не гнуць спіну перад заваёўнікам. Паміралі, а не ўсоўвалі добраахвотна галаву ў ярмо. Але чаму ж тады сёння так абленаваўся нашчадак смелых рушанняў ліцвінаў, што і рабства не пачувае за рабства? Упартасцю сваёй даказваў, што раб, які не адчувае сябе рабом, – тройчы раб! Чаму ён не моліцца таму Богу, якому маліліся яго далёкія прашчуры? Чаму не размаўляе на той ліцвінскай мове, на якой гаманілі яны і да волі імкнуліся найбольш за ўсё... Нашчадкам жа стала мілей і чужая мова, і культура свайго жорсткага эксплуататара... Калі ж прачнецца розум твой і воля, люд Ліцвініі?

Чаму такая доля і лёс у Ліцвініі?

"Цяпер Бог успомніў пра нас і павярнуўся да нас. І ідзе змаганне Дабра і Зла. Працягваецца яно і дзень і ноч. З кожным днём усё больш і больш людзей пачынаюць адчуваць сваю нікчэмнасць, і іх душы пачынае апякаць сорам..."

– Хто ты? Я не бачу цябе, а толькі чую...

– Тваё жыццё. Я ні на імгненне пра цябе не забывалася, таму і завуся "я ні на..." – Яніна я, любы, Я-ні-на, няўжо не пазнаеш?

– Цяпер пазнаў... Хаця здагадваўся з першых слоў.

– Што ж ты нарабіў, мой каханы! Навошта ж так?

– Чым я правінаваціўся?

– Дакараў мяне, а сам яшчэ глыбей ужыўся ў сваё стагоддзе, чым я, нават і жыць там хацеў застацца. Касмічная Рада ледзьве выцягнула цябе адтуль. Ты ж быў на мяжы, нават за мяжой дазволенага... Толькі цуд і выратаваў цябе. Князёўна Ліцвінія страшэнна перапалохалася за цябе. Непасрэдна яна і прымала ўдзел у тваім выбаўленні з палону часу.

– А цяпер дзе я?

– Са мною. Мы на беразе Прыпяці. Каля сосен твайго дзяцінства. Сюды ты мяне не раз у снах адсылаў, каб вылечыць. Цяпер сам лячыся, шляхціц Клімовіч... Героем, бачыце, захацеў быць, мячом размахаўся, эх ты, ваяка. Ну навошта табе здаўся той царскі прыслужнік Залатарэнка? Ты ж ведаеш, якая смерць у яго была, без цябе ж там і абышлося... Калі ж адпявяць

сабраліся яго ў царкве, то храм не захацеў яго прыняць, пярун стралой ударыў у труну…

– Там я не ведаў пра тое. Ды і не я, то ён за мною ганяўся. Як прывід які.

– Цябе ж папярэджвалі – не брацца за зброю. І не пазбаўляць нікога жыцця.

– А мне заставалася моўчкі сядзець, падстаўляць шыю пад меч непрыяцеля? Так, выходзіць?

– Мы не павінны ўмешвацца ў жыццё таго часу. Мы ж толькі сведкі і назіральнікі. Летапісцы.

– Ведаю...

– А робіш усё насуперак.

Маўчым. Мне, адчуваю, вельмі ж няёмка за свае ўчынкі.

– Колькі я там прабыў?

– Амаль паўгода...

– Паўгода?! – кроў шпырanула ў скроні. – Ды быць таго не можа! Я ж ведаю, самая доўгая паездка – не болей тыдня. Чаму са мной здарылася такое?

– Я ж кажу, што ты захапіўся сваёй місіяй.

Яніна кудлаціла мне валасы, весела тлумачыла далей:

– Склероз у цябе, спадар Антон! Ёсць такая хвароба. Яна ў старых, але цябе раней часу наведала. Ты так імкнуўся адправіцца да Залатарэнкі, што забыўся прычапіць на руку амулет-антэну... Вось чаму Касмічная Рада ніяк не магла наладзіць з табою ўстойлівую сувязь.

– Цяпер я разумею, што ўтварыў...

Мяне пачаў апякаць сорам. От ёлупень дык ёлупень! Тое, пра што сказала мне Яніна, сталася страшнай навіной. Так, нарабіў шмат глупства. І – клопату. Амулет-антэна – як наручны гадзіннік. Калі прычэпліваеш да рукі, робіцца нябачным. І ўжо з тае хвіліны за кожным маім крокам назіраюць сябры Касмічнай Рады. А ў хвіліны небяспекі падказваюць, што рабіць, і ратуюць ад бяды...

– Ты так уцякаў ад мяне, што забыўся на тумбачцы свой амулет, – весела і з адценнем крыўды прамовіла Альшанская, радавалася, што я вырваўся-выбавіўся з пекла.

– Ды не ўцякаў я, а баяўся, што і ты са мною адправішся туды. Ці не хопіць табе Полацака? Сама ж ледзьве не загінула... Хіба лёгка мне было адчуваць тое?

– А каб ты не загінуў, Рада паслала мяне на дапамогу.

– Цябе? – яшчэ больш здзівіўся, чым да гэтага. – Дык то, выходзіць, ты ратавала мяне там, пасля сечы?

– А то хто ж? Цябе Залатарэнка смяротна параніў. У тых абставінах невылечны. Вось я і прылятала да Касмічнай Рады, каб узяць лекі. І таму зацягнула цябе далей ад бяды ў лес. Ну цяпер ты хоць уцяміў, што нарабіў?

– Дурань я, дый яшчэ які! Янінка, цяпер разумею, што ты не адпусціла б мяне ў падарожжа непадрыхтаванага і не дапусціла б там такога глупства, што ўтварыў. Перакананы цяпер: трэба туды адпраўляцца абаім.

Яніна ўспляснула рукамі:

– Цыцэрон! Які зух! У рэшце рэшт зразумеў! Уцяміў! Божа, які ты дурны ў мяне і ўпарты. Нездарма ж пад сузор'ем Цяльца нарадзіўся! І Венера – твая багіня-берагіня. Князёўна Ліцвінія пасля ўсяго і пашкадавала, сказаўшы, чаму яны нас абаіх не адправілі...

– Так і сказала? – не паверыў я.

– Слова ў слова. Дарагі мой Антоне, Антон Севярынавіч, па прозвішчы Клімовіч, па паходжанні шляхціц, паляшук і летуценнік! Я так засумавала па табе, ты і не ведаеш пра тое!

– Чаму не ведаю? Ведаю...

– Ты ж забыўся пра мяне. Паляшучку ўпадабаў, прапаноўваў ёй руку і сэрца, – прытворна крыўдзіцца Альшанская, апускае галаву. – Што на гэта скажаш?

– Я ж ведаў, што там ты была, таму і прапаноўваў! – падтрымліваў яе гульню, гаварыў, каб не пакрыўдзіць, бо ведаў, што і жартаваць з жанчынай заўсёды трэба, абдумваючы кожнае слова.

– Але ж колькі мы часу знаходзімся з табой на планеце Кахання, ты мне не прапаноўваў ніколі сваё сэрца.

– Як не прапаноўваў? Мая ж палавінка ў цябе! Я назаўсёды табе яго аддаў. А тваё ў мяне ў грудзях б'ецца, ці не так?

Яе косы, высока ўзляцеўшы ўверх, леглі на спіну.

– Так-то яно так, але...

Мая спадарожніца легла побач, раскінула рукі. Глядзела на Прыпяць. Ногі амаль дакраналіся да вады. Была ў адзідасках, у балоневай куртачцы. Не ўтрымаўся, нахіліўся над яе тварам, засланіў сабою неба. У вачах яе бачыў неабдымны Сусвет...

– Але ты не павінна мяне судзіць так строга. Я яшчэ не магу адарвацца ад паводзінаў людзей чацвёртай расы.

Яна маўчала, зажмурыўшы вочы. Над намі нахіліліся сосны, шырака раскінуўшы кроны. Як усё роўна аберагалі ад нейкай шэрай навалы, пошумам сваім стваралі мелодыю Спакою і Суладнасці. Мы ж, здаецца, не чулі яе. Нашы душы імкнуліся зліцца ў адно, як на парастку папараці на міліметровым пятачку-пазногці, дзе знаходзяцца "мужчына і жанчына" і не могуць

з’яднацца. Тады ім на дапамогу прыходзіць дажджавая ці расяная кропля – абвалаквае іх, і яны сталі адным цэлым... Для новага парастка. Для новага жыцця. Хто ж нам дапаможа? І ці трэба нам дапамога? Зямная сіла роднага Палесся ўлівалася ў нас крыніцамі, напаўняла нашыя істоты сілай і настроем, жывіла... Ніякая чорная сіла не магла зрабіць нам шкоду...

– У Другім саборным пасланні святога апостала Пятра сказана: “Адно не павінна быць схавана ад вас, любыя мае, што ў Госпада адзін дзень, як тысяча гадоў, і таму тысяча гадоў, як адзін дзень...”

– Там жа далей: “... не марудзіць Гасподзь выкананнем запавету, як некаторыя лічаць тое маруднасцю, але доўга церпіць нас, не жадаючы, каб хто загінуў, але каб прыйшлі да пакаяння...”

– Ці не пра нас гэтыя радкі?

Адказаць мы не маглі...

Яён прыйшоў да мяне пад вечар, калі я акурат заканчваў працу.

Настрой у мяне быў не з лепшых. За доўгі прагул аб’явілі вымову, пазбавілі “прагрэсу”. Пагражалі і зусім звольніць. Зміцер чамусьці заміноры ў лякарні, не дасылаў мне ніякіх вестак пра сябе. Вераніка не званіла, таксама не чуў яе думак. Таму і прыход двайніка сустрэў без вялікага ўздыму, нават абыякава... Прыгледзеўся да яго пільней і ўспомніў, што ён як дзве кроплі вады падобны на майго “таго” суседа – шляхціца Андруся.

“Няўжо і ён разам са мною пераносіўся ў той час? Не разарваць нас нічым, не раз’яднаць...”

– Як ты тут?

– А як ты там? – чамусьці са злым выклікам спытаў яго, аж сам сабе не спадабаўся.

Ён, мусіць, не адчуў майго настрою, а мо і з-за далікатнасці не заўважыў. Уздыхнуў толькі, мацаючы побач нязменны стары і пашарпаны партфель.

– Я – нічога. Стаміўся толькі...

– Стаміўся і я, што паробіш.

– Як з абяцаннем?

– Ды што ты прыстаў да мяне? Кожны раз напамінаеш, быццам я склеротык які. Паслаць цябе куды-небудзь ці небудзь-куды сам пойдзеш?

– Куды пашлеш, туды і добра, – параіў спакойна Яён і ўжо не глядзеў у мой бок, як і не існаваў я для яго, як і не выйшаў ён з мяне... – Ты гэтаму брыдкаслоўю тут навучыўся? Адразу бачна...

Папрок ці заўвага мяне здзівілі. І я пашкадаваў ужо, што так сустрэў яго, – нервы мае на людскіх чорных скразняках і сапраўды сталі нікчэмнымі, нараджалі незразумелае раздражненне...

– Перапрашаю, Яён, я і сам сябе не пазнаю – нервовы стаў апошнім часам. Таму вельмі шмат прычын.

– Ладна. Каму, як не мне, зразумець цябе.

Зноў усталявалася маўчанне. Іскрынка ўспыхнула і тут жа патухла, як і не было яе.

– А калі трэба ісці да цябе? – вінавата ўжо спытаў яго, каб зруйнаваць няёмкасць, каб паказаць, што стаў я ранейшы – спакойны і разважлівы, што нам нявартa спрачацца і чапляцца за дробязі.

– Я ж казаў апошнім разам пры сустрэчы... Заўтра ўжо. Таму і прыйшоў, – неяк нясмела прамовіў Яён, як бы баючыся, што зноў можа ўзлаваць мяне.

– Як – заўтра? Ты ж сказаў, што восенню!

– А сёння хіба на двары вясна? – ужо і пад'южваў мяне двайнік, пасміхаўся.

Перабіраў у памяці дні і падзеі і жахнуўся – то я так доўга лячыўся на прыпяцкім плёсе пад Туравам і Мазыром? То так доўга выводзіла мяне з таго стану Яніна Альшанская? Ды, пэўна ж, даўно выйшаў з бальніцы і Дзіма Кісялёў. Толькі дзе ён, чаму не на працы? Прагульвае?

– Сапраўды! – ляснуў я даланёй па лбе, засмяяўся, абдымаючы чамусьці Яёна. – Зусім мазгі свае прапіў тут... Добра, што ты напомніў. Сам не дапетрыў бы. Буду! Канечне ж, буду! Прыйду ў намечаны час.

Спытаць пра Кісялёва не выпадала – яшчэ падумае не так, як трэба.

– І Яніна абяцала быць. І Зміцер з Веранікай.

– А дзе ты іх бачыў?

– У Змітрака на вяселлі і бачыў. Яны ж пабраліся. Хіба ж ты не памятаеш?

“Разыгрывае ці здзекуецца? Не, непадобна было на тое... Змітрок жаніўся? Калі? І я, можа, яшчэ быў на іх вяселлі? Чаму ж тады не памятаю?..”

– А ты і не будзеш памятаць, – супакоіў мяне Яён, каб не разарвалася ў мяне галава ад балючых здагадак і думак.

– Ты чытаеш мае думкі?! Даўно?

– Ды не, не бойся. Чытаю па выразе твайго твару. А быў на вяселлі я. Замест цябе. Прыняўшы тваё аблічча.

– З Янінай быў, канечне ж?

– Тут ты не хвалюйся. Да яе і не дакрануўся. Можа пацвердзіць тое.

– Дзе яна цяпер, не скажаш? І дзе Змітрок? Куды яны ўсе падзяваліся?

– Яніна на некалькі дзён адлучылася. Прасіла перадаць, каб ты не хваляваўся за яе. Дапрацоўвае для Касмічнай Рады тваю справаздачу.

– Чаму ж ты адразу, як прыйшоў, не пачынаў з гэтага?! – роспачна паглядзеў на яго, адчуваў, што зноў пачынаў крыўдаваць і злавацца. – Чаго марудзіў?

Ён уздыхнуў, прыкурыў новую цыгарэтку, выпусціў дымок.

– А таму, што з такім тварам і настроем, які ты меў напачатку, сустракаюць толькі самых злых ворагаў альбо непрыяцеляў.

– Яшчэ раз даруй. Абдурыў ты мяне. І – правучыў.

– Еш, разумнік, на здароўе, як кажуць...

– Змітрок і Вераніка, дзе яны?

– Вось заўтра і сустрэнешся з імі. Сам і распытаеш у іх пра ўсё. Сустрэча а васямнаццатай гадзіне. У актавай зале ўніверсітэта.

І зноў Яён абскакаў мяне. Няўжо я страчваў свае пазіцыі? А мо іх і зусім у мяне не было? А я так паводзіў сябе пагардліва, уявіўшы сябе камандзірам над ім... Мо ён і быў за камандзіра ў мяне, ды з-за адказнасці сваёй схаваў тое. Ну і пень жа я, даруй, Божа!..

– Добра, Яён, дамовіліся. Буду.

Яён не паціснуў мне руку на развітанне – толькі раскланяўся, усміхнуўся з выглядам пераможцы. З годнасцю выпраміўся, пайшоў.. .Я ж адчуў сваю, няхай і маленькую, паразу і зразумеў, што шмат чаго мне трэба яшчэ зрабіць, каб рэабілітавацца перад ім... Зноў пачуваў сябе вінаватым...

...Вялікая, з высокай столлю, зала. Вокны, праз якія выпраменьвалася сонца, высокія, чыстыя, быццам без шкла. Промні рассейваюцца, і таму асвятленне роўнае, спакойнае. Такіх залаў раней мне бачыць не даводзілася. Гэтая ж напамінала тую, дзе я праглядваў Кнігу Жыцця – пра падарожжа Яніны Альшанскай.

Яён вывеў мяне на высокую сцэну. На ёй – стол і трыбуна. Яён назваў мяне, сказаў, што выканаў сваё абяцанне – прывёў чалавека новай фармацыі, які правядзе практычныя заняткі і адкрые для іх, студэнтаў, шмат чаго цікавага і для іх невядомага. Папрасіў яшчэ да маёй лекцыі-паказу аднесціся ўважліва, з усведамленнем вялікай адказнасці свайго прызначэння...

У мой бок ён зрабіў паважны паклон і сеў за стол. Сашчапіў пальцы, упёрся локцямі аб паліраваную паверхню...

“А чаму ў зале няма Яніны? Няма Змітрака і Веранікі”.

Калі ж уключыўся на яго хвалю, пачуў радасны вокліч: “Здароў быў, Антон! Я ж у першым радзе, каля акна, і Вераніка побач са мною...”

Кісялёў сядзеў побач з Веранікай. Не пазнаў таму, што адпусціў бараду. Вераніка іншая стала – пасур’ёзнела, пасталела. Абое студэнтамі сталі? Дзе ж я быў у гэты час? Чаму такія моманты выпалі з памяці? Няўжо ўсё – з-за Залатарэнкі?

– Дзень добры, шаноўныя! Вы – будучыя прадстаўнікі Асацыяцыі па стварэнні летапіснай гісторыі нашай Ліцвініі. Вы – будучыя прафесійныя

прадаўжальнікі той вялікай працы, якую вам даручыць Касмічная Рада. Гэты абавязак усклалі на вас князёўна Ліцвінія і Нябесны Валадар.

“Такі залік авансам не паставіць – на твары напісана, што педант...” – прарваўся аднекуль з залы недавер першага скептыка.

– Ад нашых жаданняў і думак будзе залежаць чысціня заўтрашняга дня. За гады вучобы вы навучыцеся чытаць і разумець думкі і жаданні любога чалавека, на якой бы мове той ні гаварыў, нават любой жывой істоты...

“Хіба ж можа чалавек чытаць думкі другога? Што з таго было б? Здагадвацца можна, а вось чытаць...” – не верыла мне бялявае дзяўчо ў зялёным світэрку.

– Вы будзеце правадніком новых ідэй Нябеснай Шамбалы, якая разам з Божай Маці з’яўляецца заступніцай нашай дзяржавы... Бо Бог жыве ў Ліцвініі!

“Твае словы ды Богу ў вушы... – добразычліва пажадаў хударлявы юнак у акулярах, падпёршы падбароддзе рукой, – кажаш правільна, але ці...”

– Мы будзем такімі, якімі і стварыў нас Бог, будзем мець свае песні, сваю культуру. Не будзем спяваць з чужога голасу, гаварыць на чужынскай мове. Мы адродзімся. Станем мудрымі. І – моцнымі. Тады ніводзін сатана самымі салодкімі словамі не ўвядзе больш ніколі ў зман і пачварны сон. Бо мы навучымся адрозніваць балабольства ад Слова праўды і шчырасці...

“Во прарок знайшоўся ці апостал, – пасміхалася дзяўчына ў чацвёртым радзе ад акна, – толькі наіўны можа паверыць табе ці дурны... Нас кармілі, і не раз, прыблізна такімі ж словамі. Што ж ты нам новага сёння раскажаш і прадэманструеш? Фокусы? Праспяваеш псалмы ў імя Айчыны Ліцвініі? Пад гітару ці пад баян? А мо пад гармонік? Пад скрыпачку?..”

Я перавёў дыханне. Не ведаў, што гаварыць далей – зала сустракала мяне недаверам. Мо таму і хацеў прыкрыцца мною мой двайнік? Што ж яны за студэнты нацыянальнага ўніверсітэта, калі не прасякнуты нацыянальнай ідэяй? Яны ж яшчэ хворыя, іх лячыць трэба... Ці тое лячэнне трэба пачынаць мне?.. Ён безуважна глядзеў у залу, як быццам яго не хвалявала, што я гавару, якая была рэакцыя студэнтаў яго курса, якім ён выкладаў касмічную навуку. Ці ведаў ён, што я сустрэў сапраўдны холад і недавер з іх боку?

Хто іх вучыў і па якой праграме? Калі Яён ведаў пра ўсё, то чаму не папярэдзіў? Я будаваў бы сваю лекцыю неяк інакш. А мо праверыць мяне хацеў?

– Чаму я сустрэў поўнае неразуменне з вашага боку? Правільней, непаверку да таго, дзеля чаго прыйшоў да вас... Вы не адкажаце, шаноўныя спадары, на маё пытанне?

Ніхто і вокам не міргануў. Не аспрэчылі, не пацвердзілі. Ну і няхай, ну і добра! Цяпер я ведаю, як будзем наладжваць далей узаемаразуменне.

– Мы з вамі – дзеці Сусвету і Космасу. Дзеці Бога. Кожнага з нас прасвеч-вае і пранізвае процьма псіхічных каналаў і цэнтраў, промняў і ліній. Калі ж мы здолеем адчуць і хаця б прачыніць трошкі дзверы ў іх тайну, то мы выйдзем на прамы кантакт з Сусветам. І мы зробім так! Гэта і будзе тая стадыя існаван-ня, якую чалавек назваў Раем. Гэта калі чалавек працуе і не мае патрэбы штодзённа думаць пра хлеб. Бо і Бог казаў, што "не хлебам адзіным жыве чалавек, а словам Божым". А таму і жыць будзе чалавек стагоддзі. Ён, Вялікі Стваральнік, меркаваў так: энергію чалавек будзе чэрпаць з жыцця Сусвету, ад Вялізнай Энергіі Космасу. Яго думкі будуць скіраваны толькі на духоўнае існаванне, на ўдасканальванне сваёй душы, свайго ўнутранага свету.

"Каб жа так, то яно, безумоўна... Ох і мастак ты так пра ўсё распісваць..."

– Жывёліна неразумная, але яна знайшла ў сабе розум, каб не дадумац-ца на свае капыты ці лапы надзець абутак. Мы ж з вамі істоты разумныя і таму даўмеліся адгарадзіцца ад зямлі падэшвамі абутку і... адарвалі сябе ад міну-савога зараду, засталіся толькі ў плюсавым – Сусвет і Космас, да якога пад-ключана галава. А для ўстойлівасці нашага існавання і арганізма той і той энергіі ў нас павінна быць пароўну – і збірацца ў сонечным спляценні, там, дзе наш мозг, дзе цэнтр усяго...

Зала маўчала. Ніводзін голас недаверу не далятаў да мяне.

– Мы з вамі можам назапашваць у сабе жыватворную энергію сонца. А яно аддае нам яе толькі на пачатку раніцы – пачынаючы з пяці гадзінаў. Да сямі гадзін Сусвет аддае нам плынь здаровай і чыстай энергіі – за проста так, за бясплатна! Каб мы карысталіся ёю разумна і ўжывалі яе толькі на добрыя памкненні... Чаму нарадзілася ў народзе прымаўка "Хто рана ўстае, таму Бог дае"? Бог дае нам, грэшным, сілу. Ён дае нам сапраўднае жыццё... А ноччу, калі мы кладзёмся спаць, забірае ўсё чорнае і злое, нашы стрэсы і нервовыя перагрузкі – Сусвет рэгулюе наша жыццё, пра што мы і не зда-гадваемся. Нават не стараемся яму памагчы. Таму проста паказваем сваю няўдзячнасць і недасведчанасць. Раніцай, як толькі ўзыдзе сонейка, мы адчуваем прыліў радасці і сілы. Промні сонца, як пяшчота роднай матулі, ласкава абдымаюць нас, шэпчуць на вуха, што мы самыя добрыя і ласка-выя, прыгожыя і міласэрныя...

"Добра сказана. Прыгожа..."

– Калі ж мы пачуем адно аднаго, калі прыслухаемся да Сусвету? Калі выкажам удзячнасць і падзяку Таму, каму абавязаны жыццём і сваім існа-ваннем? Чаму мы забываем пра тое? *"Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога..."* І даў Бог кожнаму народу сваю зямлю, сваю мову. Адабраўшы ад нас мову, Ён нашле на нас страшную кару. Бо мы тады станем глухімі і сляпымі. Маці Ліцвінія плакала, калі чула, як вылучэнцы народа рашалі на

Вялікім сваім сходзе, якую мову даць дзяржаве – ліцвінскую ці мову суседняй дзяржавы...

“Сапраўды жахліва. Нідзе ў свеце няма такой ганьбы...”

Не казаў студэнтам, але падумаў тады ж, гледзячы ў іх чыстыя і светлыя вочы, што шмат чаго вынес са свайго ахутаванскага падарожжа ў сузор’і Кахання. “Ніколі не жадайце зла адзін аднаму, бо тое ж зло абавязкова абрынецца на вас”. Перада мною адкрыліся і Свет і Святло... Я яшчэ больш паверыў у тое, што шчаслівая будучыня чакае маю Айчыну. Што недарэмна аддавалі свае жыцці слынныя сыны і дочкі Ліцвініі. Паверыў у тое, што змагу зрабіць што-кольвечы карыснага для Княства. Для свайго люду. Калі ж мяне Бог наблізіў да тайны жыцця і надзяліў звышсілай – усё тое я павінен ужыць для росквіту і адраджэння Вялікай Радзімы.

– Чалавек не так даўно прыдумаў цуд – запісваць падзеі на магнітную стужку. Здымаем кіно, запісваем песні, падарожжы, пахаванні, вяселлі... А жыццё ж на Зямлі Вышнім запісана даўно. З самага пачатку існавання чалавека на планеце. Запісана ўсё да драбніц. І тое, як Хрыстос быў распнуты на крыжы. Але той запіс ніхто не можа прагледзець. То Кніга Жыцця. Жыція. Яго Сына і нашае жыццё. За сямю і сямю пячаткамі знаходзіцца тая Кніга. Таму Валадар і даў народу ўменне – пісаць сваю гісторыю, свае старонкі. Занатоўваць падзеі тысячагадовай даўнасці. І вам належыць дапісваць тыя старонкі, якія вырвалі з нашай гісторыі. Нам падсунулі хлуслівую і прымушалі верыць у яе. Вам і жадаю поспехаў у гэтай справе. Так хацеў Ён. Так завяшчаў Ён. Такі запавет пакінуў. Каб да хвіліны, да секунды мы вярнулі сваё мінулае і ганарыліся ім.

Я, здаецца, скончыў гаварыць пра тое, што намерыўся. Хай цяпер злуецца на мяне Яён, але інакш не мог. Не я ў тым вінаваты.

– А ці ўмееце вы чытаць нашы думкі? – падняўся на апошнім радзе светлавалосы юнак, глядзеў на мяне, не сядаў, чакаў адказу. – Ці можам мы паверыць вам? Гаварылі вы цікава і праўдападобна, але то словы, патрабуецца пацвярджэнне...

Я ўсміхнуўся. Тут бы параіцца з Янінай, няхай бы падказала, як лепей адказаць. Але яе не было.

Паслаў ёй “маланку” і пачуў кароткі адказ: “Здзіві. Тут можна. Пакажы, на што здольны чалавек. Дазвол дае князёўна Ліцвінія. Тады яны задумаюцца над сваім жыццём, над сваім існаваннем... Не дэманструй толькі дыялог з душамі памерлых – для іх рана і небяспечна. Дзейнічай!..”

“Зразумеў. Ты цяпер дзе?”

“На станцыі Касмічнай Рады. Я знайду цябе, калі будзе неабходна...”

“Што ж, тады ўсё добра. Тады – пачнем”.

– Добра, спадар Васіль Аўсяевіч. Маналог мой скончыўся. Хаця я лічу, што адбыўся дыялог. Толькі адзін чалавек з аўдыторыі, не, дакладней, чатыры паверылі мне. Астатнія не верацъ, сумняваюцца... Ваш дзед, спадар Васіль, быў пчаляром. Прадзед таксама займаўся бортніцтвам, прапрадзед быў афіцэрам царскай арміі, і някепскім афіцэрам. А бацька прапрадзеда быў ротмістрам у князя Януша Радзівіла... І ўсе, як і вы, дарэчы, любілі займацца пчоламі... Але я не пра тое...

Сышоў са сцэны, ступіў на падлогу. Потым пачаў падымацца па прыступках уверх – паўз адзін рад, потым праз другі. “Ахутавана, Ахутавана! Дай сілы, дай розум, каб не выйсці за рамкі і межы дазволенага і патрэбнага...”

– Ахутавана! – падняў дзве рукі і, як антэны, трымаў іх, сагнутыя, перад сабою, прашаптаў ціха словы: – Ахутавана! Пачынаем! Збіраю ўсю сваю волю і сілы!..

Накіраваўся найперш да той, што баялася, што не пастаўлю залік.

– Вы правільна, Вальжына, падумалі... Авансам залік я не пастаўлю. Але на маім твары тое не напісана...

Дзяўчына пачырванела, хапілася за шчокі: “Няўжо ён прачытаў мае думкі?”

– Прачытаў. У вас шмат адмоўнай энергіі, энергіі недаверу...

Далей набліжаўся да дзяўчыны ў зялёным світэрку. Глядзеў у круглыя вочы, яна не вытрымала майго позірку, падумала: “Фокуснік і цыркач... На нечым жа ты праколешся, вось пабачыш...”

– Ні на чым я не пракалюся, Міва Калошка! І не фокуснік я, і тым больш не цыркач... А цяпер – што вы яшчэ падумаеце пра мяне?

“Ну і пазёр, ну і Месінг... Вой, як там, цікава, прайшла аперацыя?..”

– Не пазёр я і не Месінг... А аперацыю вашай матулі ўжо зрабілі. Гадзіну назад. Цяпер спіць. Вас у сне бачыць, хвалюецца, што вы не адказалі на яе пытанні пра стрыечнага брата Янку...

Дзяўчына войкнула, спалохана прашаптала сяброўцы: “Я, Віка, пра маму падумала, а ён сказаў... І пра Янку – праўда... Папаў хлопец у бяду”. Адразу ж стала сур’ёзнай і задумлівай. Дзяўчына ў трэцім радзе падумала, што падыду да яе. І не памылілася – паслухаўся яе. Спыніўся побач.

– Зноў жа – я не прарок, як вы падумалі перад гэтым. І не апостал. Псалмы спяваць не буду – ні пад гітару, ні пад баян...

Дзяўчына ўскрыкнула:

– Насця, ён прачытаў мае думкі... Да слова прачытаў.

“Ці ўзяў, цікава, мне Ігар квіток да Менска?” – паралельна падумала заклапочана.

– Ігар узяў квіткі да Менска. Плацкартныя. Сёмае і восьмае месцы.

Яна ўстрапянулася:

– З вамі страшна быць побач, спадар Антон!

– Каб прачытаць думкі, не трэба быць побач. Вы можаце быць на другім краі планеты, і ўсё роўна я вас пачую. Вы ж не думаеце пра страшнае, а толькі пра квіткі да Менска. Чаго ж вам баяцца? Што думае пра вас Ігар, хочаце даведацца?

Мяне, адчуваў, пачало заносіць, але я, як мог, стараўся кантраляваць сябе. Як быццам засумаваў, згаладаўся па фокусах і прыемных сюрпрызах.

– Не ведаю... А можна? – нясмела паглядзела дзяўчо на мяне. – А гэта – не страшна?

– Не. Але калі там нешта непрыемнае ці недазволенае, я не пушчу да вас думкі... Згода? Настройцеся думкава на Ігара. Пашліце яму сігналы трывогі і неспакою за білеты...

– Згода! – рашылася Святлана Лагун – будучы прафесіянальны і таленавіты псіхолаг-неўрашукальнік, доктар Сусвету. Ёй будуць падуладны ўсе сферы думкавай дзейнасці Чалавека і сузор'я Дабрыні.

Яна зажмурылася, прыслухалася, адно за адным пасылала словы: "Ігар, я хачу пачуць цябе! Хвалююся за квіткі – ці ўзяў?"

Недзе здалёку пачуліся юначы смех, біццё сэрца і голас: "Ды ўзяў, узяў я тыя білеты... Але мне абрыдла кожны раз вымольваць у цябе прабачэнне. Няўжо я самы агідны чалавек на зямлі? Ну чаго ты такая занудлівая, Светка, – мая каханая, га?.."

Тут жа і адключыў яго, каб не нагаварыў дзяўчыне чаго непатрэбнага, пацікавіўся ў яе:

– Голас Ігара? Пра прабачэнне і занудлівага чалавека?

Света агледзелася – думала, што Ігар сядзеў побач. Але ён быў у чыгуначным рэстаране і піў са сваім сябруком Яўгенам піва...

– Яго голас. А дзе ён цяпер?

– Спытаецеся ў яго самі. Ён з Яўгенам Каршаковым.

Святлана абвяла. Ужо добрае падумала пра мяне.

"Твае словы ды Богу ў вушы" – гэтая думка належала Міхасю Забалотнаму, калі я пачаў сваё выступленне. Яго Яён сустрэў у далёкай, глухой вёсцы Віцебшчыны...

– Так, Міхась, усё, пра што мы думаем, у вушах Бога. Ён не можа папярэдзіць нашых дрэнных учынкаў, пакідае на нашым сумленні, вучыць, як адчуваць і разумець адзін аднаго... Калі мы будзем ведаць, што чытаюцца нашыя думкі, то і жыць будзем добра, не робячы зла. Пазбавіўшыся ад злога, мы станем лепшымі і добрымі. Ці не так? Мы ж можам папярэдзіць вайну,

ведаючы агрэсіўныя задумы ворага. Каханыя і закаханыя змогуць адшукаць адно аднаго ў Вялікім Сусвеце маўклівасці.

– А мы ўсе гэтаму можам навучыцца? – паднялося з месца дзяўчо, падобнае нечым на Яніну Альшанскую. – Ці тое дадзена толькі абраным?

– Вы гэтаму навучыцеся ўсе да аднаго. Адныя лепш, другія горш. Тое будзе ўжо залежаць і ад таленту, і ад жадання вучыцца. Можна, я паспрабую правесці з залай эксперымент? Для замацавання нашай тэмы. Вас акурат напалову – хлопцаў і дзяўчат. Спачатку я ўключу энергію юнакоў – няхай яны думаюць пра дзяўчат. Пасля – наадварот. Згодны?

– Згодны! Згодны! – весела адгукнуліся студэнты, пераглядваючыся, настройваючыся на цікавую і вясёлую гульню.

– Але я павінен быць перакананы, што таго хочуць усе да аднаго. Каб потым не было ні ў кога крыўды. Таму падыміце рукі.

На эксперымент згадзіліся ўсе.

– Прызнаюся, я не меў права на дэманстрацыю таго, на што наважыўся. Але ў вас такое няверʼе і абыякавасць, што проста дзіву даешся. Таму вазьму грэх на душу, каб вам усё-ткі даказаць, што чалавек можа ўсё-ўсё... Толькі адна-адзіная пакуль умова і просьба – думайце ў гэты час пра добрае. Я не хачу, каб узніклі потым крыўды з-за мяне. Роўна праз тры хвіліны я ўключу свой лакатар і падключуся да вашага поля. Юнакі павінны дасылаць дзяўчатам свае думкі. Маналог будзе доўжыцца трыццаць секунд. Цішыня... Пачалі!..

Змітрок і Вераніка сядзелі апошнія справа. І яны ўдзельнічалі ў гульні.

– А цяпер дзяўчаты павінны адказаць. За тыя ж паўхвіліны. Так, можна...

Пачуўся смех. Выбух рогату. Каменціравалі свае пытанні і адказы. Зала загудзела, як пчаліны вулей, захвалявалася. Чуліся папрокі за занадтую шчырасць – некаму не спадабаліся адказы. Потым, зразумеўшы, што тое ўсё не гульня, ніякі не фокус, найперш жахнуліся, спалохаліся, сядзелі сцішаныя, маўкліва паглядалі на мяне. Ведаў і чуў, што яны думалі. Думкі цяпер вельмі адрозніваліся ад тых, што чуў напачатку.

– Я гаварыў ужо, але паўтаруся. Чалавек павінен умець аднолькава дыхаць як на паветры, так і пад вадой. Ён адным толькі позіркам і жаданнем можа падумаць і пераносіць з месца на месца тоны, тысячы тон грузу.

– Вы і гэта ўмееце? – апошні скептык Алесь Зінчук падаў голас, і яго пытанне маўкліва адобрыла зала – глядзела на мяне, чакала, што адкажу.

– Вы думаеце, што егіпецкія пірамiды ў пустыні падʼёмнымі кранамі будавалі? Ці рабы прымітыўнымі прыстасаваннямі? Адкуль жа і на чым яны тыя глыбы вазілі?

“Уцякае ад адказу. Мусіць, перабраў, занесла яго не туды...” – той жа Алесь скептычна глядзеў на мяне.

– З таго ж пяску і рабілі. Умелі тое рабіць. Ну, а цяпер пра маё ўменне, спадар Алесь! Мяне нікуды не занесла. Я адказваю за кожнае сваё сказанае слова. Таму ў мяне просьба да цябе. Ты, а з табой Мікола Стэльмах, Ігар Трызна, Валодзя Рабянок, Вячаслаў Барадуля ідзіце да мяне і перасуньце на адзін метр управа сейф, што ў кутку.

Хлопцы выйшлі на сцэну, узяліся з усіх бакоў за сейф, але, колькі ні пручкаліся, ён не скрануўся з месца.

– Сядайце, калі ласка, – папрасіў я. – Вы паказалі, што сейф мае вялікую вагу і яго немагчыма рукамі ссунуць з месца.

Калі ж у зале стала ціха, гучна прамовіў, прыкаваўшы ўвагу да сябе:

– А цяпер глядзіце ўважліва!

Я спусціўся ў залу, падняўся на самую верхнюю прыступку апошняга рада, павярнуўся тварам да сцэны. Зажмурыў вочы, удыхнуў у сябе паветра, сціснуў пальцы ў кулакі і тут жа растапырыў іх. Адчуў, як па далонях прабегла магутная сіла, яна калола, пранізвала цела, прасіла дзеяння. Толькі тады ціха і ўмольна прашаптаў:

– Ахутавана! Магутны Божа! Памажы!

На адлегласці сіла рукі дакранулася да сейфа, які важыў больш тоны. У ім ляжалі медыцынскія прыборы і стаялі бутэлькі з сернай кіслатой. Сейф, як пушынка, лёгка адарваўся ад зямлі і павольна пачаў падымацца ўверх. Потым, спыніўшыся, гарызантальна паплыў у левы бок сцэны. Нягучна апусціўся на падлогу.

Студэнты затаілі дыханне. Здзіўленне апанавала іх. Ільдзінкі апошняга недаверу расталі, і знаку не засталося ад яго. Потым гэтак жа, не марудзячы, падняў зноў сейф і паставіў на месца. Начынне сейфа не дзынкнула, не ссунулася з месца хаця б на міліметр...Хвілін колькі стаяў, утаймоўваючы сваю ўзбуджанасць, падняў рукі, аддаў рэшту космасу – і тут жа лёгка пабег да сцэны, падняўся на яе. Мне прыйшлося яшчэ нейкі час счакаць, калі аціхнуць студэнты, адшукаў позіркам Змітрака Кісялёва, пацікавіўся ў яго, ці так раблю...

“Так, так, Антон... Усё правільна... Для ўсіх цікава. І не толькі цікава. Карысна. Ты зламаў поўнасцю іх недавер”.

Глядзяць на мяне студэнты, маўчаць. Думкі свае пахавалі, ведаюць, што я іх пачую.  Ніводнага больш недаверлівага слова не было кінута ў мой бок...

І гэта была перамога. Я ўбачыў: над кожным са студэнтаў пачала мяняцца колерам аўра. Іх энергетыка пачала нараджаць у душы той добраўплыўны зарад, які жывіць розум і жаданне: замест шэрай рабілася чырвона-жоў-

тай, а потым і зялёнай... Маўчалі студэнты, маўчаў я. Разумеў іх, радаваўся за іх.

– Наступныя практычныя заняткі ў вас будуць праз два месяцы, – прамовіў ціха і стомлена, але яны чулі маё кожнае слова – у аўдыторыі не чуваць недаверлівых уздыхаў. – На іх мы пройдзем тэму “Падарожжа ў мінулы час”. Кожны з вас адправіцца роўна на пятнаццаць хвілінаў зямнога часу, а па тым часе ў шмат разоў больш. Падарожжа вашае будзе пасіўным. Вы будзеце толькі назіраць і хадзіць, не рэагаваць на падзеі, не ўмешвацца ў жыццё таго часу. Ніхто з вас не павінен парушыць тое правіла.

Воклічаў ужо не чулася, што перад імі фантазёр і фокуснік.

– Ці паверылі вы мне? – пільна паглядзеў у залу – кожнаму ў вочы, і пытанне маё прагучала з адценнем таямнічасці.

– Паверылі, спадар Антон! – аднагалосна ўсклікнулі будучыя летапісцы гісторыі Ліцвініі. – І ўсе як адзін падтрымліваем. У нас цяпер ёсць вера ў магчымасці і здольнасці чалавека.

Тое мяне радавала і ўсцешвала.

– А яшчэ мы потым навучымся браць сілу ад сонца і месяца. Поўнасцю адмовімся ад зямной ежы. Тады вы яшчэ раз пераканаецеся, што чалавек можа пражыць і пяцьсот, і восемсот гадоў... Ці верыце вы ў тое, мае юныя грамадзяне Княства Ліцвініі?

– Верым! Кожнаму слову верым!

– Тады дзякую! Толькі на моцнай веры і будуць трымацца ваш поспех і нашая агульная справа! На веры ў тое, што мы адродзім сваю Ліцвінію! Яна стане, як і некалі, багатай і вольнай. А цяпер... На сёння ўсё. Просьба – ніякіх пытанняў мне больш не задаваць. Шмат сілы аддаў вам. Вы тое адчулі. Вы не будзеце хварэць, будзеце адчуваць сябе бадзёрымі цэлы год. Да сустрэчы!

Хараша і светла на душы! Да мяне, бачыў, кіравалі Зміцер і Вераніка. Абое ўсміхаліся, радаваліся, што ёсць мажлівасць пабачыцца.

...Кожны чалавек – гэта зорка... Кожная зорка – гэта чалавек. Мы ляцім з Янінай між зорак, гуляем з ёю ў хованкі. Даганяю яе, а яна ўцякае. Пасля – наадварот. Вось так некалі мы ныралі з ёю на дно Чорнага мора і куляліся на дзесяцікіламетровай глыбіні, здзіўляючы падводных насельнікаў сваім паяўленнем... Зоркі цёплыя і даверлівыя, бы кацяняты. Мы спыніліся на адной з іх. Доўга стаім, абняўшыся, аглядаючы Сусвет. Пасля ходзім басанож па пяшчотнай паверхні і адчуваем радасць яднання з ёю. Калі надакучыла, пералятаем на наступную, большую і прыгажэйшую. А на адной дык сустрэлі невядомую жывую істоту – мяккі камячок з зялёнымі вочкамі. Як дзьму-

хавец. Быў ён пушысты і даверлівы, не спалохаўся. Лёгка пераскокваў з месца на месца. Падкаціўся да нас, пазіраў усмешлівымі маленечкімі вочкамі.

– Ты хто? – весела папыталася мая спадарожніца, спрабуючы пагладзіць яго – дакранулася пальцам.

– Я даўно тут гуляю. Я люблю жыць сярод зорак. Заставайцеся і вы тут – мне весялей будзе.

Яніна засмяялася, паглядзела на мяне, як папыталася: “А што, мо і сапраўды тут застанёмся? Давай тут, Антон, жыць будзем... Тут новую хату збудуем, станцыю... Нам ніхто ў каханні замінаць не будзе... Як здорава гучыць – каханне паміж зорак! Зорнае каханне! Гэта ж тое, пра што мы марылі з табою ўвесь час. Ці не так?..»

– А ідзі лепей ты з намі, – прапанавала Яніна, узяўшы Дзьмухаўца на руку. – Будзеш там, на Зямлі, у нас за коціка. Ты ж такі пяшчотны і мяккі.

– А што такое – коцік?

– То такая хатняя жывёлінка, якая жыве побач з чалавекам. У яго хаце. Мышэй ловіць...

– Мышэй? – перапытаў здзіўлена камячок-Дзьмухавец, прыжмурыўшы вочкі-бісерынкі. – А гэта што такое? Што з імі ён робіць? Гуляе?..

– Не... зусім не так. У яго такі інстынкт закладзены – падкрадваецца і ловіць. А як зловіць, то можа з’есці...

Дзьмухавец спалохаўся, зніякавеў, зрабіўся зусім маленькім – на далоні ўмяшчаўся, прашаптаў затоена:

– Я ж не ўмею лавіць мышэй... Тым больш іх есці. Я ж ніколі нічога не ем. Мяне кормяць Сонца і Месяц. І – пах кветак.

Мая спадарожніца зразумела сваю памылку, пачала тлумачыць:

– А табе і не трэба будзе іх лавіць. Ты будзеш займацца тым, чым прывык заўсёды. А нам будзеш расказваць цікавыя гісторыі са свайго жыцця...

– Прапанова, скажу вам, заманлівая. Але ж я люблю хадзіць і гуляць па зорках. У мяне іх тут шмат, выбірай любую. Па сваім настроі і жаданні. На гэтай, дзе мы з вамі, растуць толькі кветкі. Вунь на той, што далей, блакітнай, гучаць пяшчотныя і чароўныя мелодыі зорных музыкаў. А на трэцяй, што за ёю, жоўта-чырвонай, казачнікі расказваюць найцікавейшыя ў свеце казкі. Хаця кожнае слова ў іх – чысцюткая праўда. А ў вас там, на Зямлі, ёсць зоркі?

Жанчына ўздыхнула:

– Не, Дзьмухавец, на вялікі жаль, няма. Мы толькі бачым іх, як бачым Сонца і Месяц. Але зоркі далёка ад нас.

Гаспадар зоркі Кахання прашаптаў:

– Як мне шкада вас... Там жа, мусіць, вам сумна і нецікава жыць? Як можна жыць на Зямлі, калі на ёй няма зорак?

Альшанская паспяшалася супакоіць маленькую істоту:

– Не, нам не сумна жыць на нашай Зямлі. Мы таксама любім зоркі і месячык. Яны ж – спадарожнікі закаханых. Без іх нельга...

Дзьмухавец падумаў, адказаў:

– Бачыць – гэта адно. А вось гуляць па зорках, ды яшчэ па той, якая табе даспадобы, – тое зусім іншае. Так што вы мне выбачайце за адмову – не магу я прыняць яе. Таму застануся тут. Мне тут заўсёды добра і весела. А вось вам, калі стане маркотна ці цяжка, калі страшэнна захочацца адзіноты ці схованкі, калі ласка, кіруйце напрасткі да мяне ў госці. Хаця ж – чаму ў госці? То ж вашая планета, вашае сузор'е – і імя ёй Ахутавана!

– Ахутавана? – міжволі вырвалася ў нас. – Адкуль у яе такая назва?

– І не толькі назва, – прыжмурыў вочкі Дзьмухавец, засмяяўся задаволена, што выклікаў у нас здзіўленне, – а магічнае значэнне. Для вас жа гэтае слова – сэнс жыцця. Таму і імя ў мяне такое ж – Ахутавана...

– Імя?

– А што? То ж вы мяне і прыдумалі такім у сваім уяўленні. Закаханым і фантастычным уяўленні. Ад гэтага я і нарадзіўся. Я – дзіця кахання. А так вы можаце называць мяне ласкава-памяншальна – Ахутаванчык...

– Дзіва дзіўнае! – яшчэ больш здзівіўся я, не ведаў, як аднесціся да такога адкрыцця. – Вось яно ўсё адкуль... Ты ведала пра тое, Яніна? Ведала?

Але яна адвярнулася разам з Дзьмухаўцом-Ахутаванчыкам, глядзяць некуды на іншыя планеты, іншыя зоркі. На маё плячо вавёркай ускочыў Ахутаванчык. Дзьмухнуў жартоўна ў вуха, як прадзімаў тэлефонную слухаўку, прапанаваў:

– Паслухайце мяне... Ёсць прапанова. Давайце трошкі прагуляемся па маіх зорках. Спачатку па гэтай, дзе мы знаходзімся. Яна найпрыгажэйшая з усіх, бо тут шмат кветак і тут самае гаючае паветра. Гэтыя кветкі растуць дзякуючы вам, дзякуючы вашаму каханню. То вы і жывіце іх сваёй энергіяй, якая далятае сюды ад вашай Зямлі. Вы, можа, і не ведаеце пра тое...

– Здагадваемся, Дзьмухавец! Мы прымаем тваю прапанову. Гэта гасцінны жэст. Ты – гід, а мы – экскурсанты.

Кветак такіх мы ніколі не бачылі. Яны здаваліся нейкімі знаёмымі і блізкімі. Непадобныя адна на адну, розніліся колерам і памерамі. І – во дзіва! – сустрэў нас блакітны васілёк. Рос побач з жытнім сцяблом. Яго сіняе вочка паглядала на нас радасна і прыветна. Як ён трапіў сюды з Ліцвініі?

– То ж вашыя кветкі. Вы іх бачылі толькі ў сне. А сны пераносяцца сюды і тут жывуць. І – кветкі таксама.

– А ты толькі па гэтай зорцы гуляць любіш?

– Не толькі... Я, як той маленькі прынц, якога нарадзіў французскі лётчык-летуценнік, маю сваю асноўную планету. Але гуляю і па ўсіх астатніх. А вы адкрылі і для сябе сваю зорку – зорку ў сузор'і Кахання. Яшчэ яна Венерай завецца. Пра яе ж ваш знакаміты паэт пісаў: "Зорка Венера ўзышла над зямлёю..."

– Дзякую, Ахутаванчык, што ты адкрыў нам яе! Дзякуй, што ўтрымліваеш яе ў ідэальным парадку!

Ён засмяяўся, пераскочыў на плячо Яніне. Усеўся ямчэй, пачаў тлумачыць:

– Я тут бачыў шмат шчаслівых людзей. Шчаслівых ад кахання. Сюды незакаханыя не даляцяць. Цуда-крылы маюцца толькі ў закаханых. Яны заўсёды, узляцеўшы ў сваім шчасці да сёмага і сотага неба, прыляталі сюды. І тут адчувалі сябе шчаслівымі і незалежнымі. Тут можна пражыць не адну тысячу гадоў. Тут кветкі валодаюць эліксірам бессмяротнасці. Я тут і за экскурсавода, і за гіда, і за дарадчыка. Бо закаханыя заўсёды збіваюцца з дарогі ў царстве кветак і таму робяцца такімі бездапаможнымі, што на іх смешна глядзець... Хаця яны і не заўважаюць таго. Вы за сабой такога не заўважалі?

У Яніны ружовяцца шчокі, наліваюцца сокам вусны, а ў паглядзе іскрынкі пяшчоты і даверу:

– Не, Ахутаванчык, не заўважалі.

Гаспадар вадзіў нас па сваіх аранжарэях. Радаваўся, калі Яніна, уражаная, нахілялася, каб, зажмурыўшы вочы ад задавальнення і мройнасці, дакрануцца да нейкай кветкі і панюхаць яе...

– А гэтая кветка з вашай Ліцвініі, – паказаў Дзьмухавец на блакітны васілёк, на поле васількоў, з якіх выткаўся вялізны жывы дыван.

– Адкуль ён тут, Дзьмухавец? – расчулілася Яніна, пагладзіла блакітнавокую кветку, спыталася: – Васілёк-васілёчак, адкуль ты тут? Ты ж – як прывітанне з роднай Ліцвініі!

Васілёк захістаўся, як жывы, ад ветру. Загайдаўся блакітны дыван поля.

– Яны ад вашага кахання выраслі. Вашай магутнасцю жывіліся. Хутка і вашая Ліцвінія расцвіце гэтаксама. Такія кветкі заўсёды цвітуць на яе вольным абрусе. Вы яго і засцелеце на стол, за якім будзеце святкаваць сваю перамогу над сіламі зла, калі адчуеце сябе зноў шчаслівымі і вольнымі, люд Вялікага Княства Ліцвініі...

Прыйшоў час і развітвацца. Мы ўзялі Ахутаванчыка па чарзе на рукі, паднеслі да твару, дакрануліся носам да носа, сказалі:

– Ты не сумуй тут, дружа!

– А на маіх зорках ніколі сумна не бывае. Вы не дасце мне сумаваць.

– То і добра, – радаваліся мы. – Хай Ахутавана ніколі не ведае суму і расчараванняў. Шчасця тваёй планеце Венеры!

– Так яно і будзе! – крыкнуў у адказ Дзьмухавец-Ахутаванчык. – Ахутавана! Да сустрэчы!

– Ахутавана! – адказваем мы, аддаляючыся ад яго, пачынаючы разбег у Галактыку.

Дзьмухавец развітальна махаў нам рукой...

Мы ляцім скрозь галактыкі, абмінаючы сузор'і. Неадрыўна глядзім адно аднаму ў вочы.

– Спадар Антон, шляхціц Клімовіч! Мы яшчэ вернемся на нашую планету Кахання?

– Вернемся, Янінка, абавязкова вернемся. Ахутаванчык запрашаў жа нас да сябе.

– Я вельмі хачу верыць у тое.

– Нам жа нішто не можа перашкодзіць. Бо Ахутавана заўсёды з намі, заўсёды ў нашай душы...

Зноў адчуў, як ад яе зыходзіла ўзмоцненая трывога. Але такой, здавалася мне, яна ніколі не была! Што адчувала сэрца жанчыны? Што прадчувала?

Няўжо – Зямля?! Поле, як акінуць вокам, спрэс блакітнае і неабсяжнае. Як і неба. Акурат як той дыван, што паказваў нам Дзьмухавец. Цвіце лён. Маленькія суквецці ўтвараюць блакітны абрус. Ім засцелена, здавалася, уся зямля, што зліваласяна гарызонце з небам... Рахманае сонца жывіла палеткі, промні лашчылі і саграваліі мне твар. Мне здавалася, што я стагоддзі не быў на Зямлі. Бо шчыра радаваўся сустрэчы з лугам і лесам. Не ўтрымаўся – прайшоўся басаногж па роснай халоднай траве. Нехта сцёр маю памяць, бо нічога не ведаў пра сябе, пра тое, што адбывалася са мною, дзе быў і што бачыў. Адчуваў сябе, няйначай, цяжарнай жанчынай, якая не магла нарадзіць.

Мяне распірала незнаёмае дасюль пачуццё. У сонечны дзень бачыў у небе зоркі. Іх жа відаць толькі ноччу. Бачыў яшчэ, як пераляталі ў небе нейкія незразумелыя лятальныя апараты. У іх сядзелі нейкія стварэнні і паказвалі пальцам у мой бок. Не разумеў толькі: ці то пасміхаліся з мяне, ці з гонарам паказвалі на мяне, каб расказаць іншым пра дзіўнага зямляніна, які бачыць і чуе тое, што недаступна ўсім астатнім...

На небе ні воблачка. Праз хвіліну за наміткай блакітнай палоскі лесу жыханула маланка. З-за пагорка, у тым баку, дзе злівалася сіняе поле з небам, вынырнуў на белым грацыёзным кані пры ўсёй амуніцыі малады

вершнік. Трымаў ён над сабою бліскучы даўгі меч. Не апускаў яго – як аберагаў усё роўна ад таго грому ці перуна зямлю. Вершнік вагаўся, выбіраючы дарогу, і неўзабаве накіраваў каня ў мой бок. Скакаў па блакітным абрусе, які выткалі васількі. Бег каня быў запаволены, марудны, спаважлівы – як што перашкаджала ці замінала, і капыты, здаецца, не краналіся зямлі. Я ж не рушыў з месца, стаяў як укопаны. Да мяне пакрысе падступаліся ўзрушанасць і салодкашчымлівая радасць.

Даўно чакаў я вершніка. Даўно верыў, што менавіта вось такім сонечным днём ён і адшукае мяне, каб уручыў яму тое багацце, што прынёс з Космасу. Толькі яму я мог аддаць сведчанні для Праўдзівай Кнігі Памяці нашага Княства. Ён наблізіўся зусім блізка. Але тупату капытоў не пачуў – быццам прывід узнік перада мною. Убачыў шчыт з патрыяршым крыжам, похвы ад мяча – залачоныя, бліскучыя, і сам меч у моцнай і дужай руцэ.

Ваяўнічага ці агрэсіўнага ад вершніка не чулася. Наадварот, выпраменьвалася магутная моц Дабрыні і Абаронцы. Абаронцы і Заступніка Вялікага Княства Ліцвініі... І тут жа з неба жыханула чорна-атрутная маланка – скіравала сваю смяротную піку на мяне. Але вершнік тут жа выдаўжыў руку – і меч застыў над маёй галавой.

Маланка апяклася аб лязо мяча, успыхнула ружова-чорным полымем і згарэла, упала клубком на зямлю – і згасла... Каб не ён, вершнік Княства, не мінаваць мне бяды. Абараніў, засцярог, ўратаваў жыццё... Значыць, ён – абаронца. Абаронца ад зла.

– Чаму так доўга не з’яўляўся? – спытаў яго, калі ён зноў падняў меч над галавой.

– Раней не мог. Чакаў.

– Чаго?

– Калі абудзіцца народ. Калі зразумее і адчуе, што ён гаспадар свайго лёсу і сваёй Дзяржавы. Чакаў, калі загаворыць на роднай сваёй мове, якую яму даў Бог.

Я падаў яму дзве тоўстыя кнігі, напісаныя мной і Янінай. Сказаў, што неўзабаве яшчэ некалькі тоўстых пастаментаў будзе гатова – рыхтуюцца ў Касмічнай Радзе.

– Дзякую, яны вельмі неабходны для нашай гісторыі! Цяпер усё больш і больш людзей паверылі ў сябе. Кожным днём іх более. Людскія душы абудзіліся. Вашыя старонкі ўвальюцца васільковым вянком у Кнігу Жыцця...

Зашыпела гадзюкай маланка, скіравала свае смяротныя стрэлы на мяне і на кнігі. І зноў вершнік імгненна падставіў вострае лязо мяча. Чорнае воблака яшчэ мацней зашыпела, скацілася безжыццёва на зямлю – у тую ж чорную яміну, што ўтварылася перад гэтым... І ў той жа момант я пазнаў

вершніка! То быў Яён! Ён сышоў з белага няўрымслівага каня, пагладзіў яго шаўковую доўгую грыву, што кранался зямлі, і накіраваўся да мяне, не выпускаючы з рук мяча. Мяне ж нешта скаланула – не мог зрушыцца з месца. Яён павярнуўся да мяне спінай. Зрабіў яшчэ адзін, апошні крок. І – увайшоў у мяне.

Тады ж я адразу адчуў, як мы зліліся ў адно цэлае. Тады ж мне зрабілася невыносна балюча – і з грудзей вырваўся немы і доўгі крык – крык радасці і сцвярджэння, крык жыцця і спадзявання... У руках адчуў нешта важкае, амаль непасільнае. Але ўтрымаў яго – мне трэба было ўтрымаць, чаго мне тое ні каштавала б... Нейкі голас загадваў мне тое зрабіць... За спінаю пачуліся крокі, але не было магчымасці азірнуцца, каб пераканацца ў сваіх здагадках.

– Не палохайся, любы, і не аглядвайся. Нельга тое рабіць, бо парушыш агульнае суладдзе пачатай намі гісторыі... Так, то я, твая Ахутавана!..

Голас Яніны супакоіў мяне. Зразумеў, што трэба ўсё прымаць так, як яна раіла, тады ўсё і адбудзецца па нашым сцэнарыі... Яна прайшла скрозь мяне, як і Яён. Тады ж перастала біцца ў грудзях другое – закаханае сэрца. Яна прайшла і выйшла з мяне, панесла сваю палавінку з сабой. Па маіх плячах яшчэ доўга струменіўся шлейф яе шаўковых косаў. На галаве паспеў заўважыць вянок, але ўжо не з васількоў, а рамонкаў. Чамусьці меч апынуўся ў яе руцэ, і яна ўселася на месца вершніка. Трымала ў руцэ нашыя кнігі. А пасля і не Янінай мне падалася, а князёўнай Ліцвініяй – прыгожай і ўпэўненай, з тым жа вяночкам на галаве. І трэці раз атрутна зашыпела маланка, пусціўшы на мяне плойму чорных стрэлаў. Але меч і на гэты раз прыкрыў мяне, абараніў, і нічога благога не здарылася са мною... Трэці раз жыццё маё было ўратавана.

А ў памяці, і на маіх вуснах, неспакойна звінелі, пераліваліся крынічкай паўзабытыя радкі:

*...каханая, як цяжка без цябе.*
*Без погляду твайго, твайго кахання...*

Ніяк не мог успомніць, адкуль радкі, як і не ведаў, хто іх напісаў. Толькі нейкае незразумелае і чароўнае слова суправаджала, як музыка:

– Ахутавана!.. Ахутавана!.. Ахутавана!..

Хораша мне стаяць пад чэрвеньскім сонцам і дажджом. Цёплыя промні і дажджавыя кроплі падалі на твар, абмывалі мяне чысцінёй і бальзамам, касмічным нектарам... Адчуваў прыцягненне неба – неабсяжныя і недасягальныя галактыкі клікалі да сябе... Калі ж толькі падумаў пра тое, то адразу адчуў сябе ў бязважкасці. На імгненне падалося, што адарваўся ад зямлі і касмічная сіла ўзняла мяне на планету Кахання, на зорку Кветак, дзе чакаў

нас Дзьмухавец-Ахутаванчык... Верылася: тое і сапраўды можа адбыцца ў любы момант, калі захачу таго... І тая вера не пакідала мяне, яна проста драмала ў тайніках маёй душы, дачасна не прасілася на волю.

...Адзінае, што мяне трывожыла і непакоіла, дык гэта знікненне Яніны Альшанскай. Помнілася, пра нешта мы з ёю дамаўляліся. А вось пра што – ніяк успомніць не мог... Яна ж не падавала ні голасу, ні знаку. Здзекавалася з маіх пачуццяў? Чаму згубілася ў зямной прасторы? Чаму не чую яе покліч? Калі ўсяго гэтага няма, то ці было наяве тое, што адбывалася з намі да гэтага? Мо то толькі быў салодкі сон? Мроі ці прывідная фантасмагорыя?

Мо зусім і не кахала мяне, а я ўявіў бог ведама што ў хворым сваім жаданні? То мне, мусіць, так хацелася... І я рашыў знайсці, адшукаць яе на шырокіх прасторах Зямлі і Космасу, паклікаць і праверыць яе пачуцці. Таму і прыдумаў ёй апошняе выпрабаванне...

*Мае шчырыя і выпакутаваныя словы прызнання*
*нараджаліся для цябе прачула і з тайнай надзеяй,*
*бо верылася, што павернецца яно зноў да лепшага*
*і ў нашых сэрцах адродзіцца разуменне адно аднаго...*
*З тых слоў знячэўку, сам не чакаў, дальбог,*
*я выштукаваў з адмысловым узорам казачны цуд –*
*крышталёвую, падобную на цябе ранейшую, вазу –*
*ды яшчэ празрыстую, блакітную, як неба,*
*чыстую, як крынічная вада, і, як і ты, загадкавую,*
*чароўную, якой ты і прыходзіла ў дзівосных казках.*
*Ваза – чараўніца – нябачная звычайнаму, чужому воку,*
*а толькі мне і каханай – яе ўлюблёнаму позірку...*
*Я гладзеў на свой цуд з радасцю і са здзіўленнем,*
*што стаў з-за мройных пакутаў ці не шкляным майстрам;*
*а ты ляжала маўкліва, затуліўшыся ў зеленцаватую намітку,*
*прымружыўшы вейкі, адвярнуўшыся ад мяне да сцяны, –*
*на якой віселі малюнкі з зыркай восенню і морам;*
*ты чакала ад мяне нечага важнага і рашучага –*
*ці то слоў, ці то дзеянняў, каб зразумець усё і ўбачыць,*
*нарэшце, таго, каму баялася паверыць шчыра,*
*скінуўшы з майго твару маску, якая хавала мяне сапраўднага.*
*І тады ж я паставіў побач з табою крохкую вазу, –*
*ля беласнежных, бы лілеі, узгоркаў слодычы і вар'яцтва,*
*а калі паклаў між іх галаву і прыслухаўся, стаіўшыся,*
*то пачуў, як занепакоена і трывожна забілася тваё сэрца.*
*Тады ж, каб супакоіць цябе, пачаў шаптаць тыя словы,*

*але так, каб яны далятаі не толькі да твайго слыху,*
*а і да сэрца, да тваёй недаверлівай душы і Ахутаваны...*
*Спадзяваўся – а мо і дастукаюся прызнаннем да тваёй душы,*
*і, можа, ты, урэшце, станеш той, ранейшай, зразумелай,*
*пяшчотнай і закаханаю, перапоўненай смагаю і жаданнем, –*
*такой і снілася мне па начах, як дражнілася ўсё роўна*
*ці пасміхалася з маёй душэўнай бязладнасці і нясмеласці...*
*Як мне хацелася, каб ты цяпер хаця б усміхнулася,*
*як і раней, уздыхнула ад слодычных гадзінаў яднання,*
*прашаптала, як песню, тое чароўнае адзінае слоўка,*
*толькі адно з процьмы мільёнаў, што гавораць людзі...*
*Прызнаюся: ніколі і нікому, ні да гэтага, ні пасля,*
*ні на тым, ні на гэтым жорсткім і грэшным свеце*
*не шаптаў, не гаварыў, не імкнуўся вымавіць такія словы.*
*Яны ўвесь час былі надзейна схаваны ўва мне глыбока*
*і спалі, лежачы маўкліва на донцы маёй, спакутаванай*
*і параненай часам і халоднымі адносінамі, душы..*
*Сам не ведаў, тым больш не здагадваўся пра іх існаванне,*
*не думаў, што яны некалі народзяцца, дачакаўшыся ўсё ж*
*твайго слыху і гэтай сонечна-святочнай часіны...*
*І адразу ж, прамовіўшы тое, адчуў – у тую ж хвілінку,*
*у тое ж імгненне, якое доўжылася ці не вечнасць, дальбог,*
*што ў мяне раптоўна адняліся апошнія сілы жыцця*
*і я страціў галоўнае, што ёсць у кожнага чалавека –*
*здольнасць Кахаць цябе. Цябе, адзіную ўва ўсім свеце...*
*Мне ж заставалася зрабіць толькі самае апошняе –*
*паставіць у тую чароўную вазу свежыя ранішнія кветкі,*
*якія прынёс перад узыходам сонца ў наш утульны пакой,*
*ведаючы, што ты любіла толькі блакітныя валошкі-васількі,*
*якія растуць на жытнёвым і неабдымным полі Ахутаваны...*
*Але раніцай – золкай і халоднай, роснай і ціхай,–*
*перад самым узыходам жоўта-ружовага млявага сонца –*
*бы сланечнік, круглага і прыцягальнага ў таямнічасці,*
*я, прачнуўшыся, не ўбачыў цябе побач са мною...*
*Ты ж пайшла ў малінавае мроіва – ці то ўцякаючы ад мяне,*
*не развітаўшыся, не сказаўшы ні добрага, ні благога,*
*ці то расчараваўшыся ўва мне, чаго і баялася ўвесь час.*
*А на тумбачцы я не прыкмеціў вазы, як ні ўглядаўся.*
*І заўважыў, што па ўсім пакоі, спрэс па чыстай падлозе,*

*рассыпалася яна кропелькамі залатога дажджу –*
*і ўсе яны змяшаліся з пялёсткамі разарваных васількоў...*
*Думаю, ты скінула знарок, ці яна сама разбілася ад крыўды*
*на дробныя аскалёпачкі – зыркія, да слепу ў вачох?*
*Дзіўлюся, уражаны: і як толькі ты прайшла па іх босая?!*
*Прайшла, не параніўшыся, ступіўшы на аскалёпкі...*
*Цяпер жа ведаю: не ўбачыла ты і зусім тае вазы і кветак,*
*і перакананы: не адчула нават і яе прысутнасці!*
*...Таму мае памкненні і разбіліся, як і яна, аб лёд недаверу.*
*А раз не бачыла, то і не магла парэзацца на тых аскалёпках.*
*А раз не парэзалася, то і адкрылася мне нечаканая выснова:*
*значыць, не супадалі нашыя жаданні, як ні імкнуліся, –*
*ды і не маглі яны супадаць, калі за ўвесь час я не здолеў*
*запаліць у тваім сэрцы надзею, полымя і радасць шчасця,*
*а ўсяго толькі назбіраў галінак для цяпельца – і то сырых,*
*не смалістых, ды і, самае, галоўнае і вінавата-прыкрае, –*
*я ж забыўся прыхапіць з сабою нават і запалкі...*
*Вось чаму ты мне падалася глухой і нават абыякавай, –*
*ты ж не змагла ўспрыняць майго апошняга кроку табе насустрач,*
*а я, дурань, шчыра верыў, што сальюцца нашыя збалелыя душы*
*ў адно вялікае і непарушнае Сонца нашай еднасці і кахання,*
*і мы абое ўзляцім на шыкоўныя аблокі, нашай ужо, Ахутаваны...*
*Дык я ж, выходзіць, ніколі і не будзіў тваёй загадкавай душы,*
*то я, значыць, быў халодны і ледзяны, як айсберг акіяна,*
*а толькі ўявіў Бог ведама што пра сябе, саманадзейнага і глухога...*
*Бо не навучыўся адчуваць твае жаданні і шчырыя думкі.*
*А яшчэ ж, дурань, абвінавачваў цябе – чыстую і светлую –*
*і ў чым абвінавачваў?! У сваёй жа жорсткасці і слепаце,*
*а цяпер пакутую зноўку, – але ўжо ад таго, што думаю ўжо інакш:*
*ці вымалю цяпер, пасля ўсяго гэтага, хаця б адзінага слова спагады?*
*Ці дачакаюся я яго?*

Вечарэла... Паўзмрок ахутваў наваколле. Некалі ж мяне ахутвала Ахутавана... Аднекуль даносілася трымценне надзеі, слабенькае і кволае, як узмах крыла камара. Голас невядомай птушкі напамінаў мне, што вакол жыве, пульсуе нябесная і зямная прастора і што між сабою яны – родныя браты ці закаханыя... Млоснасць і стома авалодвалі мною. Душу напаўнялі расчараванне і абыякавасць. Дзіўная і прыгожая казка скончылася, як і разбілася ваза з блакітнымі васількамі, а я вярнуўся на грэшную і па-

кутную сваю зямлю, дзе мне было ўсё вядома, дзе ўсё трэба было перайначваць, перарабляць і аднаўляць... Мяне чакала Кніга мінулага Жыцця. Нехта падказваў, што не ўсе старонкі я вярнуў ёй і што мне яшчэ ў нейкім іншым жыцці абавязкова трэба будзе вярнуцца да распачатай справы...

Да пляча нехта дакрануўся – лёгка, асцярожна. На мяне пазірала жанчына сярэдніх гадоў, глядзела зычліва, пяшчотна, як маці. У вачах свяцілася дабрыня і спагада.

– А вам, шаноўны спадар, пісямцо, – усміхнулася, нахіліўшы галаву да правага пляча – акурат як Яніна.

– Ад каго?

Пацікавіўся безуважна, абыякава, ведаючы, што гэта звычайная памылка – хто ж мяне можа ўспомніць і напісаць на невядома які адрас. А я тапіўся ў вачах жанчыны – зеленцавата-мройных, недзе да гэтага бачаных і да болю родных і дарагіх.

– Не ведаю, вось перадалі з Касмічнай Рады...

Вусны ў яе па-маладому пульхныя і сакаўныя, прыкусіла ніжнюю губу, з затоенай хітрынкай глядзела ўсё на мяне, як пасміхалася з маёй недасведчанасці і нездагадлівасці...

З той жа абыякавасцю разарваў блакітны канверт з чырвонымі пасачкамі па брыжыку і ўтаропіўся ў пачатак напісанага некім тэксту...

*Як мне цудоўна і чароўна –*
*кахаць і лётаць, марыць і жадаць...*
*Але цябе баюся я ўсё роўна –*
*цябе, каханы мой, усё ж не распазнаць...*
*Ахутавана — то жыццё ці казка?*
*Спляценне болю й мройнай нематы?..*
*А дзе душа твая? Схаваная пад маскай?*
*І дзе ж сапраўдны, непрывідны ты?*
*...Я абаронена, бо я адчула крылы,*
*каханы мой, я зноў хачу прыгод...*
*Хаця яшчэ не ўсё табе адкрыла*
*за гэты цяжкі і вар'яцкі год...*

Па маім сэрцы разлілася бальзамам пяшчота, заспявала сэрца.

Я азірнуўся. Але жанчыны не ўбачыў. Нават і слядоў не значылася побач – а я ж стаяў на шырокім мокрым пясчаным беразе ля Прыпяці, і мае ногі глыбака ўтапіліся ў жвір.

Тады – хто ж гэта адгукнуўся на мой маўклівы покліч?

І – хто прынёс і аддаў мне аркушык паперы?

Далей, пад вершам, быў працяг:

*“Любы мой шляхціц Антон! Ці ты знік, ці я схавалася ад цябе, не ведаю... Навошта ж ты так пажартаваў з вазай? Я парэзала ўсе ногі, і цяпер яны крывяняць, кроў не перастае цячы... Не ведаю, чым суняць...”*

Няўжо зноў яна кліча ў завоблачныя далі-абсягі?

То яна, дакладна яна, Яніна! Хто ж яшчэ, акрамя яе, мог быць? А дзе і як мне цяпер адшукаць яе? Хіба мо там – у сузор'і Кахання?

Захацелася паслаць у блакітную прастору тое чароўнае і магічнае, прыдуманае ёю ж, слова, якое абавязкова зробіць з намі цуд – і ўсё паўторыцца зноўку, і мы вернемся на сваё сёмае неба...

Ад адной толькі думкі мяне пачало распіраць ад прадчування і веры ў тое, што вось-вось пачнецца працяг прыдуманай намі казкі, не, нават не казкі, а явішча, нашага другога жыцця.

Хацелася працягу здзяйсненняў і цікавых падарожжаў у сівую мінуўшчыну залатога веку Вялікага княства Ліцвініі...

Я набіраю поўную грудзіну ранішняга паляшуцкага паветра, углядаюся ў блакітнае, без воблакаў, неба, нацэльваю сваю энергію і духоўную сілу на нашае сузор'е Кахання і – дасылаю туды чароўнае і магічнае слова-жаданне:

– А-ху-та-ва-на-ааа!..

І ў той жа момант...

*Сочы, санаторый “Беларусь”,*
*лістапад 1994 года*

# Апавяданні

……………………………………………………………………..

## Настальгія па нерушы

*Абразок*

Завіруха ўсчалася яшчэ з вечара…

Скуголіў, шараваў свае бакі аб шурпатыя сцены хатаў вірлівы вецер, біліся адна аб адну галінкі-рукі дрэваў, гухкала нешта за сценамі, аж уздрыгвала, здаецца, хата. Гуло пагрозліва ў коміне печы, быццам нячысцікі скакалі на гарышчы, наладжваючы свае скокі, стараліся знесці страху з хаты…

Пасля апоўначы пачало ўсё аціхаць, сцішвацца, а потым і зусім стала ціха, незвычайна ціха. Не ўтрымаўся, зіркануў за акно: нехта, нябачны, як волат-сейбіт кідаў спорныя прыгаршчы снегу на палі, дарогі, дахі збудаванняў. Панакідаў шчодры Снегасей столькі, што, мусіць, не прайсці і не праехаць, нават суседнія хаты схаваліся пад гурбамі…

Мусіць, і людзі так, як я, цікаўна глядзелі ў вокны, стараючыся вызначыць – што ж там робіцца на вуліцы, а тае вуліцы і нябачна – за шыбамі суцэльная бель. І дзверы адчыніць немагчыма – “замкнуў” іх снег, нябачнай пячаткай запячатаў.

Першаснег для мяне заўсёды быў дзівам і цудам, казкай і духоўнай узрушанасцю, незразумелыя паводзіны прыроды абуджалі нябачныя струны патаемнага настрою, якія праяўляліся раз на год, – менавіта такой вось парою. Як снег на галаву… Гэты выраз пра нечаканасць моманту. Але я заўсёды чакаў яго, раз-пораз выглядваў у акно, – і заўсёды першая прымерка белага футра зямлі не трапляла мне на вочы. Як гуляўся снег са мною ўсё роўна, як дражніўся, нараджаючы ў маёй душы ўсё большую і большую цікавасць…

Заўсёды ў такі час нараджаўся незразумелы, дзіцяча-ўзнёслы настрой з дамешкам шчымліва-салодкага чакання нечага незвычайнага, чароўнага, як прыходу казкі, як з’яўлення цуду… Ува мне нараджалася прадчуванне першага снегу. Пачуццё цнатлівасці, чысціні (абмый мяне, Божа, ісопам – і я бялейшы за снег зраблюся – так у малітве да Вышняга) запаўзала ў мае

сны колькі начэй задоўга да гэтага, прымушала мяне зрабіцца хлапчуком і адчуць, зноўку перажыць (у які раз!) той час, тыя гадзіны, калі я з бацькам, на цямочку, выбіраўся ў лес – у лесніковую дзялянку да звяроў і птушак, да цішыні і цноты…

Перад гэтым мне сніўся адзін і той жа сон – я йду па белым-белым снезе, сустракаю на сваёй сцежцы і лісу, і зайца, і барсука, – размаўляю з імі, радуюся, што разумею іх мову, а яны мяне, смяюся, абдымаю іх, бяру на рукі… І воўк рабіўся ручным, лашчыўся да мяне, жаліўся на сваё ваўчынае цяжкае жыццё…

Але на самым цікавым месцы мяне катурхае бацька за плячо, шэпча, каб не разбудзіць сямейнікаў:

– Уставай, Янік. Сам жа прасіў разбудзіць…

Я не крыўдаваў на бацьку, што ён перабіў  такі цікавы і казачны сон, наадварот, быў удзячны, што ён стрымаў сваё слова, дадзенае яшчэ вечарам, што калі ноччу выпадзе нечакана снег, то ён абвязкова возьме мяне з сабою ў лес. А сон… Дагледжу яго ў лесе…

Мы брылі па цаліку, па снежным нерушы.

Снегу мне, малому, было вышэй каленяў, і ногі з цяжкасцю сунуліся па шарану, пакідаючы глыбокія сляды, але я не зважаў на тое, было адчуванне, што не ішоў па зямлі, а ляцеў. Не махаў крыламі нават, якіх не было, але мяне нешта прыпадымала вышэй і вышэй, і я кіраваўся ў паветры ўжо толькі позіркам – куды зірну, туды і несла  незразумелая, але падуладная мне, сіла.

Я забываўся пра ўсё, і толькі пільным і згаладалым позіркам лавіў незвычайныя малюнкі, усё яшчэ не перастаючы здзіўляцца з відовішчаў, – і тады здавалася, што сон мой працягваўся, і вельмі жадалася, каб ён ніколі не ўцякаў…

Як нядаўна і як даўно тое было!

Праз шмат-шмат год я прачнуўся такой жа раніцай з прадчуваннем снегу, жаданнем сустрэчы з ім – чакаў  яго, як сваю каханку, баючыся, што яна перадумае і не прыйдзе на спатканне; ускокваю з ложка – і бачу таямнічы подых святла, але найперш адчуваю, што за акном, за сцяной – за плотам, на поплаве, і далей ужо ў самім лесе, – усюды ляжыць тоўсты лаплан нерушу. І я не вытрымліваю, выбягаю ў сенцы, расчыняю насцеж дзверы і выскокваю ў двор – босы, амаль голы, і радуюся, як некалі, а мо яшчэ і больш, што прадчуванне не падманула мяне: так і чакалася, так яно ёсць і насамрэч, так і мроілася мне ўсю ноч у маім дзіцяча-дарослым сне…

Сярпок маладзіка завіс над убеленай ялінай; пад яе шатамі спаў стамлёны вецер; наўкола звінела, раскашоўвалася крышталёвым звонам гулкая цішыня…

Марозу ногі не адчувалі, рукі – таксама. Зачэрпваю поўныя прыгаршчы снегу, мыюся ім, націраю грудзі, скаланаючыся ад колкага холаду, – і мой лашаковы рык асалоды і задавальнення разлягаецца па вёсцы, адскоквае рэхам на лугавіну і ляціць далей да ўзболатка, схаванага пад тоўстым покрывам, і відаць, як ля Ігналявай крыніцы чырвоным полымем загараецца суквецце гронак падмарожанай каліны… Мяне чуваць на Будках і Затросніцы, і дзівяцца, мусіць, людзі, што за звер іх будзіць так рана…

Спіць і счарнелая ад холаду Прыпяць, прыцішыла свой бег, як засынала ўсё роўна, але сон яе, ведаю, прывідны, падманлівы. І нехта – ці не лесавік – нячутным шэптам дыктуе мне словы Максіма:

*Над вадой ля берага*
*ціха спіць асока,*
*Ды лаза зялёная*
*жаліцца-шуміць,*
*Хвалі ціха коцяцца*
*і бягуць далёка, –*
*І ўсё наўкола сном*
*адвечным спіць…*

Похапкам снедаю, укідваю ў заплечнік акраец хлеба і шматок сала – мо ў лесе падчас адпачынку наладжу цяпельца ды, начапіўшы на канец галінкі, падсмажу на агні – таксама рытуал адтуль, з дзяцінства, і смак адтуль, калі разам з бацькам сядзелі ля кастра – з ражэнчыкамі, як з вудамі каля рэчкі, а потым, калі сцякаў тук, падстаўлялі змерзлы хлеб, – дужа хацелася паўтарыць тое…

Спяшаюся, стараюся не спазніцца на другое, галоўнае прычасце, – у падарожжа-вандроўку па нерушы.

Лес чакае мяне, ведаю дакладна, – нездарма ж пасылаў у мае сны свой чароўны покліч на спатканне – значыць, запрашаў да сябе.

Не такі глыбокі, як у дзяцінстве, але амаль даходзіць да каленяў цнатлівы покрыў белізны, прымушае трымцець ад радасці маё сэрца, абяцаючы нешта цікавае і непаўторнае… Але да лесу яшчэ шоргаць і шоргаць. Пакуль толькі лугавіна, кустоўе лазы, пасля будзе ўзболатак… Пераходжу Міколікаў брод, а потым Алёсы.

І вось ён – лес. Нізкарослыя сасонкі, прыкрытыя пуховымі белымі шапкамі ад начнога прымаразку, – як акамянелі. Здаецца, нават калі і крануў бы іх за плячо вятрыска, то яны і не зварухнуліся б – нябачны начны дойлід-скульптар зляпіў такі адмысловы цуд.

А бярозы, што стаялі воддалеч, цененька пераразвоньваліся срэбрам сваіх галінак. Як крышталёвая люстра з вісячымі аскалёпачкамі, што вісіць пад

столлю ў маёй гарадской кватэры. А мо то сінічкі заціенькалі ў пошуках корму? Не зразумець – у прыроды свае гукі, свая мелодыя, свае сімфоніі і фантазіі… Дрыготка ў целе ўсё яшчэ не праходзіць, хвалюючая радасць, радасць сустрэчы з прыгажосцю не аціхае, а, наадварот, узрастае ўсё больш і больш, падымаючы хвалі ўзбуджанасці вышэй і вышэй.

Вочы ўжо прызвычаіліся да нерушу, да суцэльнай белізны, слых наструнена ўспрымаў напятую цішыню, як натуральную і звычайную з'яву…

*І хістаецца асока,*
*і шуміць высокі бор,*
*А ў душы не замаўкае*
*струн вясёлы перабор…*

Божа, з чым яшчэ прыгажэйшым і дзівосным можна параўнаць гэткі настрой, гэткі краявід, гэтае пачуццё яднання з цішынёй!

Мажліва, у такія хвіліны і ачышчаецца душа ад бруду, бо, напэўна ж, цнатлівы лес – гэта як другі храм (а, можа, і не другі, а найпершы), і толькі ў гэтай святой маўклівасці і можна звярнуцца з малітвай да Бога, пагаварыць з Ім сам-насам, пакаяцца перад Ім за свае пакручастыя дарогі і няпэўныя думкі, – папрасіць помачы і даравання грахоў… Ды яшчэ падзякаваць за тое, што адкрывае Ён перад намі (перада мной) тое, што стварыў, што радуе і цешыць вока…

Мяне радавала і ўсцешвала, узвышала і напаўняла маю істоту дабрынёй і духоўнасцю, што пракладаю па нерушы першы след. Гэта добра заўсёды, калі ты пракладваеш і ў жыцці свой след, калі не топчаш чужыя сцежкі і нікому не пераходзіш дарогу, калі і думаеш не так, як іншыя, робіш не так, як твае знаёмыя і сябры. Каму ж невядома тая радасць, тое адчуванне шчасця першапраходцы!

Я стаю пад высокай сасной і выбіраю позіркам далейшы шлях, вызначаю арыенцір. Хацелася ступіць управа, дзе карагод ялін утапіўся ў снег сваімі абцяжаранымі лапланамі. Але нешта вабіць мяне леваруч – белыя свечкі стромкіх бяроз вызвоньваюць пяшчотную мелодыю невядомай мне пакуль рапсодыі. І ў гэты ж момант, мусіць жа, за мае залішнія ваганні, мне на галаву абрынуўся важкі, бы гарбуз, клёкан снегу. Разбіўся – і рассыпаўся на дробныя кавалачкі – як і не было яго зусім.

"Знайшоў дзе стаяць, – дакараў нехта нябачны, але не злы, з адценнем лагоды, – вецер дзьмухне – і тады ўжо цэлая гара абрынецца на цябе…"

Прыйшлося адступіць ад сасны і стаіцца пад дубам, на якім яшчэ з першых прымаразкаў не апалі зжоўклыя, але ўсё яшчэ прыгожыя, лісты. То быў дуб з пароды "лянівых", – так называў іх бацька.

І тут шуснуў на мяне новы белы гарбуз.

Я задзёр галаву і ўбачыў, як на мяне цікаўна (і, здаецца, пасміхаючыся) пазірала вавёрка. Яна стаілася, быццам не хацела, каб убачыў яе, каб не забраў арэхі, што панасіла-прыхавала з восені ў сваім дупле.

“Свавольніца, – усміхаюся, пакрыўдзіўшыся на яе, не адводжу позірк і не рухаюся, каб не спалохаць і не адагнаць ад сябе, – добра, што хоць не каменнем кідаешся…”

Побач з ёю заўважыў і яшчэ адну вавёрку. Потым і яшчэ. Мусіць жа, цэлая сям’я ці нават калонія пражывала тут, ахоўвала сваю тэрыторыю, – а я, нечаканы госць, з’явіўся да іх без запрашэння… Далей, у густым сасонніку, дарогу перагарадзіў сахаты. Безуважна акінуў мяне позіркам, як перараканацца хацеў – ці няма на плячы дубальтоўкі, – чмыхнуў наздрынамі ў снег, капытам дзеўбануў у змерзлую купіну, – і падаўся далей, горда задраўшы галаву. Адчуў зноў нечы позірк: з-за шэрага куста назірала за мною маладая ліска. Мусіць жа, і яна ведала, што за плячыма ў мяне не было стрэльбы, таму і не баялася, назірала, спадцішка вывучала прыблуду.

“Дык я, выходзіць, і не першы ў лесе, – зноў падумалася мне, але шкадавання не было, бо я ж не гаспадар тут, як яны, а толькі цікаўны госць. – То вельмі добра, што не адзін я ў гэтым казачным царстве, што і яшчэ тут ёсць жывыя душы…”

А неба – сіняе-сіняе, і ні канца яму няма, ні пачатку… І душа мая ад убачанага млее і шчыміць, заходзіцца ў радасным плачы, а вочы ніяк не могуць наталіцца відовішчамі прыгожага і вечнага…

*Поле нікне ў срэбным тумане,*
*Снег блішчыць, як халодная сталь,*
*І лятуць мае лёгкія сані,*
*Унашуся я ў сінюю даль…*

Сонца вынырнула з-за аблокаў неспадзеў і адразу ж асляпіла – вочы заслязіліся ад напружанасці. І тады зырка заблішчэў неруш – мільярды іскрынак-зорачак ажылі, пачалі пераліваца зімовай вясёлкай. Нябачны Дзед Мароз пачаў сваім пэндзлем і чароўным жаданнем яшчэ больш удасканальваць пейзаж, аздабляючы не вядомымі да гэтага дзівоснымі фарбамі. О, тут ён быў майстрам! Маэстрам, вялікім Фантазёрам і Дойлідам – любы з геніяльных творцаў мог пазайздросціць яго таленту і ўмельству!..

Радасць першага яднання з казкай-нерушам пачала пакрысе слабець, толькі позірк яшчэ адкрываў-знаходзіў дзівосныя карункі і спляценні, – і тады рука міжволі цягнулася да пэндзля, якога з сабой у мяне не было. Аб чым вельмі шкадаваў…

Не заўважыў, як адышоўся далекавата ад вёскі – кіламетраў мо з дзесяць адтэпаў. Забыўся і пра хлеб, і пра сала, – не хацелася стаяць на адным

месцы, жадалася адкрываць новыя відзежы, бо заўтра-паслязаўтра яны ўжо не будуць такімі дзівоснымі, заўтра-паслязаўтра вока не зачэпіць іх цікаўным позіркам, – яны страцяць сваю першапачатковую навізну і непаўторнасць…

Не хацелася пакідаць гэтыя мясціны, шкадаваў, што хутка бяжыць час і прымушае мяне вярнуцца да звыклага жыцця…

...Калі ж выправіўся ўжо ў зваротны шлях, убачыў наперадзе, як з заінелых вяршыняў сасонак уздымаўся шызы дымок. Густы хвойнік, з якога вытыркаліся высокія яліны, прыцягнуў маю ўвагу.

“Хто ж гэта мог тут быць? – падумалася. – Можа, ляснік які лаўжы паліць?..”

Цікаўнасць брала верх, і я пакрысе прадзіраўся скрозь хвоі, баючыся закрануць якую, каб на мяне не абвалілася бела-казачнае прадзіва… Непрыемна, калі снег пападзе за каўнер… Асалоды аніякай.

Крок, яшчэ крок… Каля заінелага камля старой тоўстай сасны адразу ўбачыў, хто расклаў кастрышча. То быў не ляснік. То была… Снягурка. Яна сядзела на ачышчаным ад снегу пні, спінай да мяне, і таму не бачыла, хто набліжаўся да яе. А мне не хацелася, каб яна спалохалася, калі падыду знячэўку.

Не паверыў сваім вачам – дзяўчына гладзіла казулю. Гладзіла і нешта шаптала ёй, расказвала. А мо і спявала напаўголасу, улагоджваючы лясную жыхарку. Казуля раз-пораз то ўздымала галаву, то апускала яе. Паміж дзяўчынай і лясной істотай адбываўся дыялог, адбывалася яднанне душаў…

Я баяўся скрануцца з месца і парушыць гэтую ідылію. Ніколі не даводзілася такое бачыць, хіба ж можа паразумецца так чалавек і лясны звер? Перасцярожлівы і безабаронны звер…

Казуля, бачна было, паглядзела Снягурцы ў вочы, нешта прамычэла жаласліва. Пра што ж яна магла скардзіцца ці паведаміць лясной госці?

“А, можа, казуля расказвала ёй пра сваё цяжкае жыццё, пра свае нягоды, пра тое, як няпроста выжыць і выжываць у гэтым свеце, калі вакол столькі драпежнікаў на чатырох нагах, і паляўнічых – на дзвюх…”

Дзяўчына прытуліла галаву да танклявай шыі казулі, як усё роўна выказвала сваю любоў і цеплыню, просячы даравання, што не можа агарадзіць і абараніць яе ад жорсткасці людзей, ад стрэлаў паляўнічых, ад злога ваўка…

Казуля нечакана ўздрыгнула, узняла галаву, уцягнуўшы наздрынамі марознае паветра, вызначаючы пах наваколля, – мусіць, адчула, што нехта чужы пераступіў і стаіць на іх тэрыторыі.

Снягурка не адчула яе трывогі, ці хацела супакоіць, бачачы, што казуля загасцявалася ў яе і збіраецца ўжо на свае сцежкі, падала на далоні апошні акраец хлеба… Казуля тут жа ўхапіла асцярожна лустачку, пачала са смакам жаваць… Пры гэтым прымружыла вочы, забыўшыся на перасцярогу, мусіць, адчула спакойнасць сваёй субяседніцы, сцішылася.

Дажаваўшы, пракаўтнуўшы, зноў паглядзела ў вочы дзяўчыны…

– Ну, ідзі ўжо, ідзі… Бывай, казулька, бывай, я заўтра ізноў прыйду на гэтае месца. І ты прыходзь, добра?

Праз імгненне крутанула галавой – і паскакала павольна між сосен, даганяючы сваю лясную радасць і прагу жыцця… Уражаны тым, што адбывалася перад маімі вачыма, я доўга яшчэ стаяў, баючыся варухнуцца, сысці з месца. Асалода і радасць разліліся па маім целе, у душу прыйшло разуменне, што дзівосы ў нерушным лесе працягваюцца…

Адчуваў, што маўчанне маё зацягнулася… Пастукаў ціхенька па шурпатай кары хвоі. Раз, потым другі… Не пачула Снягурка, мусіць, падумала, што дзяцел заняўся сваім адвечным клопатам… Зноў пастукаў – яшчэ мацней. Ды пачаў ужо выбіваць нейкую мелодыю, весела ўсміхаючыся ад таго, што незнаёмка нечым загалунілася і нічога не адчула і не пачула. Смелая, значыць, не першы раз, мусіць, у лесе…

Калі перастаў напамінаць пра сябе, калі зрабіў паўкроку наперад, яна павярнула галаву.

– Дзень добры, Снягурка! – выгукнуў радасна, каб ёй адразу перадаць свой настрой.

– Добры дзень! – азвалася дзяўчына, гледзячы на мяне.

У позірку не было ні сполаху, ні здзіўлення, што непадалёк ад яе стаяў незнаёмы чалавек, і невядома яшчэ якія думкі былі ў яго галаве. А раптам злачынца, рабаўнік, што шастае адзінокім ваўком па пушчы, звяроў ды людзей палохае… Так няхораша думаў пра сябе, тым самым стараючыся, каб яна ні ў якім разе так пра мяне не падумала…

– Калі вы мяне назвалі Снягуркай, то тады вы – Дзед Мароз! – заўсміхалася, не ўстаючы, не адрываючы ад мяне позірку. – Калі ласка, спадар Дзед Мароз, да майго цяпельца…

Вочы ў яе цёмныя, як не чорныя, з-пад белай-белай шапкі выбіваліся пасмачкі доўгіх светлых касаў. Шапка пераліvalася рознымі колерамі вясёлкі, зіхацела. Ад яе сыходзіў адзін канец вясёлкі, другі загінаўся і знікаў за вяршынямі сосен. Зграбна сядзеў на ёй кажушок, аздоблены на грудзях і збоку адмысловым арнаментам. Яна і сапраўды выглядала Снягуркай у гэтым прыгожым і казачным царстве-валадарстве, няйнакш феяй, Папялушкай, гаспадыняй няхай не Медзяной, але Паляшуцкай гары…

Такое хіба можа прысніцца, такое прыйсці можа толькі ў мроях, і то раз ці два за жыццё… Мне не верылася ў тое, што адбывалася – усё яшчэ стаяў уздалеч ад яе, не рашаючыся загаварыць… Незнаёмка позіркам запрашала мяне зрабіць першы крок, падахвочвала, усміхаючыся, чакала… Яна, як ні дзіўна, адчувала сябе гаспадыняй у гэтым лесе, і таму запрашала, як да сябе ў хату, у свой замак, у свой палац, ведаючы, што ёй няма чаго баяцца і каго баяцца… Зразумеў: мне трэба падпарадкоўвацца ёй, слухацца яе…

У снезе, з гурбы, тырчэлі чырвоная лыжы. На палках надзеты адмысловыя рукавічкі – белыя, але з чырвонай паласой пасярэдзіне. Як сядно штандар той дзяржавы, якая набыла не так даўно самастойнасць і незалежнасць. Сімволіка на рукавічках была мне па душы. Але што ж яна хацела мне тым самым сказаць? Што яна належыць краіне Ліцвініі, і што яна яе адданая дачка?

“Хадзіла па лесе на лыжах, ды рашыла тут адпачыць? З якой жа яна вёскі? Можа, як і я, з Крушнікаў? Дык жа не памятаю такой дзяўчыны. Мо да каго прыехала на вакацыі?..”

– Вы адна ў гэтым лесе? – папытаўся. – І не баіцёся?

– А каго мне баяцца? Тут усе для мяне свае – і дрэвы, і звяры, і птушкі…

– І казулі?

– І казулі. Вы бачылі яе? Гэта мая сяброўка. Яна кожным разам прыходзіць да мяне, калі тут адпачываю. Праўда, прыгожая? Грацыёзная, спаважлівая, шляхетная…

– То я яе напалохаў, што яна пакінула вас?

– Не, вас не было чуваць. Проста нам прыйшоў час развітвацца… Ёй няможна доўга знаходзіцца побач з чалавекам.

– Нават і з вамі?

– А хіба ж я не чалавек? – выгнула дужкай броўкі. – Хіба ж Снягуркі не могуць мець жывую душу?

– Могуць, – пагадзіўся, – могуць. Дазвольце запытацца – а з якой вы вёскі, дзе  жывяце?

Яна зноў сустрэлася са мною позіркам, быццам здзівілася майму пытанню. Я падумаў: мо цікаўнасць мая і залішняя?

– Я тут і жыву, – адказала ціха. – Я ж – Лесавуха, значыць, Снягурка…

Мы гаварылі, перакідваліся словамі, а тым часам я выразаў два дубчыкі, дастаў з кайстры сала. Адрэзаў па кавалку хлеба. Падаў адзін дзяўчыне:

– Вазьміце, шаноўная Снягурка-Лесавуха, бо вы апошнім акрайцам падзяліліся з лясной скакухай. Будзем смажыць на вогнішчы сала…

– Люблю смажыць сала на цяпельцы, – прызнала субяседніца, прымаючы пачастунак.

Праз хвіліну салодкі дымок узвіўся над намі.

– Даруйце, шаноўная субяседніца, але неяк няёмка сядзець адно супраць аднаго і не ведаць імёнаў…

Яна засмяялася, скінуўшы шапку, і на плечах рассыпаліся доўгія чорна-каштанавыя косы. Страсянула імі, і яны атулілі яе гожы твар, ружовыя шчокі былі падобны на калінавы пажар, што палаў за яе спінай. Ружовыя шчокі і прыхопленыя марозікам вусны найбольш і прыцягнулі мой позірк. Падумалася тут жа: “Трэба сустрэць у вёсцы і бліжэй пазнаёміцца, не можа быць, каб мы не ўбачыліся болей…”

– Я – Ліцвінка, з краіны Ліцвініі. Як і маці мая, як і татуля – волат Ліцвін.

– А я – Янік, Янка, Ян, што ў суседняй краіне – Іван. Але ў маіх Крушніках нікога не назвалі так, а толькі Янкамі. Мо ж ведаеце пра тое?

Сала падсмажвала над полымем, і Ліцвінка спрытна падстаўляла хлеб пад тук, які капаў у агонь і сквірчэў, зноў схіляла галінку над цяпельцам…

– Ніколі ў жыцці, Янік, я смачнейшага не каштавала… – удыхала кулінарны пах Ліцвінка, прымружвала вочы.

– Я рады, што вам спадабалася…

Не ведаю, колькі мы з ёю сядзелі і гаварылі каля цяпельца сярод палясшуцкага лесу. Я падкідваў і раз, і другі сухія галінкі ў агонь, як быццам падаграючы нашую размову. Мы пераходзілі з адной тэмы на іншую, гаварылі-баялі пра жыццё і пра лес, і нам цікава размаўляць, слухаць адно аднаго… У мяне ўжо выспела адчуванне, што мы ведаем адно аднаго даўно, вельмі даўно, і проста з ёю дзеля кахання і рамантыкі прызначылі ў народжанай казцы нашае спатканне…

Але ў кожнай казцы некалі прыходзіць канец, і яны заўсёды заканчваюцца шчасліва і прыгожа, накшталт – “і яны потым пабраліся, і нарадзілася ў іх процьма дзетак, і жылі яны доўга і шчасліва…”

Калі сонца пачало апускацца за шчыкі далёкага лесу, схамянулася Ліцвінка, трывожна на сонца паглядзела, порстка ўскочыла са свайго месца:

– Даруйце, Ян-Янік, але мне пара, даўно пара… Я і не заўважыла за размовай, як праляцеў час… Дзякуй за пачастунак, і што праведалі мяне ў маім каралеўстве…

– Мы яшчэ ўбачымся, прыгажуня Ліцвінка?

Яна хуценька ўсунула жоўтыя боцікі ў металічныя бліскучыя мацавальнікі лыжаў, надзела рукавічкі, узяла ў рукі палкі.

– Не ведаю, як Бог дасць.

Адштурхнулася кіямі, памкнулася ў адваротны бок вёскі.

– Вы ж не ў той бок пакіравалі, – перасцярог, недаўменна гледзячы ёй у след.

– У той, Янік, бок, у той… Я ж там жыву…

Вось і здагадайся – яна сапраўды ў пушчы жыве, ці гэта яе вёска знаходзіцца ў тым баку?

Толькі ўжо тады, як яна ладна ад’ехала ад мяне і схавалася за срэбназвонкім кустоўем і стромкімі соснамі, са здзіўленнем убачыў, што ніякіх слядоў да вогнішча, акрамя маіх, не было.

Аніякіх слядоў, тым больш лыжні, што павінна застацца ад Ліцвінкі. Ды і вогнішча ніякага не існавала.

Я адзін стаяў пасярод паляны, і мяне пачалі ўжо прабіраць дрыжыкі…

Не ведаў, як аднесціся мне да гэтага цуду: спалохацца ці здзівіцца…

Але ў той жа момант недзе з глыбіні пушчы данёсся яе покліч:

– Янік, я яшчэ вярну-ууу-сяяяааааа!... Уа-уа, – паскакала рэха па вяршынях сонных сосен.

Хацеў адгукнуцца, але падумаў, што тое мне толькі прымроілася. Сам сябе суцешыў: “Дык ты ж у казцы, хлопча, жывеш, у нерушы і цнатлівасці, таму павінен прывыкнуць да такіх дзівосаў – ты ж казачны герой у гэтай казцы... Дзе ты такое сустрэнеш, як не ў лясных нетрысках – уладаннях Дзеда Мароза і яго ўнучкі – Снягуркі? Тут жа крыніца і натхнення, і радасці, і творчасці…”

...Вельмі ж не хацелася пакідаць гэтыя мясціны…

Шкадаваў адно, што хутка і вокамгненна бяжыць час і прымушае мяне пакінуць лес…

...Дадому вяртаўся іншай дарогай – адпрэчыў нават свае ж сляды, кіраваўся нацянькі цалíком на Спрымачоў, – куды і пакіравала прыгажуня Снягурка, потым збочу на Бобрык, на Алёсы, а потым праз Шміды і Лабасова і падыду да сваіх Крушнікаў…

Адчуваў не стому, не, наадварот, чуў, як ува мне назапашваецца сіла, якой хопіць на цэлы год, аж да наступнага Свята Нерушу…

Гэтую сілу даў Лес.

І – Максім.

І – Снягурка…

А вунь і поле, і Ігналява крыніца, над якой звісае чырвоная каліна. За імі – і мая вёска.

Калі ж падышоў да каліны, убачыў, што на галіне з сакавітымі гронкамі ляжала рукавічка. І была яна бел-чырвона-белай, як і сама каліна. Не асмельваўся ўзяць рукавічку ў руку – магла мяне Снягурка паклікаць у новую чароўную і незвычайную казку. Я верыў у тое.

“Але ці не хопіць з цябе дзівосаў для аднаго дня? – спытаў з папрокам у самога сябе. – Перанясем працяг казкі на наступнае спатканне…”

...Неўпрыкмет насоўваўся ўжо і вечар.

Ад сонца, што сядала за ўчырванелы небакрай, адыходзілі такія ж чырвоныя промні, – як хто накідаў на снег гарачага, з полымя, вуголля…

*Здароў, марозны, звонкі вечар!*
*Здароў, скрыпучы, мяккі снег!*
*Мяцель не вее, сціхнуў вецер,*
*І волен лёгкіх санак бег...*

Ноччу мне сніўся неруш. І – Багдановіч.

Толькі падалося мне, што майстра быў нечым незадаволены.

Мажліва, абдумваў новыя і ўзнёслыя радкі, каб уславіць неруш нашага спадзявання, альбо з горыччу шкадаваў, што яго прарочыя радкі яшчэ не знайшлі пакуль што свайго ўвасаблення – не спраўдзіліся. Але ён як бы гаварыў і абнадзейваючае – яшчэ ж, дарагія мае, не вечар, яшчэ не ўкрыла сваім прасцірадлам ноч нашую зямлю, і таму з нашых душаў не знікла надзея і спадзяванне...

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца*
*Сколькі ў хмарках залётных агня...*

Ліцвінія ўмее чакаць, умее змагацца, спадзяецца і верыць у перамогу…

Таму ў Прарока я ўбачыў і затоеную ўсмешку.

Ён як бы гаварыў і абнадзейваючае – яшчэ ж, дарагія мае, не вечар, яшчэ не ўкрыла сваім прасцірадлам ноч нашую зямлю, і таму з нашых душаў не знікла надзея і спадзяванне... Раніцай узыдзе сонца і сваімі промнямі разгоніць і гнятлівыя думкі, і шэрыя хмары. Раніца народзіць залаты і ясны дзень роднага краю.

І я верыў яму.

Бо Прарокам нельга не верыць.

*вёска Крушнікі, Мазыршчына*

## Дак

Змітрок вельмі хацеў мець маленькага цюцьку.

Яго кожны раз агортваў сум, калі заставаўся дома на адзіноце. Во каб то ў яго брацік быў ці сястрычка, то ўжо зусім інакш пачуваў бы сябе, – ён з імі бавіў бы час, гуляў па вуліцы, хадзіў бы ў кіно, – ды ці мала чым можна было б заняцца, разнастаіць свае дні… А тут – ні жывой душы, суцэльная маркотная адзінота. Жах!

– Тат, а тат, ну купі мне сабачку, га…

Бацька адарваўся на момант ад свайго занятку – ладзіў прас, што перагарэў надоечы, паглядзеў на Змітрака:

– Сын, а хто ж за ім прыглядваць будзе? Яго ж трэба раніцай на вуліцу выводзіць, а ты моцна спіш у гэты час… Карміць яго трэба, даглядаць, выхоўваць, дрэсіраваць, адказнасць за яго браць на сябе.

Сын апусціў галаву, адчуваючы, што і бацька кажа праўду, але ўсё роўна не адступаўся ад свайго:

– Я пра ўсё ведаю… Купі, га?

– Калі не будзе ў цябе "траякоў" у школе, тады і куплю. Што з табой паробіш.

– Праўда, татачка? – загарэліся радасцю вочы ў хлопчыка. – Не падманеш?

– Не падману.

Бацька сказаў, каб толькі адчапіцца ад сына, бо не адрываўся ад праса. А пра цюцьку… У яго былі свае меркаванні: за жывой істотай трэба пастаянны догляд. Вунь колькі бадзяжных сабакаў бегае па горадзе: нагуляюцца дзеці, нацешацца, а потым бацькі выганяюць чатырохногіх сяброў на вуліцу. Жыві і выжывай, як хочаш. А іншыя і пракарміць не могуць – вунь якая дарагавізна на ўсё, ашчаджаеш кожную капейчыну, каб размеркаваць на кожны дзень, да зарплаты ці да пенсіі дацягнуць… Спадзяваўся бацька, што перагарыць сын у сваім жаданні і тады ўсё адпадзе само сабой.

Змітрок падышоў да акна, глядзеў скрозь заінелыя шыбы, як на двары падае лапісты снег, углядаўся ў шэрае сутонне, і з яго вачэй беглі слёзы крыўды. Да маці ён зусім не звяртаўся са сваёй просьбай, бо яна апошнім часам нейкая злая стала, сварыцца без дай прычыны – на бацьку, на яго.

А найчасцей, калі пойдзе па крамах нешта купіць, каб згатаваць паесці. І таму ён загадзя ведае, што яна адкажа, калі сунешся да яе… На запацелай шыбіне Змітрок намаляваў пальцам цюцьку. Хвост у яго задраны кручком, а носам уткнуўся ў зямлю – як быццам нешта нюхаў…

...Якім жа было вялікім здзіўленне бацькі, калі ўсе селі за святочны стол, каб сустрэць Новы год, а сын паказаў яму свой дзённік. За апошнюю чвэрць ён не атрымаў ніводнай “тройкі”.

– Малайчына! Можаш, калі пастараешся.

– Ты абяцаў, тата… Я сваё слова стрымаў. Цяпер чарга за табой. І вось што я скажу табе – цяпер я буду вучыцца толькі на “чатыры” і “пяць”.

Маці з цеплынёй паглядзела на сына. Сын чакаў адказу, а бацька ўжо хмурыў бровы, ніяк не мог прызнаць сваё паражэнне. Ужо не так і радавала паведамленне Змітрака.

– У цябе вунь і шапкі добрай няма, трэба купіць – холадна на вуліцы…

Бацька спрабаваў пераканаць сына, што акрамя цюцькі яшчэ шмат праблемаў ёсць у сям’і.

– Нічога, мне і ў старой цёпла. Купі лепей сабачку.

– Што ж, – уздыхнуў бацька, адчуваючы, што сын ужо не адчэпіцца ад яго, тым больш, што атрымаў добрыя адзнакі і паверыў яго слову, – будзе ў цябе чатырохногі сябар. Добра.

Бацькі пераглянуліся, на іх тварах засвяцілася лагодная ўсмешка. Заўсміхаўся і Змітрок, паверыўшы канчаткова, што бацька стрымае сваё слова...

…Кожны дзень чакаў сын, калі бацька прыйдзе з працы. З хваляваннем чакаў, калі ён цаляў ключом у шчылінку, калі адчыняў дзверы, – і расчараваны чуў, што маленькая істота не падавала голасу. Маўкліва адварочваўся і ішоў да стала.

Тое адбылося ў пятніцу. Гаспадар прыйшоў дадому позна, пад поўнач. Змітрок ужо ляжаў у ложку, але сон чамусьці не ішоў да яго. У школе пасварыўся са сваім лепшым сябрам Антонам – той прыставаў да яго з падкавырыстымі пытаннямі пра сабачку. Калі Змітрок сказаў, што бацька паабяцаў купіць, то сябар, перакрывіўшыся тварам, здзекліва праказаў: “Ты не ўбачыш свайго сабачку, як не ўбачыш учарашняй ночы…” Здзекаваўся, само сабой, каб пазлаваць яго, каб укалоць.

Скрозь дрымоту падалося яму, што на вуліцы, пад акном, заскавытаў жаласлівым голасам цюцька. Прасіў, мусіць, дапамогі, а мо і есці хацеў. Прыслухаўся пільней – не, на вуліцы, а недзе бліжэй. Тады – дзе? Не здагадваючыся пра радасць, якая агорне яго праз хвіліну, выйшаў у калідор. На газеціне, якую падаслаў бацька, сядзеў шчанючок і хлябтаў з місы малако.

Змітрок не паверыў сваім вачам – усклікнуў радасна, абняў бацьку, прытуліўся да яго.

– Дамогся свайго? – паглядзела маці на яго, але цяпер гаварыла нязлосна, нават усміхалася, бы радавалася, што ў сына з’явілася маленькая радасць.

– Татачка, дзякую!

Шчанюк быў не пародзісты, тое Змітрок адразу зразумеў, але тое ўжо не мела абсалютна ніякага значэння. Яны пасябруюць, паразумеюцца, між імі будзе суладдзе, і цяпер Змітраку будзе каму выказваць свой душэўны боль, дзіцячыя сумненні, нават параіцца з ім па важных жыццёвых пытаннях. А ёсць жа пытанні, якія не даверыш нават маці і бацьку – пра Сусвет, ад чаго баліць душа і нагортваецца нечакана крыўда ад таго, што няма ладу ў сям’і, чаму маці штодзённа сварыцца і бурчыць, чаму… Ды мільён “чаму” непакояць і турбуюць хлапчука, і нікому ў свеце няма клопату да яго праблемаў, а вось цяпер… А цяпер у яго ёсць суразмоўца і найлепшы сябар!

– А якая ў яго прыгожая белая плямінка! – пагладзіў хлопчык па дрыготкай спіне жывую істоту. – І кропачка на ёй як апазнавальны знак.

Але бацька не чуў яго радасных слоў, – мыў пад кранам рукі.

...Міналі дні, месяцы…

З няўклюднага цюцькі вырас прыгожы і вёрткі, з разумнымі вачыма, сабака. Ён спаў на старым шынелку, у якім некалі бацька прыехаў з войска дадому. Змітрок раніцай, да школы, выбягаў з ім на вуліцу, карміў, даглядаў. Перамяніўся дужа Змітрок. Стаў больш акуратны, як бы пасталеў. І ў школе ў яго ішлі добра справы – настаўніца толькі дзівілася такой перамене і радавалася. Цюцьку назваў хлапчук коратка і прыгожа – Дак. Слова “відак” раздзяліў на дзве палавіны. Вось другая палавінка і стала вызначальнай. І адгукваўся сябар на кароткі покліч, хвастом віляў, падскокваў ад радасці.

Увесну, калі пацяплела, Змітрок пасяліў Дака ў будан, які змайстраваў бацька. Дак праводзіў хлопца нават да школы, а потым вяртаўся да будкі. Ведаў, калі гаспадар будзе ісці са школы, – бегаў сустракаць. І тады ўжо разам вярталіся дадому.

Потым прыйшло лета. Цэлае лета разам – ад раніцы да вечара. Дак разумеў кожнае слова хлопца, толькі адказваць не ўмеў. Першага верасня зноў пайшлі разам у школу. Калі Змітрок стаяў у шарэнзе на школьнай лінейцы, Дак схаваўся за прыбудоўку і адтуль назіраў за школьным святам. Калі ж усе пайшлі ў свае класы, вяртаўся дадому.

Цёплай выдалася восень. А потым нечакана выпаў першы снег. Кожны дзень прыбягаў Дак да школы, на прывычным месцы сядзеў і чакаў, калі расчыняцца дзверы і з радаснымі воклічамі высыплюць дзеці ў двор…

І кожным разам радаснай адбывалася сустрэча.

А аднойчы Дак не сустрэў Змітрака – не аказалася яго на звыклым месцы. Нешта нядобрае падкацілася да грудзей, няўцямнае горычнае прадчуванне апякло дзіцячае сэрца. Дака не аказалася і ў будане. Не было яго і ў хаце – падумаў, мо хто зачыніў яго там. Хлапчук абабег увесь Петрыкаў, усю ваколіцу – і следу нідзе не пазначылася. Бегала шмат сабакаў, але сярод іх Дака не было. Распытваў у людзей, нават аб'яўку напісаў і расклеіў па слупах, як тое рабілі іншыя, у каго прападалі сабакі, – ніхто не адгукнуўся.

– Не перажывай, сын, – супакойваў бацька, бачачы, як блізка бярэ ён да сэрца знікненне свайго сябра, – мо дзе пад машыну трапіў, ці мала што...

У голасе бацькі, як адчуў Змітрок, спагады і спачування не было, ён як усё роўна ведаў, што такі лёс мог напаткаць Дака. Дзіўна тое было чуць сыну.

– Не мог ён  пад машыну, – пярэчыў сын, не стрымліваючы слёз, – я яго навучыў бегаць далёка ад дарог. Ён усё-усё разумеў.

Сын плакаў усё больш і больш, балюча перажываючы страту свайго малога і разумнага сябрука. Не мог змірыцца з гэтым, не мог паверыць у тое.

– Мой знаёмы абяцаў табе харошую шапку пашыць, – ні з таго ні з сяго прамовіў бацька, – бо вунь якія маразы пачалі пячы на вуліцы…

Сын не чуў яго слоў, і таму не адрэагаваў на бацькавы словы. У яго ўздрыгвалі плечы. Перад вачыма стаяў Дак і разумным позіркам пазглядаў на яго, нібы нешта хацеў сказаць ці патлумачыць…

Дак потым прыходзіў і ў сны. Яны разам бегалі па лузе, гулялі ў хованкі. А ў апошнюю ноч прыснілася нешта неверагоднае. Дак бегаў побач, а потым ператварыўся ў шапку, папытаўся нават, ці падабаецца ён яму такім.

– Дзе ты, Дак? – пытаецца Змітрок, пільна прыглядаючыся да шапкі, пад якой схаваўся сябар. – Ты дзе, адкажы?

– Ды тут я, хіба ж не бачыш? То я перад табою так выглядаю… Затое табе будзе цёпла, Змітрок. А за мяне не перажывай.

Хлопчык адразу прахапіўся. Доўга не мог зразумець, чаму такі прысніўся сон, і чаму Дак назваў яго Змітраком. І хлопчыку стала невыносна балюча, і ён не ведаў, як пазбавіцца ад таго болю…

...Вечарам у хату ўваліўся бацька. Быў ён на добрым падпітку, расхрыстаны, вясёлы, хістаўся. Ад яго несла гарэлкаю, капустай і часнаком.

– Ну, сын, радуйся! Цяпер не будзе холадна тваёй галаве, – бацька зноў пахіснуўся, ідучы да яго, выцягнуў з сумкі шапку з бліскучай футры. – На, бяры, насі. Цяпер маразы для цябе не страшныя. То дзед Мартын пашыў табе такую шапку – праўда, прыгожая?

Калі Змітрок узяў у рукі шапку, яго як токам працяло ўсяго – з галавы да ног: ён пазнаў тую шапку, якую бачыў у сне. Шапка замест Дака. І ўбачыў белую плямінку, на якой абазначылася чорная метка. Гэтую плямінку любіў гладзіць Змітрок, і тое падабалася Даку… Нешта балючае пеканула ў левым баку, потым шпырнула ў скроні. Ён закрычаў, зразумеўшы ўсё. Усё захісталася, закружылася перад вачыма.

– Гэта ты… гэта ты забіў яго… Гэта ж Дак, а не шапка! То ты забіў яго, ты, ні ў кога такой плямінкі не было, толькі ў Дака! Я пазнаў яго! – Змітрок закрычаў, што было сілы, замахаў рукамі і не ведаў, куды падзець сябе і што рабіць. Ён не памятаў ужо сябе – гора адабрала ад яго пачуццё свядомасці і рэальнасці.

– Што ты пляцеш?! – прамовіў пакрыўджаным голасам бацька, і тут жа, як што зразумеўшы і адчуўшы, прытуліў моцна да сябе сына, які біўся ў дзіцячай гарачцы, чаго з ім ніколі такога не здаралася. Стараўся адабраць ад яго боль, суцішыць хаця б, але тое ніяк не ўдавалася. – Супакойся, сын, супакойся…

З сынам рабілася нешта неверагоднае і незразумелае. Нават маці, убачыўшы тое, не на жарт перапалохалася, не ведала, якой даць рады. І нічога лепшага не прыдумала, як пабегла да суседзяў, у якіх быў тэлефон, – выклікала “хуткую”.

Калі вярнулася ў хату, сын ляжаў беспрытомны на падлозе і часта дыхаў...

…Доктар “хуткай дапамогі”, пажылы чалавек, у акулярах, агледзеў яго ўважліва, паслухаў пульс. Распытаў, што здарылася, чаму хлопчык перастаў гаварыць… Гаспадар мусіў прызнацца ва ўсім.

– Вы сыну нанеслі непапраўную вялікую душэўную траўму, – уздыхнуў медык. – Не ведаю толькі, ці ўсё абыдзецца… У дарослых гэта – інфаркт. Я выклічу групу кардыёлагаў, хай яны агледзяць хлапчука.

Бацька сеў на табурэтку, абхапіў рукамі галаву. Маці плакала, седзячы побач з сынам, гладзіла па галаве. Сын ляжаў з зажмуранымі вачыма – у гэты момант яму не хацелася ні з кім гаварыць. А хоць бы і хацеў тое зрабіць, не змог бы – у яго адняло мову. За акном, у двары, падаў голас нечы сабака. Але яго голасу Змітрок не чуў. І добра, што не чуў.

Недзе за поўнач бацька падышоў да вешалкі, зняў з кручка шапку. Пакруціў яе у руках, пагладзіў белую пляміну, падышоў да акна і расчыніў фортку. З усяе сілы шпурнуў непатрэбны падарунак у цемру, на вуліцу.

І потым яшчэ доўга стаяў каля акна, курыў, думаючы пра нешта сваё і не ведаў, як вымаліць у сына дараванне…

# Начное падарожжа

*Можа і казка*

Занядужаў Мікітка, захварэў. Мо і не захварэў, але і бадзёрым сябе не адчуваў. Маці паклікала доктара, і Айбаліт, гледзячы на яго праніклівым позіркам, прамовіў:

– Няхай хлопчык дома пабудзе, у школу яму нельга ісці.

Мікітка вучыцца ў трэцім класе, добра вучыцца, любіць маляваць, вершыкі на памяць расказваць.

Сумна яму аднаму дома. Вось каб у яго быў брацік ці сястрычка, то тады яму было б з кім словам перакінуцца, а так… Колькі разоў гаварыў тату і маці, каб купілі яму брацікa, дык яны кожны раз знаходзілі прычыну: “Вось назбіраем грошай, тады і будзе ў цябе і брацік, і сястрычка…”

А колькі ж тады трэба тых грошай ім, каб хапіла? Вунь адну машыну купілі, другую, катэдж пабудавалі, – дык хіба б не хапіла грошай на брацікa? Не разумеў іх сын, ніяк не мог зразумець…

У той вечар да яго прыйшла маці, прачытала казку пра начныя зоркі, пра месячык, пацалавала ў лоб, сказала “дабранач” – і пакінула аднаго.

А спаць не хацелася – спаў днём. У акно зазірнула цікаўная поўня, падалося хлопчыку, што месячык заўсміхаўся яму, міргануў нават правым вокам. Мікітка ўстаў з ложка, падышоў да падаконніка, сеў на табурэтку і, падпершы падбароддзе рукамі, пачаў неадрыўна глядзець на жоўты сланечнік месячыка. Потым вочы пачалі міжволі прымружвацца, па целе разлілося млявае цяпло, загайдалася наваколле, пачало закалыхваць, ахутваць мройным туманам…

– Бачу, сумна табе, хлопчык, – прамовіў месячык, ужо спусціўшыся з неба. Сеў на падаконнік побач з Мікіткам, чакаў адказу.

– Сумна. Аднаму вельмі сумна.

– Разумею цябе. І я адзін, як ты. Сонца не бачу, яно з другога боку зямнога шара. Адно што зоркі гуляюць са мной у хованкі, а так больш ніякай забавы няма.

– І табе, бачу, сумна?

– Ды не заўсёды, Мікітка! Такое рэдка бывае. А я ўбачыў, што ты адзін сядзіш, дык рашыў цябе трошкі павесяліць.

– Павесяліць? А як?

– Як? – перапытаў Месячык. – А давай з табой пагуляем па начным Гомелі, га? Я кожную ноч па яго вуліцах гуляю…

– Мяне маці не пусціць, – уздыхнуў хлапчук. – А раптам яна зойдзе ў мой пакой, а мяне няма? Яна ж хваляваецца будзе…

– Твае тата і мама моцна спяць. А мы доўга і не будзем гуляць, з гадзінку, не болей. Яны і не прачнуцца за гэты час.

Мікітка і не заўважыў, як яны апынуліся на Ірынінскай вуліцы. На лаўцы сядзела незнаёмая жанчына і нешта вязала спіцамі. На іх не звяртала ўвагі, хацела скончыць вязанне.

– Хто гэта? – паўшэптам спытаў хлопчык.

– Хіба ж не ведаеш? Князёўна Ірына Паскевіч, – гэтак жа ціха адказаў Месячык. – А другое жыццё ёй даў гомельскі скульптар Зміцер Папоў.

Падышлі бліжэй.

– Вітаем вас, шаноўная спадарыня! – павітаўся Месячык, схіліўшыся ў паклоне. – Мы вось з Мікітам гуляем, да вас прыйшлі ў госці. І вас запрашаем пагуляць па горадзе. Вы не супраць?

Ірына, паклаўшы клубок з ніткамі на лаўку, няспешна ўстала.

– А куды мы пойдзем? – пацікавілася князёўна.

– У ваш парк, спадарыня Ірына, – яго вельмі любяць гараджане. І не толькі гамяльчане, а і людзі, якія прыязджаюць у горад. Добрую вы памяць пакінулі пасля сябе…

– Згодна прагуляцца з вамі! Ніколі ніхто не запрашаў мяне на такі шпацыр. Рушым!

Насупраць рыбнай крамы, адклаўшы ўбок венік на доўгай палцы, чапурылася перад люстэркам дворнічыха Гамяліна. Узірнецца, кудзеркі паправіць, колькі разоў махне венікам, зноў у люстэрка ўглядаецца, – францiха, няйначай. Больш, мусіць, у люстэрка зазірае, чымся вуліцу падмятае, ды, напэўна, і выглядаць неахайнай не хоча – процьма ж народу штодня праходзіць паўз яе, позіркі на яе кідаюць...

– Вітаем цябе, Гамялінка! – прывіталася князёўна Ірына. – Добра ты падмятаеш вуліцы і двары нашага горада, малайчына! Чысценька ўсюды.

– А як жа пані-спадарыня! – усміхаецца дворнічыха. – Да раніцы мне трэба зрабіць парадак, каб людзі, ідучы на працу, убачылі чыстыя і падмеценыя вуліцы… Інакш нельга.

– Пайшлі з намі – трошкі прагуляемся? – прапанавала Ірына. – Адпачні трохі, Гамялінка, намахалася, мусіць, сваім венікам.

– А як жа мая праца? – здзівілася прапанове францiха. – Я ж як на вайсковым аб’екце тут знаходжуся. Прагул запішуць…

– Не хвалюйся, родненькая, начныя гадзіны вельмі ж доўгія, ніхто і не заўважыць тваёй адлучкі…

Мікітка здзіўлены, нічога не разумее. Днём хадзіў па вуліцы, дык бачыў толькі скульптуры, выrabленыя таленавітым скульптарам, але яны не рухаліся. Дык, значыць, яны ажываюць ноччу і жывуць сваім жыццём? Цікава… Во як добра, што Месячык паклікаў яго ў такое цікавае падарожжа. Сябрам у класе расказаць – не паверaць…

Каля тэатра завіталі да Кірылы Тураўскага – Залатавуста зямлі Паляшуцкай, нізка пакланіліся патрыярху, папрасілі дазволу звярнуцца да яго.

– Вазьміце і мяне ў вашу вандроўку! – апярэдзіў іх святы Кірыла, ведаючы, з чым яны рашылі звярнуцца да яго. – Мне тут добра стаяць – непадалёку сабор святых Пятра і Паўла, мяне радуе мелодыя званоў, рады, што шмат людзей прыходзяць памаліцца ў храм… Адно хіба, што стаіць паміж мной і храмам з працягнутай рукой...

Князёўна Ірына наклала на сябе крыж, схілілася ў паклоне:

– Ведаем, што мацнее наша радзіма малітвамі вашымі і святой патронкі і асветніцы Беларусі найпадобнейшай Еўфрасінні-Прадславы, князёўны Полацкай, ігуменні манастыра святога Спаса. Уратуй, Госпадзе! А на таго, што на плошчы, не звяртай увагі... Ён не з нашай кампаніі, таму і не ажыве, і не будзе гуляць з намі.

– Добра, з радасцю ўвальюся ў вашую кампанію!

Пахадзілі па парку, пастаялі на ўзвышку. На вежу нават забраліся, агледзелі наваколле – далёкія высотныя дамы, тэлевежу, якая свяцілася, як навагодняя елка. Зверху горад прыгожы, асветлены агнямі, яны як светлячкі ў лесе, пераміргваліся зялёнымі і чырвонымі агеньчыкамі…

– А хто гэта ўнізе, на беразе Сажа? – спытаў Кірыла Тураўскі. – З майго месца мне яго не відаць.

– То, святы айцец Кірыла, першы пасяленец гомельскі, – прамовіла Гамялінка, – давайце спусцімся да яго!

Першы Пасяленец, стоячы ў ладдзі, веславаў, не звяртаючы на гасцей увагі. Шэрыя хвалі біліся аб борт яго чоўна, шэрая рысь глядзела наперад, быццам лоцман, паказвала дарогу. Яны жылі, здаецца, не ў гэтым часе, яны знаходзіліся ці то ў далёкім будучым, ці ў сівым мінулым...

– Стаміўся я, Рысь, – уздыхнуў Пасяленец і сеў на карму, – адпачну.

– Госці да нас ідуць, мой гаспадар!

– Госці? Гасцям мы заўсёды рады. Запрашай іх да нас! Хай сядаюць у човен, я іх пакатаю па Сажы…

– Дзякуй за запрашэнне, Пасяленец! – прамовіў Кірыла Тураўскі. – Хай табе заўсёды памагае Бог у тваім падарожжы!

– І вам усім доўгіх гадоў жыцця! Рассаджвайцеся зручней, будзьце, як дома. Завуць мяне Гомій. Гэта ад майго імя будзе названа паселішча, якое тут пазней узнікне. А прыплыў я па Сажы з далёкіх краёў. Мне тут дужа спадабалася, і я рашыў у гэтым месцы кінуць якар.

Мікіта хацеў пагладзіць рысь, але пабаяўся. Тады звер сам падышоў да хлопчыка і пачаў лашчыцца. І тады ўжо хлопчык дакрануўся да цёплай поўсці і здзівіўся, які даверлівы і пяшчотны звер гэтая рысь.

Час праляцеў хутка. Гомій гнаў і гнаў ладдзю наперад, з Сажа паплылі па вадзе Дняпра, і як толькі паказаўся старажытны Кіеў, развярнуў лодку і пагнаў яе зноў назад… Але назад плылі як быццам пад зямлёй.

– Не хвалюйцеся, – растлумачыў тут жа кормчы, – цяпер мы плывем па Нірэі, старажытнай рацэ, а яна працякае пад зямлёй… Тут шмат крыніц, якія сілкуюць гэтую раку…

І нечакана апынуліся зноў на беразе Сажа, у тым жа месцы, адкуль і адплывалі ў Кіеў. Гомій, пакінуўшы ў лодцы вясло, далучыўся да іх кампаніі, і ўжо ўсе разам прадоўжылі начное падарожжа. Рысь нячутна ступала параду, з цікавасцю разглядаючы наваколле.

А потым усе разам накіраваліся да цырку. Пабачыўшы іх яшчэ здалёк, забрахаў цюцька. Па прыступках туд-сюд хадзіў чалавек у капелюшы з кароценькімі палямі, – апіраўся на кавеньку, углядаўся пад ногі, пра нешта думаючы.

– Дык гэта ж клоўн! – адразу пазнаў яго Мікітка. – Я фатаграфаваўся з ім нядаўна, калі прыходзіў з татам у цырк.

– Правільна, Мікіта, гэта слынны Аловак, расейскі Карандаш. Ён смяшыў разам са сваім сабачкам мільёны людзей.

– Дзядуля Аловак, вам нашае начное вітанне! – падышоў да яго Мікіта. – Пра што вы так задумаліся, што на нас не звяртаеце ўвагі?

– Як не звяртаю? А мой цюцька хіба вас не заўважыў? А я абдумваю новы нумар праграмы, якая адбудзецца пад Новы год у гэтым цырку. Запрашаю вас усіх, шаноўныя, на Навагодні баль.

– Ён будзе ноччу?

– Так. Як скончыцца вячэрні паказ, як пагаснуць агні рампы, мы будзем радаваць начных гледачоў сваім мастацтвам.

– Абавязкова прыйдзем!

– Можна і мне з вамі пагуляць па горадзе? – раптам спытаўся ў іх клоўн. – І мой Гаў-Гаў хоча прагуляцца…

– Можна! Можна! – узрадаваўся Месячык. – Нам весялей будзе!

І вясёлая кампанія рушыла далей.Паперадзе бег Гаў-Гаў – то рухаўся на задніх нагах, то на пярэдніх, куляўся, а то падскокваў, нібы мячык.

Не заўважылі, як прыйшлі на чыгуначны вакзал. А там процьма народу – хто прыязджае, а хто ад'язджае. Добра, што іх ніхто не бачыў, а мо і бачылі, ды ў гэтай мітусні і спешцы не было людзям калі зірнуць на незвычайных падарожнікаў.

Адзін толькі пасажыр паглядзе на іх: ён сядзеў на лаўцы побач з валізным чамаданам. Ветла заўсміхаўся, усклікнуў:

– От добра, што вы прыйшлі праведаць мяне, а то сяджу тут, і ніхто не загаворыць са мной. Днём, праўда, падсаджваюцца дзеці, фатаграфуюцца, нешта мне гавораць. Але я іх не чую… А так хочацца паразумецца з людам, пагаварыць, паспрачацца...

– А чаго ты тут сядзіш – спазніўся на поезд?

– І так, і не так… Калі я прыходжу перад поўначчу – калі на табло свеціцца 23.59, – то яшчэ рана сядаць у вагон, а калі свеціцца 00.01, то позна – спазняюся… Не паспяваю дабегчы да свайго вагона. Вось так і жыву – то рана ўставаць, то спазняюся. І ўжо каторы год вось і сяджу тут, на вакзале, хаця квіток у кішэні… Ды і чамадан мне зрабіў скульптар, што і не падняць. Як паздзекаваўся з мяне. А я так мару пабачыць свет, наведаць іншыя краіны...

– А куды ты едзеш, шаноўны? Куды сабраўся паехаць? Дарэчы, а як цябе завуць?

– Еду – сам не ведаю куды. Куды вочы глядзяць, вакол зямнога шара хачу падарожжа наладзіць. А завуць мяне як? Сорамна, але я не ведаю свайго імя. Мяне скульптар вырабіў, а імя забыўся даць.

– Мы будзем цябе зваць… Вечпас – вечны пасажыр, добра?

– Добра, Мікітка, добра, – абрадаваўся пасажыр, – вельмі падыходзіць мне такое імя.

– Але пакуль ты не выправіўся ў кругасветнае падарожжа, то пайшлі з намі гуляць. Як ты адносішся да такой прапановы, паважаны спадар Вечпас? – Мікіта сеў побач. – Бачыш, колькі нас, і нам весела. Ты ж Гомеля нашага не бачыў.

– Дык як яго ўбачыш, калі я тут днюю і начую… А чамадан мой куды?

– Няхай застаецца твой чамадан, – параіла Ірына, – яго ж ніхто не падыме… А што ў ім, дарэчы?

– Ды рукапісы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Станаўленне дзяржавы… І тут знаходзіцца Біблія Тураўскага Княства, якое перапісваў ваш спадарожнік – Кірыла. Я іх ніколі не чытаў, адамкнуць чамадан не ўмею. Скульптар нейкі замок адмысловы вырабіў – ніводзін ключ не падыходзіць. А ўзламваць не хочацца.

Мікіта прамовіў:

– Калі я буду вучыцца ў старэйшых класах і буду вывучаць гісторыю, то абавязкова прыйду і памагу адамкнуць чамадан. І разам прачытаем унікальныя старонкі.

– Буду чакаць, Мікіта! Прыходзь.

– Куды рушым далей? – папытаўся Месячык у вандроўнікаў.

– Я ведаю, куды, – першым адгукнуўся Вечпас. – Пайшлі да маіх сяброў – маладзёнаў. Яны ніяк не могуць ажаніцца. Калі ноччу прыходзяць да дзвярэй ЗАГСа, то яны зачыненыя. Вось тады яны і прыходзяць да мяне ў госці, скардзяцца, што не могуць пабрацца шлюбам. А днём стаяць на варце кахання і не могуць зварухнуцца…

– А як іх завуць? – пацікавіўся Мікітка.

– Я іх назваў Каханы і Каханая.

А яны ўжо чакалі, калі падыдуць да іх начныя госці, усміхаліся. Яна, любуючыся ружай, трымала свайго абранага пад руку. Перад тым, як прадоўжыць далей начны шпацыр, святы Кірыла дабраславіў іх, і, перахрысціўшы, – павянчаў.

І ўсе шчыра павіншавалі Каханага і Каханую…

Падарункаў ім надарылі – рук не хапала абняць...

………………………………………………………………………

…Падарожнікі ўзялі ў сваю кампанію Гулівера, помнік якому паставілі на ўскрайку горада, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, нават Аляксандра Пушкіна, які тут жа напісаў паэму пра Гомель і пра закаханых, Паскевіча, – хацелі сабраць усіх-усіх, каго скульптары-дойліды стварылі ў бронзе, ды…

Ды нечакана на вежы Палаца Паскевічаў ударылі званы гадзінніка, напомніўшы сваім меладычным пералівам пра час.

– Ой! – хапілася за шчокі Гамелінка. – Я ж сваю працу не да канца зрабіла! Пара нам разыходзіцца.

– Пара! – згадзілася князёўна Ірына. – Добрай раніцы ўсім!..

– Пара! Пара ўставаць, Мікітка! Добрай раніцы!

Нічога не разумее хлопчык, уцяміць не можа, чаму схілілася над ім матуля. А куды ж падзеліся яго начныя сябры?

– Мама, а куды князёўна Ірына падзелася? – з крыўдай у голасе спытаў маці.

– Якая князёўна? Мо прыснілася яна табе?

– Ды не, мы ўсю ноч з ёю гулялі па горадзе.

Маці ўсміхаецца, радуецца, што сыну сняцца добрыя сны, значыць, адступіла ад яго хвароба, пачаў папраўляцца.

– Дагледзіш ноччу свае сны, а цяпер пара ўставаць. Сёння ж табе ў школу – хіба забыўся?

– Ды не, помню! – радасна ўсклікнуў Мікітка і борздзенька падняўся з ложка.

Калі ж маці праводзіла сына ў школу, а ішлі яны паўз скульптуру князёўны Ірыны Паскевіч – па вуліцы Ірынінскай – папрасіў маці:

– Ты пачакай, я на хвілінку…

Падбег да скульптуры, уклаў у руку складзены ўчацвёра аркушык паперы, нешта прашаптаў. Потым падышоў да маці, азірнуўся – танклявая грацыёзная дзяўчына імкнулася сысці з прыступак, але чамусьці вагалася…

Яна, здаецца, усміхалася, нешта спрабавала сказаць, гледзячы на хлопчыка.

– Што за паперку ты ёй аднёс?

– Гэта сакрэт, мама.

А ноччу князёўна Ірына прачытала пасланне.

Яно было кароткім: *"Дзякую, спадарыня князёўна Ірына, за начное падарожжа! Мы і сёння будзем гуляць па горадзе? Да сустрэчы!.."*

… Шмат чаго цікавага здараецца, калі Гомель ахутвае ноч…

# IX

## *Прытча*

*“Ты – сапраўды Сын Божы!”*
*“Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае”.*
Мф. (14:33; 3:2)

1

Бог жыве на Беларусі…

2

Ён стаяў пасярод плошчы, поўнай рознага люду.

На яго ніхто не звяртаў увагі, бо за гады прывыклі да яго, да выгляду і аблічча… Яго абыходзілі людзі ў прыстойным адзенні – чыноўнікі і чыноўнічкі розных узроўняў, пры гальштуках і белых сарочках, нават і не кінуўшы позірк у яго бок; абміналі дзядзькі і цёткі, маладыя пары, якія толькі што пабраліся і спяшаліся ўскласці кветкі да падножжа ідала, які, выдаўжыўшы руку, паказваў ім шлях у іх светлае заўтра (такая была ўжо традыцыя ў гэтым горадзе, як і ў шмат якіх іншых, дарэчы); абміналі і дзеці, нават пальцамі паказвалі на яго, а то і кінуўшы ў яго якім агрызкам ці камянюкай, смеючыся, адбягаліся радасныя, бачачы, што камень той папаў яму ў скроню…

Хіба адно святары розных канфесій запавольвалі хаду і пільна прыглядаліся да яго, як бы ўспомніўшы пра нешта ці задумваючыся над сэнсам жыцця, падоранага людству Вышнім, – але і яны, думкава наклаўшы крыж на сябе, прашаптаўшы “уратуй, Гасподзь!”, спяшаліся да сваіх штодзённых клопатаў у храме…

А ён глядзеў, не зважаючы ні на што, скрозь усіх і на ўсіх, і ні на кога аднаго, адно шаптаў незразумелыя словы на незразумелай мове:

– Па…й…ся… лю…і…

Па яго твары сцякалі чырвоныя, амаль нябачныя, струменьчыкі, у вачах шкадаванне нечага няздзейсненага, крыўда і боль, скруха і недаўменне.

Да яго прывыклі гараджане і жыхары з далёкіх вёсак, што мерыліся купіць сабе нешта ў крамах. І вартавыя парадку – міліцыянты, даўно прывыклі. Напачатку, даўным-даўно, прыводзілі ў свой пастарунак, намагаючыся даведацца пра яго падрабязней. У выцвярэзнік нават прывозілі, думаючы, што ён нападпітку.

– Зовут тебя как? – дапытваўся міліцыянт, стараючыся ўсё запісаць у пратакол.

Ён маўчаў, гледзячы скрозь іх як і не бачачы іх.

– Ты глухой, что ли? – зноў падступаўся да яго сярэдніх гадоў лейтэнант, у яго балела галава – учарашняя п’янка-пагулянка не прайшла бясследна.

Затрыманы ўзяў чысты аркуш паперы і напісаў рымскімі лічбамі – IX.

– Что означает девять?

Падышоў памочнік лейтэнанта, здзіўлена паглядзеў на напісанае, выказаў меркаванне:

– Можно подумать, что ты – Иисус Хрыстос. Распятый на кресте и пикой прободённый…

– Ты сказаў, – прамовіў ціха.

– Бэнээфовец? – пацікавіўся лейтэнант. – У нас только бэнээфовцы на родном языке разговаривают. Мужицкий язык у нас не в почете.

– А ў Бібліі гаворыцца, што да Бога ў сваіх малітвах трэба звяртацца толькі на роднай мове, а не на чужынскай, – толькі тады малітва будзе мець Боскую сілу. Лічба дзевяць азначае тое, што ў дзевяць дзяржаваў я паслаў сваіх апосталаў – і яны прапаведавалі, угаварылі народы, каб не будавалі больш на сваіх землях атамныя пачвары…

– А ты кто? – зноў гучыць пытанне.

– Я той, хто даў вам святло. Хто забраў чалавечы боль. Як і твой галаўны боль забяру прама цяпер.

– Ты – энергетик? – недаўмявалі дапытчыкі і нешта запісвалі ў пратаколе.

Схіліў галаву, не меў жадання больш гаварыць з імі. Лейтэнант адчуў: боль мінуў, стала лёгка. Але ён не надаў таму значэння.

Яго замыкалі ў КПЗ, пакідалі на ноч, каб раніцай зноў наладжваць допыт. А ён зноўку з’яўляўся на сваім месцы, зноў шаптаў праз боль і пакуты:

– Па…й…ся…ю…і…

Як ні стараліся яго замкнуць на вялізныя замкі-засаўкі, закаваць у кайданкі, нават сваімі дубінкамі прахаджваліся па спіне і твары, загадваючы, каб ён больш не з’яўляўся на плошчы, – нічога не мянялася. Нават калі выйшаў строгі ўказ высокага начальніка пра тое, каб павыкідвалі міліцыянты з плошчаў і рынкаў усіх бамжоў, п’яніцаў і алкаголікаў, каб не псавалі выгляд агульнага і заможнага жыцця ў асобна ўзятай краіне, – ніхто не мог

зрушыць яго з месца. І Ён зноў прыходзіў на сваё месца, працягваў шаптаць аднастайныя словы.

Потым і зусім перасталі прыставаць да яго, бо ведалі, што іх намаганні дарэмныя, толькі круцілі пальцам каля скроні, паказваючы на яго.

Ніхто не ведаў, дзе Ён начаваў, адкуль прыходзіў, дзе яго пастаяннае жытло і ўвогуле, ці ёсць яно ў яго…

– Па…й…ся… – шаптаў ён асмяглымі вуснамі.

3

Горад глухі і невідушчы, чэрствы і няўдзячны, абыякавы і патануў у грахох. Адно хіба невядома – то плошча была горада, усёй краіны, ці ўсёй планеты… Ніхто пра тое не ведаў.

З кожнага дома, з расчыненых вокнаў, нават і з зачыненых, праз шкло, вылятала на вуліцу і плошчу пачварная і гучная, што аж ціснула на вушы сваім цяжарам, музыка; акрамя яе даносіліся жудасныя крыкі і воклічы – некага на тэлеэкране гвалтавалі, некага забівалі і расстрэльвалі, вешалі, адсякалі галовы на гільяціне; у зазыўных установах на подыуме шпацыравалі зусім голыя, хіба шворачкамі прыкрыўшы быццам бы напятыя цыцкі, пяродкі і азадкі, дзяўчаткі, жадаючы прагна адразу ж азалаціцца, прыцягнуўшы ўвагу п’янкога позірку алігарха, тройчы разведзенага, ды стаць яго жонкай; у крамах і газетна-часопісных шапіках навідавоку раскладзенае чытво з фотамі тых жа зорак шоў-бізнесу з абавязковымі атрыбутам іх аголеных цыцак, падпертых знізу адмысловым падцыцнікам, – каб адразу кідаліся ў вочы сваёй прэнткасцю; а другія выданні дык і зусім, не саромеючыся і не асцерагаючыся амаральнасці, дэманстравалі жывёльныя інстынкты людзей – ляжалі ў тых позах, ад якіх пасля нараджаліся дзеці; гомікі мелі свой часопіс, лесбіянкі – свой, з аднаполымі шлюбамі таксама мелі за гонар мець свой, шыкоўна выраблены, глянцавы і тоўсты часопіс…

Усё перавярнулася, і ўсе, здавалася, з’ехалі зглузду: дваццацігадовыя жаніліся ці выходзілі замуж за сямідзесяцігадовых – і наадварот; нехта мог жаніцца ў пяты-дзясяты раз, пакінуўшы ў кожнай жонкі свайго нашчадка; людзі навучыліся хлусіць і падманваць, забіваць адзін аднаго без дай прычыны; яшчэ школьнікамі падлеткі наладжвалі оргіі… Садомавы і Гаморавы нашчадкі....

Бог даў людзям сваю мову, але тыя людзі перарабілі сваё на чужы лад – праз кожнае слова “мать” і “рот” , “бля” і “пайшоў на…”; мову адрынуўшы, страцілі ўменне гаварыць прыгожа і адзін з адным, прызнавацца ў каханні, бо не маглі зразумець сэнсу моўленага, быццам размаўлялі глухі са сляпым,

быццам галодны з наетым, эфіоп з еўрапейцам ці з лельчыцкім дзедам; мацнейшая дзяржава (маючы сваю плошчу), назваўшыся “старэйшым братам”, спаслаўшыся на тое, што яна абараняе праваслаўе, насадзіла сваю, чужынскую, для карэннага насельніцтва, мову і канфесію, а прыслужнікі, задалізы і здрайцы, аднялі ў дадатак і святыя сымбалі – бел-чырвона-белыя штандары і прасторы, душу Айчыны – вершніка на баявым кані…

Народ вялізнага горада ў даўнія часы надумаўся абраць сабе гарадскога важака. Абралі. Важак, назваўшыся праваслаўным атэістам, біў сябе ў грудзі, абяцаў светлае будучае, але паабяцаў-папярэдзіў адначасова, што месцічы будуць жыць шчасліва, але нядоўга, дадаўшы яшчэ, пальцам паківаўшы, “упаси вас Бог”, прызнаўшыся, што за цывілізаваным светам ён нікога не павядзе… Няхай той свет ідзе за імі...

У душах і мазгах чальцоў грамады нешта зрушылася, і не толькі ў ёй, а і нават у “старэйшага брата” – зрушылася, праўда, не ў той бок, куды паказваў Бог, а зусім у адваротным – у пекла граху і ўседазволенасці, блуду і пыхі, спакусы і жорсткасці, бяздумнасці і бязладнасці… Так, Садом і Гамора.

Свяціцель Ігнацій звяртаецца да нас, грэшных, гаворачы:

– Шлях да Хрыста – светласці шлях. Перад тым, як звярнуцца да Яго, мы павінны ўсвядоміць галоўнае – мы грэшныя. І што мы падаем і падаем уніз, у апраметную, калі не чуем Боскай падтрымкі. Адчуўшы і ўсвядоміўшы сваё падзенне, нам захочацца адразу ж знайсці апірышча, патрэбу ў Збаўцы, нават пагодзімся на тое, каб прайсці і прыйсці да Яго праз змірэнне, веру і пакаянне. Але той, хто не зразумее самога сябе, не ўсвядоміць сваёй грахоўнасці, сваёй пагібелі, не зможа прыняць сваёй грэшнай душой Хрыста, не можа паверыць у Яго, – таму і не можа быць хрысціянінам. Душа спустошваецца. А на пустое месца прыходзіць спакуса – пыха – і думкі тады нараджаюцца спакуслівыя: а навошта мне Хрыстос, калі я і сам разумны, бо я ж раблю дабро і сам добразычлівы, я задаволены самім сабой, і таму заслугоўваю зямных і нябесных узнагародаў.

А Гасподзь не стамляецца клікаць нас да сябе. Клікаць да пакаяння, бо гэта Яго воля аб жыцці кожнага з нас, воля, якая любіць чалавека і нясе яму вялікія дары. Пакаянне – гэта і людская воля, якая ведае грэх, баіцца граху і баіцца, любячы Бога, якая ведае страх Божы і шукае вяртання да Айца.

Калі ж адбудзецца сустрэча волі Божай з воляй чалавека, то і адбудзецца пакаянне. Гэта і будзе тым галоўным спатканнем, якое адчыняе для нас вароты-дзверы ў Валадарства Божае, – гэта адны і тыя ж дзверы, што вядуць да Выратавання праз Пакаянне. Бо пакаянне – гэта не проста ўзрушанасць па нашых грахох, напоўненая слязьмі і смуткам, не, сапраўднае ж пакаянне – гэта тое, што робіць чалавека здольным прыняць мілату і пяшчоту Бо-

жую. Яшчэ – незвычайную і бязмежную любоў. Гэта яшчэ і тое, што насычае і ахоплівае розум, сэрца, волю чалавека падзякай да Бога, скрушнасцю сэрца, глыбокім смуткам аб сваіх грахох, узнёсласцю і здзіўленнем перад тым, што робіць Вышні з нашым жыццём…

А тое азначае ўвесь шлях нашага жыцця з Богам, бо далучаемся да таямніцы Крыжа і Уваскрашэння. І гэтай таямніцай вымяраецца ўсё неабдымнае. Таму і гучыць "Пакаяння адчыні мне дзверы…" пасля таго, як мы праспяваем: "Уваскрасенне Хрыстова бачыўшы". Гэта, у рэшце рэшт, тое, хто мае адносіны да таямніцы Сына Божага, Які стаў чалавекам і Які зрабіў нас здольнымі праз пакаянне быць далучанымі да Бога.

І таму гучыць ва ўсю моц заклік з нябёсаў:

– Людзі, пакайцеся! Людзі, адумайцеся! Бо наклічаце на сябе бяду.

Не чуюць чамусьці людзі кліч Бога. Глухія, пыхлівыя, – не адчуваць свайго граху, як і не ведаюць пра яго…

4

Плошча мела сваю назву. Называлася Пляцам Веры і Пакаяння.

Плошча бурліла, жыла сваім жыццём, не зважаючы ні на што, нават і не асцерагаючыся і не баючыся нічога і нікога… Як і жыла ў пазамінулым, мінулым стагоддзях – і напачатку гэтага.

Гучэў папераджальны Голас адумацца на сямнаццатым годзе крывавага жэрнага, з крыжамі – ХХ – стагоддзя – не адумаліся, і людзей ператварылі ў атэістаў – служкаў Сатаны, якія ж самі адпрэчылі Бога і ўзарвалі храмы; не прыслухаліся да Голасу таго ж стагоддзя на трыццатым і саракавым гадах – і той жа Сатана – пад выглядам двух вар'ятаў – сутыкнуў лбамі шмат якія народы, і загінулі ў той бойцы мільёны і мільёны нявінных душаў…

А Ён стаяў тады, стаіць і сёння…

І гаварыў адны і тыя ж словы:

– Па…й…ся…лю…і…

Стаяў у лютыя маразы, калі трашчалі, набрынялыя яшчэ з восені вільгаццю, дрэвы, стаяў у спякоту, калі пад няшчаднымі промнямі сонца плавілася зямля, курэў асфальт і вяў бульбоўнік на палетках ускраіны паселішча, дзе пачыналіся вясковыя надзелы; стаяў, калі лілі зацяжныя дажджы, не звяртаючы ўвагі на непагадзь, – стаяў з непакрытай галавой, і доўгія валасы звісалі на лоб, хаваючы вочы…

Ён заўсёды быў у адным і тым жа адзенні – накінуты на плечы некалі чырвонага колеру хітон, выгаралы за доўгія гады і стагоддзі. На нагах нязменныя тэпці з драўлянай падэшвай.

Зімой нехта клаў каля Яго ног паношаныя, на выкід, кажушок ці дублёнку, зімовыя цёплыя боты. Але ніводнага разу не пакрыстаўся імі. Ён то шаптаў нейкія малітвы, умольна гледзячы ў неба, склаўшы на грудзях крыжам рукі, і льга было падумаць, што незнаёмец маліўся не толькі за мясцовых людзей, а і за ўсё чалавецтва…

А аднойчы здарылася…

Нагуляўшыся, наблудзіўшы, нацешыўшыся, спазнаўшы ўсю асалоду грахоўнага жыцця, падышла да яго жанчына. Яна мела яшчэ не шмат гадоў, але згубіла-страціла першапачатковы выгляд прыгажосці. Сама ўбачыла і зразумела тое, а калі ж глянула аднаго дня ў люстэрка, жахнулася, заплакала, усклікнула:

– Памажы, Божачка, выбрацца з багны, у якую ўскочыла… Уратуй і памілуй! Каюся, Божа, грэшная я!

Марыя Магдалена і сама не ведала, чаму ногі самі неслі яе на Плошчу. Яна ішла да Таго, хто стаяў на ёй і шаптаў патаемныя, не пачутыя нікім, словы… Калі падышла да Яго, зірнула на Яго, выразна пачула гучны шэпт. Нават не шэпт, а ўмольны заклік:

– *Пакайцеся, людзі!.. Не наклікайце на сябе яшчэ большую бяду.*

Адкрыліся вочы яе, адкрыліся вушы яе, і яна ўсё зразумела, убачыла, Хто стаяў перад ёю, перад Кім яна стаяла. Падышла да Яго, укленчыла, кранулася брыжыка хітона, прашаптала:

– Грэшная я, Госпадзе! Даруй мне грахі мае і правіны.

І, можа, упершыню за доўгія гады Ён паглядзеў у вочы той, што прыйшла да Яго, убачыўшы і пазнаўшы Яго, прамовіў ці то з сумам, ці то з радасцю:

– Даруюцца табе грахі твае, Марыя Магдалена. Ідзі з Богам і болей не грашы.

І яна тут жа адчула незвычайную палёгку, душэўную раўнавагу і радасць пазбаўлення нябачнага, але такога важкага, грузу. І яна паверыла ў тое, што на плошчы сапраўды стаяў Гасподзь, Які ўсе гады і стагоддзі звяртаецца да чалавецтва з адной усяго просьбай – людзі, адумайцеся, людзі, пакайцеся ў сваіх грахох…

– Дзякую Табе, Божа, дзякуй Табе! – прашаптала яна, адыходзячы ад Яго.

Марыя Магдалена, не збочваючы, пакіравала да Храма, які стаяў на ўскраіне горада, які цудам ацалеў пры атэістычных завірухах і які называўся Храмам Хрыста Збаўцы. Наклаўшы на сябе крыж, пераступіла парог. З амбона даносілася малітва: "Госпадзе, памілуй, Госпадзе памілуй, Госпадзе памі-іілуй!.." У храме стаяла і не так шмат вернікаў, але яна ўбачыла, што сярод усіх, збоч, стаяў Той, Які дараваў грахі ёй…

5

А Гасподзь не сыходзіў са свайго месца. Ён маліўся за ўсё чалавецтва, забіраючы на сябе людскія грахі. Ісус Хрыстос, апазнаны Марыяй Магдаленай, стаяў на ўзвышку на амбоне Пляца Пакаяння і Веры, а паўз Яго ішлі і ішлі людзі, не зважаючы на Яго, прывыкшы да Яго. А Ён умольваў, крычаў, стараючыся дастукацца да душы кожнага чалавека:

– Пакайцеся, людзі, адумайцеся! Скіньце грахі з душы сваёй.

А да людзей далятаді незразумелыя словазлучэнні:

– Па…ай…ся…лю…ад…ся…

Хрыстос і яшчэ прасіў людзей:

– Людзі, спыніцеся! Пакіньце на час свае клопаты і неадкладныя абавязкі. Сатварыце адначасова агульную малітву – і тады тое не здарыцца, што павінна адбыцца па вашай жа віне і згодна граху вашага…

Людзі не чулі Яго воклічу і перасцярогі…

– І малітву прачытайце ў той час, як Я ўваскрэснуў. Агульная малітва ўсяго народу мае магічную сілу, якой валодае Бацька Мой, Ойча, Які ў Нябёсах…

Не ведалі людзі, якая бяда насоўвалася чорнай хмарай на чалавецтва ад іх бязвер’я, глухаты і граху. Не прадчувалі нават. Бо яны прывыклі жыць у бязбожнай краіне, а той лад, у якім яны знаходзіліся, лічылі, быў магутны і непераможны, нават вечны. Што пры ім ніякія катастрофы і нечаканкі адбыцца не могуць. Шчыра верылі ў тое.

А ў Святым Пісанні было ж напісана:

“І сем анёлаў, што мелі сем трубаў, падрыхтаваліся трубіць. Першы анёл затрубіў, і зрабіўся град і вагонь, зьмяшаныя з крывёю, і апалі на зямлю; і траціна ўсіх дрэваў згарэла, і ўся трава залёная выгарала. Другі анёл затрубіў, і як бы вялікая гара, вагнём распаленая, абвалілася ў мора, і траціна караблёў загінула. Трэці анёл затрубіў, і ўпала зь неба вялікая зорка, палаючы, нібы светач, і ўпала на траціну рэк і крыніцы водаў. Імя гэтай зоркі палын; і траціна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў, бо яны прагорклі…”

Не ўсе чыталі, а калі б і чыталі, то не надалі б асаблівага значэння прарочым словам, не расшыфравалі б іх сапраўдны сэнс.

6

І быў год 1986-ы… І быў красавік, канчатак яго – 26-га.

І – здарылася: выбухнула на Чарнобыльскай АЭС бомба, роўная сотням і тысячам бомбам, што ўпалі на Хірасіму і Нагасакі.

І сталі горкімі і атрутнымі воды, і людзей пранізалі смяротныя нябачныя атрутныя промні-стрэлы, – і яны загінулі і працягваюць паміраць і па сёння… І тыя стрэлы, якія забіваюць чалавечыя душы, нябачныя...

7

А пасярод Плошчы Пакаяння і Веры стаіць і па сёння Вышні, засцерагае, просіць тых, хто заблудзіўся, хто ідзе не да святла, а да цемры:

– Людзі, пакайцеся!..

І яны чуюць чамусьці іншыя словы, альбо зусім не чуюць Яго.

Не пачулі, маючы вушы, і таму так здарылася, што Сатана паддурыў, падбухторыў зноў іх, паабяцаўшы ім зямныя даброты і багацці, нават без іх агульнай згоды ўзяўся збудаваць для іх атамнага Монстра для іх, зацьміўшы розум іх…

8

Але верыцца (бо інакш і быць не можа!), што неўзабаве сыдуць-сплывуць чорныя крыгі з блакітнай роўнядзі ракі, рассеецца шэрае неба над родным краем, і народ адумаецца, набярэцца розуму і знішчыць атамную пачвару, адправіць яе ў апраметную, бо…

9

... на Беларусі Бог жыве…

*Жнівень, 2011 год, Адэса, Кіеў, Чарнобыль*

## Голуб на плячы, альбо Сустрэча з анёлам

Рыгор Каробка ўбіўся ў аўтобус перадапошні.

Ледзьве ўцягнуў за сабою цяжкую, ледзьве рукі не паабрываўшы, валізу – чамадан. Зачапіў нейкую віскатлівую, у жоўтым капелюху, цётку, і яна закрычала на ўвесь аўтобус, хоць вушы затыкай:

– Куды ты прэш, калхознік? Касцюм мне запэцкаў! Жыцця ад вас няма гарадскому чалавеку.

– Даруйце, я незнарок... – паспрабаваў слаба апраўдацца Рыгор, але цётка не сунімалася, лямантавала, здавалася, яшчэ грамчэй і агрэсіўней.

Стаяў на аднойназе, а другую не ведаў, куды і ўплішчыць, – скрозь людскія чаравікі, туфлі, басаножкі, – нагі не прасунеш, зноў жа – бо калі каго кранеш ці зацэпіш, зноў пачнецца лямант...

Духата, здавалася, распірала аўтобус: людзі млелі ад гарачыні і злаваліся на ўсё. І на ўсіх. Нехта некаму замінаў, хтосьці агрызаўся, пасылаў кудынекуды...

Чулася звычайнае:

– На таксі дабіралася б! Барыня мне тут знайшлася!

– Сам на таксі едзь...

– Пехатой дабірайцеся, калі цесна!..

– Як селядцоў у бочцы набілася, – начальства, мусіць, так не ездзіць...

– Члены ўрада так не ездзяць – у іх свае членавозы!..

Каробка маўчаў. Яму не прывыкаць да жыццёвых выбрыкаў. Хіба ж яму звяртаць увагу на такую драбязу, як цяснокце? Пэўна ж, гэтым крыклівым і незадаволеным людзям добра і лёгка жылося, раз так востра рэагуюць на дарожную неўладкаванасць. Гэта ж не гадзіны ехаць, як яму прыйшлося, а ўсяго колькі прыпынкаў – зайшоў і выйшаў – і памінай, як звалі, і не ўведаеш, як зваць-велічаць дзябёлую суседку, што ўціснулася ў яго бок поўнымі гарачымі грудзьмі, ці вунь таго хлапца, што ўпёрся галавой у раскрыты люк...

Аўтобус спыняўся, раскрываў з рыпеннем свае пашчы, адрыгваў жывыя порцыі пасажыраў, – а замест іх набівалася, здавалася, яшчэ больш, але Каробка ўжо стаяў на дзвюх нагах, а чамадан засунуў у куток, сам жа заняў ужо зручную пазіцыю – яго цяпер і бульдозерам з месца не зрушыш. Падставіў твар да акенца, дыхнуў вальней – на ўсе грудзі, сустрэчны вецер крануўся прыемна твару.

Раней, калі ён без папярэджання аднойчы падаўся да сына і сеў вось так у аўтобус, што ехаў да вуліцы Каліноўскага, раз-пораз пытаўся ў людзей, ці хутка будзе патрэбная яму вуліца. Аўтобус тады, падалося яму, поўз цэлую гадзіну, а жаданага прыпынку ўсё не было і не было...

– Вы, папаша, не волнуйтесь, – супакоіў яго тады каржакаваты барадач, – вас автобус довезет до самого конца – там и сойдете...

І сапраўды – праз колькі прыпынкаў вадзіцель і аб'явіў канечны прыпынак. Цяпер жа Каробка не хваляваўся, ведаў, што ехаць яшчэ доўга, аж пакуль не павернуць управа, дзе будзе высокі дом з адмысловымі балконамі – яны найбольш чамусьці і запомніліся яму, – а пасля ўжо заставалася ўсяго два прыпынкі. Дзесьці на сярэдзіне шляху, калі перагружаны людзьмі аўтобус зноў спыніўся і выпусціў пасажыраў, то зайшло ўжо столькі народу, што ўціснулі-прыціснулі Рыгора да сцяны так, што хоць крычы. Ён напруціўся, упёрся ў бакавіну салона, адпіхнуў ад сябе пакрысе суседзяў, – стаў паўбокам да іх. І тут – вочы ў вочы – сустрэўся поглядам з чалавекам, які разглядваў яго ва ўпор: насцярожана і зацікаўлена. Ад таго пранізлівага позірку ў Рыгора прабеглі па спіне дрыжыкі, і стала адразу холадна – акурат як і тады, у тое спякотнае лета...

“Ты?!” – пыталіся вочы, што ўперыліся ў яго.

“Я, Віталь, хіба ж не пазнаў?..”

“Чаму ж не пазнаў? Пазнаў... Цябе я, мусіць, і на тым свеце пазнаю...”

“Пастарэлі мы, аднак, з табою...”

“Праўду кажаш, не маладзёнкі ўжо, час нікога не мілуе...”

Што перад ім быў Віталь Чаркашын, унук бабы Палівіхі, сумневу ў Рыгора не было – ніжняя губа рассечаная яшчэ ў дзяцінстве: у хованкі гулялі ноччу, і Віталь напароўся на калючы дрот і разарваў сабе рот... Ды і без тае меткі можна было яго прызнаць – нічым не змяніўся, амаль і не пастарэў, хіба валасы выбеліў час ды рэдкімі сталі зубы, пажаўцелі ад курава. А вочы так і засталіся хітрымі і хцівымі, позірк так і пранізваў навылёт...

“Дык што, мо абдымемся па-зямляцку, павітаемся?..”

“З д'яблам табе абдымацца, а не са мною, – зямляк мне знайшоўся, – Рыгору ўжо рабілася не па сабе, нават заблажыла, цененька зазвінела ўвушшу, перасохла ў горле. – Не, нас не Бог звёў на жыццёвай сцяжыне, няйначай, д'ябал...”

Аўтобус спыніўся каля кінатэатра. Піснулі дзверы, расчыніліся са скрыгатам і енкам, і людская хваля выплеснулася на ўгрэты сонцам асфальт, а разам з усімі выпхнуўся і ён, Віталь, – як і пажадаў таго Каробка: “Каб ты згінуў з маіх вачэй, ірад!..”

Людзей заходзіла ўжо меней, і ён азірнуўся ў задняе шкло.

Віталь стаяў на прыпынку і глядзеў услед. Каробку падалося, што быў ён нейкі разгублены, быццам адчуваў сябе перад Рыгорам вінавата і няёмка. А мо яму, Рыгору, так толькі падалося... За пяць хвілінаў, што ехалі, упёршыся грудзі ў грудзі, яны не прамовілі ўголас ніводнага слова. Размаўлялі мовай маўчання. Умелі чытаць думкі і пытанні па выразе твару, па выглядзе вачэй... Адчуў, як пад мокрай кашуляй захвалявалася запознена сэрца – боль пачаў разрастацца ўсё больш і больш. Ледзь заўважна падрыгвалі рукі. У вачах стаяў шэры туман – і ён ужо не бачыў людзей, не чуў іх галасы, воклічы, смех...

Калі зайшоў у кватэру да сына – ён, на шчасце, аказаўся дома, нявестка была на працы, – не павітаўшыся нават, не абняўшыся, хуценька дастаў з чамадана трохлітровы слоік самагонкі. Дрыжачымі рукамі адліў у кварту, а пасля наліў сабе амаль поўную шклянку. Нічога не сказаўшы, выпіў адным махам, адным глытком. Выдыхнуў з сябе паветра, выцер рукавом губы.

– Ты што, бацька? Што з табой? – устрывожыўся сын, убачыўшы такім, не падобным на самога сябе, бацьку. – Блага табе?

– Нічога, Коля, нічога. То я за смерць сваю выпіў.

Сын здзіўлена паглядзеў на бацьку, скінуў з сябе тэніску – даймала духата..

– Як гэта – за смерць? Не палохай, бацька... Мо “хуткую” выклікаць?

– Я не палохаю, сын, – бацька хрумстаў, закусваў агурком, і ўжо лагодна ўсміхаўся – узрушанасць пакрысе адступала. – Смерць мяне сорак гадоў назад шукала... Абмінула. А цяпер, сын, давай па кроплі за сустрэчу. І налі ў тыя, маленькія, крышталёвыя шкалікі, што мы з маткаю вам падарылі. За сустрэчу, Коля, вып’ем...

Мікола выканаў бацькаву просьбу...

...Радавы Рыгор Каробка на вайну папаў з першых дзён. Правільней будзе сказаць – адразу, як прызвалі ў ваенкамаце. Акурат яго ўзрост падыходзіў тады – увосень спаўнялася васемнаццаць...

Ноч... Буйныя, як пераспелыя жоўтыя слівы, зоркі ў небе.

Чарпак Вялікага Воза схіліўся над возерам – чэрпаў з яго ваду.

Узвод укапаўся ў зямлю, зашыўся ў яе як дазваляў рост байца. Пахла жывіцай – за спінай раскашоўваўся густы сасоннік, палыном і чарнобылем,– схіл гары спрэс зарос разнатраўем. Хіліла ў сон. За дзень нагрэты пясок утрымліваў у сабе цеплыню і ўганяў у дрымоту.

– Паспі, Рыгор, не клюй носам, – гаворыць радавы Хвайніцкі, з якім паспеў пасябраваць. Хлопец з-пад Віцебска. Вясковы, дужы малец, як называюць хлопцаў на Віцебшчыне, які не раз браў на сябе важэйшую ношку, старэй на гадоў сем.

– А раптам папаўзуць, – сонна абзываецца хлопец, і прапанова сябра яшчэ больш дрымотліва дзейнічае на яго.

– Ну і што з таго? – даносіцца з цемры затоены шэпт. – Заўважым. Адбівацца ёсць чым... Не першы раз... Спі...

Ціха. Дзесьці ўнізе, ля возера, цвіркочуць конікі. Уздыхнуў цёплы вецер і пошумна прайшоўся па вершалінах сасонніку, пагладзіў даверлівым дотыкам-хваляй твары байцоў.

На Рыгора адразу ж найшла супакоенасць і млявасць: ён праваліўся ў сон і апынуўся ў сябе дома – у роднай хаце. Сярод бацькоў. Малодшая, Волечка, якую бацькі знайшлі апошняй у сям'і, за пяць год перад вайной, весела кінулася яму на рукі, закрычала радасна:

– Лыголка плыехаў! Лыголка плыехаў!..

Яна ўсё яшчэ ніяк не магла навучыцца выгаворваць літару "р".

Маці пацалавала, бацька абняў, прытуліў да сябе, павёў да стала. Ён сабраў, аказваецца, усю сям'ю, суседзяў, каб пахваліцца сынам, яго пабыўкай, каб распытаць у яго пра вайну...

– Колькі ж ты, сын, танкаў падбіў? Пахваліся, Рыгорка!

– Гэтым не хваляцца, бацька, падбіваў – і не раз.

– Танкі! Наперадзе танкі!..

Рыгор не зразумеў, хто крычаў. Толькі бацька раптоўна знік, як і ўсе людзі, і ён ужо не ў сваёй хаце, а дзе – уцяміць не мог.

– Рыгор! Рыгор, прачніся, тваю маць! – крычаў ужо, што было сілы, сябар, катурхнуў моцна за плячо, трывожна гледзячы наперад – у шэрае мроіва.

Каробка тут жа ўскочыў, працёр кулакамі вочы, перапытаў устрывожана:

– Дзе яны, Пятрусь?

– Ды вунь – справа, ядры іх качалку, – паўзуць ад возера. Фары не ўключаюць, пруць, гады, напрамкі.

А вочы яшчэ нічога не бачаць – наперадзе суцэльная шэрань, і нічога выдзеліць немагчыма. Але вочы пакрысе прывыкаюць, робяцца пільнымі, і ён ужо бачыць чорныя пачвары, што сунуцца павольна ў іх бок.

– Цяпер, Пецька, бачу. Як жукі гнойныя паўзуць. Я гатоў, Пятрусь!

Камандзір узвода – лейтэнант Стальмахоў – з'явіўся над імі нечакана, запытаўся строга, ці ведаюць абстаноўку – вораг наперадзе.

– Мы напагатове, таварыш лейтэнант, – адказаў Пятро, – не першы раз мы з Карабком вось так перад танкамі...

– На вас, хлопцы, уся надзея, – ужо лагодней прамовіў камандзір, шмаргануўшы носам – прастудзіўся. – Тут яны і будуць перці. Гармата паможа, але і вы не зявайце...

– Пастараемся.

– Тады – з Богам!

Зміцер Стэльмахоў – веруючы. Але ён не выстаўляў сваю веру напаказ, нават хаваўся ад староннягa вока. Аднаго разу Рыгор прыкмеціў, як лейтэнант маліўся, цалуючы крыжык, што вісеў на шыі. І зрэдзь у яго размове вырывалася “Бог паможа”, “з Божай помаччу”... У хлопца васільковыя вочы, светлыя, колеру спелай пшаніцы, валасы, ціхі, нават і не камандзірскі голас. Але не голасам браў, а кемлівасцю і дабрынёй. Амаль Рыгораў аднагодак, усяго на год-два старэйшы, а прызнавалі ў ім байца і камандзіра, і – клапатлівага бацьку.

– На Бога спа... – хацеў сказаць Рыгор, але тут жа наперадзе, за метраў дваццаць, разарваўся першы снарад, што даслаў фашысцкі танк – і на байцоў пасыпалася з карнявішчамі зямля, бадылле, розная пацяруха...

Сябры адразу ж упалі на дно акопа. Камандзір узвода памчаў на баявую пазіцыю, прадчуваючы, што бой будзе цяжкі, крывавы. Для некага і апошні. Можа, нават і для яго...

Потым снарад разарваўся позаду, сыпануўшы добра зноў на іх жвіру і камення. Але хлопцы на гэты раз не адрывалі позірку ад танкаў, што павольна падкрадваліся да іх – трымалі на прыцэле, але агню не адкрывалі, чакалі, калі прысунуцца яшчэ бліжэй..

Гахнула са свайго сховішча саракапятка – і першы танк ахапіла полымя. Затахкаў кулямёт. Зноў наперадзе разарваўся снарад – ужо бліжэй да бруствера: аж падкінула ад зямлі супрацьтанкавае ружжо, што ўчэпіста трымаў у руках Рыгор.

– Цэлы, Пятрусь?

– Цэлы будзем, не загінем... – агрызнуўся ваяўніча сябар, не адрываў позірку ад сполахаў у цемры. – Трымайся, Рягор, цяпер пачынаецца вялікая-вялікая работа... І рабіць нам яе – не перарабіць...

Наперадзе, перад самым брустверам, успоўз перадам на ўзгорак “Т-4”, і Рыгор без прамаруджання націснуў спускавы кручок. Моцна і балюча тарганула ў плячо, руля з пашыраным канцом выплюнула агонь, – і праз момант танк з перабітай гусеніцай закруціўся на месцы.

Калі ж павярнуўся бокам, то ўзяў на мушку паліўны бак, – зноў стрэліў. І тады танк успыхнуў полымем...

– Малаток, Рыгор, так іх, гітлера маць...

Чорныя воблакі ўздымаліся ў чорную ноч, хаваючы зоркі і ўсё наваколле. У тым месцы, адкуль біла саракапятка, узнікла вялізная ўспышка агню – прамым пападаннем гармата выйшла са строю. Пятрусь бачыў у цемры “свае” жывыя мішэні, і дасылаў у той бок, прыцэльна, трасіркі. З падбітага

танка беглі немчукі назад, і іх даганялі кулі, – у такія мішэні не папасці было проста немагчыма... Гэтага не бачыў Рыгор – лавіў позіркам танкі, слаў на іх смяротны агонь...

Дзве ўжо пачвары, як бы прывязаныя адна да адной, рухаліся ў яго бок. Рыгор прыкмеціў іх адразу – і стрэліў у правы танк, скоранька пераразарадзіў зброю, зноў прыжмурыў вока – цэліўся... Белы слуп зямлі раптоўна вырас перад вачыма, да болю сціснула барабанныя перапонкі ўвушшу – і Каробка не вытрымаў болю, закрычаў, абхапіўшы далонямі галаву...

Страху не адчуў. Толькі нейкае жахлівае прадчуванне ці то канца, ці то пачатку нечага новага, яшчэ не зведанага ў жыцці. Грудзі распіраў адначасна і пякучы боль і роспач. Напэўна, так і крычыць немаўля, перайшоўшы ў новую стадыю свайго жыцця. Па крыку тады бабка-павітуха і вызначае здароўе народжанага...

Рыгор крыкнуў раз, потым другі, і трэці... Мо ён і не крычаў зусім, а толькі пруціўся, сілячыся нарадзіць крык. А хоць бы і крычаў, то яго наўрад ці хто і пачуў бы ў гэтай пякельнай і жудаснай начы... Ён, здаецца, і сам сябе не чуў. Не пачуў, але ўсё ж адчуў палёгку, – як другое дыханне адкрылася ў ім перад доўгай дыстанцыяй, якую адолець яму прыйдзецца абавязкова.

І тады ж Рыгор зноў апынуўся за бацькоўскім сталом...

Але – во дзіва! – яго ўжо не радавала пабыўка. Ён жа павінен знаходзіцца там, каля возера Белае, побач з Петрусём, побач з другімі байцамі, там жа – вораг... Ну няўжо бацька не разумее, што яму ніяк нельга і на хвілінку затрымлівацца ў хаце? Тады чаго ж ён хавае ўсмешку ў пракураныя вусы? Яму ж, Рыгору, трэба неадкладна туды, да возера, трэба памагаць байцам, лейтэнанту, які верыць у Бога і ў перамогу, быць там, сярод усіх байцоў, каб біць і біць трапнымі стрэламі па пачварах з крыжамі на баку...

І сам не разумеў, чаму пакінуў пазіцыю. Уцёк, збаяўся?! Няўжо – уцёк?! Ды быць таго не можа – ён жа нават і не думаў пра тое, нават і смерць не прымусіла б адступіць ад акопа. А цяпер што – трыбунал?! Які сорам і якую ганьбу ён нажыў сабе... І таму заплакаў ад крыўды на самога сябе, караў сябе бязлітасным і жорсткім судом – за здраду і маладушнасць. І не мог прыдумаць сабе аніякага апраўдання.

…У шпіталі ён апынуўся толькі на трэція суткі...

У палаце ціха і выразна патыхала ёдам, нашатырным спіртам, нейкімі іншымі лекамі і лякарствамі.

Рыгор памацаў ногі, паварушыў рукамі – цэлыя. Пакруціў галавой – здаецца, болю не адчуў. Скінуў з сябе байкавую коўдру і ўбачыў, што ўвесь у бінтах.

І ўспомніўся бой, скаланула запозненая думка: “А як там усё скончылася – ля возера? Ці адбілі фашыстаў? А Петрусёк як, ці жывы хоць? А камандзір узвода?..”

Зноў затахкалі кулямёты, зноў далятаў да вушэй суцэльны гул кананады... Бой для радавога Рыгора Каробкі працягваўся.

...Камандзір узвода наведаўся праз дзень.

У яго перабінтаваная галава, і выглядаў ён засяроджаным, стомленым. Рыгор адзначыў, што ў яго высветліліся валасы – быццам той светла-жоўты жвір ля возера назаўсёды пафарбаваў яму галаву.

– Як там усё, таварыш лейтэнант? – найперш пацікавіўся Рыгор пра галоўнае.

– Адбілі танкі. Дзякуючы табе. Цябе да ордэна Чырвонай Зоркі прадставілі.

– А Пецька як, таварыш лейтэнант? – затоена паглядзеў хлопец на камандзіра: баяўся пачуць страшную вестку.

– Пецька... – лейтэнант глыбока ўздыхнуў. – Няма Пецькі. І радавога Аколава няма, Наргуліева, Майсурадзэ, Падапрыгары таксама няма... Загінулі. Больш як палавіны ўзвода няма. Для нас Бабруйскі кацёл вунь якім нечаканым бокам абярнуўся.

Бяда парадніла іх, яшчэ больш зблізіла. Рыгор адчуў прыхільнасць камандзіра да сябе, яго шкадаванне.

– Змітрок, а як яно далей з намі будзе?

Рыгор усё не асмельваўся перад гэтым назваць камандзіра па імені. А цяпер рашыў, зручны для гэтага момант.

– Перафарміруемся. Камандаванне новыя часці фарміруе. А ты тут адлежвайся, набірайся моцы і сіл. Як на курорце пабудзеш... Як адпачынак усё роўна. У цябе ранення вялікага няма, кантузіла толькі крыху... Адчуваеш сябе як?

– Лепей ужо... Хадзіць спрабую. Доктар сказаў, што хутка на выпіску. Да хлопцаў хачу – засумаваў.

– Хутка ўбачышся.

– Зміцер... Таварыш лейтэнант, просьба ў мяне ёсць. Асабістая.

– Якая?

– Я ж родам адсюль – мясцовы. Пад Шацілкамі жыву. За паўдня да сваіх дабяруся, хоць на гадзінку да родных наведаюся. Мігам – туды і назад.

Камандзір узвода задумаўся. Хмурыўся, нешта ўзважваў, вырашаў.

– Ладна, Рыгор, дамовімся давай так. Я папрашу камбата, каб даў табе пяць сутак адпачынку. Ты ж заслужыў. Бог бачыць, што заслужыў. Ваяваў ты выдатна, малайчына. Значыць, так... Ты тут папраўляйся, а я праз два

дні наведаюся. Загадзя абяцаць нічога не магу, але пастараюся ўсё ўладзіць...

– Дзякую, таварыш лейтэнант!

– То табе дзякуй, Рыгор! За бой дзякую! Што такой махіне фашысцкай даў па зубах.

Зміцер Стэльмахоў пацiснуў яму руку. Павярнуўся – і пайшоў да выхаду. Рыгор паспеў заўважыць, як за парогам, на сонцы, зырка засвяцілася яго галава. За адну ноч пасівеў камандзір – пастарэў на шмат гадоў... А камандзіры, як вядома, сівеюць рана. Горыч і шкадаванне ахапілі Рыгора, калі ўспомніў пра Пецьку, пра Майсурадзэ... Запякло ў вачах, зашчымела сэрца, – і ён абшчаперыў рукамі падушку, уткнуўся ў яе галавой...

Крочыў, спяшаўся салдат Каробка дадому.

Прайшлі кароткія дажджы, і таму пад нагамі жвір цвёрды, цубкі, і па ім ступалася лёгка і ўпэўнена. За спінай у байца – рэчавы мяшэчак. У ім – хлеб, сала, кансервы. Камандзір узвода схадзіў на палкавы склад і выпрасіў у старшыны для яго такі-сякі правіянт, невядома, як там у бацькоў, мо і на зуб пакласці не было чаго... Мясціны для Рыгора амаль знаёмыя, родныя і блізкія сэрцу. Ён не ішоў, а ляцеў на крылах, не адчуваў пад сабою зямлі. Неўпрыкмет прайшоў поле, за полем угадвалася вёска. Спытаў у дзядка гадоў пад дзевяноста, што сядзеў на прызбе першай хаты, якая хавалася пад ліпамі, ці правільна ідзе дадому. Стары хітануў галавою, не звярнуўшы на яго ніякай увагі, рукой няўцямна паказаў некуды ўздоўж вуліцы.

За беразняком пераплыў неглыбокую рачулку. У трыснягах пераседзеў, прыслухоўваючыся да наваколля, – асцерагаўся, бо не ведаў, на якой тэрыторыі знаходзіцца: не сустракаў па дарозе ні нямецкіх войскаў, ні сваіх.

Ціха. У лагчыне прытулілася да лесу невядомая вёсачка – адтуль даносіўся брэх сабакі. Праз колькі хвілін там пачуўся стрэл, потым нечы крык...

Далей рашыў прабірацца толькі ноччу, каб не папасці ў лапы фашыстам ці паліцаям. Пераседзеў паўдня ў хмызняках. З’еў акраец хлеба і скрылік сала – астатняга не чапаў, бярог для бацькоў.

Як зноў запаліліся на небе зоркі, рушыў у дарогу. Браўся збоч бальшака, прадзіраўся скрозь кустоўе паралельна яму, чуйна ўслухоўваючыся ў золкую цішыню. На кані ехаў нейкі дзяцюк – нокаў на каня, але яго спытаць пра дарогу не асмельваўся.

У наступную вёску прыйшоў пад поўнач.

Убачыў жанчыну, што шыргала нагамі, усунутымі ў боты з кароткімі халявамі, кіруючыся да сваіх веснікаў, – несла штосьці ў мяшку, закінутым за пляча. Дагнаў, кашлянуў папераджальна, затоена папытаўся:

– Цётачка, а ці далёка яшчэ да Забалацця?

– Дадому ідзеш, галубец?

– На пабыўку, цётачка. На дзянёк, з матуляй толькі пабачыцца.

– Шчаслівы. Маіх гэна дык Гітлер забіў... Сталін паслаў, а ён забіў... А ты дайдзі і пабач сваю матулю. Скора ўжэ. Да раніцы дойдзеш. Асцерагайся толькі, там, у тым боцы, могуць быць і паліцаі. Сюды наязджаюць зрэдку...

– Дзякую вам, цяпер дайду.

– Шчаслівенька табе, сыночак... Дайдзі. Парадуй матулю...

...Рыгор ціхенька пастукаў у шыбіну. Потым яшчэ. У хаце ціха – ніхто не зварухнуўся. Не загаралася святло. Ён прасцярожліва азірнуўся – ці не чуе хто, ці не бачыць яго ў цемры. Зноў пастукаў – ужо грамчэй.

У акне перад сабою – вочы ў вочы – убачыў твар маці. Цьмяна так, але здалося, што яна хапілася далонькмі за шчокі, – пэўна, узрадавалася ці жахнулася ад неспадзеўкі. Ляснула прыглушана ў сенцах клямка, як бы запрашаючы яго да прачыненых дзвярэй.

Яшчэ раз азірнуўся, прыслухаўся – ці няма падазроных гукаў, і, крадучыся, каб не наступіць на грымотлівае вядро ці чыгун і не нарабіць грукату, падышоў да ганка. Узышоў на яго і піхнуў злёгку дзверы.

– Сыночак, няўжо ты? – паўшэптам папыталася маці. – Ой, Божачка!..

Не адказаў, у цемры абняў яе, прытуліўся да шчакі, сціснуў лёгенька ў абдымках. Маці, здаецца, заплакала.

– Скуль ты, сынок, прыйшоў, вакол жа немцаў і паліцаяў процьма?

– З фронту, мама. Ад Бабруйска дабіраюся.

– Як жа гэта, сыночак? Цябе ж маглі падпільнаваць гэныя... А ці надоўга?

– Да на дзянёчак усяго – на адзін, мамачка, усяго дзянёчак. Камандзір адпусціў. Каб паслязаўтра вечарам або не пазней раніцы быў ужо ў часці.

Маці не адрывалася ад яго, як не верыла, што трымала свайго сына, яшчэ мацней абдымала, прыціскала да сябе. Рыгору падалася яна маленькай, слабой. Твару не бачыў, але чуў яе кволае дыханне – дыхала ў грудзі, як саглавала яго, аберагала ад нечага.

– Бацька як – дома?

– Няма бацькі, сыночак. Забілі немцы. З лесу ішоў, з грыбоў, падумалі, што ад партызанаў...

– Гады... – прамовіў горычна. – А Волечка?

– Яна...

Расчыніліся за спінай дзверы, у твар ударыў зыркі прамень святла ад ліхтарыка.

– Вось ён! Я ж казаў, што ён у гэтую хату прабіраўся. Рукі ўгору, ну-уу!

Рыгор нічога не зразумеў. Загаласіла роспачна маці, ратуючы сына ад бяды. Калі б ён і паспрабаваў бы хутка зняць з пляча вінтоўку, то не паспеў бы і стрэліць – апярэдзілі б...

– Не аддам! Не аддам сына, ён жа да мяне прыйшоў!..

Не паспеў апамятацца, як яму скруцілі рукі, звязалі за спінай. Маці не крычала больш, – асунулася на падлогу, цяжка дыхала. Нехта тупа і балюча ўдарыў прыкладам у спіну, аж пацямнела ўваччу.

– Пшоў, сталінскі сокал! Цяпер ты без крылаў – не палятаеш, ну!..

Паліцаяў шасцёра. Павялі некуды ў цемру.

Запозненае горычнае шкадаванне ўварвалася ў грудзі – як не разрывалася сэрца ад крыўды, што так неабачліва распарадзіўся адведзеным для вольніцы часам. Столькі прайшоў – і вось на табе, маеш дулю з макам... Божа, камандзір падумае, што збег з войска... Што камандзір – яго ж пад трыбунал могуць упячы... Эх, арэх, які грэх... тваю маць...

Яго ўпіхнулі ў хлеў, зачынілі і замкнулі дзверы на замок. Ідучы, прыкмеціў, што паліцаі знаходзіліся ў школе, у якой ён вучыўся да вайны. А ў хляве, дзе ён цяпер быў, знаходзілася некалі майстэрня – вучні майстравалі шпакоўні, табурэткі, сталы. Рыгору падалося, што адзін з галасоў паліцаяў быў яму знаёмы. Але як ні сіліўся ўспомніць, каму належаў, на памяць нічога не прыходзіла.

“Божачка, як там маці? – не давала спакою думка, ён яшчэ чуў цеплыню яе шчакі на сваёй. – Я ж ёй, беднай, такую радасць і такое гора прынёс сваёй раптоўнай пабыўкай...”

Успомніў, што паведаміла матуля пра бацьку, – і пякучы боль зноў пранізаў скроні: няма бацькі на свеце…

“А Волечка? Не дагаварыла ж пра Волечку. Што ж з ёю сталася – не выйшла ж у сенцы разам з маці? Што будзе са мной?..”

Яго вывелі з хлява на золку – сонца толькі-толькі ўзнялося з-за лесу. Рыгор жмурыўся, гледзячы на яго, ледзьве перастаўляў ногі. Ад думак усю ноч ён стаміўся, стаў бязвольны, абыякавы да ўсяго, што адбывалася з ім. Да яго падкацілася разуменне трагічнай безвыходнасці...

З хлява ўцячы не ўдалося – ніводнай шчылінкі не знайшоў, як ні стараўся, Як некалі для самога сябе рыхтаваў труну разам з настаўнікам працы Марціновічам. Тоўстымі дошкамі аббівалі сцены і столь – каб і мыш, і злодзей які не маглі прашмыгнуць у дзірку. За працу Андрэй Сямёнавіч паставіў яму выдатную адзнаку. Цяпер жа разумеў – дурную пяцёрку зарабіў тады.

– Ну, пашавелівайся, не выспаўся хіба за ноч? – зноў падштурхнуў яго той жа паліцай, які выводзіў з хаты. – Пярыны тутака не паклалі, так што ізвіняй...

Цяпер яго разгледзеў Рыгор. Паліцай невялікага росту, каржакаваты, з заўсёднымі насупленымі  брыўмі над вачыма. На рукаве – чырвоная павязка з чорнай павучынай свастыкай.

– А боты ў цябе нічога, камандзірскія. Здымай. Цяпер яны табе без патрэбы... На тым свеце і без іх добра, там усе босыя ходзяць. Ты ж у рай адразу пападзеш, так?

– Як Бог дасць, пабачым...

– Пабачым, пабачым...

“Як маці? Ці вытрымае яна, даведаўшыся пра маю такую бязглуздую смерць? Эх, мама, мама, дурны ў цябе сын... Як валёнак сібірскі. Пабачыцца захацеў. Ды лепш бы мяне на вайне забіла, а то на вачах у маці... Для чаго прынёс ёй такія жудасныя пакуты?!”

Яго збівалі доўга і жорстка. Пытанні сыпаліся адно за адным. Язык ледзьве варочаўся, каб адказаць хаця б на адно з іх.

– Адкуль? Куды ішоў? З якім заданнем?

Маўчаў. Не мог гаварыць. Калі акрыяў трохі, зноў распачынаўся допыт.

– Адкуль? Куды ішоў? З якім заданнем?

– Ні з якім заданнем я не ішоў, Пабачыцца з бацькамі захацелася. Часць мая вунь пад Бабруйскам. Быў бой, паранілі. У шпіталі быў. Адпусцілі на трое сутак...

Праз дзень вёў допыт нямецкі афіцэр. Малады, нават прыгожы, як і яго камандзір – Змітрок.

– Адкуль? Куды ішоў? З якім заданнем?

– Я ж казаў, да бацькоў...

– Адкуль?..

Зноў збілі да непрытомнасці. Крывавыя падцёкі навіслі над вачмі. Ён ужо нічога не бачыў перад сабою.

– Расстраляць, – махнуў чорнай скураной пальчаткай афіцэр. – Як і астатніх, каго злавілі...

Іх вывелі ў двор сямёра, такіх жа збітых і змардаваных, як і ён. Рыгор не ведаў, што пяцёра партызан злавілі ў засадзе паліцаі, і немцы доўга потым дабіваліся ад іх прызнанняў. Адзін з іх акрываўлены, чырвоныя сукравіцы сцякалі па твары да шыі – ці цэлыя хоць вочы ў чалавека?

Да Рыгора падышоў паліцай, крануўся пляча, прасцярожліва шапнуў:

– Рыгор, слухай мяне ўважліва. Я – Віталь Чаркашын...

“Во чый гэта голас! Майго аднакласніка, які заўсёды спісваў у мяне задачкі. А сваю жыццёвую задачку вунь як рашыў – стаў паліцаем... То ты тады першую пяцёрку і атрымаў, калі са мной майстэрню дошкамі абшываў...”

– Цябе расстрэльваць буду я. І – не пападу. Але ты падай, ляжы да вечара, да тае пары, пакуль сцямнее. А потым бяжы ў лес. Маці я папярэдзіў, не хвалюйся за яе, каля Люхчэ цябе будзе чакаць, пад дубам...

На язык ускочыла слова падзякі, але ён не прамовіў нічога. Бо не давяраў таму, што сказаў Віталь. Ды і за што дзякаваць – наперадзе яшчэ самае страшнае, ды і невядома яшчэ, якім бокам яно яшчэ і павернецца... Іх пагналі агародамі, не па вуліцы. Да лесу. Праз поле.

Брылі марудна – апошні шлях самы кароткі і жудасны. Рыгор ішоў, апусціўшы галаву.

– Дай хоць закурыць перад смерцю, – папрасіў дзяцюк, спыніўшыся, гледзячы ў неба, як развітваўся ўсё роўна з ім.

– Навошта тытунь псаваць – усё роўна цяпер, аднака, – зарагатаў паліцай з абвіслымі вусамі, паправіў на плячы стрэльбу.

– О, вылюдкі, крыжа на вас няма.

– Ты ж камуніст, у Бога не верыш, а пра крыж пляцеш.

– І ў мяне ёсць Бог. Толькі не той, што ў цябе...

– У цябе за Бога – Сталін і Ленін, ды Сатана...

– Пакарае яшчэ вас Гасподзь, пабачыце!

– От пагавары мне тут, дык тут, на месцы, і ўлажу спатанькі...

– Эх, ты... – уздыхнуў чалавек, падцягнуў штаны, паклыпаў далей, следам за астатнімі.

Рыгор успомніў пра ўзводнага. Успомніў, як той расказваў, што ён у цяжкія хвіліны жыцця звяртаўся да Бога. Пераканаўча сцвярджаў: Вышні памагаў яму. Даводзіў яшчэ Зміцер і галоўнае – паверыць трэба ў тое, што просіш. Толькі пасля гэтага можа адбыцца цуд, нават не цуд, а здзяйсненне жаданняў. І маці таксама казала. І не раз... Ды не слухаў. Не было перад ім ніякіх складанасцяў у жыцці. Але тую малітву, што колькі разоў чытала матуля ўголас, каб ён чуў, запомніў, і цяпер, у гэтыя хвіліны, успомнілася яму яскрава і светла.

“Божа, памажы мне, – зашаптаў міжволі Рыгор, гледзячы ў неба, туды, дзе сядзеў на сваім пасадзе Ойча, – памажы, і я паверу ў Цябе, маліцца буду штодня, біць паклоны Табе, Ойча!.. Ганьбу якую наклікаў на сябе, на сваю дурную галаву і на бацькоў. То ж у войску будуць лічыць мяне дэзерцірам... Мне – ганьба, маці і сястрычцы, калі яна жывая, – гора... Ойча наш, існы ў нябёсах! Няхай свяціцца імя Тваё...”

Нечакана Рыгору на плячо сеў белы голуб. Ён завуркатаў нешта невыразнае, але, калі прыслухаўся, то пачуў чалавечы голас: “Ты звярнуўся да Бога, і Ён паможа табе. Але ты потым не павінен здрадзіць свайму слову, бо потым кара Божая не міне цябе...”

– Не здраджу, – прамовіў ён уголас. – Бо паверыў Яму, Вышняму, цалкам паверыў... Узводны навучыў, маці навучыла...

– Выжыве твой узводны. Доўга жыць будзе.

– А... я?

Голуб залапатаў крыламі, пырхнуў над галавой і знік у блакітным мроіве.

– Што, заснуў? – стукнуў локцем у спіну паліцай, той, які скруціў яму рукі ў сенцах роднай хаты. – Ану, хутчэй!

Вось і лясок. Нехта выкапаў раней, не цяпер, яму – жвір паспеў ад дажджу і часу асунуцца, зжарэць.

– Стаць усім каля ямы! – скамандаваў Віталь, зняўшы з пляча стрэльбу. – Ты – першы, – паказаў на Рыгора і адвёў убок, паставіў апошнім справа, прашаптаў: “Стой. Не падвяду... Будзеш жывы”.

Паліцаі адышлі, закурылі, пра нешта загаварылі. Прыгавораныя да смяротнай кары маўчалі. Яны ледзьве стаялі, хісталіся, трывалі з апошніх сілаў. Збітыя да смерці, і таму адзінае жаданне было, каб хутчэй скончыліся іхнія пакуты. Адзін з паліцаяў злітаваўся, падышоў і даў прыкураную цыгарэціну таму, хто прасіў перад гэтым. Дзяцюк зацягнуўся, заплюшчыў вочы, потым падставіў твар ветру і пачаў глядзець у засмужанае ранішняй волкасцю неба. Паліцаі моўчкі выстраіліся ў адзін рад. Віталь стаў супроць Рыгора.

На плячо зноў сеў белы голуб.

Адзін за адным пачуліся стрэлы...

“Рыгорава” куля са свістам апякла вуха – пранізала яго. Каробка паваліўся разам з усімі, роспачна пытаючыся: “Няўжо, Божа, спраўдзілася? Ці ты памог, ці стралок храновы з Віталя – а мо што іншае?..”

– Мо яшчэ па адной кулі? – падышлі да ямы паліцаі.

– Навошта псаваць на мерцвякоў? – не згадзіўся з імі Віталь. – І так мала выдаюць...

“Божа, няўжо пранесла?!”

Калі стала ціха, Рыгор расплюшчыў вочы. Ля галавы ляжаў з распластанымі крыламі забіты голуб – з разяўленай дзюбы выцякала кроў.

Ляжаў да вечара. Як і было загадана.

Пад вечар, калі сонца закацілася за лес, калі пад дрэвамі пачалі нараджацца прыцемкі, Рыгор падпоўз да кожнага і патармасіў – мо хто застаўся жывы... Усе целы скамянелі, зрабіліся халоднымі...

Ён выкапаў рукамі невялікую ямку і пахаваў голуба. Наклаў на сябе крыж, прачытаў малітву. Рыгору падалося чамусьці, што гэта ён, голуб, а мо і не голуб, а анёл-збаўца прыняў на сябе яго смерць.

Хлопец пахаваў бы і людзей, каб была рыдлёўка...

.......................................................................................................

…Толькі пад другую раніцу прыбег ён у сваю часць.

– А мы палічылі цябе ўжо дэзерцірам, – пажартаваў узводны, шчыра радуючыся вяртанню байца. – Расказвай, як пабачыўся з роднымі...

– На тым свеце, Зміцер, пабыў. Расстрэльвалі мяне.

– Расстрэльвалі?! Хто?

– Свае ж расстрэльвалі. Аднакласнік, які падаўся да паліцаяў. Ты мне памог, Змітрок, і – мама. Верай у добрае памог, верай у Бога памог... Вылузаўся з лапаў смерці. Цяпер мы з табою да старасці дажывём. Толькі ты павінен навучыць мяне маліцца і запішаш малітвы. Я кожны дзень буду ўзносіць падзяку і хвалу Госпаду.

На байца камандзір узвода паглядзеў з вялікім здзіўленнем і радасцю. Бо перад ім быў ужо зусім іншы Рыгор – нейкі асветлены ўнутраным святлом, мудры і ўпэўнены ў сабе.

– А вінтоўка дзе, радавы Каробка? – папытаўся ўжо строгім камандзірскім голасам.

Рыгор уздыхнуў:

– Няма вінтоўкі, таварыш лейтэнант. Паліцаі адабралі. Згодзен на любую кару...

Лейтэнант ускочыў, нахмурыўся:

– Ты што, не разумееш, чым гэта пагражае?! Можна ж і пад трыбунал загрымець! Тут жа ніякага апраўдання, хлопча, няма – ніхто не паверыць, што паліцаям зброя дасталася. А калі павераць, то…

Рыгор маўчаў, апусціўшы галаву.

Узводны задумаўся, на пераносіцы збегліся баразёнкі-зморшчынкі:

– Ну й дзяла... Але будзем думаць, як выбавіць цябе з бяды... І яшчэ – самае галоўнае. Каб нікому і ніколі ты не расказваў тое, што мне расказаў. Бо гэта будзе для цябе яшчэ горш, чым расстрэл.

Каробка здзіўлена і з разуменнем паглядзеў на камандзіра, прашаптаў:

– Дзякую, таварыш лейтэнант...

...– Ты ж, бацька, ніколі і не расказваў мне пра тое.

– А што тут расказваць? То ўсё маё, і пры мне яно, са мной усё жыццё.

– Цэлячыся ў цябе, ён цэліўся, значыць, і ў мяне.

– Мусіць жа, так...

– А ўзводны – жывы?

-– Не ведаю, сын. У сорак сёмым “чорны воран” з дому яго забраў, і – ніякіх вестак. Налі, сын, яшчэ па кроплі. Сам можаш не піць, калі на працу... Паскудства ўсё гэта.

– Ад таго дня ты і пачаў верыць у Бога?

– З таго, сын. Лейтэнант шмат чаму навучыў. То пасля вайны пайшоў у царкву, паспавядаўся. Расказаў святару пра тое, што са мной здарылася. Ён даў мне Евангелле, параіў прачытаць, а калі што будзе незразумела, паабяцаў растлумачыць. Хаця ім забаранялі тое рабіць. Ён навучыў мяне як быць сапраўдным хрысціянінам. У царкву хаджу. Веру ў Бога. Ты хоць шануеш, Коля, Бога?

Сын няўцямна паціснуў плячыма –  і не адмова, і не згода.

Бацька толькі ўздыхнуў...

– А як жа з белым голубам, бацька? Выдумаў?

– Не, сын, так было і напраўду. Я хадзіў туды, як вярнуўся з вайны. Не адразу, пазней, праз шмат гадоў. З маці тваёй хадзіў. На тым месцы, дзе я пахаваў голуба, вырасла бярозка. Маці сказала, што то быў белы анёл, мой выратавальнік... Так і Волечка потым казала.

Сын курыў, няўцямна глядзеў у шэрае акно, думаў пра сваё.

Раздумваў над тым, пра што расказаў бацька. Ведаў: бацька ніколі ў жыцці не хлусіў...

У калідоры гучна зазваніў тэлефон.

“Няўжо – Віталь? Але адкуль яму быць – ні адраса, ні тэлефона ж не ведае... Але ж ведае прозвішча – мог і пацікавіцца ў даведцы. Але ці мала Карабкоў у Мінску?..”

Сын няспешна пайшоў у калідор, і, на чацвёртым ці пятым поклічы, падняў тэлефонную слухаўку...

# Нарысы

## Бурштынавы подых Прыпяці

Мой Мазыр...

Юнацтва маё, станаўленне... Першыя прыступкі да будучых вяршынь жыцця, да асэнсавання свайго прызначэння на гэтай зямлі. Першыя ўражанні, першыя расчараванні, першыя радасці...

Горад майго кахання, спадзяванняў, узнёсласці...

Прыпяць, без якой нельга ўявіць Мазыр, яго гісторыю, яго будучыню. Яна, Прыпяць, працякала не толькі праз паляшуцкую зямлю, яна працякала і праз маё сэрца. Бо яна лячыла ў цяжкія хвіліны (а іх было з коптурам у мяне), і таму я некалі пра яе занатаваў такія радкі:

*Калі тужліва стане на сэрцы,*
*Калі ў горадзе зробіцца цесна,*
*Калі няўсцерп закарціць адзіноты, –*
*То я да цябе прыйду, Прыпяць...*

Кожны раз, прыязджаючы ў родны горад, калі толькі аўтобус вынырваў з лесу – ад Калінкавічаў, і перад намі раскрывалася панарама мазырскага ўзвышша з квітнеючымі садамі і высотнымі дамамі, – у мяне адразу знячэўку ёкала сэрца, – як быццам горад слаў сваё прывітанне і перадаваў сваю радасць сустрэчы са мной...

Тую ж радасць, узрушанасць і хваляванне я перадаваў і яму.

Яшчэ не ўязджаем на Прыпяцкі мост, а я ўжо адчуваю асаблівыя пачуцці і ўражанні, успаміны і эмоцыі…

Добры дзень, Мазыр! Я адчуў, як б’ецца тваё сэрца.

Ты чуеш, у сваю чаргу, як б’ецца маё...

## Гаворачы з Мележам

Успамінаю...

Прыехаў у горад наш зямляк, народны пісьменнік БССР Іван Паўлавіч Мележ. Зайшоў да першага сакратара гаркама партыі, доўга гутарылі. А перад гэтым “першы” вазіў пісьменніка па дарогах раёна, паказваў новабу-

доўлі нафтагіганта, чым заўсёды стараўся пахваліцца перад прыезджымі гасцямі. Потым Мележ завітаў да маёй "начальніцы" – сакратара па ідэалогіі Рымы Гаўрыльцавай. Праз нейкі час выходзяць у пачакальню, і на развітанне Рыма гаворыць госцю:

– Прыязджайце да нас, Іван Паўлавіч, будзем рады бачыць вас на палямшуцкай зямлі...

Івану Паўлавічу трэба ў гасцініцу – адпачыць пасля дзённай паездкі, ад уражанняў, ад размоў з людзьмі. Загадчык аддзела прапаганды Аркадзь Лянкевіч гаворыць мне:

– Табе, Анатоль, і карты ў рукі... Ты пішаш нешта, друкуешся, вось і правядзі славутага пісьменніка да гасцініцы. Мо пакажаш што сваё...

А потым, выйшаўшы ў калідор разам з госцем, паказваючы на мяне, кажа Івану Мележу:

– Іван Паўлавіч, вас правядзе наш інструктар...

Мележ уважліва паглядзеў на мяне:

– Добра... Дзякую... Дык мо і пойдзем?

Хаваючы хваляванне, пытаюся:

– Іван Паўлавіч, рэчаў пры вас ніякіх няма, каб паднесці?

– Ды не, яны ў нумары...

Пакідаем будынак, спускаемся па прыступках на тратуар, ідзем па вуліцы. Адчуваю: Мележ унураны ў сабе, пра нешта думае, як бы забываецца пра мяне і на мяне, прымружвае вочы, рукі ў кішэнях светлага плашча. На вуліцы па-вясноваму цёпла. З-за шэрых воблакаў вынырвае сонца, потым хаваецца, пасля зноў асвятляе сваімі промнямі плошчу, дамы, увесь горад...

Іван Паўлавіч адрываецца ад сваіх думак:

– У час гутаркі, там, на паверсе, адзін вы і размаўлялі са мной на роднай мове. Гэта ў вас пастаянна, ці для таго, каб патрапіць мне?

І ўсміхаецца, глядзіць пранікнёным позіркам, і я адчуваю: ён прыхільна ставіцца да мяне, голас ціхі, спакойны, і пытанне прагучэла неяк даверліва, зычліва...

– Амаль пастаянна, Іван Паўлавіч. Амаль – гэта тут, у гаркаме. А так я працаваў да гэтага ў раённай газеце "Камуніст Палесся", друкаваў нарысы, апавяданні... Друкаваў нарысы ў "Чырвонай змене".

– А вучыліся дзе?

– Ды тут, у Мазыры. Педінстытут скончыў... На настаўніка вучыўся, але перацягнула журналістыка...

Ён спыняецца. Адрываецца ад думак, глядзіць ужо на Мазыр, на драўляныя дамкі, што прытуліліся на гары справа, на дрэвы, што хавалі іх ад людскога вока, – уздыхае:

– А некалі я сюды прыехаў малым першы раз... Горад здаўся мне дзівосным і вялікім... Гэта добра, што ён набывае з кожным годам сваё аблічча, як пішуць газетчыкі – з кожным годам маладзее...

Я падумаў, што мы адразу пойдзем да гасцініцы. Але не, наш госць глядзіць у бок Прыпяці, на парк, позіркам імкнецца туды. Радуюся, што даўжэй пабуду з пісьменнікам, які стварыў Васіля і Ганну, – як сімвал беларускага народа, які імкнецца да святла і праўды... І толькі цяпер успамінаю напісанае, і ўжо голасам самога Мележа – жывога пісьменніка! – гучыць у маёй памяці:

“Не было адбою ад камароў. Пад вечер куранёўская вуліца, двары, сады, агароды аж гулі ад камарэчы, якая кіпела хмарамі, бязлітасна кідаліся на ўсё жывое. Пасядзець, пагаманіць на вуліцы куранёўцам можна было, толькі расклаўшы дымны, з мокрай лазы ці алешніку, агонь.

У такі час Курані выглядалі, як нейкі дзікі табар, як бы вярталіся на тысячы гадоў назад – там і тут чадзелі агні, і людзі туліліся да іх, кашлялі, варушыліся, адмахваліся – у цьмяным, невясёлым святле яны вельмі нагадвалі дзікуноў...”

І тады ўжо зусім па-іншаму раскрываецца сэнс і значэнне слоў аўтара, які быў побач са мною. Мы ідзем да рэчкі. Нас абодвух прыцягвае-кліча нявеста Мазыра – Прыпяць. А берага няма. Вада падступаецца да самага тратуара, нават пераліваецца праз край. І мы пераступаем залівы з шэрым шумавіннем, абгінаем, калі яны глыбейшыя...

– Не памятаю такой паводкі. Гэта ж так разлілася...

– Пачынае ўжо спадаць, – кажу, – вада і па парку ўжо “гуляла”...

А па рацэ гулліва і шпарка імчаць маторкі, паляцела ў Кіеў белая “ракета”, і мы ўжо адыходзім ад берага, каб нас не абдала прыпяцкая хваля...

– Пасядзім трохі, – прапаноўвае Іван Паўлавіч, – не хочацца адразу ісці ў памяшканне... А тут хораша, – прыволле, цішыня... А вы не спозніцеся на працу?

– Ды не, – пра тое гаворкі не было, каб я вяртаўся...

Стомлены ці хваравіты быў выгляд у Мележа, цяжка зразумець. Ён задумліва глядзеў у далячынь, позірк скіраваны туды, на неабсяжнае мора паводкі, дзе нельга ўбачыць далёкі бераг – схавалі лазнякі...

Ва ўнутранай кішэні майго пінжака ляжыць апавяданне. Усяго на тры старонкі. Як муляла ўсё роўна. Было жаданне спытаць у слыннага пісьменніка, ці змог бы ён прачытаць ды вынесці свой прысуд... Сказаць, што не паказваў нікому, вось так, падчас сустрэчы, а з тых сухіх адказаў з газет ці часопісаў, што дасылалі мне, адмаўляючы ў друку, нічога не мог зразумець...

– А ў газеце, Анатоль, доўга працавалі?

– Ды не, гады са два...

– А так, для сябе, пішаце што?

“Вось, можа, і прыйшла тая нагода, калі трэба асмеліцца і паказаць апавяданне. І атрымаў бы шчырую рэцэнзію...”

– Ды спрабую... Але то яшчэ так, подступы... Толькі пачынаю разумець, што такое літаратурная мова...

Я сам сабе рыхтаваў дарогу да адступлення. Чамусьці падсвядомая думка падказвала, што другі цяпер клопат у нашага славутага земляка, што і не настроены ён цяпер на патрэбную мне гутарку. Быў бы весялейшы голас, быў бы настроены па-іншаму, на той настаўніцкі лад, – аддаў бы абавязкова, а так буду выглядаць, як той Пілiп з канопляў...

– Гэта ўжо добра, што разумееце. А калі зразумееце, і сапраўды нешта народзіцца ў вас, – прыязджайце ў Мінск, і я з задавальненнем азнаёмлюся з тым, што вы напісалі... Добра?

– Добра, – радуюся, што не паспяшаўся, што пачуў запрашэнне да будучага дыялогу: цяпер буду ведаць, што да Мележа трэба ехаць з не абы-якім творам, а сто разоў перапісаўшы яго, асэнсаваўшы, давёўшы да ладу... – Добра, дзякую, Іван Паўлавіч. Прывязу.

Па дарожцы прайшла купка дзяўчат; яны голасна перагаворваліся між сабою, і не заўважылі, як нечаканая хваля (“ракета” даўно знікла з далягляду, а толькі цяпер ажыў бераг) пырснула на іх, заліла ўсіх, намачыла ногі халоднай вадой... Дзяўчаты ўскінулі рукі, пачалі скакаць, каб неяк выбавіцца ад вады, – але было позна...

Мы сядзелі яшчэ нейкі час. Мо гадзіну, а мо і болей, гаварылі на розныя тэмы. Я найбольш слухаў пра тое, што гаварыў ён, і кожнае слова было адкрыццём. Бо словы ад яго пачуў не тыя, што пісалі ў газетах і гаварылі па радыё ды тэлевізіі. Ён як быццам падштурхоўваў мяне да роздуму, да асэнсавання падзей і з’яваў, што адбываліся наўкола...

І па сёння ўдзячны яму за шчырасць, за тое, што ён, пранікшыся да мяне павагай, гаварыў як са сваім сябрам, як з чалавекам, для якога будуць мець у жыцці вялікае значэнне яго парады і думкі...

Я ведаў, што Іван Паўлавіч за творы з цыкла “Палескай хронікі” ў 1962 годзе атрымаў літаратурную прэмію імя Якуба Коласа. А праз дзесяць гадоў яму была прысуджана Ленінская прэмія. У тым жа годзе стаў народным пісьменнікам БССР.

– Вельмі цікавая гісторыя ў Мазыра, – задумліва працягвае госць. – Яна, гісторыя, яшчэ не даследавана, як след. Навукоўцам, даследчыкам і пісьменнікам у гэтым плане працы хопіць на стагоддзі... Шмат якіх сведчанняў

хавае зямля, шмат друкаваных крыніц захавана ў архівах па ўсім свеце. А ў Прыпяці некалі, у старадаўнія часы, знаходзілі па берагах бурштын...

Падзьмуў ад рэчкі золкі вецер, зашамацелі галіны вербалозу.

– Ну, што, Анатоль, рушым? – паглядзеў ён чамусьці на шэрае неба, у якім ужо згрувашчваліся шэра-свінцовыя воблакі, на Прыпяць, якая ўвачавідкі заблішчэла рыбінай луской – пачаў дзьмуць волкі вецер. – Заседзеліся мы з вамі...

А потым і першыя кроплі абазначыліся на светлым плашчы Мележа.

Падняліся з лаўкі, заспяшаліся ў гасцініцу. А да яе было ўжо зусім і блізка – метраў з трыста. Тады яна была адзінай і знаходзілася каля аўтобуснай станцыі, каля рынка, – каля дарогі, якая вяла на гару, – на вуліцу Якуба Коласа...

Калі падняліся па прыступках і сталі каля гасцінічных дзвярэй, дождж абрынуўся з такой сілай, што не было відаць будынкаў праз дарогу... Шэра-карычневыя ручаі пацяклі з гор, утвараючы шырокую раку, якую нельга было ні пераскочыць, ні абысці, – толькі перачакаць, калі ўсё аціхне...

Зайшлі ў сціплы пакойчык. Мележ скінуў плашч, страсянуў яго, каб павесіць на вешалку без дажджавой макрэчы, а потым нечакана спытаў:

– А як жа вы, Анатоль, па гэтым дажджы? Вазьміце хіба мой плашч, а заўтра раніцай, ідучы на працу, і занеслі б мне...

– Ды не, дзякую, Іван Паўлавіч, мне ж тут блізка – на гары жыву...

Ён трохі паразважаў, а потым згадзіўся:

– Ну, глядзіце самі... Але з плашчом было б зручней...

Развітваючыся, паглядзелі адзін аднаму ў вочы. Выгляд у яго быў па-ранейшаму стомлены, і таму адзначыў пра сябе: правільна зрабіў, што не даў яму прачытаць свае тры старонкі...

...Праз некалькі год мазырскі тэатр вазіў у Мінск паказваць “Людзі на балоце”. Захварэў акцёр, які іграў ролю Апейкі – партыйнага сакратара, і рэжысёр тэатра Міхась Колас хутка ўвёў мяне ў гэты вобраз. Я чытаў са сцэны маналог Апейкі, звернуты да куранёўцаў, а перад вачыма стаяў вобраз пісьменніка і тая нашая сустрэча...

Потым, праз шмат гадоў, адно пашкадаваў, што адмовіўся ад прапановы народнага пісьменніка – падчас дажджавой залевы апрануць плашч. Пахадзіў бы ў адзенні жывога класіка. А потым бы сам сабе і казаў бы: “А няблага гэта было б – у плашчы-засцярозе Івана Мележа!..”

Але гэта я так, жартуючы.

Тая адзіная сустрэча сам-насам застанецца ў маёй памяці на ўсё жыццё. Бо яна адбылася на мазырскай зямлі, на беразе маёй роднай Прыпяці...

# Хто ты, горад на Прыпяці?

Адкуль з'явілася такая назва – Мазыр?

Спрачаюцца і да сёння навукоўцы і даследчыкі, але ніхто з іх дакладна не даказаў сапраўднасць і праўдзівасць назвы...

Два беларускія даследчыкі В. Жукевіч і А. Рогалеў лічаць, што вытокі ці карані назвы **"Мазыр"** трэба звязваць з назвай этнаграфічнай групы заходне-славянскага (польскага) насельніцтва – **мазуры**. Мазуры з'яўляліся адной з найвялікшых этнічных груп Польшчы. Ваяры-русічы – князі – хадзілі на іх паходамі яшчэ ў XI стагоддзі. Рогалеў не выключае і яшчэ адно тлумачэнне тапоніма. У іранскіх мовах ёсць слова **"мазар, "мосар"** ці **"мазор**" – маецца на ўвазе старажытныя пахаванні, курганы, пагоркі... Калі ўлічваць той факт, што Мазыр раскінуўся на ўзвышшах сярод балотаў і багнаў Палескай раўніны, таму назва горада магла пайсці і ад слова "мосар"– гэта ўжо як бы раскрываюцца асаблівасці геаграфічнага ландшафту...

Першае ўпамінанне аб горадзе – Мазыр – адносіцца да 1155 года – у "Аповесці мінулых гадоў" – Іпацьеўскім летапісе.

Мазыр не мог сфарміравацца як цэнтр самастойнага княства. Прычыны? Феадальная раздробленасць. А былі ж моцныя добразычлівыя суседзі – на захадзе Тураў, на паўднёвым усходзе – Кіеў, на ўсходзе – Чарнігаў... А моц сваю, на вялікі жаль, з'яднаць не змаглі. Вось пагэтаму на тэрыторыі Мазырскага краю і ўзнікалі часта княжацкія міжусобіцы – не маглі падзяліць сваёй улады і тэрыторыі. Вечная праблема, якая наносіла велізарную шкоду як людству, так і дабрабыту края. Таму і гарэў часта Мазыр – пажары ноччу былі відаць далёка ад якіх паселішчаў... Скрозь і ўсюды пажары, пажары...

1170 год... Ля горада сышліся князі Рурык, Давід Расціслававіч і Міхаіл Юр'евіч. Першыя два лічыліся саюзнікамі Андрэя Багалюбскага. А ён вёў барацьбу за Ноўгарад з кіеўскім князем Мсціславам Валынскім... Міхаіл Юр'евіч падтрымліваў бок кіеўскага князя, таму яму даводзілася займаць то адзін бок, то другі, – бо залежаў ад варожых, яшчэ больш моцных княстваў.

1174 год... Летапіс Нарбута паведамляе: на Мазыршчыне з'яўляюцца літоўскія князі са сваімі дружынамі. Мазыр захоплівае князь Скірмунд. *"После поражения хана Балаклая Койданова Скирмунд занимает Мозырь, Чернигов, Стародуб, Карачев".*

Літоўскія феадалы мелі намер падпарадкаваць сабе землі па сярэднім цячэнні Прыпяці, але ў іх у 20-ыя гады XIII стагоддзя з'яўляецца нечакана жорсткі сапернік – татара-манголы. Чынгісхан накіроўвае вялікія орды на

заваяванне бліжэйшых народаў, імкнучыся пашырыць сваю дзяржаву, скіраваць на новыя землі “капыт мангольскага каня”.

1223 год... Бітва на Калцы.

Татара-манголы ўшчэнт разбілі палавецкіх ханаў і рускіх князёў, а потым пакіравалі на Захад, туды, дзе багатыя землі, але аслабленыя ўзаемнай варожасцю феадалы... Першыя конныя атрады татара-манголаў з’явіліся пад Мазыром праз чатыры гады пасля бітвы на Калцы – і адразу ўступілі ў бой з дружынай літоўцаў і мазыранаў: перамаглі іх. Быў спалены горад, ваколіцы. Пасля гэтага пра заваёўнікаў не было чуваць болей, чым дзесяць гадоў...

Унук Чынгісхана Батый у 1241 годзе пасля захопу Кіева накіраваў шматтысячную арду на захад – у Венгерскую даліну, адначасова даўшы адпачыць воінам, забяспечыць корм коням. Адзін з атрадаў пад камандваннем Койдана і Каюна – пляменніка Батыя – у студзені падышоў да Мазыра.

Зноў пажары, забойствы, рабаванні... Не хутка горад стаў на ногі... Насельніцтва, напалохаўшыся жорсткасцю заваёўнікаў, паўцякала ў палескія лясы, у балоты.

XIV стагоддзе, саракавыя гады... Мазыр і навакольныя паселішчы канчаткова ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага... Развіццё культуры старажытнай Русі, у склад якой у XI–XIII стагоддзях уваходзіў Мазыр,здзяйснялася на аснове традыцый папярэдняга перыяду.

На пачатку XV стагоддзя тэрыторыя ВКЛ пашырылася ад Жмудзі (Жэмайціі – заходняй часткі сучаснай Літвы) і Падляшша на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Калі ж правіў вялікі князь Вітаўт, то межы пашырыліся і яшчэ больш – паміж вусцем Дняпра і Днястра, ваяры Княства на сваіх конях выйшлі да берагоў Чорнага мора...

Мазыр у складзе ВКЛ працягваў ужо развівацца як гандлёва-рамеснае пасяленне, статус якога ўжо быў – “гаспадарскі горад”. А гэта азначала, што Мазыр з’яўляўся маёмасцю дзяржавы. У пісьмовых крыніцах XIII стагоддзя ўпершыню ўпамінаюцца назвы вёсак – Скрыгалава, пазней – Міхалкі, Барбароў, Мялешкавічы, а яшчэ пазней – Прудок...

Зноў новая паваротка ў жыцці мазыранаў. У 1413 годзе на Гарадзенскім сойме ў Літве былі створаны ваяводствы – па польскім узоры. Мазыр і ваколіцы былі аднесены да Мінскага ваяводства, якое ў сваю чаргу падзялялася на тры паветы – Мінскі, Рэчыцкі і  Мазырскі. Але, на жаль, літоўскі князь не мог абараніць горад і навакольныя вёскі ад частых набегаў крымскіх і нагайскіх татараў. А яны былі ў 1497, 1521 і пазней – у 1534 гадах.

Акрамя нашэсцяў ворага, здараліся і іншыя няшчасці ў мазыранаў – голад. Крыніцы сведчаць, што з таго часу, як пачаў правіць Жыгімонт, усё

часцей і часцей перакопскія татары пачалі трывожыць Мазыр. Горад стаў адзін з першых ахвяраў заваёўнікаў.

Меў рацыю Іван Мележ, калі казаў, што багатая, вельмі багатая гісторыя ў горада. Шмат чаго не даследавана. Сёння шмат гістарычных крыніц, дзе можна пазнаёміцца з тымі падзеямі, якія адбываліся ў Мазыры, у навакольных вёсках. Я толькі прыадчыніў дзверы таго часу, за парогам якіх віравала жыццё, узбагачаліся народныя традыцыі; пачынаўся вызвольны рух; успыхвалі паўстанні і яны нараджалі сваіх герояў...

...Што для мяне Мазыр?

Адказаць проста і цяжка. Бо нарадзіўся падчас вайны – у 1943 годзе – пад Ельскам. Але бацька, Мікола Сямёнавіч, маці – Ганна Іванаўна, альбо, як яе ў Крушніках называлі, Яня, – зрабілі так, каб я на год “пастарэў”, – і ў пасведчанні аб нараджэнні стаяў ужо 1942 год... Зразумела, бацька хацеў паказаць, што мяне “пачалі шукаць” яшчэ да вайны... І запісалі, што я нарадзіўся не пад Ельскам, у вёсачцы, а ў Крушніках. Яшчэ расказвала маці, што бацька падчас вайны вучыў дзяцей, што ў клас да бацькі заходзіў Ян Налепка... Праз нейкі час бацька падаўся да партызанаў, а пазней уліўся ў рэгулярныя войскі... Пасля вайны бацьку чамусьці перакідвалі настаўнічаць з адной вёскі ў другую, і мы, як тыя цыганы, праз год-тры пераязджалі зноў у іншую мясцовасць. А мне даводзілася вучыцца то ў беларускай школе, то ў расейскай, то зноў наадварот...

А пераезд з Бабруйска ў Крушнікі быў апошні. Бацькі разышліся, а я з малодшым братам Міколам жылі з маці ў бабулі – бабы Анастасіі, па-вясковаму – Настазі. Тры гады за сем кіламетраў хадзіў у Асавецкую школу. Але найбольш ездзіў на веласіпедзе – за хвілінаў дваццаць дапінаў да школы.

Крушнікі раней належалі да Петрыкаўскага раёна. А потым былі далучаны да Мазырскага. Адразу паля школы працаваў настаўнікам пачатковых класаў – у Турбінцы. Загадчык петрыкаўскага райана, глянуўшы мой атэстат, загадам прызначыў мяне, нават без дыплома, настаўнікам. Потым паступаў на завочнае ў педінстытут – і не паступіў. Здаў зноў экзамены і пачаў вучыцца стацыянарна. На 8-га сакавіка наступнага года нечакана забралі ў войска... Калі вярнуўся, то мае ўжо былі на апошнім курсе... Перавёўся на завочнае, бо не было магчымасці вучыцца – дапамогі ад маці не было.

І вось тут пачынаецца маё жыццё, так бы мовіць, у поўным аб’ёме. Надрукаваў нарыс у газеце “Чырвоная змена” пад загалоўкам “Хлопцы з нашага пакоя”. А яго прачытаў рэдактар газеты “Камуніст Палесся” Іван Анкудовіч. Запрасіў у газету. На пасаду... карэктара. Але працаваў літсупрацоўнікам.

Тады ж і пазнаёміўся з карэспандэнтам рэспубліканскага радыё Міколам Рэентам і таленавітым паэтам і цікавым хлопцам Валодзем Отчыкам, які працаваў у газеце. Прайшоў я пешшу, здаецца, увесь Мазырскі раён... І сёння, калі пачую назвы вёсак ці мясцін, да сэрца падступае салодкі успамін пра мае вандроўкі – Кімбараўка, Скрыгалаў, Мялешкавічы, Зялёны Мох (адкуль бацька родам), Раманаўка, Бярозаўка, дзе нарадзіўся пазней таленавіты празаік Андрэй Федарэнка, адкуль браты Мікола і Віктар Дубровы – таленавітыя мастакі, Балажэвічы, дзе пачынала працаваць настаўніцай Святлана Алексіевіч, Міхалкі, дзе настаўнічаў у свой час Уладзімір Верамейчык, скончыўшы Мазырскае педвучылішча, дзе настаўнічаў Усевалад Краўчанка, Перадрэйка, Буда Казіміраўская, якую спалілі дашчэнту фашысты, Слабада...

Дарэчы, пра Слабаду. З войска я прыйшоў ужо спрактыкаваным журналістам. Служыў у ГСВГ: у Нямеччыне. Дасылаў свае допісы ў розныя газеты. Пісаў пра беларусаў і ўкраінцаў, расейцаў і малдаванаў. У армейскай газеце “Савецкая армія” у конкурсе на лепшы нарыс займаў трэцяе і другое месца. А ў райгазеце, што ні напішу, “таленавітыя” старэйшыя раёншчыкі Вайнбранд, Гаравы, Кулыба, Гутэрман скарачалі матэрыялы да непазнавальнасці альбо перараблялі на свой капыл.

І вось аднойчы з той жа Слабады я напісаў артыкул на тэмы маралі “Здрада клятве Гіпакрата”. Пра галоўрача слабадской бальніцы, які не вылучаўся маральнымі якасцямі, грубіян, не даў пасеяць сотку проса вартаўніку...

Напісаў і аддаў рэдактару Івану Анкудовічу. А другі паасобнік (як і параіў мне зрабіць Валодзя Отчык) адаслаў у “Чырвонку”. У раённай выйшаў праз дзён шэсць, на трэць скарочаны-перакурочаны, а рэспубліканская газета праз тры дні пасля іх дала “падвал” – ніводнай коскі, як кажуць, не было выкінута, ніводнага сказа не папраўлена.

Я і паказаў свой вялізны матэрыял сваім праўшчыкам. Сямён Гутэрман скрывіўся, не здаючыся, прамовіў толькі:

– Ну, то ж рэспубліканская, а мы – раённая...

Але пасля таго рэдка калі хто з іх умешваўся ў мой тэкст.

Дарэчы, тую “школу” з “таленавітымі праўшчыкамі” прайшоў і Мікола Рэент, які напачатку працаваў у той жа газеце. Толькі ён копіі сваіх артыкулаў адпраўляў у “Сельскую газету”. І яго там друкавалі без правак. І былі прысаромлены мясцовыя карыфеі і зубры ад журналістыкі. Каб жа сапраўды правілі, вучылі, як пісаць, дык не, толькі падножкі ставілі, стараючыся прынізіць, даказаць няздарнасць пачаткоўцаў... Але то я так, між іншым.

Аднойчы забалеў зуб. Ды так, што і цярпець нельга больш. Пайшоў у стаматпаліклініку (яна была тады на беразе Прыпяці, каля маста) да свайго

знаёмага зубнога доктара Анатоля Філісьева. Ён зняў гіпсавы адбітак, сказаў-параіў:

– Калі хочаш, каб раней зрабілі каронку, то ідзі і папрасі вунь тую дзяўчыну – Насцю Алесяюк.

Я і падышоў нясмела да яе, сеў побач на вольнае крэсла, зірнуў у вочы, і нешта працяла мяне ўсяго, як не здранцвеў перад ёю.

Яна зірнула на мяне, усміхнулася, – і я зразумеў, што гэта... проста мая будучая жонка...

Забыўся, чаго і падсеў да яе, гаварыў пра нешта іншае.

Дык што азначае для мяне Мазыр?

Калі сказаць, што горад увайшоў у маё сэрца назаўсёды, на ўсё жыццё, – дык гэта мала што гаворыць. Ды тое, мусіць, і не выкажаш словамі.

Проста магу сказаць – мой Мазыр. Як усё роўна – мой бацька, мая маці...

Як і для Уладзіміра Верамейчыка, які быў таксама ўлюбёны ў Мазыр і Прыпяць, як і я, у сэрцы і ў душы назаўсёды... Валодзя нават і зборнік вершаў назваў "Клянуся Прыпяццю".

## Вуліцай Міколы Пушкара

*"На пачатку стварыў Бог неба і зямлю...*
*І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога*
*і ўдыхнуў у твар ягоны дыханне жыцця,*
*і зрабіўся чалавек душою жывою..."*
Быццё. Раздз. 1 (1), 2 (7)

1

Жыў у Мазыры чараўнік.

Разумеў ён мову птушак і звяроў, ведаў, пра што шапоча лістота ў яго пад вокнамі, чуў паданні і паэмы, якія шапталі прыбрэжныя хвалі плыткай Прыпяці, – а яна яму была бачна з яго балкона; калі прыкладаў вуха да зямлі, то да яго даносіліся водгукі часоў Княства Літоўскага, звон дзідаў Грунвальдскай бітвы, у якой удзельнічалі ваяры Мазыра…

Усё чуў, разумеў і ведаў казачнік-бай Мікола Пушкар!

Прыходзілі да яго дзеці ў майстэрню, з цікавасцю аглядалі экспанаты – андаракі і прасы, прасніцы і калаўроты, гладышы і вышыванкі…

На яго маленькім століку, які ад дотыку рукі мог круціцца, ляжаў кавалак чырвона-шэрай гліны…

– Дзед Мікола, а што гэта такое? – паказвае пальцам хлапчук на шэрае месіва.

– Гэта я… – усміхаецца казачнік. – Не верыце?

– Не, – адмоўна круціць галавой дзетсадавец (майстэрня знаходзіцца на тэрыторыі дзіцячага садочка), – ты – во, перад намі, а гэта… мусіць, зямля – гліна…

– Э, не, – хітае адмоўна галавой дзядуля Мікола, грозна насупліваецца, рукі прыпадымае над глінай, водзіць над ёю, нешта шэпча таямнічае…

Хлапчукі пераглядваюцца, не разумеюць дзеяння чараўніка, чакаюць, што вось-вось павінен адбыцца нейкі цуд. Тады рукі Пушкара сціскаюць гліну, робяць з яе нейкі клубок-балабушку. Потым клубок ператвараецца ў незразумелую істоту – не чалавек і не звер. А праз нейкі момант хлапчукі ўбачылі, што з'явіліся ногі, рукі, галава… Пушкар яшчэ трошкі пачараваў над чалавечкам, і адзін з хлапчукоў усклікнуў:

– Дык гэта ж ты, дзед Мікола!

Усміхаецца Мікола Пушкар, глядзіць вясёлымі вачыма на іх, рады, што даў ім першы ўрок мастацтва ў сваёй майстэрні.

– А нам так можна? – асцярожна пытаецца Міхаська, не адводзячы позірку ад толькі што створанага вобраза.

– Можна, – адказвае казачнік, – але не сёння… Бо вы вунь якія чысценькія і акуратненькія, а выпэцкаецеся ў гліне, і на мяне будуць сварыцца і вашы выхавацелькі, і бацькі. Таму прыходзьце заўтра. А дома скажыце, каб далі вам з сабою ношанае адзенне. Дамовіліся?

– Дамовіліся, дзядуля Мікола! Заўтра прыйдзем!

Дзеці пакідаюць майстэрню, а Пушкар з акна праводзіць іх цёплым позіркам. У яго на душы радасна і светла. Бо любіць, калі да яго прыходзяць людзі, асабліва дзеці, цікавяцца тым, што ён робіць, як працуе… А потым незаўважна разгаворацца, і Мікола Пушкар без стомы будзе расказваць і расказваць, апавядаць пра сябе, пра свой час, як стаў мастаком…

А жыццё ў яго цікавае і разнастайнае, перанітаванае горкім і салодкім, трагічным і вясёлым… Аповедаў яго хапіла б на некалькі кніжак, і кожная з іх была б адметнай з'явай, якая б раскрывала сутнасць і непаўторнасць гэтага чалавека…

2

Адпраўляюся зноў у Мазыр, каб пабачыцца і пачуць голас мазырскага чараўніка. Кліча да сябе ён часта, як і клікаў пры жыцці. То яму параіцца трэба пра нейкія гістарычныя факты, то ніяк не можа прыдумаць трапную

назву свайму новаму твору, то проста сум узяў і хоча, каб пасядзеў побач, выслухаў яго, падзяліўся сваімі набалелымі думкамі…

Ведаю, што такой вуліцы няма (яшчэ няма!), але пытаюся ў людзей, якія спускаюцца пешшу з гары:

– Падкажыце, як прайсці на вуліцу Пушкара?

– Міколы Пушкара? – удакладняюць у мяне. – А што, ужо ёсць такая ў нашым горадзе вуліца? То, мусіць, тая, куды і вядзе да Пушкароўскага музея.

– Так, так, – згаджаюся радасна, – але, на жаль, сапраўды такой вуліцы няма яшчэ, але яна можа быць у хуткім часе...

– Добра было б, – згаджаецца мазыранін, – Пушкар – гонар нашага горада. І не толькі горада, а і ўсёй Беларусі.

Кіруюся вуліцай Якуба Коласа да мікрараёна Янкі Купалы – дзе ў дамочку, побач з дзіцячым садком і знаходзіцца музей імя Міколы Пушкара... Дакладней, ужо “Майстэрня-музей Міколы Пушкара”. Але да гэтага...

О, які то час быў! Пушкар, прайшоўшы два канцлагеры, не страціў любові да жыцця, а з яго душы так і выпіралі дабрыня і пяшчота, духоўны талент і жаданне дзяліцца з людзьмі тым, чым узнагародзіў яго Бог… А што талент у яго ад Бога, ён не адмаўляе, наадварот, кожны раз падкрэслівае гэта.

– У дзяцінстве яшчэ пачуў, – расказвае Мікола Пушкар, – ад бабулькі, калі яна чытала Святое Пісанне. “На пачатку стварыў Бог неба і зямлю… І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога і ўдыхнуў у твар ягоны дыханне жыцця, і зрабіўся чалавек душою жывою…” Гэтыя словы мяне тады вельмі ўразілі. Я не ведаў, чаму, як і не ведаў, кім буду ў жыцці. То праз шмат год, калі знаходзіўся ў канцлагеры і быў паміж жыццём і смерцю, пад рукі папаўся кавалак гліны… Я міжволі пачаў размінаць яго пальцамі, хаця ўжо не было ўва мне ніякай сілы, несвядома выштукоўваючы нешта… І мне тады пачуўся знекуль голас: *“І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога…”* Помню, што я тады стварыў не вобраз чалавека, а нейкую невядомую птушку. І ў яе былі шырока раскінутыя крылы… Тады ж я адчуў, як гулкія ўдары сэрца пагналі кроў, і яна балюча ўдарыла ў скроні. Боль адразу прайшоў, і нарадзілася жаданне жыць, узняцца птушкай у неба і паляцець да зораў, пакінуць калючы дрот і ненавісныя выкрыкі фашысцкіх катаў… Я зразумеў тады, што Гасподзь тым кавалачкам гліны не толькі выратаваў мне жыццё, а і паказаў дарогу, па якой павінен кіравацца ў ім…

Мікола, Мікола... Колькі год ужо, як яго няма сярод нас.

Гэта быў шчыры і даверлівы чалавек, таварыскі і заўсёды вясёлы...

Нарадзіўся Мікола Мікітавіч на мяжы Расіі і Украіны – паміж Белгарадам і Харкавам. А лёс закінуў яго вунь куды – на Палессе, у Мазыр.

– Бацькоў сваіх я не памятаю, – расказваў мне Мікола Мікітавіч. – Ведаў толькі, што бацька меў нейкае дачыненне да мастацтва – маляваў абразы, – як казалі ў народзе, быў багамазам...

Успамінаў Пушкар пра галодныя гады дзяцінства.

Апынуўся ў калоніі Макаранкі. Расказваў Мікола, як яму даручылі намаляваць партрэт пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага, які збіраўся прыехаць да іх у калонію. Партрэт пісьменніку спадабаўся. І ён нават папрасіў кіраўніцтва Харкаўскага мастацкага вучылішча, каб яго прынялі на вучобу, – хлапчуку не ставала каля года. Пасля вучылішча выкладаў маляванне ў школе...

Вайна... Кантузія... Канцлагер. Цудам выжыў. Пасля вайны зноў канцлагер – цяпер ужо сталінскі. За тое, што быў у палоне...

Калінінград... Першыя спробы нешта ляпіць з гліны. Прыехаў у Мазыр. Уладкаваўся мастаком на заводзе меліярацыйных машын. Днём маляваў плакаты ці пісаў аб'явы, а вечарамі мясіў гліну і вылепліваў тое, што мроілася перад гэтым...

Сустрэліся мы з ім выпадкова, а пасябравалі адразу і на ўсё жыццё...

Аднаго разу мы разам з ім пайшлі на мазырскі рынак. Ён і без мяне туды заглядваў кожную нядзельку. А тут... Запаў у душу дзядок, які прадаваў з бочачкі мёд, а побач з ім сядзела каларытная маладзіца – цётка Тэкля – родам з-пад Лельчыцаў...

– Глянь, глянь, – шаптаў незаўважна мне Пушкар, паказваючы позіркам на сівога, мо за сто гадоў, дзядка – вясёлага, гаваркога, дасціпнага... Цэлыя вершы-паэмы чытаў пра сваю гліну, з якой вырабляў макітры і гладышы. – Гэта ж – фігура! Гэта ж – каларыт!

І падсеў да яго, слухаў і слухаў глінянага майстра-гаршэчніка, не адрываючы ад яго вачэй. Гадзіну сядзеў каля яго і назіраў, другую. І тады жляснуў сабе даланёю па лбе, усклікнуў:

– Во мая тэма! Во каго ляпіць трэба! Гэта ж не трэба нічога выдумваць-прыдумваць, фантазіраваць, – бяры і капіруй жыццё... А праўдзівей за яго нічога не бывае! Праўда жыцця!

Купіў у старога глечык (спатрэбіцца дома – Ганна будзе малако ў ім трымаць!), похапкам сабраўся, пабег з таго месца, на мяне нават забыўшыся... Ён ужо нічога не чуў, нікога не бачыў... Хутчэй у майстэрню! А ў яго і гліна гатовая на стале ляжыць, мокрай анучкай прыкрытая.

Пальцы, як зачакаліся сапраўднай працы, пачалі ляпіць-расціраць шэрую гліну, – і нечакана для самога Міколы вымаляваўся партрэт таго дзядка-гаршэчніка, – ды так удала атрымалася і трапна, што на твары мастака міжволі засвяцілася шчаслівая ўсмешка: "Вось ён, мой родненькі палешучок! Вось

ён, мой галоўны вобраз, які пратопча дарогу да іншых сваіх паслядоўнікаў!.. Ну, вядзі мяне, браце, па дарозе, якую ты паказаў!”

Пушкару падалося, што паляшук нават затоена і падміргнуў яму, прыкрыў вока калматым брывом, нешта хітрае і смешнае ўтойваў у сваёй кудлатай кужэльнай барадзе, – быццам пасміхаўся, што так доўга Мікола хадзіў далёка за сваімі тэмамі і сюжэтамі, а тут за такі кароткі час здарылася неверагоднае: адбылася галоўная сустрэча Творцы і яго Героя. У ім, дзядку-палешуку, было штосьці ад палескай зямлі, ад настрою і мудрасці працавітых і нястомных людзей, ад народнага таленту і дабрыні.

Пушкар нават голас пачуў яго:

– Вітаю цябе, Майстра!..

Я непрыкметна зайшоў у яго майстэрню. Сеў каля парога, стаіўся. На табурэціку сядзеў і замілавана глядзеў на свой першы сапраўдны твор мастак.

– Во ён, мой Паляшук, – не гледзячы на мяне, прамовіў Мікола Мікітавіч. – Зразумеў, што яго жыццё мае шмат адценняў і рысаў характару. Яно, здаецца, спакойнае і бясконцае ў сваёй прастаце і мудрасці, памяркоўнасці, яно – як цячэнне старажытнай Прыпяці, журботнае і самотнае, як тужлівы крык жорава, які пакідае родны край і збіраецца ляцець у невядомую далячынь, вясёлае і дасціпнае, з хітрынкай і радасцю, якое толькі і можа быць у палешука...

Які асветлены і шчаслівы твар быў тады ў майго сябра! І тады ж ён зразумеў, што ўбачыць вобраз – гэта яшчэ мала. Неабходна вывучаць гісторыю, асабліва гісторыю роднага краю. Ён чытаў паданні і казкі, дыярыушы і ўспаміны даследчыкаў, прыглядаўся да археалагічных знаходак у музеях...

І не толькі гэта. Яго натхнялі вобразы Сымона-музыкі, Лявона і Лявоніхі, Тараса на Парнасе, Несцеркі і Бандароўны, сівога гусляра... Жылі ў марах, у мроях, стукаліся ў сэрца вобразы вясёлыя, смешныя і няўрымслівыя, – яны як усё роўна ставалі да яго ў чаргу, каб ён абавязкова іх вобраз увасобіў у гліне... Ён ужо не мог іх адпрэчыць ад сябе – і рукі і пальцы прасілі гліны... Потым ён скажа, што да яго прыйшоў гліняна-творчы серб...

І выйшлі за кароткі час з-пад яго рук – “Паляшук-лапатнік”, “Каваль”, “Дрывасек”, “Сваты”, “Паронкі” – дзясяткі і сотні іншых работ і вобразаў. Мастак услаўляў у сваіх творах чалавека працы, чалавека-дабрадзея, чалавека-мудраца. А колькі стварыў ён жанравых сцэн-апавяданняў і гумарэсак, насычаных дабрадушным гумарам, непадробленай праўдай і працай жыцця! Што толькі ні тварылі яго нястомныя і таленавітыя рукі! Цешча і зяць, сват і свацця, прымак і кот, выпівохі і гультаі, – не пералічыць усіх вобразаў і герояў, што ён стварыў. “Пасварыліся”, “Дудар”, “Стары са старою”, “Церабавец”, “Да цешчы на аладкі”, “Браткі-беларусы”...

А потым прыйшоў час, калі мастак вырашыў паказаць свае працы сябрам рады абласной арганізацыі Саюза мастакоў у Гомелі. Амаль усе створаныя ім вобразы былі адобраны і высока ацэнены. Здзіўляліся, як можна стварыць такія дасціпныя, на мяжы гумару і алегорыі, гліняныя сюжэты. І радаваліся, што з’явіўся такі таленавіты майстра ў іх шэрагах.

Так адкрыўся шлях да выставак – абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных… Яго творы здзіўлялі гледачоў Польшчы, Манрэаля, на сусветнай выстаўцы “ЭКСПА-70” у Японіі, Чэхаславакіі… Лепшыя працы адзначаны прэстыжнымі прэміямі.

Да мастака прыйшло прызнанне. А з прызнаннем ён не кінуўся ў даніну моды і часу, у павярхоўную стылізацыю, а пачаў яшчэ больш апантана працаваць над сваімі творамі, паглыбляцца ў сутнасць вобразаў, стараючыся ўносіць у іх не толькі нацыянальны каларыт, а і народнае ўспрыняцце багацця і разнастайнасці паўсядзённага жыцця з яго супярэчлівасцю і непрадказальнасцю, недахопамі і дасягненнямі, радасцю і камедыйнасцю…

3

У Міколы Пушкара праявіўся арыгінальны і своеасаблівы талент, дыяпазон вобразаў расшырыўся да бязмежнасці. Ён асвоіў і працуе ў тэракоце, рэдка калі – за выключэннем адной-дзвюх прац – у шамоце, выкарыстоўвае найбольш простыя прыёмы ганчарнай тэхнікі. І заўсёды пры гэтым імкнецца захаваць непарыўную сувязь з народным побытам, творчасцю і духоўным талентам людзей.

З гэтага, напэўна, і нараджаецца тое ўнікальнае падабенства і пачуццё вобразнасці пластычнага ладу народнага ганчарства, унікальнага, непаўторнага па сваёй пластыцы, характары і тэхніцы апрацоўкі.

Цікава заўсёды назіраць у яго працы адну акалічнасць – звычайная чырвоная гліна, якой на паляшуцкіх прасторах залежы і залежы, а, пабываўшы ў руках чараўніка-казачніка, ператварыўшыся ў нейкія нечаканыя і дзівосныя вобразы, прайшоўшы працэс абпальвання, нечакана набывае новыя рысы: ад вобразаў выпраменьваецца цяпло і душэўная шчодрасць таго, хто і стварыў гэты цуд.

З’яўляецца жаданне да той гліны дакрануцца, адчуць яе не толькі цяпло як матэрыялу для стварэння мастацкага вобраза, а і духоўную цеплыню, міжволі паверыць у тое, што перад табой жывы вобраз, у якога ёсць сэрца і душа.

Кераміст набыў свой выразны і індывідуальны почырк. Творы ў яго атрымліваюцца абагульненыя, часцей тыпізаваныя, але жыццёва праўдзівыя,

жывыя. Пластыка і дэкаратыўнасць супадаюць і ствараюць неразрыўны сплаў таленту і творчай фантазіі, пачуццё гумару і ўнутранай дасціпнай абаяльнасці.

Па аб'ёме працы невялікія, памерам з кулак, і могуць змяшчацца на далоні, – але колькі ў іх жыцця, напружанасці, дынамікі, каларыту, дзівоснай і непадробленай выразнасці. Глядзеў бы і глядзеў на вобразы палешукоў – касцоў, ганчароў, цырульнікаў, печнікоў, сейбітаў, – глядзеў бы і не адрываўся, адчуваючы праз хвіліну, як яны пачынаюць гаварыць з табой, пытацца пра нешта, расказваць пра сябе нешта смешнае і адметнае… Вы не адчувалі гэтага? А паспрабуйце паклікаць на дапамогу сваю фантазію і дзіцячае захапленне – абвязкова пачуеце голас глінянага чалавечка!

Параўноўваючы творы Міколы Пушкара розных гадоў, можна лёгка прасачыць і адзначыць характэрную асаблівасць – мастак рос ад адной працы да другой, сталеў, набываў сілу яго талент і, цяпер можна гаварыць смела, нават геніяльнасць. Геніяльнасць у стварэнні гліняных вобразаў. Бо і па сёння ніхто не можа зрабіць мацней і цікавей такія працы. Падробка ёсць, перайманне, але ўзняцца вышэй – над вобразамі, над пластыкай і глыбінным характарам, – не здолеў ніхто.

Возьмем хаця б раннія працы – "Паляўнічы", "Ветэран", "Дудар"… Аўтар апрацаваў кожную дэтальку вобраза, кожны нязначны штрышок, ледзь не фатаграфічна перадаў падабенства. А потым пазней прызнаецца мне Пушкар:

– З'явілася памылка, нават недахоп у маёй працы… Чаму? Растлумачу. Гэта як і ў тваёй працы – пісьменніка. Пішаш словы, радкі, але ж галоўнае, што паміж радкоў… Прастор для думкі, для фантазіі, для вобразаў, якія ўзнікаюць у кожнага чалавека. Так і тут трэба: не сляпое капіраванне, а ўдыханне ў кожную працу біцця сэрца, яго духоўнасць, характар, паводзіны… Вобраз сам пра сабе нічога не скажа, мы павінны сказаць пра яго, бо ўбачым, адчуем, дакранемся да яго душы…

І потым мастак, жорстка крытыкуючы сябе за трафарэтнасць ці безжыццёвасць вобразаў, ператвараецца ў творцу, у стваральніка, помнячы словы – "і ўдыхнуў у твар ягоны дыханне жыцця" – самога сябе перасяляе ў той вобраз, пакутліва і балюча перажываючы той працэс. Але і радасць апаноўвае яго, бо ўжо адчуваў сябе не пачаткоўцам, а майстрам.

Вобразы пачалі набываць выразнасць, жыццёвасць, яны пачынаюць вырывацца "з нявол" і палону запраграмаванасці і зададзенасці, у рухах з'яўляецца смеласць і гнуткасць. Нават непакорнасць. Прызнаваўся пазней Мікола, што не ён ляпіў вобразы, а самі вобразы ляпілі сябе. Ён і сам не разумеў тое, здзіўляўся, радаваўся, але "слухаўся" тых, хто ажываў пад яго рукамі.

...А аднойчы “дзед Цімох” “папрасіўся” на печ, нават папрасіў мастака, каб той падсадзіў яго”… Захацелася старому пагрэць косці. Падсадзіў. Той усеўся на чарэнь, ды яшчэ нагу за нагу закінуў, патыліцу пачасаў, нешта яшчэ хацеў сказаць, ды Пушкар ужо не чуў яго, пачаў рассаджваць астатніх людзей вакол печы. Знайшоў сабе месца дудар, побач з ім, упобачкі, усеўся барабаншчык, ля яго – балалаечнік. Але хлопцы яшчэ не іграюць, яны толькі настройваюць свае музычныя струманты, каб потым ужо, як дзяўчаты папрадуць кужаль і вышыюць ручнікі, распачнуць скокі ў хаце. Тут жа ў юнака каля ног – жорны, у другога – ступа, а маладыя закаханыя прыхінуліся адно да аднаго і, шчаслівыя, думаюць і мараць пра нешта сваё. Якая гама пачуццяў! Якія галасы ў людзей, які смех, якая гамонка! І мы чуем іх, здзіўляемся, радуемся...

Людзі размясціліся вакол печы. А мастак доўга думаў, як сумясціць печ і людзей. У гэтай кампазіцыі ўжо ясна праглядваецца заканамернасць – нічога пабочнага, што магло б перашкодзіць успрыняццю створанага. Глядач можа хадзіць бясконца вакол печы, углядацца ў кожны твар і адзначаць, што ён адкрывае і адкрывае кожны раз нанова.

І кожны раз падтэкст новы, і каларыт новы. То ў печы бліскае святло – нехта падпаліў лучыну, то дудар спрабуе сваю дуду, то маладыя пачалі цалавацца… Тут табе і вясковы побыт, і жартаўлівы дзед, які пачынае смяшыць сваімі аповедамі вячоркаўцаў, то песня палілася ад жанчыны, што сядзіць каля прасніцы… Героі весела размаўляюць між сабой. Іх аб’яднаў вольны вечаровы час і агульны бытавы інтарэс…

“Вячоркі” – адна з найцікавейшых прац Міколы Пушкара. Яна яшчэ раз даказвае і пераконвае, што мастаку падуладны самыя складаныя кампазіцыйныя вырашэнні. Здзіўляўся: як глыбока і дасканала ведае майстра беларускі побыт і звычаі, фальклор і народнае мастацтва, традыцыі і ўклад жыцця. Яму заўсёды ўдавалася адшукаць у жыцці палешука адметныя нацыянальныя асаблівасці, уласцівыя толькі беларускаму народу.

З глыбінь Палесся, з сівой даўніны цякуць тыя нябачныя рэчкі-рачулкі, якія нясуць творчую даніну мастаку, баюць яму казкі і паданні, песні, – заставалася толькі пачуць іх і перанесці на мову гліны… І не толькі пачуць, а і адчуць чалавечы характар.

Вось менавіта характар чалавека і стараўся паказаць мастак у сваіх працах. Таму і нараджалася тады выснова – тое і з’яўлялася галоўнай лініяй і крэда яго творчасці.

У Міколы Пушкара я заўсёды вылучаў сваё, асабістае бачанне жыцця, свае перажыванні, эмоцыі.

Ён пераўвасабляўся, калі знаходзіўся ў сваёй майстэрні.

Не заўсёды ён любіў і размаўляць, калі паглыбляўся ў працу...

Мастак ствараў шэдэўры, адметныя яркай своеасаблівасцю творы, вылучаўся непаўторнасцю выканання, унутранай псіхалагічнай глыбінёй. Яго працам уласцівы рысы нацыянальнага характару – мяккі гумар, разважлівасць, жарт, летуценнасць, гратэск…

Кожны твор кераміста-майстра – гэта глыбінны фальклорны пласт, неспатольная крыніца мудрасці і радасці, узнёсласці і радасці жыцця.

У сціплай паставе апусціў натруджаныя рукі сейбіт – адна выцягнута ўздоўж цела, а другая абаперлася на сявеньку. А вочы… Вочы скіраваны некуды ў неба і з такой умольнасцю і надзеяй просяць:

– Я адсеяўся, Божа, дзякуй Табе! Я аддаў раллі апошняе зярнятка і хачу сабраць восенню ўраджай, каб пракарміць сям'ю. Не падвядзі, дожджык, пралі сваю жыццядайную сілу на пасевы, а я ўжо не пашкадую сваіх сілаў для матухны-зямелькі…

Вось такія прыблізна словы я чуў і чую сёння, калі сустракаюся з "Сейбітам". І таму мы шчыра верым, што той дожджык, якога так чакае паляшук з сявенькай, абавязкова абрынецца на поле, на яго соткі.

Я б асабіста вылучыў гэтую працу як найвышэйшы апафеоз таленту мастака, яго філасофска-духоўны ўзлёт, як спадзяванне на разуменне намі яго творчасці. У гэтай працы праяўляецца найвышэйшая дасканаласць – нічога пабочнага і лішняга, што адцягвала б нашую ўвагу ад галоўнага, кожная рысачка дапаможна працуе на тое, каб мы раскрылі прапанаваны ўнутраны свет і мастака, і яго герояў…

Тыя ж натруджаныя рукі, і моцна, трывала стаіць паляшук на сваёй роднай зямельцы, якая ўскарміла яго, якой ён аддае ўсе свае сілы і мары. Чалавек жыве, калі працуе. З такімі словамі звяртаецца майстра да нас.

У клопатах простага палешука, у яго неспакойным жыцці і сумненнях, у жартах і весялосці б'ецца сэрца нашага народа, яго паэтычнасць і духоўны рост, нескаронасць, мяккасць і ўпэўненасць у сабе, годнасць і гонар.

Мастак працаваў пераважна ў жанры дробнай пластыкі, таму і творы яго носяць адбітак камернасці і мініяцюрнасці. Але гэта надае творам духоўную вагу, ідэйнасць і сілу.

...Шмат было ў дзядулі Пушкара задумак, планаў і мараў... Не паспеў ажыццявіць. Не вытрымала сэрца – напаміналі пра сябе часы, праведзеныя ў гітлераўскіх, а потым і ў сталінскіх канцлагерах...

Яшчэ як быў у бальніцы, паспеў прыехаць да яго пісьменнік Віктар Казько з Юрыем Марухіным – кінааператарам. Чамусьці не хацела працаваць кінакамера – то ламалася, то "заядала" – як не хацела здымаць апошнія хвіліны жыцця Майстра...

... На маім рабочым стале стаяць два вобразы – Яся і Яніны.

Яны не толькі напамінаюць мне пра майго сябра, але і натхняюць у пісьменніцкай працы. Яны падказваюць пра што пісаць, і як пісаць...

Жыве мастак не толькі на Палессі, жыве майстра далёка за яго межамі, бо прыгожае і неўміручае мастацтва не прызнае ніякіх абмежаванняў і тэрыторый. Яго творы разышліся па ўсім свеце.

Ёсць яны ў Польшчы і Славакіі, Канадзе і Амерыцы, Японіі і Расіі, Нямеччыне і Аўстрыі...

Доўгае творчае жыццё наканавана мазырскаму Майстру Міколу Пушкару – сыну Мікіты!..

..................................................................................

## *Пакаянне,* альбо Некалькі слоў замест некралога

Мікола, сын Мікіты, Пушкар!..

Мікола, дарагі мой дружа, аднадумца, загадкавы чалавек, перасмешнік, паслядоўнік Пітэра Брэйгеля, гумарыст і казачнік. Мастак з вялікай літары... Выбачай і даруй!..

...Дамовіліся з Віктарам Казько абавязкова прыехаць з кінагрупай да палескага кераміста Міколы Пушкара. Абгаварылі ўсе дэталькі, нечаканыя моманты, што маглі нас напаткаць на гэтай дарозе. Расставілі ўсе кропачкі не толькі над «і», а і над нашымі планамі. Усё ішло добра да апошняга дня. У адну з начэй Пушкар прысніўся. Не гаворыць нічога, а толькі смяецца, на сваю гліну паказвае...

А гліна жывая, правільней, гліняныя чалавечкі жывыя. Пайшлі ў скокі дзед з бабай, маладыя песню заспявалі, певень закукарэкаў, вады з калюжыны напіўшыся... І ўсё гэта на яго працоўным стале, дзе яшчэ ляжала сырая гліна... Я адарваўся ад таго відовішча і паглядзеў на Міколу. А ён, адвярнуўшыся, пайшоў ад мяне... Не азірнуўся нават, быццам пакрыўдзіўся за нешта на мяне ці на нас... Скаланула нешта мяне, і я прахапіўся. Але не прыдаў асаблівага значэння таму сну. І раней Пушкар сніўся, і не такое на маіх вачах адбывалася, таму адразу ж і забыўся пра той сон.

– Ну, едзем? – пытаецца па тэлефоне Віця.

– Едзем, усё гатова...

Ды – сарвалася, не прыехалі. Бо і грошай у кінастудыі не было, і стужкі не знайшлі, і бензіну адшукаць не змаглі. Ды бяды асаблівай не бачылася, не прадчувалася нічога кепскага, перанеслі на пазнейшы час...

– Прыедзем, абавязкова прыедзем, – запэўнілі мінчукі, – пра такога чалавека расказаць неабходна...

Мінулае лета таксама не паспрыяла задуманаму. У лістападзе паехаў я ў адпачынак, а Мікола – трэба такому ж здарыцца! – злёг у бальніцу...

– Інфаркт, Толечка, у яго, – горычна апавядала пра яго здароўе Ганна Міхайлаўна, – нечакана неяк... Ды не «хуткая» забрала яго, а я сама настояла, каб схадзіў у паліклініку ды праверыўся. Бачыла, што нейкі стомлены. Стомлены не фізічна, а духоўна... Я спужалася за яго. Разам паехалі ў паліклініку. Бо Мікола туды не ведаў дарогі – ніколі не звяртаўся да дактароў, сам сябе лячыў, калі што: збяжыць колькі разоў зверху ўніз па металічнай лесвіцы да Прыпяці – і хваробу як рукой здымала. На здароўе нікому і ніколі не скардзіўся....

– Ды ў мяне сэрца, як у быка, – жартаваў, – мне ж яшчэ трэба столькі зрабіць... Вунь гліны прывезлі самазвал, дык працы на сто гадоў...

Медыкі зрабілі кардыяграму і спалохаліся – забаранілі нават уставаць з канапы. А Мікола здзіўлена паглядаў на ўсіх, пэўна, думаў: “Во яшчэ не хапала, хваробу нейкую прыдумалі... Мяне майстэрня чакае, а тут ляжаць – толькі нервы папсуеш...” Адразу накіравалі мастака ў рэанімацыю.

Хлопцы з кінастудыі “Беларусьфільм” прыехалі-такі. Прыехалі, плюнуўшы ўжо на тое, што і грошай не было, і паліва. Юры Марухін перад гэтым званіў, удакладняў, планаваў заехаць да мяне ў Гомель, і пасля ўжо разам кіравацца да Пушкара – каб вёў я перад камерай дыялог. Бо ведаў пра яго амаль усё і пра ўсё. І пра лагеры, і пра вайну, і пра дзяцінства... У выдавецтве “Беларусь” выдаў кніжачку пад назвай “Мікола Пушкар”, умеў разгаварыць мастака, калі ён быў не ў гуморы. Ды зноў затрымаліся, ненадоўга, на два тыдні.

А мне камандзіроўка выпала, ад якой нельга было адмовіцца, запланавана была мая справаздача аб працы. Нешта строга да мяне падыходзіла начальства Гомельскага выканкама, калі быў далучаны да выпуску кнігі “Памяць”. Я – у сталіцу рэспублікі, а сябры – у сталіцу Палесся...

Дзяжурная дакторка здымаць на стужку дазволіла, але сказала:

– Позна ж вы прыехалі, хлопцы... Асцярожна з ім, асцярожна...

А Пушкар вясёлы, як заўсёды жартаваў, пасміхаўся са сваёй нечаканай незразумелай хваробы, – гаварыў, расказваў, нават распытваў пра сталічнае жыццё... А камера працавала і дзесяць хвілін, і пятнаццаць, і сорак – з перапынкамі, вядома ж... А Юры Марухін марыў перад гэтым, што Пушкар пройдзецца перад камерай па сваёй знакамітай металічнай лесвіцы здароўя – ад Прыпяці на гару мікрараёна Якуба Коласа – па якой штодня збягаў і падымаўся па некалькі разоў, адольваючы больш як дзвесце прыступак... І пры гэтым яшчэ пасмейваўся з маладых, якія, задыхаўшыся, падымаліся ўгару:

– Абленаваліся вы, да цывілізацыі прывыклі. Рух – гэта жыццё! Прыходзьце раніцай, разам будзем спускацца-падымацца...

– Добра, Мікола Мікітавіч, прыйдзем, – адказвалі вядомаму мастаку, –ранічкай прыйдзем...

Я так расказваў Марухіну пра фізкультуру Міколы, пра тое, што людзі празвалі тую лесвіцу "пушкароўскай"... Думалася і пра тое, каб папрасіць Пушкара прайсціся хоць бы сярод восеньскага жаўталісця і паляшуцкай цішыні, альбо зазняць яго за працай – выпэцканага ў гліне, у палоне творчага натхнення...

Ды куды там – хаця б пратрымаўся ў крэсле, хаця б не перанапружыўся! Голас слабы, рухі павольныя... Плакала душа ў Віці Казько, які вёў замест мяне размову з мастаком. Пісьменнік за кароткі час паспеў захапіцца ім, пераканацца, што гэта незвычайная асоба, высокай душы Чалавек. Дакрануўшыся да хворага сэрца Творцы, сам адчуў незвычайны боль у левым баку. І доўга маўчаў у гасцінічным нумары, нахмурыўшыся, перабіраючы ў памяці кожнае слова, сказанае і ім, і мастаком... Варылі сабе бульбу, смажылі яечню – выехалі без грошай, на сваю рызыку, бо не маглі ўжо больш адкладваць прыезд. Як што штурхала іх у спіну, як хто прымушаў, нябачны, кінуць усё і здзейсніць задуманае...

...Мікола Пушкар нарадзіўся ў Барысаўцы паміж Белгарадам і Харкавам 8 траўня 1919 года. Але гэтая дата прыблізная, бо адкуль было ведаць былому беспрытульніку, выхаванцу калоніі Макаранкі, бязбацькавічу, дакладны год і дзень свайго нараджэння? Як напісалі ў метрыках, так з тым і згадзіўся.

У кароткай энцыклапедыі Беларускай ССР за 1982 год у пятым томе пра яго паведамляецца:

*"Бел. сов. художник-керамист. Чл. КПСС с 1963 г. Окончил Харьковское художеств. уч-ще (1937). Участник Отечеств. войны. Живёт и работает в Мозыре. Работы в области мелкой терракотовой пластики. Осн. тема произведений – фольк. мотивы и этногр. сценки, отличающиеся юмором, психологич. остротой характеристики персонажей, хорошим знанием нар. обычаев..."*

Калі ў Міністэрстве культуры віншавалі яго з нагоды прысваення звання заслужанага дзеяча мастацтваў, то выказалі яму шчырую падзяку за... стварэнне смешных чалавечкаў. І ўсё! Нібы адзначылі і аднесліся да аматарапачаткоўца. Смешна і горка. Дзіўна, што чыноўнікі ад культуры не ўбачылі ў ім адмысловага майстра, таленавітага мастака, творчую асобу.

Ён страшэнна не любіў сустракацца з чыноўнікамі. Яшчэ больш з журналістамі. Асабліва калі прыязджалі з газеты – няхай раённай ці сталічнай.

Два словы ім скажаш, бо не было ў яго часу на тыя размовы, а яны выдавалі цэлыя нарысы пра самабытнага кераміста на Палессі, які ўдала вылепвае з гліны смешных чалавечкаў... Прыязджаў аднойчы да яго надакучлівы і пісучы журналіст з абласной газеты. Прыстаў з адным пытаннем – каб прызнаўся, ці стойкім камуністам быў, раз аднавіўся ў камуністычнай партыі. Яго ж выключылі, калі ў ім убачылі ворага народа і кінулі за калючы дрот... Ну, і Мікола, каб адчапіцца хутчэй, і выдаў яму:

– Быў я, браце, такім адданым і заядлым камуністам, што нават калі адправілі ў ГУЛАГ, то партыйны білет з профілем Ільіча ў боце хаваў...

– У якім? – удакладніў газетчык, каб усё "праўдзіва" напісаць у сваім нарысе.

– Што – "ў якім"?

– Ну, у якім боце хавалі білет – у левым ці ў правым?..

– А, у правым, так, так, у правым... Бо дзела нашае правае – мы пераможам...

Сказаў – і не ўсміхнуўся нават, уздыхнуў толькі, быццам успамінаў той жахлівы час.

– Цяжка вам дасталося.

– І не кажы, але мяне саграваў партыйны білет. Памог выжыць...

А газетчык і рады: намаляваў вобраз стойкага барацьбіта за камуністычныя ідэалы, хоць ніводнага разу за ўсё творчае жыццё так і не стварыў вобраз таго камуніста...

Колькі з ім было гаворана-перагаворана!

Скардзіўся ён і абураўся, як цяжка было ствараць музей. Колькі парогаў абабіў – партыйных і выканкамаўскіх, колькі гутарак меў – з чыноўнікамі малога рангу і вялікага. Пушкар адчуваў сябе футбольным мячом, якога кожны адбіваў нагой, пасылаў да другіх "варот"-дзвярэй... І кожны паціскае плячыма, недаўменна перапытвае:

– А навошта вам усё гэтае трэба? Жывіце спакойна, стварайце сваіх гумарных чалавечкаў, хаця з многімі вобразамі, што вы лепіце, мы не згодны... Пафас працы трэба паказваць, ідэалы камунізму, перадавікоў вытворчасці, а вы... Вы насміхаецеся над савецкім народам, карыкатуры з людзей робіце... А яшчэ камуністам называецеся...

Прыходзіў па дапамогу, а яму вымову прачыталі, яшчэ і прысарамацілі, пальцам наківалі...

– Футбалісты, што з іх возьмеш, – смяяўся мастак, – трэба такога футбаліста і мне вылепіць... Ды яшчэ з галоўным трэнерам.

Напэўна, другі здаўся б, але не Мікола Пушкар. Чым болей ўзнікала перад ім перашкод, тым болей настырнасці нараджалася ў ім. Колькі разоў

потым партыйныя сакратары ўпікалі, што не паказваў беспрасветнае і бескультурнае жыццё беларусаў да рэвалюцыі – лапці трэба дэманстраваць ды лучыну, каўтуны, якія насіў амаль кожны беларус... А ён адшукваў прыгожыя строі, узоры народнага мастацтва, намагаўся давесці, што беларус меў найвышэйшы ўзровень разумення як бытавога мастацтва, так і выяўленчага. Гаварылі ў вочы, што ён нейкіх прыдуркаў лепіць, дэбілаў, – не такія, маўляў, людзі Савецкай Беларусі...

А ён, як заўсёды, аджартоўваўся:

– То ж я сябе ляплю, а не людзей... То я такі прыдуркаваты...

Ну хіба ж з імі можна было гаварыць сур'ёзна?

Грэўся я цеплынёй яго душы, калі жыў у Мазыры – нашыя "хрушчоўкі" стаялі побач на вуліцы Якуба Коласа. Часта назіраў, як ён працаваў у сваёй майстэрні. Не заўсёды ён любіў размаўляць, калі паглыбляўся ў творчы працэс… Ведаючы тое, я маўчаў, не адрываючы позірку ад яго рук, ад таго, як бясформенны кавалак гліны ператвараецца ў "нешта", якое праз некалькі хвілінаў кране душу…

Чакаў, калі мастак загаворыць сам, калі яму будзе ў тым патрэба. Ведаў, што ён уздыхне, адыдзе крокаў колькі, зірне на зробленае, скажа:

– Ну, вось, выбіўся на дарогу… А далей ужо будзе лягчэй.

Адукацыю Мікола меў невысокую, а давучвацца не было калі. І таму прасіў мяне прыносіць кнігі па гісторыі і культуры Беларусі, па фальклоры, народных звычаях і песнях, па казках і паданнях… І я здзіўляўся яго самаадданасці – вобразы тады ў гліне ўдасканальваліся, набывалі глыбокі філасофскі сэнс, духоўную глыбіню і хараство.

Калі я пераехаў у Гомель, духоўная і сяброўская сувязь наша не парывалася, нават наадварот, мацнела і ўзбагачала абодвух. Прыязджаючы па мастакоўскіх справах у абласны саюз, Мікола не мінаў маёй хаты, – нашыя гутаркі тады зацягваліся аж да раніцы.

Для большай шчырасці налівалі ў келіхі віна, смакавалі працяжнымі глыткамі, быццам дэгуставалі тое віно, а між намі гарэла нябачнае цяпельца… І было нам так хораша, так утульна, што брала шкадаванне, калі раніца стукалася ў акно.

Чалавек складзены так, што пра кепскае стараецца не думаць. Быў жа пад рукой дыктафон, які я набыў у камісійным магазіне, па тым часе не пашкадаваўшы аж трыста рублёў, былі і касеты на ўсялякі выпадак… Чаму было не паставіць яго дзе-небудзь збоку, неўпрыкмет, пакласці мікрафон каля бутэлькі з чырвоным вінам, ды і запісаць кожную гутарку, кожны дыспут ці вясёлае застолле? Ат, думалася, будзе яшчэ час, некалі ў лес з'ездзім на цэлы дзень, ды каля касцярка пад дымок столькі прыгод і здарэнняў ус-

помнім, што ні ў адну кніжку не ўбярэш. І адкладваў, пераносіў і пераносіў інтэрв'ю, верыў шчыра, што Мікола стрымае сваё слова і абяцанне – дажыць да ста дваццаці гадоў. Так ён мне гаварыў сур'ёзна і пераканаўча. Быццам маці яго-нябожчыца так яму ў сне сказала, а бацька пацвердзіў, паказаўшы абраз, які ён маляваў…

Але хаця я не ўзяў ніводнага інтэрв'ю ў майстра, кожная гутарка засталася ў памяці, кожнае слоўка запісалася на мазгавы дыктафон, – з працяжнікамі і коскамі, са шматкроп'ем і клічнікамі. І калі рыхтаваў раман "Княжабор", алегарычна-фантастычную аповесць "Азірніся ў каханні", у будучым думаў напісаць раман "Спакушэнне" (выдадзены ўжо), – назваў свайго героя сапраўдным прозвішчам – Міколам Пушкаром, спісваючы рысы характару і жыццёвыя прыгоды з яго.

… Выпісаўся Мікола з бальніцы.

Дома радаваўся жыццю, хатняй утульнасці, якую стварала Ганна, а рука міжволі цягнулася да алоўка – рабіў і рабіў накіды, абрысы новых вобразаў, сюжэтаў, падзей…

Трагічная вестка адшукала мяне позна, калі са сталіцы перад Новым годам не выбрацца, не прабіцца ні ў адну касу. Не здагадаўся ўзяць квіток загадзя, яшчэ ў Гомелі, на зваротны шлях – не ведаў, за колькі дзён павырашаю свае клопаты. Вось і не паспеў на пахаванне. Адно хіба ўсцешвала: разам з Ганнай Міхайлаўнай і мазыранамі Міколу ў апошні шлях праводзіла і мая жонка – Насця.

Прыкра ад другога: не знайшлі для яго гарадскія ўлады месцейка непадалёк ад горада, а выдзелілі далёка за Мазыром – пад Драздамі, куды і дабрацца не заўсёды зможа Ганна Міхайлаўна па сённяшнім часе. Як выкінулі ўсё роўна з гарадской рысы, як "аддзячылі" за тое, што надакучваў пры жыцці, абіваючы іх парогі. Ні з вобласці, ні з Мінска на пахаванні не было нікога. І слоў тых, што ён заслужыў, не было сказана. А калі і сказалі, дык тыя, якія ён не хацеў чуць пры жыцці…

Няўжо мы аказаліся акурат такімі ж, якімі ён і выставіў нас усяму беламу свету напаказ – з нейкім вывіхам, бяздушнымі і аморфнымі, глухімі да чужога болю і гора, без Бога і веры ў душы? .. Некалі, як пройдзе час, яго творчасць, яго самабытнае мастацтва прыцягне ўвагу даследчыкаў, яны будуць дакопвацца да сакрэтаў і тайнаў прастаты – і ў той жа час геніяльнасці – яго вобразаў. Тады мы спахопімся, тады адчуем страту, але не сёння. І тады яна будзе ў тысячу разоў цяжэйшая, чымся цяпер.

Асірацеў музей Міколы Пушкара. Нават шыльда на сцяне – яшчэ пад грыфам Міністэрства культуры БССР і яшчэ ў дадатак на расейскай мове.

Пушкар даўно прасіў, каб зрабілі людскую, каб прыезджыя бачылі, што ідуць наведаць менавіта наш, беларускі музей, ды не дапрасіўся… Адфутболілі і з гэтай просьбай.

Памятаю, што Мікола хацеў вылепіць-стварыць-нарадзіць невялічкую скульптуру “Падкова Палешука”. Сюжэт просценькі: босы і галодны паляшук трымае на кійку за спінай знойдзеную падкову.

І – радуецца бязмежна, смяецца так, што, здаецца, чуваць яго па ўсім зямным шары. Ніякае гора яго не возьме цяпер, калі ён з падковай. Бо, як вядома, знойдзеная падкова заўсёды прыносіла шчасце. Ён шчыра верыў у тое.

Як і верыў, дарэчы, сам Мікола Пушкар.

Не паспеў стварыць, як не паспеў стварыць і сотні іншых вобразаў – нас з вамі.

Кажуць, калі чалавек памірае раніцай, то яму яшчэ належала пражыць шмат гадоў. Мікола памёр ранічкай, сказаўшы перад гэтым сваёй жонцы:

– Ганна, людзі пайшлі на працу, а нам з табою ўжо нікуды не трэба спяшацца…

Яму пражыць бы яшчэ хаця б з гадочкаў пяць – Божа, колькі ён стварыў бы за гэты час! Божачка! Як бы пабагацела нашае нацыянальнае мастацтва!

Побач з маім рабочым сталом на паліцы стаяць гліняныя Ясь і Яніна. Паглядаюць адно на аднаго. На плячы ў хлопца-зуха – востра адкляпаная каса, у руках дзяўчыны – васілёк. Раней, колькі месяцаў назад, у іх вачах я бачыў радасць і ўзнёсласць, настрой кахання і неўміручасці.

Сёння ў вачах – боль і страта, скруха і маўчанне.

Ные, баліць, заходзіцца ад шчымлівага болю і непапраўнай страты сэрца – у ім вялікае месца займаў казачнік-бай, сябар і дарадчык, перасмешнік, Брэйгель у гліне мой настаўнік Мікола Мікітавіч Пушкар…

*Зіма… 1994 год…*

P. S. Сёння на базе майстэрні Міколы Пушкара створаны “Музей-майстэрня М.М. Пушкара”.

Яго вучні і паслядоўнікі доўжаць яго справу, здзіўляюць гледачоў сваім майстэрствам і талентам.

І тое радуе.

Зерне творчасці майстра ўкінуў ва ўрадлівую глебу.

Змест

Другі том выдання складаюць аповесці, апавяданні і нарыс пра родны горад Мазыр.

Перапляценне розных жанраў – прытчы і казкі, фантасмагорыя і фантазія... Усё пераплецена і ўзаемазвязана, і ўсе творы пранізаны дабрынёй і шчырасцю, клопатам і занепакоенасцю будучым лёсам роднага краю; характары герояў выпісаны праўдзіва і дасканала, яны кранаюць, пакідаюць добрае ўражанне, прымушаюць задумацца над тым, куды мы ідзем, да чаго імкнемся...

Аповесці “Вужык”, “Муха”, “Ахутавана”, прытча “IX”, казка “Начное падарожжа” – выклікаюць у душы чытача замілаванне і здзіўленне, радасць і трывогу за будучыню, адначасова нараджаючы ў душы гонар і радасць за родны край, родныя мясціны, за тое, што было ў нас гераічнае мінулае, якім мы можам ганарыцца, раўняцца на тых слынных людзей, якія жылі да нас, якія пракладвалі нам шлях у заўтрашні дзень.

Кнігу з цікавасцю прачытаюць людзі розных узростаў, але найбольш аўтар хацеў бы, каб яе прачытала моладзь, бо асноўны лейтматыў кнігі – каханне і любоў, дабрыня і шчырасць юначых памкненняў...

..........................................................................................

Рэдактар Л. Дранько-Майсюк

Карэктар Ю. Аляксандрава

.........................................................................

